## Вячаслаў НАСЕВІЧ

# Беларусы:

## станаўленне этнасу і нацыянальная ідэя



# Вячаслаў НАСЕВІЧ

# Беларусы:

## станаўленне этнасу
## і
## «нацыянальная ідэя»



Вячаслаў НАСЕВІЧ

# Беларусы:

## станаўленне этнасу і «нацыянальная ідэя»




Смаленск
Інбелкульт
2015

УДК: 94(476)"…/19"+94(=161.3)
ББК 63.3 (4Беи)
Н31

**Насевіч, В. Л.**

Н31 Беларусы: станаўленне этнасу і нацыянальная ідэя / Вячаслаў Насевіч. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 526 с.

ISBN 978-5-00076-028-4

У гэтай кнізе пад адной вокладкай сабраныя асноўныя працы вядомага беларускага навукоўца, прысвечаныя разнастайным кірункам ягоных навуковых зацікаўленняў: праблема ўтварэння і тэрытарыяльнага фармавання Вялікага Княства Літоўскага, гістарычная геаграфія і картаграфія, генеалогія, гістарычная дэмаграфія і інш.

**УДК: 94(476)"…/19"+94(=161.3)**
**ББК 63.3 (4Беи)**

У афармленні першай старонкі вокладкі была выкарыстана выява паштоўкі «Гербы беларускіх ваяводстваў», выдадзенай за часоў БНР.

**ISBN 978-5-00076-028-4**

# Змест

**Раздзел III. Вялікае Княства Літоўскае: утварэнне і развіццё**



**Раздзел IV. Гістарычная дэмаграфія, мікрагісторыя**

# Да чытача

Тэксты, сабраныя пад гэтай вокладкай, пісаліся на працягу двух дзесяцігоддзяў для розных выданняў і розных чытачоў. Натуральна, што ў іх шмат паўтораў. Была ў мяне думка павыдаляць іх, але хай застаецца так, як пісалася некалі. Старыя артыкулы — гэта і дакументы свайго часу. І калі я раз за разам паўтараў нейкую думку — значыць, мне гэта падавалася асабліва важным, хацелася данесці да як мага шырэйшай аўдыторыі.

Парадак твораў у зборніку не храналагічны, а тэматычны. Адкрывае яго параўнальна нядаўні метадалагічны артыкул «Да пытання пра аб'ектыўнасць гістарычнага даследавання», у якім адлюстраваны вынік маіх разважанняў пра сэнс працы гісторыка. З ім вельмі шчыльна пераклікаецца заключная, адасобленая трыма «зорачкамі» частка артыкула «Праблемы ўтварэння ВКЛ: агляд беларускай гістарыяграфіі», у якой тая ж выснова падаецца на прыкладзе канкрэтнай гістарыяграфічнай праблемы. Чаму пытанне дасягальнасці «аб'ектыўнай ісціны» падаецца мне настолькі важным, каб пачынаць менавіта з яго? Паспрабую растлумачыць.

Час ад часу я сустракаю на гістарычных форумах і ў блогах ацэнкі сваёй працы як гісторыка. Сярод станоўчых даволі часта паўтараюцца азначэнні маёй аб'ектыўнасці, незаангажаванасці, вольнасці ад розных «закідонаў». А калі мяне лаюць, то часцей за ўсё — якраз за адваротнае: за прадузятасць, ідэалагізацыю, нават цемрашальства. Быў, помніцца, такі пост на адным форуме: «Насевіч — гісторык-лукашыст». Гэтую заклапочанасць тым ці іншым бокам ангажаванасці я растлумачыў для сябе так: людзі шукаюць у гістарычных творах зусім не «чыстую ісціну» — яны шукаюць пацвярджэння слушнасці сваіх ужо сфармаваных перакананняў. Калі знаходзяць — то і аўтар адразу становіцца аўтарытэтным, вартым увагі. Калі ж замест чаканай падтрымкі сустракаюць абвяржэнне — крыўдзяцца зусім як дзеці, у якіх адабралі ляльку. Прытым аўтара, які не спраўдзіў іхніх чаканняў, лаюць якраз за тое, што ён замест ісціны служыць ідэалогіі.

Спярша я было таксама пакрыўдзіўся: чаму ім можна, а мне нельга? Але хутка зразумеў, што і мне заўжды было можна. Хіба я шукаю станоўчых ацэнак не дзеля таго, каб лішні раз пераканацца, што мае погляды слушныя? Вось, маўляў, і людзі хваляць — значыць, маю рацыю. А калі хаюць? Не можа ж гэта значыць, што мая пазіцыя сапраўды памылковая! Адразу робіцца відавочным, што хаюць тыя, хто апантаны нейкай ідэяй (то значыць «ідэалагічна заангажаваны»), а калі ідэя іх адрозная ад маёй — то, само сабой, няслушная.

Выснова з гэтага атрымлівалася такая, што маю аб'ектыўнасць хваляць тыя, хто апантаны аднымі са мной «закідонамі». І нічым мы не лепшыя і не горшыя за іншых — проста «закідоны» ў нас свае, а ў іх свае. Такі вось постмадэрнісцкі дыскурс...

Але ж сцвярджэнне, што ніхто з нас не лепшы і не горшы, пярэчыць самой сутнасці чалавека! Імкненне змагацца за сваё месца ў іерархіі запісана ў нашых генах. Мы ўвесь час прагнем даказаць, што пераўзыходзім іншых хоць у нечым: таўшчыні біцэпсаў, лічбе на банкаўскім рахунку, колькасці алімпійскіх медалёў, галасоў на апошніх выбарах, спасылак на нашы публікацыі... Калі чалавек замест палітычнай альбо спартыўнай кар'еры бярэцца пісаць гістарычныя працы, што можа служыць для яго стымулам, крытэрыем поспеху? Альбо прызнанне чытачоў, альбо ўласнае пачуццё: я бліжэй за ўсіх прасунуўся да ісціны.

Прызнанне — рэч даволі хісткая. Аўтарытэт і навуковая вага пэўнага даследчыка залежаць не столькі ад яго ўласных намаганняў, колькі ад пашыранасці ў яго аўдыторыі тых ідэй, якія ён нібыта прапагандуе, а фактычна — пацвярджае тым, хто і так згодны. Калі ўдала патрапіў — будзеш папулярным, калі не — нікога асабліва не пераканаеш, на свой бок не перацягнеш. Гэта ўжо рулетка нейкая, а не сумленнае спаборніцтва! І паўплываць на вынік можна, толькі калі своечасова ўспомніць, што найбольшым попытам заўжды карыстаецца «папса», а не высокае мастацтва...

Вось і застаецца — ісці да Ісціны. Але адна рэч — ісціна пазітывісцкая, якой можна ў прынцыпе «авалодаць». Такая, як марксісцка-ленінскае вучэнне, напрыклад (прынамсі, так мяне вучылі ў юнацтве), альбо як вучэнне Святой Царквы (не важна, якой канфесіі). Некаторыя да сёння захавалі адчуванне, што такую ісціну ведаюць. Шчаслівыя! Пазнаць іх лёгка: іншадумцаў яны гатовы забіваць — калі не фізічна, то маральна. Але калі ведаць і памятаць усё, пра што напісана ў прыгаданым мной першым артыкуле, ісціна ператвараецца ў нешта накшталт ці то ката Шродынгера, схаванага ў недасяжнай скрыні, ці то Чэшырскага ката, які на вачах тае ў паветры. Як мерыцца поспехамі ў набліжэнні да такой ісціны?

Шлях тут адзіны: фармуляваць здагадкі, якія паддаюцца праверцы, і нават падказваць, як іх можна было б праверыць. Паспрабуйце, абвергніце! Але не праз прышпільванне абвінавачанняў у заангажаванасці (мы ўжо дамовіліся, што ўсе так ці інакш ангажаваныя), а праз прад'яўленне фактаў, якія з гэтай здагадкай несумяшчальныя. І пакуль такія факты не прад'яўлены, Ісціна працягвае ўсміхацца ўсмешкай Чэшырскага ката.

Галоўным крытэрыем, якім я карыстаўся пры адборы твораў у гэты зборнік, была ўпэўненасць, што большасць выказаных у іх здагадак нікім пакуль што не абвергнута. Праўда, ёсць сярод іх і такія, якія не паддаюцца праверцы. Іх ужо варта адносіць не да навукі, а да літаратуры. Што зробіш, сам я не адразу прыйшоў да сфармуляванага тут прынцыпу і не заўжды яго строга прытрымліваўся. Але спадзяюся, што асноўны стрыжань кнігі вызначаюць здагадкі навуковыя, верыфіцыруемыя. Гэта мой выклік іншым даследчыкам: авалодайце тымі ж метадамі, тымі ж крыніцамі на маім узроўні, а лепш і яшчэ глыбей, і паспрабуйце давесці памылковасць маіх высноў. Не паказаць, што дапушчальна іншае меркаванне (гэтага недастаткова!), а давесці, што маё — недапушчальнае.

Тыя высновы, што вытрымаюць такую праверку, увойдуць у залаты фонд навукі разам з высновамі іншых аўтараў, якія не ўдалося абвергнуць мне і маім калегам. Так і толькі так робіцца сапраўдная навука, і толькі пры наяўнасці такога механізма яна мае права на гэтае званне. У механіцы альбо медыцыне ўсё крыху прасцей: можна пабудаваць машыну ці даць пацыенту лекі на падставе прапанаванай методыкі, і машына альбо запрацуе, альбо не (з пацыентам таксама ўсё хутка будзе зразумела). Праверка гістарычных канцэпцый больш складаная і звычайна не такая відавочная. Таму гісторыя да сёння застаецца помессю навукі і літаратуры. Але я ў свой час, выбіраючы жыццёвы шлях, спыніўся не на літаратуры (хаця і меў да яе такія-сякія здольнасці) і ў гісторыю прыйшоў, каб займацца ёй як навукай.

Што з гэтага атрымалася — дэманструе гэты зборнік, выданне якога ласкава прапанавала мне рэдакцыя «ARCHE». Апрача метадалагічнага ўступу, ён падзяляецца на чатыры часткі, якія адпавядаюць некаторым кірункам маіх навуковых інтарэсаў.

Першая прысвечана найбольш старажытнаму перыяду чалавечай гісторыі, дакладней — агульным заканамернасцям папуляцыйна-дэмаграфічных працэсаў, якія адбываліся ў той час і вызначылі сучаснае размеркаванне людзей па лінгвістычных, расавых, генетычных супольнасцях. Тое, што ў гэтым раздзеле няшмат публікацый,

не азначае, што адпаведная тэма цікавіць мяне менш за іншыя. Хутчэй наадварот. Менавіта дзеля яе я прыйшоў у навуку, ёй была прысвечана мая кандыдацкая дысертацыя, абароненая ў 1991 годзе (артыкул «У пошуках Адама і Евы» змяшчае папулярны пераказ яе высноў), і з таго часу я працягваю адсочваць навуковыя дасягненні ў гэтым кірунку. Дзякуючы гэтаму я, здаецца, ледзь не першым з гісторыкаў зразумеў рэвалюцыйнае значэнне метаду вызначэння папуляцыйнай структуры на падставе маркёраў Y-храмасомы. З'явіўся новы, незалежны ад іншых метад праверкі гістарычных здагадак, і тыя з іх, што гэты метад адназначна абвяргаюць, прыходзіцца «спісваць у архіў», як бы балюча гэта не было для пэўных навуковых плыняў. Так, ужо страціла актуальнасць вельмі пашыраная ў савецкі час канцэпцыя эвалюцыйнай пераемнасці паміж неандэртальцамі і краманьёнцамі. На вачах рушыцца панаваўшая ў апошнія дзесяцігоддзі мода тлумачыць змену археалагічных культур як запазычанне вонкавых рыс, якія мясцовае насельніцтва проста пераймае. Для беларускай аўдыторыі найбольшую актуальнасць мае абвяржэнне пашыранай «балцкай» канцэпцыі, паводле якой беларусы ўяўляюць сабой нашчадкаў старажытнага мясцовага насельніцтва, якое ў нейкі момант перайшло на прынесеную звонку славянскую мову. Высвятляецца, што ўсё было крыху складаней.

Мае ўласныя напрацоўкі, прысвечаныя этнагенезу беларусаў, згрупаваны ў другой частцы зборніка. Такім чынам, ад агульначалавечых праблем мы пераходзім да станаўлення таго этнасу, да якога я сам сябе адношу. Першай тут размешчана храналагічна самая позняя публікацыя, у якой змешчаны выніковыя на сённяшні момант высновы, у тым ліку і з выкарыстаннем генетычных маркёраў. Наступныя публікацыі дазваляюць прасачыць шлях, якім я ішоў да гэтых высноў. Шмат з іх з'явілася ў 90-я гады, калі гэтае пытанне актыўна дыскутавалася. І тое, што я палічыў магчымым паўтарыць у 2012 годзе, застаецца неабвергнутым. Завяршае гэтую частку адзіны тэкст, які дагэтуль не быў надрукаваны. Ён уяўляе сабой мой адказ на пытанні, разасланыя ў 2010 годзе рэдакцыяй расійскага часопіса «Studia Slavica et Balcanica Petropolitana» для запланаванай завочнай дыскусіі «Вытокі беларускай ідэнтычнасці». Прайшло, аднак, ужо амаль два гады, а гэтая дыскусія ў азначаным часопісе так і не адбылася. Таму я вырашыў апублікаваць свой унёсак самастойна. Ён не з'яўляецца вынікам адмысловай даследчай працы, але адлюстроўвае мае ўяўленні аб тым, як адбываўся пераход беларускай этнічнасці са схаванай формы ў яўную — форму нацыянальнай свядомасці ў яе сучасным разуменні. Гэта мой унёсак у разгляд той «асобнай тэмы», згадкай пра якую я завяршыў свой нарыс «Асноўныя вехі этнагенезу беларусаў».

Трэцяя частка зборніка пераводзіць чытача ад пытанняў утварэння беларусаў як этнасу да ўтварэння той дзяржавы, якая зрабіла магчымым яго фармаванне — Вялікага Княства Літоўскага. Асноўная частка тэкстаў таксама была створана ў 1990-я гады, але абрамляюць яе два найноўшыя артыкулы. Першы з іх змяшчае агляд беларускай гістарыяграфіі на азначаную тэму (дарэчы, электронная версія гэтага артыкула з'яўляецца адным з «хітоў» на маім сайце), другі ўяўляе сабой спробу прасачыць, як высновы гісторыкаў адбіваюцца ў свядомасці іх чытачоў.

Апошняя частка прысвечана больш вузкапрафесійным пытанням і дае ўяўленне найперш пра інструментарый і метады, якімі карыстаецца гісторык у сваёй працы. Частка сабраных там артыкулаў уяўляе сабой вытрымкі з маёй манаграфіі «Традыцыйная беларуская вёска ў еўрапейскай перспектыве», якая была надрукавана на рускай мове. Гэтыя артыкулы дазволяць чытачу пазнаёміцца з часткай выказаных там думак па-беларуску. Аб'ект даследавання тут яшчэ больш звужаны: ад гісторыі майго народа я пераходжу да гісторыі той папуляцыі, з якой паходзяць мае непасрэдныя продкі. Высновы, аднак, я імкнуўся рабіць такія, каб яны мелі цікавасць

для ўсіх. Метадалогія такога падыходу выкладзена ў артыкуле «Мікрагісторыя: мінулае ў чалавечым вымярэнні».

Пры ўсёй сваёй разнастайнасці зборнік мае ўсё ж пэўныя тэматычныя абмежаванні. Таму я палічыў немэтазгодным уключаць у яго тэксты пра метадалогію камп'ютарнага мадэлявання і вузкапрыкладныя артыкулы пра пытанні электроннага дакументазвароту і захаванне інфармацыі ў электроннай форме. Іх можна знайсці на маім сайце vln.by, куды я і запрашаю ўсіх зацікаўленых.

Мінск,
чэрвень 2012 г.

# Да пытання пра аб’ектыўнасць гістарычнага даследавання

У сучаснай навуцы можна лічыць зжытым наіўна-пазітывісцкі падыход, пры якім даследнік меркаваў, што захоўвае аб’ектыўную, безуважную пазіцыю адносна прадмета свайго даследавання. Такі падыход грунтаваўся на перакананасці ў тым, што чалавечая свядомасць з’яўляецца нечым вонкавым у адносінах да фізічнага свету, успрымаючы яго як праекцыю на нейкім «экране». Даследнік у такім выпадку мог прэтэндаваць на ролю бесстаронняга суддзі, які стрымана супастаўляе факты і выносіць «ісцінны» вердыкт. У ідэале лічылася, што вердыкт гэты будзе аднолькавым для любога навукоўца, які строга прытрымліваецца «аб’ектыўнай» пазіцыі, незалежна ад ягоных уласных поглядаў і перакананняў. Менавіта таму ў навуковых тэкстах, напісаных адным чалавекам, было прынята выкарыстоўваць займеннік множнага ліку: «мы мяркуем», «на нашую думку». Аўтар як бы выступаў ад імя ўсёй навуковай супольнасці, што прытрымлівалася аднолькавых пазіцый.

Метадалагічны пераварот у навуцы, здзейснены цягам большай часткі XX ст., паказаў, што такі ідэал не проста цяжкадасяжны — ён недасяжны **ў прынцыпе**. Першы ўдар быў нанесены навукай, якая даследуе самыя глыбінныя асновы светабудовы — квантавай механікай. Яшчэ ў 1920-я гг. стала вымалёўвацца адчуванне, што на гэтым базавым узроўні свет уладкаваны зусім не так, як падавалася раней: у ім не існуе выразнай дыхатаміі паміж матэрыяй і свядомасцю, паміж аб’ектам і ўспрымаючым суб’ектам. Паводзіны элементарных часцінак можна апісаць толькі з дапамогай матэматычнага апарату, які ўключае панятак верагоднасці. Іншымі словамі, кожны аб’ект на гэтым узроўні як бы «размазаны» ў прасторы і часе, хаця і не адвольна: можна ўказаць верагоднасць узаемадзеяння з ім у любым пункце гэтага размытага воблака, і для розных пунктаў яна можа моцна розніцца.

Галоўная складанасць для разумення такой карціны светабудовы, часткова непераадоленая і да сёння, палягае ў тым, што назіраемае ўзаемадзеянне мяняе сітуацыю кардынальным чынам. Калі чыясьці свядомасць фіксуе знаходжанне часцінкі ў адным пункце, верагоднасць знайсці яе ў якім іншым імгненна ператвараецца ў нуль. Такімі ж пэўнымі становяцца параметры ўсіх іншых часцінак, так ці іначай абумоўленыя станам дадзенай.

Гэты прынцып добра ілюструецца мысленным эксперыментам, які ў свой час вельмі ўразіў А. Эйнштэйна. У пэўных сітуацыях можа нараджацца пара электронаў, якія разлятаюцца ў розных напрамках. Пры гэтым іх спін (параметр, які можна груба інтэрпрэтаваць як кручэнне вакол уласнай «восі», накшталт кручэння кулі ў палёце) узаемна абумоўлены. Немагчыма без узаемадзеяння з гэтымі электронамі ўказаць, які з іх будзе закручаны, умоўна кажучы, па гадзіннікавай стрэлцы, а які — супраць. Навукова карэктным будзе толькі сцвярджэнне, што абодва напрамкі для кожнага з іх роўнаверагодныя. Але, праўзаемадзейнічаючы з адным электронам і вызначыўшы ягоны спін, мы тым самым дакладна даведваемся і пра спін другога, як бы далёка за гэты час ён ні ўляцеў (хаця б і на іншы край Сусвету).

Гэтая ўласцівасць матэрыі адчувальная толькі на ўзроўні элементарных часцінак. Але квантавая няпэўнасць можа выяўляцца і на макраўзроўні, што прадэманстраваў яшчэ адзін мысленны эксперымент, вядомы пад назвай «кот Шродынгера» (па імені фізіка, які яго прапанаваў). Можна сканструяваць прыладу, у якой паказанні датчыка, што фіксуюць адзінкавую падзею на квантавым узроўні (скажам, радыеактыўны распад адзінага атама), будуць запускаць механізм, што адкрывае капсулу з атрутным газам. Можна схаваць такую прыладу ў скрыню і пасадзіць туды ж ката (ці, у адпаведнасці з прынцыпам паліткарэктнасці, котку). Калі пратрымаць іх там цягам часу, роўнага перыяду паўраспаду радыеактыўнага атама, то верагоднасці таго, што жывёла яшчэ жывая альбо загінула, будуць роўныя. Не існуе магчымасці без адкры-

вання скрыні сцвярджаць штосьці пэўнае. Паддоследную жывёлінку трэба «строга навукова» лічыць напалову жывой і напалову мёртвай, хаця кожнаму зразумела, што, адкрыўшы скрыню, мы знойдзем яго/яе толькі ў адным з гэтых станаў.

Гэтая немагчымасць дакладнага прадказання не звязаная з абмежаванасцю нашых **сённяшніх** магчымасцей. Калі ўяўленні сучасных фізікаў верныя (а яны неаднойчы атрымлівалі пацвярджэнне на практыцы), то яна адлюстроўвае фундаментальную асаблівасць матэрыяльнага свету: мыслячая істота **ні пры якіх абставінах** не здольная да дакладнага прадказання стану квантавага аб’екта без узаемадзеяння з ім. А значыць, і ў макрасвеце навуковае прадказанне магчымае толькі да тых межаў, дзе пачынаюць уплываць квантавыя эфекты.

Магчыма, менавіта яны вызначаюць вынік *моцна нераўнаважных* сітуацый, у якіх аб’ект становіцца адчувальным да самых малых вонкавых уздзеянняў. Матэматычная тэорыя хаосу (нелінейная дынаміка) апісвае гэта як **спантаннае парушэнне сіметрыі**, альбо скачкападобны пераход элемента ў адзін з мноства дапушчальных станаў. У тэрміналогіі І. Прыгожына гэтая ж з’ява называецца **біфуркацыяй** (што на латыні значыць «раздваенне», «разгалінаванне»).

З пункту гледжання матэматыка, сэнс біфуркацыі ў тым, што сістэма дыферэнцыяльных ураўненняў, што апісвае працэс, пры нізкіх значэннях нейкага ключавога параметра дапускае толькі адзінае рашэнне (дэтэрмінісцкая, альбо лінейная, стадыя працэсу), але пры ўзрастанні таго ж параметра колькасць рашэнняў павялічваецца. Рашаючы сістэму ўраўненняў для зыходнай пераменнай $x$, можна атрымаць вельмі разбежныя значэнні $y$, нават калі $x$ мяняецца на нязначна малую велічыню (такія працэсы называюцца ***нелінейнымі***). Пры гэтым розніца паміж двума значэннямі $x$, якія прыводзяць да істотна розных вынікаў, можа быць меншай за тую пахібнасць, з якой у прынцыпе можна вымераць гэтыя значэнні ў рэальнай сістэме. Менавіта ў гэтым палягае фундаментальнае абмежаванне на дакладнасць прадказання надвор’я, што было прадэманстравана на пачатку 1960-х гг. Э. Лоранцам — адным з заснавальнікаў нелінейнай дынамікі[1].

У такіх самых катэгорыях можна інтэрпрэтаваць і некаторыя сацыяльныя з’явы, напрыклад — выбар індывіда, які вызначае сваю прыналежнасць да той альбо іншай культуры, альбо ягонае рашэнне падтрымаць пэўную праграму дзеянняў. Перанясенне выключна фізічнага прынцыпу на чалавечыя паводзіны можа падацца рэдукцыянізмам. Але спантаннае парушэнне сіметрыі — універсальны прынцып, уласцівы ўсім узроўням светабудовы. У свеце элементарных часцінак ён прысутнічае ўвесьчасна, на ўзроўні макрааб’ектаў праяўляецца толькі ў асобных выпадках, калі дзеянне на цела вонкавых сіл ураўнаважваецца. З’яўленне на сцэне чалавечага розуму і свабоднай волі зноў узмацняе гэты фактар, і цяпер ужо асобнымі трэба лічыць выпадкі, калі ён траціць сваё значэнне.

Выкарыстоўваючы вельмі грубую аналогію, можна ўявіць сабе чалавека, які ўскараскаўся на карніз вышыннага будынка з намерам кінуцца ўніз. Пакуль ягоныя ногі не адарваліся ад карніза, ён можа ў любы момант перадумаць. Але калі скачок зроблены, уласцівая гэтаму чалавеку свабода волі губляе ўсялякае значэнне (калі, канечне, выключыць магчымасць левітацыі), а ў сіле застаецца толькі закон прыцягнення. Далейшую траекторыю ягонага палёту мы можам разлічваць з той жа дакладнасцю, як і траекторыю любога неадушаўлёнага прадмета, кінутага з гэтага карніза. І гэта не з’яўляецца рэдукцыянізмам.

У эвалюцыі сацыяльных сістэм перыядычна ўзнікаюць нераўнаважныя сітуацыі, якія У.І. Ленін называў рэвалюцыйнымі, а старажытнакітайскія мудрацы — «эпохамі змен». І. Валерстайн выкарыстоўваў у адносінах да гістарычнай рэальнасці два грэцкія словы — ***хронас*** («правільны» час у звыклай прасторы, калі плынь падзей устойлівая і прадказальная) і ***кайрос*** (прастора-час крызісаў і трансфармацый): *«Кайрос — это пространство-время человеческого выбора. Это редкий момент возможности свободной воли. Это пространство-время, где, на языке Пригожина, «каскадные бифуркации» уверяют в «переходе к хаосу», и из хаоса появляется новый, но нелегко*

[1] Гл. пра гэта: Глейк Дж. Хаос: Создание новой науки. СПб.: Амфора, 2001.

*предсказуемый порядок, … пространство-время, в котором мы все употребляем нашу свободную волю во благо или во зло. И когда это приходит, мы выбираем наш новый порядок»*[2]. Але калі выбар зроблены, у сілу ўступаюць законы вялікіх лічбаў і іншыя фактары, што дазваляюць выкарыстоўваць метадалогію натуральных навук. Ігнараваць яе магчымасці на стадыі хронасу так жа неразважліва, як і абапірацца на матэматычны прагноз у сітуацыі кайросу.

Другое абмежаванне навуковай аб'ектыўнасці вынікае са знакамітай тэарэмы, даведзенай у 1931 г. аўстрыйскім матэматыкам Куртам Гёдэлем. Яна кажа, што **ў любой** лагічнай сістэме, якая абапіраецца на нейкі набор аксіём, можна сфармуляваць сцвярджэнне, якое немагчыма будзе ні давесці, ні адпрэчыць, зыходзячы з гэтых аксіём. Можна, канечне, увесці для гэтага выпадку дадатковую аксіёму, але пры гэтым мы атрымліваем новую замкнёную сістэму, для якой гэтае ж палажэнне праўдзівае[3].

Некалькі дзесяцігоддзяў высновы, што вынікаюць з прынцыпаў квантавай механікі і тэарэмы Гёдэля, былі набыткам толькі вузкіх навуковых эліт, тады як у масавай свядомасці працягвала панаваць перакананасць пра ўсёмагутнасць навукі, у магчымасці дасягнення (хаця б у ідэале) адзіных для ўсіх, канчатковых і дакладных ведаў. Змены пачалі адбывацца ў сярэдзіне XX ст., што нярэдка інтэрпрэтуецца культуразнаўцамі як пачатак пераходу ад пазітывізму альбо, шырэй, ад эпохі мадэрну да постмадэрну.

Яшчэ на пачатку гэтага працэсу філосаф К.Р. Попер сфармуляваў тэзіс пра тое, што ўсялякая навуковая веда мае гіпатэтычны характар, непазбежна ўтрымлівае памылкі. Адзінае, чаго можна дамагчыся навукова — гэта выяўляць і адкідаць відавочна памылковыя меркаванні. Попер прапанаваў для гэтага падыход, што стаў вядомы як «прынцып абвяржальнасці (***фальсіфікуемасці***)». Аб'ектам навуковага разгляду могуць быць толькі тыя сцвярджэнні, якія можна ў прынцыпе абвергнуць, выявіўшы іх неадпаведнасць новым фактам альбо разыходжанне прадказанняў, што вынікаюць з іх, з эксперыментамі. Адкідаючы тыя меркаванні і гіпотэзы, якія не вытрымліваюць такой праверкі, мы абмяжоўваем кола тэорый, якія **пакуль яшчэ** не абвержаныя і на якія мы можам з пэўнай доляй асцярогі абапірацца. Што тычыцца сцвярджэнняў, якія немагчыма ні давесці, ні абвергнуць, яны мусяць заставацца па-за межамі навукі.

У кантэксце тэарэмы Гёдэля ідэі Попера азначаюць, што навукоўцы павінны, сфармуляваўшы пэўны набор аксіём (іх асновай з'яўляюцца эмпірычна назіраемыя факты), засяродзіцца на тых меркаваннях, якія могуць быць не столькі верыфікаваныя (то бок пацверджаныя раз і назаўсёды), колькі, наадварот, фальсіфікаваныя. Тыя меркаванні, якія вытрымалі праверку, застаюцца ў навуковым арсенале да таго часу, пакуль працэс накаплення фактаў (то бок фактычна ўводу новых аксіём) не выявіць іх памылковасць. Але пры гэтым больш шырокая база аксіём дазволіць сфармуляваць новыя меркаванні альбо праверыць тыя, якія раней даводзілася адкладаць убок. Навука, як і грамадства, павінна ўвесь час захоўваць уласцівасці адкрытай сістэмы — гэта адзінае, што гарантуе ад застою.

Карэспандэнт часопіса «Scientific American» Дж. Хорган, які браў інтэрв'ю ў Попера ў канцы ягонага жыцця (у 1992 г.), адзначае, што той катэгарычна не пагадзіўся з думкай аб тым, што навука не здольная дасягнуць абсалютнай ісціны: *«Фактически, он не сомневался, что некоторые современные научные теории абсолютно истинны (хотя он отказался назвать такие). Но он опроверг веру позитивистов в то, что мы можем когда-либо узнать, что теория является истинной»*[4].

---

[2] Цыт. паводле інтэрнэт-публікацыі: Валлерстайн И. Реалии открытого пространства-времени: к пониманию нашей исторической системы // http://www.tuad.nsk.ru/~history/Author/Engl/W/WallersteinI/walspace-w.htm.

[3] Пра метад доказу тэарэмы Гёдэля і некаторыя яе важныя наступствы гл., напр.: Пенроуз Р. Новый ум короля: О компьютерах, мышлении и законах физики. М.: Эдиториал УРСС, 2003. С. 96—106.

[4] Хогран Дж. Конец науки: Взгляд на ограниченность знания на закате Века Науки / Пер. с англ. М. Жуковой. СПб.: Амфора, 2001. С. 61.

Яшчэ адна рыса постмадэрну — укараненне ў масавую свядомасць панятку **парадыгма**, што першапачаткова меў вузкі і цалкам канкрэтны сэнс у лінгвістыцы. Ягонае пашыранае значэнне прапанаваў у 1962 г. Т. Кун у сваёй нашумелай кнізе «Структура навуковых рэвалюцый»[5]. Пазней у інтэрв'ю таму ж Хоргану (1991 г.) ён згадваў, што ў аснове ягоных ідэй ляжала прасвятленне, якое з'явілася ў яго падчас навучання ў Гарвардзе ў 1947 г., калі ён разважаў пра дзіўную несумяшчальнасць панятку «рух», адлюстраванага ў «Фізіцы» Арыстоцеля, з тым жа паняткам у сучаснай фізіцы. Для Арыстоцеля «рухам» было не толькі і не столькі перасоўванне ў прасторы, колькі змены ўласцівасцей альбо вонкавых прыкмет аб'екта (прыкладам могуць паслужыць лісты, што жухнуць увосень). Гледзячы на такія восеньскія лісты за акном, Кун раптам зразумеў, што фізіка Арыстоцеля абапіраецца на зусім іншыя веды, хаця і пазначаныя тымі ж самымі тэрмінамі. Яна не лепшая і не горшая за фізіку Ньютана — проста (фармулюючы зноў жа ў кантэксце тэарэмы Гёдэля) адштурхоўваецца ад іншага набору аксіём[6].

У «Структуры навуковых рэвалюцый» Кун увёў тэрмін «парадыгма» менавіта для такога набору аксіём, якія ўтвараюць аснову не проста канкрэтнай тэорыі, а навуковага светагляду цэлай эпохі. Ён паказаў, што ў яўным выглядзе парадыгма звычайна нікім не фармулюецца — яна прымаецца як нешта інтуітыўна відавочнае, «само сабой зразумелае». Засваенне аксіём, якія складаюць парадыгму, адбываецца яшчэ на стадыі школьнага і затым універсітэцкага навучання, паколькі яна схавана прысутнічае ў фармулёўках навуковых задач і ў самім іх выбары. Думкі, недаказальныя і неабвяржальныя ў рамках канкрэтнай парадыгмы, не разглядаюцца наагул альбо абвяшчаюцца «ненавуковымі». Спроба апераваць імі ўспрымаецца прыхільнікамі парадыгмы як выклік асновам іх светабудовы і звычайна зацята атакуецца.

Сутнасць навуковай рэвалюцыі, згодна з Кунам, палягае ў тым, што накапленне ўсё большай колькасці цяжкатлумачальных фактаў выклікае крызіс пануючай парадыгмы. З'яўляюцца даследнікі, здольныя ўвязаць гэтыя факты ў несупярэчлівую сістэму, але толькі пры выкарыстанні зусім іншых аксіём. Гэта азначае нараджэнне альтэрнатыўнай, канкуруючай парадыгмы. Нейкі час яны суіснуюць, і навуковая супольнасць разбіваецца на два лагеры, якія востра крытыкуюць адзін аднаго. Але раней ці пазней старая парадыгма саступае (як трапна адзначыў Макс Планк, не столькі шляхам пераканання яе прыхільнікаў, колькі шляхам іх натуральнага вымірання), а новая набывае характар адзіна магчымай, усімі прымальнай і відавочнай ісціны. Пры гэтым некаторыя факты, якія няблага тлумачыліся старой парадыгмай, у новую ўжо не ўпісваюцца. Гэта прыводзіць да іх выцяснення з поля зроку навукі — іх перастаюць згадваць, а спробы асобных навукоўцаў нагадаць пра іх існаванне выклікаюць вострую эмацыянальную рэакцыю калег.

Кніга Куна выклікала эфект, якога сам ён, паводле ягонага прызнання, не чакаў: яе зразумелі ў тым сэнсе, што ў навуцы наагул адсутнічае прагрэс, узыходжанне ад менш дакладных ведаў да больш дакладных, а адбываецца толькі бясконцы рух па гарызанталі: адна парадыгма мяняе другую, пры гэтым аніводная з іх не з'яўляецца лепшай за другую ў якасным плане — яны проста **розныя**.

Менавіта такое разуменне складае парадыгму сучаснага постмадэрнізму. Яе замацаванню садзейнічалі працы некаторых літаратурных крытыкаў і культуразнаўцаў, якія сцвярджалі, што ў творы мастацтва (дый у тэксце наагул) адсутнічае «аб'ектыўны» сэнс. Кожны чытач альбо слухач інтэрпрэтуе яго па-свойму, у залежнасці ад жыццёвага досведу альбо проста настрою, і ніводная з гэтых інтэрпрэтацый (уключаючы і тую, якую меў на ўвазе сам аўтар) не лепшая і не горшая за іншую. Усе яны раўнапраўныя, як раўнапраўныя і культуры, што прадпісваюць інтэрпрэтаваць тэксты такім альбо іншым чынам. Зрэшты, ідэя не новая: яшчэ Фама Аквінскі ў XIII ст. сцвярджаў, што

[5] Kuhn Th. The Structure of Scientific Revolution. Chicago, 1962. Рускі пераклад гл.: Кун Т. Структура научных революций: Пер. с англ. М.: ООО «Издательство АСТ», 2002.

[6] Хорган Дж. Конец науки: Взгляд на ограниченность знания на закате Века Науки / Пер. с англ. М. Жуковой. СПб.: Амфора, 2001. С. 70—71.

мала значыць тое, што аўтар хацеў сказаць, важна тое, што ён сказаў і што можа быць выкарыстана[7].

У такой пазіцыі, без сумневаў, ёсць рацыянальнае зерне, і сам факт памылковага (на думку Куна) разумення ягонага тэксту можна разглядаць як яе пацвярджэнне. Але абсалютызацыя яе прыводзіць да поўнага рэлятывізму. Цяжэй за ўсё пагадзіцца са спробамі інтэрпрэтаваць падобным чынам сведчанні пра гістарычныя падзеі. Гісторык сапраўды мае справу не з фактамі, а з паведамленнямі пра іх, у якіх ужо існуе элемент інтэрпрэтацыі. Але ці можна сцвярджаць, што ўсе такія інтэрпрэтацыі раўнацэнныя, ураўноўваючы такім чынам погляды пільнага назіральніка і відавочнага фантазёра?

У якасці прыкладу таго, як узнікаюць яўна памылковыя інтэрпрэтацыі, я спашлюся на адносна нядаўнюю падзею, відавочцамі і ўдзельнікамі якой былі тысячы людзей. 30 траўня 1999 г. у Мінску ў падземным пераходзе на вуліцы Няміга адбылася даўка, выкліканая раптоўнай залевай з навальніцай і градам падчас свята. Натоўп маладых людзей кінуўся з плошчы ў бліжэйшы падземны пераход. У даўцы на мокрых прыступках загінулі дзясяткі з іх. Гэтая трагедыя асвятлялася сродкамі масавай інфармацыі, праводзіліся следчыя мерапрыемствы з апытаннем сотняў сведак. Мая жонка, псіхолаг паводле спецыяльнасці, брала ўдзел у аказанні псіхалагічнай дапамогі пацярпелым падлеткам, непасрэдна размаўляла з многімі з іх. Словам, сутнасць тых падзей у мяне не выклікае аніякіх сумневаў. Але вось 17 чэрвеня таго ж года, калі падзеі яшчэ былі ва ўсіх на слыху, у газеце «Имя» з'явілася альтэрнатыўная версія. Маладыя людзі, юнак і дзяўчына, з'явіліся на месцы трагедыі ў той момант, калі пацярпелых даставалі з падземнага пераходу, актыўна аказвалі ім першую медычную дапамогу. Ім кінулася ў вочы, што ўсе ахвяры былі з пасінелымі тварамі, многія — без абутку, але слядоў удараў альбо сінякоў не было. Маладым людзям даводзілася чуць, што пры ўдары маланкі адбываецца выкідванне чалавека з абутку і вопраткі. Гэтага стала дастаткова, каб нарадзілася версія: прычынай гібелі людзей была не даўка, а ўдар маланкі. Гэтая версія так іх захапіла, што яны настаялі на яе публікацыі ў газеце, а журналіст, цалкам у постмадэрнісцкім духу адзначыўшы, што *«мы абсолютно не настаиваем на правдоподобности этой гипотезы»*, выклаў яе ад іх імя[8].

Шлейф памылковых інтэрпрэтацый суправаджае любую значную падзею. Прыгадаем, што гібель падводнай лодкі «Курск» (згодна з высновамі афіцыйнага следства, выкліканая самаадвольным выбухам тарпеды ў тарпедным апараце) таксама спарадзіла самыя розныя інтэрпрэтацыі, ад сутыкнення з амерыканскай субмарынай да дыверсіі. Дапусцім, што падобная версія апынулася сярод двух-трох сведчанняў пра падзеі шматвяковай даўніны. Відавочна, што толькі адна інтэрпрэтацыя адпавядае таму, што здарылася «насамрэч». Але, не маючы магчымасці апытаць сведак і правесці следчыя мерапрыемствы, гісторык будзе вымушаны ацэньваць толькі тэксты як такія. Знаходзячыся на пазіцыях пазітывізму, ён пастараецца па дробных дэталях і асаблівасцях стылю ўстанавіць, якое з паведамленняў заслугоўвае большага даверу. Магчыма, пры гэтым ён памыліцца, але надзея на правільнае рашэнне ўсё-ткі ёсць. Прыняцце постмадэрнісцкага пункту гледжання небяспечнае тым, што ў гісторыка з'яўляецца спакуса: калі ўсе інтэрпрэтацыі раўнацэнныя, дык чаму б не абраць тую, што лепш упісваецца ў цяперашнюю ідэалагічную кан'юнктуру і прынясе найбольшыя дывідэнты яму асабіста?

Для сябе я лічу свядомы выбар такога кан'юнктурнага падыходу непрымальным. Але важна памятаць, што ён можа выяўляцца неўсвядомлена. Разуменню гэтага шмат у чым садзейнічала праца антраполага Кліфарда Гірца «Інтэрпрэтацыя культур», якая з'явілася ў 1973 г.[9]. На прыкладзе аўтарытэтных антраполагаў першай паловы XX ст., якія даследавалі з выключна пазітывісцкіх пазіцый адны і тыя ж традыцыйныя грамадствы, ён паказаў, што высновы могуць кардынальна розніцца ў залежнасці

[7] Гэтае выказванне Фамы я падаю ў перадачы Жака Ле Гофа. Гл.: Ле Гофф Ж. Цивилизация средневекового Запада. Екатеринбург: У-Фактория, 2005. С. 139.

[8] Шапран С. Причиной гибели людей была молния? // Имя. 1999. 17 июня. № 23 (205).

[9] Geertz C. The Interpretation of Cultures. N.Y., 1973.

ад зыходных поглядаў саміх даследнікаў. Пры гэтым яны змудраюцца «ва ўпор» не заўважыць з'явы, якія не ўпісваюцца ў іх сістэму поглядаў і тым больш — абвяргаюць іх. На думку Гірца, любы адбор фактаў, якія даследнік лічыць паказальнымі, «тыповымі» для вывучаемай культуры, адлюстроўвае не рэальнае значэнне гэтых фактаў, а іх каштоўнасць з пункту погляду ментальнай канструкцыі, ад пачатку прысутнай у ягонай свядомасці.

Шаблоны, сфармаваныя культурай і асабістым жыццёвым досведам, здольныя ператварыцца ў фільтр, які афарбоўвае вонкавы свет у вельмі спецыфічныя адценні. Класічным прыкладам з'яўляецца неўратычнае імкненне Зігмунда Фрэйда інтэрпрэтаваць вобразы і выказванні сваіх пацыентаў выключна ў эратычным сэнсе. Сакрэт ягонага поспеху, відаць, палягае ў тым, што гэты ж неўратызм падаўленай сексуальнасці быў уласцівы большасці чальцоў буржуазнага грамадства пачатку XX ст. Верных пападанняў было значна больш, чым памылковых тлумачэнняў. Але спробы практыкаваць класічны фрэйдаўскі псіхааналіз у сучасным заходнім грамадстве, прасякнутым сексуальнай усёдазволенасцю, значна менш эфектыўныя — патрабуецца хаця б частковая «змена фільтра», што і выявілася ў значным падзенні цікавасці да яго і ў з'яўленні розных мадыфікацый.

Добра вядомыя карцінкі-перакруткі, на якіх можна ў залежнасці ад першапачатковай устаноўкі бачыць то адну, то іншую выяву. Адна з іх, дарэчы, шарж на самога Фрэйда: на ёй можна ўбачыць ягоны твар у профіль, але тыя ж рысы лёгка складваюцца ў сексуальную паставу жанчыны. З навуковага пункту гледжання так жа бессэнсоўна задавацца пытаннем, што «рэальна» намаляванае на карціне, як і абвяшчаць ката Шродынгера жывым ці мёртвым, не зазірнуўшы ў скрыню. У гэтым выпадку наша свядомасць таксама ператварае верагоднасць у рэальнасць, але назваць такую рэальнасць «аб'ектыўнай» ужо не так проста.

Для нашых дзён характэрна сутыкненне не дзвюх, а адразу некалькіх парадыгмаў. Не ўсе з іх з'яўляюцца навуковымі, але ўсе ў той ці іншай ступені ўплываюць на ўспрыманне і спосаб мыслення даследніка. У прыватнасці, канцэпцыі з рэлігійным складнікам будуць выглядаць зусім па-рознаму ў залежнасці ад таго, ці дапускае ўспрымаючы іх чалавек пасмяротнае існаванне душы, існаванне Бога як асобы і магчымасць атрымання ад яго інфармацыі шляхам адкравення. Між тым, ад гэтага істотна залежаць паводзіны чалавека ў нашым матэрыяльным свеце, а ў крызіснай сітуацыі гэта можа мець вырашальнае ўздзеянне на лёсы чалавецтва.

Было б наіўным чакаць, што пры ацэнцы поглядаў, лагічных і цэласных толькі ў рамках пэўных парадыгмаў, можна захаваць аб'ектыўную адстароненасць, бо аўтар даследавання жыве ў гэтым жа свеце і непасрэдна ўцягнуты ў ягоныя жыццёвыя калізіі. Але нават усведамляючы, што заставацца «па-за парадыгмамі» немагчыма, даследнік мае патрэбу ў нейкім пункце апоры. Хаця б некаторыя аксіёмы павінны заставацца нязменнымі, забяспечваючы ўзаемны пераклад несупастаўляльных сэнсаў. Такой аксіёмай можа быць сцвярджэнне пра тое, што ўсе парадыгмы павінны аналізавацца строга ў адпаведнасці з іх зыходнымі наборамі аксіём.

Пры гэтым не павінны аўтаматычна адкідацца сцвярджэнні, нефальсіфікуемыя (у поперaўскім сэнсе) у рамках адной з іх, калі ў рамках другой іх можна было б у прынцыпе пацвердзіць альбо адкінуць. Напрыклад, сцвярджэнне апостала Паўла *«чалавекам належыць аднойчы памерці, а потым суд»* (Габр. 9:27) немагчыма ні давесці, ні абвергнуць, калі разглядаць матэрыяльны свет як замкнёную інфармацыйную сістэму. Але калі прызнаць магчымасць перадачы інфармацыі з замагільнага свету да жывых людзей, з'яўляецца спосаб праверкі з дапамогай медыумнага кантакту альбо асабіста перажываемага адкравення. Іншымі словамі, ніводная думка не павінна адкідацца толькі таму, што яна аказваецца абсурднай пры выбары, напрыклад, матэрыялістычнай альбо рэлігійнай пасылкі. Думка павінна ацэньвацца зыходзячы з таго, што абедзве такія інтэрпрэтацыі з'яўляюцца дапушчальнымі.

Даследнік, які падзяляе такі падыход, павінен па магчымасці пазбягаць аднабаковага аналізу якой-небудзь канцэпцыі. Трэба паспрабаваць зірнуць на сістэму

каштоўнасцей, якая яе вызначае, і знутры, вачыма адэптаў, і звонку, вачыма нядобразычліўцаў, але не замахваючыся на іх базавыя аксіёмы (калі, канечне, апошнія не ўступаюць у супярэчнасць з досведам, але ў гэтым разе іх і нельга лічыць аксіёмамі).

У астатнім прынцыпы фармальнай логікі цалкам захоўваюць сваю моц. Думка павінна быць адкінутай, калі выяўляецца яе ўнутраная супярэчлівасць на наступных узроўнях лагічнага ланцужка, як гэта здаўна практыкуецца і навукоўцамі, і тэолагамі. Захоўвае актуальнасць і прынцып ***«не ўводзіць новыя сутнасці без неабходнасці»***, сфармуляваны ў XIV ст. У. Окамам. У сучасных тэрмінах гэта значыць, што набор базавых аксіём павінен пашырацца толькі ў тых выпадках, калі накапіліся факты і назіранні, якія відавочна не ўкладаюцца ў ранейшую сістэму. Толькі гэта, а не нейкія кан'юнктурныя інтарэсы асобных грамадскіх груповак, можа служыць падставай для перагляду парадыгмаў. З іншага боку, грамадства максімальна зацікаўленае ў тым, каб састарэлыя аксіёмы своечасова адкідаліся, як бы гэта не закранала інтарэсы навуковых супольнасцей, якія паспелі прыстасавацца да іх.

Вяртаючыся да параўнання даследніка з бесстароннім суддзёй, даводзіцца канстатаваць, што і суддзі ў нашай зямной рэчаіснасці, на жаль, часам памыляюцца. Але ўстойлівасць грамадства абапіраецца на дамоўленасць: падпарадкоўвацца судзейскаму вердыкту як ісціне, калі пры ягоным вынясенні былі выкананыя пэўныя ўмовы, якія зніжаюць рызыку памылкі да **прымальнага** ўзроўню. Гэта і жорсткія патрабаванні да следча-крыміналістычных працэдур, і прынцып спаборнасці бакоў, і прыцягненне журы прысяжных. Патрабаванні да вынікаў навуковага даследавання, каб грамадства магло прыняць іх да ўвагі, па сутнасці, такія самыя. Іх выкананне дазволіць караблю навукі пазбегнуць і сцылы рэлятывізму, і харыбды застою.

*Перакладзена з рускай мовы паводле:*
Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны:
Навуковы зборнік. Выпуск 3. Мінск: БДУ, 2007. С. 47—57.

# У пошуках Адама і Евы

## Ці заўсёды кепска быць вырадкам?

З'яўленне чалавека на Зямлі — гэта не аднаразовая падзея, а працэс, расцягнуты ў часе на мільёны гадоў. Пытанне пра ягоны пачатак падобнае да філасофскай прыпавесці аб тым, колькі зерняў трэба скласці разам, каб атрымалася самая маленькая куча. Прыкметы, што адрозніваюць чалавека ад яго бліжэйшых суродзічаў-малпаў, з'яўляліся паступова і паасобку. У прыватнасці, каля 4,5 мільёнаў таму ўжо існаваў аўстралапітэк — малпападобная істота, якая перасоўвалася на дзвюх нагах. Нягледзячы на выпрастанае становішча цела, мозг ягоны быў яшчэ зусім малпавым, ды і выкарыстаць вызваленыя рукі для вырабу прылад працы ён, мяркуючы па ўсім, зусім не спяшаўся.

Каля 2—2,5 мільёнаў гадоў таму адбыўся яшчэ адзін скачок — сярод пабольшанага да таго часу сямейства аўстралапітэкаў з'явіўся від з большым мозгам (прыблізна на трацiну большым, чым у першых аўстралапітэкаў і сучасных шымпанзэ). У адрозненне ад іншых суродзічаў, прадстаўнікі гэтага віду рэгулярна выраблялі з каменю прымітыўныя прылады, за што атрымалі ад навукоўцаў шматабяцаючую назву — Homo habilis (чалавек умелы). Але пасля доўгіх спрэчак большасць навукоўцаў засталася пры думцы, што габіліс не надта кардынальна розніўся ад аўстралапітэкаў, што жылі побач з ім. Што тычыцца вырабу прылад працы, то гэта, відаць, рабілася інстынктыўна — накшталт таго, як бабры будуюць свае запруды.

Відаць, габіліс быў пераходнай формай, той сыравінай, з якой эвалюцыя зляпіла чалавека. У прамежку 1,5—1,7 мільёнаў гадоў таму гэты від знікае, а на змену яму прыходзіць новая істота — Homo erectus (чалавек прамаходзячы), іншымі словамі — архантрап (першачалавек). Да хуткіх і ўмелых рук дадалося значнае павелічэнне галаўнога мозгу — яшчэ прыблізна на трацiну ў параўнанні з габілісам. Ды і ўвесь шкілет эрэктуса навукоўцы-антраполагі аднадушна прызнаюць у прынцыпе чалавечым, хаця і з некаторымі прымітыўнымі рысамі. Да з'яўлення сучаснага чалавека — Homo sapiens — заставаўся літаральна адзін крок, які і быў зроблены пазней, паводле найноўшых звестак — недзе ў прамежку 100—400 тысяч гадоў таму.

Такім чынам, эвалюцыя ад малпы да чалавека была перарывістым працэсам, у якім перыяды плаўнага развіцця даўжынёй у 1—2 мільёны гадоў змяняліся рэзкімі скачкамі. Прырода гэтых скачкоў з'яўляецца адной з самых захапляльных загадак сучаснай навукі. Кожны раз перабудоўвалася ўся сістэма прыкмет. Хаджэнне на дзвюх нагах, да прыкладу, патрабуе пэўных змен у костках ног і таза. Пры гэтым звужаецца родавая адтуліна. Каб роды ішлі больш паспяхова, павінен быў змяніцца і тэрмін цяжарнасці — дзіця павінна было нараджацца раней, чым у чатырохногіх, пакуль косткі ягонага чэрапа не паспелі ацвярдзець. Але такое, па сутнасці, неданошанае дзіця патрабуе і больш доўгай увагі з боку маці. Значыць, павінны былі змяніцца і некаторыя інстынкты паводзінаў. І ўсё гэта адразу, а не паступова — асобіна, якая не мела хаця б адной з гэтых рыс, не здолела б пакінуць нашчадкаў!

Такія змены, відавочна, былі не асобнымі кропкавымі мутацыямі, а сістэмнымі і ўзаемаўзгодненымі перабудовамі ўсяго генафонду. Адна з іх мела вынікам нават змяненне колькасці храмасом. У чалавека іх 23 пары, а ва ўсіх чалавекападобных малпаў (шымпанзэ, гарылы, арангутанга) — 24. Відаць, столькі ж было і ў нашага агульнага продка. Аднойчы ў працэсе апладнення дзве храмасомы счапіліся паміж сабой, і гэтая рыса была ўнаследаваная нашчадкамі. Можа, гэта здарылася ў момант адасаблення галіны аўстралапітэкаў, якая вядзе да нас? Ці ў момант з'яўлення габіліса альбо эрэктуса? На жаль, па выкапнёвых костках колькасць храмасом не падлічыць, так што дакладны адказ невядомы.

Самае цікавае, што счапленне храмасом першапачаткова магло адбыцца толькі ў адной палавой клетцы. Характэрныя для іншых скачкоў комплексы новых прыкмет таксама павінны былі з'яўляцца ўсе разам. Гэта значыць, што ў звычайных бацькоў нараджалася вельмі незвычайнае дзіця — з іх пункту гледжання, проста вырадак. Сапраўды, з пункту гледжання «нармальных» даўгарукіх лахматых істот гэты даўганогі, вялікагаловы і безвалосы індывідум наўрад ці быў прыгажуном. Але справа нават і не ў гэтым. Калі, нягледзячы на такія вонкавыя адрозненні, ён ці яна ўсё-ткі знаходзілі сабе шлюбнага партнёра сярод «нармальных», адрозненні ў генафондзе наўрад ці дазволілі б ім мець паўнавартаснае патомства. Усім вядома, што гібрыды жывёл з рознай колькасцю храмасом звычайна бясплодныя.

Іншымі словамі, эвалюцыйны скачок, які адбыўся на ўзроўні адной асобіны, проста не меў бы ніякіх наступстваў. Але ж наступствы навідавоку! Атрымліваецца, што штосьці істотнае аб законах утварэння новага віду мы пакуль не ведаем? Ці гэты парадокс толькі ўяўны, і існуе нейкае простае тлумачэнне? Скажам, падчас скачка сістэмная мутацыя раптам станавілася звычайнай справай — настолькі звычайнай, каб у межах дасягальнасці адзін для аднаго апынуліся мутанты супрацьлеглых полаў, здольныя ўтварыць шлюбную пару.

Ці магчыма такое ў прынцыпе? Адразу адказаць цяжка. Мы ведаем, напрыклад, што сярод людзей, як і сярод чалавекападобных малпаў, рэгулярна адбываецца мутацыя — у нашчадка з'яўляецца няпарная лішняя храмасома — і як вынік — недаразвіццё інтэлекту і характэрныя змены аблічча — хвароба Даўна. Яна настолькі частая, што, напэўна, кожнаму з нас даводзілася неаднаразова сустракаць такіх мутантаў. Чаму б не дапусціць, што ў перыяды эвалюцыйных скачкоў з невядомай пакуль прычыны станавілася рэгулярнай супрацьлеглая мутацыя, якая параджала не дэбілаў, а геніяў?

Для адказу на гэтае пытанне трэба вызначыць, наколькі частай павінна быць такая мутацыя, каб гарантавана замацавацца ў нашчадках. На дапамогу тут прыходзіць новы метад, адносна нядаўна ўзяты на ўзбраенне гісторыкамі — камп'ютарнае мадэляванне.

## Рулетка выжывання

Любая папуляцыя можа ўстойліва існаваць толькі пры колькасці, якая дазваляла кожнаму яе чальцу знайсці шлюбнага партнёра. Скажам, у групе з 25 індывідаў (такі верагодны памер статка аўстралапітэкаў) адначасова можа быць 10 дарослых асобін. Калі сярод іх выпадкова будзе 6 самцоў і 3 самкі, то ў выніку палова самцоў застанецца «не пры справах», а ў наступным пакаленні дзяцей будзе меней, чым было б пры больш збалансаванай прапорцыі полаў. З-за такіх выпадковых хістанняў-флуктуацый маленькая група можа лёгка вымерці цалкам. Прадухіліць гэта можа аб'яднанне некалькіх груп у адно шлюбнае кола, дзе хістанні ўзаемакампенсуюцца.

Амерыканскі даследнік Марцін Вобст на пачатку 1970-х гадоў метадам камп'ютарнага мадэлявання вызначыў памеры шлюбнага кола, пры якіх выпадковыя змены ў прапорцыі полаў перастаюць адбівацца на колькасці нашчадкаў. Выявілася, што такое кола павінна ахопліваць сама меней 100—200 індывідаў, а лепей — да 400—500.

Арэал пражывання аўстралапітэкаў у саваннах паўднёвай і ўсходняй Афрыкі ахопліваў каля 5—6 мільёнаў км$^2$. Якой магла быць іх прыблізная колькасць? Для сучасных паляўнічых і збіральнікаў у падобных прыродных умовах уласцівая шчыльнасць насельніцтва блізу 25—50 чал. на 1000 км$^2$. Наўрад ці ў аўстралапітэкаў яна была большай, хутчэй — разы ў 2—3 ніжэйшай. Значыць, разам іх было каля 50—100 тысяч і яны маглі ўтвараць да 500 адносна ізаляваных папуляцый (шлюбных колаў). Зараджэнне новага віду магло адбыцца ў адной з такіх папуляцый, калі ў ёй адначасова апынуліся б два мутанты абодвух полаў. Зрэшты, ім яшчэ трэба было спярша выжыць (а дзіцячая смяротнасць сярод аўстралапітэкаў, відаць, складала каля 50%), а потым знайсці адзін аднаго.

Нават адзінкавае ўтварэнне такой пары выглядае вельмі малаверагодным. Для таго, каб два разнаполыя мутанты аднойчы за мільён гадоў нарадзіліся ў адным пакаленні і ў адным шлюбным коле, такая мутацыя павінна была паўтарацца сярод абітальнікаў 500 такіх колаў некалькі разоў у стагоддзе. Для гарантаванай сустрэчы яе носьбітаў яна павінна была здарацца яшчэ часцей. А вядзецца ж пра вельмі складаную сістэмную мутацыю, якую нават у якасці аднаразовай выпадковай падзеі ўявіць складана!

Можа быць, праблему вырашае меркаванне, што крыніцай паўторных мутацый была адна-адзіная асобіна, у якой увесь час нараджаліся дзеці-мутанты? Як такое магло адбывацца — таксама не надта зразумела, але ў такім выпадку, прынамсі, праблема пошуку партнёра перад імі не стаяла. Брат і сястра лёгка маглі ўтварыць шлюбную пару, як гэта часцяком здараецца ў папуляцыях сучасных чалавекападобных малпаў. Іначай кажучы, паводле гэтай версіі «Адам і Ева каменнага веку» былі дзецьмі аднаго жывёльнага продка, у палавых клетках якога пры апладненні кожны раз адбывалася адна і тая ж перабудова.

Але, аказваецца, з утварэннем шлюбнай пары праблемы не знікаюць. Яе нашчадкі спярша ўтваралі вельмі маленькую групу, залежную ад усіх выпадковасцей. Аўтар гэтых радкоў з дапамогай камп'ютарнай мадэлі паспрабаваў прасачыць лёс такой групы і ацаніць верагоднасць яе выжывання. У мадэлі дапускалася, што кожная жаночая асобіна пакідае выпадковую колькасць выжыўшых нашчадкаў, у тым ліку ад 0 да 5 дачок (менавіта існаванне жаночых асобін забяспечвае ўзнаўленне групы).

Натуральна, што ў такіх умовах ужо ў першым пакаленні сыходзяць са сцэны групы, для якіх ва ўсіх асобін пры гульні ў «рулетку выжывання» выпаў нуль. Іх месцы займаюць нашчадкі тых, каму пашчасціла пакінуць дзвюх, трох і болей дачок. Чым іх болей — тым вышэйшыя шанцы на тое, што і ў наступным пакаленні камусьці з іх пашанцуе і іх нашчадкі працягнуць эстафету.

Агульныя заканамернасці такога працэсу (вядомага ў матэматычнай тэорыі верагоднасці як галінавальны выпадковы працэс) вызначыць нескладана. Для групы, якая першапачаткова мае ў сваім складзе ад 1 да 3 дарослых жаночых асобін (а менавіта столькі дачок магла, верагодна, пакінуць першая пара мутантаў), верагоднасць дажыць да шостага пакалення роўная адной траціне, да дзясятага — чвэрці, а да пяцідзясятага (гэта прыблізна адпавядае тысячы гадоў) — менш 4 %. Для групы з 4—6 самак верагоднасць вымірання ніжэйшая, хаця таксама даволі высокая — больш 96 % за 3 тысячы гадоў.

Праўда, некаторыя з выжыўшых груп размножацца настолькі, што далейшае вымiранне ім амаль не пагражае. Усяго за некалькі стагоддзяў патомства такой групы можа дасягнуць тысячы асобін. Але верагоднасць трапіць у лік гэтых шчасліўчыкаў складае менш за адзін шанц са ста!

Так адбываецца ў тых выпадках, калі ўсе асобы, якія ўдзельнічаюць у гульні, маюць роўныя шанцы на выжыванне. Але ж можна выказаць меркаванне, што нашыя «прагрэсіўныя мутанты» мелі нейкія перавагі, што дазвалялі ім паспяхова канкураваць са сваімі суседзямі. Напрыклад, яны маглі выкарыстоўваць рэсурсы навакольнага асяроддзя на 50 % больш эфектыўна, то бок размнажацца хутчэй і дасягаць у выніку больш высокай шчыльнасці насельніцтва. Якой будзе верагоднасць іх выжывання з улікам гэтай перавагі?

Мадэляванне паказала, што па першым часе, пакуль колькасць групы «прагрэсіўных» невялікая, перавага ў выжываемасці не гарантуе перамогі ў канкурэнтнай барацьбе. Гэтая перавага пачынае ўстойліва праяўляцца толькі тады, калі група мутантаў дасягне колькасці ў 150—250 індывідаў (гэта, дарэчы, няблага адпавядае высновам М. Вобста). Пасля гэтага далейшы рост групы і выцясненне ёй канкурэнтаў практычна гарантаваныя. Не больш чым за 30—40 тысяч гадоў яна запаўняе ўвесь прыдатны для пражывання арэал усходнеафрыканскіх саваннаў. Тут спрацоўвае вядомы біёлагам прынцып канкурэнтнага выключэння, згодна з якім у адной экалагічнай нішы не могуць існаваць два віды.

У нашай мадэлі пераадоленне групай мутантаў парогавага значэння адбывалася ў 1—2 выпадках са ста. Гэта значыць, што для гарантаванай змены відаў шлюбныя пары «прагрэсіўных мутантаў» мусілі б узнікаць сама меней дзясяткі разоў.

Усё гэта прымушае вярнуцца да думкі, што працэс відаўтварэння наагул і ўзнікнення чалавека ў прыватнасці кіраваўся не сляпым выпадкам, а нейкім мэтанакіраваным фактарам, пра які мы пакуль нічога не можам сказаць напэўна. Суцяшэннем можа быць толькі тое, што далейшыя крокі эвалюцыі мы ўяўляем сабе крыху лепш.

## Пераможны марш прамаходзячых

Такім чынам, у выніку серыі скіраваных эвалюцыйных скачкоў, механізм якіх пакуль не зусім зразумелы, дзесьці на Афрыканскім кантыненце ўзнік першы чалавек, дакладней — два чалавекі, бо толькі шлюбная пара магла даць пачатак новаму віду. Нашчадкі гэтых «Адама і Евы», скрыжоўваючыся паміжсобку, дасягнулі крытычнай колькасці ў 2—3 сотні індывідаў, пасля чаго ім ужо не пагражалі выпадковыя флюктуацыі колькасці. Новая папуляцыя практычна імгненна (што такое 30—40 тысяч гадоў у параўнанні з мільёнамі гадоў жыцця віду!) змяніла сваіх папярэднікаў габілісаў і заняла іх экалагічную нішу.

Якой была гэтая ніша? Пра гэта таксама ідуць спрэчкі. Пэўны час карысталася папулярнасцю такая версія: нашыя продкі вялі прыблізна той самы лад жыцця, што і сучасныя гіены альбо шакалы, спалучаючы паляванне на буйную дзічыну з пажыраннем падліны. Аднак гэты шлях быў для іх закрыты — для харчавання падлінай патрэбны ген неўспрымальнасці да ўзбуджальніка батулізму, які развіваецца ў гніючым мясе. У адрозненне ад гіен і сцярвятнікаў, нашыя малпавыя продкі такі ген не мелі, як не маем і мы з вамі — менавіта таму батулізм для нас смяротны.

Шэраг даследнікаў настойліва звяртае ўвагу, што некаторыя спецыфічныя для чалавека прыкметы (безвалосае цела з тлушчавым падскурным слоем, звернутыя данізу ноздры, прыроджаны плавальны інстынкт у нованароджаных) маглі з'явіцца як адаптацыя да паўводнага ладу жыцця. Паводле гэтай версіі, нашыя продкі здабывалі ежу галоўным чынам у каламутнай вадзе рачных водмеляў — для гэтага ім спатрэбіліся вертыкальная стойка і чуйныя, здольныя дзейнічаць навобмацак пальцы, а таксама доўгія валасы на галаве, за якія маглі б ухапіцца плаваючыя побач дзеці. Для высмоктвання малюскаў з ракавін спатрэбіліся моцныя вусны і язык, пазней так патрэбныя для členaraздзельнай гаворкі. Для разбівання ракавін, а таксама для разбору тушаў увязлых у багне жывёл нашыя продкі сталі выкарыстоўваць завостраныя камяні.

Гэта версія выглядае прывабна, але вырашальных доказаў на яе карысць няма. Адно несумненна — габілісы былі ўсёеднымі істотамі, гэта адрознівала іх ад роднаснага віду, так званага аўстралапітэка масіўнага, які існаваў у той жа час і на той жа тэрыторыі, але харчаваўся расліннай ежай, як сучасныя гарылы, і ніколі не карыстаўся каменнымі прыладамі.

Першалюдзі-эрэктусы, якія прыйшлі на змену габілісам, успадкаемілі іх схільнасць да мясной ежы і ўменне вырабляць прылады працы. Але яны значна пашырылі арэал свайго пражывання. Калі знаходкі габілісаў сустракаюцца выключна на тэрыторыі Афрыкі, то рэшткі архантрапаў і іх прылад знойдзеныя па ўсім трапічным і субтрапічным поясе Еўразіі — ад Міжземнамор'я да вострава Ява ў Інданезіі. Прытым, пры ўсёй хібнасці сучасных метадаў датавання, практычна няма разрыву ў часе з'яўлення гома эрэктусаў у Афрыцы і па-за яе межамі. Першыя знаходкі, дзе яшчэ захоўваецца падабенства з аўстралапітэкамі, маюць у Афрыцы (цясніна Алдувай і іншыя месцы) датаванне блізу 1,6 млн. гадоў. Прыблізна такім самым часам, часам абледзянення гюнц-1, датуюцца некаторыя, пакуль не пацверджаныя знаходкі прымітыўных эрэктусаў у Еўропе і Паўднёва-Усходняй Азіі. І ўжо практычна несум-

ненна, што ў час абледзянення гюнц-2 (1—1,2 млн. гадоў таму) цалкам сфармаваныя эрэктусы жылі як у Афрыцы, так і на поўдні Еўропы і на Яве.

Гэты факт выклікаў здзіўленне некаторых археолагаў, якія інтуітыўна меркавалі, што рассяленне першалюдзей па планеце было вельмі марудным працэсам, расцягнутым на сотні тысяч гадоў. Адзін з іх, савецкі археолаг В.А. Ранаў, у сваёй навукова-папулярнай кнізе «Древнейшие страницы истории человечества» так проста і пісаў: «Меня, да и многих других ученых, мучает невозможность ответить на один из самых главных и сложных вопросов: как гомо эректус попал на Яву? Если принять предположение о хотя бы миллионном возрасте костных останков яванского питекантропа, то надо принять и заключение о настоящем марш-броске через многие тысячи километров от Олдувая до Явы».

З пункту гледзішча географаў і геолагаў, засяленне Еўразіі ў эпоху абледзянення гюнц было цалкам магчымым. Нягледзячы на агульнае пахаладанне клімату, трапічныя і субтрапічныя раёны заставаліся дастаткова цёплымі. Больш за тое, абледзяненне акумулявала ў ледавіковых шапках масу вады, з-за чаго ўзровень акіяна панізіўся на дзясяткі метраў. Многія пралівы, што падзялялі кантыненты (у тым ліку і пралівы паміж выспамі Інданезіі), асушаліся і ператвараліся ў сухапутныя масты. Але колькі часу магло спатрэбіцца старажытным людзям, каб дабрацца да ўскраін кантынента?

І зноў пытанне, адказ на якое не відавочны, магчыма развязаць з дапамогай камп'ютарнага мадэлявання. Дапусцім, што кожная папуляцыя спакойна размнажаецца на сваёй паляўнічай тэрыторыі, пакуль яе колькасць не наблізіцца да парога дэмаграфічнай ёмістасці, то бок з'явяцца прыкметы перанасялення. Пасля гэтага ўзнікае неабходнасць у міграцыі, і частка папуляцыі перасяляецца ў любым выпадковым напрамку — абы там была свабодная і прыдатная да жыцця прастора. На новым месцы група, якая адгалінавалася, хутка расце, пакуль яе колькасць не пачне набліжацца да крытычнай, а потым усё паўтараецца зноў. Хуткасць рассялення ў гэтым выпадку будзе залежыць ад таго, наколькі хутка здольная расці папуляцыя пры аптымальных умовах, пакуль не адчуваецца ціску асяродка. Біёлагі і дэмографы называюць гэтую максімальную здольнасць да росту рэпрадуктыўным патэнцыялам папуляцыі.

У сучасных паляўнічых і збіральнікаў, якія не зазналі ўплыву цывілізацыі, максімальная нараджальнасць можа дасягаць 40 нараджэнняў у год на тысячу чалавек, а мінімальная смяротнасць звычайна не апускаецца ніжэй за 30 на тысячу. Значыць, у аптымальных умовах насельніцтва можа павялічвацца на 1 % штогод. Гэта і ёсць рэпрадуктыўны патэнцыял. Якім жа ён быў у нашых продкаў? Напэўна, не вышэйшым, а хутчэй за ўсё нават ніжэйшым за сучасны.

Заклаўшы гэтыя зыходныя даныя ў праграму, мы мадэлявалі працэс рассялення з усходнеафрыканскай прарадзімы па прасторах Старога Свету, даступных старажытным людзям. Высветлілася, што пры рэпрадуктыўным патэнцыяле, нават у дзесяць разоў ніжэйшым за ўласцівы сучасным паляўнічым-збіральнікам, гэты працэс займаў толькі 30—40 тысяч гадоў, з сярэдняй хуткасцю руху фронту міграцыі каля 1—2 км у год. Гэтая велічыня — нішто ў параўнанні з агульнай працягласцю каменнага веку. Аказваецца, анічога, апроч «марш-кідка», і нельга было чакаць! Раз пачаўшыся, працэс рассялення дастаткова хутка мог ахапіць даступную тэрыторыю.

Атрымліваецца, што трэба задаваць пытанне не пра тое, як нашыя продкі на працягу ўсяго толькі фазы абледзянення гюнц засялілі аграмадныя прасторы, а пра тое, чаму яны не зрабілі гэтага раней. Відаць, рассяленне стала магчымым толькі тады, калі чалавек набыў нейкія якасці, якія дазволілі яму развітацца з традыцыйным для габілісаў ладам жыцця і перайсці да асваення разнастайных ландшафтаў. Такой якасцю магло быць, напрыклад, «прыручэнне» агню, якім архантрапы, бясспрэчна, ужо валодалі. Але канчатковы адказ яшчэ не знойдзены.

## Рондалі на кухні эвалюцыі

Рэзкае пашырэнне арэала не магло не выклікаць вялікіх змен у папуляцыйнай структуры старажытнага чалавецтва. Па-першае, ягоная колькасць склала цяпер, верагодна, каля паўмільёна асобін — у некалькі разоў больш, чым у габілісаў. Па-другое, сам працэс рассялення павінен быў суправаджацца спецыфічнымі эфектамі. Як бы ні былі падобныя паміж сабой нашчадкі нашых «Адама і Евы», яны мелі індывідуальныя адрозненні. У розных паляўнічых групах выпадковым чынам маглі пераважаць тыя альбо іншыя рысы. Калі ж такая група першай трапляла на незаселеную тэрыторыю і пачынала там імкліва павялічвацца, узнікаў так званы «эфект прабацькі»: выпадковая камбінацыя прыкмет, характэрная для зыходнай групы, замацоўвалася ў нашчадкаў.

Гэта тычыцца як генетычных, так і культурных асаблівасцей. Напрыклад, яшчэ напярэдадні свайго рассялення архантрапы валодалі дзвюма рознымі традыцыямі апрацоўкі каменю. Адна з іх (алдувайская) абмяжоўвалася вырабам прылад, у якіх рэжучы край з’яўляўся вынікам сколу з аднаго боку. Носьбіты іншай традыцыі выкарыстоўвалі таксама прылады, абабітыя стрэчнымі сколамі з двух бакоў — так званыя «біфасы» (гэтую традыцыю археолагі называюць ашэльскай). Абедзве традыцыі, відаць, былі роўнакаштоўнымі для выжывання, таму што ні адна з іх не выштурхоўвала іншую цягам сотень тысяч гадоў. У той жа час археолагі адзначаюць, што ў некаторых раёнах адна з традыцый відавочна пераважала. Гэта няблага тлумачыцца «эфектам прабацькі».

Падобна, што на поўдзень Еўропы праз Гібралтар альбо праліў паміж Тунісам і Сіцыліяй, які звузіўся падчас абледзянення, першымі трапілі аматары вырабу біфасаў. А вось сярод другой хвалі, якая трапіла ва Усходнюю Еўропу праз Басфор і ў абыход Чорнага мора, пераважалі прыхільнікі алдувайскай традыцыі. Наагул, сярод тых груп, якія першымі пераадолелі Суэцкі перашыек і трапілі на Блізкі Усход, носьбітаў ашэльскай традыцыі відавочна было мала. Пазней яны амаль паўсюдна зніклі, і толькі ў некаторых месцах іх нашчадкі выжылі, утварыўшы выспачкі ў Індыі і Усходнім Кітаі, дзе адзначаны невялікі адсотак біфасаў. А на астатняй тэрыторыі Азіі тэхніка аднабаковага сколу была адзінай, што рэзка адрознівае яе ад Афрыкі і Заходняй Еўропы. Цікава, што ў некаторых выпадках працэс рассялення, змадэляваны камп’ютарам, паказваў вынікі, дзіўным чынам падобныя да размяшчэння носьбітаў алдувайскай і ашэльскай традыцый.

Далейшы лёс папуляцый вызначаўся адаптацыяй да новых прыродных умоў, якія ў розных месцах, натуральна, моцна розніліся. Але быў і яшчэ адзін фактар: выпадковы працэс разрастання адных груп і вымірання іншых. Як ужо адзначалася, нават пры роўнасці зыходных шанцаў некаторыя групы за тысячу гадоў здолелі павялічыць сваю колькасць у сотні разоў. За больш працяглы адрэзак часу гэтая тэндэнцыя выяўлялася больш выразна. Калі ўмоўна разбіць тое паўмільённае насельніцтва на прыблізна 500 асобных папуляцый (протапляменаў), то спярша ўсе яны будуць мець супастаўляльную колькасць людзей (у межах ад 2—3 сотень да 2—3 тысяч індывідаў). Мадэляванне паказвае, што за 5 тысяч гадоў палова такіх папуляцый павінна была цалкам знікнуць, а астатнія — альбо захаваць сваю ранейшую колькасць, альбо павялічыць яе. Праз 10 тысяч гадоў засталося б не больш за трацiну ад зыходных папуляцый, праз 20—30 тысяч гадоў — каля чвэрці, а прыблізна праз 100 тысяч гадоў засталіся б прамыя нашчадкі толькі 20—30 першапачатковых протапляменаў.

Сярод папуляцый, што выжылі, назіраецца характэрная карціна: значная частка (да траціны ўсяго насельніцтва!) прыпадае на 1—2 папуляцыі-гіганты, яшчэ з дзясятак можна лічыць буйнымі і сярэднімі. Затое прыблізна палова з тых, хто выжыў, то бок 10—15, маюць амаль тую самую колькасць асобін, як і на пачатку мадэлявання.

Калі закласці ў мадэль фактар канкурэнцыі на лепшую прыстасавальнасць да прыроднага асяродка, карціна застаецца ранейшай, але з адным удакладненнем: кожны буйны рэгіён з аднароднымі ўмовамі (напрыклад, трапічныя лясы Паўднёва-Усходняй

Азіі альбо стэпы Прычарнамор’я і Казахстана) засяляецца нашчадкамі адной-дзвюх зыходных папуляцый, якія дасягнулі аптымальнай адаптацыі да мясцовых умоў. Міграцыі з аднаго такога арэала ў іншы адсякаюцца стабілізуючым адборам: мігранты заўсёды адаптаваныя горш за старажылаў.

Штосьці падобнае, без сумневаў, і адбывалася. Ішоў своеасаблівы падзел сфер уплыву паміж некалькімі дзясяткамі папуляцый, якія адносіліся да розных ландшафтаў. Натуральна, такія вялікія папуляцыі не маглі быць адзіным цэлым. Яны распадаліся на асобныя шлюбныя колы альбо протаплямёны. Далейшы працэс вымірання і разрастання гэтых протаплямёнаў замыкаўся ўнутры прыродных арэалаў: нават калі адна група павялічвалася настолькі, што запаўняла ўвесь арэал, па-за ягонымі межамі замацавацца яна не магла. Такая група зноў распадалася на даччыныя, і працэс паўтараўся зноў.

У выніку ўнутры кожнага такога арэала ступень сваяцтва паміж індывідамі была нашмат вышэйшай, чым паміж арэаламі. Натуральна, іх насельнікі мусілі накапіць істотныя адрозненні адзін ад аднаго. Калі варыць суп у дзясятках рондаляў адначасова, ды яшчэ на розным агні, наўрад ці смак супу ва ўсіх рондалях будзе аднолькавым.

Так пасля засялення Старога Свету адзіны ствол чалавечай эвалюцыі распаўся на некалькі самастойных галін. Кожная з іх мела свае асаблівасці, што зарадзіліся яшчэ ў момант першапачатковага засялення, і з цягам часу гэтыя адрозненні не памяншаліся, а наадварот, узрасталі. Да міжледавіковай эпохі міндаль—рыс (400—600 тысяч гадоў таму) від Homo erectus падзяліўся на некалькі лакальных падвідаў: так званага гейдэльбергскага чалавека ў Еўропе, сінантрапа ў Кітаі і т.п. Прыблізна супастаўляльныя па ўзроўні развіцця, яны мелі выразныя марфалагічныя адрозненні.

А вось каменныя прылады эвалюцыянавалі вельмі павольна. Дзясяткі тысяч пакаленняў архантрапаў на дзіва мала дадалі да тэхнічных прыёмаў, вядомых ужо габілісам. Увесь гэты аграмадны прамежак часу археолагі схільныя злучаць у адзін перыяд — ранні палеаліт.

## Колькі Адамаў было ў гісторыі чалавецтва?

Наступны скачок трэба было зрабіць прадстаўнікам новага віду — Homo sapiens. Прадстаўнікі гэтага віду пачалі фармавацца, напэўна, каля 400 тысяч гадоў таму і змянілі архантрапаў падчас абледзянення рыс (240—350 тысяч гадоў таму). Праўда, гэтыя першыя прадстаўнікі, так званыя прэнеандэртальцы, мелі такое архаічнае аблічча, што шмат у якіх выпадках навукоўцы доўга вырашалі, адносіць іх знаходкі ўжо да віду сапіенсаў альбо да іх папярэднікаў — эрэктусаў. Не менш вострыя спрэчкі ішлі і з нагоды паходжання новага віду. Адны навукоўцы лічылі, што ў розных месцах арэала архантрапаў ішла паралельная эвалюцыя ў падобным кірунку, то бок адстойвалі поліцэнтрычнае ўтварэнне віду. Іншыя, монацэнтрысты, сцвярджалі, што від зарадзіўся першапачаткова ў адной кропцы — то бок па тым жа сцэнары, што і з’яўленне эрэктусаў.

З гэтым звязанае пытанне: колькі часу магло сысці на выцясненне аднаго віду другім на тэрыторыі ўсяго Старога Свету? Бо прасоўванне эмігрантаў у гэтым разе суправаджалася б не вольным размнажэннем на новым месцы, а ўвесьчаснай канкурэнцыяй з мясцовымі архантрапамі. І зноў адказ можна знайсці з дапамогай камп’ютарнай мадэлі. Выявілася, што можна лёгка падабраць умовы, пры якіх поўная перамога «прагрэсіўных» мігрантаў па ўсёй Афрыцы і Азіі адбываецца за 150—200 тысяч гадоў. Гэта значыць, што гіпотэза аб монацэнтрычным паходжанні новага віду і выцясненні ім канкурэнтаў у прамежку 200—400 тысяч гадоў таму выглядае цалкам верагоднай.

Калі гэтая гіпотэза адпавядае рэчаіснасці, то ў нашай гісторыі з’яўляюцца яшчэ адны «Адам і Ева» — родапачынальнікі віду Homo sapiens. З усіх нашчадкаў першай пары архантрапаў, якая узнікла мільён гадоў раней, толькі ім было наканавана працягнуць эстафету. Але, як высвятляецца, і гэта яшчэ не ўсё!

Новы від хутка распаўся на такія ж замкнёныя арэалы, як і ягоны папярэднік. Зноў закіпела варыва ў рондалях эвалюцыі, і прыблізна 100 тысяч гадоў таму вынікі сталі адчувальнымі. Але гэтым разам падзеі развіваліся крыху па іншым сцэнары — біялагічная эвалюцыя саступіла лідарства культурнай. Ужо са з'яўленнем першых прэнеандэртальцаў разнастайнасць каменных прылад пачынае заўважна павялічвацца — відаць, новы від у момант свайго нараджэння пераадолеў нейкі інтэлектуальны бар'ер, які стрымліваў эвалюцыю культуры архантрапаў. Настаў час сярэдняга палеаліту, для якога ўласціва суіснаванне разнастайных культурных і тэхналагічных традыцый. У адрозненне ад традыцый ашэльскай эпохі, гэтыя тэхналогіі, відаць, былі далёка не роўнакаштоўнымі. Значыць, паміж іх носьбітамі адбывалася ўвесьчасная канкурэнцыя, і ўладальнікі больш эфектыўных уменняў выцяснялі суседзяў.

Урэшце, відаць, перамагло некалькі традыцый, прыстасаваных да пэўных прыродных умоў. У Еўропе 100—130 тысяч гадоў таму сфармаваўся падвід класічных неандэртальцаў, які відавочна быў гранічна адаптаваны да ўмоў лясоў умеранага клімату. Ягоная базавая тэхналогія, якая атрымала ад археолагаў назву мусцьерскай культуры, у сваю чаргу распалася на некалькі адасобленых варыянтаў, што існавалі ўперамешку. Спецыфічную прыстасаванасць да мясцовых умоў выпрацавалі і іншыя неандэртальскія падвіды альбо расы, вядомыя паводле знаходак на поўдні Афрыкі і ў Паўднёва-Усходняй Азіі. І, урэшце, у саваннах Афрыкі сфармавалася тая галіна, якая вядзе непасрэдна да нас з вамі — гэта чалавек сучаснага тыпу.

Доўгі час навукоўцы лічылі, што гэтыя падвіды паслядоўна змяняліся: спярша на ўсёй Зямлі жылі неандэртальцы, а прыблізна 40 тысяч гадоў таму іх змянілі сучасныя людзі. На тэрыторыі Еўропы, дзе былі выяўленыя першыя знаходкі, адбывалася менавіта так. Але ў апошнія дзесяцігоддзі высветлілася, што ў некаторых раёнах Афрыкі людзі сучаснага тыпу існавалі сама меней 100 тысяч гадоў таму — адначасова з класічнымі еўрапейскімі неандэртальцамі.

Падвіды доўга суіснавалі і нават змешваліся: падобна, што дзіўныя чарапы з пячоры Схул у Палесціне належалі метысам ад скрыжавання неандэртальцаў і сучасных людзей. Толькі 40 тысяч гадоў таму галіна сучаснага чалавека канчаткова выцесніла (ці паглынула) сваіх канкурэнтаў у Еўропе. Да таго ж часу сучасныя людзі ўжо дасягнулі Інданезіі, а хутка трапілі і ў Аўстралію, куды іх папярэднікі так і не здолелі знайсці дарогу. Відаць, пры прыблізнай роўнасці біялагічных магчымасцей менавіта тыя культурныя ўмельствы, якімі валодалі продкі сучасных людзей, забяспечылі ім перамогу над неандэртальцамі.

Давайце яшчэ раз згадаем мадэль выцяснення канкурэнтаў. Дапусцім, што ў адной лакальнай папуляцыі — протаплемені — з'явілася нейкая «прагрэсіўная» перавага. Мы памятаем, што па дасягненні колькасці ў 200—300 асобін група, што мае такую перавагу, непазбежна выцясняе суседзяў з аднароднага прыроднага арэала. А што будзе, калі папуляцыя дасягне межаў іншай прыроднай зоны? Нават калі яе перавага пераўзыдзе лепшую прыстасаванасць абарыгенаў, усё адно рух запаволіцца, пакуль «прагрэсіўныя» мутанты не выпрацуюць уласнай адаптацыі да новых умоў.

У нашай мадэлі носьбітам «прагрэсіўнай прыкметы» першапачаткова была група ў некалькі сотняў індывідаў, якая жыла ў сухіх саваннах Афрыкі. Менавіта па саваннах яе нашчадкі і прасоўваліся далей, рэзка прытарможваючы на межах прыродных зон з нязвыклымі прыроднымі ўмовамі — пустынь, экватарыяльных і трапічных лясоў. Пры гэтым лясы, як антыподы стэпаў і саваннаў па прыродных умовах, даўжэй супрацьстаялі прыхадням. Таму, напрыклад, лясная зона ў цэнтры Афрыкі аказвалася як бы ў коле — прыстасаваныя да сухога клімату мігранты панавалі ў саваннах вакол яе, ужо траплялі на Блізкі Усход і ў Сярэднюю Азію, а рэшткі неадаптаваных да вільготных лясоў абарыгенаў яшчэ дзясяткі тысяч гадоў працягвалі трымацца на роўных з увесь час пранікаючымі з саваннаў прыхаднямі. Другім такім «ачагом супраціву» ў мадэлі аказалася лясная зона Еўропы — яе ранейшае насельніцтва захоўвалася нават тады, калі мігранты засялялі стэпы і пустыні цэнтральнай Еўразіі.

Гэты сцэнар нагадвае карціну змены неандэртальцаў сучаснымі людзьмі, якой яна падаецца паводле сучасных звестак, ці ж не так? Пра гэта ж сведчаць і матэрыялы генетыкі: ступень падабенства і адрознення ў генафондзе розных народаў Зямлі дазваляе выказаць думку, што ўсе яны мелі агульнага продка прыблізна 100—200 тысяч гадоў таму. Гэта якраз той час, які патрабаваўся б «прагрэсіўнай» папуляцыі, каб з Афрыкі да саракавога тысячагоддзя дасягнуць паўднёва-ўсходніх ускраін Еўразіі, пакінуўшы ў аблозе толькі неандэртальскую Еўропу.

Магчыма, неандэртальцы трымаліся б яшчэ доўга, калі б адна з блізкаўсходніх папуляцый сучасных людзей не стварыла ў гэты час вельмі эфектыўную тэхніку апрацоўкі каменю, якую археолагі называюць верхнепалеалітычнай. Яна, падобна, дазволіла дасягнуць нябачанай раней колькасці насельніцтва. Усяго толькі за некалькі тысяч гадоў гэтая тэхніка імкліва заваявала Блізкі Усход і Еўропу, адначасова прыводзячы і да знікнення неандэртальцаў. Хутчэй за ўсё, яны не былі цалкам знішчаныя, а проста змяшаліся з прыхаднямі і паступова зніклі сярод іх — пра гэта сведчыць і тое, што асаблівасці лакальных верхнепалеалітычных культур маюць карані ў папярэдніх мусцьерскіх. Не выключана, што атрыманыя ў спадчыну ад неандэртальцаў генетычныя асаблівасці садзейнічалі ў далейшым фармаванню еўрапеоіднай расы.

Такім чынам, сітуацыя «Адама і Евы», відаць, паўтаралася ў нашай гісторыі неаднойчы. Генеалагічнае дрэва чалавецтва мае карані ў той пары мутантаў, якая дала пачатак віду Homo erectus. Зрэшты, гэтае дрэва нагадвае хутчэй пышны куст, у якім большыня атожылкаў абрываецца, і толькі адзін вядзе да новага віду — Homo sapiens. Але і гэты атожылак зноў разгаліноўваецца, і зноў, хутчэй за ўсё, нашчадкі адзінай шлюбнай пары даюць пачатак галіне сучаснага чалавека, якая так-сяк існуе і цяпер.

*Перакладзена з рускай мовы паводле:*
Наука и человечество, 1995—1997: Международный ежегодник / Ред. кол.: О.А. Осипов (пред.) и др. Москва: О-во «Знание» России и др., 1997.

# Таямніцы зніклых народаў

Расказваць пра мінулае няпроста. Аб некаторых падзеях не засталося ні летапісаў, ні легенд. Узнавіць іх дапамагаюць нам галоўным чынам археалогія і лінгвістыка. Археолагі маюць справу з рэшткамі старажытных паселішчаў і могільнікаў, лінгвісты — з тымі водгукамі былога, якія захаваліся ў мовах сучасных народаў. У кожнай з гэтых навук ёсць свае поспехі, але і свае цяжкасці. Так, археалогія звычайна можа вызначыць час, калі існавала тая ці іншая культура, але мала што скажа пра мову яе стваральнікаў, іх этнічную прыналежнасць. Лінгвістыка ж, наадварот, прасочвае эвалюцыю моў, але для яе вельмі праблематычна даць прывязку да часу і прасторы — калі і дзе адбываліся тыя з'явы, якія яна фіксуе.

Мовазнаўцы пераканаўча вызначылі, што мовы славянскіх народаў (беларусаў, рускіх, чэхаў, палякаў, сербаў і іншых) маюць агульную аснову. Некалі продкі гэтых народаў размаўлялі на адзінай мове, прынамсі — на вельмі блізкіх дыялектах. Больш таго, значна раней яны мелі такое ж моўнае адзінства з продкамі латышоў, літоўцаў, немцаў, італьянцаў, грэкаў, нават іранцаў і індыйцаў. Гэта значыць, што недзе ў мінулым продкі гэтых (і шматлікіх іншых) народаў жылі разам, на агульнай тэрыторыі. А вось нашы еўрапейскія суседзі — фіны, эстонцы, венгры — маюць таксама агульныя, але зусім іншыя карані, якія аб'ядноўваюць іх з мардвой, удмуртамі, хантамі, а ў больш аддаленым радстве — нават з нганасанамі Таймырскага паўвострава.

Навукоўцы аб'ядноўваюць мовы ў групы і сем'і, якія адлюстроўваюць адзінства паходжання. Славянская група разам з балцкай (латышы і літоўцы), германскай, раманскай, індаіранскай і шэрагам іншых утвараюць так званую індаеўрапейскую сям'ю. Фіна-ўгорская група (эстонцы, венгры, удмурты і г.д.) адносіцца да ўральскай сям'і, цюркская (татары, казахі, туркмены і г.д.) — да алтайскай. Ёсць і народы, якія стаяць паасобку, бо для іх не ўдалося адшукаць родзічаў. Такімі з'яўляюцца, напрыклад, баскі — жыхары паўночнай Іспаніі.

Лінгвісты прасачылі, як кожнае з гэтых моўных адзінстваў паступова распадалася, як асобныя іх часткі ўступалі ў кантакты з іншымі мовамі і запазычвалі з іх словы. З'яўляліся і новаўтварэнні, розныя ў кожным з арэалаў былой супольнасці. Носьбіты моў мянялі месцы жыхарства, але пакідалі пасля сябе сляды ў выглядзе геаграфічных назваў (тапонімаў), сярод якіх асаблівай трываласцю вызначаюцца назвы рэк і азёр (гідронімы).

Напрыклад, назвы рэк Дон, Дняпро (старая форма — Донапар), Днестр (Донастрыс), Дунай (Донаў, Данубі) узніклі, хутчэй за ўсё, у часы, калі іх берагі насялялі народы індаіранскай моўнай групы (слова «дон» на гэтых мовах значыць «рака»). Іншыя народы звалі іх інакш — адпаведна Танаіс, Барысфен, Тырас, Істр. Славяне ж запазычылі менавіта іранскія формы. Аднак у назве доплыва Дняпра Бярэзіны, якую раней лічылі яго вытокам, многія даследчыкі бачаць аславяненую форму старажытнай назвы Барысфена.

Навукоўцы даўно звярнулі ўвагу на тое, што на тэрыторыі Беларусі вельмі многія гідронімы гучаць загадкава для мясцовага насельніцтва: Зэльва, Іпуць, Сож, Ясельда — гэты пералік можна працягваць доўга. Гэта значыць, што славяне не былі першымі насельнікамі азначанай тэрыторыі. Назвы рэк і азёр яны запазычылі ў сваіх папярэднікаў, на мовах якіх яны мелі больш празрысты сэнс.

Хто ж былі гэтыя папярэднікі славян на беларускай зямлі? Мовазнаўцы пачалі параўноўваць беларускія гідронімы са словамі іншых моў. Адразу ж кінулася ў вочы, што вельмі часта яны знаходзяць адпаведнасць у балцкіх і фіна-ўгорскіх мовах. Назвы Іпуць, Упа перагукаюцца з латышскім словам «упа» (рака), Опса адпавядае балцкаму слову са значэннем «узбярэжжа», Свіда — таксама балцкаму «блішчэць», Нёман —

фінскаму «нээм», «немі» (мыс ці поплаў ля ракі), Сож, Шоша — угорскім словам са значэннем «лясны ці балотны ручай». Канчатак (фармант) -та ў назвах многіх азёр (Усвята, Цёста, Дрывята і іншыя) на фіна-ўгорскіх мовах якраз і значыць «возера», фарманты -ва, -да (Зэльва, Ясельда) маюць адпаведнасці і ў балцкіх, і ў фінскіх мовах.

Аднак такіх поўных супадзенняў з сэнсам іншых моў у агульнай колькасці беларускіх гідронімаў параўнальна нямнога. Яны могуць быць і выпадковымі, як, напрыклад, іспанская назва ракі Каларада («каляровая»), што амаль дакладна суадносіцца з адпаведным беларускім словам. Але для іспанскай мовы аснова «колар» арганічная, успрынятая з продкавай лацінскай мовы, у беларускай жа яна з'яўляецца запазычаннем, бо трапіла ў яе з той жа латыні праз нямецкае і польскае пасрэдніцтва.

Праўда, лінгвісты прыводзяць значна больш гідронімаў, якія могуць быць растлумачаны з дапамогай балцкіх моў. У кнізе У. Тапарова і А. Трубачова «Лінгвістычны аналіз гідронімаў Верхняга Падняпроўя», што выйшла ў Маскве ў 1962 годзе, прыводзяцца літаральна сотні такіх тлумачэнняў. Гэтыя тлумачэнні ляглі ў падмурак тэорыі аб тым, што папярэднікамі славян на ўсёй Беларусі былі балты. Нават этнагенез беларусаў многія, услед за маскоўскім археолагам В. Сядовым, тлумачаць балцкай падасновай (субстратам), якая і выклікала адасабленне беларусаў ад астатняга славянства.

Сапраўды, на першы погляд, такія высновы гучаць пераканаўча. Гідронім Обаль можна параўнаць з балцкім обаліс («яблыка»), Рэста — рэксціс («арэх»), Клева — клевас («явар»), Гаўя — гаўя («статак, натоўп») і г.д. Але задумаемся: чаму старажытным балтам уздумалася называць раку яблыняй? Ці не нагадвае гэта такое ж перайначванне незразумелай назвы, як у выпадку з Барысфенам — Бярэзінай? А значыць, казаць можна толькі пра балцкае пасрэдніцтва ва ўспрыняцці гэтых назваў славянамі, але не пра балцкае іх паходжанне.

Дарэчы, можна падабраць шмат падобных тлумачэнняў і з фіна-ўгорскіх моў, як гэта нядаўна зрабіў І. Ласкоў з дапамогай комі-пярмяцкага слоўніка: Зэльва — дзель («ягня»), Вілія — віль («новы») і г.д. Тым больш, што такія, ці вельмі блізкія, назвы і сапраўды маюцца ў арэале рассялення комі-пермякоў.

На нашу думку, бесперспектыўнай з'яўляецца спроба цалкам растлумачыць беларускія гідронімы на падставе параўнання са словамі сучасных моўных груп. Пры гэтым ігнаруецца той факт, што да нашых дзён дайшла параўнальна невялікая колькасць моў і нават моўных груп, якія існавалі ў мінулым.

У рэгіёнах, дзе пісьменнасць вядома на працягу некалькіх тысячагоддзяў, за гэты час зафіксавана поўнае знікненне мноства этнасаў. На Пірынейскім паўвостраве зніклі старажытныя іберы, у Італіі — лігуры і этрускі, у Падунаўі і на Балканах — цэлы шэраг ілірыйскіх і фракійскіх народаў, у Грэцыі — пеласгі, у Малой Азіі — хеты, фрыгійцы і іншыя народы. Амаль нічога не засталося ад шматлюднай кельцкай моўнай групы — толькі рэшткі ў выглядзе шатландцаў, валійцаў і ірландцаў (заўважым, што яны ў свой час гэтак жа выцеснілі старажытных насельнікаў Брытаніі — піктаў). Рэліктам некалі пашыранага этнасу з'яўляюцца і вышэйзгаданыя баскі. У Прычарнамор'і паслядоўна змяняліся скіфы, сарматы, цюркі, а цяпер і ад апошніх засталіся толькі ізаляваныя групы гагаўзаў і крымскіх татар.

Чаму ж мы павінны лічыць, што на абшарах Беларусі справа ішла інакшым чынам? Наадварот, матэматычныя заканамернасці тэорыі верагоднасці сведчаць, што на працягу некалькіх тысячагоддзяў проста немагчыма захаванне таго этнічнага раскладу, які існаваў першапачаткова. Адны народы непазбежна разрастаюцца і даюць пачатак цэлым групам роднасных этнасаў, другія скарачаюць сваю колькасць і ўвогуле знікаюць. Гэтак жа вагаецца колькасць папуляцый усіх жывых істот, бо гэта закон прыроды.

Агульнавядома, што балты і славяне належаць да індаеўрапейскай моўнай сям'і. Значыць, першапачаткова іх слоўнік быў амаль аднолькавым. Зададзім сабе пытанне: за кошт чаго сённяшнія балцкія мовы так адрозніваюцца ад славянскіх? Відавочна, што ў значнай ступені — за кошт запазычання слоў ад іншых народаў, якія шчыльна

кантактавалі з балтамі і не сутыкаліся са славянамі, і наадварот. Так, сёння многія словы, якія адрозніваюць беларускую мову ад рускай, запазычаны беларусамі з Польшчы. У гэтым можа пераканацца кожны, разгарнуўшы адначасова руска-беларускі і руска-польскі слоўнікі.

Добра, калі крыніца запазычанняў захавалася і да яе можна звярнуцца за даведкамі. А што, калі мова, з якой балты ўспрынялі свае сучасныя моўныя асаблівасці, беззваротна знікла? Такі загадкавы «народ-ікс» можна вылічыць толькі па ўскосных звестках. Адной з іх, як нам здаецца, з'яўляецца падабенства беларускай гідраніміі адначасова на балцкую і фіна-ўгорскую. Што, калі ў мінулым існаваў этнас ці група этнасаў, якія жылі прамеж продкамі балтаў з аднаго боку і фіна-ўграў — з другога? Працяглыя кантакты паміж імі спрыялі ўзаемным запазычанням як у лексіцы, так і ў фанетыцы. Славяне ж, напэўна, уступілі ў кантакт з «народам-ікс» значна пазней, таму яго гідранімія гучыць для іх больш дзіўна, чым для латышоў і фінаў.

Для праверкі гэтай гіпотэзы трэба спалучыць лінгвістычныя факты з данымі археалогіі. Адразу адзначым, што мы не будзем засяроджваць увагу на вельмі цікавым пытанні аб прарадзіме славян. Прымем толькі за аксіёму, што яны прыйшлі на тэрыторыю Беларусі аднекуль звонку, прычым прыйшлі параўнальна позна. Пацвярджаюць такую думку меркаванні лінгвістаў аб тым, што ў праславянскай мове ёсць запазычанні з прабалцкай, прагерманскай, пракельцкай і, напэўна, праілірыйскай моў. Недзе ў атачэнні гэтых народаў (у Цэнтральнай Еўропе?) і жылі спярша продкі славян.

Мы ж зоймемся больш дэталёва тэрыторыяй Беларусі і навакольнымі абшарамі. Якія археалагічныя доказы існавання «народа-ікс» можна тут знайсці? Якім часам датаваць яго знаходжанне на азначанай тэрыторыі?

Нам не варта заглыбляцца ў эпоху неаліту, якая цягнулася да IV тысячагоддзя да Нараджэння Хрыстова ўключна. У той час Беларусь засялялі плямёны паляўнічых і рыбаловаў, якія не ведалі яшчэ ні земляробства, ні жывёлагадоўлі. Лад іх жыцця нагадваў жыццё некаторых сучасных народаў Далёкага Усходу (ніўхаў, нанайцаў, айнаў), таксама незнаёмых з вытворчай гаспадаркай. Гэтае рэдкае насельніцтва ў далейшым, відаць, цалкам знікла і мала што перадала сваім наступцам.

А вось пачатак бронзавага веку (паводле сучасных датаванняў — каля 5 тысяч гадоў назад) заслугоўвае ўвагі. У той час на Беларусь прыйшло іншае насельніцтва, якое ўжо добра ведала жывёлагадоўлю (у тым ліку — каняводства) і земляробства, а таксама апрацоўку бронзавых вырабаў, хаця асноўныя прылады па-ранейшаму рабіліся з каменю. Па ўмовах жыцця гэтыя людзі найлепш адпавядалі ваяўнічым індзейцам амерыканскіх лясоў і прэрый. Іх характэрнымі прыладамі былі каменныя баявыя сякеры, вельмі падобныя на індзейскія тамагаўкі, і гліняныя гаршкі, аздобленыя адбіткам шнура. Таму іх культуры археолагі назвалі культурамі баявых сякер і шнуравой керамікі.

Гэты народ (будзем далей умоўна называць яго прадстаўнікоў шнуравікамі) прыйшоў аднекуль з поўдня і паўднёвага захаду, дзе земляробча-жывёлагадоўчая гаспадарка была вядома ўжо на два тысячагоддзі раней. У прыватнасці, на Беларусь першымі прыйшлі прадстаўнікі сярэднедняпроўскай культуры з тэрыторыі Украіны.

Рассяленне гэтых плямён было выклікана, напэўна, кліматычнымі зменамі, у выніку якіх зона сённяшніх змешаных лясоў пачала нагадваць лесастэп. На працягу прыкладна тысячы гадоў шнуравікі выцеснілі ці асімілявалі неалітычныя плямёны на вялізных абшарах Рускай раўніны, засялілі Польшчу і Прыбалтыку, дасягнулі Волга-Окскага міжрэчча. Вельмі падобныя працэсы ахапілі ў той жа час Чэхію, Германію і Скандынавію.

Многія археолагі менавіта з рассяленнем шнуравікоў звязваюць распад індаеўрапейскага моўнага адзінства, яго падзел на асобныя групы. У шнуравіках Рускай раўніны, у прыватнасці, бачаць старажытных прабалтаў і праславян. Аднак ёсць аргументы і супраць гэтай думкі. Факты сведчаць, што практычна ва ўсім арэале культур баявых сякер пазней адбываліся новыя міграцыі, а гэта значыць, што ніводная

з гэтых культур не звязана непарыўным ланцужком пераемнасці з бясспрэчнымі індаеўрапейцамі. Хутчэй, яны належалі да нейкай іншай моўнай сям’і. Вось вам і цэлае сузор’е «народаў-ікс»!

Што ж да індаеўрапейцаў, то яны, хутчэй за ўсё, пачалі шырока рассяляцца па Еўропе крыху пазней, 4,5—4 тысячы гадоў назад, і рассяленне іх спярша закранула больш паўднёвыя раёны — Прычарнамор’е і парэчча Дуная.

Між тым, выбух рассялення шнуравікоў каля 4 тысяч гадоў назад ужо ў асноўным скончыўся. Яны падзяліліся на шэраг асобных, хаця і роднасных паміж сабой культур, супакоіліся і трывала аселі на месцы. На Беларусі ўтварыліся паўночнабеларуская, сосніцкая, тшцінецкая культуры. Апошняя мела працяг на тэрыторыі Польшчы. Яны належалі асобным этнічным групам шнуравікоў.

Лясная зона, відаць, не вельмі адпавядала гаспадарчаму укладу, якога прытрымліваліся гэтыя плямёны. Да таго ж яны апынуліся ў пэўнай ізаляцыі ад сусветных культурных цэнтраў, дзе ў той час квітнелі цывілізацыі Егіпта і Міжрэчча. Таму жыццё іх пачало страчваць каларыт папярэдняй фазы, набываць застойны характар.

Тым часам, прыкладна ў інтэрвале 4—3,5 тысяч гадоў назад, з-за Урала на поўнач Рускай раўніны пачало актыўна пранікаць новае насельніцтва — носьбіты культуры турбінска-сеймінскіх бронзаў. Якраз гэты момант найлепш адпавядае з’яўленню ў Еўропе фіна-ўгорскіх народаў. Лепш адаптаваныя да лясной зоны, яны паступова пацяснілі шнуравікоў з вадазбору Волгі і дасягнулі ўсходніх берагоў Балтыкі. У гэты самы час аднекуль з Германіі і заходняй Польшчы ў арэал прыбалтыйскіх шнуравікоў прыйшла іншая этнічная група, якая ўтварыла на тэрыторыі Калінінградскай вобласці культуру заходнябалцкіх курганоў. Вось з гэтай групай можна ўжо даволі ўпэўнена звязваць старажытных балтаў.

Каля 3 тысяч гадоў назад мясцовыя ўмовы сталі канчаткова неспрыяльнымі для ўладальнікаў баявых сякер. Іх культуры прыходзяць у глыбокі заняпад, помнікі становяцца вельмі рэдкімі. Адаптацыі да новых абставін яны дасягнулі прыкладна да VIII—VII стагоддзяў да Н.Х., з пачаткам жалезнага веку. У выніку істотнай культурна-гаспадарчай трансфармацыі ўтварыўся комплекс блізкароднасных культур: днепра-дзвінская, мілаградская, юхнаўская. Да гэтага ж кола трэба далучыць і помнікі цэнтральнай Беларусі, якія адносяцца да культуры штрыхаванай керамікі.

Гэтая культурная супольнасць на поўначы і паўночным усходзе межавала з фінскамоўнымі носьбітамі дзякоўскай культуры, а на паўночным захадзе — з балтамі, якія ў той час засялялі захад Літвы і Калінінградчыну. Вось вам і сітуацыя, пра якую ўскосна сведчаць лінгвістычныя даныя: «народ-ікс» (дакладней — сукупнасць блізкароднасных народаў) паміж бясспрэчнымі балтамі і фінамі. Якраз у гэты час арэал нашчадкаў шнуравікоў супадае з арэалам той самай «балцкай» гідранімії, якая адначасова нагадвае фінскую. Прытым і балты, і фіны-дзякоўцы наслаіліся на тапанімічны пласт, пакінуты шнуравікамі бронзавага веку, так што падабенства нікога не павінна здзіўляць.

Культуры жалезнага веку былі сучаснікамі Старажытнай Элады, у прыватнасці — гісторыка Герадота. Дзякуючы яму мы ведаем назвы народаў, што былі паўночнымі суседзямі скіфаў: неўры, барысфеніты, андрафагі, будзіны. Пра іх атаясамліванне з культурамі «пасляшнуравіковага» арэала можна даведацца з работ Сяргея Рассадзіна. Са свайго боку адзначым, што можна пагадзіцца з неўрскай і барысфеніцкай прыналежнасцю мілаградскай культуры і з месцазнаходжаннем андрафагаў у цэнтральнай Беларусі. Аднак днепра-дзвінскую культуру можна таксама лічыць андрафагскай. Слова гэта — грэчаскае. Як называлі самі сябе тагачасныя жыхары цэнтральнай і паўночнай Беларусі, можна толькі гадаць.

Такая карціна захоўвалася без істотных змен да мяжы III—II стагоддзяў да Н.Х. Потым распачаліся новыя этнічныя рухі. З захаду польскага Памор’я ў вадазбор Прыпяці прыйшоў іншы народ, хутчэй за ўсё — германскі. Гэта быў штуршок да складання новай, зарубінецкай культуры, якая была поліэтнічнай. Апрача

германцаў, яна ўключала ў сябе нашчадкаў усходнепаморскай культуры і нейкі элемент з Цэнтральнай Еўропы, з Сярэдняга Дуная. Верагодна, тады на Прыпяці, у Паднястроўі і Сярэднім Падняпроўі склаўся племянны саюз, на чале якога стаяла добра вядомае антычным аўтарам племя бастарнаў. Іншы (цэнтральнаеўрапейскі ці ўсходнепаморскі) кампанент у складзе гэтага саюза, напэўна, насіў імя венетаў. На нашу думку, гэта якраз той момант, які найлепш адпавядае з'яўленню на Беларусі непасрэдных продкаў славян.

Спярша праславяне-венеты былі падначаленым элементам бастарнскага саюзу, як бы хаваліся ў яго цені. Але ў I стагоддзі ад Н.Х. бастарны пацярпелі жорсткае паражэнне ад сарматаў. З гэтага моманту зарубінецкая культура распадаецца на шэраг асобных варыянтаў, яе носьбіты пачынаюць актыўна пранікаць на тэрыторыі суседніх юхнаўскай і днепра-дзвінскай культур. Якраз тады рымскі гісторык Тацыт упершыню паведамляе пра шматлюдны народ венетаў, які пануе на абшарах паміж пеўкінамі (прыкарпацкім народам, які раней таксама ўваходзіў у бастарнскі саюз) і фенамі (фінамі, носьбітамі дзякоўскай і роднасных ёй культур). На працягу канца I і II стагоддзяў ад Н.Х. у зарубінецкім, днепра-дзвінскім і юхнаўскім арэалах адбылася глыбокая трансфармацыя. Утвараецца новы племянны саюз, увасабленнем якога стала кіеўская культура. Першую ролю ў ім яўна адыгрывалі венеты, якія паглынулі рэшткі бастарнаў, юхнаўцаў-будзінаў і, магчыма, асобныя групы штрыхавікоў. Але асноўны масіў культуры штрыхаванай керамікі захаваўся і па-ранейшаму ахопліваў цэнтр, паўночны захад Беларусі і ўсход Літвы.

Не зусім зразумела, чым скончылася ўзаемадзеянне венетаў з носьбітамі днепра-дзвінскай культуры. Вынікам яго стала ўтварэнне так званай сярэднетушамлянскай культуры, падобнай адначасова і на кіеўскую, і на папярэднюю днепра-дзвінскую. Большасць даследчыкаў усё ж лічыць, што ў Падзвінні і на Смаленшчыне мясцовы кампанент перамог, і прышлыя венеты растварыліся ў масіве днепрадзвінцаў.

Новы расклад праіснаваў нядоўга. Наступны штуршок быў выкліканы падзеямі на Украіне, дзе каля 375 г. ад Н.Х. шматэтнічная протадзяржава готаў была разгромлена гунамі. Частка готаў увайшла ў гунскі саюз, і якраз з гэтым момантам гоцкі гісторык Іардан звязвае першае ўжыванне новага імені венетаў — анты. Менавіта з анцкім «каралём» Бозам ваяваў тады гоцкі конунг Вінітарый. Той жа Іардан адзначае, што ў яго час (сярэдзіна VI стагоддзя) венеты былі вядомы пад імёнамі антаў і склавенаў (славян).

Пасля перасялення готаў і гунаў у парэчча Дуная (V стагоддзе) украінскія лесастэпы засталіся амаль незаселенымі, і менавіта славяне выкарысталі гэта для імклівага рассялення. У той час складваецца пражска-карчацкая культура, славянская прыналежнасць якой не выклікае сумнення. Яна распаўсюдзілася да Чорнага мора і Дуная, а паўночны ўскраек яе ахопліваў вадазбор Прыпяці.

Масавы адліў славян на поўдзень выклікаў актывізацыю балтаў. Яны ўступаюць у актыўны кантакт з тымі нашчадкамі венетаў, якія засталіся ў старым арэале кіеўскай культуры, а таксама з сярэднетушамлянцамі. Вынікам гэтага кантакту стала фарміраванне да VI стагоддзя на большасці беларускай тэрыторыі вельмі падобных між сабой культур: банцараўскай, верхнетушамлянскай і калочынскай. Адначасова на захадзе былога арэала штрыхавікоў, ва ўсходняй Літве, утвараецца культура ўсходнелітоўскіх курганоў, якая належала продкам сучасных літоўцаў.

Банцараўская і роднасныя ёй культуры былі, напэўна, шматэтнічнымі. Без венетаў-славян там яўна не абышлося, але галоўная роля належала прышлым з захаду балтам, расселеным уперамешку з нашчадкамі андрафагаў. Якраз тады балты і маглі ўспрыняць андрафагскую тапаніміку, перайначыўшы яе на свой лад у «яблыні» і «арэхі». Для рэшткаў таямнічага «народа-ікс» гэта быў апошні акт іх гістарычнай драмы. Наўрад ці ад іх нешта засталося да таго часу, калі ў VIII—IX стагоддзях новая хваля славянскіх мігрантаў з поўдня прынесла з сабой звычай насыпаць характэрныя паўсферычныя курганы і прывяла да поўнай славянізацыі амаль усёй Беларусі. Геаграфічныя назвы, прыдуманыя некалі шнуравікамі, славяне ўспрымалі ўжо не

**Культурныя арэалы ранняга жалезнага веку**




*1 — культуры фіна-ўгорскіх народаў (дзякоўская і інш.); 2 — культуры балтаў (заходнябалцкія курганы, штрыхаваная кераміка); 3 — скіфскія культуры; 4 — культуры фракійцаў (гетаў);*
лічбамі пазначаны культуры, этнічная прыналежнасць якіх дыскусійная: *1 — днепра-дзвінская; 2 — тыпу ніжняга слоя Лабенiшчыны; 3 — юхнаўская і верхняокская; 4 — мілаградская; 5 — лужыцкая і ўсходнепаморская.*

непасрэдна ад іх нашчадкаў, а ад сваіх сучаснікаў-балтаў.

Такім чынам, выказанае намі меркаванне аб існаванні «народа-ікс», асобнага ад славян, балтаў і фіна-уграў, не супярэчыць прыведзеным вышэй лінгвістычным і археалагічным фактам. На працягу 3,5—4 тысячагоддзяў нават не адзін народ, а некалькі роднасных этнічных груп насялялі Беларусь. Яны зніклі, растварыліся сярод пазнейшых прышэльцаў. Ніколі не загучаць іх забытыя мовы.

Але не бясследна зніклі гэтыя загадкавыя народы. Іх гены і сёння ў значнай ступені вызначаюць фізічнае аблічча беларусаў, іх назвы рэк і азёр гучаць зараз у балцкай і славянскай перапрацоўцы. Яшчэ зусім нядаўна беларускія сяляне надавалі выпадкова знойдзеным баявым сякерам шнуравікоў ролю магічных амулетаў, называлі іх «перуновымі стрэламі». І хто ведае, колькі рыс духоўнай культуры, казак і паданняў запазычылі беларусы ў сваіх далёкіх папярэднікаў, успрынялі ў якасці своеасаблівай эстафеты.

*Друкуецца паводле:*
Чырвоная змена. 23 лістапада 1993. № 117 (13701).

# Новы тып крыніц па дапісьмовай гісторыі і роля гістарычнай інфарматыкі ў ягоным асваенні

Традыцыйна гісторыя чалавецтва ў часы, што папярэднічаюць з'яўленню пісьмовых дакументаў, даследуецца пры дапамозе трох асноўных тыпаў крыніц: звестак археалогіі, параўнальнага мовазнаўства і фізічнай антрапалогіі. У апошняе дзесяцігоддзе з'явіўся якасна новы, яшчэ не ў поўнай меры ацэнены тып крыніц: звесткі генетычнага аналізу ўчасткаў ДНК, якія перадаюцца выключна па мужчынскай альбо жаночай лініі. Гэтыя ўчасткі маюць так званыя генетычныя маркёры — не праяўляемыя на фенатыпічным узроўні мутацыі, якія ў выпадку з нерэкамбінуемымі ўчасткамі Y-храмасомы ўнаследуюцца ад бацькі сынам, у выпадку з мітахандрыяльнай ДНК (мДНК) — ад маці дачкой. Усе носьбіты пэўнай мутацыі, унаследаванай ад бліжэйшага продка, аб'ядноўваюцца ў гаплагрупу. Паколькі ў асобных лініях нашчадкаў былі новыя мутацыі, большасць гаплагруп падзяляецца на больш дробныя падгрупы, утвараючы складаную іерархічную структуру[1]. Прасторавае пашырэнне груп і падгруп можа быць даволі надзейным індыкатарам старажытных міграцый[2].

У апошнія гады адбываецца лавінападобны рост звестак пра мужчынскія і жаночыя гаплагрупы, іх размеркаванне ў розных рэгіёнах Зямлі[3]. Колькасць накопленых даных такая, што ў супастаўленні з археалагічнымі і лінгвістычнымі матэрыяламі яны ўжо сёння дазваляюць праверыць многія гіпотэзы аб старажытнай гісторыі асобных мутацый і вылучыць новыя. Напрыклад, ужо сёння відавочна, што частата распаўсюду некаторых пазнак (асабліва па Y-храмасоме) высокаспецыфічная для ўсходнеславянскіх народаў і адрознівае іх ад бліжэйшых суседзяў — літоўцаў, латышоў, эстонцаў, паволжскіх фінаў.

Папярэдне ўжо можна ставіць пытанне пра адсоткавыя суадносіны славян, якія рассяліліся, і асіміляванага імі субстрату, колькасна выразіць іх ролю ў этнагенезе беларусаў. Устаноўлена, у прыватнасці, што большасць славянскіх папуляцый (палякі, славакі, беларусы, украінцы, рускія цэнтральных і паўднёвых абласцей Расіі) характарызуецца вельмі высокай доляй гаплагрупы R1a1 (40—60 %) у спалучэнні з гаплагрупай I1b1 (10—20 %). Затое нашы найбліжэйшыя суседзі, літоўцы і латышы, пры прыкладна такой жа канцэнтрацыі гаплагрупы R1a1 (на ўзроўні 40—45 %) амаль не маюць у сваім складзе носьбітаў гаплагрупы I1b1 (у іх яна сустракаецца не часцей чым у 1—2 % выпадкаў). Затое ў іх вельмі высокая доля гаплагрупы N3a1, носьбіты якой складаюць парадку 30—40 %. Сярод славян яна сустракаецца значна радзей: у паўднёвых і цэнтральных рускіх — ад 10 да 15 %, у беларусаў — 8—10 %, ва ўкраінцаў — 6—10 %. Сярод палякаў і чэхаў яе частата — 2—4 %, у паўднёвых славян яна практычна адсутнічае.

Калі меркаваць, што ў старажытных насельнікаў Беларусі, якіх часта вызначаюць паняццем «балцкі субстрат», частата гаплагруп I1b1 і N3a1 была блізкая да іх частаты

---

[1] Степанов В.А., Харьков В.Н., Пузырев В.П. Эволюция и филогеография линий Y-хромосомы человека // Вестник ВОГиС. 2006. Т. 10. № 1. С. 57—73; Малярчук Б.А., Деренко М.В. Филогеографические аспекты изменчивости митохондриального генома человека // Вестник ВОГиС. 2006. Т. 10. № 1. С. 41—56.

[2] З папулярнай літаратуры на рускай мове можна рэкамендаваць: Сайкс Б. Расшифрованный код Ледового человека: От кого мы произошли, или Семь дочерей Евы / Пер. с англ. М.: РИПОЛ Классик, 2005; Оппенгеймер С. Изгнание из Эдема. Хроники демографического взрыва. М.: ЭКСМО, 2004.

[3] Геногеографическое изучение генофонда Евразии // http://genofond.ru/about. asp?site_id=l582&part_id=l001&module_id=l 051.

ў сучасных балтаў, становіцца відавочным, што іх уклад у сучасны склад насельніцтва быў вельмі малаважным. Такім чынам, версію пра тое, што беларусы ўяўляюць з сябе не столькі славян, колькі «аславяненых балтаў», можна лічыць вычарпанай.

Акрамя кропкавых мутацый, па якіх робіцца вызначэнне гаплагруп, у храмасомах існуюць яшчэ ўчасткі з паўтаральнымі паслядоўнасцямі нуклеатыдаў, так званыя мікрасатэліты[4]. Па ліку паўтораў у такіх участках Y-храмасомы таксама адрозніваюцца, што дазваляе выяўляць групы людзей з аднолькавымі спалучэннямі паўтораў у пэўных мікрасатэлітах. У адрозненне ад гаплагруп, такія супольнасці прынята зваць гаплатыпамі. Змены ліку паўтораў у мікрасатэлітных участках адбываюцца значна часцей за мутацыі, па якіх вылучаюцца гаплагрупы. Разнастайнасць гаплатыпаў у носьбітаў адной гаплагрупы звычайна выкарыстоўваецца для ацэнкі ўзросту мутацыі, якая яе вызначае.

Але, акрамя гэтага, сукупнае размеркаванне гаплатыпаў мае самастойнае значэнне. У розных частках айкумены іх частоты моцна адрозніваюцца, што дазваляе рэканструяваць параўнальна нядаўнія мутацыі, што адбываліся ад некалькіх тысячагоддзяў да некалькіх стагоддзяў таму[5]. Улік мікрасатэлітнай зменлівасці дазваляе ўдакладніць і ўяўленні аб прарадзіме славян. Гэтую прарадзіму трэба шукаць там, дзе сустрэты найбольшы лік уласцівых славянам гаплатыпаў. Папярэднія даныя сведчаць, што раён іх максімальнай канцэнтрацыі прыходзіцца на сярэдняе Падняпроўе ўключна з паўднёвым усходам Беларусі (арэал кіеўскай археалагічнай культуры). Менавіта адгэтуль, мабыць, характэрныя гаплатыпы былі разнесеныя ў працэсе славянскай міграцыі па шырокіх прасторах Еўропы, дзе яны аказаліся часткова разведзенымі мясцовымі, субстратнымі гаплатыпамі[6].

Вельмі важна, каб новы масіў інфармацыі быў засвоены гісторыкамі, большасць з якіх пра яго пакуль ведае толькі па чутках альбо не ведае зусім. Але традыцыйным гісторыкам засваенне гэтых звестак даецца нялёгка. Новы тып крыніц звычайна прадстаўлены ў выглядзе табліц і баз даных. Значная іх частка выстаўленая ў адкрытым доступе ў інтэрнэце, і ўжо сёння любы ахвотны можа азнаёміцца з частатой сустракаемасці тых альбо іншых пазнак у сотнях выбарак, якія ахопліваюць дзясяткі тысяч індывідаў. Адзінае, што для гэтага трэба, дык гэта валоданне пэўным мінімумам інфармацыйных тэхналогій, уключаючы навыкі пошуку інфармацыі ў інтэрнэце, уменне ператвараць яе ў патрэбны фармат, упарадкоўваць і аблічваць. Іншымі словамі, нават першасны доступ да такіх крыніц магчымы толькі для тых, хто валодае інструментарыем гістарычнай інфарматыкі.

З’яўленне новага тыпу крыніц не сталася незаўважаным для актыўных карыстальнікаў інтэрнэту. На многіх форумах адбываецца актыўнае абмеркаванне новых магчымасцей, даюцца спробы іх гістарычнай інтэрпрэтацыі. У сусветным маштабе найбольш актыўны форум амерыканскай кампаніі «Family Tree DNA» (http://www.familytreedna.com/forum/). Можна адзначыць таксама англамоўны блог Дыенекеса Пантыкаса (http://dienekes.blogspot.com/), на якім рэгулярна з’яўляюцца паведамленні пра новыя публікацыі і праходзіць іх абмеркаванне.

У рускамоўным інтэрнэце гэтай тэматыцы цалкам прысвечаныя сайты «ДНК-древо» (http://dnatree.ru/index.php) і «Молекулярная генеалогия» (http://www.molgen.org/index.php). Характэрна, што прафесіянальныя гісторыкі ў дыскусіях на іх форумах пакуль не ўдзельнічаюць. Вядучая роля належыць людзям з базавай адукацыяй, а часцяком — і досведам навуковай дзейнасці ў тэхнічных дысцыплінах, якія актыўна цікавяцца гісторыяй і генеалогіяй. Адзін з такіх людзей — прафесар Анатолій Клёсаў (цяпер жыве ў ЗША). У серыі інтэрнэт-публікацый і праз актыўны

[4] De Knijff P., Kayscr M., Caglia A., et al. Chromosome Y Microsatellites: Population Genetic and Evolutionary Aspects // Int. J. Legal Med. 1997. 110:134—140.

[5] Roewer L., Croucher P.J.P., Willuweit S., et al. Signature of Recent Historical Events in the European Ychromosomal STR Haplotype Distribution // J. Hum. Genet. 2005. 116:279—291.

[6] Rębała K., Mikulich A.I., Tsybovsky I.S., et al. Y-STR variation among Slavs: evidence for the Slavic homeland in the middle Dnieper basin // J. Hum. Genet. 2007. 52 (5):406—14.

ўдзел у форумах ён не толькі папулярызуе тэматыку «ДНК-генеалогіі», як ён называе гэты напрамак[7], але і спрабуе прапанаваць гістарычныя інтэрпрэтацыі[8]. Цікава, што спроба крытыкі з боку іншага навукоўца-фізіка, здзейсненая быццам бы «з гістарычных пазіцый», паказала проста ўражваючую глыбіню непаразумення паміж людзьмі, якія цікавяцца нібыта адной тэмай[9].

Пабудовы А. Клёсава сапраўды крыху наіўныя ў гістарычным плане, хаця ніхто з гісторыкаў пакуль што гэта пераканаўча не прадэманстраваў. Сучаснае размеркаванне генетычных пазнак у папуляцыях з'яўляецца вынікам некалькіх паралельных, але розных паводле сваёй сутнасці працэсаў: засялення новых тэрыторый, пры якім папуляцыя як бы кансервуе ўнікальны набор пазнак, характэрны для першапасяленцаў (эфект заснавальніка); выпадковых змен у суадносінах носьбітаў асобных мутацый падчас вымірання адных генеалагічных ліній і разрастання іншых (генетычны дрэйф); рэзкага скарачэння генетычнай разнастайнасці ў выпадках падзення колькасці папуляцый і іх паўторнага разрастання (эфект «бутэлькавага рыльца»); змяшэння народаў у выніку працяглай дыфузіі генаў альбо аднамомантавых міграцый, паглынання вялікіх груп чужынцаў у працэсе асіміляцыі.

Перш чым пераходзіць да высноў, трэба ацаніць магчымую ролю кожнага з гэтых фактараў у тым ці іншым выпадку. Гэта не проста нават для папуляцыйных генетыкаў, якія першымі апісалі вышэйзгаданыя эфекты. У іх ранніх спробах даць уласныя гістарычныя інтэрпрэтацыі, як правіла, перабольшвалася роля аднаго з фактараў і недаацэньвалася роля іншага. Больш строгі падыход яшчэ трэба выпрацаваць, і без удзелу гісторыкаў гэта наўрад ці будзе дасягальна. Уяўляецца, што пасоўванне ў глыб часоў павінна адбывацца падобна таму, як праводзяцца археалагічныя раскопкі — паслядоўна, пласт за пластом. Аналіз сучасных папуляцый павінен стаць адпраўной кропкай для рэканструкцыі сітуацыі, якая папярэднічала найбольш познім, гістарычна зафіксаваным міграцыям. У сваю чаргу, гэтая рэканструкцыя можа паслужыць падставай для ўзнаўлення яшчэ больш ранніх перасяленняў. Пры гэтым прапускаць звёны ў ланцугу, «скачучы» адразу ў палеаліт або хоць бы бронзавы век, было б памылкай.

Удакладненыя метады статыстычнага аналізу і камп'ютарнага мадэлявання дазваляюць зрабіць гэта даволі дакладна. У прыватнасці, імітацыйная мадэль з'яўляецца неацэнным інструментам пры ацэнцы ролі генетычнага дрэйфу, а таксама ўзросту той альбо іншай мутацыі (аддаленне чальцоў гаплагрупы ад бліжэйшага агульнага продка).

Але для таго, каб пісьменна выкарыстаць гэтыя метады, патрэбная адпаведная гістарычная падрыхтоўка: «чысты» генетык альбо матэматык проста не будзе ведаць, якое пытанне трэба задаць новаму тыпу крыніц, альбо не зверне ўвагі на важныя падрабязнасці. Глыбокі аналіз і інтэрпрэтацыя даных «ДНК-генеалогіі» (таксама ў сеціве сустракаецца тэрмін «генаграфія») немагчымыя без пісьменнага спалучэння метадаў папуляцыйнай генетыкі, матэматыкі з глыбокім веданнем уласна гістарычных (археалагічных, палеалінгвістычных, антрапалагічных) сведчанняў.

Мы становімся ўдзельнікамі новага этапу ў развіцці гістарычнай навукі, калі для атрымання новых ведаў неабавязкова праводзіць дарагія археалагічныя экспедыцыі альбо шматгадовыя пошукі. Некаторыя адказы можна атрымаць, маючы толькі доступ у інтэрнэт і валодаючы наборам пэўных метадаў. Але метады гэтыя адносяцца да сферы іншых навук, у тым ліку і тых, якія яшчэ некалькі гадоў таму ніхто не адважыўся б назваць сумежнымі.

---

[7] Клёсов А. Се-человек // http://www.lebed.com/2006/art4606.htm; Клёсов А. Поиски пропавших колен израилевых с помощью ДНК-генеалогии // http://berkovich-zametki.com/2007/Zametki/Nomer5/Klyosov1.htm.

[8] Клёсов Л. Хинди-Руси бхай бхай с точки зрения ДНК генеалогии, или Откуда есть пошли славяне // http://www.lebed.com/2007/art5034.htm.

[9] Кирьяко А. Вопросы по поводу ДНК-генеалогии (или «история vs ДПК-генеалогии») // http://dnatree.ru/index.php?name=Forums&file=viewtopic&t=293&postdays=0&postorder=asc&start=0.

Мы звыкліся з такімі відамі супрацоўніцтва, як сумесная праца гісторыкаў з лінгвістамі, палеакліматолагамі альбо спецыялістамі па вывучэнні касцявых парэштаў. Развіццё гістарычнай інфарматыкі зрабіла калі не звыклым, то не выклікаючым асаблівых эмоцый узаемадзеянне гісторыкаў з матэматыкамі. Цяпер у бліжэйшай перспектыве стаіць з'яўленне сумесных камандаў гісторыкаў і археолагаў з генетыкамі і нават крыміналістамі (для здабыцця ДНК са старажытных парэшткаў выкарыстоўваюцца распрацаваныя імі метады). Роля матэматычнага інструментарыю пры гэтым узрастае шматкроць, але яшчэ больш важнай становіцца здольнасць цікавіцца новым, выходзіць па-за межы звыклых метадаў і ўяўленняў. Хочацца спадзявацца, што прыхільнікі гістарычнай інфарматыкі і тут апынуцца ў першых шэрагах.

*Перакладзена з рускай мовы паводле:*
Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі:
Матэрыялы V Міжнароднай навуковай канферэнцыі
(24—25 кастрычніка 2007 г.). Полацк: НПГКМЗ, 2009. С. 376—380.

# Асноўныя вехі этнагенезу беларусаў

Беларускі этнас паўстаў у выніку працяглых гістарычных працэсаў. Яго этнакультурны падмурак склаўся ў эпохі антычнасці і ранняга сярэднявечча, але пасля гэтага беларусы прайшлі яшчэ доўгі шлях, перш чым набылі сучаснае імя і дакладную самасвядомасць. Ключавымі вехамі на гэтым шляху варта лічыць фармаванне праславянскага этнічнага масіву і яго адасабленне ад балтаў і іншых індаеўрапейцаў, фармаванне ўласна славянскага этнасу, рассяленне славян на тэрыторыі Беларусі і іх узаемадзеянне з субстратным насельніцтвам, адасабленне ўсходніх славян у рамках старажытнарускай цывілізацыі, падзел «рускіх» жыхароў ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы і, нарэшце, аддзяленне беларусаў ад украінцаў пасля Люблінскай уніі.

**Вытокі славянства**

Гістарычныя карані славянскіх моў, да ліку якіх належыць і беларуская, сыходзяць у эпоху, як мінімум, позняга бронзавага веку. Да гэтага часу адносіцца існаванне старажытнаеўрапейскай моўнай агульнасці, пастулюемай лінгвістамі. Упершыню навукова абгрунтаваў яе ў сярэдзіне XX стагоддзя Г. Крае. Ён прыйшоў да высновы, што ў мінулым існавала прастора, на якой цесна кантактавалі продкі італікаў, кельтаў, ілірыйцаў, германцаў, славян і балтаў. У гэты ж пералік уваходзілі і венеты — адрыятычныя (ад іх імя паходзіць назва сучаснай Венецыі), а па меркаванні шматлікіх даследчыкаў — і іншыя, якія згадваюцца антычнымі аўтарамі ў Ілірыі, Брэтані, на паўднёвым узбярэжжы Балтыкі. Старажытнаеўрапейская супольнасць існавала ўжо пасля таго, як ад старажытнага індаеўрапейскага ствала аддзяліліся продкі хетаў, індаарыяў, грэкаў, армянаў, фракійцаў[1].

Найлепшай археалагічнай адпаведнасцю з'яўляецца культурная супольнасць палёў пахавальных урнаў, якая існавала ў познім бронзавым веку (прыкладна з сярэдзіны XIV ст. да н.э.) на тэрыторыі Цэнтральнай Еўропы. Можна пагадзіцца з меркаваннем В.В. Сядова, што распаду старажытнаеўрапейскай моўнай супольнасці добра адпавядае ўтварэнне ў фінале бронзавага і пачатку жалезнага вякоў (з X па VI стст. да н.э.) шэрага самастойных культур у арэале палёў пахавальных урнаў і зоне яго ўплыву: заходнегальштацкай (кельты), усходнегальштацкай і затым ілірыйскага гальштату (ілірыйцы), віланова (італікі), ясторфскай (германцы), эстэ (адрыятычныя венеты), заходнебалтыйскіх курганоў (балты), а таксама розных груп лужыцкай культуры і вытворнай ад яе паморскай[2]. Некаторыя спецыялісты дапускалі, што сам этнонім «венеты» паўстаў у лужыцкім арэале і менавіта з яго спадчынай варта звязваць пазнейшыя звесткі пра прыбалтыйскіх венетаў[3].

Варта адзначыць, што існуе альтэрнатыўная лакалізацыя старажытнаеўрапейскай супольнасці — яе звязваюць з арэалам культур шнуравой керамікі. Сярод даследчыкаў, якія вывучаюць толькі гісторыю ўсходнееўрапейскіх народаў, яна вельмі распаўсюджаная. Але пры сістэмным падыходзе, з улікам гісторыі ўсёй Еўропы, становіцца відавочным цэлы шэраг супярэчнасцей. Па-першае, гэтая канцэпцыя супярэчыць высновам лінгвістаў аб агульнасці балта-славяна-германскага моўнага арэала з кельта-іліра-італійскім. Сувязі паміж імі маглі б існаваць толькі ў час так

---

[1] Гамкрелидзе Т.В., Иванов В.В. Индоевропейский язык и индоевропейцы. Реконструкция и историко-типологический анализ праязыка и пракультуры. Т. 1. Тбилиси, 1984. С. 422—423; Седов В.В. Этногенез ранних славян // Вестник Российской академии наук. 2003. Т. 73. № 7. С. 594—605.

[2] Монгайт А.Л. Археология Западной Европы. Бронзовый и железный века. Москва, 1974; Седов В.В. Этногенез ранних славян.

[3] Miločič V. Zur Frage der «Lausitzer Wanderund» // Germania. 1952. Bd. 30. S. 318—325; Хенсель В. Венеты, венеды и их связь с населением Северной Италии и Польши // Древности славян и Руси. Москва, 1988. С. 158—161.

**Мал. 1. Распад старажытнаеўрапейскай супольнасці** (паводле В.В. Сядова)




а — арэал сярэднееўрапейскай культурна-гістарычнай супольнасці палёў пахавальных урнаў; б — асноўныя напрамкі рассялення; в — арэал заходнегальштацкай культуры; г — ясторфскай культуры; д — культуры падклёшавых пахаванняў; е — паморскай культуры (ускраінныя балты); ж — заходнябалцкіх курганоў; з — культуры італійскіх плямёнаў; и — усходнегальштацкай культуры; к — культуры эстэ.

званага агульнаеўрапейскага гарызонту шнуравой керамікі, які адносіцца да позняга неаліту, згодна з калібраванымі радыевугляроднымі датамі — каля 2900—2500 гг. да н.э. Такая дата падзелу выглядае занадта ранняй. Агульнымі для індаеўрапейскіх моў (у тым ліку і тых, што адасобіліся задоўга да стадыі старажытнаеўрапейскай еднасці) з’яўляюцца назвы сакральнага цара (рэкса), бронзы (медзі) і каштоўных металаў, мяча, колавай павозкі і дэталяў конскай вупражы, тэрмінаў кавальскай справы, куплі-продажу і валодання ўласнасцю[4]. Усё гэта адпавядае рэаліям хутчэй бронзавага века, чым неаліту.

Калі ж прыняць старажытнаеўрапейскую атрыбуцыю культурнай супольнасці пахавальных урнаў, то час яе распаду значна лепш суадносіцца з усім комплексам вядомых фактаў. У цэлым гэта адпавядае поглядам В.В. Сядова[5], але з адным істотным удакладненнем: ён звязваў з культурай курганоў толькі заходніх балтаў (продкаў прусаў і яцвягаў), а продкамі літоўцаў і латышоў лічыў носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Але апошняя сфармавалася незалежна ад супольнасці палёў пахавальных урнаў, на аснове сінтэзу позніх культур шнуравой керамікі і перажытачных культур «ляснога неаліту». Яе носьбіты ніяк не маглі мець адносін да балта-італійскіх кантактаў. Такім чынам, культура шнуравой керамікі магла адыграць у этнагенезе балтаў толькі ролю субстрату. Гэта, дарэчы, не супярэчыць і найноўшым

[4] Гамкрелидзе Т.В., Иванов В.В. Индоевропейский язык и индоевропейцы. Т. 2. С. 709—752.
[5] Седов В.В. Этногенез ранних славян.

археалагічным даным. Зрэшты, да канцэпцыі «дняпроўскіх балтаў», прыхільнікам якой быў Сядоў[6], мы яшчэ не раз вернемся.

Што тычыцца этнагенезу славян, то найбольшую цікавасць у гэтай перспектыве набывае паморская культура (называецца ў літаратуры таксама ўсходнепаморскай, паморска-падклёшавай), якая склалася на базе адной з груп лужыцкай культуры ў V ст. да н.э. Вышэй ужо згадвалася магчымая сувязь лужыцкай культуры з прарадзімай венетаў. Падставай для такой здагадкі служыць прыведзеная шэрагам антычных аўтараў (Гесіёд, Эсхіл, Эўрыпід, Нікандр і інш.) міфалагічная традыцыя аб бурштынавай рацэ Эрыдан, цьмяна асацыяванай з краінай венетаў[7]. Пазней, у рымскія часы, гэты сюжэт быў атаясамлены з ракой Пад (По) і землямі адрыятычных венетаў, пра што піша Пліній Старэйшы ў сваёй «Натуральнай гісторыі»[8]. Аднак радовішчаў бурштыну, супастаўляльных з балтыйскімі, там няма. Пры гэтым рымскія аўтары I—II стст. н.э. размяшчалі на паўднёвым узбярэжжы Балтыкі нейкіх іншых венетаў (венедаў), адрозных ад адрыятычных, пра што гаворка яшчэ пойдзе ніжэй. Страбону ў пачатку I ст. н.э. была вядомая версія пра тое, што адрыятычныя венеты з'яўляюцца каланістамі аднайменнага народа (які ён адносіў да кельтаў), што жыў дзесьці на беразе Акіяна.

З часоў Плінія існуюць розныя тлумачэнні сувязі бурштыну з венетамі. Магчыма, адрыятычныя венеты першымі наладзілі гандлёвыя сувязі з Прыбалтыкай праз сваю гіпатэтычную прарадзіму ў басейне Віслы (найбольш верагоднага прэтэндэнта на ролю першапачатковага Эрыдана) і пазнаёмілі грэкаў з бурштынам, у сувязі з чым іх краіна стала ўспрымацца як радзіма гэтага выкапня.

Усё гэта служыць аргументамі на карысць выказваемай шматлікімі даследчыкамі гіпотэзы пра тое, што носьбіты паморскай культуры маглі, падобна сваім далёкім сваякам з даліны По, называцца венетамі або венедамі. Хоць гэтую гіпотэзу прымаюць далёка не ўсе, яна дазваляе пабудаваць найменш супярэчлівую канцэпцыю паходжання славян. Гэта не азначае, што паморскіх і тым больш адрыятычных венетаў варта наўпрост лічыць славянамі. То былі роднасныя этнасы з мовамі старажытнаеўрапейскага паходжання, якія адрозніваліся паміж сабой прыкладна гэтак жа, як і ад іншых моў той жа групы — прабалцкай (носьбіты культуры заходнебалтыйскіх курганоў), прагерманскай (ясторфская культура) і інш. Але мову носьбітаў паморскай культуры варта лічыць той асновай, на якой тысячагоддзем пазней склалася ўласна славянская мова. Іншых прэтэндэнтаў на гэтую ролю проста не застаецца, бо астатнія культуры гэтага кола або не мелі непасрэднага працягу, або надзейна звязваюцца з іншымі этнасамі.

Гэта значыць, што першы этап этнагенезу славян працякаў у асноўным на землях сучаснай Польшчы. Толькі на крайнім паўднёвым захадзе, у раёне Брэста, паморская культура пранікала на беларускую тэрыторыю. Астатняя частка Беларусі была занятая культурамі, у складванні якіх асноўны ўклад зрабілі нашчадкі старажытнай супольнасці шнуравой керамікі. Ім належала адыграць ролю субстрату для будучых беларусаў, а таксама рускіх, літоўцаў, латышоў і ў нейкай меры — фінскіх народаў (фармаванне якіх адбывалася ў гэты ж час у арэале ананьінскай, познакаргапальскай і лукансаарскай культур на поўначы Усходняй Еўропы).

Часцей за ўсё мова гэтага субстрату лічыцца роднаснай адной з цяпер існуючых моўных груп, а менавіта балцкай. Для абгрунтавання гэтага прыцягваюцца даныя гідранімії[9], але спосаб, якім гэта робіцца, спарадзіў, на нашу думку, найбольш сур'ёзную цяжкасць для вырашэння праблемы этнагенезу славян. Справа ў тым,

[6] Седов В.В. Днепровские балты // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985. С. 20—29.

[7] Kolendo J. Świat antyczny i barbarzyńcy: Teksty, zabytki, refleksja nad przeszłością. Seria podręczników. T. 1. Warszawa, 1998.

[8] Плиний Секунд Г. Естественная история // Латышев В.В. Известия древних писателей греческих и латинских о Скифии и Кавказе // Вестник древней истории. 1949. № 2.

[9] Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. Москва, 1962.

**Мал. 2. Арэал паморска-падклёшавай культуры ў V—IV стст. да н.э.**
(паводле В.В. Сядова)




а — могільнікі з падклёшавымі пахаваннямі; б — першапачатковы рэгіён паморскай культуры; в — тэрыторыя рассялення плямёнаў паморской культуры; г — арэал лужыцкай культуры; д — ясторфскай культуры (германцы); е — заходняга гальштату (кельты); ж — усходняга гальштату (ілірыйцы); з — заходнябалцкіх кurганоў (балты); и — штрыхаванай керамікі (паводле В. Сядова — тэрыторыя ўсходніх балтаў); к — мілаградскай культуры; л — скіфскай культуры; м — дакійскіх плямёнаў.

што лінгвісты звычайна зыходзяць са здагадкі, што ў мінулым існаваў прыкладна такі ж набор моў, як і цяпер. Спрабуючы патлумачыць нейкую геаграфічную назву, незразумелую для цяперашніх жыхароў, яны шукаюць адпаведнасці ў іншых сучасных мовах і, як правіла, знаходзяць. Але пра тое, што гэты метад небездакорны, кажа той факт, што часам аднолькава пераканаўчыя этымалогіі знаходзяцца адразу ў некалькіх, прычым безумоўна няроднасных мовах. Так, на тэрыторыі Беларусі, а таксама на поўнач і ўсход ад яе, вядомы цэлы шэраг тапонімаў, якія знаходзяць паралелі адначасова ў балцкіх і фіна-ўгорскіх мовах. Гэта адносіцца, у прыватнасці,

да гідронімаў Ловаць, Пола, Тосна, Цна, Нарва і інш. Ці азначае гэта, што на гэтай тэрыторыі жылі некалі продкі альбо балтаў, альбо фінаў, як мяркуюць удзельнікі зацягнутай «балта-фінскай дыскусіі»[10]? Зусім неабавязкова. У мінулым, несумненна, існавалі моўныя групы, якія цалкам зніклі. І балты, і фіны маглі запазычаць словы, на падставе якіх будуюцца этымалогіі, з нейкай агульнай крыніцы.

Характэрна, што гідранімія, якая мае прамыя аналогіі ў Літве і Латвіі, у апошнія дзесяцігоддзі выяўлена практычна на ўсіх тэрыторыях, дзе некалі былі распаўсюджаны культуры шнуравой керамікі: не толькі ў верхнім Падняпроўі[11], але на верхнім Доне[12], у вадазборах Акі[13], Віслы і Одэра[14], а таксама па ўсёй Наўгародскай зямлі[15], дзе пра прысутнасць балтаў у жалезным веку гаварыць ужо ніяк не прыходзіцца. Працягваючы па інерцыі называць гэтую гідранімію «балцкай», лінгвісты блытаюцца самі і заблытваюць чытачоў. Яе пакінулі носьбіты старажытных вымерлых моў, рэшткі якіх захаваліся (у якасці запазычанняў) найперш у сучасных балцкіх мовах, але часткова і ў фінскіх. Менавіта гэты запазычаны лексічны пласт вызначае спецыфіку літоўскай і латвійскай мовы, адрознівае іх ад іншых нашчадкаў старажытнаеўрапейскай моўнай супольнасці. Прабалты ўжо на ранняй стадыі свайго этнагенезу паглынулі значную частку старажытнага субстрату, што пацвярджаецца і геаграфіяй генетычных маркёраў. Як будзе паказана ніжэй, паводле найбольш паказальных маркёраў Y-храмасомы літоўцы і латышы практычна не адрозніваюцца ад эстонцаў — прадстаўнікоў фінскай моўнай супольнасці, што наслаіліся на той самы субстрат.

Адрывістыя звесткі пра старажытнае насельніцтва будучай Беларусі дайшлі да нас дзякуючы апісанню Скіфіі і прылеглых зямель, зробленаму ў сярэдзіне V ст. да н.э. Герадотам[16]. Са шматлікіх тлумачэнняў яго звестак адзначым выказаную С.Я. Рассадзіным ідэю аб тым, што рассяленне некаторых народаў, згаданых Герадотам, не можа быць суаднесена з арэаламі археалагічных культур, а прыходзіцца, хутчэй, на іх стыкі[17]. Гэта можа тлумачыцца тым, што іх матэрыяльныя рысы сталі ў гэты час вельмі падобнымі дзякуючы моцнаму «скіфскаму вэлюму» — распаўсюджванню прэстыжных рэчаў, упрыгожанняў, зброі і пэўных светапоглядаў, што надаў гэтым культурам характэрны каларыт. Прастора, часткова закранутая ўплывам скіфаў, археалагічна вызначаецца як мілаградская культура. Больш-менш канкрэтныя звесткі Герадота тычацца толькі яе паўднёвай часткі, якую разам з прылеглай часткай уласна скіфскай лесастэпавай культуры можна звязваць са згаданымі ім неўрамі і скіфамі-землярообамі. Далей на поўнач Герадот размяшчае паўміфічных андрафагаў («людаедаў»). Мабыць, так у свядомасці элінаў адбілася амаль невядомае ім насельніцтва культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай, сацыяльны

[10] Топоров В.Н. К вопросу о древнейших балто-финноугорских контактах по материалам гидронимии // Балто-славянские исследования. 1988—1996. Сборник научных трудов. Москва, 1997. С. 325—331.

[11] Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. Москва, 1962.

[12] Топоров В.Н. Балтийские следы на Верхнем Дону // Балто-славянские исследования. 1988—1996. Москва, 1997. С. 311—324.

[13] Топоров В.Н. Балтийский элемент в гидронимии Поочья. I // Балто-славянские исследования. 1986. Москва, 1988. С. 154—177; Он же. Балтийский элемент в гидронимии Поочья. II // Балто-славянские исследования. 1987. Москва, 1989. С. 47—68; Он же. Балтийский элемент в топонимии Поочья. III // Балто-славянские исследования. 1988—1996. Москва, 1997. С. 276—310; Откупщиков Ю.В. Древняя гидронимия в бассейне Оки // Балто-славянские исследования. XVI. Москва, 2004. С. 83—114.

[14] Орел В.Э. Неславянская гидронимия бассейнов Вислы и Одера // Балто-славянские исследования. 1988—1996. Москва, 1997. С. 332—358.

[15] Васильев В.Л. Древнебалтийская топонимия в районе Новгородской земли // История и археология Новгорода. Вып. 21. Новгород: Новгородский гос. объед. музей-заповедник, 2007.

[16] Геродот. История. Москва, 2007.

[17] Рассадзін С.Я. Землі амаль невядомыя. Будучая Беларусь паводле антычных манускрыптаў. Мінск, 1996.

**Мал. 3. Культуры позняга латэну** (мапа аўтара з выдання: Вялікі гістарычны атлас Беларусі ў 3-х тамах. Т. 1. Мінск: Белкартаграфія, 2009. С. 39)




ўзровень якіх сапраўды выглядае больш прымітыўным у параўнанні з культурамі скіфскага кола.

### Пачатак вялікіх міграцый

Вельмі важны для фармавання будучых беларусаў этап прыпадае на II ст. да н.э. — першую палову I ст. н.э., калі пераемнасць насельніцтва на тэрыторыі Беларусі была парушаная моцнымі міграцыйнымі рухамі. Дамінуючым этнасам у Заходняй і Цэнтральнай Еўропе ў гэты час былі кельты — стваральнікі латэнскай культуры, якая дала назву цэлай эпосе. Культуры, якія скла́ліся пад моцным кельцкім уплывам, археолагі называюць латэнізаванымі (да іх ліку належаць пшэворская, аксыўская, зарубінецкая, паянешці-лукашоўская). Паводле археалагічных звестак, яны сфармаваліся ў выніку хвалі паслядоўных міграцый, зыходным пунктам якіх была ўсходняя ўскраіна ясторфскай культуры — у прыватнасці, яе губінская група, якая ўвабрала моцны субстрат папярэдняй бялавіцкай культуры. Носьбіты і ясторфскай, і бялавіцкай культур з’яўляліся нашчадкамі традыцыі палёў пахавальных урнаў, пры гэтым ясторфская культура даволі

надзейна атаясамліваецца з раннімі германцамі. Ва ўсіх латэнізаваных культурах прасочваецца ясторфскі кампанент, а своеасаблівасці кожнай з іх надае яго спалучэнне з іншымі кампанентамі. Пры гэтым уклад уласна кельтаў уяўляецца археолагам мінімальным. Хутчэй гэта быў кельцкі «вэлюм», які змяніў скіфскі.

Пісьмовых сведчанняў гэтых працэсаў амаль няма. Якраз у гэты перыяд элііністычныя дзяржавы, якія працягвалі лінію развіцця старажытнагрэцкай цывілізацыі, паступова паглыналіся маладой і ваяўнічай Рымскай дзяржавай. Яе гісторыкі не паспелі яшчэ стварыць уласную традыцыю адносна Паўночнага Прычарнамор'я і ў асноўным механічна паўтаралі звесткі сваіх элінскіх папярэднікаў, да якіх ставіліся з вялікім піетэтам. Найбольшую каштоўнасць маюць энцыклапедычныя працы Страбона і Плінія Старэйшага. Напісаныя ў самым канцы латэнскай эпохі, яны ў значнай ступені абапіраюцца на больш ранія ўяўленні. Акрамя таго, існуюць адрывістыя паведамленні рымскіх і грэцкіх аўтараў (Пампей Трог, Ціт Лівій, Псеўда-Скімн і інш.), звязаныя з апісаннем падзей у Македоніі і дзяржаве Мітрыдата Еўпатара, якія акурат тады сталі аб'ектамі рымскай экспансіі, і з нашэсцем прагерманскіх плямёнаў на землі кельтаў на мяжы II—I стст. да н.э. Яны зафіксавалі змену насельніцтва ў нізоўях Дуная, дзе фракійскае племя дакаў стварыла вялікую протадзяржаву, і ў прычарнаморскіх стэпах, дзе на змену скіфам прыйшлі з усходу новыя качэўнікі — сарматы.

У больш паўночных абласцях таксама адбываліся кардынальныя змены. Паморская і мілаградская культуры зніклі ў выніку перасялення з захаду носьбітаў латэнізаваных культур. Галоўную ролю ў гэтай экспансіі адыгрывала групоўка плямёнаў, вядомая пад агульным імем «бастарнаў»[18]. Першая згадка пра іх перамяшчэнне захавалася ў перадачы Пампея Трога і адносіцца прыблізна да 230 г. да н.э. Ужо каля 216 г. да н.э. бастарны фіксуюцца дзесьці ў нізоўях Дуная. Якраз гэтым часам датуецца ўзнікненне пшэворскай, зарубінецкай і паянешці-лукашоўскай культур, у якіх ясторфскі кампанент спалучаецца з македонскімі і іншымі балкана-дунайскімі запазычаннямі, а таксама з рысамі мясцовых папярэдніх культур.

Зарубінецкая культура з'яўляецца сведчаннем таго, што гэтыя працэсы закранулі паўднёвую частку Беларусі. Усе археолагі прызнаюць у яе складзе ясторфскі кампанент, а таксама субстратныя: мілаградскі ў верхнедняпроўскай групе і позняскіфскі ў сярэднедняпроўскай. Неадназначна трактуецца прысутнасць паморскага кампанента. У першых даследаваннях зарубінецкай культуры ён прызнаваўся ледзь ці не галоўным[19], але нядаўна У.Я. Яроменка паспрабаваў даказаць, што паморская культура знікла за некалькі дзесяцігоддзяў да ўзнікнення зарубінецкай. Бясспрэчна датуемых рэчаў, якія прыходзяцца на сярэдзіну III ст. да н.э., на яго думку, няма[20]. Гэтую думку падзяляе і Я.У. Максімаў[21]. У гэтай сувязі прынцыповым выглядае меркаванне К.В. Каспаравай: частка керамічнага комплексу зарубінецкай культуры мае выразныя паралелі ў паморскай кераміцы. Пры дапушчэнні разрыву паміж імі растлумачыць гэтую сувязь немагчыма[22].

---

[18] Щукин М.Б. Проблема бастарнов и этнического определения поянешти-лукашевской и зарубинецкой культур // Петербургский археологический вестник. 1993. Вып. 6; Щукин М.Б. Забытые бастарны // Stratum plus. 1999. № 5. С. 75—90.

[19] Кухаренко Ю.В. К вопросу о происхождении зарубинецкой культуры // Советская археология. 1960. № 1. С. 289—300; Каспарова К.В. Зарубинецкая культура в хронологической системе культур эпохи латена // Археологический сборник Государственного Эрмитажа. 1984. Вып. 25. С. 108—117.

[20] Еременко В.Е. Процесс латенизации археологических общностей позднего предримского времени Восточной Европы и сложение зарубинецкой культуры. Автореф. ... канд. ист. наук. Ленинград, 1990; Еременко В.Е. «Кельтская вуаль» и зарубинецкая культура. СПб., 1997.

[21] Максимов Е.В. О контактах населения Центральной Европы с зарубинецкими племенами Среднего Приднепровья // Stratum plus. 2000. № 4. С. 53—65.

[22] Каспарова К.В. Отзыв на диссертацию Еременко В.Е. «Процесс латенизации археологических общностей позднего предримского времени Восточной Европы и сложение зарубинецкой культуры», представленную к защите на соискание ученой степени к. и. н. // Stratum plus. 2000. № 4. С. 17—19.

Вельмі важныя вынікі колькаснага аналізу керамічных формаў зарубінецкага посуду выкананыя С.П. Пачковай. Паморскія формы прысутнічаюць ва ўсіх варыянтах зарубінецкай культуры, асабліва выразна — у палескай (каля 60 % усёй керамікі) і сярэднедняпроўскай (больш за палову). Ва ўзніклым пазней за іншыя верхнедняпроўскім варыянце такія формы выяўленыя слабей — 35 %, што амаль роўна долі керамікі, што ўзыходзіць да губінскай групы ясторфскай культуры[23]. Гэта пацвярджае выснову Каспаравай пра наяўнасць у зарубінецкай культуры самастойнага паморскага кампанента, адрознага ад ясторфскага.

Што тычыцца храналогіі, то ў тым жа даследаванні Пачковай адзначаныя знаходкі на паморскіх помніках Польшчы зашпілек-фібул, час існавання якіх супадае з раннім перыядам зарубінецкай культуры — 225—180 гг. да н.э. Украінскі даследчык В. Шкарапад наогул датуе позні этап паморскай культуры на Валыні другой паловай II — пачаткам I ст. да н.э. Атрымліваецца, што храналагічнага разрыву паміж паморскай і зарубінецкай культурамі не было[24]. Больш за тое, яны нейкі час суіснавалі.

Наяўнасць выразнага паморскага кампанента ў складзе зарубінецкай культуры дазваляе меркаваць, што яна была поліэтнічнай. Да такой высновы прыходзілі многія даследчыкі. Тая ж С.П. Пачкова тлумачыла яе ўзнікненне прыходам германскага кампанента (уласна бастарнаў або кімвраў і скіраў), якія залучылі ў свае ваяўнічыя дружыны нямала выхадцаў з падначаленых ім плямёнаў. Пасля балканскіх паходаў бастарнаў у 179—175 гг. да н.э., засведчаных антычнымі аўтарамі, адбылася перагрупоўка: уласна ясторфскі кампанент канцэнтруецца пераважна ў прыкарпацкіх землях, дзе дае пачатак паянешцi-лукашоўскай культуры, а прымкнулыя іншапляменнікі вяртаюцца на Палессе і ў Прыдняпроўе, дзе завяршаецца фармаванне зарубінецкай культуры. Такі ж мяшаны характар (ясторфска-паморскі, але без мілаградскага і познаскіфскага субстратаў) вызначае своеасаблівасць аксыўскай і ранняй пшэворскай культур (у складванні апошняй маглі прымаць удзел таксама кельты).

У сярэдзіне II ст. да н.э., па назіраннях У.Я. Яроменкі, сувязі зарубінцаў з роднаснымі латэнізаванымі культурамі часова перарываюцца. У гэты час іх экспансія скіроўваецца ўверх па Дняпры, дзе на месцы апошніх рэшткаў мілаградскай культуры фармуецца верхнедняпроўскі варыянт зарубінецкай, прадстаўлены помнікамі тыпу Чаплін. На думку Яроменкі, «Чаплін відавочна пакінуты насельніцтвам, якое займала ў зарубінецкай-паянешцкай супольнасці адасобленае становішча»[25]. Як адзначалася вышэй, у гэтым варыянце адсотак паморскіх формаў керамікі зніжаецца, але гэта не абавязкова азначае такое ж зніжэнне колькасці паморскага кампанента: яго нашчадкі маглі пазычаць больш прэстыжныя ясторфскія формы посуду, захоўваючы ранейшую ідэнтычнасць (падобна таму, як пераход на бутэлькі для кока-колы не прыводзіць да амерыканізацыі сучаснага грамадства).

Наступная хваля міграцыі фіксуецца ў арэале латэнізаваных культур у канцы II ст. да н.э., што адпавядае пісьмовым звесткам пра міграцыйны рух кімвраў і тэўтонаў[26]. Перамяшчэнні насельніцтва ў гэты час закранулі ўласна латэнскую, ясторфскую, пшэворскую і аксыўскую культуры, у якіх назіраецца перамешванне культуравызначальных элементаў. Гэтым жа часам датуецца і з’яўленне пшэворскіх помнікаў на Валыні і ў Верхнім Паднястроўі. Зарубінецкі арэал застаецца ў баку ад асноўных міграцый, хоць іх рэха адчуваецца і там. У.Я. Яроменка звяртаў увагу,

---

[23] Пачкова С.П. К вопросу о процессе латенизации зарубинецкой культуры // Stratum plus. 2000. № 4. С. 74—87.

[24] Шкоропад В. Особливості поморсько-кльошовоі культури на Волині // Збірник навчально-методичних матеріалів і наукових статей історичного факультету. Луцьк, 2000. Вип. 5. С. 122—128.

[25] Еременко В.Е. Новые перспективы исследования планиграфии и топохронологии могильников раннего железного века (по материалам зарубинецких могильников Чаплин и Велемичи I) // Stratum plus. 2000. № 4. С. 36—52.

[26] Щукин М.Б., Еременко В.Е. К проблеме кимвров, тевтонов и кельтоскифов: три загадки // Археологический сборник Государственного Эрмитажа. 1999. № 34. С. 134—160.

што жаночыя пахаванні гэтай культуры вельмі падобныя паміж сабой, а мужчынскія разнастайныя, прычым паралелі ім знаходзяцца ў іншых латэнізаваных культурах. Ён інтэрпрэтуе гэта ў тым сэнсе, што ў далёкіх паходах прымала ўдзел мужчынскае насельніцтва ўсіх гэтых культур, часткова змешваючыся ў іх ходзе за кошт прыёму ў родавыя групы новых членаў.

Думку пра сумесны ўдзел у паходах насельніцтва ўсіх латэнізаваных культур Яроменка пацвярджае палеадэмаграфічнымі разлікамі: з усёй тэрыторыі адной культуры маглі выстаўляцца не больш за некалькі тысяч ваяроў, у той час як антычныя аўтары пастаянна ацэньваюць лік удзельнікаў дзясяткамі і нават сотнямі тысяч. Мабыць, кожны паход звязваўся ў пісьмовых крыніцах з дзейнасцю таго племені (бастарнаў, кімвраў, тэўтонаў), якое выступала яго ініцыятарам, а прадстаўнікі іншых плямёнаў фігуравалі ананімна. Так, на падставе характару імпартаў той жа аўтар мяркуе, што носьбіты зарубінецкай культуры мусілі ўдзельнічаць у войнах на землях бояў і маркаманаў у 60—15 гг. да н.э. Адзначым, што крыху раней бастарны выступаюць наймітамі ў войнах Мітрыдата з Рымам на берагах Чорнага мора.

Вынік гэтых складаных працэсаў фіксуе «Геаграфія» Страбона[27]. Даследчыкі мяркуюць, што асноўны масіў яе звестак адносіцца да І ст. да н.э. У мясцовасцях, якія адпавядаюць арэалу пшэворскай культуры, Страбон упершыню згадвае германскі народ лугіяў, добра вядомы пазнейшым аўтарам (у познярымскі час іх нашчадкі зваліся вандаламі). Верагодна, племянны саюз лугіяў склаўся ў працэсе міграцыйных рухаў канца ІІ ст. да н.э. Дамінуючым у ім, несумненна, быў германскі (ясторфскі) кампанент. Рассяленне ж бастарнаў Страбон лакалізуе ад вусця Дуная (там побач з выспай Пеўка жыло адно з бастарнскіх плямёнаў — пеўкіны, верагодныя носьбіты паянешці-лукашоўскай культуры) да Барысфена-Дняпра, за якім да Танаіса-Дона жыў ужо сармацкі народ раксаланаў (таксама залічаны Страбонам у склад бастарнаў, што магло тлумачыцца іх сумесным удзелам у саюзе з Мітрыдатам). Акрамя пеўкінаў, Страбон называе дзве асноўныя групы бастарнаў «у глыбіні мацерыка»: атмонаў і сідонаў. Магчыма, яны адпавядаюць сярэднедняпроўскай і палескай групам зарубінецкай культуры. Больш аддалены верхнедняпроўскі варыянт, відаць, застаўся невядомы Страбону.

Да гэтага ж, а магчыма, і больш ранняга часу адносяцца ўяўленні пра паўднёвае ўзбярэжжа Балтыкі, якія прыводзіць Пліній з ананімнай спасылкай «quidam... traunt» («некаторыя перадаюць»). Сучасныя каментатары мяркуюць, што Пліній меў на ўвазе шэраг грэцкіх аўтараў (Гекатэя, Піфея, Тымея, Ксенафонта Лампсакскага), верагодна, вядомых яму ў перадачы Філемона (каля 100 г. да н.э.)[28]. Вартасці гэтым звесткам дадае тое, што яны ўпершыню выразна змяшчаюць у басейне Віслы (на загадкавай выспе або паўвыспе Энінгія, каля не менш загадкавага заліва Каліпен) венедаў (Venedis), пералічаных у адным шэрагу з сарматамі, скірамі і загадкавымі хірамі, дзесьці недалёка ад памежжа кімбраў (кімвраў). Гэты тэкст дапускае неадназначныя інтэрпрэтацыі. Магчыма, зафіксаваныя ў ім уяўленні адносяцца да часу існавання паморскай культуры і, такім чынам, непасрэдна звязваюць венедаў з яе арэалам. Калі ж адлюстраваная больш позняя сітуацыя, яна сведчыць аб захаванні этноніма венедаў у арэале аксыўскай або пшэворскай культуры, якія абедзве мелі несумненны паморскі кампанент.

Такім жа чынам гэтая назва магла захавацца ў арэале зарубінецкай культуры, хутчэй за ўсё — у яе верхнедняпроўскім варыянце. Галоўнай падставай для такой здагадкі служыць неабходнасць растлумачыць звесткі пра венетаў пазнейшых аўтараў (Тацыта і Іардана) і ўзгадніць іх з вонкава супярэчлівымі ўказаннямі Пталамея, гаворка пра якія пойдзе ніжэй. У «Германіі» Тацыта[29], напісанай у 98 г. н.э., венеты (Venethi) нечакана паўстаюць як вялізны народ, што лакалізуецца акурат

[27] Страбон. География / Пер. с др.-греч. Г.А. Стратановского; под ред. О.О. Крюгера, общ. ред. С.Л. Утченко. Москва, 1994.

[28] Шелов-Коведяев Ф.В. Плиний // Свод древнейших письменных известий о славянах. Т. 1. Москва, 1991. С. 18—36.

[29] Корнелий Тацит. О происхождении германцев и местоположении Германии // Корнелий Тацит. Сочинения в двух томах. Т. 1. Анналы. Малые произведения. Москва, 1993.

на месцы зарубінецкай культуры, а ў яшчэ больш позняй «Гетыцы» Іардана[30] прама сцвярджаецца, што венетамі раней называліся продкі славян. Атрымліваецца, што або венеты-праславяне нейкім чынам змянілі бастарнаў Страбона, або хтосьці са старажытных аўтараў не заслугоўвае даверу.

Можна, вядома, аб'явіць памылковымі звесткі Тацыта і Іардана (што і рабілі некаторыя даследчыкі), але гэта не мае дастатковых метадалагічных падстаў. Прыярытэт варта аддаваць той інтэрпрэтацыі тэксту, якая дазваляе разумець яго літаральна. Толькі калі такая інтэрпрэтацыя немагчымая, варта прыцягваць гіпотэзу аб памылковасці сведчання і спрабаваць «выправіць» яго тэкст. У дадзеным выпадку спроба адмовіцца ад літаральнай інтэрпрэтацыі пакідае познярымскі перыяд без дакладных пісьмовых крыніц і нічога не дае ўзамен: пабудаваць пераканаўчую схему этнагенезу славян у абыход зарубінецкай культуры так нікому і не ўдалося. Затое прымаючы тэзіс аб яе двухэтнічнасці, мы здымаем супярэчнасці, і задача, якая выглядала невырашальнай, знаходзіць лагічнае рашэнне. Знаходзіць сваё тлумачэнне і зафіксаваная археалагічна адасобленасць помнікаў тыпу Чаплін, а таксама той факт, што менавіта на аснове гэтай адасобленай групы фармуецца гарызонт помнікаў тыпу Чачэрск—Кісцяні, які, у сваю чаргу, дае пачатак познезарубінецкім помнікам тыпу Грыні і, нарэшце, кіеўскай культуры[31].

**Мал. 4. Жаночыя ўпрыгожанні, характэрныя для зарубінецкай і кіеўскай культур** (паводле Л. Дучыц)



Вядома, меркаванні пра поліэтнічнасць зарубінецкай культуры застаюцца ўскоснымі. Але пры дапушчэнні яе монаэтнічнасці мову яе носьбітаў варта было б лічыць германскай, паколькі культураўтваральная роля ясторфскага імпульсу ў ёй несумнеўная. Пра германамоўнасць бастарнаў больш-менш пэўна сведчаць Пліній («бастарны, а далей іншыя германцы») і Тацыт («пеўкіны, якіх некаторыя завуць бастарнамі, мовай ... нагадваюць германцаў»), а з няўпэўненасцю («можа быць, германскі народ») — Страбон, у той час як Ціт Лівій пры апісанні македонскіх войнаў называе іх галамі, г.зн. кельтамі. Калі прызнаць усіх без астатку носьбітаў зарубінецкай культуры гермнамоўнымі (або носьбітамі іншай старажытнаеўрапейскай мовы, адрознай ад праславянскай), мы прыходзім да парадаксальнага выніку: для праславян археалагічнай адпаведнасці не застаецца.

[30] Иордан. О происхождении и деяниях гетов (Getica) / Вступительная статья, пер. и прим. Е.Ч. Скржинской. 2-е изд. С.-Петербург, 1997.

[31] Обломский А.М., Терпиловский Р.В. Среднее Поднепровье и Днепровское Левобережье в первые века нашей эры. Москва, 1991.

Спробы растлумачыць пераемнасць паміж бастарнамі і венетамі рабілі многія даследчыкі. Адзначым, у прыватнасці, ідэю С.П. Пачковай аб тым, што носьбіты зарубінецкай культуры запазычалі этнонім венетаў, «шырока распаўсюджаны ў кельцка-ілірыйскім асяроддзі», падчас сваіх балканскіх паходаў[32]. Гэтую ж ідэю паспрабаваў нядаўна абгрунтаваць С.Я. Рассадзін[33]. Паколькі дадзеная гіпотэза з'яўляецца на сёння адзінай альтэрнатывай «паморскаму следу», разгледзім яе крыху падрабязней. На першы погляд, абедзве версіі з'яўлення ў зарубінецкім арэале этноніма «венеты» з'яўляюцца роўна абстрактнымі. Але калі гіпотэза аб пераемнасці з паморскай культурай абапіраецца на несумнеўную прысутнасць адпаведнага кампанента ў матэрыяльнай культуры (прытым у такіх устойлівых да інавацый яе рысах, як пахавальны абрад і кераміка), то версія аб уключэнні нейкіх «ілірыйскіх венетаў» у склад бастарнаў падчас іх балканскіх паходаў не мае і такога абгрунтавання. Калі б кампактная група «іліра-кельцкіх (венецкіх) баявых пабрацімаў» сапраўды асела ў верхнедняпроўскім варыянце, як мяркуе Рассадзін, яна мусіла прынесці з сабой і нейкія рысы побытавай культуры, якія маюць аналагі толькі на Балканах. Але такія рысы яшчэ нікім пераканаўча не прадэманстраваныя. Балканскія паралелі ў зарубінецкай культуры датычацца толькі ўзбраення і ўпрыгожанняў, г.зн. тых рэчаў, якія лягчэй за ўсё запазычваюцца ў чужынцаў без змены ўласнай ідэнтычнасці.

Апроч гэтага, наяўнасць этноніма венеты/венеды ў былым арэале паморскай культуры засведчаная некалькімі аўтарамі рымскага часу (хоць і ў незразумелым храналагічным кантэксце), у той час як «ілірыйскіх венетаў» згадаў аднойчы толькі Герадот у сярэдзіне V ст. да н.э., прытым без падрабязнасцей, якія дазваляюць удакладніць іх лакалізацыю. Рымскія аўтары, якія выдатна ведалі адрыятычных венетаў і смутна — прыбалтыйскіх, пра ілірыйскіх не згадваюць наогул, што трэба тлумачыць знікненнем апошніх задоўга да бастарнскіх войнаў у Македоніі.

Нарэшце, здагадка пра германа-ілірыйскую этнічнасць зарубінецкай культуры гэтак жа мала дапамагае вырашыць праблему этнагенезу славян, як і здагадка пра яе чыста германскі характар. У якасці альтэрнатыўнага вытоку славян С.Я. Рассадзін прапануе юхнаўскі кампанент у складзе познезарубінецкіх помнікаў, які, на яго думку, быў яшчэ нераздзеленым балта-славянскім і абумовіў такі ж характар кіеўскай культуры. Нараджэнне славян звязваецца ім з распадам балта-славянскага адзінства ў момант пераходу ад кіеўскай культуры да трох даччыных: пражскай (уласна славянскай), пянькоўскай (анцкай) і калочынскай (прыналежнай да так званых «дняпроўскіх балтаў»).

Цалкам падзяляючы меркаванне Рассадзіна пра пражскую культуру як першую археалагічную праяву ўласна славянскага этнасу, роўна як і пра яе кіеўскія вытокі, варта ўсё ж лічыць папярэдні венецкі этнас носьбітаў познезарубінецкай і кіеўскай культур праславянскім, а не балта-славянскім. Да этнагенезу заходніх балтаў, выразна дакументаванага ланцужком археалагічных культур (мазурска-вармінская група лужыцкай культуры — культура заходнебалтыйскіх курганоў — багачаўская культура і роднасныя групы грунтавых пахаванняў — супольнасць шурпатай керамікі), ні юхнаўская, ні кіеўская культуры дачынення не мелі. Больш за тое, і фармаванне ўсходніх балтаў можна растлумачыць імпульсам з боку культур шурпатай керамікі[34]. Такім чынам, усе культуры, якія маюць пераемнасць з культурамі гістарычных балтаў XIII ст. (куршаў, земгалаў, латгалаў, жамойтаў, літвы, яцвягаў і інш.), выводзяцца непасрэдна з культуры заходнебалтыйскіх курганоў, якая ўзнікла ў I тысячагоддзі

---

32 Пачкова С.П. К вопросу о процессе латенизации зарубинецкой культуры.

33 Рассадин С.Е. Первые славяне. Славяногенез. Минск, 2008. С. 241—242.

34 Ушинскас В.А. Роль культуры штрихованной керамики в этногенезе балтов // Славяне: этногенез и этническая история. Ленинград, 1989. С. 62—67; Шименас В. Великое переселение народов и балты // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1990. С. 72—74; Медведев А.М. К вопросу о взаимоотношениях западных балтов и носителей культуры штрихованной керамики в I тысячелетии н.э. // Насельніцтва Беларусі і сумежных тэрыторый у эпоху жалеза. Мінск, 1992. С. 81—83.

да н.э. пад уздзеяннем супольнасці палёў пахавальных урнаў. Тыя ж культуры, якія з яе не выводзяцца, няма падстаў лічыць балцкімі — насуперак канцэпцыі «дняпроўскіх балтаў», дагэтуль шырока распаўсюджанай сярод археолагаў. Адзінай глебай для яе з'яўляецца падабенства гідранімікі на месцы гэтых культур з балцкай, але для яго вышэй ужо прапанаванае альтэрнатыўнае тлумачэнне.

Калі нераздзеленае балта-славянскае адзінства некалі і існавала (з чым згодныя далёка не ўсе лінгвісты), то найлепшай адпаведнасцю для яго ўяўляецца лужыцкая культура, а пачатку яго распаду адпавядае адасабленне паморскай і мазурска-вармінскай груп гэтай культуры. У гэтым выпадку этнонім «венеты» на раннім этапе свайго існавання мог тычыцца продкаў не толькі славян, але і балтаў.

У любым выпадку тая мова, якая паслужыла асновай для фармавання агульнаславянскай, відавочна, была прынесеная ў Падняпроўе з захаду, а не з усходу. Здагадка С.Я. Рассадзіна аб праславянскай альбо балта-славянскай прыналежнасці юхнаўскай культуры гэтак жа супярэчыць усёй сістэме фактаў, якія адносяцца да эвалюцыі індаеўрапейскіх моў, як і балцкасць культуры штрыхаванай керамікі. Продкамі юхнаўцаў (мабыць, ідэнтычных Герадотавым меланхленам) былі тыя культуры позняга бронзавага веку (бандарыхінская і, магчыма, лебядоўская), для якіх можна меркаваць сувязі, хутчэй, з ірана-фракійскай, чым са старажытнаеўрапейскай арэальнай супольнасцю. Хоць у сэнсе антрапалогіі і генетыкі юхнаўская культура, несумненна, паслужыла адным з кампанентаў фармуемага славянства, але ў моўным дачыненні пераемнасць паміж імі малаверагодная.

**Выхад венетаў на авансцэну**

Эпоха, у якую венеты выйшлі з бастарнскага ценю і ўпершыню заявілі пра сябе на прасторах Усходняй Еўропы, прыпадае на другую палову I — II ст. н.э. У гэты час роля дамінуючага фактару ў Еўропе перайшла ад кельтаў да Рымскай імперыі, якая трывала асталявалася на берагах Дуная і падпарадкавала сабе Дакію, а таксама грэцкія полісы Прычарнамор'я. На поўнач сфармавалася шырокая варварская перыферыя. Ваенныя і гандлёвыя кантакты з Рымам сталі вызначаць найбольш характэрныя рысы яе матэрыяльнай культуры.

Уяўленні рымлян пра насельніцтва гэтай перыферыі сталі больш выразнымі. Гэтаму перыяду адпавядаюць пісьмовыя звесткі, прыведзеныя Тацытам і Пталамеем. Пры гэтым «Германія» Тацыта адлюстроўвала сітуацыю, якая склалася ў апошнія дзесяцігоддзі I ст. н.э. У гэтым творы выкарыстоўваліся, мабыць, рэляцыі рымскіх афіцэраў і чыноўнікаў, якія мелі непасрэдныя кантакты з варварамі і добра ведалі сітуацыю. Праца Пталамея «Дапаможнік па геаграфіі»[35], завершаная ў сярэдзіне II ст., больш складаная па змесце. Яна кампілятыўна спалучае найноўшыя звесткі з традыцыйнымі ў эліністычнай геаграфіі, якія ўзыходзяць яшчэ да часоў Герадота. Адназначна вылучыць розныя храналагічныя пласты ў гэтым тэксце праблематычна.

Археалогія дазваляе ўдакладніць сітуацыю. Так, фіксуецца рух у прычарнаморскіх стэпах новай хвалі сармацкіх качэўнікаў, якія прынеслі з сабой новае імя — аланы. Сарматы першай хвалі, языгі і раксаланы, былі выцесненыя на захад, у сучасныя Румынію і Венгрыю, дзе іх не раз згадваюць рымскія аўтары. Значныя разбурэнні, выкліканыя сармацкім нашэсцем, фіксуюцца і ў арэале зарубінецкай культуры. Услед за гэтым яна перажывае глыбокую трансфармацыю. Класічная зарубінецкая культура трансфарміруецца ў познезарубінецкую супольнасць, прадстаўленую некалькімі лакальнымі варыянтамі. З іх помнікі тыпу Люцеж характарызуюцца пераемнасцю з сярэднедняпроўскім варыянтам, тыпу Почап — спалучэннем сярэднедняпроўскага кампанента з моцным субстратам юхнаўскай культуры, тыпу Картамышава—Цярноўка — таксама сярэднедняпроўскім і юхнаўскім кампанентамі пры ўдзеле

---

[35] Клавдий Птолемей. Руководство по географии / Пер. В.В. Латышева // Античная география. Москва, 1953.

**Мал. 5. Распад зарубінецкай культуры і ўтварэнне груп познезарубінецкіх помнікаў** (паводле: Обломский А.М., Терпиловский Р.В. Среднее Поднепровье и Днепровское Левобережье в первые века нашей эры. Москва, 1991)




пшэворскага, тыпу Грыні — спадчынай верхнедняпроўскага варыянта[36]. Другі кампанент помнікаў тыпу Грыні, які прыўнёс характэрную кераміку з расчосамі, спачатку звязваўся з культурай штрыхаванай керамікі, але С.Я. Рассадзін паказаў, што ён таксама мае юхнаўскае паходжанне[37].

Палескі варыянт зарубінецкай культуры ў гэты час знікае, а яго нашчадкі, мабыць, мігруюць у арэал пшэворскай культуры, дзе фармуюцца некалькі змешаных пшэворска-зарубінецкіх груп: зубрыцкая, тыпу Рахны, тыпу Грынявічэ Вельке — Чарнічын. Пры гэтым яны вызначаюцца ўжо не латэнізаваным, а раманізаваным абліччам. Цікавасць уяўляе яшчэ адно назіранне У.Я. Яроменкі: класічныя зарубінецкія традыцыі верхнедняпроўскага тыпу Чачэрск—Кісцяні найбольш выразна захоўваюцца ў помніках тыпаў Почап і Абідня (апошні адпавядае тыпу Грыні іншых аўтараў), пры гэтым складваецца ўражанне, што «класічныя» зарубінцы пазбягалі зносінаў са сваімі «раманізаванымі» сваякамі»[38].

Крыху пазней, з канца II ст. н.э., помнікі тыпу Грыні распаўсюджваюцца на Сярэдняе Падняпроўе і ў арэал почапскага варыянта, што прыводзіць да фармавання кіеўскай культуры. Пры гэтым верхнедняпроўскі (меркавана венецкі) кампанент, які адыграў культураўтваральную ролю, наўрад ці быў шматлікім. У пару існавання Чаплінскага могільніка гэтая культурная група налічвала не больш за некалькі тысяч (калі не сотняў) індывідаў. На познезарубінецкім этапе яе колькасць узрасла ў некалькі разоў, але не столькі за кошт дэмаграфічнага росту, колькі за кошт паглынання іншых культурных груп, якія мелі часткова германскае паходжанне (уключаючы і

[36] Обломский А.М., Терпиловский Р.В. Среднее Поднепровье и Днепровское Левобережье в первые века нашей эры.

[37] Рассадин С.Е. Первые славяне. Славяногенез. С. 247—248.

[38] Еременко В.Е. Новые перспективы исследования планиграфии и топохронологии могильников раннего железного века.

**Мал. 6. Асноўныя групы познезарубінецкіх помнікаў** (паводле: Обломский А.М., Терпиловский Р.В. Среднее Поднепровье и Днепровское Левобережье в первые века нашей эры. Москва, 1991)




I — селішчы і могільнікі паўднёвабугскай групы; II — помнікі тыпу Люцеж; III — тыпу Грыні; IV — тыпу Картамышава; V — тыпу Почап.

раней германізаваных нашчадкаў паморскай культуры), часткова — мілаградскае, позняскіфскае і юхнаўскае. Распаўсюд агульнай венецкай ідэнтычнасці акурат і фіксуецца археалагічна як узнікненне кіеўскай культуры. Усё гэтае разнамаснае насельніцтва, мабыць, перайшло на мову найбольш актыўнага кампанента — праславянскага, прытым гэтая мова магла зведаць даволі сур'ёзную трансфармацыю.

Падобны крызіс меў месца і ў арэале паянешці-лукашоўскай культуры. Яе класічныя помнікі знікаюць ужо ў апошнія дзесяцігоддзі да н.э. На поўначы іх арэала фармуецца змешаная звянігарадская група, якая спалучае рысы пшэворскай, сармацкай і гета-дакійскай культур.

Асаблівае значэнне на гэтым фоне маюць паведамленні Тацыта пра бастарнаў і венетаў. Назва бастарнаў у яго час была ўжо амаль выцесненая тэрмінам «пеўкіны», якіх толькі «некаторыя называюць бастарнамі» («Peucini, quos quidam Bastarnas vocant»). Найбольш верагодна, што бастарнская ідэнтычнасць часткова захавалася ў тых раманізаваных групах, якія спалучалі палеска-зарубінецкі кампанент з пшэворскім: зубрыцкая, тыпаў Рахны і Грынявічэ Вельке. Гэтая ідэнтычнасць канкуравала з ідэнтычнасцю пеўкінаў — першапачаткова лакальнай групай бастарнскай супольнасці, прадстаўленай паянешці-лукашоўскай культурай. У разгляданы час гэтая група перамясцілася з нізоўяў Дуная на поўнач і распаўсюдзіла свой уплыў на нашчадкаў зарубінцаў. Апошняя згадка пра бастарнаў датуецца 280 г. н.э., калі

**Мал. 7. Арэалы культур 1-й паловы I тысячагоддзя н.э. у цэнтры Усходняй Еўропы** (паводле М.У. Лапаціна)




а — культура штрыхаванай керамікі; б, в — днепра-дзвінская культура (б — агульны арэал, в — мяжа заходняга і ўсходняга варыянтаў); г — помнікі тыпу сярэдняга пласта Тушамлі; д, е, ж, з — лакальныя варыянты кіеўскай культуры; и — пункты пранікнення ранніх традыцый кіеўскай культуры на поўнач; к — помнікі кола Заазер'е—Узмень; л — паўночная мяжа распаўсюджання ў IV—V стст. керамічнага стылю, што паходзіць з кіеўскай культуры.

імператар Проб дазволіў ім перасяліцца ў межы Рымскай імперыі, дзе яны, мабыць, і асіміляваліся[39].

Непасрэднымі суседзямі пеўкінаў Тацыт называе венетаў, якія «абыходзяць разбойніцкімі хеўрамі ўсе лясы і горы паміж пеўкінамі і фенамі» («nam quicquid inter Peucinos Fennosque silvarum ac montium erigitur latrociniis pererrant»). Адносна фенаў Тацыт падкрэслівае іх «надзвычайную дзікасць і ўбоства», характарызуючы іх як вандроўных паляўнічых з касцянымі стрэламі, якія жывуць у буданах і апранаюцца ў шкуры. Практычна ўсе даследчыкі атаясамліваюць фенаў з носьбітамі археалагічных культур, не закранутых працэсамі латэнізацыі і раманізацыі. Гэта маглі быць альбо культуры штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінская і юхнаўская, альбо размешчаная яшчэ далей на поўнач дзякоўская (падабенства этнонімаў «фены» і «фіны» наўрад ці было чымсьці большым, чым простае сугучча). У любым выпадку, лакалізацыя венетаў добра адпавядае арэалу познязарубінецкіх груп, якія перараслі затым у кіеўскую культуру.

Знаходзіць археалагічную адпаведнасць нават блуканне венетаў па лясах каля фенаў. Менавіта ў гэты час адзначаецца пранікненне зарубінецкага культурнага імпульсу ў арэалы днепра-дзвінскай і юхнаўскай культур. У парэччы Дзясны гэта прыводзіць да ўзнікнення почапскай групы познезарубінецкай супольнасці. Яе ўплыў адчуваецца аж да самых вярхоўяў Дзясны, у верхнім пласце позняюхнаўскага гарадзішча Палужжа[40]. У II ст. н.э. почапская група знікае. Верагодна, яе міграцыя ў арэал верхняокскага варыянта юхнаўскай культуры прывяла да ператварэння

[39] Щукин М.Б. Забытые бастарны // Stratum plus. 1999. № 5. С. 75—90.

[40] Обломский А.М., Терпиловский Р.В. Среднее Поднепровье и Днепровское Левобережье в первые века нашей эры.

апошняй у мошчынскую культуру, тыпалагічна падобную на кіеўскую. У вярхоўях Дняпра і Сожа познезарубінецкі імпульс маркіруе храналагічны гарызонт помнікаў тыпу сярэдняга пласта Тушамлі. Яго асаблівасцю з'яўляецца прысутнасць керамічнага стылю, тыпалагічна звязанага са спадчынай зарубінецкай групы Чачэрск—Кісцяні[41].

Звесткі Тацыта датычацца і прасторы на поўнач ад Карпатаў, дзе ён паслядоўна (з поўдня на поўнач) пералічвае лугіяў, гатонаў, ругіяў і лемовіяў, прычым два апошнія народы знаходзяцца ўжо непасрэдна на беразе мора (Акіяна, паводле Тацыта). У такім выпадку, лугіі добра адпавядаюць заходняй частцы пшэворскай культуры, якая не адчула зарубінецкіх імпульсаў, а гатоны (готы), ругіі і лемовіі (першапачатковае імя гепідаў?) — тром групам вельбаркскай культуры на пачатковым этапе, якія вылучае В. Навакоўскі[42]. Далей на поўнач, ужо сярод Акіяна, жывуць славутыя сваім флотам свіёны — продкі шведаў.

Затым Тацыт вяртае апісанне на паўднёвае ўзбярэжжа Балтыкі, якую гэтым разам называе Свебскім морам. Направа (на ўсход) ад ругіяў і лемовіяў ён размяшчае эсціяў, у краіне якіх здабываюць бурштын. У адрозненне ад свайго папярэдніка Плінія Тацыт валодае пра гэтыя месцы ўжо не міфічнай, а цалкам пэўнай інфармацыяй. Ён нават ведае, што мова эсціяў адрозніваецца ад германскай (Тацыт лічыць яе падобнай на мову брытаў, г.зн. адной з груп кельтаў).

Археалагічная тэрыторыя эсціяў адпавядае самбійскай (багачаўскай) культуры, якая ўзнікла ў I ст. н.э. на частцы тэрыторыі папярэдняй культуры заходнебалтыйскіх курганоў[43]. У іншых частках апошняй, у нізоўях Нёмана і на Куршскім узбярэжжы, адначасова фармуюцца дзве групы грунтовых пахаванняў, з якіх куршская адрозніваецца наяўнасцю каменных вянкоў вакол магіл. Далей на ўсход, у заходняй частцы арэала штрыхаванай керамікі, распаўсюджваецца культура курганоў з такімі ж каменнымі вянкамі, у некаторых рысах падобных на заходнябалцкія. Усе яны ў далейшым мелі характэрную шурпатую кераміку, якую можна лічыць «візітнай карткай» ранніх балтаў[44]. Носьбіты гэтых культур альбо не былі вядомыя Тацыту, альбо ахопліваліся супольным імем эсціяў, якое ў такім выпадку адпавядае агульнай назве прабалтаў, якія акурат у гэты час распачалі падраздзяляцца на дзве моўныя галіны. Прычынай дзялення балтаў на заходніх і ўсходніх, мабыць, стала змешванне апошніх з субстратным насельніцтвам культуры штрыхаванай керамікі. Ад яго быў запазычаны лексічны пласт, які адрознівае ўсходнябалцкія мовы ад пазней вымерлай прускай (пра якую, зрэшты, вядома не вельмі шмат).

Адзначым, што эсціі адзначаны ў Тацыта якраз у тых мясцінах, дзе зафіксаваныя Плініем сляды старажытнагрэцкай традыцыі маглі змяшчаць бурштынаносную раку Эрыдан і асацыяваных з ёю венетаў. Гэта дазваляе часткова растлумачыць супярэчнасць паміж звесткамі Тацыта і Пталамея. Апошні пералічвае на прасторах Еўрапейскай Сарматыі сем «вялікіх» народаў і вялікую колькасць малых, размяшчаючы іх у серыі «ланцужкоў» ад усходняй мяжы Германіі, за якую ён канцэптуальна прымаў Віслу. Назвы «вялікіх» народаў у цэлым адпавядаюць этнонімам, вядомым больш ранніх аўтарам, але пры іх лакалізацыі ўзнікаюць супярэчнасці. Першым з такіх народаў выступаюць венеты (Οὐενέσαι), размешчаныя на ўзбярэжжы Балтыкі (якую Пталамей называе Сармацкім акіянам), уздоўж загадкавага Венецкага заліва. Дзесьці «вышэй Дакіі» знаходзяцца пеўкіны і бастарны, уздоўж узбярэжжа Меатыды (Азоўскага мора) — языгі і раксаланы, а ў глыбіні кантынента «за імі» — амаксобіі і

---

[41] Лопатин Н.В. Керамические стили и культурные группы III—V вв. н.э. в Верхнем Поднепровье и Подвинье // Культурные трансформации и взаимовлияния в Днепровском регионе на исходе римского времени и в раннем средневековье. С.-Петербург, 2004. С. 144—157.

[42] Nowakowski W. «HIS SVEBIAE FINIS» — Concept of the Border of the Barbarous World at the East Baitic Coast in the Roman Period // Barbaricum. T. 2. Warszawa, 1992.

[43] Nowakowski W. Pomiędzy Bałtami nadmorskimi a naddnieprzańskimi. «Strefa kurhanowa» w okresie późnorzymskim i w okresie wędrówek ludów // Час, помнікі, людзі: Памяці рэпрэсаваных археолагаў. Мінск, 1993. С. 165—167.

[44] Lietuvos TSR archeologijos atlasas. 3. I—XIII a. pilkapynai ir senkapiai. Vilnius, 1977.

скіфы-аланы. Згадванне языгаў і раксаланаў на ўзбярэжжы Меатыды сведчыць, што звесткі Пталамея аб «вялікіх» народах тычацца не сучаснай яму сітуацыі, а больш ранняй, таму што за стагоддзе да напісання «Дапаможніка па геаграфіі» аланы выцеснілі языгаў і раксаланаў спачатку ў Заходняе Прычарнамор'е, а затым і на берагі Дуная. У такім кантэксце і згадка пра венетаў можа адпавядаць архаічным уяўленням пра радзіму бурштыну.

Першы ланцужок «малых» народаў, які прыводзіць Пталамей, цягнецца ўздоўж Віслы да Карпатаў. Паколькі гаворка ідзе пра Сарматыю, увесь ланцужок павінен лакалізавацца на ўсход ад Віслы, але адзіны этнонім, які паддаецца лакалізацыі (гіфоны = гітоны = готы?), адпавядае арэалу ранняй вельбаркскай культуры, які ляжыць на захад ад нізоўяў Віслы. Такім чынам, і землі венетаў, «ніжэй» якіх Пталамей змяшчае непасрэдна гіфонаў, маглі прасцірацца на захад ад Віслы — там, дзе Тацыт змяшчаў ругіяў і лемовіяў. Калі венеты, паводле Пталамея, жылі ўсё ж за Віслай, то іх месцазнаходжанне адпавядае Тацытавым эсціям. У любым выпадку, мы маем несумнеўную супярэчнасць паміж дзвюма блізкімі па часе крыніцамі. Калі рабіць выбар паміж імі, то прыярытэт павінна мець тая, якая лепш адпавядае археалагічным рэаліям, а таксама ўсёй сістэме іншых звестак, уключаючы і тэксты іншых, незалежных традыцый. З гэтага пункту гледжання надзейнасць звестак Тацыта непараўнальна больш высокая. Яны адпавядаюць пазнейшым звесткам Іардана і вельмі добра адпавядаюць сінхроннай археалагічнай мапе, чаго нельга сказаць пра Пталамея.

Але не выключана, што Пталамей таксама па-свойму меў рацыю, ён толькі сумясціў рознachасовыя ўяўленні. Звесткі пра венетаў адносяцца да часу існавання паморскай або, прынамсі, аксыўскай культуры, а звесткі пра гіфонаў — больш позняга часу, калі на гэтай прасторы ўжо з'явіліся готы (што археалагічна адпавядае ператварэнню аксыўскай культуры ў вельбаркскую). Згадванне ж пра Венедскія горы, прыведзенае ў пераліку паміж рэальнымі Карпатамі і міфічнымі Рыпейскімі гарамі, можа ўзыходзіць да яшчэ больш ранняга часу (да пачатку міграцыі бастарнаў), калі тэрыторыя лужыцка-паморскай супольнасці дасягала падножжа Карпатаў. Магчыма, і размяшчэнне Пталамеевых венетаў на месцы сучасных яму эсціяў-прабалтаў тлумачыцца тым, што апошнія таксама з'яўляліся нашчадкамі носьбітаў лужыцкай культуры.

Іншы шэраг этнонімаў Пталамея праходзіць паралельна першаму, але далей на ўсход, несумненна за Віслай. Там з венетамі мяжуюць галінды, затым ідуць судзіны і ставаны — «да самых аланаў». Калі мелася на ўвазе тая ж лакалізацыя аланаў, што і ў першым выпадку (у глыбіні кантынента за Меатыдай), то пералік ідзе ў рэчаіснасці не строга паралельна Вісле, а моцна адхіляецца на ўсход. Але не выключана, што тут аланы займаюць тое месца, на якім былі з сярэдзіны I ст. н.э. — паміж Паўднёвым Бугам і Дняпром. У такім выпадку, і іншыя этнонімы гэтага пераліку тычацца рымскага часу. Але зноў мы маем супярэчнасць з Тацытам: галінды, судзіны і ставаны (ці, па меншай меры, апошнія) павінны прыходзіцца на тую прастору, дзе ён згадваў рабаўнікоў-венетаў. Пра ставанаў (σταυανοί) Пталамей паведамляе, што яны мяжуюць непасрэдна з аланамі. Для яго часу гэта адпавядае познезарубінецкім помнікам тыпаў Люцеж і Картамышава—Цярноўка, або ўсёй прасторы зарубінецкай культуры. Многія даследчыкі звярталі ўвагу на агульнае падабенства этнонімаў «ставаны» і «славяне». Ці можна зрабіць з гэтага выснову, што ўжо ў познезарубінецкі час адна з частак венецкай супольнасці мела такое імя? Уяўляецца, што падстаў для гэтага недастаткова. Лінгвісты адмаўляюць магчымасць таго, што ў грэчаскай мове інфарматараў Пталамея слова накшталт «славяне» або «склавены» магло ператварыцца ў «ставаны»[45].

Як можна трактаваць звесткі пра галіндаў і судзінаў? Абедзве назвы традыцыйна суадносяцца з назвамі дзвюх прускіх зямель, прыведзеных пад 1326 г. храністам Тэўтонскага ордэна Пятром з Дусбурга — Галіндыі і Судава. Пры гэтым нікога

[45] Рассадин С.Е. Первые славяне. Славяногенез. С. 154.

асабліва не бянтэжыць, што паміж гэтымі згадкамі прамежак у 12—13 стагоддзяў! Сугучча назваў, насамрэч вельмі яскравае, можа быць і чыста выпадковым. Каб праводзіць прамое атаясамліванне, патрэбныя больш трывалыя падставы. Але іх няма, паколькі за ўвесь гэты прамежак абедзве назвы ў дадзеным рэгіёне больш не сустракаюцца. Верагоднасць таго, што адзін або абодва этнонімы лакалізаваныя ў арэале багачаўскай культуры, выключыць нельга, але строга фармальна ёй лепш адпавядалі б прыбярэжныя венеты, згаданыя адразу за вусцем Віслы. Арэал жа гэтай культуры занадта малы, каб на ім змясціліся адразу тры народы, годныя пераліку ў адным шэрагу са ставанамі і аланамі.

Для этноніма галінды маецца яшчэ адно сугучча — галядзь, згаданая ў рускіх летапісах пад 1058 і 1147 гг., прычым апошняе паведамленне выразна лакалізуе яе ў вярхоўях р. Протвы. На думку У.М. Тапарова, у Падмаскоўі маецца цэлы шэраг тапонімаў, сугучных імені «галядзь»[46]. У цэлым яны нядрэнна адпавядаюць арэалу мошчынскай культуры, якая складвалася якраз у часы Пталамея на аснове почапскай групы познезарубінецкіх помнікаў. Здагадка пра тое, што гэтае імя прынесла з сабой роднасная венетам частка паморскага кампанента зарубінецкай культуры і яно затым дажыло да эпохі Кіеўскай Русі, выглядае даволі хісткім, хоць у ім няма нічога немагчымага. Але ў такім выпадку, падмаскоўная галядзь належала хутчэй да праславянскай, чым да прабалцкай моўнай групы, і прамое супастаўленне яе з прыбалтыйскімі галіндамі[47] дарэчнае не больш, чым супастаўленне адрыятычных венетаў з кельцкімі або ілірыйскімі.

Далей Пталамей мяняе кірунак свайго пераліку народаў, згадваючы «ніжэй» аланаў інгільёнаў, кастабокаў і трансмантанаў каля Пеўкінскіх гор. Гэтыя горы відавочна адпавядаюць усходняй частцы Карпатаў, што пацвярджаецца згадваннем кастабокаў (дакійскага племені, вядомага антычным аўтарам з II ст. да н.э.) і звесткамі ў дадатковай частцы пераліку. Там паміж бастарнамі і пеўкінамі названыя карпіяны (імя відавочна сугучнае фракійскаму племені карпаў і назве Карпаты). З гэтага вынікае, што бастарны і пеўкіны ў Пталамея займаюць прыкладна тое ж месца, што і ў Тацыта — дзесьці ў сучасных Малдове і Заходняй Украіне. Археалагічна гэта адпавядае вышэйзгаданай частцы познепшэворскага арэала з прысутнасцю зарубінецкага і паянешці-лукашоўскага кампанентаў.

Верагодна, да крыху больш позняга часу (мяжа II—III стст. н.э.) адносіцца асноўны пласт звестак недатаванай дарожнай мапы-схемы познярымскага часу — Пеўцінгеравай мапы. Але, як і ў выпадку з працай Пталамея, не ўсе яны могуць быць адначасовымі[48]. На гэтай вельмі схематычнай мапе дзесьці паміж сярэднім цячэннем Дуная і Акіянам, на захад (паўночны захад) ад Бастарнскіх Альпаў (Карпатаў) пазначаныя «сармацкія лупіёны» і «сармацкія венеды» (Lupiones Sarmati, Venadi Sarmatae), а непасрэдна за гэтымі гарамі — бастарны (Blastarni). Улічваючы скрайнюю схематычнасць мапы, цалкам дапушчальна лічыць, што гэтыя назвы адпавядаюць тэрыторыі пшэворска-познезарубінецкай супольнасці на заключным этапе — напярэдадні пранікнення ў яе арэал готаў. Заходнюю частку ўласна пшэворскай культуры ў гэтым выпадку займаюць лупіёны (скажонае лугіёны = лугіі), а паўднёва-ўсходнюю — бастарны. Названыя паміж імі венеды могуць адпавядаць паўночна-ўсходняй частцы пшэворскай культуры (помнікам тыпу Грынявічэ Вельке — Чарнічын) і познезарубінецкаму арэалу далей на ўсход. Дадатку «сармацкія» лугіі і венеды, мабыць, абавязаныя аўтарытэту Пталамея, які ўвёў у зварот панятак «Еўрапейская Сарматыя». Пры такой інтэрпрэтацыі дадатак мае не этнічны, а геаграфічны сэнс.

Яшчэ адны венеды (Venedi) змешчаныя на Пеўцінгеравай мапе на левым беразе Дуная недалёка ад яго вусця. Археалагічная адпаведнасць гэтай назве (помнікі тыпу Этулія) з'яўляецца акурат на мяжы II—III стст. Але, перш чым гаварыць пра яе,

[46] Топоров В.Н. Балтские языки // Балтские языки. Сб. статей. Москва, 2006.

[47] Седов В.В. Голядь // Iš baltų kultūros istorijos. Vilnius, 2000. С. 75—84.

[48] Подосинов А.В. Певтингерова карта // Свод древнейших письменных известий о славянах. Т. 1. Москва, 1991. С. 63—80.

**Мал. 8. Культуры III—IV стст. н.э.** (паводле Р. Церпілоўскага)




1 — кіеўская; 2 — тыпу Седзелкі; 3 — чарняхоўская; 4 — тыпу Чарэпін; 5 — штрыхаванай керамікі; 6 — днепра-дзвінская; 7 — мошчынская; 8 — напрамкі экспансіі носьбітаў кіеўскай культуры.

варта ахарактарызаваць змены, якія адбыліся ў гэты час ва ўсім рэгіёне і адзначылі наступ новай эпохі.

Штуршком, які змяніў сітуацыю ў варварскай перыферыі, паслужыла міграцыя готаў. Спачатку нешматлікія, готы аб'ядналі пад сваёй уладай іншыя германскія народы, што дазволіла ім ажыццявіць шырокую экспансію. Звесткі Тацыта і Пталамея фіксуюць самы пачатак гэтага працэсу. Праз некалькі дзесяцігоддзяў готы прыйшлі ў Прычарнамор'е. Заключыўшы саюз з аланамі або заваяваўшы іх, яны стварылі моцную протадзяржаву. Матэрыяльнае сведчанне яе існавання археолагі фіксуюць у чарняхоўскай культуры. Зыходным імпульсам да яе складвання паслужыла распаўсюджванне вельбаркскай культуры праз Валынь на тэрыторыю Малдовы і ў парэчча Паўднёвага Буга. Носьбіты гэтай культуры першымі ўспрынялі характэрны набор правінцыйнарымскіх культурных рыс, які вызначае своеасаблівасць чарняхоўскай культуры, і распаўсюдзілі яго сярод падпарадкаваных народаў. Іншымі

кампанентамі пры фармаванні культуры былі познепшэворскі (бастарнскі) у вярхоўях Днястра і змешаны алана-позняскіфскі на ўзбярэжжы Чорнага мора паміж Днястром і Дняпром, а таксама ў Крыме[49].

Магчыма, на Левабярэжжы Дняпра чарняхоўская культура ўключыла і познезарубінецкі кампанент, хоць у цэлым паміж ёю і кіеўскай культурай на раннім этапе склалася досыць выразная мяжа. Па-за межамі гоцкага ўплыву доўгі час заставалася і роднасная кіеўскай мошчынская культура, а таксама іх дэрываты, якія сведчаць аб значных міграцыйных рухах праславянскага насельніцтва. Помнікі, тыпалагічна блізкія кіеўскім, але з прысутнасцю сармацкага і чарняхоўскага кампанентаў, у гэты час пранікаюць у вярхоўі Дона (тыпы Чартавіцкае—Кашырка)[50] і ў Сярэдняе Паволжа да Самарскай Лукі (тыпы Сідзелькіна—Цемешава і Лбішча)[51].

Яшчэ адна група падобных помнікаў (вышэйзгаданы тып Этулія) прасунулася ў стэпавы раён нізоўяў Дуная, Прута і Днястра. Для яе характэрнае змешванне рыс латэнізаваных культур з позняскіфскімі, пры гэтым выразна прасочваецца познезарубінецкі кампанент[52]. Верагодна, з'яўленне помнікаў тыпу Этулія звязана з перасяленнем сюды насельніцтва з захаду Украіны, выкліканым рухам готаў на мяжы II—III стст. Але адзначаецца падабенства і з верхнедняпроўскім тыпам Грыні. А.В. Гудкова лічыць, што «ў асяроддзі этулійскага насельніцтва адбываліся працэсы, аналагічныя тым, якія прывялі да ўтварэння кіеўскай культуры». Характэрная наяўнасць у групе Этулія керамічных формаў, якія на валынска-падольскіх і познезарубінецкіх помніках вызначаюцца як протапражскія.

Як ужо адзначалася, менавіта з гэтай групай помнікаў трэба звязваць згадку Пеўцінгеравай мапы пра венедаў у нізоўі Дуная. Прытым гэтыя помнікі несумненна дажываюць да другой паловы IV ст., гэта значыць, працягваюць існаваць доўга пасля знікнення з гістарычнай арэны бастарнаў. Гэта служыць дадатковым аргументам на карысць гіпотэзы аб тым, што венеты/венеды нароўні з бастарнамі з'яўляліся носьбітамі зарубінецкай культурнай традыцыі.

Галоўнай пісьмовай крыніцай для гэтага перыяду служыць «Гетыка» Іардана, якая, у сваю чаргу, абапіраецца на працы Касіядора і Аблабія. Гэты корпус звестак, пісьмова зафіксаваны ў першай палове VI ст., уключае ў сябе запіс эпічных паданняў, якія склаліся ў асяроддзі остготаў і адлюстроўвалі перыяд дзейнасці іх выбітнага правадыра Германарыха ў сярэдзіне IV ст. Першапачаткова фальклорны характар звестак накладае дадатковыя абмежаванні на іх інтэрпрэтацыю[53].

Найбольш ранняя згадка пра венетаў у «Гетыцы» адносіцца да падання аб перамогах Германарыха над шэрагам народаў Усходняй Еўропы. Венеты названыя ў іх ліку, і гэта значыць, што да гэтага моманту яны былі незалежныя ад готаў. Такім чынам, іх тэрыторыя не магла ўваходзіць у арэал чарняхоўскай культуры III ст. Гэта цалкам адпавядае як кіеўскай культуры, так і помнікам тыпу Этуліі, але аніяк не іншым часткам былога зарубінецкага арэала. На Валыні помнікі зубрыцкага

[49] Магомедов Б.В. Этнические компоненты черняховской культуры // Stratum plus. 2000. № 4. С. 322—330.

[50] Акимов Д.В., Медведев А.П. Памятники типа Чертовицкого городища III на Верхнем Дону // Культурные трансформации и взаимовлияния в Днепровском регионе на исходе римского времени и в раннем средневековье. С.-Петербург, 2004. С. 124—130.

[51] Матвеева Г.И. Этнокультурные процессы в среднем Поволжье в I тысячелетии нашей эры // Культуры Восточной Европы I тысячелетия н.э. Куйбышев, 1986; Сташенков Д.А. Население Самарского лесостепного Поволжья. I—V вв. н.э. Автореф. дисс. ... канд. ист. наук. Казань, 2007.

[52] Щербакова Т.А. Памятники типа Этулия, истоки и пути формирования, направленность хозяйственной деятельности // Древнейшие общности земледельцев и скотоводов Северного Причерноморья (V тыс. до н.э. — V в. н.э.). Киев, 1991. С. 237—238; Гудкова А.В. I—IV вв. в Северо-Западном Причерноморье. (Культура оседлого населения) // Stratum plus. 1999. № 4. С. 235—407.

[53] Шаров О.В. Гибель Эрманариха: история и эпос // Stratum: структуры и катастрофы. С.-Петербург; Кишинев, 1997. С. 95—106; Шувалов П.В. Венедская слабость и антская сила: образ ранних славян в позднеантичных источниках // Проблемы античной истории. С.-Петербург, 2003. С. 352—358.

тыпу (якія шэраг украінскіх археолагаў звязвае з праславянамі) былі паглынутыя чарняхоўскай культурай на раннім этапе яе існавання. Таму нават калі ўзніклая на іх аснове валынска-падольская група чарняхоўцаў сапраўды прыняла ўдзел у фармаванні пражскай культуры, як мяркуе У.Д. Баран[54], то не яна забяспечыла пераемнасць этнонімаў «венеты» — «славяне», аб якой упэўнена піша Іардан. Пад «венетамі, якія цяпер клічуцца славянамі», трэба разумець іншы кампанент, які ўвайшоў у пражскую культуру — кіеўскі (і, магчыма, этулійскі). Тое, што гэты кампанент слаба прасочваецца археалагічна, не мае вырашальнага значэння, таму што пражская культура не мае паступовай пераемнасці ні з адной папярэдняй. Гэта не замінае цэламу шэрагу археолагаў выводзіць яе з кіеўскай культуры[55].

Іншым імем, якое набыла частка нашчадкаў венетаў, быў этнонім «анты». Першая згадка яго таксама ўтрымліваецца ў гоцкім паданні, гэтым разам — пра пераемніка Германарыха Вінітарыя, які перамог антаў каля 375 г. Усе пазнейшыя згадкі пра антаў дазваляюць звязаць іх з пянькоўскай культурай, наяўнасць у якой кіеўскага кампанента несумнеўная. Гэта таксама адпавядае сцвярджэнню Іардана, што анты, як і славяне, раней зваліся венетамі.

Іншыя народы лясной зоны, заваяваныя Германарыхам, надзейнай лакалізацыі не паддаюцца, за выключэннем эсціяў, якіх Іардан, у поўнай адпаведнасці з Тацытам, змяшчае на беразе Акіяна. Здагадкі пра тое, што пад назвамі Thiudos, Merens, Mordens выступаюць продкі чудзі, меры і мардвы, заснаваныя выключна на сугуччы і дадатковымі аргументамі не падмацоўваюцца. Версія В.В. Сядова аб адпаведнасці Golthescytha (галінды-скіфы) носьбітам кіеўскай культуры[56] яшчэ менш верагодная. У літаратуры існуе меркаванне, што гэты этнонім азначаў «залатых» (г.зн. царскіх) скіфаў[57]. Дарэчы, адпаведную фразу можна чытаць і зусім інакш: «habebat si quidem quos domuerat Golthes cytha thiudas» («ён [Германарых] валодаў тымі скіфскімі народамі, якіх падпарадкаваў Готу»)[58]. Пры такім чытанні ні для голцескіфаў, ні для чудзі месца ў гэтым тэксце не застаецца.

**Ад венетаў да славян**

Уключэнне эсціяў у протадзяржаву Германарыха азначае, што яна павінна была ахопліваць усю тэрыторыю цяперашняй Беларусі і цягнуцца далей у Прыбалтыку. З некаторай доляй умоўнасці яе можна лічыць першым дзяржаўным утварэннем, што ўключыла ў свой склад продкаў беларусаў. Але остгоцкая протадзяржава аказалася эфемернай. Ужо праз некалькі дзесяцігоддзяў яна пала пад ударам гунаў — новай хвалі качэўнікаў (гэтым разам, мабыць, цюркамоўных), якая прыйшла з глыбіні Азіі. У склад гэтай хвалі ўваходзілі акацыры, альтцыягіры і балгары, якія засталіся ў прычарнаморскіх стэпах пасля перасялення галоўнай гунскай арды на Сярэдні Дунай у другой чвэрці V ст. Нашэсце гунаў выклікала перасяленне вестготаў у межы Рымскай імперыі. Остготы ж змушаныя былі прызнаць уладу новых гаспадароў. Спачатку яны заставаліся ў Прычарнамор'і, але неўзабаве ўслед за гунамі перасяліліся ў Панонію.

Перамогшы Вінітарыя, гуны сталі і пераемнікамі яго ўлады над усімі народамі, раней заваяванымі Германарыхам. Але падобна, што ім давялося пацвярджаць сваё права ваеннай сілай. Пра гэта сведчаць характэрныя трохлопасцевыя наканечнікі стрэл, знойдзеныя ў лясной зоне, якія ўжываліся толькі стэпавымі качэўнікамі[59].

---

[54] Баран В.Д. Венеди, склавіни та анти у світі археологичних джерел // Проблемы славянской археологии. Москва, 1997.

[55] Терпиловський Р. Біля витоків слов'янства (за матеріалами Подніпров'я) // Український історичний журнал. 2001. № 3. С. 3—7.

[56] Седов В.В. Голтескифы // Культурные трансформации и взаимовлияния в Днепровском регионе на исходе римского времени и в раннем средневековье. С.-Петербург, 2004. С. 88—95.

[57] Шаров О.В. Гибель Эрманариха: история и эпос.

[58] Анфертьев А.Н. Иордан // Свод древнейших письменных известий о славянах. Т. 1. М., 1991. С. 98—160.

[59] Лухтан А.Б. Война V века в Литве // Гістарычна-археалагічны зборнік. № 11. Мінск, 1997. С. 15—20.

**Мал. 9. Знаходкі наканечнікаў стрэл гунскага тыпу** (паводле А.Б. Лухтана)




а — знаходкі трохлопасцевых наканечнікаў стрэл у лясной зоне Усходняй Еўропы; b — пахаванні з інвентаром гунскай эпохі; с — меркаваная паўночная мяжа гунскіх уладанняў паводле К. Ягджэўскага.

Найбольш далёкія знаходкі, што маркіруюць межы прасоўвання гунаў, паходзяць з гарадзішча Дзямідаўка ў вярхоўях Дняпра, Акіншынскага гарадзішча на Верхняй Ацэ, Аўкштадварыса, Акура-Калнаса, магільніка Плінкайгаліс у Літве[60]. Такім чынам, і гэта палітычнае ўтварэнне ўключала ў сябе ўсю будучую Беларусь.

Протадзяржава гунаў праіснавала каля 80 гадоў, з канца IV ст. да іх паражэння ад уласных паўсталых васалаў пры Недаа ў 455 г. Гэты час быў вельмі важным для продкаў славян, якія таксама прынялі ўдзел у масавых перамяшчэннях народаў унутры гунскіх уладанняў. Візантыйскі дыпламат Прыск, які ў 448 г. ажыццявіў пасольства ў стаўку караля гунаў Атылы ў Паноніі, пакінуў вельмі важнае сведчанне: пасля пераправы праз Істр (Дунай) ён ехаў праз вёскі, жыхары якіх замест віна ўжывалі напой, які на іх мове зваўся «медос» (μέδος). Лінгвісты прыйшлі да высновы, што ў такой форме найбольш верагодная перадача славянскага слова «мёд»[61]. Гэта значыць, што ўжо ў той час даволі вялікая колькасць продкаў славян жыла ў Паноніі, недалёка ад галоўнай стаўкі Атылы.

Яшчэ больш важныя наступствы мела тое, што ў Панонію перасялілася асноўная маса остготаў, пасля бітвы пры Недаа ўтварыўшы там уласнае каралеўства. Раней кантраляваныя імі землі на тэрыторыі сучаснай Украіны засталіся амаль бязлюднымі. Менавіта гэтая незанятая прастора ў сярэдзіне V ст. стала месцам складвання першай

[60] Ахмедов И.Р., Казанский М.М. После Аттилы. Киевский клад и его культурно-исторический контекст // Культурные трансформации и взаимовлияния в Днепровском регионе на исходе римского времени и в раннем средневековье. С.-Петербург, 2004. С. 168—202.

[61] Гиндин Л.А., Иванчик А.И. Приск // Свод древнейших письменных известий о славянах. Т. 1. Москва, 1991. С. 81—96 (асабліва с. 93).

чыста славянскай культуры — пражскай. Як ужо адзначалася, гэтая культура не мае відавочнай пераемнасці ні з адной папярэдняй — яна ўяўляе сабой яркі прыклад радыкальнай культурнай трансфармацыі (менавіта гэтым тлумачыцца галоўная цяжкасць у рэканструкцыі этнагенезу славян). Сітуацыю, калі першапачаткова нешматлікае насельніцтва асвойвае шырокую прастору, добра характарызуе вядомы ў генетыцы «эфект заснавальніка»: выпадковае спалучэнне рыс, уласцівых малой групе, замацоўваецца сярод мноства яе нашчадкаў і становіцца ўстойлівым. Нешта падобнае ўжо адбывалася з продкамі славян, хоць і ў меншых маштабах, прынамсі двойчы: пры перасяленні разам з бастарнамі з берагоў Віслы ў Падняпроўе і пры фармаванні кіеўскай культуры на аснове групы Грыні—Абідня пасля сыходу тых жа бастарнаў.

**Мал. 10. Жаночыя ўпрыгожанні сярэдзіны I тысячагоддзя н.э.** (паводле Л. Дучыц)



Але на гэты раз перамены закранулі не толькі матэрыяльную культуру, але таксама і этнічную самасвядомасць. Пра гэта кажа з’яўленне адначасова з пражскай культурай і новага этноніма «славяне» («склавіны»), зафіксаванае амаль адначасова двума аўтарамі: згадваемым гоцкім гісторыкам Іарданам і візантыйскім пісьменнікам Пракопіем Кесарыйскім[62].

Іардан выглядае больш інфармаваным адносна перадгісторыі славян. Апісваючы каля 550 г. сучасную яму сітуацыю, ён падкрэслівае, што шматлюдны народ венетаў (Venetharum nation populosa), «чые назвы цяпер мяняюцца ў залежнасці ад розных родаў і мясцовасцей, пераважна ўсё ж завецца склавінамі і антамі» (Sclaueni et Antes). Яны ж, «паходзячы з аднаго кораня, спарадзілі тры народы, а менавіта венетаў, антаў і склавінаў» (ab una stripe exorti, tria nunc nomina ediderunt, id est Venethi Antes Sclaueni). Такім чынам, згодна з Іарданам, у яго час старое імя венетаў яшчэ заставалася ва ўжытку — тычылася адной з трох іх частак. Яно сапраўды павінна было існаваць шырока — толькі гэтым можна растлумачыць, што германцы значна пазней называлі ім палабскіх славян (winden, wenden), а фіны — славян наогул (venë, veneä, venäjä). Але гэтае імя не было вядомае Пракопію, які пісаў у другой палове 540-х гг. (яго праца была апублікаваная ў 551 г.). Ён таксама сцвярджаў, што некалі ў склавінаў і антаў было агульнае імя, але яно гучала як «споры» (Σπόροι), сугучна грэцкаму «насенне», «нашчадкі», што адразу ж спрабаваў растлумачыць сам Пракопій. З усіх пазнейшых тлумачэнняў заслугоўвае ўвагі здагадка Г. Лаўмяньскага, што зыходны тэрмін «спорыя» (у сэнсе «рухомыя», «шматлікія») мог быць выкарыстаны

[62] Прокопий Кесарийский. Война с готами / Пер. С.П. Кондратьева. Москва, 1950.

**Мал. 11. Лакалізацыя этнонімаў першай паловы VI ст.**
(паводле М. Парчэўскага ў інтэрпрэтацыі Р. Церпілоўскага)




1 — межы рассялення славян і антаў; 2 — паўночная мяжа Візантыі; 3 — меркаваны шлях міграцыі герулаў, апісанай Пракопіем Кесарыйскім; 4 — напрамкі нападаў славян на Візантыю.

славянскім інфарматарам Пракопія, але не абавязкова з'яўляўся этнонімам[63]. Што тычыцца няведання ім імя венетаў, то, магчыма, сярод перасяленцаў на Дунай, з якімі кантактавалі візантыйцы, яно не ўжывалася. Там пераважалі новыя імёны.

Лакалізацыя склавінаў і антаў, прыкладна аднолькава апісаная Іарданам і Пракопіем, досыць пераканаўча суадносіцца з арэаламі адпаведна пражскай і пяньkoўскай культур — дакладней, з іх заходнімі часткамі, набліжанымі да Падунаўя. Вялікая частка тэрыторыі Польшчы ў гэты час заставалася бязлюднай пасля сыходу вандалаў і гепідаў на межы Рыма. Гэта пацвярджае і аповед Пракопія пра міграцыю герулаў з нізоўяў Дуная ў Ютландыю, падчас якой яны прайшлі спачатку землі склавінаў, а затым бязлюдныя пустыні. Славянскія помнікі сукаўска-дзедзіцкай групы з'яўляюцца там толькі ў другой палове VI ст. Улічваючы гэта, з трэцяй групай — уласна венетамі — можна звязаць толькі арэал калочынскай культуры, якая ўтварылася на месцы кіеўскай. Такую думку ўжо выказваў, у прыватнасці, Р. Церпілоўскі[64]. Менавіта там зыходнае імя венетаў магло захоўвацца ў недатыкальнасці. Не была закранутая трансфармацыямі і іх старажытная мова. Можна меркаваць, што архаічныя рысы, абумоўленыя агульным паходжаннем і падобным субстратам, збліжалі яе з балцкімі мовамі ў значна большай ступені, чым славянскую, якая адкалолася ў працэсе бурнай трансфармацыі. У такім выпадку частка гідранімii, цяпер атрыбутуемай

[63] Łowmiański H. Początki Polski. T. 2. Warszawa, 1963.
[64] Терпиловський Р. Біля витоків слов'янства (за матеріалами Подніпров'я).

як «дняпроўска-балцкая», магла ў рэчаіснасці мець венецкае паходжанне, і ў гэтым можна ўгледзець адзінае рацыянальнае зерне гіпотэз пра «дняпроўскіх балтаў» і «нераздзеленых балта-славян» Падняпроўя.

**Славянізацыя Беларусі**

На тэрыторыі Беларусі пражская культура ахоплівала толькі паўднёвыя і паўднёва-заходнія ўскраіны, прыкладна да Ясельды і Прыпяці. Далей на поўнач, на былой тэрыторыі культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай, фіксуецца ўсё больш узмацнелы прыток новага насельніцтва, але не з пражскага, а з кіеўска-калочынскага арэала[65]. Пад уздзеяннем гэтага імпульсу ва ўсходняй частцы культуры штрыхаванай керамікі амаль адначасова з пражскай фармуецца банцараўская культура, а на месцы днепра-дзвінскай — тушамлянская. Большасць іх насельніцтва склалі абарыгены, прамыя нашчадкі Тацытавых фенаў і Герадотавых андрафагаў. Магчыма, яны ўсё яшчэ захоўвалі старажытную мову, якая ўзыходзіла да супольнасці шнуравой керамікі. Але не выключана, што разам з актыўным прышлым кампанентам была прынесеная і венецкая ідэнтычнасць, а разам з ёй мова — роднасная, але не ідэнтычная агульнаславянскай.

Рассяленне саміх балтаў ужо ў асноўным завяршалася. У Жамойці адбыўся пераход ад курганных пахаванняў да грунтовых, а курганныя распаўсюдзіліся на поўнач Літвы і левабярэжжа Дзвіны (у Латгаліі)[66]. У Сярэднім Панямонні ўзнікла культура каменных курганоў, якую звязваюць з фармуемым этнасам яцвягаў. У заходняй частцы арэала штрыхаванай керамікі склалася культура ўсходнябалцкіх курганоў, якая адносіцца да продкаў літоўцаў-аўкштайтаў. Паводле апошніх даследаванняў, гэта адбылося таксама ў выніку імпульсу з захаду, з супольнасці культур з шурпатай керамікай.

З падзеямі гунскага і паслягунскага часу звязана і ўзнікненне культуры пскоўскіх доўгіх курганоў. Яе прышлы кампанент наклаўся на мясцовы субстрат, роднасны прыбалтыйскім фінам. На думку В.В. Сядова, шлях прышэльцаў маркіруюць В-падобныя спражкі, якія маюць аналагі ў Цэнтральнай Еўропе[67]. Разам з тым, інвентар і пахавальныя звычаі гэтай культуры маюць вялікае падабенства з курганнымі і грунтовымі могільнікамі балтаў, а ў кераміцы прасочваецца банцараўска-тушамлянскі кампанент[68]. Магчыма, у гэтую культуру ўлілася група балтаў, якая прымала ўдзел у барацьбе за гунскую спадчыну, а потым вярнулася на поўнач Еўропы, прычым яна ўключыла ў свой склад і групу дняпроўскіх венетаў. Якая мова пры гэтым узяла верх — балцкая, венецкая або субстратная, — вызначыць складана. Але ў любым выпадку, гэтая культурная група ўяўляе асаблівую цікавасць, бо яна паслужыла адным з кампанентаў пры фармаванні полацкіх крывічоў.

Далейшы этап славянскага рассялення звязаны з эпохай Аварскага каганата. Авары (летапісныя обры) уяўлялі сабой адну з качавых ордаў, якая першапачаткова ўваходзіла ў цюркскі каганат Заволжа. У сярэдзіне VI ст. яны перасяліліся на сярэдні Дунай і прыкладна да 568 г. заснавалі магутную протадзяржаву з цэнтрам у Панонii. Авары падпарадкавалі сабе частку балгараў і славян, якіх выкарыстоўвалі ў сваіх войнах з Візантыяй. З пачатку VII ст. славяне пачалі масава перасяляцца на правы

---

[65] Лопатин Н.В., Фурасьев А.Г. О роли памятников III—V вв. н.э. в формировании культур псковских длинных курганов и Тушемли—Банцеровщины // Петербургский археологический вестник. Вып. 9. С.-Петербург, 1994. С. 136—142; Лопатин Н.В. Керамические стили и культурные группы III—V вв. н.э. в Верхнем Поднепровье и Подвинье // Культурные трансформации и взаимовлияния в Днепровском регионе на исходе римского времени и в раннем средневековье. С.-Петербург, 2004. С. 144—157.

[66] Lietuvos TSR archeologijos atlasas.

[67] Седов В.В. Славяне в раннем средневековье. Москва, 1995.

[68] Фурасьев А.Г. Современное состояние проблемы соотношения древностей типа Тушемля—Банцеровщина и псковских длинных курганов // Насельніцтва Беларусі і сумежных тэрыторый у эпоху жалеза. Мінск, 1992. С. 104—108.

**Мал. 12. Культуры V—VII стст.** (паводле Р. Церпілоўскага)




1 — пражская; 2 — пянькоўская; 3 — калочынская; 4 — банцараўска-тушамлянская; 5 — мошчынская; 6 — мяжа расселення балтаў; 7 — раннеславянскія помнікі V ст.; 8 — напрамкі экспансіі славян і венетаў.

бераг Дуная, непасрэдна ў візантыйскія ўладанні. Тады ж на захадзе стаў адчувацца ўплыў франкаў — найбольш паспяховага з новых варварскіх каралеўстваў, якое дало пачатак новай заходнееўрапейскай цывілізацыі. Франкскі купец Сама ў 623 г. стварыў на заходняй перыферыі Аварскага каганата яшчэ адну протадзяржаву, амаль адзіным насельніцтвам якой упершыню былі славяне. Праўда, яна распалася пасля яго смерці.

На поўдні Усходняй Еўропы ў 640-я гг. дамінаванне перайшло да балгараў, а з 670-х гг. — да хазараў, новых цюркамоўных перасяленцаў з усходу. Авары ў другой палове VII ст. працягвалі кантраляваць Сярэдняе Падунаўе, але страцілі былую моц і пачалі паступова змешвацца з пастаянна перасяляемымі туды славянамі. Адна з балгарскіх ордаў, выцесненая хазарамі на Ніжні Дунай, таксама заснавала там протадзяржаву з удзелам падначаленых ім славян.

Увесь гэты час колькасць славян няўхільна ўзрастала. У другой палове V ст. насельніцтва фармуемай пражскай культуры наўрад ці перавышала 200—300 тысяч

чалавек, а да канца VII ст. яго можна ацаніць у 2—3 мільёны. Улічваючы моцную аднастайнасць гэтай культуры, асноўным фактарам, на гэты раз, варта лічыць натуральны дэмаграфічны прырост, а інтэграцыя чужынцаў мела другараднае значэнне. Гэты дэмаграфічны выбух стаў магчымым дзякуючы наяўнасці ў Цэнтральнай Еўропе вялікіх незаселеных прастор, пакінутых германцамі, якія раней там жылі.

Да гэтага перыяду можна аднесці некаторыя звесткі з недатаванай часткі «Аповесці мінулых гадоў»: пра рассяленне славян на Дунаі, залежнасць ад обраў племяннога саюзу дулебаў, пра зваротны рух славян з Падунаўя, у працэсе якога складаліся новыя племянныя саюзы: мараваў, чэхаў, ляхаў і інш. Мабыць, да гэтага ж часу адносяцца зафіксаваныя «Аповесцю» паданні, якія адлюстроўваюць дыферэнцыяцыю славян Сярэдняга Падняпроўя на палян (жыхароў лесастэпу) і драўлян (насельнікаў лясной зоны)[69].

Археалагічна зваротным рухам славян з уладанняў Аварскага каганата на поўнач адпавядае перарастанне на мяжы VII і VIII стст. пражскай культуры ў культуру тыпу Лукі-Райкавецкай, што адбывалася пад выразнымі імпульсамі з Падунаўя. Дадатковымі пацвярджэннямі гэтай міграцыі служаць дублетныя племянныя назвы, зафіксаваныя ў розных частках славянскага арэала: мараване ў цяперашніх Чэхіі і Сербіі, харваты ў Чэхіі і Харватыі, абадрыты на Дунаі і Эльбе, северы ў Балгарыі і северане на Чарнігаўшчыне. Такую ж пару ўтвараюць драгувіты (на поўначы Грэцыі) і дрыгавічы, якія першапачаткова павінны былі займаць ускраіну лука-райкавецкай культуры дзесьці на правым беразе Прыпяці.

Прыток насельніцтва з лука-райкавецкай культуры фіксуецца і паўночней, але ў выглядзе адасобленых культурных рыс, якія не ўтвараюць цэласнай сістэмы: нажоў з валютападобнай ручкай, месяцападобных і бранзалетападобных скроневых кольцаў і да т.п.[70]. Верагодна, гэта быў перыяд суіснавання архаічнай венецкай ідэнтычнасці з новай, славянскай, якая распаўсюджвалася сярод этнічна блізкага насельніцтва. Дняпроўскія венеты і рэшткі субстратнага насельніцтва патроху пераймалі новыя матэрыяльныя рысы і стылі паводзінаў, але са старой ідэнтычнасцю пакуль канчаткова не парывалі.

З падунайскім імпульсам звязанае і перарастанне тушамлянскай культуры ў культуру смаленскіх доўгіх курганоў. Але ў гэтым працэсе ўдзельнічалі і іншыя кампаненты — з калочынскай культуры і пскоўскіх доўгіх курганоў. Які з гэтых імпульсаў стаў вырашальным — сказаць цяжка. Магчыма, гэта быў балцкі кампанент, які дадаў саму традыцыю доўгіх курганоў. У такім выпадку ён мог прынесці на паўночны ўсход Беларусі і сапраўды балцкую гідраніміку. З гэтым кампанентам можна было б супаставіць этнонім «галядзь», зафіксаваны на ўсходняй ускраіне арэала смаленскіх курганоў, але больш пераканаўчым уяўляецца яго сувязь са спадчынай мошчынскай культуры. У любым выпадку, напрамую звязваць з доўгімі курганамі летапісных крывічоў, як гэта робіць Г.В. Штыхаў[71], няма дастатковых падстаў: іх племянны саюз, мабыць, склаўся ўжо ў наступны перыяд.

Гэты новы перыяд прыпадае на канец VIII — першую палову IX ст. У гэты час па ўсёй лясной зоне Усходняй Еўропы, уключаючы і тэрыторыю Беларусі, хутка распаўсюджваецца аднастайны абрад пахаванняў крэміраваных нябожчыкаў у паўсферычных курганах, характэрны стыль керамікі і шэраг іншых рыс, якія сведчаць аб культурнай уніфікацыі. Новую культуру, якая мае непасрэдны працяг у эпосе Кіеўскай Русі, археолагі ўпэўнена звязваюць са славянамі. Менавіта тады плямёны або племянныя саюзы, што згадваюцца ў «Аповесці мінулых гадоў», занялі свае канчатковыя месцы: дрыгавічы — «межю Припетью и Двиною», палачане — на Дзвіне ля ўпадзення ў яе рэчкі Палаты, крывічы — «на верх Волги, и на верхъ Двины и на верх Днепра», радзімічы — па Сожу.

[69] Повесть временных лет. Ч. 1. Текст и перевод. Москва; Ленинград, 1950.

[70] Седов В.В. Славяне в раннем средневековье.

[71] Штыхов Г.В. Формирование полоцких кривичей // Iš baltų kultūros istorijos. Vilnius, 2000. С. 209—218.

**Мал. 13. Жаночыя ўпрыгожанні, характэрныя для славянскіх курганных могільнікаў** (паводле Л. Дучыц)



Большасць археолагаў лічыць, што вырашальным штуршком да канчатковай славянізацыі лясной зоны паслужыла другая хваля рассялення з арэала культуры тыпу Лукі-Райкавецкай. Пры гэтым дрыгавічы мелі агульныя карані з паўднёвымі плямёнамі (продкамі ўкраінцаў, а збольшага і палякаў): валынянамі, драўлянамі і палянамі. Усе названыя плямёны ўяўлялі сабой блізкароднасную групу, у фармаванні якой роля якога-небудзь субстрату не прасочваецца. Археалагічна яны ўяўляюць сабой прамы працяг культуры тыпу Лукі-Райкавецкай. Пазней паўночная галіна дрыгавічоў распаўсюдзілася на тэрыторыю банцараўскай культуры, але гэта не прывяло да істотнага яе адрознення ад заходняй часткі іх арэала на Прыпяці.

Старажытнасці радзімічаў ахапілі значную частку праславянскага (кіеўска-калочынскага) арэала і пры гэтым асабліва блізкія да старажытнасцей вяцічаў (якія накладаліся на арэал мошчынскай культуры), што нядрэнна адпавядае летапісным паведамленням аб іх сумеснай міграцыі. Мабыць, і радзімічы, і вяцічы сфармаваліся ў выніку заваршальнай хвалі славянскага рассялення, уключыўшы ў свой склад блізкародных венетаў і галяздзь.

Працэс фармавання крывічоў і палачан быў даволі складаным. Яны склаліся ў выніку некалькіх хваляў спачатку венецкага, а затым уласна славянскага пранікнення ў арэал старажытнага субстратнага насельніцтва і пры гэтым змяшаліся з такімі ж прышлымі балтамі. Палачане, мяркуючы па археалагічных звестках, былі бліжэй за ўсё да смаленскіх і пскоўскіх крывічоў, якія, як і вяцічы, увайшлі пазней у склад велікарускага этнасу. З іншых плямёнаў найболей блізкімі да крывічоў былі іх паўночныя суседзі — славене наўгародскія.

Гэта была апошняя па-сапраўднаму масавая міграцыя, апошняя буйная ператасоўка генафонду будучых беларусаў. У наступныя эпохі мелі месца толькі адносна лакальныя перамяшчэнні, якія ўносяць невялікія змены ў амаль завершаную карціну. Падмурак быў закладзены, гісторыі засталося ўзвесці на ім будынак беларускага этнасу. Галоўным рухавіком этнагенезу з гэтага часу стаў не прыток новых людзей з іх мовамі і звычаямі, а адносна плаўная эвалюцыя пад уздзеяннем, у першую чаргу, палітычных, а таксама культурна-рэлігійных фактараў.

**Славяне і субстрат**

Археолагі разыходзяцца ў пытанні пра тое, якая была роля мясцовага субстрату ў фармаванні славянскага насельніцтва Беларусі. Адну крайнасць уяўляе меркаванне, быццам славяне цалкам выцеснілі або вынішчылі тубыльцаў (прынамсі, іх мужчынскую

частку), іншую — што славянізацыя праходзіла шляхам мяккай асіміляцыі, і беларусы ўяўляюць сабой «аславяненых балтаў» (маюцца на ўвазе «дняпроўскія балты»).

Вырашыць зацягнутую спрэчку пра тое, які з гэтых пунктаў гледжання бліжэйшы да ісціны, дазваляе новы тып крыніц, які з'явіўся зусім нядаўна — даныя генетычнага аналізу ўчасткаў ДНК, якія перадаюцца па мужчынскай або жаночай лініі (аднабацькоўскіх спадчынных маркёраў). Гэтыя даныя вельмі ўдала дапаўняюць традыцыйныя метады, таму што дазваляюць надзейна выявіць асноўныя кампаненты, якія прымалі ўдзел у складанні сучасных этнасаў.

Маркёры Y-храмасомы ўяўляюць найбольшую цікавасць для рэканструкцыі этнагенезу, паколькі ўвесь іх набор строга ўнікальны для кожнай мужчынскай генетычнай лініі. Аднойчы паўстаўшы, кожны мутантавы алель затым успадкоўваецца ўсімі сынамі, унукамі, праўнукамі і г.д., пакуль новая мутацыя не дасць пачатак больш маладой лініі сярод мужчынскіх нашчадкаў. Адрозніваюцца два тыпы маркёраў: бінарныя (вынікі кропкавых мутацый, пры якіх нуклеатыдная аснова можа мець два розныя алелі) і паліморфныя (змены ў ліку паўтораў на даволі доўгіх участках стэрэатыпна паўтаральных нуклеатыдаў). Аналагічным чынам па жаночай лініі ўспадкоўваецца ДНК мітахондрый (мДНК), якая перадавалася разам з цытаплазмай яйцаклеткі ад маці да дзяцей дваякага полу. Але мужчынскія лініі пераемнасці на папуляцыйным узроўні праяўленыя значна больш выразна, паколькі ў большасці сацыяльных сістэм мінулага сыны заставаліся на месцы жыхарства бацькоў, а вось дочкі сыходзілі ў іншую сям'ю, нярэдка за шмат кіламетраў ад дома. За дзясяткі і сотні пакаленняў жаночыя генеалагічныя лініі распаўсюдзіліся шырэй і перамяшаліся мацней, чым мужчынскія. Таму, хоць першыя метады этнагенетычных рэканструкцый адпрацоўваліся менавіта на мДНК[72], у апошнія гады ўсё больш увага даследчыкаў канцэнтруецца на вывучэнні мужчынскіх генетычных ліній[73].

Перш за ўсё адзначым нядаўняе даследаванне паліморфных маркераў Y-храмасомы, у якім выкарыстоўваліся матэрыялы беларускага антраполага А.І. Мікуліча[74]. Пры статыстычнай апрацоўцы выявілася, што сярод славянскіх выбарак з тэрыторыі Беларусі, Польшчы, Славакіі, Расіі, Украіны і інш. найбольшая разнастайнасць уласцівых ім гаплатыпаў (унікальных спалучэнняў ліку паўтораў у некаторых участках храмасомы) фіксуецца на паўднёвым усходзе Беларусі. Гэта значыць, што зыходным пунктам іх рассялення быў менавіта гэты рэгіён (арэал кіеўскай культуры).

Гэта не супярэчыць гіпотэзе пра тое, што першапачатковая праславянская агульнасць лакалізавалася ў лужыцка-паморскім арэале. Там першапачатковы склад папуляцыі проста не захаваўся: ён быў моцна разбаўлены прышлымі германцамі ўжо ў латэнскі перыяд, а ў далейшым насельнікі гэтых тэрыторый, вядомыя пад імёнамі вандалаў, скіраў, гепідаў, ругіяў і інш., цалкам пакінулі іх дзеля далёкіх міграцый, у ходзе якіх іх генафонд рассеяўся ад Балканаў да Іберыі і Паўночнай Афрыкі. Пасля тэрыторыя Польшчы была заселеная славянамі паўторна. Затое нашчадкі паморскай культуры, якія ўвайшлі ў склад зарубінецкай, ніколі не пакідалі сваю новую радзіму цалкам. Частка іх таксама знікла ў міграцыях бастарнаў, остготаў, невядомых па імені носьбітаў іменькоўскай культуры Паволжа, але кожны раз частка насельніцтва заставалася на месцы і перадавала свой генафонд нашчадкам. Таму натуральна, што менавіта тут захавалася найбольшая яго разнастайнасць.

Неаднаразовае праходжанне праз «бутэлечнае рыльца» (пры фармаванні верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры, затым — кіеўскай і пражскай культур) добра адпавядае таксама рэзкай своеасаблівасці славян па складзе бінарных

[72] На папулярным узроўні гісторыя зараджэння і развіцця гэтай методыкі добра выкладзена ў кнізе: Сайкс Б. Расшифрованный код Ледового человека: От кого мы произошли, или Семь дочерей Евы / Пер. с англ. Е.Я. Мигуновой. Москва, 2005.

[73] З папулярнай літаратуры на рускай мове можна парэкамендаваць кнігу: Оппенгеймер С. Изгнание из Эдема. Масква, 2004.

[74] Rębała K., Mikulich A.I., Tsybovsky I.S., et al. Y-STR Variation Among Slavs: Evidence for the Slavic Homeland in the Middle Dnieper Basin // J. Hum. Genet. 2007. 52(5):406—414.

**Мал. 14. Распаўсюд гаплагрупы R1a1** (паводле П. Андэрхіла з суаўтарамі: Underhill P., Myres N.M., Rootsi S., et al. Separating the post-Glacial Coancestry of European and Asian Y Chromosomes within Haplogroup R1a // European Journal of Human Genetics, 2010. 18 (4): 479)




маркёраў. Пэўная паслядоўнасць мутацый у гэтых маркёрах вызначае прыналежнасць іх носьбітаў да гаплагруп, якія пазначаюцца чаргуемымі лацінскімі літарамі і арабскімі лічбамі. Паколькі час ад часу выяўляюцца новыя мутацыі, наменклатура ўвесь час мяняецца, што знаходзіць адлюстраванне на сайце міжнароднага кансорцыума па вывучэнні Y-храмасомы[75]. Так, даволі распаўсюджаныя ў Еўропе гаплагрупы, якія раней пазначаліся як E3b1, I1b1, N3a, цяпер носяць імёны адпаведна E1b1b1, I2a, N1c1, а да моманту публікацыі гэтага артыкула некаторыя абазначэнні могуць зноў змяніцца. Таму некаторыя аўтары аддаюць перавагу менш нагляднай, затое нязменнай сістэме абазначэння асобных мутацый, па наяўнасці якіх вызначаецца прыналежнасць да гаплагрупы.

Генетычная своеасаблівасць славян вызначаецца вельмі высокай канцэнтрацыяй гаплагрупы R1a1 (вызначаемай па мутацыях M17 і M198) у спалучэнні з гаплагрупай I2a (мутацыя M26). Першая з іх у большасці славянскіх выбарак (уключаючы і Беларусь) складае каля 40—50 % і больш, другая — каля 10—20[76]. Гэткая высокая канцэнтрацыя абедзвюх гаплагруп адначасова не зафіксаваная больш ні ў аднаго сучаснага народа[77]. Высокую канцэнтрацыю R1a1 маюць, акрамя славян, жыхары Індыі і цэнтральнаазіяцкіх стэпаў, што відавочна вызначаецца спадчынай зрубна-андронаўскай культурнай супольнасці, а таксама балты, эстонцы і паволжскія фіны (там яна прадстаўляе спадчыну супольнасці шнуравой керамікі). Пры гэтым у іх, у адрозненне ад славян, гаплагрупа I2a сустракаецца на ўзроўні 1—2 %. У Заходняй Еўропе гаплагрупа R1a1 распаўсюджаная з частатой 2—5 %, I2a — прыкладна ўдвая менш. Высокая канцэнтрацыя R1a1 выяўленая толькі ў рэгіёнах, дзе некалі існавалі

[75] http://isogg.org/tree/.

[76] Харьков В.Н., Степанов В.А., Фещенко С.П. и др. Частоты диаллельных гаплогрупп Y-хромосомы у белорусов // Генетика. 2005. Т. 41. № 8. С. 1132—1136; Kushniarevich A.I., Sivitskaya L.N., Danilenko N.G., et al. Y-chromosome gene pool of Belarusians — clues from biallelic markers study // Доклады Национальной академии наук Беларуси. 2007. Т. 51. № 5. С. 100—105.

[77] Зводкі даных па распаўсюджанні гаплагруп можна знайсці, у прыватнасці, на сайце: http://genofond.ru/default2.aspx?s=0&p=346.

**Мал. 15. Распаўсюд гаплагрупы I2a** (па матэрыялах інтэрнэт-публікацый)




культуры шнуравой керамікі: у Нарвегіі і Усходняй Германіі (25—30 %), Даніі і Швецыі (12—18), пры долі I2a на ўзроўні 1 %.

У сваю чаргу, I2a мае сусветны максімум у Босніі і Харватыі — у асобных выбарках да 60—70 %. У іншых папуляцыях паўднёвых славян яе частата складае ад 20 да 30 % і больш. Яна шырока прадстаўленая таксама ў Румыніі (да 40 %), Малдове (20 %) і Грэцыі (10—20 %). У Венгрыі, дзе старажытнае насельніцтва было моцна разбаўленае хвалямі міграцый, канцэнтрацыя I2a застаецца на ўзроўні каля 10 %. За межамі Еўропы прыкметная яе доля зафіксавана толькі ў Анатоліі — каля 2,5 %. Відавочная сувязь гэтай гаплагрупы з неалітычнымі культурамі Балканаў і Прыдунаўя, якія сфармаваліся на мясцовай мезалітычнай аснове. Высокая канцэнтрацыя ў Румыніі можа ўказваць на тое, што сярод старажытных фракійцаў гаплагрупа I2a была прадстаўленая даволі шырока.

Акрамя гэтага, у славян на ўзроўні 5 % прысутнічае гаплагрупа E1b1b1, прынесеная падчас «неалітычнай рэвалюцыі» з Блізкага Усходу, прычым асноўная яе частка, мабыць, прыпадае на мутацыю V13, якая ўзнікла ўжо на Балканах не пазней канца бронзавага веку (але яна прадстаўленая прыкладна ў такой жа канцэнтрацыі і на захадзе Еўропы).

З гэтага вынікае, што два асноўныя кампаненты славянскага генафонду маюць рознае паходжанне. Адзін з іх, прадстаўлены гаплагрупай R1a1, з'яўляецца мясцовым, уласцівым Усходняй Еўропе з часоў неаліту. Характэрныя для яго гаплатыпы былі вылучаныя па касцяных рэштках з магільніка Элаў ва Усходняй Германіі, якія належаць да культуры шнуравой керамікі. Пры гэтым славяне маюць самую высокую долю R1a1 сярод бліжэйшых суседзяў. Гэта можа тлумачыцца «эфектам заснавальніка» пры ўтварэнні пражскай культуры, у носьбітаў якой гэтая гаплагрупа выпадкова апынулася ў павышанай канцэнтрацыі.

Другі кампанент звязаны паходжаннем з Балканамі і Падунаўем. Яго высокая канцэнтрацыя даволі рэзка аддзяляе славян ад суседніх балтаў, фіна-уграў і германцаў. Гэта значыць, што для продкавай балта-славянскай або старажытнаеўрапейскай папуляцыі ён быў нехарактэрны. Продкі славян уключылі ў свой склад гэты кампанент ужо пасля падзелу з балтамі. Тут магчымыя два тлумачэнні. Па-першае, высокую долю I2a мог прыўнесці з сабой позняскіфскі кампанент, які выразна адчуваецца ў сярэднедняпроўскім варыянце зарубінецкай культуры і прасочваецца затым аж да фармавання кіеўскай культуры. Лесастэпавыя скіфы-земляробы сфармаваліся пры несумнеўным удзеле нашчадкаў белагрудска-чарналескай супольнасці позняга бронзавага веку, якая, у сваю чаргу, мела агульныя карані з фракійцамі. Па-другое, доля I2a ў славян магла падвысіцца за кошт асіміляцыі раманізаваных фракійцаў падчас іх сумеснага знаходжання ў складзе Аварскага каганата, адкуль гэты дамешак прынеслі ў лясную зону носьбіты падунайскага кампанента лука-райкавецкай культуры. Пакуль яшчэ рана сцвярджаць канчаткова, які з гэтых двух фактараў быў асноўным, але больш высокая канцэнтрацыя I2a на Палессі ў параўнанні з Заходняй Украінай і Славакіяй кажа на карысць першай здагадкі.

Трэці характэрны кампанент славянскага генафонду прадстаўлены гаплагрупай N1c (мутацыя M46/Tat), у асноўным — яе падгрупай N1c1 (мутацыя M178), якая шырока пашырылася ў лясной зоне Усходняй Еўропы, верагодна, разам з неалітычнай культурай ямачна-грабеньчатай керамікі. Яе звышвысокая доля ў сучасных фінаў (ад 60 да 77 %) тлумачыцца, калі меркаваць па нізкай разнастайнасці спадарожных паліморфных маркёраў, моцным генетычным дрэйфам (значная частка фінаў з'яўляецца нашчадкамі адзінага мужчыны, які жыў некалькі тысячагоддзяў таму і належаў да гэтай гаплагрупы). Але ў іншых фінамоўных народаў гэтая гаплагрупа таксама вельмі пашыраная: у карэлаў і вепсаў — 35—40 %, удмуртаў — 56, комі — 50. Амаль такая ж высокая яе доля сярод эстонцаў, латышоў і літоўцаў — на ўзроўні 30—40 %. Відавочна, што мясцовы кампанент «ляснога неаліту» ў іх складзе супастаўляльны з прышлым, прыўнесеным культурамі шнуравой керамікі.

На поўначы Усходняй Еўропы прысутнічае яшчэ адна цікавая гаплагрупа — N1b (мутацыя P43), характэрная для паўднёвай і заходняй Сібіры. У нганасан яна складае больш за 90 % (тут таксама не выклікае сумневаў роля генетычнага дрэйфу), у ненцаў — 50—56, у хантаў — 38, у хакасаў, тувінцаў і народаў Алтая — блізу 25—35. Тым цікавейшая яе прысутнасць на ўзроўні 15—25 % у комі і ўдмуртаў, каля 10 — у марыйцаў і чувашоў і ў вельмі невялікай прапорцыі (менш за 1 %) — у фінаў. Відавочна, пашырэнне гэтай гаплагрупы ў Еўропе звязанае з міграцыяй носьбітаў прафінскіх моў, што фіксуецца ў познім бронзавым веку помнікамі турбінска-сеймінскага тыпу, а затым — ананьінскай і роднаснымі культурамі (познекаргапальскай, лукансаары).

Супастаўляючы долю «паўднёвых» (I2a) і «паўночных» (N1c і N1b) гаплагруп у розных папуляцыях славян, можна ацаніць удзельную вагу субстратнага насельніцтва ў іх складзе. Адразу ж кідаецца ў вочы ягоная высокая доля ў паўночных рускіх: доля гаплагрупы N1c у іх перавышае 35 %, а доля N1b вагаецца ад 3 да 16 %. У большасці выбарак з цэнтральнай Расіі доля N1c складае 10—15 %, а N1b — 0—1 %. Адпаведна, доля I2a ў паўночных рускіх складае ад 5 да 10 %, у цэнтральных — каля 10 %.

Як і трэба было чакаць, у непасрэдных нашчадкаў пражскай культуры — палякаў, чэхаў, славакаў і ўкраінцаў — назіраецца супрацьлеглая карціна: гаплагрупа N1c фіксуецца на ўзроўні 2—6 % (пры адсутнасці N1b), а гаплагрупа I2a — ад некалькіх адсоткаў у чэхаў да 10 % у палякаў і да 15—20 % у ўкраінцаў (на жаль, у многіх даследаваннях мутацыя P37.2, якая дазваляе адрозніць I2a ад іншых галін продкавай гаплагрупы I, не вызначалася).

Улічваючы, што на захадзе славянскага арэала першапачатковая канцэнтрацыя характэрных для яго гаплагруп была разбаўленая змяшэннем з германцамі, можна выказаць здагадку, што напярэдадні свайго масавага рассялення славяне складаліся з прыблізна 5—6 % носьбітаў N1c і з каля 20 % — I2a, а доля R1a1 складала каля паловы. Што тычыцца прабалтаў і нашчадкаў культур штрыхаванай керамікі і

**Мал. 16. Пашырэнне гаплагруп N1b і N1c** (паводле С. Раотсі)




днепра-дзвінскай, то ў іх паўднёвая гаплагрупа I2a наўрад ці была прадстаўленая наагул (яе сляды ў літоўцаў і латышоў могуць тлумачыцца пазнейшым славянскім дамешкам), а суадносіны N1c і R1a1 маглі быць прыблізна такімі ж, як у сучасных балтаў, эстонцаў і паволжскіх фінаў — ад 30 да 40 % кожнай.

У сучасных беларусаў канцэнтрацыя I2a змяняецца ад 27 % у Пінскім Палессі (што таксама можа тлумачыцца наступствамі генетычнага дрэйфу) і 22 у Гомельскім Палессі да 3—7 на паўночным усходзе, а канцэнтрацыя N1c — ад 6—9 % на поўдні да 12 % на паўночным захадзе і амаль 15 % — на поўначы. Таксама на поўначы фіксуюцца і адзінкавыя выпадкі гаплагрупы N1b. Калі ж ссумаваць даныя па ўсіх

беларускіх выбарках, то N1b складае 0,4 %, N1c — каля 9 %, I2a — 16 % альбо крыху больш. Па меры павелічэння аб'ёму даследаваных выбарак гэтыя лічбы могуць удакладняцца, але агульная карціна наўрад ці зазнае істотныя змены.

Відавочна, што генафонд беларускага этнасу ў цэлым вельмі блізкі да першапачатковага генафонду ранніх славян — настолькі, што казаць пра беларусаў як пра «аславяненых дняпроўскіх балтаў» няма аніякіх падстаў. Разам з тым роля асіміляванага субстрату вельмі выразна адчуваецца на паўночным захадзе і поўначы Беларусі (у Гродзенскай і Віцебскай абласцях), дзе ягоная доля супастаўная з доляй субстрату ў большасці велікарускіх папуляцый (за выключэннем поўначы Расіі, дзе такога субстрату значна болей). Пры гэтым павышаная доля N1c на Гродзеншчыне можа тлумачыцца змяшэннем з літоўцамі ўжо ў час ВКЛ. Але субстрат на поўначы Беларусі, без сумневаў, быў асіміляваны падчас яе славянізацыі і адлюстроўвае, відавочна, мяшаны хрaктар крывічоў і палачан.

У цэлым нашчадкі даславянскага субстрату і прышлых балтаў складаюць блізу 15 % мужчынскага насельніцтва сучаснай Беларусі. Кажучы больш строга, гэтая лічба амаль напэўна ўкладаецца ў дыяпазон ад 10 да 20 %. Доля субстрату ў жаночым насельніцтве была вышэйшая, але агульную карціну гэта прынцыпова не мяняе.

### Дзяржава ўсходніх славян

Звесткі лінгвістыкі, археалогіі і генагеаграфіі аднадушна сведчаць пра тое, што славянскі этнас на ранняй стадыі свайго існавання быў вельмі аднародным. Выразнае адчуванне гэтай першапачатковай еднасці адлюстроўваецца і ў «Аповесці мінулых гадоў». Распад славянства на тры галіны (заходніх, паўднёвых і ўсходніх) адбыўся пазней, у выніку траплення іх у сферу дзеяння розных цывілізацый. Пры гэтым узаемадзеянне пераважна з заходняй, каталіцкай цывілізацыяй абумовіла эвалюцыю заходніх славян, а знаходжанне ў арбіце праваслаўнай візантыйскай цывілізацыі — паўднёвых славян. Што тычыцца ўсходніх, то яны здолелі стварыць уласную самабытную цывілізацыю, вядомую як Кіеўская Русь (хаця ў крыніцах таго часу яна звычайна называецца проста Руссю).

Тэндэнцыя да стварэння ўласных дзяржаў з'явілася ў славянскай супольнасці прыблізна ў 830-я гг. Яскравым прыкладам з'яўляецца Вялікая Маравія, якая ўзнікла ў зоне перакрыжавання ўплываў Візантыі і каралеўства франкаў. Менавіта там упершыню была ўведзеная ў культурны ўжытак царкоўнаславянская мова, а палітычны ўплыў у часы росквіту, пры князях Расціславе і Святаполку, сягаў далёка за яе межы. Але гэтая дзяржава праіснавала толькі некалькі дзесяцігоддзяў.

Ва Усходняй Еўропе вырашальным штуршком для зараджэння дзяржавы стала складанне да пачатку IX ст. сеткі транскантынентальных гандлёвых сувязяў, ад Скандынавіі да Хазарыі і далей да Арабскага халіфата. У абмен за футра, мёд і рабоў у лясную зону пачала трапляць вялікая колькасць арабскіх і, у меншай ступені, візантыйскіх срэбных грошай, якія канцэнтраваліся ў руках мясцовай гандлёва-палітычнай эліты. На чале яе апынуліся выхадцы са Скандынавіі, якія ў гэты ж час здзяйснялі разбойніцкія рэйды па ўсёй Еўропе. У дзяржаве франкаў іх называлі нарманамі, а сярод славян і ў Візантыі — варагамі[78]. Згодна з адной пашыранай версіяй (прапанаванай яшчэ нямецкімі лінгвістамі і падтрыманай у свой час А.А. Шахматавым[79]), менавіта з імі звязанае і паходжанне назвы «Русь». Яно магло быць запазычаннем фінскага слова ruotsi (весляры), якім жыхары Усходняй Прыбалтыкі называлі шведскія гандлёва-разбойніцкія дружыны. У любым разе, найбольш верагодна, што першапачаткова гэтае слова абазначала не тэрыторыю, а вышэйшы сацыяльны слой, які кантраляваў вонкавы гандаль, і толькі потым яно перайшло на заснаваную ім дзяржаву[80].

---

[78] Duczko W. Viking Rus: Studies on the Presence of Scandinavians in Eastern Europe. Leiden and Boston, 2004.

[79] Шахматов А.А. Введение в курс истории русского языка. Ч. 1. Петроград, 1916. С. 67.

[80] Данилевский И.Н. Древняя Русь глазами современников и потомков (IX—XII вв.). Москва, 1998.

Русь з’яўляецца ў пісьмовых крыніцах у 839 г., калі група варагаў-шведаў назвалася пры двары германскага імператара «росамі», паслямі нейкага загадкавага валадара, называемага каганам альбо, пры іншай інтэрпрэтацыі, маючага скандынаўскае імя Хакан (gentem suam, Rhos vocari dicebant: quos rex illorum Chacanus vocabulo)[81]. Неўзабаве візантыйскія і арабскія крыніцы пачынаюць паведамляць пра марскія набегі «росаў» альбо «русаў» на паўднёвае ўзбярэжжа Чорнага і Каспійскага мораў. Ананімны аўтар рукапісу, вядомага як «Баварскі географ», у сярэдзіне альбо другой палове IX ст. згадаў Русь (Ruzzi) сярод народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы адразу пасля хазараў (Caziri)[82]. На самым пачатку X ст. арабскі географ Ібн-Рустэ добра адрозніваў русаў ад славян і сцвярджаў, што іх валадар мае тытул «хакан-Рус»[83].

Дзе знаходзіўся гэты першапачатковы «каганат русаў», незразумела. Прапаноўвалася ягоная сувязь з раёнам Ладагі—Ноўгарада (Рурыкава гарадзішча), дзе ў гэты час археалагічна фіксуецца высокая актыўнасць варагаў[84]. Гэта добра адпавядала б уключанай у «Аповесць мінулых гадоў» легендзе аб пакліканні варагаў, ад якіх і «прозвася Руская земля», прычым у іншым месцы летапісу сцвярджаецца, што яна пачала называцца так з часоў візантыйскага імператара Міхаіла Ісаўра, г. зн. каля 842 г. Але поўнач Еўропы відавочна не была вядомая аўтару «Баварскага географа», і таму ён наўрад ці мог згадаць Русь, калі б яна знаходзілася там. Тытул «каган» паказвае хутчэй на землі, сумежныя з Хазарскім каганатам, напрыклад, на раён Кіева, які быў у той час другім цэнтрам палітычнай кансалідацыі. Да таго ж «Аповесць мінулых гадоў» звязвае з правячымі там варагамі Аскольдам і Дырам паход русаў на Канстанцінопаль, у візантыйскіх крыніцах датаваны 860 г. Але якраз у Кіеве такія выразныя сляды варажскай актыўнасці ў IX ст. не фіксуюцца. Таму не выключана, што з варагамі звязанае фармаванне пераважна паўночнага (наўгародскага) палітычнага цэнтра, тады як паўднёвы (кіеўскі), дзе паўстала сама назва «Русь», зарадзіўся незалежна ад іх і быў першапачаткова звязаны з хазарамі.

У гэтай сувязі дарэчы згадаць пададзенае ў «Аповесці» паданне пра тое, што да ўтварэння Русі землі славян падзяляліся на зоны варажскай і хазарскай данін, а таксама зафіксаванае ў арабскай крыніцы XII ст. паданне, згодна з якім родапачынальнікі русаў і хазараў былі «от одной матери и отца», а пазней «Рус … написал письмо Хазару и попросил у того часть его страны, чтобы там обосноваться»[85].

У склад паўночнага ачага дзяржаваўтварэння, калі верыць паданню аб пакліканні Рурыка, уваходзілі землі крывічоў і паўночная частка Беларусі, пры гэтым аднаму са сваіх хаўруснікаў ён аддаў у валоданне горад Полацак. У той жа час паўднёвы ўсход Беларусі, населены радзімічамі, уваходзіў у зону хазарскай даніны. Цікава, што тэрыторыя дрыгавічоў у звязку з гэтымі сюжэтамі не згадваецца наагул. Зрэшты, пра яе ўцягнутасць у тыя ж працэсы сведчыць клад арабскіх дырхемаў ранняга перыяду абарачэння (786—833 гг.), знойдзены ў свой час на тэрыторыі Мінскай губерні.

Заканчэнне ўтварэння Рускай дзяржавы «Аповесць мінулых гадоў» звязвае з дзейнасцю варажскага валадара Алега (гэтае імя, відаць, з’яўляецца славянізаванай формай скандынаўскага Хельгі), які аб’яднаў абодва палітычныя цэнтры пад адной уладай і паклаў канец выплаце даніны хазарам. Адбылося гэта дзесьці ў апошняй траціне IX ст. (дакладныя даты, пададзеныя летапісцам, наўрад ці варта ўспрымаць усур’ёз). Пад ягонай уладай апынулася і ўся тэрыторыя Беларусі. Пра падпарадкаванне Алегам радзімічаў летапіс паведамляе пад 885 г., а апалчэнне крывічоў удзельнічала ў

[81] Annales de Saint-Bertin / Ed. F. Grat, J. Vieillard, S. Clemence, L. Levillain. Paris, 1964. P. 30—31; Лебедев Г.С. Эпоха викингов в Северной Европе и на Руси. С.-Петербург, 2005. С. 41.

[82] Назаренко А.В. Немецкие латиноязычные источники IX—XI вв.: Тексты, пер., коммент. Москва, 1993. С. 7—51.

[83] Ибн Русте. Дорогие ценности // Кузьмин А.Г. «Откуда есть пошла русская земля...». Т. 2. Москва, 1986. С. 565—568.

[84] Кропоткин В.В. Экономические связи Восточной Европы в I тысячелетии нашей эры. Москва, 1967.

[85] Текст о руссах из анонимного сочинения «Собрание историй» (1126 г.) // Кузьмин А.Г. «Откуда есть пошла русская земля...». Т. 2. Москва, 1986. С. 568—569.

**Мал. 17. Усходняя Еўропа ў час утварэння Старажытнарускай дзяржавы**
(паводле: Лебедев Г.С. Эпоха викингов в Северной Европе. Ленинград, 1985. С. 238)




1 — водныя шляхі; 2 — гарады IX—XI стст.; 3 — старажытнарускія плямёны; 4 — археалагічныя культуры VI—IX стст. (КК — карчацкая культура, КЛР — культура Лукі-Райкавецкай, КСДК — культура смаленскіх доўгіх курганоў, НС — наўгародскія сопкі, ПДК — пскоўска-баравіцкія доўгія курганы, РБК — раменска-боршаўская культура, СМК — салтова-маяцкая культура); 5, 6 — скарбы і асобныя знаходкі манет першага перыяду абарачэння арабскага срэбра (да 833 г.) (паводле У.У. Крапоткіна); 7 — раёны канцэнтрацыі помнікаў раннефеадальнай дружынна-гарадской культуры; 8 — першасныя дзяржаўныя тэрыторыі IX—X стст. (паводле звестак А.М. Насонава); 9 — мяжа «каганата росаў» 838—852 гг.; 10 — мяжа Кіеўскай Русі ў 882—1054 гг.

ягоным паходзе на Канстанцінопаль у 907 г. Пры гэтым Полацак згадваецца сярод гарадоў, ад імя якіх Алег заключыў хаўрус з Візантыяй. Гэта была, дарэчы, першая згадка населенага пункта на тэрыторыі Беларусі ў афіцыйнай дыпламатыі.

На працягу X ст. у палітычным уладкаванні Русі пераважалі цэнтраімклівыя тэндэнцыі. Спярша слаба звязаныя паміжсобку рэгіёны ўсё мацней адчувалі ўздзеянне адзінага цэнтра, які канчаткова перасунуўся ў Кіеў. Вельмі важна, што ў працэсе гэтай цэнтралізацыі на ўсю Русь пашырылася ўлада адной княскай дынастыі, якая сваім заснавальнікам лічыла напаўлегендарнага Рурыка. Пазней яе прадстаўнікі карысталіся выключным правам на палітычную ўладу ў любой частцы гэтай дзяржавы[86], а ўсведамленне сябе падданымі гэтай дынастыі вызначала самасвядомасць яе жыхароў. Гэтаму садзейнічала і яе хуткая славянізацыя: ужо ўнук Рурыка меў славянскае імя Святаслаў.

Такі дынастычны характар фармавання ідэнтычнасці даволі тыповы для сярэднявечча: падобным чынам самасвядомасць палякаў і чэхаў дыферэнцыявалася з агульнай этнічнай асновы, падзеленай на валоданні Пястаў і Пржэмысловічаў, а венгерскі і балгарскі этнасы, наадварот, кансалідаваліся з розных кампанентаў пад уладай нашчадкаў адпаведна Арпада і Крума.

У агульную тэндэнцыю кладзецца і ліквідацыя самастойнага кіравання ў Полацку, адлюстраваная ў летапісным сюжэце пра Рагвалода і Рагнеду (гэтыя імёны, паводле большасці лінгвістаў, з'яўляюцца славянізаванымі формамі скандынаўскіх імёнаў Рагнвальд і Рагнхільда, што адпавядае і сцвярджэнню летапісу аб варажскім паходжанні Рагвалода). Падпарадкаванне Полацка непасрэднай уладзе Уладзіміра, які неўзабаве стаў вярхоўным валадаром Русі, стала вырашальным фактарам для ўсведамлення палачанамі сваёй прыналежнасці да агульнарускай супольнасьці. Той факт, што Уладзімір пазней перадаў Полацк свайму сыну Ізяславу, толькі ўмацоўваў гэтую дынастычную сувязь.

Разам з Рагвалодам згадваецца і іншы варажскі валадар — Тур, які заснаваў свой горад Тураў у зямлі дрыгавічоў. Ягоны далейшы лёс невядомы, але пры наступных згадках Тураў выступае ўжо як непасрэднае валоданне кіеўскіх князёў. Прытым сувязь Турава з Кіевам сталася значна больш трывалай — там, у адрозненне ад Полацка, далёка не адразу замацавалася асобная галіна княскага роду.

Кульмінацыяй працэсу ўтварэння дзяржавы стала прыняцце ў 988 г. хрысціянства, што ўвяло Русь у кола хрысціянскіх народаў Еўропы. Дасягнуўшы пэўнай стадыі развіцця, дзяржава мела патрэбу ў ідэалогіі і мясцовай вытворчасці культурных каштоўнасцей, арганізаваць якія можна было толькі з дапамогай больш цывілізаванага партнёра. Для далейшага развіцця найважнейшыя наступствы меў той факт, што такім партнёрам стала не каталіцкая Свяшчэнная Рымская імперыя, якая амаль адначасова паспрыяла хрысціянізацыі Польшчы (у 966 г.) і Венгрыі (у 985 г.), а праваслаўная Візантыя.

Хаця абедзве галіны хрысціянства заставаліся кананічна еднымі да 1054 г., рэальныя адрозненні паміж імі (не столькі ў тэалогіі, колькі ў абрадавай традыцыі) існавалі заўсёды і добра адчуваліся сучаснікамі. На думку многіх гісторыкаў, сам раскол адбыўся на аснове ўзаемнага жадання канстытуцыйна пазначыць існыя адрозненні. Калі заходняя галіна хрысціянства мела некаторыя рысы агрэсіўнага празелітызму (яшчэ Карл Вялікі ўкараняў веру сярод саксаў агнём і мячом), то для Візантыі гэта было зусім неўласцівым. Яе палітыка палягала хутчэй у цярплівым чаканні таго, калі варвары даспеюць для прыняцця слова Хрыстова. Характэрна, што Уладзімір, мяркуючы па летапісным паданні, вымушаны быў выказаць настойлівасць і распачаць дэманстратыўны паход на крымскія валоданні Візантыі. Толькі пасля гэтага грэкі адмовіліся ад асцярожнага чакання і вымушана прызналі, што Русь даспела да далучэння да цывілізацыі.

Хрышчэнне Русі не азначала, што яна, падобна Балгарыі і Сербіі, непасрэдна ўвайшла ў цывілізацыйную перыферыю Візантыі. Апошняя, несумненна, высту-

[86] Назаренко А.В. Родовой сюзеренитет Рюриковичей над Русью (X—XI вв.) // Древнейшие государства на территории СССР: Материалы и исследования, 1985 год. Москва, 1985. С. 149—157.

пала ў ролі асноўнага культурнага донара. Адтуль былі запазычаныя рысы, якія аказваюць найбольшае ўздзеянне на масавую свядомасць: культавае дойлідства, традыцыя іканапісу, літургія. Царкоўная арганізацыя ўяўляла сабой частку Канстанцінопальскага патрыярхату, з 1039 г. яна мела статус мітраполіі. Але мова набажэнства была запазычаная не непасрэдна з Візантыі, а з яе паўднёваславянскай перыферыі. Асноўныя працы грэцкіх тэолагаў чыталіся на Русі ў царкоўнаславянскіх перакладах, зробленых, як правіла, у Балгарыі. Адтуль жа трапілі і тэксты, якія адлюстроўваюць ідэалогію дуалістычнай ерасі — багамільства. Маючы пэўныя паралелі са славянскім паганствам, багамільскія ідэі надалі своеасаблівае аблічча рускаму праваслаўю, асабліва ягонай простанароднай інтэрпрэтацыі.

Афіцыйнае праваслаўе таксама вельмі рана набыло своеасаблівасць. У сярэдзіне XI ст. кіеўскі князь Яраслаў Мудры дамогся кананізацыі сваіх братоў Барыса і Глеба, забітых ва ўсобіцы 1015 г. Іх культ хутка ператварыўся ў нацыянальны (прынамсі, на ўзроўні эліты). Гэтая пара святых пакутнікаў набыла напаўпаганскую ролю «заступнікаў» Рускай зямлі перад Богам — рыса, якая мае шматлікія паралелі ў народным раннесярэднявечным каталіцызме, але нехарактэрная для візантыйскай артадоксіі.

У вонкавай палітыцы Русь была цалкам самастойная, што яскрава адбілася ў дынастычных сувязях. Іх пераважны вектар меў хутчэй заходні, чым паўднёвы кірунак. З 1015 г. да сярэдзіны XII ст., калі шлюбы сталі заключацца пераважна ўнутры паболелага роду Рурыкавічаў, 22 разы яны выдавалі сваіх дачок за прадстаўнікоў іншых дынастый або бралі адтуль нявестаў. У тым ліку 3 разы шлюбны партнёр прадстаўляў Візантыю, 4 разы — Польшчу і 3 — Швецыю, па 2 разы — Венгрыю і Нарвегію, па 1 — Францыю і Англію. Яшчэ 6 разоў шлюбны хаўрус складаўся з сям'ёй аднаго з васалаў імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі, прычым у адным з гэтых выпадкаў кіеўская нявеста затым другім шлюбам выйшла за імператара Генрыха IV. Для параўнання, шлюбныя сувязі польскай дынастыі Пястаў вычэрпваліся бліжэйшымі суседзямі: акрамя Рурыкавічаў, было некалькі шлюбаў з чальцамі каралеўскіх дынастый Даніі, Швецыі і Венгрыі, а таксама адзін шлюб з дачкой германскага імператара і каля дзясятка — з ягонымі васаламі, пры поўнай адсутнасці шлюбных сувязяў з Англіяй, Францыяй, Візантыяй. У чэшскіх Пржэмысловічаў шлюбнае кола было яшчэ вузейшае: пераважалі шлюбы з прадстаўнікамі германскіх родаў (маркграфаў сумежных Аўстрыі, Лужыцаў і Мейсена), а таксама венгерскай і сербскай дынастый.

Прававую сістэму Русь таксама выбудоўвала аўтаномна, значна мацней абапіраючыся на мясцовыя традыцыі. Мясцовай была мова юрыспрудэнцыі і дзяржаўнага апарату, называемая «руским языком». Грэцкая мела хаджэнне ў сферы багаслоўя, але ў невялікай ступені. Эквівалентам заходняй латыні ў набажэнстве і літаратуры сталі літаратурная мова і пісьменнасць, распрацаваныя візантыйскімі місіянерамі Кірылам і Мяфодзіем у 863 г. на паўднёваславянскай аснове. Звычайна гэтую мову, у адрозненне ад «рускай», называлі «словеньской» (у сучаснай традыцыі — царкоўнаславянскай), хаця на той стадыі яны былі вельмі блізкія паміж сабой і, мабыць, узаемназразумелыя. «Словеньскый языкъ и рускый одно есть», — сцвярджаў аўтар «Аповесці мінулых гадоў».

Палітычная цэнтралізацыя і прыняцце хрысціянства прывялі да таго, што тэрмін «Русь» яшчэ раз змяніў сваё значэнне, набываючы не толькі палітыка-геаграфічны, але і этнічны сэнс. Слова «рускі» стала агульнай саманазвай усходніх славян, а асаблівасці іх веры ў параўнанні з заходнім і візантыйскім хрысціянствам знайшлі адлюстраванне ў тым, што яе сталі называць «рускай верай». Гэтыя тэндэнцыі захоўваліся потым цягам многіх стагоддзяў.

### Месца беларускіх зямель у складзе Русі

Руская дзяржава ахапіла велізарную, але ў пераважнай частцы слабазаселеную нават па мерках таго часу тэрыторыю. Да канца X ст. плошча Русі склала 2 млн. км$^2$, а насельніцтва, пэўна, дасягнула каля 4 млн. чалавек, прычым вялікая ягоная частка канцэнтравалася на поўдні, ва ўрадлівай лесастэпавай паласе. Пры тага-

часным узроўні сродкаў камунікацыі такая дзяржава проста не магла быць занадта цэнтралізаванай — вельмі б доўга ішоў любы кіроўны сігнал ад цэнтра да ўскраін. Выхад быў знойдзены ў іерархічнай структуры, пры якой Русь хутка распалася на шэраг паўсамастойных абласцей, звязаных з цэнтрам нешматлікімі, але вельмі важнымі вузамі: агульнай рэлігіяй, літаратурнай мовай, зборам законаў (вядомым як «Руская праўда»), абавязкам разам адбіваць вонкавую агрэсію і прызнаваць кіеўскага князя вярхоўнай інстанцыяй пры вырашэнні канфліктаў.

Спецыфічны характар працэсу дэцэнтралізацыі надало генеалагічнае разрастанне кіруючай дынастыі. Кожная галіна роду Рурыкавічаў імкнулася замацаваць за сабой частку агульнай спадчыны, каб перадаваць толькі ўласным нашчадкам. Першай такой галіной сталі нашчадкі Ізяслава Уладзіміравіча, якія атрымалі ў спадчыну ўладу над Полацкім княствам. Тая акалічнасць, што Ізяслаў памёр у 1001 г., раней за свайго бацьку, пазбаўляла іх права прэтэндаваць на вярхоўную ўладу, затое яны маглі адстойваць сваё выключнае права на ягоны прыжыццёвы ўдзел. У гэтых умовах вельмі карысным сталася тая акалічнасць, што Ізяслаў быў адначасова і сынам Рагнеды, а такім чынам — спадчыннікам ранейшай дынастыі па кудзелі. Ягоныя нашчадкі свядома падкрэслівалі гэты факт, называючы сябе «Рогволожими внуками». З пункту гледжання сённяшняга дня можна сцвярджаць, што ўпершыню ўзнікла палітычная ўлада, звязаная выключна з беларускай тэрыторыяй (хаця яна ахоплівала толькі частку яе і нікім у той час, вядома, не ўспрымалася як «беларуская»).

Канчаткова прынцып падзелу Русі быў замацаваны на Любецкім з'ездзе князёў 1097 г. у фармулёўцы «кождо да держит отчину свою». Працэс драблення вотчын час ад часу парушаўся згасаннем той альбо іншай галіны, а за вымарачную спадчыну адразу ж пачыналася барацьба паміж іншымі князямі. Старэйшынства кіеўскага князя пастунова звялося да таго, што ён зацвярджаў вынікі такой барацьбы. Паказнікам самастойнасці княскіх вотчын стала тое, што прыблізна з 1120-х гг. адносна некаторых з іх летапісы ўжываюць замест тэрміна «воласць» тэрмін «зямля», які выкарыстоўваўся ў той час толькі для палітычна суверэнных утварэнняў[87]. Прыблізна з 1170-х гг. на кіеўскі пасад часта ўзводзіліся стаўленікі моцных князёў, што заставаліся ў сваіх вотчынах. Тым не менш усе прадстаўнікі дынастыі Рурыкавічаў захоўвалі ўяўленне пра сваё агульнае паходжанне і тым самым садзейнічалі захаванню агульнарускай самасвядомасці сваіх падданых. Гэтую ж калектыўную ідэнтычнасць замацоўвалі адзіная сістэма падрыхтоўкі інтэлектуальнай эліты, агульныя традыцыі летапісання і духоўная еднасць старажытнарускай літаратуры (прыкладам можа быць «Слово о погибели Русской земли»[88], якое дайшло да нас фрагментарна і было напісана неўзабаве пасля мангольскага нашэсця). З іншага боку, розніца ў палітычных і эканамічных інтарэсах няўхільна размывала яе. Таму да XIII ст. Русь уяўляла з сябе хутчэй не адзіную дзяржаву, а агульную цывілізацыйную прастору, у якой склаўся шэраг практычна самастойных дзяржаў.

Тэрыторыя Беларусі была падзеленая паміж некалькімі такімі ўтварэннямі. Полацкая зямля, якая адарвалася першай, ахоплівала каля паловы сучаснай Беларусі. Яе гісторыя на працягу ўсяго XI і пачатку XII ст. адзначаная барацьбой за самастойнасць супраць неаднаразовых спроб кіеўскіх князёў падпарадкаваць яе. Па меры далейшага драблення роду Ізяславічаў да традыцыйнага супрацьстаяння з Кіевам дадалася барацьба іх менскай і друцкай галін за кантроль над Полацкам. У XII ст. адасобілася і Віцебскае княства, якое напераменку знаходзілася пад кантролем полацкіх і смаленскіх князёў, але да канца стагоддзя, падобна, замацавалася ў руках апошніх. Крайні ўсход Беларусі, з горадам Мсціславам, знаходзіўся ў складзе Смаленскай зямлі ад моманту яе фармавання.

Уся паўднёвая частка Беларусі была ў той час значна шчыльней звязаная з Кіевам, Чарнігавам і Валынню, чым з Полацкам. Гомель і Рэчыца ў XII—XIII стст. уваходзілі непасрэдна ў Чарнігаўскае княства, Мазыр — у Кіеўскае, а Берасце — ва Уладзіміра-

[87] Горский А.А. О древнерусских «землях» // Отечественная история. 2001. № 4. С. 144—150.

[88] Памятники литературы Древней Руси. XIII век / Пер. Л.А. Лихачева. Москва, 1981. С. 130—131.

**Мал. 18. Княствы на тэрыторыі Беларусі XI—XIII стст.** (мапа аўтара і Л.У. Дучыц з выдання: Гістарычны атлас Беларусі. Т. 1: Беларусь ад старажытных часоў да канца XVIII ст. Варшава, 2008. С. 52—53).




Валынскае. Гарадзенскае княства было выдзеленае ў першай чвэрці XII ст. з зямель, непасрэдна кантраляваных Кіевам, для пазбаўленага вотчыны другараднага князя Усевалада Давыдавіча і затым засталося ў распараджэнні ягоных сыноў. Спроба такога ж адасаблення Клецкага ўдзела для Вячаслава Яраславіча сталася кароткачасовым эпізодам, і ў 1140-я гг. Клецк і Слуцак перайшлі пад кантроль чарнігаўскіх князёў. Толькі ў сярэдзіне XII ст. адбылося канчатковае адасабленне ад Кіева Тураўскага княства, дзе замацавалася дынастычная лінія князя-ізгоя Юрыя Яраславіча.

Пры такім палітычным раскладзе не было аніякіх передумоў для кансалідацыі на ўсёй тэрыторыі Беларусі адзінага этнасу, адрознага ад іншых частак Русі. Наколькі можна меркаваць пра этнаграфічныя адрозненні сярод усходніх славян, яны таксама хутчэй падзялялі, чым аб'ядноўвалі гэтую тэрыторыю. Вобласць рассялення дрыгавічоў па-ранейшаму заставалася часткай дыялектнай зоны, якая шырылася далей на поўдзень, у былы арэал лука-райкавецкай культуры. Яе сляды захаваліся аж да XX ст. Яны няблага тлумачаць наяўнасць у палескіх гаворках безнацыскнога «о» альбо цвёрдых зычных у словах кшталту «ідэ», «ходы», «ішлы», што лучыць іх

з тэрыторыяй Украіны. У свой чарод, вяціцкае «аканне» і сёння збліжае маскоўскія гаворкі з беларускімі, а зафіксаванае ў гістарычных крыніцах змяшэнне «ц» і «ч» («полоцане», «немечь») аб'ядноўвае нашчадкаў крывічоў на Віцебшчыне і Пскоўшчыне[89]. Па археалагічных звестках адзначаецца супадзенне старажытнага арэала крывічоў і наўгародскіх славенаў з характэрным пахавальным абрадам курганна-жальнічнага тыпу, які склаўся ў XII—XV стст.[90]. Сляды ягоныя выразна прасочваюцца на гэтай тэрыторыі да XX ст. у выглядзе надмагільных камянёў і каменных крыжоў.

У самасвядомасці мясцовага насельніцтва прасочваецца некалькі ўзроўняў. З аднаго боку, жыхары кожнай палітычна суверэннай зямлі не маглі не супрацьпастаўляць сябе суседзям, з якімі часцяком даводзілася варагаваць альбо канкураваць у гандлі. Захоўвалася і памяць пра старажытны племянны падзел. Раён вакол Клецка і Слуцка, перададзены чарнігаўскім князям, у Іпацьеўскім летапісе пад 1149 г. проста называецца «вси Дрегвиче», а полацкія Ізяславічы ў тым жа летапісе згадваюцца пад 1140 г. як «Кривитьстеи князе». Але разам з тым даволі выразна прасочваецца ўсведамленне таго, што гэтыя адрозненні былі другаснымі ў параўнанні з агульнарускай еднасцю, якая дазваляла супрацьпастаўляць сябе іншым народам. Князі добра разумелі, што, нягледзячы на іх унутраную варажнечу, нікому з іх «отчины в Угрех нетуть, ни в Ляхох, токмо в Руској земли».

Для жыхароў Беларусі такое ўяўленне было характэрным у поўнай меры. Ігумен Даніїл падчас паломніцтва ў Іерусалім ставіў лампаду «за всю Русскую землю» і пакінуў памінальныя запісы з імёнамі «князей русских», сярод якіх быў і Глеб Усяславіч Менскі[91]. У жыціі Кірылы Тураўскага гаворыцца, што ён «рожден и воспитан града та Турова в Руской стране»[92]. У 1264 г., калі ў Полацку ўжо правіў літоўскі князь Гердзень, складальнікі гандлёвай граматы з Рыгай палічылі патрэбным падкрэсліць, «што Руськая земля словет Полочькая»[93]. Усведамлялі гэта і іншаземцы. У «Велікапольскай хроніцы» пры пераліку памежных рускіх зямель фігуруе і Берасцейская, а самое Берасце называецца «горадам на Русі»[94]. Храніст Лівонскага ордэна Генрых Латвійскі, апавядаючы пра барацьбу за кантроль над Прыбалтыкай у першай траціне XIII ст., уцягнутых у яе жыхароў Наўгародскай і Полацкай зямель аднолькава называе рускімі (Rutheni, Ruteni)[95].

Усё гэта гаворыць пра тое, што ў перыяд Кіеўскай Русі продкі беларусаў яшчэ не вычленіліся з усходнеславянскага этнічнага масіву. З'яўленне прыкмет, што лучаюць беларусаў у адно і адрозніваюць іх ад рускіх і ўкраінцаў, датуецца больш познім часам.

### Вялікае Княства Літоўскае — калыска беларускага этнасу

Істотныя змены адбыліся ва Усходняй Еўропе ў выніку мангольскага нашэсця, якое перапыніла паслядоўны працэс развіцця старажытнарускай цывілізацыі. На працягу 1237—1239 гг. манголы заваявалі Паўночна-Усходнюю Русь і Чарнігаўскую зямлю, у 1240 г. — Кіеў і Паўднёвую Русь. Наступствы гэтага заваявання былі вельмі цяжкімі. Большасць старажытнарускіх зямель трапіла ў залежнасць ад Залатой

89 Гринблат М.Я. Белорусы. Минск, 1968. С. 83—84, 106—112.

90 Седов В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. Москва, 1982. С. 180—183; Дучыц Л. Курганна-жальнічныя могільнікі на тэрыторыі Полацкай зямлі (да пастаноўкі пытання) // Гістарычна-археалагічны зборнік. № 10. Мінск, 1996. С. 38—41.

91 Хождение игумена Даниила / Подготовка текста, пер. и ком. Г.М. Прохорова // Памятники литературы Древней Руси. XII век. Москва, 1978. С. 24—115.

92 Мельнікаў А.А. Кірыл, епіскап Тураўскі. Жыццё, спадчына, светапогляд. 2-е выд. Мінск, 2000. С. 14—16.

93 Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. Москва, 1977. С. 35.

94 Великая хроника о Польше, Руси и их соседях. Москва, 1987.

95 Heinrici Chronicon Livoniae / Heinrichs Livländische Chronik. (Monumenta Germaniae Historica; SS rer. Germ.; 31). 2. Auflage. Hahn, Hannover, 1955; Генрих Латвийский. Хроника Ливонии / Введение, пер. и ком. С.А. Аннинского. 2-е изд. Москва; Ленинград, 1938.

Арды — дзяржавы, створанай мангольскім ханамі ў прычарнаморскіх і паволжскіх стэпах. Гэта прыпыніла кантакты з Захадам.

Беларускія землі цалкам або амаль цалкам пазбеглі такой залежнасці, але гэта было дасягнута коштам разрыву з ранейшай традыцыяй, заснаванай на ўладзе дынастыі Рурыкавічаў. Замест гэтага ў княствах Панямоння, а затым і ў Полацку замацавалася дынастыя літоўскага паходжання. Далейшае развіццё гэтых зямель было мала звязанае са з'явамі і працэсамі на тэрыторыях, якія кантраляваліся Ардой. Фактычна ў гэты момант былі зробленыя першыя крокі на шляху фармавання самастойнага беларускага этнасу, хоць шлях гэты расцягнуўся не на адно стагоддзе.

ВКЛ з самага пачатку фармавалася як двухэтнічная дзяржава, у склад якой увайшлі племянныя балцкія княжанні і шэраг рускіх княстваў, якія ў перыяд паміж 1245 і 1250 гг. прызналі ўладу Міндоўга — валадара Літоўскай зямлі ў вузкім сэнсе. Гэты таленавіты палітык дамогся дамінавання ў палітычным хаўрусе літоўскіх княстваў і ў супрацьдзеянні экспансіі крыжакоў пашырыў сваю ўладу на частку тэрыторыі яцвягаў, куршаў, земгалаў і селаў. На працягу некалькіх наступных дзесяцігоддзяў Навагародская зямля, этнічная Літва і прылеглая частка яцвягаў трывала захоўвалі палітычную еднасць, тады як Полацкая зямля і Жамойць часова адрываліся ад яе. Найбольшае пашырэнне дзяржавы, дасягнутае Міндоўгам у 1260—1263 гг., было канчаткова адноўленае Віценем на мяжы XIII—XIV стст.

**Мал. 19. Распаўсюджанне каменных могільнікаў на тэрыторыі Беларусі** (паводле: Квятковская А.В. Ятвяжские могильники Беларуси (XI—XVII вв.). Вильнюс, 1998. С. 202)



У гэты перыяд намецілася актыўнае ўзаемапранікненне балцкага і ўсходнеславянскага этнічных масіваў. На іх памежжы фармавалася шырокая мяшаная зона, значная частка якой ахоплівала тэрыторыю сучаснай Беларусі. Асабліва паказальнае пашырэнне культуры каменных магіл, заходнябалцкай па паходжанні. Яна сфармавалася ў XII—XIII стст. у працэсе эвалюцыі культуры каменных курганоў. Характэрны для яе пахавальны абрад прасочваецца ў ваколіцах Слоніма, Навагрудка, басейне нёманскай Бярэзіны і верхняй Віліі, адкуль эпізадычна пранікае нават у вярхоўі Бярэзіны дняпроўскай. Гэта дазваляе казаць пра даволі масавае рассяленне на землях ВКЛ яцвягаў і прусаў, першапачатковы арэал якіх у другой палове XIII ст. быў заваяваны Тэўтонскім ордэнам. З гэтым рассяленнем, а таксама з наступнай асіміляцыяй часткі носьбітаў культуры ўсходнябалцкіх курганоў можна звязаць падвышаную канцэнтрацыю гаплагрупы N1c у Гродзенскай вобласці.

На працягу 1315—1377 гг. улада літоўскіх князёў Гедыміна і Альгерда пашырылася на ўсю тэрыторыю Беларусі. У гэты перыяд кіруючая літоўская дынастыя прытрымлівалася паганства, што давала падставы Тэўтонскаму і Лівонскаму ордэнам праводзіць агрэсіўную палітыку. Супрацьстаянне гэтай агрэсіі было адным з галоўных напрамкаў палітыкі ВКЛ, што, без сумневаў, абмяжоўвала прыток інавацый з Захаду. Другім напрамкам была экспансія на Русі, дзе ВКЛ небеспаспяхова выступала аб'яднаўчым цэнтрам для раздробленых княстваў. Дзеля гэтага і Гедымін, і Альгерд прытрымліваліся верацярпімасці, старанна падтрымліваючы баланс паміж паганскай і праваслаўнай часткамі дзяржавы. Праваслаўная царква мела даволі высокі статус і карысталася дзяржаўнай падтрымкай.

Пры Альгердзе пачалося ваенна-палітычнае супрацьстаянне паміж ВКЛ і іншым аб'яднаўчым цэнтрам, які ўзнік у паўночна-ўсходняй частцы старажытнарускай тэрыторыі — вакол Масквы. Суіснаванне гэтых цэнтраў мела вынікам фармаванне двух самастойных этнасаў, якія аднолькава карысталіся старым этнонімам «рускія». Ад аднаго з іх паходзіць тытульная нацыя сучаснай Расіі, ад другога — беларусы і ўкраінцы.

У 1385 г. адбылася не менш важная падзея — дынастычная унія паміж ВКЛ і Польскім каралеўствам. Неўзабаве каталіцызм стаў афіцыйнай дзяржаўнай рэлігіяй. Гэта ўключыла Беларусь і Украіну ў сферу ўплываў заходнееўрапейскай цывілізацыі, яшчэ больш аддаляючы іх ад іншых частак Русі.

На пачатку праўлення Вітаўта, у 1390-я гг., былі зробленыя істотныя крокі да цэнтралізацыі ўлады ў руках вялікага князя. Шэраг удзельных княстваў былі ператвораны ў намесніцтвы. Праўда, гэты працэс не быў незваротным. Час ад часу ствараліся новыя ўдзелы, але ў цэлым дзяржаўнае кіраванне ўсё больш упэўнена будавалася на новых асновах. На месцы шэрага скасаваных удзелаў (у тым ліку ў Полацку, Віцебску, на Валыні, у нованабытым Смаленску) намесніцтвы атрымалі правы пэўнай аўтаноміі, замацаваныя ў так званых земскіх прывілеях. Пазней такі ж статус атрымала Жамойць, вернутая ў склад ВКЛ пасля перамогі над Тэўтонскім ордэнам. Такія паўсамастойныя адзінкі традыцыйна называліся землямі ў адрозненне ад астатняй тэрыторыі, у 1413 г. падзеленай на два ваяводствы: Віленскае і Троцкае.

Першыя дзесяцігоддзі пасля Крэўскай уніі адзначаныя парушэннем раўнавагі паміж літоўскай і рускай часткамі ВКЛ. Літоўская шляхта, якая перайшла з паганства ў каталіцтва, карысталася значна большымі правамі ў параўнанні з праваслаўнымі, якія адчувалі непрыхаваную дыскрымінацыю. Гэта сталася глебай для жорсткага канфлікту, які выбухнуў неўзабаве пасля смерці Вітаўта, у 1432—1437 гг. Ягоны пераемнік Свідрыгайла карыстаўся падтрымкай рэгіянальных эліт праваслаўнага веравызнання і пераважна рускага паходжання. Гэта выклікала незадаволенасць часткі этнічна літоўскай шляхты, стаўленікам якой стаў малодшы брат Вітаўта Жыгімонт. Супрацьстаянне паміж імі беларуска-літоўскія летапісы малююць як канфлікт Літвы і Русі: «Литва жь посадиша великаго князя Жидимонта Кестутевича на великое княженье на Вилни и на Троцех. И... посадиша князя Швитрогаила на великое княженье Руское... Князь великии Швитригаило собра силу многу рускую

и поиде на Литву, и повоеваша Литовьскои земли множество»[96]. Для пераадолення канфлікту спатрэбіліся намаганні па кансалідацыі літоўскай і рускай знаці, частковае ўраўнаванне праваслаўных у правах з каталікамі.

Тым не менш палітыка апоры пераважна на каталіцкую знаць захоўвалася і ў перыяд доўгага кіравання Казіміра Ягайлавіча (1440—1492). Менавіта ў гэты час у выніку мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі сфармаваўся асноўны комплекс зямельных уладанняў як каталіцкай царквы (перш за ўсё Віленскага біскупства), так і новай арыстакратыі — паноў літоўскага паходжання, якія паводле Гарадзельскага прывілея 1413 г. атрымалі выключнае права займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады. Разам з утварэннем больш за 80 каталіцкіх прыходаў гэта радыкальна змяніла канфесійную і землеўласніцкую структуру на землях Беларусі і ўсходняй Літвы, пасля чаго яе асноўныя рысы захоўваліся вельмі ўстойліва.

У канцы XV — першай палове XVI ст. геапалітычнае становішча ВКЛ істотна пагоршылася. З усходу яно адчувала націск з боку новай цэнтралізаванай дзяржавы — Вялікага Княства Маскоўскага (пазней Рускага царства). Карыстаючыся тым, што ў гэтай дзяржаве захавала ўладу дынастыя Рурыкавічаў, яе прадстаўнікі абвясцілі сябе адзінымі правапераемнікамі старажытнай Русі і пачалі небеспаспяховую барацьбу за тую частку яе тэрыторыі, якая ўжо больш за стагоддзе належала ВКЛ. Адначасова на поўдні ўтварылася яшчэ адна моцная і агрэсіўная дзяржава — Крымскае ханства. Яно паўстала на частцы тэрыторыі Залатой Арды, якая ўжо распалася, і прэтэндавала на ролю яе пераемніка. Крымскія татары здзяйснялі частыя набегі на землі ВКЛ, але з мэтай рабаўніцтва, а не тэрытарыяльных захопаў.

Гэты перыяд аказаў моцнае ўздзеянне на самасвядомасць жыхароў рускай часткі ВКЛ. Тое, што этнічна блізкія жыхары Маскоўскай дзяржавы доўгі час выступалі ў якасці асноўных палітычных праціўнікаў, садзейнічала ўспрыманню іх як іншага этнасу. Пры гэтым насельніцтва Беларусі і Украіны лічыла рускімі менавіта сябе, а выхадцаў з Маскоўскай дзяржавы ўспрымала як «московцев». Тыя ж, у свой чарод, сябе лічылі рускімі, а жыхароў ВКЛ — «литвинами».

З другога боку, арыентацыя на пераважна паўднёвы, антыкрымскі напрамак ваеннай актыўнасці і кантакты з татарамі стваралі ўмовы для адасаблення жыхароў Падолля, Валыні і Кіеўшчыны. Неўзабаве, калі на паўднёва-ўсходняй ускраіне гэтых зямель пачалося фармаванне казацтва, гэта прывяло да ўзнікнення «ўкраіннай» (украінскай у сучасным разуменні) самасвядомасці.

Наступствы гэтых глыбінных працэсаў выявіліся ў перыяд Люблінскай уніі 1569 г., калі ВКЛ апынулася ў крытычным становішчы. Ваенныя паразы ад Рускага царства падчас Лівонскай вайны дыктавалі неабходнасць больш шчыльнай інтэграцыі з Польскім каралеўствам, якое абумоўлівала ваенную дапамогу патрабаваннем поўнай інкарпарацыі ВКЛ. У гэтай складанай сітуацыі шляхта ўкраінскіх і беларускіх зямель павяла сябе па-рознаму. Соймікі Падляшша, Валыні, Падолля і амаль усяго Кіеўскага ваяводства паслядоўна прагаласавалі за прамое ўваходжанне ў склад Польскага каралеўства, г.зн. цалкам прынялі ўмовы палякаў. Дэпутаты ад беларускіх ваяводстваў, уключаючы і шляхту Мазырскага павета Кіеўскага ваяводства, трымаліся больш устойліва і ўрэшце рэшт дамагліся уніі на ўмовах федэрацыі, і ВКЛ захавала ўласны скарб, заканадаўства і войска.

У выніку Люблінскай уніі дзве дзяржавы аб'ядналіся ў адну — Рэч Паспалітую (даслоўны пераклад лацінскага res publica — агульная справа). Каб падкрэсліць яе двуадзіны характар, некаторыя аўтары называюць яе «Рэч Паспалітая Абодвух Народаў», хаця ў рашэннях Люблінскага сойма такі назоў не прысутнічае. ВКЛ захавалася ў яе складзе ў моцна абрэзаным выглядзе, пазбавіўшыся ўсіх тэрыторый, якія выказаліся за прамую інкарпарацыю. Тым самым яно складалася з гэтага часу выключна з літоўскіх і беларускіх зямель, і наўрад ці выпадкова, што паўднёвая мяжа прайшла амаль дакладна па будучай этнічнай мяжы паміж беларусамі і ўкраінцамі.

[96] Полное собрание русских летописей. Т. 35. Белорусско-литовские летописи. Москва, 1980. Гл. таксама: Беларускія летапісы // Старажытная беларуская літаратура: Зборнік. Мінск, 1990.

Абраўшы розныя ўмовы ўваходжання ў Рэч Паспалітую, продкі гэтых народаў тым самым стварылі ўмовы для іх канчатковага адасаблення. Далейшая гісторыя рускага насельніцтва ВКЛ — гэта ўжо гісторыя непасрэдна фармуемага беларускага этнасу, падчас якой канчаткова склаліся тыя этнаграфічныя і моўныя рысы, якія пазней усвядоміліся як беларускія. Энагенез скончыўся, пачалася этнічная гісторыя.

Зрэшты, складванне беларускай нацыі ў сучасным разуменні скончылася толькі на працягу XX ст., са з'яўленнем літаратурнай мовы, агульнай інфармацыйнай і эканамічнай прасторы, нацыянальнай самасвядомасці і, урэшце рэшт, уласнай суверэннай дзяржавы. Але гэта ўжо асобная тэма.

*На рускай мове ў скарачэнні надрукавана ў кнізе:*
Предыстория беларусов с древнейших времен до XIII века / Составл., перевод, научное редактир. А.Е. Тараса. Минск: Харвест, 2010. С. 467—507.

# Усё пачыналася з Русі

Вядома, што беларусы разам з рускімі і ўкраінцамі адносяцца да ўсходніх славян, гэтак жа як палякі і чэхі — да заходніх, а балгары, сербы, харваты — да паўднёвых. Каб растлумачыць, чаму некалі адзіны славянскі ствол расшчапіўся на асобныя галіны, трэба зазірнуць у ранняе сярэднявечча, калі славяне ўпершыню выступілі на гістарычную сцэну.

Шырокае рассяленне славян, як адзначалася ў нашым папярэднім артыкуле[1], адбылося ў VI стагоддзі. У канцы яго і пачатку наступнага частка славян прарвала кардон Візантыі і рассялілася за Дунаем. Астатнія адхлынулі з тэрыторыі сучасных Венгрыі і Румыніі на поўнач і аселі доўгім пасам у парэччы Эльбы, Одэра, Віслы, Прыпяці, верхняга Днястра. Там яны пакінулі аднатыпныя археалагічныя помнікі, якія навукоўцы аб'ядноўваюць у пражскую культуру, а з VIII стагоддзя — у культуру тыпу Лукі-Райкавецкай і падобныя ёй.

Крыху далей на ўсход, у левабярэжжы сярэдняга Дняпра і вярхоўях Дона, склалася іншая, валынцаўская культура, якая насіла змешаны славяна-качэўніцкі характар. На большай частцы Беларусі ў той жа час існавалі блізкія паміж сабой банцараўская, тушамлянская і калочынская культуры. Калі ў іх складзе і былі славянскія плямёны, то яны даволі выразна адрозніваліся ад тых, што прымалі ўдзел у дунайскіх вандроўках. Галоўную ж ролю тут, хутчэй за ўсё, адыгрывалі балты. У далейшым культурныя асаблівасці банцараўска-тушамлянскага арэала (як і валынцаўскага) развіцця не атрымалі. Іх, відаць, паглынулі новыя міграцыі з арэала Лукі-Райкавецкай.

У выніку гэтых бурных міграцый славянскія плямёны і роды расшчапіліся на часткі і перамяшаліся паміж сабой. Так, адна частка племені сербаў асела на Эльбе, другая ж апынулася за Дунаем, у сённяшняй Сербіі. Суседзямі сербаў на берагах Адрыятыкі сталі харваты, іншыя ж харваты жылі ў Прыкарпацці. На Валыні і на захадзе Чэхіі аселі асобныя часткі дулебаў, на захадзе Польшчы і ў Сярэднім Падняпроўі — паляне, у парэччы Прыпяці і на Балканах — дрыгавічы (драгувіты).

Такім чынам, нельга сказаць, што славяне ў працэсе рассялення проста падзяліліся на тры асобныя часткі — будучых паўднёвых, заходніх і ўсходніх. Спярша, напэўна, прыпяцкія дрыгавічы былі больш падобнымі да сваіх балканскіх суродзічаў, чым на суседніх палян. У цэлым жа ўсе яны ўяўлялі стракатае, але суцэльнае адзінства. Адасабленне адбылося ў выніку розніцы ў далейшым лёсе.

Тыя плямёны, што аселі на поўдні ад Дуная, змяшаліся з мясцовымі нашчадкамі ілірыйцаў і фракійцаў. Галоўнае ж, што яны трапілі ў сферу моцнага культурнага ўплыву Візантыі, а пасля адыходу сваіх суродзічаў на поўнач апынуліся адносна ізаляванымі ад іх, бо левабярэжжа Дуная занялі цюркамоўныя авары і раманізаваныя волахі (продкі румын і малдаван). Іншыя цюркі, балгары, самі ў далейшым наслаіліся на славян і змяшаліся з імі. Так пачалося фарміраванне паўднёвага славянства.

Паміж астатнімі славянскімі плямёнамі ў VII—VIII стагоддзях яшчэ не было ніякіх бар'ераў. У арэале Лукі-Райкавецкай (у тым ліку на поўдні Беларусі) не прасочваецца і якіх-небудзь слядоў папярэдніх насельнікаў. Калі такі субстрат і заставаўся, ён быў канчаткова аславянены ўжо ў VI стагоддзі. Субстрат жа ў банцараўска-тушамлянскім і валынцаўскім арэалах быў істотна розным. Яго ўздзеянне (і тым больш кантакт з фінамі, што жылі далей на поўнач) не магло прывесці да ўтварэння ўсходнеславянскага адзінства.

Лёс будучых беларусаў, рускіх і ўкраінцаў накіраваўся ў асобнае і першапачаткова адзінае рэчышча толькі з пачаткам фарміравання на абшарах Усходняй Еўропы

---

[1] Маецца на ўвазе артыкул «Таямніцы зніклых народаў» (*Аўт.*).

вельмі цікавай з’явы — дзяржавы, якая атрымала назву Русь. Не зразумеўшы сутнасць гэтага працэсу, цяжка зразумець і ўзнікненне ўсходняга славянства.

Зона змешаных лясоў Усходняй Еўропы доўгі час амаль не цікавіла славян. Але прыкладна з сярэдзіны VIII стагоддзя тут пачынаюць адбывацца значныя змены. Вельмі рэдкімі становяцца археалагічныя помнікі. Гэта, напэўна, сведчыць пра пераход насельніцтва на больш рухомы лад жыцця, калі паселішчы становяцца дробнымі і часта пераносяцца з месца на месца. Тыя ж помнікі, якія раскапаны археолагамі (Ізборск пад Псковам, Ладага і інш.), сведчаць аб этнічнай мешаніне: там прысутнічаюць і фіны, і славяне, і скандынавы. З канца стагоддзя ў лясной зоне, а адначасова — на берагах Балтыкі пачынаюць з’яўляцца арабскія сярэбраныя манеты — дырхемы.

Такая колькасць арабскага серабра магла трапіць сюды толькі ў выніку шырокага гандлю, узамен на пушніну, іншыя тавары лясных промыслаў і, напэўна, рабоў. Якраз у гэты час рабы-«сакаліба» (так арабы называлі жыхароў лясной зоны) з’яўляюцца нават у Кардоўскім халіфаце, у Іспаніі.

Гісторыя ведае прыклады, калі замежны попыт на пушніну і рабоў выклікаў сапраўдную «гандлёвую ліхаманку». Ахопленае ёю насельніцтва ледзь не цалкам кідала звыклыя заняткі і пераключалася на здабыванне тавару. Так адбылося з індзейцамі Паўночнай Амерыкі пасля з’яўлення еўрапейцаў і пачатку пушнога гандлю, з афрыканцамі Нявольнічага берага ў час гандлю рабамі для амерыканскіх плантацый. Нешта падобнае пачалося ў лясной зоне, калі ля яе межаў склаліся Волжская Балгарыя і Хазарскі каганат — гандлёвыя брамы на мусульманскі Усход.

У традыцыйным укладзе мясцовых фінскамоўных народаў не было, відаць, месца ідэалу ўзбагачэння, таму не яны першымі ўключыліся ў гандлёвыя аперацыі. Лясныя абшары наваднілі славяне, якія падчас дунайскіх паходаў зразумелі смак багацця, і скандынаўскія вікінгі, якія якраз у той час распачалі набегі на Заходнюю Еўропу. Напэўна, шведы першымі праклалі шлях з Балтыкі праз Няву і Ладагу ў вадазбор Волгі і ў Булгар. Быў і іншы шлях: па Дняпры ў Чорнае мора, адтуль уздоўж заходняга ўзбярэжжа — у Візантыю, уздоўж паўночнага — у Дон, затым волакам — у Волгу, Хазарыю і на Каспій.

Абодва шляхі эксплуатавалі і вікінгі, і славяне. З пачатку IX стагоддзя хутка расце гандлёвае паселішча ў Гнёздаве ля Смаленска, якое кантралявала волак паміж Дняпром і Дзвіной. Нядаўна беларускія археолагі В. Вяргей і А. Іоў адкрылі такое ж паселішча са слядамі прысутнасці скандынаваў у Гарадзішчы на Ясельдзе — ля волаку, што звязаў Балтыку і Нёман з вадазборам Прыпяці і Дняпра.

Знешні гандаль быў настолькі прыбытковай справай, што непазбежна ўзнікала тэндэнцыя да яго манапалізацыі і больш жорсткай арганізацыі. Над агульным слоем «рыцараў нажывы» ўсплывалі найбольш здольныя «акулы бізнесу». Узнікала структура, якая сама сябе падтрымлівала, расла ўшыркі і ўглыб. Сёння б яе назвалі гандлёвай мафіяй, у той час знайшлося іншае слова — «русь». Даўно заўважана, што ў сучасных фінаў слова «Ruotsi» азначае шведаў. Напэўна, яно ўзнікла ад стараскандынаўскага слова са значэннем «дружына» альбо «весляры». Так фіны празвалі вікінгаў, ад іх гэтую назву запазычылі славяне, якія ўключыліся ў гульню крыху пазней. Хутка словы «русь», «русы» ператварыліся ў саманазву шматэтнічнай гандлёва-драпежніцкай праслойкі.

Асноўнай этнічнай дамінантай на абшарах дзеяння русі сталі славяне. У канцы VIII — IX стагоддзі на тэрыторыі банцараўска-тушамлянскай культурнай супольнасці, у раёнах Пскова, возера Ільмень распаўсюджваецца характэрны пахавальны абрад (трупаспаленне і насыпанне круглых курганоў), які паходзіць з арэала Лукі-Райкавецкай і сведчыць пра канчатковую славянізацыю азначаных абшараў. Аднак на вядучых ролях апынуліся не славяне, а скандынавы, якія першымі паспелі накапіць «крытычную масу» капіталу.

Недзе ў першай трэці IX стагоддзя манапалізацыя гандлю, відаць, завяршылася. «Гандлёвая мафія» наладзіла атрыманне экспартных тавараў у выглядзе даніны ад

мясцовага насельніцтва, узяла пад кантроль выхады на знешні рынак і распачала барацьбу з суседзямі за найлепшыя ўмовы дзеяння на гэтым рынку. Па сутнасці, утварылася протадзяржава, межы якой вызначала распаўсюджанне дырхемаў у лясной зоне. Назвай яе стала назва пануючага кола — Русь.

У 839 годзе да імператара Людовіка Нямецкага праз Візантыю прыбыла група шведаў, якія назвалі сябе пасламі «хакана Русі». Гэта — адзін з першых пісьмова зафіксаваных фактаў аб дзеяннях новай протадзяржавы. Тытул «хакан» (каган) азначаў прэтэнзіі ўладара Русі на роўнасць з хазарскім каганам і візантыйскім імператарам.

У 860 годзе русы ажыццявілі ваенны паход на Канстанцінопаль, які зрабіў вялікае ўражанне на сучаснікаў. Такія паходы былі паўтораны ў 907 (гэтая падзея не пацвярджаецца візантыйскімі крыніцамі і таму многімі даследчыкамі ставіцца пад сумненне) і ў 941 годзе. Рабіліся паходы і ў Паўднёвы Прыкаспій, куды русы трапялі гандлёвым шляхам з Чорнага мора праз Дон і Волгу.

Арабскія аўтары IX—X стагоддзяў добра ведалі русаў, якіх яны апісваюць як ваяўнічых купцоў, прычым часам супрацьпастаўляюць «сакалаба», часам — атаясамліваюць з імі. Падарожнік Ібн Фадлан у 922 годзе назіраў у Булгары пахаванне знатнага руса паводле характэрнага абраду — спалення ў ладдзі. Абрад гэты — тыпова скандынаўскі, добра вядомы з раскопак курганоў Швецыі і славяна-скандынаўскага могільніка ў Гнёздаве.

Летапісец Нестар, аўтар «Аповесці мінулых гадоў», які пісаў на пачатку XII стагоддзя, меў у распараджэнні тэксты дагавораў Русі з Візантыяй 907, 911 і 944 гадоў. Асноўны змест дагавораў — гарантаванне русам бесперашкоднага збыту іх тавараў у Канстанцінопалі. Дзеля забеспячэння такіх умоў русы і хадзілі на Візантыю. Цікава, што практычна ўсе імёны паслоў і тых, хто іх паслаў, скандынаўскія: Карл, Інегельд, Фарлаф і г.д.

Візантыйскі імператар Канстанцін Парфірародны ў сярэдзіне X стагоддзя апісаў сістэму, на якой трымалася протадзяржава русаў. Іх уладар штозіму аб'язджаў падуладныя славянскія плямёны (сярод іх названы крывічы, дрыгавічы, северане і іншыя), збіраючы даніну, якую па вясне на чоўнах сплаўлялі ў Кіеў. Адтуль гандлёвы караван вёз яе ў Канстанцінопаль. Пры гэтым Канстанцін прыводзіць славянскія і рускія назвы дняпроўскіх парогаў. Першыя з іх — сапраўды славянскія (Неясыць, Вульныпраг), другія — скандынаўскія (Улворсі, Аіфор). Гэта сведчыць, што яшчэ ў той час пануючае кола русаў не змяшалася цалкам са славянскім насельніцтвам.

Недзе ў XI стагоддзі з'явілася і мясцовая летапісная версія паходжання Русі, прыведзеная пазней Нестарам і невядомым аўтарам Наўгародскага першага летапісу. Быццам бы славянскія плямёны крывічоў і ільменскіх славенаў разам з фінскімі мерай, вессю і мурамай спачатку плацілі варагам даніну, а каля 862 г. запрасілі да сябе князя Рурыка з варажскага народа «Русь». «И от тех варяг прозвася Руска земля» — спачатку наўгародцы-славены. Уладу Рурыка прызналі крывіцкі Полацк, меранскі Растоў, а таксама мурама і весь. Хутка затым два «мужы» з дружыны Рурыка, Аскольд і Дыр, атабарыліся ў Кіеве, адкуль у 865 годзе хадзілі на Канстанцінопаль. У 882 годзе, пасля смерці Рурыка, яго родзіч (паводле Наўгародскага летапісу — ваявода) Алег аб'яднаў Ноўгарад і Кіеў пад адзінай уладай, перанёсшы цэнтр у Кіеў. «И беша у него варязи и словене и прочи, прозвашася русью».

Версія запісана праз два стагоддзі пасля падзей, таму да яе трэба ставіцца асцярожна. Яўна «кульгае» храналогія: Русь пачынае згадвацца ў замежных крыніцах значна раней 862 года, а першы яе паход на Візантыю адбыўся ў 860 годзе. Вялікія сумненні выклікае і існаванне асобнага варажскага народа з назвай «Русь». Праўда, частка гісторыкаў звязвае яго са славянскім насельніцтвам вострава Руген на поўдні Балтыкі, якое славілася як марскія піраты. Але ж калі прыняць такое тлумачэнне, то не знаходзіцца месца для бясспрэчных фактаў прысутнасці на Русі скандынаваў.

Аднак агульны сэнс падання не супярэчыць іншым фактам, бо ён зводзіцца да ўстанаўлення кантролю русаў спачатку над неўска-волжскім гандлёвым шляхам (Ла-

дага, Ноўгарад, Растоў), а затым і над дзвінска-дняпроўскім (Полацк, Кіеў). Потым распачалася барацьба з Хазарыяй за кантроль над севяранамі і радзімічамі.

Насуперак таму многія гісторыкі, асабліва савецкія, дапускалі, што «Руссю» спачатку называлася Сярэдняе Падняпроўе ў раёне Кіева—Чарнігава—Пераяслава, якое і было сапраўдным дзяржаваўтвараючым цэнтрам. Гэтая версія грунтуецца на тым, што ў летапісах XII—XIII стагоддзяў выяўлена каля двух дзясяткаў упамінанняў Русі менавіта ў такім, вузкім сэнсе, калі яна супрацьпастаўляецца Уладзіміра-Суздальскай, Смаленскай, Наўгародскай, Валынскай і іншым ускраінным землям. Але няма доказаў, што гэты вузкі сэнс азначанага тэрміна з'явіўся раней за шырокі. Замежныя крыніцы абазначаюць словам «Русь» ці то саслоўе ваяўнічых гандляроў, ці то тэрыторыю і дзяржаву, больш шырокія за Сярэдняе Падняпроўе.

Так, шматлікія арабскія географы, абапіраючыся на нейкую крыніцу IX стагоддзя, прыводзяць «блукаючы сюжэт» пра Русь у складзе трох цэнтраў: Куябы (Кіева), Славіі (хутчэй за ўсё — Ноўгарада ці папярэдняга цэнтра ільменскіх славенаў) і Артабы (месцазнаходжанне апошняй дыскусійнае). Канстанцін Парфірародны згадвае «знешнюю Русь», дзе ў Ноўгарадзе княжыў Святаслаў, сын кіеўскага князя Ігара. Польскі дакумент «Дагоме юдэкс», напісаны ў 990-х гадах, ведае пра Русь, якая цягнецца амаль да Кракава і з'яўляецца ўсходнім суседам Польшчы. І пазней, у XI—XIII стагоддзях, замежныя крыніцы згадваюць Русь выключна ў шырокім сэнсе. Шмат прыкладаў, калі такім тэрмінам абазначаецца ўся дзяржава, можна прывесці і з мясцовых, рускіх крыніц.

Дарэчы, згадка пра «знешнюю Русь» дапамагае растлумачыць з'яўленне вузкага значэння інакшым чынам. Бясспрэчна, што не пазней канца IX стагоддзя цэнтр протадзяржавы русаў змясціўся ў Кіеў, які меў выключнае стратэгічнае становішча на дняпроўскім шляху. Але кожны з вярхоўных уладароў (Алег, Ігар, Святаслаў) непасрэдна кантраляваў толькі частку тэрыторыі Русі. На перыферыі (у «знешняй Русі») знаходзіліся ўладанні сыноў, іншых родзічаў кіеўскага князя, а таксама князёў з іншых дынастый (драўлянскага Мала, полацкага Рагвалода і іншых). Адсутнасць у гэты час асобных князёў у Чарнігаве і Пераяславе дае падставы меркаваць, што непасрэдныя ўладанні (дамен) вярхоўнага князя якраз і ахаплівалі пазнейшую тэрыторыю Русі ў вузкім сэнсе. Яна атрымала гэтую назву не таму, што ўяўляла сабой ядро будучай дзяржавы, а таму што кіеўскія ўладары пакінулі яе за сабой пры вызначэнні ўладанняў сваім васалам.

Пазней, ужо ў XI стагоддзі, велікакняжацкі дамен быў падзелены паміж рознымі галінамі пануючай дынастыі. Права на валоданне часткай гэтага дамена стала для іх увасабленнем калектыўнага сюзерэнітэту над дзяржавай у цэлым. Менавіта таму, на нашу думку, гэтая тэрыторыя так настойліва супрацьпастаўлялася ўскраінным землям.

Нестар, пры якім Русь ужо стала сапраўднай класавай дзяржавай, недвухсэнсоўна акрэслівае кола славянскіх плямён у яе складзе: паляне, драўляне, наўгародцы, палачане, дрыгавічы, севяране, валыняне. Тут жа ён пералічвае «инии языци, иже дань дають Руси», сярод якіх называе як фінскія (чудзь, мера, весь і іншыя), так і балцкія народы (літва, зімігола, корсь). Гэта яскрава сведчыць, што да пачатку XII стагоддзя паняцце «русі» як ваенна-гандлёвай праслойкі адышло на другі план. Побач з назвай дзяржавы слова пачало азначаць агульную саманазву славянскіх (можна ўжо сказаць — усходнеславянскіх) плямён, што стваралі этнічную аснову гэтай краіны.

Вельмі спрыяла таму афіцыйнае прыняцце хрысціянства ў канцы X стагоддзя. Праўда, хрысціянізацыя доўгі час заставалася павярхоўнай. Прынамсі, два стагоддзі яшчэ захоўваўся паганскі звычай хаваць нябожчыкаў пад курганамі, але ў мясцовай свядомасці паступова мацнела разуменне сваёй прыналежнасці да праваслаўнага свету. Дарэчы, менавіта азначанае спрыяла адасабленню ад заходняй часткі арэала Лукі-Райкавецкай, які трапіў у сферу заходнееўрапейскіх уплываў і дзе ўмацавалася каталіцкае веравызнанне.

Кансалідацыі на абшарах Русі таксама спрыяла славянізацыя пануючага кола, якая скончылася ў асноўным у другой палове X стагоддзя. Ужо ў летапісных запісах гэтых часоў, на якія абапіраецца «Аповесць мінулых гадоў», скандынаўскія імёны князёў (Хельгі, Інгвар, Рагнвальд) гучаць у славянскай афарбоўцы (Алег, Ігар, Рагвалод). Пачынаючы са Святаслава, князі насілі ўжо чыста славянскія імёны. Зніклі скандынаўскія рысы ў дружынных пахаваннях. Новыя хвалі выхадцаў са Скандынавіі ў XI—XII стагоддзях выглядалі ўжо чужакамі, іншаземнымі наёмнікамі на службе ў рускіх князёў.

Такім чынам, менавіта ўтварэнне Русі стала рашаючым фактарам адасаблення ўсходняй галіны славянскага свету. Тыя роднасныя плямёны, якія апынуліся па-за межамі гэтага працэсу і паспыталі іншыя ўздзеянні, утварылі заходнеславянскую галіну.

**Лясная зона Усходняй Еўропы ў VIII—X стст.**




*1 — культура тыпу Лукі-Райкавецкай VIII ст.; 2 — гандлёвыя шляхі; 3 — знаходкі арабскіх манет IX ст.; 4 — знаходкі скандынаўскіх рэчаў IX—X стст.*

Мы не закранаем тут пытанне аб мясцовых асаблівасцях у розных частках арэала Русі і іх ролі ў наступным чляненні ўсходняга славянства. Ім будзе прысвечаны асобны артыкул[2]. Адзначым толькі, што для гісторыі Беларусі мела выключнае значэнне тое, што яна цалкам апынулася ў складзе Рускай дзяржавы. Часам шмат увагі ўдзяляецца пытанню, ці падпарадкоўвалася, напрыклад, Полацкае княства Кіеву ў той ці іншы момант гісторыі. Нам здаецца памылкай зводзіць усё толькі да фактару палітычнай залежнасці. У больш шырокім сэнсе не выклікае сумненняў, што і Полаччына, і тым больш іншыя часткі Беларусі трывала знаходзіліся ў агульным рэчышчы тых з'яў і працэсаў, пра якія ішла наша размова.

*Друкуецца паводле:*
Чырвоная змена. 18 студзеня 1994. № 6 (13722).

[2] Маецца на ўвазе артыкул «Наша агульная спадчына» (*Аўт.*).

# Наша агульная спадчына

Тлумачэнне якасна новых з'яў заўсёды было, бадай што, самай складанай задачай для гістарычнай навукі. Адна з такіх з'яў — пераход першабытных народаў на іншы ўзровень сацыяльнай арганізацыі, калі з'яўляюцца гарады з манументальным дойлідствам, пісьменнасць, заканадаўства, сістэма падаткаабкладання, афармляецца класавае грамадства. Чаму людзі, якія тысячагоддзямі абыходзіліся без усяго гэтага, аднойчы так радыкальна мяняюць сваё жыццё?

Доўгі час у марксісцкай, ды і не толькі ў марксісцкай, навуцы панавала канцэпцыя, нібыта імкненне да прагрэсу арганічна ўласціва грамадству. Адны народы хутчэй, другія больш павольна, але ўсе аднолькава няўхільна ўздымаюцца па прыступках сацыяльнай лесвіцы: ад дзікунства — да варварства ці ваеннай дэмакратыі, потым — да цывілізацыі.

Між тым, вядома, што некаторыя народы і сёння ўпарта адмаўляюцца пераймаць земляробча-жывёлагадоўчую гаспадарку, да якой іх прыахвочваюць больш цывілізаваныя суседзі. Ды і імкненне ад варварства да цывілізацыі не выглядае такім ужо неадольным. Моваведаўцы высветлілі, што словы для абазначэння знаці, жрацоў і спадчынных уладароў існавалі ўжо на стадыі індаеўрапейскай супольнасці, не менш як 5 тысяч гадоў назад. Атрымліваецца, што нашы продкі ўжо тады дасягнулі «пераходнай» стадыі ваеннай дэмакратыі, а наступнага кроку чакалі не адно тысячагоддзе, застаючыся ўвесь гэты час не так ужо і далёка ад цывілізаванага Міжземнамор'я. Нешта тармазіла іх развіццё? А можа, наадварот, проста нішто не падштурхоўвала?

Альтэрнатыўны погляд на гісторыю зыходзіць з таго, што грамадская структура — рэч вельмі інертная, яна імкнецца захоўваць дасягнуты ўзровень, пакуль нейкае ўздзеянне не зробіць гэта немагчымым. Часцей за ўсё гэта бывае знешні імпульс, бо самаўзнікненне цывілізацыі — рэч выключна рэдкая, яна назіралася літаральна лічаныя разы ў гісторыі чалавецтва, і кожны раз — пры асаблівым збегу акалічнасцей.

Не была яшчэ сапраўднай цывілізацыяй і тая Русь IX—X стагоддзяў, пра якую ішла наша размова ў папярэднім артыкуле. Але накапленне багаццяў у руках яе пануючага кола ўсё больш выводзіла грамадства з раўнавагі. Адным з сімптомаў няўстойлівасці быў часовы пераход да знешняй экспансіі, калі ў часы Святаслава Ігаравіча Русь знішчыла Хазарскі каганат і нават спрабавала змагацца з Візантыяй за кантроль над Дунайскай Балгарыяй. Аднак працяглы кантакт з цывілізаванымі дзяржавамі, перш за ўсё — з той жа Візантыяй, падштурхнуў да развіцця не ўшыр, а ўглыб. Русь прыняла хрысціянства, разам з ім з'явіліся мураваныя храмы і іканапіс, распачалося летапісанне, быў зроблены першы накід збору законаў — «Рускай праўды». Пры Уладзіміру былі канчаткова скасаваны мясцовыя дынастыі (у тым ліку — полацкая), палітычная арганізацыя набыла аднароднасць.

Вельмі істотныя змены адбываюцца ў канцы X — першай палове XI стагоддзяў і ў сацыяльнай сферы. Раней дружынна-гандлёвае саслоўе русаў існавала пераважна за кошт збору даніны і цэнтралізаванага размеркавання барышу ад яе збыту. Зараз перыяд першапачатковага назапашвання капіталу канчаецца. Гандаль перастае быць дзяржаўнай справай і пераходзіць у рукі прафесійнага купецтва. Адначасова знаць (да гэтага часу ўжо цалкам аславяненая) пачынае абзаводзіцца ўласнай гаспадаркай — дварамі (у тагачасных крыніцах яны завуцца «сёламі»), дзе працавала спярша паднявольная чэлядзь (рабы). З пачатку XII стагоддзя фіксуецца з'яўленне вялікай колькасці закупаў — сялян, якія траплялі ў фінансавую кабалу і вымушаны былі адпрацоўваць яе.

Асноўная маса сялян (смердаў) захоўвала асабістую свабоду і спадчынныя зямельныя надзелы. Яны выплачвалі дзяржаўныя падаткі і падлягалі суду князя ці яго намесніка, у астатнім жа былі гаспадарамі свайго жыцця. Толькі з XII стагоддзя

пачынаюць з’яўляцца яшчэ вельмі рэдкія звесткі пра перадачу асобных валасцей у залежнасць ад манастыроў ці епіскапаў, а магчыма, і некаторых баяр. Але і ў гэтым выпадку князь перадаваў новым гаспадарам толькі правы на атрыманне пэўных падаткаў і судовых пошлін, якія раней ішлі яму самому.

Праўда, на пачатку таго ж XII стагоддзя ў «Рускую праўду» ўносіцца «хітры» артыкул: калі смерд не пакіне пасля сябе сыноў, яго спадчына (у тым ліку, відаць, і зямля) пераходзіць ва ўласнасць дзяржавы ў асобе князя. Зразумела, што князь не збіраўся ўласнаручна араць і сеяць. Затое ён мог перадаць такі вымарачны надзел іншаму селяніну — вядома, не задарма, а з умовай аддаваць частку ўраджаю ці адпрацоўваць пэўны час у княжацкай гаспадарцы. Так з’ўлялася падстава для феадальнай эксплуатацыі.

Здавалася б, гэта не закранала інтарэсы асноўнай масы сялянства. Але справа ў тым, што колькасць нашчадкаў у людзей вагаецца. У некага выраслі тры сыны, і, каб не драбіць бацькоўскі надзел, два з іх павінны ўладкоўвацца на іншым месцы. Прасцей за ўсё — узяць чыйсьці вымарачны надзел, хай сабе і на ўмовах пэўнай залежнасці. А ў наступным пакаленні той з братоў, хто застаўся на бацькоўскай зямлі, можа памерці без нашчадкаў. Дзеці іншых братоў і рады б вярнуцца на яго надзел, але ж спадчыннікам яго становіцца князь! І так — у кожным пакаленні.

Калі такі працэс быў змадэляваны на камп’ютары, высветлілася, што пры пэўных узроўнях нараджэння і смяротнасці дастаткова шасці пакаленяў (150—180 гадоў), каб каля 90 працэнтаў зямельных надзелаў было «прыватызавана» князем. Хаця дакладныя значэнні тагачасных дэмаграфічных характарыстык нам невядомыя, у цэлым няма сумненняў, што такім чынам феадалізацыя зямлі магла пашырацца вельмі хутка. Ужо на пачатку XIII стагоддзя істотная частка сялянства павінна была жыць на княжацкай зямлі.

Даходы князёў ад уласных двароў і феадальная рэнта паступова сталі больш істотнымі і трывалымі крыніцамі даходу, чым барыш ад знешняга гандлю. Уласныя двары з’явіліся і ў баяр, сярод якіх былі як нашчадкі варагаў-русаў, так і выхадцы з мясцовага, пакуль што яшчэ вольнага сялянства. На гэтай стадыі іх можна лічыць рабаўладальнікамі, але не феадаламі. Магчыма, князь і вылучаў сваім баярам частку «прыватызаваных» зямель, з якіх яны маглі атрымліваць феадальную рэнту, але доказаў гэтага ў тагачасных крыніцах няма. Хутчэй, права на такую рэнту заставалася яшчэ манаполіяй дзяржавы.

У сувязі з азначанымі працэсамі адпала неабходнасць у цэнтралізаванай уладзе, якая раней забяспечвала збор даніны і яе рэалізацыю за мяжой. Таму ў працэсе павелічэння колькасці нашчадкаў Уладзіміра іх калектыўная ўласнасць, Русь, падзялілася на асобныя княствы, больш прыдатныя да кіравання імі. Гэтыя княствы былі таксама калектыўнай уласнасцю асобных галін княжацкага роду: бацькі і дзеці, родныя браты пасля смерці бацькі кіравалі часовымі ўдзеламі ў складзе такой вотчыны, якія пераразмяркоўваліся з кожнай зменай у складзе сям’і. Канчатковы падзел адбываўся толькі на ўзроўні стрыечных братоў, якія ўтваралі ўжо асобныя родавыя галіны і не маглі прэтэндаваць на вотчыны іншых сурodзічаў.

Такім чынам адбылося і новае адасабленне Полацкага княства. Сын Уладзіміра Ізяслаў памёр раней за бацьку, а яго прыжыццёвы ўдзел — Полацк — быў пакінуты ў якасці вотчыны за нашчадкамі Ізяслава. Тое, што яны па жаночай лініі паходзілі ад папярэдняга полацкага ўладара — Рагвалода, спрыяла такому рашэнню, але наўрад ці цалкам яго вызначала, бо, паколькі існавала гэтая галіна князёў, у яе павінна была мецца свая вотчына. Калі б не полацкае, то нейкае іншае княства стала б такой вотчынай усё роўна.

Гэтак жа нашчадкі другога сына Уладзіміра — Яраслава Мудрага — падзялілі на вотчыны астатнюю Русь і працягвалі драбіць яе адпаведна колькасці адгалінаванняў свайго роду. Фармальнае старэйшынства пры гэтым захоўваў той, хто валодаў Кіевам. Такі князь пераразмяркоўваў вотчыны згаслых галін паміж астатнімі, а за непадпарадкаванне агульным правілам мог адабраць уладанні і ў жывых князёў. Так, у 1129 годзе за

ўхіленне ад удзелу ў ваенным паходзе полацкія князі, якія тады яшчэ ўтваралі адзіную сям'ю, былі часова пазбаўлены сваёй калектыўнай вотчыны і высланы ў Візантыю.

Рэальнае значэнне кіеўскага князя захоўвалася, пакуль пад яго кантролем заставалася значная частка Русі. Калі ж у сярэдзіне XII стагоддзя за кошт Кіеўскай зямлі былі ўтвораны вотчыны для нашчадкаў памерлага ў 1154 годзе кіеўскага князя Ізяслава Мсціславіча (Валынскае княства) і для мяцежнага Юрыя Яраславіча (ён у 1158 годзе захапіў і здолеў утрымаць за сабой Тураўскае княства), вярхоўны князь страціў рэальныя магчымасці дыктаваць сваю волю васалам, якія часам мелі значна большыя ўладанні, чым ён.

Такая адсутнасць цэнтралізаванай улады дае падставы для сцвярджэнняў, нібыта і агульнай дзяржавы на Русі ў XII—XIII стагоддзях не было. Стала модным пісаць, напрыклад, пра самастойную Полацкую дзяржаву, хаця Полацкае княства якраз у гэты час паспытала такі ж самы падзел на вотчыны з цэнтрамі ў Друцку, Менску, Віцебску і перастала існаваць як асобная адзінка. На самай жа справе адбыўся пераход дзяржавы ў тыповую для сярэднявечча поліцэнтрычную форму, што добра разумелі сучаснікі. Замежныя крыніцы ніколі не характарызуюць Русь як сукупнасць самастойных дзяржаў, заўсёды гавораць пра яе як пра нешта агульнае. Для польскіх храністаў суседняя з Польшчай Галіцка-Валынская зямля была толькі часткай Русі, хаця і мела сваіх князёў. Гэтак жа і храніст пачатку XIII стагоддзя Генрых Латвійскі лічыў князёў Полацкай зямлі і іх падданых рускімі.

Уяўленне пра адзінства Русі было вельмі моцным і сярод яе насельніцтва. Калі ў XIII стагоддзі яна паспытала мангольскае нашэсце, гэта было ўспрынята як пагібель агульнарускай дзяржавы, аб чым выразна сведчыць «Слова пра пагібель Рускай зямлі». На думку яго аўтара, «светло светлая и украсно украшена земля Руськая» прасціралася ад Венгрыі да Ледавітага акіяна, ад зямлі яцвягаў і літоўцаў да Волжскай Балгарыі. І ў 1264 годзе, калі ў Полацку ўжо княжыў літоўскі князь Гердзень, у яго грамаце пазначаецца, «што Руськая земля словет Полочькая». А быліны кіеўскага цыкла працягвалі жыць на ўзбярэжжы Белага мора, дзе і былі запісаны значна пазней.

Не маючы палітычнага адзінства, Русь XII—XIII стагоддзяў мела агульную рэлігію, культуру, літаратурную мову. Пры раскопках гарадоў археолагі знаходзяць ад Ноўгарада да Кіева і ад Берасця да Мурама адны і тыя ж рэчы, «візітныя карткі» Русі: шкляныя бранзалеты, сланцавыя прасніцы і г.д. Пра агульнарускі характар матэрыяльнай культуры можна прачытаць у любой публікацыі, прысвечанай археалагічнаму вывучэнню гарадоў гэтага перыяду, у тым ліку і на Беларусі.

Цывілізацыя Русі была актыўна ўключана ў больш шырокую супольнасць. Шчыльныя духоўныя сувязі нітавалі яе з Візантыяй, адкуль было запазычана хрысціянства. Не была забыта і агульнаславянская кроўнасць. Русь успрыняла пісьменнасць, распрацаваную балгарамі Кірылам і Мяфодзіем для заходнеславянскай Вялікай Маравіі. Вельмі пашыраны былі пераклады аповесці пра паходы Аляксандра Македонскага і нават заходнееўрапейскага рыцарскага рамана пра Трыстана і Ізольду. Арганічна ўпісалася ў рускі летапіс жамчужына палавецкага фальклору — паданне пра хана Атрока і траву ямшан, якое зберaглося такім чынам для сусветнай культуры.

Вельмі шкада, што сёння, быццам бы ў мэтах гістарычнага адраджэння, беларусы пачынаюць выкройваць з гэтага палотнішча сваю асобную хусцінку. Як нельга зразумець карціну па адным фрагменце, так нельга Сафійскі сабор у Полацку зразумець без наўгародскай, кіеўскай, канстанцінопальскай Сафіі, святую Ефрасінню — без Феадосія Пячорскага, Кірылу Тураўскага — без Серапіёна Уладзімірскага. На зямлю сучаснай Беларусі цывілізацыя прыйшла ў выглядзе вялікай старажытнарускай культуры, гэтак жа, як яна прыйшла на Валынь і Суздальшчыну. Продкі беларусаў былі такімі ж яе стваральнікамі, як і іншыя ўсходнія славяне. Пазней гістарычныя шляхі беларусаў, рускіх і ўкраінцаў сапраўды разышліся, але ж гэта зусім не азначае, што яны спрадвеку ішлі паасобку.

Канешне, Русь зусім не была маналітам, пазбаўленым мясцовых адценняў. Але як у часы дунайскіх паходаў славян іх лакальныя адрозненні яшчэ не неслі ў сабе

будучага падзелу на тры асобныя галіны, так і тыя мясцовыя асаблівасці, якія мы здольны сёння распазнаць у тканіне рускай супольнасці, адлюстроўвалі хутчэй розніцу ў паходжанні яе частак, чым зерне адасаблення ў будучыні.

Даволі выразна прасочваецца, напрыклад, розніца паміж старажытным арэалам культуры Лукі-Райкавецкай і тымі абшарамі, якія былі канчаткова славянізаваны разам з утварэннем Русі. Першы арэал, які ахопліваў Правабярэжную Украіну і поўдзень Беларусі з парэччам Буга і Прыпяці, характарызуецца пэўным падабенствам у пахавальным інвентары курганоў, у дэталях горадабудаўніцтва. Нават палітычна княствы, што ўзніклі тут, былі больш шчыльна звязаны паміж сабой, чым з іншымі рэгіёнамі Русі. На пачатку XIII стагоддзя тут утварылася Галіцка-Валынскае княства, якое ўключала ў сябе і Берасцейшчыну. Вотчыны турава-пінскіх князёў, нашчадкаў Юрыя Яраславіча, таксама знаходзіліся ў яго сферы прыцягнення. У 1229 годзе, напрыклад, Даніла Галіцкі, ідучы паходам у Польшчу, пакінуў «стерегчи земле» князя Уладзіміра Пінскага. Іншыя звесткі пра пінскіх князёў, як, дарэчы, і абодва ўрывачныя ўпамінанні Новагародка (Навагрудка) у гэты час таксама звязаны з паўднёварускімі падзеямі.

Свае спецыфічныя рысы мела Сярэдняе Падняпроўе, дзе некалі існавала племяннoе княжанне палян, а потым утварыўся велікакняжацкі дамен (Русь у вузкім сэнсе). Тут хавалі нябожчыкаў у характэрных падкурганных ямах, вельмі ўстойлівай была традыцыя будаваць паўзямлянкі з круглымі глінянымі печамі. У Левабярэжжы Дняпра і вярхоўях Дона існавалі іншыя асаблівасці, звязаныя з княжаннем северан і роменска-боршаўскай культурай. Саму назву северан лічаць іранскай, а іх асаблівасці часткова звязваюць з іранскім субстратам.

Зусім інакш працякалі этнічныя працэсы ў Падзвінні, на поўначы Смаленшчыны, Пскоўшчыне. У VII—VIII стагоддзях там распаўсюдзіўся звычай насыпаць доўгія курганы. Інвентар гэтых курганоў мае аналогіі хутчэй у балцкіх і фінскіх, чым у славянскіх матэрыялах, аднак пазней якраз на гэтых абшарах сфарміраваўся славянскі субэтнас крывічоў. Мабыць, ён увабраў у сябе папярэдняе насельніцтва. У арэале папярэдніх калочынскай і мошчынскай культур утварыліся супольнасці радзімічаў і вяцічаў, якім летапіс прыпісвае заходняе («ад ляхаў») паходжанне. Наўгародскія ж славены, якія паступова рассяляліся ў левабярэжжы верхняй Волгі і вадазборы Паўночнай Дзвіны, доўгі час заставаліся этнічнай меншасцю ў атачэнні фінскіх народаў.

Былі і рысы, якія аб'ядноўвалі паўднёвую правінцыю (былыя арэалы лука-райкавецкай і роменска-боршаўскай культуры) з аднаго боку, паўночную (крывічоў, славенаў, радзімічаў, вяцічаў) — з другога. Там склаліся нават асобныя грашова-вагавыя сістэмы.

Па ўрывачных звестках можна адзначыць і некаторыя моўныя асаблівасці на тэрыторыі Русі. Частка з іх (аканне, дзеканне, аглушэнне гука «г», ацвярдзенне «р» і іншыя) уласціва сучаснай беларускай мове. Справа, аднак, у тым, што гэтыя рысы ўзніклі і існавалі паасобку, не ўтвараючы суцэльнай фанетычнай сістэмы. Аканне пашырылася сярод крывічоў, радзімічаў і вяцічаў, цвёрды «р» — у палеска-валынскім рэгіёне, глухі «г» — у нашчадкаў северан, вяцічаў і, напэўна, радзімічаў. Разам з тым, крывічы вымаўлялі «р» мякка, «г» — звонка, дрыгавічы ж і валыняне не ведалі акання і г.д. Рэшткі гэтых моўных асаблівасцей сёння даюць падставы вызначыць на этнічнай тэрыторыі беларусаў заходнепаляшуцкую, паўднёва-заходнюю і паўночна-ўсходнюю дыялектныя зоны. Яны не аб'ядноўваюць, а раз'ядноўваюць сучасных беларусаў.

У гэтай сувязі вялікую цікавасць выклікае тэрыторыя Менскага і Друцкага княстваў, якія спярша апынуліся ў сферы рассялення звязаных з поўднем дрыгавічоў, а потым — у складзе пераважна крывіцкай Полацкай зямлі. Да таго папярэдне тут быў моцны цэнтр культур штрыхаванай керамікі і банцараўскай. Калі дзе і мог існаваць моцны балцкі субстрат, то якраз у гэтых мясцінах. Усё гэта павінна было стварыць умовы для ўзаемапранікнення балцкіх, палескіх і крывіцкіх моўных асаблівасцей, іх эвалюцыі ў напрамку беларускай мовы. Але гэта — толькі гіпотэза, бо няма ніводнага доказу таго, што азначаныя працэсы сапраўды мелі месца.

Нават калі і было так, то гэты працэс, каб прывесці да з'яўлення беларусаў, павінен быў пашырыцца на ўсю іх будучую этнічную тэрыторыю: і на Падзвінне, і на Палессе, і на Пасожжа. У XII—XIII стагоддзях мы не бачым фактараў, якія б спрыялі гэтаму. Вышэй ужо сказана, што Пінскае і Тураўскае княствы былі «звернуты тварам» хутчэй на поўдзень, чым на поўнач. Раён Гомеля, Рэчыцы і, напэўна, Рагачова ўваходзіў у склад Чарнігаўскай зямлі, таму быў арыентаваны пераважна на ўсход. Княствы ж Полацкай зямлі шчыльна кантактавалі толькі са Смаленшчынай. Так, у 1229 годзе гандлёвае пагадненне з Рыгай было заключана ад імя Смаленска, Полацка і Віцебска, што сведчыць пра пэўныя палітычныя сувязі паміж імі. Нейкі час смаленскія князі нават валодалі Полацкам. У астатнім Полаччына з канца XII стагоддзя практычна знікае са старонак летапісаў, што трэба лічыць вынікам яе адасобленасці ад агульнарускіх спраў, у тым ліку — і ад інтарэсаў, якімі жылі Берасцейшчына, Піншчына і Гомельшчына.

Такім чынам, у гэты час можна гаварыць толькі пра існаванне пэўных перадумоў да ўзнікнення беларускага этнасу, але ніяк не пра наяўнасць ужо сфарміраваных беларусаў. Больш таго, да знішчэння Русі манголамі і далейшага аб'яднання часткі яе княстваў у складзе Вялікага Княства Літоўскага гэтыя перадумовы не маглі рэалізавацца. Аднолькавыя законы, веравызнанне, літаратурная мова — усё гэта магло толькі згладжваць мясцовыя асаблівасці, а не ўзмацняць ці пашыраць іх. І справа нават не ў тым, ці паспела цалкам скласціся тая «старажытнаруская народнасць», пра якую шмат пісалі ў савецкі час. Бясспрэчна іншае — існаванне агульнай старажытнарускай цывілізацыі.

Яе духоўны патэнцыял вельмі моцна праяўляўся яшчэ не адно стагоддзе. Імя Русі працягвала жыць сярод яе нашчадкаў, увайшло ў афіцыйную назву Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, у назву Рускага ваяводства (Галіччыны) у складзе Польшчы і Рускага царства — папярэдніка сённяшняй Расіі. Цяпер слова «рускія» ўспрымаецца перш за ўсё як саманазва жыхароў Расіі, аднак паміж ёю і Руссю XI—XIII стагоддзяў ляжыць роўна такая ж адлегласць, якая аддзяляе апошнюю ад Беларусі і Украіны. Атрымалася так, што рускія захавалі старое імя, а беларусы і ўкраінцы атрымалі новыя, але магло атрымацца і наадварот, бо яшчэ ў XVI стагоддзі жыхары Беларусі і Украіны называлі сябе «рускімі», а Расія была больш вядома пад назвай «Масковія».

Цывілізацыя Русі дала пачатак нам усім, спадчына яе — наша агульная спадчына. Мець такога вялікага папярэдніка зусім не сорамна для беларусаў, як не сорамна італьянцам, французам і іспанцам прызнаваць свае вытокі ў цывілізацыі Старажытнага Рыма, а грэкам — у цывілізацыі Элады і Візантыі.

*Друкуецца паводле:*
Чырвоная змена. 15 лютага 1994. № 6 (13722).

# Русь

**Русь**, назва этнапалітычнай супольнасці ва Усходняй Еўропе ў сярэдневякоўі. Упершыню тэрмін «Р.» зафіксаваны ў 839, калі група варагаў (шведаў) назвала сябе пры двары герм. імператара пасламі «кагана Русі». У візантыйскіх і арабскіх крыніцах 2-й пал. 9 ст. паведамляецца пра марскія набегі Р. на паўд. берагі Чорнага мора і Каспія. «Баварскі географ» сярэдзіны 9 ст. у пераліку народаў Усх. Еўропы называе Р. пасля бужан і улічаў, але перад уграмі і хазарамі, што сведчыць пра яе лакалізацыю ў Падняпроўі. Шэраг звестак 9—10 ст. атаясамлівае Р. са славянамі, большасць — з варагамі (нарманамі) ці проста адрознівае Р. ад славян. З пач. 10 ст. у шэрагу арабскіх крыніц паўтараецца сюжэт пра месцазнаходжанне Р. на нейкім востраве, адзначаюцца напады Р. на славян, іх гандаль рабамі з Волжскай Балгарыяй і Хазарыяй. У 1-й пал. 10 ст. Р. заключыла з Візантыяй шэраг дагавораў, тэксты якіх захаваліся ў летапісах 11 ст. У дагаворы 911 сярод «рускіх градаў» названы Полацк, Растоў і інш., імёны амаль усіх паслоў у дагаворах германскія. Іспанскі географ Ібрагім бен-Якубі каля 966 паведамляе пра дзве Р., з якіх адна мяжуе з Польшчай з У, а другая на караблях нападае на З на прусаў. Першае падрабязнае апісанне Р. даў у сярэдзіне 10 ст. візантыйскі імператар Канстанцін VII, які ведае пра ўладара Р. кн. Ігара і «знешнюю Р.» з Ноўгарадам, дзе княжыў сын Ігара Святаслаў. Ён жа апісаў збор русамі даніны са славян і прывёў асобныя ад славянскіх «рускія» назвы дняпроўскіх парогаў, якія маюць германскую этымалогію. З 2-й пал. 10 ст. зах. крыніцы часам называюць Р. «Ругіяй», некаторыя звязваюць яе з в-вам Руген і суседнімі слав. землямі на паўд. узбярэжжы Балтыйскага мора. Уласныя пісьмовыя крыніцы Р. (старaж.-рус. летапісы) з'яўляюцца з 11 ст. У «Аповесці мінулых гадоў» паведамляецца, што «Руская зямля» пачала так называцца з часоў візантыйскага імператара Міхаіла Ісаўра (з 842), а назва яе паходзіць ад варагаў, запрошаных княжыць у Ноўгарад. Там жа пералічаны слав. плямёны ў складзе Р., што даволі дакладна акрэслівае тэрыторыю Кіеўскай Русі 10—11 ст. «Аповесць» прыводзіць гісторыю фарміравання гэтай тэрыторыі праз захоп наўгародскім князем Кіева, падпарадкаванне асобных плямён і войны з Хазарыяй. Гэты комплекс пісьмовых звестак адпавядае археалагічным матэрыялам, якія фіксуюць з'яўленне скандынаўскіх рэчаў спярша на гарадзішчы Старая Ладага (2-я пал. 8 ст.), а на працягу 9—10 ст. — у Верхнім Паволжы і Падняпроўі, з адначасовым распаўсюджаннем вял. колькасці арабскіх манет (дырхемаў) на берагах Балтыкі і ў лясной зоне Усх. Еўропы. На гэтай жа тэрыторыі стаў пашырацца пахавальны абрад з выкарыстаннем ладдзі, вытокі якога прасочваюцца ў раёне г. Упсала (Швецыя) з 7—8 ст. Са шматлікіх версій паходжання назвы «Р.» найб. верагоднай лічыцца гіпотэза пра запазычанне славянамі фінскага слова «ruotsi» — «весляры», якім жыхары Усх. Прыбалтыкі называлі шведскія гандлёва-рабаўнічыя атрады. Гэтым словам пазней пачала называцца змешаная славяна-скандынаўская праслойка, якая кантралявала гандаль рабамі і інш. таварамі з Хазарыяй, Арабскім халіфатам і Візантыяй, а потым падпарадкавала племянныя княствы і ўзначаліла ўтварэнне дзяржавы. Не выключана, што да ўтварэння пануючай дынастыі Рурыкавічаў мелі дачыненне выхадцы з в-ва Руген. Іншыя версіі паходжання назвы Р. (спробы звязаць яе з загадкавым народам «hros» візантыйскага аўтара 6 ст. Захарыя Рытара або з р. Рось у Сярэднім Падняпроўі) значна горш адпавядаюць сукупнасці фактаў. Вял. ролю ў культ. кансалідацыі Р. адыграла прыняцце ў 988 хрысціянства з Візантыі. Да пач. 11 ст. скандынаўскі кампанент Р. канчаткова славянізаваўся. З гэтага часу Р. набывае характар правасл. слав. дзяржавы, у межах якой пачаўся працэс зліцця старaж. плямён у агульны ўсх.-слав. («рускі» ў тагачасным сэнсе) этнас. Аднак да 13 ст. гэты працэс не быў скончаны — захоўваліся выразныя мясц. асаблівасці, што дало магчымасць у далейшым утварыцца на тэр. Р. некалькім этнасам.

У царк. крыніцах і летапісах 12—13 ст. ёсць шмат прыкладаў выкарыстання назвы «Р.» у якасці палітоніма і этноніма, у т.л. і адносна тэр. Беларусі. Ігумен Данііл у час паломніцтва ў Іерусалім ставіў лампаду «за всю Рускую землю» і маліўся за рускіх князёў, у т.л. за менскага кн. Глеба Усяславіча. Епіскап Кірыла Тураўскі адзначаў, што ён «рожден и воспитан града та Турова в Руской стране». У полацкай грамаце 1264 падкрэсліваецца, што «Руськая земля слывет Полочьская». Такі ж сэнс тэрміна пераважае ў замежных крыніцах. Рыжскі храніст пач. 13 ст. Генрых Латвійскі называе «рускім каралём» полацкага кн. Уладзіміра, а польская «Вялікая хроніка» — галіцка-валынскага кн. Данілу Раманавіча. Там жа Берасце названы «горадам Русі». Разам з тым у летапісах сярэдзіны 12 ст. і пазней сустракаецца паняцце «Р.» у вузкім сэнсе, якое тычылася толькі раёна Кіева—Чарнігава—Пераяслава. У гэтым сэнсе Р. супрацьпастаўлялася Наўгародскай, Полацкай, Суздальскай, Галіцкай землям. Мабыць, вузкае значэнне назвы «Р.» склалася ў 10 — пач. 11 ст., калі азначаны абшар быў асабістым уладаннем кіеўскага князя — гэтак жа, як дамен караля Францыі атрымаў назву «Іль-дэ-Франс» («востраў франкаў»). Меркаванні аб тым, што вузкі сэнс папярэднічаў шырокаму, фактамі не пацвярджаюцца. Шырокае значэнне назвы «Р.» трывала захоўвалася і пасля татарскага нашэсця 1237—40, калі яе тэрыторыя апынулася ў складзе розных дзяржаў, як залежных ад Арды — Вял. княства Уладзімірскага (пазней Маскоўскага) і Галіцка-Валынскага княства, так і суверэнных — ВКЛ, часткова Польскага і Венгерскага каралеўстваў. У гэты час тэрмін «Р.» набывае характар метаэтноніма (агульнай назвы некалькіх этнасаў, што пачалі фарміравацца). Праваслаўе пачынаюць называць «рускай верай». Зах.-валынскія землі, якія адышлі да Польшчы ў сярэдзіне 14 ст., атрымалі назву Рускага ваяводства. У складзе ВКЛ пад Р. у шырокім сэнсе разумелі ўсю тэр. усх.-слав. насельніцтва, за выключэннем Верхняга Панямоння, якое да сярэдзіны 13 ст. увайшло ў гіст. ядро ВКЛ (на яго з таго ж часу пашыралася назва «Літва»). Разам з тым у 16 ст. фіксуецца і больш вузкае значэнне назвы Р., якое тычылася толькі ўсх. часткі сучаснай Беларусі і мела прыкладна такі ж сэнс, як і інш. рэгіянальная назвы — Валынь, Падляшша, Палессе і інш. З 17 ст. за гэтым рэгіёнам канчаткова замацоўваецца назва Белая Русь. Жыхары ВКЛ у межах 1569, называючы сябе «рускімі» (русінамі), часам ужо выразна адрознівалі сябе ад жыхароў Расіі («маскоўцаў») і казацкай Украіны («чаркасаў»). У той жа час у Маскве жыхароў ВКЛ называлі «літвінамі», а слав. насельніцтва Беларусі і Украіны — «беларусцамі». Аднак этнічнаму самавызначэнню перашкаджала адсутнасць агульнапрынятых саманазваў, а таксама тое, што Вял. княства Маскоўскае з 2-й пал. 16 ст. атрымала афіцыйную назву «Рускае царства». З таго часу паліт. і культурная эліта гэтай дзяржавы пачала атаясамліваць паняцці «Р.» і «Расія», што стварыла пэўныя цяжкасці ў завяршэнні этнагенезу інш. нашчадкаў стараж. Р. — беларусаў і ўкраінцаў.

*Літ.*: Гаркави А.Я. Сказания мусульманских писателей о славянах и русских. СПб., 1870; Насонов А.Н. «Русская земля» и образование территории древнерусского государства. М., 1951; Новосельцев А.П. Восточные источники о восточных славянах и Руси VI—IX вв. // Древнерусское государство и его международное значение. М., 1965; Назаренко А.В. Об имени «Русь» в немецких источниках IX—XI вв. // Вопр. языкознания. 1980. № 5; Трухачев Н.С. Попытка локализации Прибалтийской Руси на основании сообщений современников в западноевропейских и арабских источниках X—XIII вв. // Древнейшие государства на территории СССР. Материалы и исслед. 1980 г. М., 1981; Развитие этнического самосознания славянских народов в эпоху раннего средневековья. М., 1982; Лебедев Г.С. Эпоха викингов в Северной Европе. Л., 1985; Славяне и скандинавы: Пер. с нем. М., 1986; Насевіч В., Спірыдонаў М. «Русь» у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996. Вып. 1.

*Друкуецца паводле:*
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 6. Кн. 1. Мінск, 2001. С. 145—146;
Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. Т. 13. Мінск, 2001. С. 472—473; Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя ў 2 тамах. Т. 2. Мінск, 2006. С. 521—522.

# Літва

**Літва**, этнічны і палітычны тэрмін, які ўжываўся ў гістарычных крыніцах у розных сэнсах. Упершыню зафіксаваны пад 1009 у «Кведлінбургскіх аналах» (Annales Quedlinburgenses) у сувязі са смерцю каталіцкага прапаведніка св. Бруна на памежжы Русі і Л. (Lituae). Можна меркаваць, што зыходнай формай назвы была Літава (Litova) з націскам на апошнім складзе, а ў вытворных ад яго прыметніках націск змяшчаўся на 2-і склад, адсюль стражытнарус. «литовскый», лац. litoviensis і да т.п. Варыянт назвы Літовія (Lithovia, Lettowia ў лацінска- і нямецкамоўных крыніцах) утварыўся, хутчэй за ўсё, у выніку другаснай трансфармацыі прыметніка ў назоўнік пісарамі, для якіх літ. мова не была роднай. Відавочна, зыходная форма Літава ўтварылася па тых жа прынцыпах, што і зах.-балцкія Надровія, Карсава (Карсовія), Судава, Дайнава. Падобная форма зафіксавана і ва ўсх.-літоўскім арэале — Дзевалтва. Паходжанне тэрміна Л. не высветлена, ніводная са шматлікіх версій не атрымала агульнага прызнання. Корань «літ-» (з варыянтамі «лет-/лют-») дапускае розныя этымалогіі як у балцкіх і славянскіх, так і ў інш. індаеўрапейскіх мовах. Сугучныя тапонімы вядомы з 12—13 ст. на тэр. Славакіі (Lytwa), Румыніі (Litua). Адна з версій звязвае тэрмін Л. з назвай р. Латава, прытока Швянтойі (у Анікшчайскім р-не Літоўскай Рэспублікі). Фармулёўка граматы Міндоўга, выдадзенай адразу пасля яго каранацыі ў 1253 («дадзена ў Летовіі ў нашым двары»), дазваляе некаторым аўтарам меркаваць, што існавала аднайменнае паселішча, у якім нібыта размяшчалася адна з яго рэзідэнцый, пазней — двор літ. біскупа. Яго звязваюць з гарадзішчам на той жа р. Латава, дзе ў канцы 14 ст. упаміналіся рэшткі замка Летаў (Lettow), ці з в. Літоўка каля Навагародка. Але гэтыя меркаванні не маюць трывалай фактапагічнай падставы.

Л. двойчы ўпамінаецца ва ўводнай частцы «Аповесці мінулых гадоў»: сярод еўрапейскіх народаў «Афетавай часткі» і сярод «иных языцев», якія даюць даніну Русі. Апошняя згадка сведчыць пра неславянскую моўную прыналежнасць Л. Больш познія паведамленні дазваляюць вызначыць гэтую прыналежнасць як балцкую. Тое, што мова Л. была амаль тоесная жамойцкай («адна і тая ж мова і адны і тыя ж людзі»), сцвярджаецца ў лісце Вітаўта да імператара Жыгімонта (1420). У 2-й пал. 15 ст. Я. Длугаш пісаў, што «літоўцы, самагіты (жамойты) і яцьвінгі (яцвягі), хаця і мелі розныя найменні і падзяляліся на мноства родаў, утваралі тым не менш агульнае цэлае». Ён адзначаў аднолькавыя рысы ў мове літоўцаў і жамойтаў, якія прыпісваў іх лацінскаму паходжанню. Гэтая думка разгорнута ў трактаце Міхалона Літвіна (1550), дзе прыведзены 74 словы, якія, на думку аўтара, гучаць у літ. (Lituano) мове гэтак жа, як і ў лацінскай. Усе яны маюць індаеўрапейскае паходжанне, прытым ёсць такія, што захавалі сугучнасць у лацінскіх і балцкіх мовах, але адрозніваюцца ад адпаведных слав. слоў: deus (бог, літ. dievas), vir (чалавек, vyras), gentes (людзі, gentys), dentes (зубы, dantys), rota (кола, ratas), cur (чаму, kur), primus (першы, pirmas) і інш. Папскі нунцый Дж. Руджэра, паведамляючы ў 1568 пра адметнасць літ. мовы (lingua lituana) ад польскай і нямецкай, адзначыў, што «на Жамойці ўжываецца ў гутарцы тая самая мова, аднак даволі адрозная ад літоўскай, якая ў іншы спосаб адрозніваецца і адначасна супольная для некаторых вёсак Прусіі».

У ваенна-паліт. падзеях Л. прыгадваецца ў сувязі з паходам на яе кіеўскага кн. Яраслава Мудрага, які ў «Аповесці мінулых часоў» датаваны 1040, у Наўгародскім 1-м летапісе — 1044. Магчыма, менавіта ў той час Л. трапіла ў данніцкую залежнасць ад Русі, якую прыгадвае і Длугаш. Наступны паход на Л. здзейсніў у 1130/31 кіеўскі кн. Мсціслаў Уладзіміравіч. Пад 1159 (1162) Іпацьеўскі летапіс паведамляе, што прадстаўнік менскай княжацкай галіны Валадар «ходяше под Литвою в лесех». Гэтую згадку даследчыкі інтэрпрэтуюць па-рознаму: Валадар альбо нёс ахову на мяжы з Л., альбо хаваўся там, каб ухіліцца ад прысягі полацкаму кн. Рагвалоду; некаторыя літ.

даследчыкі трактуюць выраз «под Литвою» як сведчанне паліт. залежнасці Валадара ад Л. Колькасць згадак пра Л. рэзка павялічваецца з 1180-х г. Войска з Л. ходзіць па запрашэнні полацкіх князёў на іх праціўнікаў (у 1180 на Друцк і ў 1196 на Вял. Лукі), здзяйсняе самастойныя рабаўніцкія напады. Першы такі набег (на Пскоўскае княства) адбыўся ў 1183. У «Слове аб паходзе Ігаравым» прыгадваецца пра гібель у бітве з літоўцамі каля 1185 кн. Ізяслава (з полацкага роду Усяславічаў). У «Хроніцы Лівоніі» сцвярджаецца, што літ. (Lethones) набегі на Лівонію пачаліся да прыбыцця туды біскупа Мейнарда (да 1184) і працягваліся няспынна на працягу наступных 40 гадоў. Пра крыўды хрысціянам ад «вельмі магутнай Л.» згадвалася ў час візіту ў Рым ахрышчанай знаці ліваў (1188). Кіеўскі кн. Рурык у 1190 і 1193 збіраўся ў паход на Л., але гэты намер так і не быў здзейснены. У 1200 Л. зрабіла набег на паўд. воласці Наўгародскай зямлі, прыблізна ў гэты ж час адбыўся першы набег на Польшчу. У 1201 літоўцы заключылі мір з рыжскім біскупам і здзейснілі набег на Земгалію, тады ж «Хроніка Лівоніі» паведамляе пра паход полацкага кн. Уладзіміра на Л. Каля 1203 пачалося супрацоўніцтва з Л. Усевалада, князя г. Герцыке, які ажаніўся з дачкой літ. кн. Даўгерда і спрыяў набегам Л. на Русь, Лівонію і землі эстаў. Уладар інш. рускага княства ў Латыголі, Вячка з Кукенойса ў 1205 шукаў падтрымкі рыжскага біскупа супраць Л., а ў 1212 з такой жа прапановай звярнуўся полацкі кн. Уладзімір. Войска Л. звычайна перапраўлялася на правы бераг Дзвіны каля Леневарды ці Кукенойса. У 1207 рыжскі біскуп арганізаваў паход у зямлю селаў на левабярэжжы Дзвіны, якая была пад кантролем Л. Каля 1208 адбыўся першы напад Л. на Валынь. У 1210 адзначаны набегі на Кукенойс і Наўгародскую зямлю, у 1213 — на Пскоў. Уладзімір Полацкі ў 1216 заключыў саюз з Л. супраць Рыгі, але хутка памёр, пасля чаго саюз, напэўна, распаўся. У наступныя гады Л. нападала на Наўгародскую зямлю (1217), Пскоў (1218), дзейнічала ў саюзе з Ордэнам мечаносцаў супраць Ноўгарада (1219). Тады ж быў заключаны дагавор 1219 паміж Л. і Галіцка-Валынскім княствам, пасля чаго літ. войска прайшло праз валынскую тэрыторыю на Польшчу. Затым Л. ваявала на баку Пскова (1221) і Ноўгарада (1222) супраць Ордэна мечаносцаў, зрабіла напад на Таропец (1223), зноў ваявала з Ноўгарадам (1224). Летапісы адзначаюць асабліва буйны памер набегу 1225 на наўгародскія, смаленскія воласці, Таропецкае і Полацкае княствы: «бе бо рать велика ака же не была от начала миру». Набегі на Лівонію часова прыпыніліся з 1225 пад уражаннем ад канчатковага скарэння і хрышчэння эстаў. У 1229 адбыліся напады на наўгародскія воласці ў вярхоўях Волгі і на Берасце, што належала Галіцка-Валынскаму княству, у 1234 — на Русу (цяпер Старая Руса). Арганізаваны ў 1236 Ордэнам мечаносцаў пры ўдзеле крыжаносцаў з Зах. Еўропы і пскавічан вял. паход на Л. скончыўся паражэннем пры Саўле (гл. Саўлеская бітва 1236).

У дагаворы 1219 упершыню прыводзяцца звесткі, якія дазваляюць удакладніць месцазнаходжанне і ўнутраную структуру Л.: у яе склад уваходзілі Жамойць, Дзевалтва і не менш за 2 інш. лакальныя землі, узначаленыя мясц. дынастыямі (іх назвы ў дагаворы адсутнічаюць). Традыцыя, адлюстраваная ў бел.-літ. летапісах, лічыла цэнтрам Дзевалтвы г. Вількамір (цяпер Укмерге). Недалёка ад яго вядома стараж. паселішча Дзявілтоў, магчыма, ад яго пайшла назва Дзевалтоўскай зямлі. Разам з тым, у «Хроніцы Лівоніі» пры апісанні падзей 1210—20-х г. не згадваюцца ні Жамойць, ні Дзевалтва, якія павінны былі непасрэдна межаваць з Лівоніяй, а толькі Л. (Lethonia). Пры апісанні межаў новаўтворанага Курляндскага біскупства ў 1237 таксама адзначалася, што паміж Мемелем (цяпер Клайпеда) і Земгаліяй, у парэччы Венты, яно мяжуе з Л. (Letoviam). Уладанні Прускага біскупства ў 1243 таксама сутыкаліся на У з літ. (Letuinorum) межамі. Відавочна, пад Л. у такім сэнсе разумелася тэрыторыя шэрага паўсамастойных княстваў, на якія распаўсюджваўся паліт. уплыў дынастыі «старшых князёў». Да гэтай дынастыі належаў Міндоўг, які да канца 1230-х г. дасягнуў першынства над інш. князямі (у падзеях 1238 Іпацьеўскі летапіс згадвае «Литву Минъдога»). Пасля ўтварэння ў сярэдзіне 1240-х г. ВКЛ, куды ўвайшлі тэрыторыі этнічнай Л. і рус. княстваў Верхняга Панямоння, назва Л. ахапіла

ўсе тэрыторыі, падпарадкаваныя ўладзе Міндоўга. Прыняцце Міндоўгам каталіцкага хрышчэння ў 1251 выклікала з'яўленне шэрага папскіх пасланняў, дзе згадваецца «кароль Л.» (regi Lithowiae, rex Lethoviae), «каралеўства Л.» (regnum Luthawiae), прычым у 1255 папа пацвердзіў Міндоўгу права валодаць землямі, адваяванымі ў «каралеўства Русі» — напэўна, Галіцка-Валынскага княства.

Крыніцы дазваляюць акрэсліць абшар, падуладны Л. у сярэдзіне 13 ст. Іпацьеўскі летапіс пры апісанні падзей 1248 згадвае пад уладай Міндоўга Навагародак, Ваўкавыск, Слонім і Здзітаў, а ў 1252 — таксама Горадна і паход галіцкага кн. Данілы «на Литву на Новгородок», які адбыўся, напэўна, у канцы 1252. У дарчай грамаце 1253 Міндоўг саступіў Лівонскаму ордэну шэраг валасцей у Жамойці, землі Надровію і Карсовію на ніжнім Нёмане (у Карсовіі ў 1259 быў пабудаваны крыжацкі замак Георгенбург — Юрбарк). Апрача таго, Міндоўг у 1253—57 кантраляваў (прынамсі, часткова) населеную прусамі Скалвію, яцвяжскую Дайнаву і мясцовасці, якія з большай ці меншай упэўненасцю лакалізуюцца на левабярэжжы Нёмана: Вяйсея, Вейжы, Крэсмен і інш. У дакуменце рыжскага біскупа 1254 прыгадваюцца сумежныя з Земгаліяй землі Упіта і Саўле, што належалі Л. У грамаце 1255 і пацвярджальнай папскай буле 1257 фігуруюць уступленыя Міндоўгам Лівонскаму ордэну мясцовасці ў зямлі селаў, на Пд ад Дзвіны: Мядэна, Малейшы, Таўрогі і інш. На З улада Л. у 1250-я г. не распаўсюджвалася на захопленыя крыжакамі куршскія воласці Пілсата (у ёй быў заснаваны ордэнскі замак Мемель), Мягове (з замкамі Паланга і Крэцінга), зямлю Цэкліс.

Аўтар «Апісання зямель», які ўдзельнічаў у каранацыі Міндоўга, згадваў у адным шэрагу з Л. (Lectaui) асобныя землі Яцвягіі (Ietuesi), Нальшчаны (Nalsani) і Жамойць (Samoita) і адзначыў асаблівую ўпартасць апошняй у захаванні язычніцтва. «Ліфляндская рыфмаваная хроніка» пры паведамленні пра падзеі часоў Міндоўга ўжывае назвы Л., «літоўцы» (Lettowen) як у шырокім сэнсе, так і ў вузкім, неаднаразова адасабляючы яе ад Жамойці (Sameiten) і аднойчы — ад Нальшчан (Nalsen). Праз апошнюю ішоў паходам лівонскі ландмайстар на ўласна Л. у 1250. У Іпацьеўскім летапісе таксама сустракаецца такое адрозненне: у 1258 татары пры руху з Пд паслядоўна «воеваша земли Литовьскую и Нальшчаньскую», а ў 1264 з бацькоўскай Л. рушыў на скарэнне мяцежных Нальшчан і Дзевалтвы сын Міндоўга Войшалк. Відаць, Літ. зямля ў вузкім сэнсе ахоплівала тэрыторыю, якая з часоў дагавора 1219 непасрэдна належала «старшым князям». Міндоўг стаў яе аднаасобным уладаром каля 1248, гвалтоўна далучыўшы вотчыну сваіх пляменнікаў («поимана бе вся земля Литовьская»). Гэта не тычылася Нальшчанскай зямлі, валадаром якой у грамаце Міндоўга 1260 названы Гердзень (Gerdine de Naise). У той жа грамаце згаданы Парбусе з Неры (de Nere). Гэтая Нера, магчыма, была інш. варыянтам назвы Дзевалтвы (невядомай лівонскім крыніцам) і паходзіла ад літоўскай назвы р. Віліі — Нярыс. Пасля паходу Войшалка 1264 Нальшчаны, Дзевалтва і, магчыма, Упіта таксама трапілі пад непасрэдны кантроль вял. князя і, у адрозненне ад Жамойці, страцілі паліт. адметнасць. З канца 13 ст. яны альбо разглядаліся проста як часткі Л., альбо паглыналіся абагульняльным тэрмінам Аўкштайція. Супрацьпастаўленне Жамойці і Аўкштайціі як 2 частак уладанняў «літ. караля» ўпершыню ўжыта Пятром з Дусбурга пры апісанні падзей 1294—1300, а затым у дагаворы вял. кн. Гедыміна з Рыжскім магістратам (1323).

Удакладніць тэрыторыю Л. дапамагаюць даныя археалогіі, хоць іх інтэрпрэтацыя небясспрэчная. Агульнапрызнана балцкая прыналежнасць як грунтавых пахаванняў на З і ў цэнтры Літоўскай Рэспублікі, так і ўсх.-літ. курганоў 12—13 ст. У іх прасочваецца шэраг агульных рыс, у т.л. рытуальнае пахаванне коней разам з нябожчыкам ці яго попелам. Абрад гэты быў тыповым для літоўцаў да часу іх хрышчэння — паводле яго, як паведамляюць Герман з Вартберга і Длугаш, быў пахаваны вял. кн. Альгерд (1377). Пры гэтым складальныя часткі Л. мелі істотна розныя пахавальныя звычаі і інш. адметнасці, якія тлумачацца розніцай у этнічных працэсах папярэдніх часоў. Тэрыторыя Жамойці і Упіты ў цэлым супадае з арэалам грунтавых могільнікаў.

Пры гэтым Жамойці адпавядае раён могільнікаў з трупапалажэннем на Жамойцкім узвышшы (воласці Крожэ, Лаўкаў, Кулена і інш., вядомыя з граматы Міндоўга 1253), Саўле ўтварала яе паўн.-усх. ускраіну, а Упіта займала паўн. частку могільнікаў з трупаспаленнем, пашыраных на абшарах Сярэднелітоўскай нізіны, у парэччы Нявежы. Паўд. частка могільнікаў з трупаспаленнем (воласці Расіены, Эйрагола і Бетыгола, згаданыя ў той жа грамаце) у больш позняя часы таксама адносіліся да Жамойці. Фанетычныя асаблівасці выданняў на літ. мове 16—18 ст. дазваляюць сцвярджаць, што дыялект Жамойцкага ўзвышша набліжаўся да мовы паўд. куршаў, а дыялект парэчча Нявежы інтэрпрэтаваўся як «жамойцкая мова» (выданне на ім «Катэхізіса» М. Даўкшы ў 1595 выклікала нараканні менавіта з гэтай нагоды). Тэрыторыі Нальшчан і Дзевалтвы адпавядае паўн. (завілейская) частка арэала ўсх.-літ. курганоў (Аўкштайцкае і Свянцянскае ўзвышшы).

Найб. спрэчнай застаецца лакалізацыя Літ. зямлі ў вузкім сэнсе. Паводле самай пашыранай версіі, яна ахоплівала паўд. частку таго ж арэала (Дзукскае ўзвышша і большасць Ашмянскай грады, прыкладна ў межах чатырохвугольніка Коўна—воз. Свір—Ліда—Мерач). У канцы 13 — пач. 14 ст. паліт. цэнтры Л. (Кернаў, Вільня, Трокі) знаходзіліся ў арэале ўсх.-літ. курганоў. Балцкая гаворка Аўкштайцкага ўзвышша лічылася «літ. мовай», менавіта на ёй быў адмыслова перавыдадзены ў 1605 «Катэхізіс». Э. Гудавічус адзначыў існаванне ў гэтым арэале тапонімаў, якія пераклікаюцца з імёнамі прадстаўнікоў «старшай» дынастыі: Таўцівіла (Таўтвілтава), Едзівіда (Гядвіды), сына Міндоўга Руклі (у шэрагу двухчасткавых тапонімаў). Але гэта не можа быць вырашальным аргументам пры лакалізацыі Літ. зямлі, бо невядомы час узнікнення гэтых паселішчаў, а сувязь іх з азначанымі асобамі недаказальная. Паводле інш. версіі, Літ. зямля знаходзілася ў ваколіцах Коўна, паміж Нёманам і нізоўямі Віліі. Арэал каменных магіл на Пд Літоўскай Рэспублікі, прылеглых частках Польшчы і Гродзенскай вобл. звычайна атаясамліваюць з яцвяжскімі землямі, у т.л. з Дайнавой. Але выказваліся меркаванні, што частку арэала каменных магіл на правабярэжжы Нёмана трэба звязваць з Літ. зямлёй у вузкім сэнсе, якая ў такім выпадку мела заходнябалцкія карані. Нальшчаны, Дзевалтва і Нера займалі ў такім выпадку ўвесь арэал усх.-літ. курганоў. Прыняцце такой гіпотэзы стварае складанасці з лакалізацыяй Дайнавы, але пытанне нельга лічыць канчаткова вырашаным. Згадка ў Іпацьеўскім летапісе пра тое, што Войшалк заснаваў манастыр «на реце на Немне межи Литвою и Новымъгородъкомъ» сведчыць, што Л. знаходзілася непасрэдна на Пн ад Нёмана. Між тым у Іўеўскім р-не, насупраць Лаўрышаўскага манастыра (які атаясамліваецца з манастыром Войшалка), вядомы менавіта каменныя магілы (каля в. Куправічы).

У цэлым для супрацьпастаўлення розных частак Л. (асабліва Жамойці, Аўкштайціі і Яцвягіі) меліся як паліт., так і этнаграфічныя падставы. Пераважалі паліт. фактары, бо зямля Упіта, этнаграфічна больш роднасная Жамойці, у далейшым увайшла ў склад Л.-Аўкштайціі, а населеныя куршамі Мягове, Пілсата і Цэкліс — у склад Жамойці (у 1413 французскі падарожнік Жыльбер дэ Ланаа зафіксаваў, што гэтыя мясціны завуцца Літ. берагам і адносяцца да «Жамойцкай краіны»). Арэал каменных магіл часткова зліўся з Аўкштайціяй, а ва ўсх. частцы яго (як і ў частцы арэала ўсх.-літ. курганоў) адбывалася цераспалоснае рассяленне балцкага і славянскага насельніцтва. У выніку асіміляцыйных працэсаў (т.зв. балта-славянскага сінтэзу) яны часткова ўвайшлі ў склад этнічнай тэрыторыі беларусаў. Вельмі прыблізна можна сцвярджаць, што нашчадкі жыхароў гэтай часткі Л. забяспечылі да 10—15% бел. генафонду.

У 14—16 ст. назва Л. мела сэнс палітоніма — ужывалася для абазначэння ўсёй дзяржавы, падуладнай пануючай дынастыі Гедымінавічаў. Арэал яго бытавання ў гэтым сэнсе супадаў з дзярж. межамі і мяняўся адпаведна іх зменам, безадносна ад этнічнага складу. Такое значэнне надавалі і замежныя аўтары. Так, у 1430-я г. рымскі легат Э.С. Пікаламіні (будучы папа Пій II) апісваў Л. (Lituania) як краіну, што мяжуе з Польшчай з У, прытым «мова народа славянская». Адначасова ён прыгадаў, што частка Л. яшчэ нядаўна вызнавала язычніцтва, хаця асаблівасці тамашняй мовы не адзначыў.

Паралельна існаваў рэгіянальны сэнс назвы Л. (т.зв. харонім), які адрозніваў яе ад Жамойці і ад рус. княстваў, далучаных у 14 ст. (за імі захавалася назва Русь). Тытулатуры «дзедзіч Л. і Русі», «Вял. Княства Літоўскае і Рускае» і да т.п. дакументальна зафіксаваны ў 1320-я г., хаця ўзніклі, магчыма, раней. У прывілеі Ягайлы яго брату Скіргайлу 1387 асобна выступаюць «Литовская земля» з Троцкім княствам (да яго аднесены мясцовасці на Пд сучаснай Літоўскай Рэспублікі) і «руская сторона Литовского князения» з Менскам, Лагожскам, Ігуменам, Лебедзевам (цяпер у Маладзечанскім р-не) і шэрагам мясцовасцей у Падняпроўі. У бел.-літ. летапісах канфлікт паміж Жыгімонтам і Свідрыгайлам у 1432—37 трактуецца як процістаянне Л. і Русі: «Литва жь посадиша великаго князя Жидимонта Кестутевича на великое княженье на Вилни и на Троцех. И ... посадиша князя Швитрогаила на великое княженье Руское... Князь великии Швитригаило собра силу многу рускую и поиде на Литву, и повоеваша Литовьскои земли множество». Адрозненне Л. ад Жамойці замацавалася ў афіцыйным ужытку пасля адваявання Жамойці ў Тэўтонскага ордэна ў 1413. У 1417 Вітаўт ужыў трохчасткавую тытулатуру «вял. князь Л., Жамойці, Русі і інш.» (Littwanie, Samathie et Rusie etc.). У 1440 сын Ягайлы Казімір тытулаваўся як «королевич всее Литовское земли и Жомойтское и многих Руских земель». Харонім Л., вядомы таксама ў формах «Литовское князство», часам нават «Великое Князство Литовское» (пры захванні супрацьпастаўлення з Жамойцю і Руссю), шырока бытаваў у штодзённым ужытку 16 ст. У актавых кнігах Полацкага, Віцебскага, Берасцейскага ваяв. неаднаразова згадваецца Л. як вонкавая тэрыторыя: «з Литвы приехавши», «до Литвы еждывали» і г.д. У такім сэнсе яна ахоплівала, апрача ўласна літоўскай, частку этнічна бел. тэрыторыі ў Панямонні. Да яе адносіліся, напрыклад, Горадна, Ляхавічы, шэраг маёнткаў у сучасным Баранавіцкім р-не (у 1566 маёнтак Серабрышчы ў Л. адрозніваецца ад «палескіх маёнткаў») і інш. У попісе войска ВКЛ 1567 літ. маёнткі супрацьпастаўляюцца валынскім, падляшскім, жамойцкім: «з ыменей своихъ Жомоитскихъ ... а въ Литве съ повету Виленского з дворца Мойшакголского» і да т.п. Да Л. у такім вузкім сэнсе залічаны мясцовасці ў Вількамірскім, Троцкім, Віленскім, Браслаўскім, на З Менскага, у Навагародскім павеце. Маёнтак Косава ў Слонімскім пав. (цяпер у Івацэвіцкім р-не) у 1570 аднесены да Л., а ў інш. крыніцы тэрыторыя суседняга Бярозаўскага р-на прыгадваецца як вонкавая, праз яе праходзілі дарогі «до Литвы». Паходжанне значэння Л. у якасці хароніма можна тлумачыць дваякім чынам. З аднаго боку, яно мела гіст. падставы: гэта былі тэрыторыі, якія трывала ўваходзілі ў склад ВКЛ з моманту яго ўтварэння, у адрозненне ад інш. зямель, якія альбо былі далучаны пазней, альбо часова выходзілі з-пад улады літ. князёў (Полаччына, Жамойць). Але не выключана, што Л. дадаткова асацыіравалася з тэрыторыяй дысперснага рассялення балтаў, нават у выглядзе невял. анклаваў. Аб наяўнасці такіх анклаваў (пазней цалкам асіміляваных) сведчыць распаўсюджанне на З і ПнЗ Беларусі пахаванняў з каменнымі абкладкамі і насціламі, а таксама паселішчаў з несумненна балцкімі (Айнаравічы, Здзяцель, Зэльва) ці этнічна афарбаванымі назвамі (Літва, Літоўка, Дайнава, Жамойцкае), гістарычна зафіксаванымі ў 15—16 ст. Пра існаванне этнічных літоўцаў на гэтых абшарах сведчыць і просьба віленскага біскупа В. Табара ў 1501 накіраваць святароў, якія валодаюць літ. мовай, у 28 парафій, сярод якіх Ліда, Беліца, Слонім, Краснае Сяло, Валожын, Маладзечна, Радашковічы, Койданава. Адначасова ў Троцкім і Віленскім пав. (у меншай ступені Вількамірскім) крыніцы фіксуюць значную долю рус. насельніцтва. У такім выпадку Л. прыблізна адпавядае тэрыторыі, на якой адбываўся балта-славянскі сінтэз.

Рэгіянальны сэнс назвы (разам з паліт. і этнічным) захоўваўся і ў 17—18 ст. У скарзе правасл. шляхты на Варшаўскім сойме 1623 у адным шэрагу з Палессем, Панізоўем, Белай Руссю і інш. рэгіёнамі ўпамінаецца Л., а да гарадоў з рус. насельніцтвам у Л. аднесены Вільня, Менск, Навагародак, Горадна, Слонім, Берасце, Браслаў, Кобрын, Камянец. Цікавы прыклад суадносін Л. і ВКЛ дае выдадзеная ў Нясвіжы каля 1760 карта Літ. правінцыі ордэна францысканцаў. У легендзе да яе адзначана, што Л. (Litvania) падзяляецца на «ўласна Вялікае Княства Літоўскае» (M[agnus] p[ro]

prie D[ucatus] L[itvaniae]), Белую Русь і Жамойць, апрача якіх на карце паказана яшчэ і Палессе. Выкарыстанне назвы Л. у якасці хароніма захавалася і ў часы Рас. імперыі. Яна паўплывала на тое, што ўтвораная ў 1796 праз аб'яднанне Віленскага і Слонімскага намесніцтваў губерня атрымала назву Літоўскай. Традыцыйна «літоўскімі» называліся затым Віленская і Гродзенская губ., на якія была падзелена ў 1801 Літ. губерня. Паэт А. Міцкевіч у 1-й чвэрці 19 ст. лічыў свае родныя мясціны каля Навагрудка Л., пра што неаднаразова згадваў у сваёй творчасці.

*Літ.*: Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów w dobie plemiennej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1985. T. 1; Zinkevičius Z. Lietuvių kalbos istorija. T. 3. Senųjų raštų kalba. Vilnius, 1988; Ochmański J. Historia Litwy. 3 wyd. Wrocław etc., 1990; Спиридонов М.Ф. «Литва» и «Русь» в Беларуси в 16 в. // Наш радавод. Гродна, 1996. Ч. 7.

*Друкуецца паводле:*
Вялікае княства Літоўскае:
Энцыклапедыя ў 2 тамах. Т. 2. Мінск, 2006. С. 202—206.

# Літвіны

**Літвіны**, ліцвіны (лац. lituani), тэрмін, які выкарыстоўваўся ў гістарычных крыніцах для абазначэння насельнікаў Літвы. Як правіла, ён меў этнічнае значэнне (адносіўся да продкаў сучасных літоўцаў) у тых выпадках, калі Л. супрацьпастаўляліся «рускім», «русінам» (беларусам у сучасным сэнсе). Напрыклад, у сярэдзіне 15 ст. рымскі легат Э.С. Пікаламіні (будучы рымскі папа Пій II) адзначаў, што «русіны і многія з Л.» (Rutheni et multi ex Lituanis) трымаюцца грэчаскай веры, а іншыя з Л. пакланяліся ідалам, але «ў наш час прымкнулі да вучэння Хрыста». Велікакняжацкі пасол Э. Цёлак у 1501 тлумачыў у Рыме, што Л. (Lithuani) маюць уласную мову, але шырока карыстаюцца мовай русінаў, якія складаюць «амаль палову» насельніцтва, «бо яна зграбная і лёгкая да ўжытку». Міхалон Літвін падкрэсліваў, што «руская мова чужая нам, Л., італійцам» (маючы на ўвазе папулярную ў 16 ст. легенду пра рымскае паходжанне Л.). У магдэбургскіх гарадах са змешаным насельніцтвам (Вільня, Трокі, Горадна) існавалі літ. і рус. кварталы, жыхары іх выбіралі асобных бурмістраў. Аднак жыхарам сярэдневякоўя не быў уласцівы сістэмны падыход да этнічнасці, вырашальным звычайна быў адзін крытэрый, прытым у кожным выпадку ён мог быць свой. Часцей за ўсё такую ролю адыгрывала веравызнанне. У ордэнскім паліт. памфлеце 1409 адзначаецца, што сярод носьбітаў літ. мовы (Litauwica lingua) многія хрысціліся ў «рутэнскую веру», у сувязі з чым дасюль сярод знаці ў Літве вял. колькасць складаюць «рутэны». Правасл. князі літ. паходжання называюцца рускімі і ў інш. крыніцах: у хроніцы Я. Длугаша так называецца ўнук Гедыміна Фёдар Любартавіч, у Хроніцы Быхаўца — унук Альгерда Юрый Лугвенавіч, у нататках мітрапаліта Пятра Магілы — Уладзімір Альгердавіч. Выязджаючы на службу да маскоўскага цара, Гедымінавічы лічылі сябе «рус. князямі літ. роду». Але пераход з праваслаўя ў каталіцтва не заўсёды меў такія ж наступствы. Ф. Скарына, імя якога паходзіць з каталіцкіх святцаў, неаднаразова падкрэсліваў сваю «рускую» ідэнтычнасць. У час жыцця ў Празе ён і яго сын Сямён мелі мянушку «Рус», «Русак».

Калі тэрмін «Л.» абазначаў жыхароў ВКЛ у цэлым ці яго частак, сумежных з інш. дзяржавамі, то мог адносіцца як да этнічных літоўцаў, так і да беларусаў, што назіраецца з пач. 16 ст. і ператвараецца ў агульную практыку з 17 ст. У такім сэнсе Скарына ў рэестры Кракаўскага ўн-та запісаны як Л. (Litphanus). Маскоўскі патрыярх Філарэт у пач. 17 ст. накіроўваў свае памфлеты супраць «безбожной Литвы», маючы на ўвазе ўніяцкае духавенства (практычна цалкам беларускае па паходжанні). Вядомы правасл. дзеяч Л. Зізаній разумеў пад «літоўскай» мовай старабеларускую, а пад «рускай» — царкоўнаславянскую. У прадмове да складзенага ім «Катэхізіса» ён пісаў, што гэтая кніга «глаголемая по-гречески катехизис, по-литовски оглашение, русским же языком нарицается беседословие». Калі пры абмеркаванні «Катэхізіса» ў Маскве ў 1627 Зізанія пыталі пра значэнне пэўных царк.-слав. слоў «по литовскому языку», ён адказваў, што «по-нашему» яны азначаюць тое самае. Маскоўскія пісары ў сярэдзіне 17 ст. фіксавалі паходжанне палонных і ўцекачоў з ВКЛ: «литвин белорусец Мстиславского повету» і да т.п. Існаванне такой практыкі часта блытала іншаземных наведвальнікаў, якія таксама лічылі «літоўскай» мову насельніцтва рус. часткі ВКЛ. Так, С. Герберштэйн сцвярджаў, што «на літоўскай мове (Lithwani lingua) бізона называюць зубрам» (Suber), хоць па-літоўску гэтая жывёла завецца stumbras. Гэтак жа ён прывёў і «літоўскую» назву лася (Loss). Напэўна, дзякуючы кантактам пераважна з беларускамоўнымі жыхарамі ВКЛ ён залічыў Л. да слав. народаў «з калена Яфета». Венецыянскі дыпламат М. Фаскарына ў 1557 таксама пісаў, што «маскавіты гутараць і пішуць на славянскай мове, як гэта робяць далмацінцы, чэхі, палякі і Л. (Lithuani)». Рас. дыпламат кн. Б. Куракін у пач. 18 ст. па дарозе праз Беларусь адзначаў

падабенства «літоўскай» мовы да расійскай, а ў Вільні са здзіўленнем заўважыў, што «тут язык литовский особый», і нават занатаваў шэраг балцкіх слоў.

Найб. складанай была ідэнтыфікацыя жыхароў той часткі ВКЛ, дзе назва Літва мела рэгіянальны сэнс. Літоўскамоўная частка такога насельніцтва звычайна адасаблялася і ад рускіх, і ад жамойтаў: у шэрагу петыцый у 1550-я г. жамойцкая шляхта прасіла вял. кн. Жыгімонта Аўгуста, «абы вряды в земли Жомойтской не были даваны ани Литве, ани Руси». У прадмове да выдадзенага ім у 1595 «Катэхізіса» М. Даўкша сцвярджаў, што пераклаў яго «на ўласную мову нашу літоўскую». Аднак у прадмове да перавыдання 1605 сцвярджалася, што мова 1-га выдання «жамойцкая», у сувязі з чым жыхары ўласна Літвы так і не мелі «катэхізіса літоўскага». Таму перавыданне было зроблена на дыялекце ваколіц Вільні, які перакладчык лічыў сапраўднай «літоўскай мовай». Перамога засталася ўрэшце за гаворкай парэчча Нявежы (родных мясцін Даўкшы), якая ў тытуле выдадзенай у 1737 літ. граматыкі названа «галоўным дыялектам гэтага Княства».

Жыхары беларускамоўнай часткі Літвы таксама маглі адрознівацца ў этнічным ці субэтнічным сэнсе ад Русі. М. Сматрыцкі, які не мог не ведаць рэальную сітуацыю з мовай і рэгіянальнай свядомасцю ў ВКЛ, у творы «Апраўданне нявіннасці» (1621) прыгадвае «Літву» сярод «хрысціянскіх рускіх народаў» у адным шэрагу з валынцамі, палясянамі (палешукамі), падалянамі, украінцамі, Белай і Чорнай Руссю і інш. Пад асобным «рускім народам Літвой» у такім кантэксце магло разумецца толькі беларускамоўнае насельніцтва Меншчыны, Ашмяншчыны і Браслаўшчыны, якое па нейкіх крытэрыях адрознівалася ад жыхароў Белай Русі (Падняпроўя і Падзвіння) і нават Чорнай Русі (Панямоння). У інш. выпадку селянін з Лагойшчыны пасля паездкі ў парэчча Бярэзіны тлумачыў, што ездзіў «на Русь жита куповать». Незразумела, кім ён лічыў сам сябе і кім лічылі яго тамашнія жыхары, але няма падстаў вызначаць такую ідэнтычнасць як выключна «рускую». Пра тое, што яна магла быць «ліцвінскай», ускосна сведчаць этнаграфічныя запісы 19 ст. У іх зафіксавана, што насельніцтва на Пд ад Выганаўскіх балот лічыла тых, хто жыў на Пн ад іх, «Л.», а сябе — «палешукамі». Вельмі магчыма, што такія вызначэнні ўзніклі адначасова са з'яўленнем рэгіянальнага сэнсу назвы «Літва» ў 15—16 ст.

Сустракаліся і інш. значэнні паняцця Л. Так, створаная ў выніку Люблінскай уніі 1569 федэратыўная дзяржава мела афіцыйную назву «Рэч Паспалітая Абодвух Народаў» (палякаў і Л.). Пры гэтым пад «народам» Л. разумелася не простае насельніцтва яе этнічных літ. і рус. частак, а толькі шляхта, незалежна ад этнічнага паходжання.

*Літ.*: Насевіч В., Спірыдонаў М. «Русь» у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996. Вып. 1; Спиридонов М.Ф. «Литва» и «Русь» в Беларуси в 16 в. // Наш радавод. Гродна, 1996. Ч. 7; Котлярчук А.С. Самосознание белорусов в литературных памятниках XVI—XVIII вв. // Русь—Литва—Беларусь. М., 1997; Куолис Д. Понятие «литовец» и «литва» в литовской письменности XVI—XVII веков // Славяноведение. 1999. № 5; Марзалюк І.А. Людзі даўняй Беларусі: Этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X—XVII стст.). Магілёў, 2003.

*Друкуецца паводле:*
Вялікае княства Літоўскае:
Энцыклапедыя ў 2 тамах. Т. 2. Мінск, 2006. С. 206—208.

# «Першапачатковая Літва знаходзілася на памежжы сучасных Літвы і Беларусі»: Актуальнае інтэрв'ю

## 1000-годдзе Літвы

1009 год… У гэты час ужо існавала Полацкае княства. Ужо здарылася вядомая трагічная гісторыя са шлюбам легендарнай Рагнеды з князем Уладзімірам, будучым хрысціцелем Русі. Але яшчэ не было ні Мінска, ні Вільні, ні Масквы, ні Варшавы. Не было і Беларусі. А Літва была. Але дзе? Гісторыкі дагэтуль дыскутуюць на гэтую тэму. А яна вельмі актуальная не толькі ўласна ў Літве, але і ў Беларусі. Бо выходзец з-пад Навагрудка Адам Міцкевіч нездарма лічыў сябе ўраджэнцам Літвы, як і многія іншыя нашы землякі. Але Міцкевіч жыў у XIX стагоддзі, калі не было ўжо Вялікага Княства Літоўскага. Дый Літва згадваецца ў XI стагоддзі, а ВКЛ з'явіцца на палітычнай карце свету толькі ў сярэдзіне XIII-га. Вось колькі нестыковак!

Выходзіць, Літва XI стагоддзя, XIX, XXI і ВКЛ — гэта розныя краіны. Аднак мы ведаем, што Беларусь на працягу пяцісот гадоў існавання ВКЛ з'яўлялася яго цэнтральнай тэрыторыяй. Як казаў Францішак Багушэвіч, «у сярэдзіне Літвы, як тое зярно ў гарэху, была наша зямліца — Беларусь». На нашай зямліцы стаяць велічныя Крэўскі, Мірскі, Нясвіжскі замкі, тут збудаваны каралеўскі горад Гродна, дзе любілі жыць і прымаць пасольствы валадары ВКЛ Вітаўт і Стэфан Баторый. Што і гаварыць: бадай, усё найлепшае, чым могуць ганарыцца беларусы на ўвесь свет, створана ў часы ВКЛ. Тыя ж Мірскі замак і запаведная Белавежская пушча, якія ўнесены ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА, заснаваны з ласкі князёў літоўскіх.

Дык свая яна, Літва, ці чужая? Зусім нядаўна вядомы віленскі гісторык Томас Баранаўскас, разважаючы пра будоўлю ў Астравецкім раёне атамнай электрастанцыі, закрануў праблему паходжання насельніцтва гэтага рэгіёна, у прыватнасці, жыхароў ваколіц вёскі Гервяты. «Літоўцы гэтага краю — не група нейкіх выпадковых людзей, — сцвярджае даследчык. — З гістарычнага гледзішча, Гервяты — гэта выспа зямлі ад першапачатковай Літвы. Менавіта той Літвы, тысячагоддзе згадкі пра якую мы збіраемся адзначаць. Большая частка жыхароў тэрыторыі той першапачатковай Літвы з часам славянізавалася. І толькі адны літоўцы Гервят за ўсё гэтае тысячагоддзе так і засталіся літоўцамі».

Такім чынам, першапачатковая Літва знаходзілася дзесьці на тэрыторыі Астравецкага раёна або, прынамсі, ахоплівала і гэтыя землі. Выходзіць, Беларусь мае самае непасрэднае дачыненне да свята 1000-годдзя Літвы? Аднак каб удзельнічаць у юбілеі, трэба мець грунтоўныя пацвярджэнні сваіх правоў на гэта. Ці сапраўды наша краіна можа лічыць сябе калі не правапераемніцай, то нароўні з сучаснай Літвой спадкаемцай імя даўняй, гістарычнай Літвы? Пра гэта можа сказаць толькі незаангажаваны і вельмі дасведчаны чалавек. Вячаслаў Насевіч, дырэктар Беларускага навукова-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі, бадай, менавіта такі. Ён аўтар грунтоўных раздзелаў па гісторыі ВКЛ у капітальных працах апошняга часу — другім томе калектыўнай манаграфіі «Гісторыя Беларусі» і ў энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае». Гэтай тэмай даследчык займаецца амаль чвэрць стагоддзя. З ягонымі поглядамі лічацца нават у Літве. Менавіта яму даручаюць пісаць энцыклапедычныя артыкулы па літоўскай тэме ў беларускіх выданнях, а значыць, у пазіцыі Насевіча сапраўды ёсць зерне ісціны, набліжэнне да праўды.

**— Вячаслаў, па-вашаму сучасная Беларусь мае права лічыць сябе пераемніцай, хаця б часткова, той Літвы, 1000-годдзе якой цяпер адзначаецца нашымі суседзямі?**

— Безумоўна можа, і практычна ў той самай ступені, як і сучасная Літва. Адзіная розніца ў тым, што ў апошняй адбылася поўная пераемнасць гістарычнай назвы і сучаснай, а на беларускіх землях яна была страчана. А ўсё астатняе мае дачыненне да абодвух народаў, бо насельнікі старадаўняй Літвы з'яўляюцца іх непасрэднымі продкамі. Пры тым насельніцтва той «Літоўскай зямлі» ў вузкім сэнсе, што стала гістарычным ядром ВКЛ, улілася ў абодва сучасныя этнасы прыкладна ў роўнай прапорцыі.

**— Дзе знаходзілася першапачатковая Літва ў 1009 годзе?**

— Дакладна адказаць мы зможам, толькі калі будзе вынайдзена «машына часу». Магчымасці сучаснай навукі абмежаваныя, і наяўных звестак не хапае, каб нешта сцвярджаць канчаткова. Але найбольш праўдападобна, што тая Літва знаходзілася на памежжы сучасных Літоўскай Рэспублікі і Беларусі, па абодва бакі ад дзяржаўнай мяжы.

**— Літоўскія і беларускія гісторыкі раней часта спрачаліся, было ВКЛ літоўскай, беларуска-літоўскай або нават чыста беларускай дзяржавай. А ісціна дзе?**

— Калі абмежавацца толькі сённяшнім часам, то можна вызначыць тры галоўныя плыні сярод нашых гісторыкаў: постсавецкую (беларусы ў ВКЛ былі заваяванай і падначаленай большасцю), нацыянальна-рамантычную (беларусы пад імем «літвінаў» стварылі ВКЛ і панавалі ў ім над продкамі сучасных літоўцаў, якія тады зваліся выключна «жмудзінамі») і тую, што можна ўмоўна назваць «пазітывісцкай» (прыводзіць аб'ектыўныя гістарычныя факты, па магчымасці пазбягаючы іх інтэрпрэтацый з пункту гледжання сучасных ідэнтычнасцей). Першая з плыняў практычна супадае з пазіцыяй літоўскай гістарыяграфіі, другая абсалютна ёй супярэчыць, трэцяя дазваляе весці цывілізаваны дыялог, абыходзячы «слізкія» месцы. Улічваючы, што «абсалютнай ісціны» дасягнуць немагчыма, адказ на гэтае пытанне ў пэўнай ступені з'яўляецца пытаннем веры. Але я асабіста перакананы ў дзвюх рэчах: у тым, што сярод магчымых інтэрпрэтацый ёсць безумоўна памылковыя, і ў тым, што існуюць навуковыя працэдуры, якія дазваляюць іх вызначыць. Для мяне відавочна, што нацыянальна-рамантычная інтэрпрэтацыя ўтварэння ВКЛ (найбольш яскрава сфармуляваная Міколам Ермаловічам) такой працэдуры не вытрымлівае і таму памылковая. Для сябе я выпрацаваў форму «простага» адказу, якая, на маю думку, найменш скажае рэчаіснасць: ВКЛ утварылася дзякуючы супадзенню інтарэсаў (і, як вынік, супольнай дзейнасці) продкаў літоўцаў і беларусаў у пэўнай геапалітычнай сітуацыі сярэдзіны XIII стагоддзя.

**— Што гэта была за сітуацыя?**

— З аднаго боку — ордэны крыжаносцаў не хаваюць свайго намеру скарыць усе балцкія народы, а калі атрымаецца — прыхапіць і частку праваслаўнай Русі. З другога боку — уся гэтая Русь разглядаецца татарскімі захопнікамі як крыніца атрымання даніны. Толькі аб'яднаўшыся, беларускія землі Русі і балцкая Літва здолелі процістаяць абедзвюм пагрозам. У крыніцах ёсць звесткі, як беларускія ваяры (у той час яны называліся русінамі) змагаліся ў адных шэрагах з літоўскімі і супраць крыжакоў, і супраць татар. Але ў кожнага народа было сваё, так бы мовіць, галоўнае прызначэнне ў гэтым саюзе. Літоўцы забяспечвалі пераважна ваенную сілу і вышэйшае палітычнае кіраўніцтва, а русіны ўнеслі свой вопыт адміністрацыйна-гаспадарчай дзейнасці, пісьменства і цывілізаванасці ўвогуле.

**— Ці ўплывае спадчына ВКЛ на сучаснае жыццё Беларусі?**

— Спадчына ВКЛ даволі актыўна ўплывала на жыццё Беларусі на пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя, калі яе спрабавалі выкарыстаць у палітычных мэтах. Калі спроба захлынулася, значэнне гэтай спадчыны істотна скарацілася, зрушылася пераважна ў сферу культурнага жыцця (геральдыка, турызм і інш.). Застаецца даволі невялікае кола людзей (паводле сацыялагічных апытанняў — некалькі працэнтаў дарослага насельніцтва), для якіх спадчына ВКЛ дамінуе ў іх ідэнтычнасці і цяпер. З іншых большасць можа месяцамі не ўзгадваць, што жывуць на зямлі, на якой некалі існавала ВКЛ.

**— Чаму гэтае пытанне для адных актуальнае, а іншыя да яго абыякавыя?**

— У значнай ступені гэта залежыць ад узросту, у якім людзі фармавалі сваю сістэму ўяўленняў аб мінулым. Прадстаўнікі старэйшага пакалення, якіх пакуль што большасць, вучыліся па падручніках савецкага часу, у якіх перыяд ВКЛ падаваўся як нязначны, да таго ж з класавага погляду прыгнечанага сялянства. Стэрэатыпы, сфармаваныя ў дзяцінстве, потым пераадолець вельмі цяжка. Але сярод моладзі, якая вучылася ўжо па падручніках незалежнай Беларусі, сітуацыя зусім іншая. І тыя ж сацыялагічныя апытанні сведчаць, што колькасць людзей, для якіх перыяд ВКЛ не абыякавы, узрастае тымі ж тэмпамі, якімі гэтае маладое пакаленне дасягае паўналецця. Сёння яно стварае звыш 16 працэнтаў дарослага насельніцтва — прыкладна шостую частку. І вось пры апошнім апытанні амаль 9 працэнтаў удзельнікаў назвалі князя Вітаўта ў якасці свайго ідэалу палітычнага дзеяча. У 1996 годзе, калі дарослае насельніцтва складалася цалкам з «савецкага» пакалення, такіх было толькі 2 працэнты. Мне здаецца, што гэтыя лічбы гавораць самі за сябе. У якім накірунку сітуацыя будзе змяняцца далей — таксама зразумела.

**— Чым ВКЛ напамінае пра сябе ў наш час?**

— Яскравы прыклад — дзейнасць рыцарскіх клубаў, без удзелу якіх зараз не абыходзіцца ні адно вялікае святкаванне. Увогуле сярод той моладзі, пра якую я казаў, усё больш яскрава прасочваецца ідэйная плынь, якую можна назваць «літвінізмам». Гэтыя людзі адчуваюць сваю пераемнасць не толькі і не столькі з прыгнечаным «простым людам» часоў ВКЛ, але з яго пануючай элітай, якая незалежна ад этнічнага паходжання лічыла сябе «літвінамі». Расце гатоўнасць адчуваць іх сваімі продкамі — нягледзячы на тое, што ў апошнія стагоддзі ВКЛ роднай для іх была польская мова і належалі яны пераважна да каталіцкай канфесіі. Варта адзначыць, што ў такім стаўленні да паланізаванай эліты ВКЛ беларуская моладзь, як мне падаецца, апярэджвае літоўскую — у сучаснай Літве акцэнтуецца пераважна ранні, язычніцкі перыяд гісторыі, па Вітаўта ўключна, а дзеячы пазнейшых часоў не ўспрымаюцца як «свае».

**— Якая з краін — Беларусь ці Літва — лепш захоўвае і прадстаўляе ў свеце спадчыну былога ВКЛ?**

— Пакуль што — Літва. Дастаткова параўнаць колькасць тамоў «Метрыкі ВКЛ», выдадзеных у іх і ў нас. І гэта цалкам зразумела. Больш за стагоддзе літоўцы паслядоўна і аднадушна пазіцыянуюць сябе як адзіных спадкаемцаў ВКЛ і паспелі пераканаць у гэтым большасць замежных інтэлектуалаў. Мы ж яшчэ самі не вызначыліся — ці лічым сябе спадкаемцамі ВКЛ увогуле. Якая тут прэзентацыя ў свеце... Але першыя зрухі ўжо ёсць. Нядаўна завершана работа над першым томам «Гістарычнага атласа Беларусі», галоўным рэдактарам якога я з'яўляюся, і яго хуткі выхад у свет стане важкім крокам у прэзентацыі гісторыі ВКЛ. Але і тут паказальна, што беларуская дзяржава гэты праект пакуль ніяк не фінансуе — ён робіцца на ўласныя сродкі прадпрыемства «Белкартаграфія». З іншага боку, выйшла энцыклапедыя «Вялікае княства Літоўскае» — і ўжо двума выданнямі. Значыць, нейкія станоўчыя зрухі адбываюцца і ў нас.

**— Ці можна да гэтых зрухаў далучыць рэстаўрацыю замкаў у Міры, Нясвіжы, Лідзе і, з іншага боку, чаму, як вам здаецца, ляжаць у руінах крэпасць у Крэве, палац у Гальшанах — з аб'ектыўных або суб'ектыўных прычын?**

— Ёсць тут і аб'ектыўныя прычыны, і суб'ектыўныя. З аднаго боку, зруйнаваных помнікаў у нас так шмат, што ў самых станоўчых эканамічных умовах спатрэбяцца гады і гады, каб дайшлі рукі хаця б да самых значных. Але нельга не ўлічваць, што стаўленне да іх адбудовы пакуль вызначаецца тым самым пакаленнем, якое абцяжарана стэрэатыпамі савецкага часу. Ім цяжка прызвычаіцца да таго, што размова ідзе пра аб'екты іх уласнай гісторыі. Таму ідэйны стымул амаль адсутнічае, застаецца чыста меркантыльны — колькі грошай трэба ўкласці і колькі можна будзе зарабіць на гэтых аб'ектах. Але ж сапраўднае натхненне любой справе надае менавіта ідэя...

**— А ці магчыма між Беларуссю і Літвой развіваць турызм па тэме ВКЛ — каму гэта можа быць цікава і якія вы прапанавалі б маршруты?**

— Такі турызм можа ўяўляць цікавасць перш за ўсё для тых людзей, якія імкнуцца атрымаць комплекснае, сістэмнае ўяўленне ці аб уласным мінулым, ці аб краіне, якую наведваюць. А дзеля такога ўяўлення проста неабходна пабачыць аб'екты ў абедзвюх краінах — параўнаць, напрыклад, гарадзішчы ў Кярнаве і Гальшанах, замкі ў Крэве і Мядзінінкаі, Троках і Міры... Для беларускага турыста без наведвання Вільні пра ніякае суцэльнае ўяўленне аб ВКЛ гаварыць увогуле немагчыма. А для таго, хто зацікавіцца архітэктурай «віленскага барока», колькі аб'ектаў знойдзецца на беларускім баку!

**— Якое месца займала і займае спадчына ВКЛ пры фармаванні нацыянальных ідэнтычнасцей беларусаў і літоўцаў?**

— Для літоўцаў гэтая спадчына стала ключавым момантам пры пабудове іх нацыянальнай ідэнтычнасці ў канцы XIX — на пачатку XX стагоддзя. «Быць літоўцам» значыла быць чалавекам, які памятае, што яго продкі стварылі ВКЛ. Нашым суседзям было значна прасцей, бо назва гістарычнай дзяржавы і назва той этнаграфічнай тэрыторыі, дзе фармавалася нацыянальная ідэнтычнасць, супадалі (з той агаворкай, што была Жамойць, але яна ўспрымалася пераважна як частка Літвы). На Беларусі ж суіснавалі некалькі рэгіянальных і этнаграфічных назваў, прытым ніводная з іх не супадала з межамі нейкай палітычнай адзінкі мінулага. Адсюль і шэраг паралельных спроб пабудаваць нацыянальную ідэнтычнасць на розных гістарычных падмурках: тут і спадчына Полацкага княства, і крывічы, і літвіны ды ВКЛ, і Заходняя Русь, і Белая Русь, і Чорная... Адбывалася канкурэнцыя гэтых ідэй не толькі з расійскай імперскай інтэграцыйнай ідэяй, але і паміж сабой. У гэтым істотная розніца нашага «нацыянальнага праекта» з літоўскім. Нам даводзілася выбіраць з некалькіх варыянтаў: стаць заходнярусам, літвінам, крывічом, беларусам, палешуком або кімсьці яшчэ. Гучала і прапанова з Захаду: палічыць сябе палякам (для беларускіх каталікоў яна была больш прывабнай, чым для літоўцаў, бо моўная розніца значна меншая). Але ўрэшце ўяўленне аб тым, што беларус — гэта найперш нашчадак жыхароў «рускай» часткі ВКЛ, перамагло канкурэнтаў, хоць «полацка-крывіцкі» і «заходнярускі» варыянты ідэнтычнасці яшчэ крыху варушацца.

**— Чаму беларусы і літоўцы ў XX стагоддзі сталі будаваць асобныя дзяржавы, а не аднавілі ВКЛ?**

— Прычына разыходжання беларусаў і літоўцаў (дакладней, іх нацыянальна апантаных эліт) тая самая, што і ў разыходжанні народаў Югаславіі. Большасць з іх у прынцыпе жадала аднаго: адбіцца ад постсацыялістычнага лагера і прыстаць да заходнееўрапейскага, але гатоўнасць да гэтага была рознай. Пераважна каталіцкія Харватыя і асабліва Славенія слушна вырашылі, што без цяжару праваслаўных сербаў і баснійцаў-мусульман зробяць гэта значна хутчэй. Такі самы выбар быў і перад першай генерацыяй літоўскіх палітыкаў на пачатку XX стагоддзя: доўгі і пакутлівы шлях разам з беларусамі ці больш хуткі — без іх. Яны таксама зрабілі першы выбар. Яго слушнасць гістарычна праявілася не так хутка, як у славенцаў, але ж праявілася такім самым чынам. А вось інтэлектуалы Галіцыі ў свой час зрабілі іншы выбар — на карысць адзінай Украіны. У выніку сапраўды адзінай яна да сёння так і не стала, а дзе была б цяпер Львоўшчына пры іншым раскладзе — кожны можа меркаваць сам...

**— Якія ёсць сведчанні руху нашых народаў насустрач адзін аднаму ў наш час?**

— Рух насустрач можа быць або праз дэградацыю нацыянальных ідэнтычнасцей на карысць агульначалавечай (што здаецца мне малаверагодным у блізкай будучыні), або праз іх замяшчэнне рэгіянальнай ці цывілізацыйнай ідэнтычнасцю. Апошні працэс ідзе і там і тут, але хуткасць яго ўвесь час была рознай, а пасля ўступлення Літвы ў Еўрасаюз розніца будзе толькі павялічвацца. Калі ж у Беларусі ўсталюецца не еўрапейская, а, скажам, еўразійская цывілізацыйная ідэнтычнасць, далейшае збліжэнне стане на пэўны час увогуле немагчымым.

**— Ці можа быць адроджана ВКЛ, іначай кажучы, ці могуць «уз'яднацца» Беларусь і Літва?**

— У сённяшніх умовах гэта здаецца мне ўтопіяй. Адзінае, што можа адбыцца праз даволі працяглы час, — аб'яднанне Беларусі і Літвы ў рамках наддзяржаўнай палітычнай сістэмы. Прасцей кажучы, калі б Беларусь нарэшце трапіла ў Еўрасаюз ці Літва выйшла з яго. Але абодва гэтыя варыянты мне таксама здаюцца малаверагоднымі, асабліва другі.

**— Ці адчуваеце Вы сябе «грамадзянінам ВКЛ»?**

— Цяпер я выразна адчуваю сябе грамадзянінам Беларусі. Пры пэўных умовах магу ўспомніць сябе ў якасці грамадзяніна СССР, уявіць грамадзянінам Еўропы ці нават Сусвету. «Грамадзянства» ВКЛ для мяне мае значна ніжэйшы прыярытэт у параўнанні з гэтымі ідэнтычнасцямі.

Гутарыў Віктар Корбут.

P.S. Яшчэ стагоддзе таму жылі мроі пра адраджэнне ВКЛ. І жыхары Літвы ды Беларусі не адчувалі сябе насельнікамі розных частак свету: не было між намі не толькі дзяржаўнай, але і ўвогуле ніякай мяжы. Адзін з прадстаўнікоў тагачаснага руху за аб'яднанне былых зямель ВКЛ Баляслаў Ялавецкі занатаваў даволі незвычайную для сучаснага чалавека карціну: «Жыхар Палангі, Каўнаса, Укмярге, Швянчоніса або Вільні, Гродна, Навагрудка і нават Мінска — гэта літовец, незалежна ад таго, ці ён гаворыць па-літоўску, па-польску ці па-беларуску. Увесь лад яго жыцця, звычаяў, сам сэнс яго існавання настолькі паўсюль аднолькавы, што іначай як па мове цяжка заўважыць нейкую розніцу». Сто год таму спадчына ВКЛ яшчэ ўплывала на жыццё людзей. Сёння яна прыкметная найперш у архітэктуры нашых гарадоў, мястэчак, вёсак, над якімі яшчэ ўзвышаюцца дзе-нідзе вежы замкаў, палацаў, касцёлаў, цэркваў, сапраўды вельмі падобных як у Літве, так і ў Беларусі. Імёны Радзівілаў, Тышкевічаў, Скарыны, Міцкевіча вядомыя па абодва бакі дзяржаўнай граніцы. Гэта дае магчымасць не толькі для аднаўлення гістарычных сувязей паміж нашымі краінамі, але і для развіцця турызму: распрацоўкі супольных маршрутаў, якія маглі б зацікавіць не толькі нашых грамадзян, але і гасцей з іншых куткоў Еўропы. Тэма гэтая асабліва актуальная ў год 1000-годдзя Літвы. Мы прысвецім ёй яшчэ не адну старонку нашай газеты. Вядома, цудоўна, калі памятная дата стане нагодай для рэалізацыі некаторых маршрутаў і актывізацыі турызму між Вільняй і Мінскам, Каўнасам і Гродна, замкамі ў мястэчках Тракай і Мір. Ці магчыма рэалізаваць сёння гэткія праекты, улічваючы складанасць візавай сітуацыі? Як хтосьці сказаў, ты маеш столькі, колькі можаш узяць. Адпаведна і будучыня турыстычных маршрутаў, звязаных з гісторыяй сярэднявечнай Літвы, залежыць не толькі ад сітуацыі на граніцы, але і ад таго, ці сама тэма ВКЛ будзе турбаваць людзей. Пакуль, аднак, такіх нямнога, як адзначае Вячаслаў Насевіч. Ці зменіць настроі грамадства юбілей Літвы — пакажа ўжо летні сезон ды колькасць вандровак і вандроўнікаў па гістарычных мясцінах абедзвюх палоў былога ВКЛ.

*Друкуецца паводле:*
Туризм и отдых. 15 января 2009. № 1 (686).

# «Русь» у складзе Вялікага Княства Літоўскага ў XVI ст.

Гістарычная геаграфія Беларусі[1] эпохі феадалізму, перш за ўсё «літоўскага» перыяду яе гісторыі, калі яна знаходзілася ў складзе поліэтнічнай феадальнай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага і іншых (ВКЛ), вывучана недастаткова. Варта нагадаць, што ў большасці выдадзеных на сённяшні час дакументальных хронік раёнаў (з серыі «Памяць») гісторыя населеных пунктаў, асабліва першапачатковая, асвятляецца фрагментарна і часта недакладна. Канкрэтныя прыклады аднаму з аўтараў гэтага артыкула ўжо даводзілася адзначаць [26].

Вялікае значэнне для інтэрпрэтацыі многіх важных крыніц па гісторыі ВКЛ, асабліва заканадаўчых актаў вялікіх князёў літоўскіх, і для распрацоўкі на гэтай аснове канцэпцый утварэння ВКЛ і фарміравання беларускай народнасці мае навуковае высвятленне канкрэтна-гістарычнага зместу тэрмінаў «Літва», «Русь» і іншых, якія шырока ўжываліся ў пісьмовых крыніцах XIV—XVIII стст. для пазначэння розных рэгіёнаў ВКЛ і ўваходзілі ў яго разгорнутую афіцыйную назву: «Великое Князство Литовское, Руское, Жомойтское и иных». Для разумення этнічнай гісторыі Беларусі істотнае значэнне мае пытанне аб змесце тэрміна «Русь», перш за ўсё ў XVI ст., калі ён сустракаецца ў крыніцах ВКЛ асабліва часта.

Раней гэтую тэму больш-менш аргументавана закраналі два даследчыкі: рускі гісторык М.К. Любаўскі і польскі — О. Галецкі. М.К. Любаўскі быў першым гісторыкам, які паставіў пытанне аб значэнні тэрмінаў — назваў розных рэгіёнаў («областей») ВКЛ («Літоўска-Рускай дзяржавы»). На яго думку, гэтая дзяржава сфарміравалася шляхам злучэння «ўласнай Літоўскай зямлі» і «рускіх» — заходніх зямель Кіеўскай Русі. Сярод апошніх ён вызначае тэрыторыі, якія былі заняты Літвой у XIII ст., цалкам зліліся з «Літоўскай зямлёй» і да XVI ст. атрымалі назву «Літва» (Верхняе Панямонне — «Чорная Русь» ад Горадна[2] на захадзе да Здзітава на поўдні і Навагародка на ўсходзе, а таксама раён Браслава); тэрыторыі, якія «цесна прымыкалі да ўласнай Літоўскай зямлі» («зямля Берасцейская, або Падляшша», «Літоўскае Палессе», «Літоўская Русь у асобным, прыватным сэнсе»); «палітычна адасобленыя вобласці», якія мелі прывілеі на поўнае самакіраванне (Полацкая, Віцебская, Смаленская, Кіеўская, Валынская і іншыя землі).

Пад «Літоўскай Руссю ў асобным, прыватным сэнсе» М.К. Любаўскі разумеў воласці па сярэдняму Дняпру, Бярэзіне і Сажу: Бабруйскую, Барысаўскую, Крычаўскую, Любашанскую, Менскую, Мсціслаўскую, Прапойскую, Рэчыцкую, Свіслацкую і некаторыя іншыя. Разам з «Літоўскай зямлёй», «Берасцейскай зямлёй» і «Літоўскім Палессем» яны ўваходзілі ў склад Віленскага і Троцкага ваяводстваў XV — пачатку XVI ст. — «Вялікага Княства Літоўскага ў цесным сэнсе» [12, с. 1—26].

Высновы М.К. Любаўскага былі значным крокам наперад у высвятленні зместу назваў розных рэгіёнаў ВКЛ у першай чвэрці XVI ст., у тым ліку «Літоўскай Русі». Аднак сам гэты тэрмін трэба прызнаць штучным: самімі жыхарамі ВКЛ XV—XVI стст. ён, як, дарэчы, і тэрмін «Чорная Русь», не ўжываўся. Да таго ж некаторыя «палітыка-геаграфічныя вобласці» вызначаны М.К. Любаўскім недастаткова выразна, часам супярэчліва. Адкрытым засталося пытанне аб прыналежнасці да «Русі» XVI ст. Віцебскай, Полацкай і іншых зямель. Кола выкарыстаных ім крыніц было даволі абмежаваным.

---

[1] Тут і далей, выкарыстоўваючы тэрмін «Беларусь», мы маем на ўвазе сучасную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь.

[2] Тут і далей назвы населеных пунктаў даюцца ў той форме, у якой яны звычайна сустракаюцца ў крыніцах, з улікам сучаснай беларускай арфаграфіі: «о» не пад націскам заменена на «а», «в» пасля галосных на «ў» і г.д.




Карта 1. «Русь» паводле М. К. Любаўскага і О. Галецкага

**Умоўныя абазначэнні:** *1* — тэрыторыя «Літоўскай Русі» паводле М. К. Любаўскага. *2* — тэрыторыя федэратыўных земляў — «анексаў» («Русь» паводле О. Галецкага). *3* — уладанні «на рускай старане Літоўскага княжання», пажалаваныя Скіргайлу ў 1387 г. *4* — прыкладныя граніцы «Літоўскай зямлі», непасрэдна падначаленай вялікім князям літоўскім (Віленскае і Троцкае ваяводствы). *5* — граніцы земляў, якія мелі федэратыўны статус. *6* — дзяржаўныя граніцы на 1500 г. *7* — буйнейшыя гарады. *8* — іншыя населеныя пункты. *9* — сучасныя дзяржаўныя граніцы. Літарамі абазначаны: *А* — Жамойць, або Жамойцкая зямля; *Б* — Лівонскі ордэн; *В* — Полацкая зямля; *Г* — Віцебская зямля; *Д* — Смаленская зямля; *Е* — Прускае герцагства; *Ж* — Рускае ваяводства каралеўства Польскага; *З* — Валынская зямля; *І* — Кіеўская зямля; *К* — Чарнігаўская зямля

Погляды М.К. Любаўскага поўнасцю былі ўспрыняты польскім гісторыкам С. Кутшэбам [37, с. 5—7]. Але О. Галецкі даў іншае тлумачэнне тэрміна «Русь». На яго думку, уся тэрыторыя Віленскага і Троцкага ваяводстваў (па адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле ВКЛ да рэформы 1565 г., гл.: [13]) лічылася «Літвой», а пад «Руссю», ці «Руссю Літоўскай», трэба разумець тыя далучаныя старажытнарускія землі («анексы»), якія мелі федэратыўны статус на падставе велікакняжацкіх прывілеяў, — Полацкую, Віцебскую і іншыя [35, с. 7—25]. Розніцу ў поглядах М.К. Любаўскага і О.Галецкага адлюстроўвае карта 1[3].

Своеасаблівая інтэрпрэтацыя О. Галецкім «Русі» абумоўлена галоўным чынам тым, што ён абапіраўся на вельмі абмежаванае кола крыніц, пераважна заканадаўчых актаў, і амаль поўнасцю ігнараваў шматлікія выпадкі ўжывання тэрміна «Русь» у дакументах велікакняжацкай канцылярыі і прыватных актах XVI ст.

Пэўную цікавасць уяўляюць і некаторыя іншыя працы, у якіх закраналіся розныя аспекты пытання аб лакалізацыі «Русі» ў складзе ВКЛ [38, с. 51—58; 39, с. 5—6, 34, 55—56, 71—79; 42, с. 14—16; 15, с. 80—82, 103—112, 129].

Беларускі гісторык М. Ермаловіч даў яшчэ адно арыгінальнае тлумачэнне: пад «Жамойцю» (Жэмайтыяй) у складзе ВКЛ трэба разумець усю тэрыторыю сучаснай

[3] Карты 1 і 2 афармлены Л.Ю. Міхайлоўскай, за што аўтары ёй шчыра ўдзячныя.

Літвы, пад «Літвой» — сучасную Беларусь, а пад «Руссю» — Украіну. На падставе такой інтэрпрэтацыі тэрмінаў будуецца ўся канцэпцыя М. Ермаловіча аб тым, што ўзнікненне і гісторыя ВКЛ — факты амаль выключна беларускай гісторыі, роля ж сучасных літоўцаў была мінімальнай [9, с. 86—88, 307—310 і інш.; 10, с. 20—81]. Адзначым, што К. Тарасаў дае іншае (і, як мы ўбачым, больш слушнае) тлумачэнне: «Літва» — гэта Аўкштайція (усходняя палова сучаснай Літвы) і заходняя частка Беларусі, «Русь» — усходняя частка Беларусі і Украіна, а «Жамойць» займае належнае ёй месца на захадзе Літвы [30, с. 48].

У наяўнасці істотны разнабой у разуменні тэрміна «Русь». Менавіта дыскусійнасць гэтага важнага пытання абумоўлівае неабходнасць высветліць, што разумелі пад «Руссю» самі жыхары ВКЛ. Гэтаму і прысвечана наша праца.

Дадзенае даследаванне абапіраецца на аналіз вялікай колькасці разнастайных апублікаваных і неапублікаваных крыніц (галоўным чынам XVI ст.), у якіх упамінаюцца «Русь», «Рускія воласці», гарады, маёнткі і асобныя сёлы[4] на «Русі». Сярод выкарыстаных крыніц — акты як цэнтральных (пастановы соймаў, Устава на валокі 1557 г., Перапіс войска ВКЛ 1567 г.), так і мясцовых (судовыя справы, скаргі) дзяржаўных устаноў, а таксама прыватныя акты, лісты феадалаў, беларуска-літоўскія летапісы.

Большасць дакументаў захавалася ў кнігах шляхецкіх земскіх і гродскіх судоў, а таксама Метрыцы ВКЛ (архіў у асноўным канцылярыі вялікага князя літоўскага). Яны датычаць амаль выключна тэрыторыі ВКЛ у межах пасля Люблінскай уніі 1569 г. (фактычна — тэрыторыі сучасных Літвы і Беларусі) і датуюцца пераважна другой паловай XVI ст. Звесткі, якія адносяцца да Смаленшчыны і Украіны (у тым ліку Рускага ваяводства, што існавала ў складзе каралеўства Польскага на далучаных землях Галіччыны і Усходняй Валыні), намі не ўлічваліся.

Адной з найбольш складаных задач з'яўляецца ідэнтыфікацыя і лакалізацыя населеных пунктаў. Апошнія ўпамінаюцца ў крыніцах, як правіла, без неабходных лакалізуючых прыкмет. Да таго ж у іх формы напісання назваў населеных пунктаў былі неўнармаванымі, часам яны значна адрозніваюцца ад сучасных назваў, як правіла, паланізаваных і русіфікаваных або перайменаваных. Таму пры атаясамліванні кожнага гістарычнага пункта з сучасным абавязкова ўлічваўся кантэкст (уладальнік маёнтка, згадванні суседніх паселішчаў і да т.п.). Ідэнтыфікацыя і лакалізацыя ажыццяўляліся на падставе спісаў і слоўнікаў населеных пунктаў [8; 18—21; 28; 29; 32; 41], дарэвалюцыйных сярэднемаштабных картаў [7; 24], сучасных тапаграфічных, а таксама навуковых гістарычных картаў Беларусі XVI ст. [11; 13; 27; 39; 72—74] і генеалагічных даведнікаў [34; 40; 43].

Вынікі нашай працы адлюстраваны ў двух дадатках да гэтага артыкула ў выглядзе карты «Русь» у XVI ст.», на якой змешчаны 122 адпаведныя населеныя пункты, і спіса апошніх. Нумары на карце адпавядаюць нумарам спіса населеных пунктаў (дадатак 2), назвы ў спісе — беларускім назвам паводле слоўнікаў Я.Н. Рапановіча [18—21]. Далей у спісе прыведзены: сучасная адміністрацыйная прыналежнасць — раён (р.) паводле Я.Н. Рапановіча (у некалькіх выпадках лакалізацыя засталася гіпатэтычнай, што адзначана намі скарачэннем «вер.»); год, пад якім у адпаведнай крыніцы дадзены населены пункт фігуруе як размешчаны на «Русі»; назва на старабеларускай («рускай») мове, г.зн. у форме, якая зафіксавана ў крыніцы; спасылка на крыніцу (нумар паводле «Крыніц да дадатку 2» і праз двукроп'е — нумар дакумента, старонка ці слупок). Для пунктаў, што аднесены да «Русі» неаднаразова, намі прыводзіцца некалькі адпаведных фактаў, але не ўсе. Далей у тэксце артыкула для пунктаў, якія ўключаны ў дадатак 2, прыводзяцца толькі беларускія назвы. Крыніцы, з якіх узяты звесткі, пералічаны ў «Крыніцах да дадатку 2».

Карта 2 (дадатак 1), на якую нанесены адпаведныя населеныя пункты, зроблена на аснове карты «Беларусь в конце XVI в.» (маштаб 1: 1 000 000), складзенай адным з аўтараў як дадатак да кнігі «Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.)» [27].

[4] У пісьмовых крыніцах XVI ст. населеныя пункты сельскага тыпу абазначаюцца выключна тэрмінам «сяло», а не «вёска». Таму тут і ў далейшым мы прытрымліваемся звычайна тэрміналогіі крыніц.

На карце добра відаць, што «рускія» гарады, маёнткі і сёлы займаюць выключна ўсходнюю частку Беларусі. Гэта адпавядае таму кантэксту, у якім «Русь» сустракаецца ў крыніцах: як назва аднаго з некалькіх рэгіёнаў на тэрыторыі ВКЛ — побач з Літвой, Жамойцю, а таксама Валынню, Кіеўшчынай, Падляшшам, Падоллем і Палессем. Так, у 1569 г. вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст паведамляе сваім ваяводам і намеснікам, што крымскі хан «умыслил земли наши Руские, Подольские, Киевские и Волынские воевать» [33, № 280].

«Русь» выступае асобна ад Валыні і Падляшша і ў прыватным лісце князя Рамана Сангушкі (1567 г.), у якім ён паведамляе, што кароль паслаў яго «на Русь, панство его милости господарское украинное», і нагадвае пра «кривды и шкоды ... от суседев своих обапольных, так в земли Волынской в повете Луцком, Володимерском, яко и на Подляше в повете Берестейском» [33, № 113]. Месцазнаходжанне «Русі», куды павінен быў ехаць Раман Сангушка, не выклікае сумнення, бо ў яго архіве захаваўся і наступны ліст, у якім гетман Рыгор Хадкевіч просіць яго хутчэй выехаць у войска «на Русь до Лукомля» — справа ідзе пра ваенныя дзеянні на Полаччыне ў час Лівонскай вайны. Праз два гады той жа Рыгор Хадкевіч піша да Рамана Сангушкі, што даў даручэнне свайму сыну, які едзе на Русь, папярэдне заехаць на Валынь [33, № 277].

Цікавасць выклікаюць таксама запісы рассылкі ваенных лістоў да службовых асоб ВКЛ з дзяржаўнай канцылярыі. Лісты рассылаліся ў 1563 г. як у канкрэтныя ваяводствы і землі («по Жемойти», «на Новгородок», «на Бересте», «на Волынь»), так і на тэрыторыі, якія не адпавядалі афіцыйным адміністрацыйна-тэрытарыяльным адзінкам: «по Завелю» (так званай «Літве Завілейскай» [42], што займала частку Віленскага ваяводства) і на «Русь» [22, с. 652—658, 671—679]. На жаль, лісты высыläліся не ў канкрэтны населены пункт, а да пэўных асоб, месцазнаходжанне якіх магло быць выпадковым. Таму гэтую крыніцу пры лакалізацыі «Русі» трэба выкарыстоўваць вельмі асцярожна: нельга адназначна сказаць, напрыклад, дзе ў момант высылкі ліста знаходзіўся ваявода падляшскі (ім у 1563 г. быў Васіль Тышкевіч), хаця з яго завяшчання [2, № 632] вядомы цэлы шэраг яго ўладанняў на «Русі» — Вялейка, Далькавічы, Камень Харэцкі, Лагойск і інш. Толькі ў рэдкіх выпадках, калі ліст «на Русь» адрасаваны «ўсім князям Друцкім», «усім князям Лукомскім», можна не сумнявацца, што ён накіроўваўся ў Друцк ці Лукомль.

Побач з іншымі рэгіёнамі ВКЛ і нароўні з імі «Русь» выступае і ў пастановах Гарадзенскага сойма 1567 г. У іх вызначаецца колькасць адзінак абкладання, з якіх кожны землеўласнік павінен выстаўляць у войска аднаго ўзброенага конніка. Ва ўласнай «Літве» такімі адзінкамі выступаюць «службы літоўскія», і тут жа дадаецца: «а где волок нет, а службы не равны суть литовским, яко на Руси и на Полесьи, и в земли Киевской и у волостях Поднепрских, так же и в земли Волынской ... про то обыватели тых краев або земель преречоных Руских, Волынских и Полеских мають не з служоб ани з дворищ, але з дымов двадцати ку службе земской ставити конь один» [22, с. 411]. Ніжэй у соймавай пастанове вызначаюцца павіннасці са службаў і валок, а таксама «з дымов Киевских, Волынских, Руских, Поднепрских и Полесских» [22, с. 415].

Мы бачым, што «Русь», прынамсі, тая яе частка, якая, безумоўна, прыпадае на тэрыторыю Віленскага ваяводства («уласнай Літоўскай зямлі», паводле М.К. Любаўскага і О. Галецкага), не толькі адрознівалася ад «Літвы», але і мела істотныя асаблівасці ў сістэме эксплуатацыі сялян, што ў пэўным сэнсе аб'ядноўвае яе з федэратыўнымі землямі. Гэтыя асаблівасці «Русі» пацвярджаюцца стэрэатыпнай формулай «рускія даннікі» альбо «даннікі на Русі», якой вызначаюцца жыхары сёлаў усходняй Беларусі. У 1554 г. яны згадваюцца ў Суціне, у 1557 г. — у Камені Завелейскім, у 1560 г. — у Мацеевічах. Перапіс войска 1567 г. называе «рускіх даннікаў» пад Барысавам, у Нежыцах, Забашавічах, Сцяпах і інш. Даннікі — сяляне, галоўнай павіннасцю якіх была не «служба тяглая» (паншчына), а «дань» (даніна натуральнымі прадуктамі, пераважна мёдам і збожжам), — упамінаюцца і ў іншых пунктах, якія непасрэдна не звязваюцца ў крыніцах з «Руссю», але вельмі часта знаходзіліся ў яе арэале. Хаця размяшчэнне даннікаў у ВКЛ патрабуе спецыяльнага вывучэння, высокая карэляцыя іх з «Руссю» не выклікае сумнення.

Дарэчы, не толькі даннікі, а ўвогуле маёнткі звычайна называліся «рускімі» тады, калі яны прыгадваліся побач з іншымі ўладаннямі тых жа асоб, размешчанымі ў сучаснай Літве і на захадзе Беларусі. Так, напрыклад, паны Гарнастаі, асноўныя маёнткі якіх знаходзіліся на Берасцейшчыне і Валыні, асобна згадваюць свае «имения русские, в повете Оршанском лежачие» — Талачын, Друцк, Басю (Басею) і інш. Асабліва шчыльна «рускія» двары і сёлы лакалізуюцца ў вярхоўях Бярэзіны і ў паўночнай частцы Аршанскага павета — менавіта там знаходзілася шмат магнацкіх і буйнашляхецкіх вотчын, уладальнікі якіх адначасова валодалі маёнткамі ў іншых месцах ВКЛ.

Вярхоўі Бярэзіны ў XIV — пачатку XV ст. займала вялікая Харэцкая воласць, пажалаваная ледзь не цалкам літоўскаму магнату Манівіду [36, № 70]. Спадчына Манівідаў потым перайшла да Радзівілаў, Глябовічаў, князёў Гальшанскіх. Гэтыя магнаты і іх нашчадкі рэгулярна прыгадвалі свае ўладанні на «Русі»: Гняздзілава, Вольберавічы, Докшыцы і іншыя — усе ў былой Харэцкай воласці.

Таксама шмат упамінанняў пра «рускія маёнткі» пакінулі Сапегі, да якіх у XVI ст. трапіла значная частка былых вотчын князёў Друцкіх і Лукомскіх.

Полацкая і Віцебская землі, а таксама паўднёвы ўсход Беларусі прадстаўлены на карце 2 бядней менавіта таму, што там было значна менш уладанняў, якія «цягнулі» да феадальных цэнтраў за межамі «Русі». У мясцовых полацкіх і віцебскіх баяр не было падстаў называць свае маёнткі «рускімі», бо іншых у іх звычайна і не было. Таму сярод выдадзеных судовых спраў Полацкага і Віцебскага ваяводстваў (1530-я гады) няма ўпамінанняў пра «Русь», затое вельмі часта сустракаецца «Літва» як вонкавая тэрыторыя: «з Литвы приехавши», «до Литвы ездывали» і г.д. Прытым пад «Літвой» меліся на ўвазе, напрыклад, Горадна ці Ляхавічы [4, № 120, 133, 274 і інш.]. У выпадках, калі тыя ж Сапегі валодалі маёнткамі Астроўна і Тухачоў пад Віцебскам, гэтыя маёнткі рэгулярна называюцца «рускімі».

На Полаччыне колькасць упамінанняў «Русі» можна было б крыху павялічыць за кошт нагадвання яе ва ўскоснай форме: так, у 1568 г. князі Друцкія-Сакалінскія звярнуліся да вялікага князя з просьбай кампенсаваць ім страты «русских имений», спустошаных маскоўскім войскам [22, с. 488, 517]. Гэтыя маёнткі канкрэтна не называюцца, аднак з Перапісу войска 1567 г. вядома, што Друцкім-Сакалінскім належалі Крывіна, Мілкавічы (сучасны Бешанковіцкі р-н), Камень, Несіна (Лепельскі р-н), Гарадзец (Шаркаўшчынскі р-н), спустошаныя непрыяцелем [23, с. 476].

Што датычыць сучаснай Магілёўшчыны і Гомельшчыны, то там большасць тэрыторыі займалі дзяржаўныя («гаспадарскія») воласці, якія ў крыніцах называюцца звычайна «валасцямі Паднепрскімі». Але, напрыклад, Устава на валокі 1557 г. непасрэдна называе іх «валасцямі Рускімі» і дае пералік: Рэчыца, Мазыр, Бабруйск, Чачэрск, Прапойск, Мсціслаў, Орша, Любеч (зараз на Украіне), Гомель, Глуск, Магілёў, Свіслач, Барысаў, Любашаны, а таксама Полацк [22, с. 564]. Ёсць яшчэ выпадак, калі ўвесь паўднёва-ўсходні кут Беларусі адназначна звязваецца з «Руссю»: у 1569 г. гетман Рыгор Хадкевіч паведамляе, што крымскі царэвіч з войскам «выехал на Лоеву Гору, под Речицу и ... Бобруйск, Гомей и Мозыр, и другие замки и места тамошние руские может ударить» [33, № 282].

Устава на валокі 1557 г. цікавая яшчэ і тым, што асобна ад «рускіх» пералічвае дзяржаўныя воласці Віленскага і Троцкага паветаў (ваяводстваў). Сярод цэнтраў такіх валасцей па-за межамі «Русі» (г. зн. у «Літве») названы, напрыклад, Браслаў, Вопса і Дзісна (сучасны Браслаўскі р-н), Дунілавічы (Пастаўскі р-н), Гайна (Лагойскі р-н), Менск. Такім чынам, мяжа паміж «Літвой» і «Руссю» праходзіла па заходняй мяжы Полацкай зямлі і далей у ваколіцах Лагойска і Менска.

Удакладніць гэтую мяжу дапамагаюць упамінанні «Русі» як суседняй тэрыторыі адносна некаторых пунктаў Лагойшчыны. Так, жыхар вёскі Сычавічы пад Лагойскам у 1599 г. быў западозраны ў крадзяжы. У віну яму ставілі, у прыватнасці, паездку ў сяло Кімея маёнтка Зембін (Барысаўскі р-н) з невядомай мэтай. У сваё апраўданне ён сцвярджаў, што ездзіў «на Русь жита куповать» [1, № 175]. У 1582 г. уладальнік

маёнтка Нястанавічы (Лагойскі р-н) прыгадвае дарогу, што ідзе «мимо двора моего Нестановского через Хотаевичи на Русь» [3, № 46, 92].

Аднак гэтая мяжа была няўстойлівай (дакладней, уяўленні сучаснікаў пра месцазнаходжанне «Русі» былі супярэчлівымі). Так, тыя ж Нястанавічы ў іншым дакуменце адносяцца да «Русі». «Руссю» названы аднойчы і Ажуны, змешчаныя ў ваколіцах вышэйзгаданых Дунілавіч. А ў завяшчанні пана Васіля Тышкевіча (1570 г.) у пераліку яго «рускіх маёнткаў» згадваецца Сялец, што знаходзіцца паміж Гайнай і Лагойскам. Здзіўляцца тут няма чаму: мяжа «Літвы» і «Русі» не мела строга этнічнага сэнсу — па абодва бакі яе жыло тое ж самае беларускае («рускае») насельніцтва, і сама мяжа з цягам часу змяшчалася.

Пра змяшчэнне названай мяжы сведчыць параўнанне некаторых больш ранніх дакументаў. У 1387 г. кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла выдаў свайму брату Скіргайлу прывілей на Троцкае княства «у Литовской земли», а таксама на шэраг маёнткаў «на руской стороне»: Менск, Свіслач, Бабруйск, Рэчыцу, Любеч, Прапойск, Любашаны, Ігумен (сучасны Чэрвень), Лагойск [16, № 10]. Гэта сведчыць аб тым, што ў канцы XIV ст. «Літоўская зямля» яшчэ не ахоплівала раён Менска.

Праз некалькі дзесяцігоддзяў, каля 1446 г. [31], быў створаны «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». У ім, паміж іншым, апісваецца вайна Свідрыгайлы Альгердавіча з Жыгімонтам Кейстутавічам (1432—1435 гг.). У час вайны адбыўся раскол паміж «Літвой» (уладаннямі Жыгімонта) і «Руссю», дзе вялікім князем быў абвешчаны Свідрыгайла. На гэтай «Русі» ўпамінаюцца Полацк, Віцебск, Смаленск, Кіеў. У час набегу на «Літоўскую зямлю» Свідрыгайла ваюе пад Маладзечнам, Заслаўем, Менскам, адкуль ён «пошел в свою (г. зн. «Рускую». — *В.Н., М.С.*) землю ... к Борисову», потым распусціў войска ў Лукомлі, а сам паехаў у Кіеў [17, с. 76—77, 106—108, 141—143, 163—164, 189—190, 210—211, 231—232]. Мы бачым, што ў гэты час мяжа «Літвы» і «Русі» праходзіць ужо недзе паміж Менскам і Барысавам — прыкладна там, дзе мы знаходзім яе ў XVI ст.

Знамянальны напрамак змяшчэння мяжы. Рух адбыўся не з усходу на захад, як сцвярджае М.І. Ермаловіч, паводле якога назва «Літва» распаўсюджвалася з Верхняга Панямоння і заходняй Меншчыны на сучасную Літву [10, с. 28], а з захаду на ўсход. Паглынанне «Літвой» часткі Меншчыны, магчыма, тлумачыцца тым, што на яе разам з землеўладаннем літоўскіх князёў і знаці распаўсюдзілася і новая сістэма абкладання («літоўскія службы»), у той час як для даннікаў Харэцкай, Барысаўскай і іншых валасцей дзейнічаў прынцып «старины не рушити».

Такім чынам, можна канстатаваць, што арэал «Русі» ў складзе ВКЛ не супадаў ні з этнічнымі, ні з афіцыйнымі адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі межамі. Ён ахопліваў толькі частку тэрыторыі, населенай «рускімі» — нашчадкамі насельніцтва Кіеўскай Русі. Жыхары Верхняга Панямоння, Пабужжа, басейна Прыпяці таксама вызнавалі «рускую» (праваслаўную) веру, гаварылі на «рускай» (старабеларускай) мове, але гэтыя землі зваліся «Літвой», «Падляшшам», «Палессем». Паводле адміністрацыйнага падзелу ВКЛ, які існаваў да рэформы 1565 г., «Русь» ахоплівала некаторыя федэратыўныя землі (з пачатку XVI ст. — ваяводствы) — Полацкую і Віцебскую, а таксама ўсходнюю частку Віленскага ваяводства, у тым ліку Барысаўскую воласць, якая непасрэдна кіравалася ваяводам [12, с. 103]. «Русь» уключала і валасці, якія з часоў Альгерда і Кейстута мелі двайное падпарадкаванне Вільні і Трокам [12, с. 13—14, 103—106]: Бабруйскую, Любашанскую, Свіслацкую. Новы адміністрацыйны падзел (з 1565 г.) таксама не адпавядаў межам «Русі», падзеленай паміж Полацкім, Віцебскім (з Аршанскім паветам), Мсціслаўскім ваяводствамі, Рэчыцкім і Мазырскім паветамі. Заходняя ўскраіна «Русі» трапіла ў Менскі і Навагародскі паветы [25].

Падкрэслім, што «Русь», паводле мясцовай традыцыі ВКЛ, да канца XVI ст. не называецца ні «Белай», ні «Чорнай», хаця ў замежных крыніцах «каляровыя» назвы (без строгай лакалізацыі) вядомыя, прынамсі, з XIII ст. Да выключэнняў можна аднесці ўпамінанне «Белай Русі», дзе знаходзілася нейкае сяло Бортнікі (на Полаччыне?), у дакуменце 1585 г. ашменскага кляштара францысканаў [36, № 46]. Аднак францысканы форму «Белая Русь» маглі запазычыць з замежнай традыцыі. Таму нельга

пагадзіцца з М.Ф. Пілiпенкам, што ў XVI ст. тэрмін «Белая Русь» ужо вызначаў усю этнічную тэрыторыю беларусаў [15, с. 105—106].

Увогуле паходжанне і змест тэрміна «Белая Русь» выходзяць за рамкі нашага артыкула. Але варта падкрэсліць, што, прынамсі, у адным сэнсе гэты тэрмін адносіцца да тэрыторыі «Русі» XVI ст. ці яе паўночнай часткі. У 1622 г. нунцый рымскага папы Торас даносіў у Рым, што на тэрыторыі Рэчы Паспалітай «схізматыкі» (праваслаўныя) насяляюць Валынь, Падолле, Украіну, а таксама «Русь» (Чырвоную, Белую і Чорную). Пры гэтым Белую Русь ён вызначае ад Ліфляндыі (сучасная Латвія) да «маскоўскай мяжы», з гарадамі Полацкам, Оршай, Віцебскам і Магілёвам, Чорную Русь — «паміж Літвой і Валынню, да Кіева», з Пінскам, Навагрудкам і Оўручам [5, № 177]. У Беларускім Падзвінні лакалізавана «Белая Русь» і на вядомай карце Баплана (каля 1651 г.) і яе шматлікіх копіях [14, № 25, 26, 30, 35—37].

Адным з першых выпадкаў, калі само мясцовае насельніцтва выразна звязвае тэрмін «Белая Русь» з пэўным рэгіёнам, трэба лічыць скаргу праваслаўнай шляхты на прыцясненне з боку каталікаў і ўніятаў, вынесеную на Варшаўскі сойм 1623 г. Сярод тэрыторый, дзе жыве «рускі народ, што вызнае грэчаскую веру ўсходняга абраду», названы Літва (з гарадамі Вільня, Мінск, Навагрудак, Гродна, Слонім, Брэст, Браслаў, Кобрын, Камянец), Палессе (Пінск, Оўруч, Мазыр), Панізоўе (Крычаў, Чачэрск, Прапойск, Рагачоў, Гомель, Асцёр, Рэчыца, Любеч), Белая Русь (Полацк, Віцебск, Мсціслаў, Орша, Магілёў, Дзісна) і рэгіёны сучаснай Украіны [5, № 178].

Назву «Панізоўе» ў апошнім прыкладзе трэба лічыць выпадковай, бо ў далейшым яна не набыла шырокага выкарыстання. Пазней паўднёвы ўсход Беларусі крыніцы звязваюць з «Белай Руссю». Летапіс Самойлы Вялічкі ў 1648 г. называе яе ў такім жа сэнсе, у якім стагоддзем раней сустракалася «Русь», — як адну з частак ВКЛ, побач з Літвой і Палессем. Там паведамляецца, што Багдан Хмяльніцкі накіраваў свае загоны «на Полессе зась, и в Литву, и на Белую Русь» [6, № 4]. Вядома, што гэтыя загоны дзейнічалі ў той год на паўднёвым усходзе Беларусі і на Піншчыне.

Адзначым, што маскоўскія дзякі ў данясеннях цару пра дзейнасць Хмяльніцкага разумелі пад «Белай Руссю» ўсе праваслаўныя землі ў складзе Рэчы Паспалітай, у тым ліку Украіну [6, № 9—11, 19 і інш.]. У далейшым, аднак, і маскоўская традыцыя ўжывання гэтага тэрміна звузілася. Калі ў 1796 г. на землях ВКЛ, далучаных да Расійскай імперыі, былі ўтвораны тры губерні (Беларуская, Літоўская і Мінская), то Беларуская ахапіла тэрыторыю амаль усёй «Русі» XVI ст., за выключэннем басейна Бярэзіны і Мазыршчыны. У 1802 г. гэтая губерня была падзелена на дзве (Віцебскую і Магілёўскую), але яны традыцыйна лічыліся «беларускімі», гэтак жа, як Віленская і Гродзенская губерні — «літоўскімі». У далейшым назва «Белая Русь» канчаткова набыла этнічны сэнс і ў другой палове XIX ст. ахапіла ўвесь арэал беларускай нацыі.

Натуральна паўстае пытанне: чым жа можна растлумачыць такое ўстойлівае ўжыванне назвы «Русь» адносна адной акрэсленай часткі былой Кіеўскай Русі, а затым — часткі этнічнай тэрыторыі беларусаў? Канчаткова адказаць на гэтае пытанне можна будзе толькі тады, калі гэтак жа дэталёва будзе разгледжаны працэс з'яўлення і ўжывання іншых гісторыка-геаграфічных назваў: «Палессе», «Валынь» і ў першую чаргу «Літва». Пакуль што магчымы толькі гіпатэтычны адказ, які мы і паспрабуем даць.

Вядома, што да мангольскага нашэсця назва «Русь» ужывалася ў двух значэннях: шырокім і вузкім. У першым сэнсе яна адносілася да ўсёй тэрыторыі Кіеўскай Русі і тых напаўсамастойных княстваў на чале з дынастыямі Рурыкавічаў, на якія гэтая дзяржава распалася, у другім — да тэрыторыі ў Сярэднім Падняпроўі, падуладнай непасрэдна кіеўскаму князю. Пасля разбурэння Кіева і знікнення Кіеўскага княжання «Русь» у вузкім сэнсе перастала існаваць, а ў шырокім набыла характар метаэтноніма — агульнай саманазвы ўсіх народнасцей, што пачалі фарміравацца на рэштках старажытнарускай дзяржавы (у тым ліку і старажытных беларусаў). Не ўсе з гэтых народнасцей здолелі канчаткова сфарміравацца: так, наўгародскі протаэтнас быў паглынуты Масквой і ўліўся ў велікарускую народнасць, «маларосы» Заходняй Валыні і Галіччыны зліліся з украінцамі падняпроўскіх лесастэпаў.




Тыя ж працэсы ішлі і на тэрыторыі Беларусі. Княствы Панямоння вельмі рана, у сярэдзіне XIII ст., змянілі дынастыю Рурыкавічаў на дынастыю літоўскага паходжання, іх тэрыторыя ўвайшла ў склад ВКЛ практычна з першых гадоў яго існавання. Гэтая двухэтнічная дзяржава, якая ахоплівала ўсходнюю палову сучаснай Літвы і сучасную Гродзенскую вобласць, мела скарочаную назву «Літва». Этнічныя працэсы, што разгарнуліся ў гэтым арэале, напэўна, прывялі б да ўзаемнай асіміляцыі літоўцаў і жыхароў Беларускага Панямоння, з'яўлення змешанага этнасу.

Аднак далейшыя палітычныя падзеі спрыялі таму, што спачатку да Літвы далучыліся вялікія сумежныя тэрыторыі (з аднаго боку — Жамойць, якая канчаткова ўвайшла ў склад ВКЛ у 1411 г., з другога — уся паўднёва-заходняя палова былой Кіеўскай Русі), а затым сама яна заключыла унію з Польшчай. Прыняцце этнічнай Літвой і Жамойцю каталіцызму ўзвяло паміж балцкім і славянскім насельніцтвам рэлігійны бар'ер.

На Беларусі ў гэты час, верагодна, былі тры асяродкі этнагенезу: басейн Нёмана, дзе фарміравалася змешаная субэтнічная група «ліцвінаў», геаграфічна адасобленае Палессе (арэал «палешукоў») і тэрыторыя былых княстваў Падзвіння і Падняпроўя — Полацкага, Віцебскага, Смаленскага, Друцкага, Свіслацкага. Апошні арэал захаваў назву «Русь», якая побач з агульным, метаэтнічным сэнсам набыла функцыю саманазвы мясцовага субэтнасу. Яго прадстаўнікі адрознівалі сябе як ад ліцвінаў і палешукоў, так і ад жыхароў Маскоўскай Русі. Апошнія самі сябе таксама звалі «рускімі», а ў вачах «рускіх» ВКЛ былі «масквічамі», «масквіцінамі».

Польскі ўплыў у часы Рэчы Паспалітай, потым расійскі — у часы Расійскай імперыі, рэлігійны ўціск (насельніцтва Беларусі то гвалтоўна абарочвалі ва ўніяцтва, то гэтак жа гвалтоўна — зноў у праваслаўе) — усё гэта спыніла папярэднія працэсы, выклікала рэакцыю ў форме кансалідацыі «рускіх», палешукоў і славянскай часткі ліцвінаў у агульны этнас беларусаў, а неаславяненай часткі ліцвінаў (аўкштайтаў) разам з жамойтамі — у літоўскі этнас. Ужыванне ў XVII ст. тэрміна «Чорная Русь»

у якасці агульнай назвы для Панямоння і Палесся (побач з «Белай Руссю») можна разглядаць як сведчанне пачатку гэтай кансалідацыі. Перамагла, аднак, назва «Белая Русь», якая ператварылася ў імя новага этнасу.

### Даследаванні і крыніцы

1. Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильна, 1891. Т. 18. Акты о копных судах. 1522—1707.

2. Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильна, 1895. Т. 22. Акты Слонимского земского суда. 1555—1570.

3. Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильна, 1912. Т. 36. Акты Минского гродского суда. 1582—1590.

4. Беларускі архіў. Мн., 1928. Т. 2.

5. Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. док. и материалов: В 3 т. Мн., 1959. Т. 1.

6. Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. док. и материалов: В 3 т. Мн., 1960. Т. 2.

7. Военно-топографическая карта России. 1: 126 000. СПб., 1855—1875.

8. Гошкевич Н.Н. Виленская губерния: Полный список населенных мест. Вильна, 1905.

9. Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

10. Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. 2-е выд., дап. Мн., 1991.

11. Клепатский П.Г. Карта Мозырского повета // Клепатский П.Г. Очерки по истории Киевской земли. Одесса, 1912. Т. 1: Литовский период. С. 196—197.

12. Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого Литовского Статута: Исторические очерки. М., 1892.

13. Любавский М.К. Политическая карта Литовско-Русского государства конца XV и начала XVI в. 1: 2 520 000 // Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого Литовского Статута: Исторические очерки. М., 1892. Приложение.

14. Материалы по истории русской картографии / Сост. В. Кордт. Киев, 1910. Вып. 2: Карты всей России и западных ее областей до конца XVII в.

15. Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Мн., 1991.

16. Полоцкие грамоты XIII — начала XVI в. / Сост. А.Л. Хорошкевич. М., 1977. Вып. 1.

17. Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35. Белорусско-литовские летописи.

18. Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мн., 1977.

19. Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мн., 1981.

20. Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці. Мн., 1983.

21. Рапановіч Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Мн., 1986.

22. Русская историческая библиотека. Юрьев, 1914. Т. 30: Литовская метрика. Отд. 1—2. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. 1.

23. Русская историческая библиотека. Пг., 1915. Т. 33: Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. 1: Переписи войска литовского.

24. Специальная карта Европейской России. 1: 420000. Пг., 1915.

25. Спірыдонаў М.Ф. Беларусь у канцы XVI ст. 1: 2 500 000 [карта] // Беларуская ССР: Кароткая энцыклапедыя. Мн., 1978. Т. 1. Уклейка паміж с. 168—169.

26. Спиридонов М. Исторический документ — для современной серии книг: Населенные пункты Белоруссии в Переписи войска Великого княжества Литовского 1567 г. // Навіны Беларускай акадэміі. 1991. 28 чэрв.; Ён жа. Мястэчка Ленін, але не ў гонар правадыра // Навіны Беларускай акадэміі. 1991. 22 ліст.

27. Спиридонов М.Ф. Беларусь в конце XVI в. 1: 1 000 000 [карта] // Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993. Приложение.

28. Список населенных мест Витебской губернии. Витебск, 1906.

29. Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.

30. Тарасаў К. Памяць пра легенды: Постаці беларускай мінуўшчыны. Мн., 1990.

31. Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: (Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў). Мн., 1969.

32. Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.

33. Archiwum książąt Sanguszków w Sławucie. Lwów, 1910. T. 7. 1554—1572. Dyplomataryusz gałęzi Nesuchojeżskiej. T. 2.

34. Boniecki A. Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskiem w XV i XVI w. Warszawa, 1887.

35. Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kraków, 1916.

36. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. Kraków, 1932—1948. T. 1.

37. Kutrzeba S. Historia Polski w zarysie: Wyd. 2. Lwów; Warszawa. 1921. T. 2. Litwa.

38. Łowmiański H. Studia nad początkami spoleczeństwa i państwa litewskiego // Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983.

39. Ochmański J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI w. Poznań, 1981.

40. Sapiehowie: Materjały historyczno-genealogiczne i majątkowe. Pb., 1890. T. 1.

41. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. Warszawa, 1880—1902. T. 1—15.

42. Wojtkowiak L. Litwa Zawilejska w XX i pierwszej połowie XVI w. Poznań, 1981.

43. Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca XIV w. Warszawa, 1895.

**Дадатак 2**

Спіс населеных пунктаў Беларусі, якія ў пісьмовых крыніцах XVI ст. паказваюцца як «рускія», размешчаныя на «Русі», або цэнтры «валасцей Рускіх»

1. АЖУНЫ. Пастаўскі р. 1555, ОЖУНИЧИ (38: 414)*.

2. АЗДЗЯЦІЧЫ. Барысаўскі р. 1541, ОЗДЯТИЧИ (26: 230—231).

3. АЗЯРАНЫ. Рагачоўскі р. 1599, ОЗЕРАНЕ (6: 2).

4. АЛЕКСІНІЧЫ. Сенненскі р. 1555, 1558, ОЛЕКСЕНИЧЫ, ОЛЕКСИНИЧЫ (32: 415—418, 935—937). 1569, ОЛЕКСИНИЧИ (3: 611). 1594, ОЛЕКСИНИЧИ (11: 83).

5. АРЭШКАВІЧЫ. Пухавіцкі р. 1599, ОРЕШКОВИЧИ (47: 83—87).

6. АСТРОЎНА. Бешанковіцкі р. 1546, ОСТРОВНО (50: 402). 1555, ОСТРОВНО (32: 415—418). 1597, ОСТРОВНО (45: 48 адв. — 50 адв.).

7. АСЕЦІШЧЫ. Докшыцкі р. 1570, ОСЕЧИЩА (3: 632).

8. АХОЦІЧЫ. Кіраўскі р. 1600, ОХОТИЧИ (44: 296—297).

9. АЧЫЖА. Чэрвеньскі р. 1567, ОЧИЖА (15: 496). 1600, ОЧИЖА (44: 835 адв. — 837).

10. БАБРУЙСК. Ц. р. 1552, БОБРУЙСК (8: 44). 1557, БОБРУЙСК (14: 564). 1560, БОБРУЙСК (18: 530—531; 25: 156—157). 1569, БОБРУЙСК (51: № 282).

11. БАГУШЭВІЧЫ. Бярэзінскі р. 1562, БОГУШЕВИЧИ (33: 270—272 адв.).

12. БАЛОЧА. Пухавіцкі р. 1567, БОЛОША (15: 453, 496).

13. БАРКАЛАБАВА. Быхаўскі р. 1600, БОРКУЛАБОВ (44: 144—145).

14. БАРСУКІ. Шклоўскі р. 1599, БОРСУКИ (6: 2).

15. БАРЫСАЎ. Ц. р. 1557, БОРЫСОВ (13: 564). 1567, БОРИСОВ (15: 561).

16. БАСЯ. Не існуе. Горацкі р. 1590, БАСЯ (4: 481).

17. БЕРАЗВЕЦКІ АБРУБ. Глыбоцкі р. 1555, 1558, БЕРЕЗВИЧЫ (32: 935—937). 1569, БЕРЕЗВЕЧ (3: 611).

18. БЕРАЗІНО. Докшыцкі р. 1570, БЕРЕЗЫНЯ (3: 632).

19. БОЖЫНА. Бярэзінскі р. 1544, БОЖИН (31: 182—184). 1552, БОЖИНО (2: 3). 1554, БОЖИН (31: 182—184). 1557, БОЖИНО, БОЖЫНО (32: 736 адв. — 737 адв.).

20. БОЛННО. Не існуе. Лепельскі р. 1567, БОЛИНО (15: 507—508).

21. БРАДЗЕЦ. Бярэзінскі р. 1554, БРОДЕЦ (32: 46 адв. — 49 адв., 106 адв.). 1562, БРОДЦЫ (34: 350—352 адв.).

22. БУЙНІЧЫ. Магілёўскі р. 1600, БУЙНИЧИ (44: 1243).

23. БЫХАЎ. Ц. р. 1567, БЫХОВ (23: 31—32). 1579, БЫХОВ (24: 22 адв. — 26).

24. ВЕСНІЦК. Ушацкі р. 1552, ВЕСНИЦК (17: 99 адв. — 100 адв.).

25. ВІЛЕЙКА. Докшыцкі р. 1570, ВЕЛЕЙКА (3: 632).

26. ВІТУНІЧЫ. Докшыцкі р. 1567, ВИТАНИЧИ (15: 494).

27. ВІЦЕБСК. Ц. вобл. 1577, ВИТЕБСК (13; 362).

28. ВОЛЬБЕРАВІЧЫ. Докшыцкі р. 1570, ВОЛЬБОРОВИЧИ (3: 632). 1583, ВОЙБОРИЧИ (11: 93). 1599, ВОЛЬБОРОВИЧИ (42: 2—2 адв.).

29. ВЯЛІКАЕ СЯЛО. Сенненскі р. 1553, ВЕЛИКОЕ СЕЛО (17: 125—125 адв.).

30. ВЯЛІКІЯ БОРТНІКІ. Бабруйскі р. 1566, БОРТНИКИ (37: 191—193).

31. ВЯЛІКІЯ ДОЛЬЦЫ. Ушацкі р. 1569, ДОЛЬЦЫ (3: 611). 1600, ДОЛЬЦЫ (44: 967—967 адв.).

32. ВЯЛІКІЯ ЛІЦВІНАВІЧЫ. Калінкавіцкі р. 1554, ЛИТВИНОВИЧИ (31: 245 адв. — 246 адв.).

* У дужках пасля двукроп'я падаюцца нумары актаў, старонкі ці лісты дакументаў.

1563, ЛИТВИНОВИЧИ (36: 594 адв. — 599 адв.).

33. ВЯЛІКІЯ НЯСТАНАВІЧЫ. Лагойскі р. 1600, НЕСТАНОВИЧИ (44: 146 адв. — 147 адв.).

34. ГАЛОЎЧЫН. Бялыніцкі р. 1600, ГОЛОВЧИН (44: 86 адв. — 87 адв., 190—191 адв.).

35. ГАЛЬКІ. Крупскі р. 1578, ОЛЬКИ (12: 33). 1593, ГОЛЬКИ (7: 208).

36. ГЛЕБАЎСК. Сенненскі р. 1561, ГЛЕБОВСКОЕ (35: 499 адв. — 500 адв.).

37. ГЛУСК. Ц. р. 1557, ГЛУСК (14: 564).

38. ГНЯЗДЗІЛАВА. Докшыцкі р. 1570, ГНЕЗДИЛОВИЧИ (3: 632). 1583, ГНЕЗДИЛОВИЧИ (12: 93). 1599, ГНЕЗДИЛОВИЧИ (42: 2—2 адв.).

39. ГОМЕЛЬ. Ц. вобл. 1557, ГОМЬЕ (14: 564). 1569, ГОМЕЙ (51: 282).

40. ГОРКІ. Чэрвеньскі р. 1554, ГОРКИ (32: 46 адв. — 49 адв., 106 адв.).

41. ГОРЫ. Горацкі р. 1565, ГОРЫ (38: 276—277, 280 адв. — 282).

42. ГУБА. Лагойскі р. Вер., 1570, ГУБЫ (3: 632).

43. ДАЛЬКАВІЧЫ. Лагойскі р. 1570, ДАЛЬКЕВИЧИ (3: 632).

44. ДЗЕДЗЕЛАВІЧЫ. Барысаўскі р. 1570, ДЕДИЛОВИЧИ (3: 632). 1599. ДИДИЛОВИЧИ (42: 2).

45. ДОКШЫЦЫ. Ц. р. 1557, 1560, ДОКШИЧИ (34: 125 адв. — 130 адв.).

46. ДОМЖАРЫЦЫ. Лепельскі р. 1570, ДОМЖЕРИЧИ (3: 632). 1600. ДОМЖЕРИЧИ (44: 967).

47. ДРУЦК. Талачынскі р. 1590, ДРУЦК, ОДРУЦК (4: 481).

48. ДУБРОЎНА. Ц. р. 1590, ДУБРОВНА (48: 71).

49. ДУДАКОВІЧЫ. Круглянскі р. 1565, ДУДАКОВИЧИ (38: 280 адв. — 282).

50. ЗАБАШАВІЧЫ. Барысаўскі р. 1554, ЗАБАШЕВИЧИ (30: 113 адв. — 123). 1567, ОБАШЕВИЧИ (15: 567). 1600, ЗАБАШЕВИЧИ (44: 149—151).

51. ЗАБОР'Е. Чашніцкі р. 1554, ПЕРОШИЧИ (32: 92 адв. — 96 адв.). 1562, ПИРОШИЧИ (35, 114—115).

52. ЗАГАРАДДЗЕ. Талачынскі р. 1566, ЗАГОРОДЬЕ (39: 70 адв. — 72, 148—149, 238—238 адв.).

53. ЗДДАБРЫЧЧА. Чэрвеньскі р. 1562, ЗАДОБРИЧИ (33: 270—272 адв.).

54. ЗАЕССЕ. Чашніцкі р. 1572, 1578, ЗАЕСЕ, ЗАЛЕСЬЕ (12: 33, 34). 1579, ЗАЛЕСЬЕ (42: 162—165).

55. ЗАСЕКЛІ. Аршанскі р. 1556, ЗАСЕКЛЬ (32: 661—661 адв.).

56. КАМЕНА. Вілейскі р. 1556, КАМЕНЬ ЗАВЕЛЕЙСКИЙ (32: 515 адв. — 517 адв.). 1557, КАМЕНЬ ЗАВЕЛЕЙСКИЙ (32: 924—926 адв.). 1559, КАМЕНЬ ЗАВЕЛЬСКИЙ (32: 245 адв. — 247).

57. КАМЕНА. Лагойскі р. 1570, КАМЕНЬ ХОРЕЦКИЙ (3: 632).

58. КАРЫТНІЦА. Бялыніцкі р. 1560, КОРЫТНИЦА (35: 244—245). 1567, КОРЫТНИЦА (40: 162 адв. — 163 адв.).

59. КАРЫТНІЦА. Бялыніцкі р. 1560, КОРЫТНИЦА (35: 244—245). 1567, КОРЫТНИЦА (40: 162 адв. — 163 адв.).

60. КНЯЖЫЦЫ. Магілёўскі р. 1561, КНЯЖИЧИ (35: 893 адв. — 902 адв.).

61. КОПЫСЬ. Шклоўскі р. 1522, КОПЫС (49: 243). 1577, КОПЫСЬ (13: 362). 1579, КОПЫСЬ (24: 22 адв. — 26).

62. КРУГЛАЕ. Ц. р. 1558, КРУГЛОЕ (20: 172—176 адв.). 1567, КРУГЛОЕ (22: 272 адв. — 287 адв.). 1568, 1571, КРУГЛАЯ (22: 312—325).

63. КРЫЧАЎ. Ц. р. 1560, КРЫЧОВ (18: 530 адв. — 531 адв.).

64. КУРЫЛАВІЧЫ. Мёрскі р. 1582, КУРЫЛОВИЧЫ (4: 36).

65. ЛАГОЙСК. Ц. р. 1559, ЛОГОЙСК (41: 950—953 і інш.).

66. ЛАТЫГОЛІЧЫ. Чашніцкі р. 1476, ЛАТЫГОЛИЧЕ (52: 297).

67. ЛЕМНІЦА. Талачынскі р. 1546, ИЛЕМНИЦА (50: 402). 1597, ИЛЕМНИЦА, ЛЕМНИЦА (45: 48 адв. — 50 адв.).

68. ЛЕНІНА. Горацкі р. 1522, РОМАНОВ (49: 243). 1541, РОМАНОВО (27: 20—20 адв., 43 адв. — 44). 1559, РОМАНОВО (33: 153—153 адв.).

69. ЛЕПЕЛЬ. Ц. р. 1555, БЕЛАЯ (32: 415—418). 1566, 1567, БЕЛАЯ (39: 70 адв. — 72, 148—149, 238—238 адв.).

70. ЛОЕЎ. Ц. р. 1569, ЛОЕВА ГОРА (51: 282).

71. ЛУКОМЛЬ. Чашніцкі р. 1567, ЛУКОМЛЬ (51: 120).

72. ЛЮБУШАНЫ. Бярэзінскі р. 1552, ЛЮБОШАНЫ (8: 44). 1557, ЛЮБОШАНЫ (14: 564)

73. МАГІЛЁЎ. Ц. вобл. 1557, МОГИЛЕВ (14: 564). 1577, МОГИЛЕВ (13: 362). 1599, МОГИЛЕВ (25: 48 адв.).

74. МАЗЫР. Ц. р. 1552, МОЗЫР (8: 44). 1557, МОЗЫР (15: 564). 1569, МОЗЫР (51: 282).

75. МАЦЕЕВІЧЫ. Пухавіцкі р. 1560, МАТЕЕВИЧИ (35: 213 адв. — 215).

76. МСЦІЖ. Барысаўскі р. 1554, МСТИЖ (37: 302 адв. — 303 адв.). 1567, МСТНЖ (15: 494).

77 МСЦІСЛАЎ. Ц. р. 1557, МСТИСЛАВЛЬ (14: 564).

78. НАСОВІЧЫ. Добрушскі р. 1560, НОСОВИЧИ (21: 315—316).

79. НЕГАНІЧЫ. Бярэзінскі р. 1557, НЕГОНИЧИ (32: 736 адв. — 737 адв.).

80. НЕЖЫЦЫ. Барысаўскі р. 1567, НЕЗЕТИЧИ (15: 856).

81. НІЎКІ. Барысаўскі р. 1569, НИВЬЕ (3: 611).

82. НЯКЛЮДАВА. Талачынскі р. 1563, 1567, НЕКЛЮДОВО (19: 441—442; 15: 1181).

83. ОРША. Ц. р. 1557, ОРША (14: 564). 1577, ОРША (13: 362).

84. ОСТАПКОВИЧИ. Не існуе. Крупскі (?) р. 1572, 1578, ОСТАПКОВИЧИ (12: 33, 43). 1579, ОСТАПКОВИЧИ (43: 162—165). 1593, ОСТАПКОВИЧИ (5: 208 адв.).

85. ПАПОЎЦЫ. Лагойскі р. 1574, ДОРОГОМИЧИ (9: 155—159).

86. ПОЛАЦК. Ц. р. 1557, ПОЛОЦК (14: 564).

87. ПОЛОНАЕ. Не існуе. Сенненскі р. 1546, ПОЛОНАЕ (50: 402). 1547, ПОЛОНАЯ (28: 192 адв. — 195). 1594, 1595, ПОЛОННО (11: 450—452).

88. ПРУСАВІЧЫ. Лагойскі р. 1554, ПРУСОВИЧИ (16: 302 адв. — 303 адв.). 1569, ПРУСОВИЧИ (3: 611).

89. ПРЫХАБЫ. Сенненскі р. 1567, ПРИХАБЫ (15: 507—508).

90. ПУТЯТИЧИ. Не існуе. Калінкавіцкі р. 1565, ПУТЯТИЧИ (36: 933—934 адв.).

91. ПЫШНА. Лепельскі р. 1529, 1551, ПИШНО (29: 109—110). 1554, ПЫШНОЕ (16: 271—274).

92. ПЯЧЭРСК. Уключаны ў г. Магілёў. 1593, ПЕЧЕРСКО (7: 91). 1599, ПЕЧЕРСК (6: 2).

93. РЫДАМЛЯ. Талачынскі р. 1561, РЫДОМЛЯ (35: 499 адв. — 500 адв.).

94. РЭЧЫЦА. Ц. р. 1552, РЕЧИЦА (8: 44). 1557, РЕЧЫЦА (14: 564). 1569, РЕЧИЦА (51: 282).

95. СВІСЛАЧ. Асіповіцкі р. 1552, СВИСЛОЧ (8: 44). 1562, СВИСЛОЧ (10: 34). 1557, СВИСЛОЧ (14: 564).

96. СКРЫГАЛАЎ. Мазырскі р. 1599, СКРЫГОЛОВЫ (46: 83—87).

97. СЛАВЕНІ. Талачынскі р. 1590, СЛОВЕНИ (4: 481).

98. СЛАЎГАРАД. Ц. р. 1552, ПРОПОЙСК (8: 44). 1557, ПРОПОЙСК (14: 564).

99. СМІЛАВІЧЫ. Чэрвеньскі р. Вер., 1528, БАКШТЫ (46: 89—90).

100. СТАРАСЕЛЛЕ. Шклоўскі р. 1565, СТАРОСЕЛЬЕ (38: 276—277). 1590, СТАРОСЕЛЬЕ (4: 481).

101. СТАРАЯ БЕЛІЦА. Сенненскі р. Вер., 1567, БЕЛЕЦА (15: 460).

102. СТАРАЯ РАДЧА. Круглянскі р. 1590, РЕГЧА (4: 481).

103. СТАРОЕ ЗАПОННЕ. Докшыцкі р. 1567, ЗАПОНЬЕ (15: 494).

104. СТАРОЕ ПАШКАВА. Магілёўскі р. 1599, ТАРАСОВИЧИ (6: 2).

105. СТАРЫ ВОСТРАЎ. Клічаўскі р. 1554, ОСТРОВ (16: 204 адв. — 207). 1562, ОСТРОВ (33: 270—272 адв.).

106. СТАРЫЯ МАКСІМАВІЧЫ. Клічаўскі р. 1554, МАКСИМОВИЧИ (32: 46 адв. — 49 адв., 106 адв.).

107. СТАРЫЯ ПРЫБОРКІ. Бярэзінскі р. 1560, ПРЫБОРКИ (35: 244—245). 1567, ПРЕБОРКИ (40: 162 адв. — 163 адв.).

108. СУЦІН. Пухавіцкі р. 1554, СУТИН (32: 43 адв. — 46).

109. СЦЯПЫ. Жлобінскі р. 1554, СТЕПЫ (32: 36—37). 1567, СТЕПАХИ (15: 567).

110. СЯЛЕЦ. Мінскі р. 1570, СЕЛЕЦ (3: 632).

111. ТАЛАЧЫН. Ц. р. 1590, ТОЛОЧИН (4: 481).

112. ТУМІЛАВІЧЫ. Докшыцкі р. 1559, ТОМИЛОВИЧИ (41: 894). 1567, ТУМИЛОВИЧИ (15: 449—450).

113. ТУХАЧЕВО. Не існуе. Віцебскі р. 1555, ТУХАЧЕВО (32: 415—418).

114. ХАМІЧЫ. Быхаўскі р. 1599, ХОМИЧИ (6: 2).

115. ХАЦЮХОВА. Крупскі р. 1572, 1578, ХРЕХОВО, ХОТЮХОВО (12: 33, 43). 1579, ХОТЮХОВО (42: 162—165); 1593, ХОТОХОВО (5: 208).

116. ЦВЫРКАВА. Шклоўскі р. 1599, ЦВИРКОВО (6: 2).

117. ЧАРЭЯ. Чашніцкі р. 1561, ЧЕРЕЯ (35: 499 адв. — 500 адв.). ЧАРЕЯ (1: 1007). 1569, ЧАРЕЯ (3: 611).

118. ЧАЧЭРСК. Ц. р. 1552, ЧЕЧЕРСК (8: 44). 1557, ЧЫЧЕРСК (14: 564). 1600, ЧЕЧЕРСК (44: 354—354 адв.).

119. ШКЛОЎ. Ц. р. 1577, ШКЛОВ (13: 362). 1579, ШКЛОВ (24: 22 адв. — 26). 1600, ШКЛОВ (44: 190—191 адв.).

120. ШЫШОВА. Горацкі р. 1590, ШЫШОВО (4: 481).

121. ШЭМЕТАВА. Смалявіцкі р. 1559, ШЕМЕТОВ (41: 23, 473 адв., 476 адв., 479, 484 адв. — 552).

122. ЮРЦАВА. Аршанскі р. 1600, ЮРЦОВО (44: 1268—1269).

СКАРАЧЭННІ: адв. — адварот; вер. — верагодна; р. — раён; ц. вобл. — цэнтр вобласці; ц. р. — цэнтр раёна.

КРЫНІЦЫ ДА ДАДАТКУ 2

1. Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильна, 1890. Т. 17: Акты Гродненского земского суда. 1539—1565.

2. Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильна, 1891. Т. 18: Акты о копных судах. 1522—1707.

3. Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильна, 1895. Т. 22: Акты Слонимского земского суда. 1555—1570.

4. Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Вильна, 1912. Т. 36: Акты Минского гродского суда. 1582—1590.

5. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. СПб., 1863. Т. 1. 1361—1598.

6. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. СПб., 1865. Т. 2. 1599—1637.

7. Архив Юго-Западной России, издаваемый Временной комиссией для разбора древних актов. Киев, 1859. Ч. 1. Т. 1: Акты, относящиеся к истории православной церкви в Юго-Западной России.

8. Архив Юго-Западной России, издаваемый Временной комиссией для разбора древних актов. Киев, 1907. Ч. 8. Т. 5: Акты об украинской администрации XVI—XVII вв.

9. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. Старажытныя акты. А. з. 163.

10. Довнар-Запольский М.В. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. Киев, 1905. Приложения.

11. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске. Витебск, 1890. Вып. 20.

12. Опись документов Виленского центрального архива древних актовых книг. Вильна, 1901. Вып. 1: Акты Россиенского земского суда за 1575—1586 гг.

13. Опись документов Виленского центрального архива древних актовых книг. Вильна, 1913. Вып. 10: Акты Брестского гродского суда за 1575—1715 гг.

14. Русская историческая библиотека. Юрьев, 1914. Т. 30: Литовская метрика. Отд. 1—2. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. 1.

15. Русская историческая библиотека. Пг., 1915. Т. 33: Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. 1: Переписи войска литовского.

16. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 34.

17. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 35.

18. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 37.

19. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 38.

20. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 40.

21. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 41.

22. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 58.

23. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 60.

24. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 64.

25. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 86.

26. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 229.

27. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 231.

28. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 234.

29. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 239.

30. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 245.

31. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 246.

32. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 247.

33. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 249.

34. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 255.

35. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 256.

36. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 260.

37. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 261.

38. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 262.

39. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 266.

40. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 268.

41. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў. Ф. 389 (Метрыка Вялікага Княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 569.

42. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 694. Воп. 4. А. з. 1726.

43. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Воп. 7. А. з. 655.

44. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 1727. Воп. 1. А. з. 1.

45. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 1751. Воп. 1. А. з. 1.

46. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 1769. Воп. 1. А. з. 13.

47. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. А. з. 14.

48. Archiwum domu Sapiehów. Lwów, 1892. T. 1: Listy z lat 1575—1606.

49. Archiwum książąt Lubartowiczów-Sanguszków w Sławucie. Lwów, 1890. T. 3: 1432—1534.

50. Archiwum książąt Lubartowiczów-Sanguszków w Sławucie. Lwów, 1890. T. 4: 1535—1547.

51. Archiwum książąt Lubartowiczów-Sanguszków w Sławucie. Lwów, 1910. T. 7: 1554—1572. Dyplomataryusz gałęzi Nesuchojeżskiej. T. 2.

52. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. Kraków, 1932—1948. T. 1.

*Друкуецца паводле:*
З глыбі вякоў. Наш край: Гістарычна-культуралагічны зборнік. Вып. 1. Мінск, 1996. С. 4—27 (суаўтар М. Спірыдонаў).

# Да пытання пра саманазву беларусаў у перыяд ВКЛ

У апошні час выказваліся супрацьлеглыя меркаванні аб тым, як называлі сябе продкі сучасных беларусаў у час існавання ВКЛ. З аднаго боку, М. Піліпенка ў кнізе «Возникновение Белоруссии» зрабіў спробу даказаць, што назвы «Беларусь», «беларусы» мелі сённяшні сэнс ужо ў XVI ст. Іншыя даследчыкі (М. Ермаловіч і інш.) адстойваюць думку, нібыта тагачасная «Літва» цалкам сінанімічна сучаснай Беларусі, беларусы зваліся «ліцвінамі», а літоўцы — «жмудзінамі».

Між тым трэба ўлічваць, што адны і тыя ж тэрміны мелі некалькі сэнсавых узроўняў. На адным з іх тэрмін «Літва» быў не этнонімам, а палітонімам. На нашу думку, толькі ў гэтым сэнсе «ліцвінам» маглі называць любога падданага ВКЛ, незалежна ад яго этнічнай прыналежнасці. Што тычыцца «Белай Русі», то трэба адрозніваць традыцыю ўжывання гэтага тэрміна ў замежных крыніцах (дзе ён вядомы з XIV ст., але звычайна без пэўнай лакалізацыі) ад саманазвы-этноніма. У мясцовым ужытку ВКЛ назва «Белая Русь» з'явілася не раней канца XVI — пачатку XVII ст. і доўгі час адносілася да ўсходняй часткі Беларусі. Вядома, што нават у першай палове XIX ст. «беларускімі губернямі» традыцыйна лічыліся толькі Віцебская і Магілёўская. На ўсю Беларусь яе сучасная назва канчаткова распаўсюдзілася ў канцы XIX ст., прычым яшчэ В. Ластоўскі лічыў яе штучнай і прапанаваў зваць беларусаў «крывічамі».

Разам з тым існуе мноства сведчанняў таго, што ў ВКЛ вельмі пашыранай была назва «Русь». Яна таксама мела розныя сэнсы і ў адным з іх выконвала функцыі суперэтноніма — агульнай саманазвы ўсіх народаў, што ўтвараліся на тэрыторыі старажытнай Кіеўскай Русі. «Рускімі» называлі сябе продкі сучасных украінцаў (Галіччына ў складзе Польскай Кароны мела нават афіцыйную назву «Рускае ваяводства», а ў закарпацкіх украінцаў саманазва «русіны» ўжываецца нават і сёння). Гэтак жа і беларусы сярэднявечча зваліся «русінамі», «рускімі», але не таму, што цалкам атаясамлівалі сябе з жыхарамі Маскоўскай Русі, а таму, што ўспрымалі сябе нашчадкамі Русі IX—XIII стст. Пераемнасць гэтых назваў такая ж, як у саманазвах старажытных рымлян і сучасных румын («раманус»).

Тэрмін «русіны» меў яшчэ канфесіянальны сэнс. Праваслаўная вера звалася таксама «рускай верай», а таму «рускім» быў аўтаматычна кожны праваслаўны Польшчы і ВКЛ.

Але існаваў яшчэ адзін, больш вузкі сэнс назвы «Русь». Так зваўся адзін з гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў ВКЛ, раўназначны такім рэгіёнам, як Валынь, Падолле, Падляшша, Палессе, Жамойць. Сцвярджаць гэта дазваляюць вынікі даследавання, праведзенага намі сумесна з М.Ф. Спірыдонавым. У хуткім часе яно павінна быць апублікавана асобна[1], таму акрэслім толькі яго сутнасць. У крыніцах ВКЛ пераважна XVI ст. (дзяржаўных і прыватных дакументах, лістах, летапісах і інш.) выяўлены звыш 100 населеных пунктаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі, куды адбываліся паездкі з Валыні ці Літвы «на Русь», дзе жылі «рускія даннікі» ці «рускія людзі», або якія названы ў крыніцах «рускімі гарадамі», «рускімі сёламі», «рускімі маёнткамі». Усе гэтыя пункты канцэнтруюцца ў Падзвінні і Падняпроўі, на ўсход ад лініі Браслаў—Лагойск—Петрыкаў.

Мы не сустрэлі выпадкаў, калі б «Руссю» ў гэтым сэнсе называліся іншыя часткі Беларусі. Басейн Прыпяці меў назву «Палессе», а Верхняе Панямонне і Міншчына разам з усходняй часткай сучаснай Літвы (Аўкштайцiяй) называюцца ў крыніцах «Літвой» — у такім жа звужаным, рэгіянальным сэнсе.

[1] Маецца на ўвазе артыкул «"Русь" у складзе Вялікага Княства Літоўскага ў XVI ст.» (*Аўт.*).

Адзначым, што менавіта акрэслены арэал «Русі» XVI ст. пачынае пазней (асабліва часта з 20-х гг. XVII ст.) звацца ў мясцовым ужытку ВКЛ «Белай Руссю».

Такім чынам, тэрмін «Русь» (як, дарэчы, і «Літва») быў не толькі суперэтнонімам, але і субэтнонімам — назвай адной з частак этнічнай тэрыторыі тагачасных беларусаў. Такім жа субэтнонімам беларусаў трэба лічыць і назву «Палессе» («палешукі»). «Літва», «ліцвіны» былі субэтнонімамі для часткі беларусаў і часткі літоўцаў — аўкштайтаў. Пры гэтым ні ў беларусаў, ні ў літоўцаў не існавала тэрміна, які б ахопліваў цалкам толькі іх этнічную тэрыторыю. Саманазваў на ўзроўні этнасаў не было.

Гэта не павінна выклікаць здзіўлення, калі мы ўспомнім, што і ў Заходняй Еўропе эвалюцыя тэрмінаў была прыкладна такой жа. Палітонім «франкі», пазней «французы», ахопліваў некалькі субэтнасаў у складзе Французскага каралеўства: германізаваны Іль-дэ-Франс, кельцкую Брэтань, раманскі Лангедок. Функцыю этноніма ён набыў, калі сфарміравалася французская нацыя, межы якой супадалі з межамі дзяржавы. Тэрмін «германцы» быў спачатку суперэтнонімам, бо агульнагерманскай дзяржавы да XIX ст. не існавала. Германская нацыя кансалідавалася з субэтнасаў саксонцаў, баварцаў, прусакоў і інш.

Этнагенез беларусаў і літоўцаў меў тую спецыфіку, што ні тыя, ні другія да XX ст. не мелі нацыянальных дзяржаў, межы якіх супадалі б з іх этнічнай тэрыторыяй. Амаль усю сваю гісторыю яны існавалі ва ўмовах поліэтнічных дзяржаў. Тым больш гонару для іх, што ў такіх неспрыяльных умовах яны здолелі кансалідавацца ў нацыі, а пазней і дамагчыся стварэння сваіх дзяржаў. Пры гэтым атрымалася так, што літоўцы ўзялі ў якасці этноніма агульны літоўска-беларускі палітонім «Літва», а беларусы — адзін са сваіх субэтнонімаў «Белая Русь».

Асабліва цікава, што імя «Літва» было не толькі літоўска-беларускім палітонімам, але адначасова і адным з агульных літоўска-беларускіх субэтнонімаў. Пры гэтым можна сказаць, што існаванне субэтнасу «ліцвінаў» адыграла выключную ролю ў этнагенезе абодвух народаў. Дарэчы, і само яго ўзнікненне было вынікам выключнай падзеі — аб’яднання ў сярэдзіне XIII ст. часткі старажытнарускіх і часткі балцкіх княстваў у агульную дзяржаву, якая дазволіла ім захаваць незалежнасць ва ўмовах падвойнага націску — крыжакоў з захаду і татар з усходу. Арэал «Літвы» супадае якраз з межамі дзяржавы Міндоўга і Трайдзена ў XIII ст.

Магчыма, пры іншым развіцці падзей вынікам гэтага сімбіёзу стала б утварэнне змешанага этнасу ліцвінаў, які ад балтаў узяў бы імя і пануючую дынастыю, а ад славян — мову (якраз так адбылося, дарэчы, з балгарамі, што ўтварыліся ў выніку славяна-цюркскага сімбіёзу). Хрышчэнне літоўцаў у каталіцтва, моцны націск з боку заходніх (палякі) і ўсходніх (расійцы) суседзяў не дазволілі ажыццявіцца гэтай магчымасці. Але без змешанага ліцвінскага субэтнасу ні літоўцы, ні беларусы не існавалі б у тым выглядзе, у якім яны існуюць сёння.

Асабліва гэта датычыць беларусаў. Ім прыйшлося перажыць даволі цяжкія часы, калі спачатку палякі, а потым расійцы разглядалі Беларусь як «спрадвечную частку» сваіх этнічных тэрыторый і імкнуліся цалкам яе асіміляваць. Пры гэтым «ліцвіны» Панямоння выказалі пэўную схільнасць да акаталічвання і апалячвання. Жыхары ж усходнебеларускай «Русі» больш лёгка паддаваліся русіфікацыі (на Смаленшчыне яна адчуваецца асабліва моцна). Выратавальным для беларусаў было тое, што «ліцвінская» частка іх этнічнай тэрыторыі, зарыентаваная пераважна на захад, мела добры імунітэт супраць русіфікацыі, а звернутая на ўсход «руская» частка — супраць паланізацыі.

Сапраўды, менавіта Усходняя Беларусь найбольш паслядоўна супраціўлялася акаталічванню (за якім следам ішло апалячванне) у перыяд Рэчы Паспалітай, асабліва з пачатку XVII ст. Калі ж з другой паловы XIX ст. расійскі ўрад разгарнуў палітыку свядомай русіфікацыі беларусаў, супрацьдзеянне яна знайшла на захадзе. Невыпадкова і Багушэвіч, і Багдановіч, і Колас, і Купала ўзняліся на «ліцвінскай» глебе. Агульныя ж рысы абодвух арэалаў працавалі ў кірунку кансалідацыі — не менш важнага боку ў працэсе этнагенезу, чым асэнсаванне сваіх адрозненняў ад суседзяў.

Усё сказанае цалкам адносіцца і да субэтнасу палешукоў, зарыентаванага пераважна ў напрамку Украіны. Праўда, з таго боку Беларусь не адчувала экспансіянісцкіх уздзеянняў, таму сёння найбольш радыкальныя формы самасвядомасці палешукоў арыентуюцца не на «ўз'яднанне» з суседзямі, а на сепаратызм. Нам здаецца, што існаванне субэтнасаў, нават з іх экстрэмісцкімі кампанентамі, з'яўляецца натуральнай з'явай у жыцці кожнага народа, калі ўспрымаць яго не як нешта метафізічнае, узніклае раз і назаўсёды, а як дынамічную сістэму жывых і зменлівых кампанентаў. Так было ў часы ВКЛ, так ёсць і сёння, калі ў агульны этнічны масіў беларусаў уваходзяць і палешукі, і католікі, і «расійскамоўныя беларусы». Сёння, ва ўмовах наяўнасці нацыянальнай беларускай дзяржавы, калі ёсць усе ўмовы для ўзмацнення кансалідацыйных працэсаў, існаванне субэтнасаў узбагачае нацыю, як іх існаванне ў мінулым дапамагло ёй захавацца.

*Друкуецца паводле:*
Беларусіка = Albaruthenica. Кн. 2. Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі. Маладзечна, 19—20 жніўня 1992 г. Мінск, 1993. С. 97—100.

# Да пытання пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага

ВКЛ утварылася ў сярэдзіне XIII ст. шляхам палітычнага аб'яднання (у мэтах супрацьдзеяння татарскай і крыжацкай пагрозе) трох зямель: уласна Літоўскай (арэал археалагічнай культуры ўсходнелітоўскіх курганоў, плошча — каля 64 тыс. км$^2$), Жамойцкай (заходнелітоўскія грунтавыя пахаванні, 27 тыс. км$^2$) і Наваградскай (з Гораднам, Ваўкавыскам, Услонімам, 23 тыс. км$^2$). Першапачатковая тэрыторыя дзяржавы складала каля 114 тыс. км$^2$, прычым да 80 % займала балцкае, рэшту — усходнеславянскае («рускае») насельніцтва. На чале дзяржавы стаяла літоўская дынастыя.

У другой палове XIII — першай палове XIV ст. да гэтага ядра («Літвы» ў пашыраным сэнсе) пераважна шляхам пагаднення, але з элементамі прымусу, далучыліся Полацкае, Віцебскае, Менскае, Свіслацкае, Пінскае і інш. княствы агульнай плошчай каля 127 тыс. км$^2$, а таксама частка Валыні (56 тыс. км$^2$). У адрозненне ад Наваградчыны, якая прыняла назву «Літва», яны захавалі назву «Русь», што абумовіла тытулатуру «гаспадар Літвы і Русі». Каля 1350 г. ВКЛ ахоплівала амаль 300 тыс. км$^2$, пры гэтым першапачатковае ядро («палітычная Літва») займала каля 38 %, а ўласна Літва з Жамойцю («этнічная Літва») — менш 30 % яго тэрыторыі.

Вялікі князь Альгерд, карыстаючыся аслабленнем Арды, падпарадкаваў частку Смаленскай, Чарнігава-Северскую, Кіеўскую і Падольскую землі. Тэрыторыя ВКЛ дасягнула 630 тыс. км$^2$, доля «палітычнай» Літвы знізілася да 18 %, а этнічнай — да 14 %. Альгерд непасрэдна кантраляваў 10—15 % тэрыторыі, яго фактычны суправіцель Кейстут — прыкладна столькі ж, а 70—75 % складалі ўдзелы і вотчыны іншых Гедымінавічаў і мясцовых Рурыкавічаў. І ў велікакняжацкім дамене, і ў княствах знаходзіліся маёнткі баяр — васалаў другога парадку.

Пасля дынастычнай уніі з Польшчай (1385 г.) улада ВКЛ пачынае абапірацца на літоўскае баярства дамена, вышэйшы слой якога ўтварае кола каталіцкіх паноў. Роля князёў памяншаецца. Пасля 1392 г. вялікі князь Вітаўт далучыў да дамена былыя ўдзелы Кейстутавічаў (Трокі, Горадна, Берасце і інш.), Полацкае, Кіеўскае, Чарнігаўскае і Смаленскае княствы. Але пры ім жа ў ВКЛ увайшлі «вярхоўскія» княствы (Адоеў, Мезецк і інш.) з мясцовымі князямі на чале.

У 1411—1487 гг. ВКЛ дасягнула свайго максімальнага пашырэння — каля 687 тыс. км$^2$ (без уліку прычарнаморскіх стэпаў). Доля княжацкіх вотчын вагалася ад 1/2 да 1/3. Са складу павялічанага дамена ажыццяўляліся буйныя пажалаванні літоўскім панам. Разам з пераважна праваслаўнымі князямі літоўскага паходжання (Гедымінавічамі, Гальшанскімі) яны стваралі вышэйшае пануючае кола, пастаўляючы ў XV ст. (за выключэннем панавання Свідрыгайлы ў 1430—1432 гг.) практычна ўсіх членаў Бліжняй Рады. Доля праваслаўнага баярства ў вярхоўным кіраўніцтве была мінімальнай, князі Рурыкавічы мелі вагу толькі ў землеўладанні і кіраўніцтве «рускіх» зямель, якія пасля 1440 г. атрымалі прывілеі на самакіраванне — Полацкай, Віцебскай, Смаленскай, Валынскай і Кіеўскай. Такія ж прывілеі атрымала Жамойць і, магчыма, Наваградчына, пасля чаго разгорнутая назва дзяржавы набыла выгляд: «Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і іншых». Звычайна ўжывалася, аднак, скарочаная форма — «Вялікае Княства Літоўскае», ці ўвогуле «Літва».

З XV ст. можна гаварыць і пра пачатак фарміравання ўласна беларускага і ўкраінскага этнасаў. Пры гэтым тэрыторыя сучаснай Літвы займала ў ВКЛ каля 10 %, сучаснай Украіны — 33 %, Расіі — 23 %, Падляшша — 1,8 %, Беларусі — каля 30 %. Доля Беларусі ў этнаграфічных межах XIX ст. (са Смаленшчынай і Падляшшам) дасягала 38 %. Характар дзяржавы ў гэты час можна вызначыць як літоўска-беларуска-

ўкраінскі, пры перавазе літоўскага кампанента ў палітычнай сферы, а беларуска-ўкраінскага — у эканамічнай і культурнай (з паступовым нарастаннем польскага ўплыву).

У 1487—1514 гг. каля 1/3 тэрыторыі ВКЛ (у тым ліку 2/3 княжацкіх вотчын) адышло да Маскоўскай дзяржавы. Памеры ВКЛ скараціліся да 496 тыс. км², у тым ліку сучасная Літва — 14 %, Беларусь — 45 %, Падляшша — 3 % і Украіна — 38 %. У першай палове XVI ст. некаторыя княствы, што заставаліся (Кобрынскае, Пінскае, Мсціслаўскае), уліліся ў дамен, адначасова працягваліся пажалаванні панам і баярам (шляхце). З 1569 г. раздача дамена практычна спынілася, закансерваваўшы структуру землеўладання: каля 25 % — дамен, прыкладна столькі ж — вотчыны князёў і паноў (магнатаў, у лік якіх увайшлі асобныя князі і баяры беларуска-ўкраінскага паходжання), каля 50 % — маёнткі шляхты і царквы. Магнаты ставілі ў войска да 37 % ваяроў (з іх каля паловы — са сваіх беларускіх уладанняў), шляхта літоўскіх паветаў — да 28 %, беларускіх — 19 %, украінскіх — прыблізна 9 % і з Падляшша — 7 %.

Пасля Люблінскай уніі 1569 г. тэрыторыя ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай зменшылася да 292 тыс. км² (Беларусь — 77 %, Літва — 23 %). Дзяржава набывае яшчэ больш выразны наднацыянальны характар. Этнічныя адрозненні беларускай, літоўскай і ўкраінскай шляхты і асабліва магнатэрыі значна згладзіліся на фоне нарастаючай паланізацыі. Пераважала не этнічная, а дзяржаўная свядомасць, адасабленне ад польскай і расійскай («маскоўскай») знаці. У сувязі э гэтым паняцці «беларускай» ці «літоўскай» шляхты фактычна губляюць сэнс. Сярод простага люду пераважала канфесійная і метаэтнічная («руская», «літвінская») свядомасць.

*Друкуецца паводле:*

Усебеларуская канферэнцыя гіторыкаў: Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і новыя падыходы). Мінск, 3—5 лютага 1993 года. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Ч. 1. Мінск, 1993. С. 55—58.

# Сімвал Вялікага Княства

Пытанне аб сімволіцы Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) набыло асабліва абвостранае гучанне ў сувязі з тым, што з моманту свайго афармлення ў канцы XIX ст. беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух (як, дарэчы, і літоўскі) актыўна выкарыстоўваў гэтыя сімвалы, перш за ўсё — герб «Пагоня». Як вядома, сёння розныя варыянты «Пагоні» сталі дзяржаўнымі гербамі незалежных Літоўскай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь.

Як ні дзіўна, сімволіка ВКЛ ніколі не была аб'ектам грунтоўнага, строга навуковага даследавання. Амаль усе факты аб ёй упершыню прыводзіліся не ў навуковых, а ў публіцыстычных творах, якія маюць свае мэты і законы падачы матэрыялу. Стварылася ўражанне асветленасці пытання, у якім на самай справе бясспрэчныя факты мудрагеліста перамешаны з міфамі, а некаторыя важныя моманты засталіся ў цені. Падкрэслім, што гэта цалкам тычыцца як выказванняў прыхільнікаў гістарычнай сімволікі, так і яе заўзятых праціўнікаў — у аргументах і тых, і другіх далёка не ўсё бясспрэчна.

На жаль, высвятленне ісціны не ўсімі асэнсоўваецца як неабходнасць. Аб гэтым сведчыць хаця б той факт, што ў конкурсе навуковых праектаў, абвешчаным Фондам фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь, заяўка калектыву гісторыкаў на фундаментальнае вывучэнне гістарычнай сімволікі не набрала прахаднога бала — эксперты і члены журы, відаць, не палічылі яе дастаткова актуальнай.

Між тым, сёння бясспрэчна ўстаноўленым можна лічыць, па сутнасці, толькі той факт, што выява «Пагоні» выконвала ролю афіцыйнага дзяржаўнага герба ВКЛ з канца XIV ст. і да моманту канчатковага знікнення гэтай дзяржавы ў канцы XVIII ст. Для продкаў сучасных беларусаў і літоўцаў на працягу прыкладна 400 гадоў іх гісторыі гэтая выява была сімвалам дзяржаўнасці (хаця характар самой гэтай дзяржаўнасці сёння многія разумеюць па-рознаму).

Не вырашаным да канца застаецца такое важнае пытанне, як паходжанне азначанага герба. Дарэчы, не ўсе ведаюць, што доўгі час ён заставаўся безыменным: назва «Пагоня» дакументальна зафіксавана ў адносінах да яго толькі ў канцы XVI стагоддзя. Раней герб толькі апісваўся: «муж (рыцар) узброены на кані» і інш. Літоўскамоўны варыянт назвы — «Віціс» — мае яшчэ пазнейшае паходжанне.

У сувязі з гэтым недастаткова абгрунтаванай здаецца гіпотэза аб сувязі паходжання герба з вайсковым звычаем, згаданым у прывілеі вялікага князя Ягайлы ў 1385 г. Адзначаючы, што ў праследаванні ворага, які адступае з палоннымі і здабычай, павінны ўдзельнічаць усе баяздольныя, незалежна ад іншых абавязкаў, аўтар прывілея прыводзіць у лацінскамоўным тэксце славянскую назву гэтага звычаю — «пагоня». Менавіта з часоў Ягайлы паходзяць і першыя бясспрэчныя факты выкарыстання выявы конніка з мячом як афіцыйнай эмблемы ВКЛ, але ж ні ў той час, ні на стагоддзе пазней назва «пагоня» з ім яшчэ не звязвалася. Не ведаў гэтай назвы і стваральнік легенды пра літоўскіх князёў — нашчадкаў рымскага патрыцыя Палямона, якая прыкладна ў 1530-я гады была ўключана ў беларуска-літоўскія летапісы. Прыпісваючы стварэнне герба аднаму з міфічных князёў, нібыта дзеючых у XIII ст. — Нарымонту, брату Трайдзена, — аўтар толькі апісвае гэты герб як «чалавека на кані з мячом». Не мае назвы герб і ў «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі» А. Гваньіні, выдадзенай у 1578 г. Толькі гербоўнік Б. Папроцкага, надрукаваны ў 1584 г., упершыню называе герб «Пагоняй»[1].

Што да легенды пра нашчадкаў Палямона, то яна дала падставу некаторым гісторыкам (перш за ўсё П.Ф. Лысенку) катэгарычна сцвярджаць, што герб прыду-

[1] Гэтае сцвярджэнне недакладнае. Як паказаў А. Шаланда, назва «Пагоня» была ўжыта ў 1562 г. у прывілеі Жыгімонта Аўгуста адносна чаканкі манет з выявай герба (Шаланда *А.* Пагоня // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя у 2-х тамах. — Т. 2. — Мн., 2005. — С. 382.). — *Аўт.*

маны літоўскімі князямі-заваёўнікамі і таму не мае прамога дачынення да беларускай гісторыі. Аднак азначаная позняя легенда ніяк не пацвярджаецца крыніцамі XIII ст. Сапраўды, тады існаваў літоўскі князь з імем Трайдзен, прычым Іпацьеўскі летапіс пералічвае ўсіх яго братоў, але ніякага Нарымонта сярод іх няма. Супярэчаць іншым крыніцам і падрабязнасці жыцця Трайдзена, як і ўвогуле паведамленні пра заваяванне літоўцамі ўсёй Беларусі і нават Чарнігаўшчыны ўжо ў XIII ст. Таму гэтай легендзе не варта даваць веры, як і яшчэ пазнейшаму (пачатак XVII ст.) яе варыянту з Густынскага летапісу, які прыпісвае стварэнне герба князю Віценю.

Выявы ўзброеных коннікаў сапраўды даволі часта выкарыстоўваліся ў XII—XIII стагоддзях на княжацкіх пячатках, прычым у самых розных варыянтах. Напярэдадні мангольскага нашэсця смаленскі князь Мсціслаў (у хрышчэнні Фёдар) Мсціслававіч выкарыстоўваў пячатку з коннай выявай св. Фёдара Цірона, які трымаў дзіду і шасціканцовы крыж, а суздальскі князь Усевалад Вялікае Гняздо (на хрысціянскі лад — Дзмітрый Георгіевіч) — пячатку з выявамі пешага св. Дзмітрыя і коннага св. Георгія. Яго ўнук Аляксандр Неўскі меў пячатку з выявай конніка ў княжацкай шапцы з мячом (напэўна, выява самога Аляксандра), на адвароце — св. Фёдара, які забівае цмока, а сыны Аляксандра — аж тры варыянты коннай выявы.

**Мал. 1. Пячатка князя Аляксандра Неўскага**



Пазней выява св. Георгія з дзідай дала пачатак дзяржаўнай эмблеме Маскоўскага княства, а выява конніка з сокалам на руцэ, упершыню ўжытая Дзмітрыем і Андрэем Аляксандравічамі, у далейшым ужывалася як родавы сімвал нашчадкаў Аляксандра Неўскага.

У XII—XIII стст. выявы коннікаў знаходзіліся на пячатках польскіх князёў Мешкі Старога (са шчытом і сцягам), Конрада Мазавецкага і яго сына Баляслава (з вертыкальна ўзнятай дзідай), другога сына Конрада — Казіміра (са шчытом і сцягам), Пшамыслава Велікапольскага (са шчытом і мячом у адведзенай назад руцэ) і многіх іншых: чэшскіх каралёў Пшамыслава Отакара і Вацлава II (са шчытом і дзідай).

Такімі пячаткамі карысталіся ў XIII ст. і некаторыя польскія паны — напрыклад, войніцкі кашталян Суд Дабяслававіч (без шчыта, з мячом у адведзенай назад руцэ) і сандамірскі ваявода Пакаслаў (амаль такая ж выява).

Няма ў гэты час толькі ніводнага прыкладу таго, што выявы коннікаў выкарыстоўваліся на тэрыторыі Беларусі і Літвы, хаця наўкол яны, як бачым, былі вельмі папулярныя. Такія прыклады з'яўляюцца крыху пазней, у першай палове XIV ст. У Віленскім дзяржаўным музеі захоўваецца пячатка з выявай конніка са шчытом і дзідай наперавес, якая належала Гедыміну.

**Мал. 2. Пячаткі польскіх князёў XIII ст.**



**Мал. 3. Пячатка Гедыміна**



У Польшчы гэтая традыцыя была не менш багатай і ўстойлівай, чым на Русі. Калі б мы зірнулі далей на захад, то знайшлі б немалую колькасць такіх жа выяў на пячатках Германіі, Францыі і іншых краін. Звычайна коннік паказаны на іх з дзідай, сцягам альбо мячом у руцэ, прычым можа быць накіраваным як управа, так і ўлева.

Калі ён трымае меч, то, як правіла, у стэрэатыпнай позе: рука з мячом адведзена назад, крыху сагнута ў локці, а вастрыё мяча накіравана ўгору з нахілам уперад. У такой позе мы бачым яго, напрыклад, на пячатках Аляксандра Неўскага, Суда Дабяслававіча, Ягайлы (прычым ва ўсіх гэтых выпадках коннік накіраваны ўправа ад гледача і не мае шчыта).

**Мал. 4. Пячаткі англійскіх арыстакратаў XII ст.**



Тым часам якраз у XII—XIV стст. адбываецца канчатковае афармленне геральдычнай навукі з пэўнымі канонамі і патрабаваннямі да герба, якія ператварылі яго ў больш строгую і фармалізаваную з'яву, чым просты рысунак на пячатцы. Гербавая выява павінна была змяшчацца на шчыце пэўнай формы, з выкарыстаннем стандартнага набору колераў, мець пэўную арыенціроўку (у прыватнасці, выявы жывых істот, як правіла, змяшчаліся павернутымі ў правы бок з пункту гледжання таго, хто трымае шчыт, гэта значыць — улева ад таго, хто глядзіць). Большасць жа ўпамянутых вышэй пячатак нельга лічыць гербавымі ў строгім сэнсе.

З канца XIII ст. польскія пячаткі пачынаюць афармляцца паводле правілаў заходнееўрапейскай геральдыкі (выява змяшчаецца на гербавым шчыце альбо коннік трымае шчыт з гербавай выявай).

**Мал. 5. Пячатка польскага караля Уладзіслава I Лакатка з дзяржаўным гербам на шчыце і гуньцы**



На пячатках рускіх князёў гэты заходні ўплыў зусім не адчуваецца. У адносінах да сімволікі ВКЛ рашучы зварот у бок геральдычных канонаў адбыўся ў сярэдзіне 80-х гг. XIV ст. і быў, на нашу думку, цесна звязаны з ажыццяўленнем дынастычнай уніі паміж ВКЛ і Польшчай. Збіраючыся аб'яднаць пад сваёй уладай дзве дзяржавы, Ягайла павінен быў адчуць неабходнасць у сімвале, які б адлюстроўваў новы стан рэчаў. У Польшчы на той час мелася ўжо амаль стогадовая традыцыя выкарыстання геральдычных выяў, склаўся не толькі агульнадзяржаўны сімвал (белы арол на чырвоным шчыце), але і гербы асобных ваяводстваў. За асобай нявесты Ягайлы, польскай каралевы Ядвігі, стаяла яшчэ больш магутная геральдычная традыцыя, бо Ядвіга належала да Анжуйскай дынастыі, якая паходзіла з Францыі — радзімы геральдыкі. На гэтым фоне адсутнасць агульнапрызнанага дзяржаўнага сімвала ВКЛ вельмі кідалася ў вочы.

На той момант прадстаўнікі пануючай дынастыі Гедымінавічаў выкарыстоўвалі самыя розныя эмблемы. Сам Ягайла, нагадаем, меў на пячатцы конніка, звернутага ў левы (геральдычна) бок і з мячом у адведзенай руцэ. Яго малодшы брат Лугвень-Сямён выкарыстоўваў выяву накшталт літары «Ф» без ножкі, другі брат — Скіргайла — накшталт літары Х, трэці — Дзмітрый-Карыбут — накшталт ляжачай на баку васьмёркі

**Мал. 6. Пячаткі Ягайлы, Вітаўта, Сямёна Альгердавіча непасрэдна пасля Крэўскай уніі**



з крыжам уверсе, адзінакроўны брат Уладзімір Кіеўскі — складаную выяву з крыжам у цэнтры (так званую «каплічку»). Стрыечны брат Ягайлы Вітаўт карыстаўся амаль без змен пячаткай свайго бацькі Кейстута (пешы воін з мячом і шчытом). Але з моманту Крэўскай уніі 1385 г. амаль усе яны, а таксама іншыя Гедымінавічы змяшчаюць на пячатцы (ці, прынамсі, на адной са сваіх пячатак) конную выяву — часам такую, як на пячатцы Ягайлы, часам — у іншых варыянтах. Якраз з гэтага моманту можна казаць пра тое, што выява конніка стала агульным сімвалам пануючай дынастыі і адначасова падуладнай ёй дзяржавы (што ў тагачасных уяўленнях было практычна тое самае).

Аднак, як ужо адзначалася, выява на пячатцы Ягайлы не зусім адпавядала геральдычным канонам. І вось у 1386 г., амаль адразу пасля уніі, з'яўляецца дзяржаўная пячатка Ягайлы, які ўжо быў каралём Польшчы. Яна цалкам вытрымана ў геральдычным стылі: анёл трымае гербавы шчыт, падзелены на чатыры часткі, у першай, самай ганаровай — выява польскага арла, у трэцяй і чацвёртай — гербы найбольш значных польскіх ваяводстваў. А вось у другой па значнасці частцы мы ўпершыню бачым узброенага конніка, звернутага ў правы бок, але не з мячом, а з дзідай наперавес. Затое ў левай руцэ ён трымае шчыт з шасціканцовым крыжам.

**Мал. 7. Вялікая тронная пячатка Уладзіслава Ягайлы (выраблена ў 1388 г.)**



Хутка затым, у 1388 г., ствараецца вялікая тронная пячатка Ягайлы. На ёй адлюстраваны сам кароль на троне, з дзяржавай і скіпетрам, а наўкол яго — гербы польскіх ваяводстваў. На самым ганаровым месцы, справа ўверсе — польскі арол. А вось на другім па значнасці месцы, злева ўверсе, мы зноў сустракаем выяву конніка, але ўжо з мячом, прычым ён упершыню трымае меч не вастрыём угару, а над галавой, занесеным для ўдару. У левай руцэ яго мы бачым шчыт з шасціканцовым крыжам, а пад капытамі каня — крылатага цмока.

Відавочна, што перад намі — спробы стварэння дзяржаўнага сімвала ВКЛ як адной з частак уладанняў Ягайлы. Працэс яшчэ не скончаны, і таму выява конніка, у адрозненне ад іншых гербаў, ад пячаткі да пячаткі перажывае змены. І толькі на малой пячатцы, выробленай у 1405 г., у другім і трэцім палях шчыта з чатырох частак мы бачым «Пагоню» ў тым выглядзе, які пазней стаў класічным: з занесеным мячом, але ўжо без цмока пад капытамі. У такім жа выглядзе яна трапляе на другі варыянт сярэдняй дзяржаўнай пячаткі (1416 г.), прычым над чатырохчастковым шчытом замест анёла змешчаны маленькі шчыт з шасціканцовым крыжам.

**Мал. 8. Малая тронная пячатка Уладзіслава Ягайлы (выраблена ў 1416 г.)**



Такім чынам, гэтаму крыжу надаецца статус асабістага герба Ягайлы. На адной з манет, якая чаканілася ў Польшчы пры Ягайле, на адным баку адбіты арол, на адваротным — шчыт з шасціканцовым крыжам.

Пра паходжанне гэтага крыжа (так званага патрыяршага) выказваліся вельмі супярэчлівыя думкі. Увогуле ён мае адназначна хрысціянскае (візантыйскае) паходжанне, таму трактоўку яго як сімвала паганскага бога Ярылы трэба прызнаць не толькі бяздоказнай, але і немагчымай па сутнасці. З Візантыі ў IX ст. шасціканцовы крыж быў запазычаны каралём франкаў Лотарам і пазней выкарыстоўваўся ў Францыі пад назвай «латарынгскага» крыжа. У XI ст. таксама з Візантыі ён трапляе на Русь і ў Венгрыю. На Русі яго шырока выкарыстоўвалі на пячатках (у тым ліку некаторых княжацкіх — успомнім выяву св. Фёдара Цірона на пячатцы князя Мсціслава), у іншых узорах іканаграфіі. Шырока вядомы выявы гэтага крыжа на Барысавых камянях, а таксама крыж Ефрасінні Полацкай, які паўтарае яго форму. Практычна ўсе выпадкі выкарыстання крыжа звязаны з рэлігійнай тэматыкай.

Што да Венгрыі, то туды крыж трапіў дзякуючы шлюбным сувязям пануючай дынастыі Арпадаў з візантыйскім імператарскім домам. Ён стаў фактычна дзяржаўным сімвалам Венгрыі, выкарыстоўваўся на пячатках і манетах. Бацька будучай нявесты Ягайлы, Людовік Анжуйскі, у якасці караля Венгрыі прымяняў двухчасткавы герб, дзе ў першым полі змешчаны герб Анжу (чаргаванне чырвоных і сярэбраных палос), а ў другім (чырвоным) — залаты патрыяршы крыж, які вянчаў карону на зялёным узгорку. Гэты герб сёння застаецца дзяржаўным гербам Венгрыі, а іншая выява шасціканцовага крыжа — гербам Славакіі, якая пры Арпадах і Анжу была часткай Венгерскага каралеўства.

**Мал. 9. Герб ВКЛ з «Бергсхамерскага кодэкса»**



Калі ўлічваць, што афармленне герба ВКЛ паводле геральдычных канонаў адбывалася ў кантэксце шлюбу Ягайлы з Ядвігай Анжуйскай, то найбольш важкай здаецца версія аб венгерскім паходжанні крыжа на шчыце конніка «Пагоні». Магчыма, крыж першапачаткова меў той жа сэнс, што і цмок пад капытамі — сімвалізаваў перамогу над язычніцтвам у Літве. Гэта пацвярджаецца тым, што да свайго хрышчэння ў 1385 г. Ягайла ніколі не выкарыстоўваў гэты знак, а пазней ператварыў яго ў свой асабісты герб.

Ягайла захоўваў суверэнітэт над ВКЛ да сваёй смерці ў 1434 г., але фактычную велікакняжацкую ўладу ў Літве ў 1392 г. вымушаны быў перадаць Вітаўту. Апошні ў гэты час карыстаўся некалькімі варыянтамі пячатак, прычым практычна на ўсіх прысутнічала выява конніка. Але ёсць сярод іх варыянт, які выкарыстоўваўся з 1397 па 1419 гг. На ім можна ўбачыць амаль усе прыкметы класічнай «Пагоні».

Вітаўт таксама выпускаў манеты некалькіх тыпаў, але толькі на адной з іх змешчаны коннік (такі, як на першай пячатцы Ягайлы). Затое амаль на ўсіх манетах прысутнічае знак, пазней вядомы пад назвай «Калюмны», які ў легендзе пра нашчадкаў Палямона абвяшчаецца родавым гербам літоўскай пануючай дынастыі.

Пры Вітаўце знак «Калюмны» набывае распаўсюджанне. Польскі гісторык Ян

Длугаш (пісаў у другой палове XV ст.) пры апісанні Грунвальдскай бітвы 1410 г. паведамляе, што частка харугваў ВКЛ мела на сцягах выявы ўзброенага конніка на чырвоным полі, а частка — «Калюмны».

Вітаўта на пасадзе вялікага князя змяніў брат Ягайлы Свідрыгайла. Да часу яго кароткага панавання (1430—1432) частка даследчыкаў адносіць выпуск літоўскай манеты, на якой з аднаго боку адбіты коннік з мячом, з другога — патрыяршы крыж на шчыце, як на польскай манеце Ягайлы.

З 1434 па 1440 г. вялікім князем быў брат Вітаўта Жыгімонт. Прыкладна ў гэты час літоўскія геральдычныя матэрыялы трапілі да заходнееўрапейскіх геральдыстаў і былі ўключаны ў шведскі гербоўнік «Бергсхамерскі кодэкс». У ім можна ўбачыць сярэбранага конніка на чырвоным полі з узнятым над галавой мячом. Ад класічнай «Пагоні» яго адрознівае шчыт на руцэ конніка — чырвоны з залатой выявай «Калюмнаў».

Побач асобна змешчаны і шчыт, які ўжываў Ягайла — блакітны з залатым шасціканцовым крыжам. На іншым аркушы гербоўніка намаляваны коннік з мячом, на шчыце якога — контур двухпрыступкавай піраміды, вельмі падобны да «Калюмнаў». Аналагічныя гербы змешчаны і ў брусельскім гербоўніку «Гімніх» (таксама XV ст.).

Каралём Польшчы пасля Ягайлы стаў яго старэйшы сын Уладзіслаў. Ён карыстаўся прыкладна такімі ж пячаткамі, як і яго бацька, і на большасці з іх на адпаведным месцы мы бачым класічную «Пагоню» з шасціканцовым крыжам. На вялікай троннай пячатцы 1438 г. з'яўляецца мадыфікацыя: вершнік ператвараецца ў крылатага анёла (пры гатым шчыт з крыжам на яго руцэ захоўваецца), а пад капытамі каня зноў паказаны цмок. Уладзіслаў унаследаваў і карону Венгрыі, у сувязі з чым у 1440 г. ствараецца «зборная» пячатка з чатырохчасткавым шчытом, дзе ў першым полі — герб Анжу, у другім — польскі арол, у трэцім — звычайная «Пагоня» (без крылаў і цмока), у чацвёртым — венгерскі шасціканцовы крыж Арпадаў.

У тым жа годзе малодшы брат Уладзіслава Казімір стаў вялікім князем літоўскім, а ў 1444 г. — і каралём Польшчы. На ўсіх яго пячатках мы бачым аднолькавую, класічную выяву «Пагоні». «Калюмны» на шчыт конніка больш ніколі не вяртаюцца, а пры Казіміру, здаецца, увогуле не ўжываюцца ў афіцыйнай сімволіцы.

Сёння, звяртаючыся да гістарычных фактаў, мы можам убачыць, што герб «Пагоня» ў сваім класічным выглядзе ўзнік на мяжы XIV—XV стагоддзяў, што было адной з праяў інтэграцыі ВКЛ у арбіту заходнееўрапейскай цывілізацыі. Хутчэй за ўсё, ён быў мэтанакіравана створаны кіруючымі коламі дзяржавы — з выкарыстаннем «блукаючага» матыву ўзброенага конніка, але ў цэлым як якасна новае ўтварэнне. На мове геральдыкі яго своеасаблівасць вызначаецца чырвоным колерам гербавага шчыта, сярэбранай выявай конніка ў характэрнай позе (звернутага ўправа, з узнятым над галавой мячом), малым шчытом з шасціканцовым крыжам на яго руцэ. З сярэдзіны XV ст. гэты комплекс прыкмет амаль няўхільна вытрымліваўся на ўсіх выявах, якія ў іншых дэталях (форма асноўнага шчыта, мяча і шлема, наяўнасць гунькі пад сядлом і плюмажа на шлеме, колер малога шчыта) маглі стылістычна адрозніваца паміж сабой.

«Пагоня» стваралася адразу як агульны сімвал шматэтнічнай дзяржавы. Таму, на нашу думку, шукаць этнічны змест гэтага знака бессэнсоўна: ён узнік як палітычны сімвал, такім і заставаўся на працягу сваёй доўгай гісторыі, а сёння ўвасабляе суверэнітэт дзвюх новых незалежных дзяржаў і іх гістарычную сувязь з Вялікім Княствам Літоўскім, на тэрыторыі якога яны ўзніклі. На мове знакаў ён нагадвае аб тым, што на працягу некалькіх стагоддзяў гісторыя Беларусі разгортвалася ў рэчышчы, зарыентаваным пераважна на захад і асобным ад гісторыі Расіі. Гэтае значэнне сімвала выдатна ўсведамляецца ўсімі — калі не на свядомым, то на падсвядомым узроўні. Менавіта яно вызначае сёння эмацыянальнае ўспрыняцце «Пагоні» — станоўчае ці негатыўнае — у залежнасці ад таго, як чалавек ацэньвае сам гаты факт існавання ў мінулым двух асобных гістарычных рэчышчаў.

*Друкуецца паводле:*
Чырвоная змена. 28 сакавіка 1995. № 33 (13891).

# Гэты сцяг пачынаўся так...

Гарачыя спрэчкі, якія вядуцца вакол дзяржаўных сімвалаў, стануць больш зразумелымі, калі ўлічыць, што сімволіка ўздзейнічае не столькі на рацыянальную, колькі на эмацыянальную сферу чалавечай псіхікі. Сімвал — гэта знак, які выклікае ў нашай падсвядомасці цэлы шлейф пачуццяў і асацыяцый, звязаных з аб'ектам, які ён сімвалізуе.

Герб і сцяг сімвалізуюць дзяржаву. Такім чынам, у адносінах да дзяржаўнай сімволікі ў шматразова ўзмоцненым выглядзе праяўляюцца сённяшнія адносіны да самой гэтай дзяржавы. Таму малаэфектыўнымі часта аказваюцца апеляцыі да гісторыі. Калі ў мінулым не знаходзіцца фактаў, сугучных патрэбе дня, на іх месца прыходзяць адпаведныя міфы, і ім вераць куды больш ахвотна. Але недаацэньваць ролю гістарычных ведаў таксама не трэба. Веданне бясспрэчна ўстаноўленых фактаў звужае прастору для міфатворчасці, а таму міфалагічныя пабудовы супрацьстаячых бакоў збліжаюцца паміж сабой. Такім чынам павялічваюцца шанцы на ўзаемапаразуменне.

Сёння збліжэнню пазіцый вельмі перашкаджаюць некалькі шырока распаўсюджаных міфаў, створаных як прыхільнікамі новай беларускай сімволікі, так і яе праціўнікамі. Адзін з гэтых міфаў тычыцца глыбокай гістарычнай даўніны бела-чырвона-белага сцяга, пад якім нібыта нашы продкі змагаліся на палях Грунвальда і ў бітве пад Оршай. Менавіта эмацыянальная зараджанасць спрыяе таму, што ў гэта так лёгка верацц, хаця перад намі — яўны анахранізм, бо ні нацыянальнага, ні нават проста дзяржаўнага ў сучасным разуменні сцяга ў XV—XVI стагоддзях яшчэ не існавала і не магло існаваць.

Здаўна кожны князь, кожны аддзел шляхецкага апалчэння меў свой уласны сцяг (дакладней — штандар), які выступаў як яго апазнавальны знак на полі бою і ў час урачыстасцей. Ён мог мацавацца да дрэўка збоку, як звычайны сцяг, альбо да гарызантальнай перакладзіны, звісаючы з яе долу. У такім выпадку ён называўся «харугвай», але часам тэрміны не вызначаліся строга, таму і прымацаваныя збоку да дрэўка штандары называлі «харугвамі». Гэтак жа звалася і вайсковая адзінка, якая мела ўласны штандар. Ён, як правіла, быў аднаколерным з нейкай сімвалічнай выявай. Ян Длугаш падрабязна апісвае харугвы польскіх і крыжацкіх вайсковых аддзелаў падчас Грунвальдскай бітвы, пра харугвы ж ВКЛ сціслa паведамляе, што частка штандараў мела выяву ўзброенага конніка, частка — выяву «Калюмнаў». Ні пра якія трохпалосныя сцягі ён, як і іншыя тагачасныя крыніцы, не піша.

На штандарах былі пашыраны рэлігійныя сюжэты, у прыватнасці крыж св. Юрыя (георгіеўскі крыж), які ў класічным выглядзе ўяўляў сабой просты чырвоны крыж на белым палотнішчы. Ёсць звесткі, што такі штандар выкарыстоўваў вялікі князь Вітаўт. Увогуле, гэты крыж меў вялікае пашырэнне. З другой паловы XIII ст. ён ужываўся на галоўным штандары Англіі, а з сярэдзіны XIV ст. у інверсным выглядзе (белы крыж на чырвоным полі) — на штандары Даніі. Нягледзячы на спалучэнне белага і чырвонага колераў, шукаць у ім нейкі нацыянальны змест не варта.

Ад XVI ст. засталіся апісанні ваяводскіх і павятовых штандараў ВКЛ, створаных у сувязі з адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформай 1565 г. Усе яны мелі на адным баку выяву «Пагоні», на другім (у некаторых) — дадатковыя выявы. У кожнага ваяводства быў свой колер, але пераважалі адценні чырвонага, якія ў датаваным 1565 г. дакуменце Метрыкі ВКЛ названы «чырвоным» (Віленскае ваяводства), «брунатным» (Валынскае), «сікаражым» (Полацкае), «пялістым» (Навагародскае) і «гваздзіковым» (Менскае). А. Гваньіні ў 1578 г. называе ўсе вышэйзгаданыя штандары проста чырвонымі. Апрача таго, Жамойцкае староства мела белы штандар, Віцебскае і Кіеўскае ваяводствы — зялёныя розных адценняў, Берасцейскае і Троцкае — блакітныя, Мсціслаўскае — жоўты (у Гваньіні — «памяранцавы», аранжавы).

Гваньіні апісвае таксама галоўны штандар ВКЛ і штандар найвышэйшага гетмана. Першы з іх быў чырвонага колеру, з выявай «Пагоні» на адным баку, Панны Марыі з дзіцём на руках — на другім. Гетманскі штандар, блакітны, меў, апрача «Пагоні», на адваротным баку абраз св. Станіслава. Такі выгляд штандараў захаваўся да канца існавання ВКЛ, што бачна з іх апісання ў гербоўніку К. Нясецкага XVIII ст. Некаторыя з іх у канцы таго ж стагоддзя прыгадваюцца рускімі чыноўнікамі пры апісанні новадалучаных да Расіі земель ВКЛ. Асобныя штандары захаваліся ў музеях па сённяшні дзень.

Сцягі ўжываліся і ў якасці апазнавальных знакаў, часта — малых сцяжкоў («флюгераў») на дзідах коннікаў. Менавіта такія сцяжкі з крыжам св. Юрыя паказаны на вядомай карціне «Бітва пад Оршай», прычым, цяжка сказаць, належалі яны беларуска-літоўскім ці польскім коннікам. Улічваючы, што побач на карціне можна ўбачыць чырвоны польскі штандар з белым арлом, больш верагоднай здаецца польская прыналежнасць і сцяжкоў на дзідах. Бясспрэчна, што на працягу доўгай гісторыі ВКЛ ужываліся і іншыя разнастайныя варыянты сцягоў і сцяжкоў, але няма надзейных фактаў аб тым, што сярод іх былі трохпалосныя бела-чырвона-белыя.

Увогуле ўяўленне аб тым, што кожная дзяржава павінна мець свой сцяг, на працягу XVI—XVIII стст. толькі павольна выспявала. Так, на сцягах Швецыі з XVI ст. (пры дынастыі Вазаў) пачынае ўжывацца элемент дзяржаўнага герба — залаты крыж на блакітным полі. Прадстаўнікі гэтай жа дынастыі ў канцы XVI — першай палове XVII ст. былі і каралямі Рэчы Паспалітай. У такой якасці яны выкарыстоўвалі на сцягах колеры польскага герба — чырвоны і белы. Нагадаем, што такія ж колеры былі і на гербе ВКЛ. У сувязі з гэтым уяўляе цікавасць адзін са сцягоў, які ўжываўся пры Уладзіславе IV — з чаргаваннем дзвюх белых і дзвюх чырвоных палос. Як лічаць некаторыя, у ім адлюстраваліся не толькі польскія гербавыя колеры, але і колеры ВКЛ. Пасля згасання дынастыі Вазаў гэтая традыцыя, аднак, не атрымала працягу.

Выкарыстанне гербавых колераў на розных апазнавальных сцяжках ці карабельных сцягах было даволі пашыраным у Еўропе. Але паколькі дзяржава ў першую чаргу атаясамлівалася з пануючай дынастыяй, часта за ўзор браліся дынастычныя колеры. Так, на сцягах Галандыі з канца XVI ст. выкарыстоўваліся гербавыя колеры яе ўладара прынца Аранскага: аранжавы (пазней — чырвоны), белы і сіні. На сцягах Аўстра-Венгерскай імперыі выкарыстоўваліся гербавыя колеры Бабенбергаў (чырвона-бела-чырвоны), у Прусіі — колеры Гогенцолернаў (белы і чорны).

Масавае стварэнне афіцыйных сцягоў еўрапейскіх краін прыпадае на канец XVIII — пачатак XIX ст. Гэта звязана з пераменамі ў грамадскай свядомасці пасля Вялікай французскай рэвалюцыі, калі дзяржава пачала ўспрымацца як насельніцтва пэўнай тэрыторыі, а не як пануючая дынастыя. Тады з'явіліся французскі, бельгійскі, ламбардскі (пазнейшы італьянскі), іспанскі, нарвежскі, амерыканскі сцягі. Тады ж крышталізуецца і сама ідэя сцяга ў сучасным сэнсе, як увасабленне дзяржаўнай незалежнасці. У XIX ст. адным з атрыбутаў любога нацыянальна-вызваленчага руху абавязкова становіцца сцяг: так было ў час антытурэцкага паўстання ў Грэцыі ў 1821 г. і ў час антырасійскага паўстання ў Польшчы ў 1830—1831 гг. Менавіта тады канчаткова склаўся выгляд польскага сцяга (на падставе гістарычных гербавых колераў).

Паколькі далёка не ўсе еўрапейскія нацыі ў XIX ст. мелі сваю дзяржаўнасць, тады ж узнікае і паняцце нацыянальнага сцяга як сцяга нацыі, якая на такую дзяржаўнасць прэтэндуе. Такую ролю выконваў, у прыватнасці, бела-чырвоны польскі сцяг ці эстонскі сіне-чорна-белы, які ўзнік у 1881 г. Другая хваля масавага з'яўлення дзяржаўных сцягоў прыпадае на час пасля Першай сусветнай вайны, калі з'явіўся цэлы шэраг новых незалежных краін. Тады ў якасці дзяржаўных былі зацверджаны польскі, эстонскі, сучасны германскі (неафіцыйна існаваў з 1832 г.), нанова ўтвораны літоўскі, югаслаўскі і іншыя сцягі.

На гэтым фоне відавочна, што шукаць вытокі нацыянальнага беларускага сцяга варта не раней, чым афармілася беларуская нацыянальная ідэя. У сярэдзіне XIX ст. да гэтай ідэі толькі прыходзілі асобныя прадстаўнікі інтэлігенцыі. Нават сам факт

існавання беларускага народа не стаў яшчэ агульнапрынятым, а аб нацыянальнай беларускай дзяржаве і ўвогуле размова не ішла. Таму ні падчас паўстання 1830—1831 гг., ні падчас паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага (1863—1864 гг.) мы, насуперак распаўсюджанай думцы, не сустрэнем ніводнага выпадку выкарыстання бела-чырвона-белага сцяга. Паўстанцы тады змагаліся альбо за аднаўленне адзінай Рэчы Паспалітай, альбо за аднаўленне ВКЛ у федэрацыі з Польшчай, таму і выкарыстоўвалі яны альбо польскую сімволіку, альбо сімволіку ВКЛ (выяву «Пагоні»). Час змагання за дзяржаву беларусаў яшчэ не настаў, як не настаў і час беларускага сцяга.

Перыяд крышталізацыі беларускай нацыянальнай ідэі прыпадае на канец XIX — пачатак XX ст. Уголас загучала яна пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г., калі многія народы былой Расійскай імперыі абвясцілі свае права на самавызначэнне. Тады і беларусы загаварылі аб самастойнасці — пакуль у форме нацыянальнай аўтаноміі. 25—27 сакавіка ў Мінску адбыўся з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый, які сфарміраваў Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) і даручыў яму распрацаваць у кантакце з Часовым урадам пытанні аўтаноміі Беларусі.

У гэтым кантэксце натуральным выглядае з’яўленне сцяга як увасабленне ідэі беларускай дзяржаўнасці. На жаль, сам момант яго стварэння дакументамі не зафіксаваны. Аб ім гавораць толькі ўспаміны ўдзельнікаў, часта запісаныя праз некалькі дзесяцігоддзяў і таму не абавязкова дакладныя. Так, адзін з дзеячаў нацыянальнага руху К. Дуж-Душэўскі ў сваіх мемуарах у 1930-я гады прыгадваў, што, калі паўстала пытанне аб стварэнні сцяга, ён зрабіў некалькі варыянтаў, з якіх быў прыняты бела-чырвона-белы. Дуж-Душэўскі не прыводзіць дакладную дату, але, паводле кантэксту, размова ідзе аб 1917 г.

Ва ўспамінаіх шэрага дзеячаў нацыянальнага руху прыгадваецца, што пры адкрыцці з’езда 25 сакавіка быў вывешаны белы сцяг, які павінен быў сімвалізаваць Белую Русь, але ён адразу выклікаў пярэчанні дэлегатаў. Тады на пасяджэнні наваствоанага БНК было разгледжана пытанне аб сімволіцы. У сакавіку 1917 г. некаторыя мясцовыя Саветы ў Беларусі пачалі стыхійна выкарыстоўваць на пячатках выяву «Пагоні». БНК вырашыў зацвердзіць гэтую практыку і лічыць старажытны герб ВКЛ нацыянальнай беларускай эмблемай. Што тычыцца сцяга, то рашаючым аргументам на карысць бела-чырвона-белага спалучэння паслужылі не гербавыя колеры «Пагоні», як часам сцвярджаюць, а тыповасць такой каляровай гамы для беларускага нацыянальнага адзення. Магчыма, тады быў зацверджаны якраз адзін з распрацаваных К. Дуж-Душэўскім варыянтаў. Адразу ж было вырашана пашыць новыя сцягі і разаслаць ва ўсе мясцовыя беларускія арганізацыі. Р. Астроўскі сведчыў, што ён асабіста ў маі 1917 г. атрымаў такі сцяг у Слуцку, дзе тады працаваў. На бела-чырвона-белым палотнішчы залатымі літарамі было вышыта: «Няхай жыве вольная Беларусь».

Адзначым, што ў некаторых успамінах (напрыклад, Я. Сушынскага) сцвярджаецца, што бела-чырвона-белае спалучэнне выкарыстоўвалася студэнцкімі гурткамі і нацыянальнымі арганізацыямі яшчэ да Лютаўскай рэвалюцыі. Дакументамі гэта не пацвярджаецца, таму не выключана, што адбылося наслаенне пазнейшых успамінаў на больш раннія.

Што да 1917 г., то факты выкарыстання беларускага сцяга зафіксаваны ў шэрагу тагачасных газетных публікацый. Існавалі розныя варыянты сцяга: чысты трохпалосны, з нашытымі паверх лозунгамі, а таксама з выявай «Пагоні» на адным баку ў промнях узыходзячага сонца. Выкарыстоўваўся сцяг з усімі сваімі варыянтамі на працягу 1917 г. побач з чырвоным рэвалюцыйным, але не шырэй, чым была пашырана на той момант беларуская нацыянальная ідэя. Яна ж была яшчэ вельмі кволай, не паспела пранікнуць у шырокія народныя масы. Аб гэтым выразна сведчаць вынікі першых (і на доўгія дзесяцігоддзі — адзіных) свабодных выбараў у гісторыі Беларусі — выбараў ва Устаноўчы сход у лістападзе 1917 г. Пераважная большасць беларускіх выбаршчыкаў прагаласавала за агульнарасійскія рэвалюцыйныя партыі — бальшавікоў і эсэраў, мясцовыя ж нацыянальныя партыі атрымалі менш чым 1 працэнт галасоў.

Тым не менш Усебеларускі з'езд, які адкрыўся ў Мінску 7 снежня 1917 г., меў даволі шырокі грамадскі рэзананс. Пра яго пісалі амаль усе мясцовыя газеты, адзначаючы наяўнасць беларускіх сцягоў. Шмат увагі ўдзялялі яны і інцыдэнту, што адбыўся на з'ездзе: адзін з гасцей, бальшавік-латыш, у сваім выступленні дапусціў рэзкі выпад супраць сцяга, што выклікала выбух абурэння ў зале. Сутнасць выпаду трактуецца па-рознаму. У некаторых газетах і ўспамінах сцвярджаецца, што бальшавік параіў беларусам выкінуць іх сцяг. Але, напрыклад, у «Аршанскім весніку» за 14 снежня 1917 г. прыводзяцца такія словы прамоўцы: «Кіньце наш сцяг». У сувязі з гэтым варта прыгадаць, што адначасова з беларускім адбывалася афармленне і латышскага нацыянальнага сцяга. Прапаноўваліся розныя варыянты. У 1915 г. мастак Я. Гросвалдс зрабіў эскіз бела-чырвона-белага сцяга, які павінны былі ўзняць латышскія стралкі ў выпадку вызвалення ад немцаў Мітавы. Магчыма, менавіта гэты факт і меў на ўвазе латышскі бальшавік.

У Латвіі, аднак, ужо ў маі 1917 г. канчаткова спынілі выбар на чырвона-бела-чырвоным палотнішчы. Дарэчы, у суседняй Літве выбар сцяга таксама ішоў складана. Пасля абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці на пачатку 1918 г. ва ўжытку засталіся два варыянты: гістарычны, які аднаўляў выгляд штандара ВКЛ (белая «Пагоня» на чырвоным палотнішчы), і настворaны — жоўта-зялёна-чырвоны. Першы з іх быў абвешчаны дзяржаўным штандарам, другі — нацыянальным сцягам. Гербам Літоўскай Рэспублікі, як і на Беларусі, быў абраны герб ВКЛ, што цалкам зразумела — у гэтай дзяржаве і беларускія, і літоўскія нацыянальныя дзеячы не без падстаў бачылі агульную калыску сваіх народаў.

Агульнапрызнана, што пасля абвяшчэння БНР і яе незалежнасці ад Расіі ў 1918 г. у якасці дзяржаўных сімвалаў выкарыстоўваліся «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг. Нарматыўны варыянт сцяга быў зацверджаны Сакратарыятам БНР і апублікаваны ў газеце «Вольная Беларусь» 11 жніўня 1918 г. Але яму быў наканаваны цяжкі лёс.

Ёсць сведчанні, што нацыянальны сцяг быў вывешаны на будынку, дзе змяшчаўся Народны Сакратарыят, ужо 19 лютага 1918 г., пасля эвакуацыі бальшавікоў з Мінска, аднак немцы, як толькі ўступілі ў горад, адразу ж сарвалі яго. Увогуле ні Германія, ні краіны Антанты ў сваіх планах пасляваеннага ўладкавання Еўропы не бачылі месца для незалежнай беларускай дзяржавы. Таму, а таксама з-за нізкай нацыянальнай свядомасці народных мас ход гісторыі на Беларусі пайшоў іншым шляхам, чым у суменжых Польшчы, Літве і Латвіі. Там настворaныя дзяржавы і іх сімволіка атрымалі міжнароднае прызнанне і сёння не выклікаюць пярэчанняў. Дзяржаўныя сімвалы Беларусі, што з'явіліся адначасова і аднолькавым чынам з латвійскімі і літоўскімі, засталіся ў карыстанні толькі эміграцкіх урадаў, з якімі ніхто асабліва не лічыўся.

Цікава, што і ў БССР у час кароткай «беларусізацыі» 1920-х гадоў была зроблена спроба афіцыйна прызнаць нацыянальнае спалучэнне колераў. Пры стварэнні ў 1927 г. новага герба БССР, які ў цэлым паўтараў асноўныя рысы герба СССР, стужка на вянку была зроблена бела-чырвона-белай. Праект прайшоў даволі высокія інстанцыі і быў зменены толькі Прэзідыумам ЦВК, які пастанавіў зрабіць стужку чырвонай. Думаецца, што калі б нейкім цудам «крамольная» стужка ўсё ж трапіла на герб, сённяшнія адносіны да сцяга былі б крыху лепшымі.

Аднак адбылося іншае, супрацьлеглае па выніках: нацыянальная сімволіка, якую так і не прызналі камуністы, была дазволена да выкарыстання на акупіраванай гітлераўцамі тэрыторыі Беларусі. Праўда, і тут трэба аддзяліць факты ад міфаў. Тое, што сімволіка выкарыстоўвалася ў час акупацыі, пацвярджаецца шматлікімі фота- і кінадакументамі, публікацыямі ў тагачасным друку. Але не ўсё так проста са сцвярджэннем, нібыта немцы афіцыйна зацвердзілі яе і рэкамендавалі да ўжывання. Сапраўды, паведамленне аб гэтым з'явілася 6 верасня 1942 г. у беларускай газеце «Раніца», якая выдавалася ў Берліне. У ім пісалася, што генеральны камісар В. Кубэ 27 ліпеня 1942 г. аддаў спецыяльнае распараджэнне, якім дазволіў выкарыстоўваць «пры розных урачыстасьцях ці для пазнаньня беларускае нацыянальнасьці» бела-чырвона-белы сцяг і «Пагоню».

У былым архіве ЦК КПБ маецца мікрафільм з дакументаў рэйхсканцылярыі, вывезеных пасля вайны ў ЗША, у тым ліку і перапіска наконт беларускай сімволікі. З яе вынікае, што такая пастанова сапраўды была падрыхтавана па ініцыятыве кіраўніка Беларускай народнай самапомачы І. Ермачэнкі і нават падпісана Кубэ, але рэйхскамісарыят «Остланд» выказаў свае пярэчанні і не даў дазволу на яе публікацыю. Ермачэнка даслаў тэкст у «Раніцу» самачынна, прычым пры наступным расследаванні адмаўляў сам факт такога ўчынку.

Сапраўдныя адносіны акупацыйных улад да беларускай сімволікі былі куды больш стрыманымі, чым вынікае з нататкі ў «Раніцы». У кастрычніку 1943 г. з рэйхсміністэрства па занятых усходніх абласцях пісалі да генеральнага камісара Беларусі: «Дзяржаўны сімвал азначае дзяржаўную самастойнасць ці, прынамсі, аўтаномію. Будучыня ж Беларусі ў яе агульных рысах дагэтуль занадта неакрэсленая, каб Вам можна было казаць сёння пра ўвядзенне «дзяржаўных сімвалаў». Гэта прывяло б у беларускіх колах да надзей, якія, між тым, не могуць спраўдзіцца». Фашысты выдатна разумелі сэнс той ідэі, якую ўвасабляла сімволіка і ажыццяўленне якой не ўваходзіла ў іх намеры.

Такім чынам, беларуская сімволіка выкарыстоўвалася калабарацыяністамі не з афіцыйнага дазволу немцаў і тым больш не па ініцыятыве апошніх, а явачным парадкам, часцей за ўсё пры маўклівай згодзе асобных акупацыйных чыноўнікаў, якія (у прыватнасці — сам Кубэ) больш-менш лагодна ставіліся да планаў беларускай аўтаноміі. Дарэчы, летам 1943 г. Кубэ выступіў з менш небяспечнай ідэяй увядзення ў якасці «нацыянальнай эмблемы» беларусаў кветкі васілька на бела-чырвона-белым фоне, якая павінна была замяніць гістарычную «Пагоню». Вось гэты праект сапраўды быў нямецкай ініцыятывай. Ён доўга блукаў па інстанцыях, пакуль у лютым 1944 г. не высветлілася, што фюрэр ужо зацвердзіў знак васілька з іншым сэнсам — як эмблему «фольксдойчэ» ў войсках СС.

У такіх умовах сфера выкарыстання нацыянальнай сімволікі пры немцах была даволі абмежаванай. Перш-наперш яна выконвала дэкаратыўную функцыю ў час урачыстасцей і пры афармленні залаў пасяджэнняў (асабліва шырока — у апошнія месяцы акупацыі). Бела-чырвона-белыя апаскі на рукавах з восені 1942 г. насілі сябры Беларускай народнай самапомачы, а пазней — Саюза беларускай моладзі, створанага восенню 1943 г. Не адпавядае рэчаіснасці сцвярджэнне, што нарукаўная павязка паліцыі была бела-чырвона-белай (на самай справе — белай з чорнай літарай Р). Затое на паліцэйскай фуражцы ўзору 1941 г. сапраўды была чырвоная цэшка (кукарда) з белай «Пагоняй», а над брыльком — пераплецены бела-чырвона-белы пасак. Няма ніякіх доказаў таго, што беларускую сімволіку выкарыстоўвалі карныя спецпадраздзяленні. Сцвярджэнне, што «пад бела-чырвона-белым сцягам палілі Хатынь» — таксама прапагандысцкі міф.

Прызнаючы гэта, трэба прызнаць і іншае: не самі факты вызначаюць нашы рашэнні, а тое значэнне, якое мы ім надаём.

Гісторыя беларускай нацыянальнай ідэі працягваецца, а таму працягваецца і гісторыя сімволікі, якая яе ўвасабляе.

*Друкуецца паводле:*
Чырвоная змена. 20 красавіка 1995. № 42 (13900).

# Беларусы: станаўленне этнасу і «нацыянальная ідэя»

Ідэя гістарычнай супольнасці рускіх, украінцаў і беларусаў мае шматвяковую гісторыю. Вытокі яе караняцца ў эпосе Кіеўскай Русі, ад якой былі ўспадкаемленыя паняткі агульнай для ўсіх праваслаўных «рускай веры» і «рускай мовы». На пачатку XVII ст. усведамленне гэтай супольнасці было выразна сфармуляванае аўтарам «Рускага летапісца», што ўвайшоў пазней у склад Густынскага летапісу: «Вестно есть всем, яко сии все ... Москва, Белая Русь, Волынь, Подоля, Украина, Подгоря ... единокровны и единорастлны, се бо суть и ныне все общеединым именем Русь нарицаются»[1]. На гэтую агульную спадчыну накладаліся потым другасныя рысы падабенства, абумоўленыя доўгім суіснаваннем у рамках Расійскай імперыі і Савецкага Саюза. У савецкі час ідэя ўвасобілася ў тэзісе пра «тры брацкія народы», што бяруць свой пачатак у адзінай калысцы — Кіеўскай Русі.

На фоне гэтай відавочнай блізкасці думка пра тое, што гэтыя «братэрскія народы» тым не менш з'яўляюцца рознымі народамі, прабівала сабе шлях з вялікімі цяжкасцямі. У асяродку ўкраінскай інтэлігенцыі нацыянальная самасвядомасць зарадзілася ў сярэдзіне XIX ст. і была сфармуляваная дзеячамі Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства ў Кіеве (1846—1847 гг.), многія з якіх потым (у 1850—1860-я гг.) групаваліся вакол часопіса «Основа» ў Санкт-Пецярбургу. Там, у прыватнасці, быў надрукаваны артыкул М.І. Кастамарава «Две русские народности», назва якога гаворыць сама за сябе.

Прызнанне існавання трэцяй «рускай народнасці», беларусаў, выспявала больш марудна. У галовах мясцовай інтэлігенцыі змагаліся польская самасвядомасць і ідэалогія так званага «заходне-русізму», паводле якой беларусы былі толькі адной з этнаграфічных груп рускага народа[2]. Ідэя самастойнасці беларускага народа была ўпершыню сфармуляваная, бадай што, народніцкай групай «Гоман», якая дзейнічала сярод беларускіх студэнтаў у Пецярбургу ў 1880-я гг., прытым не без уплыву аналагічных украінскіх груп. Але яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў гэтай ідэі даводзілася даказваць свае права на жыццё. Напрыклад, аўтарытэтны мовазнаўца акадэмік І.І. Сразнеўскі ў 1887 г. сцвярджаў: «Гораздо правильнее белорусский говор считать местным говором Великорусского наречия, а не отдельным наречием»[3]. Двухтомная праца П.В. Шэйна па этнаграфіі беларусаў, надрукаваная ў 1887—1893 гг., выйшла пад не менш выразнай, чым артыкул Кастамарава, назвай: «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края».

Зрэшты, у той жа час неаднойчы выказваліся сумневы ў самастойным статусе ўкраінскага народа. Але ў цэлым няма сумневаў, што ўкраінская нацыянальная ідэя развівалася актыўней за беларускую. У 1905 г. камісія Расійскай акадэміі навук афіцыйна прызнала паўнапраўнае існаванне ўкраінскай мовы, тады як спробы замацаваць такі ж статус за беларускай мовай канчатковага афармлення так і не атрымалі[4].

І ўсё-ткі тэрмін «беларусы», хай пакуль яшчэ ў чыста этнаграфічным сэнсе, паступова трапляў у масавую свядомасць. Пры правядзенні перапісу насельніцтва 1897 г. 74 % жыхароў Паўночна-Заходняга краю вызначылі сваю родную мову як беларускую. На пачатку XX ст. пытанне пра статус беларускай мовы мела, так бы мовіць, «таксанамічны» характар: ішлі спрэчкі пра тое, прызнаваць яе самастойнай

---

[1] Полное собрание русских летописей. Т. 2. СПб., 1843. С. 236

[2] Цвікевіч А. «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Менск, 1929.

[3] Срезневский И.И. Мысли об истории русского языка и других славянских наречий. СПб., 1887. С. 36. (Цыт. паводле: Гринблат М.Я. Белорусы. Минск, 1968. С. 24.)

[4] Цвікевіч А. «Западно-руссизм». С. 316.

мовай альбо дыялектам рускай. Адпаведна вагалася думка і пра статус беларусаў як этнічнай супольнасці, але сам факт існавання такой супольнасці пад сумнеў ужо не ставіўся. Урэшце гэта прывяло да з'яўлення на руінах Расійскай імперыі беларускай дзяржаўнасці, хаця сапраўднай незалежнасці гэтая новая дзяржава (як, зрэшты, і Украіна) тады дамагчыся не здолела.

Тыя, хто сцвярджаў нацыянальную самабытнасць украінцаў і беларусаў, тым самым паўставалі перад неабходнасцю тлумачыць прычыны яе ўзнікнення. На першым этапе гэта рабілася даволі павярхоўна. Так, М.І. Кастамараў паклаў пачатак, умоўна кажучы, «племянной канцэпцыі», згодна з якой рысы адрознення велікарусаў і маларусаў былі ўспадкаемленыя ад розных груп славянскіх плямёнаў («княжанняў»), згаданых у «Аповесці мінулых часоў». Этнічныя асаблівасці беларусаў тлумачыліся ім проста: «Где были кривичи, там ныне белорусы»[5]. Відаць, пад беларусамі ён разумеў толькі жыхароў той тэрыторыі, якая ў першай палове XIX ст. называлася «Белай Руссю»: поўнач, паўночны ўсход і часткова цэнтр сучаснай Беларусі разам са Смаленшчынай. Гэтая тэрыторыя сапраўды была блізкай да тэрыторыі рассялення крывічоў «Аповесці мінулых часоў».

Расійскі гісторык В.О. Ключэўскі ў канцы XIX ст. сфармаваў, а ў 1904 г. надрукаваў іншае, хаця і такое ж павярхоўнае тлумачэнне. Першапачатковыя племянныя адрозненні, на ягоную думку, сталі ўжо неадрознымі ў XIII ст., калі Русь распалася на дзве мала звязаныя паміжсобку вобласці — паўднёвую (кіеўскую) і паўночна-ўсходнюю. «Великорусское племя ... было делом новых разнообразных влияний, начавших действовать после этого разрыва народности», прычым немалую ролю адыграла ўзаемадзеянне з мясцовым «іншародным» насельніцтвам (паводле сучаснай тэрміналогіі — субстратам), а таксама адаптацыя да прыродных умоў Волга-Окскага міжрэчча. Паўднёвы ж цэнтр у выніку татарскага нашэсця абязлюдзеў, а ягонае ацалелае насельніцтва адышло на тэрыторыю Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. У XV—XVI стст. ягоныя нашчадкі ў другі раз засялілі стэпавыя ўскраіны, змяшаўшыся «с бродившими здесь остатками старинных кочевников», што і прывяло да складання «малорусского племени как ветви русского народа»[6]. Паходжанне беларусаў В.О. Ключэўскі наагул не закрануў, але з агульнай схемы можна зрабіць выснову, што яго таксама можна было б патлумачыць толькі «новыми разнообразными влияниями» XIII—XVI стст.

Усе прапанаваныя пазней тлумачэнні этнагенезу ўсходнеславянскіх народаў можна звесці альбо да адной з гэтых дзвюх пазіцый, альбо да іх камбінацыі ў розных прапорцыях. Пры гэтым вымалёўваецца дастаткова характэрная заканамернасць: прадстаўнікі ўкраінскага і беларускага нацыянальнага руху ў цэлым схіляліся да «племянной канцэпцыі», то бок пастулявалі першапачатковыя адрозненні продкаў трох народаў, а расійскія (пазней — артадаксальныя савецкія) даследнікі відавочна ссоўвалі акцэнт у бок другасных уплываў, якія разарвалі калісьці адзіны этнас.

Дзве найбольш распрацаваныя версіі былі прапанаваныя на рубяжы XX ст. А.А. Шахматавым і Я.Ф. Карскім. Першы з іх прызнаваў падзел плямёнаў «Аповесці мінулых часоў» на тры групы гаворак (паўночную, сярэднюю і паўднёвую), але гэтыя групы адчулі нівеліруючы ўзаемаўплыў у час Кіеўскай Русі і былі толькі асновай для фармавання ўсходнеславянскіх народаў. У цэлым жа гэты працэс адбыўся ўжо пасля татарскага нашэсця, у рамках новых дзяржаў — Маскоўскай і Літоўскай. У прыватнасці, беларуская народнасць склалася на базе заходняй галіны сярэднярускай групы гаворак, але дзякуючы найперш палітычнай ізаляцыі ад усходніх і паўночных гаворак, якія эвалюцыянавалі ў бок рускай мовы[7].

Я.Ф. Карскі следам за М.І. Кастамаравым бачыў вытокі этнаўтваральных рыс у асаблівасцях старажытнаславянскіх плямёнаў. Але паколькі ў ягоны час панятак

[5] Костомаров Н. Исторические монографии и исследования. Т. 1. СПб., 1872. С. 29.

[6] Ключевский В.О. Сочинения: В 9-ти т. Т. 1. М., 1987. С. 287—289, 294—317.

[7] Шахматов А.А. К вопросу об образовании русских наречий и русских народностей // Журнал Министерства народного просвещения. 1899. Апрель. С. 324—384.

«Беларусія» стаў значна шырэйшым, уключаючы жыхароў Палесся і Верхняга Панямоння, механічнае супастаўленне беларусаў з крывічамі стала немагчымым. Я.Ф. Карскі ўказаў на тры старажытнарускія плямёны, што далі пачатак беларускаму этнасу: крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Але складанне адзінай народнасці на іх аснове ён датаваў больш познім часам — XIII—XIV стст., калі нашчадкі гэтых плямёнаў увайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Такім чынам, вырашальнымі былі ўсё-ткі другасныя ўплывы, хаця Я.Ф. Карскі, па сутнасці, так і не канкрэтызаваў, у чым яны заключаліся[8].

У якасці прыкладу эвалюцыі «племяннай канцэпцыі» цікавая версія, прапанаваная дзеячам беларускага нацыянальнага адраджэння В. Ластоўскім. Яна была сфармуляваная ў прадмове да выдадзенага ім жа ў 1924 г. «Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка»[9]. Ужо ў X стагоддзі, на думку В. Ластоўскага, беларусы былі цалкам сфармаваным народам, які выступае пад назвай «крывічы», а шэраг плямёнаў «Аповесці мінулых часоў»: дрыгавічы, драўляне, радзімічы, вяцічы (а таксама згаданыя ім памылкова «гаране») — былі проста галінамі адзінага «крыўскага племені». Менавіта племянныя асаблівасці былі, на ягоную думку, асноўнымі пры ўтварэнні беларускага («крыўскага») народа, а ўсе другасныя ўздзеянні (уваходжанне ў склад Русі, прыняцце хрысціянства, літоўскае, а пазней польскае і расійскае панаванне) толькі размывалі чысціню старажытнага этнасу, якую трэба па меры магчымасці захаваць і адрадзіць. Цікава, што В. Ластоўскі зусім не заўважаў хібнасці ў аснове сваёй канцэпцыі: падставай для ўключэння старажытных плямёнаў у склад «крыўскага племені» служыла іх лакалізацыя на тэрыторыі, якая на пачатку XX стагоддзя была этнічна беларуская, тады як своеасаблівасць гэтай тэрыторыі тлумачылася спадчынай гэтых жа самых плямёнаў.

Развіццё супрацьлеглай ідэі прывяло да афармлення ў савецкай гістарыяграфіі канцэпцыі «старажытнарускай народнасці». Следам за Ключэўскім і часткова Шахматавым яе прыхільнікі сцвярджалі, што ўжо ў часы Кіеўскай Русі племянныя адрозненні страцілі сваё значэнне, а галоўныя адрозныя рысы ўсходнеславянскіх народаў узніклі пазней, пасля распаду Русі і падзелу яе тэрыторыі паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім Княствам Літоўскім (ВКЛ). У духу гэтай канцэпцыі ў 40-я гг. быў прапанаваны шэраг спроб патлумачыць прычыны з’яўлення беларускага этнасу і ягоныя адрозненні ад рускага[10]. Асноўнымі фактарамі пастуляваліся палітычнае аб’яднанне ў рамках ВКЛ і эканамічныя сувязі паміж асобнымі абласцямі будучай беларускай тэрыторыі, прычым механізм дзеяння гэтых фактараў не тлумачыўся. Апублікаваныя пазней працы М.М. Ціхамірава і Л.У. Чарапніна даволі дэталёва абгрунтоўвалі ключавую ролю перыяду Кіеўскай Русі пры фармаванні ўсходнеславянскага адзінства ў форме старажытнарускай народнасці[11]. Пытанне аб прычынах адрозненняў пры гэтым зусім адступіла на задні план.

У сферы мовазнаўства ідэя другаснасці адрозных рыс усходнеславянскіх моў знайшла развіццё ў працах Ф.П. Філіна. Ён абгрунтоўваў складанне да першай паловы XII ст. агульнарускай мовы, у якой вылучаў паўночную і паўднёвую этнаграфічныя зоны. Утварэнне трох усходнеславянскіх моў было, на ягоную думку, вынікам наступных эвалюцыйных працэсаў. У прыватнасці, у заходняй частцы агульнарускага арэала прыблізна ў XIV—XVI стст. развіліся такія другасныя з’явы, як ацвярдзенне гука «р», «дзеканне» і іншыя характэрныя асаблівасці беларускай мовы[12]. Прычыны

---

[8] Карский Е.Ф. Белорусы. Т. 1. Введение в изучение языка и народной словесности. Варшава, 1903.

[9] Ластоўскі В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924.

[10] Державин Н.С. Происхождение русского народа. М., 1944; Пичета В. Образование белорусского народа // Вопросы истории. 1946. № 5—6; Канстанцінаў Ф. Аб паходжанні беларускага народа. Мінск, 1948.

[11] Тихомиров М.Н. Значение Древней Руси в развитии русского, украинского и белорусского народов // Вопросы истории. 1954. № 6; Черепнин Л.В. Исторические условия формирования русской народности до конца XV в. // Вопросы формирования русской народности и нации. М.; Л., 1958. С. 7—105.

[12] Филин Ф.П. Образование языка восточных славян. М.; Л., 1962; Ён жа. Происхождение русского, украинского и белорусского языков: Историко-диалектологический очерк. Л., 1972.

падобных навацый лінгвісты схільныя тлумачыць унутранымі законамі развіцця мовы (па аналогіі з біялогіяй іх можна назваць свайго кшталту «мутацыямі»).

Маскоўскі археолаг В.В. Сядоў, абапіраючыся галоўным чынам на даныя археалогіі і тапанімікі, у шэрагу прац сфармуляваў канцэпцыю, якую ўмоўна можна назваць «субстратнай»[13]. Згодна з гэтай тэорыяй, першапачаткова адзіны славянскі масіў пры рассяленні па тэрыторыі Усходняй Еўропы наслаіўся на розныя этнічныя субстраты. На тэрыторыі сучаснай Беларусі славяне змяшаліся з плямёнамі балцкай моўнай групы, роднаснымі літоўцам і латышам. Асіміляваныя нашчадкі старажытных балтаў прынеслі ў культуру і мову крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў самабытныя рысы, якія пазней не зніклі цалкам у часы Кіеўскай Русі і зноў праступілі пасля яе распаду. Менавіта на іх аснове адбылася інтэграцыя нашчадкаў пазначаных плямёнаў у адзіны беларускі этнас. Гэтая канцэпцыя ў савецкі перыяд сустрэла даволі халодны прыём, у асноўным з ідэалагічных меркаванняў. Па-першае, прыхільнікаў афіцыйнай догмы насцярожваў сам акцэнт на адрозненні, а не на адзінстве. Па-другое, вельмі кідалася ў вочы падабенства з «племянной канцэпцыяй», прыхільнікі якой у той час насілі ярлык «буржуазных нацыяналістаў».

Сітуацыя рэзка змянілася пасля ўтварэння на тэрыторыі былога СССР новых незалежных дзяржаў. Як і можна было чакаць, «племянная» і блізкая да яе «субстратная» канцэпцыі сталі карыстацца павышанай папулярнасцю. У артыкуле В.П. Грыцкевіча «Якой быць гістарычнай навуцы», надрукаваным у 1992 г., быў пададзены цэлы пералік «міфаў і замоўчванняў, каторыя на працягу апошніх дзесяцігоддзяў склаліся ў савецкай беларускай гістарычнай навуцы і з дапамогай гісторыкаў укараніліся ў свядомасці людзей». Сярод іх названыя міфы «аб прагрэсіўнай ролі славянскага элемента ў фармаванні беларускага этнасу», «аб агульнай старажытнарускай народнасці», а таксама «аб запозненым да XIII—XIV стагоддзяў афармленні беларускага этнасу»[14]. Зразумела, што альтэрнатывай можа быць толькі прызнанне прагрэсіўнай ролі балцкага субстрату, адмаўленне старажытнарускай народнасці і датаванне афармлення беларускага этнасу перыядам, не пазнейшым за IX—X стст., то бок улучэння беларускіх зямель у склад Кіеўскай Русі.

Палітычны сэнс супрацьстаячых канцэпцый відавочны. Так жа відавочна, што для іх прыхільнікаў мае значэнне не столькі адпаведнасць гэтых уяўленняў сапраўднасці, колькі вынікаючыя з іх высновы «на злобу дня». Але зразумець сутнасць этнічных працэсаў унутры ўсходняга славянства можна толькі абапіраючыся на рэальныя гістарычныя факты. Такім чынам, адрозненні беларусаў і ўкраінцаў могуць браць пачатак альбо ў старажытным субстраце (пры пасярэдніцтве дрыгавічоў, крывічоў і радзімічаў, што ў найбольшай меры ўвабралі яго), альбо ў часе існавання Вялікага Княства Літоўскага (другая палова XIII — XVIII ст.). Натуральна, нельга выключаць і таго, што ўнёсак у скарбонку этнічнай своеасаблівасці рабіўся ў абодва гэтыя перыяды. Пра што ж сведчаць наяўныя факты?

«Аповесць мінулых часоў» дае агульныя ўказанні на лакалізацыю славянскіх племянных княжанняў, але мае вельмі сціплыя звесткі пра іх паходжанне. Паведамляецца толькі пра заходняе («от ляхов») паходжанне радзімічаў і вяцічаў. Звесткі археалогіі дазваляюць крыху ўдакладніць гэтую інфармацыю. Так, згодна з сучаснымі ўяўленнямі, напярэдадні масавага рассялення славян па Усходняй Еўропе арэалам іх рассялення была пражская археалагічная культура, якая існавала ў VI—VII стст. у сярэднім Падняпроўі, басейнах Прыпяці і Заходняга Буга. У VIII—IX стст. на яе месцы склалася культура Лукі-Райкавецкай, рысы якой знаходзяць затым прамы працяг у старажытнасцях валынян, драўлян, палян і дрыгавічоў X—XI стст. Такім

---

[13] Седов В.В. О происхождении белорусов // Древности Белоруссии: Материалы конференции по археологии Белоруссии и смежных территорий. Минск, 1966. С. 301—309; Ён жа. К происхождению белорусов: (Проблема балтского субстрата в этногенезе белорусов) // Советская этнография. 1967. № 2. С. 112—129; Ён жа. Археология и проблема формирования белорусов // Этногенез белорусов: Тезисы докладов на научной конференции по проблеме «Этногенез белорусов». Минск, 1973. С. 7—10.

[14] Грыцкевіч В. Якой быць беларускай гістарычнай навуцы // Полымя. 1992. № 5. С. 202—228.

чынам, пазначаныя плямёны з'яўляюцца блізкароднаснай групай, у фармаванні якой роля субстрату не прасочваецца[15].

Працэс фармавання крывічоў, радзімічаў і вяцічаў быў не такім прасталінейным. Яны склаліся ў выніку некалькіх хваляў славянскага пранікнення ў арэал старажытнага субстратнага насельніцтва, якое традыцыйна адносіцца да балцкай моўнай групы на той падставе, што назвы рэк і азёраў у гэтым арэале маюць лепшую адпаведнасць у сучасных літоўскай і латышскай мовах. Сляды гэтага мясцовага насельніцтва прасочваюцца да VIII ст., а славянскія рысы канчаткова перамаглі толькі ў наступным стагоддзі — верагодна, у выніку завяршаючай хвалі міграцый. Пры гэтым старажытнасці радзімічаў і вяцічаў сапраўды вельмі блізкія паміж сабой, што няблага адпавядае летапіснаму паведамленню пра іх сумесную міграцыю. Культура крывічоў стаіць крыху асобна, прытым яе арэал ахопліваў у IX—XI стст. не толькі поўнач і паўночны ўсход Беларусі і Смаленшчыну, але таксама Пскоўскую і значную частку Цвярской вобласці, дзе субстрат быў не балцкім, а фінскім. Найбольш блізкія да крывічоў, калі меркаваць па археалагічных звестках, былі іх паўночныя суседзі — славене наўгародскія.

Такім чынам, розныя групы ўсходнеславянскіх плямёнаў сапраўды існавалі, але ні пісьмовыя, ні археалагічныя даныя не даюць падстаў для вылучэння сярод іх адзінай прабеларускай (таксама як і праўкраінскай і правелікарускай) групы. Полацкія крывічы, бясспрэчныя продкі беларусаў, былі бліжэй за ўсё да смаленскіх і пскоўскіх крывічоў, якія ўвайшлі пазней у склад рускага народа. Нашчадкі роднасных паміж сабой радзімічаў і вяцічаў таксама ўліліся потым у розныя этнасы. Нарэшце, дрыгавічы мелі агульныя карані з валынянамі і іншымі паўднёвымі плямёнамі (продкамі ўкраінцаў, а часткова і палякаў).

Арэал балцкага субстрату таксама не цалкам супадае з пазнейшым арэалам беларускага этнасу. Апроч большай часткі сучаснай Беларусі, ён ахопліваў не толькі Смаленшчыну і Браншчыну, але таксама Калужскую, Тульскую і Арлоўскую вобласці[16] (арэал мошчынскай археалагічнай культуры, змененай старажытнасцямі вяцічаў у VIII ст.[17]), насельніцтва якіх не мела адносінаў да этнагенезу беларусаў. І наадварот, на тэрыторыі беларускага Палесся даславянскія рысы ўжо да VI стагоддзя цалкам зніклі, таму прыналежнасць палешукоў да беларускага этнасу можна аднесці за кошт субстрату толькі з вялікай нацяжкай.

Карацей, грунтуючыся на «племянной» і «субстратнай» канцэпцыях, немагчыма патлумачыць, чаму нашчадкі прыпяцкіх дрыгавічоў сталі беларусамі, а нашчадкі драўлян і валынян — украінцамі, чаму нашчадкі вяцічаў з вярхоўяў Акі сталі рускімі, а нашчадкі радзімічаў — беларусамі. І ўжо зусім незразумела, якая агульная спадчына магла прывесці да зліцця ў адзіны этнас пінскіх дрыгавічоў з полацкімі крывічамі. (Дзеля дакладнасці адзначым, што частка дрыгавіцкага арэала, у Цэнтральнай Беларусі, увабрала той жа самы субстрат, што і крывічы-палачане, але першапачатковай вобласці дрыгавічоў на берагах Прыпяці, якая цяпер бясспрэчна ўваходзіць у склад беларускай этнічнай тэрыторыі, гэта не тычыцца.)

У той жа час не вытрымлівае крытыкі і канцэпцыя «старажытнарускай народнасці», да моманту складання якой быццам бы зніклі рысы племянной своеасаблівасці папярэдняга часу. Звесткі археалогіі, аналіз рэгіянальных асаблівасцей фанетыкі і лексікі, адлюстраваных у старажытнарускіх летапісах і берасцяных граматах, а таксама тэрытарыяльнае пашырэнне пазнейшых дыялектных рыс дазваляюць сцвярджаць пра захаванне племянных асаблівасцей не толькі ў XII—XIII стст., але і да нашых дзён. Яны, скажам, няблага тлумачаць дрыгавіцкай спадчынай існаванне ў палескіх гаворках ненаціскнога «о» альбо цвёрдых зычных у словах тыпу «ідэ», «ходы», «ішлы», што лучыць іх з тэрыторыяй Украіны. У сваю чаргу, зафіксаванае ў крыніцах змяшэнне

[15] Русанова И.П. Славянские древности VI—VII вв. М., 1976; Седов В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982.

[16] Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962.

[17] Седов В.В. Восточные славяне... С. 41—45.

«ц» і «ч» («полоцане», «немечь») аб'ядноўвае нашчадкаў крывічоў на Віцебшчыне і Пскоўшчыне, а вяціцкае «аканне» і сёння збліжае маскоўскія гаворкі з беларускімі[18]. Адзначаецца супадзенне старажытнага арэала крывічоў і наўгародскіх славен з характэрным пахавальным абрадам «курганна-жальнічнага» тыпу, што склаўся ў XII—XV стст.[19]. Сляды яго добра прасочваюцца на гэтай тэрыторыі аж да XX ст. у выглядзе надмагільных камянёў і каменных крыжоў.

Тым не менш, вядзецца менавіта пра дыялектныя рысы, якія дазваляюць вылучаць лакальныя асаблівасці ў складзе этнасаў (у тым ліку і агульныя для сумежных этнасаў), але не адрозніваць этнасы паміжсобку. З'яўленне прыкмет, якія лучаць усіх беларусаў у адно цэлае і адасабляюць іх ад рускіх і ўкраінцаў, патрабуе зусім іншага тлумачэння.

Атрымліваецца, што ніводная з супрацьлеглых канцэпцый не адпавядае ўсёй суме фактаў. Племянныя асаблівасці не толькі існавалі, але і захаваліся да сёння ў форме лакальных дыялектных і этнаграфічных зон, аднак не яны леглі ў аснову сучасных этнасаў, бо зусім не супадаюць з імі тэрытарыяльна. З іншага боку, не было і адзінага старажытнарускага масіву, пазней разарванага другаснымі працэсамі. З'яўленне трох сучасных этнасаў можна параўнаць з карцінамі альбо словамі, складзенымі з дзіцячых кубікаў: складовыя часткі тыя ж, але ўкладзеныя ў зусім іншай камбінацыі. Крыху лепей за іншыя гэтай сітуацыі адпавядаюць канцэпцыі А.А. Шахматава і Я.Ф. Карскага. Асноўныя іх ідэі нядаўна ўзноўленыя ў працы М.Ф. Піліпенкі (якая, нягледзячы на прэтэнцыёзны падзагаловак «Новая концепция», нічога прынцыпова новага не дала)[20]. Але і ў іх не стае галоўнага — тлумачэння механізмаў дзеяння той сілы, якая склала са старых кубікаў новы ўзор.

Думаецца, прычына таго, што дастаткова прафесійныя даследнікі на працягу дзесяцігоддзяў не знайшлі пераканаўчага вырашэння гэтай праблемы, заключаецца ў пачатковай устаноўцы: пошук ішоў выключна на ўзроўні матэрыяльных фактараў. Між тым вядома, што галоўная этнавызначальная рыса — агульная самасвядомасць, альбо, іншымі словамі, нацыянальная ідэя — адносіцца да катэгорыі нематэрыяльнага. Роля ідэй у фармаванні агульных рыс матэрыяльнай культуры і мовы практычна не вывучаная. Гэта нядзіўна — не толькі ў артадаксальнай савецкай метадалогіі, але і характэрным для многіх заходніх даследнікаў матэрыялізме неапазітывісцкага кшталту сама пастаноўка пытання ў падобнай форме (ідэя фармуе матэрыяльныя аб'екты) гучыць як ерась. Хаця нават пачынальнікі марксізму прызнавалі, што ідэя, авалодаўшы масамі, можа стаць матэрыяльнай сілай, усё ж лічылася, што «быццё вызначае свядомасць», а не наадварот.

Гэтая дылема падобная да знакамітага пытання аб тым, што было першым — яйка ці курыца. Адказ на яго знаходзіцца ў якасна іншай плоскасці. Ідэі нараджаюцца, авалодваюць масамі і мяняюць свет, а гэтыя матэрыяльныя змены, у свой чарод, спараджаюць новыя ідэі. Прыкладам можа быць гісторыя абуджэння беларускай і ўкраінскай самасвядомасці, вельмі коратка выкладзеная на пачатку гэтага артыкула. Няма сумневаў, што абедзве нацыянальныя ідэі зарадзіліся ў галовах канкрэтных людзей як вынік усведамлення імі аб'екыўных этнаграфічных рыс. Аднак самі гэтыя аб'ектыўныя адрозненні былі вынікам уздзеяння на мову і культуру мясцовага насельніцтва папярэдніх ідэй, у тым ліку і нацыянальных альбо дзяржаўных (хаця ніводная з іх суб'ектыўна не ўсведамлялася, ды і аб'ектыўна не была ні беларускай, ні ўкраінскай у сучасным разуменні).

На цяперашняй стадыі вывучанасці пытання немагчыма падрабязна прадэманстраваць, тым больш у кароткім артыкуле, як менавіта нацыянальныя ідэі мянялі этнічную карту Усходняй Еўропы. Можна паспрабаваць указаць толькі на асноўныя

---

[18] Гринблат М.Я. Белорусы. С. 83—84, 106—112.

[19] Седов В.В. Восточные славяне... С. 180—183; Дучыц Л. Курганна-жальнічныя могільнікі на тэрыторыі Полацкай зямлі: (да пастаноўкі пытання) // Гістарычна-археалагічны зборнік. № 10. Мінск, 1996. С. 38—41.

[20] Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Минск, 1991.

этапы ў эвалюцыі саміх гэтых ідэй, у разліку на тое, што механізм іх уздзеяння будзе прасочаны пазней. Ніжэй мы прапануем адну з такіх чарнавых спроб.

Паколькі ў перыяд славянскіх «княжанняў» цяжка ўбачыць сляды ідэй, якія вялі б да ўтварэння ўкраінскай альбо беларускай народнасці, застаецца шукаць іх у больш познія часы. Перыяд распаду Русі на паўсамастойныя землі-княствы падаецца перспектыўным у гэтым плане, але толькі на першы погляд. Цэнтраў кансалідацыі ў той перыяд было відавочна болей, чым сучасных этнасаў. Высnова В.О. Ключэўскага пра два цэнтры (кіеўскі і ўладзіміра-суздальскі) падаецца спрошчанай. Можна казаць яшчэ сама меней пра пяць самастойных цэнтраў: галіцка-валынскі, чарнігава-северскі, наўгародска-пскоўскі, смаленскі і полацкі. Працягваючы нашую аналогію з кубікамі, можна сказаць, што гэта была яшчэ не канчатковая іх камбінацыя.

Той факт, што Полацкая зямля ў той час адрознівалася асаблівым сепаратызмам, таксама не можа патлумачыць з'яўлення беларускага этнасу, тым больш у ягоных цяперашніх межах. Нават калі прызнаць абгрунтаванымі спробы ўбачыць у Полацкім княстве пачаткі беларускай дзяржаўнасці, ягоная тэрыторыя складала не больш за палову сучаснай Беларусі. Уся паўднёвая яе частка ў той час была больш звязаная з Кіевам, Чарнігавам і Валынню, чым з Полацкам. Дастаткова прыгадаць, што Гомель і Рэчыца ў XII—XIII стст. уваходзілі непасрэдна ў Чарнігаўскае княства, Мазыр — у Кіеўскае, Мсціслаў — у Смаленскае, а Берасце — ва Уладзіміра-Валынскае. Самастойныя Гарадзенскае і Турава-Пінскае княствы таксама цягнуліся хутчэй на поўдзень, чым на поўнач. Дый адасобленасць Полацка ад астатніх рускіх княстваў не варта пераацэньваць. У грамаце, складзенай палачанамі ў 1264 г., дакладна ўказваецца, «што Руськая земля словет Полочьская»[21]. Менавіта ў гэты перыяд канчаткова афармляецца агульнаруская свядомасць, якая захоўвалася затым на працягу стагоддзяў.

Да таго ж ідэя полацкай незалежнасці была даволі эфемернай. Апошні ўсплёск яе, бадай што, адзначаецца ў час княжання Андрэя Альгердавіча (1340—1380-я гг.), пазней самасвядомасць жыхароў Полацкай зямлі ніколі не ішла далей за рэгіянальны (земскі) узровень. У XV—XVII стагоддзях ні пра які асаблівы сепаратызм гэтай зямлі на фоне іншых рэгіёнаў казаць не даводзіцца.

Значна больш важныя наступствы для этнагенетычных працэсаў мела ўтварэнне на тэрыторыі Русі дзвюх цалкам варожых адна да адной дзяржаў: ВКЛ і Вялікага княства Маскоўскага (пазней — Расійскага царства). Невыпадкова менавіта на гэты перыяд звярталі сваю ўвагу ўсе даследнікі, якія не прымалі «племянную» канцэпцыю. Сапраўды, дзяржаўная мяжа паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай, што склалася на пачатак XVI ст., надзіва дакладна супадае з сучаснай этнічнай мяжой паміж рускімі і беларусамі. І больш за тое, змены палітычнай мяжы, у выніку якіх Смаленшчына і Браншчына перыядычна адыходзілі то да ВКЛ, то да Масквы, добра адпавядаюць «прамежкаваму» этнічнаму стану гэтых тэрыторый, які толькі ў XX ст. скончыўся іх уключэннем у рускі этнас (на большасці этнаграфічных і лінгвістычных картаў канца XIX — пачатку XX ст. гэтыя тэрыторыі пазначаныя як беларускія[22]).

Тым не менш фактары, вытворныя ад палітычнага падзелу Русі, добра тлумачаць толькі заходнюю мяжу рускага этнасу, але не этнічную мяжу паміж беларусамі і ўкраінцамі. У палітычнай гісторыі гэтых двух народаў не было істотных адрозненняў з сярэдзіны XIV ст. да 1569 г., калі ў выніку Люблінскай уніі тэрыторыі Украіны непасрэдна ўвайшлі ў Польскае каралеўства, а Беларусь засталася ў складзе ВКЛ, якое захоўвала федэратыўны статус у рамках Рэчы Паспалітай. Ды і пазней палітычная самастойнасць ВКЛ была ў значнай ступені фармальнай, а асноўныя культурныя, рэлігійныя і ў пэўнай ступені сацыяльна-эканамічныя працэсы ішлі на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай практычна сінхронна.

Больш за тое, сам факт неаднолькавых паводзінаў беларускай і ўкраінскай шляхты напярэдадні Люблінскай уніі, якая і выклікала ўключэнне Украіны ў склад Польшчы,

[21] Белоруссия в эпоху феодализма: Сборник документов и материалов в трех томах. Т. 1. Минск, 1959. С. 74.

[22] Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. Мінск, 1989. С. 549.

сведчыць пра сур'ёзныя адрозненні ў самасвядомасці — насуперак падабенству вонкавых (матэрыяльных) умоў. Прычына з'яўлення гэтых адрозненняў патрабуе свайго тлумачэння.

Працэс утварэння ВКЛ пачаўся, як вядома, у сярэдзіне XIII ст., адразу пасля татарскага нашэсця на Русь. Уцалелыя княствы на поўначы і захадзе Беларусі (Навагрудскае і Полацкае) апынуліся пад уладай літоўскіх князёў. (Не выключана, што яны самі пайшлі на хаўрус з Літвой, каб пазбегнуць значна больш непрыемнага падпарадкавання Залатой Ардзе.) На працягу наступных некалькіх дзесяцігоддзяў маладая дзяржава адбіла спробы захопаў з боку татараў, Галіцка-Валынскага княства і Тэўтонскага ордэна, што давяло жыццяздольнасць новай дзяржаўнай (але не нацыянальнай!) ідэі, якую можна ўмоўна назваць «літоўскай». Яна ахапіла скрайне этнічна неаднастайнае насельніцтва. У ягоны склад уваходзілі балтамоўныя літоўцы і роднасныя ім выхадцы з Прусіі і Яцвягіі, а таксама славянскае насельніцтва Падзвіння (складалася ў асноўным з крывічоў-палачан), цэнтральнай Беларусі (нашчадкі дрыгавічоў, якія адчулі ў гэтым раёне ўздзеянне даволі моцнага субстрату) і Верхняга Панямоння, дзе адбывалася змяшэнне міграцыйных хваляў крывічоў, дрыгавічоў і валынян, якія наслаіліся на яцвяжскі субстрат (культура каменных магіл).

Кіруючая дынастыя ў гэтай дзяржаве была літоўскага паходжання, што садзейнічала замацаванню за ёй палітоніма «Літва», які стаў таксама адной з саманазваў мяшанага насельніцтва. У той жа час «мовай міжнацыянальных стасункаў», стаў, відаць, мясцовы славянскі дыялект, у крыніцах пазначаны як «рускій».

У той жа час сярод ацалелага насельніцтва лясной і лесастэпавай зон правабярэжнай Украіны, якое ў аснове сваёй складалася з нашчадкаў культуры Лукі-Райкавецкай, пасля страты сувязяў з іншымі рускімі землямі не маглі не ўзмацніцца працэсы кансалідацыі. Ім садзейнічала палітычнае аб'яднанне гэтай тэрыторыі пад уладай Данііла Галіцкага і ягоных нашчадкаў. Трэба меркаваць, што Турава-Пінская зямля знаходзілася пад уздзеяннем гэтага ж цэнтра, чаму дапамагала яе першапачатковая блізкасць з Валынню. Фактычна ў гэтым рэгіёне ішоў працэс складання самастойнага этнасу, які па адной з назваў дадзенага арэала можна ўмоўна пазначыць як «чырванарускі».

Яшчэ адзін ачаг кансалідацыі склаўся ў гэты час у Наўгародскай і Пскоўскай землях, дзе мясцовыя нашчадкі славен і паўночных крывічоў раней увабралі значны фінскі субстрат. Пасля страты ранейшых сувязяў са спустошаным поўднем тут яшчэ большую перавагу атрымалі мясцовыя асаблівасці. Намецілася тэндэнцыя да ўзнікнення асобнага «паўночнарускага» этнасу.

Астатняя тэрыторыя Русі знаходзілася ў стане глыбокага заняпаду і спуташэння, пагоршанага татарскім панаваннем. Першыя прыкметы пераадолення крызісу з'явіліся толькі ў 1320-я гг., калі на тэрыторыі Уладзіміра-Суздальскай зямлі адрадзіўся чацвёрты ачаг кансалідацыі. За першынства ў ім змагаліся Масква і Цвер. Перамога Масквы і прынятая ёю роля лідара ў барацьбе супраць ардынскай няволі вялі да запачаткавання велікарускай нацыянальнай ідэі і «маскавіцкага» этнасу.

Але і гэты расклад кубікаў быў толькі прамежкавым. Працэсы этнагенезу хутка зазналі шэраг глыбокіх трансфармацый. Літва пад уладай таленавітага палітыка Гедыміна падужэла настолькі, што пачала падпарадкоўваць суседнія рускія землі. Спярша гэта выклікала канфлікт з паўднёвым («чырванарускім») ачагом, ад якога пад кантроль Літвы прыблізна ў 1320-я гг. адышлі паўднёвыя землі Беларусі (Пінск і Берасце). Але хутка сітуацыя яшчэ больш рэзка змянілася, калі перарвалася дынастыя нашчадкаў Данііла Галіцкага. Іх валоданні сталі арэнай барацьбы паміж Літвой і суседняй Польшчай і да сярэдзіны XIV ст. былі падзеленыя паміж імі.

Так паўднёвы этнагенетычны ачаг страціў сваю еднасць. Ягоная заходняя частка (Галіцыя) на некалькі стагоддзяў увайшла ў склад Польшчы, тады як Валынь следам за Палессем трапіла пад уладу Гедымінавічаў. Гэта не магло ліквідаваць аб'ектыўныя рысы падабенства мясцовых жыхароў, але вельмі ўскладніла суб'ектыўнае ўсведамленне гэтага падабенства і ягонае выяўленне ў форме нацыянальнай ідэі. На-

адварот, палітычная і інтэлектуальная эліта ў Галіцыі не магла не адчуваць моцнага ўплыву ідэй польскай дзяржаўнасці, а на астатняй тэрыторыі — аналагічных ідэй дзяржаўнасці «літоўскай» (у вышэйазначаным міжэтнічным сэнсе). Пасля Крэўскай уніі 1386 г., калі абедзве дзяржавы ўтварылі канфедэрацыю пад уладай адзінага манарха, паміж польскай і «літоўскай» ідэямі пачалася канкурэнцыя.

Пазіцыя мясцовай шляхты напярэдадні Люблінскай уніі, калі соймікі Падляшша, Валынскай зямлі і большай часткі Кіеўскага ваяводства выказаліся за ўключэнне ў склад Польшчы, была вынікам гэтай канкурэнцыі. У той жа час шляхта этнаграфічна блізкіх да валынян Берасцейскага, Пінскага і Мазырскага паветаў вырашыла застацца ў складзе ВКЛ, што можна расцэньваць як сведчанне поўнай дэзынтэграцыі паўднёварускага этнагенетычнага цэнтра. На адной ягонай частцы перамагла польская ідэя, на другой — «літоўская». У выніку ягонае насельніцтва ўлілося потым у два разныя народы, лінія падзелу паміж якімі прайшла якраз па мяжы паміж ВКЛ і Польскім каралеўствам пасля Люблінскай уніі.

Паўночнарускі этнагенетычны ачаг да таго часу таксама знік — у выніку заваявання Наўгародскай зямлі Масквой у другой палове XV ст. Канчатковы ўдар яму быў нанесены Іванам Грозным у гады апрычніны, калі Ноўгарад быў асабліва жорстка разгромлены. Пасля гэтага ўцалелае насельніцтва страціла ўсялякую апору для этнічнай кансалідацыі і паступова злілося з велікарускім этнасам.

Але вернемся да этнічных працэсаў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Да сярэдзіны XVI ст. сярод яе ўсходнеславянскага («рускага» паводле саманазвы) насельніцтва актуальнымі былі дзве кансалідуючыя ідэі: палітычная (ідэя захавання дзяржаўнасці ВКЛ ва ўмовах росту польскай экспансіі і непасрэднай пагрозы з боку Масквы) і культурна-рэлігійная (падтрыманне агульнарускай спадчыны і праваслаўнай веры на фоне экспансіі каталіцызму). Першая з іх сканцэнтравалася ў межах ВКЛ пасля Люблінскай уніі (даволі дакладна супадаючых з сучаснай тэрыторыяй Беларусі і Літвы, што відавочна невыпадкова), другая жыла на ўсёй усходнеславянскай тэрыторыі. Няцяжка заўважыць, што яны дзейнічалі ў супрацьлеглых напрамках, пры гэтым абедзвюм супрацьстаяла ідэя польскай дзяржаўнасці.

З іншага боку, польская і «літоўская» палітычныя ідэі садзейнічалі актыўнаму запазычанню новых культурных і моўных рыс з Захаду, тады як «агульнаруская» ідэя перашкаджала (зрэшты, даволі беспаспяхова) гэтаму працэсу. Літаратурная «руская» мова ВКЛ гэтага часу ўзбагачаецца паланізмамі — настолькі інтэнсіўна, што пачынае нагадваць польска-старажытнарускі гібрыд. Цікава, што сучасныя беларускія даследнікі называюць гэтую мову «старабеларускай», а ўкраінскія — «стараўкраінскай», хаця ад сучасных беларускай і ўкраінскай моў яна адрознівалася амаль у той жа ступені, што і ад велікарускай. Відаць, тады ж і размоўная мова продкаў беларусаў набыла асноўны лексічны пласт, што адрознівае яе ад рускай мовы. Практычна ўвесь гэты пласт складаюць, акрамя дыялектызмаў, запазычанні з польскай альбо нямецкай моў пры пасярэдніцтве той жа польскай.

Відаць, у XIV—XVI стст. сфармавалася і фанетычная сістэма беларускай мовы, якая складае яе найбольш яскравае адрозненне ад рускай (спалучэнне «дзекання», «акання», глухога г, цвёрдага р і шэрага іншых рыс). На думку М.Ф. Піліпенкі, большасць гэтых рыс мае паралелі ў гаворках Літвы, асабліва ўсходняй (Дзукіі)[23]. Гэтая сістэма відавочна склалася ў балта-славянскай кантактнай зоне Верхняга Панямоння, якая стала ядром утварэння ВКЛ і пазней — ягоным палітычным цэнтрам. Пашырэнне яе на тэрыторыю ўсёй сучаснай Беларусі адбывалася, відаць, пад уздзеяннем ідэі дзяржаўнасці ВКЛ, у форме прэстыжнай «сталічнай» гаворкі.

Але хацелася б падкрэсліць, што абедзве кансалідуючыя ідэі (як «літоўская», так і «агульнаруская») ва ўмовах Рэчы Паспалітай мелі чыста абарончы, кансерватыўны характар і з прычыны гэтага не маглі прывесці для з'яўлення новага этнасу, як гэта адбывалася ў Расеі, аб'яднанай наступальнай імперскай ідэяй («Масква — трэці Рым»). Там выкладвалася менавіта тая камбінацыя кубікаў, што захавалася і да сёння,

[23] Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии. С. 102—103.

чаго нельга з пэўнасцю сказаць пра тэрыторыі Беларусі і Украіны. Пра няскончанасць этнагенетычных працэсаў сведчыць, у прыватнасці, адсутнасць саманазвы на ўзроўні этнасу. Насуперак меркаванню М.Ф. Піліпенкі[24], тэрмін «Белая Русь» у мясцовым выкарыстанні (то бок у ролі саманазвы) у XVI ст. практычна не зафіксаваны[25], а з этнічнай тэрыторыяй беларусаў ён канчаткова супаў толькі ў другой палове XIX ст. Да гэтага выкарыстоўваліся альбо больш шырокія метаэтнонімы, палітонімы і канфесійныя назвы («Русь», «літвіны»), альбо больш вузкія, рэгіянальныя.

На фоне актыўнай расійскай кансалідацыі працэс «рэгіяналізацыі» свядомасці жыхароў ВКЛ і будучай Украіны асабліва характэрны. На першае месца выступілі мясцовыя этнаграфічныя і дыялектныя асаблівасці, што выявілася ў з’яўленні ва ўжытку рэгіянальных назваў (харонімаў): Валынь, Падляшша, Падолле, Палессе, Панізоўе і да т.п. Цікава, што ролю рэгіянальных назваў узялі на сябе нават такія шматзначныя тэрміны, як «Русь» і «Літва». Крыніцы другой паловы XVI ст. маюць мноства паведамленняў пра паездкі, скажам, з Русі на Палессе, Валынь альбо ў Літву, пра «рускія маёнткі» якога-небудзь «літоўскага» альбо валынскага феадала і г.д. Як паказалі спецыяльныя даследаванні М.Ф. Спірыдонава і аўтара гэтых радкоў, пад «Руссю» ў вузкім сэнсе ў гэты час разумелася ўсходняя, паўночная і часткова цэнтральная частка сучаснай Беларусі (менавіта за імі ў XVII ст. замацавалася назва «Белая Русь»), а пад «Літвой» — паўночна-заходняя частка Беларусі і ўсходняя частка Літвы (за выключэннем Жамойці), што даволі блізка супадае з першапачатковым дзяржаўным ядром ВКЛ другой паловы XIII ст.[26]. Разам з гэтым захоўвалася і шырокае значэнне тэрміна «Русь», сведчаннем чаму з’яўляецца, у прыватнасці, пададзеная на пачатку артыкула цытата з Густынскага летапісу.

Больш раннім афармленнем велікарускай нацыянальнай ідэі тлумачыцца тое, што яна першай узурпавала агульны для ўсіх усходніх славян метаэтнонім «Русь» у якасці саманазвы. Пазней гэта істотна ўскладняла нацыянальную самаідэнтыфікацыю ўкраінцаў і беларусаў, якія звыкла называлі сябе «рускімі», «русінамі» і доўга не ўсведамлялі, што ў Маскоўскай дзяржаве ў гэтае імя ўкладваўся ўжо цалкам іншы сэнс (прыгадаем «дзве рускія народнасці» Кастамарава).

Для працягу працэсаў этнагенезу на гэтай тэрыторыі было неабходна з’яўленне новых канструктыўных, наступальных ідэй. Часткова такую ролю адыграла ідэя царкоўнай уніі з каталіцтвам, якая вывела мясцовае насельніцтва з-пад кантролю Маскоўскай патрыярхіі. Гэтай ідэі на пачатку XVII ст. давялося вытрымаць зацятую барацьбу з «агульнарускай» ідэяй, у якой уніяцтва ўрэшце атрымала перамогу. У XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі блізу 70 % насельніцтва было ўніятамі[27], прычым факты іх актыўнага супраціву пераводу ў праваслаўе пасля далучэння да Расійскай імперыі сведчаць пра тое, што гэтая ідэя паспела пусціць глыбокія карані і моцна садзейнічала самаідэнтыфікацыі беларусаў, іх супрацьпастаўленню рускім.

Але ўсё ж ідэі ўніяцтва нельга прыпісваць вырашальную этнаўтваральную ролю, а тым больш — ролю нацыянальнай рэлігіі беларусаў. Астатнія 30 % насельніцтва Беларусі альбо захавалі праваслаўнае веравызнанне (пераважна на ўсходзе), альбо належалі да каталіцкай канфесіі (на захадзе і ў цэнтры), прычым сярод палітычнай эліты — шляхты — адсотак каталікоў (а ў пэўны прамежак часу — і пратэстантаў) быў яшчэ вышэйшым. Кансалідаваць беларусаў у адзіную нацыю ўніяцтва з гэтай прычыны аніяк не магло. Да таго ж яно пашырылася ў роўнай меры і на тэрыторыі Украіны, таму ягонай роляй можна патлумачыць толькі ўзмацненне этнічнай мяжы паміж рускімі і беларусамі, але не яе з’яўленне паміж беларусамі і ўкраінцамі.

---

[24] Тамсама. С. 80—81, 105—106 і інш.

[25] Насевіч В. Да пытання пра саманазву беларусаў у перыяд ВКЛ // Беларусіка-Albaruthenica. Кн. 2. Мінск, 1993. С. 97—100.

[26] Насевіч В., Спірыдонаў М. «Русь» у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край. Вып. 1. Мінск, 1996. С. 4—27; Спиридонов М.Ф. «Литва» и «Русь» в Беларуси XVI в. // Наш радавод. Кн. 7. Гродна, 1996. С. 206—211.

[27] Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя. С. 66.

Але ў другой палове XVI ст. зараджаецца, а да сярэдзіны наступнага стагоддзя крышталізуецца яшчэ адна актыўная ідэя, якой было наканавана адыграць вырашальную ролю ў этнагенетычных працэсах. Вядзецца пра ідэю вольнага казацкага самакіравання (што перарасла пазней у ідэю казацкай дзяржавы), якая зарадзілася на лесастэпавых прасторах Украіны падчас іх паўторнай каланізацыі. Пачатак паўторнага асваення раёнаў, апусцелых пасля татарскага нашэсця, фіксуецца з канца XV ст. Масавы характар яно набыло стагоддзем пазней, ужо пасля Люблінскай уніі, прычым на «Ніз», альбо «Украіну», як называліся гэтыя землі, сыходзіла найбольш мабільная і энергічная частка насельніцтва. Асноўная плынь ішла з захаду (хаця і долю выхадцаў з тэрыторыі Беларусі не варта недаацэньваць), таму сярод казацтва атрымалі перавагу этнаграфічныя і дыялектныя рысы нашчадкаў валынян і іншых пераемнікаў культуры Лукі-Райкавецкай.

Як польская, так і «літоўская» дзяржаўныя ідэі былі ў роўнай ступені далёкія гэтым маргіналам. Першапачаткова іх яднала «агульнаруская» ідэя, на глебе якой і нарадзілася знакамітая Пераяслаўская рада. Але сфармаваная новая эліта хутка ўсвядоміла ўласныя інтарэсы, якія ўвасобіліся ў ідэі гетманскай дзяржавы — самастойнага суб'екта ў адносінах з Рэччу Паспалітай, Расіяй і Турцыяй. Гэтая дзяржава вяла актыўную экспансіяністскую палітыку (казацкія войны), імкнулася падпарадкаваць свайму кантролю аграмадныя тэрыторыі. Уздзеянне новага цэнтра адчувалася далёка па-за ягонымі межамі. Пад гэтым уздзеяннем ствараліся асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры, якія пазней усвядоміліся як спецыфічна ўкраінскія. Існаванне падобных рыс у першапачаткова роднаснага насельніцтва правабярэжнай Украіны дало падставы для ўлучэння яго ў той жа этнас шляхам своеасаблівай асіміляцыі.

Затое такая асіміляцыя не магла пашырыцца на тэрыторыю Беларусі, дзе ідэя прыналежнасці да «Літвы» адчувалася значна мацней, а казакі («чаркасы») успрымаліся як адносна чужы, а ў часы казацкіх войнаў — нават варожы элемент. У выніку на тэрыторыі ВКЛ так і не ўзнікла стваральная ідэя, роўная па значнасці з імперскай ідэяй Расеі альбо ідэяй вольнага казацтва Украіны. Старая ідэя дзяржаўнасці ВКЛ адыграць гэтай ролі не магла — не толькі з-за свайго вымушанага абарончага характару, але і таму, што ў аднолькавай меры належала як славянскаму, так і балцкаму (літоўскаму ў сучасным разуменні) насельніцтву. Па меры росту паланізацыі шляхты ВКЛ жыццёвы асяродак «літоўскай» ідэі няўхільна скарачаўся, апошні яе ўсплёск адбыўся падчас паўстання 1863 г. Хутка культурная эліта этнічнай Літвы і Жамойці сканцэнтравалася на ўласнай нацыянальнай ідэі, чэрпаючы апору ў трактоўцы ВКЛ як этнічна літоўскай дзяржавы.

Такім чынам, на былой тэрыторыі Кіеўскай Русі ў розны час і ў розных гістарычных умовах узнікла некалькі кансалідоўных цэнтраў, паміж якімі адбывалася канкурэнцыя за сумежныя тэрыторыі. Гэтая канкурэнцыя выяўлялася не толькі ў форме вайскова-палітычнага саперніцтва, але найперш як барацьба ідэй у свядомасці мясцовага насельніцтва, якое ўсведамляла сваю пераважную прыналежнасць да таго ці іншага цэнтра. Сучасны этнічны падзел з'яўляецца вынікам гэтай канкурэнцыі, прычым у зоне прыцягнення маскоўскага цэнтра сфармаваўся велікарускі этнас, а ў зоне прыцягнення значна больш пазнейшага казацкага — украінскі. Рэгіянальныя этнаграфічныя асаблівасці, якія ўзыходзяць да племяннога падзелу ўсходніх славян і ўспрынятага імі субстрату, былі толькі фонам для гэтых працэсаў. У цэнтры этнагенетычных ачагоў яны надавалі новым этнасам спецыфічны каларыт, а на сутыку іх зон прыцягнення хутчэй перашкаджалі канчатковаму выбару, але нідзе не мелі вырашальнага значэння.

Што тычыцца беларускага этнасу, то ў ягоны склад увайшло насельніцтва, што апынулася па-за зонай уздзеяння вышэйназваных цэнтраў, але якое адчула ў свой час уздзеянне «літоўскай» дзяржаўнай ідэі, уніяцкай канфесійнай прыналежнасці і культурных імпульсаў з боку каталіцкага свету Заходняй Еўропы. Адсутнасць уласнай яскрава выражанай ідэі, якая магла б быць прынятай як нацыянальная, тлумачыць адносную запозненасць і значна меншую выяўленасць этнічнай самасвядомасці

беларусаў у параўнанні з рускімі і ўкраінцамі. Вызначэнне межаў іх этнасу адбывалася шляхам выключэння — у ягоны склад былі залічаныя тыя, каго нельга было паводле моўных і этнаграфічных рыс аднесці да рускіх, украінцаў ці палякаў.

Гэтая ж асаблівасць этнагенезу беларусаў добра тлумачыць тыя цяжкасці, з якімі сутыкнулася маладая нацыянальная інтэлігенцыя пры вызначэнні свайго месца ў сістэме гістарычных каардынат. Адсутнасць выразна выяўленага рубяжа этнагенезу змушала адных адсоўваць гэты рубеж у глыб дагістарычных часоў (прыгадаем версію В. Ластоўскага аб адпачатнай самабытнасці беларусаў-крывічоў), іншых жа змушала да відавочнай фальсіфікацыі гісторыі, калі ВКЛ абвяшчалася нацыянальнай беларускай дзяржавай (тут найбольш характэрнай з'яўляецца канцэпцыя М. Ермаловіча[28], папулярная і цяпер, нягледзячы на сваю відавочную навуковую бездапаможнасць).

Зрэшты, падобныя цяжкасці адчувала і нацыянальная эліта многіх іншых народаў. Для таго каб масавая свядомасць здолела засвоіць нейкую ідэю, у тым ліку і нацыянальную, гэтая ідэя павінна быць сфармуляваная ў гранічна простай і адназначнай форме, якая кепска спалучаецца з рэальнай складанасцю гістарычных працэсаў. Менавіта таму прадстаўнікі ўкраінскай нацыянальнай інтэлігенцыі заднім днём «анексавалі» гісторыю паўднёвых старажытнарускіх княстваў і абвясцілі яе неад'емнай часткай гісторыі «Украіны-Русі» (паводле вызначэння М.С. Грушэўскага), а літоўцы надавалі дзейнасці Гедымінавічаў тое вузка-нацыянальнае напаўненне, якога яна аб'ектыўна не мела. Падобным чынам дзейнічалі і расійскія інтэлектуалы ад XV ст. і да сёння, абвяшчаючы Маскоўскую Русь адзінай пераемніцай Кіеўскай Русі.

Што тычыцца беларусаў, то працэс іх этнагенезу быў асабліва цяжкім і супярэчлівым, што не дазваляла апісаць яго ў выглядзе простай і адназначнай формулы. З аднаго боку, гэты этнас з'яўляецца вельмі старажытным, бо ён складзены з такіх «кубікаў», як субстратнае насельніцтва жалезнага веку і некалькі хваляў славянскай каланізацыі. Эпоха Полацкага княства, а затым яшчэ больш бурлівая эпоха ВКЛ дадалі свае непаўторныя кампаненты. Менавіта тады склалася бальшыня рыс, што аб'ектыўна сведчыць пра існаванне асобнага этнасу. З іншага боку, ніводная з ідэй, якія валодалі масавай свядомасцю ў тыя часы, не супадала з ягоным арэалам, і ў гэтым своеасаблівасць гістарычнага шляху беларусаў. Такая ключавая прыкмета этнасу, як суб'ектыўна ўсвядомленая нацыянальная ідэя, з'явілася не раней за канец XIX — пачатак XX ст., калі беларукая інтэлігенцыя пачала барацьбу за стварэнне з беларускага этнасу нацыі сучаснага тыпу.

{Для многіх прызнанне такой позняй даты падаецца раўназначным адмаўленню этнасу як такога, і ў гэтым прычына многіх праблем. Падаецца ўсё ж, што важна не дата нейкай падзеі, а сам факт таго, што яна здзейсненая. Існаванне беларускага народа сёння не выклікае сумневаў. Праўда, гэты факт крыху зацямняецца тым, што размоўная мова беларусаў у апошнія дзесяцігоддзі зазнала моцную асіміляцыю з боку рускай мовы. Кажучы больш дакладна, канкурэнцыі не вытрымала яе лексіка, тады як фанетыка валодае сапраўды незнішчальнай жыццеўстойлівасцю — пераважная большасць беларусаў вымаўляе рускія словы на беларускі манер. Але справа нават не ў гэтым. Было б вялікай памылкай атаясамліваць нацыянальную кансалідацыю беларусаў з моўнымі працэсамі. Тыя беларускія палітыкі і дзеячы культуры, якія зрабілі стаўку на вяртанне ва ўжытак беларускай мовы, сутыкаюцца з поўнай абыякавасцю і нават глухім супрацівам свайго народа, адчуваючы сябе ў выніку гэтага вельмі дыскамфортна.

Паміж тым на тысячагадовым шляху беларускага этнагенезу беларуская ідэя ніколі не была ключавой, што не замінала развівацца вельмі своеасаблівым культурным і палітычным працэсам. Зрэшты, беларусы ў гэтым не ўнікальныя. Шмат разоў тэрытарыяльна-дзяржаўны шлях складання этнасаў аказваўся даволі эфектыўным. Можна было б падаць доўгі пералік народаў, што фармальна не маюць уласнай мовы: аўстралійцы, аўстрыйцы, алжырцы, амерыканцы, англа-канадцы, аргенцінцы — і гэтак далей у алфавітным парадку}. І сёння беларуская ідэя значна лепш пачуваецца

[28] Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. Мінск, 1989.

ў дзяржаўнай, {а не ў нацыянальнай форме. Праўда, носьбіты гэтай ідэі складаюць пакуль свайго роду «нацыянальную меншасць» у роднай краіне, але ў любым разе} колькасць іх нашмат большая за тых, хто гатовы прынцыпова адмовіцца ад рускай мовы ў штодзённым ужытку.

{Не варта недаацэньваць і тое, што ў самых неспрыяльных умовах беларуская ідэя паспяхова вытрымала канкурэнцыю з ідэяй «адзінага савецкага народа», якая карысталася магутнай афіцыйнай падтрымкай. Тэндэнцыя даволі красамоўная:} падчас першых у сваёй гісторыі свабодных выбараў (ва Устаноўчы сход увосень 1917 г.) менш 1 % беларусаў прагаласавала за мясцовыя партыі з выразнай нацыянальнай арыентацыяй, тады як у першым туры прэзідэнцкіх выбараў 1994 г. нацыянальна арыентаваныя кандыдаты (З. Пазняк і С. Шушкевіч) сабралі разам больш за 20 % галасоў. {Шэсць гадоў рэальнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь пакінулі глыбокі след, найперш у маладога пакалення, таму гэтую лічбу аніякім чынам нельга лічыць канчатковай}. [Узніклая пазней за іншыя «нацыянальныя ідэі», з цяжкасцю спрабуючая знайсці апору ў мінулым і праторыць сабе шлях, «беларуская ідэя», тым не менш, жыве і ўзмацняецца. І для моладзі, што гадуецца ва ўмовах незалежнасці, ідэі беларускага народа і беларускай дзяржавы стануць, відавочна, нечым настолькі звыклым і натуральным, што ўжо ніколі не змогуць быць страчанымі].

*Перакладзена з рускай мовы паводле:*
Белоруссия и Россия: общества и государства. Москва: Права человека, 1997. С. 11—30. *Тэкст у фігурных дужках* { } *быў выключаны рэдактарам.* *Тэкст у квадратных дужках* [ ] *быў дабаўлены рэдактарам.*

# Матэрыял да дыскусіі «Вытокі беларускай ідэнтычнасці» ў часопісе «Studia Slavica et Balcanica Petropolitana»

Удзельнікам прапаноўвалася ў вольнай форме адказаць на пытанні:

1. Якія гістарычныя вытокі беларускай ідэнтычнасці?
2. Якія гістарычныя працэсы, падзеі, умовы далі штуршок да яе фармавання?
3. Які гістарычны кантэкст узнікнення беларускай ідэнтычнасці?

Перш за ўсё абгавару, што я разглядаю ідэнтычнасць як шматузроўневую з'яву. Чалавек схільны атаясамліваць сябе з колам сваіх родзічаў, сацыяльнай альбо прафесійнай групай, зямляцтвам (малой радзімай), этнасам (нацыяй), цывілізацыйнымі альбо канфесійнымі супольнасцямі (хрысціянін, еўрапеец). Праявы беларускай ідэнтычнасці могуць мець, як мінімум, дзве формы: можна лічыць сябе беларусам і адначасова прадстаўніком больш шырокай супольнасці (палякам, рускім, савецкім і да т.п.), а можна прыдаваць сваёй беларускасці выключнае значэнне, выкарыстоўваць яе для супрацьпастаўлення іншым супольнасцям.

Раннія праявы беларускай ідэнтычнасці тычацца, безумоўна, першага варыянта. Неабходнай умовай для іх з'яўлення было замацаванне «блукаючага» паняцця «Белая Русь» (*Alba Russia*) за канкрэтнай тэрыторыяй — адным з рэгіёнаў ВКЛ, які раней называўся «Руссю» ў вузкім сэнсе (паўночна-ўсходняй паловай сучаснай Беларусі). Гэта адбылося на працягу прыкладна паловы стагоддзя пасля Люблінскай уніі 1569 г. Першыя выпадкі ўжывання тэрміна «Белая Русь» у такім сэнсе датуюцца пачаткам 1580-х гг., і тады ж у польскамоўнай хроніцы М. Стрыйкоўскага з'яўляецца тэрмін «літоўскія беларусакі» (*Białorussacy litewscy*), у старабеларускім перакладзе пададзены як «беларусцы». У 1586 г. выхадзец з полацкай шляхты Саламон Рысінскі (1565?—1625) пры паступленні ў адзін у універсітэтаў Германіі вызначае сваё паходжанне вынайдзеным, напэўна, ім самім грэка-славянскім гібрыдам *Leucorussus*, што можна згодна з А. Латышонкам лічыць першай свядомай праявай беларускай самаідэнтыфікацыі[1]. Пры гэтым Рысінскі ўсведамляў сябе і літвінам, і палякам, і нават «сарматам» у тым сэнсе, які надаваўся ў той час паняццю «Еўрапейская Сарматыя». У першай чвэрці XVII ст. выкарыстанне хароніма «Белая Русь» у мясцовым ужытку стала, відаць, агульнапрынятым. Маскоўскі патрыярх Філарэт у 1619 г. прыгадваў праваслаўных «Польскай і Літоўскай дзяржавы», якія «*там называются белорусцами*»[2].

Але да канца існавання Рэчы Паспалітай ва ўраджэнцаў Белай Русі не было асаблівых падстаў падкрэсліваць сваю рэгіянальную ідэнтычнасць. Нашмат важнейшая была прыналежнасць да канфесіі (праваслаўная вера ў Рэчы Паспалітай звычайна пазначалася як «грэка-руская», а ўніяцкая — як проста «руская), для шляхты — прыналежнасць да палітычнай нацыі «літвінаў» і «польскае» грамадзянства Рэчы Паспалітай у цэлым. Пры адрозненні ад этнічных балтаў славянскае насельніцтва ВКЛ пазначалася як «Русь», «рускія», а падстаў для супрацьпастаўлення ўкраінцам у той час яшчэ не было. У крайнім выпадку жыхароў сучаснай Беларусі можна было вызначыць па дзяржаўнай прыналежнасці, і тады яны выступалі як «літвіны» ў шырокім сэнсе.

---

[1] Латышонак А. Нацыянальнасць — беларус. Б.м.: Ін-т беларусістыкі; Бел. гіст. таварыства, 2009. С. 185—190.

[2] Макарий, митрополит Московский. История Русской церкви. Т. 11. С-Пб., 1903. С. 30—31.

Праявы беларускай ідэнтычнасці ў XIX ст. настолькі нешматлікія, што ў апошні час вандруюць з адной публікацыі ў іншую. Не прэтэндуючы на нешта новае, паспрабую іх сістэматызаваць.

У 1810-я гг. у асяроддзі эліты заходніх губерняў Расійскай імперыі зараджаецца працэс, які вызначаецца як першая фаза канструявання мадэрнай беларускай нацыі: этнаграфічная цікаўнасць да культуры і мовы «простага люду», збор і публікацыя яго фальклору, а таксама спробы навуковай класіфікацыі «рускай» канцылярскай мовы ВКЛ. Пачатак паклалі публікацыя М. Чарноцкай «Пра перажыткі славянскай міфалогіі, што захаваліся ў звычаях вясковага люду на Белай Русі» (1817 г.) і этнаграфічны нарыс І. Шыдлоўскага пра вясельны абрад у Гайненскім прыходзе Барысаўскага павета (1819 г.). Абедзве яны, як і работы К. Фалютынскага, А. Рыпінскага, Я. Чачота, што паследавалі за імі ў 1820—1840-я гг.[3], публікаваліся на польскай мове, за выключэннем хіба што рускамоўнай работы К. Калайдовіча «О белорусском наречии» (1822 г.). Для іх аўтараў, у большасці выхадцаў з мясцовай каталіцкай шляхты, дамінуючай рэгіянальнай ідэнтычнасцю была «літвінская», а ў нацыянальным сэнсе яны былі ўдзельнікамі працэсу фармавання мадэрнай польскай нацыі, які бурна адбываўся ў той час і ў якім выхадцы з сучаснай Беларусі адыгрывалі ледзь не галоўную ролю (яскравыя прыклады — Т. Зан і А. Міцкевіч).

Выключэнне, апрача каларытнай постаці Ф. Булгарына (1789—1859), уяўляла сабой у 1820-я гг. група выкладчыкаў Віленскага ўніверсітэта, што паходзіла з уніяцкага духавенства Беласточчыны: М. Бабroўскі (1785—1848), І. Даніловіч (1787—1843) і інш. Нягледзячы на працу ва ўніверсітэце, які адыгрываў ролю аднаго з «рэактараў» польскага нацыянальнага праекта, іх нешляхецкае і некаталіцкае паходжанне не дазволіла аднaзначна далучыцца да гэтага праекта. Але выпрацаваць альтэрнатыўную ідэнтычнасць у тых умовах было складана. Паводле эпісталярнага сведчання М. Баброўскага, яго сябра І. Даніловіч пасля пераезду ў Харкаў і сутыкнення з украінскім нацыянальным рухам, што зараджаўся там, «цалкам схахліўся ці таксама аказачэў»[4]. Для самога Баброўскага ў канцы жыцця дамінантнай стала, відаць, агульнаславянская ідэнтычнасць, чаму спрыялі прафесійныя заняткі славянскім мовазнаўствам.

На працягу 1830—1840-х гг. выхадцы з уніяцкага духавенства беларускіх у тагачасным разуменні губерняў, г. зн. Віцебскай і Магілёўскай, неаднаразова вызначаюць сябе як «беларусаў» альбо «беларусцаў» — але не ў этнічным, а хутчэй у рэгіянальным сэнсе. Гэта былі, у прыватнасці, выдаўцы паэтычнага зборніка ў Пецярбурзе ў 1837 г. тры браты Гржымалоўскія, навуковец-лінгвіст К. Касовіч (які выкарыстоўваў псеўданім «Белорус К.К.»), аўтар артыкула «Слова два о языке и грамотности Белой Руси» (1843 г.) І. Цытовіч. Апошні пры гэтым заяўляў, што вывучэнне беларускай гутаркі «*может послужить к обогащению и украшению родного русского языка*»[5], выступіўшы тым самым прадцечай «заходнерусізму».

Да сярэдзіны XIX ст. стала больш-менш відавочна, што этнаграфічныя асаблівасці Белай Русі не маюць прынцыповых адрозненняў ад тэрыторыі на паўднёвы захад ад яе, якая раней (таксама з пачатку XVII ст.) часткова пазначалася як «Чорная Русь», а часткова — як «Літва». Неўзабаве гэта прывяло да распаўсюджання на ўсю гэтую тэрыторыю тэрміна «Белоруссия», які набыў, такім чынам, ролю этнакультурнага маркёра. Мінскі праваслаўны епіскап М. Галубовіч у 1866 г. ужо упэўнена сцвярджаў: «*В состав Белоруссии входят губернии Витебская, Могилевская, часть Виленской, Минская и Гродненская*»[6].

---

[3] Пыпин А.Н. История русской этнографии. Т. IV: Белоруссия и Сибирь. С-Пб., 1892. С. 31—37.

[4] Терешкович П.В. Этническая история Беларуси XIX — начала XX в.: В контексте Центрально-Восточной Европы. Мн.: БГУ, 2004. С. 70.

[5] М. Хаўстовіч. Ігнат Даніловіч і «Катэхізіс» 1835 г. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1999. Nr 12. S. 147.

[6] Миловидов А. Распоряжение и переписка графа М.Н. Муравьева относительно римско-католического духовенства в Северо-Западном крае. Вильно, 1910. Цит. по: Токць С. Беларуская ідэнтычнасць у XIX ст. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2005. Nr 24. S. 90.

Хіба што першае сведчанне самаідэнтыфікацыі ў якасці беларусаў дробнага чыноўніцтва маецца ў мемуарах І. Захар'іна, які так характарызаваў нізавых ураднікаў Магілёўскай губерні, з якімі працаваў у 1860-я гг.: «*Это были местные урожденцы — „белоруссы», как они стали называть себя после усмирения восстания*». На яго думку, яны «*вредили, насколько могли, русскому делу*»[7].

Цікавасць уяўляе ідэнтычнасць А. Кіркора (1818—1886), выхадца з каталіцкай шляхты Мсціслаўшчыны. Ён безумоўна знаходзіўся пад уздзеяннем ідэй «літвінства» і «краёвасці», але ў перапісцы са славянафілам М. Катковым вызначаў сябе «*не природным поляком, а белорусом*»[8]. Яго і яго аднадумцаў тычыцца ацэнка М. Каяловічам поглядаў «*лучших людей, представителей польской партии*» ў Вільні 1850-х гг., паводле якіх «*история выработала для белорусов особую национальность*»[9]. Сам Кіркор, ужо будучы ў Пецярбурзе, пісаў у 1872 г. Ю. Крашэўскаму: «*Ёсць яшчэ думка, моцная і шматлікая, якая не хоча супольнасці ані з Польшчай, ані з Масквой, ані з маларусамі — а хоча ўласнага літоўска-беларускага жыцця, вядома, на федэрацыйных асновах*»[10]. Пры такіх поглядах уліцца ў расійскую культурную эліту ён, у адрозненнне ад Булгарына, не здолеў, а ў апошнія гады жыцця, праведзеныя ў Кракаве, не стаў сваім і для мясцовых палякаў. Відаць, яго погляды яшчэ раз меў на ўвазе Каяловіч у 1882 г., прыпамінаючы прыходзячыя да яго «з Варшавы праз Кракаў» пажаданні беларускаму краю «*самостоятельного развития в ряду других славянских народов*»[11].

Але ў цэлым каталіцкае шляхецкае асяроддзе працягвала фармаваць польскіх патрыётаў, якія на рэгіянальным узроўні адчувалі сябе літвінамі. Часта яны з сімпатыяй выказваліся пра беларускіх сялян, не атаясамліваючы пры гэтым сябе з імі. У гэтай лініі можна асабліва вызначыць В. Дуніна-Марцінкевіча (1808—1884), У. Сыракомлю (1823—1862) і В.К. Каліноўскага (1838—1864), пазней яе ў пэўным сэнсе працягвае Ю. Пілсудскі (1867—1935).

Для праваслаўнай моладзі ідэнтычнасць на рэгіянальным узроўні была, як правіла, беларускай, а на нацыянальным — велікарускай. Такімі былі погляды этнографа-аматара, выхадца з сям'і праваслаўнага святара П. Шпілеўскага (1823—1861). Ананімны аўтар апублікаваных у 1862 г. «Рассказов на белорусском наречии» прытрымліваўся аналагічнай іерархіі: «*Мы сами по соби народ особный — Белоруссы!*». І ў той жа час: «*Русскими, а не Поляками мы повинны называтца*»[12]. Ідэйны лідар «заходнерусізму», таксама сын святара М. Каяловіч (1828—1891) у 1850-я гг. вызначаў сябе як «літвіна», у публікацыях 1860-х гг. дапускаў выразы накшталт «*у нас, в Белоруссии*», але цалкам падпарадкаваў рэгіянальную самасвядомасць пачуццю прыналежнасці да велікарускай нацыі, называючы сябе «западно-руссом».

Пакаленнем пазней падобную двухузроўневую ідэнтычнасць меў яшчэ адзін «пaповіч» — мовазнаўца Я. Карскі (1860—1931), які сваёй творчасцю завяршыў этнаграфічную фазу канструявання нацыі. На старце навуковай кар'еры ў 1885 г. ён характарызаваў сябе як «*природного белорусса, получившего образование и воспитание среди белоруссов*»[13], пры гэтым у XX ст. вызначыўся крайне скептычным стаўленнем да ідэі беларускай дзяржаўнасці і перспектыў беларускай літаратурнай мовы.

---

[7] Захарьин И.Н. Воспоминания о службе в Белоруссии 1864—1870 гг. (Из записок мирового посредника) // Исторический вестник. 1884. Т. 16. С. 65. Цит. по: Токць С. Беларуская ідэнтычнасць у XIX ст. S. 87.

[8] Цвікевіч А. «Западно-руссизм». С. 214.

[9] Коялович М. Несколько слов о народном движении в Белоруссии // День. 1863. № 18. Цвікевіч А. «Западно-руссизм». С. 156—157.

[10] Цит. по: Латышонак А. Нацыянальнасць — беларус. С. 387.

[11] Коялович М. Польское приглашение белорусского юношества к сепаратизму // Литовские Еп. Ведомости. 1882. № 10.

[12] Цит. по: Латышонак А. Нацыянальнасць — беларус. С. 432, 435.

[13] Карский Е.Ф. Обзор звуков и форм белорусской речи / Извлечено из X т. Известий Историко-Филологического Института князя Безбородко в Нежине. М., 1885. С. 3.

Але да таго ж пакалення належаў і А. Марчанка (1860 — пасля 1889), ці не першы беларускі сялянін, які здолеў паступіць ва ўніверсітэт. Прымкнуўшы да народнікаў, ён апынуўся ў ліку арганізатараў беларускай фракцыі «Народнай волі» ў Пецярбурзе, заяўляючы ў 1884 г. разам са сваімі таварышамі на старонках падпольнага часопіса «Гоман»: «*Мы — белорусы и должны бороться за местные интересы белорусского народа и федеративную автономию страны*»[14]. Гэта быў першы ў гісторыі тэкст, у якім паняцці «беларусы», «народ» і «краіна» былі пастаўлены ў адзін сэнсавы шэраг.

Неўзабаве ступіў на навуковае попрышча М. Доўнар-Запольскі (1867—1934), выхадзец з дробнай неапалячанай шляхты і сын правінцыйнага жандармскага чыноўніка. Ужо ў першых яго нарысах «Белорусское прошлое», апублікаваных у 1888 г. у «Минском листке», гістарычны вопыт паланізацыі і русіфікацыі беларусаў ацэньваецца аднолькава негатыўна[15]. У XX ст. ён стаў заснавальнікам нацыянальнай беларускай гістарыяграфіі і, у адрозненне ад Карскага, гарачым прыхільнікам стварэння беларускай дзяржавы.

Важны ўнёсак у працэс нацыятворчасці выпала ўнесці ў 1890-я гг. Ф. Багушэвічу (1840—1900), постаць якога парадаксальная. Усё, што тычыцца сацыяльнай ролі, якую ён выконваў, у цэлым укладаецца ў схему двухузроўневай літвінска-польскай ідэнтычнасці: шляхціч-католік па паходжанні, удзельнік паўстання 1863 г., польскамоўны літаратар і актыўны карэспандэнт часопіса «Kraj», актывіст збору сродкаў на помнік А. Міцкевічу ў Вільні і арганізацыі нелегальных польскіх школ, ён выхаваў уласных дзяцей перакананымі палякамі. Пазней сын Багушэвіча адмовіўся перадаць бацькоўскі архіў дзеячам беларускага руху менавіта на ідэйных падставах — будучы, паводле ацэнкі А. Цвікевіча, «заалагічным польскім шавіністам»[16].

Пры гэтым Багушэвіч, па прыкладзе больш ранніх «хлопаманаў» (Чачота, Дуніна-Марцінкевіча і інш.), выдаў у 1891 г. на «мужыцкай» мове зборнік вершаў «Дудка беларуская». Праграмная роля ў ім, напэўна, прызначалася вершу «Хрэсьбіны Мацюка», сюжэтам якога выступае самавызначэнне селяніна-католіка Мацея пад уздзеяннем казацкай нагайкі: «*О так-то хрысцілі мяне казакі з тутэйшага ды у палякі!*». Схаваўшы гэтую «ідэалагічную бомбу» сярод палітычна нейтральных вершаў, Багушэвіч вырашае для большага эфекту стварыць літаратурную містыфікацыю, дадаўшы да зборніка прадмову ад асобы таго ж персанажа. Але з вуснаў быццам бы канчаткова перахрышчанага ў палякі Мацея Бурачка выходзяць нечаканыя словы: «*Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная*». Мне падаецца, што словы гэтыя не былі вынашанымі, абдуманымі. Не, яны нарадзіліся ў выніку азарэння, і, магчыма, аўтар «Дудкі беларускай» здзівіўся ім не менш, чым аўтар «Анны Карениной» — спробе Вронскага застрэліцца. Ужыўшыся ў вобраз свайго персанажа, Багушэвіч раптам адчуў, што, у адрозненне ад яго самога, для Мацея не было камфортнага шляху ні ў палякі, ні ў велікаросы — ад Бога дадзеная мова патрабавала адпаведнай этнічнай самаідэнтыфікацыі, а адмова ад яе азначала духоўную смерць: «*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!*».

Гэтая рамантычная сакралізацыя моўнай самабытнасці адыграла ролю каталізатара, адкрыўшы шлях да другой формы беларускай ідэнтычнасці — дамінантнай адносна ўсіх іншых іерархічных узроўняў, г. зн. нацыянальнай. Мова дадзена ад Бога, а што можа быць важней за выкананне Божай волі?

З мяжы XX ст. працэс нацыятворчасці пераходзіць у другую фазу — стадыю нацыянальнай агітацыі. У 1902 г. у Пецярбурзе Б. Эпімах-Шыпіла стварае «Гурток беларускай народнай адукацыі і культуры», у 1906 г. выходзяць газеты «Наша доля» і «Наша ніва». Амаль адразу ж вынікі праяўляюцца ў вясковай глыбінцы і сярод дыяспары. Ураджэнец Лагойшчыны і нацыянальны актывіст 1930-х гг. Адам Варлыга ўспамінаў, што ўпершыню слова «беларус» ён пачуў у 15-гадовым узросце, летам

---

[14] Публицистика белорусских народников / Сост. А. Александрович, И. Александрович. Мн., 1983. С. 60.

[15] Довнар-Запольский М. Исследования и статьи. Т. 1. Киев 1909. С. 333—335.

[16] Цвікевіч А. «Западно-руссизм». С. 190.

1905 г., ад новага мясцовага ксяндза-«жмудзіна», выхадца з гуртка Эпімах-Шыпілы, а «Нашай нівай» яго забяспечваў сын мясцовага яўрэя-карчмара[17]. У 1907 г. з далёкага Ніжняга Ноўгарада дасылае ў «Нашу ніву» сваё першае беларускамоўнае апавяданне 16-гадовы Максім Багдановіч. А. Латышонак прыводзіць сямейныя ўспаміны пра тое, як у тыя ж гады малодшы брат яго дзеда, узрушаны адкрыццём сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, рваў на грудзях кашулю і крычаў: «Я — беларус!»[18].

Колькасныя вынікі гэтай агітацыі былі даволі сціплымі — амаль усё XX стагоддзе лічба перакананых нацыяналістаў вагалася на ўзроўні дзясяткаў тысяч чалавек, г. зн. доляў працэнта. Гэтая лічба павышалася ў спрыяльныя перыяды (палітыка «беларусізацыі» 1920-х гг. і прапаганда калабарантаў у гады нямецкай акупацыі 1941—1944) і паніжалася ў неспрыяльныя (рэпрэсіі 1930-х і 1944—1953 гг.).

Але якасныя вынікі аказаліся фантастычна паспяховымі. У 1917 г. В. Ластоўскі ўпершыню загаварыў пра магчымасць стварэння незалежнай беларускай дзяржавы, а ўсяго праз год была здзейснена спроба яе абвяшчэння ў форме БНР — ненашмат больш правальная, чым значна лепш падрыхтаваная ўкраінская. Прамым яе наступствам стала эфемернае стварэнне на пачатку 1919 г. БССР, якая, нягледзячы на шчырае неразуменне многіх удзельнікаў (*«ни один рабочий и крестьянин так называемой Белоруссии белорусом себя не считает, а искони знает в себе русского»*[19]), у 1920 г. была адноўлена і з той пары існавала непарыўна, апынуўшыся ў ліку ініцыятараў стварэння СССР і затым яго роспуску, і нават сярод краін-заснавальніц ААН. Апрача спрыяльных палітычных акалічнасцей, адыграла ролю і якасна праведзеная «этнаграфічная» стадыя: да пачатку XX ст. самастойны этнічны статус беларускай тэрыторыі стаў агульнапрызнаным, а гэта прадугледжвала і нейкую форму аўтаноміі — ажно да народжанай палітычнымі гульнямі псеўдадзяржавы.

Шматгадовае існаванне БССР, на фоне ўрбанізацыі і іншых эпахальных зрухаў, стварыла канчатковыя ўмовы для афармлення нацыі. Да 1960—1970-х гг. было забяспечана ўнармаванне моўнай практыкі. І не важна, што для гараджан мовай штодзённага ўжытку стала руская, а для вяскоўцаў — так званая «трасянка». Важна, што адступілі ў цень дыялектныя асаблівасці мясцовых гутарак. На глебе атэізму лёгка і небалюча адбылася раней недасягальная інтэграцыя католікаў і праваслаўных. Толькі частка сялян-католікаў, на ўзроўні 4 % насельніцтва, захавала рэлігійнасць і разам з ёй польскую ідэнтычнасць (але не мову). У астатняй масе ўсталёўвалася двухузроўневая ідэнтычнасць: «беларус» на рэгіянальным узроўні і «рускі» альбо «савецкі чалавек» — на нацыянальным. У адрозненне ад Прыбалтыкі, Закаўказзя і Сярэдняй Азіі, для большасці беларусаў іерархія каштоўнасцей была менавіта такой — спашлюся, за адсутнасцю статыстыкі, на ўласны вопыт і тагачасныя погляды практычна ўсіх сваіх родных, сяброў і знаёмых. Выключэнне складалі вышэйазначаныя долі працэнта прынцыповых беларусафонаў. Новы ўсплёск нацыянальнай агітацыі ў канцы 1980-х змяніў гэтую сітуацыю непрынцыпова — хіба што, падняў колькасць людзей, якія надаюць мове сакральны характар, да некалькіх працэнтаў.

Завяршальны крок быў зроблены пасля 1991 г. Падставы для «савецкай» ідэнтычнасці раптам зніклі — не толькі без намаганняў з боку большасці беларусаў, але і насуперак іх жаданню (на рэферэндуме 17 сакавіка 1991 г. за захаванне СССР выказаліся 82,7 % прагаласаваўшых жыхароў Беларусі, супраць — 16,1). Гэта выклікала глыбокі духоўны крызіс, выйсце з якога было відавочнае: прыданне сваёй беларускасці нацыянальнага статусу. Адны здзейснілі гэтую ментальную перабудову лёгка і хутка, для іншых яна расцягнулася на гады, для кагосьці не завяршылася і зараз. Пры сацапытанні Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД)[20] у снежні 2005 г. у адказ на прамое пытанне аб ідэнтычнасці 43,7 % пажадалі назвацца беларусамі, 44,3 — грамадзянамі Рэспублікі Беларусь і

[17] Варлыга А. Карэншчына // Літаратура і мастацтва. 1994. № 14—15.
[18] Латышонак А. Нацыянальнасць — беларус. С. 408.
[19] Калубовіч А. «Айцы» БССР і іхны лёс. Выд. 2-ое. Клыўлэнд, 1985.
[20] http://www.iiseps.org/.

**Гістарычныя ростані, на якіх беларусам давялося рабіць чарговы выбар**
(фотамантаж з сайта http://www.sostav.ru/news/2009/09/08/r3/)




толькі 4,1 — рускімі, 1,4 — грамадзянамі СССР (пры тым, што паводле перапісу несельніцтва 1999 г. этнічных беларусаў налічвалася 81,2 %, рускіх — 11,3, палякаў — 3,9). У кастрычніку 2006 г. да беларускай культурнай традыцыі прылічылі сябе 64,2 %, да рускай — 13,6, да савецкай — 13,3. Палякі, відаць, уліліся ў лік прыхільнікаў агульнаеўрапейскай традыцыі (8,1 %).

Двухузроўневая ідэнтычнасць захавалася: у чэрвені 2006 г. 53,7 % апытаных гатовы былі пагадзіцца з выказваннем У. Пуціна «*мы и белорусы, по большому счету, — одна нация*», а ў жніўні таго ж года 65,7 % выбралі з прапанаваных варыянтаў адказ «*белорусы, русские и украинцы — три ветви одного народа*». Але змянілася значымасць узроўняў. На працягу 2004—2009 гг. аб'яднанне ў адну дзяржаву з Расіяй называлі найлепшым варыянтам інтэграцыі ад 8 да 15% апытаных, што на ўзроўні пагрэшнасці адпавядае колькасці этнічных рускіх. У гэтым заключаецца калектыўны адказ на славутую прапанову Пуціна «аддзяліць мух ад катлет», то бок вызначыцца, чаго беларусы сапраўды жадаюць: інтэграцыі (але такой, пры якой

голас Беларусі быў бы эквівалентны яе трохпрацэнтнай долі ў агульнай эканоміцы) альбо суверэнітэту.

Падкрэслю, што беларусы, якія выбралі суверэнітэт, у масе сваёй рускамоўныя. Пры перапісе 1999 г. рускую мову пазначылі ў якасці мовы штодзённага ўжытку 62,8 % насельніцтва, уключаючы 58,6 % беларусаў. Паводле апытанняў 2006—2009 гг. толькі рускай мовай карысталіся ад 52,3 да 61 % рэспандэнтаў, а толькі беларускай — ад 2,2 да 7,8. Чэрвеньскае апытанне 2010 г. дало крайнія лічбы: адпаведна 63,8 і 2,1 %. З астатніх 12,1 % карыстаюцца абедзвюма мовамі (незразумела, у якіх суадносінах), а 21,8 — «трасянкай». Пры апытанні ў кастрычніку 2006 г. 72,9 % тых, хто карыстаецца ў зносінах рускай мовай, адзначылі, што размаўляюць на ёй з дзяцінства. На жаль, мне невядомыя даныя пра тое, якая частка насельніцтва актыўна валодае літаратурнай беларускай мовай (можа на ёй свабодна размаўляць і пісаць). Але мяркую, што ёй валодае, апрача выпускнікоў беларускамоўных школ, толькі частка культурнай эліты. Гэтая мова набыла статус рытуальнай, ужыванай у выключных выпадках — падобна таму, як А. Лукашэнка прыносіў на ёй прэзідэнцкую прысягу.

У цэлым сённяшняе самаадчуванне рускамоўных беларусаў цалкам адпавядае крытэрыям «нармальнай» нацыі, якая мае агульную мову з гістарычнай метраполіяй — такой, як амерыканцы, аўстралійцы, бразільцы альбо мексіканцы. Калі ў чым і не адпавядае — хутка «падцягнецца». Рэалізаваны спосаб пабудовы нацыі аказаўся не тым, да якога заклікалі нацыянальныя агітатары. Ён мала залежаў ад свядомых намаганняў эліты і праяўляўся хутчэй як стыхійная рэкцыя на бурныя змены знешняй рэчаіснасці. Але вынік, тым не менш, у наяўнасці.

# Праблемы ўтварэння ВКЛ: агляд беларускай гістарыяграфіі

Тэма ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага надзвычай запатрабаваная ў сучаснай палітыка-культурнай сітуацыі. Гістарычная спадчына гэтай дзяржавы і адносіны да яе адыгрываюць ключавую ролю ў фармаванні ідэнтычнасці Літвы, Беларусі і, у меншай ступені, Украіны. Сёння многія з іх успрымаюць ВКЛ як дзяржаву сваіх продкаў. Такое стаўленне вызначаецца ўяўленнямі пра ўзнікненне гэтай дзяржавы, пра ролю розных этнічных складнікаў пры яе стварэнні. Мадэрная літоўская нацыя і нацыянальная дзяржава былі пабудаваныя шмат у чым дзякуючы адчуванню гістарычнай пераемнасці (і нават тоеснасці) паміж сучасным насельніцтвам Літвы і тым сярэднявечным этнасам, які выступіў ініцыятарам стварэння ВКЛ. Рашаючую ролю пры гэтым адыграла сугучнасць назваў, якая на масавым узроўні была дастатковым аргументам для падобнага атаясамлення.

Нацыятворчасць беларусаў ад пачатку апынулася ў больш складаным становішчы, бо ў гістарычным мінулым не было такіх пераканаўчых сугуччаў. Дакладней, гістарычныя саманазвы «русь», «руський», якімі карысталіся іх продкі, да моманту афармлення беларускай нацыянальнай ідэі былі трывала «ўзурпаваныя» жыхарамі Расіі. Той факт, што іх спрабавалі аспрэчыць на сваю карысць яшчэ і ўкраінскія нацыяналісты, толькі ўскладняў сітуацыю. Невыпадкова адзін з найбольш актыўных беларускіх (у сучасным разуменні) нацыяналістаў Вацлаў Ластоўскі доўга не мог вызначыцца з этнонімам для выражэння сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці. Сам ён схіляўся на карысць тэрміна «крывічы», які адкрываў шлях для самаатаясамлення са стваральнікамі Полацкага княства, але гэты варыянт не сустрэў падтрымкі ў ягоным атачэнні. Перамог тэрмін «беларусы», які меў рэгіянальнае, этнаграфічнае напаўненне і практычна не нёс гісторыка-палітычных асацыяцый. У крыніцах перыяду ВКЛ ён калі і сустракаўся зрэдку, то з маргінальным адценнем. Гэта вельмі ўскладняла прэтэнзіі тых, хто называў сябе беларусамі, на спадчыну гэтай дзяржавы.

Погляды В. Ластоўскага на гісторыю ўласнага народа цяжка назваць навуковымі. Не атрымаўшы сістэматычнай гістарычнай адукацыі, ён паспрабаваў, тым не менш, выкласці свае ўяўленні ў брашуры «Кароткая гісторыя Беларусі», выдадзенай у 1910 г. пад псеўданімам Власт[1], якую можна лічыць, з пэўнымі нацяжкамі, першым словам беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі[2]. У ёй аўтар некрытычна ўспрымае генеалагічныя паданні летапісаў і хронік XVI ст., разбаўляючы іх сваімі прыдумкамі ўперамешку з дакладнымі фактамі. Ужо ў 1190 г., на ягоную думку, «полочане выбіраюць сваім князем нейкага Мінгайлу, або Мігайлу», якому наследуе ягоны сын Гінвіл. Але затым Полацкам зноў кіравалі князі з роду Ізяславічаў — да таго часу, пакуль «у 1230 г. Літоўскі князь Рынгольд напаў на Беларускія землі і заваяваў іх». Міндоўг аказваецца сынам і законным спадчыннікам Рынгольда, але, тым не менш, «калі Міндоўг сеў на велікакняжэцкім пасадзе ў Новагрудку і ўмацаваўся ў землях Смаленскай, Вітэбскай, Друцкай, тады і Полацкае княжство з Вітэбскім і другімі ўдзеламі страціла сваю незалежнасць». Крыху далей аўтар не выключае, што Міндоўг мог належаць «да роду князёў Полацкіх». Агульны характар утварэння дзяржавы яму падаваўся такім: «мала-памалу з Беларускіх зямель злажылося новае гасударство — княжство Літоўска-Рускае. Літоўскія князі, умацаваўшыся перш у Полацку, прынімалі хрысціянство і радніліся з Беларускімі і Полудзённа-Рускімі князямі»[3].

[1] Власт. Кароткая гісторыя Беларусі. З 40 рысункамі. Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1910.

[2] Пад беларускай гістарыяграфіяй далей разумеюцца навуковыя і навукова-папулярныя тэксты, напісаныя на пазначаную тэму тымі аўтарамі, якія ідэнтыфікавалі сябе як беларусы — незалежна ад таго, на якой мове яны пісалі.

[3] Цыт. паводле перавыдання: Ластоўскі В.Ю. Кароткая гісторыя Беларусі. Мінск: Універсітэцкае, 1992. С. 13—17.

Інстытуцыйнае афармленне беларускай гістарычнай школы адбылося на пачатку 1920-х гг., пасля канчатковага замацавання савецкай улады на ўсходняй частцы беларускіх зямель, дзе была ўтворана БССР. Найбольш значнымі прадстаўнікамі нацыянальнай школы сталі У.М. Ігнатоўскі (1881—1931), народны камісар асветы БССР і першы кіраўнік Інстытута беларускай культуры, а пазней прэзідэнт Беларускай акадэміі навук і дырэктар Інстытута гісторыі, і У.І. Пічэта (1878—1947), першы рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Абодва яны ў сваіх абагульняючых працах па гісторыі Беларусі мімаходзь закраналі тэму ўтварэння ВКЛ. Першы з іх зрабіў гэта ў папулярнай кнізе «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (першы варыянт быў напісаны ў 1919 г., неаднойчы перавыдавалася да 1926 г. і затым у 1991 г.), другі — у працах «История Литовского государства до Люблинской унии» (1921) і «Гісторыя Беларусі» (1924).

Пры гэтым беларуская ідэнтычнасць ураджэнца Палтавы У.І. Пічэты небясспрэчная, хаця ён і друкаваў беларускамоўныя тэксты. Вывучаючы гісторыю ВКЛ, ён абапіраўся на працы свайго настаўніка, былога рэктара Маскоўскага ўніверсітэта М.К. Любаўскага (аднаго з аўтараў трактоўкі ВКЛ як «Літоўска-Рускай дзяржавы»). Характэрна, што артыкул Любаўскага на тэму ўзаемаадносінаў літоўскага і «руського» этнасаў быў надрукаваны па-беларуску[4]. Тым не менш паказальна, што Пічэта ў сваёй манаграфіі 1921 г. называў ВКЛ не Літоўска-Рускай, а Літоўскай дзяржавай. Магчыма, панятак «рускі» ў той час вельмі моцна асацыяваўся з Расіяй.

Маюць цікавасць погляды У.М. Ігнатоўскага, беларуская ідэнтычнасць якога не выклікае сумневаў. Ягоны «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» на працягу 1920-х гг. выкарыстоўваўся як школьны падручнік і тым самым садзейнічаў трансляцыі навуковых уяўленняў у масы. Аўтар адзначаў, што, «карыстаючы з таго агульнага перапалоху, каторы зрабілі на Русі татары, ён [Міндоўг. — *В.Н.*] захватвае так званую Чорную Русь». У той жа час ён падкрэсліваў, што «такім спосабам Мендаўг збудаваў гаспадарства, каторае з самага пачатку было не проста літоўскім, а літоўска-беларускім. … Такая еднасць і згода паміж літоўскім і рускім элементамі дзяржавы залежала ад таго, што Літоўска-Беларускае гаспадарства было збудована больш шляхам згоды, чымся шляхам уціску і вайны»[5]. Такім чынам, у адрозненне ад Любаўскага і Пічэты, Ігнатоўскі называе ВКЛ не Літоўскай і нават не Літоўска-Рускай, а Літоўска-Беларускай дзяржавай.

Адной з першых спроб выкласці навуковыя ўяўленні аб гісторыі ВКЛ з пункту гледжання беларуса можна таксама лічыць брашуру Мітрафана Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасці Беларусі», выдадзеную ў 1919 г.[6]. Мэта гэтай публікацыі была цалкам канкрэтнай — даць абгрунтаванне спробам абвясціць Беларускую Народную Рэспубліку, здзейсненым годам раней, і дамагчыся яе міжнароднага прызнання. На момант напісання гэтай брашуры М.В. Доўнар-Запольскі (1867—1934) быў значным навукоўцам-гісторыкам, прафесарам Кіеўскага ўніверсітэта. Але тэмай утварэння ВКЛ ён паглыблена не займаўся, хаця ў сваёй выкладчыцкай дзейнасці не мог не закранаць яе. Можна выказаць здагадку, што погляды на фармаванне ВКЛ ён сфармаваў пад уздзеяннем ідэй свайго калегі М.С. Грушэўскага — аўтара канцэпцыі «ўкраінска-рускай народнасці», які неаднакроць падкрэсліваў ролю «руського» складніка ў гісторыі ВКЛ.

Тэма ўтварэння ВКЛ у брашуры закранаецца мімаходзь: аўтар адзначае паступовае выміранне роду Рагвалодавічаў і піша, што «якраз у гэтых часах на заходзе, у межах мала-культурнага літоўскага народу, утварылася незалежная Літоўская

---

[4] Любаўскі М. Літва і славяне ў іх узаемаадносінах у XI—XIII сталецьці // Запіскі аддзелу гуманітарных навук Беларускай акадэміі навук. Працы клясы гісторыі. Менск, 1929. Т. 3. С. 1—20.

[5] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 4-е выд., перапрацаванае. Менск, 1926. Цыт. паводле перавыдання: Ігнатоўскі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5-е выд. Мінск, 1991. С. 73, 81.

[6] Доўнар-Запольскі М.В. Асновы Дзяржаўнасці Беларусі. Городно: Міністэрства Беларускіх спраў, 1919.

дзяржава. Першыя літоўскія князі прылучылі да гэнае дзяржавы невялікія суседнія беларускія землі і нават сваю сталіцу, Вільню, пабудавалі на зямлі беларускага народу. Гэтаксама і іншыя Беларускія княствы пачалі далучацца да Літвы — часцю затым, што літоўскія князі жаніліся з прадстаўніцамі выміраўшых беларускіх княжых родаў, часцю — самахоць, на аснове ўмоў». Тут жа ён падкрэсліў, што «гістарычная навука зусім адкідае ўсе гутаркі аб тым, быццам Беларускія землі былі заваяваныя літоўскімі князямі. …Злучыўшыся з маленькім Літоўскім народзікам і прызнаўшы найвышэйшую, суверэнную ўласць вялікага князя літоўскага, кожнае з беларускіх князстваў мела поўную незалежнасць і яшчэ доўгі час захоўвала суверэнныя правы. Гэтак злажылася Літоўска-Беларуская дзяржава, урадова называўшаяся Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жмудскім»[7].

У такой пастаноўцы пытання быў выклік гістарыяграфічнай канцэпцыі, агульнапрынятай у той час сярод рускіх і польскіх гісторыкаў і так паспяхова ўзятай на ўзбраенне маладым літоўскім нацыяналізмам. Гэтая канцэпцыя сцвярджала, што адным з этапаў утварэння ВКЛ быў гвалтоўны захоп літоўскім князем Міндоўгам тэрыторыі так званай «Чорнай Русі», пад якой разумеліся тэрыторыі беларускага Панямоння з гарадамі Навагродак (Навагрудак), Горадна (Гродна), Слонім і інш. (сам тэрмін «Чорная Русь» у такім значэнні ў крыніцах дадзенага перыяду не сустракаецца).

На пачатку 1920-х гг. М.В. Доўнар-Запольскі выкладаў у Харкаўскім, а потым у Бакінскім універсітэтах. У 1925 г. ён пераехаў у Менск. Вяртанне на радзіму дазволіла яму развіць свае погляды на ўзнікненне ВКЛ у манаграфіі «История Белоруссии», скончанай у 1926 г., але так і не надрукаванай у той час (упершыню выдадзеная ў 1994 г.). Характарызуючы дзейнасць Міндоўга і адзначаючы яе неадназначнасць, аўтар згадвае, што гэты літоўскі князь «захватывает соседние русские земли и даже свою столицу переносит в Новгородок», але пры гэтым «стремился подкрепить себя силами русского населения». Было таксама адзначана, што Міндоўг «колебался в выборе» паміж каталіцызмам і «русскими областями с их восточной культурой», прычым «малочисленное литовское племя, притом малокультурное, в этом выборе значения не имело». Урэшце, Міндоўг «на первый план выдвинул связи с белорусскими землями, чем определилась дальнейшая политика последующих князей». Але сапраўднымі стваральнікамі ВКЛ аўтар лічыў Альгерда і Гедыміна: «Они положили начало той связи, которая начала объединять Литву и белорусские области».

Такім чынам, з пункту погляду Доўнар-Запольскага, утварэнне ВКЛ завяршаецца толькі тады, калі ў ягоны склад уваходзяць усе беларускія і ўкраінскія землі. Сутнасць працэсу заключаецца ў характары іх уваходжання, які аўтар апісвае так: «Присоединение белорусских земель не было насильственным. Это было присоединение с согласия населения, ввиду очевидной политической выгоды такого союза… Когда Литва подчиняла себе белорусские княжества, то на ее стороне была военная сила. Но литовцы и соседние белорусские княжества были хорошо ознакомлены друг с другом вследствие предшествующих сношений. Отношения эти были больше мирного характера, чем враждебного. Поэтому русское население охотно подчинялось власти литовских князей, которые приносили свою защиту от сильных соседей и прекращали междоусобную борьбу... В силу этого литовцы являлись не как завоеватели, но как элемент, вносивший известный прочный правопорядок в народную жизнь. Само объединение Литвы и Руси являлось не следствием завоевания, но добровольного подчинения белорусских областей Литве»[8].

Варта адзначыць, што гэтыя погляды Доўнар-Запольскага заставаліся практычна невядомымі не толькі шырокай грамадскасці, але і прафесійным гісторыкам, пакуль ягоны рукапіс знаходзіўся ў спецхране. Пасля разгрому нацыянальнай інтэлігенцыі ў 1928 г. беларуская гістарыяграфія на тэрыторыі БССР наагул знікае надоўга. Тэму

[7] Цыт. паводле перавыдання: Доўнар-Запольскі М.В. Асновы Дзяржаўнасці Беларусі. Мінск, 1994. С. 8—9.

[8] Довнар-Запольский М.В. История Белоруссии. Минск, 2003. С. 55—58.

працягвалі толькі аўтары, адкрыта апазіцыйныя да Савецкай улады, якія жылі на некантралюемай ёю тэрыторыі. Мікола Шкялёнак у 1938 г. надрукаваў у Вільні кароткі артыкул «Падзел гісторыі Беларусі на перыёды», дзе ў тэзіснай форме выклаў канцэптуальна новы погляд на стварэнне ВКЛ: Міндоўг першапачаткова замацаваўся «ў заходнім куце беларускіх зямель», уключаючы Навагрудак, а затым «на чале беларускай дружыны» заваяваў Аўкштайцію і Жамайцію. Такім чынам, ягонае гаспадарства «ад свайго паўстання было беларускае»[9]. Наколькі вядома аўтару гэтых радкоў, гэта была першая спроба радыкальнай змены акцэнтаў: беларускі этнічны складнік абвяшчаўся не проста адным з удзельнікаў утварэння ВКЛ, але ягоным ініцыятарам. Гэта давала падставы беларусам прэтэндаваць на выключнае права спадчыны ВКЛ, як гэта раней рабілі літоўцы.

Гэтая ідэя ў гады нямецкай акупацыі папулярызавалася беларускімі калабарантамі (адным з іх лідараў быў М. Шкялёнак), а ў пасляваенны час згадвалася ў эмігранцкіх выданнях (напрыклад, у брашуры Л. Рыдлеўскага «Беларусь», выдадзенай у Парыжы ў 1948 г.[10]). Далейшае развіццё канцэпцыя Шкялёнка атрымала ў працах Міколы Ермаловіча. Першыя спробы выкласці яе рабіліся ім у 1970 г. у тагачасным рупары нацыянальнай інтэлігенцыі — газеце «Літаратура і мастацтва»[11], а затым у самвыдатаўскай улётцы «Гурток» (1975—1976), але былі расцэненыя афіцыйнымі ўладамі як спробы працягнуць варожую ідэалогію.

Тэксты Ермаловіча неаднойчы абмяркоўваліся і рэцэнзаваліся супрацоўнікамі Інстытута гісторыі АН БССР і нязменна адкідаліся як навукова няслушныя. Пры гэтым, паводле згадак удзельнікаў гэтых абмеркаванняў, адбываўся цікавы працэс. Першыя варыянты «канцэпцыі Ермаловіча» былі адкрыта дылетанцкімі. Крытыкі зазначалі, што ў іх не ўлічаныя тыя альбо іншыя крыніцы, звярталі ўвагу на супярэчлівыя факты, элементарныя лагічныя памылкі ў развагах. Хутка з'яўляўся новы варыянт, у якім найбольш грубыя памылкі былі выпраўленыя, раней незаўважаныя факты ўлічваліся, але пераасэнсоўваліся ў рэчышчы першапачатковай канцэпцыі. Крытыкі звярталі ўвагу на новыя неадпаведнасці, і ўвесь цыкл паўтараўся зноўку. Так адпачатку дылетанцкі тэкст калектыўнымі высілкамі знаўцаў дасканаліўся, не мяняючы сваёй асноўнай скіраванасці. Да моманту, калі рухнуў Савецкі Саюз і М. Ермаловіч атрымаў магчымасць надрукаваць свае погляды ў манаграфіі «Па слядах аднаго міфа» (упершыню выдадзеная ў 1989 г.[12]), гэты тэкст меў ужо вывераныя спасылкі і вялікую бібліяграфію, вонкава ўспрымаўся як цалкам навуковы. Больш за тое, кніга была выдадзеная ў акадэмічным навуковым выдавецтве, а ў якасці навуковага рэдактара значыўся аўтарытэтны беларускі гісторык прафесар А.П. Грыцкевіч.

Асноўныя пастулаты Ермаловіча і Шкялёнка супадаюць: першапачатковай тэрыторыяй, з якой пачалося ўтварэнне ВКЛ, было Навагрудскае княства, у якім мірным шляхам замацаваўся Міндоўг. Адсюль ён заваяваў тэрыторыю сучаснай Літоўскай Рэспублікі, далучыўшы яе да Навагрудка, а не наадварот. Дзяржава стваралася ў інтарэсах і дзякуючы высілкам жыхароў Навагрудка і ягоных наваколляў — продкаў сучасных беларусаў. Але Ермаловіч дадаў у гэтую канцэпцыю некалькі ўласных ідэй. Першая з іх палягала ў тым, што Літва, згадваемая ў крыніцах XI—XII стст., з якой паходзіў Міндоўг, знаходзілася ў Верхнім Панямонні, выключна на тэрыторыі сучаснай Рэспублікі Беларусь. Другая ідэя — пра ўцёкі Міндоўга з гэтай Літвы і запрашэнне яго жыхарамі Навагрудка ў якасці служылага князя (найміта). Далучэнне «Літвы Міндоўга» да Навагрудка Ермаловіч выносіць па-за рамкі працэсу ўтварэння ВКЛ. Сам гэты працэс заключаўся ў заваяванні навагрудскай дружынай

[9] Шкялёнак М. Падзел гісторыі Беларусі на перыёды // Запісы Беларускага Навуковага Таварыства. Сш. 1. Вільня, 1938. Цыт. паводле перавыдання: Спадчына. 1993. № 3. С. 8—9.

[10] Rydlevsky L. Biélorussie aperçu sommaire de l'histoire de la nation biélorussienne et du mouvement de libération nationale. Paris, 1948.

[11] Літаратура і мастацтва. 1970. 24 ліп.

[12] Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа / Навук. рэд. А.П. Грыцкевіч. Мінск: Навука і тэхніка, 1989.

Міндоўга тэрыторыі сучаснай Літоўскай Рэспублікі (атаясамленай з Жамойцкай і Нальшчанскай землямі пісьмовых крыніц), якое адбылося пры Войшалку. Менавіта яго Ермаловіч абвяшчае стваральнікам ВКЛ.

У 1992 г. аўтар гэтых радкоў выклаў свае погляды на ўтварэнне ВКЛ у артыкуле «Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага (XIII—XIV стст.)»[13]. У больш поўным варыянце яны былі надрукаваныя ў навукова-папулярнай кнізе «Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы»[14], тэкст якой быў напісаны ў 1989—1990 гг. Храналагічна артыкул пісаўся пазней і з'яўляўся кароткім выкладам і пэўным развіццём асноўных высноў кнігі. Сёння можна сказаць, што, не ведаючы тады погляды М.В. Доўнар-Запольскага, аўтар гэтых радкоў наноў узнавіў ягоныя асноўныя высновы (калі не ўлічваць некаторыя занадта вольныя думкі, напрыклад, пра будаўніцтва Вільні на этнічна беларускіх землях альбо пра няўдзел «малакультурнага» літоўскага племя ў выбары далейшага палітычнага курсу).

З вышыні сённяшняга дня найбольш важнымі аўтару падаюцца наступныя аспекты ўласнай працы амаль дваццацігадовай даўніны: была падкрэсленая асаблівасць унутрыпалітычнай структуры Русі напярэдадні татарскага нашэсця, пры якой яна ўспрымалася як адзінае цэлае нават пры поўнай самастойнасці асобных прадстаўнікоў дынастыі Рурыкавічаў. «Заваяванне татарамі асноўных жыццёвых цэнтраў Русі фактычна азначала пераход пад іх уладу ўсёй дзяржавы. Не выпадкова татарская даніна ў сярэдзіне XIII ст. ахапіла і тыя землі, куды іх войска не дайшло (Вялікі Ноўгарад, Смаленск)… Адзіным выйсцем быў разрыў з палітычнай сістэмай Русі, знешнім увасабленнем якога магла стаць змена пануючай дынастыі»[15]. Іншымі словамі, рэальным матывам для зацікаўленасці ва ўладзе літоўскіх князёў магла стаць не столькі іх здольнасць папярэджваць міжусобную барацьбу і «вносить прочный правопорядок в народную жизнь», пра што пісаў Доўнар-Запольскі, колькі магчымасць пазбегнуць з іх дапамогай сумнага лёсу ўсіх валоданняў Рурыкавічаў — значна больш жорсткай татарскай залежнасці.

Другім важным момантам было акцэнтаванне таго, што на працягу 1250—1270-х гг. галіцка-валынскія і татарскія войскі неаднойчы захоплівалі Навагрудчыну, але яна кожны раз зноў апынался пад уладай літоўскіх князёў: «Ніякім заваяваннем гэты факт растлумачыць нельга. Калі б літоўская ўлада была навязана гарадам Беларускага Панямоння і Падзвіння гвалтоўна, без жадання мясцовага насельніцтва, ніколі б Літва не здолела ў такіх складаных знешнепалітычных умовах захаваць гэтыя тэрыторыі за сабой»[16].

Храналагічна і кніга, і артыкул былі даведзеныя да рубяжа XIV—XV стагоддзяў, калі, на думку аўтара, «працэс утварэння ВКЛ можна лічыць у асноўным скончаным. Сфармавалася яго тэрыторыя, асноўныя рысы ўнутранай структуры, знешнепалітычныя прыярытэты. Умовы, што склаліся да гэтага часу, у значнай ступені вызначылі характар далейшай гісторыі дзяржавы. Яе нельга назваць ні літоўскай, ні беларускай, ні ўкраінскай, але без гэтай дзяржавы немагчыма было б з'яўленне кожнага з гэтых народаў у іх сённяшнім выглядзе. Усе яны маюць свае правы на яе гістарычную спадчыну, як кожны з дзяцей мае правы на спадчыну сваіх бацькоў»[17].

У 1990-я гг. тэма ўтварэння ВКЛ актыўна абмяркоўвалася ў перыядычным друку, але ў якасці навуковых публікацый выходзілі, як правіла, не новыя даследаванні, а раней недаступныя тэксты. У 1991 г., як ужо адзначалася, быў перавыдадзены нарыс Ігнатоўскага, у 1994 г. нарэшце надрукаваная манаграфія Доўнар-Запольскага. Канцэпцыя М. Ермаловіча атрымала развіццё ў серыі кніг, з якіх апошняя выйшла

---

[13] Насевіч В.Л. Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага (XIII—XIV стст.) // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён. Мінск, 1992. С. 54—63.

[14] Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мінск: Полымя, 1993.

[15] Насевіч В.Л. Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага (XIII—XIV стст.). С. 57.

[16] Тамсама. С. 59.

[17] Тамсама. С. 62.

ўжо пасля ягонай смерці пад характэрнай назвай «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае»[18].

Важнае значэнне з пункту гледжання рэтрансляцыі гістарычных ведаў меў выхад у 1993 г. новага навучальнага дапаможніка па гісторыі Беларусі для 5—6 класаў[19]. Менавіта з яго тыя жыхары Беларусі, якія сёння знаходзяцца ва ўзросце 20—27 гадоў, атрымлівалі базавыя звесткі пра гісторыю сваёй радзімы. У ім быў параграф «Утварэнне беларуска-літоўскай дзяржавы — асновы Вялікага княства Літоўскага», напісаны Г.В. Штыхавым. Ён з'яўляўся крыху спрошчанай версіяй канцэпцыі Ермаловіча: адзначалася, што думкі даследнікаў аб лакалізацыі Літвы XI—XII стст. разыходзяцца, але паводле адной з версій, яна магла знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Затое гіпотэза пра ўцёкі Міндоўга з Літвы ў Навагрудак і наступныя заваёвы адтуль зямель у Верхнім Панямонні выкладалася без усялякіх агаворак: «Міндоўг стаў вялікім князем дзяржавы, якая пачалася з Наваградскай зямлі. Першай яе сталіцай быў Наваградак з усходнеславянскім насельніцтвам і культурай. Паколькі горад знаходзіўся на сумежжы з літоўскімі землямі, за новай, па сутнасці беларуска-літоўскай дзяржавай, замацавалася назва Літва». Але тэзісы пра гвалтоўнае далучэнне тэрыторыі сучаснай Літоўскай Рэспублікі і вырашальную ролю Войшалка не згадваюцца.

Афіцыйная акадэмічная навука доўгі час не магла вызначыцца адносна альтэрнатыўных поглядаў на ўтварэнне ВКЛ. У двухтомніку «Нарысы гісторыі Беларусі» (1994—1995), разлічаным на паказ гісторыі Рэспублікі Беларусь з пазіцый яе грамадзян, гэтая тэма фактычна ігнаравалася. У раздзеле «Беларуская дзяржаўнасць у раннім сярэднявеччы», напісаным Г.В. Штыхавым і Т.М. Каробушкінай, коратка зазначалася, што «ў XIII ст. адбывалася барацьба галіцка-валынскіх князёў з князем Міндоўгам за валоданне Верхнім Панямоннем». Дзейнасць Міндоўга па стварэнні дзяржавы характарызавалася так: «Міндоўг, які паходзіў з сям'і буйнога літоўскага феадала, гвалтам і подкупамі падначаліў сабе дробных феадалаў у прамежак ад сярэдзіны 1230-х гг. да 1263 г. і заснаваў адносна адзіную новую незалежную дзяржаву». Крыху далей яшчэ раз адзначалася: «Яму ўдалося стварыць адносна адзіную беларуска-літоўскую дзяржаву, якая паслужыла асновай Вялікага княства Літоўскага»[20]. У раздзеле «Палітычныя адносіны ў Вялікім княстве Літоўскім», напісаным П.А. Лойкам, казалася: «Менавіта Наваградская зямля разам з суседнімі ёй літоўскімі стала ядром зараджэння новай дзяржавы ў верхнім і сярэднім Панямонні, якая атрымала назву Літоўскае княства», і далей ішла спасылка на кнігу М.І. Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа», якая ў тэксце адкрыта не згадвалася. Далей канстатаваўся доўгі перыяд узнікнення ВКЛ: «Цэлае стагоддзе, нават крыху больш, Літоўская дзяржава станавілася Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім». Пры гэтым, адзначаючы розныя шляхі ўваходжання беларускіх зямель у склад Літоўскай дзяржавы, аўтар падкрэсліваў, што «скупыя, адрывачныя звесткі, што дайшлі ад той пары, не дазваляюць вызначыць дакладную карціну гэтага працэсу».

Толькі ў 1998 г. з'явілася першая навуковая манаграфія, прысвечаная выключна разглядаемай тэме. Яе аўтар А.К. Краўцэвіч упершыню паспрабаваў з беларускіх пазіцый выкласці гістарыяграфію праблемы, а таксама выклаў уласныя погляды на ўтварэнне ВКЛ: гэта прапаноўвалася разглядаць як кульмінацыю шматвяковага балта-славянскага ўзаемадзеяння. Пры гэтым аўтар настойліва падкрэсліваў адсутнасць гістарычных сведчанняў варагавання продкаў літоўцаў і беларусаў і звяртаў увагу на тое, што працэс асіміляцыі балтаў, што назіраўся ў рэгіёне па меншай меры з IX ст., пасля ўтварэння ВКЛ не спыніўся. Магчымасць заваявання літоўцамі беларускіх зямель у такім кантэксце катэгарычна адмаўлялася: «Пачаткам ВКЛ стаў утвораны каля

---

[18] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мінск, 1990; Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. 2-е выд. Мінск, 1991; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мінск, 1994; Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мінск, 2000.

[19] Штыхаў Г.В., Пляшэвіч У.К. Гісторыя Беларусі: Старажытныя часы і сярэднявечча: Вучэбны дапаможнік для вучняў 5—6 класаў. Мінск: Народная асвета, 1993.

[20] Нарысы гісторыі Беларусі: У 2-х частках. Ч. 1. Мінск: Беларусь, 1994. С. 102—103.

1248 г. саюз усходнеславянскага горада Наваградка з балцкім нобілем Міндоўгам». З іншага боку, і ідэю Шкялёнка—Ермаловіча пра заваяванне Літвы беларускімі дружынамі аўтар не падтрымаў, бо яна таксама супярэчыла б пастулату аб мірным характары міжэтнічнага ўзаемадзеяння. Не пагадзіўся ён і з гіпотэзай аб лакалізацыі Літвы на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Але ў цэлым аўтар даваў зразумець, што яму блізкі агульны пафас прац Ермаловіча, пры якім ВКЛ уяўлялася хутчэй беларускай, чым літоўска-беларускай дзяржавай: «ВКЛ з самага пачатку было біэтнічнай балта-ўсходнеславянскай дзяржавай з дамінаваннем усходнеславянскага элемента»[21].

Некаторыя высновы А.К. Краўцэвіча выклікалі крытычную рэцэнзію аўтара гэтых радкоў[22]. Найперш у рэцэнзіі адзначаўся занадта спрошчаны падыход у гістарыяграфічнай частцы кнігі Краўцэвіча, дзе ігнаравалася своеасаблівасць пазіцыі Доўнар-Запольскага і Ігнатоўскага ў параўнанні з гісторыкамі, якія дапускалі заваёўніцкі характар пашырэння ўлады Літвы, а пераемнасць паміж поглядамі Шкялёнка і Ермаловіча не згадвалася наагул. Былі выказаныя сумневы наконт выключна мірнага характару кантактаў паміж продкамі беларусаў і літоўцаў, а таксама занадта катэгарычных спроб адмаўляць існаванне дзяржавы ў літоўцаў да ўкнязявання Міндоўга ў Навагрудку. Падкрэслівалася, што тэзіс аб адпачатным дамінаванні «ўсходнеславянскага элемента» (тэрміна «рускі» альбо «руський» у ягоным гістарычным сэнсе Краўцэвіч старанна пазбягаў) сумнеўны ў святле пазнейшых падзей, не разглядаемых у працы Краўцэвіча — палажэнняў Крэўскай і асабліва Гарадзельскай уній, выразна дыскрымінуючых праваслаўнае насельніцтва, а таксама перавагі ў палітычнай эліце XV ст. выхадцаў з этнічна літоўскіх тэрыторый.

Рэцэнзія выклікала невялікую палеміку на старонках часопіса «Беларускі гістарычны агляд»[23]. У сваім адказе А.К. Краўцэвіч засяродзіўся на дастаткова прыватных пытаннях, тлумачачы найперш сваю пазіцыю ў дачыненні да дзяржаваўтваральных працэсаў у этнічнай Літве. У той жа час ён не зрабіў спроб абвергнуць высновы рэцэнзента пра тое, што з пункту гледжання пазнейшых падзей дамінаванне ўсходнеславянскага складніка выглядае, мякка кажучы, небясспрэчным. Гэта давала падставы для думкі, што А.К. Краўцэвіч маўкліва прызнае хісткасць свайго тэзіса і больш не настойвае на ім. З улікам такой карэктывы ягоныя погляды станавіліся даволі блізкімі да поглядаў аўтара гэтых радкоў, што і дазволіла апошняму канстатаваць збліжэнне пунктаў погляду ў беларускай гістарыяграфіі ўтварэння ВКЛ.

Пацвярджэннем гэтай думкі стала з’яўленне неўзабаве агляднага нарыса гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя, надрукаванага Г. Сагановічам у 2001 г. Тэме ўтварэння ВКЛ у ім быў прысвечаны даволі вялікі раздзел, які храналагічна ахопліваў перыяд ад Міндоўга да Вітаўта ўключна (то бок Г. Сагановіч лічыць працэс утварэння ВКЛ яшчэ больш доўгім, чым аўтар гэтых радкоў). Пачатак працэсу паклаў захоп Міндоўгам адзінаўладнай улады ва ўласна Літве прыблізна ў 1240-я гг. «Крыху пазней улада Міндоўга распаўсюджваецца на сумежныя тэрыторыі Беларусі», прычым «летапісы не падаюць ніякіх сведчанняў гвалтоўнага падпарадкавання гэтай зямлі. Хутчэй за ўсё, Міндоўг тут быў абвешчаны князем са згоды мясцовага насельніцтва». Згадваючы пра пазнейшую барацьбу за гэтыя тэрыторыі, аўтар сцвярджае: «Важна зазначыць, што ў гэтай вайне з Данілам Галіцкім жыхары гарадоў Чорнай Русі занялі бок Міндоўга, а гэта наўрад ці здарылася б пасля гвалтоўнага падпарадкавання Беларускага Панямоння літоўскім князем»[24].

Паказальныя некаторыя акцэнты, што аўтар расстаўляе пры апісанні дзейнасці Гедыміна і Альгерда. Характарызуючы далучэнне Гедымінам Берасцейскай

---

[21] Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мінск.: Беларуская навука, 1998. С. 174.

[22] Насевіч В. Пытанняў больш, чым адказаў // Беларускі гістарычны агляд. 1998. Т. 5. Сш. 1 (8). С. 210—226.

[23] Краўцэвіч А. Да праблемы генезісу Вялікага Княства Літоўскага // Беларускі гістарычны агляд. 1999. Т. 5. Сш. 2 (9). С. 448—454; Насевіч В. Няма сутнасных разыходжанняў // Тамсама. С. 455—456.

[24] Сагановіч Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мінск: Энцыклапедыкс, 2001. С. 61, 63.

зямлі, недастаткова выразна адлюстраванае ў крыніцах, ён выказвае наступнае: «Праўдападобна, жыхары Берасцейшчыны былі незадаволены залежнасцю ад валынскіх князёў, і Гедыміну давялося ваяваць не з насельніцтвам, а з гэтымі князямі». У цэлым, «аб’ядноўваючы ўсходнеславянскія землі пад сваёй уладай, Гедымін абыходзіўся, як правіла, без падаўлення і заваявання». Тэзіс пра негвалтоўнае падпарадкаванне паўтараецца потым неаднакроць. На гэтым фоне думка пра тое, што «ў яе [манархіі Гедыміна. — *В.Н.*] дзяржаватворчым працэсе ад самага пачатку вялікая роля належала ўсходнеславянскаму элементу», праходзіць крыху прыглушана. У час Альгерда аўтар канстатуе ўзрастанне вагі «рускага» (усходнеславянскага) элемента ў дзяржаве[25]. У астатняй частцы раздзела вайскова-палітычныя падзеі выкладаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці, і ў чым жа палягае працэс утварэння ВКЛ падчас кіравання Ягайлы і Вітаўта, застаецца незразумелым.

Кідаецца ў вочы агульнае супадзенне з пазіцыямі аўтара гэтых радкоў і А.К. Краўцэвіча пры адсутнасці нейкіх сугуччаў з радыкальнымі пастулатамі М. Ермаловіча. У пасляслоўі Г. Сагановіч фармулюе свае адносіны да спадчыны ВКЛ: яна «належыць тым сучасным народам, продкі якіх стваралі і баранілі супольную дзяржаву. Самай незапатрабаванай яна застаецца ў Беларусі, дзе ўкаранелыя з савецкіх часоў трактоўкі і вобразы даўняга мінулага ўсё яшчэ чакаюць перагляду і пераацэнкі»[26].

У далейшым погляды беларускіх гісторыкаў на праблему ўтварэння ВКЛ знайшлі адлюстраванне ў шасцітомнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (1993—2003) і двухтомнай энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» (2005—2006), а таксама ў тэкстах для другога тома шасцітомнай «Гісторыі Беларусі», якія пакуль не выдадзены з прычыны зацягнутага рэдагавання. Пры гэтым дастаткова важныя ў канцэптуальным плане артыкулы «Міндоўг», «Войшалк», «Гедымін», «Русь», «Літва» і «Літвіны», а таксама тэкст для «Гісторыі Беларусі» пра перыяд з сярэдзіны XIII ст. да Крэўскай уніі[27] былі замоўленыя аўтару гэтых радкоў, з чаго можна зрабіць выснову, што ягоныя погляды на гэтыя пытанні падаюцца рэдактарам і рэдакцыйным радам гэтых выданняў дастаткова артадаксальнымі.

Але некаторыя рэчы вымушаюць прызнаць, што да поўнага кансэнсусу справа пакуль не дайшла і, магчыма, не дойдзе. Найперш звяртае на сябе ўвагу аглядны артыкул «Гісторыя» ў першым томе энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае», напісаны А.П. Грыцкевічам. Утварэнне ВКЛ у гэтым артыкуле закранаецца вельмі коратка, але ў духу канцэпцыі М. Ермаловіча: «Ядром ВКЛ пры яго ўтварэнні ў сярэдзіне 13 ст. былі беларускія землі верхняга і сярэдняга Панямоння і землі па верхнім цячэнні р. Віліі… Уключэнне беларускіх зямель у склад навастворанай дзяржавы мела пераважна добраахвотны характар… Утварэнне ВКЛ з цэнтрам у Навагародку адносіцца да 1240-х г., калі па запрашэнні мясцовых баяр тут стаў княжыць Міндоўг»[28].

А.К. Краўцэвіч, які цяпер жыве і працуе ў Польшчы, выказаўся з нагоды выхаду энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» ў інтэрв’ю радыё «Свабода», тэкст якога даступны ў інтэрнэце[29]. У гэтым інтэрв’ю Краўцэвіч не хавае крыўды з нагоды таго, што не яму былі замоўленыя тэксты, звязаныя з утварэннем ВКЛ, і зноў падкрэслівае сваю нязгоду з пазіцыяй аўтара гэтых радкоў. Вельмі паказальны тон ягоных

---

[25] Тамсама. С. 66, 67, 71, 76.

[26] Тамсама. С. 347.

[27] Тэкст раздзела «ВКЛ ад узнікнення да Крэўскай уніі» для другога тома «Гісторыі Беларусі» шмат разоў перапрацоўваўся аўтарам на працягу 1997—2005 гг. Пры гэтым няўзгодненасці ў арганізацыі рэдагавання тома мелі вынікам не толькі агульную затрымку ягонага выхаду, але і тое, што апошняя аўтарская версія ў канчатковы тэкст не трапіла і ў набор пайшла больш ранняя версія. «Выпалы» варыянт выстаўлены на сайце: http://vn.belinter.net/vkl/21.html.

[28] Грыцкевіч А. Гісторыя // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя ў 2 тамах. Т. 1. Мінск, 2005. С. 7.

[29] http://svaboda.org/textarticlesprograms/openstudio/2007/5/cae90073-67d9-4259-a33d-973f1d96908a.html.

выказванняў: «Насевічава ўяўленне пачатковай гісторыі ВКЛ узятае з летувіскай[30] літаратуры і трохі падкарэктаванае. Так, беларусы былі далучаныя да летувіскай дзяржавы, але яны далучыліся добраахвотна. Так, летувісы палітычна дамінавалі ў гэтай дзяржаве, але беларусы дамінавалі культурна. Гэта вось такі гібрыд канцэпцыі Насевіча. Я лічу, што яна прыносіць вялікую шкоду беларускай навуцы, таму што не існуе ніякіх фактаў, якія б дазвалялі пераймаць летувіскую канцэпцыю. Летувіская канцэпцыя выразна слугуе дзяржаўнай ідэалогіі Летувы. Наяўныя крыніцы і факты дазваляюць будаваць іншую канцэпцыю, якая мае беларускі характар. Гэтае запабяганне перад суседзямі мне вельмі не падабаецца».

Гэты пасаж дазваляе зразумець, як павінна выглядаць з пункту гледжання сённяшняга Краўцэвіча канцэпцыя з «беларускім характарам». Калі беларусы не былі далучаныя да літоўскай дзяржавы — ні гвалтоўна, ні добраахвотна, а літоўцы не дамінавалі ў гэтай дзяржаве палітычна, то атрымліваецца, што яна была беларускай ад самага пачатку, і палітычна ў ёй дамінавалі менавіта беларусы. Тым самым А.К. Краўцэвіч паказвае, што застаўся верным свайму першапачатковаму тэзісу аб «дамінаванні ўсходнеславянскага элемента», сумневы ў якім ён так і не здолеў абвергнуць навуковымі аргументамі. Застаецца чакаць, што ён нарэшце прад’явіць «крыніцы і факты», што пацвярджаюць ягоны пункт гледжання ў шырокай гістарычнай перспектыве.

Карыстаючыся нагодай, хацелася б адзначыць, што аўтар гэтых радкоў часткова выканаў гэтую працу за яго. У ненадрукаваным тэксце для другога тома «Гісторыі Беларусі» здзейснена спроба развіць думку Доўнар-Запольскага аб выбары паміж Усходам і Захадам, які доўгі час не адважвалася зрабіць палітычныя эліта ВКЛ. Выбар, зроблены пры Міндоўгу, нельга лічыць канчатковым, бо пры наступных валадарах, да Альгерда ўключна, захоўвалася рэальная перспектыва аб’яднання пад уладай ВКЛ усіх рускіх зямель. Менавіта гэтая перспектыва, на думку аўтара гэтых радкоў, змушала кіраўнікоў да балансавання паміж інтарэсамі двух этнічных складнікаў і адтэрміноўвала каталіцкі хрост Літвы. Нерэальнасць гэтай перспектывы выявілася толькі пасля няўдалых паходаў Альгерда на Маскву і спроб Ягайлы ўмяшацца ў барацьбу паміж Дзмітрыем Данскім і Мамаем. Менавіта пасля гэтага быў зроблены рашучы паварот у бок Захаду, які выклікаў дыскрымінацыю праваслаўнага насельніцтва. Такім чынам, далейшае дамінаванне каталіцкай знаці можа тлумачыцца без супярэчнасці з тэзісам аб высокім статусе рускага складніка ў больш ранні перыяд. Але, тым не менш, гэта не азначае аўтаматычнага прызнання ягонага палітычнага дамінавання. Аўтары, якія сцвярджаюць, што такое дамінаванне было, бяруць на сябе адказнасць давесці гэта важкімі навуковымі аргументамі.

Тым не менш пытанне застаецца адкрытым. Пра адсутнасць кансэнсусу ў беларускай гістарыяграфіі сведчыць і аналіз падручнікаў і дапаможнікаў для вышэйшай школы, надрукаваных у апошнія гады. Паколькі колькасць іх даволі значная[31], спынімся толькі на двух перавыдадзеных у самы апошні час, што сведчыць пра іх запатрабаванасць і актуальнасць з пункту гледжання дзяржаўнай сістэмы вышэйшай адукацыі. У навучальным дапаможніку П.Г. Чыгрынава «Очерки истории Беларуси», упершыню выдадзеным у 2000 г. і перавыдадзеным у 2007, мы сустракаем аўтарскую версію паходжання ВКЛ, якая адкідае нас нават не да Ермаловіча, а да аматарскага опуса В. Ластоўскага: Міндоўг зноў становіцца сынам Рынгольда, які заваяваў беларускія землі ў 1230-я гг. Як ні дзіўна, але гэты тэзіс, што сведчыць пра адсутнасць элементарных навыкаў крытыкі крыніц, працягваюць прапаноўваць студэнтам у XXI стагоддзі.

---

[30] А.К. Краўцэвіч выразна размяжоўвае этнонім літоўцаў XI—XVI стст. і сучасны этнас, які ён называе «летувісамі».

[31] Гл., напрыклад: Дзмітрачкоў П.Ф. Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага: (другая палова XIII — першая палова XVII стст.). Магілёў, 2003; Трещенок Я.И. История Беларуси. Ч. 1. Досоветский период. Могилев, 2003; Чигринов П.Г. История Беларуси с древности до наших дней. Минск, 2004.

Больш акадэмічны і прэзентабельны двухтомнік пад рэдакцыяй Я.К. Новіка і Г.С. Марцуля, які вытрымаў да 2007 г. ужо трэцяе выданне[32]. У ім тэме ўтварэння ВКЛ прысвечаныя два альтэрнатыўныя параграфы. Адзін з іх, напісаны В.Э. Загарульскай, пералічвае спрэчныя моманты і існуючыя канцэпцыі, мімаходзь адзначаючы, што канцэпцыя М. Ермаловіча не карыстаецца падтрымкай прафесійных гісторыкаў. Тым не менш, адразу пасля гэтага ідзе параграф, напісаны Я.К. Новікам, у якім даволі падрабязна пераказваецца менавіта канцэпцыя Ермаловіча. Такім чынам, студэнтам даецца права самастойна рабіць выснову, якой з версій кіравацца, то бок вырашаць задачу, відаць, непасільную для канклава іх выкладчыкаў.

* * *

Тут аўтару гэтых радкоў хацелася б выказаць уласнае, суб'ектыўнае стаўленне аб прычынах такога доўгага рознагалосся з нагоды ўтварэння ВКЛ. Свае першыя тэксты на гэтую тэму я пісаў, прытрымліваючыся неапазітывісцкай пазіцыі, перакананы ў тым, што метады навуковага даследавання дазваляюць кожнаму, хто валодае пэўным наборам фактаў, прыходзіць да адных і тых самых аб'ектыўных высноў. Шматлікія паралелі маіх тэкстаў з пазіцыяй Доўнар-Запольскага, якія выявіліся пасля друкавання ягонай працы, толькі ўмацавалі маю ўпэўненасць у гэтым. І наадварот, неверагодная папулярнасць канцэпцыі Ермаловіча не толькі сярод дылетантаў, але і сярод некаторых прафесійных гісторыкаў выклікала здзіўленне: няўжо кожнаму, знаёмаму з асноўнымі фактамі, не кідаецца ў вочы беспадстаўнасць спроб вывесці з іх падобную канцэпцыю? Здзіўленне паглыблялася тым, што набор існых пісьмовых сведчанняў параўнальна невялікі — пры жаданні і пэўнай настойлівасці не толькі прафесійны гісторык, але і любы цікаўны чалавек здольны ўлічыць і запомніць іх усе. Рознагалоссе думак спараджалася не столькі няведаннем фактаў, колькі іх выбіральным успрыманнем і «перакручанымі», як мне падавалася, інтэрпрэтацыямі.

У тыя гады я нічога не чуў пра знакамітую тэарэму Гёдэля, якая гучыць так: у любой замкнёнай лагічнай сістэме можна сфармуляваць меркаванні, якія немагчыма ні давесці, ні абвергнуць з дапамогай зыходнага набору аксіём. Гэтая тэарэма, даведзеная ў 1931 г., ставіць істотнае абмежаванне на магчымасці навуковага падыходу. Значыць, нават пры наяўнасці аднолькавых аксіём (у дадзеным выпадку — «гістарычных фактаў») магчымыя ўзаемавыключныя меркаванні. Сітуацыя становіцца яшчэ больш хісткай, калі ўлічыць, што набор аксіём можа быць розным.

У тэме ўтварэння ВКЛ ёсць некалькі пытанняў, на якія крыніцы не даюць адназначнага адказу. У прыватнасці, ніводная з крыніц, дзе згадваецца Літва XI — першай паловы XIII стагоддзя, не мае ясных і несупярэчлівых указанняў на тое, дзе яна знаходзілася. Асабліва гэта тычыцца «Літоўскай зямлі» ў вузкім сэнсе, у якой знаходзілася першапачатковая вотчына Міндоўга. Таксама нідзе не тлумачыцца, якім чынам Навагрудак апынуўся пад уладай Міндоўга і якім быў першапачатковы характар гэтай улады. Любое сцвярджэнне на адну з гэтых тэм будзе толькі здагадкай. Калі выкарыстоўваць яго ў якасці асновы для наступных лагічных канструкцый, то яно становіцца аксіёмай.

Прымаючы ў якасці аксіём, што «Літва Міндоўга» знаходзілася на тэрыторыі сучаснай Літоўскай Рэспублікі, а Навагрудак апынуўся пад ягонай уладай у выніку заваявання альбо іншай формы прымусу, мы можам укласці астатнія факты ў несупярэчлівую схему, з якой вынікае: стварэнне ВКЛ было ініцыявана продкамі сучасных літоўцаў. Праўда, выснова аб тым, што менавіта яны маюць першачарговае права на спадчыну гэтай дзяржавы, лагічна не такая беззаганная. Высілкі таго напрамку беларускай гістарыяграфіі, які бярэ пачатак у Доўнар-Запольскага і Ігнатоўскага, былі скіраваныя найперш на тое, каб паказаць: гэтай першапачатковай ініцыятывы было б недастаткова для стварэння па-сапраўднаму **Вялікага** Княства — найважнейшага фактару ў гісторыі ўсходнееўрапейскага рэгіёна на працягу некалькіх стагоддзяў. Гэта стала магчымым толькі дзякуючы ўдзелу другога этнічнага

[32] Гісторыя Беларусі: у дзвюх частках. Ч. 1. Ад старажытных часоў — па люты 1917 / Пад рэд. праф. Я.К. Новіка і Г.С. Марцуля. 3-е выд., дапрацаванае. Мінск: Вышэйшая школа, 2007.

складніка — продкаў сучасных беларусаў. Значыць, яны маюць **роўнае** (альбо, як мінімум, **супастаўляльнае**) права на спадчыну ВКЛ.

Калі ж прыняць за аксіёму знаходжанне «Літвы Міндоўга» на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (то бок яе нашчадкі ўліліся не ў літоўскі, а ў беларускі этнас), а ў Навагрудку ён апынуўся па запрашэнні мясцовага насельніцтва, то ініцыятарамі стварэння новай дзяржавы аказваюцца беларусы. Улічваючы, што пазнейшае яе ператварэнне ў рэгіянальную дзяржаву таксама было немагчымым без іх актыўнага ўдзелу (у гэтым абедзве тэорыі згодныя), агульны ўнёсак беларусаў выглядае значна больш важкім. Гэта дазваляе казаць пра іх **пераважнае** права на спадчыну ВКЛ.

Уласна кажучы, абедзве разам гэтыя аксіёмы аказваюцца залішнімі — для атрымання патрабуемай высновы дастаткова любой з іх. Гэта дазволіла Краўцэвічу крытыкаваць Ермаловіча за няўдалую лакалізацыю «Літвы Міндоўга» — ягоная ўласная аксіёма аб немагчымасці канфрантацыі паміж двума этнасамі забяспечвала жадаемы вынік. І менавіта амбівалентнае стаўленне аўтара гэтых радкоў да абставінаў укнязявання Міндоўга ў Навагрудку тлумачыць агрэсіўнасць Краўцэвіча, вонкава загадкавую на фоне агульнай блізкасці нашых пазіцый: у пытанні, такім важным для канчатковай высновы, «сваім» для яго мог стаць толькі поўны аднадумца.

Такім чынам, дзве альтэрнатыўныя канцэпцыі адрозніваюцца не столькі якасцю навуковага аналізу альбо паўнатой уліку існых фактаў (хаця гэтыя моманты таксама прысутнічаюць), колькі розным выбарам зыходных аксіём. Таму ў тэрмінах постмадэрнізму дапушчальна казаць не пра розныя канцэпцыі, а пра **дзве канкуруючыя парадыгмы**. У такой сітуацыі крытыка апанентаў з пункту погляду хібаў у іх лагічным ланцужку не дасягае мэты — яна прыводзіць толькі да выпраўлення дробных недахопаў і тым самым садзейнічае ўмацаванню парадыгмы, якую спрабуюць абвергнуць. Менавіта гэта адбывалася пры палеміцы акадэмічных экспертаў з раннімі тэкстамі Ермаловіча, а таксама пры спробах літоўскіх гісторыкаў дыскрэдытаваць сталую версію ягонай канцэпцыі.

Напрошваецца выснова, што пазнавальныя магчымасці гістарычнай навукі па гэтым пытанні амаль вычарпаныя. Наяўныя факты дазваляюць выбудаваць дзве версіі падзей, «канчатковы» (у пазітывісцкім сэнсе) выбар паміж якімі немагчымы. Кожны, хто цікавіцца паходжаннем ВКЛ, мае права прыняць любую з існых парадыгмаў і можа рабіць гэта, кіруючыся асабістымі меркаваннямі — напрыклад, тым, да якога з сучасных этнасаў ён сябе залічвае. Іншымі словамі, недапушчальна патрабаваць ад літоўца, каб ён пагадзіўся з «прабеларускай» парадыгмай, і наадварот.

Магчыма, урэшце рэшт мы ўсе прыйдзем менавіта да такой высновы, але спяшацца з ёй не варта. Усё-ткі на сённяшні дзень якасць дзвюх лагічных канструкцый нераўнаважная. Выбар паміж імі магчымы не толькі з пазіцый вонкавай кан'юнктуры, але і з пункту гледжання іх унутранай зладжанасці, нават, калі хочаце — эстэтычнай выкшталцонасці. Канцэпцыя, якая прапануе вядучую ролю «рускага» складніка пры станаўленні двухэтнічнай дзяржавы, патрабуе большых інтэлектуальных высілкаў пры тлумачэнні яе далейшай гісторыі. Магчыма, яе прыхільнікі пад уздзеяннем крытыкі здолеюць адшукаць адсутныя аргументы, але пакуль іх відавочна не хапае.

Зрэшты, не выключана, што адбудзецца прарыў у галіне першай з вышэйзгаданых аксіём (сфера лакалізацыі «першапачатковай Літвы» і ацэньванне ўнёску яе нашчадкаў у сучасныя этнасы). У адрозненне ад абставінаў укнязявання Міндоўга, тут існуе магчымасць з'яўлення новых фактаў з боку сумежных навук — археалогіі, антрапалогіі і такога перспектыўнага напрамку, як ДНК-генеалогіі. Як вядома, прыхільнікі Ермаловіча не здолелі знайсці ў прапанаваным імі арэале сляды балцкага насельніцтва, дастаткова шматлікага, каб адпавядаць апісанням Літвы ў пісьмовых крыніцах. Спробы гісторыка з беларускай дыяспары П. Урбана вырашыць праблемы з дапамогай гіпотэзы аб славянскай этнамоўнай прыналежнасці «летапіснай Літвы»[33] таксама нельга прызнаць абгрунтаванымі — надта ж шмат існуе фактаў, якія супярэчаць гэтай версіі.

[33] Урбан П. Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў. Мінск, 1994; Ён жа. Старажытныя ліцьвіны: Мова, паходжанне, этнічная прыналежнасць. 2-е выд. Мінск, 2003.

Калі прытрымліванца найбольш пашыранай на сённяшні момант версіі аб прыналежнасці «летапіснай Літве» часткі археалагічнай культуры ўсходнелітоўскіх курганоў, магчымы ўнёсак археалогіі ў вырашэнне праблемы не надта абнадзейвае прыхільнікаў абедзвюх парадыгмаў. Культура гэтая выглядае занадта аднароднай, каб у яе арэале можна было распазнаць этнапалітычныя ўтварэнні, якія згадваюцца крыніцамі — Нальшчанскую і Літоўскую землі. Лакалізацыя культуры па абодва бакі ад сучаснай беларуска-літоўскай мяжы не дае падстаў атаясамляць яе нашчадкаў выключна з адным цяперашнім этнасам, а між тым логіка абедзвюх парадыгмаў вымагае менавіта гэтага. Акрамя таго, узровень сацыяльнага развіцця носьбітаў гэтай культуры быў далёка не самым высокім у цікавячым нас рэгіёне. Падобныя факты аслабляюць канструкцыю, якая прыпісвае менавіта гэтаму насельніцтву вырашальную ролю ў утварэнні ВКЛ.

Між тым на паўночным захадзе сучаснай Беларусі і прылеглых землях Літвы ёсць сведчанні прысутнасці даволі шматлікага балцкага насельніцтва, якое не адносілася да культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Гаворка ідзе пра культуру каменных магіл, якая працягвала традыцыі заходнябалцкай (яцвяжскай) культуры каменных курганоў. Шырокі арэал яе распаўсюду і цераспалоснае рассяленне з усходнімі славянамі сталі відавочнымі пасля публікацыі даследавання А.В. Квяткоўскай[34]. У працы А.К. Краўцэвіча гэта выступае важкім аргументам на карысць актыўнасці і мірнага характару этнічных кантактаў у Верхнім Панямонні. Але інтэрпрэтацыя феномена каменных магіл, безумоўна, яшчэ не скончаная. Варта ўлічыць, што праца А.В. Квяткоўскай не ідэальна ў метадалагічным плане і не дазваляе дакладна ўявіць тэрытарыяльныя і асабліва храналагічныя рамкі пашырэння гэтай культуры. Тут відавочна патрабуюцца дадатковыя паглыбленыя даследаванні. Але па стане на сённяшні дзень нельга выключыць верагоднасці таго, што носьбіты культуры каменных магіл апынуцца больш паспяховымі кандыдатамі на ролю «Літвы Міндоўга».

У гэтай сувязі заслугоўвае згадкі інтэрнэт-публікацыя Віктара Вераса «У истоков исторической правды»[35], у якой ён прапаноўвае развіццё канцэпцый Ермаловіча і Краўцэвіча за кошт узмацнення «першай аксіёмы» — абгрунтавання сувязі «першапачатковай Літвы» з продкамі беларусаў, а не літоўцаў. Публікацыю можна расцаніць як кампілятыўную і нават у значнай ступені дылетанцкую, але некаторыя думкі не пазбаўленыя цікавасці. У прыватнасці, аўтар запазычвае ідэю Льва Гумілёва пра кампліментарнасць этнасаў — ступень іх узаемнай цярпімасці і сімпатыі адзін да аднаго. Згодна з гэтай ідэяй, існуюць этнасы кампліментарныя, здольныя жыць у шчыльным суседстве і знаходзіць узаемавыгадныя кампрамісы, а ёсць некампліментарныя, якія выклікаюць адзін у аднаго інстынктыўную варожасць і аддаленне. У гэтым плане лёгка абгрунтаваць кампліментарнасць носьбітаў культуры ўсходнелітоўскіх курганоў з культурай жэмайційскіх грунтовых магільнікаў, але не з усходнеславянскім насельніцтвам. І наадварот, культура каменных магіл відавочна кампліментарная з славянамі. Дзякуючы шчыльным кантактам з апошнімі ўзровень яе развіцця быў дастаткова высокі для таго, каб прэтэндаваць на вядучую ролю ў палітычным хаўрусе балцкіх княстваў. В. Верас падае таксама антрапалагічныя аргументы на карысць таго, што носьбіты культуры каменных магіл, верагодна, уліліся ў беларускі этнас (паводле ягонай версіі — адыгралі вырашальную ролю ў фармаванні гэтага этнасу).

Канечне, у гэтым пытанні яшчэ шмат незразумелага. Але, прынамсі, ёсць перспектывы для далейшых даследаванняў, якія альбо пацвердзяць, альбо абвергнуць прапанаваную гіпотэзу. Гэта яшчэ больш умацоўвае мяне ў думцы, што кропку ў навуковым вырашэнні праблемы ўтварэння ВКЛ ставіць пакуль рана.

*Перакладзена з рускай мовы паводле:*
Lietuvos istorijos studijos. 22 tomas. Vilnius, 2008. С. 39—57.

[34] Квятковская А.В. Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI — XVII вв.). Вильнюс, 1998.
[35] http://veras.litvin.org.

# Працэс утварэння Вялікага Княства Літоўскага (XIII—XIV стст.)

Пасля абвяшчэння дзяржаўнага суверэнітэту Літвы і Беларусі значна павялічыўся інтарэс да гісторыі Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), у якім знайшла сваё ўвасабленне сярэдневяковая дзяржаўнасць літоўцаў і беларусаў. Пры гэтым часам назіраецца спрошчаны погляд на ВКЛ як на нацыянальную літоўскую ці нацыянальную беларускую дзяржаву. У аснове гэтых супрацьлеглых канцэпцый ляжыць погляд на ўзнікненне гэтай дзяржавы ў выніку заваёвы Літвой беларускіх зямель былой Кіеўскай Русі ці, наадварот, заваёвы самой Літвы Навагародскім княствам. Апошні погляд сёння актыўна прапагандуе М.І. Ермаловіч[1]. Між тым, сапраўдны працэс утварэння ВКЛ быў больш складаны. Мы паспрабуем ахарактарызаваць яго асноўныя моманты, абапіраючыся як на першакрыніцы XIII—XIV стст., так і на даследаванні больш позніх часоў, а таксама на археалагічныя матэрыялы.

Асаблівасцю пісьмовых крыніц, сучасных падзеям, з'яўляецца тое, што яны асвятляюць першапачатковую гісторыю ВКЛ звонку — з пункту гледжання валынскіх князёў, Ноўгарада, Пскова[2] ці Польшчы і крыжацкіх ордэнаў Прыбалтыкі[3]. Летапісы, звязаныя паходжаннем з уласна ВКЛ, датуюцца больш познім часам[4], таму іх звесткі не заўсёды дакладныя, а часам і наўмысна скажоныя. Гэта цалкам датычыцца і твораў польскіх гісторыкаў XV—XVI стст.[5]. Даследчыкі больш позніх часоў прайшлі шлях ад пераказу крыніц да іх крытычнага асэнсавання[6], хаця шмат пытанняў застаюцца дыскусійнымі і сёння.

Сённяшні стан нашых ведаў дазваляе сцвярджаць, што для ўзнікнення ВКЛ меліся дзве групы перадумоў — унутраныя і знешнія. Да першых трэба аднесці вынікі сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця балцкіх народаў і Кіеўскай Русі, да другіх — нашэсце крыжакоў з захаду і татар з усходу.

Балцкія плямёны на пачатку XIII ст. знаходзіліся на пераддзяржаўнай стадыі свайго развіцця. У іх не было яшчэ сапраўдных гарадоў і пісьменнасці. На чале грамадства стаялі дынастыі племянных князькоў («кунігасаў»). Існаваў падзел на знаць і просты народ, які захоўваў асабістую свабоду. Мелася і рабства ў так званым «патрыярхальным» выглядзе. Гісторыя сведчыць, што такі стан грамадства быў даволі ўстойлівым і мог захоўвацца на працягу многіх стагоддзяў. Але калі нешта выводзіла такое грамадства з раўнавагі, яно магло хутка трансфармавацца ў раннякласавую дзяржаву, бо ўсе ўнутраныя перадумовы для гэтага меліся.

Для такой стадыі вельмі характэрны пастаянныя набегі на суседнія краіны, якія ажыццяўляліся як дзеля ваеннай здабычы, так і дзеля воінскай славы, падвышэння свайго сацыяльнага статусу. Для суседніх княстваў Русі асабліва адчувальнымі былі набегі літоўцаў.

---

[1] Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. 2-е выд. Мн., 1991. С. 58—81.

[2] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. Ипатьевская летопись; ПСРЛ. СПб., 1851. Т. 5. Псковские летописи; Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950.

[3] «Великая хроника» о Польше, Руси и их соседях XI—XIII вв. М., 1987; Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. М.; Л., 1938. Scriptores Rerum Prussicarum. Leipzig, 1861—1863. Bd. 1—2.

[4] ПСРЛ. М., 1975. Т. 32; 1980. Т. 35.

[5] Długosz J. Roczniki czyli kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Warszawa, 1981. Kn. 9—10; Stryjkowski M. Kronika polska. Warszawa, 1846. T. 1—2.

[6] Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. Wilno, 1835—1841. T. 1—9; Антонович В.Б. Очерк истории Великого Княжества Литовского до половины XV ст. Киев, 1878; Брянцев П.Д. История Литовского государства с древнейших времен. Вильно, 1889; Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915; Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959.

Літва прыгадваецца ў рускіх і заходнееўрапейскіх крыніцах з пачатку XI ст. Усе гэтыя ўпамінанні адрывачныя, яны не дазваляюць ні дакладна лакалізаваць Літву, ні ахарактарызаваць яе ўнутранае становішча. На дапамогу прыходзіць археалогія[7], а таксама параўнанне з суседняй Прусіяй, пра якую вядома больш[8]. Літва ўяўляла сабой сукупнасць некалькіх этнічна родналасных плямён з самастойнымі дынастыямі на чале — Дзевалтву, Нальшчаны, Упіту[9]. Крыху больш аддаленую, але таксама вельмі падобную этнічную групу ўтварала Жамойць (Жэмайтыя, Жмудзь), якая, верагодна, на пачатку XIII ст. знаходзілася ў палітычнай залежнасці ад Літвы.

Археалогія ведае на тэрыторыі сучаснай Літоўскай Рэспублікі дзве археалагічныя культуры XI—XIII стст. — культуру грунтовых пахаванняў і культуру ўсходнелітоўскіх курганоў. Першая з іх тэрытарыяльна амаль супадае з Жамойцкай зямлёй больш позняга часу, добра вядомай з крыніц XV—XVIII стст.[10]. Другая ўключала басейн р. Віліі, у тым ліку і частку тэрыторыі сучаснай Беларусі да возера Нарач, Смаргоні, Налібоцкай пушчы і Ліды. Цэнтр культуры ўсходнелітоўскіх курганоў знаходзіўся ў раёне пазнейшых палітычных цэнтраў ВКЛ (Кернава, Трок, Вільні). Большасць даследчыкаў звязвае яе з Літвой пісьмовых крыніц[11].

Адзначым, што М.І. Ермаловіч адстойвае іншае меркаванне: «летапісная Літва» быццам бы займала ізаляваны ад астатніх балцкіх плямён абшар прыкладна ў сучасных Баранавіцкім, Карэліцкім, Стаўбцоўскім і Валожынскім раёнах Беларусі[12]. Але на гэтым абшары няма археалагічных сведчанняў існавання балцкага насельніцтва ў азначаны час. Назвы ж вёсак, на якія спасылаецца М. Ермаловіч, сведчаць хутчэй аб адваротным: вёскі з назвай «Літва» не маглі ўзнікнуць там, дзе ўсе вёскі літоўскія. Большасць з іх, напэўна, з'явілася пазней, ужо ў час існавання ВКЛ, у выніку міграцый.

Каля 1219 г. літоўскія князі заключылі пагадненне з Валынскім княствам, аб чым гаворыцца ў Іпацьеўскім летапісе[13]. Яго падпісалі некалькі груп князёў: «старэйшыя», жамойцкія, Рушкавічы, Булевічы. З гэтага вынікае, што адна з дынастый («старэйшыя князі») дасягнула палітычнага дамінавання над астатнімі. Сярод яе малодшых прадстаўнікоў названы Міндоўг («Мендог»). Крыху пазней, у 1235 г., той жа летапіс упамінае «Літву Мендога»[14]. Напэўна, у гэты час Міндоўг высунуўся на першае месца як сярод сваіх родзічаў, так і ў агульналітоўскім палітычным саюзе. У канцы жыцця Міндоўга (1263 г.) летапісец так характарызуе яго палітычную кар'еру: «нача избивати братьи свою и сыновце свои, а других выгна из земли и нача княжити один во всей земле Литовской»[15].

Такую хуткую канцэнтрацыю палітычнай улады трэба тлумачыць супадзеннем двух фактараў — суб'ектыўнага (асабістыя якасці Міндоўга) і аб'ектыўнага (неабходнасць аб'яднання літоўскіх плямён для супрацьдзеяння знешнім ворагам). У канцы XII — першай трэці XIII ст. крыжакі Ордэна мечаносцаў (пазнейшага Лівонскага ордэна) заваявалі ўсю тэрыторыю сучасных Латвіі і Эстоніі, з 1232 г. з боку Польшчы пачаўся націск Тэўтонскага ордэна на землі прусаў[16]. Суседнія яцвягі трапілі пад трайны ўдар тэўтонаў, мазавецкіх і валынскіх князёў. Літва, з усіх балцкіх народаў найбольш аддаленая ад новых ворагаў, мела час асэнсаваць неабходнасць

[7] Археология СССР. Финно-угры и балты в эпоху Средневековья. М., 1987.

[8] Кулаков Е.М. Земля пруссов и «прусские земли» // Балто-славянские исследования. М., 1987. С. 95—101.

[9] Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów w dobie plemennej // Lituano-Slavica Poznaniensia. Studia Historica. Poznań, 1985. T. I. S. 7—105.

[10] Błaszczyk G. Żmudź w XVII i XVIII wieku. Poznań, 1986.

[11] Волкайте-Куликаускене Р.К. Образование литовской народности (по данным археологии) // Советская этнография. 1979. № 3. С. 31—46; Археология СССР. Финно-угры и балты... С. 381—397.

[12] Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. С. 22—36.

[13] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. С. 735—736.

[14] Тамсама. С. 776.

[15] Тамсама. С. 852.

[16] Górski K. Zakon krzyżacki a powstanie państwa pruskiego. Wrocław et al., 1977.

аб'яднання сіл. Таму, напэўна, цэнтралізатарская палітыка Міндоўга сустрэла меншае супраціўленне, чым магла б сустрэць у іншых умовах.

Падзеі ў Літве былі толькі адным бокам працэсу ўтварэння ВКЛ. Не меншае значэнне мела і тое, што адбывалася на Русі. Варта адзначыць, што, насуперак распаўсюджанаму погляду, да татарскага нашэсця Кіеўская Русь, хаця і палітычна дэцэнтралізаваная, заставалася адзінай дзяржавай. Адзінства захоўвалася ў эканамічнай сферы (адрозненні ў матэрыяльнай культуры розных зямель Русі неістотныя), у рэлігійнай (уся Русь утварала адзіную мітраполію з цэнтрам у Кіеве), у культурнай (адзіная пісьменнасць, агульная самасвядомасць). Усе паўсамастойныя княствы належалі галінам адзінага княжацкага роду Рурыкавічаў, і ў гэтым сэнсе Русь была больш адзінай, чым, напрыклад, тагачасная Францыя, часткі якой былі пад уладай розных феадальных родаў, прычым некаторыя з іх былі васаламі караля Англіі. Хаця б фармальна захоўвалася і ўяўленне пра кіеўскага князя як пра галоўнага князя Русі. Барацьба за кіеўскі пасад ішла літаральна да з'яўлення пад сценамі Кіева войска Батыя.

Заваяванне татарамі асноўных жыццёвых цэнтраў Русі фактычна азначала пераход пад іх уладу ўсёй дзяржавы. Невыпадкова татарская даніна ў сярэдзіне XIII ст. ахапіла і тыя землі, куды іх войска не дайшло (Вялікі Ноўгарад, Смаленск). Спробы адстаяць незалежнасць, абапіраючыся на свае сілы і маральную падтрымку каталіцкага Захаду, якія зрабіў уладар Галіцка-Валынскага княства Даніла Раманавіч, таксама не прывялі да поспеху[17]. Княствы, што змяшчаліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі, чакаў той жа лёс. Працэс палітычнага драблення на пачатку XIII ст. зайшоў тут яшчэ далей. Калі Уладзіміра-Суздальская, Галіцка-Валынская, Чарнігава-Северская землі мелі па адной-дзве самастойных галін Рурыкавічаў, то Полацкая належала асобным лініям віцебскіх, друцкіх, менскіх і, магчыма, свіслацкіх князёў, Тураўская — дубровіцкім, пінскім, тураўскім, напэўна — клецкім, слуцкім князям. Кожнае княства ахоплівала адзін-два гарады з невялікай акругай. Магчыма, адносна моцным было Навагародскае княства (калі дапусціць, што яму падпарадкоўваліся Горадна, Ваўкавыск і Слонім), але і яго князь Ізяслаў упамінаецца ў 1235 г. толькі як сатэліт Данілы Раманавіча[18]. Разлічваць на самастойнае супраціўленне татарам пасля таго, як пацярпелі паражэнне больш моцныя, гэтыя княствы не маглі.

Адзіным выйсцем быў разрыў з палітычнай сістэмай Русі, знешнім увасабленнем якога магла стаць змена пануючай дынастыі. Але новы князь павінен быў быць дастаткова моцным, каб пры неабходнасці аказаць татарам і ўзброенае супраціўленне. Такім патрабаванням у найбольшай ступені адпавядалі князі суседняй Літвы. Адзначым, што папярэднія літоўскія набегі спрыялі не толькі варожасці, але і ўзаемнай цікаўнасці — хаця б таму, што ворага належала добра ведаць. Падобна таму, як паўднёварускія князі мелі пастаянныя кантакты (у тым ліку сяброўскія і шлюбныя) з полаўцамі, заходнярускія князі (у пэўным сэнсе іх можна назваць і беларускімі) павінны былі мець такія ж сувязі з літоўцамі. Напэўна, яны не раз выкарыстоўвалі літоўскія дружыны ў сваіх міжусобіцах ці прапускалі іх для набегаў на больш аддаленыя княствы.

Крыніцы не прыводзяць ніякіх падрабязнасцей з'яўлення літоўскіх князёў у заходнярускіх княствах. Вядома толькі, што гэта адбылося ў першыя ж гады пасля ўзяцця татарамі Кіева. У 1248 г. рымскі папа Інакенцій IV накіраваў булу «новаахрышчанаму князю Полацка»[19]. На жаль, імя яго невядомае. Прыкладна ў гэты ж час князем Навагародка становіцца ўладар Літвы Міндоўг. Пра яго хрышчэнне пад 1245 г. паведамляе позні Густынскі летапіс[20]. У больш ранніх крыніцах гэтай падрабязнасці няма, але Іпацьеўскі летапіс пад 1252 г. паведамляе, што Міндоўг паслаў сваіх пляменнікаў на Смаленск, а сам выкарыстаў іх адсутнасць для захопу аднаасобнай

[17] Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950.
[18] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. С. 776.
[19] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 378.
[20] ПСРЛ. СПб., 1848. Т. 2. С. 341.

улады ў Літве. У гэты час яму таксама належалі Навагародак, Ваўкавыск, Слонім і Здзітаў, на якія зрабіў паход Даніла Раманавіч Галіцкі[21].

Гэтыя ўрывачныя звесткі не даюць, строга кажучы, дакладнага ўяўлення, якім чынам Міндоўг прыйшоў да ўлады ў названых гарадах. Упамінанне пра паход на Смаленск з мэтай завалодаць ім («хто приемлет собе держит») ускосна сведчыць, што такім жа чынам маглі быць захоплены і Навагародак з Полацкам. Звесткі ж пра хрышчэнне прымушаюць думаць пра добраахвотнае запрашэнне князёў. Мог быць і прамежкавы варыянт: частка мясцовай знаці жадала новага князя, супраціўленне ж нязгодных прыходзілася пераадольваць ваеннай сілай. Цяжка сказаць таксама, у якой ступені Міндоўг, а пазней яго сын Войшалк абапіраліся на падтрымку навагародскага баярства для захопу аднаасобнай улады ў Літве.

Зразумець глыбокі сэнс таго, што адбывалася на Літве і Беларусі, можна толькі пры разглядзе асноўных падзей паводле розных крыніц і ў больш шырокім кантэксце.

Са з'яўленнем у некаторых гарадах Русі літоўскіх князёў не пагадзіліся ні суседнія княствы, ні татары. Даніла Галіцкі зрабіў тры паходы «на Литву на Новгородок», а ў 1258 г. вялікі паход (таксама з удзелам галіцка-валынскага войска) ажыццявіў татарскі ваявода Бурундай («взяша татарове всю землю Литовскую»). У гэты ж час Лівонскі ордэн дамагаецца кантролю над значнай часткай Жамойці. Унутрыпалітычны крызіс у Літве, што настаў пасля забойства Міндоўга ў 1263 г., прымусіў яго сына Войшалка прызнаць васальную залежнасць ад Галіцка-Валынскага княства, а затым і ўвогуле перадаць уладу сыну Данілы Раманавіча Шварну. У Полацку пасля літоўскіх князёў Таўцівіла і Гердзеня з'яўляецца нейкі Ізяслаў (магчыма, са Свіслачы) у апошняй трэці XIII ст.

Прыход да ўлады ў Літве пасля смерці Шварна антыгаліцкай партыі на чале з князем Трайдзенам (каля 1270—1281) выклікаў шэраг новых паходаў татар і залежных ад іх рускіх князёў на Панямонне. Адначасова ўзмацніўся націск крыжакоў (асабліва з пачатку 1280-х гадоў, пасля канчатковага заваявання Прусіі). Увесь канец стагоддзя праходзіць у крыжовых паходах супраць Літвы, прычым ваенныя дзеянні ўжо ў 1284 г. дасягаюць Горадна.

І вось пасля ўсяго гэтага, у час панавання Віценя (1292—1315) мы застаём палітычную сітуацыю практычна ў тым самым выглядзе, у якім яна была ў сярэдзіне XIII ст. Літва, Жамойць, Навагародскае княства і нават Полацк зноў утвараюць адзіную дзяржаву, незалежную ні ад крыжакоў, ні ад татар. Ніякім заваяваннем гэты факт растлумачыць нельга. Калі б літоўская ўлада была навязана гарадам Беларускага Панямоння і Падзвіння гвалтоўна, без жадання мясцовага насельніцтва, ніколі б Літва не здолела ў такіх складаных знешнепалітычных умовах захаваць гэтыя тэрыторыі за сабой. Таксама немагчыма ўявіць, каб навагародскае баярства, якое, на думку М. Ермаловіча, было ініцыятарам далучэння суседніх зямель, здолела ў такой сітуацыі захаваць кантроль і над Літвой, і нават над Жамойцю, застаўшыся пры гэтым незалежным ад Арды.

Далёка не выпадкова, што з усіх балцкіх народаў толькі Літва вытрымала націск крыжакоў, а з усіх княстваў Русі толькі Новагародчына і Полаччына пазбеглі татарскай даніны. У цяжкі час яны ўтварылі адзіную двухэтнічную дзяржаву. Гэта быў сімбіёз, жыццёва неабходны абодвум бакам. З дапамогай літоўцаў жыхары Новагародчыны білі татар (невыпадкова легенды пра перамогі пад Койданавам, Магільнам, Уздой захаваліся якраз там, на ўсходняй мяжы гэтай зямлі). Са свайго боку Літва абапіралася на беларускія землі ў барацьбе з тэўтонамі (крыжацкія хронікі паведамляюць пра ўдзел рыцараў-«рутэнаў» у бітвах з імі[22]).

Якраз у гэты час сумесных выпрабаванняў назва «Літва», на нашу думку, набыла пашыраны сэнс, пачала адносіцца не толькі да этнічнай тэрыторыі ўласна літоўцаў, але і да Беларускага Панямоння. Мясцовае насельніцтва, якое разам з літоўцамі білася супраць руска-татарскіх войскаў, пачало супрацьпастаўляць сябе астатняй

[21] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. С. 815—816.

[22] Stryjkowski M. Kronika polska. S. 276; Narbutt T. Dzieje starożytne... T. 4. S. 375—376.

Русі, называцца «літвінамі». Гэтая традыцыя захавалася ажно да XIX ст. Шырока вядома, напрыклад, што Адам Міцкевіч называў свае родныя мясціны на Навагародчыне «Літвой».

Мяжу XIII і XIV стст. можна ўмоўна лічыць і мяжой двух этапаў станаўлення ВКЛ. Першы з іх, асабліва цяжкі, быў скончаны. Маладая дзяржава даказала сваё права на жыццё, а ў далейшым ішло фарміраванне яе тэрыторыі, унутранай структуры і сістэмы ўзаемаадносін з суседзямі.

Пры вялікім князю Гедыміне (1315—1341) пачалі адчувацца новыя тэндэнцыі. Суседняя Польшча перажывала ў гэты час працэс палітычнай цэнтралізацыі, нешта падобнае пачыналася і на падпарадкаваных Ардзе рускіх землях. Аднак татары яшчэ дастаткова надзейна кантралявалі сітуацыю на Русі, каб дазволіць аднаму княству ўзняцца над астатнімі. Гедыміну ж нішто не перашкаджала выступіць «збірацелем» спадчыны Кіеўскай Русі. Тыя княствы, што раней балансавалі паміж Літвой і іншымі палітычнымі цэнтрамі — Віцебскае, Друцкае, Менскае, Пінскае, — зараз канчаткова схіляюцца да Літвы. Згасанне лініі галіцка-валынскіх князёў прыводзіць да вострай барацьбы, у якой татары церпяць паражэнне, Галіччына адыходзіць да Польшчы, а Валынь — да Літвы.

Далучэнне новых зямель ажыццяўлялася ў даволі мяккай форме, шляхам пагаднення, з захаваннем мясцовых законаў і звычаяў. У выніку дзяржава стала федэрацыяй, якая складалася з непасрэдна падначаленай вялікаму князю Літвы (пад якой разумелася не толькі ўласна Літва, але Жамойць з Навагародчынай) і больш-менш самастойных зямель і княстваў, якія захавалі агульную назву «Русь». Менавіта з гэтага часу дзяржава набывае афіцыйную назву «Вялікае Княства Літоўскае і Рускае». (У сярэдзіне XV ст., калі Жамойцкая зямля таксама дамагалася федэратыўнага статусу, назва пачала гучаць як «Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і іншых».)

Пры сыне Гедыміна Альгердзе (1345—1377) Залатая Арда ўвайшла ў тую стадыю палітычнай дэцэнтралізацыі, з якой якраз выходзіла Русь. Карыстаючыся гэтым, Альгерд падпарадкаваў сваёй уладзе Кіеўскую, Чарнігаўскую, Бранскую, частку Смаленскай зямлі, якія папоўнілі лік федэратыўных зямель ВКЛ. Але тым часам узняўся новы аб'яднаўчы цэнтр — Маскоўскае княства. Паміж Літвой і Масквой пачалася барацьба, якая хутка прывяла да фактычнага падзелу сфер уплыву на Русі, а па сутнасці — яе распаду на дзве самастойныя часткі, лёс якіх у далейшым пайшоў рознымі шляхамі.

Імклівае павелічэнне тэрыторыі ВКЛ зрабіла яго адной з найвялікшых і наймацнейшых дзяржаў у Еўропе, але парушыла ўнутраную стабільнасць. Этнічныя літоўцы апынуліся ў меншасці сярод славянскага насельніцтва. Літоўскія князі, якія княжылі ў гарадах Русі, прынялі праваслаўе і пачалі пранікацца мясцовымі інтарэсамі. Не маючы сваёй пісьменнасці, яны карысталіся ў справаводстве старажытнарускай мовай, якая стала і «мовай міжнацыянальных зносін». Літве пагражала поўная асіміляцыя, растварэнне ў славянскім моры.

Але літоўцам належала ў дзяржаве вышэйшая палітычная ўлада. Яны выкарысталі яе, каб спыніць азначаныя працэсы. У 1385 г. было заключана пагадненне аб дзяржаўнай уніі ВКЛ з каталіцкай Польшчай (Крэўская унія), адной з умоў якога было хрышчэнне літоўцаў у каталіцкую веру. Побач са старажытнарускай мовай у справаводстве пачала шырока ўжывацца латынь. Пры вялікім князю Вітаўце (1392—1430) з дапамогай Ягайлы Альгердавіча, які стаў польскім каралём, быў скасаваны шэраг удзельных княстваў. Замест князёў прызначаліся намеснікі, якія значна больш залежалі ад цэнтральнай улады. Каталіцкая царква і літоўскія паны пачалі атрымліваць вялізныя зямельныя наданні, што хутка наблізіла іх па багацці і магутнасці да праваслаўных князёў.

Гэта прывяло да аднаўлення пэўнай раўнавагі славянскага і літоўскага кампанентаў. Пры гэтым першы з іх дамінаваў у культурнай, а другі — у палітычнай сферах. Дзяржава засталася двухэтнічнай (падзел «рускага» насельніцтва на беларусаў і ўкраінцаў яшчэ толькі намячаўся). Гэта мела як пазітыўныя вынікі, так

і патэнцыяльна негатыўныя. Узаемадзеянне народаў узбагачала кожны з іх, але захоўвалася небяспека міжэтнічных і асабліва міжрэлігійных супярэчнасцей. Пазней Маскоўская дзяржава не раз выкарыстоўвала гэтыя супярэчнасці на сваю карысць.

Крэўская унія мела і іншыя вынікі. Яна ўключыла ВКЛ у арбіту заходнееўрапейскай цывілізацыі. З захаду праз польскае пасрэдніцтва было запазычана шмат рыс, якія, у прыватнасці, ствараюць сёння неад'емныя кампаненты беларускай нацыянальнай культуры. Таксама можна сцвярджаць, што без польскага ўздзеяння беларуская мова не стала б такой, якая яна ёсць. Разам з тым унія стварыла ўмовы для няспыннага націску Польшчы на дзяржаўны суверэнітэт ВКЛ, а таксама для паступовай паланізацыі шляхты (як літоўскай, так і беларуска-ўкраінскай).

З канца XIV — пачатку XV ст. працэс утварэння ВКЛ можна лічыць у асноўным скончаным. Сфарміравалася яго тэрыторыя, асноўныя рысы ўнутранай структуры, знешнепалітычныя прыярытэты. Умовы, што скláліся да гэтага часу, у значнай ступені вызначылі характар далейшай гісторыі дзяржавы. Яе нельга назваць ні літоўскай, ні беларускай, ні ўкраінскай, але без гэтай дзяржавы немагчыма было б з'яўленне кожнага з гэтых народаў у іх сённяшнім выглядзе. Усе яны маюць свае правы на яе гістарычную спадчыну, як кожны з дзяцей мае правы на спадчыну сваіх бацькоў.

*Друкуецца паводле:*
Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён:
Зборнік артыкулаў. Мінск, 1992. С. 54—63.

# Пачаткі Вялікага Княства Літоўскага: Падзеі і асобы

## Прадмова

Кніга, якую вы зараз трымаеце ў руках, прысвечана першапачатковаму перыяду гісторыі Вялікага Княства Літоўскага — дзяржавы, у нетрах якой сфарміравалася беларуская народнасць. Невыпадкова яе поўная афіцыйная назва абавязкова ўключала слова «Рускае»: Вялікае Княства Літоўскае і Рускае, з 1440-х гадоў — Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Назву «рускія» мела праваслаўнае насельніцтва былой Кіеўскай Русі, і гэты тэрмін не трэба блытаць з этнонімам сучасных рускіх (вялікарусаў). Так атрымалася, што сённяшняе імя беларускага этнасу замацавалася за ім параўнальна позна, канчаткова — толькі ў XIX стагоддзі.

Гісторыя ведае прыклады, калі адзін старажытны народ даў пачатак некалькім новым, якія наследуюць у тым ліку і яго імя. Так, сучасныя балгары і балкарцы ўзялі сваю назву ад качэўнікаў балгар, што зніклі шмат стагоддзяў назад. Імя румынаў пераклікаецці з іменем старажытных рымлян (Romanus). Прыкладна ў такіх жа адносінах знаходзіцца сучасны этнонім «рускія» з назвай супольнасці, што дала пачатак тром народам: беларусам, рускім і ўкраінцам.

Доўгі час у афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі разглядалася толькі адна «лінія развіцця»: Кіеўская Русь — Маскоўская дзяржава — Расійская імперыя. Гісторыя ж той паловы Русі, што ўвайшла ў Вялікае Княства Літоўскае, апыналася недзе на задворках, а то зусім знікала з поля зроку многіх вучоных. Для сучаснага чытача Вялікае Княства (а яго існаванне — гэта найбольш працяглы перыяд гісторыі Беларусі) найчасцей застаецца не проста «белай плямай», а якімсьці «неадкрытым кантынентам». Так сталася таму, што яно не пакінула дзяржаўных утварэнняў, якія б прэтэндавалі на статус яго палітычных нашчадкаў. У выніку падзелаў у 1772—1795 гадах Рэчы Паспалітай — федэратыўнай дзяржавы, што аб’ядноўвала Польшчу («Карону») і Вялікае Княства Літоўскае («Княства», або «Літву»), апошняе перастала існаваць як самастойнае адміністрацыйнае цэлае, а яго тэрыторыя апынулася ў складзе Расійскай імперыі. Тры спробы аднавіць незалежнасць (паўстанні 1794, 1830—1831 і 1863—1864 гадоў) былі няўдалымі. Каб прадухіліць новыя, царскі ўрад разгарнуў палітыку русіфікацыі. Настойліва прапагандавалася наступная канцэпцыя: маўляў, беларусы і ўкраінцы — частка рускага, г. зн. велікарускага этнасу. Ад уласнай гісторыі ім пакінулі толькі байку пра «адвечнае імкненне» да ўз’яднання з Расіяй.

Але доўгае існаванне Вялікага Княства ва ўмовах дзяржаўнай уніі з Польшчай (1569—1795) спрыяла нараджэнню і супрацьлеглай канцэпцыі — быццам беларусы з’яўляюцца толькі «забруджанай» расійскім уплывам часткай польскага этнасу. Усведамленне ж таго, што яны ўтвараюць самастойны народ, выспявала вельмі павольна. У сярэдзіне XIX стагоддзя тыя, хто прыходзіў да гэтай думкі (Канстанцін Каліноўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч), выглядалі дзівакамі. Тонкі слой беларускай інтэлігенцыі, якая і выступіла вяшчальнікам нацыянальнай ідэі, склаўся толькі ў канцы XIX стагоддзя.

Імкнучыся адмежавацца і ад палякаў, і ад велікарусаў, гэтая маладая інтэлігенцыя трапіла ў іншую крайнасць. З’явілася так званая крывіцкая канцэпцыя Вацлава Ластоўскага, паводле якой беларусы — нашчадкі крывічоў, а раней гетаў ці вялетаў — не маюць увогуле нічога агульнага з рускімі, бо спрадвеку ўтваралі асобную лінію развіцця.

Пасля распаду Расійскай імперыі ў 1918 годзе аднавілі сваю незалежнасць Польшча і Літва, тады ж была абвешчана і Беларуская Народная Рэспубліка — першая спроба

беларусаў стварыць нацыянальную дзяржаву. У той час трактоўка гісторыі Вялікага Княства Літоўскага набыла вельмі абвостранае палітычнае гучанне. Палякі, літоўцы і беларусы пачалі цягнуць яе, як коўдру, кожны ў свой бок. Польшча прэтэндавала на тэрыторыю Рэчы Паспалітай у межах 1772 года і нават здолела ўтрымаць за сабой Заходнюю Беларусь, дзе разгарнула палітыку паланізацыі мясцовага насельніцтва. У Літве ставіліся да Вялікага Княства як да выключна літоўскай дзяржавы.

У тых умовах Мітрафан Доўнар-Запольскі (увогуле вельмі сур'ёзны і грунтоўны гісторык) дзеля падтрымкі беларускай дзяржаўнасці разгарнуў канцэпцыю, паводле якой Вялікае Княства было ў першую чаргу дзяржавай беларусаў. Тады ў навуковым свеце гэтая канцэпцыя была ўспрынята як кур'ёз, але яна працягвала жыць сярод беларускіх эмігрантаў.

Савецкая ж гістарыяграфія, па сутнасці, цалкам успрыняла русіфікатарскую канцэпцыю царскага ўрада. Эпоха Вялікага Княства была для яе толькі часовым і прыкрым адхіленнем на шляху адзінаіснага ўсходнеславянства. А паколькі большая частка Беларусі (з 1939 года — амаль уся яна) апынулася ў складзе СССР, менавіта такі погляд навязваўся яе насельніцтву.

Сёння сітуацыя ў пэўнай ступені паўтараецца. Пасля распаду СССР аднавілася і тузанне коўдры. У некаторых публікацыях на гістарычную тэму, якіх, нарэшце, так шмат з'яўляецца ў апошнія гады ў Беларусі, выразна прасочваецца канцэпцыя, што аднаўляе тэзы В. Ластоўскага, М. Доўнар-Запольскага і іх паслядоўнікаў з беларускай дыяспары (П. Урбана, М. Шкялёнка і інш.). Коратка яе можна звесці да трох пастулатаў:

1. Старажытнарускага адзінства ніколі не існавала, беларусы ўжо з першага тысячагоддзя нашай эры ішлі сваім асобным шляхам.

2. Старажытныя беларусы выступалі ў XIII стагоддзі пад назвай «літва», запазычанай ад зніклага балцкага племені, што жыло калісьці ў Верхнім Панямонні. Продкі сучасных літоўцаў («летувісаў») не мелі да гэтай назвы ніякага дачынення, у той час яны зваліся выключна «жамойтамі».

3. Беларусы-«літва» стварылі Вялікае Княства Літоўскае і падпарадкавалі сабе «жамойтаў», якія не адыгрывалі самастойнай ролі, пасіўна ўспрынялі ад беларусаў назву «літва», а ў XIX стагоддзі без усялякіх падстаў прысвоілі яе сабе.

Гэтая канцэпцыя набыла вялікае пашырэнне. На жаль, яна ўжо прывяла да таго, што літоўцы глядзяць на нас з крыўдай, а астатнія суседзі — з пэўнай іроніяй. Тым больш актуальнай задачай застаецца стварэнне аб'ектыўнай карціны далёкага мінулага.

Заўважу, што многія гісторыкі-прафесіяналы як у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, так і ў пазнейшыя часы грунтоўна распрацавалі пытанні ўтварэння і ранняй гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Але іх творы часта напісаны сухой акадэмічнай мовай, а большасць і ўвогуле сёння недаступная для шырокага кола чытачоў, якія не валодаюць польскай, літоўскай мовамі і не могуць працаваць у навуковых бібліятэках са старымі і рэдкімі выданнямі.

У сваёй кнізе я імкнуся даць папулярны, але дастаткова поўны нарыс перадгісторыі і пачатковага этапу існавання Вялікага Княства Літоўскага. Дзеля ахопу падзей як суцэльнай карціны рэчаіснасці прыходзіцца часам ахвяраваць прапрацоўкай асобных дэталяў, але гэта непазбежна. І так у кнізе змешчана інфармацыі значна больш, чым можна затрымаць у свядомасці з першага прачытання. Той, хто мае пэўную падрыхтоўку, хто даўно цікавіцца гісторыяй, лёгка здолее арыентавацца ў падзеях, імёнах і датах. У непадрыхтаванага ж чытача галава можа пайсці кругам. Але не трэба гэтага палохацца! Чытайце далей, калі трэба — вяртайцеся назад, вяртайцеся да кнігі праз пэўны час, — і вы ўбачыце, што паступова ўсё звяжацца адно з адным. Калі перыяд адаптацыі да новых ведаў будзе пераадолены, вы адчуеце, што прастата і лёгкасць агульнавядомых тэорый і шаблонаў больш не задавальняюць вас, затое вам адкрылася іншая асалода — здольнасць свабодна арыентавацца ў фактах, на іх падставе асэнсоўваць розныя канцэпцыі замест таго, каб пасіўна «праглынаць» іх.

Кніга разлічана на крытычнага, самастойнага чытача, які не будзе прымаць яе як ісціну ў апошняй інстанцыі. Калі гэтая праца абудзіць у ім цікавасць да гісторыі, то іншыя кнігі і першакрыніцы дапамогуць знайсці слушны адказ на тыя пытанні, дзе я, магчыма, у чымсьці памыліўся.

Перш чым прапанаваць чытачам свой твор, хачу зрабіць яшчэ некалькі ўступных заўваг. Мая кніга прысвечана ў першую чаргу дзеянням канкрэтных асоб. Менавіта гэтая частка гістарычнага працэсу лічылася пэўны час другараднай: маўляў, гісторыю ствараюць не героі, а народныя масы. Адсюль і поўны заняпад генеалогіі, якая ў маёй кнізе вяртаецца на належнае ёй месца. Увогуле я цалкам згодзен з тым, што «герой» можа зрабіць толькі тое, што адпавядае імкненням людзей, чыімі рукамі ён ажыццяўляе сваю волю. Але менавіта дзейнасць выдатных асоб ператварае гістарычную магчымасць у рэчаіснасць. Я выкладаю падзеі «па каленах» гістарычных асоб, стараюся не абмінуць нікога з буйных дзеячаў. Гэта можа здацца зваротам да некалі традыцыйнага выкладання гісторыі па цараваннях. Але пераважная ўвага да пануючых асоб тлумачыцца зусім не маімі манархічнымі сімпатыямі. Проста ў лёсе адной чалавечай сям'і, як у кроплі вады, адбіваецца эпоха. Спецыфіка ж крыніц такая, што прасачыць лёс на працягу пакаленняў магчыма толькі для найбольш адметных арыстакратычных родаў.

Гісторыя дзяржавы патрабуе вельмі шырокага ахопу яе сувязяў з суседнімі краінамі. Таму ў кнізе гутарка пойдзе і пра Польшчу, і пра Маскоўскую Русь, і пра Залатую Арду. Пры гэтым узнікаюць пытанні з ужываннем тэрміналогіі, назваў і імёнаў. Розныя народы часам называлі адны і тыя ж мясціны, адных і тых жа асоб па-рознаму. Перавагу ў такім выпадку належыць аддаваць тым варыянтам, што былі першапачатковымі: Бату-хан, а не Батый, напрыклад. Але такі прынцып цяжка правесці паслядоўна.

Асабліва складаная сітуацыя з назвамі і імёнамі, што ўжываліся народамі, якія ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Часта варыянт, прыняты ў моўнай практыцы таго часу, да нашых дзён не захаваўся ў афіцыйным ужыванні ні ў Літве, ні ў Беларусі. Так, значная частка геаграфічных назваў замацавалася ў польскай транскрыпцыі. Зварот да найменняў, што ўжываліся ў мінулым, нараджае і іншую праблему: гістарычнымі крыніцамі звычайна не фіксаваўся націск, які мае істотнае значэнне для сучаснага беларускага правапісу. Напрыклад, найбольш характэрным варыянтам напісання назвы Навагрудка ў сярэднявеччы было «Новгородок». Дзе ставіць націск у гэтым слове?

У такіх спрэчных выпадках я арыентаваўся на думку вядомага беларускага лінгвіста акадэміка А. Жураўскага, якую ён абгрунтаваў у газеце «Навіны Беларускай акадэміі» (1992, 14 жніўня). Таму тых, хто сустрэне ў тэксце нязвыклыя назвы «Берасце» (Брэст), «Горадна» (Гродна), «Навагародак», я заклікаю не здзіўляцца — так, напэўна, вымаўлялі нашы продкі.

Больш складаная справа з імёнамі літоўскіх князёў. Для пявучай літоўскай мовы і сёння не ўласцівы выразны націск. Як жа гучала ў мінулым імя, якое старажытнарускія крыніцы перадаюць як «Олкгерд», а сучасныя літоўцы вымаўляюць як «Альгірдас», сказаць вельмі цяжка. Па магчымасці, апрача відавочна памылковых форм, я прытрымліваўся традыцыі, якая ўсталявалася ў беларускім друку («Альгерд», «Міндоўг» і г.д.).

Складанасць узнікае нават з самім этнонімам славянскага насельніцтва Вялікага Княства, у тым ліку жыхароў Беларусі XIII—XIV стагоддзяў. Тагачасныя продкі беларусаў (як, дарэчы, і ўкраінцаў) звалі сябе рускімі, русінамі. Пазней у межах Вялікага Княства, што скарочана называлі «Літвой», з'явілася найменне «ліцвіны», пры дапамозе якога не толькі этнічныя літоўцы, але і тыя ж русіны адрознівалі сябе ад падданых Маскоўскай дзяржавы (маскоўцаў, маскалёў). У супрацьпастаўленне літоўцам і жамойтам (жмудзінам) яны па-ранейшаму заставаліся «рускімі». Назвы «Беларусь» і «Украіна» набылі сучасны сэнс вельмі позна. У XVII стагоддзі маскоўскія пісцы разумелі пад «Белай Руссю» ўсе славянскія землі Вялікага Княства Літоўскага і

Рэчы Паспалітай, у тым ліку часам і Кіеўшчыну, Валынь (хаця для ўсходнеўкраінскіх зямель ужывалася і назва «Украіна»). З другога боку, у гэты ж час і пазней назва «Белая Русь» замацавалася за часткай сённяшняй Беларусі — Падняпроўем і Падзвіннем. На землях Вялікага Княства, далучаных у канцы XVIII стагоддзя да Расійскай імперыі, былі ўтвораны Беларуская губерня (у 1802 годзе падзеленая на Віцебскую і Магілёўскую), Мінская і Літоўская (апошнюю ў 1801 годзе падзялілі на Гродзенскую і Віленскую). Да паўстання 1830—1831 гадоў і нават адразу пасля яго Віцебскую і Магілёўскую губерні працягвалі афіцыйна называць беларускімі, а Гродзенскую і Віленскую — літоўскімі, пакуль цар Мікалай I не ўстанавіў агульную назву — Паўночна-Заходні край. Нарэшце, нават на пачатку XX стагоддзя адзін з правадыроў беларускага нацыянальнага адраджэння Вацлаў Ластоўскі лічыў тэрмін «беларусы» штучным і імкнуўся замяніць яго тэрмінам «крывічы».

Усё гэта паказвае, што сучаснае імя беларускага этнасу прырасло да яго значна пазней, чым ён узнік. Ужыванне такой назвы адносна рэалій XV—XIX стагоддзяў з'яўляецца ў пэўнай ступені ўмоўным, тым больш што этнічная тэрыторыя беларусаў ніколі не супадала з межамі сучаснай Рэспублікі Беларусь. Аднак яно, безумоўна, мае падставы (як мы часам называем старажытных элінаў «грэкамі»), бо этнас ужо існаваў, хаця і пад іншымі імёнамі.

У нашай жа кніжцы гутарка ідзе пра XIII—XIV стагоддзі, калі не існавала не толькі назва, але, як будзе паказана ніжэй, і сам этнас яшчэ толькі пачаў фарміравацца. Падзеі, што разгортваліся ў гэты час на Полаччыне, Тураўшчыне ці Новагародчыне, маюць непасрэднае дачыненне да беларускай гісторыі, але безагаворачна называць гэтыя землі «беларускімі княствамі», а іх уладальнікаў — «беларускімі князямі», як сёння часам робіцца, было б анахранізмам. Таму я схіляюся да таго, каб у адпаведнасці з абвешчаным мной жа прынцыпам называць іх так, як называлі самі ўдзельнікі падзей, — Русь, рускія княствы, князі і баяры. Тое ж датычыцца і мовы, якая мела назву рускай яшчэ ў XVII стагоддзі. Мову дакументаў XVI—XVII стагоддзяў звычайна лічаць «старабеларускай», але для больш ранніх часоў немагчыма і гэта, бо нават у XV стагоддзі мова «старабеларускіх» і «стараўкраінскіх» актаў (з тэрыторыі Валыні і Галіччыны) практычна нічым не адрозніваецца. Абвясціўшы яе «беларускай», мы пакрыўдзім нашых украінскіх суседзяў.

Але ці не пакрыўдзім мы самі сябе, калі назавём сваіх продкаў так, як сёння завуць сябе насельнікі Расіі? Мне здаецца, што не. Калі беларусы мінулых стагоддзяў, прамыя нашчадкі Кіеўскай Русі, не саромеліся звацца сябе рускімі і пры гэтым не змяшаліся з «маскалямі», не згубілі нацыянальнай самабытнасці, то і нам няма чаго саромецца ці баяцца. Трэба толькі разумець, што ў гэтай саманазве (а яна часам сустракаецца ў беларускіх сялян нават сёння) адбіваецца не атаясамліванне сябе з велікарусамі, а спадчына старажытнарускіх часоў, Русі Яраслава Мудрага і Усяслава Чарадзея. Так атрымалася, што палітычна больш моцныя велікарусы ў XVIII—XX стагоддзях атрымалі манаполію на гэтае імя (як жыхары ЗША «прыхапілі» назву цэлага кантынента), беларусам жа і ўкраінцам прыйшлося браць новае. Але і цалкам забываць пра старое імя не варта.

І яшчэ адна неабходная заўвага — пра гістарычныя крыніцы, выкарыстаныя ў гэтай кнізе. Асноўныя з іх — старажытныя летапісы, як выпушчаныя асобнымі выданнямі, так і апублікаваныя ў шматтомным «Полном собрании русских летописей». Шмат цікавых звестак захавалася ў хроніках Польшчы і прыбалтыйскіх крыжацкіх ордэнаў, у пасланнях рымскіх пап і іншых дыпламатычных дакументах.

Сярод летапісаў трэба адрозніваць дзве групы. Адны з іх пісаліся ці па гарачых слядах падзей, ці на падставе больш-менш праўдзівых вусных паданняў не пазней чым праз два-тры пакаленні ад часу, пра які яны паведамляюць. Другую групу ўтвараюць летапісныя кампіляцыі XVI—XVII стагоддзяў і легендарныя радаводы, што ствараліся ў часы, калі рэальныя падзеі ўжо сцёрліся з памяці. Да гэтай групы, напрыклад, належаць вельмі тэндэнцыйныя версіі паходжання літоўскай пануючай дынастыі ад полацкіх ці смаленскіх князёў або ўвогуле ад «халопа Гегіменіка»,

якія ўключаны ў маскоўскія радаводныя кнігі (адна з такіх версій трапіла ў якасці позняй устаўкі ў Васкрасенскі летапіс, а таксама ў Густынскі летапіс). З другога боку, не менш тэндэнцыйныя паданні (аб паходжанні літоўскіх князёў ад рымскага патрыцыя Палямона і заваяванні імі амаль усёй тэрыторыі Вялікага Княства яшчэ ў сярэдзіне XIII стагоддзя) уключаны ў найбольш вядомыя з беларуска-літоўскіх летапісаў — Хроніку Быхаўца і Хроніку Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага, а таксама ў хроніку польскага гісторыка XVI стагоддзя Мацея Стрыйкоўскага, які, у сваю чаргу, карыстаўся вельмі блізкім да Хронікі Быхаўца летапісам. Усе названыя творы можна разглядаць як сведчанні светапогляду XV—XVI стагоддзяў, але толькі не як дакладную крыніцу звестак па гісторыі XIII стагоддзя. Магчыма, тыя ці іншыя фрагменты гэтых паданняў маюць пэўную гістарычную падставу — так, літоўскае паданне выкарыстоўвае кавалак Валынскага летапісу пра Міндоўга і Войшалка. Аднак у большасці выпадкаў даказаць верагоднасць тых ці іншых фактаў з пазней створаных радаводаў немагчыма. Даследчыкі бяруць ці не бяруць іх на веру ў адпаведнасці з тым, як яны суадносяцца з канцэпцыямі саміх даследчыкаў. Бяспечней, аднак, ставіцца крыху скептычна нават да самых праўдападобных з гэтых звестак.

Усё сказанае адносіцца, зразумела, і да тых гістарычных прац XIX стагоддзя, якія выкарыстоўвалі ўказаныя крыніцы, — напрыклад, да другога, трэцяга і часткі чацвёртага тамоў дзевяцітомнай «Гісторыі літоўскага народа», выдадзенай на польскай мове ў першай палове XIX стагоддзя навукоўцам Тэадорам Нарбутам. Дарэчы, твор гэты каштоўны тым, што ў ім вельмі падрабязна пераказаны крыжацкія хронікі і іншыя дакументы на латыні, дагэтуль не выдадзеныя на славянскіх мовах. Аднак Нарбут спасылаўся і на так званы «Раўданскі летапіс», які, паводле даследаванняў польскіх гісторыкаў, сачыніў сам. Насцярожаныя адносіны ў навукоўцаў і да твораў рускага гісторыка XVIII стагоддзя Васіля Тацішчава. Ён меў у сваім карыстанні некаторыя рукапісы, што пазней загінулі, і дакладнасць іх зараз праверыць немагчыма. Прычым ёсць падазрэнне, што часам ён таксама ўстаўляў прыдуманыя ім самім фрагменты.

На заканчэнне прадмовы дадам, што пачатковы перыяд гісторыі Вялікага Княства ўвогуле вывучаны значна горш, чым пазнейшыя. Далёка не ўсе з падзей, вынікі якіх даспелі значна пазней, прыцягвалі да сябе належную ўвагу сучаснікаў. Таму некаторыя пытанні застаюцца без адказаў. Можа, іх растлумачыць хтосьці з тых, у кім гэтая кніга выкліча такую патрэбу.

А пакуль што запрашаю вас прасачыць за тым драматычным спектаклем, што паставіла некалі Гісторыя.

## Экспазіцыя

20-я гады XIII стагоддзя — менавіта ад гэтага часу пачну я сваё апавяданне. Але спачатку давайце не спяшаючыся разгледзім гістарычную сцэну, на якой будзе разгортвацца дзея.

Абшар, што з цягам часу складзе тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага і Рускага, пакуль што падзелены на дзве няроўныя часткі. У паўночна-заходнім яго куце, што прымыкае да пясчаных берагоў Балтыкі, — свет вольных балцкіх плямёнаў. Але з двух бакоў, ад вусцяў Даўгавы і Віслы, на яго пачынае насоўвацца цень каталіцкіх царкоўна-рыцарскіх ордэнаў — з імі балты будуць весці доўгую барацьбу за сваю незалежнасць. Астатняя частка абшару — землі, што ўваходзяць у склад Кіеўскай Русі — рыхлага дзяржаўнага ўтварэння, якое ўяўляе сабой кангламерат дастаткова аўтаномных княстваў. У кожным з іх пануе асобная галіна адзінага роду Рурыкавічаў, але гэтыя землі-княствы змацаваны, як клёпкі ў дзежцы, абручамі эканамічных сувязяў, адзінай праваслаўнай веры, адзінай пісьмовай мовы і культуры, што ўзнікла як сплаў былога славянскага паганства і візантыйскіх уплываў. Кіеўская Русь раскінулася на большай частцы нашай уяўнай сцэны.

Заходні яе ўскраек займае тэрыторыя Польшчы — дзяржавы славянскай, але звернутай тварам на захад, у свет заходнееўрапейскай цывілізацыі, перыферыю

якой яна складае. Польская дзяржава не прыме непасрэднага ўдзелу ва ўтварэнні Вялікага Княства, але ўплыў яе будзе ўвесь час вельмі адчувальным, а ў канцы нашага апавядання — проста-такі рашаючым, калі ў выніку дзяржаўнай уніі Вялікае Княства і Польшча злучацца ў канфедэрацыю.

Нарэшце на ўсходзе, недзе ўжо за кулісамі сцэны, пачынаецца бясконцы разлог палынова-кавыльных стэпаў, свет цюркскіх народаў, што доўгім пасам цягнецца ў самае сэрца азіяцкага кантынента. Гэты пас стагоддзямі выконвае ролю кнота, па якім распаўсюджваецца полымя качэўніцкіх нашэсцяў. І зараз усходні канец яго дыміцца — там, за тысячы кіламетраў, у далёкай Манголіі выспяваюць значныя падзеі. Хутка яны дакоцяцца сюды і накіруюць гісторыю Усходняй Еўропы ў зусім іншае рэчышча.

Разгледзім асобныя часткі сцэны больш уважліва і пачнём з Русі — вялізнай квітнеючай дзяржавы, што ляжыць ад Карпат на паўднёвым захадзе да сцюдзёных берагоў Ледавітага акіяна на паўночным усходзе. Доўгі час гісторыкі лічылі, што яе раздрабненне на паўсамастойныя палітычныя адзінкі было сведчаннем заняпаду. Але з часам рабілася ўсё больш відавочным, што жорстка цэнтралізаваны дзяржаўны апарат — зусім не абавязковы атрыбут грамадства, якое працвітае. Час палітычнай раздробленасці на Русі быў не толькі часам росквіту культуры, гандлю і рамёстваў — ён, як ні дзіўна, быў і часам актыўнага зліцця асобных этнаграфічных правінцый — нашчадкаў старажытных славянскіх этнасаў (крывічоў, дрыгавічоў, северан і інш.) — у культурна-этнічную супольнасць, якая ў савецкай гістарыяграфіі атрымала назву «старажытнаруская народнасць».

На гэтым пытанні трэба спыніцца крыху падрабязней, бо яно мае істотнае значэнне для разумення выкладзеных ніжэй падзей. Сёння тэзіс аб старажытнарускай народнасці часам абвяшчаецца такім жа міфам сталінісцкай псеўданавукі, як і «адзіны савецкі народ — будаўнік камунізму». Але тое, што нейкі тэрмін нарадзіўся ў сталінскі час, зусім не азначае, што ён не варты разгляду. Прынамсі, нейкая доля ісціны ў канцэпцыі старажытнарускай народнасці ўсё ж была. Праўда, пытанні этнічнай ідэнтыфікацыі — ледзь не самыя складаныя. Але які б крытэрый этнасу мы ні ўзялі — ці то агульная самасвядомасць, ці наяўнасць выразнага стэрэатыпу паводзін і звычаяў, што кідаецца ў вочы суседзям, — усе яны больш-менш прымянімыя да насельніцтва Кіеўскай Русі. З летапісаў XII—XIII стагоддзяў вынікае, што іх стваральнікі лічылі і Кіеўскую, і Наўгародскую, і Суздальскую землі часткамі адзінай дзяржавы. Праўда, тэрмін «Русь» у вузкім сэнсе азначаў толькі землі, якія былі падуладныя непасрэдна кіеўскаму князю («вялікаму князю», як яго ўжо пачыналі зрэдку называць у той час). Таму «Русь» у такім значэнні з ходам раздрабнення не пашыралася, а звужалася да невялікай тэрыторыі на сярэднім Дняпры. Але адначасова існавала і шырокае значэнне гэтага слова, якое датычыла ўсіх княстваў, падпарадкаваных дынастыі Рурыкавічаў. У гэтым жа сэнсе яго ўжывалі за межамі дзяржавы. І пазней, калі Кіеўская Русь знікла, насельніцтва яе асколкаў, што ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, Польшчы, Маскоўскай дзяржавы, упарта называла сябе русінамі, рускімі, а праваслаўную веру — рускай верай. Так магло стацца толькі таму, што і назва, і агульная самасвядомасць паспелі пусціць глыбокія карані. Стваральнік «Слова пра пагібель Рускай зямлі» (гэты выдатны паэтычны твор датуецца хутчэй за ўсё другой паловай XIII стагоддзя) акрэслівае месца рускіх сярод суседніх народаў: паміж ўграў (венграў), ляхаў (палякаў), яцвягаў і літвы, немцаў Лівонскага ордэна, карэлаў, а на ўсходзе — паволжскіх народаў (балгараў, мардвы і інш.).

Дарэчы, і раздробленасць дзяржавы мела зусім не такі характар, як, напрыклад, раздробленасць Францыі на герцагствы і графствы, звязаныя толькі васальнымі адносінамі. Русь разглядалася як калектыўная вотчына ўсіх князёў Рурыкавічаў, падзеленая на долі для больш зручнага кіравання ёю і пракорму асобных прадстаўнікоў роду, — таксама, як зямля сялянскай абшчыны-грамады дзялілася паміж сем'ямі.

Цікава, што парадак падзелаў і наследавання княжацкіх уладанняў быў ці не больш архаічным, чым сялянскае землекарыстанне: калі ў сялян асноўным уладальнікам

лічылася малая сям'я (бацькі з дзецьмі), то на дзяржаўным узроўні такім уладальнікам выступала галіна княжацкага роду — вялікасямейная абшчына. Падзел дзяржаўнай вотчыны адбываўся не паміж сынамі пасля смерці бацькі, а паміж сынамі родных братоў пасля смерці апошняга з такіх братоў, г. зн. не ў другім, а ў трэцім пакаленні. Пакуль браты былі жывыя, старэйшы з іх лічыўся старэйшынам сямейнай групы, права на гэты статус мелі па чарзе ўсе браты. Калі род раздрабняўся на некалькі такіх груп, найбольш аўтарытэтнай з іх лічылася тая, што паходзіла ад старэйшага сына родапачынальніка. Старэйшына гэтай групы меў адначасова вяршэнства над усім родам.

На Русі XII—XIII стагоддзяў княжацкі род утваралі нашчадкі пяці сыноў Яраслава Мудрага (менавіта пасля смерці апошняга з іх, Усевалада Яраславіча, у 1093 годзе пачынаецца распад агульнасямейнай вотчыны на ўладанні асобных «абшчын», якія быў замацаваны на Любецкім з'ездзе князёў у 1097 годзе). Сыны кожнага з Яраславічаў атрымалі «отчину» — тую частку дзяржавы, якой кіраваў пры жыцці іх бацька. Праўда, у сыноў Яраслава Мудрага быў таксама стрыечны брат — Брачыслаў Ізяславіч, уладальнік Полацкага княства. Ён памёр яшчэ пры Яраславе, але яго сын Усяслаў аказаўся адзіным прадстаўніком асобнай княжацкай галіны. Менавіта гэтай генеалагічнай акалічнасцю, а не асаблівым сепаратызмам Полацкай зямлі трэба тлумачыць яе больш ранняе і ўстойлівае адасабленне ад астатніх княстваў. Пазней, каб падкрэсліць сваю дынастычную самастойнасць, нашчадкі Усяслава спасылаліся на тое, што іх род паходзіць ад Ізяслава — старэйшага сына Рагнеды Рагвалодаўны, адзінай наследніцы полацкага князя Рагвалода, забітага разам з сынамі Уладзімірам Кіеўскім (паводле родавых звычаяў, пры адсутнасці нашчадкаў па мужчынскай лініі спадчына пераходзіла да старэйшага па жаночай лініі). Яраслаў Мудры ж, таксама сын Рагнеды і Уладзіміра Кіеўскага, не з'яўляўся старэйшым сынам. Але гэтая дыскусія вялася не дзеля таго, каб канчаткова парваць усе сувязі з Кіевам, а каб адбіцца ад спроб іншых княжацкіх сем'яў захапіць Полаччыну.

Канешне, тут мелася і, так бы мовіць, зваротная сувязь — больш адасобленае генеалагічнае становішча полацкай дынастыі сапраўды спрыяла сепаратызму яе князёў і баяр. Але гэта было ўсё ж вынікам, а не прычынай, і ўвогуле гэты сепаратызм не трэба перабольшваць. Прынамсі, матэрыяльнай культурай (архітэктура, рамесныя вырабы) Полацкая зямля пачатку XIII стагоддзя не больш адрозніваецца ад іншых земель Русі, чым яны паміж сабой. Для Генрыха Латвійскага, аўтара «Хронікі Лівоніі» пачатку XIII стагоддзя, не выклікае сумнення, што полацкія князі разам са смаленскімі і іншымі Рурыкавічамі з'яўляюцца рускімі князямі. А полацкая грамата 1264 года недвухсэнсоўна вызначае: «Руськая земля словет Полочьская».

На пачатку разглядаемага перыяду на Русі існавала шмат генеалагічных ліній Рурыкавічаў, прычым колькасць долей, на якія расшчапілася кожная з першапачатковых вотчын, вельмі адрознівалася. Гэта мела непасрэднае дачыненне да палітычнай магутнасці княстваў.

Уладзіміра-Суздальская зямля (інакш Залессе) належала адзінай братняй абшчыне — сынам Усевалада Юр'евіча Вялікае Гняздо, што памёр у 1212 годзе. Хоць браты часам і варагавалі адзін з адным, усё ж з 1218 года, калі старэйшынам гэтай галіны стаў Юрый Усеваладавіч, ён разам з трыма малодшымі братамі ўтвараў магутную сілу — бадай што найвялікшую на Русі.

Суседняя Смаленская зямля зусім нядаўна мела такое ж адзінства, калі яна належала пяці братам Расціславічам. Але ў 1215 годзе памёр апошні з іх — Рурык Расціславіч, які большую частку сталага жыцця правёў у барацьбе за ўладу над Кіевам. Пасля яго смерці род Расціславічаў фактычна распаўся на чатыры групы. Раздрабненне Смаленшчыны крыху замарудзілася дзякуючы таму, што многія члены роду мелі ўдзелы на поўдні, у Кіеўскай зямлі. Сын Рамана Расціславіча Мсціслаў, а пазней сын Рурыка Уладзімір станавіліся кіеўскімі князямі, а прадстаўнік малодшай галіны, Мсціслаў Мсціславіч Удатны, здолеў уладкавацца спачатку ў Ноўгарадзе, а потым у Галічы (лінія тамтэйшых князёў згасла ў канцы XII стагоддзя). Аднак падзел Смаленскай зямлі на шэраг самастойных вотчын усё роўна пачаўся. Вылучылася

асобнае Таропецкае княства — уладанне нашчадкаў Мсціслава Расціславіча Храбрага (а пазней яны ж, верагодна, далі пачатак вяземскай галіне смаленскіх князёў). Нашчадкі Рамана і Давыда Расціславічаў аспрэчвалі вяршэнства ў Смаленскай зямлі (у выніку пасля згасання роду Давыда яно замацавалася за ўнукамі Рамана). Некалі магутная Смаленшчына паступова адыходзіла на другі план.

Трэцяй буйной зямлёй у складзе Русі была Чарнігава-Северская. Мы застаём яе падзеленай на дзве вотчыны: уласна Чарнігаўскае і Ноўгарад-Северскае княствы, якія належаць дзвюм галінам роду Ольгавічаў. Чарнігаўскай да 1223 года кіраваў Мсціслаў Святаславіч, потым вяршэнства перайшло да яго пляменніка Міхаіла Усеваладавіча. Ноўгарад-северская галіна паходзіць ад славутага князя Ігара Святаславіча — героя «Слова аб палку Ігаравым». Яе ў 1220-я гады ўзначальваў сын Ігара Алег. Кожная з дзвюх вотчын (асабліва чарнігаўская) заставалася дастаткова буйной, каб адыгрываць істотную ролю ў дзяржаве.

Некалі магутная Уладзіміра-Валынская зямля на пачатку XIII стагоддзя трапіла ў даволі неспрыяльнае становішча. Старэйшую галіну тамтэйшай дынастыі ўтваралі юныя Даніла і Васілька Раманавічы. Іх бацька, князь Раман, памёр у 1205 годзе, пакінуўшы іх немаўлятамі. Стрыечны брат Данілы і Васількі — Аляксандр Белзскі, а таксама галіна луцкіх князёў мелі асобныя ўладанні. Гэта выклікала часовы палітычны заняпад Уладзіміра-Валынскай зямлі і прывяло да страты суседняга Галіча, які князь Раман у свой час далучыў да сваіх уладанняў. Аднак на працягу 1220-х гадоў згасае луцкая галіна, а Аляксандр Белзскі церпіць паражэнне ад пасталеўшых Раманавічаў, так што Валынь зноў трапляе ў рукі адной княжацкай сям'і. Гэта вяртае яе ў лік магутных палітычных цэнтраў і дазваляе Данілу Раманавічу распачаць барацьбу за Галіч.

Абмінём становішча ўскраінных Мурамскага і Разанскага княстваў, якія практычна не будуць уплываць на ход падзей, што цікавяць нас. Пра Кіеўскую, Пераяслаўскую і Наўгародскую землі можна толькі сказаць, што яны страцілі самастойныя княжацкія дынастыі і правяць там у залежнасці ад палітычнага раскладу прадстаўнікі ўладзіміра-суздальскіх, чарнігаўскіх ці смаленскіх князёў. Пры гэтым тытул кіеўскага князя традыцыйна мае асаблівы прэстыж і статус вяршэнства, але фактычна Руссю кіруюць сумесна прадстаўнікі найбольш магутных княжацкіх сем'яў. На пачатку 1230-х гадоў гэта Юрый Уладзіміра-Суздальскі, Міхаіл Чарнігаўскі і Даніла Уладзіміра-Валынскі.

Я наўмысна не засяроджваў вышэй увагу на тэрыторыі сучаснай Беларусі, чыё становішча робіцца асабліва наглядным на фоне азначаных цэнтраў. Дарэчы, частка яе зямель у той час непасрэдна да гэтых цэнтраў і належыць: гарады Гомель, Рэчыца і, верагодна, Рагачоў уваходзяць у Чарнігаўскае княства, Мазыр — у Кіеўскае, Мсціслаў — у Смаленскае, Берасце — ва Уладзіміра-Валынскае. На астатняй тэрыторыі, крыху меншай, чым Смаленская ці Чарнігаўская зямля, існуе ледзь не дзясятак (прынамсі, не менш сямі) самастойных княстваў. Ні адно з іх не мае дастатковай сілы, каб уплываць на падзеі за сваімі межамі. Не выпадкова летапісы, якія даволі падрабязна асвятляюць лёс вышэйзгаданых палітычных цэнтраў, амаль цалкам абмінаюць тэрыторыю сучаснай Беларусі. Таму і наш агляд, відавочна, атрымаецца вельмі фрагментарным і гіпатэтычным.

Полацкая зямля, вотчына Усяславічаў—Рагвалодавічаў, ужо ў першай палове XII стагоддзя перастала існаваць як адзінае цэлае. На яе тэрыторыі ўтварыліся самастойныя вотчыны трох галін роду Усяслава — друцкай, менскай і віцебскай. У XII стагоддзі менскай галіне належалі апрача самога Менска Ізяслаўль (Заслаўе) і Лагожаск (Лагойск). Уладанні Друцкага княства ахоплівалі, верагодна, Барысаў (паводле Тацішчава, гэты горад быў заснаваны Рагвалодам-Барысам Друцкім) і Свіслач ля ўпадзення аднайменнай ракі ў Бярэзіну. Віцебску належалі Усвят і Азярышча, яго ўладары аспрэчвалі ў Смаленска Ршу (Оршу) і Копысь на Дняпры. Невядома, ці засталіся межы дадзеных зямель такімі ж у XIII стагоддзі, — частка былых удзелаў магла к таму часу ператварыцца ў самастойныя княствы, калі працэс драблення роду Рагвалодавічаў ішоў гэтак жа хутка.

Тураўская зямля канчаткова вылучылася з уладанняў кіеўскіх князёў у сярэдзіне XII стагоддзя, калі ў Тураве ўладкаваўся прапраўнук Яраслава Мудрага Юрый Яраславіч. Да канца таго ж стагоддзя яго сыны ўтваралі адзіную сямейную групу, а затым унукі падзялілі вотчыну не менш чым на тры часткі: Тураўскае, Пінскае і Дубровіцкае княствы. На жаль, летапісы не згадваюць пра лёс Клецка і Слуцка, якія напярэдадні ўладкавання ў Тураве Юрыя Яраславіча вылучыліся са складу Тураўшчыны і перайшлі да чарнігаўскіх Ольгавічаў. Магчыма, пазней Юрый вярнуў гэтыя гарады, аднак доказаў таму няма.

Яшчэ адна самастойная галіна панавала некалі ў Панямонні. У XII стагоддзі некалькі разоў згадваюцца ў летапісах гарадзенскія князі — праўнук Яраслава Мудрага Усевалад Давыдавіч, а затым тры яго сыны. Аднак невядома, ці працягвалася гэтая галіна далей. Археалогія сведчыць пра існаванне ў Панямонні чатырох гарадоў (Горадна, Ваўкавыска, Слоніма і Навагародка), якія маглі быць княжацкімі рэзідэнцыямі. З больш позніх падзей вынікае, што палітычны цэнтр Панямоння змясціўся з Горадна ў Навагародак, але пры якіх абставінах гэта адбывалася — невядома.

Нарэшце, уласна Полацкае княства ўжо ў сярэдзіне XII стагоддзя не мела асобнай дынастыі. Барацьбу за Полацк вялі з пераменным поспехам друцкія, менскія і віцебскія князі. Горад надоўга знікае са старонак летапісаў пасля 1186 года, калі тут уладарыў Усяслаў Васількавіч з віцебскай галіны Рагвалодавічаў. Затым яго ўпамінае храніст Ордэна мечаносцаў Генрых Латвійскі, які ведае полацкага князя Уладзіміра, што памёр у 1216 годзе. Магчыма, гэта сын Усяслава Васількавіча, і атрымаў ён Полацк пасля бацькі ў 1186 годзе.

Хто княжыў у Полацку пасля 1216 года — зноў-такі невядома. Праўда, у 1222 годзе летапіс Вялікага Ноўгарада паведамляе пра захоп Полацка смаленскім войскам «пры князях Барысе і Глебе». Гэта можна разумець так, што ў той момант Полацкім княствам валодалі Барыс і Глеб (сыны Уладзіміра?), але справа ў тым, што той жа летапіс прыводзіць вельмі падобнае паведамленне, датаванае дзесяццю гадамі пазней: «...взя Святослав Мстиславлич, внук Романов, Смолнеск на щит с полочаны на память святых мучеников Бориса и Глеба, иссече смолнян много, а сам седя на столе». Фабула супадае «з дакладнасцю да наадварот» (у першым выпадку смаляне бяруць Полацк, у другім — палачане Смаленск), а загадкавыя князі Барыс і Глеб ператвараюцца ў свята Барыса і Глеба (24 ліпеня). Гэта наводзіць на думку, што больш ранняе паведамленне сапсавана водгукам пазнейшага, больш дакладнага і зразумелага. Так сапраўды магло быць, калі летапісец карыстаўся нейкімі моцна пашкоджанымі запісамі.

Звычайна гэтыя цьмяныя звесткі трактуюць у тым сэнсе, што князь Святаслаў са смаленскай дынастыі (сын Мсціслава Раманавіча, які ў той час княжыў у Кіеве) спачатку ўладкаваўся ў Полацку, а праз 10 гадоў з дапамогай полацкага апалчэння здабыў Смаленск. Пацвярджае гэтую думку і той факт, што ў 1229 годзе тагачасны ўладальнік Смаленска Мсціслаў Давыдавіч (стрыечны дзядзька Святаслава) падпісаў гандлёвае пагадненне з Рыгай ад імя Смаленска, Полацка і Віцебска. Князі двух апошніх відавочна былі ў нейкай залежнасці ад яго. Праўда, вядомы беларускі даследчык М. Ермаловіч у сваёй кнізе «Старажытная Беларусь», зыходзячы з агульных меркаванняў (быццам бы немагчыма, «каб палачане аж дзесяць гадоў цярпелі на сваім пасадзе князя другой дынастыі»), цалкам адмаўляе запісу 1222 года ў слушнасці, але агульны палітычны кантэкст 1220-х гадоў, калі яго разглядаць непрадузята, не выключае часовай залежнасці Полацка ад Смаленска.

На пачатку XIII стагоддзя полацкія ўладанні ўключалі і значную частку тэрыторыі балцкага племені латгалаў. Паводле Генрыха Латвійскага, там існавалі полацкія фарпосты — гарады Герцыке і Кукенойс (Кокнесе), у якіх княжылі Усевалад і Вячка. Аднак у хуткім часе гэтыя ўмацаванні захапіў рыжскі архібіскуп з дапамогай Ордэна мечаносцаў.

Зноў-такі трэба падкрэсліць, што пэўны палітычны заняпад Полаччыны і Тураўшчыны быў выкліканы не эканамічнымі, а генеалагічнымі абставінамі.

Шматлікія князі падзялілі свае ўладанні на невялікія княствы — у некалькі дзясяткаў кіламетраў упоперак і з насельніцтвам у некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. З такімі рэсурсамі немагчыма не тое што дыктаваць сваю волю суседзям, але і больш-менш паспяхова супрацьстаяць іх экспансіі. Эканамічнага ж заняпаду не было: квітнелі старыя гарады і паўставалі новыя, гандлёвыя караваны плылі па рэках, кіпеў торг на гарадскіх пасадах.

Давайце паспрабуем уявіць сабе, як выглядала наша зямля ў тыя часы. Лясоў тады было значна болей, чым сёння, толькі дзе-нідзе іх суцэльная коўдра разрывалася, каб даць месца сельскагаспадарчым абшарам. Большасць вёсак уяўляла сабой вельмі невялікія — некалькі хат, а часам увогуле адзін-два двары — паселішчы. Шчыльнасць насельніцтва, як можна меркаваць, складала каля 2—5, у лепшым выпадку 10 чалавек на квадратны кіламетр.

Пэўная колькасць вёсак аб'ядноўвалася ў падатковую адзінку — воласць. Яна мела двайную сістэму кіравання: з аднаго боку, кожная воласць уяўляла сабой абшчынуграмаду з самакіраваннем і выбарным старцам. З другога боку, інтарэсы дзяржавы прадстаўляў княжацкі намеснік — цівун. Ён назначаўся з ліку баяр. Яго абавязкі — ажыццяўляць ад імя князя суд у выпадках, якія не падлягаюць юрысдыкцыі абшчыннага суда, прымаць падаткі, што дастаўляе старац, і перадаваць іх князю.

Цэнтрам воласці звычайна быў умацаваны двор — пагост. Для воласці, што прылягала да горада, такім цэнтрам выступаў апошні. Горад з'яўляўся не толькі рэзідэнцыяй князя, але і своеасаблівым калектыўным замкам для баяр. Праўда, і князь, і баяры мелі звычайна загарадныя рэзідэнцыі — сёлы (пазней гэтая назва была выцеснена тэрмінам «двор» і пачала ўжывацца як найменне буйных сялянскіх паселішчаў). Некаторыя княжацкія і баярскія двары былі сапраўднымі замкамі — з ровам, валам, сценамі і вежамі з бярвення.

Большасць сялянскага насельніцтва захоўвала ў той час асабістую свабоду. У княжацкіх і баярскіх сёлах працавалі рабы, якіх на Русі называлі халопамі, інакш чэляддзю нявольнай. Але практыкавалася ўжо падараванне асобных вёсак і цэлых валасцей ва ўласнасць буйным баярам і манастырам. У такіх выпадках даніна, якую выплачвалі сяляне, ішла ўжо не князю, а новаму ўладальніку. Часам ён атрымліваў і права суда над сваімі падданымі, нават з забаронай дзяржаўнаму намесніку перасякаць межы ўладання (так званае права імунітэту).

Самі баяры, напэўна, не плацілі падаткаў. Яны выконвалі іншую павіннасць — па загаду князя з'яўляліся на кані і ў даспехах для вайны ці вартавой службы на мяжы. Частка з іх пастаянна знаходзілася пры князі, выконваючы функцыі асабістай абслугі, пасыльных, дыпламатаў, узброенай гвардыі (дружыны). Баярства было неаднародным: ад дробнага, прадстаўнікі якога часам самі апрацоўвалі свой надзел, да буйнейшага, што валодала ўласнымі дружынамі і замкамі. З ліку апошніх паходзілі і намеснікі валасцей, і выхавальнікі княжацкіх сыноў (так званыя «дзядзькі»). Такія баяры ўтваралі і княжацкую раду.

Асобную праслойку складалі гараджане — купцы і вольныя рамеснікі. З падаткаў яны плацілі толькі гандлёвыя і мытныя пошліны, таксама выконвалі вайсковую павіннасць — як пры абароне сваіх гарадоў, так і ў наступальных паходах. Пры неабходнасці ў войска маглі паклікаць і сялян. Асаблівай павіннасцю была так званая «пагоня» — узброены паход наўздагон варожаму набегу з мэтай адбіць палон. У такім паходзе мусіў удзельнічаць кожны, хто мог несці зброю. Астатнія віды вайсковай службы (у тым ліку баярскай) абмяжоўваліся пэўнымі ўмовамі: на наступальны паход патрабавалася згода гарадскога веча, агульная колькасць дзён, праведзеных у войску, не магла быць занадта вялікай.

Такі сацыяльны лад быў, здаецца, практычна аднолькавым па ўсёй Русі. Тым не менш усё, сказанае вышэй наконт існавання адзінай старажытнарускай народнасці, не трэба разумець так, што розныя землі не мелі ніякіх мясцовых асаблівасцей. Асаблівасці этнаграфічнага характару, безумоўна, былі. Частка з іх узыходзіла яшчэ да тых адметных рыс, якімі вызначаўся кожны са старажытных

славянскіх протаэтнасаў: крывічы, вяцічы, валыняне і інш. Некаторыя з'яўляліся новаўтварэннямі, характэрнымі для розных куткоў вялізнай дзяржавы.

Сённяшні стан нашых ведаў не дазваляе, на жаль, дакладна акрэсліць этнаграфічныя арэалы на тэрыторыі Старажытнай Русі. Гэта можна зрабіць толькі, як кажуць, у першым набліжэнні. Так, мова берасцяных грамат з Ноўгарада даволі выразна адрозніваецца ад мовы паўднёварускіх летапісаў. Свае адрозненні мае пахавальны інвентар розных зямель, асабліва ўпрыгожанні. Верагодна, існавалі тры асноўныя этнаграфічныя правінцыі Русі: паўночная, сярэдняя і паўднёвая.

Паўночная правінцыя ўключала землі Вялікага Ноўгарада і паўночную частку Суздальскай зямлі — тэрыторыі, у насельніцтве якіх большасць складалі нашчадкі ільменскіх славен. Там захавалася і нават узмацнілася старажытнае оканне, характэрным з'яўлялася змяшэнне гукаў «ц» і «ч» (цоканне) (хоць гэтая рыса была агульнай для наўгародцаў і палачан), існавалі іншыя моўныя асаблівасці, адлюстраваныя ў берасцяных граматах.

Другі арэал, сярэдні, утварылі нашчадкі крывічоў, вяцічаў і, напэўна, радзімічаў. Ён ахопліваў Полацкую, Смаленскую, Мурама-Разанскую і частку Суздальскай зямлі. Насельніцтва гэтай правінцыі (у аснове сваёй крывіцкае з аднаго боку, вяціцка-радзіміцкае — з другога) мела шмат даволі розных рыс, аднак ва ўсім азначаным арэале развілася такая характэрная новая з'ява, як аканне (яно і сёння аб'ядноўвае жыхароў Падмаскоўя і Разаншчыны з беларусамі). Пры гэтым пэўныя асаблівасці былі агульнымі для заходняй часткі сярэдняй правінцыі і паўночнага арэала, для ўсходняй часткі і паўднёвага арэала.

Нарэшце, паўднёвы арэал утварылі нашчадкі вельмі блізкіх паміж сабой плямёнаў: валынян, драўлян, дрыгавічоў, а таксама палян (магчыма, і севяран). Даныя раскопак сведчаць, што адрозненне паўднёвых плямёнаў ад крывічоў выступае даволі выразна ў характары ўпрыгожанняў, жытлаў і інш. Нават грашова-вагавая сістэма на поўдні адрознівалася ад сістэмы цэнтральных і паўночных зямель Русі (існавалі кіеўская і наўгародская грыўні — яны былі рознай вагі). У паўднёвым арэале таксама захавалася оканне, хаця і не такое выяўленае (слабае аканне на тэрыторыі сучаснага Беларускага Палесся развілося, напэўна, крыху пазней пад уплывам, што ішоў з Полаччыны і Літвы).

Такім чынам, і землі сучаснай Беларусі ў той час не ўтваралі яшчэ агульнага цэлага. Мяжа паўднёвай і сярэдняй правінцыі перасякала іх амаль напалам, прыкладна па лініі Заслаўе—Рэчыца.

А зараз давайце перанясемся ў Панямонне, на берагі Віліі — у яшчэ нядаўна глухі мядзведжы кут, што імкліваператвараецца ў новы палітычны цэнтр. Тут жыве гордая і непакорлівая літва — балцкія плямёны, якія за амаль чатыры стагоддзі суседства з Кіеўскай Руссю так і не ўвайшлі канчаткова ў яе межы. Калі мы перасячом нябачную этнічную мяжу, то даволі хутка заўважым змены ў краявідзе. Хаця выгляд прыроды застаўся такім жа, але нешта іншае з'явілася ў абліччы пабудоў, зусім зніклі цэрквы і манастыры, нават гарады — іх месца займаюць драўляныя замкі-сховішчы, вельмі падобныя на дзядзінцы рускіх гарадоў. У густой дуброве можна адшукаць паганскія капішчы з высечанымі з дубовых ствалоў выявамі багоў, нязгаснымі вогнішчамі і валунамі-ахвярнікамі.

У агульных рысах зямля літоўцаў выглядае так, як выглядалі славянскія землі за тры стагоддзі да таго. Тут на чале грамадства стаяць князькі (кунігасы), ролю якіх на Русі ўсклаў на сябе род Рурыкавічаў. Кожны з іх мае ўладу над сваім невялікім племем, узначальвае дружыну, судзіць супляменнікаў і збірае з іх асвячоныя звычаямі падаткі. Да таго ж кожны кунігас — гэта адначасова прадстаўнік племені перад тварам багоў, увасабленне іх магічнай моцы. Ад яго паводзін залежыць урадлівасць палёў і ўвогуле нязменнасць традыцыйнага ладу жыцця. Гэтая функцыя хрысціянскімі правіцелямі Русі ўжо практычна страчана, тут жа яна яшчэ захоўваецца.

Літоўскія кунігасы жывуць прасцей за рускіх князёў. Яны не маюць каменных харомаў, поўных дарагіх візантыйскіх рэчаў. Сядзібы іх болей нагадваюць умацаваныя

двары рускіх баяр. Там жывуць яны сярод сваіх дружыннікаў і рабоў, праводзяць зіму ў зборы даніны, а лета — у набегах на суседзяў, бо ваенную славу прывыклі ставіць вышэй за багацце.

Некранутай застаецца ў літоўцаў і родавая знаць, якую на Русі змяніла служылае баярства. Арыстакраты таксама валодаюць умацаванымі дварамі з чэляддзю, але аснова іх магутнасці — у прыналежнасці да самых аўтарытэтных генеалагічных галін, у паходжанні ад самых славутых продкаў. Яны вельмі нагадваюць германскую знаць першых стагоддзяў нашай эры, пра якую некалі пісаў рымскі гісторык Тацыт: «Калі яны не ідуць на вайну, то ўвесь час свой праводзяць часткай на паляванні, але больш у гультайстве, аддаючыся сну і ежы, так што найбольш моцныя і ваяўнічыя нічога не робяць, пакідаючы клопат пра дом, гаспадарку і палеткі жанчынам, старым і ўвогуле самым слабым са сваіх дамачадцаў...». Маючы добрых баявых коней і ўзбраенне, арыстакраты ствараюць грозную літоўскую конніцу, выдатныя баявыя якасці якой адзначаў Генрых Латвійскі.

Просты ж люд сумяшчае абавязкі земляробаў і воінаў. Да шлюбу кожны з іх лічыць справай гонару паўдзельнічаць у паходах пад кіраўніцтвам удатлівага правадыра. Узброеныя яны прасцей за знаць, але таксама даволі эфектна. Захавалася каларытнае апісанне страшэннай літоўскай баявой дубіны, якую рыхтавалі так: у кары маладога дубка рабілі надрэзы, куды ўстаўляліся вострыя камяні. За некалькі гадоў яны трывала ўрасталі ў ствол, і тады з яго высякалася грозная зброя.

Літва ўяўляе сабой адзін са шматлікіх балцкіх народаў, побач з яцвягамі, прусамі, жамойтамі, куршамі, земгаламі, селамі і латгаламі. Кожны з гэтых народаў падзяляецца на субэтнасы (плямёны), таму этнічная структура балцкага свету выглядае даволі складана. Нельга сказаць, што даследчыкі разабраліся ва ўсіх яе нюансах. Як і ў выпадку з Руссю, тэрмін «Літва» ўжываўся ў розных сэнсах: як этнічная назва, як назва тэрыторыі, што падпарадкоўвалася непасрэдна галоўнай літоўскай дынастыі, як агульная назва ўсіх плямёнаў і княстваў, якія прызнавалі сюзерэнітэт гэтай дынастыі. Апрача таго, ужываўся яшчэ тэрмін «Аўкштайція», стасункі якога з тэрмінам «Літва» ў розныя часы былі рознымі. Паколькі апошнім часам набыла вялікае пашырэнне канцэпцыя М. Ермаловіча, паводле якой «Літва» XIII стагоддзя не мае ніякага дачынення да сучаснага літоўскага этнасу, на гэтых пытаннях неабходна спыніцца больш грунтоўна.

Літва ўпамінаецца ў крыніцах з пачатку XI стагоддзя як адзін з прыбалтыйскіх народаў, чые землі мяжуюць з Кіеўскай Руссю. У такой якасці яе згадваюць як рускія летапісцы, так і заходнееўрапейскія храністы (у тым ліку Генрых Латвійскі, які выдатна ведаў стан спраў у Прыбалтыцы). Тэрмін «Жемоить» упершыню з'яўляецца ў Іпацьеўскім летапісе як назва тэрыторыі, падуладнай некаторым з літоўскіх князёў, што ў 1219 годзе падпісалі мірнае пагадненне з Уладзіміра-Валынскім княствам. Побач у такім жа сэнсе ўпамінаецца Дзевалтва. Рускія і крыжацкія крыніцы прыгадваюць таксама іншыя княствы ці субэтнасы ў складзе Літвы: Нальшчаны, Упіту — гэтак жа, як у складзе прускіх зямель існавалі княствы Самбія, Памязанія, Пагезанія і інш. (усяго 8, калі лічыць прускімі плямёнамі крыху адасобленых скалваў і надроваў), у складзе тэрыторыі, што займалі яцвягі, — Дайнава, Судава, Галіндыя, Палексія.

Аднак ёсць падставы сцвярджаць, што першапачаткова Жамойць (на польскі лад — Жмудзь) была прылічана да Літвы ў палітычным, а не ў этнічным сэнсе: як тэрыторыя, што належала князям літоўскага паходжання. У Жамойці меліся такія ж тэрытарыяльныя адзінкі, як у землях самастойных балцкіх народаў (Цekліс, Коршаў і інш.), што дазваляе лічыць яе насельніцтва не малым племенем, а асобным этнасам, некалі заваяваным літоўцамі. Аб гэтым выразна сведчаць і археалагічныя даныя: на тэрыторыі сучаснай Літвы ў XIII стагоддзі існавалі два розныя культурныя арэалы: заходні і ўсходні. Першы, які амаль супадаў з тэрыторыяй Жамойцкай зямлі больш позніх часоў (хіба што быў крыху большы за яе), вызначаецца выключна грунтовымі пахаваннямі без курганных насыпаў. Другі ахопліваў усходнюю палову сучаснай Літвы і прылеглыя часткі Беларусі (да возера Нарач, Налібоцкай пушчы

і правабярэжжа Нёмана ў раёне Ліды). Гэта была тэрыторыя культуры так званых усходнелітоўскіх курганоў — бясспрэчна балцкай паводле пахавальнага інвентару, але з выразнымі адрозненнямі ад грунтовых могільнікаў Жамойці.

У Беларусі мяжа распаўсюджання культуры ўсходнелітоўскіх курганоў прыкладна супадае з мяжой арэала тыпова літоўскай тапанімікі (вёсак з назвамі на *-ішкі*, *-аны*, *-ёны*). Цэнтр яе знаходзіўся якраз там, дзе ўзніклі важнейшыя палітычныя цэнтры Літвы — у раёне Кернава, Вільні, Трокаў. Адным словам, менавіта гэтую тэрыторыю трэба лічыць тэрыторыяй летапіснай Літвы, што падраздзялялася на шэраг княстваў: Упіту, Дзевалтву, Нальшчаны і, магчыма, нейкія іншыя. Паказальна, што ў адрозненне ад Жамойці названыя княствы не маюць выразных адрозненняў у агульным арэале ўсходнелітоўскіх курганоў.

Самі літоўскія князі, а разам з імі і крыжацкія храністы ў якасці сіноніма Літвы ўжывалі тэрмін «Аўкштайція» ці «Аўкштота» (рускія летапісы такога тэрміна не ведаюць). Магчыма, ён меў вузкаэтнічны сэнс і быў утвораны штучна па аналогіі з Жамойцю («Жэмайція» па-літоўску азначае «ніжняя», «Аўкштайція» — «верхняя»). Каб падкрэсліць свае правы на Жамойць, літоўскія князі пазней, у XV стагоддзі, сцвярджалі, што жамойты і аўкштайты — дзве непарыўныя часткі адзінага літоўскага этнасу. Пазней яны і сапраўды зліліся ў адзін этнас, хаця XIV—XV стагоддзі прайшлі пад знакам выразнага жамойцкага сепаратызму. Польскі гісторык Ян Длугаш у XV стагоддзі адзначаў, што «літоўцы, самогіты (лацінізаваная форма назвы жамойтаў. — *В.Н.*) і яцвінгі, хаця мелі розныя найменні і падзяляліся на шмат родаў, утваралі тым не менш адзінае цэлае», прычым з-за падабенства пэўных моўных рыс выводзіў іх паходжанне ад рымлян і італікаў.

Зразумела, этнічная мяжа паміж Літвой і заходнімі землямі Русі, што праходзіла прыкладна па лініі Браслаў—Паставы—Смаргонь—Ліда (далей Русь межавала з яцвяжскім племенем дайнава), не была падобнай на сучасныя кардоны. З абодвух бакоў яе перасякалі плыні міграцыі: асобныя літоўскія сем'і сяліліся на рускіх землях, а рускія — на літоўскіх. Міграцыя полацкіх крывічоў асабліва актыўна ішла ў басейне нёманскага прытока Бярэзіны (там узнікла сяло з характэрнай назвай Палачаны, ды і іншыя вёскі ўжо ў XV стагоддзі мелі амаль выключна славянскія назвы), а таксама ўздоўж Віліі. Крывіцкае паселішча XII стагоддзя знойдзена нават на тэрыторыі сучаснага Вільнюса недалёка ад датаванага тым жа стагоддзем літоўскага. Мяркуецца, што назва аднаго з віленскіх замкаў — Крывы горад — магла паходзіць ад этноніма крывічоў.

Пазней, пасля ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага, славянская каланізацыя берагоў Віліі яшчэ больш узмоцніцца і прывядзе да амаль поўнай беларусізацыі Віленскага краю ў XIX стагоддзі. Але пакуль што, на момант нашага разгляду, рускі кампанент на тэрыторыі старажытнай Літвы не адыгрывае істотнай ролі.

Адначасова са славянскай каланізацыяй Літвы самі літоўцы прасоўваліся на землі панямонскіх княстваў (а магчыма, рускія князі сялілі іх там у якасці ваеннапалонных). Шэраг вёсак з назвай Літва ў вярхоўях Нёмана мае менавіта такое паходжанне.

М. Ермаловіч, мяркуючы, што гэтыя назвы акрэсліваюць асноўную тэрыторыю летапіснай Літвы, ігнаруе адзін з асноўных законаў тапанімікі: назву Літва вёска не магла мець там, дзе ўсе населеныя пункты літоўскія, а толькі ў іншамоўным асяроддзі. Дарэчы, пры такім падыходзе летапісная Літва трапляе ў абшар неўрадлівых пясчаных глеб, лясоў і балот, у тым ліку вялізнай Налібоцкай пушчы. Ядром этнасу, тым больш такога актыўнага, як старажытная літва, гэтыя землі не маглі быць проста фізічна. Галоўнае ж, што на акрэсленай Ермаловічам тэрыторыі, як паказалі археалагічныя даследаванні, няма не тое што балцкіх, але практычна ніякіх археалагічных помнікаў, якія б датаваліся XIII стагоддзем.

Мясціны, што займалі плямёны з уласнымі дынастыямі на чале, можна вызначыць толькі прыблізна. Старажытная Упіта, відаць, у асноўным супадала з тэрыторыяй пазнейшага Упіцкага павета на мяжы з Жамойцю. Далей на ўсход знаходзілася Дзевалтва. Памяць аб ёй захавалася ў беларуска-літоўскіх летапісах XV—XVI стагоддзяў, якія

лічаць цэнтрам Дзевалтвы горад Вількамір (сучасны Укмерге). Нальшчаны займалі паўночна-ўсходні кут Літвы. Праз іх тэрыторыю звычайна ішлі паходамі крыжакі з берагоў Дзвіны на ўладанні галоўнай літоўскай дынастыі — так званую Літоўскую зямлю ў самым вузкім сэнсе, што займала, верагодна, міжрэчча Віліі і Нёмана.

Звесткі аб літоўскіх уладарах дае той самы дагавор 1219 года, згаданы вышэй. Іпацьеўскі летапіс прыводзіць імёны ўсіх князёў, што падпісалі яго. Сярод іх — прадстаўнікі пяці асобных дынастый. На чале стаіць сямейства старэйшых князёў у складзе Жывінбуда і яго родзічаў — братоў Даўята і Вілікайлы, Даўспрунка і Міндоўга. Парадак пераліку асоб у дагаворы, напэўна, адлюстроўвае іх ранг. Жывінбуда, відаць, трэба лічыць старэйшынам сям'і, а дзве пары братоў, верагодна, былі яго пляменнікамі — сынамі ўжо нежывых братоў. Далей ідуць два жамойцкія князі — Эрдзівіл і Выкінт, потым — чацвёра ўладальнікаў Дзевалтвы, а таксама дзве групы князёў, названых па родавых прозвішчах без азначэння падуладных ім тэрыторый (сямёра Рушкавічаў і трое Булевічаў). Магчыма, хтосьці з іх валодаў Нальшчанамі і Упітай. Як бачым, адна з дынастый выразна названа старэйшай не толькі над аўкштайцкімі, але і над жамойцкімі князямі — перад намі хаця і рыхлае, але ўжо палітычнае міжплямennае ўтварэнне, у якім князі адной з дынастый дамінуюць над астатнімі.

Паводле вельмі прыкладных разлікаў Г. Лаўмяньскага, агульная колькасць жамойтаў у той час была каля 30—40 тысяч чалавек, аўкштайтаў — каля 80—90 тысяч. Гэта значыць, што яны маглі без усялякіх намаганняў выставіць войска ў тысяч шэсць воінаў (калі зыходзіць з каэфіцыента 1 : 20, паводле якога амерыканскія каланісты вызначалі колькасць удзельнікаў індзейскіх набегаў). Такая лічба значна большая за колькасць асабістай дружыны любога з рускіх князёў і прыкладна адпавядае поўнаму апалчэнню цэлага буйнога княства. Калі ўлічыць асабліва ваяўнічы характар літоўцаў, якім яны вылучаліся на фоне сваіх балтамоўных і фінскамоўных суседзяў, то стане зразумелым маштаб небяспекі, якая навісала над заходнярускімі княствамі. Даўно заўважана, што для іх літоўцы былі тым жа, чым полаўцы — для Паўднёвай Русі.

Якраз на пачатку XIII стагоддзя (верагодна, у выніку палітычнага аб'яднання літоўскіх княстваў) рэйды літвы набываюць асабліва актыўны характар, ахопліваюць прастору ад Валыні да Наўгародскай зямлі. Як і ў выпадку з полаўцамі, рускія князі супрацьпастаўляюць ім розную тактыку: часам наносяць карныя ўдары ў адказ, часам завязваюць сваяцкія адносіны праз шлюбы, а часам і выкарыстоўваюць літоўскія атрады ў міжкняжацкіх усобіцах. Вядома, напрыклад, што князь Усевалад з Герцыке быў зяцем літоўскага кунігаса Даўгерда, на ваенную моц якога часта абапіраўся ў сваіх дзеяннях. Адзін з таропецкіх князёў, Уладзімір Мсціславіч (брат Мсціслава Удатнага), быў цесна звязаны з Літвой, з чыёй дапамогай, відаць, уладкаваўся ў 1213 годзе ў Пскове, бо яго выгнанне ў тым жа годзе пскоўскі летапісец пракаменціраваў так: «Изгнаша от себя псковичи князя литовского Владимира Торопецкого». І вельмі верагодна, што некаторыя літоўскія набегі на Смаленск і Таропец былі арганізаваны полацкімі ці віцебскімі князямі. Аднак гэта толькі дапамагала літоўцам разведваць шляхі для самастойных паходаў. У 1225 годзе літоўская раць дасягнула Таржка (больш за 500 кіламетраў ад Літвы!). Былі спустошаны поўнач Смаленскай зямлі і поўдзень Наўгародскай, загінуў таропецкі князь Давыд Мсціславіч (трэці з братоў). Па сведчанні летапісца, «бе бо рать велика, ака же не было от начала миру». (Заўважу, што няма падстаў звязваць, як гэта часам робіцца, набег 1225 года з інтрыгамі полацкіх князёў, бо Полацк у той момант падпарадкоўваўся Смаленску, прынамсі, быў цесна з ім звязаны.)

Вельмі верагодна, што той разбуральны паход узначальваў сам Жывінбуд, хоць імёны літоўскіх князёў летапісцы і не прыводзяць. Гэта была ўжо не авантура асобнага важака — шукальніка прыгод, а старанна спланаваная акцыя. Праўда, урэшце рэшт яна не мела поспеху: на зваротным шляху абцяжараных палонам літоўцаў нагнаў наўгародскі князь Яраслаў (брат уладзіміра-суздальскага князя Юрыя Усеваладавіча) і нанёс ім цяжкае паражэнне. Калі верыць летапісцу, было забіта 2 тысячы літоўцаў

з 7 тысяч, якія ўдзельнічалі ў набегу, а іх князі трапілі ў палон. Аднак гэта не прывяло да спынення набегаў. Ужо ў 1228 годзе літоўцы (верагодна, жамойты) здолелі ажыццявіць на ладдзях далёкі марскі набег аж у Эстонію, на ўладанні Ордэна мечаносцаў. А ў 1229 годзе літоўскі атрад зноў з'яўляецца ў наўгародскіх землях ля возера Селігер (у вярхоўях Волгі) і зноў пры адыходзе губляе палон. Прыкладна ў той жа час князь Уладзімір Пінскі, васал уладзіміра-валынскіх князёў, адбіваў літоўскі набег ад Берасця. Невыпадкова аўтар «Слова пра пагібель Рускай зямлі» з сумам успамінаў часы, калі «литва из болота на свет не выникываху (не з'яўлялася. — *В.Н.*)».

Дзеля такіх далёкіх рэйдаў літоўцы павінны былі праходзіць рускія княствы Панямоння і Полаччыны наскрозь. Незалежна ад таго, рабілася тое са згоды мясцовых князёў ці супраць іх волі, несумненна, што літоўскія князі з'яўляліся вельмі ўплывовым палітычным фактарам для дробных уладанняў Заходняй Русі. Нават калі апошнія і выкарыстоўвалі літоўскія дружыны ў сваіх мэтах, гэта былі дачыненні з вельмі небяспечным джынам.

Такім чынам, мы збольшага агледзелі асноўную частку нашай гістарычнай сцэны — тыя тэрыторыі, якім наканавана ў далейшым увайсці ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Аднак агляд гэты будзе няпоўным, калі не закране бліжэйшых суседзяў азначаных зямель.

Польскае каралеўства з'яўляецца заходнім суседам Русі. Яно населена таксама славянамі і ўвогуле вельмі нагадвае Русь: той жа грамадскі лад, тыя ж звычаі, падобная мова. Праўда, адрозніваецца тэрміналогія: сельскія воласці завуцца ў палякаў аполлямі, рыцары-дружыннікі — шляхтай, буйныя баяры — панамі. Вельмі значны і той пласт агульнаславянскай духоўнай культуры, што звязаны з агульнай паганскай спадчынай. Але ўсё ж лёсы двух суседніх народаў пачалі разыходзіцца на мяжы X—XI стагоддзяў, калі Русь прыняла хрышчэнне з Візантыі, а Польшча — з Рыма. На падобныя язычніцкія субстраты пачалі наслойвацца дзве розныя культуры: лацінская заходнееўрапейская і грэкамоўная візантыйская. Да таго ж палітычныя дачыненні цесна звязвалі Польшчу з Германіяй, а Русь — са стэпавым светам цюркамоўных плямёнаў.

Асабліва моцным быў германскі ўплыў на поўдні Польшчы, у Сілезіі (Шлёнску), дзе польскія землі межаваліся з Чэхіяй, што ўваходзіла ў склад Свяшчэннай Рымскай імперыі. На сілезскіх землях ужо з'явіліся выхадцы з перанаселенай Саксоніі, якія прынеслі з сабой нямецкія звычаі і нормы права.

Палітычнае развіццё Польшчы вельмі нагадвала працэсы на Русі, толькі драбленне пануючай дынастыі ішло крыху марудней. На працягу другой паловы XII стагоддзя сышлі са сцэны пяць сыноў апошняга князя, які меў уладу над усёй Польшчай, — Баляслава Крывавустага. Ва ўзрост актыўнай дзейнасці ўвайшлі яго ўнукі і праўнукі, згрупаваныя ў пяць сем'яў. З іх дзве паходзілі ад старэйшага брата Крывавустага — Уладзіслава Выгнанніка, чый унук Генрык Барадаты, а потым сын апошняга, таксама Генрык, валодалі Ніжняй Сілезіяй; стрыечны брат Барадатага, Казімір, і яго сыны ўладарылі ў Верхняй Сілезіі. У Велікапольшчы, старажытным ядры польскай дзяржавы, княжыў сын Мешкі Старога Уладзіслаў Луканогі з пляменнікам Уладзіславам Адонічам. Нарэшце, уся ўсходняя палова Польшчы, сумежная з Руссю, — Малапольшча, Куявія і Мазовія — была вотчынай нашчадкаў малодшага з сыноў Баляслава Крывавустага, Казіміра Справядлівага: старэйшы сын Казіміра, Лешак Белы, з сынам Баляславам Сарамлівым валодаў Сандамірскай зямлёй у Малой Польшчы, а малодшы, Конрад, з трыма сынамі — Мазовіяй, Куявіяй і горадам Серадз паміж Вялікай і Малой Польшчай.

Пры гэтым тую ж ролю, якую на Русі адыгрываў Кіеў, тут давялося выконваць Кракаву. Гэты горад па чарзе займалі найбольш моцныя на пэўны момант галіны княжацкага роду ў асобе сваіх старэйшых прадстаўнікоў. У першай чвэрці XIII стагоддзя гегемоніі над астатнімі князямі дамогся Лешак Белы з Сандаміра. Калі ён памёр у 1227 годзе, пачалася барацьба за першынство паміж яго братам Конрадам, Уладзіславам Луканогім з Гнезна і Генрыкам Барадатым з Вроцлава. На першым

**Карта 1. Этнічная сітуацыя на Русі і суседніх землях у 1-й чвэрці XIII ст.**




*1 — найбольш значныя гарады; 2 — межы этнасаў, плямёнаў і гіпатэтычных этнаграфічных правінцый Русі; 3 — межы асобных этнаграфічных рэгіёнаў Русі; 4 — асноўныя напрамкі славянскай каланізацыі балцкіх зямель; 5 — назвы дзяржаў; 6 — назвы гістарычна-этнаграфічных рэгіёнаў у складзе дзяржаў; 7 — назвы плямёнаў (этнасаў), якія не мелі класавых дзяржаў; 8 — этнаграфічныя правінцыі і рэгіёны Русі: 1а — наўгародскі рэгіён паўночнай правінцыі (на славенскай племяннай аснове); 1б — залескі рэгіён паўночнай правінцыі (на змешанай славенска-крывіцкай і фіна-ўгорскай аснове); 2а — крывіцкі рэгіён сярэдняй правінцыі; 2б — вяціцкі рэгіён сярэдняй правінцыі; 2в — радзіміцкі рэгіён сярэдняй правінцыі; 3а — дрыгавіцкі рэгіён паўднёвай правінцыі; 3б — валынскі рэгіён паўднёвай правінцыі; 3в — палянска-драўлянскі рэгіён паўднёвай правінцыі; 3г — севяранскі рэгіён паўднёвай правінцыі (магчыма, паводле пэўных рыс гэты рэгіён збліжаўся з рэгіёнамі 2б і 2в); 3д — галіцкі рэгіён паўднёвай правінцыі (на харвацка-ўліцка-ціверскай аснове).*

этапе перамог Конрад, які ўзяў пад апеку свайго непаўналетняга пляменніка Баляслава Сарамлівага.

Другім моцным суседам Русі і Літвы з'яўляецца Лівонія — тэрыторыя фінскамоўнага племені ліваў, заваяванага нямецкімі крыжакамі, якія затым распаўсюдзілі сваю ўладу на суседнія балцкія плямёны. Тут існуе царкоўная дзяржава — Рыжскае архібіскупства. Заснавальнікам Рыгі быў трэці лівонскі біскуп — Альберт. Ён прыплыў на чале ўзброенага рыцарскага атрада на 23 караблях, каб ахрысціць тутэйшае насельніцтва, а заадно завалодаць яго землямі, і меў цвёрды намер дабіцца большых поспехаў, чым два яго папярэднікі. Сапраўды, Альберт дамогся гэтага, бо дзейнічаў не толькі словам Божым, але і мячом. Для паспяховай хрысціянізацыі ў 1202 годзе ў Рызе быў утвораны духоўна-рыцарскі ордэн па ўзоры тых, што дзейнічалі ў Палесціне. У адрозненне ад звычайных манаскіх ордэнаў яны набіраліся ў асноўным з маладых рыцараў і служылі Госпаду не малітвамі і перапіскай Бібліі, а ваеннымі дзеяннямі супраць ворагаў веры.

Новы ордэн атрымаў афіцыйную назву «Браты Хрыстова воінства», аднак з-за характэрнай вопраткі (браты-рыцары насілі белыя плашчы-корзны з нашытымі чырвонымі мячом і крыжам) яго сталі называць Ордэнам мечаносцаў. Абапіраючыся на крыжакоў, а таксама дзякуючы вельмі адмысловай палітыцы, Альберт не толькі гвалтоўна хрысціў усіх ліваў, але і выцесніў палачан з Латгаліі. Да 1214 года Кукенойс і Герцыке адышлі пад кантроль біскупства, пасля чаго актыўнасць рыжскага місіянера накіроўваецца на хрышчэнне залежных ад Вялікага Ноўгарада эстаў. Тут немцы сустрэліся з адпаведнай дзейнасцю датчан. Да канца жыцця Альберта (памёр у 1229 годзе) землі эстаў былі падпарадкаваны. У 1223 годзе немцы захапілі апорны пункт наўгародцаў Юр'еў (Тарту), які бараніў былы кукенойскі князь Вячка. Нованабытыя землі падзялілі царква і Ордэн (архібіскупства атрымала дзве трэці, мечаносцы — трэць), мясцовае насельніцтва абклалі падаткамі на карысць новых гаспадароў. У Рыгу актыўна зазываліся гараджане-каланісты, на захопленых землях будаваліся замкі.

У канцы 1220-х гадоў на берагах Балтыкі з'явіўся яшчэ адзін фактар небяспекі, каб стаць галоўным у яе гісторыі на некалькі стагоддзяў. На паўночным усходзе Польшчы, ва ўладаннях Конрада Мазавецкага, распачынае сваю дзейнасць духоўна-рыцарскі ордэн накшталт таго, з дапамогай якога біскуп Альберт так паспяхова хрысціў ліваў, латгалаў і эстаў. Але на гэты раз гутарка ідзе не пра стварэнне новага, а пра выкарыстанне ўжо дзеючага — Тэўтонскага ордэна, створанага ў 1198 годзе ў Палесціне ў ходзе шматгадовай эпапеі адваявання, а пасля абароны Іерусаліма. Ордэн быў вядомы, меў вялізныя зямельныя ўладанні не толькі ў Палесціне (дзе змяшчалася яго рэзідэнцыя — крэпасць Ака), але і ў Германіі, Італіі, Грэцыі. У яго звычайна прымаліся толькі германамоўныя рыцары, выхадцы з Саксоніі, Баварыі, скандынаўскіх краін. Узначальвалі ордэн вялікі магістр (гросмайстар) з генеральным капітулам — радай магістраў асобных абласцей, на якія падзяляліся ордэнскія ўладанні.

Пасаду вялікага магістра з 1210 да 1239 года займае таленавіты палітык Герман фон Зальца, выхадзец з нямецкага драбнарыцарскага роду. Пры ім цэнтр актыўнасці тэўтонцаў змяшчаецца з Блізкага Усходу ў Еўропу. Магістр мае «блакітную мару» — стварыць з ордэна самастойную тэакратычную дзяржаву. Але спроба ўладкавацца ў Трансільваніі на падараваных венгерскім каралём Андрэем землях не ўдалася — кароль разгадаў намеры магістра і адмовіўся ад супрацоўніцтва з крыжакамі. Вось тут і трапляе ордэн пад крыло Конрада Мазавецкага. Апошні ў 1226 годзе пагаджаецца выкарыстаць тэўтонцаў для хрышчэння прусаў, якія вельмі даймаюць Мазовію сваімі набегамі, і выдзяляе рыцарам у якасці апорнай базы Хельмінскую зямлю на поўначы свайго княства. Конрад разлічвае з іх дапамогай далучыць Прусію да сваіх уладанняў, але не падазрае, што ордэн «братоў-барадачоў» (як заве яго аўтар «Велікапольскай хронікі») атрымаў ад германскага імператара Фрыдрыха II выключнае права на землі яшчэ незалежных прусаў.

У 1230 годзе ў Хельмінскую зямлю прыбыў першы атрад крыжакоў на чале з Германам Балкам. Да пачатку вялікай вайны ў Прыбалтыцы застаюцца лічаныя месяцы.

І нарэшце, яшчэ адзін фактар, які пакуль што не праявіўся, але ўжо падспудна выспявае за кулісамі. За тысячы кіламетраў ад Русі, у неймавернай далечы, на мангольскай рацэ Анон у 1206 годзе адбыўся курултай (з'езд) мясцовай знаці, дзе быў абраны агульны правіцель — каган. Ім стаў вельмі таленавіты і бязмерна жорсткі хан Тэмуджын, які пачаў горда звацца «вялікім ханам» — Чынгісханам.

Чынгісхану ўдалося скаваць сваіх супляменнікаў сталёвай дысцыплінай, стварыць з іх звышэфектыўную машыну заваявання і разбурэння. Ужо захоплены Паўночны Кітай, дымяцца руіны гарадоў Харэзма і Азербайджана, ужо старэйшы сын Чынгісхана Джучы атрымаў у якасці ўлуса (удзела) усе стэпы Казахстана, Паўднёвай Сібіры і ўсё, што ляжыць на захад ад іх, ужо прыступіў ён да іх заваявання. Ужо паспыталі моц тумэнаў Чынгісхана рускія князі на Калцы ў 1223 годзе. Праўда, у 1227 годзе «Заваёўнік Сусвету» памірае, і ў тым жа годзе пры таямнічых абставінах гіне яго старэйшы сын Джучы (напэўна, ён стаў ахвярай жорсткіх інтрыг у стаўцы кагана).

Але ваенная машына бездакорна працуе і пасля смерці стваральніка, яе заводу хопіць яшчэ не на адно дзесяцігоддзе. Сыны і ўнукі Чынгісхана не збіраюцца яе спыняць.

Недзе там, на Русі і ў іншых краінах, людзі мараць аб будучым, гадуюць дзяцей. Але жыць ім ці не — вырашаецца на курултаях, у стаўцы новага кагана Угэдэя (трэцяга сына Чынгісхана), дзе абмяркоўваюцца напрамкі новых паходаў. І таму пакаленню, да гісторыі якога мы пераходзім, давядзецца спазнаць, што ўсе яны жывуць на адной планеце.

## Пакаленне першае: Міндоўг (1230—1250-я гады)

Прадстаўнікам гэтага пакалення — тым, хто нарадзіўся напярэдадні альбо ў самым пачатку XIII стагоддзя, а дзейнічаў у першай яго палове — давялося ўбачыць першыя крокі маладой Літоўскай дзяржавы. Сярод асоб, што выступаюць у гэты час на гістарычную сцэну, асабліва адметнымі з'яўляюцца дзве постаці: заснавальнік азначанай дзяржавы Міндоўг (каля 1195—1263) і галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч (1202—1264).

Пра турботнае дзяцінства і юнацтва Данілы і яго малодшага брата Васількі (1204—1269) ужо гаварылася мімаходзь у «Экспазіцыі». Рана згубіўшы бацьку, яны трапілі ў вір барацьбы за галіцкае і валынскае княжанне і паступова ўзялі верх над усімі сваімі сапернікамі. У 1230 годзе апошні з канкурэнтаў за ўладу на Валыні — Аляксандр Белзскі быў адцяснёны на самы ўскраек сваіх уладанняў, у сумежны з Польшчай Перамышль, і практычна ўсё Уладзіміра-Валынскае княства апынулася ў руках двух братоў. Пачалася барацьба за вяртанне бацькоўскага Галіча. Мсціслаў Удатны, цесць Данілы, у 1228 годзе пад дыпламатычным націскам венгерскага караля Андрэя II, за сына якога ён раней выдаў сваю малодшую дачку Марыю, саступіў Галіч на карысць венграў. Хутка Мсціслаў памёр. Даніла пачаў барацьбу з венграмі за Галіч. Яна ішла з пераменным поспехам да 1234 года, калі войска Андрэя II і Аляксандра Белзскага было разбіта Раманавічамі з дапамогай кіеўскага князя Уладзіміра Рурыкавіча. Далучыўшы Галіч да Валыні, Даніла і Васілька зрабіліся яшчэ больш магутнымі ўладарамі, чым калісьці іх бацька.

Аднак у барацьбу за вяршэнства ў Паўднёвай Русі ўключыўся новы прэтэндэнт — Міхаіл Чарнігаўскі. У 1235 годзе ён выбіў з Кіева Уладзіміра Рурыкавіча, перамог Данілу і ўладкаваў у Галічы свайго дванаццацігадовага сына Расціслава. Тут жа ў барацьбу за Кіеў уступіў прадстаўнік уладзіміра-суздальскай дынастыі Яраслаў Усеваладавіч. Хутка і Уладзімір Рурыкавіч з'явіўся зноў з палавецкай раццю, але вярнуць сабе Кіеў не здолеў.

Гэты вэрхал вакол Кіева — з'ява вельмі звыклая на Русі. Аднак менавіта яна прыкавала да сябе ўвагу летапісцаў, якія канчаткова згубілі з поля зроку Літву. І вельмі шкада, бо тамтэйшыя падзеі мелі значныя вынікі (аднак высветлілася гэта, зразумела, пазней). У Літве ж тым часам на пярэдні план высоўваецца постаць Міндоўга.

Ён упершыню з'яўляецца, як вы памятаеце, сярод удзельнікаў валынска-літоўскага пагаднення 1219 года, прычым знаходзіцца сярод малодшых прадстаўнікоў літоўскай дынастыі-гегемона, на чале якой стаіць Жывінбуд. Калі лічыць, што перад намі княжацкая сям'я-абшчына, то Жывінбуд, напэўна, з'яўляецца сынам яе заснавальніка, а Даўят з Вілікайлам і Даўспрунк з Міндоўгам — сынамі двух памерлых раней старэйшых братоў Жывінбуда. Ордэнскі храніст Генрых Латвійскі — сучаснік Міндоўга — пазначаў, што бацька апошняга быў найвялікшым з літоўскіх правіцеляў свайго часу. Ён, трэба меркаваць, памёр незадоўга да пагаднення 1219 года. Ёсць адзін вельмі верагодны прэтэндэнт на гэтую ролю — князь Даўгерд, які некалькі разоў згадваецца Генрыхам Латвійскім. Нястомны вораг Ордэна мечаносцаў, ён аказваў дапамогу свайму зяцю Усеваладу Герцыкскаму, сам рабіў набегі на ўладанні крыжакоў і рыжскага біскупа. Літоўскую пагрозу адчуваў у гэты час і Уладзімір Полацкі, што вельмі непрадбачліва шукаў ад яе паратунку ў саюзе з Рыгай. У 1214 годзе Даўгерд, калі ездзіў у Ноўгарад дзеля пагаднення супраць Ордэна, быў схоплены на зваротным шляху крыжакамі і загінуў у зняволенні.

Калі меркаванне пра Міндоўга як сына Даўгерда слушнае, то далейшы ход падзей у Літве можна гіпатэтычна рэканструяваць так: пасля смерці Даўгерда вяршэнства перайшло да яго малодшага брата Жывінбуда, які ў 1219 годзе ўзначальвае спіс князёў. Трэці брат (імя яго таксама невядома) — бацька князя Даўята. Апошні ідзе ў пераліку другім пасля Жывінбуда. Паколькі ён названы перад верагоднымі сынамі Даўгерда (Даўспрункам і Міндоўгам), то яго бацька, напэўна, быў старэйшы ў сям'і (дыпламатычныя паперы вельмі ўважліва ставяцца да такіх нюансаў). Той жа Генрых Латвійскі пад 1205 і 1213 гадамі паведамляе пра смерць яшчэ двух літоўскіх кунігасаў — Свелгатэ (Свалеготэ) і Стэцкі. Можа, хтосьці з іх з'яўляўся братам Даўгерда і Жывінбуда. Паводле родавага звычаю ўлада пасля Жывінбуда павінна была перайсці да Даўята, а затым да яго брата Вілікайлы і іх нашчадкаў. Даўспрунк жа і Міндоўг у гэтым выпадку стварылі б асобную генеалагічную лінію, падобную да дынастый Дзевалтвы, Жамойці і іншых малых княстваў.

На самай справе адбылося не так. Іпацьеўскі летапіс зноў згадвае імя галоўнага літоўскага князя прыкладна ў 1235 годзе (на жаль, храналогія гэтага летапісу, дакладней, Валынскага летапісу ў складзе Іпацьеўскага збору, кульгае на абедзве нагі, таму ўсе яго даты прыблізныя). У той час уладаром Літвы з'яўляўся Міндоўг. Што адбылося за папярэднія 16 гадоў — можна толькі гадаць. Можа, Жывінбуд, Даўят і Даўспрунк склалі галовы ў шматлікіх набегах на рускія землі. У «Экспазіцыі» гаварылася пра цяжкія паражэнні, якія часам цярпелі літоўцы ў гэтых набегах. Усяго за год перад тым, у 1234 годзе, літоўская раць зноў была перахоплена рускай пагоняй на поўдні Наўгародскай зямлі пры адыходзе са Старой Русы.

Магчыма, аднак, што, прынамсі, некаторыя са старэйшых родзічаў Міндоўга сталі яго ахвярамі ў барацьбе за вярхоўную ўладу — характар гэтага князя, як вынікае з больш позніх падзей, ні ў якім разе не супярэчыць такой магчымасці. Міндоўг, безумоўна, любіў уладу і дзеля яе гатовы быў зайсці вельмі далёка.

У маладыя гады Міндоўг, напэўна, удзельнічаў не ў адным паходзе на Русь. У набегах ён авалодваў ваенным майстэрствам, прыглядаўся да жыцця суседзяў, грамадскі лад якіх знаходзіўся на больш высокім узроўні, заваёўваў аўтарытэт і скалочваў адданую дружыну. Можа, ужо тады ў яго з'явіліся нейкія асабістыя сувязі з князямі і баярствам суседніх рускіх княстваў.

Пра гэтыя княствы мы не ведаем амаль нічога. У Полацку смаленскае панаванне, магчыма, скончылася ў 1232 годзе, калі палачане дапамаглі Святаславу Мсціславічу стаць князем у Смаленску. Пасля яго Полацк хутчэй за ўсё вярнуўся да аднаго з Рагвалодавічаў. Прынамсі, крыху пазней, у 1239 годзе, там будзе княжыць Брачыслаў, які аддасць сваю дачку за сына Яраслава Усеваладавіча Уладзіміра-Суздальскага — Аляксандра. Магчыма, Брачыслаў — сын віцебскага князя Васількі Брачыславіча, упамянутага пад 1196 годам. У адным з летапісаў гаворыцца, што праз некалькі гадоў пасля шлюбу маленькі сын Аляксандра і Брачыслаўны знаходзіўся ў Віцебску (у родзічаў па маці?).

Найбліжэйшымі суседзямі Літвы былі Менскае і Новагародскае княствы. Пра Менск (як і пра Лагойск з Заслаўем) мы не маем ніводнай звесткі, ніводнай зачэпкі нават для ўскосных меркаванняў. Толькі на стагоддзе пазней менскі князь з'явіцца ў летапісе. Канешне, можна лічыць, што мясцовая дынастыя існавала непарыўна з XII стагоддзя, аднак з такім жа поспехам можна адстойваць і любую іншую думку на гэты конт.

Што датычыць Новагародка, то ў ім сучаснікам Міндоўга выступае мясцовы князь Ізяслаў. Зноў-такі можна толькі гадаць, паходзіў ён са старажытнай гарадзенскай дынастыі ці з нейкай іншай. Невядома і пра памер падуладнай яму тэрыторыі. Аднак вельмі верагодна, што да Новагародка ў гэты час адносілася ўсё Панямонне з Горадням, Ваўкавыскам і Слонімам, хаця там маглі быць і свае князі (гадоў праз 20 у летапісе з'явіцца Глеб Ваўкавыскі, а яшчэ праз пакаленне — Васілька Слонімскі). Казаць пра ператварэнне Новагародка ў палітычны цэнтр усіх заходніх зямель Русі няма важкіх падстаў. Да мангольскага нашэсця гэты горад упамінаецца ў Іпацьеўскім

летапісе двойчы. Першае ўпамінанне — ускоснае: у 1228 годзе «новогородци» (так у летапісе) прынялі ўдзел у канфлікце пінскага князя Расціслава і кіеўскага Уладзіміра Рурыкавіча з Данілам Раманавічам, які быццам бы захапіў дзяцей Расціслава. Кіеўскі князь заступіўся за пінскага і сабраў супраць Данілы войска, у якое ўвайшлі разам з куранамі, пінянамі і тураўцамі жыхары Новагародка (вельмі малаверагодна, што ў гэтай лакальнай падзеі ўдзельнічалі войскі Вялікага Ноўгарада, назва якога часта пісалася аднолькава з назвай панямонскага горада).

Другое ўпамінанне — тое самае, дзе зноў з'яўляецца Міндоўг. У 1235 годзе (пра прыблізнасць храналогіі ўжо казалася) адбыўся канфлікт паміж Данілам Раманавічам і Конрадам Мазавецкім, які выкарыстоўваў крыжакоў не толькі для хрышчэння прусаў, але і для захопу сумежнага Падляшша (тэрыторыі яцвяжскага племені палексаў, што ўжо была амаль цалкам каланізавана валынянамі). Выбіўшы крыжакоў з падляшскага горада Драгічына, «по том же лете Данил же возведе на Кондрата Литву Мендога Изяслава Новгородьского».

Гэта практычна ўсё, што мы ведаем пра падзею. Але і лаканічная звестка кажа шмат пра што. Па-першае, Літва належыць Міндоўгу. Па-другое, Ізяслаў Новагародскі (пра Вялікі Ноўгарад гаворка ісці не можа — там у гэты момант княжыць Яраслаў Усеваладавіч з Залесся) дзейнічае сумесна з Міндоўгам, што сведчыць аб іх цесных сувязях. Па-трэцяе, і Ізяслаў, і Міндоўг выступаюць ці то як васалы, ці то як наёмнікі ўладзіміра-валынскага князя. Думаць пра раўнапраўны саюз перашкаджае слова «возведе», якое яўна сведчыць пра вядучую ролю Данілы. Характэрна, што Новагародак выступае тут не як вораг Раманавіча (што было ў першым выпадку), а як паслухмяны саюзнік. Дарэчы, і ў першым паведамленні роля новагародцаў не большая за ролю іншых удзельнікаў кааліцыі — Курска, Пінска і Турава.

Такім чынам, можна пагадзіцца, што Новагародак у гэты час пачынае праяўляць большую актыўнасць, чым суседнія гарады, уключаючы Полацк. Але актыўнасць гэтая — другарадная ў агульнарускім маштабе, яна праяўляецца ў падтрымцы акцый Кіева і Уладзіміра-Валынскага — сапраўдных палітычных цэнтраў.

Пад «Літвой Міндоўга» таксама трэба разумець не ўсю тагачасную Літву, а толькі нейкую яе частку. Міндоўг дамогся вяршэнства сярод прадстаўнікоў галоўнай дынастыі, але засталіся нашчадкі і ў яго брата Даўспрунка, і ў Даўята (яны будуць актыўна дзейнічаць праз некалькі гадоў). Па-ранейшаму існуюць самастойныя дынастыі ў Дзевалтве, Нальшчанах і Упіце, а жамойцкая дынастыя і ўвогуле набірае моц. Годам пазней на яе долю выпадзе выдатны ваенны поспех: перамога над крыжакамі-лівонцамі.

Бітва адбылася ў верасні 1236 года, калі Ордэн мечаносцаў арганізаваў свой першы крыжовы паход у Жамойць. Гэта была «разведка боем» — пасля падпарадкавання большай часткі тэрыторыі Лівоніі мечаносцы шукалі перспектыўныя напрамкі для працягу экспансіі. Паганская Жамойць з'яўлялася натуральным аб'ектам такой экспансіі.

У паходзе ўдзельнічалі амаль усе браты-рыцары Ордэна (каля 100 чалавек) на чале з магістрам Фалькевінам, апалчэнне падуладных эстаў, ліваў і латгалаў, добраахвотнікі з Заходняй Еўропы, нават атрад з Пскова, які ў той час меў цесныя сувязі з мечаносцамі. Аднак на зямлі Саўле (верагодна, сучасны Шаўляй) жамойты (іх узначальвалі, магчыма, тыя князі Эрдзівіл і Выкінт, што выступаюць у дагаворы 1219 года) ушчэнт разграмілі войска мечаносцаў. Загінулі 48 братоў-рыцараў, у тым ліку сам магістр. Няўдача крыжакоў паспрыяла паўстанню супраць іх на новадалучаных землях куршаў, земгалаў і селаў, якія фактычна выйшлі з-пад кантролю Ордэна і архібіскупства.

У гэты ж час Тэўтонскі ордэн дзейнічаў больш паспяхова: у 1236 годзе скончылася заваяванне прускага племені памязанаў у нізоўях Віслы, на наступны год скарылася суседняя Пагезанія. Выпадак з паходам мечаносцаў ясна паказаў, што чакае Літву і Жамойць, калі тэўтонцы выйдуць на іх межы з захаду. Праўда, пакуль што, здавалася, да гэтага яшчэ далёка: большасць прусаў і амаль усе яцвягі захоўвалі незалежнасць. Але заваёўнікі хутка прасоўваліся наперад.

Уварванне закаваных у сталь чужаземцаў спачатку прывяло прусаў ледзь не ў паніку. З'явіліся нават легенды пра людзей з жалезнымі брухамі, якіх не бяруць мячы і стрэлы. Пазней прусы пераканаліся, што і браніраваных захопнікаў можна біць, але першы раўнд, безумоўна, застаўся за крыжакамі. Тэўтонцы выкарыстоўвалі адпрацаваную тактыку — улетку адбываўся вялікі паход з удзелам добраахвотнікаў з Польшчы, Германіі і іншых краін, на новазахопленых землях будаваліся замкі. Рыцары заставаліся ў іх на зіму, каб потым зноў пашыраць уладанні Ордэна.

У 1237 годзе адбылася важная падзея — дэмаралізаваны пасля паражэння пад Саўле Ордэн мечаносцаў аб'яднаўся з больш моцным Тэўтонскім у канфедэрацыю і атрымаў назву Лівонскага. Выпеставаныя Рыжскім архібіскупствам і Мазовіяй крыжакі пры падтрымцы рымскага папы выйшлі з-пад іх кантролю. Здзейснілася мара фон Зальца аб самастойнай ордэнскай дзяржаве. Праўда, дзяржава была своеасаблівая: яе пануючае кола ўтваралі браты-рыцары, якія лічыліся манахамі і не маглі мець ні жонак, ні дзяцей. Таму існаванне Ордэна залежала ад няспыннага прытоку новых братоў з Германіі і іншых краін. Папская курыя і пасланцы тэўтонцаў рабілі ўсё, каб гэты паток пашыраўся. Па ўсёй Еўропе яны разгарнулі агітацыю, заклікаючы рыцарства прыняць удзел у «выратаванні» (прымусовым хрышчэнні) закаранелых у паганстве прусаў і іншых балцкіх народаў.

У Літве наўрад ці ведалі пра ўсё гэта. Аднак пачуццё небяспекі вісела ў паветры, і аб'ектыўна дзейнасць Міндоўга па канцэнтрацыі ўлады спрыяла таму, што Літва рабілася больш падрыхтаванай для непазбежнай сустрэчы з крыжацкай пагрозай. Магчыма, некаторыя прадстаўнікі літоўскай знаці разумелі гэта і свядома падтрымлівалі прагнага да ўлады князя.

На адносна маладога (Міндоўгу было ў той час каля 40 гадоў), таленавітага і актыўнага правадыра баяздольнай дружыны не маглі не звярнуць увагу і ў сумежных заходнярускіх княствах. Калі ўжо параўноўваць зносіны літоўцаў з Заходняй Руссю і палавецка-паўднёварускія дачыненні, дык варта адзначыць, што кіеўскія князі заўсёды ўважліва сачылі за ходам падзей у палавецкіх качэўях, заводзілі сярод полаўцаў пабрацімаў і сваякоў, шукалі ў іх паратунку ў цяжкі момант і аказвалі такую ж дапамогу палавецкім ханам. Зразумела, князі і баяры Полаччыны, Меншчыны і Навагародчыны рабілі тое ж самае ў адносінах да літоўцаў. Прыклад з Усеваладам Герцыкскім, які ажаніўся з дачкой Даўгерда, відавочна, толькі адзін з многіх. І ў Міндоўга, напэўна, меліся сябры і сваякі на Русі, у тым ліку і ў Новагародку. Такія людзі пазіралі на яго ўзвышэнне без страху — ім асабіста яно нічым не пагражала. Наадварот, чым мацнейшы станавіўся літоўскі князь, тым больш карысным выглядаў саюз з ім.

Але ўсё гэта наўрад ці мела б значныя вынікі, калі б палітычная сістэма Русі і далей захоўвала стабільнасць. Толькі рэзкі штуршок звонку раптоўна ўсё перамяніў.

Вясной 1237 года ўспыхнуў, нарэшце, кнот палавецкіх стэпаў. З берагоў далёкай Сырдар'і рушыла на паўночны захад незлічонае мангольскае войска, каб выканаць запавет Чынгісхана: заваяваць паўночна-заходні сектар Сусвету, які быў вылучаны ў свой час пад улус яго сыну Джучы. У паходзе ўдзельнічаў малодшы сын Чынгісхана Кюлькан і дзесяць унукаў, у тым ліку старэйшы сын вялікага кагана Угэдэя Гуюк. Лепшыя палкаводцы мангольскай дзяржавы стаялі на чале тумэнаў, сярод іх — стары Субэдэй, што вёў да перамог яшчэ войска самога Чынгісхана. Вярхоўным военачальнікам, джыхангірам, быў назначаны Бату — трыццацігадовы сын і наследнік Джучы.

Усё лета мангольскае войска заваёўвала ўладанні полаўцаў і волжскіх балгар, а на пачатку зімы дакацілася да межаў Русі. Ніколі раней на яе зямлю не ступаў такі грозны вораг. Манголы адзін за адным захоплівалі гарады, што лічыліся непрыступнымі для стэпавых качэўнікаў. Адно з самых магутных рускіх княстваў — Уладзіміра-Суздальскае — рухнула ў некалькі тыдняў. Загінуў у бітве яго ўладальнік Юрый Усеваладавіч, як і трое сыноў яго і пляменнік. Вастрыё варожага нашэсця дасягнула ўскрайку Наўгародскай зямлі, каб з пачаткам вясны праз усходні край Смаленскай і Чарнігаўскай вярнуцца ў палавецкія стэпы.

Здаецца, Русь не адразу зразумела, што старой грамадска-палітычнай сістэме нанесены смяротны ўдар, што ў былы стан яна ўжо не вернецца ніколі. Як певень скача і лётае з адсечанай галавой, так і рускія княствы працягвалі імкнуцца да сваіх ранейшых мэтаў увесь 1238 і пачатак 1239 года, пакуль войска Бату, ці, як яго называлі на Русі, Батыя, зусім побач з імі заканчвала заваяванне полаўцаў, якія рассыпаліся па стэпах.

У 1238 годзе Даніла Раманавіч з братам выбілі нарэшце чарнігаўцаў з Галіча. Радаваліся, што іх дзяржава зноў раскінулася ад Панямоння да Карпат, пераразмяркоўвалі ўладанні. Даніла ўзяў сабе Галіч і Уладзімір, а Васілька — Луцк, Белз і Берасце. У той жа час на поўначы наўгародскі князь Яраслаў, брат загінуўшага Юрыя Усеваладавіча, наводзіў парадак у Смаленску, дзе адбывалася нейкая замятня (верагодна, пасля смерці князя Святаслава Мсціславіча), у якой самы актыўны ўдзел прынялі літоўцы. Яраслаў захапіў у Смаленску нейкага літоўскага князя (ці стаўленіка літоўцаў) і пасадзіў там малодшага брата былога ўладальніка — Усевалада Мсціславіча. У 1238 ці 1239 годзе ён жа справіў у Таропцы вяселле свайго сына Аляксандра з дачкой полацкага князя Брачыслава.

Між тым галоўная бяда была яшчэ наперадзе. Бату метадычна працягвае выконваць волю свайго дзеда. Скарыўшы полаўцаў (толькі невялікая іх частка ўцякла ў Венгрыю да караля Бэлы IV), манголы зноў накіроўваюць удар на Русь, гэтым разам паўднёвую. У 1239 годзе яны захапілі Пераяслаў і Чарнігаў. Тады ж, напэўна, згарэў і Гомель, пра разбурэнне якога сведчыць археалогія. Чарнігаўскі князь Міхаіл падаўся наўцёкі, кінуўшы і Кіеў, што знаходзіўся пад яго кантролем. У наступным годзе войска Бату пераходзіць Дняпро і аблагае старажытную сталіцу Русі. Апошні з буйных уладароў — Даніла Раманавіч — паслаў туды свайго пасадніка, але сам застаўся ў Галічы чакаць сваёй чаргі. Чакаць прыйшлося нядоўга. Гіне ў полымі Кіеў, усланы целамі сваіх абаронцаў, а потым віхура нашэсця пракатваецца праз усю Галіцкую і Валынскую землі і далей на захад, у Малую Польшчу і Венгрыю. Марна спрабуе спыніць яе Баляслаў Сарамлівы — у сакавіку 1241 года Кракаў спасцігае той жа лёс, што і Кіеў. Гіне ў бітве вроцлаўскі і кракаўскі князь Генрык Набожны (сын памерлага ў 1238 годзе Генрыка Барадатага), хаця коштам жыцця і захоўвае ад манголаў частку сваіх уладанняў. Адначасова церпіць паражэнне і венгерскі кароль Бэла з братам Кальманам.

Неверагодныя поспехі манголаў тлумачацца сярод многіх акалічнасцей адной вельмі простай: іх ваенная машына трымалася на татальнай жорсткасці і страху. Невыкананне загаду, уцёкі ў час бою былі немагчымымі з-за смяротнай кругавой парукі — правіннасць аднаго каштавала жыцця ўсім, хто знаходзіўся побач. Такая сістэма бездакорна дзейнічае ўсюды, дзе яе ўдаецца стварыць. І шчасце чалавецтва ў тым, што стварыць удаецца не ўсюды і не заўжды — толькі там, дзе вельмі нізкі кошт чалавечага жыцця, дзе народ ахоплены экстатычным уздымам і дзе пераважная колькасць ствараючых гэтую пачварную сістэму людзей упэўнена, што так і трэба. У стэпавых качэўнікаў адбылося менавіта так. Мангольскія тумэны, што не вагаючыся ішлі на смерць, наводзілі проста містычны жах на праціўніка, які і не здагадваўся, што ў сэрцах яго пераможцаў пануе яшчэ большы жах — толькі перад сваімі.

Бату-хан да 1242 года прайшоў скрозь Венгерскае каралеўства да берагоў Адрыятыкі, і толькі звесткі пра смерць вялікага кагана Угэдэя прымусілі яго павярнуць коней назад. Пакінуўшы ў спакоі тое, што не мог зараз пераварыць, — разбураныя Венгрыю, Польшчу і Паўднёвую Русь — Бату пакінуў у палавецкіх стэпах сваіх намеснікаў і разам з іншымі знатнымі ўдзельнікамі паходу «да апошняга мора» заспяшаўся ў далёкі Каракарум, дзе павінны былі адбыцца выбары новага кагана.

Тады ацалелыя рускія князі пачалі варочацца на выгарышчы спаленых гарадоў. Вярнуліся Міхаіл Чарнігаўскі, пінскія князі Расціслаў Уладзіміравіч і Міхаіл з сынам (напэўна, ён быў братам Уладзіміра Пінскага, што ўпамінаецца ў 1220-я гады). Даніла і Васілька перачакалі бяду ў Мазовіі, пры двары князя Баляслава — старэйшага сына Конрада Мазавецкага. Валынскі летапіс апісаў іх сумны зварот. Ацалелы Драгічын

**Карта 2. Ваенна-палітычная сітуацыя на Русі ў 1230-я — пачатку 1240-х гадоў**

*1 — цэнтры княстваў, падуладных асобным дынастыям; 2 — цэнтры ўдзелаў; 3 — дзяржаўныя межы; 4 — межы княстваў і зямель; 5 — кірункі літоўскіх набегаў; 6 — кірункі паходаў крыжакоў; 7 — кірункі паходаў татар; 8 — тэрыторыя, на якую распаўсюджвалася вярхоўная ўлада папярэднікаў Міндоўга; 9 — лічбамі абазначаны: 1 — Наўгародская зямля; 2 — Мурамскае княства; 3 — куршы; 4 — змешанае куршска-жамойцкае насельніцтва; 5 — Упіта; 6 — Дзевалтва; 7 — Ламата; 8 — Скалвія; 9 — Самбія; 10 — Надровія; 11 — Натангія; 12 — Вармія; 13 — Памязанія; 14 — Пагезанія; 15 — Бартыя; 16 — Галіндыя; 17 — Судава; 18 — Яцвягія ў вузкім сэнсе; 19 — Дайнава; 20 — Палексія; 21— тэрыторыя, падараваная Конрадам Мазавецкім Тэўтонскаму ордэну; 22 — Сілезія.*

не адчыніў перад сваімі князямі браму, наваколле Берасця было напоўнена смуродам непахаваных трупаў. Уладзімір-Валынскі таксама ўяўляў груду гарэлага бярвення. Цудам захаваўся толькі пабудаваны незадоўга да таго Холм за Заходнім Бугам. У Галіцкай зямлі баяры захапілі ўладу ў нешматлікіх ацалелых гарадах, і Данілу давялося наводзіць парадак мячом.

Яраслаў Усеваладавіч яшчэ раней, у 1238 годзе, пачаў адраджаць разбураную вотчыну. Ён выдзеліў малодшым братам Святаславу і Івану ў кіраванне Суздаль і Старадуб, а сабе пакінуў стольны Уладзімір і заходнюю палову бацькоўскай вотчыны (Пераяслаў-Залескі, Цвер, Маскву — усе спаленыя). У Ноўгарадзе ён пасадзіў сына Аляксандра, які ў 1240 годзе ў дваццацігадовым узросце вызначыўся перамогай над шведамі на Няве, а праз два гады паспяхова правёў ваенныя дзеянні супраць Лівонскага ордэна, разбіўшы рыцараў на лёдзе Чудскога возера.

Смаленская і Полацкая землі былі практычна не закрануты мангольскім нашэсцем. Але пра падзеі, што адбываліся ў іх, па-ранейшаму амаль не згадваецца ў летапісах. Здаецца, у Смаленску Усевалад Мсціславіч пратрымаўся вельмі нядоўга, пасля там княжыць яго малодшы брат Расціслаў. Невядома, ці захапіла мангольская хваля Пінск і Тураў, а таксама суседнія з разбураным Берасцем княствы Панямоння. Т. Нарбут, праўда, прыводзіць паданне аб тым, што адзін з мангольскіх атрадаў

на чале з братам Бату Шэйбакам (Шэйбані?) зайшоў ажно на правы бераг Нёмана, захапіў Навагародак і Слонім, але пазней быў разбіты жамойцкім князем Эрдзівілам ва ўрочышчы Шэйбакполе пад Лідай, хоць перамога каштавала жыцця Эрдзівілу. Звестка выглядае вельмі праўдзіва, нават імёны дзеючых асоб гістарычныя, але не выключана, што яе ўдала сачыніў сам Нарбут. Спаленне ж манголамі Пінска вельмі верагодна, бо тамтэйшыя князі мусілі хавацца ў Мазовіі — напэўна, нездарма.

Але асноўным вынікам нашэсця было іншае. Парушылася ўся сістэма палітычных дамінант і супрацьваг. Сумежныя з Літвой землі на некалькі гадоў апынуліся перад ёю сам-насам. Пра з'яўленне літоўцаў у Смаленску я ўжо згадваў. Але рэзка ўзрасла іх актыўнасць і на іншых напрамках. У 1245 годзе Літва паўтарыла свой паход праз Таропец на Таржок і Бежыцу, у 1247 — на Пскоў, у 1248 — на Зубцоў у вярхоўях Волгі. У той жа час літоўскі князь Айшвна з роду Рушкавічаў рабуе ля Перасопніцы, у самым сэрцы Валыні (Валынскі летапіс датуе гэты набег 1246 годам), а ў наступным годзе іншы князь, Лекагвеній (Лугвень?), дзейнічае ля Драгічына. На Драгічын жа робяць напад і яцвягі. А папскі пасланец Джавані Плана Карпіні, які ў гэты ж час падарожнічае ў Манголію, адзначае вялікую небяспеку літоўскіх набегаў у наваколлі Кіева. Заўважым, што летапісы звычайна паведамляюць толькі пра набегі, у якіх рускім князям удалося адбіць палон. Колькі ж іх было больш паспяховых, мы не ведаем, як і тое, колькі багацціяў і русавалосых паланянак знікла ў гэтыя гады ў літоўскіх пушчах.

На тых напрамках, дзе Русь захавала пэўную сілу, літоўцы сустракаюць адпор. Валынскі князь Васілька Раманавіч, напрыклад, нанёс ім некалькі адчувальных паражэнняў. І на поўначы юны Аляксандр Неўскі падхапіў бацькоўскую славу пераможцы літоўцаў, далучыўшы яе да ўжо заваяванай славы пераможцы крыжакоў. За час княжання ў Ноўгарадзе ён перамог ваяўнічых суседзяў сем разоў. Але заўважым, што ўсё гэта — выключна абарончыя дзеянні на сваёй тэрыторыі.

Жыхарам Полаччыны, Палесся і Панямоння было значна цяжэй. Іх гарады ляжалі ў адным-двух конных пераходах ад зямель Літвы, і ў выпадку нечаканага нападу разлічваць на паспяховую пагоню асабліва не прыходзілася, як і на своечасовую дапамогу з Ноўгарада ці Уладзіміра-Валынскага. Даводзілася выкручвацца самім. І найбольш надзейны спосаб — жыць з небяспечным суседам у згодзе, бесперашкодна прапускаць драпежныя атрады далей, за свае межы, каб яны, як воўчае логава ля чалавечага жытла, былі пагрозай толькі для далёкіх суседзяў. Менавіта такой тактыкі прытрымліваўся Міхаіл Пінскі, бо літоўскія ўварванні на Валынь і шляхі адыходу праходзілі якраз праз яго княства.

Калі ж часам згасаў мясцовы княжацкі род, перад баярствам «прыфрантавых» гарадоў паўставала пытанне: дзе ўзяць новага ўладара? Тыя часы, калі вымарачнымі вотчынамі распараджаўся Кіеў, прайшлі — ён зараз сам ляжаў у руінах, і князёў туды прызначаў са сваёй прыволжскай стаўкі Бату-хан. Дык што ж — ехаць па князя да яго? Ці не лепей будзе звярнуцца да кагосьці з суседніх і добра знаёмых літоўскіх кунігасаў. У іх жылах таксама цячэ свяшчэнная кроў, што дае адзінае права на ўладу. А што паганцы яны — дык калі з'явіцца перспектыва княжыць на Русі, то ахрысцяцца, нідзе не дзенуцца. Як скажа трыма стагоддзямі пазней Генрых Наварскі, «Парыж варты імшы».

Мы не вельмі добра ўяўляем сабе ўнутраныя падзеі ў Літве ў гэты момант. Але там яўна вызначыліся тэндэнцыі да цэнтралізацыі ўлады. Пануючых цэнтраў рабілася ўсё менш, а князёў, напэўна, пладзілася ўсё больш. Неабходнасці ж у павелічэнні колькасці «нізавых кіраўнікоў» яшчэ не было, таму гэтую прорву «прынцаў крыві» трэба было ці знішчыць, ці некуды распіхаць. Адным словам, ідэя ўладкавання літоўскіх князёў у рускіх гарадах выклікала інтарэс з абодвух бакоў.

І вось у верасні 1248 года папа Інакенцій IV накіроўвае ліст да «новаахрышчанага князя Полацка». Мы не ведаем, хто ён быў, але зразумела, што не рускі. Брачыславу, які княжыў там раней, хрысціцца не было патрэбы. Прыкладна ў той жа час літоўскі князь асталёўваецца ў Навагародку (мясцовы Ізяслаў таксама, напэўна, памёр без нашчадкаў). І князь гэты — ніхто іншы, як сам Міндоўг. Як ні дзіўна, крыніцы, сучас-

ныя падзеям, зусім абмінулі гэты факт, які меў выключна важныя вынікі. Упамінанне пра яго захавалася толькі ў значна больш познім Густынскім летапісе, створаным у XVII стагоддзі на падставе розных крыніц. У агульным летапісным тэксце ўпамінанне носіць характар устаўкі: «В сие же лето (1246 год. — *В.Н.*) великий князь литовский Миндовг прият веру христианскую от Востока, со многими своими бояры, понемнозе же сын его Войшелк пострижеся во иночество, о его же делах будет нижей». Відавочна, што тэкст, які ідзе «ніжэй», павінен быў ужо існаваць у час напісання гэтых слоў. Больш таго, звестка пра прыняцце Міндоўгам праваслаўя яўна супярэчыць Валынскаму летапісу, які добра ведае пра больш позняе яго хрышчэнне ў каталіцтва, нават пра тое, што гэтае хрышчэнне «льстиво бысть» і ўпотай Міндоўг працягваў маліцца паганскім багам, але ні словам не згадвае пра прыняцце ім праваслаўя.

Не выключана, што звестку пра хрышчэнне Міндоўга сачыніў сам стваральнік Густынскага летапісу, каб неяк растлумачыць той факт, што ў далейшым Міндоўг дзейнічаў як уладар Новагародка і іншых панямонскіх гарадоў. Гэта і сапраўды можа здацца нечаканым, бо супярэчыць усёй старажытнарускай традыцыі: ніколі раней князем на Русі не станавіўся прадстаўнік іншага, не Рурыкавічаў, роду, тым больш літоўскі паганец.

Адзначым, што ў крыніцах няма ніякіх сведчанняў, што Міндоўг захапіў Новагародак гвалтоўна, як і таго, што ён знайшоў там прытулак, калі быў чамусьці выгнаны з Літвы. З агульнага кантэксту вынікае хутчэй, што ён валодаў Літвой і Новагародчынай адначасова і са згоды мясцовага насельніцтва. Гэта можна зразумець, калі зыходзіць з таго, што папярэдне Русь утварала агульную палітычную структуру. Захоп татарамі яе жыццёвых цэнтраў, у першую чаргу Кіева, азначаў, што Русь цалкам трапляла ў залежнасць ад татарскіх ханаў (так і адбылося ў далейшым з усімі княствамі Рурыкавічаў — нават з тымі, якіх не дасягнула войска Бату). Пазбегнуць залежнасці выпадала, толькі набыўшы князя з зусім іншай дынастыі, пры гэтым такога, які меў здольнасць пры неабходнасці аказаць татарам узброенае супраціўленне.

Зразумела, пайсці на рашучы разрыў са старой традыцыяй было няпроста. Маючы законных, спадчынных князёў, Новагародак і Полацк, магчыма, ніколі б на гэта не рызыкнулі. Але адсутнасць такіх князёў магла падштурхнуць да нестандартнага ходу, тым больш што новы выбар спярша не выглядаў канчатковым: маўляў, пакуль фармальна выйдзем са складу Русі, а там час пакажа, як жыць далей.

Такім чынам, у руках Міндоўга, апрача родавай вотчыны — Літвы ў вузкім сэнсе, апынулася яшчэ і ўскраіннае рускае княства з ваяўнічым памежным баярствам, якое накшталт жыхароў Курска ў «Слове аб палку Ігаравым» магло сказаць пра сябе: «Под трубами повити, под шеломы взлелеяны, конец копия вскормлени; пути им ведоми, яругы им знаеми, луци у них напряжени, тули отворени, сабли изьострени». Гэты набытак яшчэ больш спрыяў палітычнаму дамінаванню Міндоўга над астатнімі літоўскімі князямі і павялічваў пагрозу для суседзяў. Натуральна, што ні тым, ні другім такое не магло спадабацца. Адразу пачалася складаная гульня, куды ўцягнуліся сілы як унутры Літвы, так і за яе межамі. Успыхнуў канфлікт паміж Міндоўгам і яго пляменнікамі Таўцівілам і Эдзівідам (напэўна, сынамі Даўспрунка), у якім былі замешаны Лівонскі ордэн (галоўны вораг Літвы на поўначы) і Галіцка-Валынскае княства, што выказала прэтэнзіі да Новагародчыны. Але каб добра зразумець усе акалічнасці, трэба папярэдне разгледзець больш шырокае кола падзей, зрабіць, так бы мовіць, гістарычна-сінхраністычны зрэз.

З'яўленне магутнай улады ў Літве адразу пачало адчувацца за яе межамі. З мэтанакіраванай знешняй палітыкай Міндоўга сутыкнуўся Тэўтонскі ордэн, які ўжо, здаецца, завяршаў заваяванне прусаў. Пасля вялікага паходу 1240 года на чале з герцагам Браўншвейгскім уладу Ордэна прызналі прускія плямёны вармаў, натангаў і бартаў. Але крыжакі перагнулі палку ў сваёй тактыцы гвалтоўнага хрышчэння. У выніку ў 1243 годзе прусы ўзнялі паўстанне, якое ўзначаліў Святаполк Паморскі. Перабіўшы крыжацкіх місіянераў, яны аблажылі ордэнскія замкі і нават узнавілі набегі на Польшчу. Самую актыўную падтрымку заходнім родзічам пачаў аказваць

Міндоўг, які, напэўна, паспеў ужо зразумець, чым пагражае крыжацкая экспансія. Дапамога літоўцаў ускладніла падаўленне паўстання. Згасла яно толькі ў 1249 годзе, калі крыжакам пры ўдзеле папскага пасланца ўдалося памірыцца са Святаполкам.

Аднак тэўтонцы вымушаны былі прыпыніць далейшы рух наперад і заняцца больш трывалым умацаваннем на ўжо ахрышчаных землях. У 1245 годзе на тэрыторыі Ордэна ўтвораны біскупствы: Хельмінскае на падараванай Конрадам тэрыторыі, Памязанскае, Вармійскае і Самбійскае на землях прусаў.

З тактыкай Міндоўга, які пачаў актыўна процідзейнічаць крыжакам на дальніх подступах да сваёй падуладнай тэрыторыі, сутыкнуўся і Лівонскі ордэн. Ён якраз узнавіў націск на куршаў і земгалаў. У дадатак да Рыжскага архібіскупства былі таксама ўтвораны біскупствы: Курляндскае на землях ахрышчаных у 1246 годзе куршаў, Дэрпцкае і Эзельскае ў Эстоніі. Міндоўг жа паслаў на поўнач войска, каб выбіць з Курляндыі і Земгаліі крыжакоў і царкоўнікаў і падпарадкаваць гэтыя землі сабе. Аднак схіліць на свой бок куршаў яму не ўдалося, да таго ж літоўцы пацярпелі ў 1248 годзе цяжкае паражэнне пры аблозе ордэнскага замка Эмбоцен. Землі куршаў адышлі да Лівонскага ордэна і Курляндскага біскупства. Такім чынам, крыжакі зноў выйшлі непасрэдна да межаў Жамойці.

І ў Польшчы ў гэты час выразна адчуваецца прысутнасць літоўцаў. Іх разам з яцвягамі выкарыстоўвае Конрад Мазавецкі, які амаль адразу пасля адыходу манголаў узнавіў барацьбу з пляменнікам Баляславам Сарамлівым. Ужо ў 1243 годзе ён з дапамогай Данілы і Васілька Раманавічаў намагаўся перашкодзіць Баляславу ўладкавацца ў Кракаве, вакантным пасля смерці Генрыка Набожнага. У 1246 годзе пры ўдзеле літоўцаў Конрад перамог-такі свайго пляменніка, аднак не паспеў пакарыстацца як след вынікамі перамогі, бо праз год памёр. Яго княства дасталася тром сынам, з якіх старэйшы, Баляслаў, хутка таксама памёр, а Казімір і Зямовіт падзялілі між сабой Куявію і Мазовію.

Данілу Галіцкаму ў гэты час даводзілася не толькі адраджаць спустошанае княства, але і зноў адстойваць свае правы на Галіч у змаганні супраць Расціслава, сына Міхаіла Чарнігаўскага. Той знайшоў прытулак у караля Бэлы, які даў яму войска для адваявання Галіча. І вось у 1245 годзе, быццам і не прайшло ўсяго няпоўныя чатыры гады пасля заканчэння крывавага мангольскага пагрому, ацалелыя падчас яго венгры, галічане і валыняне зноў сыходзяцца, каб ліць кроў. Лёс спрыяе Данілу: з дапамогай усё таго ж Міндоўга ў жорсткай бітве пад горадам Яраславам (на захадзе Галіцкай зямлі) ён разграміў Расціслава, які зноў уцёк да венграў.

Аднак грозны Усход хутка нагадаў пра сябе. Чатыры гады, што мінулі пасля адыходу Бату-хана, былі толькі часовым перадыхам. За гэты тэрмін у далёкім Каракаруме вырашыліся ўсе справы: новым каганам абралі сына Угэдэя Гуюка, а Бату атрымаў пацвярджэнне на ўлус свайго бацькі Джучы. І вось ён зноў з'яўляецца ў палавецкіх стэпах — ужо не як захопнік, а як пан. Цяпер і зямля полаўцаў, і Русь — гэта яго вотчына, тут жыць яму і яго нашчадкам. І Бату пачынае скалачваць з рэштак разбітых дзяржаў новую, якая пазней атрымае назву Залатая Арда. (У XIII—XIV стагоддзях яна была больш вядомая як Улус Джучы ці проста Арда.) Яе сталіцу хан закладае на берагах Волгі, для будаўніцтва завозіць палонных майстроў з паловы свету. Са сваіх новых падданых — полаўцаў — ладзіць новае войска, такую ж жудасную машыну разбурэння, якую некалі зрабіў з манголаў яго дзед. Ад гэтага часу нашчадкі полаўцаў і волжскіх балгар будуць хадзіць карнымі набегамі на Русь, і менавіта іх пачнуць называць там словам «татары», якім раней называлі манголаў.

Адначасова Бату бярэ ў свае рукі і палітычную ўладу на Русі. Усе тры ўладары найбольш буйных княстваў: Яраслаў Уладзіміра-Суздальскі, Міхаіл Чарнігаўскі і Даніла Галіцкі — атрымалі грозныя загады ехаць на паклон да хана, прычым Яраславу давялося падарожнічаць ажно ў Каракарум, у стаўку Гуюк-хана. Адтуль ён ужо не вярнуўся — быў атручаны. Такі ж лёс спасціг і Міхаіла — за адмову выканаць паганскі рытуал яго пакаралі смерцю ў стаўцы Бату. Здавалася б, у Данілы было яшчэ менш шанцаў вярнуцца жывым. Бату-хан запатрабаваў у князя адмовіцца ад Галіча.

Магчыма, ён збіраўся аддаць яго Міхаілу Чарнігаўскаму ці яго сыну Расціславу. Але выйшла наадварот — Міхаіл загінуў, а Даніла вярнуўся з ярлыком на Галіцкае і Уладзіміра-Валынскае княствы.

Чамусьці зусім знікаюць у гэты час звесткі пра Смаленск. Ён, як быццам, ледзь закрануты мангольскім нашэсцем, аднак у агульнарускіх справах на пэўны час перастае адыгрываць якую-небудзь ролю. Магчыма, гэта тлумачыцца тым, што яго сілы былі цалкам сканцэнтраваны на процідзеянні Літве, магчыма — ранняй смерцю ўсіх сыноў Мсціслава Раманавіча, пасля чаго ў Смаленскай зямлі проста не засталося дарослых князёў. Згасла, напэўна, і дынастыя ў Таропцы — у гэтым горадзе то спраўляе вяселле сын уладзіміра-суздальскага князя, то хаваюцца ад Аляксандра Неўскага літоўцы падчас свайго адыходу ад Таржка ў 1245 годзе.

У гэтых умовах захаванне ў сваіх руках Галіцка-Валынскага княства з'явілася выдатным палітычным поспехам Данілы Раманавіча. З братам Васільком у яго, здаецца, заўсёды было поўнае ўзаемаразуменне, і ўдвух яны ўладарылі ва ўсё больш мацнеючай дзяржаве. Адраджаліся разбураныя гарады, а Холм, які пазбег разбурэння, ператварыўся ў магутную крэпасць. Ваенная моц княства замацоўвалася дынастычнымі сувязямі. Яшчэ раней сястра Данілы і Васількі стала жонкай Святаполка Паморскага, сам Даніла ажаніўся другім шлюбам з пляменніцай Міндоўга, а Васілька быў жанаты з дачкой Юрыя Усеваладавіча Уладзіміра-Суздальскага. У гэты час Даніла выдае сваіх дачок Пераславу і Анастасію за Зямовіта, сына Конрада Мазавецкага, і за Андрэя Яраславіча Уладзіміра-Суздальскага, а ў 1250 годзе дамагаецца нарэшце даўно жаданага шлюбу свайго старэйшага сына Льва з дачкой венгерскага караля Бэлы IV. Ледзь не ўсе адметныя суседзі сталі яго сваякамі.

Даніла энергічна рыхтуе баяздольную дружыну, пераймае ўсё лепшае ў пераможцаў-татар. Ён дазваляе сабе нават удзельнічаць у агульнаеўрапейскай палітыцы, у барацьбе васалаў імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фрыдрыха II. Крыху пазней з'яўленне галіцка-валынскага войска ў Аўстрыі (куды Даніла прыйшоў як саюзнік венгерскага караля) выкліча фурор: «Немцы же дивяшеся оружью татарскому, беша бо кони в личинах и коярех (гуньках. — *В.Н.*) кожаных, а людье во ярыцех (латах. — *В.Н.*), и бе полков его светлость велика от оружия блистающа».

Еўропа ўжо крыху апрытомнела пасля шоку ад з'яўлення непераможных манголаў на берагах Адрыятыкі, ля самых межаў Італіі. Абраны ў 1243 годзе новы рымскі папа Інакенцій IV распачаў энергічную дыпламатычную дзейнасць. Ён выправіў у далёкі Каракарум манаха-францысканца Плана Карпіні, які прысутнічаў там пры абранні Гуюк-хана вялікім каганам і вёў з ім перамовы. Наведваў Карпіні і Бату-хана, і Данілу. Папскія легаты актыўна дзейнічалі ў іншых краінах Усходняй Еўропы, намагаючыся спыніць сваркі еўрапейскіх правіцеляў і стварыць адзіны антымангольскі фронт. Пагроза з Усходу здавалася зусім рэальнай, бо Гуюк-хан не ўтойваў свайго намеру ўзнавіць заваяванне Еўропы «да апошняга мора». Аднак нават у гэтых умовах з аб'яднання нічога не атрымалася: сам папа вёў барацьбу з імператарам Фрыдрыхам, нават вымушаны быў уцякаць з Рыма ў Ліён. Узнятыя ім супраць Фрыдрыха імператарскія васалы не дабавілі міру ў Еўропе. Рускія ж князі, асноўныя патэнцыяльныя ўдзельнікі мяркуемай кааліцыі, вельмі насцярожана ставіліся да заклікаў папы прыняць каталіцтва. Іх недавер падмацоўваўся дзеяннямі Лівонскага ордэна, які не спыніўся на межах паганскай Эстоніі і раз-пораз імкнуўся прыхапіць частку праваслаўнай Наўгародскай зямлі.

Магчыма, Еўропу ўратавала толькі хуткая смерць Гуюк-хана (у 1248 годзе). Яна дала перадых і Русі, бо думкі Бату-хана цяпер былі звернуты на ўсход, туды, дзе ішла барацьба за абранне новага кагана.

Данілу ў гэты час ніхто не перашкаджае дамінаваць на абшарах на поўнач ад Карпат. У сяброўскіх адносінах з ім знаходзяцца яго зяць Зямовіт Мазавецкі і стрыечны брат апошняга кракаўска-сандамірскі князь Баляслаў Сарамлівы. Доўгі час саюзнікам быў і Міндоўг, але рэзкае ўзмацненне літоўскага князя хутка пачынае турбаваць Данілу. Сапраўды, пад кантроль літоўцаў адыходзяць адно за другім заходнярускія

княствы, якія хоць і не з'яўляюцца вотчынай Данілы, але маглі б стаць яго лёгкім набыткам, калі б не гэты новы канкурэнт. Таму вастрыё галіцка-валынскай палітыкі паварочваецца на поўнач. У 1248 годзе Даніла разам са сваімі польскімі саюзнікамі робіць паход на яцвягаў. Магчыма, ён меў на мэце не дапусціць такога ж узмацнення Яцвягіі, якое праглядзеў у Літве. А затым дайшла справа і да самой Літвы.

Самы выпрабаваны спосаб аслабіць суседнюю дзяржаву — распаліць у ёй смуту. Верагодна, таму і трапіў у поле зроку Данілы яго швагер — малады і славалюбівы князь Таўцівіл. Валынскі летапіс паказвае галоўным ліхадзеем Міндоўга — той, накіраваўшы пляменнікаў на захоп Смаленска, паслаў услед адтрад забойцаў. Але магчыма, што ініцыятарам варожасці паміж Таўцівілам і Міндоўгам быў першы, за спінай якога стаяў Даніла. Справа закруцілася ў патрэбным Данілу кірунку.

Паводле летапісу, спроба Міндоўга забіць Таўцівіла адбылася ўжо тады, калі Міндоўг захапіў вотчыну сваіх пляменнікаў, «враждбою бо за ворожьство с ними Литву зане, поимана бе вся земля литовская и бещисленое имение их, притрепано бе богатство их». Таўцівіл уцёк да Данілы Галіцкага, і адразу пачалася актыўная дыпламатычная гульня. Прыкладна ў 1249 годзе склалася магутная кааліцыя супраць Міндоўга: Даніла і Васілька, Таўцівіл (нагадаем, Даніла меў за жонку яго сястру), жамойцкі князь Выкінт, хтосьці з яцвяжскіх князёў і, нарэшце, Лівонскі ордэн. Апрача агульных мэтаў, кааліцыю мацавалі і грошы Данілы («убеди их серебром и дарами многими»). Адбыўся ваенны паход, напрамак якога ясна сведчыць, што ў той момант Міндоўг кантраляваў ужо ўсё Панямонне, а таксама што менавіта гэтая тэрыторыя ўяўляла галоўны інтарэс для Данілы. Галіцка-валынскае войска паваявала Ваўкавыск, Слонім і Здзітаў, аднак да Навагародка, напэўна, дайсці не здолела.

Не дасягнуўшы мэты адным ударам, Даніла накіраваў Таўцівіла ў Рыгу, каб падштурхнуць лівонцаў да больш актыўных дзеянняў.

Шчыры прыём, які аказалі крыжакі, таксама наводзіць на думку, што Міндоўг не дарэмна гневаўся на пляменніка — немцы «сожалишася по нем, ведаху бо — аще Тевтивил не бы изгнан, Литовская земля в руку бе их». Таўцівіл хрысціўся ў Рызе ў каталіцтва пад імем Готліба. Лівонскі магістр Андрэй Стукланд даў яму войска.

Міндоўг, зразумела, не заставаўся пасіўным гледачом. Ён прыкладаў усе намаганні, каб разладзіць кааліцыю: слаў паслоў і да Данілы, і да магістра, не шкадаваў грошай і абяцанняў. І тады магістр як сапраўдны палітык вырашыў здабыць частку, не рызыкуючы ўсім: у абмен за адмову ад падтрымкі Таўцівіла прапанаваў Міндоўгу таксама прыняць хрышчэнне. Такі крок пазбаўляў Літву ад пагрозы з боку крыжакоў, затое і Міндоўг павінен быў адмовіцца ад падтрымкі куршаў, земгалаў і жамойтаў.

Напэўна, Міндоўг знаходзіўся ў тым стане, калі асабліва выбіраць не прыходзілася. Таму пагадненне між ім і магістрам адбылося. Хрышчэнне, паводле позніх звестак, прайшло ў Кернаве. Таўцівіл вымушаны быў перабазіравацца ў Жамойць да Выкінта — свайго дзядзькі па маці. Праціўнікі абмяняліся ўдарамі: спачатку Таўцівіл з жамойтамі, маючы да таго ж валынскую дапамогу, уварваўся ў Літву, затым Міндоўг зрабіў безвыніковую аблогу сталіцы Выкінта — гарадзішча Тверымет (верагодна, пазнейшы замак Цверы ў цэнтры Жамойці). Летапіс паведамляе пра смерць падчас гэтай аблогі (прыкладна ў 1251 годзе) Высімота — напэўна, таго князя Вышымота Булевіча, пасля імені якога ў дагаворы 1219 года зроблена прыпіска: «Его же уби Миндого, то и жену его поял, и братью его побил — Едивила, Спрудеика». Такім чынам, нават змаганне са знешнімі ворагамі Міндоўг выкарыстоўваў для пазбаўлення ад магчымых канкурэнтаў у барацьбе за ўладу.

Між тым Даніла не супакойваўся. Разам з Таўцівілам ён зноў уварваўся ў Панямонне і «плениша всю землю Новгородскую», у тым ліку Горадна. Міндоўг запрасіў міру, але адначасова зрабіў новы палітычны ход: шматлікімі дарамі дамогся нейтралітэту Выкінта. Таўцівіл вымушаны быў зноў шукаць прытулку на Валыні.

Падкрэслім адзін момант: галіцка-валынскае войска ўжо другі раз праходзіць Навагародчыну, займае гарады, але гэта не мае ніякіх вынікаў, спрэчная тэрыторыя застаецца пад кантролем Міндоўга. Дадзеную акалічнасць не растлумачыць

яго выключнымі дыпламатычнымі ці ваеннымі здольнасцямі. Наўрад ці такое магло б адбыцца, калі б насельніцтва Новагародчыны лічыла літоўцаў захопнікамі, а Данілу — вызваліцелем. Тут, напэўна, быў свядомы выбар на карысць Літвы, і сімвалічным увасабленнем яго стала задзірлівая каранацыя Міндоўга летам 1252 года каралеўскай каронай, што ён атрымаў ад папы ва ўзнагароду за хрышчэнне. Каранацыя адбылася ў тым самым Новагародку, які безвынікова аспрэчваў Даніла.

На наступны год (1253?) Даніла зноў пачаў масіраваны паход «на Литву, на Новгородок». Магчыма, ён-такі дацiснуў бы Міндоўга, аднак зусім іншыя падзеі адцягнулі яго ўвагу і прымусілі пагадзіцца на кампраміс.

Што ж гэта за падзеі? Даніла ўцягнуўся ў вайну з яцвягамі, якую вёў яго зяць Зямовіт Мазавецкі. Напярэдадні трэцяга паходу на Новагародак ён удзельнічаў у вялікім паходзе на яцвягаў разам са старэйшым сынам Львом і Зямовітам. Выступленне было вельмі ўдалым. Дваццацітрохгадовы Леў праславіўся, асабіста забіўшы яцвяжскага князя Сцекінта. Яцвягі страцілі значную частку тэрыторыі. Даніла заклаў там новы горад Рай (пазней Райгруд). Аднак поспех патрабаваў далейшага замацавання — і ваеннага, і дыпламатычнага. На яцвяжскія землі прэтэндавалі таксама крыжакі, якія пасля хрышчэння Міндоўга ўзнавілі з падвоенай сілай націск на астатнія балцкія плямёны, а таксама брат Зямовіта Казімір Куяўскі. У 1254 годзе адбылося пагадненне паміж Тэўтонскім ордэнам, Зямовітам і Данілам аб падзеле сфер уплыву ў Яцвягіі. Аднак абдзеленым палічыў сябе Казімір, які, нягледзячы на бясконцыя сутычкі са Святаполкам Паморскім і аддаленасць сваіх уладанняў ад Яцвягіі, таксама імкнуўся набыць новыя землі. Ён захапіў Зямовіта ў палон разам з яго жонкай, дачкой Данілы, і выпусціў толькі ў наступным, 1255 годзе.

Адначасова Даніла ўвязаўся ў яшчэ адну авантуру. У 1252 годзе ён ажаніў свайго другога сына Рамана з Гертрудай Бабенберг — апошняй з роду аўстрыйскіх герцагаў. Фармальна гэта давала права на спадчыну Бабенбергаў, аднак на яе і без таго ўжо мелася шмат ахвотнікаў. Дарэчы, гэты шлюб маладзіцы Гертруды з'яўляўся ўжо трэцім па ліку, і ўсе тры былі звязаны з барацьбой за Аўстрыю. Фактычна ў той момант герцагства знаходзілася пад кантролем маладога чэшскага караля Пжэмысла Отакара — малодшага брата першага мужа Гертруды Уладзіслава. Даніла паслаў Рамана на берагі блакітнага Дуная, але той ледзь не падзяліў лёс двух першых мужоў сваёй жонкі. Яго невялікая дружына трапіла ў аблогу чэшскіх войскаў, і Даніла мусіў усё ў тым жа 1253 годзе ісці ў паход у Чэхію — вызваляць сына. Дарэчы, у гэтым паходзе давялося ўдзельнічаць і Таўцівілу. Паход скончыўся выратаваннем Рамана, шлюб якога быў скасаваны.

Усе гэтыя дзеянні Даніла прадпрымаў як суверэнны валадар. Аднак заставалася яшчэ трэцяя, галоўная акалічнасць — манголы. У 1252 годзе доўгая барацьба за тытул вялікага кагана нарэшце скончылася, і вельмі ўдала для Бату-хана: каганам замест яго тайнага ворага Гуюк-хана стаў Менгкэ — сын чацвёртага з сыноў Чынгісхана, Тулу. Менгкэ, як і Гуюк, калісьці разам з Бату-ханам удзельнічаў у заваяванні Русі, аднак адносіны між ім і Бату былі значна больш сяброўскімі. Цяпер уладар Улуса Джучы мог зноў шчыльна заняцца рускімі справамі.

А яны між тым значна разладзіліся. Мала таго, што Даніла Галіцкі пачаў адчуваць сябе залішне самастойным, дык і яго зяць Андрэй у сваім Залессі ўзняў галаву. Трэба было тэрмінова наводзіць парадак, дзеля чаго Бату-хан і выслаў сваіх палкаводцаў Няўруя і Курамсу.

Паход Няўруя на Уладзіміра-Суздальскую Русь меў поспех. Князь Андрэй Яраславіч не здолеў абараніць сваю самастойнасць — летам 1252 года татары разбілі яго дружыну ля Пераяслава і рассыпаліся па ўсім Залессі, пакідаючы ззаду смерць і разбурэнне, як і ў чорнай памяці зіму 1237/38 года. Андрэй праз Ноўгарад уцёк у Швецыю. Князем ва Уладзіміры-Залескім стаў старэйшы брат Андрэя — Аляксандр Неўскі, прыхільнік саюзу з татарамі.

Даніла Галіцкі не мог не ведаць пра гэтыя падзеі, калі рыхтаваўся да сваіх паходаў у Чэхію, Яцвягію і Літву. Пра яго няўпэўненасць сведчыць і тое, што ён

аднавіў зносіны з Інакенціем IV. Па дарозе на яцвягаў, у 1253 годзе, ён атрымаў у Драгічыне прысланую ад папы каралеўскую карону — такую ж, як і яго праціўнік Міндоўг, і практычна адначасова з ім (хоць Іпацьеўскі летапіс і дае іншыя даты, але пра храналогію гэтага летапісу я ўжо казаў). Каранацыя Данілы апрача ўзняцця палітычнага аўтарытэту мела на мэце збліжэнне з каталіцкай Еўропай у разліку на дапамогу супраць татар. Даніла даў папярэднюю згоду на унію каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Аднак ні яго абяцанне, ні абяцанне дапамогі з Захаду так і не былі выкананы, таму і акт каранацыі застаўся чыста фармальным.

Паход Курамсы адбыўся ў той час, калі Даніла ў трэці раз спустошыў Навагародскую зямлю. Аднак галіцкі князь, напэўна, ведаў, што рабіў: пакінуты ім заслон у горадзе Крэменцы на поўдні Валыні зрабіў сваю справу. Татары не здолелі ўзяць гэты горад «и возвратишася во страны своя». Тым не менш сітуацыя патрабавала канцэнтрацыі ўсіх сіл. Таму Даніла лёгка згадзіўся на тыя кампрамісныя ўмовы, якія прапанаваў яму старэйшы сын Міндоўга Войшалк, калі з'явіўся на перамовы: Міндоўг застаецца вярхоўным правіцелем Навагародскай зямлі, аднак уладаць ёй будзе на правах яго васала няўдалы шукальнік аўстрыйскага трона Раман Данілавіч. Мір быў замацаваны (каля 1254 года) шлюбам трэцяга Данілавага сына, Шварна, з дачкой Міндоўга.

Летапіс называе ініцыятарам такога пагаднення Войшалка. Верагодна, самому Міндоўгу яно прыйшлося не надта да густу ці Войшалк на перамовах перавысіў свае паўнамоцтвы. Чамусьці ён пасля гэтага не вярнуўся да бацькі, а ахрысціўся і пастрыгся ў манахі. Магчыма, галіцкі князь пакінуў яго ў якасці заложніка, бо і Данілаў сын Раман пад вярхоўнай уладай Міндоўга ад заложніка не вельмі адрозніваўся. Але не выключана, што Войшалк пастрыгся добраахвотна, бо хрысціянства вельмі кранула яго ўражлівую душу — мы звычайна за кожным учынкам шукаем палітычную падаплёку, зусім не пакідаючы месца імпульсіўным парывам.

Так ці інакш, але пагадненне пачало выконвацца абодвума бакамі. У 1254 годзе Даніла зноў збіраецца на яцвягаў з братам Васількам і сынамі Львом і Шварнам. Ён звяртаецца да Рамана, і той прыходзіць з навагародскім палком, а разам з ім два рускія князі — Глеб, цесць Рамана, і Ізяслаў Свіслацкі. Гэты ж Глеб крыху пазней будзе знаходзіцца ў Ваўкавыску. З яго дачкой Раман ажаніўся пасля няўдалага шлюбу з Гертрудай. Цяжка сказаць, ці ў Навагародскай зямлі княжыў ён раней пад уладай Міндоўга, ці недзе паблізу. А ў Ваўкавыск трапіў, магчыма, дзякуючы свайму зяцю. Што ж датычыць Ізяслава Свіслацкага, то яго княства даследчыкі марна шукалі на нёманскай Свіслачы, але там няма слядоў старажытнарускага горада. Амаль несумненна, што яго ўладанне — старажытны горад Свіслач — знаходзілася пры ўпадзенні аднайменнай ракі ў Бярэзіну дняпроўскую. Удзел гэтага не надта слыннага князя ў паходзе на яцвягаў паказвае, што літоўска-валынскі ўплыў сягаў даволі далёка на ўсход.

Азначаны паход (у ім удзельнічалі таксама Зямовіт і атрад Баляслава Сарамлівага) замацаваў адыход часткі яцвяжскай тэрыторыі (будучае паўночнае Падляшша) пад уладу Валынскага княства.

Яцвягаў на чале з іх князем Юндзілам абклалі данінай. Напэўна, не засталіся пакрыўджанымі і мазаўшане — да іх адышла тэрыторыя на поўнач ад Нура, за горадам Візнай.

А затым настаў час яшчэ аднаго смелага прадпрыемства — паходу ў Кіеўскую зямлю, якая трапіла пад уплыў Галіцка-Валынскага княства, але пасля набегу Курамсы зноў адпала. Фактычна то быў паход супраць Арды, за кантроль над часткай яе тэрыторыі.

Гэтым разам Міндоўг паслаў на дапамогу не толькі Рамана з навагародцамі, але і літоўскі атрад на чале з князем Сірвідам Рушкавічам і ваяводам Хвалам. Апошняе паказальна: князі іншых дынастый ужо зведзены Міндоўгам да ўзроўню ваявод, вымушаных служыць яму гэтак жа, як служаць баяры накшталт Хвала. Дарэчы, імя апошняга сведчыць аб яго рускім паходжанні (напэўна, з баяр Навагародчыны), між тым ён — вядомы палкаводзец Міндоўга, які вадзіў літоўскія палкі на Русь («иже велико убиство твореша

земле Черниговской»). Крыху пазней мы ўбачым у Літве збеглага з Разані князя-ізгоя Астафія Канстанцінавіча — ён таксама стане служыць Міндоўгу ваяводам.

Між тым пакуль літоўска-навагародскае войска дабіралася да Кіеўшчыны, там усё было скончана: Даніла выбіў татарскіх намеснікаў (сярод іх выхадца з курска-северскай галіны чарнігаўскіх князёў Ізяслава Уладзіміравіча) з гарадоў па Паўднёвым Бугу і Цецераву. Паспеўшы да разбору шапак, літоўцы засталіся без ваеннай здабычы, дзеля якой, уласна кажучы, і пайшлі ў паход. На зваротным шляху, дачакаўшыся, пакуль Раман паедзе наведаць бацьку, яны кінуліся рабаваць ваколіцы Луцка: трэба меркаваць — каб кампенсаваць сваё спазненне. Так ледзь наладжаная літоўска-валынская згода імгненна ператварылася ў новую бойку. Валынцы хутка дагналі рабаўнікоў і адбілі палон, забіўшы ваяводу Хвала. Гэты інцыдэнт наўрад ці спрыяў паляпшэнню адносін. Ва ўсякім выпадку, наступны набег Курамсы (каля 1257 года) Даніла і Васілька адбіваюць самастойна — пра літоўскую дапамогу няма ўжо ні слова.

Праўда, няўдалы Курамса і гэтым разам нічога не дасягнуў. Разбіты галіцка-валынскім войскам, ён адкаціўся назад у стэпы. Перамогу Данілы і Васількі азмрочыў толькі нечаканы пажар іх лепшай крэпасці Холма, які згарэў «от окаянной бабы» — ад незагашанага своечасова нейкай гаспадыняй агню.

Для Міндоўга дзеянні Курамсы, безвыніковыя для татар, мелі куды больш важкія вынікі — яны адцягнулі ўвагу Данілы і прыпынілі на пэўны час разбуральную вайну за Панямонне. Маладая літоўска-навагародская дзяржава ацалела, хоць і не без вялікіх страт. Галоўнай з іх было вымушанае хрышчэнне Міндоўга. Праўда, гэты акт азначаў далёка не тое самае, што хрышчэнне прусаў і ліваў, ён не прывёў да страты дзяржаўнай незалежнасці Літвы. Аднак Міндоўг як хрысціянскі кароль не меў цяпер маральнага права дапамагаць суседнім паганскім плямёнам, землі якіх дагэтуль з'яўляліся буферам між ім і крыжакамі. Больш таго, яму давялося адмовіцца і ад сюзерэнітэту над Жамойцю і паўднёвай часткай Земгаліі, што ўжо былі ўвайшлі ў склад яго дзяржавы.

У крыжацкім архіве ў Кёнігсбергу захавалася некалькі пагадненняў паміж Міндоўгам і Тэўтонскім ордэнам, у якіх замацоўваецца адыход шэрага жамойцкіх і земгальскіх валасцей пад уладу апошняга. Яшчэ больш дакументаў сфальсіфікавалі крыжакі, каб стварыць прэцэдэнт для пашырэння сваёй экспансіі. Адна з такіх грамат (калі і падробленая, то даволі праўдападобна) змяшчае імёны не толькі Міндоўга, але і набліжаных да яго асоб, што дазваляе нам хаця б часткова ўявіць стан літоўскай дынастыі. Пасля Міндоўга там названы муж яго сястры Лангвінус (напэўна, той самы Лугвень, які ўзначальваў адзін з літоўскіх набегаў на Драгічын), іншыя родзічы: князь Парбусе з якогасьці ўладання Нене (магчыма, скажоная форма назвы «Нярыс» — нейкай воласці на рацэ Віліі), Гердзень з Нальшчан, Веге, Весягайла і малодшы Парбусе, а таксама чацвёра баяр («баронаў») — Лігейка, Схабле, Біец і Буне. Характэрна, што на чале Нальшчанскага княства ўжо стаіць родзіч Міндоўга Гердзень — верагодна, ён заступіў месца знікнулай тамтэйшай дынастыі. У познім радаводзе (XV стагоддзе), увогуле зусім неймаверным, ёсць звесткі пра Гердзеня, сына Давіла і стрыечнага брата Міндоўга. Некаторыя даследчыкі схіляюцца да таго, што Гердзень і сапраўды мог быць сынам князя Даўята (Даўяла) з дагавора 1219 года і блізкім родзічам Міндоўга (праўда, не стрыечным, а траюрадным яго братам). Праўдзівыя звесткі пра яго маглі захавацца таму, што ў Цверы, дзе афармляўся гэты радавод (пазней змешчаны ў Васкрасенскім летапісе), пэўны час быў епіскапам Андрэй — быццам бы ахрышчаны сын Гердзеня. Усе пералічаныя довады вельмі хісткія. Але Гердзень — постаць безумоўна гістарычная, мы яшчэ сустрэнем яго ў далейшых падзеях. Тое ж можна сказаць і пра Лугвеня, які згадваецца не толькі ў Іпацьеўскім летапісе, але і ў ордэнскай «Рыфмаванай хронікі», дзе ён паўстае як адзін з буйнейшых уладароў Літвы, уладальнік дружыны ў 500 чалавек і двара з чэляддзю.

Між тым прусы, ад якіх адракліся і Святаполк Паморскі, і Міндоўг, працягвалі супрацьстаяць Тэўтонскаму ордэну. Галоўным ачагом іх супраціўлення на пачатку 1250-х гадоў зрабілася Самбія — найбольш густанаселеная старажытная пруская

тэрыторыя (заходняя частка сучаснай Калінінградскай вобласці). Зімой 1252/53 года самбійцы нанеслі крыжакам сур'ёзнае паражэнне. Адказам на яго быў маштабны крыжовы паход 1254 года, які ўзначаліў пераможца ў барацьбе з Раманам за спадчыну Бабенбергаў — малады чэшскі кароль Пжэмысл Отакар. На бок захопнікаў перайшоў адзін са знатнейшых прускіх арыстакратаў — Гедуне са старажытнага роду Кандэйм. Ён перадаў Отакару звесткі пра ваенныя сілы самбійцаў. За гэта кароль адправіў яму сцягі, вывесіўшы якія Гедуне мог захаваць уласныя маёнткі ў час уварвання крыжакоў. Але лёс пакараў здрадніка: пасланец са сцягамі спазніўся, і імклівае крыжацкае войска знішчыла двор Гедуне і ўсіх яго родзічаў.

Самбія мусіла скарыцца, на месцы яе крэпасці Тавангеце быў заснаваны магутны замак, у гонар чэшскага караля названы Кралеўцам (Крулеўцам, па-нямецку — Кёнігсбергам). Крыху раней, у 1253 годзе, на поўначы ад вусця Нёмана на землях племені ламатаў, якія «падараваў» тэўтонцам Міндоўг, узнік ордэнскі замак Мемельсберг (сучасная Клайпеда). Экспансія Ордэна з боку Прусіі сутыкнулася з сустрэчным рухам лівонцаў па Курляндыі, балтыйскі бераг амаль цалкам апынуўся пад уладай крыжакоў.

У 1255 годзе плямёны, што захавалі незалежнасць, — скалвы і надровы — разам з яцвягамі пайшлі ў Самбію з намерам пакараць арыстакратаў-адступнікаў і зноў узняць народ на барацьбу. Але крыжакі адбілі ўдар, уварваліся ў адказ у Натангію і разбурылі балцкі культавы цэнтр Ромува, які ў выніку быў перанесены на землі Жамойці, да вусця ракі Дубісы. У рэчышчы гэтых падзей знаходзіўся і падзел Яцвягіі на сферы ўплыву паміж Ордэнам, Мазовіяй і Валынню і заснаванне валынскага апорнага пункта Рая на яцвяжскіх землях, пра якія размова ішла вышэй. Кола варожай аблогі з усіх бакоў набліжалася да межаў Літвы.

Тым часам і ў Ардзе адбыліся змены. У 1256 годзе памёр Бату-хан, якому было ўсяго 48 гадоў. Яго сын Сартак атрымаў у Каракаруме ярлык на бацькоўскі ўлус, але па дарозе з Манголіі нечакана памёр (магчыма, і тут не абышлося без атруты). Новым ханам стаў малодшы брат Бату — Берке. Ён энергічна ўзяўся за справу, пабудаваў для сябе новую сталіцу Сарай-Берке на Ніжняй Волзе і таксама пачаў наводзіць «парадак» на Русі. Арда пераходзіла да метадычнай эксплуатацыі заваяваных зямель. З мэтай устанаўлення пагалоўнага падатку па ўсёй Русі раз'ехаліся татарскія перапісчыкі.

На парадку дня стаяла аднаўленне татарскага кантролю над Галіцка-Валынскім княствам. Але Берке ўлічыў вопыт свайго брата. Ён накіраваў у паўночначарнаморскія стэпы замест Курамсы свайго лепшага палкаводца Бурундая з незлічоным войскам, якое значна перасягала ўсё, што мог супрацьпаставіць Даніла. Адначасова Бурундай меўся нанесці ўдар і па Літве Міндоўга.

Даніла апынуўся перад выбарам. На яго ішоў ужо не Курамса, якога ён ніколі не баяўся. Зараз трэба было ці скарыцца, ці змагацца насмерць, падстаўляючы пад татарскія шаблі ўсё насельніцтва сваёй дзяржавы. І Даніла вырашыў скарыцца. Аднак гэтага аказалася мала: Бурундай запатрабаваў, каб галіцкі князь разам з ім рушыў на Літву, а гэта значыць — і на ўласнага сына. Пасля аднаго цяжкага рашэння належала прыняць другое!

Даніла паспрабаваў ухіліцца, назваўся хворым і паслаў замест сябе брата Васільку. Але гэта нічога, па сутнасці, не мяняла: татарскі паход на Літву ўсё роўна адбыўся і ўсё роўна ў ім удзельнічала валынскае войска. Такім чынам, Міндоўг зноў ператвараўся ў ворага, але ўжо пры зусім іншым палітычным раскладзе. Наступныя падзеі паказалі таксама, што Раман у Навагародку і сапраўды з'яўляўся заложнікам — адразу пасля выступлення Бурундая з Васількам ён быў схоплены літоўцамі і некуды знік. Адначасова і манах Войшалк вяртаецца да палітычнай дзейнасці, а разам з ім і былы саюзнік Таўцівіл парывае з Данілам — менавіта іх летапіс называе галоўнымі віноўнікамі паланення Рамана.

На жаль, скорагаворка летапісу не дазваляе як след разабрацца ў падзеях. Гэты момант — адзін з самых заблытаных. Войшалк, як мы памятаем, хрысціўся ў 1254 годзе і застаўся манахам у манастыры на Валыні. Адтуль ён нават рабіў паломніцтва

ў Іерусалім, але дайшоў толькі да Балгарыі з-за ваенных дзеянняў на Балканах, як паведамляе пазнейшая ўстаўка пра жыццё Войшалка, змешчаная ў Іпацьеўскім летапісе. Устаўка гэтая вельмі нагадвае жыцці святых, прынамсі, яна зроблена па іх узоры і належыць пяру царкоўніка. У ёй гаворыцца, што да хрышчэння Войшалк княжыў у Навагародку і вызначаўся выключнай жорсткасцю, а спазнаўшы Хрыста, стаў зусім іншым чалавекам — рахманым і богалюбівым. Відаць, падобныя словы не варта надта прымаць да веры. Але далей паведамляецца, што праз тры гады жыцця ў манастыры Войшалк з дазволу Данілы пайшоў прапаведаваць у Літву, дзе заснаваў паблізу ад Навагародка так званы Лаўрышаўскі манастыр. Верагодна, гэта ўжо частка гістарычнага падання пра заснаванне манастыра, менавіта ў ім жыццё Войшалка апісана і адсюль трапіла да стваральніка канчатковай рэдакцыі Іпацьеўскага летапісу.

Такім чынам, напярэдадні паходу Бурундая Войшалк знаходзіўся ў манастыры на ўскрайку Навагародскай зямлі. Але чаму менавіта ён захапіў Рамана? Наўрад ці гэта было зроблена ў інтарэсах Міндоўга, бо, паводле той жа ўстаўкі, пасля хрышчэння Войшалк жыў з бацькам у нязгодзе. Прычым разам з ім дзейнічаў Таўцівіл — швагер і былы паплечнік Данілы, люты вораг Міндоўга. Застаецца меркаваць, што Войшалк і Таўцівіл выкарысталі татарскае нашэсце для таго, каб адарваць Навагародскае княства і ад Літвы, і ад Валыні, зрабіць яго самастойным уладаннем. М. Ермаловіч лічыць, што ўладу ў Навагародку атрымаў Войшалк, але пра часовае расстрыжэнне яго паведамляецца пазней, ужо пасля смерці Міндоўга. Да таго часу ён заставаўся манахам. Верагодней, што на ўладу прэтэндаваў Таўцівіл, а Войшалк яму спрыяў.

Між тым войска Бурундая з Валыні ўварвалася ва ўладанні Міндоўга, спусташаючы Літву і Нальшчаны (Іпацьеўскі летапіс датуе гэты паход 1260 годам, па іншых крыніцах ён адбыўся ў 1257 годзе). На жаль, падрабязнасцей ваенных дзеянняў мы не ведаем. Валынскі летапіс паведамляе галоўным чынам пра Васільку, які беспаспяхова шукаў у Літве схопленага пляменніка, Наўгародскі ж абмяжоўваецца адной загадкавай фразай: «Тои же зимы взяша татарове всю землю Литовскую, а самехь избиша» (каго «саміх»? літоўцаў? татар?). Археалогія, са свайго боку, сведчыць, што на шматлікіх паселішчах Беларусі (у тым ліку такіх квітнеючых, як Слуцк і Клецк) з сярэдзіны XIII стагоддзя практычна спыняецца накапленне культурнага слоя — на працягу наступных паўтара стагоддзяў жыццё там ледзь тлее. Магчыма, заняпад пачаўся менавіта з паходу Бурундая.

Бясспрэчна толькі тое, што Бурундаю не ўдалося ажыццявіць сваю галоўную мэту — падпарадкаваць Літву ардынскай уладзе. Магчыма, Міндоўг схаваўся ў лясах і зберог свае асноўныя сілы, а магчыма, «избиша» ўсё ж такі татар. Вельмі ўжо супадаюць некаторыя дэталі падання пра бітву пад Койданавам (сучасны Дзяржынск) з абставінамі паходу Бурундая. Праўда, у паданні гаворыцца, што ўзначальваў татарскую раць Койдан, які там і загінуў (адсюль назва), але ж гэта мог быць і адзін з малодшых ваявод Бурундая. Дарэчы, у іншым варыянце койданаўскага падання выступае «цар Балаклай», хаця праціўнікам яго з'яўляецца не Міндоўг, а міфічны князь Скірмунт.

Пра паражэнне Бурундая ўскосна сведчыць і тое, што «хворы» Даніла раптоўна пачынае вельмі актыўна дзейнічаць у пошуках сына — напэўна, Бурундай яму ўжо не страшны. Галіцкі князь з войскам урываецца ў Панямонне, захоплівае Ваўкавыск, але знаходзіць там толькі Раманавага цесця Глеба. Ні знайсці Рамана, ні захапіць Войшалка і Таўцівіла яму не пашчасціла. Далейшы лёс Рамана застаецца загадкай. У рускіх крыніцах ён больш не з'яўляецца — магчыма, на момант пошукаў яго ўжо не было ў жывых. Праўда, «Велікапольская хроніка» паведамляе, што ў аблозе Сандаміра ў наступным годзе ўдзельнічаў і Раман, але, магчыма, гэта памылка храніста.

Таўцівіл пасля ўцёкаў ад Данілы ў Навагародак больш не вярнуўся. Затое ў хуткім часе мы сустрэнем яго ў якасці полацкага князя. Прычым вельмі верагодна, што ўладкаваўся ён там якраз у 1258 годзе, бо гэтым годам датуецца набег «литвы с полочаны» на Смаленск, у час якога быў спалены замак Воішчына. Праўда, і да Таўцівіла ў Полацку сядзеў літоўскі князь, але той, здаецца, паводзіў сябе больш ціха. Войшалк жа хутчэй за ўсё пазней вярнуўся ў свой манастыр.

Між тым татары, можа, і адступіліся ад Літвы, але Галіцка-Валынскую Русь пакідаць у спакоі не збіраліся. Не прайшло і года, як усё той жа Бурундай зноў з’явіўся на мяжы з новым незлічоным войскам. Гэтым разам ён накіраваўся на землі яшчэ аднаго Данілавага саюзніка, Баляслава Сарамлівага. І зноў галіцка-валынскія князі вымушаны ўдзельнічаць у паходзе, абрываючы ўсю сістэму сваіх былых палітычных сувязяў. Але перад тым іх чакала яшчэ горшае выпрабаванне — пад пагрозай вайны Бурундай загадаў знесці ўмацаванні іх гарадоў.

Гэта быў канец былой магутнасці Галіцка-Валынскага княства. Сваімі рукамі прыйшлося знішчаць тое, што самі ж і будавалі. Але выбар прадвызначыўся яшчэ годам раней, калі Даніла і Васілька першы раз не здолелі даць рады Бурундаю. Зараз жа, сказаўшы «а», даводзілася казаць і «б».

Услед за тым галіцка-валынскае войска далучылася да войска Бурундая, і яны сумесна спустошылі Сандамірскае княства. Горад Сандамір другі раз за васямнаццаць гадоў быў разбураны татарамі, зараз ужо пры ўдзеле рускіх князёў. «Велікапольская хроніка» прыпісвае ім ледзь не галоўную ролю ў падзеях. Быццам, калі аблога зацягнулася, Васілька Раманавіч і яго пляменнікі Данілавічы пачалі перамовы з гараджанамі, пераконваючы тых здацца. Але як толькі бяззбройныя жыхары Сандаміра выйшлі з брамы, «татары накінуліся на іх, як ваўкі на авечак, праліваючы велізарную колькасць крыві бязвінных людзей, так што патокі яе разліліся, сцякаючы ў Віслу, выклікалі яе паводку. І калі яны стаміліся ў сваёй лютасці, астатніх мужоў, як статак свіней, спіхнуўшы ў раку Віслу, патапілі. Маладых жа кабет, прыгожых дзяўчат і хлопцаў увялі з сабой у палон».

Пасля гэтых падзей палітычны прэстыж Галіцка-Валынскага княства быў падарваны канчаткова. Страціўшы гарадскія ўмацаванні, яно засталося безабаронным перад любым ворагам — бяспека яго залежала зараз ад Арды. Да таго ж двухразовы праход шматтысячнай татарскай конніцы ў абодва бакі праз усё княства прынёс ненамнога менш спусташэнняў, чым сапраўдная вайна. Працэс утварэння самастойнай дзяржавы на поўнач ад Карпат спыніўся.

Але з Літвой справы абстаялі інакш. Ні поспехі крыжакоў на берагах Балтыкі, ні грозны набег Бурундая не паменшылі яе жыццяздольнасці. Як сціснутая спружына, чакала яна аслаблення варожага напору, каб выпрастацца. І такі момант настаў у 1260 годзе, калі першая ж спроба тэўтонцаў прыступіць да заваявання Жамойці скончылася для іх катастрофай.

Гэта быў вялізны крыжовы паход, які ўзначальваў шведскі прынц Карл. Апрача рыцараў Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў у паходзе ўдзельнічалі добраахвотнікі з Даніі і Швецыі, а асноўную масу воінаў складалі мабілізаваныя прусы, куршы і эсты. Жамойцкае войска сустрэла іх яшчэ ў межах Курляндыі, ля возера Дурбе. Здарылася так, што ў пачатку бітвы пакрыўджаныя напярэдадні крыжакамі куршы перайшлі на бок жамойтаў, а эсты пакінулі поле бітвы. Жорсткі бой цягнуўся некалькі гадзін і скончыўся поўным паражэннем крыжакоў: загінулі прынц Карл, лівонскі магістр Горнхаўзен, маршалак Тэўтонскага ордэна Боцель, да канца верныя новым гаспадарам прускія князі Матха Памязанскі і Склода Самбійскі, 150 братоў-рыцараў (столькі абодва ордэны дагэтуль не гублялі ніколі).

Вестка пра паражэнне «жалезнабрухіх» крыжакоў абляцела прускія землі. Як іскра, трапіла яна ў грымучую сумесь незадавальнення скораных народаў. У жніўні 1260 года, праз некалькі тыдняў пасля бітвы пры Дурбе, на землях Прусіі ўжо палыхала магутнае паўстанне. У Натангіі яго ўзначаліў прускі арыстакрат Геркус Мантас, у Варміі — Гланне, у Бартыі — Дыване па мянушцы Мядзведзь. Гнеў паўстанцаў быў накіраваны не толькі супраць крыжакоў, але і супраць той часткі арыстакратаў, што верна ім служыла.

Міндоўг толькі таго і чакаў. Ён адразу забыўся на сваё хрышчэнне, на пагадненні з крыжакамі і накіраваў войска на дапамогу паўстанцам. У Жамойці з’явіўся яго намеснік, малады князь Транята, якога крыніцы называюць сынам сястры Міндоўга, напэўна, бацькам быў Лугвень. Сам Міндоўг узнавіў набегі на навакольныя землі. У тым жа годзе яго войска спустошыла Мазовію, захапіўшы нават яе сталіцу Плоцк.

У адказ крыжакі разам з Зямовітам Мазавецкім зімой 1260/61 года арганізавалі карны паход у Літву. Аднак і ён скончыўся іх паражэннем і ўцёкамі. Акрылены Міндоўг, напэўна, пачаў ужо марыць аб тым, каб увогуле скінуць рыцараў у мора. Ён актывізуе дыпламатычную дзейнасць, завязвае зносіны з Аляксандрам Неўскім, Таўцівілам, сынам Данілы Галіцкага Шварнам. У 1261 годзе магутная кааліцыя ў складзе Траняты, сыноў Аляксандра Неўскага, Таўцівіла Полацкага і віцебскага князя Канстанціна (зяця Аляксандра) рушыла ў Лівонію. Аднак з-за несуладнасці дзеянняў літоўскіх і рускіх палкоў выступленне не прывяло да мяркуемых вынікаў.

У наступным 1262 годзе Міндоўг нанёс магутны ўдар па Мазовіі, помсцячы за ўдзел Зямовіта ў крыжовым паходзе. Мазавецкае войска было разбіта, а сам Зямовіт разам са старэйшым сынам Конрадам трапіў у палон. Далей адбылася драматычная падзея. Разам з Міндоўгам у паходзе ўдзельнічаў Шварн. «Велікапольская хроніка» паведамляе, што менавіта ён засек свайго палоннага швагра Зямовіта (праўда, паводле іншых звестак, гэта зрабіў нехта з прыбліжаных мазавецкага князя). Сын апошняга, Конрад, унук Данілы Галіцкага, быў адвезены ў Літву і пазней адпушчаны за выкуп.

Міндоўг дасягнуў, бадай, вяршыні сваёй магутнасці. Яму ішоў ужо сёмы дзясятак, але гады не сагнулі яго магутную постаць. І не на ложку чакала яго смерць. Валынскі летапісец так характарызуе яго ў апошнія гады панавання: «Миндовг самодержечь бысть во всеи земли Литовскои. Бысть князящю ему в земли Литовском и нача избивати братью свои и сыновци свою (пляменнікаў. — *В.Н.*), а другие выгна из земли, и нача княжити один во всеи земле Литовскои, и нача гордети велми, и вознесеся славою и гордостью великою, и не терпяше противу себе никого же». Зразумела, такое самаўладдзе не магло задаволіць іншых князёў і баяр, якія яшчэ добра памяталі часы, калі Даўгерд і Жывінбуд былі толькі першымі сярод роўных. Таму вакол Міндоўга плялася змова. Новае пакаленне князёў рыхтавалася выйсці на пярэдні план.

## Пакаленне другое: Войшалк і Трайдзен (1260—1280-я гады)

Міндоўг быў забіты ў той час, калі выправіў сваё войска ў далёкі паход на бранскага князя Рамана Міхайлавіча (сына Міхаіла Чарнігаўскага), які менавіта тады гуляў вяселле сваёй дачкі Вольгі з сынам Васількі Раманавіча Валынскага Уладзімірам. Напэўна, гэтае палітычнае збліжэнне былых ворагаў, валынскіх і чарнігаўскіх князёў, і прымусіла ўладара Літвы ўмяшацца. Аднак адыход войска спрыяў галоўным змоўшчыкам — Траняце Жамойцкаму і Таўцівілу Полацкаму, якія, верагодна, раптам вярнуліся з паўдарогі і здзейснілі свой намер. Разам з Міндоўгам загінулі і двое яго малодшых сыноў, Рэпік і Рукля.

Увогуле розныя крыніцы акрэсліваюць даволі шырокае кола змоўшчыкаў. Сярод іх называюцца і ваявода Астафій Канстанцінавіч, і нальшчанскія князі Гердзень і Даўмонт; апошняга лічаць непасрэдным забойцам. Вырашальным штуршком да забойства быццам бы паслужыла тое, што Міндоўг пасля смерці сваёй жонкі пажадаў ажаніцца з яе сястрой, якая ўжо была замужам за Даўмонтам, і гвалтоўна адабраў жанчыну ў нальшчанскага князя. Аднак калі гэта і было так, то ўчынак Міндоўга з'явіўся толькі апошняй кропляй, што перапоўніла чашу цярпення літоўскай знаці. Ва ўсякім выпадку, пра пагаршэнне адносін паміж Міндоўгам і Транятам крыжацкая «Рыфмаваная хроніка» паведамляе ўжо ў 1261 годзе. Так ці інакш, але грозны правіцель сышоў са сцэны — прыкладна ў 1263 ці 1264 годзе.

Амаль адначасова з ім смерць спасцігла яшчэ двух вельмі яркіх дзеячаў: Аляксандра Неўскага і Данілу Галіцкага. Смерць Данілы Валынскі летапіс датуе 1264 годам, «Велікапольская хроніка» — 1266. Саракачатырохгадовы Аляксандр па ўзросце быў

равеснікам сыноў Міндоўга і Данілы, але і ён цяжка захварэў у час вяртання з Арды і дадому не даехаў. Існуе меркаванне, што перад ад'ездам ён атрымаў у стаўцы хана Берке атруту (хаця смерць магла наступіць і натуральным чынам).

Далей нашымі асноўнымі дзеючымі асобамі будуць сыны і пляменнікі Міндоўга і Данілы, а ў Паўночна-Усходняй Русі — малодшыя браты Аляксандра. У Літве ж найбольш адметнай постаццю хутка стане князь Трайдзен, які пры жыцці Міндоўга заставаўся недзе зусім на заднім плане. Такім чынам, надышоў час тых, хто нарадзіўся прыкладна ў 1220-я гады і належаў да новага пакалення.

Але давайце яшчэ раз акінем вокам нашу сцэну, каб лепш усвядоміць тыя змены, што адбыліся на ёй за мінулае трыццацігоддзе. У большасці сваёй змены гэтыя — не ў лепшы бок. Нават у прыродзе, здавалася б, усё такой жа магутнай і шчодрай, нешта быццам сапсавалася. Пачынаецца павольны пераход ад даволі цёплай і сухой кліматычнай фазы, якая панавала некалькі папярэдніх стагоддзяў, да больш халоднай і вільготнай. Аднак гэтыя змены стануць прыкметнымі праз пэўны час. Іншыя ж адразу кідаюцца ў вочы. Асабліва датычыць тое тэрыторыі ўрадлівых лесастэпаў, што была некалі сэрцам Рускай дзяржавы, славілася багатымі паселішчамі і тлустымі пашамі. Зараз толькі кудлатыя татарскія коні пасуцца на тых пашах, большасць жа сёлаў і нават гарадоў уяўляе сабой зарослыя травой пажарышчы. Людзі не сталі адраджаць гэты край, так небяспечна адкрыты на поўдзень, падаліся ў лясныя гушчары, дзе ёсць хоць нейкі паратунак ад уварванняў татар.

Некалі вялікія гарады — Кіеў, Пераяслаў, Чарнігаў — пасля разгрому прыйшлі ў заняпад. Ледзь цепліцца там жыццё пад наглядам татарскіх намеснікаў-баскакаў. І былой дзяржавы ўжо фактычна няма — яна ператварылася ў некалькі слаба звязаных між сабой ардынскіх правінцый. Нават мацнейшыя з іх: Уладзіміра-Суздальская, Наўгародская, Галіцка-Валынская землі — не здолелі захаваць незалежнасць, схіліліся перад неадольным ветрам з усходу.

Але і з захаду дзьмуць на балтыйскія пясчаныя косы не менш жорсткія вятры, што напінаюць ветразі нямецкіх караблёў. На іх плывуць сюды новыя ўдзельнікі крыжовых паходаў, новыя ахвотнікі ўліцца ў драпежнае тэўтонскае брацтва. І тут бачым мы гарэлыя бярвенні прускіх умацаванняў, а таксама і разбураныя ордэнскія замкі і двары ахрышчанай знаці — у Прусіі зноў кіпіць вайна.

Бадай што, Польшчы пашанцавала больш. Хоць і тут паўсюдна сляды свежых разбурэнняў (у Сандамірскай зямлі — татарскіх, у Мазовіі і Куявіі — прускіх і літоўскіх), але да такога відовішча не прывыкаць было жыхарам сярэднявечча. У адрозненне ад Русі, палітычная сістэма ў гэтай заходнеславянскай краіне ацалела, некаторыя змены хоць і адбываюцца, але носяць больш мірны характар. Працягвае нарастаць культурны ўплыў Германіі. Упершыню будуюцца гонкія гатычныя касцёлы, якія хутка выцесняць ранейшыя, больш масіўныя — раманскага стылю. Рынкі запаўняе новая манета з чэшскіх сярэбраных руднікоў — пражскі грош, што пачалі адбіваць з 1276 года. Хутка ён распаўсюдзіцца і ў Літве, і ў Заходняй Русі замест былых сярэбраных зліткаў-грыўняў.

Яшчэ адна характэрная рыса новага, занесеная з захаду, — мураваныя ўмацаванні, практыка ўзвядзення якіх пачынае распаўсюджвацца і праз Сілезію, і праз ордэнскія тэрыторыі, дзе будаваць каменныя замкі сталі адразу пасля з'яўлення крыжакоў. Ні на польскіх, ні на рускіх землях раней такіх умацаванняў не ставілі, хоць здаўна ўмелі класці выдатныя мураваныя цэрквы. Крапасныя сцены і вежы традыцыйна былі драўлянымі.

Праўда, і зараз старая тэхналогія пераважае. Але ў ёй з'явілася новая дэталь: у атачэнні сцен з бярвення пачалі будаваць мураваныя вежы («стаўпы»). У 1257 годзе такая вежа ўпамінаецца ў буйнейшым сілезскім горадзе Вроцлаве, пазней яны ўзнікаюць і ў іншых гарадах Сілезіі, а адтуль гэтая традыцыя перакачоўвае на Валынь і ў Панямонне. Дакладныя даты з'яўлення новых умацаванняў у крыніцах прыводзяцца рэдка. Напэўна, мураваныя вежы ўзніклі на Валыні пасля таго, як старыя ўмацаванні гарадоў былі разабраны па загадзе Бурундая.

Мураваныя вежы ўзвышаліся над драўлянымі сценамі Холма, Чартарыйска, Стоўп'я. У 1276 годзе Уладзімір Васількавіч заснаваў на паўночнай мяжы сваіх уладанняў, у Берасцейскай зямлі, горад Камянец, дзе зладжылі такое ж умацаванне. Яно захавалася да нашых дзён і зараз вядома як славутая «Белая вежа». Такія ж былі і ў Берасці, Новагародку, Горадне, Пінску. Іншы раз іх ставілі ўнутры гарадскіх сцен, а часам — звонку, як у Горадне, дзе паводле летапіснага паведамлення 1277 года «каменны стоўп» прыкрываў падыход да гарадской брамы.

Існуе гіпотэза, што пры Міндоўгу ці яго пераемніках такая ж вежа ўзнялася і ў Вільні (сподняя частка вежы на плошчы Гедымінаса). Даказаць гэта цяжка, як цяжка і абвергнуць. Усё ж больш верагодным здаецца, што ў літоўскіх землях такія ўмацаванні з'явіліся пазней.

Як ні дзіўна, але найменш знешніх змен мы ўбачым там, дзе адбываюцца найболей значныя падзеі, дзе ідзе працэс стварэння Літоўскай дзяржавы. У літоўскіх пушчах пакуль што не з'явіліся сапраўдныя гарады (хаця мясцовыя археолагі лічаць гарадскім цэнтрам XIII стагоддзя Вільню), а выгляд вёсак і ўмацаваных баярскіх двароў застаецца ўсё тым жа. І сумежныя рускія княствы працягваюць жыць па-ранейшаму — з'яўленне літоўскіх князёў у Панямонні і Полацку мала што змяніла. Татарскі ўплыў сюды, дзякуй Богу, не дайшоў, а літоўскі адчуваўся і раней. Хіба што знікненне агульнарускага гандлю вымушае купцоў усё больш паглядаць у нямецкі бок, але і гэты працэс пачаўся значна раней, калі яшчэ ў 1204 годзе крыжакі замест Палясціны заваявалі Візантыю — духоўную метраполію Русі, ператварыўшы яе ў «Лацінскую імперыю».

Хто ж будзе дзейнічаць на ўсіх гэтых абшарах у разглядаемы час? У Галіцка-Валынскім княстве пасля смерці Данілы старэйшым князем застаўся яго брат Васілька з адзіным сынам Уладзімірам — тым самым, чыё вяселле ў Бранску імкнуўся папсаваць Міндоўг. У Данілы пасля смерці Рамана заставалася трое сыноў: Леў, Шварн — зяць Міндоўга і Мсціслаў. Пасля смерці Данілы адбылося пераразмеркаванне ўладанняў: Васілька да сваіх Берасця і Кобрына ўзяў Уладзімір-Валынскі, а свой Луцк аддаў Мсціславу Данілавічу. Леў і Шварн падзялілі астатнюю частку бацькоўскіх уладанняў, прычым Галіч з Холмам і Белзам дастаўся Шварну, а Леў атрымаў толькі Перамышль і Львоў, які бацька заснаваў у яго гонар.

Новым цэнтрам Чарнігаўскай зямлі зрабіўся надзейна схаваны ў лясах Бранск. Менавіта там пачаў княжыць сын Міхаіла Чарнігаўскага Раман з сынамі Міхаілам і Алегам. Пра астатніх чарнігаўскіх князёў амаль нічога не вядома. Ёсць звесткі, што малодшыя сыны Міхаіла Чарнігаўскага атрымалі ўдзелы ў Глухаве і аддаленых гарадах былой зямлі вяцічаў — Казельску і Тарусе. Пазней там, у вярхоўях Акі, утворацца самастойныя княствы. З курскай галіны ў гэты час вядомыя князі Алег Рыльскі і Святаслаў Ліпецкі з братам Аляксандрам.

У Тураўскай зямлі працягваюць існаваць тры дробныя дынастыі: тураўская, пінская і, напэўна, дубровіцка-сцепаньская. Тураўскіх князёў летапіс згадвае толькі раз у 1274 годзе, не называючы іх імёнаў. Пінскія князі ў палітычных падзеях адыгрывалі больш істотную ролю. Гэта былі Фёдар, Дзямід і Юрый Уладзіміравічы — напэўна, малодшыя браты таго Расціслава Уладзіміравіча, што ў 1240 годзе хаваўся ад татар, і пляменнікі пінскага князя 1240-х гадоў Міхаіла. З апошняй галіны вядома толькі пра Івана Глебавіча Сцепаньскага, які памёр у 1292 годзе адначасова з Юрыем Пінскім.

Пра тэрыторыю далей на поўнач — практычна поўнае маўчанне крыніц. Мясцовыя дынастыі ў гарадах Панямоння, калі яны і існавалі дагэтуль, цяпер абрываюцца канчаткова. Апошні іх прадстаўнік — Васілька Слонімскі ў канцы разглядаемага перыяду выступае як служылы князь Уладзіміра Васількавіча Валынскага. Можна меркаваць, што па-ранейшаму ёсць князі ў Друцку і Свіслачы. Праўда, уласны радавод князёў Друцкіх, які быў складзены не раней канца XV стагоддзя, чамусьці лічыць родапачынальнікам невядомага па іншых крыніцах Рамана, быццам бы сына Аляксандра Белзскага, аднак захаванне мясцовай дынастыі Рагвалодавічаў уяўляецца больш верагодным. Пра іншыя гарады: Слуцк, Клецк, Менск, Заслаўе, Лагойск, Лукомль — можна толькі гадаць.

Полацка-віцебская дынастыя, напэўна, таксама згасла, бо інакш цяжка растлумачыць паслядоўнае панаванне ў Полацку літоўскіх князёў. Праўда, яшчэ ў адной грамаце часоў Войшалка ўпамянуты і полацкі князь Ізяслаў (магчыма, які раней правіў у Свіслачы, але ў тых умовах яго паходжанне магло быць самым нечаканым). Што ж датычыць зяця Аляксандра Неўскага — Канстанціна, які ў 1262 годзе быццам бы з'яўляўся віцебскім князем, часова займаў полацкі пасад у 1264, а ў 1280-я гады, магчыма, выступаў як полацкі князь Канстанцін Бязрукі ў «Настаўленні» цвярскога епіскапа Сямёна, то пра яго паходжанне таксама выказваліся розныя думкі. Яго лічылі і сынам смаленскага князя Расціслава Мсціславіча, і нават ахрышчаным сынам Таўцівіла, і нашчадкам мясцовых віцебскіх князёў. Выбраць упэўнена якую-небудзь з гэтых версій немагчыма з-за недахопу звестак.

Смаленскія князі на старонкі летапісаў у гэты час таксама трапляюць не вельмі часта. У 1267 годзе згадваецца Канстанцін (ці не той самы зяць Аляксандра Неўскага?), у 1270—1277 гадах у Смаленску пануе Глеб Расціславіч, у 1277—1279 гадах — Міхаіл (ці то брат Глеба, ці то сын Канстанціна). Мажайскім удзелам валодае Фёдар Расціславіч Чорны, які ў 1280 годзе займае Смаленск, але пляменнікі (сыны памерлага ў 1277 годзе Глеба) хутка выганяюць яго адтуль. Існуе ўдзел і ў Вязьме, ім валодае невядомы з імя і паходжання князь (бацька пазнейшага Андрэя Вяземскага-Дарагабужскага).

Вялікае княжанне ўладзімірскае пасля смерці Аляксандра Неўскага паслядоўна займаюць яго браты: Яраслаў Цвярскі і Васіль Кастрамскі. Паездкі ў Арду не спрыяюць іх даўгалеццю, і ўжо з канца 1270-х гадоў вяршэнства пераходзіць да маладых сыноў Аляксандра: Дзмітрыя, Андрэя і Данілы (старэйшы сын Васіль, былы князь Наўгародскі, памёр зусім маладым у 1271 годзе). Яшчэ адзін брат Аляксандра — няўдалы вялікі князь Андрэй памёр амаль адразу пасля Аляксандра ў 1264 годзе. Ён пакінуў непаўналетніх сыноў, да якіх перайшоў яго Суздальскі ўдзел. Ва Уладзіміра-Суздальскай зямлі ўтварыліся і іншыя дынастыі (растоўская, белазёрская, яраслаўская, старадубская), якія, аднак, на ход падзей, што нас цікавяць, практычна не будуць уплываць.

Гэты працэс здрабнення княжацкіх вотчын працаваў не на карысць Русі. Парадзелае насельніцтва, разбураныя гандлёвыя сувязі ўжо не патрабавалі развіцця самастойнай мясцовай улады. Наадварот, палітычныя ўмовы вымагалі моцнага адзінага кіраўніцтва, якое б наладзіла супрацьдзеянне захопнікам. Аднак не было каму спыніць драбленне абезгалоўленай дзяржавы, і гэты працэс працягваўся стыхійна, па інерцыі, прычым татарскія ханы актыўна яго падтрымлівалі.

І ў Літве ўлада, створаная Міндоўгам, з'яўлялася вярхоўнай, але не зусім аднаасобнай. Хоць валадар і пазбавіўся ад многіх сваіх родзічаў і прадстаўнікоў іншых дынастый, але ж нямала іх яшчэ і заставалася. Ацалеў пляменнік Таўцівіл, што княжыў у суседнім Полацку. Жамойць належала Траняце, які пасля ажыццяўлення змовы заняў і пасад вялікага князя. Прынамсі, адно з ранейшых малых княжанняў — Нальшчанская зямля — таксама захавалася як паўсамастойнае ўтварэнне. Сярод яе ўладальнікаў вядомыя Гердзень і Даўмонт, родныя адносіны якіх вызначыць цяжка. У адной з крыніц жонка Гердзеня называецца цёткай Даўмонта. Магчыма, тэрмін ужыты ў тым сэнсе, як і зараз пляменнік часам называе жонку свайго дзядзькі «цёцяй». У такім выпадку можна было б лічыць Даўмонта сынам брата Гердзеня, што тлумачыла б іх сумеснае валоданне Нальшчанамі. Магчыма, аднак, і іншае тлумачэнне: абодва яны ўладкаваліся там як нашчадкі згаслай мясцовай дынастыі па жаночай лініі («па кудзелі»).

Сярод іншых дынастый магчыма існаванне кагосьці са шматлікіх Рушкавічаў. Да якойсьці асобнай генеалагічнай лініі належаў і будучы вялікі князь Трайдзен з чатырма братамі, трое з якіх на працягу 1260-х гадоў загінулі ў войнах з валынскім князем Васількам. Іпацьеўскі летапіс называе іх імёны: Борза, Лесій, Свелкеній і Сірпуцій. Пра магчымае паходжанне гэтага роду размова пойдзе ніжэй.

Для Русі дадзены перыяд быў ледзь не самым змрочным за ўсю яе гісторыю. Ваеннае супраціўленне татарам зломлена (апошняй спробай з'явілася паўстанне ў

Суздалі і іншых залескіх гарадах у 1262 годзе), каб на працягу амаль двух пакаленняў больш не ўзнаўляцца. Той жах, які вёў татарскіх воінаў да перамог, зараз разліўся па заваяваных імі землях, паралізуючы волю скораных народаў. Усе найбольш мужныя і гордыя ўзняліся першымі і загінулі ці зніклі назаўсёды ў натоўпах палонных, якія праглынула стэпавая бясконцасць. Водгукі гэтай страшэннай негатыўнай селекцыі яшчэ доўга будуць праяўляцца ў рускай гісторыі. Гарады і вёскі прыцісну ў цяжкі падатковы прэс, які абмяжоўваўся толькі клопатам татарскіх ханаў аб тым, каб увогуле не высмактаць апошнія сокі з новых даннікаў, не пазбавіцца такім чынам крыніцы абагачэння.

Нават ацалелыя гарады і храмы прыходзілі ў заняпад. Сіл ставала толькі на тое, каб забяспечыць своечасовую ўплату даніны, не давесці да новага карнага пагрому. Зніклі школы дойлідаў і багамазаў, у большасці княстваў абарвалася летапісанне. Летапісы ў гэты час вяліся толькі ў Ноўгарадзе і Пскове, дзе-нідзе ў Залескай Русі ды на Валыні (але і Валынскі летапіс — адна з асноўных нашых крыніц — абарвецца ў 1292 годзе).

Залатая Арда, як вялізны клешч, прысмакталася да захопленых зямель. У ёй да 1266 года пануе хан Берке, а пасля яго смерці — Менгу-Цімур, які быў ці то малодшым братам, ці то пляменнікам Берке. Пры ім пачала ўзыходзіць зорка цемніка Нагая, які, магчыма, не належаў да нашчадкаў Джучы, але энергіяй і здольнасцямі перасягаў іх. Ён атрымаў у намесніцтва прычарнаморскія стэпы між Дунаем і Дняпром і змяніў Бурундая на пасадзе «куратара» паўднёварускіх спраў. Магутнасць яго параўноўвалася з магутнасцю хана. Нагай самастойна наладзіў знешнепалітычныя зносіны з адноўленай у 1260 годзе Візантыйскай імперыяй, умешваўся ў заходнееўрапейскія справы. Яго блізкая стаўка была для Русі куды больш небяспечнай, чым далёкая ханская рэзідэнцыя Сарай-Берке.

Але давайце вернемся ў Літву, якую мы пакінулі ў момант забойства Міндоўга. Адразу ж пасля перавароту адносіны паміж галоўнымі змоўшчыкамі абвастрыліся. Транята і Таўцівіл не давяралі адзін аднаму, абодва імкнуліся да аднаасобнай улады. Таўцівіл, аднак, не карыстаўся чамусьці і поўнай падтрымкай полацкага баярства. Адзін з яго набліжаных падчас перамоў з Транятам выдаў апошняму намеры Таўцівіла. У выніку полацкі князь быў забіты (у 1264 годзе), а затым Транята патрабаваў ад палачан прыняць князем яго стаўленіка і выдаць юнага сына Таўцівіла, які заставаўся ў Полацку. Першую ўмову палачане выканалі, другую — не. Яны дазволілі сыну Таўцівіла збегчы ў Ноўгарад. Далейшы яго лёс невядомы. У Полацку ж на вельмі кароткі тэрмін з'явіўся князь Канстанцін (напэўна, той, што раней княжыў у Віцебску). У тым жа 1264 годзе яго змяняе Гердзень.

Між тым старэйшы сын Міндоўга Войшалк пасля забойства бацькі ўцёк у Пінск (напэўна, з Лаўрышаўскага манастыра). Аднак гэты ціхмяны манах яшчэ раз праяўляе сябе актыўным палітыкам. Нечакана Транята гіне на ўласным двары па дарозе ў лазню ад рук сваіх слуг. У святле наступных падзей можна меркаваць, што без Войшалка тут не абышлося. Пінскія князі даюць яму дружыну, і з ёю Войшалк уваходзіць у Новагародак і абвяшчае сябе яго князем. Ён звяртаецца па дапамогу да галіцка-валынскіх князёў і атрымлівае яе ад свайго швагра Шварна Данілавіча. Даволі хутка яму ўдаецца ўладкавацца і ў астатніх бацькоўскіх уладаннях.

Васілька і Шварн з братамі актыўна падтрымалі Войшалка, праруская арыентацыя якога не выклікае сумненняў. Магчыма, яго рукамі яны намерваліся правесці хрышчэнне Літвы. Ва ўсякім выпадку, з'явіўся вельмі зручны момант для распаўсюджання валынскага ўплыву не толькі на Новагародскую зямлю, але і далей на поўнач, на ўласна літоўскія землі.

Цяжка сказаць, наколькі самастойна дзейнічаў Войшалк і ці не з'яўляўся ён палітычнай марыянеткай. Прынамсі, увесь час яго панавання ў Літве побач з ім стаіць постаць Шварна Данілавіча. З яго дапамогай Войшалк пачынае помсціць прыхільнікам змовы, што аб'ектыўна выліваецца ў знішчэнне рэштак былых паўсамастойных княстваў. Галіцка-новагародскае войска ўрываецца ў Дзевалтву і Нальшчаны, знішчае замкі тамтэйшых арыстакратаў. Даўмонт уцякае ў Пскоў, дзе

гараджане прымаюць яго на княжанне. Там яму пад хрысціянскім імем Цімафей давядзецца княжыць вельмі доўга, аж да сваёй смерці ў 1299 годзе.

Што ж датычыць Гердзеня, то ён быццам бы перайшоў на бок Войшалка, бо пэўны час застаецца князем Полацка і Нальшчан. Ад яго імя заключана пагадненне Полацка з Рыгай у 1264 годзе, а праз два гады Даўмонт з Пскова змагаецца з ім за сваю вотчыну ў Нальшчанскай зямлі. У гэтай барацьбе Гердзень, відаць, гіне, і ў 1267 годзе мы сустракаем у новым пагадненні з Рыгай ужо імя Ізяслава Полацкага — сатэліта Войшалка і Шварна. (У гэтай грамаце, напісанай ад імя Ізяслава, ёсць загадкавая фраза: «а Изяслав со мной одно», якая быццам бы сведчыць пра існаванне яшчэ аднаго Ізяслава. Не выключана, аднак, што гэтая фраза ўстаўлена ад імя Войшалка, які ўпамінаецца ў тэксце вышэй як «Моишелг». Двухсэнсоўнасць з'явілася вынікам памылкі пісара.) Даўмонт жа так і не здолеў вярнуць сабе ўладу ў Нальшчанах.

Такім чынам, усобіца ў Літоўскай дзяржаве была ліквідавана. Літва выйшла з яе нават больш адзінай, чым раней, але за кошт падпарадкавання Галіцка-Валынскаму княству. Войшалк прызнаў сябе васалам Васількі Раманавіча («нарекл бо бяшет Василька отца собе и господина»). Сумесна са Шварнам ён удзельнічаў у паходзе на Баляслава Мазавецкага, які, верагодна, быў выкліканы канфліктам з-за захопленых раней яцвяжскіх тэрыторый. Ва ўсякім разе, рэакцыя Баляслава паказвае, што галоўную ролю ў паходзе адыгрываў менавіта Шварн — ён атрымаў ад паляка папрок: «Я на Литву не жалую, оже мя воевали немирникъ мои, а воевал мя тако и гораздо (яшчэ мацней. — *В.Н.*), то на тя жалую». Малады мазавецкі князь (нагадаю — сын Зямовіта, загінуўшага раней падчас такога ж сумеснага паходу Міндоўга і Шварна) у адказ спустошыў галіцкія ўладанні Шварна. Пазней нарэшце між імі было дасягнута замірэнне.

Хутка пасля гэтых падзей Войшалк раптам зноў згубіў цікавасць да палітычных спраў і пажадаў аднавіць сваё манаства — ці то ў выніку нейкіх палітычных інтрыг, ці то сапраўды з мэтай пакаяння за пралітую кроў. Ад улады над Літвой ён адмовіўся на карысць Шварна, жанатага з яго сястрой, а сам пайшоў ва Угроўскі манастыр на Падляшшы. Гэта азначала, па сутнасці, прамое падпарадкаванне Галіча і Літвы адзінай уладзе — дынастычную унію. Для Шварна гэта быў значны поспех, але ён выклікаў навокал шмат незадавальнення. Пакрыўджаным адчуў сябе старэйшы брат Шварна Леў, які відавочна адсоўваўся энергічным Шварнам некуды на задні план. Аднак гнеў яго выліўся не на Шварна, а на Войшалка, які і быў засечаны Львом уласнаручна пасля «сяброўскай» размовы на піры, куды Леў сам жа яго і запрасіў.

У Літве Шварн меў, несумненна, пэўную падтрымку, хаця б ужо з-за аднаго свайго сваяцтва з загінуўшай дынастыяй Міндоўга. Калі б у яго нарадзіўся сын, ён паводле родавых звычаяў лічыўся б законным нашчадкам Міндоўга «па кудзелі». Аднак Шварн, відаць, не пакінуў дзяцей. З другога боку, яго ўзвышэнне не магло не выклікаць моцнага незадавальнення літоўскай знаці, для якой падпарадкаванне чужому князю было абразай. Магчыма, менавіта мясцовыя баяры паспрыялі таму, што панаванне Шварна не зацягнулася: «Шварнови в Литовскои земле княжив лет немного, и тако преставися». Гэта адбылося прыкладна ў 1270 годзе — праз два-тры гады пасля смерці Войшалка.

Галіцка-валынскія ўладанні Шварна адышлі да яго брата Льва, а ў Літве ўзяла верх антыгаліцкая партыя, якая абрала вялікім князем Трайдзена — старога ворага Васількі Раманавіча (што, дарэчы, памёр прыкладна ў гэты ж час). Пры жыцці Міндоўга і Войшалка Трайдзен у крыніцах не ўпамінаецца (пра яго варожасць з Васількам летапісец паведамляе ўжо потым, заднім чыслом). Якое месца ў палітычным раскладзе Літвы ён займаў раней, сказаць цяжка. Ёсць нават падставы сцвярджаць, што Трайдзен увогуле быў не літоўскім, а яцвяжскім князем — уладаром княства Дайнава, якое змяшчалася на поўнач ад Горадна абапал Нёмана. Прыкладна з часу Трайдзена дайнаўскія землі робяцца часткай Літоўскай дзяржавы — гэта лёгка тлумачылася б тым, што князь Дайнавы, стаўшы вярхоўным князем Літвы, зліў сваю вотчыну з уладаннямі папярэдняй дынастыі.

Беларуска-літоўскія летапісы ведаюць князя Трайдзена, уладара Дайнавы і пазней вялікага князя літоўскага. Праўда, Трайдзен у гэтых летапісах XV—XVI стагоддзяў уключаны ў агульны радавод літоўскіх князёў — нашчадкаў міфічнага Палямона. Там ён выступае не як старэйшы, а як малодшы з братоў, і тыя летапісныя браты не маюць нічога агульнага з яго сапраўднымі родзічамі, што загінулі ў войнах з Васількам. Але нельга выключыць, што паведамленне пра сувязь Трайдзена з Дайнавой — адлюстраванне сапраўднага стану рэчаў. Прынамсі, характарыстыку Трайдзена, дзе ён параўноўваецца з Неронам і Ірадам, ствааральнік радаводу ўзяў з дабраякаснай крыніцы — Іпацьеўскага летапісу.

З'яўленне дайнаўскога князя на літоўскім пасадзе можна тлумачыць дзвюма акалічнасцямі. З аднаго боку, ад старой дынастыі за час крывавых міжусобіц амаль нічога не засталося — хіба што Даўмонт-Цімафей, які трывала асталяваўся ў Пскове, ды, магчыма, сын Гердзеня, што пазней стане цвярскім епіскапам. Абодва яны звязалі свой лёс з Руссю, таму літоўскія праціўнікі Шварна не маглі разлічваць на іх у справе аднаўлення паганскай старыны. Пра нашчадкаў Булевічаў і Рушкавічаў таксама больш не чуваць. Можа, і яны сталі ахвярамі таго тэрору, які ўчынілі Войшалк і Шварн.

З другога боку, у Яцвягіі князёў было шмат, хаця поўнага пераліку іх мы і не маем. Крыніцы ведаюць князёў Скамонта і Борута, якія загінулі ў бітве з Васількам Валынскім у сярэдзіне XIII стагоддзя, пазней — другога Скамонта (напэўна, князя Судавы), які вызначыўся ў барацьбе з тэўтонцамі. У 1273 годзе мір з Валынню падпісваюць князі Мінтэле, Шурпа, Мудзейка і Песціла. Аднак тэрыторыя іх імкліва сціскаецца крыжакамі з захаду, мазаўшанамі і валынцамі з поўдня. Для ўладальніка самага ўсходняга з яцвяжскіх княстваў, Дайнавы, вельмі прадбачліва было б не чакаць, пакуль варожая хваля дасягне яго землі, а загадзя шукаць паратунку ў зліцці з суседняй, адносна маналітнай Літвой, дзе, на шчасце, якраз выявіўся недахоп князёў.

Узыходжанне на трон Трайдзена азначала адраджэнне ўсіх паганскіх культаў, магчыма — новую «чыстку», гэтым разам — прыхільнікаў прагаліцкай партыі. Для Галіцка-Валынскага княства падзея была вельмі непажаданай, аб чым сведчыць абурэнне мясцовага летапісца: «Нача княжити в Литве окаянный и беззаконный, проклятый, немилостивый Троиден. Его же беззакония не могохом писати срама ради: так бо бяшет беззаконный, яко и Антиох Сурьскнй, Ирод Ерусалимский и Нерон Римский. И ина много злейша того беззаконья чиняше».

І вось тут настаў рашучы момант для рускай часткі Літоўскага княства — Навагародскай зямлі. Усё, што было раней — запрашэнне ў князі Міндоўга, потым княжанне Рамана, верагодная спроба Таўцівіла аднавіць самастойнае Навагародскае княства, потым зноў Міндоўг, Войшалк, Шварн — усё няўстойлівае, часовае, дапускала розныя варыянты наступных падзей. Зараз трэба канчаткова вырашаць, з кім звязаць свой далейшы лёс — з незалежнай Літвой, іншаэтнічнай і варожай да хрысціянства, ці з Валынню, роднаснай і праваслаўнай, але падуладнай татарам. Іншых варыянтаў не мелася, бо іншых палітычных цэнтраў побач не засталося, а самастойнае існаванне, якое працягвала суседняя Полаччына, у абцугах паміж Валынню і Літвой здавалася немагчымым.

Наступны ход падзей паказвае, што насельніцтва Навагародчыны пацвердзіла свой ранейшы выбар на карысць паўночнага суседа. Ніколі б не здолеў Трайдзен утрымаць за сабой гарады Панямоння пад сумесным націскам Валыні і татар, калі б мясцовыя жыхары не хацелі таго. Паход Бурундая, а таксама сумны лёс Галіцка-Валынскай зямлі і іншых падпарадкаваных Ардзе рускіх княстваў, відаць, яскрава паказалі навагародцам, што з поўдня нічога добрага чакаць не прыходзіцца.

Татары ў 1277 годзе прымусілі князёў з Растова, Белавозера, Яраслаўля ісці з імі ў паход ажно на Паўночны Каўказ, у 1280 годзе галіцка-валынскія князі зноў удзельнічалі ў разгроме Сандамірскай зямлі, а праз два гады — хадзілі праз Карпаты ў Венгрыю. У 1280 годзе памерлага Менгу-Цімура змяніў яго малодшы брат Туда-Менгу, пры якім яшчэ больш узмацніўся ўплыў Нагая. Военачальнік актыўна

ўмешваўся ў справы еўрапейскіх краін, і амаль ва ўсіх яго ваенных авантурах даводзілася ўдзельнічаць апалчэнцам з Галіччыны і Валыні. Для рускіх зямель гэтыя паходы часам бывалі не менш цяжкім выпрабаваннем, чым варожыя ўварванні. Так, у 1283 годзе сын Менгу-Цімура Талабуге зноў сабраўся з Нагаем на Сандамір і Кракаў, але перад тым яго войска два тыдні «карміласся» на Валыні, разрабавала яе ўшчэнт і да таго ж занесла пошасць. Князь Леў падлічыў пасля страты і даведаўся, што загінула каля 25 тысяч жыхароў.

Тыя ж гарады, што прызналі ўладу Літвы, былі пазбаўлены ўсяго гэтага датуль, пакуль спробы татар скарыць Літоўскую дзяржаву не давалі вынікаў. І таму побач з літоўцамі навагародцы секліся на межах свайго княства з татарамі і валынцамі, да апошняга стаялі на сценах гарадоў пры аблогах, хаваліся ў літоўскія пушчы пры перавазе непрыяцеля і вярталіся зноў на сваю зямлю пасля адыходу ворага.

Перад намі якраз той момант, калі рашучы гістарычны паварот прайшоў міма ўвагі сучаснікаў. Ніводная крыніца не паведамляе пра ролю мясцовага насельніцтва Панямоння ў падзеях, толькі ў народнай памяці, у фальклоры засталіся згадкі пра шэраг бітваў з татарамі на вонкавай мяжы Новагародчыны, у раёне Койданава, Магільна, Узды, Целяханаў. Пазней мы ўбачым, з якімі гістарычнымі падзеямі можна звязаць гэтыя паданні (дарэчы, пра Койданаўскую бітву ўжо гаварылася).

Замацаванне панямонскіх гарадоў у складзе Літоўскай дзяржавы азначала пачатак непарыўнага сімбіёзу, у якім адзін бок не мог абысціся без другога. Толькі з дапамогай літоўцаў Новагародчына магла захаваць незалежнасць ад татар, іх жорсткага падаткавага прыгнёту і неабходнасці пасылаць сваіх сыноў у іх войска. З усіх рускіх зямель толькі тыя, што прынялі ўладу літоўскіх князёў, не зведалі цяжкай рукі ардынскіх ханаў. Але і Літва толькі з дапамогай заходнярускіх дружын здолела выстаяць у смяротнай барацьбе на два фронты — супраць татар і крыжакоў. І невыпадкова, што толькі тыя з балцкіх народаў, хто пайшоў на саюз з Руссю, не зніклі пад пятой тэўтонцаў, як прусы і яцвягі, не правялі некалькі стагоддзяў пад уладай лівонцаў, як продкі латышоў, а ўтварылі слаўную і магутную дзяржаву.

Таму вельмі спрошчанымі выглядаюць дзве супрацьлеглыя канцэпцыі, паводле якіх ці то Літва заваявала пасіўную і бездапаможную Русь, ці то Новагародак падпарадкаваў і прывёў да святла дзяржаўнасці такую ж пасіўную Літву. Гісторыя дае нам прыклад сапраўднага пабрацімства двух розных па паходжанні, такіх непадобных адзін на аднаго народаў, якія ў крытычны момант здолелі аб'яднацца дзеля агульнай карысці. Канешне, іх ролі ў гэтым саюзе былі неаднолькавымі. Літва бясспрэчна дамінавала ў палітычным сэнсе, і гэтак жа бясспрэчным было дамінаванне Русі ў культурнай сферы. Літва дала новай дзяржаве пануючую дынастыю і значную частку пазнейшага шляхецкага саслоўя. Русь дала структуру нізавога дзяржаўнага і адміністрацыйнага апарату, законы, дзяржаўную мову.

З гэтага часу набывае сэнс назва «Вялікае Княства Літоўскае і Рускае», якая ўвойдзе ва ўжытак праз некалькі дзесяцігоддзяў у часы Гедыміна (магчыма, ужо пры Віценю). З гэтага часу тэрмін «Літва» ў палітычным сэнсе пачынае адносіцца да Новагародчыны і хутка так зрасцецца з ёю, што праз стагоддзі мясцовае насельніцтва будзе зваць сябе «ліцвінамі» (у супрацьпастаўленне суседнім палешукам), а Адам Міцкевіч напіша славутае: «Радзіма, Літва! Як здароўе, так ты дарагая», — маючы на ўвазе свае родныя мясціны пад Навагрудкам. Зразумела, сучаснікі добра ўяўлялі, што ў складзе палітычнай Літвы знаходзіцца і частка этнічнай Русі. Але і яны выкарыстоўвалі, і часам мы ўслед за імі будзем ужываць скарочаную назву «Літва» для ўсёй двухэтнічнай дзяржавы.

Але давайце звернемся да палітычных перыпетый часу панавання Трайдзена. Выслізнуўшы з рук галіцка-валынскіх князёў, Літва адразу ж узнавіла актыўную палітыку на захадзе супраць крыжакоў. А там за час усобіц, што распачаліся пасля забойства Міндоўга, падзеі зноў набываюць трывожны характар. Вялікае прускае паўстанне згасала. Апошняй буйной перамогай паўстанцаў стала бітва пад Любавай, выйграная Геркусам Мантасам вясной 1263 года. Праз два гады на дапа-

могу Тэўтонскаму ордэну, які к таму часу захоўваў кантроль толькі над найбольш умацаванымі замкамі, прыбыло вялікае войска з Германіі. Супраць прусаў быў абвешчаны новы крыжовы паход.

У паходзе ўдзельнічаў усё той жа заснавальнік Кралеўца Пжэмысл Отакар, а таксама маркграфы Цюрынгіі і Брандэнбурга. Перавага пачала схіляцца на бок крыжакоў. У час зімовага паходу 1267/68 года Отакар зноў дамогся скарэння ўжо заваяванай ім трынаццаць гадоў назад Самбіі. Вармія, Натангія і Бартыя яшчэ трымаліся да 1273 года.

І Лівонскі ордэн імкнуўся пашырыць свае межы, прычым не толькі за кошт суседніх паганцаў, земгалаў і жамойтаў, але і за кошт зямель Вялікага Ноўгарада. У 1269 годзе крыжакі зноў спрабуюць захапіць Пскоў, але сустракаюцца з эфектыўным адпорам Даўмонта. І тут жа з Літвы прадпрымаецца вялікі зімовы набег па лёдзе Балтыйскага мора ажно да вострава Саарэмаа (Эзеля). На зваротным шляху літоўцаў спрабуе перахапіць аб’яднанае лівонска-дацкае войска, але ў лютым 1270 года яно церпіць жорсткае паражэнне на лёдзе бліз Карузэ (Заходняя Эстонія).

Выкліканы абраннем Трайдзена канфлікт з Галіцка-Валынскім княствам на доўгі час ставіць Літву ва ўмовы барацьбы на два фронты. Праўда, спачатку Трайдзен варагуе толькі з Уладзімірам Васількавічам Валынскім і захоўвае мірныя дачыненні з братам Шварна Львом Галіцкім. Аднак хутка і гэтыя адносіны псуюцца. Пра канчатковы разрыў сведчыць захоп Трайдзенам падляшскага горада Драгічына, што належаў Льву.

Гэты канфлікт вырашае выкарыстаць золатаардынскі хан Менгу-Цімур, да якога звярнуўся па дапамогу Леў. Для хана з’яўляецца магчымасць зрабіць тое, што недарабіў Бурундай — распаўсюдзіць свой уплыў на далёкую Літву. І вось Менгу-Цімур наладжвае велізарны паход супраць Літвы. З татарскім палкаводцам Ягурчынам рушылі галіцка-валынскія, турава-пінскія князі, Раман Бранскі з сынам Алегам, Глеб Смаленскі — «тогда бо бяху вси князи в воли в татарской», канстатуе летапісец. Паводле Іпацьеўскага летапісу, гэты паход адбыўся ў 1275 годзе (магчыма, на самай справе крыху раней).

Дзеянні Льва Данілавіча сведчаць, што ён імкнуўся выкарыстаць татарскую сілу ў першую чаргу для захопу ўсё таго ж Навагародскага княства. Таму, не чакаючы астатніх удзельнікаў паходу, ён вядзе татар на Навагародак і захоплівае акольны горад. Гэта выклікае сварку сярод князёў і, па сутнасці, зрывае далейшы рух на Літву. Магчыма, аднак, што зрыву садзейнічала і ваеннае паражэнне ад літоўцаў. Летапіс пра яго маўчыць (і не дзіва, бо галоўныя падзеі былі звязаны з валынскімі князямі), аднак як дэталі паданняў пра Койданаўскую бітву дазваляюць суаднесці яе з паходам Бурундая, так і дэталі падання пра бітву пад Магільнам наводзяць на думку, што яна сапраўды магла мець месца ў час паходу Ягурчына. Праўда, амаль усе імёны герояў легенды не адпавядаюць рэчаіснасці (апрача Льва), аднак асноўная фабула зводзіцца да паражэння руска-татарскай кааліцыі ад войскаў вялікага князя літоўскага. Маштаб паражэння, хутчэй за ўсё, перабольшаны, аднак практычную безвыніковасць паходу 1275 года, якую не хавае і летапісец, яно можа растлумачыць.

Літоўская дзяржава не толькі адстаяла незалежнасць, але і захавала кантроль над Навагародскай зямлёй, аб чым сведчаць далейшыя падзеі. Аднак за гэта даводзілася плаціць паслабленнем увагі да заходняга кірунку. Між тым паўстанню ў Прусіі прыходзіў канец. У 1273 годзе ў сваім лясным сховішчы быў схоплены кіраўнік паўстанцаў Геркус Мантас. З 1276 года разбітыя прусы натоўпамі бягуць у Літву. Крыжакі пераносяць ваенныя дзеянні на тэрыторыю скалваў і надроваў.

Трайдзен вырашыў скарыстаць прускіх бежанцаў для замацавання за сабой спрэчных панямонскіх тэрыторый і пасяліў іх там, у ваколіцах Горадна і Слоніма. Гэта, аднак, выклікала новы паход Уладзіміра і Льва на Слонім. У адказ малодшы брат Трайдзена Сірпуцій зрабіў набег на толькі што збудаваны Камянец. У наступным годзе Уладзімір, Мсціслаў і сын Льва Юрый зноў хадзілі з татарамі Нагая на Навагародскую зямлю, дзе беспаспяхова штурмавалі Горадна. Гэтая вайна знясільвала абедзве дзяржавы: гарэлі сёлы, гінулі людзі, вытоптваліся палеткі. Аднак рэсурсы

**Карта 3. Літва, Русь і іх суседзі ў 2-й палове XIII ст.**




*1 — сталіцы дзяржаў; 2 — найбольш значныя гарады; 3 — дзяржаўныя межы; 4 — межы княстваў і зямель; 5 — кірункі паходаў татар і галіцка-валынскіх князёў; 6 — кірункі паходаў крыжакоў; 7 — кірункі паходаў літоўцаў; 8 — тэрыторыя, падуладная Міндоўгу і яго пераемнікам; 9 — княствы, якія знаходзіліся пад палітычным уплывам Літвы; 10 — лічбамі абазначаны: 1 — Цвярское княства; 2 — Дзмітраўскае княства; 3 — Пераяслаўскае княства; 4 — Мурамскае княства; 5 — тэрыторыі, канчаткова заваяваныя Тэўтонскім ордэнам у 2-й палове XIII ст.; 6 — горад Гнеўкава; 7 — Познаньскае княства; 8 — Апольскае княства; 9 — Бытамскае княства; 10 — Цешынскае княства.*

Літвы зусім не былі вычарпаныя, бо ў 1278 годзе Трайдзен палічыў магчымым прыняць удзел у барацьбе за Кракаў, якая пачалася пасля смерці Баляслава Сарамлівага, і яго брат і ваявода Сірпуцій хадзіў з рацццю да Любліна.

У выніку даволі жорсткай барацьбы Панямонне засталося за Трайдзенам, хоць і ў спустошаным выглядзе. Да таго ж у 1279 годзе ўвесь тэатр ваенных дзеянняў з прылеглымі раёнамі Польшчы і Русі ахапіў моцны голад, вынік неўраджаю. І тым не менш сімбіёз з рускімі княствамі значна павялічваў ваенны патэнцыял Літвы. Яна зноў набывала вагу сярод суседзяў. Дачка Трайдзена Гаўдэмунда (у хрышчэнні Соф'я) выйшла замуж за мазавецкага князя Баляслава з Плоцка, якому яна нарадзіла сыноў Зямовіта і Трайдзена (названых у гонар дзядоў). Яшчэ больш Плоцкае княства трапіла пад уплыў Трайдзена, калі ён ваеннай сілай прымусіў свайго зяця адмовіцца ад саюзу з тэўтонцамі. Пад літоўскім кантролем заставаліся земгалы. У саюзе з Літвой дзейнічалі і князі захаваўшых незалежнасць яцвягаў, сярод якіх з 1277 года выдзяляўся таленавіты палкаводзец Скамонт.

Усё гэта было вельмі своечасовым, бо напярэдадні ішла доўгая і цяжкая барацьба супраць двайнога націску крыжакоў з Прусіі і Лівоніі. Лівонцы першымі пасля нядоўгага перамір'я, заключанага ў 1275 годзе, пачалі агрэсію. У 1278 годзе яны заснавалі на латгальскіх землях замак Дынабург (сучасны Даўгаўпілс), які адразу ж стаў іх грозным фарпостам на паўночнай мяжы Літвы. Трайдзен паспрабаваў

знішчыць яго, нават выкарыстоўваў штурмавыя вежы, аднак не здолеў. У наступным годзе лівонцы сумесна з датчанамі распачалі крыжовы паход у самае сэрца Літвы, на Кернава. Гэтым разам Трайдзен дзейнічаў больш паспяхова: сустрэўшы ворага пад Ашарадам, прымусіў да ўцёкаў, прычым у бітве загінуў лівонскі магістр Эрнэст. Вынікам перамогі стала новае мірнае пагадненне, але і яно праіснавала нядоўга.

Між тым у 1280 годзе тэўтонскі храніст Пётр з Дусбурга, пачынаючы новы раздзел сваёй хронікі, вывеў загаловак: «Канец вайны ў Прусіі. Пачатак вайны Літоўскай». Сапраўды, да гэтага моманту супраціўленне скалваў і надроваў было канчаткова зломлена, а спыняць свой заваявальны крок тэўтонцы не збіраліся. Пад новы ўдар першымі трапілі яцвягі — тыя паўночныя групы, якія захавалі незалежнасць пасля войнаў сярэдзіны стагоддзя. Найбольш значным з іх было племя судаваў. Яны аказалі адчайнае супраціўленне. Князь Скамонт трывожыў крыжакоў няспыннымі контрударамі, даходзіў да муроў Кралеўца і берагоў Віслы. Аднак і набегі балтаў цягнулі за сабой вялікія страты. У адным з іх у 1281 годзе загінуў у Лівоніі князь земгалаў Намейціс. У 1282 годзе і яцвягі панеслі цяжкае паражэнне ў Польшчы. Адзін з іх князёў, Кантэгерд, са сваёй дружынай перайшоў на службу да Ордэна.

Увогуле тактыка перацягвання мясцовай знаці на свой бок складала аснову поспехаў крыжакоў. Захавалася больш за 200 грамат Ордэна асобным прускім і яцвяжскім нобілям, у якіх ім дараваліся маёнткі з сялянамі і палітычныя прывілеі. Фактычна арыстакраты былі ўраўнаваны ў правах з нямецкімі рыцарамі, што атрымлівалі ўладанні на землях Ордэна за ўдзел у крыжовых паходах. Тыя і другія мелі права судзіць сваіх падданых, браць падаткі на сваю карысць. Адзіным іх абавязкам з'яўлялася ваенная павіннасць. Адным словам, правы, якія надавалі захопнікі вярхам пераможаных, былі значна большымі, чым тое, на што яны маглі разлічваць у сваёй незалежнай раннякласавай дзяржаве (зразумела, за кошт простага насельніцтва, стан якога рэзка пагаршаўся). Гэтыя прывілеі адкрылі шлях да паступовага зліцця прускай знаці з пераможцамі.

Падобная ж тактыка раскалола і супраціўленне яцвягаў. К 1283 году іх незалежнасць скончылася. Частка князёў і арыстакратаў перайшла на бок Ордэна, астатнія пакінулі свае ўладанні і падаліся ў Літву. Сярод апошніх былі князі Скурда і Скамонт.

На поўначы ж, супраць Лівонскага ордэна, літоўцы і падтрымліваемыя імі земгалы дзейнічалі больш удала. Каля 1281 года Трайдзен захапіў ордэнскі замак Герцыке, колішняе ўладанне палачан, і тым самым адсек прасунуты наперад Дынабург ад асноўнай лівонскай тэрыторыі. Крыжакі вымушаны былі пайсці на перамовы і ўзамен за Герцыке мірна ўступілі Дынабург, які раней Трайдзен не змог узяць зброяй.

У самы разгар гэтых падзей, прыкладна ў 1282 годзе, Трайдзен памёр. Час яго ўладарання прыпаў на цяжкую пару. Амаль з усіх бакоў былі ворагі, якія імкнуліся не толькі адхапіць кавалак, але пры магчымасці і цалкам скарыць маладую Літоўскую дзяржаву. І трэба аддаць належнае «акаяннаму і беззаконнаму» Трайдзену — у гэтых найскладанейшых умовах ён здолеў утрымаць яе практычна ў тых самых межах, у якіх атрымаў, і пры гэтым не паступіцца ні палітычнай незалежнасцю, ні верай продкаў (а як мы памятаем, яго папярэднікам даводзілася ісці на даволі значныя кампрамісы).

Бадай, найбольш важным момантам было захаванне ў складзе Літоўскай дзяржавы сумежных рускіх гарадоў: Навагародка, Горадна, Ваўкавыска, Слоніма, Турыйска. Наўрад ці засталася па-за літоўскім кантролем і суседняя Менская зямля, што ляжала яшчэ далей ад Валыні і татар. Праўда, ніякіх звестак пра яе ў гэты час няма. Вельмі ўрывачная інфармацыя і пра Полацк з Віцебскам, аднак яна прымушае меркаваць хутчэй пра знікненне там літоўскіх князёў. Як гаварылася вышэй, у Полацку сучаснікам цвярскога епіскапа Сямёна быў князь Канстанцін Бязрук. У Віцебску ж каля 1280 года сядзеў намеснік смаленскага князя Фёдара Чорнага. Калі ўлічыць, што смаленскае паходжанне Канстанціна таксама не выключана, можна дапусціць даволі значны ўплыў Смаленска на Падзвінні. Напэўна, і друцкім князям прыходзілася выбіраць паміж Смаленскам і Літвой.

Між тым пасля смерці Трайдзена палітычная гісторыя Літвы раптоўна апускаецца ў змрок. Імя яго пераемніка не называюць ні рускія, ні крыжацкія, ні польскія крыніцы. Сваіх братоў ён перажыў, пра сыноў надзейных звестак таксама няма. Магчыма, яго пераемнікам стаў нейкі князь Даўмонт (не блытаць з Даўмонтам Пскоўскім), якога Троіцкі летапіс называе князем літоўскім і паведамляе пра яго смерць у далёкім набегу на вярхоўі Волгі ў 1285 годзе.

Літоўскія генеалагічныя легенды, пісьмова зафіксаваныя ў XVI стагоддзі, гавораць пра змену «дынастыі Кітаўруса», апошнім прадстаўніком якой з'яўляўся Трайдзен, новай дынастыяй — «родам Калюмнаў». Пры гэтым нашчадкі «роду Кітаўруса» засталіся ў Літве. Сярод іх быў і Даўмонт — продак пазнейшых князёў Свірскіх, а таксама Гольша (родапачынальнік Гальшанскіх) і Гедрус (родапачынальнік князёў Гедройцаў). Прынамсі, варыянт легенды, які захавалі Гедройцы (яго прыводзіць М. Стрыйкоўскі), можа ўтрымліваць нейкія водгукі сапраўдных падзей.

Між тым іншы след знаходзіцца ў Прусіі. Там каля 1282 года з'яўляецца знатны ўцякач з Літвы — князь Пялюзе, чымсьці моцна пакрыўджаны на свайго сюзерэна (на жаль, імя апошняга не называецца). Магістр Конрад Тыерберг дае Пялюзе войска, з дапамогай якога той захоплівае ў 1283 годзе замак Бісены (напэўна, ля ўпадзення Дубісы ў Нёман), дзе яго вораг у гэты час піруе, і ўчыняе жорсткую помсту — пад мячамі крыжакоў гіне каля 70 знатных літоўскіх нобіляў. Пасля гэтага Пялюзе застаецца на службе ў тэўтонцаў, атрымлівае ад іх адзін з памежных замкаў, з якога бясконца трывожыць Літву сваімі ўварваннямі. Тэўтонцы разглядаюць яго як прэтэндэнта на вялікае княжанне. Гэта пацвярджае і позняя звестка Хронікі Быхаўца, што ведае яго пад імем «Пелюша, сына Тронятового».

Малаверагодна, канешне, што Пялюзе і сапраўды быў сынам гістарычнага Траняты, з дня смерці якога прайшло ўжо дваццаць гадоў. А вось даўно выказанае меркаванне, што ён быў сынам Трайдзена, заслугоўвае ўвагі. Праўда, ордэнская хроніка быццам бы называе яго сынам Даўмонта, князя Уцянскага (таго самага, што загінуў на Русі?). Гэта таксама не выключана, хоць Даўмонт і гіне, здаецца, ужо пасля з'яўлення Пялюзе ў крыжакоў.

У гэты ж час чамусьці пакідае Літву і яцвяжскі князь Скамонт, які знайшоў там прытулак пасля захопу яго зямель тэўтонцамі. Зараз гэты заўзяты вораг Ордэна мірыцца з крыжакамі, прымае хрышчэнне і атрымлівае ў Прусіі маёнтак. Ён таксама чымсьці пакрыўджаны на літоўцаў, бо ў 1284 годзе наводзіць сваіх новых саюзнікаў на Горадна. Памёр ён у 1286 годзе, пакінуўшы трох сыноў на службе Ордэну.

Усё гэта ўскосна сведчыць аб тым, што адразу ці праз кароткі час пасля смерці Трайдзена ў Літве зноў адбылася замятня. Яна і выклікала з'яўленне ў Прусіі знатных уцекачоў. Усобіца прыйшлася вельмі недарэчы, бо Літва па-ранейшаму знаходзілася ў надта складаных знешнепалітычных умовах. Залатая Арда не збіралася пакідаць яе ў спакоі — пад 1282 і 1288 гадамі Ніканаўскі летапіс паведамляе пра новыя татарскія паходы на Літву. Галіцка-Валынскае княства таксама не адмовілася ад сваіх намаганняў захапіць Навагародскую зямлю. З другога боку якраз пачыналі няўмольна сціскацца абцугі Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў.

Літоўцы, праўда, і зараз спрабуюць дзейнічаць энергічна. У 1286 годзе яны здзяйсняюць вялікі паход на Лівонію, аж да самай Рыгі, але не дамагаюцца поспеху. Варожае кола працягвае сціскацца, і да 1289 года Літва губляе (часова) частку тэрыторыі як на захадзе, так і на поўдні: крыжакі захапілі шэраг памежных жамойцкіх валасцей (Каршуву, Шаўле і Цверы), а на карысць луцкага князя Мсціслава Данілавіча давялося саступіць Ваўкавыск.

У крыніцах пад гэтым годам з'яўляецца, нарэшце, імя літоўскага ўладара. Валынскі летапіс называе яго Будзікідам, а тэўтонская хроніка — Бутэгайдэ. Калі і якім чынам ён прыйшоў да ўлады — невядома. Магчыма, гэта адбылося яшчэ ў 1282 ці 1283 годзе. У час пагаднення з Мсціславам Луцкім побач з Будзікідам дзейнічае яго брат Будзівід, што, паводле адной з гіпотэз, хутка стаў яго наступнікам на пасадзе вялікага князя. Гэты новы ўладар названы ў крыжацкай хроніцы Путуверам, што і

дало гісторыку Ю. Пузыну падставу атаясамліваць яго з Будзівідам, хаця сугучнасць імёнаў не такая ўжо і блізкая. Аднак усе меркаванні пра паходжанне новай дынастыі мы разгледзім у сувязі з пачаткам панавання сына Путувера — Віценя, які належыць ужо да новага пакалення.

## Пакаленне трэцяе: Віцень (1290—1310-я гады)

Зараз мы разгледзім перыяд, калі Літоўская дзяржава пераадолела самыя цяжкія часы і пачала паволі, але няўхільна ўзыходзіць да вяршыні сваёй магутнасці. У першую чаргу гэта было звязана з дзейнасцю вялікага князя Віценя. Аднак наспела неабходнасць зноў зрабіць агляд сцэны і дзеючых асоб, асэнсаваць змены, што адбыліся.

Паўднёвым суседам Віценя будзе спачатку ўсё той жа Леў Данілавіч, якому лёс адмерыў доўгае жыццё, а потым яго адзіны сын Юрый — аднаасобныя ўладары Галіцка-Валынскага княства. Уладзімір Васількавіч памёр у 1288 годзе пасля доўгай і цяжкай хваробы, якую яскрава апісвае летапісец. Усе свае ўладанні (гарады Уладзімір, Берасце, Камянец, Бельск, замкі Любамль і Рай) ён завяшчаў малодшаму сыну Данілы Раманавіча Мсціславу, але і той ненамнога пераҗыў стрыечнага брата, памёр каля 1291 года. Пасля гэтага Леў і Юрый атрымалі поўны кантроль над вялізнай дзяржавай, хаця і стомленай татарскім прыгнётам.

У суседняй Польшчы таксама адбываецца пэўная канцэнтрацыя ўлады. Апошні прадстаўнік велікапольскай дынастыі — Пшамыслаў II (1257—1296), сын Пшамыслава I і пляменнік Генрыха Набожнага, падобна Льву, стаў нашчадкам вялікіх уладанняў у выніку смерці ўсіх блізкіх родзічаў. Абапіраючыся на Велікапольшчу, ён здолеў дамагчыся перавагі над здрабнелымі суседнімі дынастыямі — сілезскімі і куяўскай — і распаўсюдзіць сваю ўладу на апусцелую пасля смерці Баляслава Сарамлівага Кракаўска-Сандамірскую зямлю. Такім чынам, амаль палова Польшчы апынулася ў яго руках. У 1295 годзе ён абвяшчаецца каралём.

А ў Куявіі, пасля смерці яе першага вотчынніка Казіміра падзеленай між пяццю яго сынамі, калі памерлі на працягу 1280-х гадоў двое старэйшых — Лешак Чорны і Зямомысл, — старэйшынам стаў таленавіты кіраўнік і выдатны палітык Уладзіслаў Лакаток (1260—1333), яркая постаць якога будзе адметнай на працягу гэтага і большай часткі наступнага перыяду. Яго брат Зямомысл пакінуў трох непаўналетніх сыноў, між якімі пазней падзеліцца і без таго невялікі бацькоўскі ўдзел з Інаўроцлавам, Быдгашчу і Гнеўкавам. Старэйшы ж брат, Лешак, не пакінуў дзяцей і ў 1283 годзе адпісаў сваё Серадзкае княства ў спадчыну Уладзіславу, удзелам якога быў Бжэст-Куяўскі. Двое малодшых братоў, Казімір і Зямовіт, валодалі адпаведна Лянчыцай і Добжынам.

Другая палова вотчыны Конрада Мазавецкага, Мазовія, застаецца падзеленай на Чэрскае і Плоцкае княствы між Конрадам і Баляславам Зямовітавічамі. Аднак Конрад не мае сыноў, і пасля яго смерці ў 1294 годзе Баляслаў стане спадчыннікам усёй Мазовіі.

У Залессі вялікае княжанне ўладзімірскае з'яўляецца аб'ектам дамаганняў двух старэйшых сыноў Аляксандра Неўскага, прычым барацьба гэтая не дабаўляе славы яго нашчадкам. Зводзіцца яна галоўным чынам да выклянчвання ярлыка ў Залатой Ардзе і навядзення адным братам на другога татарскіх набегаў. Фактычна рэальным вярхоўным уладаром з'яўляецца хан, які кантралюе палітычныя падзеі і пераразмяркоўвае вымарачныя вотчыны. Так, з татарскага дазволу князь Фёдар Расціславіч Чорны, які страціў Смаленск, замацоўваецца на працягу 1280-х гадоў у Яраслаўлі пасля згасання мясцовай дынастыі.

Што ж датычыцца Смаленскага княства, то яно належыць тром Глебавічам, пляменнікам Фёдара Чорнага: Аляксандру, Раману і Святаславу. Апрача іх нейкі князь Андрэй валодае Вяземскім княствам. Важным набыткам смалян стала ўладкаванне Рамана Глебавіча ў Бранску (верагодна, у выніку смерці сыноў мясцовага князя Рамана Міхайлавіча, якія не пакінулі нашчадкаў). Падрабязнасці гэтай падзеі невядомыя, аднак бясспрэчна, што без санкцыі хана адыход Бранска да смаленскага князя не мог адбыцца.

Пра іншых князёў Чарнігаўскай зямлі таксама нічога не вядома, аднак, прынамсі, у Казельску і Тарусе пазней будуць дзейнічаць іх нашчадкі. Тое ж можна сказаць і пра тэрыторыю сучаснай Беларусі. Апошнія пінскія князі, якіх мы ведаем па імёнах, гэта Дзямід Уладзіміравіч, што ў 1292 годзе пераважыў свайго брата Юрыя, і сын памерлага ў тым жа годзе Івана Сцепаньскага Уладзімір (дарэчы, якраз на звестках пра іх і абрываецца Валынскі летапіс). Верагодна, і ў Тураве з Гарадцом (Давыд-Гарадком) працягваецца свой княжацкі род. У наступным пакаленні ў крыніцах пачнуць фігураваць князі з Менска, Друцка і Свіслачы, а таксама Віцебска. Дарэчы, рыжская гандлёвая грамата 1298 года згадвае ў Віцебску князя Міхаіла Канстанцінавіча — магчыма, сына таго Канстанціна Безрука, пра якога гаворка ішла вышэй. Віцебскі князь Яраслаў (?), які памрэ ў 1320 годзе і з чыёй дачкой перад тым ажэніцца будучы вялікі князь літоўскі Альгерд, па ўзросце наўрад ці можа быць сынам Міхаіла, хіба ўжо братам ці ўвогуле прадстаўніком нейкага іншага роду (яго радавод, што змешчаны ў Хроніцы Быхаўца, не адпавядае рэчаіснасці).

У Залатой Ардзе хан Туда-Менгу ў 1287 годзе быў абвешчаны псіхічнахворым і згубіў уладу. Пры актыўных інтрыгах Нагая пачалася барацьба за ўладу паміж дзесяццю пляменнікамі Туда-Менгу. Спачатку ханам стаў сын Менгу-Цімура Талабуге, аднак у 1291 годзе ён быў забіты прыхільнікамі свайго брата Тахты. У першыя гады панавання хан Тахта з'яўляўся лялькай у руках Нагая, аднак не задаволіўся такім становішчам і пазней распачаў барацьбу супраць цемніка, якая цягнулася тры гады, з 1297 да 1300, і скончылася гібеллю апошняга і канфіскацыяй яго вялізных прычарнаморскіх уладанняў.

Гэтаму пакаленню гістарычных дзеячаў таксама давядзецца перажыць шмат катаклізмаў — як прыродных, так і грамадскіх. Перабудова клімату, што тады пачалася, павялічыла яго нестабільнасць, значна больш стала вельмі халодных ці, наадварот, занадта мяккіх зім, летніх засух. Апрабаваны вопыт дзядоў пачынаў падводзіць земляробаў: змяніліся аптымальныя тэрміны сяўбы. Як вынік, павялічылася колькасць летапісных паведамленняў пра голад і пошасць, якія ў першым дзесяцігоддзі XIV стагоддзя пракаціліся па ўсёй Еўропе. І на Русі яны фіксуюцца летапісцамі ў гэты прамежак часу амаль штогод. Ёсць звесткі пра голад і мор і ў Літве ў 1311, 1313 гадах.

Як быццам у дадатак, адбываліся і іншыя грозныя з'явы. У 1301 годзе ў Ноўгарадзе нябывалая моцная бура знесла «хоромы и храмы», а ў 1303 годзе ў Прыбалтыцы адбыўся даволі моцны землятрус: у час падземнага штуршка людзі ледзь маглі ўстаяць на нагах. У тым жа годзе ў Ноўгарадзе снегу не было ўсю зіму.

Аднак жыццё ішло сваім чынам. У тым жа бясснежным 1303 годзе наўгародцы здолелі ажыццявіць даволі дарагое прадпрыемства — абнеслі свой горад мурам. Гэта былі другія такія ўмацаванні на Русі — за некалькі гадоў перад тым такі ж мур збудавалі жыхары Пскова пад кіраўніцтвам свайго князя Даўмонта.

І ў Польшчы ў гэтыя турботныя для земляробаў гады ўзводзяцца мураваныя пабудовы. У стольным Кракаве адна з іх — гатычны замак на Вавелі (закончаны ў 1308 годзе). Яго ўзнікненне было выклікана вострай палітычнай барацьбой вакол Кракава, якая распачалася пасля смерці караля Пшамыслава паміж Уладзіславам Лакаткам і каралём Чэхіі Вацлавам II.

Наш расказ пра падзеі, звязаныя з панаваннем Віценя, будзе не вельмі дэталёвым: цемра толькі пачынае рассоўвацца над гэтым кутом Еўропы. Рускія летапісцы — сучаснікі падзей — такога князя ўвогуле не ведаюць, што і не дзіўна, бо летапісанне вядзецца толькі ў Залессі, Ноўгарадзе і Пскове. Віцень выступае на старонках хронікі Пятра з Дусбурга — летапісца Тэўтонскага ордэна. Упершыню ён з'яўляецца ў 1291 годзе, калі літоўскі князь Путувер, ці Пукувер (у першым выданні хронікі яго імя пададзена ў форме «Лютувер»), пасылае свайго сына Віценя ў паход на Куявію. Хутка затым, каля 1294 года, апошні дзейнічае ўжо як вярхоўны ўладар Літвы.

Бацька Віценя, верагодна, прыйшоў да ўлады ў выніку смуты 1280-х гадоў. Вышэй ужо казалася пра хісткую версію атаясамлівання яго з князем Будзівідам — братам Будзікіда паводле Іпацьеўскага летапісу. Адкуль узялася новая дынастыя — пытанне

даволі загадкавае, бо яно абрасло міфамі ўжо ў сярэдзіне XV стагоддзя. У гэты час Польшча імкнулася падкрэсліць непаўнацэннасць літоўскіх князёў і ўсяго паганскага мінулага Літвы. Такі настрой парадзіў легенду, быццам заснавальнік дынастыі Віцень (звесткі пра яго бацьку да таго часу забыліся) не княжацкага роду, а баярын з Эйраголы ў Жамойці, служыў канюшым князя Трайдзена і атрымаў уладу пасля смерці апошняга з-за таго, што законныя наследнікі (пляменнікі Трайдзена і продкі пазнейшых князёў Гальшанскіх, Гедройцаў і Свірскіх) былі непаўналетнімі.

Насуперак таму стваральнікі іншай версіі — літоўскай — сцвярджалі, што Віцень паходзіў са старажытнага роду Калюмнаў, заснавальнік якога прыбыў з Рыма разам з Палямонам. Віцень па літоўскай версіі быў не канюшым, а маршалкам (найвышэйшай прыдворнай асобай) Трайдзена і ўладу атрымаў паводле завяшчання апошняга. Сапраўды, родавы герб новай дынастыі ў XV стагоддзі зваўся «Калюмны» («Калоны» ці «Стаўпы»), але ж гэтую назву ён мог атрымаць дзеля ўзгаднення з легендай. Тое ж датычыць і герба «Кітаўрус» («Кентаўр»), якім сапраўды карысталіся князі Гальшанскія і які прыпісваўся дынастыі Трайдзена. Наўрад ці ў XIII стагоддзі літоўскія князі ўвогуле ўжывалі гербы.

Трэцяя версія, маскоўская, не адмаўляла княжацкага паходжання дынастыі, але лічыла яе адгалінаваннем смаленскіх ці полацкіх князёў — васалаў вялікага князя ўладзімірскага, пераемнікамі якога былі маскоўскія князі. Тым самым літоўская дынастыя як бы абвяшчалася непаўнацэннай адносна Масквы. У рамках гэтай версіі Віцень часам лічыўся і сынам Трайдзена, а рускае паходжанне прыпісвалася ўсім князям, пачынаючы з Міндоўга.

Усе версіі — тыповыя з'явы для сярэднявечча, калі генеалогія падганялася пад палітычную кан'юнктуру. На самай справе заняцце баярынам княжацкага пасада, калі заставаліся хаця б і непаўналетнія князі, ва ўмовах XIII стагоддзя здаецца неверагодным. Ужо значна пазней і то князем нельга было стаць — ім можна было толькі нарадзіцца. Нават Радзівілы, якія атрымалі княжацкі тытул ад самога германскага імператара, доўгі час лічыліся «несапраўднымі» князямі. Дзеля доказу «несапраўднасці» літоўскай дынастыі, уласна кажучы, і ствараліся польская ды маскоўская легенды.

Яшчэ цяжэй уявіць сабе ператварэнне праваслаўных князёў Рурыкавічаў у паганцаў, якое вынікае з маскоўскай версіі. Што б ні казалі пра магчымую славянскую этымалогію імёнаў Віценя (віцязь), Воіня (воін) і нават іншых прадстаўнікоў дынастыі аж да Альгерда і Вітаўта, сапраўдныя імёны славянскіх князёў XIII стагоддзя былі зусім не такімі. Дарэчы, ніводнае імя нічога не даказвае — яно магло трапіць да прадстаўнікоў дынастыі праз шлюб, як імя Трайдзен дасталася мазавецкаму князю.

Польскі даследчык Е. Ахманьскі звярнуў увагу на адно месца з паэмы канца XIV стагоддзя «Задоншчына», у якой апяваецца Кулікоўская бітва. Два яе ўдзельнікі, унукі Гедыміна Андрэй і Дзмітрый Альгердавічы, так звяртаюцца адзін да аднаго: «Сама есмя собе два браты, сынове Олгордовы, а внуки есмя Едимантовы, а правнуки есми Сколомендовы» (у адным з сучасных перакладаў чамусьці дадзена «Сколдимеровы»). Гедымін — брат Віценя (аб гэтым ніжэй), таму ў сучасным сэнсе прадзедам Альгердавічаў з'яўляецца Путувер. Аднак слова «праўнукі» магло ўжывацца і ў сэнсе «аддаленыя нашчадкі». Таму Е. Ахманьскі зрабіў вывад, што Скаламендам звалі пачынальніка дынастыі — бацьку Путувера.

Калі гэта сапраўды так, то варта ўспомніць, што вельмі падобнае імя — Скамонт — насілі два яцвяжскія князі. Праўда, першы з іх загінуў каля 1248 года пры набегу на Драгічын, і галава яго была ўздзета на кол, а другі памёр у Прусіі ў 1286 годзе. Там жа, паводле Дусбурга, засталіся яго сыны (можа, не ўсе ці не назаўсёды?). Адным словам, ёсць падставы думаць пра яцвяжскае паходжанне не толькі Трайдзена, але і яго наступнікаў. Магчыма, уклад яцвягаў ва ўтварэнне Літоўскай дзяржавы быў большым, чым павялося лічыць.

Як бы там ні было, Путувер сядзеў на літоўскім княжанні дастаткова трывала, каб перадаць яго свайму сыну Віценю — пры тым, што недзе ў Прусіі заставаўся

пакрыўджаны княжыч Пялюзе, ды і ў самой Літве меліся яшчэ князі — продкі Гальшанскіх і іншых.

З пачаткам панавання Віценя пачалі адчувацца вынікі той руплівай працы па ўмацаванні дзяржавы, якую вялі яго папярэднікі. Вынікі апошняй усобіцы былі пераадолены даволі хутка, і актыўнасць Літвы ў знешняй палітыцы рэзка ўзрасла. Для процідзеяння экспансіі Тэўтонскага ордэна на берагах Нёмана паўсталі моцныя замкі (праўда, пакуль што драўляныя): Вялона, Вількія, Коўна. У дачыненні да Лівонскага ордэна і ўвогуле з'явілася магчымасць ад абароны перайсці ў наступ. Там якраз абвастрыліся адносіны паміж братамі-рыцарамі і рыжскім архібіскупам, якога падтрымлівалі гараджане. Віцень не прамарудзіў умяшацца ў гэтую барацьбу. Ён заключыў з Рыгай пагадненне супраць Ордэна, і ў 1296—1299 гадах зрабіў тры паходы ў Лівонію. У вусці ракі Трэйры нанёс крыжакам паражэнне, аднак пазней тыя разбілі аб'яднанае войска літоўцаў і рыжан. У 1300 годзе Лівонскі ордэн дамогся часовага замірэння з Рыгай, саступіўшы ёй свой замак у межах горада. Рыжане ўзамен абавязаліся разарваць саюз з Літвой. Аднак пэўны час лівонцам было не да працягу экспансіі.

Адначасова Віцень актыўна ўдзельнічаў у польскіх справах. На пачатку свайго панавання ён выступіў саюзнікам Баляслава Мазавецкага ў яго даўняй барацьбе са стрыечнымі братамі — Уладзіславам Лакаткам і Казімірам Лянчыцкім. У час літоўскага паходу 1294 года Казімір загінуў (аднак гэта прывяло толькі да далучэння яго ўдзела да ўладанняў Уладзіслава і спрыяла ўзмацненню апошняга).

Але галоўную небяспеку для Літвы ўяўляў, безумоўна, Тэўтонскі ордэн. Пруска-літоўскія землі зрабіліся галоўнай арэнай яго дзейнасці пасля таго, як на Блізкім Усходзе крыжацкі рух канчаткова захлынуўся. У 1291 годзе Ака, апошні аплот крыжакоў у Палесціне, трапіла ў рукі арабаў. Галоўная рэзідэнцыя Ордэна перамясцілася ў Венецыю, але ў Еўропе мэтазгоднасць захавання духоўна-рыцарскіх утварэнняў пасля страты Палесціны ўсё часцей пачала ставіцца пад сумненне. У 1307 годзе распачаўся гучны судовы працэс «жалезнага караля» Францыі Філіпа Прыгожага супраць Ордэна тампліераў (храмоўнікаў), які праз 7 гадоў прывёў да скасавання апошняга.

Для тэўтонцаў у гэтых умовах адзіным апраўданнем іх далейшага існавання заставалася неабходнасць хрышчэння апошніх паганскіх народаў у Еўропе — жамойтаў і літоўцаў. (К гэтаму моманту земгалы ўжо фактычна страцілі самастойнасць. Пасля 1290 года паўночная іх частка прызнала ўладу Лівонскага ордэна, астатнія ж увайшлі ў склад Жамойці.)

Такім чынам, мэта перамогі над Літвой, якую сфармуляваў Дусбург у 1280 годзе, ператварылася ў асноўны сэнс існавання ордэнскай дзяржавы. Падрыхтоўка да яе здзяйснення ўжо вялася. У 1289 годзе ў ніжнім цячэнні Нёмана пабудавалі два магутныя ордэнскія замкі — Тылжэ і Рагнету. Яны павінны былі служыць асноўным плацдармам для паходаў на Жамойць. Паходы гэтыя актыўна разгарнуліся з 1294 года, калі комтурам (намеснікам) Рагнеты стаў энергічны Людвіг фон Любенцаль. Ён ажыццявіў масіраванае ўварванне ў жамойцкія землі. На які-сьці час большасць мясцовай знаці перайшла на яго бок. Імкнучыся дэмаралізаваць праціўніка, крыжакі разбурылі свяцілішча Ромува, якое незадоўга да таго было перанесена з Надровіі ў Жамойць. Пасля гэтага свяцілішча давялося перанесці яшчэ раз — у Вільню, дзе і раней у даліне Свінтарога існаваў буйны культавы цэнтр.

Аднак Віценю энергічнымі мерамі ўдалося прадухіліць хрышчэнне Жамойці. Спачатку ён дамогся ад тамтэйшых арыстакратаў нейтралітэту, а пазней накіраваў туды войска і зноў узняў іх супраць крыжакоў. Віцень зрабіў сваім ваяводам у Жамойці таленавітага палкаводца Сурміне, які разам з братам Скалдоне арганізаваў супраціўленне тэўтонцам, нанёс ім некалькі паражэнняў.

Тактыка залучэння на свой бок мясцовай знаці, якая забяспечыла крыжакам поспех у Прусіі, у Літве спрацоўвала горш, хаця і не зусім беспаспяхова. На землях Ордэна дзейнічаў, як мы памятаем, нашчадак былой дынастыі Пялюзе. Удавалася часам схіліць да здрады намеснікаў некаторых замкаў у Жамойці. Напрыклад, Спуда, камен-

дант замка Пуценінкі, перайшоў на бок Ордэна ў 1307 годзе. Замак пасля гэтага быў перададзены Пялюзе. Аднак асноўная колькасць баярства захавала вернасць Віценю.

Падтрымку яму аказвала і баярства гарадоў Панямоння, а таксама, напэўна, і Полацка. Канчатковае далучэнне Полацка да Літоўскай дзяржавы познія беларуска-літоўскія летапісы звязваюць менавіта з панаваннем Віценя. Быццам бы апошні самастойны полацкі князь завяшчаў свае ўладанні рыжскаму архібіскупу, пасля чаго ў горадзе пачалося засілле каталіцкіх ксяндзоў і нямецкіх купцоў з Рыгі. Полацкае баярства звярнулася па падтрымку да Віценя, які і выбіў рыжан з Полацка (верагодная дата — 1307 год). Магчыма, тады ж новым полацкім князем стаў малодшы брат Віценя Воінь, які будзе княжыць там пры Гедыміне.

Далучэнне Полацка да Літвы адбылося, верагодна, на падставе дагавора, які гарантаваў палачанам захаванне мясцовых законаў і суда, увогуле недатыкальнасць «старыны». Гэты дагавор потым скрупулёзна аднаўляўся пры кожным новым вялікім князю. Сляды яго, як лічыцца, прасочваюцца ў полацкіх прывілеях ажно да сярэдзіны XVI стагоддзя, калі прыняцце другога і трэцяга статутаў Вялікага Княства Літоўскага ўніфікавала права ў межах усёй дзяржавы.

Слядоў такіх пісьмовых дакументаў у дачыненні да панямонскіх гарадоў мы не маем. Аднак і іх зліццё з Літоўскай дзяржавай, якая яшчэ больш узмацнілася ў часы Віценя, адпавядала інтарэсам абодвух бакоў. Для Літвы гэтая тэрыторыя з'яўлялася важнай крыніцай людскіх і матэрыяльных рэсурсаў для барацьбы з крыжакамі. Невыпадкова яна даволі хутка стала аб'ектам спусташальных рэйдаў тэўтонцаў: першы такі налёт на Горадна адбыўся ў 1284 годзе, за ім быў набег 1295 года. Асабліва ўзмацніўся націск на пачатку XIV стагоддзя: уварванні адбываліся ў 1305, 1306 (двойчы), 1311 (тройчы) гадах. У 1314 годзе магістр Генрых фон Плоцке штурмаваў Навагародак і спаліў акольны горад.

Усе гэтыя рэйды суправаджаліся жорсткімі спусташэннямі — крыжакі ўчынялі іх, каб падарваць эканамічную базу праціўніка. Гэта паставіла пад сумненне тыя выгады, якія мясцовае насельніцтва набыло, пазбегнуўшы залежнасці ад татар. Але меліся іншыя перавагі, што і дазволіла захаваць саюз Панямоння з Літвой. Баяры-землеўладальнікі былых удзельных княстваў былі зацікаўлены ў моцным, але далёкім гаспадары, які бараніў бы іх ад ворагаў і не перашкаджаў пашыраць маёнткі за кошт навакольных сялян, асабліва калі намеснікамі гарадоў маглі стаць прадстаўнікі з іх жа асяроддзя.

Палітычны і эканамічны свет змізарнелых княстваў быў вельмі вузкім, асабліва пасля знішчэння татарамі агульнарускай дзяржавы. Служба дробнаму князю, ва ўладанні якога знаходзіўся адзіны правінцыяльны гарадок з яго наваколлем, не абяцала ні гучнай славы, ні багатай здабычы, ні выслугі новых маёнткаў. У той жа час у баярскіх харомах яшчэ памяталі паданні аб справах дзядоў і прадзедаў, што хадзілі ў слаўныя паходы на Вялікі Ноўгарад, Польшчу, у палавецкія стэпы. Калісьці, за часам моцнай княжацкай улады, з'яўляліся на Дзвіне, Прыпяці і Нёмане купецкія караваны з далёкага і загадкавага Усходу, з Візантыі, пенілі вёсламі хвалю караблі са Скандынавіі, Германіі. Са знікненнем агульнай дзяржавы ўсё знікла.

Служба ж магутнаму літоўскаму князю абяцала адраджэнне і былой славы, і заморскага гандлю. Уступіўшы ў дружыну Віценя, навагародскія і полацкія баяры атрымлівалі магчымасць пазвінець мячамі ля муроў ордэнскіх замкаў ці на берагах Віслы. Маглі выклікаць на паядынак нямецкіх рыцараў (пра такія дуэлі паміж рускімі і заходнееўрапейскімі рыцарамі паведамляе Дусбург). Перамога ў падобным бai — гэта і слава, і каштоўныя даспехі пераможанага. А ўдалы паход у цэлым — новыя халопы, новая здабыча, новае сяло, якое вялікі князь падаруе за асабістае геройства.

Што датычыць мясцовых князёў (там, дзе яны яшчэ захаваліся), то і яны пад сюзерэнітэтам Літвы нічога не гублялі. Вялікі князь не ўмешваўся ва ўнутраныя справы ўдзелаў. Усё, што патрабавалася, — гэта выходзіць пад сваім сцягам і з дружынай, калі гаспадар пакліча ў паход. Затое і пры нападзе звонку можна быць упэўненым, што вялікі князь абароніць, а пры спрэчцы з суседам — рассудзіць.

Мала што мянялася і для простага люду. Усяго і клопату, што на валасны пагост за падаткамі прыедзе не рускі баярын, а літовец. Не будзь яго — знайшоўся б які-небудзь татарын ці немец. А калі сяло цягнула не да воласці, а да баярскага двара, то перамена вярхоўнай улады і ўвогуле была практычна неадчувальнай: свой гаспадар заставаўся ўсё той жа. Хіба што пасля яго смерці вялікі князь можа перадаць двор ужо літоўскаму баярыну, які і размаўляць па-тутэйшаму як след не ўмее. Але будзе патрэба — навучыцца і ён, бо не пераходзіць жа ўсяму сялу на літоўскую мову з-за змены гаспадара!

Калі хто і мог адчуваць незадавальненне — гэта праваслаўнае духавенства. І каб не псаваць адносіны з даволі ўплывовай часткай мясцовага насельніцтва, літоўскім князям-паганцам даводзілася праяўляць верацярпімасць, якая на доўгі час стане традыцыйнай для дзяржавы. Маліся так, як маліліся твае продкі — толькі захоўвай лаяльнасць да ўлады.

Усё сказанае вышэй дапамагае зразумець, чаму распаўсюджанне ўлады Віценя, а пазней Гедыміна на рускія землі адбывалася параўнальна мірна і непрыкметна, без тых бітваў і паўстанняў, якія суправаджалі кожнае прасоўванне наперад крыжакоў і татар. Таму вельмі цяжка вызначыць, дзе праходзіла пры Віценю мяжа ўплыву Літвы, дзе яе суседзяў — Галіцка-Валынскага і Смаленскага княстваў.

Першае з іх пры князю Юрыю Львовічу часткова пераадолела той заняпад, у якім апынулася ў другой палове XIII стагоддзя. Спрыяла гэтаму не толькі аднаўладдзе Юрыя, але і тое, што мёртвая хватка Залатой Арды на горле Галіцка-Валынскай Русі аслабела ў час барацьбы за ўладу паміж Нагаем і Тахта-ханам. Ужо Леў Данілавіч у канцы жыцця пачаў карыстацца, як некалі яго бацька, каралеўскім тытулам, што перайшоў і да Юрыя. Гэта не абавязкова азначае, што абодва яны прайшлі праз афіцыйны абрад каранацыі, санкцыянаваны Рымам, але яскрава сведчыць пра іх намер лічыць сябе ўровень з іншымі еўрапейскімі гаспадарамі. Юрый вядзе ўжо і незалежную ад хана знешнюю палітыку. Ажаніўшыся другім шлюбам з сястрой Уладзіслава Лакатка Яфіміяй, ён выступае актыўным саюзнікам куяўскага князя ў яго барацьбе за карону Польшчы з Вацлавам Чэшскім. Таксама мае ён дачыненне і да барацьбы за венгерскую карону пасля згасання ў 1301 годзе дынастыі Арпадаў. Маці Юрыя была дачкой караля Бэлы IV, але сам ён на каралеўства не прэтэндаваў, толькі аказваў падтрымку свайму стрыечнаму брату Атону Баварскаму (сыну другой дачкі Бэлы), які часова валодаў Венгрыяй, аднак прайграў барацьбу яшчэ аднаму нашчадку Арпадаў па кудзелі, унуку неапалітанскага караля Карлу-Роберту Анжуйскаму.

Захавалася летапісная характарыстыка Юрыя, якую прыводзіць польскі гісторык Длугаш: «Муж мудры і добры, шчодры да духоўнікаў, пад кіраваннем якога Русь славілася шчасцем міру і дастатку». На жаль, няма ніякіх звестак пра яго адносіны з Літвой, пра тое, ці працягваў ён намаганні сваіх папярэднікаў распаўсюдзіць кантроль на тэрыторыю сучаснай Беларусі. Увогуле ж ён адчуваў сябе спадкаемцам былой Кіеўскай Русі, аб чым сведчыць заснаванне ў Галічы другой рускай царкоўнай мітраполіі. Да таго адзіным рэлігійным цэнтрам рускіх княстваў лічыўся Кіеў, дзе мітрапаліт знаходзіўся да 1299 года. Потым у сувязі з заняпадам Паўднёвай Русі і пэўным уздымам Паўночна-Усходняй, мітрапаліт Максім перанёс сваю рэзідэнцыю ва Уладзімір-на-Клязьме. Вось з гэтай падзеяй, якая павінна была азначаць перамяшчэнне ў Залессе апошніх рэштак былой кіеўскай дзяржаўнасці, і не пагадзіўся Юрый. Каля 1302 года ён дамогся ад канстанцінопальскага патрыярха заснавання мітраполіі «Малой Русі» з цэнтрам у Галічы. Праўда, яна праіснавала нядоўга — у 1308 годзе, пасля смерці Максіма, галіцкі мітрапаліт Пётр атрымаў пасвячэнне як мітрапаліт «усяе Русі» і пераехаў ва Уладзімір-на-Клязьме.

Смаленскае ж княства да такога ўзроўню не ўзнялося. Яно, здаецца, пазбегла моцных татарскіх пагромаў, але і эканамічнага ўздыму там не назіраецца. У цэлым гэтыя землі застаюцца пад трывалым кантролем ардынцаў. Спробы распаўсюдзіць смаленскі ўплыў на захад, у Падзвінне і на правабярэжжа Дняпра, істотных вынікаў не мелі. У самастойнае ўладанне ператвараецца нават Віцебскае княства, якое раней

даволі часта далучалася да Смаленска. Прычым на падставе больш позніх падзей можна меркаваць, што пад кантроль Віцебска ці Друцка адышла Орша і кавалак тэрыторыі між Дняпром і Пропасцю (Проняй), дзе пазней знаходзіліся Горская, Басейская і Магілёўская воласці.

На захадзе Тэўтонскі ордэн трывала пусціў карані на балтыйскіх берагах. Пасля падаўлення прускага паўстання сюды хлынуў паток каланістаў з перанаселенай Саксоніі. Хутка вырастаў заснаваны ў 1274 годзе горад Марыенбург (Мальбарк), у які ў 1309 годзе была перанесена з Венецыі рэзідэнцыя вялікага магістра. Падобныя ж з'явы адбываліся і ў Лівоніі, хаця каланізацыйны паток там быў не такі інтэнсіўны, як у заходняпрускіх землях (асабліва ў Памязаніі і Пагезаніі).

Між тым крыжацкая экспансія, што так паспяхова развівалася раней, рэзка запаволілася на межах Літоўскай дзяржавы, сутыкнуўшыся з эфектыўным адпорам. Пасля першых поспехаў 1294 года скарэнне Жамойці спынілася. Асобныя яе воласці і замкі пераходзілі з рук у рукі. Не прынёс жаданых вынікаў і новы крыжовы паход 1304 года на чале з швабскім графам Хомбургам. Замест паслядоўнага руху наперад пачаўся абмен ударамі, калі за кожным набегам немцаў ішоў літоўскі набег у адказ. Падлічана, што з 1298 па 1313 год Віцень зрабіў адзінаццаць уварванняў у Прусію, яго сын Свалеготэ і ваявода Сурміне рабілі таксама спусташальныя рэйды і ў Лівонію. Амаль штогод адбываліся і нашэсці крыжакоў — 20 рэйдаў за 1300—1315 гады (пра тыя з іх, што дасягалі нават Новагародскай зямлі, я казаў вышэй). Абодва бакі, па сутнасці, пераходзілі да вайны на знясіленне. Найбольшым поспехам крыжакоў у гэты перыяд можна лічыць аднаўленне іх кантролю над Дынабургам у 1313 годзе.

Хутка пасля гэтага, у 1316 годзе, вялікі князь Віцень памёр. Легенда паведамляе, быццам ён загінуў ад маланкі. Такі міфалагізаваны канец не мог звязвацца з непрыкметнай асобай, і ўжо адно гэта сведчыць аб уражанні, якое Віцень зрабіў на сваіх сучаснікаў і нашчадкаў. Яго панаванне можна ахарактарызаваць як паспяховае процідзеянне крыжакам, пры адначасовым павелічэнні ўплыву на суседнія рускія землі. Пры ім да Літвы канчаткова далучыліся тэрыторыі, якія ўпершыню кантраляваў яшчэ Міндоўг: Жамойць, Полаччына і рускае Панямонне. Вышэй ужо гаварылася, што менавіта гэта было пачаткам Вялікага Княства Літоўскага і Рускага. Праўда, пакуль што яно трымалася прыкладна ўровень з наймацнейшымі суседзямі. Пара ж яго яўнай перавагі прыйдзе крыху пазней, пры бліжэйшых пераемніках Віценя.

## Пакаленне чацвёртае: Гедымін (сярэдзіна 1310-х — 1330-я гады)

Адносіны паміж Віценем і яго пераемнікам Гедымінам розныя крыніцы выкладаюць па-рознаму. Адзіны дакумент, сучасны Гедыміну, — грамата рыжскага магістрата ад 1322 года — называе Віценя яго братам і папярэднікам. Аднак у далейшым пашырыліся два іншыя меркаванні. Беларуска-літоўскія летапісы XVI стагоддзя лічаць Гедыміна сынам Віценя, а польская і маскоўская версіі ўвогуле адмаўляюць іх родныя сувязі. Гедымін нібыта быў слугой ці нават халопам, які забіў свайго гаспадара і захапіў яго ўладу. Тэндэнцыйнасць гэтых версій відавочная.

Што ж датычыць літоўскай традыцыі, то ўяўленні пра Гедыміна як сына Віценя маглі ўзнікнуць таму, што паміж імі была значная розніца ва ўзросце. Гедымін нарадзіўся прыкладна ў пачатку ці ў сярэдзіне 1270-х гадоў і перажыў свайго брата практычна на цэлае пакаленне — на 25 гадоў. Перыяд яго актыўнага жыцця супадае з часам дзейнасці тых, хто быў сынамі персанажаў папярэдняга раздзела. У Мазовіі гэта Зямовіт, Трайдзен і Вацлаў Баляславічы, у Галіцка-Валынскім княстве (каралеўстве) — сыны памерлага каля 1315 года Юрыя Львовіча Андрэй і Леў. І ў Смаленскай зямлі князя Аляксандра Глебавіча ў 1313 годзе змяніў старэйшы сын Васіль (які праз год памёр сам), а затым малодшы — Іван, што будзе панаваць ажно да 1359 года.

Нават у Залатой Ардзе змена ўлады адбылася амаль адначасова: пасля смерці ў 1312 годзе хана Тахты яго сын Ільбасмыш быў забіты іншым прэтэндэнтам, таксама

нашчадкам Менгу-Цімура — Узбекам, сынам Тагрулджы. З герояў папярэдняга перыяду, бадай што, толькі Уладзіслаў Лакаток застаецца сучаснікам Гедыміна. Таму і ў мяне ёсць падставы, нават прызнаючы Гедыміна братам Віценя, выдзеліць падзеі, звязаныя з яго панаваннем, у асобны раздзел.

Давайце зноў спынім паслядоўны разгляд падзей, каб падсумаваць вынікі змен, што накапіліся да гэтага часу. Не разабраўшыся ў іх, цяжка будзе зразумець імклівы рост тэрыторыі Вялікага Княства і яго ўплыву на рускіх землях, які адбываўся пры Гедыміне і наступных вялікіх князях.

Практычна кожная дзяржава ў сваёй гісторыі праходзіла перыяды цэнтралізацыі і дэцэнтралізацыі. На пачатку нашай дзеі, у першай трэці XIII стагоддзя, мы засталі Русь і Польшчу ў стане палітычнай рыхласці, калі кожны мясцовы ўладар быў поўным панам на сваёй тэрыторыі. На ўсходзе, наадварот, вялізныя тэрыторыі пераходзілі пад непасрэдны кантроль адзінага цэнтра — стаўкі мангольскіх каганаў. Нешта падобнае, хаця і ў меншых памерах, адбывалася ў Літве.

Абодва працэсы з'яўляюцца неабходнымі на пэўных стадыях сацыяльна-эканамічнага развіцця. Патрэбнасць у цэнтралізацыі ўзнікае, калі грамадства пераходзіць на якасна новы ўзровень свайго існавання: ад плямённа-арыстакратычнага ладу (так званай «ваеннай дэмакратыі») да раннякласавай дзяржавы, потым да стадыі сталага класавага грамадства, ці да індустрыяльнай фазы. У такія моманты структурныя змены ахопліваюць увесь дзяржаўны механізм, таму патрэбны каардынуючы цэнтр, каб сістэма не пайшла ўразнос ці дзяржава не стала лёгкай здабычай суседзяў.

Калі ж пераход на новы стадыяльны ўзровень адбыўся і грамадства пачынае яго асвойваць, на першае месца выходзіць эфектыўная мясцовая ўлада. Жорсткі кантроль не толькі не патрэбны — ён нават перашкаджае.

Русь прайшла фазу цэнтралізацыі ў IX—X стагоддзях, калі асобныя племянныя княжанні ператварыліся ў адзіную «імперыю Рурыкавічаў». XII—XIII стагоддзі прайшлі пад супрацьлеглым знакам — палітычная самастойнасць асобных тэрыторый аднавілася на новым узроўні (вышэй ужо падкрэслівалася, што гэта было не знікненнем дзяржавы, а яе пераходам у новую якасць). Калі б не нашэсце манголаў, росквіт Кіеўскай Русі працягваўся б і далей, яе чакалі б новыя віткі эвалюцыйнай спіралі.

Прыкладна так адбывалася ў суседняй Польшчы. З канца XIII стагоддзя там зноў адчуваюцца цэнтралізатарскія тэндэнцыі: мясцовая знаць згодна нават шукаць сабе моцнага гаспадара за мяжой, як адбылося пры абвяшчэнні каралём Вацлава Чэшскага. Яго асноўны сапернік — Уладзіслаў Лакаток — праходзіць шлях ад дробнага князя з падзеленай на пяць частак Куявіі да вярхоўнага ўладара Польшчы. На гэтым шляху ён не раз церпіць жорсткія паражэнні, але кожны раз знаходзіць моцную падтрымку, якая дазваляе яму распачаць справу зноў. Іншымі становяцца адносіны да вымарачных княжацкіх вотчын: кароль ужо не спяшаецца перадаць іх іншым князям, а накіроўвае туды сваіх паслухмяных намеснікаў (кашталянаў). Гэтыя тэндэнцыі сведчаць, што ў Польшчы наспеў пераход ад раннякласавай дзяржавы да стадыі сталага феадалізму, калі большасць дзяржаўных сялян (смердаў, ці, на польскі лад, кметаў) пераходзіць пад кантроль рыцараў-шляхты. Вярхоўны ўладар патрэбны, каб кіраваць раздачай сёлаў і валасцей, і чым большую тэрыторыю ён кантралюе непасрэдна і праз сваіх намеснікаў — тым лягчэй кожнаму шляхціцу дачакацца сваёй долі агульнага пірага.

На Русі аналагічны працэс ідзе значна больш павольна: баярства, як найбольш здольны да супраціўлення сацыяльны слой, асабліва моцна пацярпела ад татарскіх нашэсцяў, было проста фізічна вынішчана. (Выключэнне ствараюць, напэўна, толькі далёкія Наўгародская зямля ды Панямонне з Падзвіннем, што звязалі лёс з Літвой.) Але тут існуе не менш важкая падстава для палітычнага аб'яднання — неабходнасць вызвалення ад Арды.

Такім чынам, ва Усходняй Еўропе прыходзіць час цэнтралізацыі. Адным ядром такой цэнтралізацыі абяцае стаць Залессе, дзе пачынаюць уздымаць галаву два

моцныя княствы — Цвер і Масква. Аднак Залеская Русь знаходзіцца пад трывалым кантролем хана Узбека, які ўдала выкарыстоўвае імкненне князёў Цверы і Масквы да пасады вялікага князя ўладзімірскага, каб знясіліць абодвух у міжусобнай барацьбе. Больш паслухмяны і ліслівы маскоўскі князь Іван Каліта бярэ верх у гэтай барацьбе, але ўзвышэнне Масквы некалькі дзесяцігоддзяў будзеісці не ў выглядзе аб'яднання суседніх княстваў, а ў выглядзе «праглынання» больш слабых з іх пры татарскай падтрымцы.

Другі цэнтр — Галіцкае і Уладзіміра-Валынскае княствы, якія, дзякуючы выключным генеалагічным абставінам, застаюцца пад кантролем адной княжацкай сям'і. З 1315 года ва Уладзіміры княжыць Андрэй Юр'евіч, а ў Галічы — яго малодшы брат Леў. Пры іх «Малая Русь», як тагачасныя крыніцы называюць іх уладанні, спрабуе супрацьстаяць Ардзе, абапіраючыся на падтрымку каталіцкай Еўропы (Польшчы, Венгрыі, Тэўтонскага ордэна). Аднак неразгалінаванасць княжацкага роду з перавагі імгненна ператворыцца ў недахоп пасля смерці іх наследніка Юрыя (каля 1336 года), калі вялікая дзяржава апынецца без гаспадара і стане арэнай барацьбы суседніх Польшчы, Літвы і Арды.

Такія ўмовы вельмі спрыяюць таму, каб Літва разам з заходнярускімі (беларускімі ў сённяшнім сэнсе) землямі, якія далучыліся да яе, выступіла яшчэ адным аб'яднаўчым цэнтрам. Сама Літва якраз знаходзіцца на папярэднім вітку эвалюцыйнай спіралі — на стадыі ўтварэння цэнтралізаванай раннякласавай дзяржавы. На працягу папярэдніх дзесяцігоддзяў некалькі княжацкіх родаў вялі барацьбу не за падзел «сфер уплыву» ў Літве, а за вярхоўную ўладу. Пераможцам выйшаў «род Калюмнаў» — нашчадкі Путувера. Іншыя князі (верагодна, родзічы Трайдзена), якія засталіся ў дзяржаве, перайшлі на становішча служылых князёў, фактычна — асабліва прывілеяваных баяр. На самым пачатку свайго панавання Гедыміну ўдалося ліквідаваць ачаг патэнцыяльнай пагрозы — захапіць і пакараць смерцю прэтэндэнта на велікакняжацкі тытул Пялюзе, які працягваў служыць тэўтонцам.

Калі Гедымін прыйшоў да ўлады ў 1316 годзе, у яго былі два браты (Воінь і Фёдар) і не менш шасці сыноў, з якіх старэйшыя (Монвід ці Мантоўт, Нарымонт і Альгерд) ужо ўступалі ва ўзрост актыўнай дзейнасці. Гэта абяцала здрабненне вотчын у будучым, але пакуль што спрыяла распаўсюджанню ўлады адзінай, шматлікай і цесна знітаванай княжацкай сям'і. Немалаважнай акалічнасцю з'яўлялася і тое, што сучаснікамі Гедыміна ледзь не ва ўсіх рускіх землях і княствах аказаліся вельмі маладыя князі. Уладальнікам Валыні і Галіччыны Андрэю і Льву ў 1316 годзе, напэўна, не было і трыццаці. Тое ж можна сказаць пра смаленскага князя Івана Аляксандравіча. Маскоўскі князь Юрый Данілавіч меў 35, яго малодшы брат Іван Каліта — каля 25, цвярскі князь Дзмітрый Грозныя Вочы, які атрымаў уладу годам пазней, — увогуле няпоўных 18 гадоў. Такімі ж маладымі былі ўладальнікі Бранскага княства — рэшткаў колішняй Чарнігаўскай зямлі, паўднёвая частка якой у выніку непасрэднага суседства з Ардой амаль цалкам абязлюдзела. У параўнанні з імі Гедымін, чалавек на пятым дзясятку, быў і больш вопытным, і больш аўтарытэтным дзеячам.

З'яўленне новага палітычнага цэнтра на Русі не прайшло міма ўвагі і канстанцінопальскага патрыярха. Пра гэта сведчыць яго дазвол заснаваць каля 1317 года самастойную мітраполію з цэнтрам у Навагародку, што ахоплівала Полацкае і Тураўскае епіскапствы. Літоўскім мітрапалітам стаў Феафіл, які ўпамінаецца на гэтай пасадзе да 1329 года.

Літоўскі ўладар не прамарудзіў выкарыстаць спрыяльнае становішча. Даволі хутка ён падпарадкаваў свайму кантролю сумежныя княствы і землі (на тэрыторыі сучаснай Беларусі). Некаторыя з іх мелі сувязі ўжо з Віценем — так, нагадаем, Полацкая зямля згадзілася прыняць літоўскага князя ў 1307 годзе. Пры Гедыміне полацкім князем з'яўляецца яго брат Воінь (у гэтай якасці ён выступае ў 1323 годзе), але адносіны Полаччыны з Літвой маюць дагаворны, дынастычны характар.

На ўсход ад Полаччыны ляжала Віцебская земля, князь якой (некаторыя беларуска-літоўскія летапісы называюць яго Яраславам) не меў сыноў. У 1317 го-

дзе Гедымін заключыў з ім і мясцовымі баярамі пагадненне: дачка князя Марыя выходзіць за Гедымінавага сына Альгерда, якога пасля смерці Яраслава віцябляне прымаюць у якасці свайго князя. Так і адбылося даволі хутка — у 1320 годзе. Частка даследчыкаў лічыць, што Альгерд прайшоў фармальны абрад хрышчэння, хаця, па сутнасці, ён заставаўся прыхільнікам паганства («вогнепаклоннікам», як назваў яго канстанцінопальскі патрыярх). Магчыма, што хрышчэння ўвогуле не было: ёсць звесткі, што Альгерд значна пазней, у 1350-я гады, калі дамагаўся аднаўлення мітраполіі ў Літве, абяцаў у выпадку станоўчага рашэння патрыярха прыняць праваслаўе. Уладкаванне Альгерда ў Віцебску, напэўна, суправаджалася заключэннем такога ж дагавора, як раней у выпадку з Полацкам: «не рухати старины» і не ўмешвацца ва ўнутраныя справы Віцебшчыны.

Напэўна, нешта падобнае адбылося і з Пінскім княствам, у якім пазней княжыў Нарымонт Гедымінавіч. Праўда, ніякіх слядоў пагаднення паміж Пінскам і вялікімі князямі літоўскімі ў больш позні час не прасочваецца. Таму не выключана, што Піншчына і ўсё Палессе былі захоплены ў выніку чыста ваеннай акцыі. Вельмі верагодна, што, прынамсі, у Давыд-Гарадку і Дубровіцы са Сцепанню пры гэтым захаваліся мясцовыя князі (пазней яны будуць згадвацца ў летапісах). Праз некалькі дзесяцігоддзяў на поўдзень ад Палесся, на Усходняй Валыні, з'явяцца праваслаўныя князі Астрожскія, Нясвіцкія, Чацвярцінскія — таксама верагодныя нашчадкі турава-пінскіх ці сцепаньскіх уладароў.

Некаторыя князі захавалі свае вотчыны за кошт леннай прысягі Гедыміну ці яго сынам. Напрыклад, у складзе літоўскага пасольства ў Вялікі Ноўгарад у 1323 годзе мы сустракаем менскага князя Васіля, які выступае такім чынам у якасці васала Гедыміна ці нават служылага князя. Крыху пазней, у 1348 годзе, у такой жа якасці сустрэнем Сямёна Свіслацкага. Паводле ўскосных даных можна меркаваць, што і друцкія князі прызналі сябе васаламі, але не непасрэдна Гедыміна, а віцебскага князя Альгерда (аб гэтым сведчыць пазнейшая сувязь Друцкага княства менавіта з Віцебскай зямлёй).

Не ўсім, аднак, такія падзеі прыйшліся да густу. Напрыклад, адзін з друцкіх князёў Іван з'ехаў у Маскву і падаўся на службу да Івана Каліты — можа, шукаў там паратунку ад вялікага князя літоўскага.

На пачатку ўладарання Гедыміна адбыўся і яго канфлікт з Галіцка-Валынскай Руссю. Паўночны ўскраек Уладзіміра-Валынскага княства — Падляшша і Берасцейшчына — перайшоў пад кантроль Літвы. У гэты момант дзяржава Гедыміна набыла межы, якія амаль супадалі з сучаснымі межамі Літвы і Беларусі.

Далейшы ход падзей на «рускім напрамку» дзеянняў Гедыміна застаецца дыскусійным. Некаторыя беларуска-літоўскія летапісы, а ўслед за імі М. Стрыйкоўскі, прыводзяць паданне аб вялікай вайне, што адбылася паміж Гедымінам і галіцка-валынскімі князямі пасля захопу Падляшша і Берасця. Некаторыя дэталі ў гэтым апавяданні з'яўляюцца відавочна памылковымі: уладзімірскі князь названы не Андрэем, а Уладзімірам, побач з ім дзейнічае загадкавы князь Станіслаў Кіеўскі (быццам бы продак пазнейшых князёў Разанскіх, што не адпавядае рэчаіснасці), а таксама Раман Бранскі (такі князь сапраўды княжыў у Бранску, але пасля 1310 года ён знікае з летапісаў). На гэтай падставе частка даследчыкаў увогуле лічыць паданне цалкам негістарычным, неверагодным. Іншыя ж зыходзяць з таго, што ў ім адлюстраваліся, хаця і ў скажоным выглядзе, рэальныя факты.

Паданне сцвярджае, што пасля захопу Гедымінам Драгічына і Берасця князі Уладзімір (Андрэй Уладзімірскі?) і Леў Луцкі (трэба было б — Галіцкі?) рушылі на Літву. У адказ Гедымін з апалчэннем палачан і жамойтаў уварваўся на Валынь, у бітве з ім уладзімірскі князь загінуў. На наступны год пад Кіевам, на рацэ Ірпень, адбылася бітва літоўцаў з луцкім, кіеўскім, пераяслаўскім і бранскім князямі, на баку якіх былі і татары. Бітва быццам бы таксама скончылася перамогай Гедыміна, пасля чаго ён пасадзіў у Кіеве свайго намесніка — князя Альгімонта Гальшанскага.

Калі такія падзеі сапраўды мелі месца, то яны маглі адбыцца ў 1322 годзе: годам раней Андрэй і Леў былі яшчэ жывыя (аб гэтым сведчыць датаваны запіс аднаго з

луцкіх дакументаў), а ўжо ў 1323 годзе Уладзіслаў Лакаток пісаў да папы Іаана XXII пра смерць «двух апошніх рускіх князёў, якія з'яўляліся для нас цвёрдай абаронай супраць лютых татар». Але не выключана, што яны памерлі без удзелу Гедыміна, бо іншыя варыянты тых жа беларуска-літоўскіх летапісаў даюць зусім не такія звесткі пра абставіны падпарадкавання Валыні Літве. Гедымін быццам бы ажаніў свайго сына Любарта з дачкой уладзімірскага князя, пасля чаго Любарт пачаў княжыць ва Уладзіміры і Луцку. Дарэчы, гэта здаецца больш верагодным, бо Валынь пазней мела такі ж федэратыўны статус у складзе Вялікага Княства Літоўскага, як Полацк і Віцебск.

Аднак і ў гэтай версіі не ўсё гладка. Любарт быў адным з малодшых сыноў Гедыміна і ў 1322 годзе не мог дасягнуць шлюбнага ўзросту. Да таго ж ёсць звесткі, што Андрэй пакінуў не толькі дачку, але і сына Юрыя, які княжыў яшчэ ў 1335 годзе. Так што адносна вайны Гедыміна за Валынь і Кіеў, магчыма, рацыю маюць тыя, хто ўвогуле не прымае на веру гэтае летапіснае паведамленне.

Наконт Кіева ёсць яшчэ адна версія. Крыху пазней, у 1331 годзе, там упершыню пасля Батыевага нашэсця ўпамінаецца мясцовы князь Фёдар. Яго імя супадае з імем аднаго з братоў Гедыміна, звесткі пра якога захаваліся ў грэчаскім зборніку XIV стагоддзя ў Ватыкане. (У адным з запісаў зборніка паведамляецца: «Даў Фёдар, брат Гедыміна, сярэбраных каўкіеў два».) Гэты факт выклікаў здагадку, быццам бы менавіта брат Гедыміна княжыў у Кіеве пасля захопу горада Літвой. Сапраўды, кіеўскі князь Фёдар у адзіным выпадку свайго з'яўлення ў летапісе дзейнічае ў інтарэсах Гедыміна — спрабуе перахапіць наўгародскага епіскапа, якому супраць волі вялікага князя надаў сан уладзімірскі мітрапаліт (Гедымін падтрымліваў іншага прэтэндэнта на наўгародскі епіскапскі пасад). Аднак побач з Фёдарам дзейнічае татарскі баскак, што сведчыць, прынамсі, пра двайную залежнасць Кіева — ад Літвы і Арды. Ды і супадзенне імёнаў ні аб чым яшчэ не гаворыць. Фёдарам мог звацца ў хрышчэнні і Воінь Полацкі. Сярод падручных Гедыміна вядомы іншы князь — Фёдар Святаславіч, выхадзец са Смаленшчыны (сын Святаслава Мажайскага, а ў канцы жыцця — князь у Дарагабужы). Ён уваходзіў у склад пасольства Гедыміна ў 1323 годзе разам з Воінем Полацкім і Васілём Менскім. Гэты князь у сваёй заблытанай палітычнай кар'еры мог нейкі час займаць і кіеўскі пасад.

Адным словам, наяўныя факты не дазваляюць надзейна вызначыць межы палітычнага ўплыву Гедыміна на Русі. Бясспрэчна, што ён быў вельмі значны. Параўнацца з літоўскім уладаром маглі толькі маскоўскія князі Юрый і Іван, якія абапіраліся на татарскую падтрымку. Ні юны нашчадак галіцка-валынскіх князёў Юрый Андрэевіч, ні смаленскі князь Іван, ні іншыя ўдзельныя князі Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і Разаншчыны самастойнай ролі ў 1320—1330-я гады не адыгрывалі. У гэты час акрэсліваюцца два патэнцыяльныя цэнтры аб'яднання Русі — Залессе (дзе яшчэ не скончылася барацьба за першынство паміж Масквой і Цвер'ю) і Літва, якая пачала абрастаць рускімі землямі, як снежны камяк.

Праўда, канстанцінопальскі патрыярхат у гэты час мяняе курс і пераходзіць да падтрымкі царкоўнага адзінства Русі. Новы мітрапаліт у Навагародак не прызначаецца, а тураўская і полацкая епархіі падпарадкоўваюцца мітрапаліту «ўсяе Русі» Феагносту, які займаў кафедру ва Уладзіміры з 1328 па 1353 год і вельмі адмоўна ставіўся да спроб утварыць іншыя мітраполіі. Не ўдалася спроба аднавіць у 1331 годзе галіцкую мітраполію, ініцыятарам якой, напэўна, быў той жа Гедымін.

Магчыма, літоўскі ўладар дасягнуў бы на Русі і большага, але ў значнай ступені яго ўвага скіравана на захад, дзе па-ранейшаму галоўным ворагам застаецца Тэўтонскі ордэн. Пасля пераносу гросмайстарскай рэзідэнцыі ў Мальбарк амаль уся яго дзейнасць сканцэнтравалася ў Прыбалтыцы. У сувязі з гэтым адбыліся змены і ў арганізацыі. Роля генеральнага капітула ўпала, кіруючым органам Ордэна зрабіўся савет вялікага магістра. У яго ўваходзілі пяць вышэйшых службовых асоб: вялікі маршалак (галоўны военачальнік), вялікі гаспітальер, вялікі пасцельнічы, вялікі комтур і падскарбі (міністр фінансаў), а таксама двое з тэрытарыяльных кіраўнікоў

(комтураў) па выбары гросмайстра. Апрача дзясятка комтурстваў у склад ордэнскай тэрыторыі ў Прусіі ўваходзілі чатыры біскупствы.

Усе пасады ў Ордэне былі выбарнымі. Комтуры з'яўляліся начальнікамі для братоў-рыцараў, а таксама адміністратарамі і суддзямі для ахрышчаных прусаў і германскіх каланістаў. Ім дапамагалі віцэ-комтуры. Браты-рыцары жылі, як і звычайныя манахі, сумесна, толькі іх манастыры выглядалі як добра ўмацаваныя замкі. У выпадку вайны яны выконвалі функцыі афіцэраў войска, якое набіралася з мясцовага насельніцтва. Апрача рыцараў у замку знаходзіліся асобы ніжэйшага рангу — службовыя браты і паўбраты — і святары. Па ўсёй прускай зямлі былі раскіданы таксама ордэнскія фальваркі, дзе працавалі залежныя сяляне, і двары-маёнткі мясцовай і прышлай знаці. Падобную структуру меў і Лівонскі ордэн, толькі ў Лівоніі значна больш зямлі належала царкве.

Першыя гады панавання Гедыміна вызначаліся ўсё тымі ж амаль няспыннымі ўзаемнымі набегамі. Асноўным тэатрам вайны з'яўляліся берагі Нёмана ў яго ніжнім цячэнні. Гэта была брама для ўварванняў у глыб княства, і таму літоўцы імкнуліся надзейна зачыніць яе абарончымі замкамі. Ніжэй па цячэнні крыжакі ставілі свае замкі — і для прадухілення літоўскіх набегаў, і як апорныя базы для далейшага наступу. Спачатку такім фарпостам выступала Рагнета, а ў 1313 годзе вышэй па Нёмане заснавалі новы замак Хрыстмемель (Скірстымонь).

У барацьбе супраць Ордэна Гедымін меў выдатнага памочніка — князя Давыда, які быў намеснікам у Горадне, а затым фактычна галоўным ваяводам. Паходжанне гэтай асобы дакладна невядомае. Тэўтонскі храніст Дусбург называе яго гарадзенскім «капітанам» (намеснікам), княжацкі тытул Давыда згадвае толькі пскоўскі летапісец. Сувязь князя з Псковам (пскавічы звярталіся да яго па дапамогу супраць лівонцаў) парадзіла меркаванне, што ён быў сынам Даўмонта-Цімафея Пскоўскага. Аднак Давыд мог быць і нашчадкам якойсьці з былых княжацкіх дынастый Навагародчыны ці Піншчыны. Яго ўзвышэнне пачалося яшчэ пры Віценю, але асабліва ярка палкаводчы талент праявіўся на пачатку панавання Гедыміна. Практычна ні адна перамога над крыжакамі як у абарончых, так і ў наступальных аперацыях не абыходзілася без удзелу Давыда. Гедымін нават аддаў за яго сваю дачку.

Адначасова заставалася небяспека і з боку аддаленага ўсходняга ворага — Залатой Арды. Пры хане Узбеку ўзнавіліся спробы татар схіліць Літву да ўплаты даніны. З гэтай мэтай у 1315 і 1324 гадах адбыліся татарскія паходы (на жаль, інфармацыя аб іх вельмі скупая). Каб утрымаць хана ад новых набегаў, прыходзілася актывізаваць дыпламатычныя намаганні, слаць паслоў з падарункамі. Гэта каштавала нямала, аднак для Гедыміна характэрным было пры магчымасці вырашаць праблемы не ваеннымі, а дыпламатычнымі сродкамі.

Такі падыход, што можна ацэньваць як прыкмету сталення літоўскага дзяржаўнага кіраўніцтва, пачаў намячацца і ў адносінах да крыжацкай небяспекі. У 1322—1323 гадах вялікі князь накіраваў у Рым некалькі лістоў, дзе выказваў намер прыняць каталіцтва, калі хрышчэнне будуць ажыццяўляць папскія легаты, а не місіянеры Ордэна. Цяжка сказаць, наколькі шчыра выказваўся тут Гедымін. Ён не мог не разумець, што такі крок адразу выбіў бы зброю з рук крыжакоў, але ажыццяўленне яго было звязана з вялікай рызыкай. Непазбежна пачаўся б уплыў каталіцкай царквы на ўнутраныя справы дзяржавы і яе знешнюю палітыку, хрышчэнне ў каталіцтва не магло не выклікаць апазіцыі як сярод прыхільнікаў паганства, так і сярод праваслаўнага насельніцтва дзяржавы.

Здаецца, што сам Гедымін быў не супраць збліжэння з Захадам. Яно адкрывала больш шырокія магчымасці для гандлю, дазваляла прывабліваць кваліфікаваных майстроў, на якіх існаваў вялікі попыт у маладой дзяржаве. Вайна патрабавала кавалёў, збройнікаў, але асаблівая патрэба мелася ў мулярах і дойлідах — у Літве ўпершыню разгортвалася масавае будаўніцтва мураваных умацаванняў. Таму Гедымін у гэты перыяд прыкладае шэраг актыўных дыпламатычных намаганняў. Выкарыстоўваючы старыя зносіны Віценя з рыжскім магістратам, у 1323 годзе дама-

гаецца нармалізацыі адносін з Лівоніяй: тэрыторыі Ордэна, архібіскупства і Літвы абвяшчаюцца зонай міру і свабоднага гандлю. Адначасова выдае прывілей, у якім запрашае жыхароў нямецкіх вольных гарадоў на льготных умовах перасяляцца ў Літву.

Сталіцай дзяржавы пры Гедыміне становіцца Вільня. Існуе прыгожае паданне пра заснаванне ім гэтага горада пасля вешчага сну, які прысніўся князю ў час палявання. На самой справе археалогія сведчыць, што горад на месцы пазнейшага Крывога замка на Лысай гары існаваў, прынамсі, з XIII стагоддзя і ўзыходзіў яшчэ ад таго паселішча крывічоў, аб якім гаварылася вышэй. З імем Гедыміна можна ўпэўнена звязваць заснаванне мураванага замка на гары, што цяпер носіць яго імя. Такія ж першакласныя па тым часе крэпасці ўзніклі ў Медніках, Крэве, Лідзе, Троках. Тады ж у дзяржаве з'яўляюцца і першыя каталіцкія кляштары: два ў Вільні, адзін у Навагародку.

Аднак гэтая бурная рэфарматарская дзейнасць, напэўна, выклікала і моцную негатыўную рэакцыю. Сярод літоўцаў і жамойтаў вера продкаў, запаветы даўніны ўспрымаліся як сцяг барацьбы з агрэсіўным Захадам. Супраць збліжэння з Заходняй Еўропай узнялася свайго роду партыя «непрымірымых». Адначасова гэты курс выклікаў адчайныя супрацьдзеянні Тэўтонскага ордэна, які разгарнуў па ўсёй Еўропе агітацыю, каб не дапусціць пагаднення папы з Гедымінам.

Усё гэта прывяло да таго, што хрышчэнне Літвы ў апошні момант сарвалася. Калі, нарэшце, папскія легаты прыбылі ў Прыбалтыку, ім ветліва растлумачылі, што размовы пра хрышчэнне з'явіліся вынікам непаразумення, недакладнага перакладу Гедымінавых лістоў. Мы можам толькі гадаць, якая ўнутраная барацьба стаяла за гэтым рашэннем Гедыміна даць зваротны ход.

Рэформы не былі цалкам спынены. Захавалася і дзяржаўная верацярпімасць, каталіцкія кляштары працягвалі існаваць. Мір з Лівонскім ордэнам пратрымаўся да 1330 года. Але адначасова працягвалі палаць свяшчэнныя вогнішчы на паганскіх капішчах, у тым ліку і ў даліне Свінтарога ля самых муроў Віленскага замка.

Дыпламатычным поспехам Гедыміна спрыяла шматлікасць яго патомства. Ён пакінуў не менш сямі сыноў і столькі ж дачок, што дазваляла замацоўваць міждзяржаўныя пагадненні шлюбамі на любы густ. Сыны набывалі правы на спадчыну тых суседзяў, чый род абрываўся, а дочкі выступалі залогам добрых зносін з зяцямі. Адну з іх ён, як адзначана вышэй, выдаў за Давыда, намесніка гарадзенскага, іншых — за суседніх уладароў. Данміла (у хрышчэнні — Альжбета) стала жонкай мазавецкага князя Вацлава Плоцкага (гэта адбылося ў пачатку панавання Гедыміна). Марыя зімой 1319/20 года ўзяла шлюб з цвярскім князем Дзмітрыем Грозныя Вочы. У 1325 годзе Алдона (Ганна) выйшла за адзінага сына Уладзіслава Лакатка — каралевіча Казіміра. У 1331 годзе Аўгуста абвянчалася з сынам Івана Каліты Сямёнам, а Офка — з сынам Трайдзена Мазавецкага Баляславам. Паводле няпэўных звестак, і апошні ўладар Галіцка-Валынскага княства Юрый Андрэевіч меў за жонку дачку Гедыміна.

Звернем увагу на саюз з Уладзіславам Лакаткам, які пачаўся з 1325 года. Ён азначаў змену палітычнай арыентацыі ў польскіх справах. Калі раней Гедымін, як і яго брат Віцень, падтрымліваў ворагаў Лакатка (напрыклад, Вацлава Плоцкага), то шлюб Гедымінаўны з нашчадкам польскага караля паклаў пачатак саюзніцкім дачыненням.

Уладзіслаў у гэты час працягваў барацьбу за адзінства Польшчы і супраць дамаганняў на яе карону з боку чэшскага караля Яна Люксембурга. Аб'яднаўшы пад сваёй уладай Кракаўска-Сандамірскую зямлю, Велікапольшчу і большую частку Куявіі, Лакаток у 1320 годзе дамогся прызнання яго каралём. У якасці супрацьвагі Чэхіі ён выкарыстоўваў добрыя адносіны з новым венгерскім каралём Карлам-Робертам Анжуйскім, за якога ў 1320 годзе выдаў сваю дачку Альжбету (гэты шлюб пазней прывядзе Анжуйскую дынастыю і на польскі трон). Саюз жа з Літвой дазваляў набыць магутнага саюзніка на поўначы, дзе Ян Люксембург меў актыўную падтрымку Вацлава Плоцкага і Тэўтонскага ордэна, якія ўтварылі грозную кааліцыю.

Супраць гэтай кааліцыі і быў накіраваны саюз Лакатка з Літвой. У 1326 годзе аб'яднанае польска-літоўскае войска на чале з Давыдам Гарадзенскім праз усю Польшчу прайшло на землі Брандэнбургскага курфюрства, дасягнуўшы Франкфурта-на-

Одэры, а на зваротным шляху спустошыла ўладанні Вацлава Плоцкага і паўднёвыя раёны Прусіі. Выступленне аказалася апошнім у палкаводчай кар'еры Давыда — яго забіў падкуплены немцамі мазавецкі рыцар, што знаходзіўся ў яго войску. Галоўным літоўскім ваяводам становіцца баярын Маргеліс — ён згадваецца ў гэтай якасці з 1329 да 1336 года.

Аднак гэты паход не прадухіліў вайны Уладзіслава з Янам Люксембургам, якая пачалася ў 1327 годзе. Праз два гады чэшскі кароль з дапамогай Вацлава Плоцкага выступіў і супраць Гедыміна. У той жа час Тэўтонскі ордэн захапіў Добжынскае княства і частку вотчыны Лакатка ў Куявіі. Вайна працягвалася і пасля смерці Вацлава Плоцкага ў 1330 годзе, і пасля смерці яшчэ праз тры гады сямідзесяцітрохгадовага Лакатка. Толькі яго сын Казімір у 1335 годзе дамогся яе спынення. За вялікую грашовую кампенсацыю Ян Люксембург адмовіўся ад дамаганняў на польскі трон. Затое Казіміру давялося пагадзіцца з канчатковым пераходам Сілезіі ў склад Чэшскага каралеўства. Барацьба ж з тэўтонцамі за Добжынскую зямлю зацягнулася яшчэ на шмат гадоў.

Гедымін, саюзнік Польшчы, актыўна ўдзельнічаў у гэтай барацьбе, тым больш што яна аб'ектыўна была састаўной часткай абароны ўласна літоўскіх зямель ад Ордэна — саюзніка Люксембурга. У 1328 годзе крыжакі мусілі пакінуць свой далёка прасунуты фарпост — замак Хрыстмемель. Але нават гэтую няўдачу яны выкарысталі для чорнага злачынства. Магістр Вернер фон Арселн паабяцаў мірна перадаць замак, які не меў сілы больш бараніць, і запрасіў знатных літоўцаў прыняць яго. Калі ж літоўскае пасольства прыехала, крыжакі зачынілі браму і жыўцом спалілі літоўцаў разам з драўляным замкам. Нават у аднаго з братоў-рыцараў, відавочцаў злачынства, ад такой жорсткасці памутнеў розум, і пазней ён зарэзаў каварнага магістра.

У 1330 годзе вайна з крыжакамі і на прускай, і на лівонскай мяжы палыхае зноў, як быццам і не было часовага паляпшэння адносін. Аднаўляецца абмен разбуральнымі набегамі, гараць ордэнскія фальваркі і літоўскія вёскі, вытоптваюцца палеткі, льецца кроў.

Аднак вайна на захадзе не паглынае ўсе сілы Вялікага Княства Літоўскага і Рускага — гэтае найменне пры Гедыміне пачынае ўжывацца рэгулярна, каб падкрэсліць прэтэнзіі на ўсходнім напрамку. Пад «Літоўскім» княствам тут трэба разумець старадаўнія ўладанні літоўскай дынастыі — Літву ў вузкім сэнсе (Аўкштайцію), Жамойць і гарады Панямоння (ад Горадна да Навагародка). Пад «Рускім» княжаннем меліся на ўвазе як тыя землі, што прынялі літоўскіх князёў па дагаворы ці ўвайшлі ў васальную залежнасць ад Літвы (Полацкае, Менскае, Віцебскае, Свіслацкае, Пінскае, магчыма, Кіеўскае княствы), так і астатнія тэрыторыі былой Кіеўскай Русі, якія Гедымін спадзяваўся падпарадкаваць у далейшым.

Літоўскі князь актыўна рыхтуе глебу для працягу сваёй экспансіі на Русі. Як і ардынскія ханы, ён умешваецца ў жорсткую барацьбу паміж Цвер'ю і Масквой за вялікае княжанне ўладзімірскае. Пры гэтым робіць стаўку на Цвер, князь якой Аляксандр у 1327 годзе здзяйсняе адчайны ўчынак — падтрымлівае паўстанне гараджан супраць ханскага баскака Чол-хана. Гэта было першае адкрытае непадпарадкаванне Ардзе з часоў суздальскага паўстання 1262 года, першае на памяці практычна ўсіх, хто насяляў Русь у гэты момант.

Цвярское паўстанне хан Узбек лёгка падаўляе з дапамогай Івана Каліты, аднак насуперак ім Гедымін дае князю Аляксандру прытулак у сваіх уладаннях, а ў 1331 годзе дапамагае яму часова ўладкавацца на княжанне ў Пскове. Тады ж ён спрабуе (праўда, няўдала) правесці свайго кандыдата на вакантнае месца епіскапа ў Вялікім Ноўгарадзе. (Менавіта з гэтай падзеяй звязана ўпамінанне загадкавага кіеўскага князя Фёдара, пра якога размова ішла вышэй.)

Барацьба за кантроль над Ноўгарадам скончылася праз два гады пасля эпізоду з епіскапам, у 1333 годзе, часовай перамогай Гедыміна. Наўгародцы прынялі да сябе князем яго сына Нарымонта. У 1338 годзе той пасадзіў замест сябе малалетняга сына Аляксандра.

Падобная барацьба ідзе і ў Смаленскім і Бранскім княствах. Смаленскі князь Іван Аляксандравіч выступае як саюзнік Гедыміна, з дапамогай якога ён спрабуе дзейнічаць незалежна ад вялікага князя Івана Каліты і хана Узбека. За гэта ў 1339 годзе супраць Смаленска арганізуецца вялікі паход з удзелам татар і залежных ад Масквы рускіх князёў, якія, аднак, не прывёў да поспеху. Затое ў Бранску адбываецца нейкая ўсобіца, падчас якой гараджане забіваюць князя Глеба Святаславіча. Новы ж бранскі князь Дзмітрый ужо настроены варожа ў адносінах да Івана Смаленскага (як, напэўна, і да Гедыміна).

Аднак яшчэ больш важныя падзеі адбываюцца ў Галіцка-Валынскім княстве, дзе апошні нашчадак Данілы Галіцкага, Юрый Андрэевіч, памёр бяздзетным каля 1336 года прыкладна ў трыццацігадовым узросце. Згасанне магутнай дынастыі выклікала, як заўсёды ў такіх выпадках, вострую барацьбу. Хан Узбек паспрабаваў адыграць ролю вярхоўнага сюзерэна, уступіць у валоданне вымарачнай вотчынай. Аднак, сутыкнуўшыся з процідзеяннем адразу некалькіх моцных палітычных сіл — мясцовага насельніцтва, Літвы, Польшчы, Венгрыі, — ён не здолеў дамагчыся свайго. У Галіцкай зямлі князем быў абвешчаны стрыечны брат Юрыя — Баляслаў Мазавецкі, сын Трайдзена Баляславіча і Марыі Юр’еўны (сястры Андрэя Уладзімірскага і Льва Галіцкага). Баляслаў перахрысціўся ў праваслаўе пад імем Юрыя. Ён, як і Юрый Андрэевіч, з’яўляўся зяцем Гедыміна.

Што ж датычыць Валыні, то літоўскае паданне сцвярджае, што там Гедымін пасадзіў на княжанне свайго малодшага сына Любарта. Не выключана, аднак, што ўладкаванне Любарта адбылося крыху пазней, пасля хуткай смерці Юрыя-Баляслава.

Сына мазавецкага князя прынялі на княжанне пры ўмове, што той не будзе схіляць мясцовае насельніцтва да каталіцтва. Аднак гэтую ўмову ён не выканаў, за што і паплаціўся жыццём — у 1340 годзе яго атруцілі. Пачаўся новы тур барацьбы за Галіцка-Валынскую дзяржаву. Галіцка-львоўскае баярства прысягнула каралю Польшчы Казіміру, а ўладзіміра-луцкае — Любарту Гедымінавічу. Некалі славутая дзяржава апынулася падзеленай між двума суседзямі.

Як мы бачым, сыны Гедыміна пачалі ўладкоўвацца ў тых гарадах, жыхары якіх з’яўляліся даннікамі Залатой Арды. Такая даніна ішла не толькі з Уладзіміра, Луцка і Берасця, але, напэўна, і з Пінска (не выключана, што і з Віцебска, які пэўны час падпарадкоўваўся залежнаму ад Арды Смаленску). Усталяванне літоўскіх князёў у гэтых гарадах не выклікала адразу ваенны канфлікт з Ардой толькі з прычыны кампраміснага рашэння: новыя князі павінны былі атрымліваць двайны васалітэт — і ад Гедыміна, і ад хана. Пры гэтым даніна ў Арду працягвала паступаць, хаця, магчыма, і ў зменшаным памеры. Такую даніну ў 1357 годзе выплачваў з Галіцкай зямлі кароль Польшчы (за што яго папракаў папа Інакенцій V). З Валыні ж ардынская даніна ішла і ў канцы XIV стагоддзя пры ўнуках Гедыміна.

Гедымін мусіў пайсці на такі кампраміс — ён не мог дазволіць сабе вайну з Ардой ва ўмовах узнаўлення крыжацкага націску. Больш таго, спецыяльны падатак — «ардыншчына» — быў ускладзены не толькі на Валынь і Падняпроўе, але і на ўласна літоўскія гарады (гэты падатак згадваецца нават у дакументах XV—XVI стагоддзяў). Даследчыкі лічаць, праўда, што «ардыншчына» ішла не ў якасці даніны татарам, а ў велікакняжацкую казну на расходы, звязаныя з падтрыманнем міру з Ардой — пасольскія зносіны, падарункі і г. д. (розніца, аднак, невялікая). Значна пазней вялікія князі пачалі цалкам пакідаць гэты падатак сабе, але старажытная яго назва засталася.

Вайна з Тэўтонскім ордэнам працягвалася з пераменным поспехам. Вялізныя ахвяры не давалі перавагі ні таму, ні другому боку. У 1331 годзе літоўцы сумесна з войскам Уладзіслава Лакатка перамаглі рыцараў у бітве пад Плоўцамі ў Польшчы, але ў 1333 адбыўся новы крыжовы паход герцага Баварскага, у час якога была захоплена і спалена важная літоўская крэпасць Вялона на Нёмане. Па суседстве з ёй пачалося будаўніцтва моцнага крыжацкага замка, які атрымаў назву Баербург. Крыху ніжэй па цячэнні магістр Дзітрых фон Альтэнбург у 1336 годзе аднавіў замак Юргенбург (Юрбарк). Літоўска-пруская мяжа павольна, але няўхільна паўзла ўверх па Нёмане,

прасунуўшыся ўжо на паўтары сотні кіламетраў ад яго вусця. Адсюль крыжакі маглі непасрэдна пагражаць не толькі Жамойці, але і жыццёвым цэнтрам дзяржавы. Да Коўна заставалася каля сарака кіламетраў, да Вільні — 130. У 1337 годзе ў Баербургу нават заснавалі касцёл, які павінен быў стаць цэнтрам новай каталіцкай парафіі пасля хуткага, як меркавалі тэўтонцы, хрышчэння Літвы. Адначасова лівонцы ўзмацнілі набегі з поўначы. У 1334 годзе іх магістр Эберхард фон Мангейм дайшоў да самой Вільні, спустошыўшы наваколле.

Гедымін адчайна імкнуўся пераламіць ход падзей. Але здзейсненая ім у 1338 годзе аблога Баербурга скончылася цяжкім паражэннем. Магістр фон Альтэнбург сцвярджаў нават, што там загінуў цвет літоўскага рыцарства і ў далейшым не прыйдзецца чакаць моцнага адпору. Але тут магістр яўна выдаваў жаданае за наяўнае, бо літоўцы аказаліся здольнымі не толькі да актыўнай абароны, але і да новага наступу. Узімку 1341/42 года яны ўсё ж захапілі Баербург. Праўда, заплацілі за гэта жыццём свайго правадыра. Вялікі князь Гедымін быў смяротна паранены стрэлам з гакаўніцы — новай агнястрэльнай зброі, што толькі пачынала ўваходзіць ва ўжытак. І зноў цэлая эпоха адыходзіла ў мінулае разам з ім, зноў абнаўляўся склад дзеючых асоб на нашай сцэне.

## Пакаленне пятае: Альгерд і Кейстут (1340—1360-я гады)

Зноў, быццам па волі рэжысёра, адразу некалькі відных дзеячаў папярэдняга перыяду амаль адначасова сыходзяць са сцэны. Крыху раней за Гедыміна, у 1340 годзе, памёр Іван Каліта, а ў 1341 годзе — мазавецкі князь Трайдзен, які ўсяго на год перажыў свайго сына Юрыя-Баляслава. У 1343 годзе смерць спасцігла і апошняга з сыноў Баляслава Мазавецкага, Зямовіта ІІ. Амаль адначасова з Гедымінам у 1341 ці 1342 годзе памёр хан Залатой Арды Узбек.

Настае пара дзейнічаць у поўную моц іх нашчадкам. Гэта будуць шасцёра сыноў Гедыміна (старэйшы, Монвід, памёр хутка пасля бацькі, прыкладна ў 1342 годзе), сярод якіх узвышаюцца магутныя постаці Альгерда (каля 1295—1377) і Кейстута (каля 1310—1382). Малодшы брат Гедыміна Воінь пасля 1323 года не ўпамінаецца.

У Польшчы змена пакаленняў адбылася крыху раней, у 1333 годзе, і там сучаснікам Гедымінавічаў выступае кароль Казімір Вялікі, былы зяць Гедыміна. Яго першая жонка Алдона-Ганна памерла ў 1339 годзе, і зараз сваяцкія адносіны ўжо не звязваюць яго з Літвой, змяніўшыся варожасцю з-за Галіччыны і Валыні. У Мазовіі дзейнічаюць двое малодшых сыноў Трайдзена, Зямовіт ІІІ і Казімір, а таксама сын Вацлава Плоцкага Баляслаў са сваёй маці, Альжбетай Гедымінаўнай.

У Паўночна-Усходняй Русі галоўнымі дзеячамі па-ранейшаму будуць князі з Масквы і Цверы. Спачатку гэта малодшыя браты Аляксандра Цвярскога Канстанцін і Васіль, а таксама сыны Івана Каліты Сямён Горды, Іван Красны і Андрэй. Пазней на сцэну выйдуць сыны Аляксандра Цвярскога і юны Дзмітрый Іванавіч Маскоўскі.

З астатнімі персанажамі мы пазнаёмімся па ходзе дзеяння. У яго дэкарацыях таксама накапіліся ўжо пэўныя змены. Прыбалтыка ўсё больш і больш перастае быць тым глухім кутом, якім з'яўлялася некалі. Яна хутка даганяе ў сваім развіцці астатнюю Еўропу. На тэрыторыі Прусіі пад уладай крыжакоў змянілася трэцяе пакаленне. З людзей, што насяляюць гэтую зямлю, амаль ніхто ўжо не памятае жыццё ў паганстве і незалежнасці. На месцы некалі густых некранутых пушчаў паўсталі гарады, заселеныя галоўным чынам немцамі. Выгляд іх не адрозніваўся ад выгляду Брэмена ці Гамбурга: тая ж архітэктура, тыя ж каменныя карункі гатычных касцёлаў, рынкавыя плошчы з будынкамі ратуш, прастакутная планіроўка вуліц.

На ўзбраенні ордэнскіх замкаў з канца 1330-х гадоў з'явілася важнае наваўвядзенне — агнястрэльная зброя. З яе эфектыўнасцю на ўласным вопыце давялося пазнаёміцца літоўскаму князю Гедыміну. Але пакуль што яна выглядае дзівам, да якога большасць ваякаў толькі прыглядаецца, спадзеючыся на старыя добрыя самастрэлы, мячы і дзіды.

Двары рыцараў-землеўласнікаў і мясцовых нобіляў былі неўмацаванымі — Ордэн не дазваляў свецкім феадалам будаваць замкі ў сваіх уладаннях. Толькі маёнткі каля літоўскай мяжы мелі для абароны вежы-данжоны. Знатныя прусы, якіх некалі прывабілі крыжацкія прывілеі, у значнай ступені анямечыліся, змяшаліся з нямецкімі суседзямі, колішнімі мігрантамі. І тыя, і гэтыя звыкліся аднолькава лічыць прускую зямлю сваёй радзімай, а лютага ворага бачыць у асобе ўпартай у сваім паганстве Літвы.

Застарэлай варожасці няма канца і з літоўскага боку. На жамойцкіх землях, якія шмат дзесяцігоддзяў суседзяць з непрыяцелем, выпрацаваўся своеасаблівы «прыфрантавы» стыль жыцця. Кожная вясковая грамада мае патаемнае сховішча ў лесе, усе сцежкі да яго сцерагуць воўчыя ямы і напятыя самастрэлы. Для скрытнага манеўру войска праз балоты пракладзены не бачныя з паверхні падводныя грэблі, якія ведае толькі той, каму трэба. Яны дазваляюць літоўскай конніцы абрушвацца на ворага ў самых нечаканых месцах.

Дзейнасць Гедыміна шмат чаго змяніла і сярод літоўскіх лясоў. Замест умацаваных парканам сховішчаў там-сям павырасталі мураваныя замкі з грознымі баявымі вежамі. У сапраўдныя шматлюдныя гарады ператварыліся Вільня, Трокі, важнай крэпасцю стала Коўна. У гарадах пануе шматгалоссе: тут і літоўцы, і русіны, і прывабленыя прывілеямі Гедыміна немцы і жыды (у беларускай мове слова «жыд» не мела таго зневажальнага адцення, якое набыло ў Расіі. Яно ўтварылася з біблейскага тэрміна «іўдзей» і было натуральным і адзіным этнонімам для абазначэння яўрэйскага насельніцтва на Беларусі), часам палякі. Таму ў Вільні можна ўбачыць і царкву, і касцёл, і паганскае капішча. Іншыя цэнтры, такія, як Вількамір, Уцяна, Крэва, былая сталіца Кернава, пакуль што нагадваюць хутчэй рускія замкі-дзядзінцы, чым сапраўдныя гарады.

Новая сістэма гандлёвых і палітычных сувязей, арыентаваная на Нёман, а не на Дняпро, спрыяла росту значэння старажытных гарадоў Панямоння: Навагародка, Горадна, у меншай ступені Слоніма, Ваўкавыска. Праўда, назваць іх квітнеючымі ў гэты час цяжка — агульны дэмаграфічны заняпад, вынік пагаршэння клімату і эпідэмій, адбіўся і на іх. Аднак, нягледзячы на гэта, яны з'яўляюцца адным з істотнейшых элементаў Вялікага Княства Літоўскага і Рускага. Асаблівую ролю адыгрывае мясцовае баярства. Калі ў Полацкай, Віцебскай землях баяры жывуць у асноўным сваімі мясцовымі справамі, радзяць у думе свайго князя і кіруюць па чарзе валасцямі і замкамі, то панямонскае баярства ў значна большай ступені арыентуецца на службу пры двары вялікага князя.

У той перыяд уласна літоўскіх і рускіх баяр у дружынах сыноў Гедыміна налічваецца, бадай, пароўну. Для ўсіх суседзяў гэтая грозная, закаваная ў сталь сіла ўспрымаецца цалкам, пад агульнай назвай «літва». Абодва яе этнічныя кампаненты пакуль што выразна адрозніваюцца мовай, звычаямі і самасвядомасцю, але хутка сярод князёў і рыцарства пачнецца працэс збліжэння — асабліва ў тых выпадках, калі прадстаўнікі літоўскай знаці прымаюць хрышчэнне і знікае рэлігійны бар'ер. А выпадкі такія нярэдкія, бо ў кожнага з сыноў Гедыміна хаця б частка ўладанняў ахоплівае праваслаўныя гарады Русі (Беларусі ў сучасным сэнсе). Для кіравання імі неабходна хаця б фармальнае прыняцце хрысціянства і, ужо безумоўна, валоданне мовай.

Тое, што паўночная палова далучаных да Літвы рускіх княстваў (Полаччына і Віцебшчына) належыць да «крывіцкай» этнаграфічнай правінцыі, а паўднёвая (Берасцейшчына, Палессе, у большасці і Панямонне) — да «дрыгавіцка-валынскай», мае вельмі істотнае значэнне. Сярод найбольш аўтарытэтнага сацыяльнага слоя — баярства — абодва дыялекты пачынаюць змешвацца як паміж сабой, так і з літоўскай мовай. Пад уздзеяннем апошняй верх бяруць тыя моўныя рысы, якія ёй не супярэчаць: паўднёварускі цвёрды «р», паўночнае «дзеканне» і «аканне». Гэта якраз тыя фанетычныя асаблівасці, якія сведчаць пра пачатак эвалюцыі ў бок будучай беларускай мовы (падкрэслю — менавіта мовы як суцэльнай сістэмы, а не ізаляваных моўных

рыс). Але каб гэтыя асаблівасці замацаваліся і развіліся, спатрэбіцца яшчэ шмат часу, пэўная ізаляцыя ад астатняга масіву старажытнарускіх дыялектаў і новыя іншамоўныя ўздзеянні (асабліва польскае). У сярэдзіне XIV стагоддзя гаворка можа ісці толькі пра першыя крокі ў гэтым кірунку.

Суседняя Польшча толькі пачынае набываць рысы куртуазна-рыцарскай вытанчанасці, якая хутка стане прывабным арыенцірам для грубаватых літоўскіх арыстакратаў і крыху здзічэлага пасля знікнення сувязяў з Візантыяй баярства Русі. На рускіх землях па-за межамі Вялікага Княства Літоўскага заходнееўрапейская вытанчанасць не адчуваецца зусім. Наадварот, гэтыя землі глядзяць у бок Залатой Арды, адтуль пераймаюць звычаі і стыль паводзін. Магчыма, менавіта ў гэты час мангольскі баявы кліч «урагх» (уперад) ператвараецца ў рускае «ўра». І новыя словы прыходзяць на берагі Нёмана пераважна з Польшчы і Германіі, а ў Паўночна-Усходнюю Русь — з усходу, з цюркскіх моў.

Але рашаючая развілка, што прывядзе да ўтварэння ў межах былой Кіеўскай Русі розных славянскіх народаў, яшчэ не пройдзена. Магчыма, пры іншым раскладзе падзей тыя хісткія тэндэнцыі, якія я зараз наўмысна падкрэсліваю, не мелі б ніякага выніку, хутка змяніліся б іншымі. Менавіта ход палітычных падзей надасць ім з цягам часу вырашальнае значэнне.

У гэты перыяд інфармацыя пра падзеі ўнутры Вялікага Княства становіцца крыху больш выразнай — памяць пра іх не паспее цалкам заблытацца да таго часу, як двума пакаленнямі пазней з'явіцца ў дзяржаве першы ўласны летапісны твор — «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх». Хоць і яго звесткі не заўсёды дакладныя, але яны даюць хоць нейкае ўяўленне пра «сямейныя справы» Гедымінавічаў. Яшчэ пры жыцці Гедымін вылучыў сваім сынам удзелы, прычым большасць з іх атрымала адначасова па частцы Літвы і Русі. Старэйшы сын, Монвід, валодаў былой сталіцай Кернавам, а ў дадатак да яго — Слонімам. Другі, Нарымонт (у хрышчэнні Глеб), княжыў у Полацку і адначасова ў Вялікім Ноўгарадзе. Аўтар «Летапісца» лічыць яго таксама пінскім князем. Альгерд у дадатак да набытага шляхам шлюбу Віцебска атрымаў ад бацькі Крэва. Кейстут валодаў Трокамі, Жамойцю, Гораднам і Берасцем з Падляшшам. Навагародак дастаўся Карыяту, Любарт княжыў ва Уладзіміры і Луцку на Валыні.

Сваім жа пераемнікам Гедымін абраў не старэйшага сына, а аднаго з малодшых — Яўнута, які быў, верагодна, старэйшым сынам яго апошняй жонкі (калі верыць звесткам позніх летапісаў; не выключана, аднак, што яны не зусім адпавядаюць рэчаіснасці). Яўнут атрымаў Вільню разам зІлькамірам, Ашменай, Браславам (апошні горад некалі ўваходзіў у Полацкую зямлю, абставіны яго адрыву ад яе невядомыя).

Аднак той парадак, які склаўся пасля смерці Гедыміна, пратрымаўся вельмі нядоўга. Хутка Яўнут згубіў вярхоўную ўладу ў выніку змовы двух сваіх больш энергічных братоў, Альгерда і Кейстута. Пераварот адбыўся ў 1345 годзе, паводле звестак Троіцкага летапісу, які паведамляе пра бегства Яўнута ў Маскву і хрышчэнне там пад імем Івана. Аднак Пскоўскі летапіс паказвае Альгерда і Кейстута самастойнымі дзеячамі ўжо ў 1342 годзе, калі яны сумесна ажыццявілі паход супраць лівонцаў, каб дапамагчы Пскову. Сын Альгерда Андрэй тады ўжо ахрысціўся і лічыўся намінальна пскоўскім князем (фактычна гэтую ролю выконваў намеснік Альгерда, нейкі літоўскі служылы князь Юрый Вітаўтавіч). У гэтым жа паходзе ўдзельнічаў і адзіны сын Воіня Любка (магчыма, памяншальнае ад Любарта), які загінуў у бітве, калі неасцярожна ўехаў у вартавы полк немцаў. Усё гэта ўскосна сведчыць аб тым, што фактычна ўлада ўжо ў 1342 годзе знаходзілася ў руках Альгерда і яго брата-суправіцеля Кейстута. Магчыма, вярхоўная ўлада Яўнута з самага пачатку з'яўлялася намінальнай.

Замятня ў Літве пасля смерці Гедыміна была на руку новаму маскоўскаму князю Сямёну Гордаму, які пасля смерці бацькі даволі лёгка атрымаў у Ардзе ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае. Ён актыўна імкнецца аднавіць велікакняжацкі аўтарытэт на астатняй Русі, якая пры Гедыміне пачынала ўжо схіляцца ў бок Літвы. Захоўваецца сувязь Масквы з Бранскам — у 1341 годзе дачка тамтэйшага князя

Дзмітрыя выйшла замуж за Івана, малодшага брата маскоўскага князя. Тады ж з'ехаў у Маскву і князь Фёдар Святаславіч са смаленскай дынастыі (той самы, што служыў некалі Гедыміну, а потым, магчыма, княжыў у Кіеве). У 1346 годзе Сямён пасля смерці першай жонкі Аўгусты Гедымінаўны зашлюбіў дачку Фёдара Яўпраксію, аднак хутка адаслаў яе назад: нявеста быццам бы на вяселлі была кімсьці зачаравана і па начах здавалася мужу нябожчыцай. Пазней яна выйшла за фамінскага князя Фёдара Краснага, а Сямён трэцім разам ажаніўся з дачкой загінуўшага па віне яго бацькі Аляксандра Цвярскога — Марыяй Аляксандраўнай.

Смаленск жа заставаўся ў арбіце Літвы. Яшчэ ў бытнасць князем Віцебска Альгерд у 1341 годзе дапамагаў смалянам у іх спробе адбіць у Масквы Мажайск. Добрыя адносіны паміж ім і Іванам Смаленскім захаваліся і пасля таго, як Альгерд стаў вялікім князем літоўскім. Затое ўзнавілася барацьба з Масквой за ўплыў на Вялікі Ноўгарад, дзе пры Гедыміне княжыў Нарымонт з сынам Аляксандрам. Пасля змены ў 1345 годзе ўлады ў Літве ў Ноўгарадзе ўзмацнілася прамаскоўская партыя. Пасаднік Яўстафій прынародна назваў Альгерда «псом». Каб узнавіць кантроль над Ноўгарадам, прыйшлося здзейсніць ваенны паход. Літоўская пагроза абумовіла часовае паражэнне прамаскоўскай партыі, Яўстафій быў забіты на вечы.

Карыстаючыся смутай у Канстанцінопальскай патрыярхіі, якая адбывалася ў 1341—1347 гадах, Літва аднавіла галіцкую мітраполію, якой падпарадкоўваліся валынскія епархіі, Полацк і Тураў. Аднак у 1347 годзе па патрабаванні мітрапаліта Феагноста новая мітраполія была зноў скасавана. За гэтымі падзеямі таксама стаяла патаемная барацьба за ўплыў на Русі.

Між тым пагроза з захаду заставалася. У Прусіі рыхтаваўся новы крыжовы паход на Літву. Альгерд паспрабаваў шукаць дапамогі ў стаўцы новага хана Джанібека, які пасля смерці Узбека прыйшоў да ўлады праз забойства двух сваіх братоў. У Арду накіравалася пасольства на чале з Карыятам Гедымінавічам. Аднак у выніку інтрыг Сямёна Маскоўскага Джанібек не толькі не даў дапамогі, але і затрымаў паслоў.

Усё ж літоўцы і без татарскай падтрымкі даволі эфектыўна процістаялі тэўтонцам. У вялікім паходзе крыжакоў 1345 года прымалі ўдзел сын старога караля Чэхіі Яна Люксембурга Карл і венгерскі кароль Лаяш (Людовік) Анжуйскі, герцагі Бургундскі і Бурбон з Францыі, знатныя графы з Германіі, аднак гэтае шумнае прадпрыемства скончылася, па сутнасці, безвынікова. Пышнае войска арыстакратаў, упрыгожанае пер'ем страусаў на шлемах і грознымі львамі і грыфонамі на харугвах і шчытах, завязла ў прынёманскіх пушчах і вымушана было павярнуць назад. Пасля няўдачы ініцыятара паходу магістра Людольфа Кёнінга абвясцілі вар'ятам і пасадзілі ў затачэнне. Яго пераемнік Генрых Дусмер здзейсніў узімку 1347/48 года новы паход. На рацэ Страве літоўска-рускае войска панесла цяжкія страты, прычым загінуў брат Альгерда Нарымонт, які кіраваў у бітве дружынамі з Полацка і, напэўна, Пінска, а таксама апалчэннем з Вялікага Ноўгарада. (Апрача таго, у бітве на Страве ўдзельнічалі віцебскае і нават смаленскае апалчэнні.) Вынікам смерці Нарымонта стаў адыход Вялікага Ноўгарада пад кантроль Масквы, аднак крыжакам сваёй галоўнай мэты — скарэння Літвы — дамагчыся не ўдалося.

Паміж Альгердам і Кейстутам пасля выгнання Яўнута адбыўся падзел дзяржавы на дзве часткі (як мяркуецца, з мэтай больш паслядоўнага правядзення палітыкі ў двух напрамках: у адносінах да Ордэна і Русі). Альгерд узяў сабе ўсходнюю палову з цэнтрам у Вільні і з гарадамі Вількамірам, Уцянай, Кернавам, Меднікамі, Крэвам, Ашменай. Да яе ж далучыўся Слонім, што застаўся пасля смерці Монвіда, а таксама, верагодна, Менск, дзе мясцовыя князі больш не згадваюцца. Пад кантролем Альгерда, хаця і на дагаворных пачатках, знаходзілася вотчына яго жонкі Марыі (памерлай, дарэчы, прыкладна ў гэты час) — Віцебскае княства, а таксама Полацк, які пасля смерці Нарымонта прыняў Альгердавага сына Андрэя. У іншых уладаннях правілі свае князі, якія знаходзіліся з Альгердам у васальных адносінах. Гэта былі яго брат Карыят Навагародскі, удзельнік пасольства ў Арду Сямён Свіслацкі, Васіль і Сямён Міхайлавічы Друцкія.

Цэнтрам уладанняў Кейстута сталі Трокі. Яму ж належала ўся Жамойць, а таксама Коўна, Пуня, Горадна, Ваўкавыск, Берасце з Падляшшам. Верагодна, яго васалам лічыўся валынскі князь Любарт.

Пінск, здаецца, застаўся за нашчадкамі загінуўшага Нарымонта, крыху пазней там будзе княжыць яго сын Міхаіл (магчыма, гэта ён з'яўляецца тым загадкавым князем Міхаілам — яшчэ адным удзельнікам затрыманага ў Ардзе пасольства). На Палессі захаваліся і дынастыі мясцовых князёў. Пра князёў Тураўскіх, праўда, болей не чуваць, але хутка пачнуць дзейнічаць Іван Гарадзецкі з братам Юрыем, князі Сцепаньскія, а таксама іх родзічы, што атрымалі гарады на Валыні: родапачынальнікі Астрожскіх, Нясвіцкіх, Чацвярцінскіх. Аднаго з іх, пахаванага ў Кіева-Пячорскай лаўры князя Дзмітрыя, мясцовы пацярык лічыць сынам таго Юрыя Уладзіміравіча Пінскага, які памёр яшчэ ў 1292 годзе (што малаверагодна), і бацькам Данілы Астрожскага (выглядае больш праўдападобна). Магчыма, славуты род Астрожскіх паходзіць ад кагосьці з дробных турава-гарадзецкіх ці сцепаньскіх князёў, хто перайшоў на службу да Гедыміна ці Любарта і атрымаў ад іх замак Астрог на ўсходзе Валыні.

Загадкавым застаецца ў гэты момант лёс Клецка і Слуцка, уладальнікі якіх паранейшаму не называюцца ў крыніцах. У тым, што яны ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага, можна амаль не сумнявацца, але калі, якім чынам і на якіх умовах — дакладна невядома. Тое ж можна сказаць і пра стан Рагачова на Дняпры, які мог уваходзіць у адно з суседніх княстваў (Друцкае ці Свіслацкае), мець уласнага князя, а мог адносіцца і да Смаленска ці Чарнігава.

Што датычыць Галіцка-Валынскай дзяржавы, то барацьба за яе пасля падзелу 1340 года, калі Галіч адышоў да Казіміра Польскага, Уладзімір і Луцк — да Любарта, а Берасце і Падляшша праз некалькі гадоў — да Кейстута, яшчэ далёка не скончылася. І Літва, і Польшча не пакінулі намеры цалкам захапіць гэты край, не адмовіліся ад яго і іншыя прэтэндэнты — Арда і Венгрыя. Галіцкія баяры і малады князь Даніла Астрожскі спрабавалі выкарыстаць татар, каб выбіць палякаў, аднак перамога засталася за Казімірам. Пасля страт, панесеных Літвой у бітве на Страве, польскі кароль атрымаў магчымасць мацней націснуць і на Валынь. У 1349 годзе ён адабраў у Любарта гарады Белз, Холм, Уладзімір і Ратна. У апошняга застаўся толькі Луцк і, магчыма, Крэменец.

У гэтых умовах захоўваць варожыя адносіны з Масквой азначала для Вялікага Княства апынуцца ўжо не між двух, а між трох агнёў. Таму ў тым жа 1349 годзе адбылося пагадненне з Сямёнам Гордым. Літва часова адмовілася ад намаганняў уладкаваць сваіх князёў не толькі ў Ноўгарадзе, але і ў Пскове, дзе князь-намеснік Юрый Вітаўтавіч у гэты час загінуў у бітве з немцамі, а яго жонка з дзецьмі з'ехала ў Літву. За вялікі выкуп Сямён згадзіўся выпусціць на волю Карыята і іншых паслоў, перададзеных яму Джанібекам (Міхаіла, Сямёна Свіслацкага, баярына Айштаса). Пагадненне, як водзіцца, замацавалі шлюбам. Аўдавелы Альгерд узяў за жонку юную цвярскую князёўну Ульяну Аляксандраўну, родную сястру жонкі Сямёна Гордага. Адначасова і Любарт ажаніўся з пляменніцай маскоўскага князя, растоўскай князёўнай. Адбылося прымірэнне і з выгнаннікам Яўнутам — ён вярнуўся ў Літву, дзе атрымаў ва ўдзел невялікае Заслаўскае княства (напэўна, вылучанае са складу Менскага).

Пасля гэтага вайна на Валыні ўспыхнула з новай сілай. У 1350 годзе войска Альгерда, Кейстута і Любарта перайшло ў контрнаступленне, захапіла страчаныя напярэдадні гарады і ўвайшло ў Львоў. Каб заручыцца падтрымкай Рыма, літоўскія суправіцелі аднавілі перамовы наконт прыняцця каталіцтва, якія некалі вёў іх бацька (хутчэй за ўсё, гэта быў толькі дыпламатычны манеўр). Аднак ужо ў наступным годзе Казімір зноў дамогся перамогі, прычым Кейстут і Любарт трапілі ў палон. Кейстуту ўдалося вызваліцца коштам фальшывай клятвы, Любарту ж давялося ўнесці за сябе выкуп. Вынікам барацьбы стаў кампраміс: Любарт захаваў за сабой Луцк і Уладзімір, у Белзе пачаў княжыць малады сын Нарымонта Юрый, які прыняў двайны васалітэт і ад Літвы, і ад Польшчы. Львоў, Холм і Галіч засталіся за Казімірам. Землі Падолля, натуральны працяг Галіччыны, захавала за сабой Залатая Арда.

Тым часам у палітычныя падзеі ўмяшалася грозная знешняя сіла — пандэмія лёгачнай чумы, «чорнай смерці», адно з самых цяжкіх бедстваў за ўсю гісторыю сярэднявечча. Гэта быў адзін з тых рэдкіх, але катастрафічных выпадкаў, калі ў выніку мутацыі ўзнікае новая форма хваробы, да якой чалавецтва не мае імунітэту. Такой новай формай і з'явіўся вірус лёгачнай чумы. У актыўнай фазе захворванне суправаджалася характэрным крывахарканнем і ў лічаныя дні зводзіла чалавека ў магілу. Узнялася пандэмія ў Кітаі, адкуль пракацілася па ўсёй Еўразіі. У 1346 годзе чума спустошыла гарады Прыкаспія і Прычарнамор'я, Залатую Арду. У 1348 годзе яна з гандлёвымі караблямі трапіла ў Заходнюю Еўропу і выкасіла там трэць насельніцтва. У 1349—1350 гадах пошасць панавала ўжо ў Скандынавіі і ў Прусіі, дзе сарвала новы паход на Літву.

Па Русі першая хваля чумы прайшлася ў 1352—1353 гадах. Скучаныя гарады былі для яе ідэальнай мішэнню. Пра ход эпідэміі мы маем толькі ўрывачныя звесткі, але і ад іх павявае жахам. Цалкам, да апошняга чалавека, вымер горад Глухаў у Чарнігаўскай зямлі. За дзень у Пераяслаўе-Залескім, Кастраме, Ніжнім Ноўгарадзе памірала па пяцьдзясят, па сто чалавек пры агульнай колькасці насельніцтва не больш чым дзве-тры тысячы чалавек. Жывыя не паспявалі хаваць мёртвых. Пошасць не абыходзіла ні простых, ні знатных: у 1353 годзе памёр у росквіце гадоў вялікі князь Сямён Горды з двума маленькімі сынамі, а таксама яго малодшы брат Андрэй. Памёр і мітрапаліт Феагност, і наўгародскі епіскап Васіль.

Колькасць насельніцтва, якая не паспела аднавіцца пасля татарскіх пагромаў і кліматычных катаклізмаў, зноў рэзка ўпала. Можна меркаваць, што найбольш пацярпелі гарадскія жыхары. У такім выпадку Літва, дзе гарады толькі пачыналі ўзнікаць, павінна была адчуць вынікі эпідэміі слабей. Відаць, вельмі моцна пацярпела Залатая Арда, аб чым ускосна сведчыць часовае падзенне яе ўплыву ў наступныя гады.

Але жыццё працягвала ісці сваім чынам. На вялікай палітыцы бедства адбілася слаба. Былыя канфлікты ўзнавіліся бадай з тых самых пазіцый, на якіх іх засцігла бяда. Ужо ў лютым 1353 года Альгерд разам з Кейстутам і сынам апошняга Паціргам ажыццяўляе паход на Прусію ў адказ на спусташэнне крыжакамі Жамойці. Абмен набегамі ўзнаўляецца. Хіба што ідзе ён больш вяла, бо запавольваецца прыток у Ордэн новых братоў і каланістаў са спустошанай Еўропы.

У гэты час Літва набывае новыя ўладанні на ўсходзе. Адным з іх стала Свіслацкае княства, уладар якога Сямён, напэўна, адышоў з гэтага свету. Княства было далучана непасрэдна да велікакняжацкай маёмасці і падзелена паміж Вільняй і Трокамі згодна дагавора, які заключылі Альгерд з Кейстутам яшчэ пры захопе ўлады: кожны новы набытак дзяліць між сабой пароўну. Свіслацкае княства ў выніку гэтага падзелу знікла як самастойная адзінка, ператварыўшыся ў сукупнасць некалькіх валасцей, даход з якіх ішоў непасрэдна ў Вільню і Трокі. Гэтае двайное падпарадкаванне воласці абапал рэк Свіслач і Бярэзіна (Любашанская, Свіслацкая, Бабруйская) захоўвалі яшчэ ў першай палове XVI стагоддзя.

А ўслед за тым перад Альгердам адкрылася прывабная перспектыва — распачаць экспансію на асноўную частку старажытнарускай тэрыторыі, што заставалася пад кантролем Вялікага Княства Уладзімірскага і Залатой Арды. Для гэтага мелася некалькі падстаў. Пра адну з іх размова ўжо ішла вышэй — на рускіх землях абуджалася імкненне да эфектыўнай цэнтралізаванай улады. Між тым новы маскоўскі князь Іван Іванавіч хаця і атрымаў ад хана ярлык на вялікае княжанне, па характары і здольнасцях значна менш падыходзіў на ролю ўз'яднальніка, чым яго бацька і брат Сямён, які загінуў ад чумы. Іван застаўся ў гісторыі пад мянушкамі Красны ці Рахманы, і яго панаванне сапраўды не вызначаецца рашучымі дзеяннямі. Ён выступае хутчэй як руплівы вотчыннік, чым як актыўны палітык.

Між тым і другі стрымліваючы цэнтр — Залатая Арда — уступіў у не самыя лепшыя часы. Я ўжо нагадваў пра страты, нанесеныя эпідэміяй. Аднак была і больш трывалая прычына: ардынская дзяржава знаходзілася якраз у «супрацьфазе» свайго эвалюцыйнага развіцця. Ад былой маналітнасці яна няўмольна пераходзіла да той

дэцэнтралізацыі, з якой Русь ужо пачынала выходзіць. Хан Джанібек першым пасапраўднаму сутыкнуўся з сепаратызмам мясцовай знаці, з эканамічных меркаванняў зацікаўленай у «бліжнім» гаспадары. Яго сыну Бердзібеку, што пачаў панаваць у 1356 годзе, давялося яшчэ горш. Намеснікі аддаленых улусаў, такія, як магутны правіцель Харэзма Цімур-Кутлуг, фактычна ператвараліся ў самастойных царкоў, абзаводзіліся пышнымі тытуламі і пачыналі амаль адкрыта ігнараваць сталічны Сарай-Берке. Сепаратысцкія тэндэнцыі мелі прыхільнікаў, як і на Русі ў свой час, сярод бліжэйшых ханскіх родзічаў, яго родных і стрыечных братоў.

Бердзібек, зразумела, не мог асэнсаваць глыбінных працэсаў, што разрывалі дзяржаву. Ён бачыў толькі свавольства родзічаў, якое пагражала цэнтральнай уладзе. Таму, не вельмі ламаючы галаву, ён адразу пасля ўзыходу на трон учыніў вялікае кровапусканне, перарэзаўшы ўсіх бліжэйшых сваякоў. Не злітаваўся нават над васьмімесячным братам. Гэтая наіўная спроба змагацца з вынікам без разумення прычыны ні да чаго добрага, зразумела, прывесці не магла. І калі праз тры гады Бердзібек і сам нечакана памёр, адсутнасць законнага наследніка пасада ўвагнала Залатую Арду ў жорсткую палітычную анархію і толькі паскорыла яе распад на паўсамастойныя ўлусы.

Усё гэта вельмі спрыяла прэтэнзіям Альгерда на ролю збіральніка спадчыны Кіеўскай Русі. Пакуль ад Арды адвальваліся перыферыйныя кавалкі (адным з іх, напрыклад, была Малдова, якая спачатку трапіла пад кантроль Венгрыі, але хутка ператварылася ў самастойную дзяржаву), а Іван Маскоўскі ледзь адбіваўся ад юнага і энергічнага Алега Разанскага, Альгерд, здаецца, планамерна рыхтаваўся да націску на Русь. Адбыліся новыя палітычныя шлюбы. Дачка Альгерда выйшла за Барыса, малодшага брата новага суздальска-ніжагародскага князя Андрэя Канстанцінавіча (патэнцыяльнага канкурэнта Івана Маскоўскага). У гэтых абставінах новы сэнс набываў і шлюб самога Альгерда з Ульянай Цвярской, браты якой Усевалад і Міхаіл усё настойлівей высоўваліся наперад (пакуль што толькі ў барацьбе за Цвер са сваім дзядзькам Васілём Міхайлавічам). З другога боку, і дачка новага маскоўскага князя паехала ў Літву жонкай Дзмітрыя Карыятавіча, што магло «па-свойску» змякчаць вастрыню магчымых канфліктаў за кантроль над Руссю.

У 1355 годзе Альгерд зрабіў першую спробу выказаць сябе ўладаром усёй Русі. Спроба датычыла рэлігійных спраў. Пасля смерці ад чумы мітрапаліта Феагноста вакантнай была пасада вышэйшай духоўнай асобы. На гэтае месца Альгерд прапанаваў свайго кандыдата — Рамана, родзіча яго жонкі Ульяны Цвярской. Аднак спроба не ўдалася — візантыйскі патрыярх назначыў мітрапалітам стаўленіка Масквы Аляксея.

Тады Альгерд зноў дамогся аднаўлення на падуладных яму рускіх землях асобнай мітраполіі. Са згоды патрыярха Раман зрабіўся мітрапалітам літоўскім з рэзідэнцыяй у Новагародку. У яго падпарадкаванне перайшлі Полацкае, Тураўскае епіскапствы, а пазней да іх былі далучаны Уладзімірскае, Луцкае, Холмскае, Галіцкае і Перамышльскае ў Малой Русі. Паміж двума мітрапалітамі (а фактычна паміж Літвой і Масквой, што стаялі за іх спінамі) адбылася барацьба за кантроль над Паўднёвай Руссю. У 1356 годзе патрыярх пацвердзіў, што Аляксей з'яўляецца мітрапалітам кіеўскім і ўладзімірскім (гэта значыць, Кіеў заставаўся па-за кантролем Рамана). Аднак новагародскі мітрапаліт не прызнаў рашэнне патрыярха і абвясціў сябе таксама мітрапалітам кіеўскім. У 1358 годзе, калі Аляксей рызыкнуў прыехаць у Кіеў, ён быў там захоплены прыхільнікамі Альгерда і кінуты ў вязніцу, дзе прасядзеў каля двух гадоў. Гэтыя падзеі сведчылі не толькі пра царкоўнае, але і пра палітычнае падпарадкаванне Паўднёвай Русі Вялікаму Княству Літоўскаму. Праўда, пасля смерці Рамана (каля 1361 года) адзінства мітраполіі аднавілася. У 1364 годзе ў Канстанцінопалі падрыхтавалі (напэўна, пад націскам Аляксея) праект акта аб захаванні адзінства рускай мітраполіі «на ўсе наступныя гады», але ён не быў прыняты — патрыярх жадаў пакінуць за сабой свабоду манеўру ў рускіх справах.

Тым часам націск Літвы адчулі на сабе Смаленскае і Бранскае княствы, якія і раней бывалі часам звязаны з ёю даволі цесна. У 1355 годзе ў адным з шасці буйных

смаленскіх цэнтраў, горадзе Белай, з'явіўся літоўскі намеснік. У наступным годзе ў Бранску памёр князь Васіль (магчыма, сын былога ўладара Дзмітрыя), які незадоўга да таго прыбыў туды з ханскім ярлыком. Выкарыстоўваючы наступіўшую затым у Бранску замятню і мала зважаючы на Арду, Альгерд уладкаваў у горадзе свайго другога сына Дзмітрыя. У тым жа 1356 годзе і ў Ржэве з дапамогай Літвы асталяваўся яе стаўленік, князь-ізгой з Яраслаўскага княства, які, праўда, праз два гады быў выбіты адтуль. А ў 1359 годзе, пасля смерці былога літоўскага саюзніка Івана Смаленскага, Альгерд адхапіў ад Смаленскага княства ледзь не палову — усё Пасожжа з Мсціславам і, як можна меркаваць, з Прапошаскам, Паповай Гарой, Мглінам, Дрокавам. Такім чынам ізаляванае раней ад літоўскай тэрыторыі Бранскае княства непасрэдна злучылася з ёй. Лёс Мсціслава падзяліў затым і Таропец.

У 1358 годзе Альгерд адкрыта абвяшчае сваю палітычную праграму, заявіўшы паслам германскага імператара, што «ўся Русь павінна належаць Літве». Хутка ён пасягне і на непасрэдныя ўладанні Залатой Арды, ахопленай жорсткім палітычным крызісам (там пасля смерці Бердзібека з вясны 1359 да 1363 года змянілася дзесяць ханаў, прычым Арда раскалолася па Волзе на дзве варожыя адна другой паловы). У гэты момант Альгерд уладкоўвае сваіх сыноў Уладзіміра і Канстанціна ў былых ардынскіх правінцыях («цьмах») — Кіеўскай і Чарнігаўскай землях. На жаль, падрабязнасці гэтай істотнай падзеі дакладна невядомыя. Пазней Кіеўская зямля рэгулярна аднаўляла з вялікімі князямі літоўскімі такі ж самы федэратыўны дагавор, як Полацк і Віцебск, што дае падставу адносіць пачатак гэтай практыкі менавіта да праўлення Уладзіміра Альгердавіча. Тое ж, напэўна, адбылося і ў Чарнігаве. Такое далучэнне істотна адрознівалася ад далучэння Менскага і Свіслацкага княстваў. Мясцовыя воласці і гарады (Мазыр, Оўруч, Чарнобыль, Жытомір, Канеў, магчыма, Пераяслаў у Кіеўскай зямлі, Рэчыца, Любеч, Гомель, Старадуб, Ноўгарад-Северскі, Пуціўль, Глухаў, Курск — у Чарнігаўскай) атрымлівалі намеснікаў па-ранейшаму з Кіева і Чарнігава, якім плацілі і падаткі. Гэтая вялізная, але слаба заселеная з паслябатыевых часоў тэрыторыя павялічыла плошчу Вялікага Княства адразу прыкладна на трэць, хоць яе сувязі з Вільняй былі даволі слабымі, фактычна трымаліся на асабістым пагадненні Уладзіміра і Канстанціна са сваім бацькам. Нешта падобнае адбывалася і з меншым па памерах Бранскім княствам Дзмітрыя Альгердавіча. На якіх умовах далучыўся Мсціслаў — сказаць цяжка.

У 1363 годзе Альгерд зрабіў яшчэ адзін паход — супраць татарскіх царэвічаў, што ўладкаваліся на Падоллі і адкалоліся ад Арды. У бітве пры Сініх Водах (як мяркуецца — на рэчцы Сінюсе, прытоку Паўднёвага Буга) войска трох царэвічаў было разбіта, што дазволіла Альгерду далучыць і Падолле да сваіх уладанняў, а адначасова дапамагло і маладой Малдаўскай дзяржаве замацаваць сваю незалежнасць. Бадай упершыню з часоў Бурундая ў прычарнаморскіх стэпах панавала не татарская, а руска-літоўская конніца. З зямель былой Кіеўскай Русі практычна ўся паўднёва-заходняя палова ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

Дарэчы, далучаныя ў другой палове 1350-х — пачатку 1360-х гадоў тэрыторыі Альгерд ужо не дзеліць са сваім суправіцелем Кейстутам, а падпарадкоўвае непасрэдна сабе. Гэта сведчыць, што першапачатковыя ўмовы падзелу дзяржавы на дзве часткі змяніліся. Што ж адбывалася ў гэты час на Троцкай палове?

Там, як мы памятаем, адразу пасля эпідэміі чумы аднавілася бясконцая барацьба Літвы з крыжакамі. Не дапамаглі і спробы спыніць яе дыпламатычным шляхам: перад пасламі імператара Літва выступіла з прапановай перавесці Тэўтонскі ордэн з Прыбалтыкі, дзе ён, паводле меркаванняў літоўцаў, сваю ролю выканаў, у прычарнаморскія стэпы — для барацьбы супраць татар. Шанцаў на поспех такой прапановы, зразумела, не было. Больш радыкальным сродкам з'явілася б хрышчэнне Літвы, але да гэтага яе кіраўнікі не былі яшчэ гатовыя. Наадварот, там у гэты момант паганства квітнее, сустракаючы падтрымку як у Альгерда, так і ў Кейстута. Калі сыны Альгерда ад Марыі Віцебскай і хрысціліся ў праваслаўе, то толькі з мэтай уладкавацца ў рускіх землях. Сыны ж Кейстута, як і сыны Альгерда ад Ульяны Цвярской, пры

**Карта 4. Вялікае Княства Літоўскае і яго суседзі ў сярэдзіне XIV ст.**




*1 — сталіцы дзяржаў; 2 — найбольш значныя гарады і цэнтры княстваў; 3 — дзяржаўныя межы; 4 — межы княстваў; 5 — кірункі паходаў крыжакоў; 6 — кірункі паходаў літоўцаў; 7 — лічбамі абазначаны: 1 — Цвярское княства; 2 — Дзмітраўскае княства; 3 — Мурамскае княства; 4 — частка тэрыторыі Лівонскага ордэна; 5 — замак Баербург; 6 — Віленскае княства Альгерда; 7 — Троцкае княства Кейстута; 8 — княствы Верхняй Сілезіі ў складзе Чэшскага каралеўства.*

жыцці бацькоў увогуле не атрымалі хрышчэння. Пры ўсёй верацярпімасці Літоўскай дзяржавы язычніцтва яе ўладароў, як і ўласна літоўскага насельніцтва, апраўдвала ў вачах каталіцкай Еўропы дзейнасць Тэўтонскага ордэна.

Вялікім магістрам Ордэна ў 1351 годзе стаў Вінрых фон Кніпродэ, які займаў гэтую пасаду больш за трыццаць гадоў. Пры ім вайна дасягнула найвышэйшага размаху. Хаця асабістыя адносіны Кніпродэ і Кейстута адпавядалі ўсім патрабаванням рыцарскага этыкету, яны заставаліся варожымі.

На працягу 1350-х гадоў Кейстут дзейнічаў на захадзе даволі паспяхова. На кожны паход крыжакоў ён адказваў спусташальнымі ўварваннямі ў Прусію. Такія набегі адбыліся ў 1353, 1354, 1356 і 1358 гадах. У 1357 годзе літоўцы вярнулі сабе крэпасць Вялону па суседстве з разбураным пасля смерці Гедыміна Баербургам. Поспехам спрыяла і замірэнне з Казімірам Польскім у барацьбе за Галіцка-Валынскую Русь, якое пратрымалася да 1366 года. Правай рукой Кейстута ў гэты перыяд з'яўляецца яго старэйшы сын Пацірг. Звычайна ў паходах яны дзейнічаюць разам.

З пачаткам новага дзесяцігоддзя пачаліся няўдачы. У 1361 годзе літоўцы пацярпелі паражэнне, прычым сам Кейстут трапіў у палон, а Пацірг быў збіты з каня і ледзь выратаваўся пешшу. Кейстуту, праўда, удалося вызваліцца з затачэння ў мальбаркскім замку з дапамогай ахрышчанага літоўца, прыстаўленага да яго крыжакамі ў якасці слугі. Годам раней ордэнскі вялікі маршалак Генрых Шындэркопф спаліў крэпасць Коўна, якую беспаспяхова бараніў другі сын Кейстута Войдат. У 1363 годзе Ордэн зрабіў яшчэ адно безадказнае ўварванне ў Жамойць, а ў 1364 пасля доўгай аблогі

капітулявала Вялона. Маршалак Шындэркопф абяцаў захаваць жыццё бараніўшым яе літоўскім баярам Гастаўту, Сурміне і Мацевіку, аднак усіх іх пасля капітуляцыі забілі. Тады ж быў зноў спалены і новы замак літоўцаў у Коўне.

Магчыма, гэтыя поспехі крыжакоў з'яўляліся вынікам празмернага захаплення Альгерда пашырэннем уладанняў на Русі. Патэнцыялу адной Троцкай паловы не хапала для эфектыўнага супрацьдзеяння крыжовым паходам, у якіх удзельнічала рыцарства ледзь не з усёй Заходняй Еўропы. У 1365 годзе сітуацыя яшчэ пагоршылася ў выніку змовы некалькіх знатных літоўскіх княжычаў супраць Кейстута. Як можна вызначыць з супярэчлівых звестак пра яе ўдзельнікаў, сярод іх быў сын Кейстута Бутаўт (Бутаў). Віленскі намеснік Дзірсуне даведаўся пра плануемы замах, але змоўшчыкі забілі яго і ўцяклі да крыжакоў. У тым жа годзе адбыліся ажно два крыжовыя паходы. У адным з іх выступіў родзіч польскага караля Уладзіслаў Белы з Гнеўкава, другі ўзначальваў германскі арыстакрат Ульрых фон Хатнаў, а ўдзельнічалі ў ім пераважна англічане і шатландцы. У гэтым паходзе адбыўся анекдатычны выпадак: крыжакі ўварваліся ў ваколіцы Горадна, аднак яго намеснік Пацірг Кейстутавіч накіраваў насустрач ім папоў з крыжамі і харугвамі. Іншаземцы, не знаёмыя з мясцовымі ўмовамі, збіраліся ваяваць з паганцамі, а калі ўбачылі хрысціянскую атрыбутыку, то разгубіліся і збянтэжана павярнулі назад. Аднак Кейстут застаўся чымсьці разззлаваны на Пацірга (магчыма, той таксама быў замешаны ў змове) і перавёў яго з Горадна на ўсходнюю мяжу. З гэтага моманту звестак пра Пацірга няма — напэўна, ён хутка затым памёр. Што ж датычыць Бутаўта, то ён быў ахрышчаны пад імем Генрыха і пазней завіхаўся пры двары германскага імператара ў 1370-я гады.

У 1366 годзе адбылася яшчэ адна ўспышка канфлікту на Валыні, але яна хутка скончылася новым пагадненнем з Казімірам. Любарт Гедымінавіч захаваў за сабой Луцкае княства. Яго пляменнікі таксама засталіся княжыць на Валыні, аднак прынеслі прысягу польскаму каралю. З іх Юрый Нарымонтавіч да зацверджаных за ім раней Белза і Крэменца атрымаў Холм, а сын памерлага ў 1359 годзе Карыята Аляксандр — Уладзімір-Валынскі. Старэйшы брат Аляксандра Юрый Карыятавіч уладкаваўся на Падоллі, адваяваным Альгердам у татар. Магчыма, ужо тады ці ў хуткім часе паўночную частку Валыні — горад Ратна з воласцю — атрымаў пяты сын Альгерда Фёдар. Берасцейская ж зямля з Падляшшам па-ранейшаму засталіся ў руках Кейстута, а Галіцкая з Львовам і Перамышлем — у руках Казіміра Польскага.

У Ардзе ў гэты час паступова ўзыходзіла зорка новага палітычнага дзеяча — правіцеля Крымскай «цьмы» Мамая. Ён не быў нашчадкам Чынгісхана і не мог таму проста заняць ханскі трон. Аднак ужо пры Бердзібеку, з дачкой якога быў жанаты, Мамай займаў вышэйшую прыдворную пасаду беклярыбека. Падчас усобіцы, што разгарэлася затым у Ардзе, Мамай выставіў адным з кандыдатаў ва ўладары марыянетачнага хана, царэвіча Абдулаха. Праўда, яму не ўдалося атрымаць уладу над усёй Ардой, але ад імя Абдулаха Мамай фактычна кіраваў з вясны 1361 года заходняй паловай дзяржавы — стэпавымі прасторамі ад Паўднёвага Буга да Волгі.

Паколькі галоўныя сілы Мамая накіроўваліся на барацьбу за ўладу над Ардой, яму нічога не заставалася, як пагадзіцца з адыходам паўднёварускіх зямель у рукі Альгерда. Хутка паміж імі намеціўся нават саюз, накіраваны супраць Масквы. Можна з некаторай асцярожнасцю дапусціць, што афіцыйна гэты саюз быў афармлены як атрыманне Альгердам ярлыка на фактычна захопленыя ім княствы з рук Мамаевага стаўленіка. Прамых доказаў гэтаму няма, аднак яшчэ ў першай палове XVI стагоддзя палітычныя саюзы паміж вялікімі князямі літоўскімі і нашчадкамі золатаардынскіх ханаў — крымскімі ханамі афармляліся менавіта такім чынам. Захавалася некалькі падобных ярлыкоў, якія стэрэатыпна аднаўляліся пры ўзыходжанні на пасад новых уладароў княства ці крымскіх правіцеляў нават у XVI стагоддзі. У іх пацвярджалася права літоўскіх князёў на валоданне былымі ардынскімі «цьмамі»: Кіеўскай, Уладзімірскай, Луцкай, Падольскай, Чарнігаўскай, Курскай, Смаленскай. Сярод зямель, на якія ханы лічылі сябе ў праве даваць ярлыкі, не было звычайна ні гарадоў Панямоння, ні Пінска, ні Менска, ні Віцебска (Полацк з'яўляецца нечакана ў ярлыку

1540 года, але ў больш ранніх яго няма). Як і ў выпадку федэратыўных дагавораў вялікіх князёў са знаццю рускіх княстваў, усе гэтыя дакументы ўзыходзяць да вельмі ранніх прататыпаў, што перапісваліся пазней з унясеннем неабходных змен, але з захаваннем асноўных асаблівасцей першапачатковай граматы. Найбольш раннім з магчымых часоў іх узнікнення і з'яўляецца якраз перыяд збліжэння Альгерда з Мамаем.

Да гэтага моманту стала ясна, што прэтэнзіі Альгерда на аб'яднанне ўсёй Русі будуць мець падставу толькі пасля таго, як будзе знішчаны другі аб'яднаўчы цэнтр — Маскоўскае княства. Там пасля смерці ў 1359 годзе Івана Краснага князем стаў яго дзевяцігадовы сын Дзмітрый. Здавалася б, непаўналецце новага ўладара магло выклікаць баярскую анархію і знясільванне дзяржавы. Аднак маскоўскія баяры, узначаленыя мітрапалітам Аляксеем (які ў 1360 годзе вярнуўся з літоўскага палону), здолелі згуртавацца ў інтарэсах аб'яднальнай палітыкі. У 1362 годзе ім удалося інтрыгамі і шчодрымі падарункамі адспрэчыць на карысць свайго князя велікакняжацкі ярлык, аддадзены перад тым суздальскаму князю Дзмітрыю Канстанцінавічу. Абураны Дзмітрый Суздальскі ўзяўся за зброю, аднак масквічы здолелі адстаяць сваё першынство.

Пакуль маскоўскі князь набіраўся гадоў, яго верныя баяры па сваім разуменні ўмацоўвалі яго ўладу, праганялі непаслухмяных Маскве дробных князёў Растова, Галіча, Старадуба, замянялі іх сваімі стаўленікамі. У 1366 годзе маскоўскі Крэмль абнеслі магутнымі мурамі — першымі ва Уладзіміра-Суздальскай Русі.

Усё гэта не магло спадабацца Альгерду. Ён задумаў зламаць Маскве хрыбет, абапіраючыся на сваіх даўніх сяброў і сваякоў — сыноў Аляксандра Цвярскога, родных братоў Альгердавай жонкі Ульяны. Праўда, старэйшы з іх, Усевалад Холмскі, памёр у 1365 годзе прыкладна ў саракагадовым узросце. Але яго энергічны брат Міхаіл у тым жа годзе прагнаў нарэшце дзядзьку, Васіля Міхайлавіча, з вялікага княжання Цвярскога ў яго Кашынскую вотчыну. Спроба Масквы ў 1367 годзе аднавіць былое становішча поспеху не мела. З дапамогай літоўскага войска Міхаіл Аляксандравіч канчаткова ўладкаваўся ў Цверы, да таго ж праз год яго дзядзька і сапернік памёр. Другі канкурэнт Міхаіла, яго стрыечны брат Ерамей Канстанцінавіч Клінскі, перайшоў на службу да Масквы.

Літва набыла ў асобе Міхаіла моцнага і адданага саюзніка. Цяпер палітыка Альгерда заключалася ў тым, каб нанесці ваеннае паражэнне Маскве і дамагчыся пераходу вялікага княжання ўладзімірскага ў рукі Міхаіла. Калі б гэта атрымалася, уплыў Альгерда на ўсёй Русі стаў бы бясспрэчным.

Падзеі паскорыла спроба масквічоў пазбавіцца Міхаіла, якога яны падманнай клятвай заманілі на перамовы і захапілі ў палон. Мітрапаліт Аляксей, вядома ж, адпусціў маскоўскім баярам грэх парушэння клятвы. Цвярскога князя выратавала толькі пагроза вайны з боку Мамая, якому таксама вельмі не да густу прыйшлося ўзвышэнне Масквы — у ёй ён слушна бачыў пагрозу панаванню ардынцаў на Паўночна-Усходняй Русі. Менавіта на гэтай глебе і адбылося збліжэнне Мамая з Альгердам — верагодна, з ім татарам было лягчэй дамовіцца, чым са свавольнымі маскоўцамі.

У 1368 годзе Альгерд здзейсніў моцны наступ на Маскву. Сутыкненне адбылося ў даволі спрыяльных для яго ўмовах: малады Дзмітрый Маскоўскі знаходзіўся ледзь не ў палітычнай ізаляцыі. Уладары іншых цэнтраў Паўночна-Усходняй Русі (Міхаіл Цвярскі, Дзмітрый Суздальскі, Алег Разанскі) выступалі ворагамі Масквы, адназначна варожа ставіўся і Мамай. Дзмітрый Маскоўскі мог разлічваць толькі на залежных ад яго дробных князёў. У руках жа Альгерда быў цэлы шэраг буйных рускіх княстваў. Прыняў удзел у паходзе і Кейстут з сынам Вітаўтам. Апрача таго, мусіў ісці на Маскву і новы смаленскі князь Святаслаў Іванавіч, уладанні якога ледзь не з усіх бакоў ахапіла Літва. Святаславу давялося парваць дагавор з Масквой, які ён заключыў раней. За гэта мітрапаліт Аляксей пазней нават адлучыў яго ад царквы.

Аднак на самай справе не ўсё ішло так гладка. Ідэя аб'яднання вакол Масквы многім рускім здавалася больш прывабнай, чым падпарадкаванне іншаземцу, да

таго ж яшчэ і паганцу. У Паўночна-Усходняй Русі фактычна разгортваўся нацыянальна-вызваленчы рух з моцнай рэлігійнай афарбоўкай, нават з элементамі фанатызму, накіраваны супраць татарскага ярма. Полымя, першым праменьчыкам якога было Цвярское паўстанне ў 1327 годзе, нарэшце пачынала разгарацца. Гэты рух чымсьці нагадваў той патрыятычны ўздым, што адбыўся крыху пазней у Францыі пры Жанне д'Арк, ці гусіцкі рух у Чэхіі. Аўтарытэт вызваленчай барацьбе надаваў сам мітрапаліт, а таксама вельмі папулярны ігумен Сергій Раданежскі, які заклікаў усіх рускіх аб'яднацца супраць знешніх ворагаў. І Масква ўспрымалася ў гэтых умовах як найбольш рэальная сіла, што магла прывесці да вызвалення. Таму, нягледзячы на часам брудныя метады маскоўскай палітыкі, ёй многае даравалася. Усе ж дзеячы, што карысталіся падтрымкай Арды, не маглі разлічваць на вялікую папулярнасць.

Такія моманты патрыятычнага ўздыму ў жыцці народаў адбываюцца нячаста, і яны звычайна з'яўляюцца буйнейшымі вехамі этнагенезу, глыбока западаюць у народную памяць, адлюстроўваюцца ў фальклоры. Дзеянні ж Альгерда, хаця і вельмі плённыя па аддаленых выніках, такім уздымам не суправаджаліся. Паказальна, што яны не адклаліся ў народных паданнях так, як бітвы пры Койданаве і Магільне, як Кулікоўская бітва. Нават перамога пры Сініх Водах, якая замацавала фактычнае вызваленне ад татарскай улады значнай часткі насельніцтва на тэрыторыі сучаснай Украіны, мела значна слабейшы водгук, чым перамога на Куліковым полі, што адсунула спаленне Масквы толькі на два гады.

Сімпатыі да Масквы распаўсюджваліся, здаецца, і на падпарадкаваных Альгерду рускіх землях. Іх выразнікам стаў нават уласны сын Альгерда — Андрэй Полацкі. Усяго за некалькі месяцаў да паходу на Маскву ён зрабіў напад на воласці Міхаіла Цвярскога, галоўнага саюзніка свайго бацькі. Наўрад ці ён рызыкнуў бы на такі ўчынак, калі б не адчуваў за сабой нейкай падтрымкі.

Але Альгерд рашуча пайшоў супраць гэтай плыні. Увосень 1368 года з вялікім войскам ён імкліва рушыў проста на Маскву, знянацку з'явіўшыся на яе межах. Спешна сабраны маскоўскі заслон быў разбіты, і ў лічаныя дні Альгерд апынуўся пад мурамі новага Крамля. Малады князь Дзмітрый Іванавіч з мітрапалітам Аляксеем зачыніліся ў крэпасці, пакідаючы ваколіцы на спусташэнне ворагу. Быў спалены пасад, моцна пацярпела ўсё наваколле. Вынікі «літоўшчыны», як празвалі гэтае ўварванне, маскоўскі летапісец параўноўваў з вынікамі татарскага карнага паходу на Цвер у 1328 годзе.

У крытычнай сітуацыі ўсё вырашыла пазіцыя гараджан, што заселі ў Крамлі. Калі б яны адчынілі браму перад Альгердам — магчыма, Масква ніколі б не стала сталіцай Рускай дзяржавы. Аднак масквічы змагаліся ўпарта. Альгерд, які дзеля хуткасці выйшаў на Маскву ўлегцы, без камнямётаў і таранаў, пераканаўся ў немагчымасці ўзяць з налёту новыя маскоўскія ўмацаванні. Прастаяўшы ля муроў тры дні і не рызыкнуўшы на халодную і галодную зімовую аблогу, літоўскае войска рушыла дамоў.

Так, нягледзячы на знешні эфект, Альгерд не здолеў дамагчыся сваёй галоўнай мэты. Ужо ў наступным годзе маскоўскія палкі зрабілі паход у адказ на Смаленск, а яшчэ праз год — на Цвер. Відавочна, сілы Маскоўскага княства далёка не былі падарваныя. Літве ж даводзілася ў той час звяртаць пільную ўвагу і на захад, на крыжакоў. Тыя яшчэ ў 1367 годзе заснавалі свой новы фарпост Марыенбург ледзь не пад самым Коўнам, на левым беразе Нёмана. Навакольныя літоўскія воласці цярпелі спусташэнне.

Таму ў 1370 годзе Альгерд і Кейстут зрабілі вялікі паход у Прусію — больш чым за тысячу кіламетраў ад Масквы, мэты папярэдняга выступлення. Свой атрад у падтрымку ім выслаў саюзнік Мамай. Аднак і гэтае прадпрыемства не прынесла чаканых вынікаў. Праўда, у жорсткай бітве на лёдзе замёрзлага балота ля Рудавы загінуў вялікі маршалак Тэўтонскага ордэна Шындэркопф, але і літоўскае войска панесла цяжкія страты і вымушана было адысці. У адказ на Літву рушыў новы крыжовы паход добраахвотнікаў з Аўстрыі і Баварыі, які давялося адбіваць з вялікімі цяжкасцямі.

Між тым і трэці напрамак вымагаў увагі: у Польшчы ў тым жа 1370 годзе памёр, не пакінуўшы сыноў, кароль Казімір. Адразу ж пасля гэтага Любарт выгнаў яго васала Аляксандра Карыятавіча з Уладзіміра-Валынскага. Князь Белза і Холма Юрый Нарымонтавіч перайшоў у ленную залежнасць да Літвы. Польшча фактычна страціла кантроль над усёй Валынню. Каб замацаваць гэты поспех, Альгерд, Кейстут і Любарт у час польскага бескаралеўя ажыццявілі сумесны набег у глыб Польшчы.

У той жа час Міхаіл Цвярскі атрымаў ад Мамая ярлык на вялікае княжанне ўладзімірскае, аднак маскоўскі князь палічыў сябе дастаткова моцным, каб праігнараваць гэты факт. Яго намеснікі не дазволілі Міхаілу ўехаць ва Уладзімір, маскоўскае войска ледзь не перахапіла яго. Міхаіл быў вымушаны ратавацца ў Літве. Дзмітрый Іванавіч паслаў войска і на Бранск, дзе княжыў Дзмітрый Альгердавіч. Альгерд ледзь паспяваў мітусіцца з канца ў канец сваіх вялізных, але занадта турботных уладанняў. На пачатку зімы ён выступіў у трэці на працягу аднаго года далёкі паход — зноў на Маскву (проста незвычайны спрыт для чалавека, якому пайшоў ужо восьмы дзясятак, ці не праўда?).

Зноў літоўскае войска рухалася наперад вельмі імкліва, але і на гэты раз «другая літоўшчына» спынілася ля муроў Крамля, дзе зачыніўся Дзмітрый Іванавіч. Цяпер Альгерд з Кейстутам і Святаславам Смаленскім прастаялі пад Масквой восем дзён, але капітуляцыі не дамагліся. Надзвычай ранняя зіма ў снежні змянілася моцнай адлігай: снег сышоў, а разам з ім і санны шлях. Падрыхтаванае да дзеянняў у зімовых умовах войска Альгерда трапіла, па сутнасці, у пастку бездарожжа. Таму бывалы воін палічыў за лепшае дасягнуць мірнага пагаднення з абложаным у Крамлі праціўнікам. Перамір'е было замацавана згодай на шлюб дачкі Альгерда (у хрышчэнні Алены) са стрыечным братам Дзмітрыя Маскоўскага, Уладзімірам Андрэевічам. Што ж датычыць Міхаіла Цвярскога, то яму заставалася самому паклапаціцца пра сябе.

Міхаіл зноў падаўся ў Арду да Мамая і яго новага марыянетачнага хана Мухамед-Булака, які змяніў Абдулаха ў 1369 годзе. Але і новы ханскі ярлык, прывезены татарскім паслом Сарыходжай, не дапамог — Дзмітрый зноў адмовіўся прызнаць яго. Пасля перамоў з Сарыходжай маскоўскі князь вырашыў, аднак, асабіста ехаць да Мамая з дарамі. Гэты рызыкоўны крок апраўдаў сябе: Мамай, які меў вялікую патрэбу ў грашах дзеля барацьбы за Сарай, нарэшце прымірыўся з Дзмітрыем. Міхаіл вярнуўся ў сваю Цвер.

Такое развіццё падзей не магло задаволіць старога Альгерда: усе яго намаганні знясіліць Маскоўскае княства не прыводзілі да выніку. Таму ў 1372 годзе ён зрабіў апошнюю спробу: выслаў на дапамогу Міхаілу войска свайго брата Кейстута і сына Андрэя, а таксама князя Дзмітрыя Друцкага. Гэтае войска сумесна з цвярычамі хуткім набегам спустошыла ваколіцы Пераяслава-Залескага і Дзмітрава. Неўзабаве і сам Альгерд, разарваўшы мір, выправіўся ў свой трэці паход на Маскву. Аднак гэтым разам засцігнуць ворага знянацку яму ўжо не ўдалося — маскоўскае войска загадзя выступіла насустрач. Ля горада Любуцка, на стыку Тарускага і Навасільскага княстваў, сапернікі сышліся на розных баках глыбокага яра, але ніхто з іх не рызыкнуў перайсці гэты яр. Прастаяўшы так некалькі дзён, Альгерд і Дзмітрый Маскоўскі пагадзіліся разысціся з мірам. Вялікі князь літоўскі вымушаны быў змірыцца з тым, што яго вораг па-ранейшаму застаўся гегемонам у Паўночна-Усходняй Русі.

## Пакаленне шостае: Ягайла, Вітаўт і іх старэйшыя сучаснікі (1370—1390-я гады)

Так надышла ўжо пара наступнага пакалення, хаця гэтым разам змена галоўных дзеючых асоб не супадае па часе з яго выхадам на гістарычную арэну. Род Гедыміна вызначаецца здароўем і доўгім векам насуперак усім бедствам суровага часу. Яго прадстаўнікі жывуць значна даўжэй тых прыблізна шасцідзесяці гадоў, што ствараюць сярэднюю працягласць жыцця іх сучаснікаў. Таму на пачатку 70-х гадоў XIV стагод-

дзя працягваюць актыўна дзейнічаць (і яшчэ не хутка адыдуць у лепшы свет) трое сыноў Гедыміна: сямідзесяціпяцігадовы Альгерд, Кейстут, што набліжаецца да свайго сямідзесяцігоддзя, і малодшы з братоў — Любарт, якому каля шасцідзесяці. Па ўзросце апошні ненамнога адрозніваецца ад сваіх старэйшых пляменнікаў, Карыятавічаў і Нарымонтавічаў. З іх пра Міхаіла Нарымонтавіча Пінскага дакладных звестак няма, невядомы нават год смерці. Пазней, у 1380-я гады, будзе дзейнічаць у Пінску яго сын Васіль. З астатніх Нарымонтавічаў Юрый па-ранейшаму княжыць на Валыні, пра Аляксандра ж, што ў маленстве прадстаўляў бацьку ў Вялікім Ноўгарадзе, і пра малодшага, Патрыкея, цяжка сказаць пэўна, якімі гарадамі валодалі яны ў Вялікім Княстве. З Карыятавічаў старэйшы, Юрый, валодае Падоллем. Пры ім жа, напэўна, знаходзяцца яго браты Аляксандр, Канстанцін і Фёдар, цесна звязаныя сваімі інтарэсамі з Польшчай і Венгрыяй.

Дасягнулі поўнай сталасці і старэйшыя сыны Альгерда і Кейстута — калі б іх бацькі не вызначаліся даўгалеццем, зараз настаў бы іх час панавання. Пяцёра сыноў Альгерда ад Марыі Віцебскай: Андрэй Полацкі, Дзмітрый Бранскі, Уладзімір Кіеўскі, Канстанцін Чарнігаўскі і Фёдар Ратненскі — з'яўляюцца князямі паўсамастойных уладанняў. Напэўна, мае ўдзел і Войдат Кейстутавіч. Яго брат, здраднік Бутаўт-Генрых, знаходзіцца за мяжой, у Германіі. Праблематычна існаванне яшчэ аднаго са старэйшых сыноў Кейстута — Война, звесткі пра якога няпэўныя.

Нарэшце, сярод Гедымінавічаў у гэты час існуюць яшчэ ўдзельныя князі — Міхаіл Яўнуцьевіч Заслаўскі з братам Сямёнам, пра якіх таксама звестак мала. Што датычыць малодшых сыноў Альгерда і Кейстута, якія нарадзіліся ў сярэдзіне — другой палове XIV стагоддзя, то яны пры жыцці бацькоў удзелаў не маюць. Аднак хутка менавіта гэтая моладзь адсуне ў цень сваіх больш сталых сучаснікаў, і ў першую чаргу я маю на ўвазе магутныя постаці Ягайлы Альгердавіча і Вітаўта Кейстутавіча. Яны нарадзіліся каля 1350 года (традыцыйна лічыцца, што Ягайла нарадзіўся ў 1348 годзе) і сябравалі з юнацтва. Несумненна, абодва выдзяляліся здольнасцямі сярод сваёй шматлікай радні і былі найбольш любімымі сынамі бацькоў. Праявілі сябе яны рана, прыкладна ў дваццацігадовым узросце ўдзельнічалі ў паходах пад Рудаву і на Маскву, і актыўнасці іх хопіць яшчэ надоўга.

Гістарычная сцэна, на якой будзе дзейнічаць новае пакаленне, зазнала з пачатку 1350-х да пачатку 1370-х гадоў вельмі значныя змены — іх можна параўнаць бадай што толькі з тымі, якія адбыліся пасля нашэсця Бату-хана і знішчэння Кіеўскай Русі. Гэтым разам, праўда, не ўсе змены такія разбуральныя, хаця колькасць насельніцтва значна паменшала пасля дзвюх хваляў эпідэміі чумы (у 1350—1353 і 1360—1362 гадах). «И опусте вся земля и поросте лесом, и бысть пустыни всюду непроходимые», — так характарызуе вынікі «чорнай смерці» летапісец.

Зноў адбылася перабудова палітычных сувязей. Тэрыторыя колішняй старажытнарускай дзяржавы апынулася падзеленай на дзве паловы — паўночна-ўсходнюю з цэнтрам у Маскве і паўднёва-заходнюю, якая ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага. Гэтая дзяржава пры Альгердзе стала не толькі адной з найвялікшых, але і адной з магутнейшых у Еўропе. У гэты ж час, пры каралю Казіміру Вялікім, скончылася ў асноўным палітычнае аб'яднанне польскіх княстваў (з іх самастойнасць і ўласную дынастыю захавала толькі Мазовія, якая праіснуе ў такой якасці да пачатку XVI стагоддзя). Тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага пасля далучэння Браншчыны, Кіеўшчыны, Чарнігаўшчыны і Падолля перасягае па памерах Польскае каралеўства больш чым у два разы, аднак іх ваенны патэнцыял, як паказала барацьба за Валынь, прыкладна роўны, можа, з некаторай перавагай палякаў. Гэта сведчыць, што большасць тэрыторыі Вялікага Княства (асабліва ўскраіны, якія знаходзяцца пад двайным кантролем Літвы і Арды) населена значна радзей.

Паміж Літвой і Масквой таксама дасягнуты пэўны баланс сіл. Увогуле той факт, што ў трох войнах Альгерду не ўдалося знішчыць у калысцы маладую Маскоўскую дзяржаву, меў выключна важныя вынікі. У новых умовах аб'яднанне ўсіх рускіх княстваў пад адной уладай стала немагчымым. Праз усю Русь пралягла палітычная

мяжа, якая будзе падзяляць яе на працягу некалькіх стагоддзяў. Кожная з дзвюх супрацьстаячых сіл здолее ў далейшым толькі часова ссоўваць гэтую мяжу ў той ці іншы бок і аспрэчваць адна ў адной права на спадчыну Кіеўскай Русі. Насельніцтва абедзвюх частак будзе лічыць сябе «сапраўднай» Руссю, а сваіх суседзяў называць «маскалямі» ці, адпаведна, «літвой». Усё гэта канчаткова разрывае старажытнарускую народнасць на два арэалы, у адным з якіх пачнецца фарміраванне беларускага і ўкраінскага этнасаў (іх шляхі разыдуцца пазней), а ў другім — вялікарускага.

У XIV стагоддзі, зразумела, яшчэ ніхто не можа прадбачыць далёкіх вынікаў. Наадварот, пачуццё агульнарускай супольнасці ў той час праяўляецца ці не найбольш выразна. Галоўным носьбітам такога пачуцця выступае праваслаўная царква, якая актыўна імкнецца пазбегнуць расколу. Улічваючы гэты настрой, канстанцінопальскі патрыярх катэгарычна адмаўляецца працягваць ім жа распачатую практыку прызначэння двух мітрапалітаў — літоўска-валынскага і ўладзімірскага (фактычна маскоўскага). Мітрапаліт, незалежна ад яго рэзідэнцыі, павінен быць толькі «Кіеўскі і ўсея Русі». Такім пасля смерці Рамана становіцца маскоўскі стаўленік Аляксей.

Аднак жыццё няўмольна бярэ сваё, і ўжо ў 1370 годзе патрыярх пагаджаецца з прапановай польскага караля Казіміра і аднаўляе мітраполію ў Галічы для тых рускіх зямель, што ўвайшлі ў склад Польшчы. Між тым Альгерд працягвае патрабаваць мітрапаліта, якому падпарадкоўваліся б Кіеў, Малая Русь, Цвер і іншыя пакуль што незалежныя ад Масквы тэрыторыі. Каб вырашыць пытанне, патрыярх накіроўвае ў 1373 годзе на Русь сваю давераную асобу — балгарскага манаха Кіпрыяна. Той павінен садзейнічаць царкоўнаму і палітычнаму ўз'яднанню Русі. Палітычныя ўмовы, аднак, няўмольна штурхаюць мітраполію да расколу на дзве часткі.

Канчатковае знікненне палітычнага адзінства Русі прыводзіць да таго, што з другой паловы XIV стагоддзя ўсё часцей пачынаюць ужывацца лакальныя назвы яе асобных частак: Вялікая і Малая Русь ці «каляровыя» назвы (Белая, Чорная, Чырвоная Русь). Тэрмін «Малая Русь» эпізадычна ўжываўся ў адносінах да Галіцка-Валынскага княства і раней (упершыню ён зафіксаваны ў XIII стагоддзі). Звычайна яго выкарыстоўвалі ў асяроддзі візантыйскага патрыярха, калі гаворка ішла пра дзве адначасова існуючыя рускія мітраполіі (тая, што ахплівала Валынь і землі Вялікага Княства Літоўскага, звычайна лічылася «Малой Руссю»). Тэрмін «Малая Русь» ужываўся і ў Польшчы ў адносінах да Галіччыны і Заходняй Валыні, уключаных у Польскае каралеўства.

Не выключана, што першапачаткова «каляровая» антытэза мела той жа самы сэнс: «белы» адначасова значыла «вялікі», «асноўны». Блізкасць вымаўлення старажытных слоў «чорны» і «чермный» («чырвоны») наводзіць на думку, што калісьці было адно супрацьпастаўленне (белы — чорны ці белы — чырвоны), якое затым расшчапілася на два ў выніку скажэння першапачатковай формы. (Гэта магло адбыцца тым лягчэй, што тэрміны мелі чыста ўмоўны сэнс.)

Ужыванне «каляровых» назваў з'яўлялася вельмі супярэчлівым, блытаным. Мясцовае насельніцтва не толькі ў XIV стагоддзі, а і значна пазней гэтымі назвамі не карысталася, іх можна сустрэць звычайна ў царкоўным ужытку ці ў творах замежных географаў і храністаў. Агульная тэндэнцыя такая: Белая Русь заўсёды знаходзіцца на поўначы ці паўночным усходзе ад Чорнай ці Чырвонай. Розныя аўтары да Белай Русі адносілі то Ноўгарад, Пскоў і Масковію, то Полаччыну з Віцебшчынай, то княствы ў вярхоўях Акі. В. Тацішчаў на падставе сваіх крыніц увогуле прыйшоў да памылковай высновы, быццам бы Белай Руссю ў старажытнасці звалася толькі Уладзіміра-Суздальская зямля. Можна адзначыць, што практычна ўсе старажытныя аўтары адносілі гэтую назву да розных частак былых паўночнарускай і сярэднярускай этнаграфічных правінцый.

Чорнай Руссю звычайна называлі Панямонне, Палессе і поўнач Кіеўшчыны, Чырвонай — Галіччыну і Заходнюю Валынь, хаця гэтыя назвы часта блыталі. У асноўным іх арэал супадае з паўднёварускай этнаграфічнай правінцыяй XIII стагоддзя.

Увогуле тлумачэнняў паходжання назвы «Белая Русь» выказвалася безліч. Але, як правіла, іх аўтары ігнаруюць той факт, што гэтая назва (як і іншыя аднатыпныя)

мела ў розныя часы розны сэнс і блукала па геаграфічнай карце. У XVII—XVIII стагоддзях яна замацавалася за паўночна-ўсходняй часткай сучаснай Беларусі (Полаччынай, Віцебшчынай, Магілёўшчынай), а ў XIX стагоддзі (нават у другой яго палове) распаўсюдзілася на ўсю Беларусь і канчаткова набыла этнічны сэнс.

Уладары Літоўскай дзяржавы, пачынаючы з Гедыміна, тытулавалі сябе вялікімі князямі (часам каралямі) Літвы і Русі. Калі-нікалі сустракаліся варыянты, якія падкрэслівалі розны статус дзвюх частак дзяржавы: «кароль Літвы і далучанай Русі», «вялікі князь Літвы і далучаных зямель», «уладар Літвы і дзедзіч Русі» і інш. Як нагадвалася вышэй, землі Навагародчыны ў адміністрацыйным сэнсе таксама лічыліся «Літвой». Крыху пазней гэты тэрмін распаўсюдзіўся на іншыя тэрыторыі, непасрэдна падпарадкаваныя вялікім князям — Берасцейшчыну і Меншчыну. Менск і Лагойск яшчэ ў 1387 годзе названы сярод уладанняў «на русской стороне» дзяржавы, але ўжо праз некалькі дзесяцігоддзяў яны будуць лічыцца Літвой. Назва «Русь» у адміністрацыйным сэнсе замацуецца за федэратыўнымі адзінкамі, што мелі пэўныя рысы самастойнасці (Полацкая, Віцебская, Валынская, Кіеўская, Чарнігаўская землі, пазней далучаная Смаленшчына), а таксама за тэрыторыямі Свіслацкага, Друцкага, Мсціслаўскага княстваў.

На гэтай вялізнай тэрыторыі літоўскі этнас у XIV стагоддзі апынуўся ў значнай меншасці. Тэрыторыя этнічнай Літвы займала не больш 1/10 дзяржавы (у колькасці насельніцтва разрыў быў меншы, бо з паслябатыевых часоў на Кіеўшчыне і Чарнігаўшчыне насельніцтва мелася вельмі мала). Праўда, у палітычным сэнсе дамінавала менавіта літоўская знаць, якая групавалася ў Віленскім і Троцкім княствах і стварала непасрэднае атачэнне Альгерда і Кейстута. Сярод яе, напэўна, даволі моцна трымаліся традыцыі «паганскага фундаменталізму».

Але пазбегнуць культурнага ўплыву Русі было немагчыма. Літоўскае баярства яшчэ толькі ішло па шляху ператварэння з племянной арыстакратыі ў служылую феадальную знаць. Яго зямельныя ўладанні абмяжоўваліся адным-двума дварамі з чэляддзю. Не існавала яшчэ ўстойлівай традыцыі і механізма пераходу зямельных выслуг ад бацькі да сына (гарантыі такога пераходу будуць замацаваны толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў). На Русі ж існавалі распрацаваныя юрыдычныя нормы, адукаваныя пісцы. Там ляжалі вотчыны большасці Гедымінавічаў. Нарэшце, іх маткамі і жонкамі былі рускія князёўны, у бліжнюю раду ўваходзілі рускія баяры. Асабліва гэта датычыць Нарымонтавічаў, Любарта з яго сынамі, пяці старэйшых Альгердавічаў, Міхаіла Яўнуцьевіча. Што ж да Карыятавічаў, якія ўладкаваліся на памежжы з Польшчай і Венгрыяй, то яны зведалі ўплыў як Русі, так і Захаду. Аляксандр Карыятавіч, паплечнік караля Казіміра, прыняў, здаецца, каталіцтва і нават разглядаўся як адзін з магчымых прэтэндэнтаў на польскую карону. Яго старэйшы брат Юрый спрабаваў уладкавацца на пасадзе гаспадара Малдовы, але быў там атручаны ў 1374 годзе. Малодшы з братоў, Фёдар, пэўны час служыў каралю Людовіку Анжуйскаму.

Асяроддзе абодвух літоўскіх сюзерэнаў, Альгерда і Кейстута, нягледзечы на прыхільнасць да традыцыйнага паганства, усё ж даволі талерантна ставіцца да праваслаўя з каталіцтвам, што пакідае для яго вялікую свабоду манеўру, хаця часам і ўскладняе жыццё. Застаюцца неахрышчанымі ўсе сыны Кейстута, як і сем малодшых сыноў Альгерда ад Ульяны Цвярской, хаця і іх славянскі ўплыў не абмінае — усе добра валодаюць рускай мовай. Паказальна, што і жонкай Вітаўта стане руская князёўна Ганна, дачка Святаслава Смаленскага.

Справаводства пры двары вялікага князя вядзецца на дзвюх мовах: уся дакументацыя, звязаная з Захадам, выконваецца на латыні, а дакументы, прызначаныя для ўжывання ў самой дзяржаве ці ў яе ўсходніх суседзяў, пішуцца як на латыні, так і на мове Кіеўскай Русі (якая тут выконвае тыя ж функцыі, што і латынь у Заходняй Еўропе). Характэрна, што абедзве мовы з'яўляюцца, па сутнасці, мёртвымі, хаця старажытнаруская і значна менш адышла ад жывых гаворак. Яе ўжыванне дапамагае пазбягаць непаразуменняў, звязаных з тым, што дыялекты Полаччыны і Валыні ўжо даволі выразна адрозніваюцца ад дыялектаў Маскоўскага княства ці Наўгародскай

зямлі, не кажучы ўжо пра мову ўласна літоўцаў. Мясцовыя асаблівасці пачынаюць трапляць і ў канцылярскую мову, хаця ў асноўным яна яшчэ адзіная.

Параўнайце, напрыклад, гучанне трох аднатыпных прысяжных грамат, складзеных у разглядаемы перыяд (дарэчы, адных са старажытнейшых дакументаў велікакняжацкай канцылярыі, што дайшлі да нас). Вось урывак з граматы смаленскага князя Юрыя Святаславіча, складзенай у Вільні ў 1386 годзе: «На том на всем дал есмь правду, хрест есмь целовал за всю свою братию, и за всю свою землю, и за вси свом людин, а то есмь учинил и записал своею доброю волею, што ми то здержати крепко и до своего живота, а не изменити...». А вось грамата, складзеная праз год у Луцку на Валыні: «...Служити ему господару своему королю верно, без олсти (ліслівасці. — *В.Н.*) и без хитрости, николи его не пелавать (не шкодзіць. — *В.Н.*), ни на королево лихо не гадать, але его остерегати от усяких неприязни каздого чоловека, а николи ему противу короля не быть, никоторой речу, ниж только ему королеви служить до своих живот, а добра ему на всякий час хоте бы». Нарэшце, трэцюю грамату склаў у Пераяславе-Разанскім тамтэйшы князь Алег Іванавіч у 1393 годзе: «...Быти ему верну и послушну своего брата великого короля, преже написаного, а никоторым временем его не одстати, а ни против ему был ни дилом, ни словом, ни помыслом, а ни против тых, што суть под его рукою». Здаецца, што гэта ўрыўкі з аднаго тэксту, ці не так? Але ж у луцкай грамаце ўжо з'явілася цяжкаўлоўнае адценне, што набліжае яе да гучання сучаснай беларускай мовы — магчыма, гэта вынік горшай адукаванасці валынскага пісца, большай прастамоўнасці яго стылю.

Больш адчувальнымі ў гэты час робяцца заходнееўрапейскія імпульсы, праваднікам якіх выступае Польшча. Там адбыліся важныя змены: у 1370 годзе памёр кароль Казімір, і са смерцю яго абарвалася пануючая дынастыя (калі не лічыць мазавецкіх князёў, заставаўся яшчэ дробны князь Уладзіслаў Белы, які даўно прадаў сваё княства бацьку Казіміра Уладзіславу Лакатку і пастрыгся ў манахі ў Францыі). Яшчэ пры жыцці Казіміра было вырашана, што карона Польшчы пяройдзе да сына яго сястры Альжбеты — венгерскага караля Людовіка (Лаяша) з так званай Анжуйскай дынастыі. Гэтая дынастыя, адгалінаванне французскага каралеўскага роду, шляхам дынастычных шлюбаў атрымала шмат еўрапейскіх карон. Тое, што Людовік Анжуйскі станавіўся адначасова каралём Венгрыі і Польшчы, уводзіла апошнюю непасрэдна ў свет вытанчанай заходнееўрапейскай палітыкі. Паскараецца распаўсюджанне ў Польшчы рыцарскай атрыбутыкі: гербавых шчытоў, шлемаў з пышнымі плюмажамі, абраду пасвячэння ў рыцары.

Дададзім, што пасля з'яўлення арбалетаў і гакаўніц на змену кальчужным даспехам прыходзяць цэльнаметалічныя латы. Адным словам, польская шляхта набывае тое каларытнае аблічча, што звычайна асацыіруецца ў нас з рыцарскай эпохай.

Заходняя мода не магла не ўплываць на баярства і князёў Літвы і Русі. Магчыма, якраз у гэты час пачынае афармляцца ў традыцыях еўрапейскай геральдыкі «Пагоня» — дзяржаўны герб Вялікага Княства Літоўскага. У яго былі і мясцовыя карані — звычай змяшчаць на княжацкіх пячатках выяву ўзброенага конніка. Такія пячаткі ўжываў на Русі яшчэ Аляксандр Неўскі, потым яго сыны і ўнукі. Коннага воіна са шчытом і сцягам меў на пячатцы галіцка-валынскі князь Юрый Львовіч. Выява вершніка (з кап'ём?) захавалася і на пячатцы полацкага князя Нарымонта (у хрышчэнні Глеба) Гедымінавіча. Аднак ператварэнне пячатак у герб, пабудаваны паводле геральдычных законаў (пазней некаторыя галіны Гедымінавічаў ужывалі яго ў якасці родавага герба), трэба звязваць з заходнееўрапейскім уплывам. Першыя бясспрэчныя факты, калі выява ўзброенага конніка ўжываецца ў якасці дзяржаўнай пячаткі Вялікага Княства, адносяцца да часу Крэўскай уніі (1385 год). Дарэчы, менавіта з 1380-х гадоў прасочваюцца першыя асабістыя пячаткі з гербавымі выявамі і ў прадстаўнікоў іншых арыстакратычных родаў. Тады, напэўна, князі Гальшанскія аформілі свой герб «Кентаўр», а князі Гедройцы — герб «Ружа». Літоўскі баярын Манівід Кайлікінавіч, полацкі баярын Фёдар Корсак, іншыя баяры ў гэты час, яшчэ да прыняцця польскіх гербаў, карысталіся ўласнымі пячаткамі.

Прыклады з гербамі і пячаткамі — толькі найбольш яскравыя сведчанні новага стылю паводзін. Не менш прыцягальнымі былі навацыі ў сацыяльным статусе польскай шляхты, да таго невядомыя не толькі літоўскаму, але і рускаму баярству. Карыстаючыся тым, што кароль-чужынец Людовік не вельмі трывала сядзеў на польскім троне, шляхта ў 1374 годзе дамаглася ад яго так званага Кошыцкага прывілея, паводле якога кожны рыцар атрымліваў для сваіх маёнткаў права імунітэту, як яго называлі. Залежныя сяляне мусілі цяпер плаціць у дзяржаўную казну толькі невялікі, амаль сімвалічны падатак, усе астатнія павіннасці ішлі выключна на карысць землеўладальніка. Адначасова шляхце надаваліся і іншыя правы. Службовыя асобы ў тэрытарыяльных акругах-паветах, у якія ператварыліся былыя княствы, павінны былі назначацца толькі з ліку мясцовых землеўладальнікаў. Утвараўся шэраг выбарных пасад: павятовых суддзяў, маршалкаў, харунжых, якія займаліся судовымі і ваенна-мабілізацыйнымі справамі ў паветах.

Аб такім абмежаванні вярхоўнай улады на карысць рыцарства маглі толькі марыць баяры Вялікага Княства Літоўскага. Старажытнаруская традыцыя, паводле якой будаваўся сацыяльны лад на землях Вялікага Княства, разглядала баяр як паслухмяных слуг княжацкай улады, не болей. Варта адзначыць, што баярства Маскоўскай Русі, да якой заходні ўплыў практычна не дайшоў, так ніколі і не атрымала сапраўднага імунітэту, дый мясцовае самакіраванне не ператварылася там ва ўстойлівую традыцыю. Наадварот, усё большую жорсткасць набывала там іерархічная лесвіца. Князі, якія за пярэчанне свайму гаспадару, ардынскаму хану, маглі развітацца з жыццём, патрабавалі такой жа бездакорнай паслухмянасці ад баяр, а тыя ў сваю чаргу — ад уласных слуг. Праз адно-два стагоддзі гэтая, на першы погляд, неістотная розніца ператворыць Польшчу і Масковію ў палітычных антыподаў: у першай запануе шляхецкая вольніца, а ў другой буйнейшыя вяльможы будуць звыкла называць сябе халопамі самаўладнага цара.

Такім чынам, у другой палове XIV стагоддзя намецілася яшчэ адна гістарычная развілка, і Вялікаму Княству Літоўскаму ў хуткім часе давядзецца зрабіць новы выбар паміж дзвюма альтэрнатывамі: працяг старажытнай рускай традыцыі ці зварот да заходніх узораў? Выбар ажыццявіцца на працягу жыцця таго пакалення, якое мы зараз разглядаем. Гэтым і тлумачыцца такое доўгае адступленне ад палітычных падзей — іх агульны сэнс будзе незразумелым без тых тлумачэнняў, што зроблены вышэй.

А зараз вернемся да гісторыі Вялікага Княства. Па-ранейшаму тры праблемы на яго межах чакаюць свайго вырашэння: вайна з крыжакамі, спрэчка з Польшчай і Венгрыяй за былое Галіцка-Валынскае княства і саперніцтва з Масквой за гегемонію на Русі.

На Валыні ў 1376 годзе Кейстут з братам Любартам і пляменнікамі Нарымонтавічамі і Карыятавічамі зноў паспрабавалі цалкам далучыць да Літвы спрэчныя тэрыторыі. Аднак іх чакала жорсткае паражэнне. Юрый Нарымонтавіч нават трапіў у палон да караля Людовіка і быў адвезены ў Венгрыю. Пазней яго выпусцілі на волю, але пакінулі ў Заходняй Галіччыне ўладальнікам замка Любачаў на правах ці то васала, ці то заложніка Людовіка. Толькі ў 1378 годзе князь Юрый вярнуўся ў Літву, пакінуўшы ў Любачаве сына Івана.

Гэта была, бадай, апошняя рэальная спроба Літвы далучыць Галіч, Львоў і Перамышль да сваіх уладанняў. Пасля гэтай перамогі Людовіка Галіцкая Русь канчаткова замацавалася за Польшчай. (Заўважым, што гэта быў адзін з крокаў, якія вялі ў напрамку з'яўлення самастойнага ўкраінскага этнасу, адасаблення яго ад астатняй Русі.) Яшчэ ў 1375 годзе там у дадатак да праваслаўнай мітраполіі было ўтворана каталіцкае архібіскупства, а ў далейшым гэтая тэрыторыя ўтварыла ў складзе Польскага каралеўства асобнае Рускае ваяводства.

Польска-венгерскі ўплыў адчуваўся і ніжэй па цячэнні Днястра, у Падоллі. Мясцовыя князі Аляксандр і Канстанцін Карыятавічы прынеслі Людовіку ленную прысягу, а іх малодшы брат Фёдар увогуле паступіў да караля на службу. За Літвой засталіся ўладанні Любарта (Уладзімір-Валынскі і Луцк), а таксама Ратна, дзе княжыў

сын Альгерда Фёдар, Крэменец і Корац (уладанні Аляксандра Нарымонтавіча). Пад літоўскім сюзерэнітэтам засталіся і вотчыны служылых рускіх князёў — Астрог, Чацвяртня, Несвіч.

На ўсходзе Альгерд адмовіўся ад спроб перамагчы Маскву сілай, але працягваў зносіны з яе ворагамі — Мамаем і Міхаілам Цвярскім. Дзіўны выбрык лёсу: сын паўстанца супраць татар Аляксандра Цвярскога ўвайшоў у блок з ардынскім уладаром, у той час як унук татарскага ўлюбёнца Івана Каліты ўзначаліў антыардынскі рух! Сапраўды, Дзмітрый Маскоўскі пайшоў зусім не тым шляхам, што яго продкі — рызыкнуў амаль адкрыта парваць з Ардой. Праўда, пры гэтым ён абапіраўся на выніkі той палітыкі, якую праводзілі пад татарскім крылом яго папярэднікі, збіраючы вакол Масквы вялікую і моцную вотчыну.

Выкарыстанне антыардынскіх настрояў было ў руках Дзмітрыя козырам, якому Альгерд нічога не мог супрацьпаставіць. Таму ў 1375 годзе маскоўскі князь выглядаў бясспрэчным лідарам Паўночна-Усходняй Русі. Ён абагульніў узброеныя сілы ледзь не ўсіх тамтэйшых княстваў, але нечакана кінуў іх не супраць татар, а супраць Міхаіла Цвярскога. Абложаны ў сваёй сталіцы, як мядзведзь у берлагу, увосень таго ж года Міхаіл капітуляваў, прызнаў вяршэнства Дзмітрыя і адмовіўся ад усіх прэтэнзій на вялікае княжанне ўладзімірскае. На гэтых умовах за ім была пакінута Цвер. Яго саюз з Літвой цалкам не знік (у наступным годзе ён ажаніў свайго старэйшага сына Івана з дачкой Кейстута), але з барацьбы супраць Масквы Цвер зараз была цалкам выключана.

Аднак не ўсе вынікі гэтага паходу былі спрыяльнымі для Дзмітрыя Маскоўскага і неспрыяльнымі для Альгерда. Тое, што маскоўскі князь і яго натхняльнік мітрапаліт Аляксей выступілі ініцыятарамі міжусобнай вайны на Русі, выклікала гнеў патрыярха і яго эмісара Кіпрыяна. Альгерд удала выкарыстаў гэта, каб зноў узняць пытанне аб незалежнай ад Масквы літоўскай мітраполіі. Гэтым разам патрыярх зноў пайшоў насустрач «вогнепаклоннiку» — у канцы 1375 года ён прызначыў Кіпрыяна мітрапалітам Кіеўскім і Літоўскім (праўда, з агаворкай, што пасля смерці Аляксея мітраполіі павінны зноў уз'яднацца). Не апошнюю ролю адыграла тут пагроза Альгерда, што ў выпадку адмовы ён прыме мітрапаліта «ад лацінскай царквы». Гэта сведчыць, што пераарыентацыя ў бок каталіцтва ўжо тады разглядалася ўладарамі Літвы як магчымы крок. Крыху раней, у 1373 годзе, рымскі папа афіцыйна звяртаўся да іх з прапановай прыняць каталіцкую веру, але Альгерд усё вагаўся. Магчыма, ён не мог развітацца з марай падпарадкаваць усю Русь, а дзеля гэтага неабходны былі сувязі з праваслаўнай царквой.

Але Альгерду не суджана было зрабіць канчатковы выбар — у 1377 годзе, ва ўзросце 83 гадоў, ён памёр і быў пахаваны паводле паганскага абраду (спалены на вогнішчы). Цвярскі манах Спірыдон-Сава, які пісаў на мяжы XV—XVI стагоддзяў, сцвярджаў, нібыта перад смерцю Альгерд па просьбе жонкі прыняў праваслаўнае хрышчэнне і нават пастрыжэнне ў манахі, аднак слушнасць гэтай звесткі выклікае сумненні. За сваё доўгае жыццё Альгерд пакінуў надзвычай вялікае патомства: пяць сыноў ад першага шлюбу і сем ад другога, а таксама не менш шасці дачок. Пры дзіцячай смяротнасці каля 30—40 % народжаных, уласцівай старажытным часам, выжыванне стольких дзяцей было ўнікальнай з'явай. Але адносна наследавання ўлады вялікая колькасць сыноў таіла небяспеку смуты. Перад смерцю Альгерд распарадзіўся сваёй спадчынай так жа, як некалі яго бацька. Пераемнікам ён прызначыў старэйшага сына ад другой жонкі — Ягайлу. Напэўна, вялікі князь быў незадаволены сваімі першынцамі, Андрэем і Дзмітрыем, якія на сваіх рускіх удзелах аддаліліся ад агульнадзяржаўных інтарэсаў.

Альгерд не змог пераадолець інерцыю «ўдзельнай эпохі», якая патрабавала, каб кожны родзіч вялікага князя меў сваё княства. Удзелы атрымалі яго малодшыя сыны: Карыгайла пачаў княжыць у Мсціславе, Віганд — у Кернаве, Карыбут — у Ноўгарадзе-Северскім. Побач з Карыбутам, у Старадубе, атрымаў удзел Патрыкей Нарымонтавіч. Пра ўладанні Скіргайлы і Лугвеня ў гэты час звестак няма. Калі дадаць сюды Войдата і Вітаўта Кейстутавічаў, што княжылі адпаведна ў Новагародку і

Горадне, і падрастаючых Свідрыгайлу Альгердавіча і двух малодшых сыноў Кейстута, якім хутка таксама трэба было вылучаць уладанні, — то перад намі яўны рэнесанс удзельнай сістэмы, так пасняхова пераадоленай у суседняй Польшчы. Існаванне звыш дваццаці паўсамастойных князёў не магло абысціся без канфліктаў паміж імі і да таго ж запавольвала працэс утварэння заможных рыцараў-магнатаў, на гаспадарцы якіх трымаўся дабрабыт Польшчы.

Калі б Літва існавала як асобная монаэтнічная дзяржава, яна непазбежна прайшла б праз натуральную для яе стадыі развіцця сістэму ўдзелаў (і, напэўна, была б захоплена ў гэты момант магутнымі суседзямі). Аднак сімбіёз з Руссю, якая такую стадыю ўжо мінавала, ствараў магчымасць пазбегнуць драблення, асабліва пры ўзмацненні польскага ўплыву. Праўда, рэалізацыя падобнай магчымасці не абышлася без жорсткага крызісу.

Заканчэнне доўгага і моцнага праўлення звязана з ажыўленнем унутрыпалітычнага жыцця. Дзяржава ў гэты момант нагадвае насякомае, якое скінула цесны хіцінавы панцыр і хутка расце ў кароткі прамежак, пакуль новая абалонка не зацвярдзела. Як і пасля смерці Гедыміна, скрытае напружанне, што накапілася да таго часу, ліхаманкава разраджаецца.

Непасрэдным штуршком для ўнутрыдзяржаўнай барацьбы і на гэты раз стала занядце велікакняжацкага пасада малодшым братам у абыход старэйшых. Найбольш незадаволенымі былі Андрэй і Дзмітрый Альгердавічы, пазіцыя іх братоў Уладзіміра і Канстанціна невядомая. Андрэй Полацкі барацьбу за ўладу прайграў і пасля гэтага адкрыта стаў прыхільнікам Маскоўскага княства. Узімку 1377/78 года ён са сваёй дружынай і сынамі Міхаілам, Сямёнам і Іванам уцёк з Полацка ў Пскоў, дзе яго прынялі гараджане на княжанне, якое займаў некалі ў маладосці. Хутка потым Андрэй з'ездзіў у Маскву і прынёс васальную прысягу Дзмітрыю Іванавічу — «айцу і гаспадзіну», які па ўзросце падыходзіў яму ў сыны.

У гэты ж час і Фёдар Альгердавіч перайшоў са сваім Ратненскім княствам у васальную залежнасць ад Людовіка Анжуйскага. Князь Дзмітрый Бранскі (ёсць меркаванне, што хутка пасля маскоўскіх паходаў Альгерда ён быў выбіты масквічамі з Бранска і княжыў у суседнім Трубчэўску) пэўны час вагаўся. Але калі зімой 1378/79 года маскоўскі князь накіраваў на Трубчэўск войска свайго стрыечнага брата Уладзіміра Серпухаўскага, Дзмітрый Альгердавіч не аказаў яму супраціўлення і выказаў пакорлівасць. Аднак утрымаць свой удзел ад помсты літоўцаў не здолеў і таксама з'ехаў з сям'ёй і дружынай у Маскоўскае княства, дзе атрымаў у якасці кампенсацыі Пераяслаў-Залескі.

У Полацку пасля Андрэя Ягайла паспрабаваў уладкаваць свайго брата Скіргайлу, які толькі што вярнуўся з дыпламатычнай паездкі да крыжакоў і Людовіка Анжуйскага. Аднак Полацк адмовіўся прыняць новага князя — фармальна за тое, што быў паганцам. Скіргайлу пасадзілі на каня задам наперад і з ганьбай выправадзілі з горада. Напэўна, пазіцыі Андрэя ў Полацку, якім ён перад тым валодаў 35 гадоў, былі вельмі моцныя, што пацвердзяць і далейшыя падзеі.

Хісткасць становішча Ягайлы заключалася яшчэ і ў тым, што бясспрэчным старэйшынам у родзе літоўскіх князёў застаўся яго дзядзька Кейстут. Праўда, той падтрымаў рашэнне Альгерда і згадзіўся, каб трыццацігадовы Ягайла заняў месца свайго бацькі ў дуумвіраце. Аднак кожнаму было відавочна, што раўнапраўны саюз васьмідзесяцігадовага вопытнага воіна і палітыка з «юным» пляменнікам — справа не зусім натуральная.

За падзеямі ў Літве пільна назіралі і ў Тэўтонскім ордэне. Палітычны крызіс у Вялікім Княстве адкрываў магчымасць для інтрыг, на якія быў вялікі майстар кіраўнік Ордэна Вінрых Кніпродэ. Літоўскія князі падазрона паглядалі адзін на аднаго, баярскія групоўкі Вільні і Трок, кожная на свой лад, спадзяваліся набыць пануючае становішча па ўзоры маскоўскага баярства. Удала справакаваць сутыкненне гэтых сіл — значыла яшчэ мацней штурхнуць Літву ў полымя міжусобіцы.

І вось пачалася тонкая гульня, пабудаваная на зацікаўленасці літоўцаў у мірнай перадышцы на захадзе. Спачатку ў верасні 1379 года быў заключаны сепаратны дагавор

паміж Ордэнам і Трокамі аб міры на 10 гадоў, прычым пытанне аб узаемаадносінах Ордэна з Віленскай паловай у ім нават не закраналася. А праз паўгода ўжо Ягайла заключыў з Ордэнам тайнае пагадненне аб тым, што не будзе аказваць Кейстуту ваенную дапамогу ў выпадку яго сутыкнення з крыжакамі. Нарэшце, адзін з саноўнікаў Ордэна паклапаціўся аб тым, каб пра змест гэтага тайнага пагаднення стала вядома ў Троках. Крыжакі дамагліся сваёй мэты — абодва літоўскія ўладары пачалі падазраваць адзін аднаго ў намеры расправіцца з суправіцелем з дапамогай Ордэна. Праўда, Вітаўт пастараўся развеяць трывогу бацькі адносна Ягайлы — ён быў упэўнены, што яго стары сябар не здольны на вераломства. Аднак насенне ўзаемнага недаверу было ўжо пасеяна, каб хутка прарасці крывавай смутай.

Перад тым адбылася яшчэ адна значная падзея — спроба Ягайлы прыняць удзел у сутыкненні Дзмітрыя Маскоўскага з Мамаем. Гэтая спроба з'явілася натуральным працягам лініі яго бацькі на падтрымку ўсіх варожых Маскве сіл. Аднак ні Альгерд, ні Міхаіл Цвярскі не рашаліся адкрыта выкарыстоўваць ваенную моц Арды — вельмі ж непапулярнай была б такая тактыка сярод праваслаўнага насельніцтва, асабліва на фоне таго антытатарскага ўздыму, пра які я казаў вышэй. Не выпадкова аднойчы Міхаіл прама адмовіўся ад ваеннай дапамогі, прапанаванай Мамаем.

Ягайла ж рызыкнуў якраз на такое: дамовіўся ўдзельнічаць у сумесным з татарамі паходзе на Маскву, намечаным на пачатак восені 1380 года. Масква перад гэтым зусім ужо ўзняла галаву: не толькі выключыла з гульні Міхаіла Цвярскога, але ў 1378 годзе на рацэ Вожы разбіла карны атрад, пасланы Мамаем, і цалкам перастала выплачваць ардынскую даніну. Для Мамая гэта быў балючы ўдар па яго палітычным прэстыжы, асабліва непажаданы напярэдадні непазбежнага сутыкнення з новым уладаром заволжскай паловы Арды — ханам Тахтамышам, якога падтрымліваў магутны пераемнік славы Чынгісхана, сярэднеазіяцкі правіцель Тамерлан.

Аднак войска, якое мелася ў распараджэнні Мамая, ужо мала нагадвала тую непераможную ваенную машыну, што прывёў некалі на Волгу Батый-хан. Жыццё няўмольна брала верх над бязлітасным ваяўнічым фанатызмам. Не выпадкова Мамаю давялося нават наймаць за грошы недастаючае войска ў італьянскіх калоніях, заснаваных незадоўга да таго на крымскім узбярэжжы замест былых калоній візантыйцаў. І хаця сам ён палічыў сябе дастаткова магутным, каб адмовіцца ад паслуг марыянетачных ханаў («от всех сущих его нарицашеся великий царь Мамай»), Дзмітрый Маскоўскі рызыкнуў пайсці на прамое ваеннае сутыкненне з галоўнымі сіламі ворага.

Пра абставіны Кулікоўскай бітвы існуе вялізная колькасць літаратуры, але галоўным чынам яна асвятляе падзеі з маскоўскага боку. Між тым адна з галоўных загадак, ледзь не вырашальная акалічнасць у ланцугу падзей — дзеянні Ягайлы, які з войскам ішоў на злучэнне з Мамаем, але раптоўна замарудзіў ход. Мамай дарэмна чакаў яго ва ўстаноўленым месцы цэлы тыдзень, а потым мусіў змагацца з аб'яднаным войскам ледзь не ўсёй Паўночна-Усходняй Русі сам-насам і ў выніку быў разгромлены, а хутка затым пацярпеў паражэнне ад Тахтамыша, пасля чаго загінуў пры спробе схавацца ў Крыме.

Улічваючы, з якой цяжкасцю перамог Дзмітрый Данскі (літаральна з апошніх сіл, коштам страшэнных страт), можна амаль не сумнявацца, што сумеснага ўдару татар і літоўцаў ён бы не вытрымаў. Чаму ж Ягайла ўстрымаўся ад удзелу ў Кулікоўскай бітве? На жаль, літоўскі аспект падзей мы ведаем настолькі мала, што магчымых тлумачэнняў — безліч. Аднак наўрад ці літоўскае войска проста спазнілася — ці то з-за сваёй маруднасці (Альгерд, нагадаем, умеў рухацца неверагодна хутка), ці то з-за таго, што Ягайлу напалохаў і збіў з панталыку рух Дзмітрыя проста насустрач яму ў час маршу на Кулікова поле (цяжка ўявіць, што літоўская разведка так цудоўна ведала ўсе нюансы маршруту маскоўскага войска, адначасова не ведаючы, як блізка знаходзіцца Мамай). Хутчэй за ўсё Ягайла ўхіліўся ад бою свядома, але чаму? Можа, у апошні момант вырашыў зрабіць стаўку не на Мамая, а на Тахтамыша, той і сапраўды праз два гады і без літоўскай дапамогі спаліў Маскву і аднавіў выплату даніны. Ці, можа, пераканаўся: сумесная з татарамі перамога над

рускім войскам будзе горш за паражэнне ў плане далейшых зносін з праваслаўным насельніцтвам, што складала большасць падданых і самога Ягайлы. Слушным з'яўляецца і меркаванне Кастуся Тарасава, быццам вялікі князь мог сутыкнуцца з моцнай апазіцыяй ва ўласным войску, у значнай частцы праваслаўным, якое не пажадала гінуць пад маскоўскімі мячамі дзеля аднаўлення татарскай улады на Русі. Дарэчы, у войску Дзмітрыя Данскога знаходзіліся два браты і палітычныя канкурэнты Ягайлы, Андрэй і Дзмітрый. Літоўскі правіцель мог чакаць, што хтосьці з яго рускіх васалаў па прыкладзе мяцежных Альгердавічаў у вырашальны момант пяройдзе на бок Масквы.

Ва ўсякім выпадку, паход Ягайлы прадэманстраваў яго неразважлівасць і наўрад ці дадаў яму славы. Папрокі маглі ўзнікнуць і за тое, што распачаў паход, і за тое, што не давёў да канца. Для Масквы ж перамога з'явілася важным сродкам узняцця свайго аўтарытэту і надання ўпэўненасці, яе не перакрэсліла цалкам нават хуткае паражэнне ад Тахтамыша — колішняга жаху перад Ардой ужо не было.

Для ўзмацнення сваіх пазіцый Ягайла працягваў абапірацца на крыжакоў (у прыватнасці, выкарыстаў іх ваенную дапамогу, калі ў 1381 годзе спрабаваў зноў скарыць Полацк). Аднак гэта толькі абудзіла падазрэнні старога Кейстута, які да таго ж быў незадаволены тым, што пляменнік аддаў сястру Марыю за свайго ўлюбёнца Вайдзілу, бязроднага па паходжанні, які, аднак, зрабіў імклівую кар'еру. Менавіта праз Вайдзілу, у той час лідскага намесніка, Ягайла ажыццяўляў зносіны з крыжакамі.

Напружанне нарэшце выбухнула: Кейстут раптоўна прыехаў у Вільню, дзе захапіў пляменніка і знайшоў у яго канцылярыі кампраметуючыя дакументы. Ягайла быў зведзены з вялікага княжання, але па просьбе Вітаўта Кейстут захаваў за ім Крэва і Віцебск. Вайдзілу ж павесілі. Мусіў уцячы з Полацка да крыжакоў і Скіргайла, які з вялікімі цяжкасцямі заняў-такі месца Андрэя пасля паходу 1381 года і аблогі Полацка (дзеля гэтага ён хрысціўся ў праваслаўе пад імем Івана).

Але змяшчэнне Ягайлы апынулася каганцом масла, лінутага на вутолле варожасці. Адбыліся адкрыты разрыў і ваеннае супрацьстаянне паміж дзвюма групоўкамі: віленскай, прадстаўленай Ягайлам і яго братамі Скіргайлам і Карыбутам, і троцкай у асобах Кейстута з сынамі. У наступнай страшэннай усобіцы было ўсё: і выкарыстанне крыжакоў, і падманныя клятвы, і лютая нянавісць учарашніх сяброў і родзічаў. Ход яе выкладзены ў «Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх» даволі яскрава і паэтычна, што пазбаўляе мяне ад неабходнасці падрабязнага пераказу. Ягайла з дапамогай лаяльнага да яго віленскага купецтва на чале з выхадцам з Рыгі Ганулам узняў паўстанне, а потым у час перамоў вераломна схапіў Кейстута і Вітаўта і пачаў помсту. Сярод прыхільнікаў Кейстута быў пакараны смерцю брат яго жонкі Відзімонт і шмат іншых баяр. А затым і самога старога Кейстута задушылі ў вежы Крэўскага замка па загадзе Ягайлы. Вітаўт ацалеў толькі таму, што пры наведванні яго жонкай Ганнай Смаленскай пераапрануўся ў адзенне яе служанкі і ўцёк з затачэння.

З братамі і групай прыхільнікаў, князёў і ўплывовых баяр, Вітаўт аддаўся пад заступніцтва нядаўняга ворага, Тэўтонскага ордэна. Сярод яго паплечнікаў згадваюцца Іван Гальшанскі (сваяк жонкі) і Судзімонт, а таксама Леў Друцкі (названы шваграм Вітаўта). Віленская групоўка ўзяла верх. Сам Ягайла зноў стаў вялікім князем, а свайго брата Скіргайлу ўладкаваў замест Кейстута ў Троках, як бы аднавіўшы той расклад, што ўтварыўся пасля змяшчэння Яўнута. Ганула ва ўдзячнасць за падтрымку зрабілі намеснікам Вільні.

Вынікам усобіцы з'явілася пераразмеркаванне палітычных сіл у дзяржаве. Найбольш відныя дзеячы троцкай паловы ці загінулі, як сам Кейстут (і яго старэйшы сын Войдат), ці вымушаны былі з'ехаць у іншыя краіны. Аднак у дзяржаве захоўвалася шмат паўсамастойных цэнтраў. Адным з іх была Валынь, дзе апошні з сыноў Гедыміна Любарт памёр у 1383 ці 1384 годзе, але пакінуў трох сыноў. З іх два малодшыя, Лазар і Сямён, таксама памерлі рана, а старэйшы, Фёдар, атрымаў з бацькоўскіх уладанняў толькі Уладзімір. Луцк жа быў ператвораны ў намесніцтва, і першым намеснікам стаў князь Фёдар Данілавіч Астрожскі. Прыкладна тады ж памёр

і Аляксандр Нарымонтавіч. Яго браты Юрый і Патрыкей паслядоўна спрабавалі сябе ў якасці служылых князёў у Вялікім Ноўгарадзе ў 1379—1385 гадах.

Аднак замятня дапамагла аднавіць кантроль над Полацкам Андрэю Альгердавічу, і Ягайла мусіў пагадзіцца з гэтым. Хутка ён прымірыўся і з астатнімі старэйшымі братамі (за выключэннем, здаецца, Фёдара Ратненскага) — напэўна, Кейстутавічы здаваліся страшнейшымі. У Літву вярнуўся Дзмітрый Альгердавіч, а Уладзімір і Канстанцін так і засталіся на сваіх княжаннях у Кіеве і Чарнігаве (з Чарнігаўскага княства былі вылучаны для Карыбута і Патрыкея Ноўгарад-Северскі і Старадуб).

Дастаткова цьмянай выглядае, як звычайна, сітуацыя на тэрыторыі сучаснай Беларусі, асабліва на Палессі. У Пінску княжыць, здаецца, унук Нарымонта Васіль Міхайлавіч, побач, у Давыд-Гарадку, — князь Давыд, за якога выйшла другім разам Марыя Альгердаўна (удава Вайдзілы). У Сцепані (магчыма, і ў Дубровіцы) пазней будзе згадвацца князь Сямён, у Слуцку — Юрый. Па-ранейшаму валодае Заслаўем Міхаіл Яўнуцьевіч. У Друцку князь Дзмітрый Васілевіч таксама памёр прыкладна ў гэты час, пакінуўшы малалетняга сына. Яго ўдава, дачка Алега Разанскага, узяла шлюб з Карыбутам (у хрышчэнні Дзмітрыем, як і яго брат) Ноўгарад-Северскім. Пра другога друцкага князя, Дзмітрыя Сямёнавіча (заснавальніка галоўнай у далейшым галіны князёў Друцкіх), вядома толькі з радаводу.

Адным словам, і пасля замятні Вялікае Княства з'яўлялася, па сутнасці, расшчэпленым на ўдзелы, а ў Ягайлы пакуль што не было сродкаў пераадолець гэты стан. Аднак падзеі ў суседняй Польшчы надалі гісторыі Літоўскай дзяржавы зусім іншы напрамак.

У 1382 годзе, перажыўшы на год сваю маці, памёр кароль Венгрыі і Польшчы Людовік — апошні з Анжуйскай дынастыі. Ужо другі запар гаспадар Польшчы не пакінуў пасля сябе мужчынскага патомства. І зноў лёс кароны апынуўся ў руках магнатаў і шляхты, і зноў ім адкрывалася магчымасць павялічыць свае правы за кошт асірацелай цэнтральнай улады. Дзве дачкі Людовіка (трэцяя памерла пры яго жыцці) не паспелі яшчэ дасягнуць паўналецця, і зараз венгерскія і польскія магнаты маглі вырашаць, каму са шматлікіх прэтэндэнтаў даць згоду на шлюб — а значыць, і на адну з дзвюх вакантных карон.

Старэйшую дачку, Марыю, яшчэ ў дзяцінстве прасваталі за сына чэшскага караля (і адначасова германскага імператара) — Сігізмунда Люксембурга. Яна павінна была атрымаць у спадчыну карону Польшчы, а яе малодшая сястра Ядвіга — венгерскую карону. Імператар Карл Люксембург к гэтаму часу ўжо памёр, і каралём Чэхіі стаў яго старэйшы сын, семнаццацігадовы Вацлаў. Сігізмунд, якому на момант смерці Людовіка Анжуйскага споўнілася ўсяго 14 гадоў, прыбыў са сваёй (такой жа юнай) нявестай у Кракаў.

Аднак перспектыва з'яўлення на польскім троне аднаго з Люксембургаў, заклятых ворагаў Польшчы на працягу двух мінулых пакаленняў, выклікала мала энтузіязму ў польскіх магнатаў. Запраўлялі ў гэтай партыі кракаўскі староста Судзівой і два маладыя, але вельмі заможныя магнаты з роду Лелівітаў — браты Ян з Тарнава і Спытка з Мельштына. Пад іх уплывам польская знаць адмовілася ад абяцанняў, якія давала бацьку Марыі. Нягледзячы на намаганні каралевы-ўдавы Альжбеты Баснійскай, Сігізмунду і яго нявесце было адмоўлена ў польскай кароне.

Замест таго вырашылі заклікаць малодшую дачку Людовіка, дзевяцігадовую Ядвігу, якую меркавалі выдаць за Вільгельма Габсбурга, сына аўстрыйскага герцага Леапольда. Але змяніць Люксембурга на Габсбурга — прыкладна тое ж, што змяніць шыла на мыла: гэта таксама быў яўна прагерманскі варыянт, які абяцаў залежнасць Польшчы ад Свяшчэннай Рымскай імперыі. Таму ў якасці альтэрнатыўнага жаніха Ядвігі прапанавалі сына памерлага ў 1381 годзе ўладара Мазовіі Зямовіта Трайдзенавіча, таксама Зямовіта, што валодаў заходняй паловай Мазовіі з Плоцкам, Сахачавам і Равай. Усходняя частка з Чэрскам і Варшавай належала яго старэйшаму брату, зяцю Кейстута Янушу.

Кандыдатуру Зямовіта падтрымала ў асноўным велікапольскае рыцарства, у той час як Малая Польшча выступіла катэгарычна супраць. Паміж прыхільнікамі Зямовіта і Вільгельма ўспыхнула сапраўдная грамадзянская вайна.

І вось у гэтай заблытанай сітуацыі ў гульню вырашыў уключыцца Ягайла. Вельмі зручнай для яго з'явілася тая акалічнасць, што ў трыццаціпяцігадовым узросце ён не быў яшчэ жанаты — зараз гэта дазваляла выступіць прэтэндэнтам на руку каралеўны Ядвігі.

Даволі значнай частцы польскай знаці такі варыянт здаўся ледзь не аптымальным з розных бакоў. Стаўшы польскім каралём, Ягайла атрымліваў магчымасць аб'яднаць ваенную моц дзвюх дзяржаў, як і яго папярэднік. Толькі зараз такім натуральным саюзнікам Польшчы выступала б не звернутая тварам да Адрыятыкі Венгрыя, а Вялікае Княства Літоўскае. У Польшчы і Літвы меўся агульны вораг — Тэўтонскі ордэн, які закрываў абедзвюм краінам выхад у Балтыйскае мора і пастаянна пагражаў іх інтарэсам. Абагульніўшы сілы, можна было б ставіць пытанне ўжо не толькі пра стрыманне ордэнскай агрэсіі, але пра пераход у контрнаступ. Дынастычная унія Польшчы і Літвы абяцала і зняцце застарэлага пытання аб Галіцка-Валынскай Русі.

Зразумела, такі варыянт імпанаваў у першую чаргу антыгерманскай партыі. Праўда, і ў яе меліся некаторыя довады супраць. Перш за ўсё Ягайла, як і большая частка ўласна літоўскага баярства, заставаўся паганцам, а некаторыя з членаў пануючай дынастыі прынялі праваслаўе (нават сярод малодшых Альгердавічаў на рускіх удзелах хрысціліся ў яго Лугвень-Сямён, Карыбут-Дзмітрый і Скіргайла-Іван), у той час як палякі былі заўзятымі каталікамі. Але гэтая перашкода не з'яўлялася непераадольнай. Непахісная ўпартасць, з якой бацькі і дзяды тагачасных літоўцаў адстойвалі сваіх багоў, патроху размывалася. Надзённыя інтарэсы падштурхоўвалі літоўскіх баяр да ўсё большага збліжэння з хрысціянскім светам. І калі непрыманне хрышчэння з рук крыжакоў было справай прынцыпу, то каталіцтва Польшчы, здавалася, не хавала ў сабе небяспекі. Больш таго, хрышчэнне ў каталіцтва літоўскай знаці павінна было прадухіліць яе асіміляцыю, растварэнне ў шматлікім праваслаўным масіве Русі.

Такім чынам, варыянт польска-літоўскай уніі знаходзіў прыхільнікаў з абодвух бакоў. Тая групоўка літоўскіх баяр, якая канкурыравала з рускай арыстакратыяй за месца пры велікакняжацкім двары, магла разлічваць, што з прыняццем каталіцтва яна знойдзе ў польскіх магнатах саюзнікаў супраць праваслаўных. Для самога ж Ягайлы польская карона была, безумоўна, вельмі прывабнай, да таго ж яна магла спрыяць наладжванню пахіснутага ўнутранага парадку ў Вялікім Княстве. Паказальна, што дыпламатычныя захады наконт прыняцця каталіцтва Ягайла пачаў рабіць адразу пасля смерці бацькі (гэта, дарэчы, з'яўлялася адной з мэтаў місіі Скіргайлы на захад у 1377 годзе).

Але Ягайлу, які ўступаў у балота польскай дынастычнай сваркі, патрэбны быў надзейны тыл. Між тым Вітаўт, нядаўні сябар, а зараз закляты вораг, працягваў укрывацца пад крылом крыжакоў. Гэта значыла, што любая ўнутраная апазіцыя магла выступіць пад яго сцягам.

Справы Вітаўта ў гэты час ішлі не надта ўдала. З вялікімі цяжкасцямі ён дамогся, каб Ягайла выпусціў у Прусію яго малодшых братоў і жонку з трыма малымі дзецьмі (дачкой Соф'яй і сынамі, вядомымі пад хрысціянскімі імёнамі Юрый і Іван). Згубіўшы бацьку і ўсе ўладанні, цудам пазбегнуўшы смерці, Вітаўт вымушаны быў шукаць падтрымкі ў злейшых ворагаў — крыжакоў. Яны ж выкарыстоўвалі яго як пешку ў сваіх камбінацыях. Хутка пасля прыбыцця ў Ордэн Вітаўт ахрысціўся ў каталіцтва пад імем Віганда і атрымаў у намесніцтва адзін з замкаў на мяжы з Жамойцю. Ён удзельнічаў у некалькіх паходах крыжакоў, марна спрабуючы ўладкавацца з іх дапамогай у бацькоўскіх Троках. У верасні 1383 года яму нават удалося на кароткі час захапіць Трокі, але ўтрымацца там ён не здолеў.

Знаходжанне Вітаўта пад апекай Ордэна дазваляла апошняму весці наступ на Літву на законных падставах. Таму крыжакі ахвотна давалі яму войска, а самі між тым будавалі моцны замак у захопленым Коўне. Ягайла вымушаны быў адмовіцца ад Жамойці, якая фактычна перайшла пад уладу Ордэна. І самому Вітаўту вельмі дорага даводзілася аплачваць крыжацкую падтрымку. У чэрвені 1384 года ён мусіў падпісаць вельмі нявыгаднае пагадненне. Усе свае вотчыны, якія яшчэ належа-

ла вярнуць, Вітаўт загадзя перадаў у ленную залежнасць Ордэну. У выпадку яго смерці малыя сыны павінны былі заставацца пад апекай крыжакоў, а калі памруць і яны — адзіную дачку магістр мог выдаць замуж па ўласным меркаванні, застаючыся вярхоўным сюзерэнам яе спадчыны. Малодшыя браты Вітаўта, Таўцівіл і Сігізмунд, таксама павінны былі атрымаць уладанні з рук Ордэна.

Дакумент гэты нагадваў дагавор ваўка з ягнём аб парадку з'ядання апошняга. І, напэўна, у сувязі з гэтым маленькія сыны Вітаўта, што знаходзіліся ў руках крыжакоў у замку Кёнігсберг, раптоўна памерлі, — як лічыцца, былі атручаны. Калі б зараз што здарылася і з самім Вітаўтам — Ордэн без перашкод павёў бы ад імя яго дачкі барацьбу за палову Літоўскага княства.

Наколькі па-рознаму можа складвацца чалавечы лёс! Калі б Вітаўт і сапраўды загінуў у гэты чорны для яго момант — у гісторыі ён застаўся б агідным здраднікам накшталт Пялюзе ці свайго брата Бутаўта-Генрыха, чалавекам, які адчыніў браму ордэнскай экспансіі. Але пан Выпадак рыхтаваў яму доўгае жыццё і гучную славу.

Хутка Вітаўт, які знаходзіўся проста ў безвыходным становішчы, даведаўся, што Ягайла напярэдадні барацьбы за польскую карону не супраць памірыцца з ім. І Вітаўт аддаў перавагу забойцу бацькі перад забойцамі сыноў. Усяго праз некалькі тыдняў пасля заключэння ганебнага дагавора ён раптоўна напаў са сваёй літоўскай дружынай на памежныя замкі крыжакоў, спаліў іх і разам з князямі Судзімонтам, Іванам Альгімонтавічам і іншымі сваімі паплечнікамі перайшоў у Літву.

Ягайла прыняў уцекача і вярнуў яму частку бацькоўскай спадчыны: Горадна, Ваўкавыск, Падляшша і частку Берасцейскай зямлі з замкам Камянец. Праўда, Трокі засталіся пад уладай Скіргайлы, якому ішлі і даходы з падняпроўскіх валасцей, падзеленых некалі паміж Альгердам і Кейстутам. Брат Вітаўта Таўцівіл атрымаў Навагародак.

Бясспрэчна, Вітаўт моцна рызыкаваў, давяраючыся Ягайлу, які ўжо раз перамог яго бацьку за кошт парушэння клятвы. Ягайла мог паддацца спакусе і разам знішчыць усіх Кейстутавічаў. Як ні дзіўна, на карысць Вітаўта зараз працаваў яго дагавор з крыжакамі, што даваў ім магчымасць прэтэндаваць на яго спадчыну. Пакуль Вітаўт быў жывы і лічыўся саюзнікам Ягайлы, гэты дагавор не ўяўляў вялікай небяспекі для Літвы, смерць жа яго дазволіла б Ордэну ўмяшацца ў літоўскія справы на «законных» падставах.

Адразу ж пасля вяртання на радзіму Вітаўт перахрысціўся з каталіцтва ў праваслаўе пад імем Аляксандра, як бы змываючы свой нядаўні ўчынак. У верасні таго ж 1384 года ён разам з Ягайлам выступае на ордэнскі замак у Коўне, які быў узяты літоўцамі пасля некалькіх тыдняў аблогі.

Між тым на пачатку 1385 года асабліва прыбліжаныя паплечнікі Ягайлы: яго брат Скіргайла, князь Барыс Падольскі (паходжанне гэтага князя дакладна не вызначана), віленскі стараста Ганул, — выехалі ў Польшчу сватаць Ядвігу. Там падзеі разгортваліся ў гэты час бурна. Войска, прысланае з Венгрыі каралевай-маці Альжбетай Баснійскай на дапамогу Вільгельму Габсбургу і прагерманскай партыі, нанесла паражэнне Зямовіту Мазавецкаму, выключыўшы яго з барацьбы за карону. Войскам камандаваў зяць Альжбеты — той самы Сігізмунд Люксембург, якому палякі ўжо адмовілі ў праве быць сваім каралём (затое карону Венгрыі ён атрымаў). Гэта прымусіла антыгерманскую партыю канчаткова зрабіць выбар на карысць Ягайлы.

Другі раз на працягу кароткага часу польскія магнаты маглі дазволіць таму ці іншаму прэтэндэнту атрымаць карону, і зноў яны выкарыстоўвалі гэтую магчымасць, каб паставіць новага караля ў залежнае ад сябе становішча. Скіргайла ад імя старэйшага брата мусіў даваць абяцанні яшчэ больш пашырыць шляхецкія прывілеі. Увогуле ўмовы, на якіх Ягайлу пагаджаліся пусціць на трон, ставіліся даволі жорсткія: гаворка ішла ўжо не пра дынастычны саюз дзвюх раўнапраўных дзяржаў, а фактычна пра далучэнне Вялікага Княства да Польскага каралеўства на вечныя часы. Сталіцай пры гэтым заставаўся б Кракаў, а віленскае і троцкае баярства павінна было б перайсці ў стан правінцыяльнай знаці.

У тых умовах наўрад ці можна было разлічваць на поўнае выкананне яўна нераўнапраўных умоў уніі. Між тым Ягайла, напэўна, меркаваў, што галоўнае — атрымаць карону, а з астатнім можна разабрацца пазней. І 14 жніўня 1385 года ў адным са сваіх замкаў (Крэва на поўначы сучаснай Гродзенскай вобласці) ён заключае пагадненне на польскіх умовах. (Ёсць, праўда, меркаванне, што на самай справе ўмовы уніі былі не такімі жорсткімі для Літвы, як сведчаць дакументы, якія дайшлі да нас. Магчыма, палякі пазней, пасля смерці Ягайлы, падрабілі тэкст.) Так нарадзілася славутая Крэўская унія, якая на доўгі час звяла польскую гісторыю з гісторыяй Вялікага Княства ў адзінае рэчышча. Сапраўднае зліццё дзвюх дзяржаў, зразумела, адразу не магло адбыцца. Але яно было абвешчана і стала на шмат гадоў своеасаблівай праграмай-максімум, надаючы польска-літоўскім адносінам пэўную афарбоўку. На працягу двух стагоддзяў гэтыя адносіны развіваліся хоць і непаслядоўна, з прылівамі і адлівамі, менавіта ў напрамку, абвешчаным Крэўскай уніяй, пакуль ужо ў складзе Рэчы Паспалітай не дайшлі да стану, вельмі блізкага да сапраўднага зліцця дзвюх дзяржаў пры перавазе польскага кампанента.

Але зараз да гэтага яшчэ вельмі далёка. І перш чым на польскім дзяржаўным гербе побач з белым арлом Пястаў з'явіцца выява «Пагоні», павінны адбыцца бурныя падзеі. Каралева Альжбета Баснійская працягвала весці двайную гульню: абяцала руку дачкі і Ягайлу, і Вільгельму. Зімой 1385/86 года малады Габсбург прыбыў у Кракаў, каб ажыццявіць шлюб з Ядвігай, нягледзячы на пагадненне ў Крэве.

Можна ўявіць сабе стан Ядвігі, чатырнаццацігадовай дзяўчынкі, што апынулася ў становішчы трэскі ў віры падзей. Вырасла яна ў Будзе, сталіцы Венгрыі, і з дзяцінства рыхтавалася стаць каралевай гэтай краіны. Раптам трапіла ў палаючы палітычнымі страсцямі Кракаў, дзе ўсё было чужым і нязвыклым. Там і адбылася яе сустрэча з шаснаццацігадовым Вільгельмам, якога яна не бачыла з ранняга дзяцінства, але заўсёды ведала, што ён стане яе мужам, і звыклася з гэтым. Але кракаўскія магнаты адмовіліся ад намечанага шлюбу і паказалі Вільгельму на парог. Ніхто не прымаў да ўвагі адчай юнай Ядвігі, якой замест прывабнага равесніка трэба было зараз рыхтавацца да шлюбу з невядомым літоўскім уладаром, больш чым на дваццаць гадоў старэйшым за яе. І ў той момант, калі лютаўскім днём 1386 года няўдалы жаніх пакідаў Кракаў праз адну браму, праз другую ўязджаў Ягайла.

Антыгерманская партыя перамагла. Нядаўні паганец ахрысціўся пад імем Уладзіслава і павянчаўся з юнай каралеўнай, а праз колькі дзён быў ганарова абвешчаны новым каралём Польшчы — Уладзіславам II. У пасаг жонцы ён падараваў шэраг уласных маёнткаў і валасцей у Віцебскім княстве і Падняпроўі. Сваё панаванне яму давялося пачаць з абяцаных прывілеяў шляхце. Як і яго папярэднік Людовік, Уладзіслаў-Ягайла выдаў у 1386 і 1388 гадах граматы, у якіх пацвярджаліся і замацоўваліся правы рыцарскага саслоўя.

Тэўтонскі ордэн, зразумела, быў незадаволены саюзам Польшчы і Літвы, тым больш — намечаным хрышчэннем літоўцаў з Польшчы. Выпусціўшы з рук Вітаўта, Ордэн завязаў інтрыгу з другім незадаволеным — Андрэем Альгердавічам. Яму было ўжо каля шасцідзесяці, і надзеі рэалізаваць сваё старэйшынства заставалася ўсё меней. Між тым пасля абрання Ягайлы каралём Польшчы ўзыход Андрэя на пасад вялікага князя літоўскага прывёў бы да скасавання уніі.

Менавіта таму, напэўна, у 1386 годзе крыжакі ўтварылі пагадненне з Андрэем (супраць якога, дарэчы, некалькі гадоў таму пасылалі войска на дапамогу Ягайлу і Скіргайлу) і смаленскім князем Святаславам Іванавічам. У бытнасць Ягайлы ў Кракаве Андрэй сумесна з крыжакамі-лівонцамі напаў на некаторыя гарады, аднак захапіць здолеў толькі Лукомль. У той жа час Святаслаў Смаленскі спрабаваў захапіць Віцебск і Оршу, а потым аблажыў Мсціслаў.

Можна меркаваць, што за гэтым выступленнем стаялі тыя праваслаўныя сілы Вялікага Княства, якія не бачылі ніякіх пераваг у збліжэнні з Польшчай, а арыентаваліся на аднаўленне Кіеўскай Русі (магчыма — на саюз з Масквой). Аб тым, што канфлікт быў не звычайным удзельным бунтам, а барацьбой па прынцыповых

пытаннях, сведчыць падкрэслена прадузятае асвятленне яго пралітоўскім аўтарам «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх», які не шкадуе чорнай фарбы для Андрэя Полацкага і Святаслава Смаленскага: «Много зла сотвориша хрстянем нечеловеческы и нихрестиянскы, и мучиша хрстян, иже ни в поганых ратех то не слышах таковых мук».

Аднак гэтае выступленне было даволі хутка падаўлена сумеснымі дзеяннямі Скіргайлы і іншых братоў Ягайлы, а таксама Вітаўта. Святаслаў загінуў пад Мсціславам, дзе смаленскае войска панесла цяжкае паражэнне. Скіргайла дазволіў атрымаць Смаленскае княжанне яго старэйшаму сыну Юрыю, які прызнаў сваю залежнасць ад Ягайлы і Скіргайлы. Андрэй пратрымаўся ў Полацку да 1388 года.

Большасць жа ўдзельных князёў на працягу 1386—1387 гадоў прынесла новую прысягу на вернасць каралю Уладзіславу-Ягайлу без асаблівых канфліктаў. Фактычным кіраўніком спраў Вялікага Княства стаў Скіргайла, але Вільня і Віцебск засталіся пад кантролем новага караля. У Віцебску жыла яго маці Ульяна Аляксандраўна, нападалёку ў Абольцах быў маёнтак каралевы Ядвігі. У Вільню ж Ягайла прыслаў намесніка з Польшчы, адсунуўшы мясцовае баярства. За Скіргайлам, паводле дамоўленасці 1387 года, засталіся Трокі і Полацк (які яшчэ належала здабыць у Андрэя), а таксама Менск, Лагойск і воласці ў Падняпроўі: Свіслач, Бабруйск, Рэчыца, Любеч, Пропашаск, Любашаны, Ігумен і шэраг сёлаў.

Пастараўся Ягайла ўмацаваць і свае пазіцыі ў Польшчы. Ён утварыў пагадненне са сваім нядаўнім сапернікам у барацьбе за карону — Зямовітам Мазавецкім, за якога ў 1388 годзе выдаў сваю малодшую сястру Аляксандру. Зямовіт таксама атрымаў Белзскае княства на Валыні, якім некалі валодаў Юрый Нарымонтавіч. Замірыўся кароль і з адным з буйнейшых правадыроў прагерманскай партыі — князем Уладзіславам Апольскім. З яго дачкой ажаніўся малодшы брат Ягайлы Віганд, які атрымаў таксама гарады Улацлавек, Быдгашч і Добжын з куяўскіх уладанняў свайго цесця. Праўда, Віганд Альгердавіч хутка памёр у 1392 годзе, не дажыўшы і да 30 гадоў (з ім даследчыкі часта блытаюць Вітаўта, які ў каталіцтве таксама меў першае хрысціянскае імя Віганд).

Выконваючы ўзятыя абавязкі, кароль распачаў хрышчэнне Літвы ў каталіцтва. Асноўнымі праваднікамі гэтай «праграмы» сталі Скіргайла і Вітаўт, які зноў перахрысціўся ў рымскую веру пад імем Аляксандр, якое меў і ў праваслаўі. За справу ўзяліся даволі крута. У прывілеі Ягайлы ад 22 лютага 1387 года, выдадзеным на лацінскай мове, абвяшчалася: «Мы запэўніваем, даўшы свяшчэнныя клятвы, што ўсе народы, якія насяляюць Літоўскае княства, абодвух полаў, любога саслоўя ці годнасці, будуць прыведзены да каталіцкай веры і паслушэнства святой рымскай царкве. Яны будуць прыцягнуты туды, прызваны і сагнаны, у якой бы веры ні знаходзіліся». Адначасова ўсім католікам даваліся правы ў адносінах да зямельнай маёмасці, якія ўжо мела польская шляхта: магчымасць свабодна перадаваць у спадчыну, дараваць і прадаваць свае маёнткі, воласці, сёлы і хаты, а таксама самастойна выдаваць замуж дачок-наследніц (але толькі за католікаў).

Канешне, намер «сагнаць» у каталіцтва ўсё праваслаўнае насельніцтва дзяржавы з'яўляўся хімерай. Няма ніякіх звестак, каб ён сапраўды ў той час выконваўся больш-менш настойліва. Гэты пункт быў уключаны ў прывілей, каб улагодзіць рымскага папу. Але ў адносінах да неахрышчанага раней літоўскага насельніцтва акаталічванне актыўна праводзілася ў жыццё. Згаслі свяшчэнныя агні ў старажытных капішчах, замест іх будаваліся першыя касцёлы. Апрача каталіцкіх храмаў у Вільні, што існавалі з часоў Гедыміна, на тэрыторыі Віленскага княства Ягайла заснаваў новыя: у Вількаміры, Кернаве, Немянчыне, Быстрыцы, Медніках і Крэве, тады ж з'явіўся касцёл і ў Мерачы, на тэрыторыі Троцкага княства. Яшчэ два касцёлы ўзніклі ў велікакняжацкіх дварах у рускіх землях: у Гайне (на паўночна-заходнім ускрайку Лагойскага княства) і ў падараваных каралеве Ядвізе Абольцах. Іх заснаванне можна растлумачыць тым, што ў гэтыя воласці перасялілі шмат літоўцаў з іншых велікакняжацкіх уладанняў. Зараз усе яны станавіліся католікамі, і для іх патрабаваліся храмы.

Трэба дадаць, што хрышчэнне літоўцаў з'яўлялася ў значнай ступені вонкавым. Нядаўнія паганцы не маглі імгненна ператварыцца ў сапраўдных хрысціян — гэты працэс расцягнуўся не на адно стагоддзе.

Каталіцкая царква ў Літве адразу зрабілася буйным землеўладальнікам. Да віленскага капітула (рады святароў кафедральнага касцёла Святога Станіслава) былі прыпісаны некалькі валасцей: Таўрагіні, Маляты і Лабанары на поўначы ўласна літоўскай тэрыторыі, а таксама некалькі асобных сёлаў у розных месцах. Пазней, у 1391 годзе, віленскі капітул атрымаў даволі буйную воласць з замкам Стрэшын на Дняпры, крыху вышэй вусця Бярэзіны.

У Вільні заснавалі біскупскую кафедру. Першым біскупам стаў у 1388 годзе былы біскуп-суфраган (намеснік біскупа) горада Гнезна Андрэй Васіла — польскі шляхціц з роду Ястрэбцаў.

Гэтыя крутыя перамены не маглі спадабацца ўсім: нечыя справы ішлі ўгору, а нечыя і рэзка пагаршаліся. Натуральным выглядала незадавальненне найбольш кансерватыўнай часткі літоўскага баярства і жрацоў, якія не жадалі развітвацца з верай продкаў. Незадаволенымі былі і вялізныя масы праваслаўных, якім афіцыйна абвясцілі намер (хай сабе і фіктыўны) перахрысціць іх у каталікаў. Нават асноўная маса літоўскай знаці, якую хрышчэнне прываблівала набыццём прывілеяў па польскім узоры, адначасова не магла цалкам згадзіцца з тым, што паводле ўмоў уніі на першыя ролі ў Літве адразу пачалі высоўвацца новыя польскія прыбліжаныя Ягайлы, як адбылося, напрыклад, з Віленскім староствам.

Выразнікам думак гэтай апошняй праслойкі выступіў Вітаўт. Яго імя стаіць пад актам Крэўскай уніі, ён актыўна ўдзельнічаў у хрышчэнні Літвы, але тым не менш правадыром незадаволеных стаў менавіта ён. Для таго меліся і асабістыя прычыны: успаміны пра зло, якое прычыніў яго сям'і Ягайла, і магутнае славалюбства, імкненне да першых роляў. Пасля прымірэння з Ягайлам ён валодаў толькі часткай бацькоўскіх зямель: Гараднам, Ваўкавыскам, Камянцом і гарадамі Падляшша. У 1388 годзе атрымаў ад караля таксама і Луцк, які такім чынам з намесніцтва зноў ператварыўся ў княства. Усё гэта рабіла Вітаўта адным з наймагутнейшых удзельных князёў, але ў Троках з тытулам вялікага князя сядзеў Скіргайла, а ў Вільні — намеснік Ягайлы Яцка Алясніцкі.

І вось зімой 1388/89 гадоў, калі Скіргайла ад'ехаў у Полацк, дзе яму ўдалося падманам захапіць князя Андрэя, Вітаўт «совет сотвори со многими князьми и бояры литовскими» і зрабіў спробу заняць Вільню. Замаскіраваўшы дружыну пад купецкі абоз, ён сярод белага дня рушыў да гарадской брамы. Аднак на бок Ягайлы і Скіргайлы перакінуўся даўні паплечнік Вітаўта Судзімонт. Да таго ж варта заўважыла зброю ў абозе, і Вітаўту давялося ўцякаць. Не спадзеючыся на моц сваіх замкаў, ён зноў накіраваўся да крыжакоў, з якімі менш чым пяць гадоў таму так сурова развітаўся. Разам з ім пайшла ўся сям'я: жонка Ганна, дачка Соф'я, браты Таўцівіл і Сігізмунд, малодшая сястра Рынгаля.

Верныя сваёй тактыцы распальваць варожасць сярод уладароў Літвы, крыжакі зноў прынялі знатнага ўцекача, хаця прыём, які яны яму гэтым разам аказалі, не вызначаўся асаблівай цеплынёй. Усе члены яго сям'і фактычна апынуліся ў якасці заложнікаў. Аднак войска для барацьбы са Скіргайлам Вітаўт атрымаў. З гэтым войскам ажыццявіў паспяховыя набегі на Кернава і Мейшаголу, «нача воевати Литовскую землю с немецькою помочю, и уже взял был Литовскои земли по Велию реку, а и Польтескь вдася ему».

У 1390 годзе Вітаўт з войскам заходнееўрапейскіх добраахвотнікаў (сярод іх знаходзіўся англійскі прынц Генрых — будучы кароль Англіі) рушыў на Вільню. Войска Скіргайлы было разбіта, прычым у палон да Вітаўта трапілі брат Міхаіла Яўнуцьевіча Заслаўскага Сямён, брат Фёдара Святаславіча Смаленскага Глеб і шэраг іншых рускіх князёў. Аднак аблога Вільні не прынесла канчатковага поспеху, хаця часова ўдалося захапіць прадмесце Крывы горад, пры абароне якога загінуў брат Ягайлы Карыгайла-Казімір Мсціслаўскі. Але ў гэтым паходзе Вітаўт згубіў і свайго брата Таўцівіла.

У адказ Уладзіслаў-Ягайла перадаў уладанні Вітаўта — Падляшша з Берасцем і Камянцом — свайму васалу Янушу Мазавецкаму (які, дарэчы, даводзіўся Вітаўту шваграм, бо быў жанаты з яго сястрой Ганнай Кейстутаўнай). Польска-мазавецкія войскі ўступілі ў Камянец, Берасце і Ваўкавыск, якімі кіравалі намеснікі Вітаўта. Аднак адчайнае супраціўленне жыхароў гэтых гарадоў паказала, як шмат прыхільнікаў засталося ў Вітаўта ў дзяржаве.

Падтрымку Вітаўту выказала і Маскоўскае княства, дзе на змену памерламу ў 1389 годзе Дзмітрыю Данскому прыйшоў яго старэйшы сын Васіль. Яшчэ да мяцяжу Вітаўта было дамоўлена пра шлюб яго адзінай дачкі з сынам Дзмітрыя. Зараз, нягледзячы на знаходжанне літоўскага князя за межамі сваёй вотчыны, Масква выразна прадэманстравала, што лічыць яго сур'ёзнай палітычнай фігурай. Маскоўскае пасольства знайшло Вітаўта ў Прусіі, і Соф'я ў суправаджэнні Івана Гальшанскага накіравалася ў Маскву кружным шляхам праз Гданьск і Пскоў. Яе шлюб з Васілём Дзмітрыевічам адбыўся ў 1391 годзе.

Тым часам Вітаўт, абапіраючыся на шырокую падтрымку як унутры Літвы, так і па-за яе межамі, зноў перайшоў да рашучых дзеянняў. На дапамогу яму быў скліканы крыжовы паход на чале з прынцам Генрыхам Нартумберлендскім. У 1392 годзе Вітаўт нанёс Скіргайлу рашаючае паражэнне. Ягайла, не жадаючы дапусціць канчатковага адпадзення Літвы ад Польшчы, паспяшаўся прызнаць яго перамогу. Вітаўт атрымаў і Троцкае, і Віленскае княствы, тытул вялікага князя — з адной толькі ўмовай, каб ён застаўся васалам польскага караля.

Так неспакойны лёс Вітаўта зрабіў яшчэ адзін круты паварот, і выгнаннік ператварыўся ў магутнага ўладара. Праўда, дасягнуў гэтага дастаткова дарагой цаной — узамен за крыжацкую падтрымку згадзіўся на адыход Жамойці пад уладу Ордэна. Частка бацькоўскіх зямель па-ранейшаму засталася ў руках Януша Мазавецкага пад сюзерэнітэтам Ягайлы. Затое Вітаўту быў вернуты Луцк, а ў дадатак і Уладзімір-Валынскі, Скіргайла ж у якасці кампенсацыі за згубленае Троцкае княства атрымаў Крэменец, а таксама ў перспектыве — Падолле, дзе пасля смерці ў 1388 годзе Канстанціна Карыятавіча ўладкаваўся чацвёрты з братоў, былы паплечнік Людовіка Анжуйскага Фёдар Карыятавіч.

Адбыліся і іншыя пераразмеркаванні ўладанняў. Вызвалілася Пінскае княжанне (Васіль Міхайлавіч, напэўна, памёр даволі маладым без нашчадкаў). Яго атрымаў, відаць, дзядзька Васіля — Юрый Нарымонтавіч, які з'яўляўся прыхільнікам Вітаўта ў час яго другой эміграцыі. Сын Юрыя Раман паехаў князем у Вялікі Ноўгарад замест Сямёна-Лугвеня Альгердавіча, што княжыў там з 1389 года, а па звароце ў Літву атрымаў вакантнае пасля смерці Казіміра-Карыгайлы Мсціслаўскае княства і ажаніўся з сястрой Васіля Маскоўскага Марыяй.

Дарэчы, літоўскія князі з канца 1370-х гадоў рэгулярна з'яўляюцца служылымі князямі ў Ноўгарадзе (спачатку Юрый Нарымонтавіч, потым яго брат Аляксандр, Сямён Альгердавіч, зараз — Раман Юр'евіч). Аднак гэта сведчыць не пра поўную залежнасць Ноўгарада ад Вялікага Княства, а пра хісткі кампраміс з Масквой, бо наўгародцы мусілі пайсці на прызнанне адначасова двух служылых князёў: побач з Гедымінавічамі ў Ноўгарадзе часта знаходзіліся і стаўленікі вялікага князя маскоўскага (звычайна гэта былі залежныя ад яго прадстаўнікі растоўскай ці белазёрскай дынастыі).

Вітаўту дасталася турботная спадчына. Бурныя палітычныя падзеі заблыталі сімпатыі і антыпатыі ў дзяржаве. Апрача групавых канфліктаў (паміж прыхільнікамі каталіцтва і праваслаўя, зліцця з Польшчай і дзяржаўнай незалежнасці, віленскім баярствам і троцкім) хапала і канфліктаў асабістых: паміж Кейстутавічамі і Альгердавічамі, паміж сынамі Альгерда ад розных жонак, паміж асобнымі прадстаўнікамі шматлікай дынастыі. У гэтай мутнай кругаверці прабіцца наверх і ўтрымацца там мог толькі самы таленавіты, валявы і беспрынцыповы. Такім і быў Вітаўт. Яго мараль, метады дасягнення мэты могуць выклікаць розныя пачуцці — ад захаплення да агіды. Але талентам дзяржаўнага дзеяча ён, безумоўна, валодаў. Атрымаўшы ўладу ў смутным 1392 годзе, у поўным росквіце сіл, здолеў утрымаць

яе на працягу 38 гадоў, ні разу не дазволіўшы заблытаным супярэчнасцям выйсці з-пад кантролю.

Спачатку Вітаўт мог абапірацца ў асноўным на тую сілу, што прывяла яго да ўлады — на літоўскае баярства, у прынцыпе згоднае з акаталічваннем і запазычваннем польскіх узораў, але не з дзяржаўным падпарадкаваннем Польскаму каралеўству. Традыцыйна падтрымлівала яго і праваслаўнае баярства Панямоння, якое здаўна верна служыла яго бацьку і братам. З дапамогай гэтых сіл зараз, пасля пераадолення ў асноўным унутрыдзяржаўнага крызісу, належала прыступіць да даўно наспелай задачы: спыніць працэс распаду дзяржавы на сямейныя ўдзелы Гедымінавічаў і накіраваць яе развіццё па больш прагрэсіўным шляху кіравання праз намесніцтвы.

Надзённасць гэтай задачы ясна ўяўлялі сабе і Вітаўт, і кароль Ягайла. Таму паміж імі склаліся парадаксальныя на першы погляд адносіны: Ягайла няўхільна падтрымліваў нядаўняга смяротнага ворага супраць удзельных князёў, многія з якіх з'яўляліся роднымі братамі самога Ягайлы. Другім парадоксам было тое, што найбольш эвалюцыйна прасунутае рускае баярства, асабліва зацікаўленае ва ўтварэнні магнацка-намесніцкай структуры, знаходзілася пад кантролем удзельных князёў і мусіла змагацца на іх баку супраць новаўвядзенняў цэнтра. Магчыма, аднак, што менавіта гэта вызначыла параўнальна слабае супраціўленне ўдзельных уладароў.

Першы повад для рэформы з'явіўся хутка. Памерла старая княгіня Ульяна Аляксандраўна, удовіным удзелам якой быў Віцебск. Вітаўт выкарыстаў гэта для ліквідацыі аднаго з удзелаў і накіраваў туды намеснікам свайго сакольнічага, праваслаўнага баярына Фёдара Вясну. Аднак такое распараджэнне родавай вотчынай Альгердавічаў выклікала мяцеж. Яго ўзняў самы малодшы з сыноў Ульяны і Альгерда Свідрыгайла (у праваслаўным хрышчэнні — Якаў), які незадоўга да таго дасягнуў паўналецця і яшчэ не меў удзела. Ён абвясціў сябе спадчыннікам Віцебска, а Вітаўтавага баярына пакараў смерцю. Да мяцяжу далучыліся Орша і Друцк.

Ягайла прыслаў на дапамогу Вітаўту польскае войска, на чале якога стаў Скіргайла. Першым чынам карная экспедыцыя рушыла на Друцк. Там у той момант княжылі маладыя сыны Дзмітрыя Васілевіча і Дзмітрыя Сямёнавіча. Яны не рызыкнулі супрацьстаяць Вітаўту і выказалі пакорлівасць. За гэта вялікі князь пакінуў за імі Друцкае княства, але на новых умовах: не як спадчынную маёмасць, а як нададзеную са сваіх рук (так, як атрымлівалі замкі на Валыні князі Астрожскія, Чацвярцінскія і інш.). Затое Орша вырашыла супраціўляцца і была захоплена пасля аблогі. Невядома, ці сядзеў там да таго ўласны князь, але з той пары Орша назаўжды ператварылася ў велікакняжацкі горад, кіруемы намеснікам. Затым такі ж лёс чакаў і Віцебск. Пасля доўгай аблогі Свідрыгайла мусіў уцякаць да лівонцаў, распачаўшы такім чынам свой не менш мудрагелісты, чым у Вітаўта, жыццёвы шлях. Віцебск жа скарыўся. І хаця ён атрымаў пацвярджэнне сваёй унутранай самастойнасці і захаваў мясцовыя законы і звычаі, агульнадзяржаўныя інтарэсы ў ім цяпер меўся прадстаўляць намеснік вялікага князя.

Апрабаваную на Друцку мадэль Вітаўт прымяніў і да іншых удзелаў. Іх уладальнікам ён прапанаваў адмовіцца ад статусу спадчынных гаспадароў і перайсці ў стан пажыццёвых намеснікаў, хаця і з вельмі шырокімі правамі. Рэакцыя была рознай. Дзмітрый-Карыбут Ноўгарад-Северскі ўзяўся за зброю. Аднак яго дружына пацярпела паражэнне ў сутыкненні з войскам Вітаўта, і ў выніку ён згубіў сваё княства ўвогуле. У сваю чаргу Фёдар Ратненскі асталяваўся ў Ноўгарадзе-Северскім, але ўжо на новых умовах. Другі валынскі князь, Фёдар Любартавіч, атрымаў замест Уладзіміра некалькі гарадоў у Галіцкай зямлі ў якасці васала польскага караля.

Адмовіліся прынесці прысягу на новых умовах і двое старэйшых Альгердавічаў: Уладзімір Кіеўскі і Канстанцін Чарнігаўскі. Але і іх супраціўленне было лёгка зломлена. У Кіеў замест Уладзіміра ў 1395 годзе адправіўся нядаўні вялікі князь Скіргайла, але ён не здолеў паладзіць з мясцовым баярствам, і праз год яго атруцілі. (Ёсць версія, што тут не абышлося без Вітаўта, які тым самым пазбавіўся найбольш небяспечнага

саперніка.) Тады Вітаўт накіраваў у Кіеў наместнікам свайго даўняга паплечніка, князя Івана Альгімонтавіча Гальшанскага. Стары Уладзімір Альгердавіч атрымаў, праўда, узамен Слуцк і Капыль. Канстанціна ж з Чарнігава перавялі ў Чартарыю, вылучаную са складу Луцкага княства. Карыбут жа пасля смерці Скіргайлы атрымаў Крэменец — давялося падпарадкавацца вялікаму князю.

Нарэшце, і апошні падольскі князь Фёдар Карыятавіч быў у 1395 годзе сагнаны з княжання і нават часова трапіў у затачэнне. Аднак на Падолле, апрача Вітаўта, меў прэтэнзіі і Ягайла. Частка падольскіх гарадоў перайшла аднаму з актыўных польскіх прыхільнікаў Ягайлы, магнату Спытку Мельштынскаму ў якасці закладу за вялікую суму грошай, пазычаную ім каралю.

Таксама згубіў уладу за непакорства і князь Смаленска Фёдар Святаславіч. Вітаўт перавёў яго ў Рослаў, а Смаленск аддаў малодшаму брату Фёдара Глебу. Аднак хутка і той чымсьці незадаволіў вялікага князя, які перавёў яго ў горад Палонна (напэўна, на Валыні, хаця двор з такой назвай існаваў і ў Віцебскай зямлі), а ў Смаленск прыслаў сваіх наместнікаў: князя Ямонта Тулунавіча і баярына Васіля Барэйкавіча. І ў Смаленску, і ў Маскве гэтую акцыю ўспрынялі як канчатковае далучэнне Смаленска да Вялікага Княства, хаця залежнасць яго ўжо даўно была вельмі вялікай. Масква выказала абурэнне, аднак перад ваеннай моцай Вітаўта пакуль што ўсё гнулася, як трыснёг пад ветрам. Літоўскае войска зрабіла нават далёкі паход у Разанскае княства, супраць цесця Дзмітрыя-Карыбута, князя Алега Іванавіча.

Пасля гэтага свой выбар на карысць Літвы зрабіла і большасць княстваў з вярхоўяў Акі. Святаслаў, Іван і Андрыян Цітавічы (апошні ў радаводах названы братам Ціта), уладары Карачава, Казельска і Звянігарада, аднавілі сваю васальную прысягу Вітаўту. Тое ж зрабілі князі Раман Сямёнавіч Адоеўскі і Усевалад Арэхва Мезецкі. Васаламі Масквы засталіся толькі сыны Канстанціна Абаленскага, уладанні якіх ляжалі найбліжэй да маскоўскай мяжы. Зяць Вітаўта Васіль Маскоўскі вымушаны быў прызнаць гэтыя змены і пагадзіцца з тым, што мяжа паміж маскоўскай і літоўскай сферамі ўплыву праходзіць па рацэ Угры, левым прытоку Акі.

Так Вялікае Княства Літоўскае, яшчэ больш узмацнелае пасля часовага заклапочання ўнутранымі справамі, зноў у поўны голас заявіла пра сябе на заходніх межах Маскоўскага княства і Залатой Арды. На гэты момант сілы ўсіх трох магутных усходнееўрапейскіх дзяржаў сталі прыкладна роўнымі. У Маскве, нягледзячы на паражэнне ад Тахтамыша, князь Дзмітрый Данскі перад сваёй смерцю перадаў вялікае княжанне ўладзімірскае свайму сыну як асабістую вотчыну ці дадатак да Маскоўскага княства, і татары моўчкі праглынулі гэта. Адбіўшыся ў свой час ад Альгерда, масквічы ўжо пачыналі патроху паглядаць на захопленыя ім рускія землі як на аб’ект магчымых набыткаў, але Васіль Дзмітрыевіч пакуль што не адважваўся адкрыта кінуць выклік магутнаму цесцю. Барацьба за ўплыў на рускіх князёў і рускія землі Вялікага Княства працягвалася, але ў скрытай форме.

Пасля смерці Дзмітрыя ў Маскву, нарэшце, уехаў мітрапаліт Кіпрыян, які зноў аб’яднаў такім чынам дзве мітраполіі. Нягледзячы на хрышчэнне Літвы ў каталіцтва, Кіпрыян захаваў добрыя адносіны і з літоўскімі князямі. Увогуле з’яўляецца ўражанне, што пасля бурных папярэдніх падзей Літва, Польшча і Масква ў 1390-я гады прагнулі перадыху.

Без асаблівых канфліктаў Вітаўт дамогся ўплыву ў Ноўгарадзе і Пскове, якія ваганіся паміж двума магутнымі суседзямі. Вядома, што ў Пскове князем быў у 1398—1399 гадах сын Андрэя Альгердавіча Іван, пра літоўскіх выхадцаў у Ноўгарадзе вышэй ужо гаварылася. Пасля смерці ў 1398 годзе Рамана Юр’евіча яго змяніў дзядзька, Патрыкей Нарымонтавіч. Праўда, і тут хісткую раўнавагу пакуль што не ўдавалася схіліць ні ў маскоўскі, ні ў літоўскі бок.

Залатая Арда пэўны час не магла, як раней, выконваць актыўную ролю літоўскага саюзніка, бо хан Тахтамыш, былы пратэжэ Цімура (Тамерлана), уцягнуўся ў барацьбу з апошнім за Іран і Закаўказзе. Перамога ў гэтым канфліктце была на баку грознага Цімура, які ў 1396 годзе сакрушыў войска Тахтамыша і спустошыў яго качэўі. Пэўны

**Карта 5. Вялікае Княства Літоўскае і яго суседзі ў канцы XIV ст.**




*1 — сталіцы дзяржаў; 2 — цэнтры княжацкіх уладанняў; 3 — дзяржаўныя межы; 4 — межы княстваў і зямель; 5 — тэрыторыі, часова страчаныя Вялікім Княствам Літоўскім у канцы XIV ст.; 6 — тэрыторыя Смаленскага княства, канчаткова далучанага да Вялікага Княства Літоўскага ў пачатку XV ст.; 7 — тэрыторыя вярхоўскіх княстваў, якія прызнавалі васальную залежнасць ад Вялікага Княства Літоўскага; 8 — назвы гістарычных і гістарычна-этнаграфічных рэгіёнаў; 9 — лічбамі абазначаны: 1 — Пскоўская зямля; 2 — Наўгародская зямля; 3 — Цвярское княства; 4 — Мурамскае княства; 5 — княствы Верхняй Сілезіі ў складзе Чэшскага каралеўства.*

час Тахтамыш яшчэ трымаўся супраць новага стаўленіка Цімура, хана Цімур-Кутлука, але ўрэшце згубіў уладу і вымушаны быў падавацца наўцёкі. Прытулак ён знайшоў у Вітаўта, які тым часам зрабіў некалькі рэйдаў у Паўночнае Прычарнамор'е, каб падпарадкаваць сваёй уладзе як тамтэйшых татарскіх феадалаў, што адкалоліся ад Арды, так і аселае насельніцтва прычарнаморскіх гандлёвых факторый.

У гэты момант Вялікае Княства Літоўскае займае найбольшую ў сваёй гісторыі тэрыторыю (калі не лічыць страт Жамойці і Падляшша на заходняй мяжы). Яно раскінулася ад Нёмана і Дзвіны да нізоўяў Днястра і Дняпра, да прычарнаморскіх стэпаў. Але Вітаўт нядоўга цешыўся спакоем. Ён адчуў сябе здольным нават на тое, каб выкарыстаць цяжкасці Залатой Арды і ў нейкай ступені распаўсюдзіць свой уплыў на яе. Вялікі князь ласкава прыняў Тахтамыша з яго двума сынамі і раднёй, даў яму ў кармленне замак Ліду, а сам пачаў рыхтавацца да вялікага паходу ў стэпы. Вітаўт разлічваў зноў узвесці хана-выгнанніка на трон, але ўжо як свайго стаўленіка. За гэта Тахтамыш павінен быў выдаць яму ярлык не толькі на тыя ардынскія правінцыі, што знаходзіліся ў складзе Вялікага Княства з часоў Гедыміна і Альгерда, але і на тыя, якія Вітаўт толькі збіраўся далучыць: на Ноўгарад, Пскоў, нават вялікае княжанне ўладзімірскае. Ярлыкі, здаецца, былі ўжо загатаваны — да іх часткова (а паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў — цалкам) узыходзяць тыя граматы крымскіх ханаў вялікім князям, пра якія я казаў вышэй.

Што і казаць, планы былі такія, што займала дух. Вітаўт рэкламаваў свой намер як вялізны паход хрысціянскага свету супраць басурман і зрабіў пэўнае ўражанне ў Еўропе. Нават рымскі папа абвясціў яго мерапрыемства крыжовым паходам. У ім вызваліся ўдзельнічаць польскія арыстакраты на чале са Спыткам Мельштынскім, паўзалежныя ад Вітаўта гаспадары Малдовы і Валахіі, нават атрад тэўтонскіх братоў-рыцараў. Намерваўся Вітаўт схіліць да ўдзелу і Васіля Маскоўскага, але той, напэўна, лепш разумеў сапраўдны патэнцыял Арды, бо разважліва ўхіліўся.

Па сутнасці, гэтая задума з'яўлялася грандыёзнай авантурай. Хану Цімуру-Кутлуку падпарадкоўвалася амаль уся неабсяжная тэрыторыя Залатой Арды ад Прычарнамор'я да Іртыша, за яго спінай стаяў сам магутны Цімур, уладар паловы Азіі. Напэўна, пасля поспехаў першых гадоў панавання разважлівасць здрадзіла Вітаўту і яго дарадчыкам, яны яўна пераацанілі сваю моц. Пра пэўную эйфарыю сведчыць і тое, што незадоўга да вайны з Ардой, у 1398 годзе, літоўская знаць на піры абвясціла Вітаўта «каралём Літвы і Русі», фактычна скасаваўшы тым самым як унію, так і пагадненне 1392 года.

І вось летам 1399 года войска Вітаўта накіравалася з Кіева, дзе быў зборны пункт, да межаў Арды. З улікам татар Тахтамыша, палякаў і іншых добраахвотнікаў яно налічвала, напэўна, да 20 тысяч рыцараў і шмат гармат. Паводле маскоўскага летапісца, з Вітаўтам ішло 50 князёў. Прынамсі, амаль уся вышэйшая знаць Вялікага Княства ўдзельнічала ў паходзе, нават старэйшыя Альгердавічы — Андрэй і Дзмітрый, якім было ўжо за семдзесят гадоў.

Татарскае войска, вялізнае сваёй колькасцю, чакала на мяжы ардынскіх уладанняў — на рацэ Ворскле. Хан Цімур-Кутлук распачаў перамовы, пагаджаўся на вялікія ўступкі, але на самай справе, відавочна, чакаў войска старога Цімуравага ваяводы Эдыгея. З яго падыходам тон татар на перамовах рэзка змяніўся. Найбольш асцярожныя галовы ў войску Вітаўта ў прадбачанні разгрому прапаноўвалі адысці на больш-менш пачэсных умовах, але маладое літоўскае і польскае рыцарства палічыла гэта ганебным.

Бітва адбылася на тым самым полі, дзе трыма стагоддзямі пазней адбудзецца славутая Палтаўская баталія. Артылерыя, на якую спадзяваўся Вітаўт, аказалася неэфектыўнай у палявых умовах пры тым узроўні яе манеўранасці і майстэрства бамбардзіраў. Як і можна было чакаць, справа скончылася акружэннем і страшэнным разгромам войска Вітаўта. Сам ён разам з Тахтамышам ледзьве ўцёк, заганяючы коней. Пра маштабы паражэння сведчыць колькасць знатных удзельнікаў, загінуўшых на Ворскле. Сярод іх былі старыя Андрэй і Дзмітрый Альгердавічы, юны пасынак Дзмітрыя-Карыбута Андрэй Дзмітрыевіч Друцкі, двое ці трое сыноў іншага друцкага князя — Сямёна Дзмітрыевіча, двое братоў Фёдара Данілавіча Астрожскага, сын Юрыя Нарымонтавіча Іван Пінскі, Глеб Святаславіч Смаленскі, Ямонт Тулунавіч, пан Спытка з Мельштына і некалькі іншых першаразрадных літоўска-рускіх і польскіх арыстакратаў. Напэўна, загінуў і Міхаіл Заслаўскі, бо ў хуткім часе пачынаюць дзейнічаць ужо яго сыны.

Цімур-Кутлук з Эдыгеем па слядах праціўніка дайшлі да Кіева і, атрымаўшы з яго вялікі водкуп, вярнуліся ў свае межы. Так бясслаўна скончылася спроба Вітаўта зрабіцца гегемонам усёй Усходняй Еўропы. Але такое страшнае паражэнне не стала для яго поўнай катастрофай, нават свой кантроль над часткай Паўночнага Прычарнамор'я ён пазней паступова аднавіў. Усё ж гэтая прыгода з'явілася для яго горкім урокам і моцна папсавала палітычны прэстыж. Да таго ж Вялікае Княства згубіла мноства кваліфікаваных, вопытных воінаў, іх даспехі, баявых коней — на аднаўленне ўсяго патрабаваліся гады.

Вынікам паходу Вітаўта ў Прычарнамор'е з'явілася перасяленне ў Вялікае Княства, прынамсі, некалькіх соцень сем'яў татар — прыхільнікаў Тахтамыша і іншых уцекачоў з Арды, а таксама ваеннапалонных. Сярод іх былі асобы ханскай крыві. Так, адзін з іх, Лекса, сын Мансур-Кіята (і быццам бы нашчадак Мамая), ахрысціўся пад імем Аляксандра і атрымаў ад Вітаўта замак Глінск у Левабярэжнай Украіне. Ад яго пайшоў славуты род князёў Глінскіх. Асноўная ж маса татар была паселена

ў глыбі краіны — у наваколлі Трок, Менска, Ліды, Узды. Там яны атрымалі землі на правах дробнай шляхты з абавязкам ваеннай службы (толькі ім, як мусульманам, забаранялася мець у залежнасці праваслаўную чэлядзь). Ад іх бярэ пачатак татарскае насельніцтва Літвы і Беларусі, якое захавала сваю рэлігію і некаторыя этнаграфічныя рысы да нашых дзён.

Канец XIV стагоддзя выдаўся сумным і для Уладзіслава-Ягайлы: у тое ж лета 1399 года пасля няўдалых радзін памерла яго маладая жонка, каралева Ядвіга. З разгубленай дзяўчынкі з часам атрымаўся сапраўдны дзяржаўны дзеяч. «Каралева Янка», як яе любоўна звалі ў Польшчы, карысталася вялікім аўтарытэтам. Выдатна адукаваная і выхаваная, яна прымала актыўны ўдзел у дзяржаўных справах, мела адметны ўплыў на мужа. Па яе ініцыятыве быў адноўлены ўніверсітэт у Кракаве, заснаваны некалі Казімірам Вялікім. Маладыя літоўцы са знатных сем'яў пачалі накіроўвацца для навучання ў Пражскі ўніверсітэт. Аднак адносіны Ядвігі з Вітаўтам хутка сталі напружанымі, бо яна і яе асяроддзе лічылі неабходным рэалізаваць унію ў поўным аб'ёме.

Смерць жонкі паставіла Ягайлу ў цяжкае становішча, бо сваёй каронай ён быў абавязаны толькі шлюбу з ёй. Зноў толькі ўлагоджваючы польскую знаць, ён мог разлічваць на захаванне ўлады. У гэтых умовах і Вітаўт зусім не быў зацікаўлены ў тым, каб Ягайла вярнуўся ў Літву, дзе давялося б зноў дзяліць з ім уладу. Старыя сябры-ворагі па-ранейшаму, нягледзячы на іх асабістыя адносіны, не маглі адзін без аднаго абысціся.

Выйсце з новых цяжкасцей абодва гаспадары пачалі шукаць у новым польскалітоўскім збліжэнні, вынікам чаго з'явілася падпісанне на пачатку новага стагоддзя, у 1401 годзе, новай дзяржаўнай уніі. З новага стагоддзя пачынаецца і час дзеяння новага пакалення, месца якому ачысціла пабоішча на Ворскле (хоць абодва галоўныя дзеячы, Ягайла і Вітаўт, будуць жыць і дзейнічаць яшчэ вельмі доўга). Але гэта ўжо зусім новая эпоха.

## Заключэнне

На мяжы новага, XV стагоддзя мы спыняем разгляд падзей. Перыяд станаўлення Вялікага Княства Літоўскага і Рускага можна лічыць завершаным. Пасля далучэння Смаленскай зямлі дзяржава набыла ўстойлівую мяжу на ўсходзе, якая будзе трывала захоўвацца на працягу амаль ста гадоў. Праўда, на захадзе фарміраванне тэрыторыі Вялікага Княства скончыцца крыху пазней: Жамойць, якая застаецца ў руках Тэўтонскага ордэна, будзе канчаткова вернута і ахрышчана пасля Грунвальдскай бітвы 1410 года. Яшчэ праз трыццаць гадоў жамойцкае баярства шляхам узброенага паўстання даб'ецца федэратыўнага статусу, якім карыстаецца большасць рускіх зямель, і тады афіцыйная назва дзяржавы набудзе канчатковы выгляд: Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае і іншых (давесак «і іншых» ужываўся на ўсякі выпадак, бо за ім хавалася любая тэрыторыя, з-за якой дзяржава магла ўступіць у спрэчку з кім-небудзь з суседзяў).

Да канца XIV стагоддзя склалася і знешнепалітычнае асяроддзе, у якім Вялікае Княства будзе існаваць доўгі час. На паўночным усходзе яно мяжуе з шэрагам паўсамастойных княстваў (Цвярскім, Маскоўскім, Разанскім), што ўтвараюць залежнае ад Арды вялікае княжанне ўладзімірскае, але фактычна сапраўдным гегемонам на гэтай тэрыторыі ўжо з'яўляецца Масква. Яна і надалей будзе набіраць моц, у канцы XV стагоддзя канчаткова праглыне астатнія княствы (у тым ліку і землі Вялікага Ноўгарада, што прылягаюць да Вялікага Княства Літоўскага з поўначы), пазбавіцца ад ардынскай даніны, а маскоўскія князі пачнуць тытулавацца «гасударамі ўсея Русі». За землі гэтае «ўсея Русі», добрая палова якой уваходзіць у Вялікае Княства Літоўскае, паміж дзвюма дзяржавамі пачнецца жорсткая барацьба, у выніку якой Літва згубіць да 1514 года Смаленшчыну, Браншчыну і Чарнігаўшчыну, аднак тэрыторыю сучаснай Беларусі, Валыні і Кіеўшчыны трывала захавае за сабой. Усходняя мяжа Вялікага Княства амаль няспынна будзе варожай, ваеннай мяжой.

У паўднёва-ўсходнім сектары суседам дзяржавы застаецца Залатая Арда, якая ўжо пражыла свае лепшыя часы. Фармальна Літва прызнае вярхоўную ўладу ардынскіх ханаў на тыя землі, якія некалі заваяваў Бату, аднак фактычна выплата даніны ўзнаўляецца толькі ў выключных выпадках (такіх, як паражэнне на Ворскле), а галоўным чынам тады, калі трэба выкарыстаць татарскі ваенны патэнцыял супраць галоўнага ворага — Маскоўскай дзяржавы. Баланс трох сіл — Масквы, Літвы і Арды — доўгія дзесяцігоддзі будзе вызначаць палітычны клімат Усходняй Еўропы.

На паўночным захадзе Літва па-ранейшаму мяжуе са старым ворагам — канфедэрацыяй Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў. Аднак прыняцце хрысціянства ўжо выбіла глебу з-пад гэтай варожасці, а Грунвальдская бітва паставіць у крыжацкай агрэсіі апошнюю кропку. Надалей Лівонія (на нямецкі лад — Ліфляндыя, на польскі — Інфлянты) будзе адыгрываць ролю аднаго з галоўных эканамічных партнёраў Літвы, для беларускіх зямель Рыга стане галоўнай гандлёвай брамай у Заходнюю Еўропу. Прусія ж сама праз паўстагоддзя трапіць у васальную залежнасць ад Польскага каралеўства.

І, нарэшце, на захадзе і паўднёвым захадзе землі Вялікага Княства прылягаюць да Польшчы. Крэўская унія, пацверджаная ў 1401 годзе, ператварыла Польшчу і Літву ў палітычных пабрацімаў, і на працягу некалькіх стагоддзяў гэты саюз будзе вызначаць гісторыю Вялікага Княства. Адносіны дзвюх суседніх дзяржаў складваюцца вельмі няпроста, далёка не заўсёды лагодна. Будзе некалькі спроб разарваць унію, але кожны раз знешнепалітычныя і ўнутраныя акалічнасці прывядуць да яе аднаўлення. Не сціхне былое саперніцтва за Валынь і Падолле, якое ў сярэдзіне XVI стагоддзя не толькі прывядзе да іх злучэння з Польшчай, але адарве ад Вялікага Княства яшчэ і Падляшша з Кіеўшчынай. Увесь час польскі бок у гэтым саюзе будзе больш актыўным, дамінуючым, што прывядзе і да розных пазітыўных вынікаў, але ў сферы духоўнай культуры, на нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і ўкраінцаў (як, дарэчы, і літоўцаў) адаб'ецца адназначна негатыўна.

Такім чынам, на працягу наступных дзесяцігоддзяў і нават стагоддзяў асноўны змест гісторыі Вялікага Княства Літоўскага будзе заключацца ў развіцці ўмоў і акалічнасцей, што склаліся на працягу дзеяння тых шасці пакаленняў, пра якія мы гаварылі. Асноўнымі дзеючымі асобамі наступнай эпохі выступяць прадстаўнікі тых пануючых колаў, што склаліся да пачатку XV стагоддзя. Дынастыя Ягелонаў, якая будзе панаваць у Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім да 1572 года, — гэта адна з галін Гедымінавічаў. Яе пачатак пакладзе позні шлюб больш чым сямідзесяцігадовага Ягайлы з юнай князёўнай Соф'яй Гальшанскай, ад якога ў 1424 і 1427 гадах народзяцца сыны Уладзіслаў і Казімір. Род Кейстутавічаў згасне ў сярэдзіне XV стагоддзя, але іншыя галіны Гедымінавічаў — князі Бельскія, Заслаўскія, Кобрынскія, Мсціслаўскія, Сангушкі, Слуцкія, Чартарыйскія будуць існаваць побач з Ягелонамі ў якасці вышэйшых арыстакратаў. У арыстакратычнае саслоўе ўвойдуць і нашчадкі літоўскіх і рускіх старажытных княжацкіх родаў: князі Гальшанскія, Астрожскія, Друцкія, Збаражскія, Вішнявецкія, Масальскія і шмат якія іншыя.

Але галоўны тон у XV і наступных стагоддзях будуць задаваць так званыя радныя паны (ці паны-рада, як іх звалі ў той час) — нашчадкі каталіцкіх (пераважна літоўскіх) баярскіх родаў, што ўтварылі атачэнне вялікага князя Вітаўта. Менавіта на іх ён абапіраўся ў сваёй барацьбе з сепаратызмам удзельных князёў, большасць з якіх былі праваслаўнымі і пасля Крэўскай уніі апынуліся ў апазіцыі. Якраз у канцы XIV — пачатку XV стагоддзя літоўскія баяры — пачынальнікі славутых родаў Манівідаў, Радзівілаў, Кезгайлаў, Гастаўтаў (Гаштольдаў) і іншых — атрымліваюць у вечнае ўладанне былыя велікакняжацкія сёлы і цэлыя воласці, што дазваляе ім раўняцца багаццямі з прыроднымі князямі. Крыху пазней да іх далучацца выхадцы з падляшскай шляхты Кішкі, акаталічаныя нашчадкі праваслаўных баяр (Глябовічы, Хадкевічы). Усе разам яны ўтвораць шчыльнае кола першаразрадных магнатаў, якія да сярэдзіны XVI стагоддзя будуць займаць практычна ўсе важнейшыя дзяржаўныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім, у тым ліку ў велікакняжацкай радзе.

Да канца XIV стагоддзя адбыліся і ўсе важнейшыя падзеі, што можна лічыць ключавымі для ўтварэння беларускага этнасу. Першай такой падзеяй з'явілася знішчэнне татарамі Кіеўскай Русі як цэльнага культурна-палітычнага арганізма. У выніку зніклі фактары, якія аб'ядноўвалі насельніцтва розных зямель і княстваў, а мясцовыя асаблівасці выйшлі на першы план.

Другім істотным крокам было з'яўленне ў сумежных з Літвой гарадах (Навагародку, Полацку) літоўскіх князёў. Гэта выключыла названыя гарады з палітычнай структуры, пабудаванай на вотчынным праве дынастыі Рурыкавічаў, і дазволіла ім ухіліцца ад непасрэднай залежнасці ад Арды.

Трэці момант — свядомая падтрымка насельніцтвам Новагародчыны літоўскіх князёў тады, калі суседняе Галіцка-Валынскае княства прыклала ўсе намаганні, каб з дапамогай татар вярнуць Панямонне ў старую палітычную сістэму. Гэта азначала канчатковы разрыў Новагародка з яго старажытнарускай спадчынай і пачатак сімбіёзу з Літвой, у якім ні адзін бок не мог абысціся без другога. Узнікла двухэтнічная дзяржава, чыя трываласць замацоўвалася сумеснай барацьбой як супраць татар, так і супраць крыжакоў.

Чацвёртым фактарам было аднаўленне цэнтралізатарскіх тэндэнцый на ўсходнеславянскіх землях, прычым двуадзінае літоўска-рускае палітычнае ўтварэнне выступіла адным з «цэнтраў прыцяжэння» для суседніх княстваў. Некаторыя з іх непасрэдна далучыліся да новай дзяржавы (так адбылося, здаецца, з Меншчынай, Браслаўшчынай, Берасцейшчынай), большасць жа ўвайшлі ў яе на правах федэратыўных адзінак з умовай «не рушыць старыны».

Наступным момантам з'явілася няўдача літоўскіх князёў у іх спробах ахапіць усе старажытнарускія землі. Два аб'яднаўчыя цэнтры — Літва і Масква — дасягнулі ўстойлівай раўнавагі, у выніку чаго тэрыторыя былой Кіеўскай Русі апынулася падзеленай на дзве прыкладна роўныя паловы. Мяжа паміж імі паклала пачатак адноснай ізаляцыі насельніцтва, а традыцыйная варожасць паміж Літвой і Масквой замацавала гэтую ізаляцыю.

Шостым па чарзе (але не па значэнні) трэба назваць пачатак непазбежнага ўзаемапранікнення культурных, моўных і іншых асаблівасцей, уласцівых насельніцтву Вялікага Княства Літоўскага: этнічным літоўцам і жамойтам, з аднаго боку, «акаючаму» насельніцтву былой сярэднярускай этнаграфічнай правінцыі (нашчадкам крывічоў), з другога, і, нарэшце, прадстаўнікам паўднёвай правінцыі з Палесся і Валыні. Цэнтрам узаемадзеяння было Верхняе Панямонне, дзе сутыкаліся ўсе кампаненты. У выніку «мовай міжнацыянальных зносін» выступіла старажытнаруская літаратурная мова, але ў прастамоўнай гутарцы замацоўваліся тыя рысы мясцовых дыялектаў, якія сустракаліся часцей. Так, «посткрывіцкае» цоканне засталося мясцовай асаблівасцю Полаччыны, а дзеканне і аканне, якія супадалі з літоўскім вымаўленнем, значна пашырыліся. У сваю чаргу паўднёвы цвёрды «р» таксама супадаў з літоўскім і пры яго ўдзеле пашырыўся на поўнач, оканне ж не выйшла за межы старога арэала. Так утваралася самастойная фанетычная сістэма, уласцівая беларускай мове.

Нарэшце, сёмым момантам стала унія Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай. Гэта азначала перавагу ў далейшым заходніх сувязей і ўплываў (у той час як на Маскоўскай Русі моцна адчуваліся ўсходнія, цюркскія ўплывы). Праўда, вынікі дадзенай падзеі стануць адчувальнымі па-за хранагічнымі рамкамі нашай кнігі, у XV і асабліва XVI—XVII стагоддзях. Уздзеянне польскай мовы спрыяла замацаванню прабеларускіх фанетычных рыс, а галоўнае, узбагаціла лексіку. Многія карані слоў сучаснай беларускай мовы запазычаны з польскай ці з заходнееўрапейскіх моў праз польскае пасрэдніцтва.

Аднак каб стаць самастойнай мовай, беларускай трэба было яшчэ адасобіцца ад праўкраінскай. Гэта адбылося часткова дзякуючы таму, што значная частка паўднёварускай этнаграфічнай правінцыі (Галіччына і Заходняя Валынь) увайшла непасрэдна ў Польскае каралеўства і была пазбаўлена літоўскіх і полацкіх уплываў. Развіццё там ішло адносна самастойна. Але вырашальным фактарам з'явілася ўзнікненне ў канцы XV — XVI стагоддзі на памежных з татарамі землях такой спецыфічнай з'явы, як казацтва. Яно зрабілася магутным каталізатарам этнічных працэсаў на Украіне.

Такім чынам, у межах нашай кнігі мы назіралі менавіта перадумовы з'яўлення беларускай народнасці. Канчаткова яна склалася пазней, у XVI—XVII стагоддзях, а назва «Беларусь» замацавалася толькі ў другой палове XIX стагоддзя, калі частыя кантакты з велікарусамі высвецілі відавочную розніцу двух народаў, якія датуль звыкла называлі сябе «рускімі». Дарэчы, памылка афіцыйных русіфікатараў была не ў тым, што яны называлі жыхароў Міншчыны і Магілёўшчыны рускімі (тыя самі сябе часцей за ўсё звалі менавіта так), а ў тым, што яны адмаўляліся бачыць розніцу паміж двума этнасамі з аднолькавай саманазвай. Яшчэ ў 1860-я гады даходзіла да анекдотаў. Напрыклад, пры характарыстыцы веравызнання ў сваёй вёсцы мясцовая настаўніца з Віцебшчыны пазначала: у вёсцы жыве вось столькі рускіх (у сэнсе — праваслаўных) і вось столькі старавераў. Між тым менавіта старавераы («маскалі», як іх звычайна звалі на Беларусі) з'яўляліся выхадцамі з этнічнай Велікарусіі, рускімі ў сучасным сэнсе, у той час як «рускія» былі беларусамі.

Этнічная гісторыя беларусаў атрымалася даволі складанай. Галоўным чынам так адбылося таму, што тэрыторыя Беларусі ніколі не ўяўляла сабой монаэтнічную дзяржаву, а менавіта гэты фактар наймацней спрыяе абуджэнню нацыянальнай самасвядомасці. Апошнім часам даволі часта робяцца спробы абвясціць Вялікае Княства Літоўскае «беларускай дзяржавай». Не кажучы пра фактычную недакладнасць такіх заяў (прынамсі, некалькі соцень тысяч літоўцаў, што жылі ў гэтай дзяржаве побач з беларусамі, у кішэнь не схаваеш), яны ва ўмовах сённяшняй вельмі слабай самасвядомасці беларусаў (у параўнанні хаця б з тымі ж літоўцамі) выглядаюць, па сутнасці, абразлівымі для іх: што ж гэта за народ, які некалькі стагоддзяў меў уласную дзяржаву, а калі страціў яе — за няпоўныя два стагоддзі ледзь не цалкам згубіў самасвядомасць, пачуццё нацыянальнай годнасці? Ці варта адраджаць такі народ?

Веданне ж сапраўднага лёсу беларусаў выклікае здзіўленне перад жыццёвай сілай народа, які нарадзіўся ў выключна складаных умовах, калі гінулі больш моцныя за яго, які шукаў выратаванне не ў скарэнні ці нават знішчэнні суседзяў, а ў братнім саюзе з імі. Ён не паспеў яшчэ сфарміравацца як след, а ўжо апынуўся ў якасці падначаленага, пад рэлігійным, а потым і нацыянальным прыгнётам. Польскі этнас, якому пашчасціла больш, імкнуўся асіміляваць яго, потым тое ж самае рабіў магутны рускі этнас. А беларусы прайшлі праз усё гэта, вытрымалі і захавалі свой непаўторны нацыянальны характар, па якім іх заўсёды можна пазнаць. Выжылі самі, не знішчыўшы нікога дзеля свайго выратавання. Толькі шматлікія захопнікі кожны раз знаходзілі сабе магілу на беларускай зямлі.

Зараз пачалася самая важная старонка ў гісторыі беларускага народа. Ён упершыню атрымаў сваю дзяржаву — не палітычны эфемер, не марыянетку ў чужых руках і не «непарыўную частку агульнага цэлага». Упершыню за шмат стагоддзяў у яго з'явілася магчымасць паказаць, чаго ён варты на самай справе. Нацыянальная дзяржава непазбежна абудзіць і нацыянальную свядомасць. І таму не трэба палохацца праўды аб сваім мінулым, калі яна здаецца не такой бліскучай, як хацелася б. У нашай гісторыі няма бляску, замешанага на чужой крыві, але ў ёй няма ганьбы — гэтаважыць значна болей. І безумоўна, прыйдзе час, калі наш народ (я ў гэта непахісна веру) расправіць крылы. Я ведаю, што беларус заўсёды будзе беларусам, калі побач з ім будзе яго гісторыя, подых яго папярэднікаў на гэтай зямлі.

## Асноўныя крыніцы і літаратура

### Крыніцы

Белоруссия в эпоху феодализма: Сборник документов и материалов. Мн., 1959. Т. 1.

«Великая хроника» о Польше, Руси и их соседях XI—XIII вв. М., 1987.

Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. М.; Л., 1938.

Длугош Я. Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962.

Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950.

Полное собрание русских летописей. СПб., 1843. Т. 2. Вып. I (Іпацьеўскі і Густынскі летапісы); СПб., 1848. Т. 4 (наўгародскія летапісы); Пг. (Л.), 1915—1925. Т. 4. Ч. I. Вып. 1—2 (Наўгародскі IV летапіс); П., 1917. Т. 4. Ч. 2. Вып. I (Наўгародскі V летапіс); СПб., 1851. Т. 5 (пскоўскія летапісы); М., 1853. Т. 6 (Сафійскі летапіс); М., 1856. Т. 7 (Васкрасенскі летапіс); М., 1965. Т. 9—13 (Ніканаўскі летапіс); М.; Л., 1949. Т. 25 (Маскоўскі летапісны збор канца XV ст.); М., 1975. Т. 32 (Хроніка Літоўская і Жамойцкая, Хроніка Быхаўца і інш. беларуска-літоўскія летапісы); М., 1980. Т. 35 (беларуска-літоўскія летапісы).

Полоцкие грамоты XIII — начала XVI в. М., 1977. Вып. 1 (акты XIV—XV вв.). Вып. 3 (комментарии).

Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. М.; Л., 1950.

Псковские летописи. М.; Л., 1941—1955. Вып. 1—2.

Русско-ливонские акты. СПб., 1868.

Смоленские грамоты XIII—XIV вв. М., 1963.

Acta unii Polski z Litwą. 1385—1791. Kraków, 1932.

Długosz J. Roczniki czyli kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Warszawa, 1981. Ks. 9—10.

Kodeks dyplomatyczny Litwy / Wyd. E. Raczyński. Wrocław, 1845.

Livländische Reimchronik / Ed. L. Meyer. Padeborn, 1876.

Monumenta medii aevi historica, res gestas Poloniae illustrantia. Cracoviae, 1882. V. 6. Codex epistolaris Vitoldi, Magni Ducis Lithuaniae (1376—1430).

Scriptores Rerum Prussicarum. Leipzig, 1861—1873. Bd. 1—3.

Stryjkowski M. Kronika Polska. Warszawa, 1846. T. 1—2.

### Даследаванні

Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963.

Гринблат М.Я. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968.

Думин С.В. Другая Русь: (Великое княжество Литовское и Русское) // История Отечества: люди, идеи, решения. М., 1991.

Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. 2-е выд. Мн., 1991.

Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990.

Ігнатоўскі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5-е выд. Мн., 1991.

История Литовской ССР. Вильнюс, 1978.

Карамзин Н.М. История государства Российского. М., 1988. Кн. 1—2.

Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915.

Охманьский Е. Гедиминовичи — «правнуки Сколомендовы» // Польша и Русь. М., 1974.

Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959.

Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Мн., 1991.

Соловьев С.М. История России с древнейших времен. М., 1960—1963. Кн. 1—2.

Тарасаў К. Памяць пра легенды: Постаці беларускай мінуўшчыны. Мн., 1990.

Тихомиров А.Н. Значение Древней Руси в развитии русского, украинского и белорусского народов // Вопросы истории. 1954. № 6.

Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1988.

Феннел Дж. Кризис средневековой Руси, 1200—1304. М., 1989.

Флоря Б.Н. Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле // Куликовская битва. М., 1980.

Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: (Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў). Мн., 1969.

Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. Warszawa, 1930. T. I (1377—1499).

Kosman M. Historia Białorusi. Wrocław, 1979.

Kosman M. Litwa perwotna: Mity, legendy, fakty. Warszawa, 1989.

Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983.

Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. Wilno, 1839. T. 4—5.

Ochmański J. Historia Litwy. Wrocław, 1982.

Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. Warszawa, 1933. T. I. Litwa a Moskwa w XIII i XIV wieku.

Paszkiewicz H. O genezie i wartości Krewa. Warszawa, 1938.

*Друкуецца паводле:*
Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мінск, 1993.

# ВКЛ ад узнікнення да Крэўскай уніі

Своеасаблівасцю ранніх этапаў гісторыі ВКЛ з'яўляецца параўнальная нешматлікасць дакументальных сведчанняў, асноўны масіў якіх быў уведзены ў навуковы ўжытак яшчэ ў XIX ст., і разам з тым вялізная колькасць тлумачэнняў і інтэрпрэтацый. Высновы, да якіх прыходзяць даследчыкі, часам аказваюцца супрацьлеглымі. Гэта адбываецца не столькі таму, што наяўных фактаў недастаткова для адназначных высноў, колькі з прычыны няпоўнага іх уліку. Адстойваючы тую ці іншую канцэпцыю, аўтары схільныя да недаацэнкі, а то і да поўнага ігнаравання тых фактаў, якія не вельмі стасуюцца з іх пазіцыяй. Таму аргументы, якія выкарыстоўваюцца для падмацоўвання той ці іншай канцэпцыі, уяўляюць сабой мноствы, якія перасякаюцца толькі часткова.

Галоўнай задачай на сёння застаецца адсячэнне тых канцэпцый, якія несумненна супярэчаць фактам — незалежна ад таго, які ідэалагічны груз нясуць гэтыя канцэпцыі і як яны ўпісваюцца ў сучасную кан'юнктуру. Ва многіх выпадках чыстыя факты, сабраныя разам без адвольнай фільтрацыі, гавораць самі за сябе і не патрабуюць складаных тлумачэнняў. Але некаторыя моманты невідавочныя і патрабуюць пэўнай рэканструкцыі, з прыцягненнем не толькі логікі, але і інтуіцыі. Такая інтэрпрэтацыя не можа не насіць суб'ектыўнага характару. Усё ж здаецца, што наконт агульнага зместу працэсаў, якія адбываліся ва Усходняй Еўропе ў XIII—XIV стагоддзях, зараз ужо можна прыйсці да пэўнага кансэнсусу.

## Этнічная і геаграфічная тэрміналогія

У вачах сучаснікаў дзяржава, вядомая пад скарочанай назвай «Вялікае Княства Літоўскае» ці абрэвіятурай ВКЛ, складалася з двух галоўных кампанентаў — Літвы і Русі. Тытулатуры «дзедзіч Літвы і Русі», «Вялікае Княства Літоўскае і Рускае» і да т.п. дакументальна зафіксаваны ў першай палове XIV ст., пры Гедыміне[1], хаця ўзніклі, магчыма, раней. Неабходна перш за ўсё вызначыцца з этнічнай тэрміналогіяй. Хоць гэта і рабілася неаднаразова, шэраг пытанняў тым не менш застаецца.

У калянавуковых колах Беларусі даволі пашырана думка аб тым, што гістарычная назва «Літва» не мела дачынення да продкаў сучасных літоўцаў, а тычылася альбо цалкам аславяненай (хоць і зыходна балцкай) тэрыторыі[2], альбо ўвогуле этнасу славянскага паходжання[3]. Дзякуючы падбору фактаў, адвольна вышмаргнутых з агульнага кантэксту, такія версіі робяць ураджанне на недасведчаных чытачоў. Але аб тым, што мова тагачасных літоўцаў была незразумелай рускім, непасрэдна згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» (Літва аднесена да «иных языков»)[4] і ў Валынскім (Іпацьеўскім) летапісе пад 1255 г., калі літоўцы ў войску Рамана Данілавіча «по своискы рекоуще Янда, взывающе богы своя Андая и Дивирикса и вся богы своя поминающе»[5]. Тое, што гэтая мова належала менавіта да балцкіх і была амаль тоесная жамойцкай («адна і тая ж мова і адны і тыя ж людзі»), вызначаецца ў лісце Вітаўта да імператара Сігізмунда ў 1420 г.[6]. У другой палове XV ст. аб гэтым жа пісаў польскі

[1] Прыклады выкарыстання такой тытулатуры гл.: Adamus J. O tytule panującego i państwa litewskiego parę spostrzeżeń // Kwartalnik Historyczny. 44 (1930). S. 313—332; Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kraków, 1916. S. 216, 217.

[2] Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. 2-е выд. Мн., 1991.

[3] Урбан П. Старажытныя ліцвіны: Мова, паходжанне і этнічная прыналежнасць. 2-е выд. Мн., 2003.

[4] Повесть временных лет. Ч. 1: Текст и перевод. М.; Л., 1950. С. 10, 13.

[5] ПСРЛ. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962. Стб. 839.

[6] Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae (1376—1430). Cracoviae, 1882. № 861. P. 467—468.

храніст Ян Длугаш, адзначаючы ў мове як літоўцаў, так і жамойтаў («самагітаў») аднолькавыя рысы, якія прыпісваў іх лацінскаму паходжанню (магчыма, меліся на ўвазе характэрныя канчаткі на *-ас*). Крыху далей ён пісаў, што «літоўцы, самагіты і яцьвінгі, хаця і мелі розныя найменні і падзяляліся на многа родаў, утваралі тым не менш агульнае цэлае»[7].

На пачатку XIII ст. назва «Літва» ахоплівала шэраг княстваў на чале з самастойнымі дынастыямі, сярод якіх адна дынастыя лічылася «старшай». Прадстаўнікі ўсіх гэтых дынастый, пералічаныя ў Валынскім летапісе пад 1219 г., названы «літоўскімі князямі», што дазваляе акрэсліць агульны абшар, на які пашыралася назва «Літва». Непасрэдна названы два племянныя княствы, уладары якіх дзейнічалі сумесна са «старэйшымі»: Жамойць і Дзевалтва (Дзяволтва). Апрача таго, дзве княжацкія дынастыі, Рушкавічы і Булевічы, прыгаданы без пазначэння іх уладанняў.

У іншых крыніцах XIII ст. неаднаразова прыгадваецца геаграфічная вобласць Нальшчаны. Двойчы яна ўпамінаецца ў «Ліфляндскай рыфмаванай хроніцы»: каля 1228 г. (Alsen у складзе Літвы) і ў 1250 г. (Nalsen асобна ад Літвы)[8]. У падробленай грамаце Міндоўга 1260 г. (як лічыцца, подпісы на ёй захаваліся з сапраўднага прататыпа) прыгадваецца яго родзіч Гердзень Нальшчанскі (Gerdine de Naise)[9]. У Валынскім летапісе Нальшчаны прыгадваюцца пад 1260 і пад 1264 г.[10], а ў 1268 г. пад пратэктарат рыжскага архібіскупа перайшоў літоўскі нобіль Суксе «de provincia Nalsen»[11]. У дакуменце рыжскага архібіскупа ў 1254 г. прыгадваецца таксама зямля Упіта («terra Opiten»), сумежная з Земгаліяй[12], а ў вышэйзгаданай грамаце Міндоўга 1260 г. сярод яго родзічаў названы «Parbuse de Nere»[13]. Гэтая Нера, магчыма, была іншым варыянтам назвы Дзевалтвы (невядомай крыжацкім крыніцам) і паходзіла ад літоўскай назвы р. Віліі — Нярыс (Вілію ўпамінае як «fluvio Nare» Пётр з Дусбурга)[14]. Больш позняя традыцыя, адлюстраваная ў беларуска-літоўскіх летапісах XV—XVI стст., лічыла цэнтрам Дзевалтвы г. Вількамір (сучасны Укмерге). Недалёка ад яго вядома старажытнае паселішча Дзявілтоў, якое, напэўна, і дало назву Дзевалтоўскай зямлі, гэтак жа, як паселішча Упіта — Упіцкай зямлі.

Разам з тым у напісанай прыблізна ў 1225—1227 гг. хроніцы Генрыха Латвійскага[15] пры апісанні падзей 1210-х гг. не згадваюцца ні Жамойць, ні Нальшчаны і Дзевалтва, якія павінны былі непасрэдна межаваць з уладаннямі крыжакоў, а толькі Літва. Гэтак жа «Ліфляндская рыфмаваная хроніка», прыгадваючы асноўныя балцкія народы і землі, побач з куршамі, селамі, земгаламі і інш. называе адну Літву[16]. Гэта можа сведчыць аб тым, што палітычнае аб'яднанне паўсамастойных княстваў было ўжо даволі моцным, альбо аб тым, што не менш моцнай была этнічная самасвядомасць, якая аб'ядноўвала іх усе.

У сярэдзіне XIII ст. існаваў яшчэ адзін сэнс назвы «Літва». У больш вузкім сэнсе яна адносілася толькі да непасрэдных уладанняў Міндоўга (родавай вотчыны старшай дынастыі?) і знаходзілася недзе на поўдзень ад Нальшчанскай зямлі, бо праз

---

[7] Длугош Я. Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962. С. 11, 13.

[8] Livländische Reimchronik. P. 42 (верш 1805); P. 77 (верш 3319).

[9] Paszkiewicz H. Regesta źródłowe do dziejów Litwy od czasów najdawniejszych aż do unji z Polską. T. 1. Do r. 1315. Warszawa, 1930. № 374.

[10] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 847, 863.

[11] Paszkiewicz H. Regesta źródłowe do dziejów Litwy... № 475.

[12] Liv-, Est- und Curlandisches Urkundenbuch, nebst Regesten / Hg. F.G. Bunge. Bd. 1. Reval, 1853. № 265. Гл. таксама: Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów w dobie plemiennej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. T. 1. Poznań, 1985. S. 88.

[13] Paszkiewicz H. Regesta źródłowe do dziejów Litwy... № 374.

[14] Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 1. Leipzig, 1861; гл. таксама: Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. М., 1997. С. 152. Іншы храніст, Герман з Вартберга, пад 1373 г. прыгадвае «terram Nerghe» вакол ракі Nerge. Аб адпаведнасці яе Дзевалтве гл.: Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów… S. 94.

[15] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. М.; Л., 1938.

[16] Livländische Reimchronik. P. 8—9 (верш 326 «Lettowen eine sint genant»).

апошнюю ішоў паход лівонскага ландмайстра на «Літву» ў 1250 г.[17]. У 1258 г. татары пры руху з поўдня паслядоўна «воеваша земли Литовьскую и Нальшчаньскую», а ў 1264 г. з бацькоўскай Літвы рушыў на скарэнне мяцежных Нальшчан і Дзевалтвы сын Міндоўга Войшалк[18]. Гэта было, здаецца, апошняе ўпамінанне Літвы ў вузкім сэнсе. Верагодна, пасля паходу Войшалка Нальшчаны, Дзевалтва і, магчыма, Упіта трапілі пад непасрэдны кантроль вялікага князя і страцілі палітычную адметнасць, атрымаўшы той жа статус, што і родавая вотчына Міндоўга.

Жамойць у ходзе гэтых падзей захавала пэўны ўзровень самакіравання, што прывяло ў далейшым да яе трывалага супрацьпастаўлення Літве. Выраз «літоўцы і жамойты» (Littoven und Sameiten) сустракаецца ў «Ліфляндскай рыфмаванай хроніцы» ўпершыню пры апісанні падзей 1250-х гг.[19] — незадоўга да таго, як Жамойць выступіла супраць Міндоўга, а той адмовіўся ад яе на карысць Лівонскага ордэна. Крыху пазней такое ж адрозненне пачынае сустракацца і ў рускіх летапісах: у паходзе на Рыгу ў 1286 г. удзельнічалі «Литва вся и Жемоть вся»[20]. Адрозненне Літвы ад Жамойці сустракаецца ў летапісах і пазней. Так, у паходзе Альгерда на Пераяслаў у 1373 г. удзельнічалі «Литва и Ляхи и Жемоть»[21].

Астатнія землі з канца XIII ст. альбо разглядаліся проста як часткі Літвы, альбо паглыналіся абагульняючым тэрмінам «Аўкштайція», які меў, здаецца, літаратурны характар і самімі жыхарамі не ўжываўся. Супрацьпастаўленне Жамойці і Аўкштайціі як дзвюх частак уладанняў «літоўскага караля» ўпершыню ўжыта Пятром з Дусбурга (пры апісанні дзеянняў камтура Людвіга фон Любенцаля ў 1294—1300 гг.)[22], а затым у дагаворы вялікага князя Гедыміна з Рыжскім магістратам у 1323 г.[23]. Паход крыжакоў у 1373 г., паводле Германа з Вартберга, быў накіраваны «супраць літоўцаў у зямлю Аўкштайція» (contra Letwinos in terram Austheiten)[24]. Часам гэта інтэрпрэтуюць у тым сэнсе, што Жамойць і Аўкштайція ўтваралі асобныя землі побач з уласна Літвой. Больш верагодна, аднак, што ў тагачасных уяўленнях этнічная Літва складалася з дзвюх частак: Жамойці і Аўкштайціі (з якіх апошняя магла называцца «Літвой» у больш вузкім сэнсе). Гэта відавочна меў на ўвазе вялікі князь Вітаўт, калі ў 1420 г. у лісце да імператара Сігізмунда прывёў шырока пашыраную ў далейшым інтэрпрэтацыю абедзвюх геаграфічных назваў: «Дзеля таго, што Жамойць ляжыць ніжэй за Літву (па цячэнні Нёмана. — *В.Н.*), яна і называецца Жамойцю, што азначае па-літоўску «ніжэйшая зямля». А на Жамойці Літву называюць Аўкштайція, што значыць «вышэйшая зямля» ў параўнанні з самой Жамойцю»[25].

Аб паглынанні тэрмінам «Аўкштайція» колішняй Дзевалтвы выразна сведчаць звесткі Германа з Вартберга. У складзе Аўкштайціі ці «вышэйшай зямлі Літвы» ў 1367, 1373 і 1374 гг. ён упамінае землі Нерге (гл. заўвагу 14) і Жэймы, а таксама асобныя паселішчы на верагодных абшарах Дзевалтвы: Вількамір, Ворлава, Шаты. Ён жа ў 1375 г. прыгадвае ў «зямлі літоўцаў» шэраг паселішчаў на тым абшары, дзе раней мусілі знаходзіцца Нальшчаны (Больнікі, Дубінкі, Гедройці, Малаты, Таўрагіні, Уцяна, Шашолы)[26].

Такім чынам, абшар Літвы ў шырокім сэнсе, залежнай ад дынастыі «старшых

[17] Livländische Reimchronik. P. 75—77 (верш 3325 «durch Nalsen kein Littowen»).
[18] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 847, 863.
[19] Livländische Reimchronik. P. 75—76 (вершы 3239, 3293).
[20] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 896.
[21] ПСРЛ. Т. 18. Симеоновская летопись. СПб., 1913. С. 107—112.
[22] Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. С. 152.
[23] Liv-, Est- und Curlandisches Urkundenbuch. Bd. 2. Reval, 1855. № 694; Послания Гедимина / Подготовили В. Пашуто и И. Шталь. Вильнюс, 1966. № 8.
[24] Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. P. 104. Гл. таксама: Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края / Сост. Е.В. Чешихин-Ветринский. Т. II: Ливонская хроника Германа Вартберга. Рига, 1879.
[25] Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae (1376—1430). Cracoviae, 1882. № 861. P. 467—468.
[26] Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. P. 88, 104, 105—106.

князёў», у сукупнасці займаў асноўную частку тэрыторыі сённяшняй Літоўскай Рэспублікі[27] і прылеглыя тэрыторыі Беларусі (да возера Свір, правабярэжжа нёманскай Бярэзіны і ваколіц Ліды). Ён добра акрэсліваецца з дапамогай археалогіі[28]. Тэрыторыі Нальшчан і Дзевалтвы ў цэлым супадаюць з паўночнай (завілейскай) часткай арэала кurганоў усходнелітоўскага тыпу (Аўкштайцкае і Свянцянскае ўзвышшы). Літоўская зямля ў вузкім сэнсе, напэўна, ахоплівала паўднёвую частку таго ж арэала (Дзукскае ўзвышша і большасць Ашмянскай грады, прыкладна ў межах чатырохкутніка Коўна—возера Свір—Ліда—Мерач)[29]. Тэрыторыя Жамойці і Упіты супадае з арэалам грунтовых могільнікаў цэнтральнай і заходняй Літвы. Пры гэтым Жамойці адпавядае раён могільнікаў з трупапакладаннем на Жамойцкім узвышшы (валасці Крожэ, Лукава, Расіены і інш., вядомыя з граматы Міндоўга 1253 г.[30]), а Упіта займала паўночную зону могільнікаў з трупаспаленнем на абшарах Сярэднелітоўскай нізіны, у парэччы р. Нявежы. Цяжка сказаць, куды адносілася ў той час паўднёвая частка могільнікаў з трупаспаленнем (валасці Эйрагола і Бетыгола, згаданыя ў той жа грамаце 1253 г.), але ў больш позніх часы яны, бясспрэчна, належалі да Жамойці[31] (у сувязі з гэтым няўдалым уяўляецца прынятае шэрагам археолагаў вызначэнне помнікаў з трупаспаленнем як могільнікаў «аўкштайцкага тыпу»).

Як для грунтовых, так і для курганных пахаванняў у канцы XII — XIII ст. прасочваецца шэраг агульных рыс, у тым ліку рытуальнае пахаванне коней разам з нябожчыкам ці яго попелам. Абрад гэты быў тыповым для літоўцаў ажно да часу іх хрышчэння — паводле яго быў пахаваны вялікі князь Альгерд у 1377 г.[32]. Разам з тым даныя археалогіі сведчаць, што дзве часткі арэала Літвы мелі істотна розныя пахавальныя звычаі і іншыя адметнасці, якія тлумачацца розніцай у этнічных працэсах папярэдніх часоў. Такім чынам, для супрацьпастаўлення Жамойці і Аўкштайціі меліся не толькі палітычныя, але і этнаграфічныя падставы. Палітычныя фактары, аднак, пераважалі, бо зямля Упіта, этнаграфічна больш родная Жамойці, у далейшым увайшла ў склад Літвы-Аўкштайціі, а зямля Цэкліс, населеная куршамі, — у склад Жамойці.

Аб'яднанне пад агульнай назвай «Літва» арэалаў з курганнымі і грунтовымі пахаваннямі захавалася і пазней: у хроніцы Пятра з Дусбурга, напрыклад, сустракаюцца выразы «ліцвін з Эйраголы» альбо «ліцвіны з Жамойці»[33], хаця ён жа адзначаў моцны сепаратызм жамойтаў у адносінах да «караля Літвы» на мяжы XIII—XIV стст.[34]. Даўнюю сувязь Жамойці з Літвой прыгадваў Вітаўт, калі ў 1420 г. сцвярджаў, што зямля жамойтаў «ёсць наша спадчына і ўласнасць як законная спадчына ад прадзедаў і дзядоў нашых, якою валодаем і цяпер, ды якая таксама заўсёды ёсць і заўсёды была адзінай з Літвой»[35]. Дзеля палітычнай кан'юнктуры Вітаўт, безумоўна, перабольшваў трываласць палітычнай інтэграцыі Літвы і Жамойці (ад якой сам жа двойчы адракаўся на карысць Тэўтонскага ордэна), але няма важкіх падстаў адхіляць яго сцвярджэнне аб этнічнай і гістарычнай блізасці абодвух рэгіёнаў, якое цалкам адпавядае больш

[27] Канчатковае фарміраванне этнічнай тэрыторыі літоўцаў адбылося пазней, калі ў выніку войнаў з крыжакамі да Літвы адышлі землі Цэкліс і Каршува на захадзе (паводле археалагічных даных, зыходна родныя куршам і скалвам), паўднёвая частка племянных княстваў земгалаў і селаў на поўначы, яцвяжскія землі Вяйсея, Дайнава і інш. абапал Сярэдняга Нёмана.

[28] Археология СССР: Финно-угры и балты в эпоху Средневековья. М., 1987. С. 382—395.

[29] Гудавичюс Э. «Литва Миндовга» // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985. С. 226. Аб няслушнасці спробы М. Ермаловіча лакалізаваць яе па-за межамі арэала ўсходнелітоўскіх курганоў гл., напр.: Насевіч В.Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993. С. 20; Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 113—115.

[30] Paszkiewicz H. Regesta źródłowe do dziejów Litwy... № 270, 346; Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów... S. 65—88.

[31] Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów... S. 77.

[32] Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. P. 113. Гл. таксама: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959. С. 86; Длугош Я. Грюнвальдская битва. С. 12.

[33] Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. С. 165, 173.

[34] Там жа. С. 152.

[35] Codex epistolaris Vitoldi. № 861. P. 467—468.

познім звесткам.

Такім чынам, у першай палове XIII ст. назва «Літва» ў шырокім сэнсе прыкладна супадала з этнічнай тэрыторыяй сённяшняй Літоўскай Рэспублікі. У далейшым сэнс яе істотна змяніўся. На гістарычнае ядро дзяржавы, якое было непасрэдна падпарадкавана вялікаму князю, на працягу другой паловы XIII — XIV ст. пашырылася назва «Літва» ў палітыка-геаграфічным сэнсе, якая не мела этнічнага значэння. Новае значэнне гэтай назвы, якое не супадае з этнічным, упершыню фіксуецца ўжо пры Міндоўгу, у 1250-я гг., — адзін з паходаў Данілы Галіцкага супраць яго быў накіраваны, паводле слоў летапісца, «на Литву на Новгородок»[36]. Пра існаванне палітка-геаграфічнага сэнсу назвы «Літва» ў часы Гедыміна сведчыць, напрыклад, тое, што ў 1323 г. пскавічы пасылаюць «у Літву» па князя Давыда[37], які, паводле Пятра з Дусбурга, быў намеснікам у Горадне.

Што тычыцца саманазвы ўсходнеславянскага насельніцтва ў час утварэння ВКЛ (XIII ст.), то яе ролю выконвала назва «Русь». Найбольш яскравае сведчанне — выраз з дагаворнай граматы 1264 г. паміж Полацкам і Рыгай аб тым, «што Руськая земля слывет Полочьская»[38]. Гэты этнонім быў звыклы і суседзям. Генрых Латвійскі шматразова прыгадвае «караля» Полацка і яго падданых у якасці рускіх («рутэнаў»)[39], гэтаксама ў буле папы Урбана IV у 1264 г. памежная з Латгаліяй Полацкая зямля азначана як Русь[40]. «Рутэнамі» называюць насельнікаў Беларусі (а таксама нават літоўцаў, якія прынялі праваслаўе) і храністы XIV ст.: Пётр з Дусбурга, Герман з Вартберга і інш. У прыватнасці, паводле Віганда з Марбурга, у 1361 г. велікакняжацкі двор Дзяляцічы з навакольнай воласцю на левым беразе Нёмана, на поўнач ад Навагародка, знаходзіўся на Русі («transeunt in Russyam in terram Delitcz»)[41].

## Перадумовы ўтварэння ВКЛ

З'яўленне ў сярэдзіне XIII ст. двухэтнічнай дзяржавы стала магчымым толькі таму, што для гэтага меліся неабходныя ўнутраныя перадумовы. Адной з іх быў працяглы вопыт міжэтнічных кантактаў у Верхнім Панямонні, абшар якога стаў вогнішчам дзяржаваўтваральнага працэсу.

Верхняе Панямонне было трывала каланізавана ўсходнеславянскімі плямёнамі крывічоў і дрыгавічоў прыкладна на мяжы X—XI стст. У працэсе свайго рассялення яны асімілявалі рэдкае мясцовае насельніцтва — нашчадкаў культуры штрыхаванай керамікі. На правабярэжжы Нёмана і яго доплыва Бярэзіны славяне сутыкнуліся з продкамі сучасных літоўцаў — носьбітамі культуры ўсходнелітоўскіх курганоў, якая, паводле сучасных уяўленняў, утварылася ў IV—V стст. шляхам змяшэння той жа культуры штрыхаванай керамікі з прышэльцамі з захаду — носьбітамі культуры шурпатай керамікі[42]. Такім чынам, і славяне, і літоўцы наслаіліся на адзін і той жа субстрат, ад якога мусілі запазычыць шмат агульных звычаяў, міфалагічных і фальклорных сюжэтаў, моўных рыс. Гэта не магло не спрыяць добраму ўзаемаразуменню паміж імі.

Археалагічныя даныя сведчаць, што ў кантактнай зоне адсутнічала выразная

[36] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 827—828.
[37] ПСРЛ. Т. 4. СПб., 1851. С. 15.
[38] Русско-ливонские акты. СПб., 1868. С. 13. Гл. таксама: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959. С. 74—75; Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. М., 1977. С. 35.
[39] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. М.; Л., 1938.
[40] Там жа. Заўвага 3.
[41] Scriptorum Rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. S. 527.
[42] Ушинскас В.А. Роль культуры штрихованной керамики в этногенезе балтов // Славяне: Этногенез и этническая история. Л., 1989. С. 62—67; Медведев А.М. К вопросу о взаимоотношении западных балтов и носителей культуры штрихованной керамики в I тысячелетии н. э. // Насельніцтва Беларусі і сумежных тэрыторый у эпоху жалеза. Мн., 1992. С. 81—83.

этнічная мяжа. Славянскія помнікі пашыраны за Нёманам у Шчучынскім раёне, а таксама ля Крэва і Ашмян, на пераважна балцкай у той час тэрыторыі[43]. Разам з тым рысы пахавальнага звычаю, уласцівага для ўсходнелітоўскіх курганоў, прасочваюцца ўперамешку з чыста славянскімі рысамі ў могільніках каля Навагародка, Слоніма, Ваўкавыска і ў іншых месцах на левабярэжжы Нёмана. Верагодна, менавіта ў гэты час на Беларусі, па-за абшарам арэала ўсходнелітоўскіх курганоў, з'явіўся шэраг вёсак з назвамі тыпу «Літва» ці «Ліцвяны», а таксама іншыя паселішчы з назвамі літоўскіх каранёў: Айнаравічы, Ішкалдзь і інш. Такое змяшэнне магло адбывацца толькі пры адносна мірным характары адносін. Паміж варагуючымі этнасамі, як правіла, утвараецца шырокая незаселеная паласа, у якой жыць занадта небяспечна — так было, напрыклад, на паўднёвых межах Русі, якія цярпелі ад палавецкіх набегаў, так было і пазней на мяжы Літвы з Лівонскім ордэнам.

У балцкім міграцыйным руху на Панямонні ўдзельнічалі не толькі літоўцы, але і нашчадкі яцвягаў, першапачатковы арэал якіх фіксуецца археалагічна на падставе характэрнага пахавальнага абраду з абкладкай курганоў насцілам з камення. Гэты абрад ахопліваў левабярэжжа Нёмана ў парэччы Росі і далей на захад, у Сувалкіі. У XII—XIV стст. адбываецца эвалюцыя гэтага абраду — нябожчыкаў пачынаюць хаваць у грунтовых магілах, таксама пакрытых каменным насцілам. Гэты больш позні абрад пашыраны значна шырэй за арэал каменных курганоў — у ваколіцах Слоніма, Навагародка, парэччы нёманскай Бярэзіны і верхняй Віліі, адкуль эпізадычна пранікае нават у вярхоўі дняпроўскай Бярэзіны[44]. Яго пашырэнне сведчыць пра даволі масавае перасяленне на землі ВКЛ яцвягаў, зыходны арэал якіх (Сувалкія) у другой палове XIII ст. быў заваяваны Тэўтонскім ордэнам, Мазовіяй і Галіцка-Валынскім княствам. Верагодна, аднак, што на Беларусі рассяляліся ўжо не столькі яцвягі, колькі іх славянізаваныя нашчадкі, якія захавалі пэўныя рысы пахавальнага звычаю продкаў.

Узаемныя міграцыі балтаў і славян мелі розныя вынікі: на тэрыторыі Беларусі літоўцы і яцвягі паступова асіміляваліся, пераходзілі на мову мясцовага насельніцтва. У той жа час ніякіх звестак пра паглынанне славянскіх мігрантаў літоўскім асяроддзем няма. Наадварот, у Віленскім краі славяне, напэўна, паволі асімілявалі мясцовых літоўцаў, у тым ліку нават тых, што былі ў канцы XIV ст. ахрышчаны ў каталіцтва. Аб гэтым ускосна сведчыць тое, што большасць насельніцтва Віленскага краю, якое ў больш познія часы захоўвала каталіцкае веравызнанне, паводле мовы лічылася ў XIX ст. беларусамі, а ў XX ст. — палякамі.

Але кантакты не былі выключна мірнымі. Пэўны час Літва знаходзілася ў данніцкай залежнасці ад Русі. У «Аповесці мінулых гадоў», створанай на пачатку XII ст., Літва прыгадваецца сярод «иных языков, иже дань дают Руси»[45]. Ян Длугаш прыводзіць паданне аб тым, што даніна літоўцаў была чыста сімвалічнай — у выглядзе дубовай кары, бо больш з іх не было чаго ўзяць[46]. Магчыма, і на самай справе яна была не вельмі цяжкай.

Кантроль над Літвой павінны былі ажыццяўляць гарады Браслаў, Ізяслаўль і Навагародак. Апошні быў заснаваны ў XI ст. — магчыма, пасля паходу Яраслава Мудрага на Літву ў 1040 ці 1044 г., які, паводле В.М. Тацішчава, і прывёў да яе данніцкай залежнасці[47]. Магчыма, функцыі непасрэднага збору даніны выконвала таксама ўмацаванае славянскае паселішча ў самым сэрцы арэала ўсходнелітоўскіх курганоў — на месцы пазнейшага Крывога замка ў Вільні. Яно, паводле папярэдніх звестак аб археалагічных раскопках 1930-х гг., узнікла ў XI ст.[48] і, магчыма, было

[43] Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мн., 1989. С. 15, 73—76; Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 196 (карта 3).

[44] Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. С. 30—42; Квятковская А.В. Ятвяжские могильники Беларуси (к. IX—XVII вв.). Вильнюс, 1998.

[45] Повесть временных лет. Ч. 1: Текст и перевод. М.; Л., 1950. С. 10, 13.

[46] Длугош Я. Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962. С. 15.

[47] Татищев В.Н. История Российская. Т. 2. М.; Л., 1962. С. 78.

[48] Голубовичи Е. и В. Кривой город Вильно // Краткие сообщения Института истории материальной

такім жа прасунутым фарпостам крывічоў на землях Літвы, як Герцыке і Кукенойс у Латыголі. Не выключана, што нейкі час там княжыў хтосьці з полацкіх Усяславічаў[49]. Праўда, матэрыялы гэтых раскопак загінулі падчас Другой сусветнай вайны, а сучасныя літоўскія археолагі не пацвярджаюць факт існавання старажытнарускіх матэрыялаў на тэрыторыі Вільнюса.

Каб забяспечыць рэгулярнае паступленне даніны, рускае баярства памежных гарадоў мусіла мець даволі цесныя стасункі з літоўцамі, ведаць іх мову і звычаі. Можна меркаваць, што многія маладыя літоўскія арыстакраты пабывалі ў рускіх гарадах у якасці заложнікаў. Напэўна, былі неаднаразовыя выпадкі змешаных шлюбаў і пабрацімства. У другой палове XII ст. князі полацкай дынастыі не раз выкарыстоўвалі запрошаныя ці нанятыя літоўскія дружыны ў сваіх міжусобіцах: у 1162 г. «літву» выкарыстоўвае супраць палачан менскі князь Валадар Глебавіч, у 1180 г. — палачане супраць Друцка[50].

У канцы XII — пачатку XIII ст. літоўцы, відаць, вызваліліся ад данніцкай залежнасці. На думку Т. Баранаўскаса, гэта адбылося ў 1183 г., бо менавіта з гэтага часу распачынаюцца іх рабаўніцкія набегі на Русь, якія здзяйсняліся ўжо самастойна, без ініцыятывы полацкіх князёў[51]. Аднак самастойнасць набегаў Літвы ў канцы XII ст. небясспрэчная. Яны закраналі пераважна больш аддаленыя княствы, якія непасрэдна з Літвой не межавалі — Наўгародскае, Смаленскае, Уладзіміра-Суздальскае. Як падкрэслівае А. Краўцэвіч, у летапісах няма ніводнага паведамлення пра разбурэнне літоўцамі Полацкага, Менскага альбо Новагародскага княства[52], што можа сведчыць на карысць таго, што тамтэйшыя ўладары наўмысна прапускалі літоўцаў праз сваю тэрыторыю ці ўвогуле выкарыстоўвалі іх у сваіх мэтах.

Праўда, азначаныя княствы практычна знікаюць у гэты час са старонак летапісаў, так што адсутнасць звестак пра набегі нельга лічыць за доказ адсутнасці саміх набегаў. Да таго ж у «Слове пра паход Ігараў» ёсць і непасрэдная звестка пра сутыкненне літоўцаў з полацкімі князямі — верагодна, якраз каля 1183 г.: «… Двина болотом течет оным грозным полочаном под кликом поганых. Един же Изяслав, сын Васильков, позвони своими острыми мечи о шеломы литовския, притрепа славу деду своему Всеславу, а сам под чрелеными щиты на кроваве траве притрепан литовскими мечи»[53]. На пачатку XIII ст. Генрых Латвійскі таксама паведамляе пра спробы полацкага князя Уладзіміра і князя Кукенойса Вячкі заключыць мір з крыжакамі, каб «тым лягчэй супрацьстаяць літоўцам»[54].

Але ў цэлым спецыфічны характар стасункаў Літвы, прынамсі, з некаторымі яе бліжэйшымі суседзямі выглядае цалкам верагодна. Прыкладам можа служыць наўгародска-полацкае памежжа. У канцы XII ст. Вялікія Лукі, змешчаныя на гэтым памежжы, выконвалі ролю заставы супраць Літвы: сын наўгародскага князя Ізяслаў «бяше посаженъ на Луках княжити и бе от Литвы оплечье Новугороду». Калі ў 1198 г.

культуры. М.; Л., 1945. Вып. 11. С. 114—126.

[49] У 1540-я гг. у Маскве была створана версія паходжання літоўскай пануючай дынастыі ад Давіла і Маўколда Расціславічаў — міфічных полацкіх князёў, якія нібыта княжылі ў Вільні з 1129 г. Аб неверагоднасці гэтых генеалагічных пабудоў, як і іншых маскоўскіх інтэрпрэтацый паходжання літоўскай дынастыі, гл.: Дмитриева Р.П. Сказание о князьях Владимирских. М.; Л., 1955. С. 73—109; Бычкова М.Е. Отдельные моменты истории Литвы в интерпретации русских генеалогических источников XVI в. // Польша и Русь: Черты общности и своеобразия в историческом развитии Руси и Польши XII—XIV вв. М., 1974. С. 365—377. Разам з тым, магчымасць княжання ў фарпосце на тэрыторыі Літвы кагосьці з прадстаўнікоў полацкага княжацкага роду цалкам выключыць нельга.

[50] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 519, 620.

[51] Baranauskas T. Lietuvos valstybes ištakos. Vilnius, 2000. P. 161—171. Пра першы набег Літвы на пскоўскія землі паведамляе пад 1183 г. Наўгародскі летапіс: Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950. С. 37.

[52] Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 95.

[53] Слово о полку Игореве // Хрестоматия по древней русской литературе / Сост. Н.К. Гудзий. Изд. 8-е. М., 1973. С. 72.

[54] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. М.; Л., 1938. С. 102, 140—141.

Ізяслаў памёр, «на тую же осень приидоша полочане с Литвою на Луки и пожгоша хоромы»[55]. Т. Баранаўскас інтэрпрэтуе гэта ў тым сэнсе, што Літва выкарыстоўвала палачан. Але галоўная роля Полацка відавочна вынікае з наступнай звесткі: зімой таго ж года наўгародцы зрабілі паход у адказ, і «устретоша полочане с поклономъ на озере Касопле; и вземше мир». Ніякай згоды літоўцаў пры заключэнні гэтага міру палачанам не спатрэбілася. Такім чынам, пасля сутыкнення 1183 г. Полацк меў магчымасці карыстацца ваеннай сілай Літвы ў сваіх мэтах, а само сутыкненне не мела таго эпахальнага значэння, якое яму надае Т. Баранаўскас. Іншы прыклад — характарыстыка князя Герцыке Усевалада, дадзеная Генрыхам Латвійскім пад 1209 г.: «Кароль Усевалад быў жанаты з дачкой аднаго з найбольш магутных літоўцаў і, будучы, як зяць яго, для іх амаль сваім, звязаны з імі звыш таго і сяброўствам, часта кіраваў іх войскамі, аблягчаў ім пераправу праз Дзвіну і забяспечваў харчам, калі ішлі яны на Русь, Лівонію ці Эстонію»[56].

Да сярэдзіны XIII ст. княствы на тэрыторыі Беларусі мелі больш чым двухсотгадовы вопыт шчыльных стасункаў з Літвой, у працэсе якіх абодва бакі добра вывучылі адзін аднаго. У далейшым гэты вопыт суіснавання паслужыў падмуркам для ўтварэння двухэтнічнай дзяржавы. Аднак ён сам па сабе не мог быць дастатковай падставай для палітычнага аб'яднання беларускіх і літоўскіх княстваў пад уладай літоўскага князя. Патрэбны былі яшчэ дадатковыя ўмовы.

## Пачатак цэнтралізацыі ўлады ў Літве

Балцкія плямёны ў XI—XII стст. знаходзіліся на пераддзяржаўнай стадыі эвалюцыі, для якой характэрна спадчынная ўлада племянных князёў (у балтаў яны называліся «кунігасамі» — тэрмінам, роднасным славянскаму «князь» і германскаму «конунг»). Існавала таксама знаць, пазбаўленая неабходнасці займацца сялянскай працай (у крыжацкіх крыніцах яна вызначаецца лацінскім тэрмінам «нобілі»). Археалагічныя сведчанні наяўнасці знаці прасочваюцца ў арэале Літвы з сярэдзіны V ст.[57], а з XI—XII стст. з'яўляюцца невялікія добра ўмацаваныя паселішчы з памерамі пляцовак у 20—50 м, якія археолагі лічаць сялібамі кунігасаў. Племянныя князі, а таксама старэйшыны арыстакратычных родаў мелі ўласныя дружыны, з якімі ажыццяўлялі рабаўніцкія набегі на суседзяў. Напэўна, мелася патрыярхальнае рабаўладанне, але эканамічная эксплуатацыя свабодных абшчыннікаў з боку знаці адсутнічала. Няма верагодных звестак пра наяўнасць спецыялізаванай праслойкі рамеснікаў, якая б абслугоўвала патрэбы знаці і сялілася ў паселішчах гарадскога тыпу.

Параўнальна-гістарычныя матэрыялы сведчаць, што пераддзяржаўны сацыяльны лад быў даволі ўстойлівым і мог захоўвацца на працягу стагоддзяў. Аднак у ім ужо меліся неабходныя перадумовы для эвалюцыйнага скачка на ўзровень раннефеадальнай дзяржавы. Як правіла, такі скачок адбываўся пад моцным уздзеяннем знешніх стымулаў. У асяроддзі балцкіх плямёнаў да пачатку XIII ст. не прасочваюцца такія стымулы, якія б спрыялі іх эвалюцыі да дзяржавы. Хаця яны знаходзіліся побач з больш цывілізаванымі суседзямі (Польшчай і Руссю), кантакты з імі не прыводзілі да кардынальных унутрысістэмных зрухаў, якія знайшлі б адлюстраванне ў крыніцах. Праўда, Т. Баранаўскас мяркуе, што вызваленне Літвы ад данніцкай залежнасці каля 1183 г. азначала пачатак самастойнай дзяржаўнасці[58], але гэтая ідэя не выклікала падтрымкі нават у літоўскіх гісторыкаў. Для таго каб гаварыць аб існаванні дзяр-

[55] Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 44.

[56] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. С. 113. Строга кажучы, рускае паходжанне гэтага князя застаецца толькі гіпотэзай. Ён мог быць і ахрышчаным прадстаўніком мясцовай латгальскай знаці. Але ў любым выпадку характар яго стасункаў з Літвой можа быць паказальным для дробных перыферыйных княстваў.

[57] Лухтан А., Ушинскас В. К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 93—95.

[58] Baranauskas T. Lietuvos valstybes ištakos. P. 161—180.

жавы, патрэбны значна больш важкія аргументы, чым пачатак рабаўнічых набегаў на суседзяў. Урэшце, такія набегі ўласцівыя менавіта для пераддзяржаўнай стадыі развіцця (якую, паводле марксісцкай тэрміналогіі, называлі «ваеннай дэмакратыяй»). Іх шырока практыкавалі сумежныя з Руссю цюркскія народы (печанегі, полаўцы), а таксама венгры пасля перасялення да межаў імперыі франкаў. У апошнім выпадку стварэнне сапраўднай дзяржавы супадае па часе якраз са спыненнем набегаў на суседзяў.

Аб'ектыўна падштурхоўваў балтаў да дзяржаваўтварэння новы фактар знешняй пагрозы. Ён быў звязаны з пачаткам крыжацкай экспансіі, якую ажыццяўляў з 1202 г. у Ніжнім Падзвінні Ордэн мечаносцаў (з 1237 г. ён называўся Лівонскім, альбо Ліфляндскім, ордэнам), а з 1230 г. з нізоўяў Віслы — Тэўтонскі (Нямецкі) ордэн. Але нават у такіх умовах большасць балцкіх плямёнаў не паспелі зарганізавацца для цэнтралізаванага адпору. Да сярэдзіны 1230-х гг. землі куршаў і латыголі (латгалаў) трапілі пад уладу Ордэна мечаносцаў, а значная частка дробных княжанняў прусаў — пад уладу Тэўтонскага ордэна. У княствах роднасных прусам яцвягаў і сумежных з латыголлю земгалаў і селаў, нягледзячы на відавочную пагрозу, не назіраюцца выразныя крокі да цэнтралізацыі — у далейшым там працягваюць дзейнічаць шматлікія самастойныя князькі, землі якіх адна за адной губляюць незалежнасць гэтак жа, як раней землі прусаў.

Адзіным выключэннем была Літва. Паводле сведчанняў Генрыха Латвійскага, там ужо каля 1209 г. на фоне іншых правадыроў вызначаецца постаць князя Даўгерутэ (відавочна — германізаваная форма літоўскага імя «Даўгерд»), названага «адным з найбольш магутных літоўцаў». Менавіта ён быў цесцем і саюзнікам Усевалада з Герцыке. У 1213 г. Даўгерд ездзіў у Вялікі Ноўгарад — верагодна, з мэтай стварыць моцную кааліцыю супраць крыжакоў, — але быў схоплены імі на адваротным шляху і загінуў у зняволенні[59]. У тым жа годзе ў набегу на Лівонію загінуў неназваны па імені «князь і старэйшына літоўцаў», а хутка затым — яго пераемнік, «правадыр і князь» Стэксе[60].

Палітычнае дамінаванне ў Літве, верагодна, перайшло ў спадчыну да бліжэйшых родзічаў аднаго з гэтых князёў. У 1219 г. шматлікая кааліцыя літоўскіх князёў заключыла пагадненне з Уладзіміра-Валынскім княствам, прычым у складзе гэтай кааліцыі прыгадваецца група «старэйшых» князёў у складзе Жывінбуда і яго верагодных родзічаў: Даўспрунка з братам Міндоўгам і Даўята з братам Вілікайлам[61]. Такім чынам, кааліцыя не была саюзам роўных — адна княжацкая дынастыя дамінавала над астатнімі, прычым гэтае дамінаванне захоўвалася на працягу не менш чым двух пакаленняў. Праз некалькі дзесяцігоддзяў аўтар «Ліфляндскай рыфмаванай хронікі» (даведзенай да 1296 г.) памятаў, што бацькам Міндоўга быў нейкі «вялікі князь» («könig gros»), які «не меў сабе роўных у Літве» прыкладна ў тыя гады, пра якія пісаў Генрых Латвійскі[62]. Магчымым кандыдатам на гэтую ролю выглядае альбо Даўгерд, альбо невядомы «князь і старэйшына літоўцаў», якія абодва загінулі за 6 гадоў да першага ўпамінання Міндоўга. Пасля іх першынство, відавочна, належала Жывінбуду, названаму першым у спісе князёў 1219 г. (магчыма, ён быў дзядзькам Міндоўга), а маладыя Даўспрунк і Міндоўг (апошняму было на той момант каля 20 гадоў) унаследавалі дасягнуты іх бацькам статус «старэйшых князёў», уладзе якіх у той ці іншай ступені падпарадкоўваліся прадстаўнікі іншых княжацкіх дынастый. Праз некалькі дзесяцігоддзяў Міндоўг дасягнуў аднаасобнай улады («самодержечь бысть во всеи земли Литовскои»)[63]. Верагодна, тут дзейнічаў суб'ектыўны фактар, якога не хапала іншым балцкім плямёнам — асабістыя здольнасці спярша Міндоўгавага бацькі, а потым яго самога. Наяўнасць таленавітых правадыроў дазволіла ва ўмовах знешняй небяспекі ператварыць гістарычную магчымасць у рэчаіснасць.

[59] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. С. 113, 149.

[60] Там жа. С. 150.

[61] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 735—736.

[62] Livländische Reimchronik. P. 146 (вершы 6383—6385).

[63] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 858.

На карысць таго, што палітычнае аб'яднанне літоўскіх зямель у 1210-я гг. не было эпізадычным і захоўвалася пазней, сведчыць рэзкае ўзмацненне з пачатку XIII ст. ваеннай актыўнасці Літвы. Яе набегі пачынаюць дасягаць аддаленых на сотні кіламетраў мясцін, дзе раней пра іх не было чуваць. Каля 1210 г. яны ўпершыню дасягаюць Польшчы[64], у 1220 г. — Чарнігаўшчыны[65], у 1225 г. — шырокіх абшараў Наўгародскага і Смаленскага княстваў, прычым «бе бо рать велика, ака же не было от начала миру»[66]. Адначасова ў 1220—1240-я гг. Літва ператвараецца ў рэальны суб'ект міждзяржаўных стасункаў у маштабах Усходняй Еўропы. У 1221 г. яе войска, ажыццяўляючы колішні намер Даўгерда, удзельнічае ў сумесным з Вялікім Ноўгарадам паходзе на эстонскія ўладанні крыжакоў[67], у 1229 г. і затым неаднаразова на працягу 1241—1246 гг. прымае ўдзел у міжусобнай барацьбе мазавецкага князя Конрада з іншымі польскімі князямі[68], у 1238 г. выкарыстоўваецца Данілам Галіцкім супраць той жа Мазовіі, а ў 1246 г. аказвае яму дапамогу супраць венграў. У двух апошніх выпадках кіруе Літвой Міндоўг[69], які, напэўна, да гэтага часу дасягнуў палітычнага дамінавання над іншымі князямі і дынастыямі. Якраз у гэты час ён упершыню характарызуецца «Ліфляндскай рыфмаванай хронікай» як «найвышэйшы кароль» і «ўладар Літоўскай зямлі»[70]. Падзеі, з якімі звязаны гэтыя характарыстыкі, Э. Гудавічус даволі абгрунтавана адносіць да перыяду паміж восенню 1245 і восенню 1246 г.[71].

Палітычная цэнтралізацыя ў Літве стварала адзін з галоўных атрыбутаў дзяржаўнасці, але сам па сабе гэты працэс мог прывесці толькі да ўтварэння монаэтнічнай літоўскай дзяржавы. Пэўны час ён несумненна ішоў у гэтым накірунку. На думку некаторых даследчыкаў, такая дзяржава ўжо стала здзейсненым фактам. У свой час Г. Пашкевіч звярнуў увагу на тое, што колькасць ваенных акцый Літвы пры Міндоўгу практычна не змянілася ў параўнанні з папярэднімі дзесяцігоддзямі[72]. Ён палічыў гэта сведчаннем таго, што прыход Міндоўга да аднаасобнай улады не змяніў якасна палітычнае становішча, якое існавала раней. Т. Баранаўскас робіць з гэтага выснову, што дзяржава існавала ўжо да Міндоўга, але, улічваючы ўласцівасць рабаўнічых набегаў для пераддзяржаўнай стадыі развіцця, гэта магло б сведчыць хутчэй пра тое, што дзяржавы не было яшчэ і пры Міндоўгу.

Але чыста арыфметычныя падлікі могуць прывесці да падманных высноў. Трэба ўлічваць не толькі колькасць ваенных акцый, але і іх змест. Акцыі Міндоўга, у адрозненне ад яго папярэднікаў, мелі на мэце не толькі (а часам і не столькі) ваенную здабычу, колькі замацаванне кантролю над пэўнымі тэрыторыямі. Паміж ім і іншымі ўладарамі складвалася нешта накшталт васальнай залежнасці. У больш познім (1413 г.) дакуменце адзначана, што Жамойць з'яўляецца «вотчынай» (patrimonium) уладароў Літвы 168 гадоў — гэта значыць, з 1245 г.[73]. Магчыма, тады адбылося істотнае змяненне статусу жамойцкіх князёў у адносінах да Міндоўга. Абапіраючыся на Жамойць, ён распачаў барацьбу з Лівонскім ордэнам за кантроль над суседнімі куршамі, што праявілася ў яго няўдалым нападзе на замак Эмбоцен у канцы 1244 ці на пачатку 1245 г.[74]. Апісанне межаў каталіцкіх біскупстваў у Прусіі, складзенае

[64] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawnejszych do współczesności. Poznań, 1998. S. 34—37.

[65] ПСРЛ. Т. 25. Московский летописный свод. М.; Л., 1949. С. 117—118; ПСРЛ. Т. 7. Летопись по Воскресенскому списку. М., 1856. С. 128.

[66] ПСРЛ. Т. 1. Лаврентьевская и Суздальская летописи. М., 1962. С. 447—448.

[67] Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. С. 206—207.

[68] Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich. S. 34—37.

[69] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 776, 801. У летапісе недакладныя даты (адпаведна 1236 і 1248 гг.).

[70] Livländische Reimchronik. P. 63—64.

[71] Gudavičius E. Mindaugas. Vilnius, 1998. P. 207—208.

[72] Paszkiewicz H. Jagiellonowie a Moskwa. T. 1. Warszawa, 1933. S. 95.

[73] Codex epistolariae saeculi decimi quinti. Vol. 1. Cracoviae, 1876. № 46. Гл. таксама: Halecki O. Litwa, Rus i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kraków, 1916. S. 26.

[74] Livländische Reimchronik. P. 58—60. Датаванне гэтых падзей гл.: Gudavičius E. Mindaugas. P. 206.

ў 1243 г., сведчыць, што палітычная ўлада Літвы распаўсюджвалася ўжо і на землі яцвягаў, непасрэдна сумежныя з Тэўтонскім ордэнам па рэках Пасленцы і Прэгалі[75].

Урэшце рэшт пытанне аб тым, як блізка падышла Літва да дзяржаўнасці, мае тэрміналагічны характар — адказ залежыць ад таго, які сэнс укладваць у паняцце «дзяржаўнасць». Пры любым варыянце адказу ён не мае прынцыповага значэння. Нават калі б такая дзяржава паспела ўзнікнуць, у тагачасных умовах яна наўрад ці мела гістарычныя перспектывы. Хутчэй за ўсё, яна была б заваявана моцнымі суседзямі. Сэнс жа існавання ВКЛ і тая роля, якую яно адыграла ў гісторыі, у значнай ступені тлумачацца тым, што яно з самага пачатку ахапіла істотную частку старажытнарускай тэрыторыі і стала гістарычным пераемнікам Русі. Традыцыйна ігнаруючы гэты аспект, літоўскія даследчыкі пастаянна сутыкаюцца з цяжкасцямі ў асэнсаванні і тлумачэнні далейшых падзей. Існавала балцкая дзяржава ці не — у любым выпадку без удзелу рускага кампанента яна не была і не магла стаць Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім.

Для таго каб дзяржаваўтварэнне пераадолела этнічную мяжу і ахапіла тэрыторыі суседніх княстваў Русі, патрэбны быў дадатковы штуршок. Яго ролю выканала рэзкае змяненне ваенна-палітычнай сітуацыі ва Усходняй Еўропе ў сувязі з татарскім нашэсцем на Русь.

## Вынікі і наступствы татарскага нашэсця

На працягу 1237—1240 гг. войскі мангольскага хана Бату, унука Чынгісхана, паслядоўна заваявалі і спустошылі Разанскую, Уладзіміра-Суздальскую, Пераяслаўскую, Чарнігава-Северскую, Кіеўскую і Галіцка-Валынскую землі Русі[76]. Заваяванне насіла выключна жорсткі характар — гарады, якія аказвалі супраціўленне, цалкам вынішчаліся. Лесастэпавыя прасторы паўднёвай Русі абязлюдзелі на два з паловай стагоддзя, на астатняй тэрыторыі настаў глыбокі заняпад.

Княствы на тэрыторыі сучаснай Беларусі былі закрануты гэтым нашэсцем у значна меншай ступені. Наяўныя факты дазваляюць сцвярджаць пра разбурэнне хіба што толькі ўскрайкаў беларускай тэрыторыі — гарадоў Гомеля, Магілёва, магчыма — Берасця, Пінска і некаторых іншых. Пра разбурэнне Гомеля татарамі сведчаць матэрыялы археалагічных раскопак. А. Макушнікаў схільны датаваць гэтую падзею 1239 г. — часам паходу Бату-хана на Чарнігаўскую і Пераяслаўскую землі[77]. Аналагічныя матэрыялы знойдзены і пры раскопках Магілёва, прычым характар знаходак дазваляе даволі дакладна датаваць яго разбурэнне 1230-мі гг.[78]. Звесткі ж пра тое, што паход Бату-хана на мяжы 1240 і 1241 гг. закрануў Піншчыну і Берасцейшчыну, змяшчае Валынскі летапіс. Каля Берасця пасля праходу татар немагчыма было «ити в поле смрада ради и множьства избиеных»[79]. Тады ж і пінскія князі вымушаны былі хавацца за мяжой, што сведчыць калі не пра разбурэнне іх вотчын, то, прынамсі, пра рэальную небяспеку.

У 1243 г., вярнуўшыся з паходу на Балканы, Бату-хан прыступіў да сістэматычнага ўсталявання акупацыйнага рэжыму на ўсёй Русі. Мясцовыя князі былі пазбаўлены спадчыннага права на ўладанні і вымушаны былі атрымліваць іх нанова ў якасці пажалаванняў з рук хана. Неўзабаве па Русі былі разасланы татарскія перапісчыкі, якія размяркоўвалі па гарадах і валасцях даніну — ясак[80]. У гэтай сітуацыі выключна важнай акалічнасцю стаў характар дзяржаўна-палітычнай структуры, якая падвергласа заваяванню.

---

[75] Prußisches Urkundenbuch. Plitische Abtheilung. Königsberg, 1882. Bd. 1. Hälfte 1. B. 108—109.

[76] Аналіз звестак пра татарскае нашэсце гл.: Пашуто В.Т. Героическая борьба русского народа за независимость (XIII век). М., 1956. С. 151—160.

[77] Макушников О.А. Стратиграфия раскопа 1988 г. на Гомельском детинце и некоторые вопросы истории летописного Гомия // Гістарычна-археалагічны зборнік. № 3. Мн., 1994. С. 187.

[78] Марзалюк І. Магілёў у XII—XVIII стагоддзях. Мн., 1998. С. 18, 70.

[79] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 788.

[80] Пашуто В.Т. Героическая борьба русского народа за независимость (XIII век). С. 204—224.

Русь уяўляла сабой рыхлае, але тым не менш агульнае палітычнае ўтварэнне, што добра ўсведамлялася сучаснікамі. Пры адсутнасці палітычнай цэнтралізацыі землі-княствы (у тым ліку і тыя, што знаходзіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі — Полацкая, Турава-Пінская, Навагародская) мелі трывалыя гандлёва-эканамічныя і культурныя сувязі, адзіную царкоўную арганізацыю (праваслаўную метраполію з цэнтрам у Кіеве), агульную прававую традыцыю (замацаваную ў «Рускай праўдзе»), агульную літаратурную мову і практыку летапісання. Сведчаннем еднасці была агульная самасвядомасць: і ў замежных, і ў мясцовых крыніцах палітычна незалежныя адзін ад аднаго ўладары трывала называюцца «рускімі князямі», іх уладанні захоўваюць агульную назву «Русь», праваслаўная вера вызначаецца як «руская вера», а літаратурная мова — як «руський язык». У крыніцах няма доказаў таго, што мясцовая самасвядомасць і патрыятызм зямель-княстваў пераважвалі гэтую агульную самасвядомасць, хаця лакальныя адрозненні і асаблівасці, безумоўна, мелі месца.

Асноўным сістэмаўтваральным фактарам быў калектыўны сюзерэнітэт княжацкай дынастыі Рурыкавічаў, іх неаспрэчнае права на ўладу ва ўсіх без выключэння княствах[81]. У масавай свядомасці трывала замацавалася ўяўленне аб тым, што кожны прадстаўнік гэтага роду мае спадчыннае права на частку («удзел») тэрыторыі, якой валодаў яго бацька (адсюль і тэрмін «вотчына» — бацькоўская спадчына). Як трапна адзначыў адзін з унукаў кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха, Ізяслаў Мсціславіч, «мне отчины в Угрех нетуть, ни в Ляхох, токмо в Рускои земли»[82]. Рысы ўдзельна-вотчыннай сістэмы прасочваюцца ўжо са смерці Уладзіміра Святаславіча ў 1015 г. і былі афіцыйна замацаваны на Любецкім сойме князёў у 1097 г. Да сярэдзіны XIII ст. не было ніводнага выпадку парушэння манаполіі нашчадкаў Уладзіміра на ўладу, калі не лічыць часовы (на некалькі месяцаў) захоп улады ў Галічы мясцовым баярынам Уладзіславам падчас княжацкай усобіцы ў 1209 г.

Таму падзел дзяржавы на паўсамастойныя вотчыны і ўдзелы ішоў амаль дакладна ў адпаведнасці з працэсам дэмаграфічнага разрастання і драблення княжацкай дынастыі: кожная буйная вотчына (зямля) належала адной з галін Рурыкавічаў і ў сваю чаргу падзялялася на ўдзелы прадстаўнікоў гэтай галіны. У выпадку, калі адна з галін згасала альбо губляла ўладу, на яе месца прыходзіў прадстаўнік іншай, але абавязкова — прамы нашчадак уладара ўсёй Русі Уладзіміра Святаславіча. У такіх выпадках новы князь альбо прызначаўся вярхоўным суверэнам, якім працягваў лічыцца кіеўскі князь, альбо запрашаўся мясцовым насельніцтвам, але і ў гэтым выпадку вельмі пажаданай была хаця б фармальная згода з Кіева. Фактычна яго верхавенства і зводзілася толькі да гэтага права распараджацца вымарачнымі вотчынамі. У астатнім землі-княствы не адчувалі патрэбы ў агульным палітычным цэнтры. Часам і сам кіеўскі князь ператвараўся ў падстаўную асобу, якой маніпуляваў уладар адной з моцных зямель-княстваў.

Такія ўмовы ў прынцыпе рабілі немагчымым вакняжанне іншаземца — да той пары, пакуль традыцыйная палітычная сістэма захоўвала раўнавагу. Разам з тым патэнцыйна слабым месцам быў яе цэнтр — асоба кіеўскага князя, якая ўвасабляла ў сабе калектыўны суверэнітэт роду. Калі Кіеў разам з уплывовымі галінамі Рурыкавічаў, якія кантралявалі яго, трапіў у залежнасць ад варожай дзяржавы (а менавіта так і адбылося ў выніку татарскага нашэсця), гэтая залежнасць аўтаматычна распаўсюдзілася на ўсе княствы — нават на тыя, што дагэтуль адчувалі сябе самастойнымі і не паспыталі непасрэднага заваявання. Характэрна, што татарскія перапісчыкі накіроўваліся нават у тыя княствы, да якіх не дайшло татарскае войска — напрыклад, у 1257 г. яны прыбылі ў Вялікі Ноўгарад[83]. Гэта доказвае, што Бату добра ўяўляў палітычную сістэму Русі і лічыў сябе яе пераемнікам.

У такім выпадку захоўванне лаяльнасці да старой дынастыі губляла сэнс для мясцовага насельніцтва. Наадварот, прыход іншай дынастыі даваў шанц вылучыцца

[81] Назаренко А.В. Родовой сюзеренитет Рюриковичей над Русью (X—XI вв.) // Древнейшие государства на территории СССР: Материалы и исследования, 1985 год. М., 1986. С. 149—157.
[82] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 405.
[83] Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 82—83.

з палітычнай сістэмы Русі і такім чынам пазбегнуць прыгнёту з боку пераможцы і пераемніка гэтай сістэмы — Залатой Арды.

Такім чынам, у княстваў на тэрыторыі беларускага Панямоння і Падзвіня быў выбар: альбо чакаць непазбежнага з'яўлення татарскіх перапісчыкаў, як зрабілі ў Вялікім Ноўгарадзе і, верагодна, Смаленску, альбо рашуча парваць са старой сістэмай наследавання ўлады, якая ў новых умовах азначала маўклівае прызнанне суверэнітэту ардынскага хана. Паколькі сіл для самастойнага адпору не было, заставалася шукаць сабе новага сюзерэна, які б не пагражаў такім жорсткім прыгнётам, як татары, і адначасова меў магчымасці для арганізацыі супраціўлення апошнім. Такім сюзерэнам мог стаць у тагачасных умовах альбо далёкі каталіцкі Захад, альбо блізкі і добра знаёмы ўладар суседняй Літвы.

На поўдні князь Даніла Галіцкі, апрача ўласных сіл, спрабаваў абаперціся на Захад, нават каранаваўся дасланай з Рыма каралеўскай каронай[84]. Аднак усё гэта аказалася малаэфектыўным — пазбегнуць залежнасці ад татар і яе разбуральных наступстваў Галіцка-Валынская зямля не здолела[85].

Жыхары Пскоўскай і Полацкай зямель спрабавалі выкарыстаць змену дынастыі, не парываючы радыкальна з агульнарускай палітычнай сістэмай. У верасні 1248 г. була рымскага папы Інакенція IV была адрасавана «новаахрышчанаму князю» (яўна літоўскага паходжання) Полацка ці, магчыма, Пскова (назвы абодвух у заходнееўрапейскіх крыніцах часам блізкія па напісанні)[86]. Пскавічы каля 1265 г. прынялі сваім князем уцекача з Літвы Даўмонта[87]. У Полацку ў 1250—1260-я гг. чаргаваліся літоўскія (Таўцівіл, Гердзень) і рускія князі (Канстанцін, Ізяслаў)[88]. Абедзвюм землям пэўны час удавалася захоўваць самастойнасць. Але Пскоўшчына засталася дробным перыферыйным княствам, так і не стаўшы ядром новага дзяржаваўтваральнага працэсу, а Полаччына была ўрэшце рэшт паглынута маладым Вялікім Княствам Літоўскім.

Найбольш перспектыўным аказаўся шлях поўнай інтэграцыі з Літвой, па якім пайшлі княствы Панямоння. У выніку ўтварылася двухэтнічная дзяржава, якая не толькі адстаяла сваю незалежнасць у жорсткай барацьбе з суседзямі, але праз стагоддзе перайшла да актыўнай экспансіі, перахапіўшы з рук аслабелай Арды кантроль над паловай Русі. Яе жыццяздольнасць можа быць растлумачана тым, што князем Навагародка і суверэнам іншых панямонскіх гарадоў каля 1248 г. зрабіўся не ўцякач накшталт Даўмонта і не адзін з другарадных літоўскіх князёў накшталт полацкіх Таўцівіла і Гердзеня. Гэта быў найбольш магутны ўладар — Міндоўг, які мог абаперціся не толькі на мясцовае баярства і сваю непасрэдную вотчыну ў «Літоўскай зямлі», але і на ўвесь ваенны патэнцыял Літвы ў шырокім сэнсе. З другога боку, менавіта з дапамогай рускіх княстваў Міндоўг, а затым яго сын Войшалк канчаткова ўстанавілі ў Літве цэнтралізаваную ўладу, дзеля чаго не было неабходных стартавых пазіцый ні ў Даўмонта, ні ў Таўцівіла.

Аб тым, што тагачаснай свядомасцю пераход беларускіх княстваў пад уладу літоўскіх князёў успрымаўся менавіта з пункту гледжання «татарскай альтэрнатывы», сведчаць фальклорныя матывы аб бітвах татар з літоўскімі князямі, пісьмова зафіксаваныя ў XVI ст. У паданні, якое прыводзіць Мацей Стрыйкоўскі, татарскі

---

[84] Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950. С. 238, 251—260.

[85] Там жа. С. 282—284.

[86] Taube M. Russische und litauische Fürsten an der Düna zur Zeit Eroberung Livlands (12. und 13. Jahrhundert) // Jahrbücher für Kultur und Geschichte der Slaven. 1935. Bd. 11. Heft 3/4. S. 405—406; Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 378.

[87] Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 85.

[88] Пра Таўцівіла як полацкага князя ў 1262—1263 гг. гл.: ПСРЛ. Т. 2. Стб. 862; Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 83—84. Пра княжанне Канстанціна, Гердзеня і Ізяслава вядома з дзвюх полацкіх грамат: Русско-ливонские акты. СПб., 1868. С. 13. Гл. таксама: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959. С. 74—75; Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. М., 1977. С. 35.

ваявода Койдан (военачальнік з іменем Кодан сапраўды быў у войску Бату-хана ў 1240 г.) патрабуе ад літоўскага князя Эрдзівіла (верагодна, асоба легендарная) даніны менавіта як з уладальніка Навагародчыны і Падляшша, «як ён гэта прывык рабіць з іншымі рускімі князямі». Эрдзівіл, аднак, дае яму ўзброены адпор, выступаючы такім чынам абаронцам беларускіх зямель[89]. Гістарычны кантэкст гэтага падання добра адпавядае рэаліям часоў Міндоўга, у прыватнасці — паходу татарскага ваяводы Бурундая ў 1258 г. Рэальныя дэталі да часу фіксацыі падання забыліся, але сутнасць падзей у ім адлюстравана больш-менш дакладна.

## Пытанне пра характар падпарадкавання княстваў Русі

Характар стасункаў паміж этнасамі, што прымалі ўдзел ва ўтварэнні ВКЛ, застаецца адным з найбольш дыскусійных пытанняў. Спектр думак самы шырокі: ад тэзы пра заваёву продкамі сучасных літоўцаў беларускіх зямель, якія не адыгрывалі пры гэтым ніякай самастойнай ролі, да супрацьлеглага сцвярджэння пра заваёву выхадцамі з Беларускага Панямоння, якому ў гэтым выпадку прыпісваецца назва «Літва», такіх жа пасіўных Жамойці і Аўкштайціі. Абедзве крайнасці маюць выразны палітычны падтэкст. Першая з іх была паспяхова выкарыстана літоўскай інтэлігенцыяй і палітычнымі дзеячамі XX ст., каб стварыць ўражанне, быццам сучасная Літва з'яўляецца адзіным палітычным нашчадкам ВКЛ. Другая крайнасць была ўзята на ўзбраенне беларускай інтэлігенцыяй, каб абгрунтаваць выключнае права беларусаў на тую ж спадчыну. Асобы, якія ўпарта займаюць адну з такіх пазіцый, свядома кіруюцца не аналізам гістарычных рэалій, а кан'юнктурай сённяшняга дня, таму навуковая палеміка з імі, як правіла, бессэнсоўная.

Паміж гэтымі крайнасцямі існуе шэраг больш памяркоўных пазіцый, якія ў той ці іншай ступені прызнаюць ролю абодвух этнічных кампанентаў. Даследчыкі вызначалі характар стасункаў паміж імі як сінтэз (В. Пашута), сімбіёз (аўтар гэтых радкоў), саюз (А. Краўцэвіч). Ствараецца ўражанне, што размова ідзе аб адной рэальнасці, якую называюць рознымі тэрмінамі. Аб тэрмінах, як вядома, не спрачаюцца, а дамаўляюцца. У любым выпадку прынцыповым з'яўляецца тое, што сутнасць з'явы можна зразумець, толькі ўлічваючы абодва кампаненты. Гэта адкрывае канструктыўны шлях для вызначэння ролі кожнага з іх.

Суадносіны этнічных кампанентаў залежалі, безумоўна, ад таго, якім чынам яны ўвайшлі ў склад дзяржавы. Можна сцвярджаць упэўнена, што пануючая дынастыя мела літоўскае паходжанне. Падпарадкаванне ёй рускіх княстваў тэарэтычна магло адбывацца некалькімі шляхамі: праз гвалтоўны захоп (накшталт таго, што адбывалася пры заваяванні барбарамі Заходняй Рымскай імперыі); праз дынастычную унію (такім шляхам вырасла імперыя Габсбургаў, а Ягайла набыў польскую карону); праз абранне ўцекача і затым прылучэнне яго вотчын (вядома запрашэнне ў Пскоў Даўмонта, а вяртанне вотчыны з дапамогай рускіх дружын мела месца пры вакняжанні Войшалка пасля забойства Міндоўга).

Дакументаў, якія б непасрэдна і бясспрэчна фіксавалі абставіны падпарадкавання Літве той ці іншай тэрыторыі, захавалася вельмі няшмат. Але тое, што ёсць, ніяк не пацвярджае версію пра дынастычны шлюб альбо варыянт, падобны на вакняжанне Даўмонта ў Пскове. Праўда, у значна больш познім Густынскім летапісе (скончаны ў 1670 г.) ёсць паведамленне, нібыта ў 1246 г. Міндоўг «приять веру христианскую от Востока со многими своими бояры»[90]. М. Ермаловіч палічыў гэта доказам запрашэння Міндоўга ў Навагародак па ініцыятыве мясцовага насельніцтва[91]. Але самы факт гэтага хрышчэння вельмі сумніцельны, бо ён паходзіць з позняй крыніцы і супярэчыць

[89] Stryjkowski M. Kronick polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1. Warszawa, 1846. S. 238—239. Аналіз гэтага паведамлення з адзначэннем яго фальклорных матываў гл.: Рогов А.И. Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения: (Стрыйковский и его хроника). М., 1966. С. 133—134.
[90] ПСРЛ. Т. 2. 1-е выд. СПб., 1843. С. 341.
[91] Ермаловіч М. Па слядах аднаго міфа. Мн., 1989. С. 60.

сцвярджэнню амаль сучаснага падзеям Валынскага летапісу, што Міндоўг хрысціўся толькі ў каталіцтва, прычым употай працягваў спраўляць язычніцкія абрады. Пры такой добрай дасведчанасці летапісец яўна не ведаў пра праваслаўнае хрышчэнне Міндоўга, якога, хутчэй за ўсё, увогуле не было.

Вакняжанне Міндоўга ў Новагародку адбылося пасля 1238 г. (гэтым часам датуецца сумесны паход «Литвы Мендога» і Ізяслава Новагародскага на Мазовію, памылкова пазначаны ў Іпацьеўскім летапісе пад 1235 г.), больш дакладна — не раней зімы 1240/41 г. (час спусташэння татарамі Кіева і Галіцка-Валынскага княства) і не пазней зімы 1248/49 г. (калі Новагародак упершыню прыгадваецца пад яго ўладай). Якраз гэты перыяд дзейнасці Міндоўга даволі падрабязна (хаця і без дакладнага датавання) асвятляецца «Ліфляндскай рыфмаванай хронікай»[92], і ніякай страты ім улады, падчас якой ён мог бы быць прыняты ў Новагародку, не прасочваецца.

Сам Міндоўг пасля каранацыі звярнуўся да рымскага папы з просьбай пацвердзіць яго права валодання тэрыторыямі, набытымі на Русі (відавочна, што размова ідзе пра княствы Беларускага Панямоння — Новагародак, Горадна, Слонім і Ваўкавыск). Пры гэтым Міндоўг спасылаўся не на права абрання, а на права заваявання, што відавочна з тэксту папскай булы ў адказ, датаванай сакавіком 1255: «з твайго боку было прадстаўлена нам, што ты, з нястомнаю энергіяй змагаючыся супроць каралеўства Русі ды яго насельнікаў, падпарадкаваў сваёй уладзе некаторыя землі гэтага каралеўства»[93]. Пад «каралеўствам Русі» (regnum Russiae) тут, напэўна, маецца на ўвазе Галіцка-Валынскае княства, уладар якога Даніла Раманавіч быў каранаваны незадоўга да таго. Паміж ім і Міндоўгам сапраўды адбывалася даволі жорсткая барацьба за кантроль над Панямоннем, апісаная ў Валынскім летапісе. Той факт, што спрэчная тэрыторыя ўрэшце засталася за Міндоўгам, ён слушна мог трактаваць як сваю перамогу. Але справа ў тым, што гэтая барацьба распачалася ў момант, калі Міндоўг ужо кантраляваў Новагародчыну. Акалічнасці яго з'яўлення там летапіс не высвятляе. Таму пытанне аб тым, наколькі гвалтоўным быў першапачатковы захоп, застаецца адкрытым.

У апошні час літоўскія даследчыкі звяртаюць увагу на паведамленне Валынскага летапісу пра першыя гады княжання ў Новагародку Міндоўгавага сына Войшалка: «Воишелк же нача княжити в Новегородече, в поганстве буда, и нача проливати крови много, убиваеть бо на всяк день по три, по четыри. Которого же дни не убьяшеть кого, печаловашеть тогда, коли же убьяшеть кого, тогда весел бяшеть»[94]. Гэтая жорсткасць, на іх думку, даказвае гвалтоўнасць далучэння[95]. Але сэнс летапіснага паведамлення (дарэчы, рэтраспектыўнага, запісанага праз пэўны час пасля падзей) зводзіцца да цудоўнага пераўтварэння, якое адбылося з былым паганцам пасля далучэння да Хрыста: «посем же вниде страх Божии во сердце его, помысли в собе, хотя прияти святое крещение. И крестися ту, в Новегородце, и нача быти во крестьянстве». Пры гэтым зусім не гістарычная дакладнасць была мэтай аўтара, наадварот — логіка жанру патрабавала паказаць паганскі перыяд перабольшана змрочным, а хрысціянскі — як мага лагодным. Пры тых тэмпах чалавекагубства, якія летапіс прыпісвае Войшалку, за год можна было вынішчыць больш за тысячу чалавек, між тым як усё тагачаснае насельніцтва Новагародка, паводле археалагічных даных, складала не больш чым некалькі тысяч. Але нават калі летапісец не вельмі перабольшвае, паводзіны Войшалка сведчаць толькі пра яго асабістыя якасці, але не пра агульны характар суадносін літоўцаў з мясцовым насельніцтвам. Дарэчы, ці мала было тыранаў, ад Калігулы да Сталіна, якія шчодра лілі кроў уласных падданых, а тыя плацілі ім за гэта безаглядной любоўю?

---

[92] Livländische Reimchronik / Ed. L. Meyer. Padeborn, 1876.

[93] Жлутка А. Кароль Міндоўг і яго дзяржава ў дакументах папскай курыі XIII ст. // Беларускі археаграфічны штогоднік. Вып. 4. Мн., 2003.

[94] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 859.

[95] Баранаускас Т. Новогрудок в XIII в.: история и миф // Castrum, urbis et bellum. Зб. навуковых прац. Баранавічы, 2002. С. 31.

Самі літоўскія ўладары заўжды трактавалі набыццё Панямоння, а затым і іншых тэрыторый Русі, як вынік сваіх чыста ваенных акцый, пры якіх пазіцыя мясцовага насельніцтва ўвогуле не прымалася ў разлік. Гэтае ўспрыяцце захоўвалася імі ў якасці вуснай фальклорнай традыцыі, якая была значна пазней, у першай палове XVI ст., зафіксавана ў беларуска-літоўскіх летапісах, а адтуль перайшла ў гістарыяграфію[96]. Да часу пісьмовай фіксацыі рэальныя падрабязнасці падзей забыліся. Як і ў паведамленнях пра бітвы з татарамі, застаўся толькі эмацыянальны фон, на якім фантазія малявала новыя сюжэты. Гэта тычыцца ўсіх паведамленняў пра захоп літоўскімі князямі з родаў Палямона і Кітаўруса рускіх гарадоў, папярэдне спустошаных татарамі, і іх адбудову. Імёны князёў у іх яўна міфічныя, а падрабязнасці ніяк не суадносяцца з тым, што вядома з сучасных падзеям крыніц. Часам міфічныя дзеянні прыпісваюцца і гістарычным асобам (напрыклад, Гедыміну — заваяванне Кіеўскай зямлі). Гэта кідае цень падазрэння і на тыя згадкі, якія выглядаюць адносна праўдападобнымі. Але сярод іх ёсць і сведчанні іншага, мірнага варыянта экспансіі. У прыватнасці, гэта тычыцца далучэння Віцебскай і Валынскай зямель праз дынастычныя шлюбы сыноў Гедыміна (адпаведна Альгерда і Любарта). Такім чынам, тактыка літоўскіх князёў магла быць пры неабходнасці вельмі гнуткай, і разглядаць увесь працэс як суцэльную заваёву было б паспешліва.

Несумненна, што Міндоўг не здолеў бы пашырыць межы сваіх уладанняў, калі б не абапіраўся на ваенную сілу. Гаварыць пра сапраўднае запрашэнне няма падстаў. Але з тым, што пазіцыя мясцовага насельніцтва зусім не прымалася ў разлік, наўрад ці можна пагадзіцца. Гэтая пазіцыя калі і не ініцыіравала вакняжанне іншаземца, то, прынамсі, значна палегчыла яго, паралізуючы магчымае супраціўленне: справа ішла не пра выбар паміж незалежнасцю і падпарадкаваннем, а пра выбар аднаго з двух варыянтаў падпарадкавання (літоўцам альбо татарам). Пры такім раскладзе ў кожнага з варыянтаў непазбежна маглі з'явіцца свае прыхільнікі. Выдатны палітык, якім праявіў сябе Міндоўг, не мог праігнараваць такі дадатковы рэсурс, як несупадзенне інтарэсаў галіцка-валынскіх князёў і насельніцтва беларускіх зямель. Апошняе было зацікаўлена ў аднаўленні не проста моцнай, але пры тым самастойнай ад татар (адпаведна, і ад Рурыкавічаў) дзяржавы.

Аб пазіцыі рускага насельніцтва сведчаць ускосныя, але вельмі красамоўныя факты. Пры паходзе Данілы Галіцкага на Міндоўга ў 1251 г. пінскія князі далучыліся вельмі неахвотна («князи же Пинсцеи имеяху лесть, и поя е со собою неволею на войну»), што сведчыць пра іх сімпатыі да Літвы. Увогуле галіцка-валынскія войскі ў 1250-я гг. тройчы захоплівалі Панямонне, але кожны раз пасля ваенных поспехаў «возвратишася в домъ свои», пакідаючы мясцовае насельніцтва пад уладай Міндоўга. Ці не адбывалася так таму, што само гэтае насельніцтва не хацела змены ўлады, і галічане адчувалі, што ўтрымаць гэтыя землі яны не ў стане?

Пры новай уладзе мясцовая знаць не была цалкам адсунута ад прыняцця рашэнняў. Праўда, у аўтэнтычных і падробленых граматах Міндоўга, выдадзеных ім Тэўтонскаму ордэну з 1253 па 1260 г., у якасці сведак выступаюць яго родзічы і «бароны» з выключна літоўскімі імёнамі: Лінгвень, Гердзень Нальшчанскі, Парбусе (верагодна, з Дзевалтвы) і інш.[97]. Але з Валынскага летапісу вядома, што яго ваяводам быў нейкі Хвал (імя яўна рускага паходжання), які «велико убиство творяше земле Черниговскои». Іншым Міндоўгавым ваяводам і, напэўна, бліжэйшым дарадцам быў рускі (хаця і не мясцовы, «бе бо збегл из Рязаня») князь альбо баярын Астафій Канстанцінавіч[98]. Несумненна наяўнасць, прынамсі, аднаго мясцовага дарадцы і ў радзе Таўцівіла ў бытнасць апошняга полацкім князем. Тамашні баярын выдаў яго

[96] ПСРЛ. Т. 32. Хроники: Литовская и Жомойтская, Быховца. М., 1975; Т. 35. Белорусско-литовские летописи. М., 1980. Гл. таксама: Беларускія летапісы // Старажытная беларуская літаратура: Зборнік. Мн., 1990.
[97] Preussisches Urkundenbuch. B. 1. Hälfte 2 / Ed. A. Seraphim. Königsberg, 1909. № 39, 40, 79, 105; Liv-, Est- und Curlandisches Urkundenbuch. № 286, 287, 363.
[98] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 840, 855.

намеры («пронесе думу») саперніку — князю Траняце, што і стала прычынай гібелі Таўцівіла[99]. Каб зрабіць такую здраду, трэба быць дапушчаным да гэтай «думы».

Несумненна рашаючая роля, якую адыграла рускае баярства ў прыходзе да ўлады сына Міндоўга — Войшалка. Пасля забойства бацькі ён знайшоў прытулак і дапамогу ў Пінску. Тамашні князь даў яму войска, з якім Войшалк заняў Навагародак і сабраў там бацькавых прыхільнікаў, каб з імі падпарадкаваць «Літоўскую зямлю». У далейшым, пры прывядзенні да паслухмянства Нальшчанскай і Дзевалтоўскай зямель, істотную ролю адыграла дапамога з боку галіцкага князя Шварна Данілавіча (якому Войшалк пазней і перадаў уладу), але без дружын панямонскіх гарадоў справа, напэўна, таксама не абышлася. У «Ліфляндскай рыфмаванай хроніцы» прыгадваецца ўдзел рускіх і ў дзеяннях Войшалка супраць Тэўтонскага ордэна, якія дазволілі яму захаваць кантроль над спрэчнымі жамойцкімі тэрыторыямі. Там жа адзначаецца, што пасля перамогі Войшалк «даў волю хрысціянам у Літве»[100].

Ёсць падставы меркаваць, што канчатковае далучэнне да ВКЛ Полацка на пачатку XIV ст. таксама адбылося не насуперак жаданням мясцовага насельніцтва. У папярэдні час Полацк у спробах захаваць самастойнасць актывізаваў стасункі з Лівоніяй, але гэта прывяло яго да тэрытарыяльных страт. У буле папы Урбана IV[101] і грамаце Гердзеня ў 1264 г. упамінаюцца полацкія воласці, незадоўга да таго падараваныя князем Канстанцінам лівонцам, а з больш позніх згадак (1366 г.) вынікае, што на гэтых землях паўстаў замак Розітэн (на старабеларускай мове — Рэжыца, сучасны горад Рэзекне на ўсходзе Латвіі)[102]. На мяжы XIII і XIV стст. нейкі полацкі князь (магчыма, той жа Канстанцін) перад сваёй смерцю ўвогуле перадаў Полацк пад пратэктарат Рыжскага архібіскупства. Аб гэтым прыгадваецца ў рашэнні камісіі, прызначанай папам Клементам V у 1309 г. для разгляду канфліктаў паміж архібіскупствам і Тэўтонскім ордэнам[103]. Пра наступны пераход яго да літоўскага князя-паганца (Віценя) вядома з перапіскі архібіскупа Фрыдрыха з папскай курыяй у 1305—1306 гг., а таксама з булы папы Клемента V у 1310 г., у якой гаворыцца пра захоп паганцамі валасцей і замкаў, падараваных Лівоніі папярэднім полацкім князем[104]. Але ў мясцовай праваслаўнай царквы стаўленне да новай улады было зусім іншым: полацкі епіскап Якаў каля 1309 г. выступаў у перамовах з Рыгай згодна «с сыном моим с Витенем»[105]. Цяжка ўявіць сабе акалічнасці гвалтоўнага захопу, пры якіх пераможца, захоўваючы паганства, становіцца тым не менш «сынам» праваслаўнага іерарха. Разам з тым адсутнасць хрышчэння Віценя пры вакняжанні ў Полацку сведчыць пра тое, што і полацкі бок не мог дыктаваць свае ўмовы. Гэта яўна быў пэўны кампраміс, сустрэчны рух абодвух бакоў.

Важным, хаця і таксама ўскосным сведчаннем можа служыць сістэма падаткаабкладання. У выпадку заваявання на падняволенае насельніцтва накладаюцца дадатковыя павіннасці, якія абазначаюцца альбо новымі тэрмінамі, альбо словамі на мове пераможцы (узгадаем татарскую ардыншчыну ці ясак, таксама зборцу падаткаў — баскака). У ВКЛ асноўныя падаткі, якія спаганяліся на карысць дзяржавы, неаднаразова прыгадваюцца ў даравальных граматах канца XIV — XV ст., калі пры падараванні маёнткаў у прыватную ці царкоўную ўласнасць яны пераадрасоўваліся на новых гаспадароў. Асабліва шмат такіх грамат захавалася ў архіве Віленскага біскупства[106]. З іх вынікае, што амаль паўсюдна дамінавала мядовая даніна, прычым і адзінкі аб-

---

[99] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 862.

[100] Livländische Reimchronik. P. 164—165.

[101] Liv-, Est- und Curlandisches Urkundenbuch. Bd. 1. № 380.

[102] Там жа. Bd. 2. № 1036; Bd. 6. Riga, 1871. № 2884. Гл. аб гэтым: Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 385.

[103] Daniłowicz I. Skarbiec diplomatów..., posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów. T. 1. Wilno, 1860. № 270. S. 153.

[104] Liv-, Est- und Curlandisches Urkundenbuch. № 630, 638; Paszkiewicz H. Regesta źródłowe do dziejów Litwy... № 790, 813.

[105] Русско-ливонские акты. С. 21; Полоцкие грамоты... С. 37.

[106] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. 1. Kraków, 1948.

кладання, і адзінкі вымярэння яе абазначаюцца ці дубліруюцца славянскімі словамі нават у дакументах, складзеных на лацінскай і нямецкай мовах: «служба», «саха», «сярэбшчына», «устаў», «лукно», «палуконне», «пуд» і г.д. Іншыя павіннасці — таксама мясцовыя, некаторыя з іх зафіксаваны ўжо старажытнарускімі летапісамі, як і пасады асоб, упаўнаважаных іх размяркоўваць і збіраць («палюддзе», «падводы», «цівун», «намеснік»)[107]. Адзіным фіскальным тэрмінам, які можа мець літоўскае паходжанне, з'яўляецца «дзякла» (пэўны від збожжавага падатку, які ўпершыню прыгадваецца ў адной з грамат Гедыміна ў 1323 г.), але ён зусім не дамінуе ў той час і проста губляецца на фоне мясцовай тэрміналогіі. Гэта азначае, што, у адрозненне ад княстваў, падпарадкаваных татарам, уваходжанне ў склад ВКЛ не прыводзіла да абцяжарвання новымі павіннасцямі, і ўвогуле іх структура заставалася традыцыйнай. Магчыма, гэта і быў рашаючы фактар, які забяспечыў шырокае пашырэнне літоўскай улады.

## Паміж Захадам і Усходам

Утварэнне ВКЛ адбывалася ў рэгіёне, дзе сутыкаліся сферы ўплыву дзвюх цывілізацый сярэднявечнай Еўропы: каталіцкай (з духоўным цэнтрам у Рыме і стрыжнявой воссю, як яе вызначае А. Тойнбі, што праходзіла праз Італію і ўздоўж Рэйна)[108] і праваслаўнай. Цэнтрам апошняй быў Канстанцінопаль, а Русь напярэдадні татарскага нашэсця ўтварала паўночную перыферыю, дзе ўтварыўся своеасаблівы лакальны варыянт — старажытнаруская цывілізацыя. Літва ў папярэднія стагоддзі адчувала ўздзеянне з абодвух кірункаў, прычым у форме як ваеннага націску, так і культурнага ўплыву. Пакуль працэс дзяржаваўтварэння не перасягнуў крытычнага ўзроўню, «першабытнае» грамадства магло балансаваць паміж двума ўплывамі, не робячы канчатковага выбару. Але калі Міндоўг дасягнуў аднаасобнай улады, гэта паставіла яго і яго прыхільнікаў перад больш канкрэтным выбарам. Яны не маглі не параўноўваць сваё грамадства з суседнімі, дзе існавалі пэўныя «правілы гульні» і атрыбуты, абавязковыя для прызнання ў якасці паўнапраўных партнёраў міждзяржаўных стасункаў.

Каб быць прызнаным на Захадзе, неабходна было перш-наперш вызнаваць рымскі варыянт хрысціянства, што ўвасаблялася ў прызнанні абсалютнага духоўнага верхавенства з боку папы і цягнула за сабой стварэнне тэрытарыяльных структур каталіцкай царквы, будаўніцтва касцёлаў, увядзенне царкоўнай дзесяціны і г.д. Сапраўдным гаспадаром краіны, роўным сярод еўрапейскіх уладароў, мог лічыцца толькі той, хто прайшоў праз абрад каранацыі. Далучэнне да гэтай цывілізацыі было звязана таксама з выкарыстаннем (прынамсі, у знешніх адносінах) справаводства на лацінскай мове і нормаў рымскага права. Да XIII ст. агульнапрынятымі пачалі станавіцца таксама нормы рыцарскага этыкету, у тым ліку традыцыі геральдыкі. Праз гэты шлях прайшлі барбарскія дзяржавы Скандынавіі, венгерская манархія Арпадаў і шэраг славянскіх краін: Харватыя, Чэхія, Польшча.

Візантыйскі варыянт далучэння да цывілізацыі меў пэўныя адрозненні. Безумоўна, хрысціянскае веравызнанне паводле ўсходняга абраду было неабходнай перадумовай, але Канстанцінопаль амаль не займаўся актыўнай місіянерскай дзейнасцю. У яго культурным асяроддзі пераважала думка, што падштурхоўваць барбараў да веры ў Хрыста не варта, але трэба вітаць іх уласныя памкненні і аказваць у гэтым дапамогу. Магчыма, таму за стагоддзі суіснавання з Візантыяй у яе культурную перыферыю ўвайшлі толькі некаторыя славянскія краіны: Балгарыя, Русь, Сербія. Пры гэтым яны выпрацавалі (са згоды Канстанцінопаля) уласную мову царкоўнага служэння,

[107] Падборку славянскіх слоў у лацінскіх тэкстах XIV—XV стст. з архіва Віленскага біскупства выканаў П. Урбан. Нягледзячы на відавочную тэндэнцыйнасць яго працы ў цэлым, гэтая падборка вартая ўвагі: Урбан П. Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвіноў. Мн., 1994. С. 44—53. Гл. таксама: Урбан П. Старажытныя ліцвіны: Мова, паходжанне і этнічная прыналежнасць. 2-е выд. Мн., 2003.

[108] Тойнби А.Дж. Постижение истории. 2-е изд. М., 2002. С. 40—41.

хаця грэчаская мова таксама захоўвала сваё значэнне. Цывілізаваным манархам у гэтым варыянце можна было заставацца і не праходзячы праз каранацыю. Але пэўныя атрыбуты былі гэтак жа неабходнымі: прыналежнасць да законнай княжацкай дынастыі, пісьменнасць (хай сабе і на мясцовай мове), адмысловы этыкет і адаптацыя харчовага рацыёну, наяўнасць царкоўнай структуры і дзесяціны[109].

Для славянскага насельніцтва на тэрыторыі, ахопленай працэсам новага дзяржаваўтварэння, пытанне аб выбары не стаяла — яно трывала атаясамлівала сябе з праваслаўнай цывілізацыяй. Але для балцкай часткі, якая дагэтуль не зрабіла канчатковага выбару, былі магчымы варыянты. Якраз у гэты час праваслаўная цывілізацыя знаходзілася ў не вельмі прывабным стане: большасць княстваў Русі трапіла ў палітычную залежнасць ад Арды, а сама візантыйская мітраполія жорстка папярпела ад крыжовага паходу 1204 г. На большай частцы яе тэрыторыі ўтварылася Лацінская імперыя — фарпост каталіцтва на Усходзе. У такіх умовах далучэнне да гэтай цывілізацыі не суліла вышэйшаму слою літоўскага грамадства асаблівых пераваг, затое магло ўцягнуць яго ў бясконцае супрацьстаянне на два фронты: супраць татар і каталіцкай экспансіі.

Аднак і ўваходжанне ў арбіту заходняй цывілізацыі ў тагачаснай палітычнай сітуацыі было вельмі няпростай справай. Якраз у папярэднія некалькі дзесяцігоддзяў на ўзбярэжжы Балтыкі быў выпрацаваны вельмі спецыфічны варыянт місіянерства — праз узброеную экспансію, галоўным рухавіком якой было дробнае нямецкае рыцарства. Аптымальным зыходам такой хрысціянізацыі, з пункту гледжання яе носьбітаў, было палітычнае падпарадкаванне мясцовага насельніцтва,ператварэнне большасці яго ў залежнае сялянства, а для мясцовай эліты прадугледжваўся шлях асіміляцыі, зліцця з нямецкім рыцарствам, якое павінна было ўтварыць аснову пануючага слоя на навадалучаных землях. Такі варыянт быў паспяхова рэалізаваны на землях палабскіх славян і якраз рэалізоўваўся на землях балтаў. Узнікненне ў зоне экспансіі самастойнай дзяржавы, якая б увайшла ў Еўропу самастойна, захоўваючы ўласную сацыяльную іерархію, зусім не адпавядала маёмасным інтарэсам братоў-рыцараў і тых, хто натхняў іх на радзіме.

Пошук аптымальнага шляху развіцця ў такой сітуацыі расцягнуўся для маладой дзяржавы амаль на паўтара стагоддзя. Літоўскія даследчыкі ў апошні час схільныя акцэнтаваць увагу на заходняй альтэрнатыве, ігнаруючы альбо недаацэньваючы ўсходнюю[110]. Між тым для жыхароў XIII ст. перспектыўнасць заходнееўрапейскай цывілізацыі была далёка не такой відавочнай, як для нашых сучаснікаў. Абедзве альтэрнатывы разглядаліся аднолькава сур'ёзна. Папераменна рабіліся крокі ў розных накірунках, але вельмі асцярожна. Як толькі вырысоўвалася магчымасць таго, што адзін з выбараў стане канчатковым, адразу ж абуджаліся намаганні прыхільнікаў супрацьлеглага варыянта — і падзеі ішлі ў адваротным кірунку. Менавіта гэтым ваганнем можна растлумачыць унікальную сітуацыю, пры якой дзяржава, якая мела амаль усе атрыбуты цывілізаванага (у тагачасным разуменні) грамадства, такі доўгі час заставалася афіцыйна язычніцкай.

Першая спроба выбару была зроблена самім Міндоўгам і дыктавалася вельмі складанай знешнепалітычнай сітуацыяй, у якую ён трапіў амаль адразу пасля вакняжання ў Навагародку. Палітычнае аб'яднанне Навагародскага княства з Літвой моцна паспрыяла самаўладдзю Міндоўга, але амаль адразу выклікала супрацьдзеянне як унутры Літвы, так і з боку суседзяў. У 1249 г. супраць Міндоўга ўтварылася магутная кааліцыя ў складзе яго пляменніка Таўцівіла, жамойцкага князя Выкінта, Данілы Галіцкага і ландмайстра Лівонскага ордэна Андрэя фон Сцірланда. Галоўную небяспеку ўяўляла Галіцка-Валынскае княства, якое не магло прымірыцца з адыходам часткі спадчыны Рурыкавічаў да іншай дынастыі. Тройчы, прыкладна ў 1249, 1251 і 1253 гг., Даніла рабіў паходы на Навагародак і Горадна.

[109] Иванов С.А. Миссия восточнохристианской церкви к славянам и кочевникам: эволюция методов // Славяне и их соседи. Славяне и кочевой мир. Вып. 10. М., 2001. С. 16—39.

[110] Gudavičius E. Lithuania's road to Europe // Lithuanian Historical Studies. Vol. 2. 1997. P. 15—27.

У такіх умовах Міндоўг у канцы 1250 ці пачатку 1251 г. прыняў хрышчэнне па каталіцкім абрадзе, а ў 1253 г. каранаваўся каралеўскай каронай, дасланай з Рыма[111]. Папа Інакенцій IV абвясціў, што прымае новае каралеўства пад сваё заступніцтва[112]. Такі радыкальны крок разбурыў небяспечную кааліцыю, пазбавіўшы падстаў удзел у ёй Лівонскага ордэна і падтрымку ім Таўцівіла. Больш таго, набыўшы статус законнага хрысціянскага манарха, Міндоўг заключыў з ордэнам шэраг пагадненняў. Ступень аўтэнтычнасці іх тэкстаў, што захаваліся ў ордэнскім архіве, застаецца дыскусійнай, але вельмі верагодна, што Міндоўг сапраўды пагадзіўся на пераход пад кантроль ордэна шэрага тэрыторый у Жамойці, адкуль перад тым паспяхова выцесніў Таўцівіла. Пасля гэтага праціўнікамі Міндоўга засталіся толькі Даніла Галіцкі і той жа Таўцівіл, за якім больш не было самастойнай ваеннай сілы. У выніку тэрытарыяльны канфлікт вырашыўся часовым кампрамісам: Навагародак, Слонім і Ваўкавыск былі перададзены сыну Данілы Галіцкага Раману на ўмовах васальнай залежнасці ад Літвы. Пры гэтым Міндоўг захаваў за сабой вярхоўнае права на Навагародскую зямлю, а пазней, скарыстаўшы зручны момант (умяшанне татар), аднавіў поўны кантроль над ёй. Ён нават дамогся ў 1255 г. ад папы Аляксандра IV афіцыйнага прызнання сваіх правоў на Панямонне. З гэтым фактам мусіў лічыцца Даніла Галіцкі, калі разлічваў на падтрымку Захаду ў процістаянні татарам.

Аднак апрача гэтых чыста тактычных вынікаў, прыняцце каталіцтва і каранацыя мелі больш важкі сэнс: яны азначалі рашучы крок у бок заходнееўрапейскай цывілізацыі. Далейшыя магчымыя крокі прадугледжвалі хрышчэнне ў каталіцтва ўсяго язычніцкага насельніцтва Літвы, запазычанне з Захаду недастаючых элементаў грамадскай арганізацыі і ідэалогіі і, урэшце рэшт, ператварэнне Літвы ў крайні фарпост гэтай цывілізацыі, але адначасова і ў яе перыферыю.

На гэтым шляху паўставала адразу некалькі перашкод. Па-першае, уласна літоўскае грамадства было не вельмі падрыхтавана да вестэрнізацыі. Засноўваючы ў сваіх уладаннях каталіцкае біскупства, Міндоўг фактычна пакінуў пытанне яго матэрыяльнага забеспячэння ў падвешаным стане: у яго не было яшчэ крыніц даходу, якімі можна было б распараджацца самастойна. У сістэме мясцовага кіравання этнічнай Літвы таксама не было яшчэ сеткі намеснікаў, якія б паслухмяна выканалі волю гаспадара, а слаба інтэграваныя ў агульную структуру князі-васалы дзеля гэтага не вельмі падыходзілі.

Па-другое, такое развіццё падзей зусім не адпавядала спадзяванням той часткі рускага насельніцтва Панямоння і Падзвіння, якая бачыла ў Літве выратаванне ад татарскага панавання. Яе куды больш задаволіла б, каб літоўскія князі паволі ўспрынялі рускую культуру і інтэграваліся з ёй. Зварот Міндоўга ў бок Захаду істотна мяняў расклад. Рускаму насельніцтву, якое заставалася пры гэтым пад яго ўладай, давялося б паспытаць моцнае ідэалагічнае ўздзеянне каталіцкага свету. Між тым у праваслаўным грамадстве яно ўспрымалася больш негатыўна, чым палітычнае падпарадкаванне татарам — аб гэтым выразна сведчыць, напрыклад, кананізацыя рускай праваслаўнай царквой Аляксандра Неўскага, які паслухмяна выконваў волю Арды, аднак рашуча процідзейнічаў захадам Рыма. Улічваючы, што якраз у гэты час ішла барацьба за Навагародскую зямлю паміж Літвой і Галіцка-Валынскай Руссю,

---

[111] Э. Гудавічус датуе хрышчэнне Міндоўга ў каталіцтва канцом зімы — вясной 1251 г., а яго каранацыю 6 ліпеня 1253 г.: Gudavičius E. Mindaugas. P. 225, 237.

[112] Пра падзеі, звязаныя з хрышчэннем Міндоўга, і пра яго стасункі з Захадам Валынскі летапіс паведамляе вельмі сцісла (ПСРЛ. Т. 2. Стб. 816—817). Асноўная інфармацыя паходзіць з «Ліфляндскай рыфмаванай хронікі» (Livländische Reimchronik. P. 81—82), а таксама з дакументаў Рымскай курыі і грамат самога Міндоўга, дадзеных ім крыжакам (і часткова падробленых імі ў той жа час). Рэестр гэтых звестак гл.: Daniłowicz I. Skarbiec diplomatów..., posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów. T. 1. Wilno, 1860. №№ 117, 121—124, 126, 131—132, 136, 148—150, 154—155, 161, 181, 187, 196; Paszkiewicz H. Regesta źródłowe do dziejów Litwy... №№ 249—253, 256, 269—273, 283, 289, 290—293, 305—307, 313—314, 338, 346—347, 362, 374. Гл. таксама: Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 406—408.

можна амаль не сумнявацца, што працяг заходняга курсу не дазволіў бы Міндоўгу ўтрымаць за сабой рускія землі. У гэтым выпадку Літва засталася б сам-насам з Захадам, у тым ліку і з экспансіяніcцкімі памкненнямі нямецкага рыцарства. Далёкая папская курыя ніяк не магла б выступіць гарантам рэальнага суверэнітэту Літвы, калі б апошняя не мела ўласных магчымасцей для процідзеяння экспансіі. Застацца ў такіх умовах без той ваеннай дапамогі, якую магло прадаставіць рускае баярства Панямоння і Полаччыны, было б занадта рызыкоўна.

Гэтыя меркаванні даюць падставу сцвярджаць, што няўдача першай спробы інтэграцыі з Захадам была перадвырашанай. Сапраўды, яшчэ пры жыцці Міндоўга, у 1260 г., Літва спыніла сяброўскія стасункі з Лівоніяй і падтрымала паўстанне супраць крыжакоў, якое ўспыхнула ў Жамойці. У выніку там усталяваўся стаўленік Міндоўга і сын яго сястры князь Транята[113]. Адначасова заключаецца пагадненне з Аляксандрам Неўскім, накіраванае супраць ордэна. Як прыгадвалася вышэй, у гэты час адбылося ўзвышэнне Астафія Канстанцінавіча, што можа сведчыць пра спробу Міндоўга абаперціся на рускую частку сваіх падданых.

## Афармленне дзяржаўнай структуры

Пачынаючы з сярэдзіны XIII ст. можна гаварыць пра ўтварэнне даволі ўстойлівай палітычна-тэрытарыяльнай сістэмы, у якой вярхоўнаму князю літоўскага паходжання непасрэдна належала частка этнічнай Літвы (Аўкштайція) з Новагародскай зямлёй, а іншыя балцкія (Жамойць) і рускія землі (Полацкае княства) знаходзіліся ў пэўнай залежнасці ад яго. Пад непасрэднай уладай Міндоўга знаходзіліся іншыя літоўскія князі, якія прыгадваюцца як сведкі ў яго граматах крыжакам. Некалі мяцежны пляменнік, Таўцівіл, у гэты час княжыў у Полацку і, верагодна, таксама прызнаваў верхавенства літоўскага ўладара. Таўцівіл упамінаецца ў якасці полацкага князя на чале палачан і літвы ў сумесным з Вялікім Ноўгарадам паходзе супраць Лівонскага ордэна ў 1262 г. і падчас сваёй гібелі ў 1263 ці 1264 г.[114]. Не выключана, што з яго вакняжаннем у Полацку звязаны ўжо сумесны паход палачан і літвы на Смаленшчыну ў 1258 г.[115]. Магчыма, Таўцівіл змяніў на полацкім пасадзе князя Канстанціна, які прыгадваецца разам з ім падчас паходу на Вендэн у 1262 г. як зяць наўгародскага князя Аляксандра Неўскага[116].

Такая сістэма дазваляла эфектыўна супрацьдзейнічаць экспансіі, з аднаго боку, крыжакоў, з другога — татар і залежных ад іх галіцка-валынскіх князёў. У барацьбе з крыжакамі вялікі князь мог абапірацца на рускія княствы, пры барацьбе з татарамі і валынянамі — на этнічную Літву, а ва ўнутранай палітыцы балансаваў паміж прыхільнікамі інтэграцыі дзяржавы ў сістэму праваслаўнай альбо каталіцкай цывілізацыі, што найбольш зручна было рабіць пры захаванні талерантнага язычніцтва.

Агульная плошча падкантрольнай літоўскім князям тэрыторыі ў гэты час складала каля 153 тыс. кв. км, з якіх на этнічна балцкія землі прыпадала звыш 100 тыс. кв. км, ці каля 65 % (у тым ліку на паўсамастойную Жамойць — каля 27 тыс. кв. км, на Літву-Аўкштайцію — да 45 тыс. кв. км, на літоўскія ці змешаныя літоўска-славянскія

---

[113] Пра тагачасныя падзеі ў Жамойці вядома галоўным чынам з «Ліфляндскай рыфмаванай хронікі»: Livländische Reimchronik. S. 106—120, 125—127, 132, 146—159.

[114] Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 83—84, 311, 313, 454—455; ПСРЛ. Т. 25. Московский летописный свод. М.; Л., 1949. С. 144—145; ПСРЛ. Т. 7. Летопись по Воскресенскому списку. СПб., 1856. С. 163—164; ПСРЛ. Т. 2. Стб. 862.

[115] Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 83; ПСРЛ. Т. 7. С. 162; ПСРЛ. Т. 4. Ч. 1. С. 232.

[116] Жонкай Канстанціна мусіла быць дачка Аляксандра ад шлюбу з полацкай князёўнай Брачыслаўнай, які адбыўся ў 1239 г.: Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 77, 239. Аднак слова «зяць» магло ўжывацца і ў іншых сэнсах, у тым ліку як брат жонкі, і тады Канстанцін мог быць сынам Брачыслава. У любым выпадку ён меў дачыненне да полацкай княжацкай дынастыі.

абшары ў сучаснай Беларусі — каля 26 тыс. кв. км), а на этнічна рускія — прыблізна 52 тыс. кв. км (з іх непасрэдна ўключаная ў дзяржаву Навагародская зямля займала каля 26 тыс. кв. км, паўсамастойная Полацкая — каля 29 тыс. кв. км).

Магчыма, гэтае ўтварэнне пачало называцца «Вялікім Княствам Літоўскім» ужо з часоў Міндоўга[117]. У больш позні час дзяржава называлася «Вялікім Княствам Літоўскім і Рускім», а з 1442 г. яе афіцыйная назва стала трохчасткавай: «Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае»[118]. Пад «Літвой» у такім (палітыка-геаграфічным) сэнсе выступала не ўся этнічная тэрыторыя сучаснай Літвы і не ўвесь абшар федэратыўнай дзяржавы, а толькі тэрыторыя, непасрэдна падкантрольная вялікаму князю — Літва-Аўкштайція разам з прылеглым Беларускім Панямоннем. Пад «Руссю» ў складзе новай дзяржавы мелася на ўвазе тэрыторыя тых княстваў (Полацкага, пазней — таксама Віцебскага, Смаленскага і інш.), якія пры ўваходзе ў яе захавалі пэўнае самакіраванне.

Хрышчэнне і прынцыповае рашэнне аб каранацыі Міндоўга (1251 г.) надалі дзяржаве легітымны статус у вачах міжнароднай супольнасці, хаця ў далейшым ён быў часткова страчаны падчас унутраных крызісаў і яго давялося заваёўваць нанова. Значна пазней канчаткова сфарміраваўся і агульны для ўсёй краіны адміністрацыйны апарат — іерархія велікакняжацкага двара, двароў удзельных князёў і намеснікаў, валасных цэнтраў. Тое, што на Русі такая структура ўжо існавала, значна палепшыла і паскорыла яе распаўсюджанне на Літву, але для такога запазычання патрэбны быў час. Сведчаннем таго, што гэты працэс адбываўся, з'яўляецца тэрміналогія: нават у лацінскамоўных тэкстах не толькі тэрміны падаткаабкладання, але і назвы асноўных службовых пасад («ваявода», «цівун») часта пісаліся па-руску. Відавочна, яны трапілі ў справаводства ВКЛ разам з паняццямі, якія абазначалі і якіх не было ў больш архаічнай тэрміналогіі літоўцаў. Была запазычана нават назва пануючага слоя — «баяры», якая з XIV ст. пачынае сустракацца замест заходнееўрапейскіх тэрмінаў «нобілі» і «бароны», вядомых ужо з грамат Міндоўга.

Познія звесткі пра Навагародак як месца каранацыі Міндоўга[119] далі падставу некаторым даследчыкам сцвярджаць, што менавіта гэты горад быў першай сталіцай ВКЛ. Аднак хутка пасля каранацыі Навагародак быў часова перададзены Раману Данілавічу — са сталіцай так не паступаюць[120]. Хутчэй можна дапусціць, што літоўскі князь наўмысна абраў для каранацыі спрэчны горад, каб падкрэсліць свае правы на яго. Хрышчэнне ж Міндоўга таксама позняя традыцыя, зафіксаваная ў беларуска-літоўскіх летапісах, звязвае з горадам Кернава ў Літве, які ў той час сапраўды быў, паводле археалагічных даных, значным абарончым цэнтрам і меў плошчу каля 8 га[121]. У Валынскім летапісе прыгадваецца ў якасці рэзідэнцыі Міндоўга таксама загадкавы замак Варута, месцазнаходжанне якога не высветлена. Частка літоўскіх даследчыкаў падтрымлівае версію, што Варуту можна атаясамліваць з гарадзішчам Шаймінішкеляй ў 3 км на паўночны ўсход ад сучаснага райцэнтра Анікшчай

[117] Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 154.

[118] Halecki O. Litwa, Rus i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kraków, 1916. S. 2—6, 41.

[119] Звесткі пра каранацыю Міндоўга ў Навагародку знаходзяцца ў крыніцах не раней другой паловы XVI ст.: у хроніцы Мацея Стрыйкоўскага (Stryjkowski M. Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi. T. 1. Warszawa, 1846), а затым у яшчэ больш позным Густынскім летапісе (ПСРЛ. Т. 2. 1-е выд. СПб., 1843. С. 342). Т. Баранаўскас лічыць, што гэтая версія магла нарадзіцца на падставе таго, што ў легендарнай частцы беларуска-літоўскіх летапісаў, якая аформілася ў 1520-я гг., Навагародак выступае як сталіца Міндоўга і яго міфічнага бацькі Рынгальта: Баранаускас Т. Новогрудок в XIII в.: история и миф. С. 40—42.

[120] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 831. На гэта звяртаў увагу яшчэ Г. Лаўмяньскі: Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów w dobie plemiennej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica. T. 1. Poznań, 1985. S. 90, przyp. 537.

[121] Ochmański J. Historia Litwy. 3-e wyd. Wrocław et al., 1990. S. 54. Культурны слой на гарадзішчах Кярнаве датуецца другой паловай XIII — XIV ст.

(гістарычныя Анікшты), у паўночнай частцы Літвы. Галоўнай падставай з’яўляецца тое, што гарадзішча называлі Варутай мясцовыя жыхары ў канцы XIX ст. Раскопкі пацвердзілі факт існавання драўлянага замка ў XIII—XIV стст., але бясспрэчных доказаў таго, што ён быў рэзідэнцыяй Міндоўга, не знойдзена, таму пытанне нельга лічыць вырашаным канчаткова[122]. Меркаванне іншых даследчыкаў аб тым, што цэнтрам дзяржавы магла быць Вільня, якая нібыта ўжо існавала ў XIII ст.[123], яшчэ менш доказнае. Пераканаўчых сведчанняў наяўнасці культурнага слоя гэтага часу на месцы Верхняга і Ніжняга замкаў Вільні пакуль не выяўлена, а меркаванні пра існаванне на месцы кафедральнага сабора Св. Станіслава больш ранняга храма (яго пабудова прыпісваецца Міндоўгу падчас яго хрышчэння)[124] у апошні час аспрэчваюцца самімі літоўскімі даследчыкамі[125]. Найбольш верагодна, што трывалай сталіцы ў сучасным сэнсе ў ВКЛ на ранняй стадыі яго гісторыі ўвогуле не было.

## Праз крызісы да стабілізацыі

Двухэтнічнае палітычнае ўтварэнне аказалася настолькі жыццяздольным, што няўхільна аднаўлялася пасля неаднаразовых крызісаў на працягу другой паловы XIII—XIV стагоддзяў. Пачатак першаму з іх паклала змова супраць Міндоўга з боку моцных васалаў — жамойцкага Траняты, нальшчанскага Даўмонта і полацкага Таўцівіла, натхніцелем якіх, верагодна, быў Астафій Канстанцінавіч. У 1263 г. Міндоўг быў забіты[126], а затым у барацьбе за падзел улады загінуў і Таўцівіл. Пасля гэтага Транята ажыццяўляў кантроль над Літвой і Жамойцю, а ў Полацку ўсталяваўся яго стаўленік — нальшчанскі князь Гердзень[127].

Пасля забойства Міндоўга дзяржаўная сістэма, што не паспела як след сфарміравацца, перайшла ў стан хісткай раўнавагі, і ў гэты момант рэзка актывізаваліся сілы, зацікаўленыя ў інтэграцыі Літвы з Руссю. Стаўленікам іх выступіў сын Міндоўга Войшалк, які яшчэ пры жыцці бацькі не толькі ахрысціўся ў праваслаўе, але і пастрыгся ў манастыр. Верагодна, пад моцным націскам тых, хто жадаў выкарыстаць яго праваслаўную арыентацыю, ён пагадзіўся на тры гады зняць манаскую расу і заняць бацькоўскі пасад[128]. З манастыра ён прыбыў у Пінск, дзе атрымаў дапамогу ад мяс-

[122] Забела Г. Городище Шяйминишкеляй предполагаемое место замка Ворута // Castrum, urbis et bellum. Зб. навуковых прац. Баранавічы, 2002. С. 131—145.

[123] Лухтан А., Ушинскас В. К проблеме становления Литовской земли в свете археологических данных // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988. С. 102—103.

[124] Kitkauskas N. Vilniaus pilys: Statyba ir architektūra. Vilnius, 1989. P. 16—17. Пра заснаванне Міндоўгам храма нібыта ў Вільне (Wille) рэтраспектыўна прыгадваецца ў значна пазнейшым дакуменце канца XV ст.: Codex epistolaris Vitoldi. Appendix IV. P. 996—997. Гл. таксама: Дашкевич Н.П. Заметки об истории Литовско-Русского государства. Киев, 1885. С. 189.

[125] Gudavičius E. Mindaugas. P. 153—163, 239; Katalynas K. Vilnius XIII amžiuje. Mitai ir faktai // Kutūros paminklai. Kn. 6. 2000. P. 207—209. Англамоўнае рэзюмэ гл. таксама: Katalynas K. Vilnius in the Thirteenth Century: Myth and Facts // Lithanian Historical Studies. Vol. 6. 2001. P. 172.

[126] Пра забойства Міндоўга і далейшыя падзеі, апрача Валынскага летапісу (ПСРЛ. Т. 2. Стб. 852—69), паведамляе хроніка Кракаўскага капітула: Monumenta Polonae Historica. Lwów, 1872. Т. 2. P. 807—808. Яна, у прыватнасці, называе дату смерці Міндоўга 5 жніўня 1263 г. У шэрагу рускіх летапісаў аб гэтых падзеях ёсць вельмі сціслыя ўпамінанні: Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 84, 313, 455; ПСРЛ. Т. 25. С. 145; ПСРЛ. Т. 7. С. 164—165 і інш.

[127] Як паведамляе Наўгародскі першы летапіс, «тогда Литва посадиша своего князя в Полочьке» (Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 84). Ад імя Гердзеня была складзена дамова Полацка з Рыгай у снежні 1264 г. У ёй таксама прыгадваецца папярэдні полацкі князь Канстанцін, які княжыў альбо кароткі час пасля смерці Таўцівіла, альбо яшчэ раней, да з’яўлення апошняга на полацкім княжанні: Русско-ливонские акты. СПб., 1868. С. 13. Гл. таксама: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959. С. 74—75; Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. М., 1977. С. 35.

[128] Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. С. 85.

цовых князёў і ўладкаваўся спачатку ў Навагародку. Абапіраючыся на яго, Войшалк заваяваў Літву ў вузкім сэнсе, а затым, з дапамогай валынскага войска, — Нальшчаны і Дзевалтву, канчаткова далучыўшы іх да велікакняжацкіх уладанняў. Ён пакараў віноўнікаў бацькавай смерці, у тым ліку Астафія Канстанцінавіча, а таксама, напэўна, расправіўся з усімі праціўнікамі цэнтралізаванай улады[129]. Верхавенства Войшалка прызнаў і новы князь Полацка Ізяслаў, які адначасова кантраляваў Віцебск[130]. У сваю чаргу Войшалк карыстаўся падтрымкай валынскага князя Васількі Раманавіча, васалам якога прызнаў сябе, і аднаго са сваіх шваграў — Шварна Данілавіча. Хутка затым Войшалк, выконваючы свой абет, перадаў уладу Шварну, а сам вярнуўся ў манастыр.

У выніку гэтых падзей на літоўскім пасадзе апынуўся прадстаўнік дынастыі Рурыкавічаў. Парадаксальна, што гэта стала магчымым дзякуючы спалучэнню супрацьлеглых тэндэнцый. З аднаго боку, перадача ўлады Шварну была магчымай толькі ў рэчышчы далейшай інтэграцыі Літвы з праваслаўнай Руссю. З другога боку, абгрунтаваннем стала радство з папярэднім манархам «па кудзелі» (Шварн быў жанаты з дачкой Міндоўга). Такі парадак наследавання не быў традыцыйным для Русі і разглядаецца даследчыкамі як праяўленне заходняга ўплыву[131]. У любым выпадку вакняжанне Шварна стварала падставы для экспансіі татар і ўвогуле ставіла пад сумненне перспектывы новай самастойнай дзяржавы.

Таму наступны зігзаг палітычнага працэсу зразумелы: пасля хуткай смерці Шварна верх у Літве ўзяла «фундаменталісцкая» партыя, якая выступала за захаванне язычніцкіх рытуалаў і, верагодна, за поўную незалежнасць як ад Русі, так і ад Захаду. На гэтай хвалі да ўлады прыйшоў князь Трайдзен, палітыка якога мела выразна антывалынскую накіраванасць — валынскі летапісец называе яго «акаянным і беззаконным», а таксама параўноўвае з гістарычнымі персанажамі, якія ў царкоўнай традыцыі выступаюць найбольш адыёзнымі тыранамі: Ірадам, Неронам, Антыёхам Сірыйскім[132].

Тым больш паказальна, што гэты пераварот не прывёў да адрыву ад Літвы Навагародскай зямлі. Каля 1274 г. Трайдзен паслаў гарадзенскае войска на горад Драгічын у Падляшшы, які належаў галіцкаму князю Льву Данілавічу, узнавіўшы такім чынам палітыку экспансіі на Русь. У адказ каля 1275 г. адбыўся вялікі паход супраць Літвы, арганізаваны ханам Залатой Арды і залежнымі ад яго галіцка-валынскімі, пінскімі і смаленскімі князямі. Быў спалены акольны горад у Навагародку, але ў цэлым паход не прывёў, здаецца, да тэрытарыяльных страт з боку Літвы. У 1277 г. адбыўся яшчэ адзін такі ж паход, які дасягнуў Горадна[133]. Аднак ужо ў наступным 1278 г. Трайдзен адчуваў сябе дастаткова моцным, каб умяшацца ў міжусобную барацьбу польскіх князёў. Сведчаннем яго ўплыву ў Польшчы стаў і шлюб яго дачкі з мазавецкім князем Баляславам Плоцкім[134].

Урэшце рэшт спрэчныя тэрыторыі Беларускага Панямоння засталіся за Літвой. Калі б мясцовае насельніцтва лічыла Трайдзена ворагам і захопнікам, гэта былі б вельмі зручныя моманты, каб выйсці з-пад яго ўлады. Такога, аднак, не адбылося, што можна разглядаць як ускоснае сведчанне большай прывабнасці літоўскай ула-

[129] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 863.

[130] Пра княжанне ў Полацку Ізяслава і верхавенства над ім Войшалка (званага «Молшелгам») вядома з недатаванай граматы гэтага князя, складзенай каля 1267 г. (апублікавана разам з граматай Гердзеня, гл. вышэй). Магчыма, гэта той самы Ізяслаў, які прыгадваецца ў Валынскім летапісе пад 1256 г. як князь свіслацкі (ПСРЛ. Т. 2. Стб. 831).

[131] Войтович Л. Князівські династії Східної Європи (кінець IX — початок XVI ст.): склад, суспільна і політична роль. Історико-генеалогічне дослідження. Львів, 2000.

[132] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 869. Пра падзеі панавання гэтага князя вядома галоўным чынам з таго ж летапісу (сл. 870—880), а таксама з «Ліфляндскай рыфмаванай хронікі»: Livländische Reimchronik. P. 181—194.

[133] ПСРЛ. Т. 2. Стб. 871—874; 876—878. Магчыма, пра гэтыя ж паходы паведамляе Ніканаўскі летапіс пад памылковымі датамі 1279 і 1282 гг.: ПСРЛ. Т. 10. Патриаршая или Никоновская летопись. М., 1862. С. 157, 161.

[134] Monumenta Polonae Historica. Lwów, 1878. T. 3. P. 47.

ды ў параўнанні з татарскай. Гэта можа тлумачыцца тым, што «незалежніцкая» палітыка новага ўладара выключала збліжэнне з каталіцкім светам. Трайдзен актыўна супрацьстаяў спробам экспансіі Лівонскага ордэна, які ў 1278 г. заснаваў у Латыголі, на паўночным памежжы Літвы, замак Дзюнабург, а ў наступным годзе арганізаваў супраць Літвы крыжовы паход, які дасягнуў верагоднай сталіцы Трайдзена — Кернавы. Трайдзен нанёс крыжакам паражэнне, а ў 1281 г. часова выцесніў іх з Дзюнабурга[135].

Усё ж сфера літоўскага ўплыву ў гэты час звузілася. Полацкам валодаў князь Канстанцін — магчыма, той, што ўжо княжыў там некалькімі гадамі раней. Звестка пра полацкага князя Канстанціна Бязрука маецца ў «Наказанні» цвярскога епіскапа Сямёна (1271—1289)[136]. Магчыма, ён жа ўпамінаецца як адзін з князёў, залежных ад Вялікага Ноўгарада, у перапісцы апошняга з Ганзай у 1292 г.[137]. Пра яго адносіны з Літвой нічога не вядома. У гэты ж час пад кантроль Смаленска трапіў Віцебск, інтарэсы якога ў стасунках з Рыгай прадстаўляў у 1280-я ці 1290-я гг. смаленскі князь[138].

Найбольшая небяспека пачала адчувацца з боку Тэўтонскага ордэна, з якім лівонцы ўтваралі агульную канфедэрацыю. На працягу 1280—1283 гг. Тэўтонскі ордэн здзейсніў заваяванне Судавы на левабярэжжы Сярэдняга Нёмана — апошняга прускага (яцвяжскага) княства, якое яшчэ захоўвала незалежнасць — і такім чынам выйшаў непасрэдна да межаў Літвы. Тэўтонцы праводзілі значна больш агрэсіўную палітыку ў параўнанні з лівонцамі, з якімі Літва суіснавала больш-менш устойліва. На пачатку 1283 г. з Жамойці быў здзейснены набег на прускія ўладанні тэўтонцаў, які меў, напэўна, характар прэвентыўнага ўдару. Аднак у тым жа годзе крыжакі перайшлі да ваенных дзеянняў непасрэдна супраць Літвы, захапіўшы памежны замак Бісены на Нёмане, на поўдні Жамойці, а ў 1284 г. упершыню ўварваліся на беларускія землі, спаліўшы Горадна[139]. У далейшым такія набегі сталі рэгулярнымі[140].

Да гэтага часу Трайдзен ужо, верагодна, памёр[141]. Хто стаў яго пераемнікам — дакладна невядома, бо звесткі пра Літву ў аўтэнтычных крыніцах робяцца вельмі ўрывачнымі[142]. У шэрагу летапісаў пад 1285 г. паведамляецца пра набег літоўцаў на землі Цвярскога княства ў вярхоўях Волгі, падчас якога загінуў іх князь Даўмонт[143]. У 1286 г. падчас удалага набегу крыжакоў загінуў у сваім маёнтку нейкі літоўскі князь, якога Пётр з Дусбурга называе «другім пасля караля літоўцаў»[144]. «Ліфляндская рыфмаваная хроніка» каля 1290 г. прыгадвае таксама гібель князя Машэке[145]. У тым жа годзе лівонскі ландмайстар называе «каралём Літвы і Жамойці» князя Бутэгайдэ[146].

---

[135] Livländische Reimchronik. P. 178—95; Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. P. 48—49. Зводку гэтых паведамленняў гл.: Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 410, 413.

[136] Памятники старинной русской литературы. Вып. 4. СПб., 1860. С. 185.

[137] Hansisches Urkundenbuch / Hg. K. Höhlbaum. Bd. 1. Halle, 1879. № 1093. Гл.: Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 385.

[138] Русско-ливонские акты. С. 13.

[139] Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. М., 1997. С. 136, 138—139.

[140] Збор звестак аб далейшых нападах крыжакоў на землі Беларусі гл.: Сагановіч Г. Беларусь і Нямецкі ордэн (да Крэўскай уніі) // З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралагіч. зборнік. Вып. 2. Мн., 1997. С. 116—133.

[141] Валынскі летапіс, пачынаючы княжанне Трайдзена з 1270 г., вызначае яго працягласць у 12 гадоў, прыкладна да 1282 г.

[142] Беларуска-літоўскія летапісы называюць шэраг міфічных князёў, «братоў» Трайдзена, якія нібыта правілі Літвой у гэты час: Нарымонта, Даўмонта, Гольшу, Гедруся, а таксама «сына» Трайдзена Рыманта-Лаўрыша, ад якога ўлада быццам бы перайшла да Віценя. На самай справе Валынскі летапіс ведае чатырох братоў Трайдзена, з якіх трое (Борза, Лесій, Свелкеній) загінулі яшчэ да яго вакняжання ў Літве, а чацвёрты, Сірпуцій, быў яго галоўным ваяводам і апошні раз упамінаецца ў 1278 г.

[143] ПСРЛ. Т. 7. С. 179; Т. 18. С. 81; Т. 23. С. 92.

[144] Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. С. 140—141.

[145] Livländische Reimchronik. P. 273 (верш 11964).

[146] Preussisches Urkundenbuch. B. 1. Hälfte 2 / Hg. A. Seraphim. Königsberg, 1909. № 568. P. 355—356. Гл. таксама: Daniłowicz I. Skarbiec diplomatow. № 243; Paszkiewicz H. Regesta źródłowe do dziejów Litwy... № 693.

Не выключана, што гэты ж князь выступае ў 1289 г. у Валынскім летапісе пад імем Будзікіда, які кіраваў Літвой сумесна з братам Будзівідам. Абодва яны вымушаны былі часова саступіць валынскаму князю Мсціславу Данілавічу горад Ваўкавыск[147].

Крызіс быў пераадолены ў 1290-я гг., падчас панавання Пукувера, упамянутага ў хроніцы Пятра з Дусбурга пад 1291 г.[148] (некаторыя даследчыкі атаясамліваюць яго з вышэйзгаданым Будзівідам[149]), а затым яго сына Віценя, які выступае на пасадзе вялікага князя з 1296 да 1316 г.[150]. Супрацьстаянне з крыжакамі набыло характар абмену ўдарамі, у якім абодва бакі дзейнічалі з пераменным поспехам. Тэўтонцы, паводле Пятра з Дусбурга, у 1297, 1304, 1306 і 1311 гг. дасягалі ваколіц Горадна. У адказ землі Прусіі неаднаразова зведалі жорсткае спусташэнне з боку Літвы.

Пры Віценю адбываліся і пэўныя крокі да пазітыўных стасункаў з Захадам у абыход крыжакоў. Калі ў 1297 г. пачаўся працяглы канфлікт паміж Лівонскім ордэнам і гараджанамі Рыгі, Віцень умяшаўся ў яго на баку рыжан і нанёс крыжакам шэраг паражэнняў у Лівоніі. У сувязі з гэтым з 1298 па 1313 г. існаваў саюз паміж ВКЛ і рыжскім архібіскупам Фрыдрыхам. У гэты час нямецкія бюргеры (верагодна, з той жа Рыгі) пачалі сяліцца ў гарадах ВКЛ. Прынамсі, адна такая калонія існавала ў Навагародку. У 1312 г. Віцень запрасіў двух манахаў-францысканцаў для заснавання там касцёла, які б абслугоўваў гэтых каланістаў. Неўзабаве гэты касцёл быў разбураны падчас нападу тэўтонцаў у 1314 г.[151]. На думку літоўскіх даследчыкаў, гэты напад на Новагародак быў зроблены з мэтай прадухіліць новую спробу хрышчэння Літвы на ўмовах захавання ёй суверэнітэту[152].

Пра ўсходні вектар палітыкі Віценя вядома значна менш, бо ў гэты час летапісанне ў рускіх княствах, прылеглых да Літвы, амаль цалкам знікла (нават імя Віценя не прыгадваецца ў нешматлікіх тагачасных летапісах). Але С. Роўвел слушна адзначае, што рускія тэрыторыі ВКЛ былі больш важнымі, аб чым сведчыць і тое, што на іх былі накіраваны напады Ордэна[153]. Ёсць некалькі сведчанняў таго, што рускі этнічны элемент па-ранейшаму адыгрываў пры Віценю істотную ролю. Гарнізоны гарадоў Беларускага Панямоння складаліся, прынамсі часткова, з мясцовых баяр. У хроніцы Пятра з Дусбурга прыводзіцца такі факт: калі ў 1296 г. набег тэўтонскіх рыцараў дасягнуў Горадна, у сутычцы з імі не апошнюю ролю адыграў рыцар-«рутэн» — трэба меркаваць, мясцовы гарадзенскі баярын[154]. Больш таго, на пачатку XIV ст. рускія па-ранейшаму ўваходзілі ў склад велікакняжацкай рады. Той жа храніст паведамляе, як у 1305 г. ордэнскае войска знянацку ўварвалася ў Літву. Тады супраць яго выступіў сам вялікі князь са сваімі дарадцамі, якія якраз былі скліканы на «раду альбо парламент». Адзін з іх, загінуўшы ў паядынку з нямецкім рыцарам, таксама аказаўся «рутэнам»[155]. Колькі іх было сярод іншых удзельнікаў гэтай рады, мы можам толькі гадаць, але малаверагодна, што персанальнай згадкі ўдастоіўся менавіта адзіны рускі сярод усіх літоўцаў. Хутчэй за ўсё, іх там было значна болей.

Як ужо адзначалася, пры Віценю адбылося канчатковае ўключэнне ў склад ВКЛ Полацкай зямлі. Познія крыніцы прыпісалі Віценю таксама ўвядзенне дзяржаўнага герба «Пагоня», аднак гэтую звестку (як і версію пра ўвядзенне «Пагоні» князем

---

147 ПСРЛ. Т. 2. Стб. 933.

148 Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. С. 148.

149 Puzyna J. Kim był i jak sie naprawdę nazywał Pukuwer ojciec Giedymina // Ateneum Wileńskie. T. 10. 1935. S. 1—43.

150 Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. С. 148—175.

151 Пра гэта рэтраспектыўна прыгадваецца ў лісце Гедыміна за 1323 г.: Послания Гедимина / Подготовили В. Пашуто и И. Шталь. Вильнюс, 1966. С. 24—25, 30—31.

152 Баранаускас Т. Новогрудок в XIII в.: история и миф. С. 39.

153 Rowell S.C. Lithuania Ascending: a Pagan Empire within East-Central Europe. 1295—1345. Cambridge, 1994. P. 59.

154 Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. С. 155.

155 Там жа. С. 164.

Нарымонтам)[156] трэба адносіць да міфічных. У той час заходнееўрапейская геральдычная традыцыя яшчэ не дасягнула Літвы — гэта адбылося толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў, напярэдадні ці адразу пасля Крэўскай уніі.

## Ад стабілізацыі да экспансіі

Пасля смерці Віценя (каля 1316 г.) вялікім князем стаў яго брат альбо, магчыма, сын Гедымін[157]. Да першых гадоў яго панавання адносіцца другая спроба змяніць галоўны вектар палітыкі ў бок Заходняй Еўропы. На пэўны час адносіны з крыжовымі ордэнамі нармалізаваліся, значна пашырыліся мірныя кантакты з Заходняй Еўропай. Лісты Гедыміна сведчаць пра запрашэнне ў гарады ВКЛ нямецкіх майстроў-рамеснікаў і гандляроў. Такія ж тэндэнцыі, дарэчы, назіраліся ў той час і на паўднёвым захадзе Русі. З аналагічнымі заклікамі звяртаўся ў 1320 г. да жыхароў польскіх гарадоў Кракава і Торуня галіцка-валынскі князь Андрэй Юр’евіч, а ў 1339 г. — яго пераемнік, Юрый-Баляслаў Трайдзенавіч[158].

Пры Гедыміне дзяржава пачала набываць «заходні» выгляд: упершыню з’явілася трывалая сталіца — Вільня, дзе былі пабудаваны мураваныя Верхні і Ніжні замкі. Такія ж замкі-кастэлі паўсталі ў 1320—1330-х гг. у Медніках, Лідзе, Троках, а таксама ва ўдзельных цэнтрах Альгерда — Крэве і, крыху пазней, Віцебску[159]. На думку С. Роўвела, перапіску Гедыміна з заходнімі дзяржавамі забяспечвалі каталіцкія святары, якія знаходзіліся пры двары пад патранатам яго жонкі[160]. У 1322—1323 гг. нават абмяркоўвалася пытанне пра ўвядзенне ў Літве каталіцтва, аднак у апошні момант, відаць, прыхільнікі супрацьлеглага курсу ўзялі верх: калі папскія легаты прыбылі ў Літву, каб здзейсніць хрышчэнне, пры двары Гедыміна ім паведамілі, што ўяўленне аб яго гатоўнасці храсціцца ёсць вынік непаразумення[161]. Пасля гэтага і ў адносінах з Тэўтонскім ордэнам узнавілася перманентная памежная вайна з абменам ударамі[162].

Правал другой спробы інтэграцыі з Захадам можа тлумачыцца тым, што на ўсходзе перспектывы выглядалі больш прывабнымі. У ВКЛ з’явіўся шанс выступіць адным з цэнтраў палітычнай кансалідацыі рускіх княстваў, неабходнасць якой усё больш выразна адчувалася на Русі, і зрабіцца такім чынам не проста адным з элементаў, а палітычным лідарам праваслаўнай цывілізацыі. Дадатковым фактарам, які спрыяў

---

[156] Звестка пра прыняцце «Пагоні» міфічным князем Нарымонтам з’явілася ўпершыню ў так званай «Хроніцы Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», створанай каля 1530-х гг. і ўключанай пазней у шэраг беларуска-літоўскіх летапісаў (ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 136; Т. 35. М., 1980. С. 94, 151, 178—179, 199, 220). Версія пра ўвядзенне герба Віценем з’явілася ў «Рускім летапісцы» першай паловы XVII ст., адзін са спісаў якога ўключаны ў Густынскі летапіс (ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 345—346).

[157] Беларуска-літоўскія летапісы аднадушна называюць Гедыміна сынам Віценя (ПСРЛ. Т. 32. С. 136; Т. 35. С. 95, 151, 179, 199, 220). Між тым, у лісце Рыжскага магістрата ў 1338 г., адрасаваным Гедыміну, Віцень прыгадваецца як яго «брат і папярэднік» (Послания Гедимина. С. 58—59). Не выключана, аднак, што пры перапісцы дакумента слова «pater» (бацька) ператварылася ў блізкае па напісанні «frater» (брат), гл.: Васильевский В. Переход Гедимина в католичество // Журнал Министерства народного просвещения. 1872. № 1. С. 144; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994. С. 11.

[158] Болеслав-Юрий II, князь всей Малой Руси: Сб. материалов и исследований. СПб., 1907. С. 77—79, 150—151.

[159] Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978. С. 28, 34, 38—39.

[160] Rowell S.C. Lithuania ascending. P. 29.

[161] Послания Гедимина. №№ 2—7, 12—14.

[162] Апрача ўласных лістоў Гедыміна, асноўнымі крыніцамі аб заходнім кірунку яго палітыкі з’яўляюцца творы тэўтонскіх і лівонскіх храністаў Пятра з Дусбурга (даведзена да 1326 г.), пазней Германа з Вартберга (Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. P. 21—116) і Віганда з Марбурга (Там жа. P. 429—662). Гл. таксама: Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края. Т. 2. Рига, 1879. С. 83—106.

экспансіі на ўсход, быў выключны збег дэмаграфічных абставінаў. У Гедыміна было надзвычай шмат сыноў, якія дасягнулі паўналецця — не менш сямі, калі не восем[163], у той час як у рускіх княствах, якія належалі розным галінам Рурыкавічаў, князі часта гінулі ў Ардзе альбо паміралі маладымі, не паспеўшы пакінуць шмат нашчадкаў. Гэта дазваляла пашыраць межы дзяржавы мірным, дынастычным шляхам, уладкоўваючы сыноў на вакантных княжацкіх пасадах. Афіцыйнае прыняцце каталіцтва перакрэсліла б такую магчымасць. Замест таго сыны Гедыміна Нарымонт-Глеб, Карыят-Міхаіл і Любарт-Дзмітрый прынялі праваслаўе.

Праваслаўе прыняў і брат Гедыміна пад іменем Фёдар[164]. Не выключана, што менавіта да яго папа Іаан XXII звяртаўся ў 1317 г. як да «літоўскага князя-схізматыка» (гэта значыць — праваслаўнага) з папрокам за напады на ўладанні Тэўтонскага ордэна[165]. Гэтым схізматыкам не мог быць сам Гедымін, бо яго летапісы называюць «паганым» нават у момант яго смерці ў 1341 г.[166]. Іншы брат Гедыміна княжыў у Полацку, які ў гэты час ужо трывала злучыўся з дзяржавай. Ён прыгадваецца (пад нехрысціянскім іменем Воінь) у якасці полацкага князя ў 1326 г., калі разам з Васілём Менскім і выхадцам са Смаленшчыны Фёдарам Святаславічам удзельнічаў у літоўскім пасольстве ў Вялікі Ноўгарад[167].

Роля праваслаўя ў дзяржаве Гедыміна была значнай. Яно афіцыйна падтрымлівалася, прытым самастойная царкоўная іерархія ўспрымалася як адзін з істотных атрыбутаў дзяржаўнасці. Аб гэтым сведчыць утварэнне на землях ВКЛ самастойнай мітраполіі, падначаленай непасрэдна канстанцінопальскаму патрыярху, з цэнтрам у Новагародку. Літоўскі мітрапаліт Феафіл прыгадваецца ў дакументах канстанцінопальскай патрыярхіі ў 1317, 1327 і 1329 гг. Мітраполія праіснавала прыкладна да 1330 г., да смерці Феафіла[168].

Вядома выключная роля, якую адыграваў праваслаўны зяць Гедыміна, гарадзенскі намеснік Давыд. Ён не толькі паспяхова бараніў ад немцаў Новагародак падчас аблогі ў 1314 г., але і ўзначальваў войска ВКЛ падчас паходаў у Прусію, Эстонію, Мазовію і Брандэнбургскую марку ў 1319—1326 гг.[169]. На кароткі час у 1323 г. ён стаў пскоўскім князем, што дало Гедыміну падставу ў тым жа годзе заключыць дагавор з Рыгай і Тэўтонскім ордэнам ад імя «Аўкштайціі, Жамойці, Пскова і іншай Русі, якой мы валодаем»[170]. Паходжанне Давыда дакладна невядома. Пскавічы звярталіся да яго пры запрашэнні на княжанне як «да князя свайго Давыда», што дало падставу некаторым даследчыкам лічыць яго сынам пскоўскага князя Даўмонта-Цімафея,

---

[163] Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Gedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999. S. 19.

[164] Тое, што ў Гедыміна быў брат з праваслаўным імем Фёдар, вынікае з пераліку маёмасці, што засталася пасля смерці каля 1330 г. мітрапаліта Феафіла. Сярод іншага яму належалі два сярэбраныя кубкі (каўкіі), падараваныя гэтым братам Гедыміна: Приселков М.Д., Фасмер М.Р. Отрывки В.Н. Бенешевича по истории русской церкви XIV века // Известия ОРЯС АН. Т. 21. Кн. 1. Пг., 1916. С. 48—70.

[165] Daniłowicz I. Skarbiec diplomatów... № 288.

[166] Там жа. № 264.

[167] НПЛ. С. 322; ПСРЛ. Т. 5. Псковские летописи. СПб., 1851. С. 217. У некаторых летапісных варыянтах гэтае паведамленне скажона: Воінь выступае без тытула, тытул полацкага князя прыпісаны Васілю, а менскага — Фёдару Святаславічу. Апошні, верагодна, паходзіў са смаленскіх князёў і нейкі час валодаў Вязьмай і Дарагабужам: Голубовский П.В. История Смоленской земли до начала XV в. Киев, 1895. С. 202, 215.

[168] Acta Patriarchatus Constantinopolitani (1315—1402) / Ed. F. Mikloshiech, Y. Müller. T. 1. Wien, 1860. P. 72, 143, 147. Гл. таксама: Павлов А.С. О начале галицкой и литовской митрополии и о первых тамошних митрополитах по византийским документальным источникам XIV в. // Русское обозрение. 1894. № 3 (май); Голубинский Е. История Русской церкви. Т. 2. Период второй, Московский. Ч. 1. М., 1900. С. 179—185.

[169] Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. С. 173, 178, 180—181, 184, 186. Зяцем Гедыміна яго называе толькі позняя хроніка М. Стрыйкоўскага: Stryjkowski M. Kronica polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 1. S. 380.

[170] Послания Гедимина. № 18. С. 194—195.

выхадца з Літвы. Аднак нельга выключыць і чыста славянскае паходжанне Давыда. Нават калі ён і сапраўды меў літоўскае паходжанне, яго ўпамінанні выключна пад хрысціянскім іменем сведчаць пра яго русіфікацыю. Гэта, аднак, не перашкодзіла яму пэўны час быць ледзь не другім чалавекам у дзяржаве.

Адзін з сыноў Гедыміна, Нарымонт-Глеб, магчыма, стаў уладальнікам Пінскага княства[171], пазней — яшчэ і Полацкага (пра гэта сведчыць яго пячатка на дагаворнай грамаце Полацка 1338 г.)[172], а ў 1333 г. быў запрошаны ў якасці служылага князя ў Вялікі Ноўгарад, на які такім чынам распаўсюдзіўся ўплыў Літвы[173]. Другі сын, Альгерд, праз шлюб з адзінай дачкой апошняга віцебскага князя Яраслава атрымаў каля 1320 г. Віцебск[174]. У якасці віцебскага князя Альгерд засведчыў разам з Глебам-Нарымонтам вышэйзгаданую полацкую грамату 1338 г.

Карыстаючыся згасаннем дынастыі галіцка-валынскіх князёў, Гедымін спачатку далучыў Берасцейскую зямлю, а ў самым канцы свайго панавання, магчыма, уладкаваў малодшага сына, Любарта, ва Уладзіміра-Валынскім княстве. Пра заваяванне Гедымінам Валыні і вылучэнне Уладзіміра і Луцка ва ўдзел яго сыну Любарту паведамляюць Хроніка Быхаўца і іншыя беларуска-літоўскія летапісы. М. Стрыйкоўскі датаваў заваяванне Валыні часам каля 1320 г.[175]. Аднак калі паход супраць галіцка-валынскіх князёў Льва і Андрэя сапраўды мог мець месца каля 1322 г., то да заваявання Валыні ён не прывёў. З 1323 па 1340 г. там правіў нашчадак мясцовай дынастыі па жаночай лініі Юрый-Баляслаў Трайдзенавіч (сын мазавецкага князя), грамату якога ў 1335 г. засведчылі падначаленыя яму ваяводы Белза, Луцка, Уладзіміра і Перамышля[176]. У гэтым пераліку няма ваявод Берасця і Падляшша, што можа сведчыць пра больш ранні адыход гэтых тэрыторый да ВКЛ. Далучэнне Берасцейшчыны і Валыні адбылося, прынамсі, раней 1348 г., калі ў бітве з крыжакамі на р. Страве ў складзе літоўскага войска было апалчэнне з Полацка, Віцебска, Берасця, Уладзіміра-Валынскага і нават Смаленска[177].

Праводзячы ўдалую дыпламатыю ў адносінах да Залатой Арды, Гедымін дамогся падпарадкавання шэрага княстваў, якія раней, верагодна, залежалі ад татар. Яго паслом у 1326 г. выступае менскі князь Васіль[178], пасля смерці якога Менск, верагодна, быў непасрэдна далучаны да ўладанняў вялікага князя. Князі Друцкія са сваімі вотчынамі, верагодна, зрабіліся васаламі Альгерда Гедымінавіча яшчэ ў бытнасць яго віцебскім князем[179]. Пэўную залежнасць ад ВКЛ адчувала і Смаленскае княства: у дагаворы з Рыгай у 1340 г. смаленскі князь Іван Аляксандравіч называе Гедыміна «брат мой старейший», што было тыповай формулай васальнай залежнасці[180].

---

[171] Пра княжанне Глеба-Нарымонта ў Пінску паведамляе «Летапіс вялікіх князёў літоўскіх», уключаны ў беларуска-літоўскія летапісы прыкладна праз стагоддзе пасля смерці Гедыміна (ПСРЛ. Т. 32. С. 138; Т. 35. С. 128 і інш.; Беларускія летапісы і хронікі. С. 89). Дакладнасць гэтай часткі летапісу праблематычная: яна ўжо не носіць яўна фантастычны характар, як папярэдняя легендарная «Хроніка Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага», але цалкам дакладнымі яе звесткі пра часы Гедыміна і Альгерда лічыць таксама нельга.

[172] Русско-ливонские акты. С. 20; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. С. 82—83; Полоцкие грамоты. С. 39.

[173] НПЛ. С. 345—346.

[174] ПСРЛ. Т. 32. С. 137; Stryjkowski M. Kronica... S. 381—382.

[175] ПСРЛ. Т. 32. С. 136—137; Stryjkowski M. Kronica... S. 368.

[176] Болеслав-Юрий II, князь всей Малой Руси: Сб. материалов и исследований. СПб., 1907. С. 51, 138—140, 154—155.

[177] Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. P. 75, 511—512. Гл. таксама: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. С. 84. Любарт-Дзмітрый прыгадваецца ў якасці валынскага князя ў 1247 г.: Acta Patriarchatus Constantinopolitani. T. 1. P. 265.

[178] НПЛ. С. 322; ПСРЛ. Т. 5. С. 217.

[179] У гэты час вядомы друцкі князь Міхаіл, які разам з братам Гедыміна Фёдарам, сынам апошняга Любартам і іншымі даравальнікамі прыгадваецца ў спісе маёмасці літоўскага мітрапаліта Феафіла: Приселков М.Д., Фасмер М.Р. Отрывки В.Н. Бенешевича... С. 48—70. Іншы друцкі князь, Іван, служыў Маскоўскаму князю Івану Каліце: ПСРЛ. Т. 7. СПб., 1859. С. 206; ПСРЛ. Т. 10. С. 211; ПСРЛ. Т. 35. С. 28. Яго ад'езд у Маскву, магчыма, быў выкліканы літоўскай экспансіяй.

[180] Daniłowicz I. Skarbiec diplomatów... № 337.

Беларуска-літоўскія летапісы паведамляюць таксама пра заваяванне Гедымінам Кіеўскага княства[181], але падрабязнасці гэтай падзеі выклікаюць вялікія сумненні: імёны пераможаных рускіх князёў не адпавядаюць гістарычным рэаліям тых часоў. Найбольш верагодна, што легенда пра кіеўскі паход была прыдумана ў асяроддзі літоўскай арыстакратыі недзе ў канцы XV ст. дзеля таго, каб прыпісаць ролю кіеўскага намесніка князю Альгімонту — гістарычнаму родапачынальніку князёў Гальшанскіх. Неверагоднасць кіеўскага паходу Гедыміна была абгрунтавана У. Антановічам[182], але нядаўна С. Роўвел зноў выказаўся за рэальнасць гэтай падзеі[183]. Гэта, аднак, магчыма толькі пры занадта вялікай колькасці дапушчэнняў. Адзінай падставай для таго, каб сцвярджаць аб падпарадкаванні Кіева Гедыміну, з'яўляецца атаясамленне яго брата Фёдара з кіеўскім князем, які прыгадваецца ў летапісах пад 1331 г.[184]. Такое атаясамленне застаецца гіпатэтычным[185]. Але несумненна, што кіеўскі князь Фёдар, кім бы ён ні быў, дзейнічаў у інтарэсах Гедыміна падчас канфлікту апошняга з наўгародскім епіскапам. Разам з тым у падзеях удзельнічаў і татарскі баскак — гэта сведчыць, што Кіеў у той час знаходзіўся ў двайной залежнасці — ад ВКЛ і Залатой Арды. Тое, што месца гэтай падзеі азначана ў летапісе «паміж Кіевам і Літвой»[186], таксама супярэчыць версіі пра непасрэднае ўключэнне Кіеўскага княства ў ВКЛ.

Паколькі экспансія Гедыміна закранула сферу інтарэсаў Арды, стасункі з ёй набылі характар канфрантацыі. У канцы 1324 г. Гедымін быў «заняты з татарамі» настолькі, што не змог даць аўдыенцыю паслу рымскага папы[187]. Неўзабаве ў 1325 г. адбыўся татарскі паход на Літву. Такі ж паход паўтарыўся ў 1338 г.[188], а ў 1333 і 1339 гг. татары хадзілі на саюзны Гедыміну Смаленск[189].

Плошча тэрыторыі ВКЛ (нават не лічачы Кіеўшчыны, Смаленшчыны і Вялікага Ноўгарада) у выніку набыццяў Гедыміна павялічылася больш чым удвая, прыблізна да 325—330 тыс. кв. км, з якіх навадалучаныя Віцебскае, Друцкае, Менскае княствы займалі адпаведна каля 20, 17 і 19 тыс. кв. км, Піншчына са Слуцкам — каля 34 тыс. кв. км, Берасцейшчына з Падляшшам — 29 тыс. кв. км і Уладзіміра-Валынскае княства — да 55 тыс. кв. км. Старое дзяржаўнае ядро (Літва ў палітыка-геаграфічным сэнсе) ахоплівала цяпер каля 30 % дзяржаўнай тэрыторыі, ці каля 97 тыс. кв. км. Рэшту ўтваралі паўсамастойныя балцкія (Жамойць) і славянскія землі, прычым доля этнічна балцкіх ці змешаных абшараў у дзяржаве панізілася да 30 %, а доля рускіх узрасла адпаведна амаль да 70 %. Прыблізна палова, каля 150 тыс. кв. км, прыходзілася на землі Беларусі, а амаль 20 % — на Украіну. Па-за межамі ВКЛ засталіся пакуль што, верагодна, Свіслацкае княства, а таксама ўсходнія і паўднёва-ўсходнія ўскрайкі тэрыторыі Беларусі, якія адносіліся да Смаленскага (Мсціслаў, магчыма — Магілёў, Орша), Чарнігаўскага (Гомель, Рэчыца) і Кіеўскага (Брагін, Мазыр) княстваў.

Прававое становішча ў складзе ВКЛ некаторых рускіх княстваў (Полацкага, Віцебскага) было спецыфічным. Падпарадкаванне іх уладзе літоўскіх князёў прыводзіла не столькі да ўключэння гэтых княстваў у сферу агульнадзяржаўных інтарэсаў, колькі да прыняцця літоўскім князем ролі абаронцы мясцовых інтарэсаў Полаччыны і Віцебшчыны, звязаных перш за ўсё з гандлем па Дзвіне. Прынамсі, асноўныя звесткі аб гэтых гарадах пад літоўскім панаваннем зводзяцца да гандлёвых дагавораў з Рыгай, якія літоўскія князі рэгулярна абнаўлялі ад імя Полацка і Віцебска

---

[181] Гл., напр.: ПСРЛ. Т. 32. С. 136—137; ПСРЛ. Т. 2. С. 348.

[182] Антонович В.Б. Очерк истории великого княжества Литовского до смерти В. К. Ольгерда // Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Т. 1. Киев, 1885. С. 47—53.

[183] Rowell S.C. Lithuania ascending. P. 95—111.

[184] НПЛ. С. 344; ПСРЛ. Т. 16. С. 68; Т. 25. С. 170.

[185] Іншым магчымым варыянтам застаецца яго атаясамліванне з Фёдарам Святаславічам, які быў паслом Гедыміна ў 1326 г.

[186] ПСРЛ. Т. 4. Ч. 1. Вып. 1—2. (Новгородская IV летопись). Пг., 1917. С. 52.

[187] Послания Гедимина. С. 137.

[188] ПСРЛ. Т. 10. С. 189, 208.

[189] ПСРЛ. Т. 10. С. 206, 211.

— гэтак жа, як гэта рабілі раней рускія князі азначаных гарадоў і Смаленска. У адной з грамат у 1338 г. Гедымін выразна падкрэслівае, што яна складзена ад імя не толькі князёў, але і гарадоў Полацка і Віцебска[190]. Сын Гедыміна Нарымонт, які, верагодна, княжыў у Полацку, падчас бітвы на Страве ў 1348 г. названы «рускім каралём», пры тым што яго браты Альгерд і Кейстут названы «літоўскімі каралямі»[191]. Каралеўскі тытул Нарымонта, ужыты хранiстам, сведчыць пра значную самастойнасць яго ўладанняў у складзе ВКЛ.

## Далейшае пашырэнне тэрыторыі ВКЛ пры Альгердзе

Каля 1341 г. пасля смерці Гедыміна вялікім князем зрабіўся яго сын Яўнут. Аднак два іншыя сыны, Альгерд і Кейстут, каля 1345 г. скінулі яго з пасада і ўтварылі дуумвірат, у якім Альгерд атрымаў сталіцу дзяржавы Вільню і яе ўсходнюю палову (з Лідай, Крэвам, Віцебшчынай, Меншчынай), а Кейстут — заходнюю частку (Жамойць, Беларускае Панямонне, Берасцейшчыну і Падляшша) з цэнтрам у Троках[192]. Пасля гібелі ў 1348 г. іх брата Нарымонта Полацкае княства таксама дасталася Альгерду, дзе ён уладкаваў свайго сына Андрэя[193], Пінскае было, здаецца, пакінута за сынамі Нарымонта, а Яўнуту пасля яго вяртання ў ВКЛ было вылучана Заслаўскае княства. У 1348 г. у апошні раз упамінаецца князь асобнага Свіслацкага княства[194] ў парэччы Бярэзіны і Пцічы, якое пазней было, відаць, падзелена паміж Альгердам і Кейстутам[195]. Пасля гэтага тэрыторыя ВКЛ дасягнула каля 345 тыс. кв. км.

Альгерду разам з братамі Кейстутам і Любартам давялося весці працяглую барацьбу з Польшчай за Галіцка-Валынскую Русь, дзе дынастыя нашчадкаў Данілы Галіцкага канчаткова згасла пасля смерці Юрыя-Баляслава Трайдзенавіча. У выніку неаднаразовых войнаў (1349, 1366, 1377 гг.) Галіцкая зямля і заходняя частка Валыні канчаткова адышлі да Польшчы, а ўсход Валыні (Ратна, Уладзімір, Луцк) — да ВКЛ, прычым тамашнія ўдзельныя князі ў канцы 1377 г. часова прызналі сябе васаламі Польшчы[196].

Ініцыятыву збліжэння ВКЛ з каталіцкім светам паперамена аднаўлялі абодва бакі. Так, у 1350 г. папа Клемент VI звярнуўся да Альгерда і яго суправіцеля Кейстута з прапановай каранаваць іх каралеўскімі каронамі[197]. Аднак гэтая прапанова

[190] Русско-ливонские акты. СПб., 1868. № 83; Послания Гедимина. № 18. С. 194—195.

[191] Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. P. 75. Гл. таксама: Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края / Сост. Е.В. Чешихин-Ветринский. Т. II: Ливонская хроника Германа Вартберга. Рига, 1879; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. С. 83.

[192] Асноўныя падрабязнасці пра барацьбу за ўладу пасля смерці Гедыміна прыводзяць толькі беларуска-літоўскія летапісы. Гл., напр.: Беларускія летапісы і хронікі. С. 93—94. У рускіх летапісах паведамляецца пра ўцёкі Яўнута ў Маскву, дзе князь Сямён Іванавіч «крестил князя литовского именем Евтутия и его дружину литву»: Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. М., 1950. С. 367.

[193] Упершыню Андрэй Альгердавіч выступае як полацкі князь у 1350 г.: Псковские летописи. Вып. 2. М.; Л., 1955. С. 27.

[194] Князь Сямён Свіслацкі ўдзельнічаў у літоўскім пасольстве ў Арду: ПСРЛ. Т. 6. С. 215; Т. 7. С. 205.

[195] Аб гэтым сведчыць падзел валасцей колішняга Свіслацкага княства на віленскую і троцкую паловы, які ў Бабруйскай воласці захаваўся ажно да XVII ст.: Любавский М.К. Областное деление и местное самоуправление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого Литовского Статута. М., 1892. С. 13—14, 103—106.

[196] Збор звестак аб барацьбе за Галіцка-Валынскую Русь гл.: Ржежабек И. Юрий II-й, последний князь всея Малыя Руси // Болеслав-Юрий II, князь всей Малой Руси. С. 29—49. Аб выніках паходу караля Польшчы і Венгрыі Людовіка на Валынь у 1377 г. паведамляецца ў яго лісце, надрукаваным: Halecki O. Przyczynki genealogiczne do dziejów układu krewskiego // Miesięcznik Heraldyczny. XIV. 1935. S. 102, przyp. 28.

[197] Vetera Monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia / Ed. A. Theiner. Rome, 1860. Vol. 1. № 691.

не мела наступстваў. У сваю чаргу Альгерд спрабаваў нейтралізаваць пагрозу з боку Тэўтонскага ордэна, у 1358 г. звярнуўшыся да імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Карла IV з выказам гатоўнасці прыняць каталіцкае хрышчэнне. Паводле Германа з Вартберга, імператар для высвятлення пытання прыслаў сваіх пасланцаў. Ім пры літоўскім двары была выказана прапанова перавесці Ордэн з Прыбалтыкі на стэпавае памежжа з Ардой[198]. Шчырасць гэтай спробы далучыць Літву да каталіцкага свету выклікае сумненні: пытанне хрышчэння было прэрагатывай папы, а не імператара, ды і ўмовы Альгерда выглядалі заведама непрымальнымі. Хутчэй здаецца, што Альгерд проста імкнуўся ўцягнуць Захад у перамовы, каб тым часам свабодна праводзіць экспансію на Русі. Не выпадкова адной з умоў, выказаных пасланцам імператара, было прызнанне Захадам таго, каб «уся Русь цалкам належала Літве».

Якраз у гэты час перспектыва такога развіцця падзей выглядала асабліва рэальнай. У сярэдзіне XIV стагоддзя па Еўропе пракацілася катастрафічная эпідэмія чумы. Залатая Арда, відаць, пацярпела ад яе вельмі моцна. Да таго ж там пачаўся працэс палітычнай дэцэнтралізацыі і барацьбы за ўладу[199]. Карыстаючыся гэтым, Альгерд у 1350-я гг. падпарадкаваў сабе Бранскае, Чарнігава-Северскае княствы і заходнюю частку Смаленскага (Таропец, Оршу, Мсціслаў)[200]. З гэтага часу ўся тэрыторыя сённяшняй Беларусі апынулася ў складзе ВКЛ. У 1363 г. Альгерд перамог татар у бітве на Сініх Водах (у сучаснай Украіне), пасля чаго пад кантроль ВКЛ адышло парэчча Днястра і Паўднёвага Буга[201]. Неўзабаве Альгерд уладкаваў свайго сына Уладзіміра ў Кіеве[202]. Праўда, уключэнне ў склад ВКЛ большай часткі тэрыторыі сённяшняй Украіны не прывяло да яе поўнага пазбаўлення ад ардынскай даніны. Літоўскія і нават польскія князі, якія валодалі Падоллем, Валынню, Кіеўшчынай і Чарнігава-Севершчынай, працягвалі выплочваць Залатой Ардзе «выхад» са сваіх уладанняў яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў[203].

У такіх умовах стасункі з праваслаўнай царквой былі больш важнымі, чым з каталіцкай. У 1352 г. Альгерд прызнаў мітрапалітам абранага насуперак кананічным патрабаванням манаха Феадарыта, што выклікала нараканне патрыярха[204]. У 1355 г. іншы стаўленік Альгерда, Раман, быў абраны мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі (насуперак таму, што іншы мітрапаліт, Алексій, знаходзіўся ў Маскве), але праз год патрыяршы сабор удакладніў падзел Русі на дзве мітраполіі. Для Рамана была афіцыйна адноўлена мітраполія Літоўская і Малой Русі (на землях ВКЛ і Галіччыны, з цэнтрам у Навагародку і падпарадкаваннем Тураўскага, Полацкага і ўсіх галіцка-валынскіх епіскапстваў)[205]. Далучэнне да ВКЛ Бранскага княства каля 1359 г. суправаджалася перадачай Бранскага епіскапства ў падпарадкаванне Літоўскай мітраполіі, прытым абодва мітрапаліты вялі напружаную барацьбу за Кіеў, што адпавядала спробам Альгерда якраз у гэты час палітычна падпарадкаваць яго сваёй уладзе (падчас свайго візіту ў Кіеўскую епархію Алексій быў схоплены людзьмі Альгерда і ледзь выратаваўся). Але пасля смерці Рамана ў 1361 г. патрыярх пад націскам маскоўскага

---

198 Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. P. 79.

199 Егоров В.Л. Золотая Орда перед Куликовской битвой // Куликовская битва. М., 1980. С. 178—196.

200 Аналіз летапісных паведамленняў пра экспансію Альгерда на Русі гл.: Черепнин Л.В. Образование Русского централизованного государства в XIV—XV вв. М., 1960. С. 539—542.

201 Упамінанне пра гэтую бітву змяшчаюць Рагожскі і Ніканаўскі летапісы: «Тое же осени Олгерд Синю Воду и Белобрежие повоева» (ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. С. 75; ПСРЛ. Т. 11. М.; Л., 1949. С. 2). Больш падрабязны расказ, але без даты, прыводзіць Хроніка Быхаўца: Беларускія летапісы і хронікі. С. 94—95.

202 Паводле Густынскага летапісу, у 1363 г. Альгерд «Киев под Федором-князем взят и посади в нем Володымера сына своего»: ПСРЛ. Т. 2. 1-е изд. СПб., 1843. С. 350. У актавых крыніцах Уладзімір Кіеўскі ўпамінаецца з 1367 г.: Liv-, Est- und Curlandisches Urkundenbuch. Bd. 2. № 1041.

203 Грамоти XIV ст. Київ, 1974. № 24, 58. Гл. таксама: Флоря Б.Н. Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле // Куликовская битва. С. 146—147.

204 Acta Patriarchatus Constantinopolitani. T. 1. P. 350.

205 Там жа. P. 425—433.

мітрапаліта скасаваў падзел Русі на дзве мітраполіі. Альгерд настойліва спрабаваў аднавіць яго, аб чым вёў перапіску з патрыярхам з 1368 па 1373 гг. Нарэшце ў канцы 1375 г. прыхільнік Альгерда, балгарын Кіпрыян, зноў стаў мітрапалітам кіеўскім і літоўскім[206].

Познія крыніцы прыпісвалі хрышчэнне ў праваслаўе самому Альгерду. Ён фігуруе ў памінальным спісе праваслаўных князёў — Кіева-Пячэрскім пацерыку, распачатым у 1483 г., у якасці «кн. великого Ольгерда, нареченого в хрещении Дмитрием»[207]. Чудаўская аповесць царкоўнага паходжання (створаная ў канцы XV ст.) сцвярджала, нібыта перад смерцю Альгерд па просьбе жонкі прыняў праваслаўнае хрышчэнне і нават пастрыжэнне ў манахі, што было паўторана затым «Сказаннем аб князях Уладзімірскіх» у міфічным радаводзе літоўскай пануючай дынастыі[208]. Але летапісы, паведамляючы пра смерць Альгерда пад 1377 г., не пацвярджаюць гэтую звестку. Тыпаграфскі летапіс выразна адзначае, што Альгерд памёр як «зловерный, безбожный и нечестивый»[209]. Герман з Вартберга, а за ім Ян Длугаш апісваюць пахаванне Альгерда паводле паганскага рытуалу, што не магло адбыцца ў выпадку яго перадсмяротнага хрышчэння[210]. Магчыма, версія пра хрышчэнне Альгерда нарадзілася ў Цвярскім княстве, якое было саюзнікам Альгерда і адкуль паходзіла яго другая жонка — Ульяна. Але самы факт нараджэння гэтай версіі сведчыць, што аб'яднальная дзейнасць літоўскага князя, прынамсі, на частцы Русі ўспрымалася станоўча і выклікала ідэалізацыю ўспамінаў пра яго.

Гэтая дзейнасць фактычна спынілася на канцы жыцця Альгерда, сутыкнуўшыся з іншым аб'яднальным цэнтрам — ва Уладзіміра-Суздальскай зямлі. За ролю лідара там доўга змагаліся Масква і Цвер, аднак да сярэдзіны XIV ст. намецілася перавага Масквы. У 1350-я гг. адбывалася барацьба ВКЛ з Масквой за кантроль над Псковам і Ноўгарадам[211]. Альгерд абапіраўся на незадаволеных цвярскіх князёў, заключыў таксама саюз з Ардой і паспрабаваў нанесці Маскве ваеннае паражэнне. Аднак ён сутыкнуўся з моцным патрыятычным рухам масквічоў, якія аказалі рашучае супраціўленне. Тры паходы Альгерда на Маскву (у 1368, 1370 і 1372 гг.) аказаліся безвыніковымі[212].

Тэрыторыя ВКЛ у гэты час дасягнула плошчы ў 630 тыс. кв. км, што прывяло да паніжэння долі этнічна балцкіх і змешаных зямель да 16 %. На тэрыторыю сучаснай Летувы (65 тыс. кв. км) прыпадала ўвогуле крыху больш за 10 %, на тэрыторыю Беларусі — каля 1/3 агульнай плошчы дзяржавы. Кантроль за такой вялізнай тэрыторыяй быў эфектыўным толькі пры ўмове пэўнай дэцэнтралізацыі, і тут узорам паслужыла ўдзельная сістэма Русі. Апрача ўладанняў Кейстута, Альгерд раздаў шматлікім родзічам удзелы, унутры якіх яны карысталіся значнай самастойнасцю. У канцы яго панавання ўдзеламі валодалі, паводле прамых і ўскосных звестак, яго сыны Андрэй (Полацкае княства), Дзмітрый (Бранскае і Трубчэўскае), Уладзімір (Кіеўскае), Канстанцін (верагодна, Чарнігаўскае), Фёдар (Ратненскае), Ягайла (Віцебскае, Крэўскае). Крыху пазней удзелы атрымалі Дзмітрый-Карыбут (Ноўгарад-Северскае княства) і Казімір-Карыгайла (Мсціслаўскае). Статус удзельных князёў мелі сыны Кейстута Вітаўт (Гарадзенскае, Берасцейска-Падляшскае княствы) і,

---

[206] Голубинский Е. История Русской церкви. Т. 2. С. 190—193, 206—211, 232—235, 249; Мейендорф И. Византия и Московская Русь. Париж, 1990. С. 204.

[207] Голубев С. Древний помяник Киево-Печерской Лавры (конца XV и начала XVI столетия) // Чтения в Историческом обществе Нестора Летописца. К., 1891. Кн. 6. Приложения. С. 6.

[208] ПСРЛ. Т. 17. Западнорусские летописи. СПб., 1907. С. 591—592; Дмитриева Р.П. Сказание о князьях владимирских. М.; Л., 1955. С. 203—204. Гл. таксама: Бычкова М.Е. Отдельные моменты истории Литвы в интерпретации русских генеалогических источников XVI в. // Польша и Русь. С. 371.

[209] ПСРЛ. Т. 24. Типографская летопись. Пг., 1924.

[210] Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. P. 113. Гл. таксама: Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959. С. 86; Длугош Я. Грюнвальдская битва. С. 12.

[211] Псковские летописи. Вып. 2. С. 25—27; НПЛ. С. 349, 375; ПСРЛ. Т. 10. С. 220.

[212] Черепнин Л.В. Образование Русского централизованного государства… С. 562—575; Флоря Б.Н. Литва и Русь… С. 152—155.

верагодна, Войдат (Новагародскае), брат Альгерда Любарт-Дзмітрый (Уладзіміра-Валынскае і Луцкае), пляменнікі Юрый і Аляксандр Карыятавічы (Падольскае), Юрый Нарымонтавіч (Белзскае), верагодна — Міхаіл Нарымонтавіч (Пінскае) і Міхаіл Яўнуцьевіч (Заслаўскае), а таксама прадстаўнікі старажытных літоўскіх (Гальшанскія, Свірскія, Гедройцы) і рускіх родаў (Астрожскія, Друцкія, Чацвярцінскія і інш.).

Сам Альгерд кантраляваў 10—15 % тэрыторыі дзяржавы, Кейстут — прыкладна столькі ж. На гэтым абшары, які ахопліваў пераважна вадазбор Верхняга і Сярэдняга Нёмана і меў плошчу блізка да 100 тыс. кв. км, не рабілася адрозненняў у адміністрацыйным падзеле альбо прававым статусе паміж этнічна беларускай і літоўскай часткамі, якія мелі прыкладна роўную вагу — да 50 тыс кв. км кожная. Верагодна, у такой жа прапорцыі падзялялася і войска, якое мелася ў распараджэнні вялікіх князёў у звычайных умовах (без склікання ўсеагульнага апалчэння).

## На шляху да Крэва

Імклівыя тэрытарыяльныя набыцці значна пашырылі моц дзяржавы, але адначасова парушылі раўнавагу паміж этнічна літоўскім і рускім яе кампанентамі. Літоўскія князі, якія атрымалі ўдзелы ў рускіх землях, у большасці прынялі праваслаўе і пачалі аддаваць перавагу мясцовым інтарэсам перад агульнадзяржаўнымі. Многія прадстаўнікі трэцяга пакалення Гедымінавічаў вядомыя толькі пад хрысціянскімі імёнамі: Андрэй, Дзмітрый, Уладзімір, Канстанцін і Фёдар Альгердавічы (прыналежнасць Канстанціна да ліку сыноў Альгерда часам ставіцца пад сумненне); Юрый, Патрыкей, Аляксандр і Міхаіл Нарымонтавічы (факт існавання двух апошніх таксама няпэўны); Юрый, Аляксандр, Канстанцін і Фёдар Карыятавічы; Фёдар, Лазар і Сямён Любартавічы; Міхаіл і Сямён Яўнуцьевічы[213]. Паведамляючы пад 1431 г. пра смерць Фёдара (Фядушкі) Любартавіча, Ян Длугаш называе яго «русінам»[214].

Андрэй Альгердавіч у якасці ўладара Полацкай зямлі дзейнічаў пераважна ў яе інтарэсах і амаль не прымаў удзелу ў агульнадзяржаўных акцыях. Калі ж у 1375 г. яго войска разам з «літоўскім каралём» Кейстутам зрабіла набег пад Дзюнабург, там загінулі «двое рускіх — адзін з імя Андрэй, сын аднаго вялікага баярына з Віцебска, які трымаў сябе як кароль, другі ж — вялікі баярын з Полацка Радэке, са світы караля»[215]. Апошні з іх, мяркуючы з імя, мог мець і літоўскае паходжанне, але ў любым выпадку быў праваслаўным.

Крыху пазней у дакуменце, складзеным у Тэўтонскім ордэне ў 1409 г. з мэтай скампраметаваць у вачах Захаду палітыку Ягайлы, у палемічным запале нават сцвярджалася, што там, дзе сярод літоўскага этнасу (Litauwica lingua) адзін ахрышчаны паводле хрысціянскага (чытай — каталіцкага) абраду, знойдзецца добрая сотня ахрышчаных паводле «рутэнскага» абраду, прычым ёсць яны і сярод знаці[216]. Такая ацэнка, пры ўсім яе перабольшванні, мела пад сабой пэўныя падставы. Значная колькасць «рутэнаў» была ва Аўкштоце ўжо ў другой палове XIV ст. Хроніка Віганда з Марбурга пры апісанні крыжацкіх набегаў на землі паміж Нёманам і Віліяй у 1360—1380-я гг. паведамляе пра захоп у палон не толькі ліцвінаў-паганцаў, але і «рутэнаў» (у адным выпадку яны былі захоплены нават у ваколіцах Пастова на захад

[213] У хроніцы Быхаўца прыводзіцца паганскае імя Андрэя Вінгольт, але яму прыпісваецца не Полацкае, а Трубчэўскае княства. Увогуле пералік сыноў Альгерда ў гэтым тэксце недакладны, таму і звестка пра паганскае імя Андрэя можа быць пастаўлена пад сумненне. Звод звестак аб колькасці і парадку старшынства сыноў Альгерда гл.: Daniłowicz I. Skarbiec diplomatów... № 460. S. 224—226; Wolff J. Ród Gedymina. Kraków, 1886; Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Gedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999.

[214] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 202.

[215] Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края / Сост. Е.В. Чешихин-Ветринский. Т. II: Ливонская хроника Германа Вартберга. Рига, 1879.

[216] Codex epistolaris Vitoldi. Appendix IV. P. 972—1000.

ад р. Нявежы — гэта значыць, у Жамойці). Пад 1383 г. Віганд піша пра існаванне ў Вільні «абшчыны рутэнаў» (civitas Rutenica)[217]. У той час праваслаўнае насельніцтва там, напэўна, сапраўды стварала большасць, аб чым сведчаць сабраныя Е. Ахманьскім звесткі пра вялікую колькасць праваслаўных храмаў у Вільні канца XIV ст. (12 супраць 6 каталіцкіх касцёлаў)[218].

Пераходзілі ў праваслаўе некаторыя арыстакраты, родавыя вотчыны якіх знаходзіліся ў этнічнай Літве. Так, праваслаўным быў князь Іван Альгімонтавіч Гальшанскі (паплечнік Вітаўта ў 1380—1390-я гг.), вотчына якога, Гальшаны, знаходзілася хаця і на тэрыторыі сучаснай Беларусі, але ў старажытным арэале ўсходнелітоўскіх курганоў[219]. Колькасць «рутэнаў» у Літве пастаянна павялічвалася за кошт прытоку мігрантаў з Русі. У прывілеі Скіргайлу на Троцкае княства ў 1387 г. прыгадваецца ў складзе воласці Сольчнікі (сучасны Шальчынінкай) «село Иваново, што Андрей держал Борисович», а таксама «на Ваце село, што Борис держал», і асобная воласць, цэнтрам якой быў маёнтак Новае Сяло[220].

Уплыў рускай культуры адчуваўся ў розных сферах. Рускі надпіс «ПЕЧАТЬ» маюць першыя манеты ВКЛ, якія з'явіліся ў сярэдзіне ці другой палове XIV ст. (частка даследчыкаў схіляецца да датавання іх часам вялікага князя Альгерда і яго суправіцеля Кейстута)[221]. На пячатках Альгерда і Кейстута, якія выкарыстоўваліся ў 1360—1370-х гг., вядомы як лацінскія, так і рускія надпісы[222]. Пазней на пячатках князёў Гедымінавічаў пераважаюць лацінскія надпісы, але разам з тым пячаткамі з рускімі легендамі карысталіся ў 1380—1390-х гг. Карыбут і Лугвень Альгердавічы, Жыгімонт Кейстутавіч, Міхаіл Яўнуцьевіч, Іван Альгімонтавіч Гальшанскі[223], а таксама нават тыя баяры-літоўцы, якія неўзабаве стварылі асноўную апору новай дзяржаўнай палітыкі, накіраванай на інтэграцыю з каталіцкім светам і дыскрымінацыю праваслаўнага насельніцтва. На рускай мове высечаны надпісы на пячатках фаварыта Ягайлы — лідскага намесніка Вайдзілы (1380 г.), полацкага намесніка Мантыгерда (1396 г.), велікакняжацкага маршалка Чупурны Радзімавіча (1398 і 1410 г.), ковенскага намесніка Сунегайлы (1410 г.)[224].

Пасля радыкальнага пашырэння межаў дзяржавы на ўсход магчымасці для балансавання паміж дзвюма цывілізацыямі былі вычарпаны. Далейшая адмова вярхоўнай улады ад канчатковага выбару магла прывесці да таго, што выбар адбудзецца стыхійна, прытым ён мог адбыцца такім чынам толькі на карысць рускай культуры, з непазбежнай асіміляцыяй літоўскага пануючага слоя. Але перспектыва палітычна ўзначаліць рускую цывілізацыю (накшалт таго, як Македонія ў свой час узначаліла старажытнагрэчаскую) пасля рашучага адпору з боку Масквы ўжо не выглядала рэ-

[217] Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. P. 543, 559, 571, 579, 617. Адзначым, што П. Урбан, апрача гэтых фактаў, звяртае ўвагу на паведамленні С. Борнбаха, які ў XVI ст. пісаў пра паход 1391 г. «на Русь да Трокаў» (in Reussen vor Traken). На думку П. Урбана, гэтае паведамленне ён запазычыў з нямецкамоўнага, больш поўнага варыянта той жа хронікі Віганда, які да нас не дайшоў: Урбан П. Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвіноў. Мн., 1994. С. 94. Аднак больш верагодна, што тут і ў некаторых іншых месцах С. Борнбах вельмі вольна ставіўся да тэкстаў Віганда, замяняючы «Літву» на «Русь». У адным выпадку нават натуральная назва «Верхняя зямля Літвы» (Аўкштайція) у яго ператварылася ў загадкавую «Верхнюю Русь» (Oberland der Reussen).

[218] Ochmański J. Historia Litwy. 3-e wyd. Wrocław et al., 1990. S. 62 (mapa). Гл. таксама: Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1998. С. 90—91.

[219] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 95.

[220] Codex epistolariae saeculi decimi quinti. Vol. 1 // Monumenta medii aevi historica, res gestas Poloniae illustrantia. T. 2. Cracoviae, 1876. P. 9—10. Гл. таксама: Полоцкие грамоты XIII — начала XVI вв. / Сост. А.Л. Хорошкевич. М., 1977. № 10. С. 50—54.

[221] Даркевич В.П., Соболева Н.А. О датировке литовских монет с надписью «ПЕЧАТЬ» (по материалам Шанчайского клада) // Советская археология. 1973. № 1. С. 83—95.

[222] Gumowski M. Pieczęcie książąt litewskich // Ateneum Wileńskie. T. 7. 1930. S. 702—703, 709—710.

[223] Там жа. S. 696—697, 702—705, 708.

[224] Semkowicz W. Braterstwo szlachty polskiey z bojarstwem litewskim w unii horodelskiej 1413 roku // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Kraków, 1914. S. 410—412.

альнай. А калі размова ішла пра далучэнне да адной з цывілізацый на больш сціплых умовах, то ў Захаду на той час былі ўжо відавочныя перавагі. Да другой паловы XIV ст., у параўнанні з сярэдзінай папярэдняга стагоддзя, ён прасунуўся далёка наперад у сваім культурным развіцці. Ні Візантыя, якая ўвесь гэты час балансавала на грані выжывання і паволі страціла значныя тэрыторыі на карысць маладой дзяржавы туркаў-асманаў, ні Русь, развіццё якой пасля татарскага нашэсця зусім спынілася, не маглі пахваліцца такімі дасягненнямі. Да таго ж рызыка гвалтоўнага хрышчэння з боку Тэўтонскага ордэна значна паменшылася (у гэтым сэнсе ўзмацненне ВКЛ за кошт усходніх тэрыторый было відавочным плюсам). Нарэшце, за гэты час з той жа Русі былі запазычаны недастаючыя элементы дзяржаўнай структуры, якіх бракавала ў часы Міндоўга, і гэта дазваляла будаваць партнёрства з каталіцкімі дзяржавамі на больш роўных умовах.

Галоўная складанасць заключалася ў тым, што канчатковы выбар на карысць каталіцтва азначаў адмову ад традыцыйнай верацярпімасці, ліквідацыю не толькі літоўскага паганства (час якога відавочна сышоў і якое падтрымлівалася штучна), але і раўнапраўя праваслаўнай большасці. Без пагрозлівага росту ўнутранай напружанасці такі паварот не мог адбыцца. Магчыма, таму Альгерд працягваў тактыку балансавання да канца свайго жыцця, дазваляючы існаванне ў сваім атачэнні прыхільнікаў абодвух шляхоў развіцця, за якімі стаялі адпаведныя часткі грамадства.

«Празаходная партыя» групавалася вакол маладых сыноў Альгерда ад другога шлюбу, перш за ўсё — Ягайлы і Скіргайлы. Асноўную яе сілу, напэўна, стваралі гандлёва-рамесніцкія вярхі Вільні, пазней узначаленыя купцом Ганулам (рыжскім немцам па паходжанні)[225], разам з велікакняжацкім баярствам аўкштоцкіх каранёў. Магчыма, адным з натхніцеляў новай палітыкі быў Вайдзіла — слуга, а потым фаварыт Альгерда, які, паводле беларуска-літоўскіх летапісаў, зрабіў імклівую кар'еру, стаўшы намеснікам Ліды, а пазней — нават шваграм Ягайлы, які аддаў за яго сваю сястру.

Памкненні гэтай групоўкі стрымліваліся пры жыцці Альгерда, аднак пасля яго смерці ў 1377 г. вярхоўная ўлада ў абыход старэйшых братоў перайшла да Ягайлы, што яўна было вынікам перамогі ва ўнутранай барацьбе. Адразу ж некаторыя ўдзельныя князі пачалі адкладацца ад ВКЛ. Увосень таго ж года адзін са старэйшых Альгердавічаў, Фёдар Ратненскі, прынёс ленную прысягу каралю Польшчы і Венгрыі Людовіку Анжуйскаму, пазначаючы пры гэтым, што лічыць за сабой больш правоў на ўладу, чым за Ягайлам[226]. Зімой 1377/78 г. верагодны правадыр «рускай партыі», Андрэй Полацкі, з'ехаў спачатку ў Пскоў, а потым — у Маскву[227]. Праз год пад вярхавенства Масквы перайшоў Дзмітрый Альгердавіч Бранскі[228]. Уладзімір Кіеўскі, верагодна, аддаўся пад пратэктарат Арды, бо пачаў выпускаць уласныя манеты з выявай татарскай тамгі[229]. Тым часам у 1378 г. Скіргайла зрабіў дыпламатычны вояж у Еўропу, дзе вёў перамовы аб магчымым хрышчэнні Літвы ў каталіцтва і шукаў падтрымкі ў барацьбе з маскоўскімі (а магчыма, і ўнутранымі) «схізматыкамі»[230].

Узрастанне ўнутранай напружанасці прывяло да паралічу ўсходняй палітыкі ВКЛ у вельмі адказны момант. У 1380 г. Ягайла, будучы саюзнікам уладара Залатой Арды Мамая, ухіліўся ад удзелу на яго баку ў Кулікоўскай бітве[231] (магчыма, з-за ненадзейнасці свайго войска[232]), што ў значнай ступені вызначыла разгром Мамая Дзмітрыем Данскім. Улічваючы, што сілы маскоўскага і татарскага войскаў

[225] Semkowicz W. Hanul, namiestnik wileński (1382—1387) i jego ród // Ateneun Wileński. T. 7. 1930. S. 1—20; Polski słownik biograficzny. Wrocław et al., 1961. T. 9. S. 284.
[226] Halecki O. Przyczynek genealogiczny... S. 102, przyp. 28.
[227] НПЛ. С. 375; Псковские летописи. Вып. 1. М.; Л., 1941. С. 24.
[228] ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. С. 138.
[229] Gumowski M. Numizmatyka litewska wieków średnich. Kraków, 1920. S. 68.
[230] Аб місіі Скіргайлы гл.: Smolka S. Kejstut i Jagiełło // Pamiętnik Akademii Umiejętności. Kraków, 1889. T. 7. S. 89—98. Гл. таксама: Флоря Б.Н. Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле. С. 156—157.
[231] ПСРЛ. Т. 15. Вып. 1. С. 139; Повести о Куликовской битве. М., 1959. С. 30, 38, 58.
[232] Флоря Б.Н. Литва и Русь перед битвой на Куликовом поле. С. 172—173.

у Кулікоўскай бітве былі амаль роўныя (гэтым тлумачацца вельмі цяжкія страты пераможцаў), можна не сумнявацца, што сумесныя сілы Ягайлы і Мамая мелі б вялікую перавагу. Такім чынам, спазненне войска ВКЛ на бітву прывяло да страты рэальнага шанцу ліквідаваць маскоўскі аб'яднальны цэнтр і забяспечыць поўную перавагу ВКЛ у арэале старажытнарускай цывілізацыі. Замест таго два цэнтры прыцягнення захаваліся. Канкурэнцыя паміж імі ў далейшым вызначала палітычную атмасферу і ход этнічных працэсаў ва Усходняй Еўропе на працягу некалькіх стагоддзяў. Не былі прыняты ніякія меры і для захавання самастойнай Літоўскай мітраполіі, калі мітрапаліт кіеўскі і літоўскі Кіпрыян пасля смерці мітрапаліта маскоўскага Аляксея стаў адзіным мітрапалітам усяе Русі і вясной 1381 г. пераехаў у Маскву[233]. Такая палітыка Ягайлы і яго прыхільнікаў, магчыма, тлумачылася не толькі ўнутраным супраціўленнем, але і расчараваннем у перспектывах далейшай усходняй экспансіі.

Зварот новых віленскіх уладароў да заходняга вектара закранаў інтарэсы старога Кейстута, які пры жыцці Альгерда «спецыялізаваўся» на заходняй палітыцы. Яго незадаволенасць яшчэ больш распальвалі інтрыгі Тэўтонскага ордэна, які ў 1380 г. заключыў сепаратнае пагадненне з Ягайлам, аб'ектыўна накіраванае супраць Кейстута[234]. Вынікам стала ўсобіца паміж Кейстутам і Ягайлам у 1381—1382 гг., у ходзе якой Кейстут спачатку змясціў Ягайлу і пакараў смерцю Вайдзілу, але потым загінуў сам. Сын яго Вітаўт цудам пазбег смерці і ўцёк у Прусію. Пераможцы Ягайла і Скіргайла з іх галоўным дарадцам Ганулам за падтрымку, аказаную крыжакамі, вымушаны былі восенню 1382 г. падпісаць шэраг пагадненняў з Тэўтонскім ордэнам і абавязаліся ў чатырохгадовы тэрмін прыняць каталіцтва[235]. Гэта сведчыць, што канчатковы выбар быў ужо фактычна зроблены, хаця і не аформлены.

Становішча ў краіне заставалася вельмі напружаным. Падчас усобіцы Андрэй Альгердавіч, відаць, аднавіў кантроль над Полацкам. Грозную небяспеку ўяўляў сабой і Вітаўт, які з братамі Таўцівілам і Жыгімонтам аддаўся пад апеку Тэўтонскага ордэна і з яго вайсковай дапамогай у 1383 г. распачаў набегі на Літву. Са старэйшых братоў Ягайлы яго падтрымліваў, відаць, толькі Канстанцін, які ў 1383 г. разам з ім вёў перамовы з ордэнам[236].

У такіх умовах партыя, узначаленая Ягайлам, знайшла моцнага саюзніка ў польскай магнатэрыі, якая якраз у гэты час шукала аптымальны варыянт вырашэння дынастычнай праблемы. Папярэдні кароль Польшчы і Венгрыі Людовік Анжуйскі памёр у 1382 г., пакінуўшы дзвюх незамужніх дачок. Пры яго жыцці былі дасягнуты пагадненні аб тым, што абедзве дачкі будуць абвенчаны з германскімі прынцамі (адпаведна з дынастый Люксембургаў і Габсбургаў), якія і павінны былі стаць каралямі Польшчы і Венгрыі. Сярод польскай знаці былі свае разлікі, і для часткі яе дынастычны шлюб з Ягайлам здаўся больш прывабным, чым з'яўленне на пасадзе караля нямецкага паходжання. Відавочна, што ў саюзе з Германіяй Польшча магла быць толькі вядомай, а ў саюзе з ВКЛ — вядучай сілай.

Што да ВКЛ, то набыццё тых атрыбутаў цывілізацыі, якіх яшчэ не хапала, праз пасрэдніцтва заходняга суседа мела як свае перавагі, так і недахопы. Пэўнае абмежаванне дзяржаўнага суверэнітэту, звязанае з уніяй, амаль непазбежна стварала тэндэнцыю да паланізацыі пануючага кола — гэтак жа, як уключэнне Чэхіі ў склад Свяшчэннай Рымскай імперыі прывяло ўрэшце рэшт да асіміляцыі і частковай замены мясцовай знаці на нямецкую. У той жа Польшчы, якая ў працэсе хрысціянізацыі захавала статус самастойнай дзяржавы, такія тэндэнцыі былі значна слабейшымі.

---

[233] Греков И.Б. Место Куликовской битвы в политической жизни Восточной Европы конца XIV в. // Куликовская битва. С. 135.

[234] Daniłowicz I. Skarbiec diplomatów... № 467, 470. Гл. таксама: Smolka S. Kejstut i Jagiełło. S. 108—136; Prochaska A. Dzieje Witolda W. księcia Litwy. Wilno, 1914. S. 32—34.

[235] Беларускія летапісы і хронікі. С. 47—68; Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. P. 611—617; Daniłowicz I. Skarbiec diplomatów... № 474—482.

[236] Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 3. P. 127—129; Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae (1376—1430). Cracoviae, 1882. № 13—15; Daniłowicz I. Skarbiec diplomatów... № 483—495.

Але ў канкрэтнай палітычнай сітуацыі асабівага выбару ў Ягайлы, здаецца, не было. Спроба ўвесці каталіцтва без моцнай падтрымкі звонку магла прывесці да страты ўлады, у той час як курс на збліжэнне з Польшчай дазволіў яму летам 1384 г. прымірыцца з найбольш небяспечным супернікам — Вітаўтам, які вярнуўся ў ВКЛ і зноў атрымаў Горадна, Берасце і Падляшша. На пачатку 1385 г. літоўскія паслы выехалі ў Польшчу для абмеркавання ўмоў дынастычнай уніі праз шлюб Ягайлы з юнай каралевай Ядвігай Анжуйскай. Адчуваючы складанасць унутрыпалітычнага становішча Ягайлы і яго прыхільнікаў, польскі бок высунуў вельмі жорсткія ўмовы — аб фактычным уключэнні ВКЛ у склад Польшчы[237]. Тым не менш гэтыя ўмовы былі прынятыя. Унія была заключана ў Крэве 14 жніўня 1385 г. Ягайлам, Скіргайлам, Карыбутам і Лугвенем Альгердавічамі разам з Вітаўтам[238], даючы пачатак якасна новаму этапу гісторыі ВКЛ.

## Значэнне Крэўскай уніі

Выкананне ўмоў, падпісаных у Крэве, на працягу двух наступных гадоў прывяло да ўвядзення каталіцтва ў якасці афіцыйнай рэлігіі ВКЛ, абрання Ягайлы каралём Польшчы і ператварэння яго ў кіраўніка аб'яднанай дзяржавы. Праўда, фактычнае скасаванне дзяржаўнасці ВКЛ, прадугледжанае ўмовамі уніі, не было рэалізавана дзякуючы супраціўленню літоўскай знаці, выразнікам інтарэсаў якой стаў Вітаўт. Галоўным фактарам яго поспеху было тое, што Вітаўт выступаў адначасова за захаванне дзяржаўнасці і прыняцце заходняй мадэлі развіцця. Усе прыхільнікі іншага курсу (Андрэй Альгердавіч, Карыятавічы, смаленскі князь Святаслаў) неўзабаве пацярпелі паражэнне і альбо загінулі, альбо перасталі адыграваць самастойную палітычную ролю.

Наступны працэс інтэграцыі з Захадам быў павольным і цяжкім, завяршыўся ён у асноўным у другой палове XVI стагоддзя. Агульны абрыс крокаў Літвы па гэтым шляху прапанаваў Э. Гудавічус[239], і з яго інтэрпрэтацыяй можна ў цэлым пагадзіцца. З гэтага часу ўсходняя мяжа ВКЛ можа фармальна разглядацца як мяжа заходняй цывілізацыі.

Але нельга забывацца на двухэтнічны характар дзяржавы. Рашэнне, прынятае кіруючым колам у канцы XIV ст., мела для літоўскай і рускай частак істотна розны сэнс. Першай з іх давялося канчаткова далучыцца да цывілізацыі, а другой — мяняць адну цывілізацыю на іншую. На гэтым шляху былі і набыткі, і страты. Ацэнка іх не можа не быць суб'ектыўнай, бо абсалютных крытэрыяў у такім пытанні няма. Як вядома, той частцы ўсходнеславянскага насельніцтва, што пазбегла ўключэння ў склад ВКЛ і ўрэшце рэшт трапіла ў поле дзеяння маскоўскага аб'яднальнага цэнтра, давялося прыняць удзел у фарміраванні сучаснай Расіі — буйнейшай краіны свету з глыбока спецыфічнымі рысамі культуры. Вартасці і недахопы яе таксама застаюцца прадметам дыскусій. Несумненна адно: пры альтэрнатыўным развіцці падзей тэрыторыя сучаснай Беларусі ўтварыла б такую ж арганічную частку Расіі, як гэта адбылося, напрыклад, з Наўгародскай зямлёй, дзе таксама меліся перадумовы для ўтварэння самастойнага этнасу. Такім чынам, Крэўскую унію трэба разглядаць як адзін з найважнейшых фактараў этнагенезу беларусаў — умову, без якой не адбылося б узнікненне іх нацыі.

Унія паставіла этнагенез беларусаў ва ўмовы пастаяннай адаптацыі (ці адмаўлення) уздзеянняў з двух бакоў. Пры гэтым асноўная колькасць інавацый паступала з захаду,

---

[237] Łowmiański H. Wcielenie Litwy do Polski w 1386 roku // Lituano-Slavica Posnaniensia. T. 2. Poznań, 1987. S. 41—67, 90 (przyp. 228).

[238] Acta unii Polski z Litwą 1385—1791 / Wyd. S. Kutrzeba i W. Semkowicz. Kraków, 1932. № 1. Агляд апошніх меркаванняў наконт аўтэнтычнасці гэтага дакумента гл.: Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawnejszych do współczesności. Poznań, 1998. S. 252—267.

[239] Gudavičius E. Lithuania's road to Europe // Lithuanian Historical Studies. Vol. 2. 1997. P. 15—27.

надаючы беларускай культуры значна большы еўрапейскі каларыт у параўнанні з расейскай. У гарадской і шляхецкай культуры заходнія рысы распаўсюджваліся па ўсёй тэрыторыі ВКЛ, але сялянства ўспрымала іх значна павольней. Таму ў пэўным сэнсе рубеж заходняй цывілізацыі нават у канцы XVI ст. праходзіў не па мяжы з Расіяй, а непасрэдна па тэрыторыі ВКЛ, недзе ўздоўж Бярэзіны і Пцічы. Тэрыторыя далей на ўсход не выпадкова захавала назву «Русь» у якасці рэгіянальнай[240]. Яе культурная асаблівасць (на вясковым узроўні) захавалася і ў далейшым, яна выразна адчувалася ў час Расійскай імперыі.

Канкрэтным шляхам далучэння праваслаўнага насельніцтва ВКЛ да заходняй цывілізацыі стала царкоўная унія ў форме падпарадкавання мясцовай царкоўнай іерархіі рымскаму папе. Не выпадкова праекты такога кшталту пачалі ўзнікаць неўзабаве пасля хрышчэння Літвы ў каталіцтва. Фармальная рэалізацыя была дасягнута ў 1596 г. праз Берасцейскую царкоўную унію, а фактычна яна расцягнулася яшчэ на стагоддзе.

Важным наступствам Крэўскай уніі і таго, якім шляхам яна была здзейснена, сталася фарміраванне новага пануючага кола — шляхты і асабліва магнатэрыі — на пераважна літоўскай этнічнай аснове. Пераход да феадальнай структуры грамадства, пры якой ваенна-служылае саслоўе забяспечвалася галоўным чынам за кошт даходаў з уласных маёнткаў, распачаўся неўзабаве пасля уніі і ў асноўным адбыўся да сярэдзіны XV ст. Найбольш буйныя падараванні і важнейшыя пасады даставаліся ў гэты час панам каталіцкага паходжання, амаль усе яны былі нашчадкамі літоўскага баярства часоў Альгерда. Так, вышэйшую ў свецкай дзяржаўнай іерархіі пасаду віленскага ваяводы з моманту яе ўвядзення ў 1413 г. і на працягу двух наступных стагоддзяў (да 1616 г.) займалі 15 асоб, якія належалі да 5 альбо 6 родаў. З іх толькі этнічнае паходжанне продкаў Я. Глябовіча, які быў віленскім ваяводам з 1542 па 1549 г., можа выклікаць сумненні. Усе ж астатнія (Манівіды, Даўгірды, Гаштаўты, Кезгайлы, Радзівілы і іх адгалінаванне Судзімонты) мелі літоўскае паходжанне. На другой па значэнні пасадзе віленскага кашталяна з 1413 па 1511 г. пабывалі 10 прадстаўнікоў усё тых жа пяці родаў і яшчэ аднаго, таксама літоўскага — князёў Гальшанскіх. Аналагічная карціна назіраецца і ў адносінах да пасад троцкага ваяводы і кашталяна (трэцяй і чацвёртай у іерархіі)[241]. Ураўнаванне ў правах шляхты літоўскага і рускага паходжання адбылося толькі ў сярэдзіне XVI ст., калі ва ўмовах Рэфармацыі этнічнае паходжанне страціла рэальнае значэнне.

Такім чынам, унія не проста распачала працэс фарміравання самастойнага беларускага этнасу, але стала прычынай таго, што гэты працэс адбываўся ва ўмовах культурнай і часткова сацыяльнай дыскрымінацыі. Гэта істотна паўплывала на характар беларускай нацыянальнай свядомасці, у тым ліку на яе параўнальна слабую выражанасць. Тым не менш продкі беларусаў унеслі вялізны ўклад у фарміраванне агульнадзяржаўнай культуры ВКЛ, што дазваляла ім нават пры ўмове нераўнапраўя рэлігій успрымаць дзяржаву як сваю.

Яшчэ адным новым фактарам, які прынесла з сабой Крэўская унія, стаў пачатак пранікнення з тэрыторыі Польшчы яўрэйскага насельніцтва, якое канцэнтравалася пераважна ў гарадах і мястэчках. Культурныя і эканамічныя кантакты з яўрэямі на працягу наступных стагоддзяў былі вельмі істотнымі для фарміравання беларускай нацыянальнай культуры.

Для літоўскага этнічнага кампанента ВКЛ унія таксама мела выключна важныя наступствы. Ужо ў 1387 г. распачалася замена архаічнай язычніцкай рэлігіі літоўцаў на каталіцтва. У выніку паміж літоўцамі і рускімі ўзнік трывалы канфесійны бар'ер, які значна паменшыў магчымасць русіфікацыі літоўскага сялянства. Без гэтага далейшае складванне літоўскай нацыі таксама не магло б адбыцца. Затое паміж знаццю

[240] Насевіч В., Спірыдонаў М. «Русь» у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст. // З глыбі вякоў: Наш край: Гіст.-культуралаг. зб. Вып. 1. Мн., 1996. С. 4—27.

[241] Насевіч В.Л. Генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў 12—18 стагоддзяў. Мн., 1993.

этнічнай Літвы і Польшчы такога бар’ера больш не існавала, што стварыла перадумовы для паланізацыі палітычнай эліты. Гэты працэс ішоў няўхільна на працягу трох наступных стагоддзяў, з другой паловы XVI ст. да яго далучылася і паланізацыя шляхты беларускага паходжання. Таму далейшае этнічнае развіццё літоўцаў, як і беларусаў, ішло ва ўмовах іншамоўнасці і частковай іншакультурнасці палітычнай і сацыяльнай эліты. Можна сцвярджаць, што спадзяванні літоўскага кампанента на перавагі ад саюзу з Польшчай спраўдзіліся толькі часткова, гэтак жа як толькі часткова спраўдзіліся больш раннія спадзяванні рускіх княстваў Панямоння на перавагі ад саюзу з Літвой.

Тэкст быў напісаны ў 2000 г. і перапрацаваны ў 2004 г. для 2-га тома акадэмічнага выдання «Гісторыя Беларусі». Аднак у томе, які выйшаў нарэшце ў 2008 г., быў надрукаваны першапачатковы варыянт: Насевіч В. Непасрэдныя перадумовы фарміравання Вялікага Княства Літоўскага. Дзейнасць першых вялікіх князёў літоўскіх і рускіх. Роля беларускіх зямель ва ўтварэнні і ўмацаванні ВКЛ // Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага / Рэд. кал.: М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. Мінск, 2008. С. 60—96.
Дадзены варыянт адпавядае таму, які хацеў бы бачыць у друку аўтар.

# Наваградчына ў палітычных падзеях XIII ст.

Наваградак у старажытных летапісах і іншых крыніцах называецца часцей за ўсё «Новгородок», часам «Новогородок» ці «Новгород». Блізкасць гэтай назвы да назвы Вялікага Ноўгарада стварае праблему для даследчыкаў, бо не заўсёды зразумела, аб якім горадзе — Ноўгарадзе ці Наваградку — ідзе гаворка. У перыяд да мангольскага нашэсця на Русь і пачатку ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) Іпацьеўскі летапіс прыводзіць дзве звесткі, якія яўна тычацца Наваградка (у далейшым мы будзем ужываць старажытную назву — «Новагародок»).

Першая звестка адносіцца да 1228 г., калі ўзнік канфлікт паміж кіеўскім князем Уладзімірам і Данілам, князем уладзіміра-валынскім. Уладзімір Кіеўскі ўчыніў паход на адно з уладанняў Данілы — горад Камянец, прычым разам з ім у аблозе Камянца ўдзельнічалі апалчэнні з княстваў, якія знаходзіліся ў саюзе з Кіевам: «Володимер со всеми князи: и куряны, и пиняны, и новогородци, и туровцы обседоша Каменец». Такім чынам, Новагародок у гэтым паведамленні названы ўскосна як цэнтр аднаго з саюзных з Кіевам княстваў. На чале яго знаходзіўся нейкі невядомы нам князь.

Зноў Наваградскае княства згадваецца ў 1235 г. (некаторыя даследчыкі лічаць, што падзеі адбываліся ў 1236 г.). У гэты час пагоршыліся адносіны паміж вышэйзгаданым Данілам і адным з польскіх князёў — Конрадам (Кондратам) Мазавецкім. І ў выніку «по том же лете Данил же возведе на Кондрата Литву Миндога, Изяслава Новгородьского».

Дзве гэтыя скупыя звесткі — практычна ўсё, што мы ведаем дакладна пра гісторыю Новагародка напярэдадні мангольскага нашэсця. Усё астатняе прыходзіцца дадумваць, зыходзячы з ускосных меркаванняў і агульнага палітычнага кантэксту. Не дзіва, што розныя даследчыкі прыходзяць пры гэтым да зусім розных высноў. Так, Мікола Ермаловіч у рэчышчы сваёй канцэпцыі прыходзіць да высновы, што Новагародок у гэты час стаў цэнтрам самага моцнага на Беларусі княства і ўвогуле аб'яднаўчым цэнтрам для ўсяго наваколля. Нам здаецца, што для такой высновы няма належных падстаў. Абодва разы, калі наваградскія князі трапляюць на старонкі летапісу, яны дзейнічаюць не самастойна, а як саюзнікі больш моцных палітычных цэнтраў — спярша Кіева, а потым Уладзіміра-Валынскага. Паходы наваградскіх дружын былі ўчынены не супраць іх ворагаў, а супраць ворагаў іх сюзерэнаў. Пра падпарадкаваны стан Новагародка ў другім выпадку сведчыць і сам дзеяслоў: «возведе», які прадугледжвае выкананне чыёйсьці волі.

Адзінае, што можна сказаць упэўнена, гэта тое, што Наваградскае княства ў той час было не сярод апошніх на Беларусі. Яно хоць і застаецца на перыферыі ўвагі летапісцаў, але ж згадваецца, у той час як іншыя (Менскае, Віцебскае, Друцкае, Гарадзенскае, Слуцкае, Клецкае, за выключэннем, бадай што, толькі Полацкага і Пінскага) увогуле знікаюць са старонак летапісаў. Напэўна, наваградская дружына была дастаткова баяздольнай, каб на яе дапамогу разлічвалі такія вялікія і моцныя княствы, як Кіеўскае і Уладзіміра-Валынскае. Аднак наўрад ці тагачасны Новагародок з яго плошчай умацаванай часткі каля 2,5 га можна паставіць хаця б у нейкае параўнанне з Полацкам, тэрыторыя якога ў XIII ст. дасягала 120 га, а насельніцтва — каля 14—15 тыс. чалавек.

Вельмі важнай акалічнасцю для далейшых падзей было тое, што Наваградскае княства знаходзілася ў непасрэдным суседстве з Літвой — аб'яднаннем некалькіх балцкіх княстваў, на чале якога, як сведчыць летапіснае паведамленне 1235 г., стаяў Міндоўг. Адразу адзначым, што мы не падзяляем думку М. Ермаловіча аб тым, што гэтая Літва знаходзілася на ўсходзе і паўднёвым усходзе ад Новагародка. Гэтая думка

яўна супярэчыць і археалагічным, і тапанімічным фактам. Археалогія сведчыць, што помнікі старажытных балтаў (курганы з усходняй арыентацыяй пахаваных, зброяй і рэшткамі коней, характэрнымі ўпрыгожаннямі) у акрэсленым М. Ермаловічам арэале ўвогуле не сустракаюцца, затое там ёсць курганы і паселішчы з бясспрэчна славянскімі матэрыяламі. Арэал жа ўсходнябалцкіх курганоў займаў абшары на поўнач і паўночны захад ад Наваградчыны — усход сучаснай Літвы з сумежнымі часткамі Беларусі да возера Нарач, Налібоцкай пушчы і Ліды. Там жа знаходзіцца і арэал тыпова балцкіх тапонімаў з канчаткамі на *-ішкі*, *-аны*, *-ёны* (тыпу Юрацішкі, Гальшаны, Геранёны). Назвы ж вёсак «Літва», якія згадвае М. Ермаловіч, сведчаць якраз аб адваротным — такія назвы вёсак не маглі з'явіцца там, дзе ўсе вёскі літоўскія, гэтак жа, як у Прусіі няма вёсак з назвай «Прусы», у Мазовіі — «Мазуры» і г.д. Гэта агульны і агульнавядомы тапанімічны закон. Вёскі з назвай «Літва» з'явіліся ў выніку нейкіх перасяленняў літоўцаў у славянскі арэал ці як астравы ранейшага аўтахтоннага насельніцтва.

Літва была адным з балцкіх народаў (побач з Жамойцю, якая займала захад сучаснай Літоўскай Рэспублікі, Яцвягіяй на поўнач і захад ад Гродна, Прусіяй і інш.) на чале з актыўнымі і ваяўнічымі князямі, самым выдатным з якіх быў Міндоўг. У першай трэці XIII ст. набегі літоўцаў бясконца турбавалі суседнія і больш аддаленыя княствы, сягаючы ажно да Пскоўшчыны, вярхоўяў Волгі і Валыні. Наяўнасць такога небяспечнага суседа, напэўна, вымушала жыхароў Наваградчыны падтрымліваць з імі своеасаблівыя адносіны, падобныя на адносіны паміж полаўцамі і паўднёварускімі княствамі: часам біцца, але часам і абменьвацца нявестамі, рабіцца пабрацімамі, прапускаць ваяўнічыя дружыны праз свае тэрыторыі, каб яны шкодзілі камусьці іншаму. Магчыма, сяброўскія ці нават сваяцкія адносіны звязвалі Ізяслава Наваградскага з Міндоўгам, як, напрыклад, уладар полацкага княства Герцыке Усевалад быў зяцем іншага літоўскага князя — Даўгерда.

Невыпадкова, што напрамкі набегаў літоўцаў на Піншчыну і Валынь, як і зварот з палонам, ішлі праз вярхоўі Нёмана і раён Выганаўскіх балот. Верагодна, гэты шлях прывабліваў іх тым, што можна было не чакаць удару збоку, з сяброўскага Новагародка (гэта ж, дарэчы, можна разглядаць і як ускоснае сведчанне падобных жа адносін Літвы з Менскім княствам). І не варта, як гэта зрабіў М. Ермаловіч, бачыць у гэтым доказ месцазнаходжання Літвы якраз у вярхоўях Нёмана. У падобную ж пастку трапіў некалі А. Сабалеўскі, а за ім і В. Чаропка, якія на падставе аналагічных звестак аб смаленскім сектары літоўскіх набегаў прыйшлі да думкі аб лакалізацыі Літвы каля Таропца і Усвят. У абодвух выпадках справа ідзе толькі аб мяжы паміж сяброўскімі адносна Літвы княствамі (адпаведна Наваградскім і Віцебскім) і больш варожымі да яе.

Карацей кажучы, месца Наваградскага княства ў палітычным раскладзе першай трэці XIII ст. уяўляецца такім чынам: гэта было адно з даволі баяздольных перыферыйных княстваў, якое часам уступала ў саюз з паўднёвымі суседзямі, але мела спецыфічныя сувязі і з паўночным суседам — Літвою. Наўрад ці мелі наваградцы вялікую цікаўнасць як да агульнарускіх спраў, звязаных з барацьбою за Кіеў і супрацьдзеяннем полаўцам, так і да клопатаў Полаччыны, зарыентаванай на дзвінскі гандлёвы шлях і барацьбу з крыжакамі за кантроль над Латгаліяй.

Рашаючая змена палітычнай сітуацыі адбылася ў 1237—1240 гг., калі большасць княстваў Русі зведала жорсткую мангольскую навалу. На землях полаўцаў заваёўнікі ўтварылі сваю дзяржаву — Улус Джучы (пазнейшую Залатую Арду), на якую распаўсюдзілася прынесеная з усходу племянная назва — татары. Дамогшыся ваеннай перамогі над Руссю, татары пачалі метадычна падпарадкоўваць свайму кантролю ўсе княствы, якія належалі розным галінам дынастыі Рурыкавічаў. Заўважым, што колькі б ні гаварылася ў апошні час пра адсутнасць агульнарускай дзяржаўнасці, для татар адзінства палітычнай сістэмы Русі не выклікала сумненняў. Захапіўшы Кіеў, Чарнігаў, Уладзімір-Залескі і іншыя важнейшыя цэнтры, яны лічылі сваімі падданымі і жыхароў тых зямель (Смаленшчыны, Вялікага Ноўгарада), куды іх войска не дабралася. Раней ці пазней татарская даніна распаўсюдзілася і туды.

Хаця Наваградчына, як і большасць іншых княстваў на тэрыторыі Беларусі, пазбегла ваеннага разбурэння, яе чакаў той самы лёс, і каб пазбегнуць яго, трэба было вынайсці нетрадыцыйнае рашэнне. Наступныя падзеі сведчаць, што такое рашэнне было знойдзена. Ім стаў выхад з палітычнай сістэмы Русі, заснаванай на ўяўленні аб дынастыі Рурыкавічаў як калектыўным уладальніку. Іншымі словамі, патрабавалася змена пануючай дынастыі, прытым такая, пры якой новы ўладар быў бы здольны падтрымаць гэтую рашучую змену курсу і ваеннаю сілаю.

Папярэднія сувязі з Літвою, напэўна, падрыхтавалі глебу. І вось недзе ў 1240-я гады ў Новагародку з'яўляецца новы князь — Міндоўг. Цікава, што гэтая падзея засталася цалкам па-за ўвагай сучаснікаў. Калі аналагічны крок Полацка, дзе з'явіўся новы князь (напэўна, таксама літовец), які прыняў дзеля гэтага хрысціянскую веру, выклікаў у 1248 г. спецыяльны ліст рымскага папы Інакенція IV, то пра абставіны з'яўлення Міндоўга ў Новагародку крыніцы, сучасныя падзеям, не пакінулі ніякіх звестак.

Праўда, складзены значна пазней, у XVII ст., Густынскі летапіс прыводзіць невядома адкуль узятае паведамленне, што ў 1246 г. «великий князь литовский Миндовг приял веру христианскую от Востока со многими своими бояры...». Звесткі больш позніх крыніц, якія адсутнічаюць у папярэдніх, заўсёды выклікаюць падазрэнне ў гісторыкаў. Так і ў гэтым выпадку Іпацьеўскі летапіс, аўтар якога жыў у XIII ст., паведамляе пра больш позняе хрышчэнне Міндоўга ў каталіцтва і нават ведае, што гэтае хрышчэнне «льстиво бысть», і ўпотай ён працягваў маліцца паганскім багам. Між тым пра папярэдняе хрышчэнне Міндоўга ў праваслаўе гэты летапіс нічога не ведае. Сумніцельны і тытул «вялікі князь літоўскі», які надае Міндоўгу Густынскі летапіс, — гэты тытул пачаў ужывацца значна пазней. Карацей кажучы, гэтая звестка не пацвярджаецца іншымі крыніцамі і таму не выклікае даверу.

Яшчэ менш падстаў лічыць, як гэта часам робіцца, што Міндоўг нейкім чынам згубіў уладу ў Літве і ўцёк у Новагародок, дзе яго абралі князем. Ніякіх доказаў таму няма, і адзіны аргумент — тое, што пазней аналагічная падзея адбылася з іншым літоўскім князем, Даўмонтам, які ўцёк у Пскоў, стаў там князем і заставаўся ім больш за чвэрць стагоддзя. Але ж тое, што адбылося з Даўмонтам, зусім не абавязкова павінна было здарыцца і з Міндоўгам.

Усё той жа Іпацьеўскі летапіс згадвае пра прыналежнасць Новагародка Міндоўгу неяк раптоўна, без усялякіх тлумачэнняў. Запіс датаваны 1252 г., але храналогія гэтага летапісу вельмі недакладная, і больш верагодна, што ён тычыцца 1249 г. У гэты час Міндоўг, безумоўна, быў вярхоўным уладаром Літвы, дзе княжылі таксама сыны яго памерлага брата — Таўцівіл і Эрдзівіл. Паводле версіі Іпацьеўскага летапісу, Міндоўг накіраваў пляменнікаў на захоп Смаленска «и рече, што хто приемлет — собе держит», а сам між тым «ворожбою бо за ворожьство с ними Литву зане (захапіў. — *В.Н.*), поимена бе вся земля Литовская и бещисленное имеине их, притрано бе богатство их, и посла на не вои свое, хотя убити я (іх. — *В.Н.*)». Пляменнікі, аднак, выратаваліся і ўцяклі на Валынь да князя Данілы Галіцкага, які прыняў іх бок і паслаў войска на Міндоўга. З таго, што гэтае войска пайшло на Новагародок, а таксама на суседнія Ваўкавыск, Услонім (Слонім) і Здзітаў, вынікае, што ў той момант названыя гарады знаходзіліся пад уладай Міндоўга. Пазней у барацьбу з Міндоўгам уключыліся Лівонскі ордэн, жамойцкі князь Выкінт (дзядзька Таўцівіла па маці) і, пад прымусам, пінскія князі. У 1253 г., паводле летапісу (верагодней за ўсё, у 1252), валынскае войска ў другі раз «плениша всю землю Новгородскую».

Іпацьеўскі летапіс ствараўся на Валыні і адлюстроўвае адпаведны пункт гледжання. Калі ж глянуць на падзеі ў больш шырокім кантэксце, становіцца відавочным, што яны не зводзіліся да асабістага канфлікту паміж дзядзькам і пляменнікамі, у які чамусьці так ахвотна ўцягнуліся столькі суседніх дзяржаў. Справа была больш прынцыповая.

Мы не ведаем, ад каго зыходзіла непасрэдная ініцыятыва ў палітычным аб'яднанні Літвы і Наваградскага княства — ад Міндоўга ці ад наваградскага баярства. Аднак гэты крок быў на карысць абодвум бакам. Новагародок, як адзначалася

вышэй, набываў шанц ухіліцца ад значна больш цяжкага падпарадкавання Ардзе, Літва ж падвойвала свае сілы ў прадбачанні непазбежнага сутыкнення з крыжакамі, якія якраз у гэты час распачалі заваяванне суседніх балцкіх плямёнаў — прусаў, куршаў і земгалаў.

Натуральна, што ўзмацненне Літвы і адначасовае выслізгванне Новагародка з палітычнай сістэмы Русі не выклікала энтузіязму ў суседзяў. Апошнім фактам быў асабліва незадаволены ўладар Галіцка-Валынскага княства Даніла, які якраз у гэты час рабіў спробу ўтварыць на рэштках старажытнарускіх княстваў сваю ўласную дзяржаву, якую спадзяваўся вывесці з-пад татарскай залежнасці. Узыходжанне Міндоўга ён, напэўна, успрыняў як страту сваёй патэнцыяльнай здабычы.

Таму вакол Міндоўга пачалі плесціся складаныя інтрыгі. Стаўка, напэўна, была зроблена на яго пляменніка Таўцівіла, менш схільнага да самастойнай палітыкі. Аднак Міндоўг, відавочна, здагадаўся пра здраду пляменніка і першым нанёс удар. Фактычна гэта прызнае і валынскі летапісец, калі апісвае візіт Таўцівіла да рыжскага архібіскупа: «пискоуп и пребощь Виржан сожалишаси по нем, ведаху бо: аще Тевтивил не бы изгнан, Литовская земля в руку бе их».

Летапісец, аднак, не асабліва афішуе той факт, што адпаведныя надзеі на Таўцівіла, толькі адносна не Літоўскай, а Наваградскай зямлі, ускладаў і Даніла Галіцкі. Гэта відавочна з таго, што на працягу наступных ваенных дзеянняў войска Данілы метадычна спрабуе захапіць гарады Беларускага Панямоння, — менавіта іх, а не заступніцтва за пакрыўджанага Таўцівіла ён лічыць сваёй галоўнай мэтай.

Цікавая акалічнасць: у чыста ваенным сэнсе, калі верыць летапісцу, поспех спрыяе Данілу, аднак без усялякай для яго карысці. У першым паходзе яго войска «поимаше грады многы и звратишася в домы», у другім — «плениша всю землю Новогродскую, оттуда же возвратишася в дом свои». Пазней Даніла здзейсніць трэці, такі ж безвыніковы паход.

Нам думаецца, што рашаючую ролю ў такім ходзе падзей адыграла пазіцыя насельніцтва Наваградскай зямлі. Калі б яно разглядала Міндоўга як захопніка, а Данілу — як вызваліцеля, напэўна, і вынік быў бы іншы. Аднак навагрaдцы свядома зрабілі свой выбар на карысць Літвы і за поўную незалежнасць ад іншых прэтэндэнтаў на гегемонію. Час паказаў, наколькі прадбачлівым быў гэты выбар: праз некалькі год татары канчаткова зламалі супраціўленне Галіцка-Валынскага княства і навязалі яму сваё панаванне. Між тым з літоўска-беларускага сімбіёзу вырасла адна з буйнейшых і славутых у Еўропе дзяржаў — Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, якое праз стагоддзе ажыццявіла разам з Польшчаю падзел тэрыторыі былой дзяржавы Данілы Галіцкага.

Аднак у 1252 г. усё гэта было яшчэ далёка не вырашана. Маладая дзяржава Міндоўга знаходзілася ў моцных абцугах Галіцка-Валынскага княства, Жамойці і Лівоніі, сумесныя сілы якіх далёка пераўзыходзілі ўсё, што маглі ім супрацьставіць Літва і Новагародок. І тады Міндоўг пайшоў на рызыкоўны, калі не сказаць адчайны, крок — на сепаратны мір з Лівоніяй, па ўмовах якога ён павінен быў прыняць хрышчэнне паводле каталіцкага абраду і садзейнічаць крыжакам у захопе Жамойці. Ход быў добра разлічаны. Крыжакі, для якіх хрышчэнне паганскіх народаў Прыбалтыкі было адзінай адкрытай мэтай іх экспансіі, не маглі адмовіць Літве ў хрышчэнні, на якое яна ішла быццам бы добраахвотна. Гэтым самым Лівонія з ворага ператварылася ў сябра і павінна была адмовіцца ад падтрымкі Таўцівіла. Жамойць жа з драпежніка імгненна ператваралася ў ахвяру. Праўда, у стратэгічным сэнсе гэта была вялікая страта, бо раней Жамойць падпарадкоўвалася літоўскай дынастыі, і дзеля часовага выйгрышу Міндоўг ахвяраваў доўгатэрміновымі інтарэсамі Літвы. Адначасова ён фактычна адмаўляўся на карысць папскай курыі ад свайго суверэнітэту.

Карацей кажучы, Міндоўг шмат што губляў, але захоўваў магчымасць утрымаць пад сваёй уладай Літву і Новагародок. Магчыма, ён інтуітыўна адчуваў магутны патэнцыял гэтага саюзу, які дазваляў у будучым кампенсаваць усе страты.

Архіў папскай курыі сведчыць, што перамовы аб хрышчэнні пачаліся яшчэ ў 1251 г. Літоўскія паслы знайшлі папу Інакенція IV у яго міланскай рэзідэнцыі (з Рыма яго выгналі паўсталыя гараджане), дзе ён і выдаў булу аб тым, што прымае «новае Літоўскае каралеўства да права і ўласнасці Святога Пятра» і накіроўвае ў Літву свайго легата для ажыццяўлення хрышчэння і каранацыі Міндоўга каралеўскаю каронаю. Хрышчэнне адбылося не пазней мая 1252 г., хутчэй за ўсё — у Кернаве, старажытнай сталіцы літоўскіх князёў. У жніўні было ўтворана Літоўскае біскупства. Да гэтага ж часу, напэўна, адбылася і каранацыя Міндоўга ў Новагародку, пра якую згадвае дакумент з крыжацкага архіва ў Кёнігсбергу. Звестку пра каранацыю прыводзіць і Густынскі летапіс, таксама датуючы яе 1252 г.

Той факт, што Міндоўг атрымаў каралеўскую карону ў Новагародку, вельмі часта лічыцца аргументам на карысць таго, што менавіта тут была яго сталіца. Нам здаецца, што для гэтага няма важкіх падстаў. Сталіца дзяржавы зусім не абавязкова была месцам каранацыі. Так, той жа Даніла Галіцкі, які ў час падрыхтоўкі саюзу з Рымам, накіраванага супраць татар, таксама атрымаў ад папы карону, каранаваўся ў Драгічыне, а не ва Уладзіміры-Валынскім ці Галічы, прычым зрабіў гэта ў час паходу на яцвягаў. Нарэшце, сталіцу Міндоўг не аддаў бы ў якасці васальнага ўладання, як гэта адбылося з Новагародком крыху пазней. Выбар гэтага горада месцам каранацыі, на нашу думку, быў наўмысна задзірлівай у адносінах да Данілы акцыяй: маўляў, ты імкнешся захапіць Новагародок, а ён мой, тут я атрымліваю карону і насельніцтва вітае мяне як свайго караля. Такім чынам, наваградская каранацыя з'явілася ўвасабленнем таго новага курсу, які абралі Літва і Беларускае Панямонне.

Між тым Даніла пасля выхаду Лівонскага ордэна з вайны не адразу сцішыўся. Прыкладна ў 1254 г. ён зрабіў свой трэці паход «на Литву, на Новгородок». Аднак у гэты ж час ён уцягнуўся ў сумесную з мазавецкім князем Зямовітам вайну супраць яцвягаў, а хутка затым адчуў на сваіх усходніх межах новы націск татараў. У такіх умовах Даніла палічыў за лепшае замірыцца з Міндоўгам на кампрамісных умовах: апошні перадаваў Новагародок сыну Данілы Раману, які, аднак, лічыўся васалам Міндоўга. Мір быў замацаваны шлюбам дачкі Міндоўга з другім сынам Данілы Шварнам. Адбылося гэта каля 1255 г., а ў наступным годзе Раман Данілавіч на чале наваградскай дружыны быў пасланы Міндоўгам на дапамогу свайму бацьку ў паход на яцвягаў, яшчэ праз год — супраць татарскага ваяводы Курамсы.

Князь Раман быў у Новагародку не толькі васалам Міндоўга, але ў пэўным сэнсе і яго заложнікам на выпадак варожых дзеянняў з боку Данілы. Гэтак жа і сына Міндоўга Войшалка, які пастрыгся ў манахі на Валыні, можна разглядаць як заложніка Данілы. Аднак Войшалк нейкім чынам дамогся, каб яго адпусцілі ў Новагародок, у ваколіцах якога ён заснаваў Лаўрышаўскі манастыр.

Гэта аказалася вельмі дарэчы, бо хутка сітуацыя імкліва змянілася. У 1258 г. (Іпацьеўскі летапіс дае памылковую дату — 1260 г.) на Валынь увайшло вялізнае татарскае войска на чале з ваяводам Бурундаем. Даніла вымушаны быў капітуляваць перад ім і паслаць свайго брата Васільку ў сумесны з татарамі паход на Літву. Гэта азначала разрыў пагаднення з Міндоўгам. У адказ Войшалк схапіў Рамана, які, напэўна, быў пасля гэтага забіты. Усе спробы Васількі, які разам з татарамі пустошыў Наваградскую зямлю, а затым і самога Данілы знайсці Рамана не прывялі да поспеху.

Між тым і сумесны татарска-валынскі паход не прывёў да адпадзення Новагародка ад Літвы. Падпарадкаванне Галіцка-Валынскага княства Бурундаем яшчэ больш яскрава высветліла, што для памежных княстваў была толькі адна альтэрнатыва: саюз з Літвою альбо татарская няволя. Таму літоўская арыентацыя Новагародка не змянілася і пасля забойства Міндоўга ў 1263 г. Наваградцы дапамагалі Войшалку, які дзеля гэтага часова скінуў манаскую расу, заняць пасад свайго бацькі: «Воишелк поиде с пиняны к Новогороду, и оттоле поя с собою новогородце и поиде в Литву княжить».

Праўда, хутка Войшалк адмовіўся ад пасады на карысць Шварна Данілавіча, свайго швагра, і вярнуўся ў манастыр. І Наваградская зямля, і Літва на пэўны час усё ж трапілі пад кантроль галіцка-валынскіх князёў. Аднак калі прыкладна ў 1270 г.

пасля смерці Шварна ў Літве ўзяла верх антывалынская і антытатарская партыя на чале з князем Трайдзенам, наваградцы зноў рашуча падтрымалі яе, бо калі ў 1274 г. адбыўся вялікі паход ваяводы Ягурчына і шматлікіх залежных ад яго князёў на Літву, Новагародок выступае як адзін з галоўных літоўскіх фарпостаў. Галіцкі князь Леў Данілавіч з дапамогай татараў узяў акольны горад, але Наваградскі замак (тады яшчэ драўляны) выстаяў. Вораг вымушаны быў адысці. Тое ж адбылося і ў двух наступных татарска-валынскіх паходах — у 1276 і 1277 гг.

Такім чынам, у час панавання Трайдзена (1270—1282) літоўцы і жыхары Беларускага Панямоння канчаткова адстаялі сваю незалежнасць ад татараў і іх паўднёварускіх сатэлітаў. Пазней яны гэтак жа сумесна супрацьстаялі крыжакам Тэўтонскага ордэна, набегі якіх з канца XIII ст. пачалі дасягаць Беларускага Панямоння, а ў 1314 г. тэўтонцамі была ўчынена аблога Новагародка. У баях гартавалася моц Літоўска-Беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, і не выпадкова, што Новагародок стаў адным з галоўных палітычных цэнтраў гэтай дзяржавы.

*Друкуецца паводле:*
Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка
Навагрудскага раёна. Мінск, 1996. С. 57—63.

# Каранацыя Міндоўга ў кантэксце падзей сярэдзіны XIII ст.

Сярэдзіна XIII ст. была адным з найбольш складаных перыядаў у гісторыі Усходняй Еўропы. І вялізную ролю ў гэты перыяд давялося адыграваць Новагародку ці Наўгародку (так звычайна называлі ў сярэднявеччы сучасны Навагрудак). У першай трэці XIII ст. ён быў цэнтрам аднаго з перыферыйных княстваў Кіеўскай Русі, на памежжы з Літвой.

Адразу адзначым, што мы не падзяляем думку М. Ермаловіча пра месцазнаходжанне «летапіснай Літвы» на ўсходзе і паўднёвым усходзе ад Навагрудка[1]. Тапонімы «Літва» ў гэтым рэгіёне не маглі б з'явіцца, калі б усё тамашняе насельніцтва было літоўскім — такую назву маглі атрымаць толькі калоніі чужынцаў-мігрантаў ці ваеннапалонных. Паводле археалагічных звестак, балцкае насельніцтва тут у старажытнарускі час (ужо з XI ст.) не прасочваецца, затое бясспрэчна існавала моцнае племяннное ўтварэнне ў арэале культуры ўсходнелітоўскіх курганоў (усход сучаснай Літвы з сумежнымі часткамі Беларусі, да возера Нарач, Налібоцкай пушчы і Ліды на ўсходзе)[2]. Цэнтр гэтай культуры прыходзіўся якраз на раён Вільні і Трокаў — пазнейшых палітычных цэнтраў Літвы. Напэўна, менавіта там і была першапачатковая протадзяржава літоўцаў.

Пад уздзеяннем як працэсаў унутранага развіцця, так і пагрозы з боку крыжакоў Літва ў гэты час уступіла ў перыяд палітычнай цэнтралізацыі. Крыніцы пачатку стагоддзя нагадваюць шматлікіх літоўскіх князькоў, а ўжо ў 1235 г. Іпацьеўскі летапіс паведамляе пра «Литву Мендога» — палітычнае ўтварэнне, на чале якога стаяў адзіны правадыр, князь Міндоўг. Разам з Новагародскім княствам, на чале якога ў той момант стаяў князь Ізяслаў, Літва з'яўлялася ці то саюзнікам, ці то васалам моцнага Уладзіміра-Валынскага княства[3]. Але адносіны літоўцаў з Руссю былі не толькі саюзнымі — летапісы неаднаразова паведамляюць пра драпежніцкія набегі літоўцаў і карныя паходы рускіх князёў у адказ. Баярства Новагародка і іншых памежных княстваў у гэтых умовах павінна было мець цесныя сувязі з літоўскай знаццю — гэтак жа, як паўднёварускія княствы мелі асабліва шчыльныя кантакты з полаўцамі. Рашаючая змена палітычнай сітуацыі адбылася ў 1237—1240 гг., калі землі Кіеўскай Русі зведалі жорсткую татарскую навалу. Гэта не быў разавы набег дзеля здабычы — дамогшыся ваеннай перамогі, татары пачалі метадычна падпарадкоўваць свайму непасрэднаму кантролю ўсе часткі калектыўнага ўладання Рурыкавічаў, у тым ліку і тыя, што не зведалі непасрэднае разбурэнне. Князі ацалелых гарадоў атрымалі загад ехаць у Арду, каб атрымаць з рук хана пацвярджэнне сваіх правоў на ўладу.

Хаця беларускія землі Кіеўскай Русі (у першую чаргу Новагародская і Полацкая) пазбеглі ваеннага разбурэння, іх, безумоўна, чакаў той жа лёс, што і Смаленск ці Вялікі Ноўгарад — раней ці пазней там з'явіліся б татарскія баскакі і перапісчыкі. Але мясцовае баярства пайшло на радыкальны крок — разрыў са старажытнарускай палітычнай сістэмай, пры якой уся Русь лічылася сумеснай вотчынай Рурыкавічаў. У Новагародку замест Ізяслава (лёс яго невядомы) князем становіцца Міндоўг. Нешта падобнае адбылося і ў Полацку. У 1248 г. рымскі папа накіраваў пасланне да

---

[1] Ермаловіч М.І. Па слядах аднаго міфа. 2-е выд. Мн., 1991. С. 22—36.

[2] Волкайте-Куликаускене Р.К. Образование литовской народности: (по данным археологии) // Советская этнография. 1979. № 3. С. 21—46; Археология СССР: Финно-угры и балты в эпоху Средневековья. М., 1987. С. 381—397; Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX— XIII вв. Мн., 1989. С. 21—29.

[3] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. Стб. 776.

«новаахрышчанага князя Полацка» (на жаль, імя яго не называецца)[4], а крыху пазней там будзе княжыць пляменнік Міндоўга Таўцівіл.

На жаль, мы не ведаем падрабязнасцей з'яўлення Міндоўга ў Новагародку. Толькі значна больш позні Густынскі летапіс прыводзіць урывачную звестку пра яго хрышчэнне ў праваслаўную веру[5]. У крыніцах, сучасных падзеям, гэтай звесткі няма. Што да Полацка, то Іпацьеўскі летапіс паведамляе, як Міндоўг пасля ўладкавання ў Новагародку паслаў сваіх родзічаў і васалаў на захоп Полацка і Смаленска: «хто приемлет, собе держит»[6]. Але гэта не быў захоп у чыстым выглядзе, бо вакняжанне таксама суправаджалася хрышчэннем (папскае пасланне выразна сведчыць пра гэта).

На нашу думку, змена ўлады была ў інтарэсах абодвух бакоў. Літоўскія князі павялічвалі свае ўладанні, а мясцовае насельніцтва набывала шанц ухіліцца ад куды больш цяжкага прыгнёту Арды. Час паказаў прадбачлівасць гэтага кроку: з усіх балцкіх народаў толькі Літва, якая магла абапірацца на моц Новагародчыны і Полаччыны, пазбегла крыжацкага заваявання, а з усіх княстваў Русі толькі тыя, што прынялі літоўскіх князёў, пазбеглі падначалення Ардзе.

Але ў самы момант выбару ніхто, вядома, не мог быць упэўненым у яго выніках. Напэўна, было супраціўленне сярод часткі мясцовага баярства, як і сярод часткі літоўскай знаці, якая не жадала празмернага ўзвышэння Міндоўга. Тым больш ні татары, ні крыжакі, ні найбольш моцныя з ацалелых Рурыкавічаў не мелі падстаў вітаць такі ход падзей у Панямонні і Падзвінні. Адразу пачаліся спробы спыніць працэс утварэння новай двухэтнічнай дзяржавы.

На першым этапе асаблівую актыўнасць разгарнулі Лівонскі ордэн (паўночны сусед Літвы) і Галіцка-Валынскае княства (паўднёвы сусед Новагародчыны). Яны выкарысталі (а магчыма, інспіравалі) канфлікт паміж Міндоўгам і Таўцівілам. Вядома, валынскі летапісец маўчыць пра патаемныя сувязі Таўцівіла з Валынню, але не ўтойвае яго фактычную здраду на карысць лівонцаў: «ведаху бо — аще Тевтивил не бы изгнан, Литовская земля в руку бе их»[7]. Замах з боку Міндоўга на жыццё Таўцівіла і канфіскацыю яго маёмасці Іпацьеўскі летапіс падае як акт зладзейства, але ці не было гэта толькі неабходнай абаронай?

Пасля выгнання з Літвы Таўцівіл знайшоў прытулак на Валыні, і прыкладна ў 1249 г. (датаванне Іпацьеўскага летапісу не зусім дакладнае) пачала складацца магутная кааліцыя, накіраваная супраць Міндоўга: галіцка-валынскія князі Даніла і Васілька Раманавічы, Таўцівіл, Лівонскі ордэн і князь суседняй Жамойці Выкінт, які выкарыстаў сітуацыю, каб пазбавіцца залежнасці ад Літвы. На гэтым этапе ўбаку засталіся толькі татары, занятыя барацьбой за тытул вялікага кагана пасля смерці Гуюк-хана (1248 г.).

Ваенныя дзеянні Валыні былі накіраваны перш за ўсё супраць панямонскіх княстваў, што прынялі ўладу Міндоўга: яе войскі паваявалі Ваўкавыск, Слонім і Здзітаў, але да Новагародка, напэўна, дайсці не здолелі[8]. У 1250 г. Даніла Раманавіч накіраваў Таўцівіла ў Рыгу, каб выклікаць больш актыўныя дзеянні лівонцаў. Там Таўцівіл хрысціўся ў каталіцтва, яму паабяцалі войска[9]. Наспяваў трайны ўдар (з Валыні, Лівоніі і Жамойці), і Міндоўг прыклаў ліхаманкавыя намаганні, каб вывесці з гульні хаця б аднаго з ворагаў. Ён выкарыстаў тое, што для Лівонскага ордэна адзінай фармальнай падставай для агрэсіі была мэта хрысціць літоўцаў. І вось Міндоўг згадзіўся на ўвядзенне каталіцтва, фактычна адмовіўся ад сваіх правоў на Жамойць на карысць Ордэна — усё дзеля таго, каб лівонцы перасталі падтрымліваць Таўцівіла.

Гэта быў вымушаны крок, і Міндоўг губляў на ім вельмі шмат, але захоўваў тое, што, напэўна, было для яго ў той момант галоўным — магчымасць утрымаць пад

[4] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959. С. 378.
[5] ПСРЛ. СПб., 1843. Т. 2. С. 341.
[6] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. Стб. 815—816.
[7] Там жа. Стб. 817.
[8] Там жа. Стб. 816.
[9] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. С. 378—379.

сваёй уладай Літву і Новагародчыну. Можа, ужо тады ён прадбачліва адчуваў магутны патэнцыял балта-славянскага саюзу, з якога пазней вырасла адна з буйнейшых дзяржаў у Еўропе.

Лівонскі ордэн сапраўды быў выведзены з гульні, але пакуль вялася падрыхтоўка хрышчэння і абвяшчэння Літвы новым хрысціянскім каралеўствам (абмен пасольствамі з Лівоніяй і Рымам расцягнуўся прыкладна на два гады), Міндоўгу давялося весці смяротную барацьбу з астатнімі праціўнікамі. У 1251 г. Таўцівіл і Выкінт нанеслі ўдар з боку Жамойці, а ў 1252 г. Даніла Раманавіч з тым жа Таўцівілам «плениша всю землю Новгородскую», дасягнуўшы ажно Горадна[10].

Падкрэслім гэты момант: Даніла на нейкі час захапіў-такі панямонскія княствы, але нават у даволі спрыяльных палітычных умовах не здолеў утрымаць іх за сабой, што ўдалося абкладзенаму з усіх бакоў ворагамі Міндоўгу. Наўрад ці так адбылося б, калі б новагародцы лічылі літоўцаў захопнікамі, а валынян — вызваліцелямі. Трэба ўлічваць і тое, што якраз у гэты час уладар Залатой Арды Бату-хан правёў у вялікія каганы свайго стаўленіка і здолеў зноў заняцца рускімі справамі. У тым жа 1252 г. яго ваявода Няўруй канчаткова зламіў супраціўленне Паўночна-Усходняй Русі[11]. Стала відавочна, што адносная незалежнасць Галіцка-Валынскага княства — справа часовая, таму ўваход у яго склад абяцаў Новагародскай зямлі хуткае з'яўленне татарскіх баскакаў.

На першы погляд, падпарадкаванне літоўскай дынастыі мала чым адрозніваецца ад падпарадкавання Ардзе. Але была прынцыповая розніца. Літоўцы колькасна не перасягалі жыхароў Беларускага Панямоння, а ў культурным і эканамічным сэнсе значна ім саступалі, да таго ж самі знаходзіліся пад пастаяннай крыжацкай пагрозай. Таму не магло быць і размовы пра сапраўдны прыгнёт з іх боку.

Канешне, не было і адваротнага — заваёвы Літвы з боку Новагародка, як сцвярджае М. Ермаловіч. Да XV ст. уключна, пакуль этнічная розніца сярод знаці ВКЛ не згладзілася, яе літоўская частка бясспрэчна карысталася палітычнай перавагай. Але ўзаемапранікненне было настолькі шчыльным, што ўжо ў XIV ст. былая «Літва Міндоўга» і Новагародская зямля ператварыліся ў агульны палітычны цэнтр, ядро Вялікага Княства, набылі аднолькавую назву «Літва», якую захавалі ажно да XIX ст., а пасля пашырэння дзяржавы доўгі час мелі прывілеяванае становішча адносна Жамойці і «Русі» (тых беларускіх і ўкраінскіх зямель, што былі далучаны пазней). Магчыма, пры іншых умовах адбылося б і зліццё жыхароў Беларускага і Літоўскага Панямоння ў агульны этнас ліцвінаў, як гэта адбылося ў Балгарыі паміж цюркамі і славянамі.

На гэтым шляху важным этапам была каранацыя Міндоўга, якая адбылася прыкладна ў другой палове 1252 г. у тым самым Новагародку, які так актыўна аспрэчваў у яго Даніла Раманавіч. Наўрад ці варта разглядаць гэта як прызнанне Новагародка сталіцай дзяржавы. Акт каранацыі не абавязкова адбываўся ў сталіцы. Той жа Даніла, напрыклад, прыняў карону не ў Галічы і не ва Уладзіміры, а ў Драгічыне падчас паходу на яцвягаў. Сваю сталіцу Міндоўг не саступіў бы на васальным праве Раману Данілавічу, як гэта адбылося ўжо ў 1254 г., калі нарэшце паміж Валынню і Літвой быў заключаны мір[12]. Пры пераемніках Міндоўга іх галоўнымі рэзідэнцыямі былі Кернава, Трокі і Вільня. Выбар жа месца каранацыі падкрэсліваў, што намаганні Данілы вярнуць Новагародскую зямлю ў былую палітычную арбіту не прывялі і не прывядуць да поспеху — яна ўжо зрабіла іншы выбар.

Далейшы ход падзей пацвярджае гэта. Ужо ў наступным 1253 г. Даніла зрабіў апошні, трэці па ліку, паход «на Литву на Новгородок»[13], які не прывёў да вынікаў і прымусіў яго пагадзіцца на мір. У хуткім часе Галіцка-Валынскае княства сапраўды капітулявала перад Ардой, і ў 1259 г. татарскі ваявода Бурундай пры ўдзеле ва-

[10] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. Стб. 819.

[11] ПСРЛ. Л., 1927. Т. 1. Вып. 2. Стб. 473.

[12] ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. Стб. 827.

[13] Там жа. Стб. 830—831.

лынскага войска пайшоў на Літву, але не здолеў не толькі падпарадкаваць яе, але і адабраць Новагародчыну[14]. Пазней татары і залежныя ад іх рускія князі ўзнаўлялі такія спробы на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Водгукі гэтай жорсткай барацьбы захаваліся ў паданнях пра перамогі беларуска-літоўскага войска над татарамі пад Койданавам, Уздой, Магільнам, Целяханамі і інш.[15]. Цяжка сказаць, наколькі гэтыя паданні адлюстроўваюць сапраўдны ход падзей, але далёка не выпадковай уяўляецца іх лакалізацыя менавіта на паўднёвых і ўсходніх межах Новагародскага княства. Якраз тут павінен быў праходзіць пярэдні край барацьбы маладой дзяржавы за сваю незалежнасць.

Пабрацімства дзвюх частак новай «Літвы» (у пашыраным сэнсе) захавалася і тады, калі яна вымушана была змагацца з крыжацкай агрэсіяй, якая аднавілася пасля разрыву Міндоўга з хрысціянствам у 1260 г. і асабліва пасля канчатковага заваявання Прусіі Тэўтонскім ордэнам. Крыжацкія набегі, як вядома, закранулі і Беларускае Панямонне. Ужо ў 1284 г. тэўтоны дасягнулі Горадна, а ў 1314 г. — Новагародка. У барацьбе на два франты новая дзяржава даказала сваё права на існаванне, а затым пачала павялічваць сваю тэрыторыю за кошт як балцкіх зямель (Жамойць, Дайнава), так і ўсходнеславянскіх, паглынуўшы ў выніку і свайго былога ворага — Валынь. Як ужо адзначалася, назва «Літва» пры гэтым замацавалася за першапачатковым двухэтнічным ядром. Яна не распаўсюдзілася нават на Жамойць і Полаччыну, якія ўваходзілі ўжо ў дзяржаву Міндоўга і яго сына Войшалка, але пазней на пэўны час адасабляліся. Імя «Літвы», як баявы сцяг, пакрыла сабой толькі тых, хто стаяў разам у самыя цяжкія часы — літоўцаў-аўкштайтаў і жыхароў Беларускага Панямоння.

*Друкуецца паводле:*
Навагрудскія чытанні: Гісторыка-археалагічныя даследаванні Навагрудка. Ч. 2. Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Навагрудак, 11 верасня 1992 г. Навагрудак, 1993. С. 10—16.

[14] Там жа. Стб. 827—828.
[15] ПСРЛ. М., 1974. Т. 32. С. 131—122; Легенды і паданні. Мн., 1983. С. 282.

# Міндоўг знаёмы і незнаёмы: погляд літоўскага гісторыка

## Edvardas Gudavičius. Mindaugas. Vilnius: Žara, 1998. 359 p.

Новая праца літоўскага гісторыка Эдвардаса Гудавічуса прысвечана асобе Міндоўга — славутага дзеяча XIII ст., якога большасць даследчыкаў прызнае стваральнікам Вялікага Княства Літоўскага. Перыяд, на які прыпала дзейнасць Міндоўга, сёння выклікае асаблівую ўвагу з боку грамадства дзвюх маладых незалежных дзяржаў, што існуюць на колішніх абшарах ВКЛ — Беларусі і Літвы. Пра значэнне, якое надаецца першапачатковай гісторыі ВКЛ у сённяшняй Літве, сведчыць ужо ўзровень выдання гэтай кнігі — выдатная вокладка, прыгожыя форзацы, крэйдаваная папера і нават такая дробязь, як шаўковая закладка. На жаль, выданні беларускіх гісторыкаў выходзяць у значна больш сціплым выглядзе. Аднак цікавасць да пачаткаў ВКЛ на Беларусі, думаецца, не меншая. Тым больш карысна даведацца, як выглядаюць гэтыя пытанні ў асвятленні аўтарытэтнага літоўскага гісторыка.

Праца Э. Гудавічуса складаецца з 8 частак і 39 невялікіх раздзелаў, мае падрабязнае (на 7 старонках) рэзюмэ на англійскай мове, імянны і геаграфічны паказальнікі. У трох дадатках закранаюцца некаторыя крыніцазнаўчыя аспекты: старое пытанне пра аўтэнтычнасць славутага «Слова пра паход Ігараў» і кароткія (па адной старонцы) нататкі пра два паведамленні заходнееўрапейскіх крыніц сярэдзіны XIII ст. наконт Літвы. Пра вельмі грунтоўны навуковы ўзровень выдання сведчыць колькасць спасылак: на 298 старонак асноўнага тэксту іх 2656, ці ў сярэднім амаль па 9 спасылак на старонцы. Да недахопаў можна аднесці поўную адсутнасць ілюстрацыйнага матэрыялу, асабліва картаграфічнага.

Першая частка кнігі, названая «Вядомы і невядомы Міндоўг», прысвечана гістарыяграфіі. Яна вызначаецца паўнатой і грунтоўнасцю (за адзіным выключэннем, на якім мы далей спынімся асобна). Аўтарам улічаны практычна ўсе істотныя працы, у якіх у той ці іншай ступені закраналіся дзейнасць Міндоўга і яе гістарычны кантэкст, у тым ліку выданні на літоўскай, нямецкай, польскай, расійскай мовах, а таксама шэраг нядаўніх публікацый В. Урбана на англійскай мове. Вельмі крытычна ставіцца Э. Гудавічус да ўсіх гістарычных канструкцый, якія выкарыстоўваюць легенды пра дзейнасць і заваёвы міфічных нашчадкаў Палямона, у тым ліку Рынгольта (Рымгаўда) — быццам бы бацьку Міндоўга. Ён не падзяляе імкненне некаторых даследчыкаў шукаць у гэтых крыніцах нейкае «рацыянальнае зерне». На яго думку, нават «калі б адбыўся цуд і знайшлася аўтэнтычная крыніца, у якой бацька Міндоўга называецца Рымгаўдам, гэта было б выпадковым супадзеннем, і нічым больш» (с. 84).

Асаблівую ўвагу аўтар заслужана аддае творам Г. Лаўмяньскага[1] і У. Пашуты[2] (у апошняга ён крытычна адзначае акцэнтуацыю на негатыўнай ролі нямецкай экспансіі). Сярод літоўскамоўных публікацый (практычна невядомых навуковай супольнасці іншых краін з прычыны моўнага бар’ера) найбольш станоўча ён ацэньвае працу выхаванца аўстрыйскай медыявістыкі Ю. Стакаўскаса «Літва і Заходняя Еўропа XIII стагоддзя», выдадзеную ў 1934 г.[3]. На думку Э. Гудавічуса, «разам з працай Г. Лаўмяньскага яна складае вяршыню праблематыкі Міндоўга» (с. 49). З улікам такой высокай ацэнкі літоўскім гіторыкам, магчыма, варта было б падумаць пра перавыданне гэтай працы на расійскай ці польскай мове, каб увесці яе ў больш шырокі навуковы зварот. У цэлым Э. Гудавічус лічыць, што ўзровень навуковай грунтоўнасці і аб’ектыўнасці, дасягнуты ў 1930-я г. Г. Лаўмяньскім і Ю. Стакаўскасам,

---

[1] Łowmiański H. Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T. 1—2. Wilno, 1931—1932.
[2] Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959.
[3] Stakauskas J. Lietuva ir Vakarų Europa XIII-me amžiuje. Kaunas, 1934.

наступныя пакаленні гісторыкаў не толькі не перавысілі, але нават страцілі, і сёння трэба думаць пра яго аднаўленне (с. 84).

Завяршаецца гістарыяграфічны агляд пералікам 6 пытанняў, што былі сфармуляваны яшчэ ў 1939 г. З. Івінскісам, але да сёння не атрымалі вычэрпнага адказу: 1) ці Міндоўгу належыць вызначальная роля ў стварэнні ВКЛ; 2) якім было сапраўднае паходжанне Міндоўга; 3) дзе была сталіца яго дзяржавы; 4) праблема аўтэнтычнасці даравальных дакументаў на карысць Лівонскага ордэна; 5) калі Міндоўг быў больш шчырым — прымаючы хрысціянства ці парываючы з ім; 6) якой агульнай ацэнкі заслугоўвае ён з пазіцый сённяшняга часу. Апошняе з гэтых пытанняў Э. Гудавічус характарызуе як «вечнае» і адзначае яго сувязь з першым, чацвёртым і пятым, а таксама з праблемай міжнароднага статусу і значэння Літоўскай дзяржавы, якую, на яго думку, можна разглядаць як сёмае пытанне.

Другая частка кнігі названа «Пытанне стварэння дзяржавы». Яна прысвечана спробе тэарэтычна растлумачыць з'яўленне класавага грамадства ў Літве XIII ст. Э. Гудавічус схільны разглядаць гэтую дзяржаву як вынік выключна ўнутранага развіцця літоўскага этнасу, у поўнай адпаведнасці з канцэпцыяй «натуральнай» эвалюцыі ад першабытнага грамадства да раннефеадальнага. Праўда, ён трапляе ў хісткае становішча, калі спрабуе падмацаваць гэтую думку канкрэтнымі прыкладамі. Як вядома, у крыніцах, сучасных падзеям, практычна няма звестак пра ўнутранае становішча літоўскага грамадства. Таму аўтар вымушаны экстрапаляваць у мінулае значна больш познія факты пра феадальныя адносіны ў Літве XV—XVI стст. або выкарыстоўваць тыпалагічныя паралелі з грамадствам вікінгаў. У цэлым ён паўтарае шлях, пройдзены яго папярэднікамі — У. Пашутам і асабліва Г. Лаўмяньскім. Пры гэтым параўнальна з апошнім аргументацыя Э. Гудавічуса нават звужана — ён прызнае ролю ваенных набегаў у фарміраванні слоя будучых феадалаў, але не выкарыстоўвае ідэю Лаўмяньскага пра заваёвы на Русі як вырашальны штуршок да эвалюцыі рабаўнічых дружын у панавальны клас (хоць і не аспрэчвае яе). Характэрна для гэтай часткі кнігі і поўнае ігнараванне археалагічных матэрыялаў, што на сённяшнім этапе развіцця гістарычнай навукі выглядае яўна архаічна.

Трэцяя частка («Роля Літоўскай дзяржавы») змяшчае аналіз міжнародных наступстваў з'яўлення гэтай дзяржавы, што стала першай на абшарах балцкіх народаў і натуральным ядром іх палітычнай цэнтралізацыі. Гэты працэс, аднак, вельмі хутка сутыкнуўся з экспансіяй каталіцкага Захаду. Пачалося двухсотгадовае процістаянне, якое адтэрмінавала ўключэнне балтаў у лік еўрапейскіх народаў. Цікава, што яшчэ некалькі гадоў назад у свядомасці літоўскай інтэлігенцыі прасочваўся гонар за гераічны перыяд упартага адпору крыжоваму націску каталіцкай Еўропы і спробам хрышчэння Літвы. Цяпер, калі каталіцтва імкліва адраджае сваю дамінавальную ролю ў культурным жыцці літоўскага грамадства, а галоўнай палітычнай мэтай абвешчана інтэграцыя з ЕС і ўваход у НАТО, акцэнты відавочна мяняюцца. У інтэрпрэтацыі Э. Гудавічуса процістаянне набывае хутчэй трагічнае, чым гераічнае адценне. Асаблівую ўвагу ён аддае фактарам, якія ўлагоджвалі канфлікт, — міжнароднаму гандлю і кантактам з нямецкімі каланістамі.

У чацвёртай частцы («Літоўская палітычная карта пачатку XIII ст.») аўтар прыводзіць вельмі дэталёвую рэканструкцыю палітычнай геаграфіі Літвы, акрэслівае ўладанні асобных князёў і дынастый. Гэтая рэканструкцыя грунтуецца на папярэдніх даследаваннях Э. Гудавічуса, часткова апублікаваных у сярэдзіне 1980-х гг.[4]. Яна, безумоўна, выклікае цікавасць. Праўда, чамусьці няма карты, якая была б тут асабліва дарэчы. Зноў-такі яўна недастаткова выкарыстоўваюцца археалагічныя матэрыялы — у прыватнасці, звесткі пра розніцу ў пахавальных звычаях, за якімі, напэўна, стаялі нейкія племянныя адзінкі. Вырашальнае значэнне пры рэканструкцыі надаецца інтэрпрэтацыі сціслых паведамленняў крыніц, а таксама тапаніміцы.

[4] Gudavičius E. Bandymas lokalizuoti 13 a. lietuvių kunigaikščių valdas // Lietuvos TSR Mokslų Akademijos darbai. A serija. 1984. T. 3 (88). P. 69—79; Гудавичюс Э. «Литва Миндовга» // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985. С. 219—229.

Э. Гудавічус падзяляе пашыраны ў літаратуры погляд на ўжыванне крыніцамі назвы «Літва» ў розных сэнсах — больш шырокім (як агульны этнонім продкаў сучасных літоўцаў) і вузкім (непасрэдныя ўладанні дамінавальнага княскага роду, з якога паходзіў і сам Міндоўг). Пры лакалізацыі «Літвы ў вузкім сэнсе», ці «Літоўскай зямлі» (с. 138—143), ён пагаджаецца з Г. Лаўмяньскім і размяшчае ўладанні «старэйшых князёў» на поўдзень ад Нальшчан, у паўднёвай частцы арэала аўкштайцкіх гаворак і археалагічнай культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Пры гэтым Э. Гудавічус мяркуе, што вотчына Міндоўга займала самую паўднёвую частку гэтага абшару, непасрэдна прылеглую да старажытнарускіх княстваў, у той час як больш паўночная частка, з раёнам Вільні, належала яго старэйшаму брату Даўспрунгу, а потым верагодным сынам апошняга — Таўцівілу і Эдзвіду (Гядзвідасу). Гэты абшар быў захоплены Міндоўгам на мяжы 1248—1249 гг., калі адбылося выгнанне яго пляменнікаў. Гэта быў, паводле аўтара, апошні крок на шляху аб'яднання «Літоўскай зямлі» пад адзінай уладай. Раней Міндоўгам былі далучаны вотчыны іншых родзічаў, прыгаданых у дамове з валынскімі князямі ў 1219 г. Прадстаўнікі гэтага роду і іх вотчыны, на яго думку, генетычна звязаны з князямі Даўгеруце і Стэксе, дамінаванне якіх у Літве на пачатку 1210-х гг. адзначана ў «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага (с. 142).

Шмат увагі аддае Э. Гудавічус пытанню пра магчымую рэзідэнцыю Міндоўга (с. 153—163). Ён аналізуе аргументы іншых літоўскіх даследчыкаў на карысць таго, што сталіцай ужо ў той час была Вільня. На думку аўтара, важкіх доказаў на карысць гэтага не стае. Прынамсі, можна казаць пра Вільню як эканамічны (паводле археалагічных звестак) і духоўны цэнтр (легендарнае месца крэмацыі князёў у даліне Швінтарога, якое прыгадваюць беларуска-літоўскія летапісы). Э. Гудавічус дапускае нават, што раскапаныя археолагамі ў Вільні рэшткі муроў могуць належаць да катэдральнага касцёла, пабудаванага пасля хрышчэння Міндоўга. Але гэта, на яго думку, не абавязкова сведчыць пра наяўнасць там вялікакняжацкай рэзідэнцыі. Лакалізацыя Міндоўгавага замка Варута, прыгаданага ў Іпацьеўскім летапісе, таксама застаецца спрэчнай. У цэлым аўтар пакідае гэтыя пытанні адкрытымі.

Тры наступныя часткі, названыя адпаведна «Аб'яднанне Літвы», «Ад старэйшага князя да караля» і «Хрысціянскі кароль», змяшчаюць агляд звестак пра дзейнасць і жыццёвы шлях Міндоўга да 1260 г. Аўтар выкарыстоўвае практычна ўсе паведамленні пра звязаныя з Літвой падзеі, што захаваліся ў Іпацьеўскім летапісе, «Ліфляндскай рыфмаванай хроніцы», дакументах Тэўтонскага ордэна, папскай курыі і іншых крыніцах на старажытнарускай, старанямецкай, лацінскай мовах. Амаль кожнае паведамленне суправаджаецца адпаведнай цытатай з першакрыніцы на мове арыгінала, што ператварае гэтыя часткі кнігі ў своеасаблівую хрэстаматыю.

Э. Гудавічус паказвае, што вызначальныя і незваротныя крокі да сапраўднай дзяржавы былі зроблены менавіта падчас панавання Міндоўга, адказваючы такім чынам на першае пытанне З. Івінскіса. На момант узгадкі «Літвы Міндоўга» ў Іпацьеўскім летапісе ў 1238 г. ён быў, на думку аўтара, ужо старэйшым сярод прадстаўнікоў дамінавальнай княскай дынастыі, перажыўшы брата Даўспрунга і іншых родзічаў, імёны якіх папярэднічалі яго імені ў дамове 1219 г. (с. 201). Іншыя літоўскія князі, якія яшчэ заставаліся як ва ўласна «Літоўскай зямлі», так і ў іншых княствах, былі, як лічыць аўтар, яго васаламі. Больш за тое, на падставе крыжацкіх крыніц ён прыходзіць да высновы, што на пачатку ці ў сярэдзіне 1240-х гг. ужо адчуваецца падпарадкаванне Літве часткі сумежных балцкіх зямель: населенага яцвягамі левабярэжжа Нёмана, а таксама тэрыторыі селаў і куршаў — «паралельна з унутраным шырыўся знешні васалітэт літоўскай дзяржаўнасці» (с. 204). Прыкметай дзейнасці Міндоўга як палітыка дзяржаўнага ўзроўню выглядае ў ацэнцы Э. Гудавічуса барацьба з Лівонскім ордэнам за кантроль над куршамі, якая прывяла да няўдалага нападу войска Міндоўга на замак Эмбоцен у канцы 1244 ці на мяжы 1245 г. (с. 205—207). На ўсходзе і поўдні ў гэты самы час літоўцы абмяжоўваліся драпежнымі рэйдамі на Русь.

Наступная згадка Міндоўга ў «Ліфляндскай рыфмаванай хроніцы» характарызуе яго як «найвышэйшага караля і ўладара Літоўскай зямлі». На думку Э. Гудавічуса,

гэта «першая згадка пра Міндоўга як сюзерэна ўсёй Літвы» (с. 207), якую ён даволі абгрунтавана адносіць да перыяду з восені 1245 да восені 1246 г. (с. 208). Неўзабаве Міндоўг пазбавіўся і сваіх пляменнікаў, далучыўшы іх вотчыны да сваёй. Разглядаючы наступны канфлікт з Лівонскім ордэнам і Галіцка-Валынскім княствам, якія прынялі бок выгнанніка Таўцівіла і абыходзіліся з ім як з прэтэндэнтам на пасад, Э. Гудавічус адзначае, што «прызнанне фіктыўнай палітычнай вагі Таўцівіла фактычна азначала маўклівае прызнанне рэальнай палітычнай вагі Міндоўга» (с. 216).

Шмат увагі аддаецца ў кнізе аналізу звестак «Ліфляндскай рыфмаванай хронікі» і дакументаў рымскай курыі, якія тычацца стасункаў Міндоўга з Захадам, адмысловай дыпламатычнай падрыхтоўкі яго хрышчэння і каранацыі. Дарэчы, у расійскай, беларускай і, у пэўнай ступені, польскай гістарыяграфіі гэтыя пытанні звычайна застаюцца на перыферыі ўвагі. Э. Гудавічус датуе хрышчэнне Міндоўга ў каталіцтва канцом зімы — вясной 1251 г. (с. 225), а яго каранацыю — 6 ліпеня 1253 г. (с. 237). Гэтыя крокі не толькі далі магчымасць Міндоўгу выйсці са складанай палітычнай сітуацыі, але і дазволілі маладой дзяржаве «ўмацавацца ў палітычнай сістэме Еўропы» (с. 227). Зноў канстатуючы няпэўнасць наяўных звестак пра магчымую рэзідэнцыю Міндоўга (с. 239), Э. Гудавічус, аднак, не толькі не спрабуе прааналізаваць, але нават не прыгадвае версію пра Навагародак як месца яго каранацыі.

Прыкладна дзевяцігадовы перыяд кіравання Міндоўга ў якасці хрысціянскага манарха атрымлівае ў кнізе станоўчую ацэнку. Шэраг пагадненняў з Лівонскім ордэнам, у тым ліку саступленне на яго карысць вялікіх тэрыторый, разглядаюцца як вымушаная, але ў цэлым апраўданая мера. Аўтар лічыць, што ініцыятыва далейшай барацьбы з крыжакамі належала паганскай арыстакратыі, асабліва падкрэсліваючы ролю ваеннага правадыра Жамойці Альменаса (с. 262—281). Э. Гудавічус не спрабуе правесці ніякіх аналогій з вельмі падобнай сітуацыяй пачатку XV ст., калі роля Вітаўта ў падбухторванні жамойтаў да паўстання супраць Ордэна была відавочнай. У заключнай частцы кнігі — «Балты і Еўропа» — тэма канфрантацыі з Захадам набывае яшчэ больш выразную драматычнасць. Раздзел пра разрыў Міндоўга з хрысціянствам у 1260 г. мае красамоўную назву — «Ракавы паварот». Аўтар схіляецца да думкі, што з боку Міндоўга гэты паварот быў вымушаным крокам — на гэта яго штурхала паганскае асяроддзе, якое яшчэ не было гатова да сапраўднай інтэграцыі з Еўропай.

Пэўную цікавасць уяўляе дадатак з аналізам аўтэнтычнасці «Слова пра паход Ігараў». Тут аўтар далучаецца да дыскусіі, у свой час узнятай расійскім гісторыкам А. Зіміным. Э. Гудавічус параўноўвае тэкст «Слова» з апавяданнем Іпацьеўскага летапісу пра тыя ж падзеі і канстатуе супадзенне іх фабулы, прычым «рэаліі былі неістотна зменены пры стварэнні версіі «Слова» паводле версіі, прадстаўленай у Іпацьеўскім летапісе, а не наадварот» (с. 329). Вядома таксама, што стыль «Слова» мае мноства адпаведнасцей з паэмай «Задоншчына», створанай у канцы XIV стагоддзя і, у адрозненне ад яго, вядомай у шматлікіх спісах. Усё гэта дазваляе падазраваць, што «Слова» з'яўляецца фальсіфікатам, фабула якога запазычана з летапісу, а стылістыка — з «Задоншчыны». Аднак Э. Гудавічус робіць канчатковыя высновы асцярожна. Ён піша: «Не магу сцвярджаць, што ўсё гэта дазваляе лічыць «Слова» пераймannем «Задоншчыны», але ўздымаць такое пытанне можна. З гэтага паўстае другое пытанне: якія аргументы паказваюць, што «Слова» не з'яўляецца пераймannем «Задоншчыны»?» (с. 330). У адказ можна прыгадаць, прынамсі, славуты рэфрэн «Слова пра паход Ігараў»: «О Руская земле, уже за шеломянемъ еси!». Даследчыкі сышліся на тым, што архаічным словам «шеломянь» пазначалася града ўгоркаў, якія нагадвалі сваёй формай шлемы («шеломы»). У «Задоншчыне» гэтаму рэфрэну адпавядае загадкавая фраза: «Руская земля, то ти есть как за Соломономъ царемъ побывала». Лёгка зразумець, як старажытнае слова «шеломянь», невядомае аўтару «Задоншчыны» ці скажонае ў тым экзэмпляры «Слова», якім ён карыстаўся, ператварылася ў імя біблейскага цара Саламона[5]. І наадварот, вельмі цяжка ўявіць, як магла

[5] Гл. заўвагу да гэтага месца ў «Задоншчыне»: Хрестоматия по древней русской литературе / Сост. Н.К. Гудзий. Изд. 8-е. М., 1973. С. 175.

адбыцца адваротная змена, якая б ператварыла бессэнсоўны выраз «Задоншчыны» ў яскравы паэтычны вобраз. Гэта, на нашу думку, сведчыць, што менавіта «Задоншчына» выкарыстоўвала стылістыку «Слова», а не наадварот. Дарэчы, калі «Слова» было толькі таленавітай фальсіфікацыяй, нашто яго стваральніку было амаль дослоўна запазычваць стыль добра вядомай «Задоншчыны»? Пры яго таленце можна было б зрабіць значна танчэй.

Беларускага чытача, зразумела, цікавіць у першую чаргу тое, як літоўскі гісторык асвятляе пытанне стасункаў Міндоўга з землямі сучаснай Беларусі і акалічнасці іх уваходу ў склад яго дзяржавы. На жаль, менавіта тут нас чакае самае моцнае расчараванне. Гэтая тэма падкрэслена застаецца па-за ўвагай аўтара. Асабліва гэта кідаецца ў вочы ў гістарыяграфічным аглядзе, на фоне скрупулёзнасці, з якой пералічваюцца працы папярэднікаў Э. Гудавічуса. У недасведчанага чытача можа скласціся ўражанне, што ў беларускай гістарыяграфіі (як мясцовай, так і эмігранцкай) пра эпоху Міндоўга не было напісана ні радка! Не прыгадваецца нават канцэпцыя М. Ермаловіча, хоць у свой час сам Э. Гудавічус прысвяціў палеміцы з ім падрабязную рэцэнзію на 9 старонках, пазней перавыдадзеную ў англійскім перакладзе[6]. Ствараецца ўражанне, што, выканаўшы цяжкі маральны абавязак — даць адпор М. Ермаловічу, Э. Гудавічус больш не жадае вяртацца да гэтай «агіднай» тэмы, пра якую культурнаму чалавеку быццам бы і не варта гаварыць уголас. Канцэпцыі Ермаловіча для Літвы больш не існуе, як у свой час у Савецкім Саюзе «не было сексу».

Такая хваравітая рэакцыя сведчыць не толькі пра тое, якую псіхалагічную траўму нанесла літоўскай інтэлігенцыі спроба беларускіх радыкалаў «адабраць» у іх гісторыю ВКЛ, але і пра глыбокую ўнутраную няўпэўненасць. Падсвядома нашы літоўскія калегі асцерагаюцца, што далейшае абмеркаванне гэтай тэмы прымусіць іх настолькі скарэктаваць сваю сённяшнюю пазіцыю, што гэта можа пагражаць іх нацыянальным інтарэсам. Аднак з псіхалогіі вядома, што спробы індывідуума ігнараваць пагрозлівую ці непрыемную сітуацыю вядуць напрасткі да неўрозу. Гэтак жа ў калектыўнай гістарычнай свядомасці яны прыводзяць да *неўратычнай гістарыяграфіі* — інакш нельга расцаніць поўнае ігнараванне публікацый беларускіх гісторыкаў.

Між тым М. Ермаловіч, пры ўсіх недахопах яго твораў, адрадзіў пытанне пра суадносіны балцкага і ўсходнеславянскага кампанентаў у працэсе стварэння ВКЛ, упершыню ўзнятае дзеячамі беларускай дыяспары ў 1920—1930-х гг. Яго ўласны адказ на гэтае пытанне быў непрафесійным і тэндэнцыйным, што добра паказаў сам Э. Гудавічус у сваёй рэцэнзіі, але ж пытанне, тым не менш, застаецца. Яго жывучасць паказала, што стары і такі прыемны для літоўцаў погляд на пачатак ВКЛ як выключна літоўскую справу не зусім адпавядае рэчаіснасці. І каб рухацца далей наперад, трэба не заплюшчваць вочы, заганяючы праблему ў падсвядомасць, а спакойна шукаць найбольш адэкватны адказ.

Сёння можна сцвярджаць, што на Беларусі канцэпцыя М. Ермаловіча нікім з прафесійных гісторыкаў не падзяляецца. Аднак тэзу пра тое, што ВКЛ паўстала ў выніку ўзаемадзеяння літоўскага і ўсходнеславянскага кампанентаў і ўяўляла сабой кшталт двухэтнічнага сімбіёзу, можна лічыць агульнапрынятай у беларускай гістарычнай навуцы[7]. Таму спроба па-ранейшаму разглядаць дзяржаву Міндоўга як факт выключна літоўскай гісторыі, прапанаваная ў працы Э. Гудавічуса, не адпавядае сучаснаму стану гістарыяграфіі. Можна было б прызнаць права на існаванне такой думкі, калі б аўтар абвяргаў ці неяк тлумачыў вядомыя факты: ужыванне кіраўнічым колам ВКЛ многіх старажытнарускіх тэрмінаў, асабліва ў сістэме кіравання; актыўны ўдзел баярства Полацка, Навагародка, Пінска ў барацьбе за ўладу над ВКЛ на баку таго ці іншага прэтэндэнта; няўдачу Данілы Галіцкага, а потым татараў завалодаць

[6] Gudavičius E. Dar kartąvieno mito pėdsakais // Ludas kultūra. 1994. № 5. P. 25—33; Gudavičius E. Following the Tracks of a Myth // Lithuanian Historical Studies. 1. Vilnius, 1996. P. 38—58.

[7] Насевіч В.Л. Працэс утварэння Вялікага княства Літоўскага (XIII—XIV стст.) // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі. Мн., 1992. С. 54—63; Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1998. С. 133—136.

гарадамі Беларускага Панямоння, якія кожны раз чамусьці зноў аказваліся пад кантролем папярэдне пераможаных літоўцаў (што сведчыць пра пазіцыю мясцовага насельніцтва), і г.д. Замест таго гэтыя факты проста не заўважаюцца.

Увогуле стасункі з праваслаўнай Руссю, якая напярэдадні татарскага нашэсця не намнога саступала каталіцкай Еўропе па тэрыторыі і культурным патэнцыяле, займаюць у кнізе непараўнальна меншае месца. Зразумела, у крыніцах няшмат паведамленняў на гэтую тэму, але ж іншыя, не лепш забяспечаныя фактамі сюжэты Э. Гудавічус аналізуе вельмі старанна. Напрыклад, пільна разглядаюцца звесткі пра гандаль з Захадам, а ролі нямецкіх каланістаў прысвечаны асобны раздзел (с. 131—136). У той час славянская каланізацыя не прыгадваецца зусім, хоць пра яе выразна сведчаць, напрыклад, археалагічныя раскопкі ў Вільні. Думаецца, калі б літоўская гістарычная навука набралася духу і прызнала нарэшце факт прысутнасці славян у Літве, яна здолела б развівацца далей значна больш прадукцыйна. Адкрылася б прастора да аналізу сапраўднай ролі міжэтнічных кантактаў, асабліва ў іх дынаміцы. Вельмі цікава было б даведацца, у якія гістарычныя перыяды археалагічная прысутнасць славян на тэрыторыі Літвы была больш ці менш прыкметнай, з якімі палітычнымі падзеямі гэта супадае і г.д. Пакуль адказаў на гэтыя пытанні няма, уяўленне аб працэсе ўтварэння ВКЛ нельга лічыць поўным.

Тое ж тычыцца і палітычных падзей. Аўтар толькі канстатуе (с. 214), але не спрабуе растлумачыць і неяк асэнсаваць падуладнасць Міндоўгу Навагародка і іншых княстваў Беларускага Панямоння (дарэчы, у адносінах да іх Э. Гудавічус карыстаецца анахранічнай назвай «Чорная Русь», вядомай толькі з XVII ст., прычым яна тычылася значна шырэйшай тэрыторыі). Літоўская экспансія на Русь (якая, на думку аўтара, мела чыста ваенны характар) трактуецца ім не больш чым як імкненне атрымаць свайго роду «кампенсацыю» за тэрытарыяльныя страты на карысць крыжакоў у Жамойці (с. 242—243, 256—257). Характэрна, што ў рэзюмэ, куды ўключаны найбольш важныя для аўтара тэзы, Навагародак і беларускія ўладанні Міндоўга прыгадваюцца толькі мімаходзь — у якасці яго «дамена», перададзенага сыну Данілы Галіцкага Раману і потым захопленага зноў (с. 337, 338). Зусім не згадваецца ў кнізе рускі ваявода Астафій Канстанцінавіч, які, паводле Іпацьеўскага летапісу, выконваў вельмі значную ролю ў апошнія гады панавання Міндоўга (а верагодна — і ў змове супраць яго). Ні слова не гаворыцца пра тыя перавагі, якія прынесла Міндоўгу (у тым ліку і ў чыста літоўскіх справах) улада над Навагародкам і падтрымка з боку тамтэйшага баярства.

Такім чынам, з аднаго боку праца Э. Гудавічуса ўяўляе сабой вельмі грунтоўнае, фундаментальнае даследаванне, асабліва ў дачыненні да заходняга вектара палітыкі Літвы XIII ст. Разам з тым у асвятленні ўсходняга вектара маецца шэраг хібаў, абумоўленых непераадоленым «беларускім сіндромам» сучаснай літоўскай гістарыяграфіі.

Найбольшую цікавасць уяўляе новы погляд на Міндоўга як на няўдалага «інтэгратара» з каталіцкім светам. Ацэнка дзейнасці Міндоўга і яго дзяржавы ў агульнаеўрапейскім кантэксце (сёмае пытанне, азначанае самім Э. Гудавічусам) стварае стрыжнёвы матыў яго кнігі. Праўда, не заўсёды яна з непазбежнасцю вынікае з тых фактаў, на падставе якіх грунтуецца — шмат чаго залежыць ад агульнай пазіцыі аўтара. Тое, што спрыяла збліжэнню Літвы з каталіцкім светам, амаль што аўтаматычна набывае пазітыўнае гучанне. Гэта перадвызначае і пазіцыю ў дачыненні да хрышчэння Міндоўга, яго стасункаў з Ордэнам і цэнтралізатарскіх намаганняў.

Адчуваецца, што кніга напісана не столькі прадстаўніком інтэрнацыянальнай навуковай супольнасці, колькі менавіта літоўцам, які ўвесь час трымае ў свядомасці палітычныя актуаліі і шукае адказы з пазіцый сённяшняга дня. Гэта можна разглядаць як прыклад таго, што «кожнае пакаленне стварае сваю гісторыю». На такім фоне навуковы стыль Г. Лаўмяньскага (які імкнуўся разглядаць гістарычныя з'явы, так бы мовіць, «з пункту гледжання вечнасці» і заставацца па-за палітычнай кан'юнктурай) сапраўды застаецца не дасягнутым не толькі гістарыяграфіяй савецкага часу, але і самім Э. Гудавічусам. Які падыход лепш — пытанне дыскусійнае.

Але праца Лаўмяньскага, выдадзеная звыш паўстагоддзя таму, да сёння не страціла навуковага значэння і, напэўна, захавае яго яшчэ надоўга. Безумоўна, захавае свае вартасці і агляд гістарычных падзей, рупліва сабраны ў кнізе Э. Гудавічуса. Аднак ён ужо прыводзіўся, хоць і не ў такім канцэнтраваным выглядзе, яго шматлікімі папярэднікамі. А вось як будуць успрымацца праз некалькі дзесяцігоддзяў уласныя інтэрпрэтацыі і высновы аўтара — сказаць цяжка. Думаецца, што час усё расставіць па сваіх месцах.

*Друкуецца паводле:*
Беларускі гістарычны агляд. Т. 6. Сш. 1—2 (10—11). 1999.
С. 261—272 (суаўтар Уладзімір Свяжынскі).

# Пытанняў больш, чым адказаў

**(Краўцэвіч Алесь К. Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Мінск: Беларуская навука, 1998. 208 с.)**

За некалькі апошніх гадоў гісторыя Вялікага Княства Літоўскага знайшла належнае месца ў энцыклапедыях, абагульняльных працах па гісторыі Беларусі, школьных і ўніверсітэцкіх падручніках і г.д. Адпаведна змяніліся і патрабаванні да прафесійных гісторыкаў, якія пішуць на гэтую тэму. Ад іх сёння чакаюць не столькі папулярызацыі ведаў, назапашаных папярэднікамі, колькі далейшай распрацоўкі праблем, што застаюцца не да канца вырашанымі.

Кніга Алеся Краўцэвіча, прысвечаная працэсу стварэння ВКЛ, пісалася якраз на працягу тых гадоў, калі адбываліся гэтыя змены. Усведамленне гэтай акалічнасці дапамагае лепш зразумець як яе вартасці, так і недахопы. Кніга пакідае супярэчлівае ўражанне. Здаецца, што ў асобе аўтара змагаюцца публіцыст, апантаны інтарэсамі нацыянальнага адраджэння, і разважлівы гісторык.

Першую частку кнігі ствараюць сціслая, але ёмкая характарыстыка крыніц і даволі падрабязны гістарыяграфічны агляд існуючых канцэпцый утварэння ВКЛ. Агляд далёка не вычэрпны, але ў аснове грунтоўны і цікавы. Аднак ужо ў ім пачынае адчувацца разлад паміж гісторыкам і публіцыстам у асобе аўтара. Гісторык трапнымі рысамі акрэслівае сутнасць поглядаў таго ці іншага даследчыка (адзначым, што справа гэта вельмі няпростая, але А. Краўцэвіч спраўляецца з ёй у цэлым удала), а публіцыст робіць абагульненні і высновы, штучна надаючы кнізе палемічнае адценне нават там, дзе для гэтага няма асаблівых падстаў.

Аўтар групуе погляды розных і часам вельмі нязгодных паміж сабой даследчыкаў у адзіную «агульнапрынятую» канцэпцыю ўтварэння ВКЛ. Пры гэтым для яго не мае розніцы, што адны надавалі значэнне першаснага штуршка пагрозе з боку нямецкіх рыцараў, другія — літоўскім заваёвам на Русі і неабходнасці захаваць іх у сваіх руках. Гэтак жа не надае ён значэння таму, чым тлумачылі даследчыкі павышаную ваенную актыўнасць літоўцаў і яе поспехі, якім часам датаваўся пачатак дзяржаваўтварэння і што прызнавалася яго галоўным рухавіком, хто лічыцца стваральнікам дзяржавы — Міндоўг ці яго невядомы папярэднік і г.д. Не важна, што хтосьці вызначаў этнічны характар дзяржавы як балцкі, а хтосьці — як змешаны літоўска-расійскі або беларуска-літоўскі, лічыў асноўным зместам падзей канфрантацыю паміж этнасамі або, наадварот, іх сінтэз ці сімбіёз і г.д. Побач аказваюцца і тыя, хто лічыў з'яўленне дзяржавы вынікам заваёвы беларускіх зямель этнічнымі літоўцамі («летувісамі» паводле тэрміналогіі А. Краўцэвіча), і тыя, хто адмаўляў гэтую ідэю або пакідаў пытанне адкрытым, як нават і тыя, хто прызнаваў ролю беларускіх дружын у падпарадкаванні вялікім князем самастойных племянных княстваў. Усё гэта — нязначныя адценні адзінай «агульнапрынятай» канцэпцыі!

Праўда, А. Краўцэвіч прызнае існаванне яшчэ адной канцэпцыі, галоўнымі рысамі якой былі тэзы пра стварэнне ВКЛ як справу рук навагародскіх феадалаў, у інтарэсах якіх дзейнічалі Міндоўг і яго сын Войшалк, і пра заваёву Літвы беларусамі, а не наадварот. Аўтарства гэтай канцэпцыі ён прыпісвае М. Ермаловічу, і ў гэтым трэба прызнаць істотную гістарыяграфічную памылку. Аўтар чамусьці не ўлічвае працы гісторыкаў з беларускай эміграцыі, у якіх гэтыя ідэі былі выказаны значна раней. Напрыклад, у артыкуле Мікалая Шкялёнка «Падзел гісторыі Беларусі на перыяды», надрукаваным у «Запісах беларускага навуковага таварыства» ў Вільні ў 1938 г., можна знайсці тэзы пра знаходжанне першапачатковых уладанняў Міндоўга «ў заходнім куце беларускіх зямель — Наваградчыне, Слонімшчыне, Ваўкавышчыне і Гарадзеншчыне», пра заваёву ім Аўкштайціі і Жамойці «стоячы на чале беларускай дружыны», пра паўторнае заваяванне іх Войшалкам «з беларускай сваёй дружынай і пры памозе Галіцкай Русі»,

пра тое, што «ўсе беларускія землі, як Полаччына, Піншчына, Меншчына, Віцебшчына і іншыя, самахоць прылучыліся да новага гаспадарственнага цэнтру», і пра тое, што «гаспадарства Міндоўгава ад свайго паўстання было беларускае»[1]. Як бачым, М. Ермаловіч толькі разгарнуў і дэталізаваў гэтую канцэпцыю.

Пры далейшым чытанні кнігі А. Краўцэвіча высвятляецца, што «нягледзячы на выразную супярэчлівасць, гэтыя дзве версіі (так званая «агульнапрынятая» і М. Ермаловіча. — *В.Н.*) маюць шмат агульнага». Сярод гэтага агульнага аўтар вызначае, у прыватнасці, «выразную ідэалагічную афарбоўку», якая праяўляецца «ў імкненні давесці канкрэтную этнічную прыналежнасць дзяржавы (летувіскую ці беларускую) з самага яе пачатку» (с. 67). Гэтая фраза папросту збівае з панталыку, бо раней (с. 36, 38) аўтар згадаў пры асвятленні «агульнапрынятай» канцэпцыі не толькі тых, хто прызнаваў этнічна літоўскі характар ВКЛ (практычна ўсіх польскіх і літоўскіх даследчыкаў), але і тых, хто падкрэсліваў яго змешаны руска-літоўскі ці беларуска-літоўскі характар (М. Любаўскага, М. Доўнар-Запольскага) або займаў «нейтральную» пазіцыю (М. Грушэўскага). Межы канцэпцый у трактоўцы А. Краўцэвіча канчаткова губляюцца, калі ён адзначае, што «разуменне пачаткаў ВКЛ, выказанае расійскім гісторыкам С. Думіным, найбольш блізкае да поглядаў, выказаных у маёй працы», а літаральна ў пачатку наступнага абзаца робіць нечаканую выснову: «Такім чынам, сёння паўсюдна прынята традыцыйная канцэпцыя генезы ВКЛ...» (с. 64). Калі і погляды С. Думіна, найбольш блізкія да поглядаў А. Краўцэвіча, ёсць часткай паўсюдна прынятай канцэпцыі, якая не задавальняе апошняга сваёй «ідэалагічнай афарбоўкай», то дзе ж пралягае мяжа? Міжволі ўспамінаецца вядомы жарт пра тое, што «існуюць два пункты гледжання: мой і памылковы».

Праўда, з пэўнымі цяжкасцямі ў тэксце А. Краўцэвіча можна знайсці неаднаразовае вызначэнне той па сутнасці адзінай прыкметы, якая дазваляе яму адносіць вельмі розныя погляды да агульнай канцэпцыі. Гэтай фатальнай рысай выступае прызнанне ідэі «эвалюцыі летувіскага грамадства да дзяржавы» (с. 30, 36) або «ўтварэнне ВКЛ як вынік унутранага развіцця балцкага этнасу» (с. 65). Адзначым, што сам аўтар піша і пра яшчэ адну быццам бы ўніверсальную прыкмету — прызнанне «заваёвы літоўцамі суседніх усходнеславянскіх зямель» (с. 30), але тут ён непаслядоўны. Так, сярод прыхільнікаў «агульнапрынятай» канцэпцыі ім згадваецца, напрыклад, М. Доўнар-Запольскі, які яшчэ ў 1918 г. выразна падкрэсліваў, што «гістарычная навука зусім адкідае ўсе гутаркі аб тым, быццам беларускія землі былі заваяваны літоўскімі князямі»[2]. Туды ж трапіў і аўтар гэтых радкоў, погляды якога А. Краўцэвіч характарызуе як «злагоджаны» варыянт той жа «балцкай канцэпцыі генезісу ВКЛ з акцэнтаваннем добрай волі ўсходніх славян пры пераходзе іх да падданства летувіскай дынастыі...» (с. 65—66). Як бачым, акалічнасці ўваходу славянскіх зямель у склад ВКЛ губляюць значэнне пры наяўнасці галоўнай «крамолы» — дапушчэння актыўнай ролі літоўцаў-«летувісаў» у працэсе дзяржаваўтварэння.

З адмаўлення аўтарам такога дапушчэння павінна было б, здаецца, вынікаць, што заслуга ўтварэння ВКЛ належыць выключна ўсходнім славянам (беларусам). У такім выпадку адзіным аднадумцам А. Краўцэвіча (апрача забытага ім М. Шкялёнка і мімаходзь упамянутага П. Урбана) застаўся б толькі Мікола Ермаловіч. Аднак і ад поглядаў апошняга А. Краўцэвіч адмяжоўваецца. Тут, праўда, крытэрыі другасныя, якія пры вызначэнні прыхільнікаў «агульнапрынятай» канцэпцыі не прымаліся ў разлік: М. Ермаловіча аўтар папракае хіба што за няўдалую лакалізацыю першапачатковай Літвы і за прыпісванне Міндоўгу ролі ўцекача з яе. Заслугай жа яго застаецца тое, што ён «блізка падышоў да ідэі саюза паміж двума этнічнымі чыннікамі, саюза, які, на мой погляд, даў пачатак працэсу дзяржаўтварэння» (с. 60).

Выходзіць, поўнае адмаўленне ролі літоўцаў — гэта таксама ерась! На справе меў месца «саюз паміж двума этнічнымі чыннікамі». Чым жа ён адрозніваецца ад

---

[1] Цытуецца паводле выдання: Шкялёнак М. Падзел гісторыі Беларусі на пэрыёды // Спадчына. 1993. № 3. С. 4—5.

[2] Цытуецца паводле выдання: Доўнар-Запольскі М.В. Асновы Дзяржаўнасці Беларусі. Мн., 1994. С. 9.

«сінтэзу» паводле У. Пашуты, «сімбіёзу» паводле аўтара гэтых радкоў, «пагадненне» паводле С. Думіна і г.д.? Напэўна, толькі тым, што А. Краўцэвіч не дапускае думкі пра незалежную ад славянскіх суседзяў «эвалюцыю летувіскага грамадства да дзяржавы» і тым больш пра тое, што «толькі пасля з'яўлення гэтай дзяржавы пачынаецца ўтварэнне ВКЛ» (с. 65). Дык вось у чым фундаментальная загана падыходаў, на якіх будуецца «ўся ідэалогія навукі аб ВКЛ не толькі ў Летуве, але па ўсім свеце» (с. 65): яны дапускалі, што ўтварэнню ВКЛ папярэднічалі *самастойныя* працэсы дзяржаваўтварэння ў асяроддзі балцкага этнасу «летувісаў»! Застаецца толькі схіліцца перад тытанічнай постаццю аўтара, які адзінока змагаецца супраць «усяго свету» па такім прынцыповым пытанні.

Відавочна, што А. Краўцэвіч штучна стварае ўражанне паўсюднай цемрашальнай ілжэканцэпцыі, каб супрацьпаставіць ёй сваю, адзіна слушную. У рэальнасці ж існуе, як пераканаўча паказана ім самім, даволі шырокі спектр поглядаў, якія плаўна змыкаюцца паміж сабой. Дыяпазон яго абумоўлены непаўнатой наяўных фактаў, якія можна тлумачыць па-рознаму. Натуральна, што кожны, хто знаходзіцца ў нейкім пункце гэтага спектра, лічыць сваю пазіцыю самай удалай — інакш ён бы і не трымаўся яе. Пры гэтым асобныя меркаванні па канкрэтных пытаннях могуць суіснаваць у самых розных спалучэннях. У прыватнасці, *адсутнічае жорсткая сувязь* паміж канцэпцыяй пра самастойную эвалюцыю балтаў да дзяржавы і пастулатам пра адвечную балта-славянскую канфрантацыю. Сцвярджаючы ў заключэнні да сваёй кнігі, што азначаны пастулат з'яўляецца «падмуркам гэтай канцэпцыі» і адмова ад яго патрабуе «рэканструяваць увесь будынак» (с. 172, 173), аўтар, мякка кажучы, не зусім дакладны. У гэтым бачыцца толькі яго імкненне надаць болей вагі сваёй працы. Як будзе паказана ніжэй, бадай што галоўнай ідэяй кнігі А. Краўцэвіча з'яўляецца выснова пра мірнае суіснаванне этнасаў на Панямонні. Калі прызнаць, што на гэтай самай ідэі грунтавалі свае канструкцыі некаторыя з яго папярэднікаў, то атрымаецца, што аўтар ломіцца ў адчыненыя дзверы. Між тым, яму вельмі хочацца быць першапраходцам.

Аб'ектыўна, А. Краўцэвіч не будуе кардынальна новую канцэпцыю, як імкнецца паказаць, а спрабуе *ўдасканаліць існуючую сістэму ведаў* у двух параўнальна вузкіх аспектах — у пытанні пра характар балта-славянскага ўзаемадзеяння (канфрантацыя або супрацоўніцтва) і ў ацэнцы ролі ўнутраных сацыяльна-палітычных працэсаў у этнічнай (балцкай) Літве. Нічога заганнага ў гэтым няма. Наадварот, пры крайняй скупасці фактаў і безлічы супрацьлеглых меркаванняў можна лічыць за вялікі поспех прасоўванне наперад літаральна ў кожнай дробязі — калі гэта сапраўды рух углыб, а не слізганне па паверхні. Не абавязкова быць Калумбам, бо і заслугі Амерыга Веспучы чалавецтва памятае і шануе. Таму разгледзім канкрэтны ўклад аўтара ў азначаныя пытанні.

Аналіз характару балта-славянскіх кантактаў займае асноўную частку кнігі А. Краўцэвіча. Безумоўным плюсам трэба прызнаць тое, што ён імкнецца выкарыстоўваць даныя максімальна шырокага кола навук: археалогіі, мовазнаўства, тапанімікі. Заслугоўвае ўвагі яго агульная ідэя пра тое, што міжэтнічныя кантакты на Панямонні трэба разглядаць у шырокім кантэксце балта-славянскага ўзаемадзеяння, якое адбывалася на працягу паўтары тысячы гадоў і мела істотнае значэнне для этнагенезу беларусаў увогуле. Бадай што першым ён выразна сфармуляваў выснову пра тое, што ў крыніцах практычна адсутнічаюць сведчанні пра якія-небудзь ваенныя канфлікты паміж Літвой і непасрэдна прылеглымі да яе княствамі Русі. Варта адзначыць таксама высновы А. Краўцэвіча пра існаванне на Панямонні не столькі выразнай этнічнай мяжы, колькі шырокай кантактнай зоны са змешаным насельніцтвам (хоць гэтую думку нельга назваць кардынальна новай), а таксама пра тое, што ў працэсе кантакту адбывалася мірная экспансія славян у балцкае асяроддзе, але сустрэчны рух балтаў не прасочваецца.

У цэлым аналіз азначанай тэмы, праведзены А. Краўцэвічам, сапраўды ўдакладняе і паглыбляе нашыя веды. Можна пагадзіцца з яго думкай пра ўзнікненне ВКЛ як «часткі балта-славянскага ўзаемадзеяння» (с. 97). Праўда, у шэрагу момантаў яго

сцвярджэнні, у сваю чаргу, патрабуюць удакладнення. Перш за ўсё гэта тычыцца прыгожай ідэі пра непарыўную сувязь этнічных працэсаў на Панямонні з агульным працэсам славянізацыі тэрыторыі сучаснай Беларусі. На жаль, яна грунтуецца на састарэлых уяўленнях пра тое, што сярэднявечныя літоўцы-аўкштайты з'яўляюцца непасрэднымі нашчадкамі культуры штрыхаванай керамікі і, такім чынам, этнічна роднасныя плямёнам, што засялялі амаль усю Беларусь напярэдадні славянскай міграцыі. Між тым гэта якраз той выпадак, калі, паводле слоў самога аўтара, папулярнасць канцэпцыі «не абавязкова з'яўляецца доказам яе навуковай непагрэшнасці» (с. 66). Археалагічныя доследы апошняга часу ўсё больш высвятляюць, што складанне культуры ўсходнелітоўскіх курганоў (якая амаль бясспрэчна належала літоўцам-аўкштайтам) было вынікам перш за ўсё міграцыйнага імпульсу носьбітаў так званай шурпатай керамікі з арэала культуры заходнябалцкіх курганоў (на тэрыторыі сучаснай Калінінградскай вобласці). Культура ж штрыхаванай керамікі адыгрывала ролю субстрату — такую ж, як і пры складанні славянскай культуры цэнтральнай Беларусі[3].

Такім чынам, аўкштайты (як, дарэчы, і яцвягі, паходжанне якіх таксама звязана з арэалам заходнябалцкіх курганоў) былі *такім жа прышлым* насельніцтвам Сярэдняга і Верхняга Панямоння, як і славяне. Праўда, іх каланізацыйны рух прыпадае ў асноўным на больш ранні час (III—V стагоддзі н.э.). Са славянамі яны ўпершыню сутыкнуліся прыблізна ў IX стагоддзі, калі *дзве сустрэчныя міграцыйныя хвалі* сутыкнуліся прыблізна на берагах Нёмана (вышэй вусця Росі), Бярэзіны і Віліі ў яе самай верхняй плыні — дарэчы, амаль на «лініі Сафарэвіча», што вызначае перавагу тыпова балцкай тапанімії ў больш познія часы. Гэта значыць, што схема этнічнага ўзаемадзеяння, тыповая для працэсу славянізацыі большасці Беларусі (паглынанне славянамі носьбітаў культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай, пры якім актыўная роля субстрату амаль не прасочваецца), *не мае дачынення* да кантакту славян з яцвягамі і аўкштайтамі. Затое, наадварот, паўстае пытанне пра наяўнасць у складзе дрыгавічоў, крывічоў і аўкштайтаў *агульнага субстрату* асіміляванай імі культуры штрыхаванай керамікі, што магло значна аблегчыць іх узаемныя кантакты і спрыяць пераважна мірнаму характару апошніх.

Са сказанага вынікае таксама, што этнічная мяжа ў Панямонні была больш устойлівай, чым уяўлялася раней. Больш таго, балцкае насельніцтва на поўдзень і ўсход ад яе, якое фіксуецца на левабярэжжы Верхняга Нёмана ў XI—XIV стст., было не рэліктам папярэдняй эпохі (ні каменныя, ні ўсходнелітоўскія курганы да прыходу славян не былі там пашыраны), а вынікам дакладна такой жа міграцыі, як і прасоўванне славян у бок Горадна і Вільні. Прыкладна аднолькавая шырыня кантактнай зоны па абодва бакі ад лініі першага сутыкнення, добра бачная на карце 1 з кнігі А. Краўцэвіча, сведчыць пра тое, што ўзаемапранікненне ў тыя часы было *аднолькава актыўным*. Адзін са шляхоў рассялення балтаў на славянскіх землях фіксуе добра вядомы факт пасялення вялікім князем Трайдзенам уцекачоў з Прусіі і Бартыі ў ваколіцах Горадна і Слоніма. Яшчэ больш яскрава пра сустрэчны кірунак этнічных рухаў сведчыць той самы феномен каменных магіл, які прыгадвае А. Краўцэвіч. Гэты пахавальны звычай нарадзіўся, як лічыцца, у асяроддзі яцвягаў на падставе іх папярэдняга звычаю насыпаць каменныя курганы. Але распаўсюдзіўся ён значна шырэй за арэал каменных курганоў, прычым пашырэнне яго ішло з Сярэдняга Панямоння на абшары цэнтральнай і паўночнай Беларусі, трывала аславяненыя яшчэ ў X ст.

Масавая ж асіміляцыя славянамі аўкштайтаў у кантактнай зоне прыпадае на значна больш позні перыяд — паміж XVI і сярэдзінай XX ст. (ды і скончылася яна ўрэшце не беларусізацыяй, а паланізацыяй). Такім чынам, да тэмы ўтварэння ВКЛ яна не мае непасрэднага дачынення. Але варта мімаходзь адзначыць, што ў крыніцах ёсць і не-

[3] Ушинскас В.А. Роль культуры штрихованной керамики в этногенезе балтов // Славяне: Этногенез и этническая история. Л., 1989. С. 62—67; Медведев А.М. К вопросу о взаимоотношении западных балтов и носителей культуры штрихованной керамики в I тысячелетии н. э. // Насельніцтва Беларусі і сумежных тэрыторый у эпоху жалеза. Мн., 1992. С. 81—83; Luchtanas A. Rytų Lietuva I tūkst. pr. m. erą // Lietuvos archeologija. Kn. 8. Vilnius, 1992. P. 56—85.

пасрэдныя сведчанні літоўскай каланізацыі ў познія часы. Так, у 1516 г. у справе наконт аднаго зямельнага абшару на Лагойшчыне згадваюцца апусцелыя «земли служебные, где сидели Петр с братьею, литва»[4]. Недалёка адтуль, таксама на Лагойшчыне, прыкладна ў XVII ст. з'явілася (з XVIII ст. рэгулярна сустракаецца ў дакументах) вёска з характэрнай назвай Жвірблевічы (цяпер в. Жырблевічы Лагойскага р-на). Назва яе відавочна паходзіць ад мянушкі заснавальніка (па-літоўску *žvirblis* — «верабей»). Усё гэта паказвае, што пытанне пра характар балта-славянскага ўзаемадзеяння яшчэ далёка не вычарпана і яго далейшае вывучэнне ўяўляецца вельмі перспектыўным.

З галоўнай тэзай А. Краўцэвіча пра тое, што ўзаемадзеянне насіла мірны характар, можна было б цалкам пагадзіцца, калі б аўтар гаварыў пра *пераважна* мірны характар. Аднак з некаторых яго рэплік утвараецца ўражанне, што ён схільны настойваць на *амаль выключна* мірным характары кантактаў, дапускаючы толькі асобныя сутыкненні. Вось гэта ўжо выклікае сумненні. Па-першае, падкрэсліваючы адсутнасць звестак пра ваенныя канфлікты, варта было б агаварыць, што ўвогуле звесткі пра ўнутранае жыццё княстваў Полаччыны, Меншчыны і Панямоння ў рускіх летапісах другой паловы XII — XIII стагоддзя амаль адсутнічаюць. Мы не ведаем нават імёнаў большасці ўдзельных князёў, што рэзка кантрастуе з сітуацыяй у іншых частках Русі. Рэдкія ўпамінанні з'яўляюцца галоўным чынам у сувязі з падзеямі ў іншых рэгіёнах. У такіх умовах адсутнасць *звестак* пра нейкую з'яву не можа служыць канчатковым доказам поўнай адсутнасці *самой з'явы*.

Дарэчы, шырока вядома і непасрэднае паведамленне пра канфлікт паміж Літвой і адным з полацкіх князёў, змешчанае ў «Слове пра паход Ігараў». Паколькі А. Краўцэвіч мімаходзь дае яму рады на той падставе, што гэта толькі «радок з літаратурнага твора» (с. 46), варта прывесці гэты «радок» цалкам: «Един же Изяслав, сын Васильков, позвони своими острыми мечи о шеломы литовския, притрепа славу деду своему Всеславу, а сам под чрелеными щиты на кроваве траве притрепан литовскими мечи». Каментарыяў, здаецца, не трэба.

Пішучы пра «двухвяковы вопыт мірных кантактаў», аўтар забываецца на тое, што ў XI ст. Літва была адным з народаў «иже дань дают Руси». Калі мае рацыю меркаванне некаторых даследчыкаў, што Новагародак быў заснаваны як памежны фарпост Русі якраз пасля паходу Яраслава Мудрага на Літву ў 1040 г., падчас якога апошняя трапіла ў данніцкую залежнасць, то менавіта на новагародскім баярстве ляжала функцыя *непасрэднага збору* гэтай даніны — з усімі калізіямі, якія непазбежна з гэтага вынікалі. Такую ж ролю, напэўна, спаўняла і славянская факторыя ў Вільні. Аўтар прыгадвае археалагічныя сведчанні эканамічнага росквіту гарадоў Панямоння ў XII ст. і трактуе іх як вынік міжэтнічных кантактаў. Але чым гандлявалі гэтыя гарады ледзь не з усёй Еўропай? Можа, якраз сваёй доляй літоўскай даніны?

Да таго ж агульнавядома, што прыкладна з сярэдзіны XIII ст. (калі кантакты перайшлі ў сваю найвышэйшую фазу і прывялі да стварэння ВКЛ) культурны слой у практычна ўсіх беларускіх гарадах рэзка змяншаецца, а многія з іх прыходзяць у амаль поўнае запусценне. Гэта сведчыць, прынамсі, пра тое, што *эканамічны росквіт і балта-славянскае ўзаемадзеянне не былі жорстка звязаны паміж сабой*, калі не пра нешта большае. Зразумела, заняпад гарадоў быў выкліканы рознымі прычынамі, і найбольш верагодная з іх — ваенныя і эканамічныя наступствы татарскіх паходаў. Невыпадкова на поўдні і ўсходзе Беларусі ў слаях, што непасрэдна папярэднічалі заняпаду, неаднаразова знойдзены татарскія наканечнікі стрэл. Але гэта не азначае, што адначасова не маглі дзейнічаць іншыя фактары. Археолаг Ю. Заяц ужо выказваў меркаванне, што запусценне ў даследаваным ім Заслаўі магло быць вынікам літоўскага нападу ў сярэдзіне XIII ст.[5]. Пакуль што гэта толькі гіпотэза, але хто з археолагаў можа даць руку на адсячэнне, што пры наступных раскопках недзе ў цэнтральнай Беларусі не будзе знойдзены ў аналагічным кантэксце балцкі наканечнік? Сістэма, пабудаваная А. Краўцэвічам, занадта жорсткая, каб вытрымаць з'яўленне такога факта.

[4] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 1. СПб., 1861. № 62.
[5] Заяц Ю.А. Заславль в эпоху феодализма. Мн., 1995. С. 118.

Усе гэтыя разважанні, зразумела, не закрэсліваюць ідэю мірнага суіснавання балтаў і славян, але прымушаюць крыху прытарможваць. Што да адсутнасці пісьмовых звестак пра тэрытарыяльныя набыцці літоўцаў, то аўтар чамусьці абмінае адну добра вядомую звестку на гэты конт: паведамленне Галіцка-Валынскага летапісу пра тое, як Міндоўг накіраваў сваіх пляменнікаў з войскам на Віцебшчыну і Смаленшчыну, каб яны здабылі там сабе новыя вотчыны («хто приемлет, собе держит»)[6]. Нават калі гэты факт быў адзінкавым, ён не дазваляе цалкам адмаўляць ініцыятыву Літвы ў падпарадкаванні рускіх княстваў. Не ўлічвае аўтар і глухое паведамленне летапісу пра міжканфесійную напружанасць, якая ўзмацнілася пасля прыходу да ўлады «акаяннага і беззаконнага» Трайдзена. Параўнанне яго з ворагам Хрыста Ірадам і «класічным» ганіцелем хрысціян Неронам у агульнай сістэме тагачаснага светапогляду не магло быць выпадковым.

І з агульных меркаванняў думка пра поўную гармонію двух этнасаў выклікае вялізныя сумненні. Стварыць бесканфліктную «брацкую сям'ю народаў» не ўдалося нават таталітарнай савецкай сістэме. Што ж казаць пра эпоху рэлігійнай ксенафобіі і няспынных усобіц, калі нават часткі аднаго этнасу, узначаленыя роднымі братамі, сыходзіліся ў смяротнай барацьбе? А. Краўцэвіч мае рацыю ў тым, што этнічная дамінанта ў сённяшнім сэнсе не была галоўнай для жыхароў Сярэднявечча, але ж гэта не азначае, што розніца ў мове, звычаях, а тым больш у веравызнанні магла быць цалкам праігнаравана імі. А наколькі агрэсіўнай была этнічная самасвядомасць пэўнай часткі літоўскай арыстакратыі ў XV—XVI стст., сведчыць хоць бы створаная ёй легенда пра нашчадкаў Палямона і іх экспансію на Русі. Хіба яна ўжо не адносіцца да тэмы балта-славянскага ўзаемадзеяння?

А. Краўцэвіч папракае аўтара гэтых радкоў у спробе растлумачыць падзеі вакол Крэўскай уніі як вынік свядомай падтрымкі вярхоўнай уладай ВКЛ інтарэсаў этнічна літоўскага кампанента. Гэта быццам бы супярэчыць ідэі балта-славянскага сімбіёзу (с. 61). Чаму абавязкова супярэчыць? Сімбіёз — гэта становішча, пры якім кожны з бакоў адчувае сябе *лепш, чым паасобку*, але неабавязкова *аднолькава добра*. Калі ж дапусціць, што сапраўды супярэчыць, то тым горш для сімбіёзу (а тым самым і для эквівалентнага яму «саюзу» А. Краўцэвіча), бо ў любым выпадку суцэльная сістэма ўяўленняў пра характар ВКЛ павінна ўлічваць *усе факты* — у тым ліку Крэўскую унію і яе наступствы. Як магло здарыцца, што дзяржава, створаная ў інтарэсах праваслаўнага насельніцтва Панямоння і рукамі праваслаўнага ж баярства, крыху больш чым праз стагоддзе пайшла на дамову, паводле якой дзяржаўнай рэлігіяй абвяшчалася каталіцтва, а этнічна літоўская знаць атрымала выключнае права на заняцце найвышэйшых дзяржаўных пасад? Чаму суіснаванне «душа ў душу» з літоўцамі так адбілася на інтарэсах праваслаўных нашчадкаў стваральнікаў ВКЛ, што потым яны дзесяцігоддзямі адчайна дамагаліся не перавагі — усяго толькі *роўных* правоў?

Аўтар, слушна адзначаючы складанасці з вызначэннем этнічнай структуры насельніцтва ВКЛ, асабліва паводле канфесійнай прыналежнасці (с. 43, 82—83), значна менш крытычны ў адносінах да падлікаў А. Грыцкевіча наконт долі беларусаў і літоўцаў у складзе палітычнай эліты ВКЛ у XVI ст. (с. 44, 125). Між тым, падлікі гэтыя не бездакорныя. А. Грыцкевіч вызначае на падставе перапісу войска 1528 г. 41 найбольш заможны род ВКЛ, з іх 18 лічыць літоўскімі па паходжанні, а 17 — беларускімі (рэшта — украінскія і польскія)[7]. Пры гэтым у лік украінскіх родаў трапілі Гедымінавічы Чартарыйскія, а ў лік беларускіх — Мікіцінічы (велікарускага паходжання), Абрамовічы (яўрэйскага), Зяноўевічы (магчыма, сербскага) і два роды яўна літоўскага паходжання: Няміры і Насілоўскія (адгалінаванне Саковічаў). Паходжанне Глябовічаў дыскусійнае, але самі яны лічылі сябе адгалінаваннем літоўскага роду Манівідаў. Нарэшце, можна па-рознаму тлумачыць паходжанне Лукомскіх (выводзілі

[6] Полное собрание русских летописей. Т. 2. М., 1962. Стб. 815.

[7] Грицкевич А.П. Распределение магнатских и шляхетских владений в Белоруссии по их величине и этнической принадлежности владельцев (XVI в.) // Вопросы истории: Межведомственный сборник. Вып. 5. Мн., 1978. С. 94—105.

сябе ад Гедымінавічаў), а таксама Кунцэвічаў, Косцевічаў і Пецькавічаў. У выніку колькасць літоўскіх родаў у спісе А. Грыцкевіча павялічваецца, як мінімум, да 20—21, а колькасць бясспрэчна беларускіх не перавышае 7 (разам з бясспрэчна ўкраінскімі — 10). Пры гэтым беларускія феадалы былі не самымі заможнымі ў гэтым спісе (не вышэй другога дзясятка) і тым больш далёка не самымі ўплывовымі палітычна.

Калі зірнуць у гістарычнай перспектыве, то вышэйшую ў свецкай дзяржаўнай іерархіі пасаду віленскага ваяводы з моманту яе ўвядзення ў 1413 г. і на працягу двух наступных стагоддзяў (да 1616 г.) займалі 15 асоб, якія належалі да 5 або 6 родаў. З іх толькі этнічнае паходжанне продкаў Я. Глябовіча, які быў віленскім ваяводам з 1542 па 1549 г., можа выклікаць сумненні (гл. вышэй). Усе ж астатнія (Манівіды, Даўгірды, Гаштаўты, Кезгайлы, Радзівілы і іх адгалінаванне Судзімонты) *мелі бясспрэчна літоўскае паходжанне*. На другой па значэнні пасадзе віленскага кашталяна з 1413 па 1511 г. пабыло 10 прадстаўнікоў усё тых жа 5 родаў і яшчэ аднаго таксама літоўскага — князёў Гальшанскіх. Толькі потым у эліту прабіўся першы прадстаўнік славянскага роду — славуты гетман князь К. Астрожскі, прычым у вачах віленскага ваяводы А. Гаштаўта ён назаўсёды застаўся «чалавекам новым, подлай кандыцыі, русінам»[8]. У далейшым віленскімі кашталянамі з 1522 да 1559 г. былі яшчэ 3 прадстаўнікі таго ж вузкага кола арыстакратаў. Аналагічная карціна назіраецца і ў адносінах да пасад троцкага ваяводы і кашталяна (трэцяй і чацвёртай у іерархіі).

Гэтыя факты тычацца не столькі этнічнай самасвядомасці арыстакратаў XVI ст. (яна магла тады ўжо часткова саступаць агульнадзяржаўнаму патрыятызму), колькі той сітуацыі на мяжы XIV—XV стст., якая дазволіла лічаным родам *выключна літоўскага паходжання* заняць настолькі дамінавальнае становішча ў палітычнай эліце, што некалькі пакаленняў іх нашчадкаў утрымлівалі манаполію на найвышэйшыя пасады, нават калі ўмовы істотна змяніліся. Карані гэтай манаполіі трэба шукаць яшчэ раней — прынамсі, у часах Альгерда, калі не Гедыміна. Між тым аўтар пакідае гэтыя часы па-за разглядам, хоць сам жа слушна адзначае: «Каб ацаніць ход падзей, патрэбна добра ведаць яе вынік» (с. 4).

Можна зрабіць выснову, што ўклад А. Краўцэвіча ў высвятленне праблемы балта-славянскіх кантактаў сапраўды мае месца, але не можа разглядацца як яе канчатковае вырашэнне і тым больш як падстава для перагляду ўсёй існуючай сістэмы поглядаў, пра што ён так рашуча заяўляе на с. 173. Часткова ён пашырае і ўдакладняе аргументацыю, выказаную яго папярэднікамі, часткова прапануе арыгінальныя, але далёка не бясспрэчныя ідэі.

Разгледзім другую фундаментальную выснову аўтара — пра няслушнасць усялякіх спроб прыпісаць «летувісам» самастойныя працэсы дзяржаваўтварэння. Перш за ўсё адзначым, што прынцыповае значэнне гэтае пытанне набывае толькі ў інтэрпрэтацыі А. Краўцэвіча. У значнай часткі даследчыкаў яно было на перыферыі ўвагі. Многія, пачынаючы ўжо з У. Антановіча, трактавалі працэс утварэння ВКЛ у той ці іншай ступені як рэакцыю на знешнія імпульсы — пагрозу з боку Нямецкага ордэна і татар, значэнне якой прызнае і А. Краўцэвіч. Выбару не было толькі ў прыхільнікаў вульгарна-марксісцкай парадыгмы, якая прымушала разглядаць усе палітычныя працэсы ў «надбудове» як вынік перш за ўсё змен у сацыяльна-эканамічным базісе. У базісе ўсходнеславянскага грамадства сярэдзіны XIII ст. такія змены не фіксуюцца — значыць, заставалася шукаць іх у грамадстве балтаў. Такі ход думак сапраўды выразна прасочваецца ў працы У. Пашуты, якая нясе на сабе адбітак свайго часу, але гэта не азначае, што ў падобным падыходзе зусім не можа быць рацыянальнага зерня.

А. Краўцэвіч абвяшчае свае метадалагічныя прынцыпы, калі піша пра «адпраўны пункт унутрысістэмнага працэсу» і пра штуршок, які парушыў дынамічную раўнавагу і прывёў сістэму ў рух (с. 134—135). Такая тэрміналогія пераклікаецца з ідэяй *самаарганізацыі складаных сістэм* (якую аўтар, на жаль, недарэчна блытае з другім пачаткам тэрмадынамікі). Увогуле гэтая ідэя сёння выглядае найбольш

---

[8] Сагановіч Г.М. Айчыну сваю баронячы: Канстанцін Астрожскі. Мн., 1992. С. 56.

перспектыўнай для разумення эвалюцыі грамадства[9]. Прыхільнасць да яе можна было б шчыра вітаць, але сістэмны падыход азначае не проста ўжыванне модных слоўцаў. Ён патрабуе аналізу таго, якія напружанні ў кампанентах сістэмы зрабілі яе раўнавагу няўстойлівай, а таксама дэталёвага апісання паводзін сістэмы ў адказ на знешні штуршок (пажадана, каб з выкарыстаннем матэматычнага апарату — напрыклад, тэорыі катастроф або тэорыі нераўнаважных сістэм).

На вялікі жаль, у кнізе А. Краўцэвіча ёсць толькі *імітацыя* падобнага падыходу. У якасці вырашальнага штуршка пастулюецца пачатак палітычнага саюзу паміж усходнеславянскімі «гарадамі-дзяржавамі» і правадырамі балцкіх плямёнаў, які ўвасобіўся ў з'яўленні Міндоўга на княжацкім пасадзе ў Навагародку. Мы не сустрэнем у тэксце грунтоўных апісанняў таго, з якіх кампанентаў складалася палітычная сістэма напярэдадні гэтай падзеі і як яны ўзаемадзейнічалі між сабой і са знешнім асяроддзем. Ды і заключэнне саюзу варта лічыць не штуршком да ўтварэння дзяржавы, а хутчэй першай рэакцыяй на яго. Што ж было непасрэдным штуршком да самога саюзу? Трэба разумець, што выпадковасць — у выглядзе рэзкага ўзрастання ваеннай пагрозы. Тэорыя самаарганізацыі, у адрозненне ад вульгарнага марксізму, дапускае такую магчымасць, але ж трэба паказаць, што прывяло сістэму ў такі няўстойлівы стан, калі для яе кардынальнай перабудовы хапіла выпадковага ўздзеяння звонку (накшталт таго, як драбок солі выклікае крышталізацыю перанасычанага раствору). Нарэшце, што адбылося з кожным кампанентам сістэмы ў выніку пераходу ў новую якасць?

Замест усяго гэтага А. Краўцэвіч засяроджваецца на абвяржэнні думкі пра тое, што саюзу з панямонскімі гарадамі папярэднічалі працэсы палітычнай эвалюцыі ў балцкім асяроддзі. Нагадаем, што менавіта гэтая рыса служыць яму падставай для адхілення поглядаў практычна ўсіх папярэднікаў, апрача М. Ермаловіча. У чым жа збілася з кроку «ўся рота», пакуль толькі адзін «падпаручнік» крочыў у лад?

Аўтар не можа адмовіць таго факта, што ў вядомай літоўска-валынскай дамове 1219 г. выступае група (а найбольш верагодна — дынастыя) «старэйшых» князёў і побач шэраг іншых — палітычна залежных, у тым ліку і князі Жамойці. Але «еднасці Летувы» быццам бы супярэчаць «далейшыя падзеі», а фактычна — адсутнасць імёнаў гэтых князёў у хроніцы Генрыха Латвійскага (с. 131, 138). Аднак той прыгадваў літоўскіх уладароў у сувязі не з далейшымі, а якраз з *папярэднімі* падзеямі: неаднаразова згаданы ім уплывовы правадыр Даўгерутэ (відавочна, германізаваны варыянт літоўскага імя «Даўгерд», ці «Даўгірд») загінуў прыкладна за 5 гадоў да складання азначанай дамовы. А. Краўцэвіч чамусьці ігнаруе адзначаную аўтарам гэтых радкоў магчымасць таго, што менавіта гэты кунігас быў стваральнікам сістэмы «старэйшых» князёў — старшым родзічам (братам?) Жывінбуда і, не выключана, якраз тым «könig gros», якога «Рыфмаваная хроніка» называе бацькам Міндоўга[10]. Такім чынам, звесткі Генрыха Латвійскага і дамову 1219 г. можна трактаваць і ў сэнсе іх узаемаадпаведнасці.

Другі аргумент А. Краўцэвіча супраць наяўнасці тэндэнцый да цэнтралізацыі ў Літве — прысутнасць побач з моцнымі ўладарамі (Даўгерутэ, групай «старэйшых», Міндоўгам) іншых князёў, якія дзейнічалі самастойна. Іншымі словамі, аўтар адхіляе магчымасць палітычнага аб'яднання балцкіх плямёнаў (саюзу або канфедэрацыі) на той падставе, што яно не было... цэнтралізаванай манархіяй! На гэтым шляху можна дайсці і да адсутнасці дзяржавы ў часы ўсё той жа Крэўскай уніі. Сапраўды, Ягайла на той момант не кантраляваў непасрэдна ўсю тэрыторыю Аўкштайціі і зусім не кантраляваў Жамойць, разам з ім акт уніі заключыў шэраг «старэйшых» князёў (Скіргайла, Вітаўт і інш.), прычым некаторыя дзейнічалі вельмі самастойна (Андрэй Полацкі). А існавалі ж яшчэ і «малодшыя» — усе тыя Гальшанскія, Друцкія, Астрожскія і г.д.! Ці не падобна заключэнне акта уніі на «ўзгодненыя дзеянні групы кунігасаў для вырашэння пэўных дыпламатычных задач», што само па сабе «яшчэ

---

[9] Падрабязней аб гэтай ідэі гл.: Носевич В.Л. На пути к модели общества как самоорганизующейся системы // Математическое моделирование исторических процессов. М., 1996. С. 202—223.

[10] Насевіч В.Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993. С. 28.

не дзяржава» (с. 132—133)?

Трэці і апошні аргумент А. Краўцэвіча — тое, што «ўтварэнне новай дзяржавы наўрад ці не магло быць не заўважаным сучаснікамі» (с. 133). Па-першае, якраз з'яўленне звестак пра «könig gros» і «старэйшых» князёў сведчыць, што тое-сёе было заўважана. Па-другое, размова не абавязкова ідзе пра ўтварэнне літоўскай дзяржавы як здзейснены факт, а хутчэй пра *тэндэнцыю* да гэтага. Па-трэцяе, тая падзея, якая безумоўна звязана з працэсам утварэння ВКЛ — пачатак княжання Міндоўга ў Новагародку, — якраз і не была заўважана сучаснікамі. Крыніцы фіксуюць толькі момант, калі Міндоўгу ўжо належалі гарады Панямоння, і ўсе разважанні пра магчымыя шляхі яго ўкняжання застаюцца гіпатэтычнымі. Дарэчы, гэтак жа мы не ведаем і, напэўна, ніколі не будзем дакладна ведаць адказы на цэлы шэраг іншых пытанняў: якую тэрыторыю кантраляваў Міндоўг напярэдадні свайго з'яўлення ў Новагародку, дзе знаходзілася першая сталіца ВКЛ і ці была яна ўвогуле і г.д. Да гэтага ж кола належыць і пытанне пра сацыяльна-палітычны лад Літвы напярэдадні ўтварэння ВКЛ. Стварэнне ўражання, нібыта адно з такіх пытанняў можа быць канчаткова вырашана *на падставе наяўных фактаў*, было б не больш чым калянавуковай спекуляцыяй.

Такім чынам, абвяржэнні А. Краўцэвіча прыходзіцца прызнаць тэндэнцыйнымі і маючымі «выразную ідэалагічную афарбоўку». Не прыходзіцца чакаць, што «ўвесь свет», прачытаўшы іх, панясе свае ранейшыя погляды на сметнік. А значыць, і другое пытанне, па якім аўтар лічыць свой уклад у навуку прынцыповым, застаецца адкрытым і пасля выхаду яго кнігі.

Спрабуючы адмовіць існаванне ў этнічна літоўскім асяроддзі ўласных дзяржаваўтваральных працэсаў, А. Краўцэвіч узамен не прапануе ніякага іншага фактару, які б ствараў *перадумовы* для скачкападобнай перабудовы сукупнасці палітычных сувязяў Панямоння менавіта ў той час. Пра нейкія ўнутраныя працэсы ў княствах Полацкай і Новагародскай зямель, якія б з сярэдзіны XIII ст. набылі якасна іншы выгляд, размова не ідзе. Кіеўскую Русь як агульную сістэму А. Краўцэвіч увогуле не ўпамінае, не кажучы ўжо пра аналіз унутрысістэмных зрухаў у ёй. Што да балта-славянскага ўзаемадзеяння, то і яно распачалося задоўга да стварэння ВКЛ. Якія змены ў яго характары зрабілі магчымым пачатак дзяржаваўтварэння, аўтар таксама не паказвае. Калі ж усе перадумовы для з'яўлення ВКЛ існавалі на Панямонні ўжо не адно стагоддзе і чакалі толькі штуршка звонку, то хіба да з'яўлення татар не было ваеннай пагрозы?

Заключная частка кнігі ўвогуле губляе рысы сістэмнага аналізу і збіваецца на пераказ падзей другой паловы XIII ст. у храналагічнай паслядоўнасці. Яна не пазбаўлена цікавасці, але адпавядае хутчэй патрабаванням навукова-папулярнай або педагагічнай літаратуры. Чагосьці якасна новага ў параўнанні са шматлікімі аналагічнымі пераказамі, пачынаючы з часоў Т. Нарбута і У. Антановіча, у ёй няма.

Такім чынам, пры наяўнасці пэўных вартасцей праца А. Краўцэвіча ў цэлым ставіць больш пытанняў, чым дае адказаў. Магчыма, яна дасць некаторыя дадатковыя аргументы тым, хто хацеў бы бачыць стварэнне ВКЛ у кантэксце выключна беларускай гісторыі, але толькі пры ўмове, што яны заплюшчаць вочы на вышэйзгаданыя факты, якія застаюцца па-за межамі пабудаванай аўтарам канструкцыі. Яны пакінуты там не з-за недахопу эрудыцыі, а таму, што ўключэнне іх у сістэму поглядаў А. Краўцэвіча прывяло б да яе фактычнага зліцця з поглядамі, існуючымі ў навуцы не першы год. Паміж імі, па сутнасці, няма вялікай розніцы па большасці пытанняў. Гэта сведчыць не пра адсутнасць у аўтара навуковага патэнцыялу, а хутчэй пра тое, што магчымасць новых інтэрпрэтацый пачаткаў ВКЛ на падставе наяўнай сумы фактаў блізкая да вычарпанасці. Далейшы рух наперад магчымы толькі праз *рэальнае* выкарыстанне прынцыпаў сістэмнага падыходу, на базе разгляду грамадства як сістэмы, што самаарганізуецца паводле дакладных законаў. Але гэта застаецца пакуль справай будучыні.

*Друкуецца паводле:*
Беларускі гістарычны агляд. 1998. Т. 5. Сш. 1 (8). С. 210—226.

# Друцкае княства і князі Друцкія

## Пачатак роду князёў Друцкіх

Друцкае княства было адным з найбольш старажытных феадальных уладанняў на тэрыторыі Беларусі. Яно ўзнікла ў працэсе драблення Полацкай зямлі — вотчыны славутага Усяслава Чарадзея, што памёр у 1101 г. Магчыма, яшчэ пры яго жыцці Друцк мог быць вылучаны ва ўдзел аднаму з яго сыноў, аднак непасрэдных звестак пра гэта ў летапісах не захавалася. У 1116 г. Друцк не ўтвараў асобнага ўладання — ён уваходзіў у Менскае княства і належаў сыну Усяслава Глебу, супраць якога ваяваў кіеўскі князь Уладзімір Манамах. Тады, а таксама ў 1128 г. Друцк быў захоплены кіеўскімі войскамі, але ў далейшым застаўся ў складзе Полацкай зямлі.

Непасрэдна Друцкае княства ўпершыню прыгадваецца толькі ў 1146 г., калі яно было аддадзена ва ўдзел унуку Глеба Менскага — Глебу Расціславічу[1]. Праўда, гэтая звестка не зусім надзейная, бо змешчана ў параўнальна позні летапісны зборы, да таго ж Глеб памылкова называецца там разанскім князем (гэта выклікана тым, што адначасова з менскім быў і разанскі князь, якога таксама звалі Глебам Расціславічам). Але пад 1159 г. цэлы шэраг летапісаў аднадушна паведамляе, што «дрючане Глеба от себе выгнаша, а у себе посади Рогволода Борисовича» (унука Усяслава)[2]. У тым жа годзе Рагвалод уладкаваўся ў Полацку, але ў 1161 г. страціў яго і вярнуўся ў Друцк[3], дзе і застаўся княжыць, напэўна, да сваёй смерці. У 1171 г. ён пакінуў надпіс на вялікім камені паміж сучаснымі вёскамі Галошаўка Талачынскага раёна і Дзятлава Аршанскага раёна: «Господи, помози рабу твоему Василию в крещении именем Рогвалоду сыну Борисову»[4].

Такім чынам, пра існаванне асобнага Друцкага княства можна ўпэўнена казаць з другой паловы XII стагоддзя. У далейшым у старажытнарускіх летапісах у якасці друцкіх князёў прыгадваюцца Глеб (у 1180 г.[5]), Усяслаў (у 1186 г.[6]) і Барыс (у 1195 г.[7] і ў 1198 г.[8]). Напэўна, яны былі нашчадкамі Рагвалода Барысавіча, але непасрэдных звестак аб іх паходжанні ў крыніцах няма.

Далейшы прамежак гісторыі Друцкага княства пагружаны ў змрок. Толькі з сярэдзіны XIV стагоддзя зноў пачынаюць прыгадвацца князі Друцкія, якія былі васаламі маскоўскіх і літоўскіх уладароў. Невядома дакладна, ці былі яны нашчадкамі тых князёў, што валодалі Друцкам у XII стагоддзі. Паходжанне роду Друцкіх было забыта нават самімі яго прадстаўнікамі. Іх радавод, які значна пазней быў унесены ў расійскія радаводныя кнігі[9], відавочна фіктыўны: ён звязвае паходжанне Друцкіх з валынскім князем Аляксандрам Усеваладавічам Белзскім, які дзейнічаў у 1230—1240-я гг. Аднак гэты князь памёр без нашчадкаў, у той час як радавод прыпісвае яму сына Рамана (ні ў адным летапісе такі князь не прыгадваецца), ад якога нібыта і пайшоў род Друцкіх.

Не адпавядаюць рэчаіснасці і тыя згадкі пра князёў Друцкіх, што змешчаны ў так званых беларуска-літоўскіх летапісах[10]. Даследаванні паказалі, што гэтыя

[1] ПСРЛ. Т. 7. СПб., 1859. С. 242.

[2] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 493; ПСРЛ. Т. 7. СПб., 1859. С. 67—68; ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 64; ПСРЛ. Т. 9. М., 1965. С. 211—212.

[3] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 519; ПСРЛ. Т. 7. СПб., 1859. С. 75; ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 71.

[4] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Талачынскага раёна. Мн., 1988. С. 41—42.

[5] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 620—621.

[6] ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 93; ПСРЛ. Т. 10. М., 1965. С. 17.

[7] ПСРЛ. Т. 2. СПб., 1843. С. 691; ПСРЛ. Т. 10. М., 1965. С. 28.

[8] ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 98.

[9] Долгорукий П. Российская родословная книга. Т. 1. СПб., 1854. С. 131.

[10] ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 24—25, 130; ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 130—131, 146, 148, 217.

летапісы былі створаны ў XV—XVI стагоддзях, а ўсе звесткі ў іх пра часы татарскага нашэсця 1230-х гг. (менавіта ў сувязі з гэтымі падзеямі прыгадваюцца князі Друцкія) з'яўляюцца выдуманымі. А вось паведамленне 1340 г. пра князя Івана Друцкага, які служыў маскоўскаму князю Івану Каліце, паходзіць з летапісаў, якія лічацца надзейнымі[11]. Яно сведчыць, што ў той час адзін з прадстаўнікоў гэтага роду пакінуў сваю радзіму і выехаў у Маскоўскае княства. Нашчадкаў у яго, здаецца, не засталося.

Прыкладна ў той жа час яшчэ адзін прадстаўнік роду Друцкіх — князь Васіль Міхайлавіч — зрабіў ахвяраванне на карысць царквы Багародзіцы ў Друцку, надаўшы ёй вёску Мураўнічы (у сучасным Талачынскім раёне) і мядовую даніну з воласці Худава (у Крупскім раёне). Запіс аб гэтым быў зроблены на старонцы так званага Друцкага Евангелля. Спецыялісты датуюць гэты запіс прыкладна сярэдзінай XIV ст.[12].

У радаводзе Друцкіх сцвярджаецца, што ў міфічнага родапачынальніка Рамана быў сын Міхаіл, а ў таго — сыны Васіль і Сямён. Абодва яны мелі сыноў з аднолькавым іменем Дзмітрый. Магчыма, памяць пра гэтыя пакаленні захавалася больш-менш адэкватна. Існаванне Васіля Міхайлавіча пацвярджаецца запісам на старонцы Евангелля, а існаванне аднаго з Дзмітрыяў — летапісным паведамленнем пад 1372 г. У той час у складзе войска, дасланага вялікім князем літоўскім Альгердам на дапамогу яго саюзніку Міхаілу Цвярскому, быў і князь Дзмітрый Друцкі[13]. Гэта сведчыць, дарэчы, што ў часы Альгерда Друцкае княства было ўжо ў складзе Вялікага Княства Літоўскага.

Магчыма, Васіль Міхайлавіч жыў яшчэ на пачатку 1380-х гг., а магчыма, што ў той час быў іншы Васіль Друцкі. Так ці інакш, але князь з такім іменем засведчыў адну з дарчых грамат сына Альгерда — Андрэя Полацкага, якая датуецца прыблізна гэтым часам[14]. Тады ж яшчэ адзін князь Друцкі (невядомы стваральнікам радаводу) насіў імя Леў. Ён пакінуў след на старонцы граматы, складзенай Вітаўтам Кейстутавічам падчас яго эміграцыі ў Прусію ў 1384 г. (пасля таго, як бацька Вітаўта вялікі князь Кейстут быў забіты па загадзе Ягайлы, а сам Вітаўт цудам уцёк са зняволення). Сведкам пры складанні граматы быў князь Леў Друцкі, якога Вітаўт называе сваім шваграм[15]. Напэўна, гэты сваяк будучага вялікага князя рушыў за ім у эміграцыю і знаходзіўся ў яго свіце. Далейшы лёс яго невядомы, але нашчадкаў ён, напэўна, не пакінуў.

Радавод паведамляе таксама пра наступнае пакаленне роду Друцкіх: Андрэя, сына Дзмітрыя Васілевіча, і чатырох сыноў Дзмітрыя Сямёнавіча — Сямёна, Івана, Міхаіла і Аляксандра. Усе яны быццам бы ўдзельнічалі ў катастрафічнай для войска ВКЛ бітве з татарамі на рацэ Ворскле ў 1399 г., прычым Андрэй, Іван, Міхаіл і Аляксандр загінулі ў ёй. Шэраг беларуска-літоўскіх летапісаў прыводзіць спісы князёў, якія загінулі на Ворскле. Гэтыя спісы не зусім супадаюць паміж сабой, таму не могуць лічыцца зусім дакладнымі[16]. Але ў іх прыгадваюцца князі Міхаіл і Аляксандр Падбярэзскія, а таксама нейкі Іван Дзмітрыевіч Кіндыр і князь Андрэй — «пасынак Дзмітрыя» (напэўна, гэтым Дзмітрыем быў удзельнік бітвы на Ворскле ноўгарад-северскі князь Дзмітрый-Карыбут Альгердавіч, які, паводле радаводаў, другім шлюбам быў жанаты з удавой Дзмітрыя Васілевіча Друцкага і прыходзіўся айчымам сыну апошняга Андрэю). Даследчык генеалогіі беларуска-літоўскіх князёў Юзаф Вольф выказаў меркаванне, што пад імёнамі князёў Падбярэзскіх і Івана Кіндыра выступаюць трое сыноў Дзмітрыя Сямёнавіча[17]. Сапраўды, недалёка ад Друцка знаходзіўся старажытны маёнтак Падбярэззе, землі якога пазней ляжалі цераспалосна з уладаннямі князёў Друцкіх.

[11] ПСРЛ. Т. 7. СПб., 1859. С. 206; ПСРЛ. Т. 10. М., 1965. С. 211; ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 28.

[12] Тихомиров М.Н. Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968. С. 9.

[13] ПСРЛ. Т. 4. СПб., 1848. С. 67; ПСРЛ. Т. 11. М., 1965. С. 17.

[14] Полоцкие грамоты / Сост. А.Л. Хорошкевич. М., 1977. Вып. 1. С. 43—44.

[15] Monumenta medii aevi historica, res gestes Poloniae illustrantia. T. 6: Codex epistolaris Vitoldi, Magni Ducis Lithuaniae (1376—1430). Cracoviae, 1882. P. 4, 32.

[16] ПСРЛ. Т. 35. М., 1980. С. 97, 148.

[17] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1897. S. 161.

Увесь далейшы род князёў Друцкіх пайшоў ад адной асобы — Сямёна Дзмітрыевіча. Ён у 1401 г. быў сярод дарадцаў Вітаўта, якія засведчылі акт уніі паміж Польшчай і ВКЛ[18]. Пазней Сямён Дзмітрыевіч прыгадваецца ў адным беларуска-літоўскім летапісе (Хронікі Быхаўца) пры апавяданні пра апошні шлюб польскага караля Уладзіслава-Ягайлы. Абранніцай караля стала юная князёўна Соф'я Гальшанская, якая была дачкой роднай сястры Сямёна Друцкага — Аляксандры, выдадзенай за літоўскага князя Андрэя Гальшанскага. Паводле летапісу, заручыны Ягайлы адбыліся пры непасрэдным удзеле князя Сямёна, у сям'і якога выхоўвалася будучая каралева пасля смерці сваёй маці[19]. З іншых крыніц вядома, што шлюб Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай адбыўся ў 1422 г. Калі паведамленне Хронікі Быхаўца дакладнае, то Сямён Друцкі быў яшчэ жывы ў той час, аднак сярод подпісаў знатных асоб на розных дзяржаўных актах 1420-х гг. яго подпіс не сустракаецца. Дата смерці яго дакладна невядомая. Не засталося звестак і пра тое, хто была яго жонка, з якой ён пакінуў шэсць сыноў.

Сыны Сямёна Дзмітрыевіча Друцкага неаднаразова згадваюцца ў дакументах першай паловы XV стагоддзя. З іх двое насілі аднолькавае імя — Іван — і адрозніваліся па мянушках: Іван Баба і Іван Пуцята. Даследчыкі лічаць, што адным з іх быў той загадкавы князь Іван Сямёнавіч, які двойчы прыгадваецца (без прозвішча) у граматах 1409 г. у якасці полацкага намесніка[20]. Пазней абодва Іваны, а таксам трэці брат — Грыгорый (Рыгор) — былі, напэўна, сярод князёў і паноў, якія засведчылі сваімі подпісамі мірнае пагадненне паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам у 1422 г. Пры гэтым двое з іх прыгадваюцца без прозвішчаў, як Іван і Грыгорый Сямёнавічы, а яшчэ адзін — як Іван Пуцята[21]. Магчыма, Грыгорый выступае крыху пазней (у недатаванай грамаце) у якасці полацкага намесніка[22]. Што да Івана Бабы і Івана Пуцяты, то абодва яны ў 1424 г. былі ў складзе войска, дасланага Вітаўтам на дапамогу маскоўскаму князю Васілю Дзмітрыевічу супраць татар[23].

Прыкметную ролю адыгрываў і чацвёрты з братоў — Дзмітрый Сямёнавіч, па мянушцы Сякіра. Ён упершыню прыгадваецца ў 1425 г., а ў 1427 г. атрымаў ад караля Уладзіслава шэраг наданняў у Гарадзенскай і Шчучынскай валасцях. Ён жа быў намеснікам абшырнай Асцёрскай воласці ў Кіеўскай зямлі, на левабярэжжы Дняпра, пра што прыгадваюць больш позні звесткі[24]. У крыніцах Дзмітрый неаднаразова прыгадваецца з тытулам князя Зубравіцкага — ад маёнтка Зубрэвічы ў сучасным Аршанскім раёне, дзе была яго галоўная сядзіба[25].

Трэба адзначыць, што гэта быў час, калі вышэйшая арыстакратыя ВКЛ складалася з розных па паходжанні і веравызнанні груп. Адну з іх стваралі прадстаўнікі пануючай дынастыі Гедымінавічаў — шматлікія родзічы вялікага князя Вітаўта і караля Уладзіслава-Ягайлы. Паводле веравызнання частка іх была каталікамі, а частка — праваслаўнымі. Радство з вялікім князем забяспечвала ім вельмі высокі грамадскі статус, права засядаць у велікакняжацкай радзе і валодаць вялізнымі вотчынамі (удзеламі), у якіх яны былі поўнымі гаспадарамі. Другой дамінуючай групай было вузкае кола так званых радных паноў («паноў-рады»), якія ўсе былі каталікамі і паходзілі з этнічна літоўскіх баярскіх родаў. Узмацненне гэтай групы адбылося пры вялікім

[18] Acta unii Polski z Litwą. 1385—1791 / Wyd. S. Kutrzeba i W. Semkowicz. Kraków, 1932.

[19] ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 149.

[20] Полоцкие грамоты / Сост. А.Л. Хорошкевич. М., 1977. Вып. 1. С. 114—118. У каментарыях да гэтых актаў А.Л. Харашкевіч памылкова звязвае паходжанне князёў Друцкіх з князем Сямёнам (Лугвенам) Альгердавічам, які на самай справе даў пачатак князям Мсціслаўскім: Там жа. М., 1980. Вып. 3. С. 199—202.

[21] Любавский М.К. Литовско-русский сейм: Опыт по истории учреждения в связи с внутренним строем и внешней жизнью государства. М., 1900. С. 54—55, 319.

[22] Полоцкие грамоты. Вып. 1. С. 130; Вып. 3. С. 204—205.

[23] ПСРЛ. Т. 11. М., 1965. С. 239.

[24] Русская историческая библиотека (РИБ). Т. 27. СПб., 1910. Сл. 377—378.

[25] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 57.

князю Вітаўце, які шукаў у ёй процівагу свавольным удзельным князям. У 1413 г. на Гарадзельскім сойме прадстаўнікі 47 літоўскіх родаў атрымалі гербы (запазычаныя з Польшчы) і выключнае права на заняцце вышэйшых пасад у дзяржаўным кіраўнічым апараце (ваяводаў, маршалкаў, найбольш значных намеснікаў), якія давалі права на месца ў велікакняжацкай радзе. Фактычна гэтым правам карысталася больш вузкае кола — прыкладна 10—15 найбольш заможных родаў (Манівідавічы, Гаштаўты, Радзівілы-Осцікавічы і інш.). Іх прадстаўнікі менавіта ў гэты час імкліва набылі буйныя маёнткі, што дазволіла ім зраўняцца па багацці з удзельнымі Гедымінавічамі, а часам і перасягаць некаторых з іх.

Трэцюю групу стваралі нашчадкі мясцовых княжацкіх і найбольш значных баярскіх родаў, праваслаўныя паводле веравызнання. Умовы Гарадзельскага прывілея 1413 г. не дазвалялі ім займаць вышэйшыя пасады ў новаўтвораных Віленскім і Троцкім ваяводствах. Праўда, праваслаўныя князі і баяры маглі станавіцца намеснікамі ў паўсамастойных землях, якія карысталіся так званымі земскімі прывілеямі — Полацкай, Віцебскай, Кіеўскай, Валынскай і інш. Аднак гэтыя пасады звычайна не давалі права засядаць у велікакняжацкай радзе, таму ад удзелу ў цэнтральным кіраванні праваслаўныя роды былі фактычна адхілены. Менавіта да гэтай групы адносіліся сыны Сямёна Друцкага. Таму той факт, што ім дазволена было засведчыць дагавор з Ордэнам, паказвае вельмі высокі статус братоў Друцкіх у канцы панавання Вітаўта — амаль такі, як у Гедымінавічаў.

У часы кароткага панавання вялікага князя Свідрыгайлы Альгердавіча (1430—1432) значэнне роду Друцкіх заставалася вельмі вялікім, тым болей, што Свідрыгайла ў сваёй палітыцы абапіраўся ў роўнай ступені як на каталіцкую, так і на праваслаўную знаць. Дагавор з яго братам Ягайлам, каралём Польшчы, у 1431 г. засведчылі сярод іншых князёў Іван і Пуцята Сямёнавічы, а таксама іх брат Васіль[26]. Апошні, напэўна, быў вядомы пад мянушкай Красны (што значыць «прыгожы»), пад якой яго прыгадвае пры апісанні падзей 1431 г. польскі храніст Ян Длугаш, і займаў тады пасаду віцебскага намесніка («гаўптмана», як пазначана ў тагачаснай нямецкамоўнай крыніцы)[27]. У тым жа годзе Ян Длугаш упершыню прыгадвае яшчэ аднаго з братоў Друцкіх — Міхаіла па мянушцы Балабан, які ўзначальваў абарону горада Крэменец на Падоллі. Што да Дзмітрыя Зубравіцкага, то яму Хроніка Быхаўца прыпісвае істотную ролю ў канфлікце паміж Свідрыгайлам і Ягайлам. Паводле гэтага летапісу, жонкай Дзмітрыя быццам была «братанка» (пляменніца) Ягайлы і Свідрыгайлы — Соф'я Жэдзівідаўна, якой належала спадчыннаяе права на Падольскую зямлю, з-за якой і сапсаваліся адносіны паміж Польшчай і ВКЛ[28]. Звесткі гэтыя нельга лічыць дакладнымі, бо, хаця жонку Дзмітрыя сапраўды звалі Соф'яй (яна прыгадваецца ў яго завяшчанні), ніякага Жэдзівіда сярод сыноў Альгерда крыніцы, апрача Хронікі Быхаўца, не ведаюць. Гэтае паведамленне сведчыць толькі пра тое, што ў час стварэння азначанай хронікі (у першай палове XVI ст.) захоўвалася памяць пра Дзмітрыя Зубравіцкага як пра актыўнага ўдзельніка падзей 1430-х гг.

У верасні 1432 г. Свідрыгайла быў скінуты з пасада ў выніку змовы прапольска арыентаваных князёў і паноў, якія абвясцілі вялікім князем Жыгімонта Кейстутавіча. Гэта дало пачатак працяглай грамадзянскай вайне, у якой Жыгімонта падтрымлівалі пераважна заходнія землі ВКЛ, а Свідрыгайлу — усходнія. Князі Друцкія ў гэтай барацьбе стаялі на баку Свідрыгайлы. Тая ж Хроніка Быхаўца паведамляе, што ў бітве пад Ашменай восенню 1432 г. у палон да Жыгімонта трапілі Дзмітрый Зубравіцкі і яго брат Васіль Красны, а ў бітве пад Вількамірам у 1435 г. загінуў князь Міхайла Балабан[29].

Рускія летапісы прыгадваюць лёс іншага прыхільніка Свідрыгайлы — князя Івана Бабы, які пасля паражэння Свідрыгайлы вымушаны быў уцякаць праз Рыгу ў Пскоў,

[26] Любавский М.К. Литовско-русский сейм. С. 324.
[27] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 58.
[28] ПСРЛ. Т. 32. М., 1975. С. 153.
[29] Там жа. С. 154.

а затым перайшоў на службу да вялікага князя маскоўскага, дзе «изрядив свой полк с копьи по-литовски»[30]. Здаецца, там ён неўзабаве і памёр. Што да Івана Пуцяты, то ён заставаўся побач са Свідрыгайлам у 1437 г., калі той захоўваў яшчэ частку сваіх колішніх уладанняў — Кіеўскую зямлю. Тады Пуцята па-ранейшаму ўваходзіў у склад яго рады[31]. У наступным годзе Свідрыгайла быў канчаткова выціснуты з ВКЛ і вымушаны хавацца зя мяжой.

У 1440 г. вялікі князь Жыгімонт быў забіты змоўшчыкамі, пасля чаго новым вялікім князем быў абраны сын Уладзіслава-Ягайлы — Казімір. У 1442 г. Казімір дазволіў Свідрыгайлу вярнуцца ў ВКЛ, дзе той атрымаў Валынскае княства. Тады ж, напэўна, былі вернуты вотчыны і апальным прыхільнікам Свідрыгайлы. У рэестры прывілеяў на зямельныя ўладанні, пажалаваныя і пацверджаныя ад імя Казіміра віленскім ваяводам Даўгірдам (не пазней 1443 г. — даты смерці Даўгірда), называецца і Іван Пуцята, якому дасталася «слабодка, што трымаў князь Аляксандр Кіндзеравіч»[32] (напэўна, таксама адзін з князёў Друцкіх — сын загінуўшага на Ворскле Івана Кіндыра). Ужо пры новым віленскім ваяводзе Гаштаўце, пераемніку Даўгірда Івану Пуцяце была нададзена «дзельніца» нейкага Івашкі Тарнойльцева ў Аршанскім павеце[33].

Маёнткі тых, хто памёр альбо заставаўся ў эміграцыі, перадаваліся ў іншыя рукі. Пры Даўгірдзе літоўскаму пану Мілашу Войшвілавічу было перададзена сяло Сянно «на Рши и у Оболцох» (на тэрыторыі Аболецкай воласці Аршанскага павета), якое раней належала Васілю Бабічу, — сыну Івана Бабы, які, паводле іншых крыніц, разам з бацькам з’ехаў у Маскву. Маёнтак Прыхабы, вотчына іншага сына Івана Бабы — Канстанціна Бабіча, — быў перададзены князю Фёдару Адзінцэвічу[34]. Сам пан Даўгірд атрымаў «у вотчыну» маёнткі Цяцерын і Мошкава[35], з якіх апошні, магчыма, раней належаў камусьці з князёў Друцкіх (аб гэтым будзе сказана ніжэй). Крыху пазней (у перыяд з 1452 па 1458 г., калі віленскім ваяводам быў пан Гаштаўт, а віленскім кашталянам — пан Судзівой) у тым жа рэестры прыгадваецца наданне 6 чалавек князю Васілю Грыгоравічу — напэўна, сыну ўжо памерлага на той час Грыгорыя Сямёнавіча Друцкага.

Чацвёрты брат, Дзмітрый Зубравіцкі, напэўна, памёр на пачатку панавання Казіміра. Захаваўся тэкст яго завяшчання на карысць жонкі Соф’і і дзяцей[36]. На жаль, яно датавана толькі 7-м індыктам (годам 15-гадовага каляндарнага цыкла, прынятага ў Візантыі і на Русі ў той час). Гэты індыкт прыпадаў, у прыватнасці, на 1429 і 1444 гг. Хутчэй за ўсё, завяшчанне было зроблена ў 1444 г. Апошні брат — Васіль Красны — быў жывы яшчэ ў 1448 г., калі ён у апошні раз прыгадваецца ў хроніцы Яна Длугаша.

У другой палове XV стагоддзя нікога з шасці сыноў Сямёна Дзмітрыевіча Друцкага, здаецца, ужо не было ў жывых. Але ў іх засталіся шматлікія нашчадкі, якія паклалі пачатак асобным галінам роду Друцкіх — аднаго з найбольш разгалінаваных родаў беларускай арыстакратыі, прадстаўнікі якога на ўсім працягу існавання ВКЛ займалі высокія дзяржаўныя і вайсковыя пасады, валодалі маёнткамі ў розных мясцінах Беларусі і Украіны. Асобныя прадстаўнікі роду перасяляліся ў розныя часы ў Расію і давалі пачатак рускім яго адгалінаванням.

Звесткі пра гісторыю гэтага роду сабраў у свой час Ю. Вольф у грунтоўнай працы «Літоўска-рускія князі ад канца чатырнаццатага стагоддзя»[37]. Пераважна на гэтай

[30] ПСРЛ. Т. 12. М., 1965. С. 22; ПСРЛ. Т. 25. М.; Л., 1949. С. 252.

[31] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. Т. 1. СПб., 1861. С. 11; Любавский М.К. Литовско-русский сейм. С. 325.

[32] РИБ. Т. 27. Сл. 20.

[33] Там жа. Сл. 21.

[34] Там жа. Сл. 20.

[35] Там жа. Сл. 21.

[36] Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. М., 1915. С. 406.

[37] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 55—64, 135—149, 161, 168—172, 202—212, 360—364, 396—398, 461—488, 536—540.

працы грунтуюцца папярэднія публікацыі аўтара гэтых радкоў, прысвечаныя гісторыі роду Друцкіх[38]. Іх дапаўняюць публікацыі наконт расійскіх адгалінаванняў — князёў Бабічавых і Пуцяціных[39]. У апошнія гады ў дакументах Метрыкі ВКЛ (актавых кнігах велікакняжацкай канцылярыі) знойдзены некаторыя дадатковыя звесткі пра асобных князёў Друцкіх, не ўлічаныя Ю. Вольфам[40]. Яны дазваляюць крыху ўдакладніць нашы веды пра землеўладанне і дзейнасць прадстаўнікоў гэтага славутага роду.

У Івана Сямёнавіча Бабы было не менш 5 сыноў. З іх двое — Канстанцін і Фёдар — засталіся ў ВКЛ і захавалі за сабой (ці вярнулі пасля часовай страты) бацькоўскія вотчыны, а трое — Іван, Сямён і Васіль — з'ехалі ў Маскву, як і сам Іван Баба. Усе яго сыны, у адрозненне ад іншых князёў Друцкіх, спярша пісаліся Бабічамі. У далейшым нашчадкі Канстанціна Бабіча тытулаваліся князямі Прыхабскімі (гэты род абарваўся ў трэцім калене, на яго ўнуках у XVI ст.), а ад трох сыноў Фёдара Бабіча (Сямёна, Фёдара і Івана) пайшлі адгалінаванні адпаведна князёў Сакалінскіх ці Саколінскіх (існавалі да XVIII ст., прычым адно іх адгалінаванне ў сярэдзіне XVII ст. перабралася ў Расію), Канопляў (згаслі ў XVI ст. на чацвёртым калене — праўнуках Фёдара Бабіча) і Азярэцкіх (згаслі на пятым калене ў пачатку XVII ст.). Чацвёрты сын Фёдара Бабіча, Васіль Шчарбаты, нашчадкаў не меў.

Паводле расійскіх радаводаў, сын Івана Бабы Васіль даў пачатак князям Бабічавым, вядомым у Расіі на працягу наступных стагоддзяў. Да таго ж маскоўскія радаводы ведаюць чатырох братоў (Васіля, Багдана, Андрэя і Юрыя Дзмітрыевічаў Друцкіх), невядомых па крыніцах ВКЛ, якія нібыта выехалі з ВКЛ пасля паражэння мяцяжу Міхаіла Глінскага ў 1508 г. Ю. Вольф палічыў іх прадстаўнікамі нейкай асобнай галіны роду Друцкіх. Аднак больш верагодна, што то былі ўнукі Васіля Бабіча ад яго сына Дзмітрыя, якія жылі ў Маскоўскай дзяржаве з самага свайго нараджэння. Прыпісванне ім выезду з ВКЛ у 1508 г. — не болей чым генеалагічная легенда. Два іншыя сыны Бабы, што засталіся ў Маскве, нашчадкаў не пакінулі. Адзін з іх, Сямён, у 1454 г. быў ваяводам маскоўскага князя Васіля Цёмнага і загінуў у бітве з татарамі на рацэ Ака[41]. Адзначым таксама, што ў ліку князёў, якія з'ехалі ў 1508 г. у Маскву, беларуска-літоўскія летапісы прыгадваюць князя Івана Друцкага (родапачынальніка Азярэцкіх, аднаго з сыноў Фёдара Бабіча) і Фёдара Фёдаравіча Каноплю (унука Фёдара Бабіча). Іх нашчадкі, аднак, засталіся ў ВКЛ.

Род Івана Сямёнавіча Пуцяты працягнулі яго сыны Міхайла, Васіль, Дзмітрый і Іван Пуцяцічы. З іх у Дзмітрыя Пуцяціча сыноў не было. Міхайла Пуцяціч меў сына Юрыя, які тытулаваўся князем Шышаўскім, а сын апошняга Васіль (на якім гэтая галіна згасла ў 1546 г.) — князем Талачынскім. Ад Васіля Пуцяціча пайшлі князі Горскія, вядомыя ў ВКЛ да XVIII ст. Адзін з яго сыноў, Юрый, у 1500 г. трапіў у маскоўскі палон у бітве на Вядрошы і ў далейшым застаўся ў Маскве, дзе потым служыў і яго сын Дзмітрый Юр'евіч Друцкі — кіраўнік абароны супраць татар на рацэ Угра ў 1531—1534 гг. Ад Івана Іванавіча пайшлі князі Пуцяцічы ці Пуцяціны, прычым у ВКЛ іх лінія спынілася ўжо ў наступным калене, на пачатку XVI ст. Ад яго ж выводзіўся род князёў Пуцяціных у Расіі. Праўда, іх родапачынальнік — Мікіта Іванавіч — у крыніцах ВКЛ не згадваецца. Не выключана, што ён увогуле паходзіў не з князёў Друцкіх, а з маскоўскага баярскага роду, які таксама меў прозвішча Пуцяціных. Прадстаўнік гэтага роду, дзяк Грыгорый Мікіціч па мянушцы Мяншой, быў значным маскоўскім дыпламатам у 1510—1520-я гг., а ў 1530-я — набліжанай асобай вялікай княгіні Алены Глінскай[42]. Магчыма, Пётр, Мацвей, Давыд, Васіль і

[38] Насевіч В.Л. Род князёў Друцкіх у гісторыі Вялікага княства Літоўскага (XIV—XVI стст.) // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992. С. 80—104; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 3. Мн., 1996. С. 295—298.

[39] Петров П.Н. История родов русского дворянства. СПб., 1886. С. 45—50.

[40] Карыстаюся магчымасцю выказаць падзяку супрацоўніку Інстытута гісторыі НАН Беларусі М.Ф. Спірыдонаву, які паведаміў мне пра некаторыя звесткі, знойдзеныя ім у Метрыцы ВКЛ.

[41] Русский биографический словарь. Т. 2. СПб., 1900. С. 384.

[42] Там жа. Т. 15. СПб., 1910. С. 160—162.

Фёдар Мікіцічы, якіх маскоўскія радаводы залічваюць да князёў Пуцяцічаў, на самай справе былі братамі азначанага Грыгорыя Мяншога, а іх нашчадкі проста прыпісалі сабе княжацкае паходжанне.

Ад Грыгорыя Сямёнавіча застаўся сын Васіль, нашчадкі якога вядомыя як князі Любецкія (у XVI стагоддзі пісаліся таксама Відзініцкімі). Гэтая галіна праіснавала ў Беларусі і Украіне да канца Рэчы Паспалітай і мела працяг у часы Расійскай імперыі. Трое іншых сыноў Сямёна Дзмітрыевіча не пакінулі доўгатрывалых адгалінаванняў. У Міхаіла Балабана нашчадкаў не было ўвогуле, у Дзмітрыя Сякіры засталася толькі дачка, а род Васіля Краснага спыніўся ў 1516 г. на яго адзіным сыне Іване (які перажыў свайго сына Дзмітрыя).

Шматлікія галіны роду Друцкіх у ВКЛ карысталіся адзіным гербам, вядомым як герб «Друцк» (на чырвоным шчыце — сярэбраны меч рукаяццю ўгару, абапал яго — чатыры залатыя паўмесяцы). Праваслаўныя роды не атрымалі польскія гербы разам з літоўскай арыстакратыяй у 1413 г., але многія з іх карысталіся старажытнымі тамгападобнымі знакамі, якія фактычна выконвалі функцыю гербаў. Яны змяшчаліся на асабістых пячатках, а таксама, напэўна, выкарыстоўваліся ў якасці клейнаў пры маркіроўцы маёмасці, пазначэнні зямельных межаў і інш. Ад гербаў гэтыя знакі адрознівала тое, што яны не мелі закончанага выгляду: кожны прадстаўнік роду, як правіла, уносіў у бацькоўскі знак пэўныя адмены, ператвараючы яго ў свой асабісты. Да нас дайшлі пячаткі, якія належалі братам Івану Бабе, Івану Пуцяце і Васілю Краснаму. Дзве з іх захаваліся падвешанымі да дагаворнай граматы 1431 г., пячатка Пуцяты — адарванай, але, напэўна, ад гэтай жа граматы[43]. На іх можна ўбачыць родавыя знакі, прататыпам якіх, відавочна, паслужыла адна выява, пазней вядомая як герб «Друцк». На пячатках трох братоў Друцкіх мы бачым такія варыяцыі: у Васіля вастрыё мяча абапіраецца на адмысловы завіток, у Івана Бабы меч заменены на стралу, а ў Пуцяты меч ператварыўся ў крыж, а паўмесяцы — у S-падобныя лініі, што выходзяць з верхняга канца крыжа і атачаюць яго з бакоў. Пазней гэтыя варыянты не мелі працягу, а герб замацаваўся ў класічным выглядзе: меч і чатыры паўмесяцы.

Варта адзначыць, што родавая эмблема Друцкіх, верагодна, з’яўляецца вынікам эвалюцыі так званага «трохзубца» — старажытнага знака Рурыкавічаў. Варыянт гэтага знака, які ўжываўся ўладарамі Друцка, меў высокі прамы цэнтральны зубец і акругла загнутыя да яго бакавыя. Такі знак, надрапаны на шыферным прасліцы, быў знойдзены пры раскопках Друцкага гарадзішча[44], а вельмі падобны на яго — на ганчарных клейнах XII—XIII стст. з Магілёва, што наводзіць на думку аб прыналежнасці апошняга ў той час да Друцкага княства[45]. Можна меркаваць, што ў працэсе змен гэтага знака цэнтральны зубец, дапоўнены перакрыжаваннем, ператварыўся ў меч, а закругленыя бакавыя, што адарваліся ад яго, — у дзве пары паўмесяцаў.

## Родавыя вотчыны і іх лёс

Род князёў Друцкіх у XV стагоддзі быў не толькі адным з найбольш палітычна ўплывовых, але і валодаў вялікімі зямельнымі маёнткамі. Большасць з іх неўзабаве раздрабнілася паміж шматлікімі нашчадкамі, што было абумоўлена асаблівасцямі старажытнага спадчыннага права ВКЛ. Бацькоўскія вотчыны падлягалі роўнаму падзелу паміж усімі сынамі. Дачкам заставаўся толькі грашовы пасаг, але ў выпадках, калі сыноў не было, маёнтак такім жа чынам пераходзіў да дачок. Да сярэдзіны XVI ст. уласнік не мог адвольна завяшчаць, дарыць альбо прадаваць родавыя маёнткі (тыя, якія сам ён атрымаў у спадчыну). З такіх вотчын не менш чым дзве трэці павінны былі дастацца дзецям, а пры іх адсутнасці — больш аддаленым родзічам па мужчын-

[43] Gumowski M. Pieczęcie książąt litewskich // Ateneum Wileński. 1930. R. 7. Z. 3—4. S. 15—16, 33, tabł. IX: 68, 69, 71.

[44] Алексеев Л.В. Полоцкая земля. М., 1966. Мал. 34: 2.

[45] Марзалюк І. Магілёў у XII—XVII стагоддзях. Мн., 1998. С. 20. Мал. 26: 4.

скай лініі. Трэцяя частка магла быць адчужана, але, як правіла, на карысць жонкі, яе родзічаў альбо дзяцей ад іншага шлюбу.

Звесткі аб феадальных сядзібах («дварах») князёў Друцкіх становяцца масавымі ў XVI стагоддзі, калі іх род ужо моцна разгалінаваўся, а частка маёнткаў перайшла да іншых родаў. Аднак на падставе гэтых звестак можна больш-менш дакладна вызначыць склад вотчын родапачынальнікаў. Найбольш поўныя звесткі тычацца землеўладання нашчадкаў Івана Пуцяты — князёў Горскіх і Шышаўскіх (Талачынскіх). Яны групаваліся ў трох абшарах — непасрэдна ў ваколіцах Друцка (Талачын, Дудаковічы, Бурнеўка, Гарбачова, Арава, Радча, Стараселле, Лагоўшчына і інш.), за Дняпром — у вярхоўях рэк Проні і Басі (Басея, Горы, Горкі, Шышава, Чурылава, Юркава)[46], а таксама на левым беразе Бярэзіны (Зарэмцы, Белічаны, Чарневічы). Апошні з гэтых абшараў (на тэрыторыі сучаснага Чэрвеньскага раёна) у 1505 г. быў завешчаны сынам Івана Пуцяты Дзмітрыем, які не меў нашчадкаў, аднаму з буйнейшых праваслаўных цэнтраў ВКЛ — Кіева-Пячэрскаму манастыру[47].

Дарэчы, уладанні князёў літоўскага паходжання Ямантавічаў-Падбярэзскіх, што перайшлі да іх пасля згасання нейкай галіны князёў Друцкіх, мелі такую ж структуру: у 1541—1542 гг. яны ўключалі, апрача Бачэйкава ў Полацкай зямлі, маёнтак Падбярэззе (з «прысёлкамі» Паравалочня, Астрашапкі, Башарова, Палюдава) паблізу Друцка, а таксама часткі воласці Басея за Дняпром і Зарэмцаў (з суседнімі Лагамі) за Бярэзінай. Ямантавічам належала таксама частка «даннікаў на Грушцы» (пазнейшая Грушка-Гапонаўская, сучасныя Гапонавічы Крупскага раёна) і ў Ельнянах (на стыку Крупскага і Талачынскага раёнаў)[48]. На жаль, крыніцы не дазваляюць дакладна прасачыць, якім чынам гэтыя шматкі Друцкага княства трапілі да Ямантавічаў.

Нашчадкі Івана Бабы валодалі землямі, што прылягалі да Друцка з поўначы і паўночнага захаду. Там знаходзіліся двары Азерцы (родавае гняздо Друцкіх-Азярэцкіх) і Саколіна (уладанне Друцкіх-Сакалінскіх). Сярод маёнткаў князёў Азярэцкіх у Метрыцы ВКЛ прыгадваецца таксама Новае Сяло побач з Азерцамі, а іх родзічы князі Каноплі валодалі суседнімі Канапельчыцамі. Князям Сакалінскім належала сяло Валосава ля вытокаў ракі Бобр, а суседні маёнтак Рыдамля ў верхнім цячэнні ракі Усвейкі чацвёра сыноў Фёдара Бабіча ў сярэдзіне XV ст. падаравалі Чарэйскаму манастыру[49]. Усе азначаныя паселішчы, відавочна, займалі суцэльны зямельны абшар, які некалі належаў Івану Бабе, а затым яго сыну Фёдару. Апрача таго, іх нашчадкам сумесна належалі часткі больш аддаленага маёнтка Грушка (сучасная Ігрушка ў Крупскім раёне), сумежныя з аднайменным маёнткам Падбярэзскіх. Унук Фёдара Бабіча Іван Сямёнавіч Сакалінскі недзе ў першай чвэрці XVI ст. завяшчаў сваю долю «даннікаў на Грушцы» Кіева-Пячэрскаму манастыру. Іншыя саўладальнікі, аднак, не вельмі паважліва ставіліся да яго волі і раз-пораз спынялі выплату манастырскай даніны. Да нас дайшлі дзве судовыя пастановы, выкліканыя скаргамі манастыра. Адна з пастаноў у 1524 г. забараняла ўступацца ў манастырскую даніну братам Івана Сакалінскага, другая ў 1530 г. — Канстанціну Фёдаравічу Каноплі[50]. Падобная ж гісторыя адбывалася з маёнткам Старынкі (месцазнаходжанне не высветлена), часткі якога былі падараваны таму ж манастыру Іванам Сакалінскім і Львом Фёдаравічам Канопляй, але іншыя князі Сакалінскія захавалі правы на яго[51].

Сыну Івана Бабы Васілю да яго ад'езду ў Маскву належаў маёнтак Сянно (сучасны райцэнтр). Паколькі ў рэестры наданняў Казіміра ён звязваецца не з Друцкам, а з велікакняжацкімі маёнткамі Орша і Абольцы, можна меркаваць, што Сянно не нале-

---

[46] Падрабязнасці пра ўпамінанні гэтых маёнткаў прыводзяцца ў працы Ю. Вольфа: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 135—149, 536—540.

[47] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. СПб., 1897. № 9, 498, 694.

[48] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 152—153, 672—673.

[49] Там жа. S. 60, 168—171, 360—364, 461—464.

[50] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 1. № 1, 88.

[51] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. № 23, 53, 63, 76.

жала да старажытных вотчын Івана Бабы, а было асабістай выслугай яго сына. Такім жа чынам іншаму сыну, Фёдару Бабічу («Бабичу Меньшому») былі пры віленскім ваяводзе Гаштаўце ў шосты індыкт (1443 ці 1458 г.) перададзены нейкія маёнткі, якія раней трымаў Міхаіл Ямантавіч[52].

Яшчэ аднаму сыну Івана Бабы, Канстанціну, належаў маёнтак Прыхабы ў вярхоўях ракі Адроў, ад якога яго нашчадкі пісаліся князямі Прыхабскімі. Сярод спадчыны Прыхабскіх пазней (ужо пасля згасання мужчынскай галіны роду) прыгадваюцца Сялец, Мошкава і Ламачын на левым беразе таго ж Адрова, Куцейна на Дняпры ля самай Оршы, а таксама Обаль і Госмір у Віцебскім павеце[53]. Не выключана, што некаторыя з гэтых маёнткаў не ўваходзілі ў першапачатковую спадчыну Канстанціна Бабіча, а былі набыты ім ці яго нашчадкамі пазней. Аднак пра іх даўнюю прыналежнасць да Друцкага княства ўскосна сведчыць тое, што ў інвентары 1562 г. гэтыя абшары пазначаны як належачыя да маёнтка Мошкава[54]. Ёсць шэраг доказаў таго, што гэты маёнтак у сваю чаргу належаў да Друцка не пазней 1430-х гг. Прыкладна на пачатку 1480-х гг. прыгадваецца нейкая княгіня Фёдарава Мошкаўская, якой належалі землі паміж Любашанскім староствам, уладаннямі ўдавы князя Міткі Зубравіцкага і ўдавы пана Івана Хадкевіча. Ю. Вольф лічыць, што яе спадчынніцамі былі Багдана, жонка князя Міхала Камарыцкага, і Ганна, жонка князя Міхала Жыжэмскага, якія саступілі пану Альбрэхту Гаштаўту свой маёнтак Камарычы (у сённяшнім Быхаўскім раёне, недалёка ад Новага Быхава)[55]. Пры гэтым адзін з дарчых запісаў Ганны Жыжэмскай, складзены каля 1531 г. у Мошкаве (што сведчыць пра прыналежнасць ёй і гэтага паселішча), прыгадвае таксама «части спадку в добрах Одруцких»[56]. Значыць, Друцк, Мошкава і Камарычы некалі ўтваралі адзін з удзелаў, на якія падзялялася Друцкае княства.

Вельмі падобную структуру мелі і ўладанні князя Дзмітрыя Сякіры Зубравіцкага. У яго завяшчанні на карысць жонкі і дзяцей прыгадваюцца двары Зубрэвічы і Хімы (на правым беразе Дняпра, паміж Друцкам і Оршай), а таксама аддаленыя Быхаў (пазнейшы Новы Быхаў), Добасна (у сучасным Кіраўскім раёне) і даннікі ў Турцы (сярод зямель тагачаснай Свіслацкай воласці, цяпер у Клічаўскім раёне). З вышэйзгаданай спадчыны княгіні Мошкаўскай Камарычы сапраўды непасрэдна межавалі з Новым Быхавам, тагачасным уладаннем удавы князя Зубравіцкага. Што да зямель, памежных з уладаннямі Іванавай Хадкевічавай і Любашанскім староствам, то імі мусіла быць нейкая частка буйнога маёнтка Стары Быхаў, абшар якога сягаў на захадзе за раку Друць, да ўсходняй часткі Клічаўскага раёна, дзе сутыкаўся з Любашанскім староствам. Не выключана, што ўладанні Івана Хадкевіча ў Старым Быхаве (пазней гэта была адна з галоўных вотчын яго нашчадкаў) таксама спярша належалі да нейкай згаслай галіны Друцкіх.

Дачка Дзмітрыя Сякіры Марына, на якую з прычыны адсутнасці сыноў перайшлі ўсе яго маёнткі, выйшла за князя Сямёна Сямёнавіча Трабскага з роду князёў Гальшанскіх. Перажыўшы мужа і адзіную дачку (жонку літоўскага пана Марціна Гаштаўта), яна ў 1496 г. завяшчала свае вотчыны ўнуку — Альбрэхту Марцінавічу Гаштаўту[57] (таму самаму, які пазней прыдбаў сумежныя Камарычы з удзелам у Друц-

[52] РИБ. Т. 27. Сл. 33.

[53] У 1530—1540-я гг. гэтыя маёнткі належалі мужам трох князёвен Прыхабскіх — Станіславу Гамшэю, князям Уладзіміру і Фёдару Горскім, а таксама зяцю апошняга Льву Роскаму. Апрача звестак, прыведзеных Ю. Вольфам, яны згадваюцца ў наступных крыніцах: Беларускі архіў. Т. 2. Мн., 1928. № 52; Archiwum książąt Sanguszków w Sławucie. T. 4. Lwów, 1890. S. 395, 466—467; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 2. СПб., 1865. С. 148; РИБ. Т. 33: Переписи войска Литовского. Пг., 1915. С. 507—508, 511; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 1775. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 418.

[54] НГАБ. Ф. КМФ-18 (Метрыка ВКЛ). Спр. 260. Арк. 391—393.

[55] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 260—261.

[56] Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. С. 456, 465—467, 469, 471.

[57] Там жа. С. 402, 407. Гл. таксама: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 58.

ку). Дарэчы, яму ж належала і частка Старога Быхава (у прыватнасці, сяло Алень ля мяжы сучаснага Магілёўскага раёна з Быхаўскім), з-за якой яго сын Станіслаў у 1541 г. меў справу з Аляксандрам Іванавічам Хадкевічам[58]. Верагодна, гэта была якраз тая спадчына княгіні Мошкаўскай ля мяжы Любашанскай воласці, што перайшла ад яе дзяцей да Гаштаўта.

З пазнейшых падзей вынікае, што частка Быхава і Мошкава ўваходзіла таксама ва ўдзел Васіля Краснага. Лёс гэтага ўдзела, што перайшоў да яго сына Івана, у далейшым быў даволі заблытаным. У 1516 г., незадоўга да сваёй смерці, князь Іван Васілевіч Красны запісаў сваёй другой жонцы Марыне Іванаўне (з роду князёў Яўнуцевічаў-Заслаўскіх) трэцюю частку сваіх вотчын, якой ён мог адвольна распараджацца. У гэтую частку ўвайшлі Бобр і Сакалавічы з даннікамі на рацэ Бобр (у сучасным Крупскім раёне), а таксама нейкі двор Недаходаў[59]. Пад апошнім, напэўна, трэба разумець частку старажытнай воласці Худава, якая прыгадваецца яшчэ ў запісе Друцкага Евангелля. Цэнтр яе змяшчаўся на беразе Худаўскага возера, на поўначы сучаснага Крупскага раёна. Паколькі Іван Красны не пакінуў прамых нашчадкаў, астатнія дзве трэці яго вотчын былі падзелены паміж іншымі галінамі роду Друцкіх і нават іх родзічамі па жаночай лініі. Як можна меркаваць, сястра Івана была жонкай полацкага баярына Багдана Быстрэйскага. Сын апошняга Яцка Багданавіч у 1542 г. прыгадваў «спадок по деду Василю Красном», які прыпаў на яго пасля маці. У гэтую спадчыну ўваходзілі маёнткі Быхаў і Мошкава (дакладней — часткі ў іх)[60].

Частку спадчыны князёў Красных атрымалі праўнукі Івана Пуцяты — князі Горскія і Васіль Талачынскі. У 1541 г. Іван Іванавіч Горскі папракаў свайго стрыечнага брата Фёдара Дзмітрыевіча Горскага ў тым, што той не прымае ўдзелу ў працэсе з князем Талачынскім за спадчыну Івана Краснага. У 1547 г. удава памерлага крыху раней Васіля Талачынскага Марыя (з князёў Заслаўскіх) абвінавачвала Івана Раманавіча Відзініцкага (які быў праўнукам іншага брата Васіля Краснага — Грыгорыя Сямёнавіча) у крыўдах у сумесным маёнтку Худава[61]. У 1551 г. сёстры Васіля Талачынскага судзіліся з яго ўдавой за маёнткі і прыгадвалі, апрача іншага, «спадок Васильевский у Друцку в замке и месте, и в селе теж Коханове и в Худове»[62]. Такім чынам, гэтая частка спадчыны ўключала, апрача Худаўскай воласці, маёнтак Коханава паміж Друцкам і Оршай. У ім таксама была доля князёў Любецкіх (Відзініцкіх). Калі ўдава Васіля Талачынскага выйшла другім шлюбам за пана Івана Гарнастая і перадала пасынкам Івану, Гаўрыле і Астафію Іванавічам Гарнастаям свае правы на мужніну спадчыну, у 1562 г. князь Іван Раманавіч (на гэты раз ён выступае пад прозвішчам Любецкі) абвінаваціў іх у захопе маёнтка Коханава, палову якога ён меў «по смерти деда его князя Ивана Васильевича Красного»[63].

Іншая частка гэтай калектыўнай спадчыны дасталася князю Іван Іванавічу Азярэцкаму (унуку Фёдара Бабіча) і братам вышэйзгаданага Івана Раманавіча. Пэўны час набытая спадчына заставалася неразмежаванай паміж імі, што прывяло ў 1546 г. да канфлікту паміж Андрэем Азярэцкім і Дзмітрыем Раманавічам Відзініцкім[64]. Андрэй скардзіўся, што падданыя Дзмітрыя з маёнткаў Худава і Дакучын чыняць крыўды яго маёнткам Худава і Перасека (усе ў сучасным Крупскім раёне). У справе прыгадваліся таксама нейкія землі Арцёмаўская і Карылаўская (месцазнаходжанне іх невядомае). Андрэй Азярэцкі сцвярджаў, што «тыи земли Артемовская и Кориловская спадком мне пришли з делу по князи Васильи Красном, а Пересецкая и Худовская — по деду моем по князи Бабе в одделе пришла». На справе, відавочна, было наадварот — спад-

[58] НГАБ. Ф. 694. Воп. 7. Спр. 832. Арк. 1—4.
[59] Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции. Кн. 21. С. 391.
[60] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 583. Арк. 113.
[61] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 138, 538.
[62] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 239. Арк. 79—83.
[63] Там жа. Спр. 249. Арк. 280—282.
[64] Там жа. Спр. 234. Арк. 71 адв. — 73.

чыну Васіля Краснага складалі якраз Перасека і Худава. Прадстаўнік князя Дзмітрыя сцвярджаў, што спрэчныя землі ў Худаве застаюцца неразмежаванымі, а ў асобныя землі Карылаўскую і Арцёмаўскую яго падданыя не ўступаюць. Неразмежаванасць сведчыць пра агульнае паходжанне Худаўскай водчыны, якая раней належала Васілю Краснаму (і яго сыну). Пазней доля Дзмітрыя Відзініцкага перайшла ў спадчыну да яго пасынка, князя Грыгорыя Сенскага, а доля Андрэя Азярэцкага — да трох яго сыноў. У 1562 г. адзін з іх, Багдан Андрэевіч Азярэцкі, саступіў сваю частку спадчыннікам князя Сенскага, панам Корсакам. Пры гэтым прыгадваюцца сёлы, што адносіліся да гэтай часткі маёнтка Худава: Калодніца, Падшыйка, Хатынічы і Перасека (усе ў ваколіцах возера Сялява), а таксама Крывая і Манастырцы, змешчаныя ў ваколіцах Друцка[65].

Да маёнтка Бобр, падараванага Іванам Красным жонцы, таксама адносіліся падданыя ў двух сёлах паблізу Друцка — Панькавічах і Манастыровічах, а таксама «зямля на Араве». Яны прыгадваюцца ў больш познім інвентары гэтага маёнтка, складзеным у 1573 г.[66]. Лёс Бабра пасля смерці князя Івана і яго жонкі дакладна не прасочваецца, але ў 1559 г. гэтае паселішча прыгадваецца як належачае да маёнтка Шклоў паноў Хадкевічаў[67]. Таму не выключана, што і сам абшар Шклоўскага маёнтка на беразе Дняпра першапачаткова належаў князям Друцкім. Упершыню ён прыгадваецца ў крыніцах, здаецца, у 1527 г., калі яго ўласнікам быў Альбрэхт Гаштаўт[68]. Як трапіў да яго Шклоў — невядома, але ў склад гэтага маёнтка ў больш познія часы ўваходзілі колішнія сядзібы Дзмітрыя Сякіры — Зубрэвічы і Хімы. Магчыма, Шклоўскі замак быў заснаваны самім А. Гаштаўтам на землях, атрыманых у спадчыну ад бабкі (дачкі Дзмітрыя Сякіры) альбо далучаных са складу спадчыны князёў Красных разам з Бабром.

Падобна таму, як уладанні князёў Падбярэзскіх знаходзіліся побач з вотчынамі нашчадкаў Івана Пуцяты, а князёў Мошкаўскіх — з вотчынамі Прыхабскіх і Дзмітрыя Зубравіцкага, уладанні іншага прышлага роду — князёў Адзінцэвічаў — у асноўным паўтаралі структуру спадчыны Васіля Краснага. Гэты род набыў частку Друцкага княства вельмі рана. На пачатку 1430-х гг. адзін яго прадстаўнік — Аляксандр Андрэевіч Адзінцэвіч — пісаўся князем Рэпухаўскім ад маёнтка Рэпухаў на правым беразе ракі Адроў (Аршанскі раён). Пасля паражэння Свідрыгайлы, прыхільнікам якога ён быў, князь Рэпухаўскі з'ехаў у Маскву. Яго ўладанні Жыгімонт Кейстутавіч аддаў літоўскаму пану Юшку Гойцавічу. У 1481 г. удава апошняга, Ганна з роду Даўгірдаў, падаравала «выслугу» пана Юшкі свайму другому мужу — Івану Іллінічу. Пры гэтым прыгадваюцца належачыя да Рэпухава паселішчы, сярод якіх Воўкавічы знаходзіліся недалёка ад Друцка, а даннікі Шырневічы — на рацэ Бобр (на поўдзень ад сучаснага райцэнтра Крупкі)[69]. Брат Аляксандра, Фёдар Адзінцэвіч, застаўся ў ВКЛ і ў 1440-я гг., як прыгадвалася вышэй, часова атрымаў маёнтак Прыхабы (пазней вернуты Канстанціну Бабічу). Адзін з яго сыноў, Дзмітрый, тытулаваўся князем Гальцоўскім ад маёнтка Гальцова побач з Рэпухавам. Да гэтай вотчыны ў 1510 г. адносіліся Крывая ля Друцка (іншая частка гэтага ж паселішча, нагадаем, адносілася да спадчыны князёў Красных у Худаве), а таксама двор у самым Друцку і маёнтак Шыйка (Шэйка, цяпер у Крупскім раёне), які быў аточаны абшарамі маёнткаў Грушка, Худава, Бобр (вотчыны Красных) і вышэйзгаданых Шырневічаў[70]. Брат Дзмітрыя Гальцоўскага Іван валодаў маёнткам Багрынава побач з Воўкавічамі, які перайшоў потым да яго сыноў[71].

Нам засталося распавесці пра тую частку друцкіх уладанняў, якая з самага пачатку належала нашчадкам Грыгорыя Сямёнавіча — князям Відзініцкім. Сядзібай, ад

[65] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 362, 457. Тэкст гэтай граматы гл. таксама: Sapiehowie: Materyały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 1. Petersburg, 1890. Dodatek 32. S. 431—433.

[66] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией. Т. 14. Вильно, 1887. С. 175—180.

[67] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 38. Арк. 203.

[68] РИБ. Т. 27. Сл. 378—380.

[69] Archiwum książat Sanguszków w Sławucie. T. 3. Lwów, 1890. S. 76—77.

[70] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 285—286.

[71] Там жа. S. 203—207.

якой паходзіць іх прозвішча, быў маёнтак Відзінічы (Відунічы) на поўнач ад Друцка. Апрача таго, ім належаў маёнтак Загароддзе на паўночны захад ад Друцка[72]. У 1562 г. прыгадваюцца паселішчы, што «прыслухалі» да яго: суседнія Гастынічы, Коцавічы, Лоўнева, Мураванічы, Лаўрынічы, а таксама больш аддалены Кіявец ля верхняга цячэння ракі Бобр[73]. Паколькі за іх князь Іван Раманавіч Любецкі судзіўся з панамі Гарнастаямі — на той час уладальнікамі спадчыны Васіля Талачынскага, можна меркаваць, што землі Загароддзя знаходзіліся сумесна ці цераспалосна з землямі маёнтка Талачын.

Калі абагульніць усё сказанае вышэй, то атрымліваецца, што першапачатковыя вотчыны князёў Друцкіх (што належалі ім, прынамсі, у часы Вітаўта) не ўтваралі суцэльнага абшару, а распадаліся на некалькі асобных кавалкаў. Адзін з іх прылягаў непасрэдна да Друцка і цягнуўся адтуль да воласці Худава на захадзе і да ўзбярэжжа Дняпра (крыху ніжэй Оршы) на ўсходзе. За Дняпром знаходзіўся іншы, амаль такі ж па памерах кавалак — воласці Басея і Горы. Аднак паміж імі, на левым беразе Дняпра, укліньвалася тэрыторыя маёнтка Копысь, які пры Вітаўце быў велікакняжацкай уласнасцю[74]. Трэці вялікі абшар друцкіх уладанняў знаходзіўся даволі далёка на поўдзень — вакол Старога і Новага Быхава, Добасны і паміж імі — абапал ніжняй Друці. Ён аддзяляўся ад ваколіц Друцка землямі маёнткаў Цяцерын і Галоўчын, якія належалі мсціслаўскім князям Сямёну-Лугвеню Альгердавічу (валодаў Мсціславам з 1390 па 1431 г.) і яго сыну Юрыю[75], а таксама вялікай Магілёўскай воласцю, якая ў 1390-я гг. належала жонцы Ягайлы каралеве Ядвізе[76], а потым была велікакняжацкай уласнасцю[77]. Астатнія вотчыны Друцкіх былі невялікімі анклавамі сярод дзяржаўных валасцей: Турэц — у Свіслацкай, Зарэмцы — у Барысаўскай, Обаль і Госмір — у Віцебскім павеце. Такая цераспалосіца магла ўтварыцца дваякім чынам. З аднаго боку, князі Друцкія, напэўна, ужо ў XIV — пачатку XV стагоддзя атрымлівалі ад вялікіх князёў новыя пажалаванні (у прыватнасці — Горы і Басею, якія здаўна адносіліся да Смаленскага княства[78]). З другога боку, частка старадаўніх вотчын, што належалі да Друцка з XII—XIII стагоддзяў, пазней была страчана імі (так магло адбыцца, напрыклад, з Магілёвам і Цяцерынам).

Дарэчы, ля самага Магілёва знаходзіўся маёнтак Буйнічы, які ў XV стагоддзі належаў князям Льву і Фёдару Талочкавічам — напэўна, нашчадкам князя Юрыя Талочкі невядомага паходжання, які прыгадваецца аднойчы ў 1399 г. Апрача Буйніч, ім жа належалі маёнткі Высокае і Гатушычы, у 1-й палове XV ст. праданыя Фёдарам Талочкавічам Яну Гаштаўту. Магчыма, Высокае адпавядае вёсцы крыху на поўдзень ад Шклова, якая пазней уваходзіла ў склад Шклоўскага маёнтка паноў Гаштаўтаў і іх пераемнікаў. Непадалёку ляжала вёска Барсукоўшчына, на пачатку XVI стагоддзя падараваная Аляксеем Львовічам Буйніцкім Кіева-Пячэрскаму манастыру[79]. Пазней у складзе маёнткаў Кіеўскай мітраполіі неаднаразова прыгадваюцца Пячэрскі двор з

[72] НГАБ. Ф. КМФ-18. Спр. 249. Арк. 280—282.

[73] Гэта вынікае з таго, што адну дагаворную грамату Вітаўт падпісаў у 1406 г. падчас знаходжання «в нашем дворце в Копуссе». Гл.: Полоцкие грамоты / Сост. А.Л. Хорошкевич. М., 1977. Вып. 1. С. 108—113.

[74] Аб гэтым сведчаць іх наданні «службаў у Галоўчыне» і «даніны мядовай Цяцерынскай» мсціслаўскаму Ануфрыеўскаму манастыру, якія прыгадваюцца ў больш познім дакуменце. Гл.: Акты Литовской метрики / Изд. Ф.И. Леонтович. Т. 1. Вып. 1. Варшава, 1896. С. 14.

[75] Павіннасці, якія ішлі з Магілёва пры Ядвізе, таксама прыгадваюцца ў больш познім дакуменце: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 3. Вильно, 1867. № 9.

[76] У Магілёве была складзена ў 1406 г. тая дагаворная грамата Вітаўта, якую ён падпісаў, пераехаўшы ў Копысь (гл. вышэй).

[77] Прынамсі, Басея прыгадваецца разам з Копыссю ў Статутнай грамаце смаленскага князя Расціслава ў XII стагоддзі. Гл. Памятники русского права. М., 1953. Т. 2. С. 39—42.

[78] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 12.

[79] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1. № 43, 173, 249, 353, 362.

паселішчамі Тарасаўшчына, Цвіркова і Барсукі (напэўна, ранейшая Барсукоўшчына), змешчаныя паміж шклоўскімі і магілёўскімі землямі[80]. Такім чынам, уладанні князёў Талочкавічаў ляжалі ўздоўж Дняпра на поўдзень і поўнач ад Магілёва і, магчыма, захаваліся з таго часу, калі Магілёўская воласць яшчэ не была вялікакняжацкай уласнасцю. Не выключана, што гэты род быў яшчэ адным адгалінаваннем князёў Друцкіх альбо спадчыннікам часткі іх старажытных уладанняў.

Агульная плошча ўладанняў князёў Друцкіх пры Вітаўце складала, па нашых падліках, каля 7,5 тыс. кв. км — амаль столькі ж, як і многія з удзельных княстваў Гедымінавічаў. Адзінае, што кожнае з такіх княстваў звычайна належала адной асобе, а ўладанні Друцкіх даволі рана паспыталі драбленне, якое з кожным пакаленнем усё паглыблялася. Новыя маёнткі, атрыманыя асобнымі прадстаўнікамі роду ў XV—XVI стагоддзях, былі параўнальна невялікімі і не маглі пераважыць страту тых вотчын, якія пераходзілі ў чужыя рукі ў выніку згасання асобных галін. Так, ужо ў XV стагоддзі ўсе маёнткі Дзмітрыя Зубравіцкага перайшлі да яго ўнука па жаночай лініі — пана Марціна Гаштаўта. Тады ж іншыя часткі вотчын нейкім чынам апынуліся ў руках князёў Мошкаўскіх (Камарыцкіх) і паноў Хадкевічаў, князёў Адзінцэвічаў, князёў Ямантавічаў-Падбярэзскіх. На пачатку XVI стагоддзя са складу вотчын князёў Друцкіх-Красных у чужыя рукі адышоў Бобр (а магчыма — і Шклоў). Тое ж адбылося з маёнткамі згаслых князёў Прыхабскіх. У сярэдзіне XVI стагоддзя абарвалася галіна Друцкіх-Канопляў, уладанні якой дасталіся мужу князёўны Багданы Канстанцінаўны — Івану Сапегу. Тады ж большасць маёнткаў Васіля Друцкага-Талачынскага (у тым ліку і атрыманых ім у спадчыну пасля дзедавага брата Дзмітрыя Пуцяціча) перайшла да паноў Гарнастаяў.

Вынікі гэтага працэсу фіксуе інвентар Друцкага замка, складзены каля 1560 г.[81]. Ён апісвае часткі замкавых умацаванняў (вежы і гародні), падтрыманне якіх было ўскладзена на падданых з пэўных частак колішняга Друцкага княства. Пачынаецца апісанне з «вежы наражонай Дудакоўскай з князямі Горскімі», побач якой ішлі «гародні тры князёў Горскіх, а частка дудакоўская гародні тры, і дом каля той вежы дудакоўскі». Гэта азначае, што за ўтрыманне гэтай вежы, гародняў і хаты, глухая сцяна якой уяўляла сабой працяг гарадской сцяны, былі адказнымі нашчадкі Васіля Пуцяціча. З іх на той час жылі яго праўнукі, Грыгорый і Абрам Фёдаравічы Друцкія-Горскія, якім належалі маёнткі Бурнеўка і Арава. Стрыечныя браты іх бацькі, князі Уладзімір, Фёдар і Іван Іванавічы Дудакоўскія, памерлі незадоўга да таго. На момант складання інвентару іх спадчына (маёнткі Дудаковічы і Гарбачова) знаходзілася ў руках дзяцей іх сястры Аўдоцці — Васіля і Пятра Багданавічаў Храбтовічаў — разам са шваграм апошніх Анікеем Гарнастаем (жанатым з дачкой Аўдоцці).

З другога боку, ад Дудакоўскай згадваюцца часткі князя Багдана Андрэевіча Азярэцкага (апошняму належалі Азерцы, Навасёлкі і частка спадчыны князёў Красных у Худаве і Перасецы). Далей ішла «частка яго міласці пана старосты каменскага — гародзен двадцаць адна і вежа, а з другога боку той вежы той жа часткі гародня адна». Гэта была колішняя «зона адказнасці» князя Васіля Талачынскага за маёнтак Стараселле, які цяпер знаходзіўся ў руках Гаўрылы Іванавіча Гарнастая, старосты камянецкага, і яго братоў. Затым вызначана «частка круглянская гародні дзве». Яна адносілася да маёнтка Круглае (сучасны райцэнтр), які належаў на той момант дачцэ князя Льва Палубінскага Марыне і яе мужу, Івану Копцю. Адказнасць уласнікаў Круглага за дзве гародні Друцкага замка сведчыць пра тое, што гэты маёнтак таксама калісьці належаў да Друцкага княства. Аднак калі ён вылучыўся з яго — дакладна невядома, бо першая згадка пад 1524 г. фіксуе яго ўжо ў руках князёў Палубінскіх, да якіх пасля князёў Мсціслаўскіх перайшоў і суседні Цяцерын[82].

За круглянскай ішлі «часткі варанцэўскае гародзен шэсць». Яны былі замацаваны за маёнткам Варанцэвічы недалёка ад Друцка, які здаўна належаў сынам Івана Пу-

[80] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы. Рукапіс В2—1. Арк. 1.

[81] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 370.

[82] Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого литовского статута. М., 1892. С. 254.

цяты. Аднак пры вялікім князю Аляксандру (1492—1506) ён быў набыты ў іх панам Юрыем Іллінічам[83], заснавальнікам славутага Мірскага замка. Напярэдадні стварэння інвентару, у 1559 г., Варанцэвічы часова былі прылучаны да Аршанскага замка. «Воласць Варанцоўская» прыгадваецца ў інвентары апошняга, складзеным адначасова з друцкім інвентаром, у 1560 г.[84]. Такім чынам, падданыя маёнтка Варанцэвічы выконвалі на той момант павіннасці на карысць аршанскага намесніка, але частка друцкіх умацаванняў па-ранейшаму заставалася замацаванай за імі. Цікава, што да Варанцэвіцкай воласці нейкім чынам былі прылучаны паселішчы са складу Друцкага княства, якія раней уваходзілі ў іншыя маёнткі: Пераваолочня, Астрашапкі, Ельняны і Грушка (крыху раней яны адносіліся да Падбярэззя), Сакалавічы (раней належалі да Бабра) і Шырневічы (прыгадваліся ў складзе маёнтка Воўкавічы).

Далей у друцкім інвентары названа «частка канаплянская гародзен тры». За гэты кавалак умацаванняў былі адказнымі падданыя Канапельчыц, якія пасля згасання галіны Друцкіх-Канопляў перайшлі да Івана Сапегі праз яго жонку, князёўну Багдану Канстанцінаўну. Затым ішлі «частка талачынская гародзен сем і вежа, і на другі бок вежы гародні дзве». Маёнтак Талачын, нагадаем, пасля смерці Васіля Талачынскага быў падзелены паміж яго ўдавой (другім шлюбам жонкай Івана Гарнастая) і сёстрамі. Пры гэтым адна з гэтых сясцёр, Настасся Талачынская, была жонкай свайго аддаленага родзіча Канстанціна Каноплі і, такім чынам, цешчай вышэйзгаданага Івана Сапегі. Пасля смерці ўдавы князя Талачынскага, якая адбылася за год да складання інвентару, Сапега якраз судзіўся з Гарнастаямі за гэтую спадчыну.

Наступныя шэсць гародняў і «дом у сцяне паміж гароднямі» складалі «частку князёў Любецкіх з паней Харлінскаю» і адносіліся да маёнткаў Відзінічы і Загароддзе. На той час яны належалі сумесна князю Івану Раманавічу Любецкаму-Відуніцкаму, яго пляменнікам Богушу Дзмітрыевічу і Янушу Багданавічу, а таксама сястры апошняга Ганне Багданаўне, жонцы польскага шляхціча Мікалая Харлінскага. Да іх прылягала «частка князёў Сакалінскіх усіх удзельнікаў гародні чатыры і вежа спольная ўязная». Гэтымі князямі, уласнікамі маёнткаў Саколіна і Валосавічы, былі праўнукі Фёдара Бабіча Павел і Цімафей Юр'евічы і Міхаіл Васілевіч Друцкія-Сакалінскія. Апошні з іх, магчыма, на той момант ужо памёр (апошні раз ён прыгадваецца ў 1559 г.), і яго спадчына перайшла да трох яго сыноў. Так што «ўдзельнікаў» гэтага маёнтка было даволі шмат. Азначаная вежа з уязной брамай, напэўна, знаходзілася на паўночнай ці паўночна-заходняй частцы замка. Ля яе была «частка паноў Падбярэзскіх гародзен шэсць». Падбярэззе належала пляменнікам князя Сямёна Ямантавіча па жаночай лініі, братам Грыгорыю і Івану Яцкавічам, якія разам з гэтай спадчынай атрымалі і прозвішча «Падбярэзскія»[85].

Наступныя «частка коханаўская гародні тры» і «частка радчынская гародні дзве» адносіліся да маёнткаў Коханава і Радча, якія некалі належалі адпаведна Івану Васілевічу Краснаму і Дзмітрыю Пуцяцічу, а пазней перайшлі да Васіля Талачынскага. Побач з імі была загадкавая «частка васілеўская гародні дзве». Незразумела, ці названа яна так па колішняй прыналежнасці Васілю Краснаму ці Васілю Талачынскаму, альбо тычылася паселішча Васільеўка на поўначы Круглянскага раёна (якое, аднак, ні ў якіх крыніцах XVI стагоддзя больш не прыгадваецца). Нарэшце, замыкала кола друцкіх умацаванняў «частка Сенскага гародні тры». Яна адносілася да маёнтка Крывая з доляй у Худаўскай воласці — колішніх уладанняў князёў Красных, якія потым належалі Дзмітрыю Раманавічу Відзініцкаму, а пасля яго смерці ў 1558 г. перайшлі да яго пасынка, князя Грыгорыя Сенскага, і сястры апошняга — жонцы полацкага баярына Васіля Корсака[86]. Азначаныя тры гародні прымыкалі да Дудакоўскай вежы, з якой пачыналася апісанне.

Прыведзены інвентар паказвае, наколькі раздрабнілася Друцкае княства да сярэдзіны XVI стагоддзя. Пры гэтым у ім не прыгадваюцца маёнткі, што некалі

[83] Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897. С. 123—134.

[84] Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy... S. 672—673.

[85] Там жа. S. 457—458.

[86] Sapiehowie: Materyały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 1. S. 66—67, 144—182.

належалі князям Прыхабскім і Дзмітрыю Зубравіцкаму, а таксама часткі, прыналежныя да Гальцова і Багрынава князёў Адзінцэвічаў, Рэпухава паноў Іллінічаў і ўладанняў князёў Мошкаўскіх. Напэўна, іх сувязь з Друцкім замкам і падтрымкай яго ўмацаванняў была ўжо страчана, хаця раней, нагадаем, «частка спадчыны ў добрах Друцкіх» адносілася, прынамсі, да маёнтка Камарычы.

Памер маёнткаў, на якія распалася Друцкае княства, дазваляе вызначыць перапіс войска ВКЛ, складзены ў 1567 г., падчас Інфлянцкай вайны. Тады князь Багдан Андрэевіч Сакалінскі выстаўляў у войска 8 коннікаў са сваіх маёнткаў Саколіна і Новае Сяло, а таксама Відзініч, якія трымаў у якасці апекуна спадчыны памерлага незадоўга да таго Івана Раманавіча Любецкага. Камена і Гарадзец у Полацкім ваяводстве, што належалі Багдану, былі спустошаны рускімі войскамі і ў разлік пры вызначэнні вайсковай павіннасці не браліся. Брат Багдана Андрыяш выстаўляў з Саколіна і Ульянавіч 4 коннікі, а яго полацкія маёнткі Крывіна і Несіна былі спустошаны. Стрыечны брат гэтых князёў Павел Юр'евіч Сакалінскі выстаўляў у войска 10 коннікаў са сваіх маёнткаў Лугінавічы і Ульянавічы, а яго брат Цімафей — 5 коннікаў з Саколіна і Ульянавіч. Апрача таго, належачыя ім маёнткі Мількавічы, Бешанковічы, Бабіна, Уродава, Свеча, Езніца і Драчалукі ў Полацкім і Віцебскім ваяводствах былі спустошаны. Тое ж тычылася маёнткаў Арава і Горкі, якія Павел Сакалінскі трымаў у якасці апекуна малалетніх нашчадкаў князя Грыгорыя Бурнеўскага.

У попісе не згадваюцца маёнткі непаўналетніх дзяцей Міхаіла Васілевіча Сакалінскага, які памёр за некалькі гадоў да таго. Не прыгадваюцца чамусьці таксама князі Абрам Фёдаравіч Горскі (брат нябожчыка Грыгорыя Бурнеўскага) і Васіль Андрэевіч Азярэцкі. Брат апошняга Багдан выстаўляў з Азерцаў і Новага Сяла 4 коннікі. Паколькі адзін коннік выстаўляўся з 10 службаў (прыкладна з 20 сем'яў падданых), у азначаных маёнтках князёў Сакалінскіх і Азярэцкага разам было каля 640 сялянскіх двароў. З улікам спустошаных маёнткаў іх агульную ўласнасць можна ацаніць прыкладна ў 1000 двароў (да 50 коннікаў). Гэта было не вельмі шмат у параўнанні не толькі з уладаннямі буйнейшых магнатаў (адзін Крыштаф Радзівіл выстаўляў 539 коннікаў), але і з маёмасцю большасці паноў, якія займалі ваяводскія пасады. Напрыклад, мсціслаўскі ваявода Юрый Осцік ставіў 61 конніка, падляшскі ваявода Васіль Тышкевіч — 66, навагародскі ваявода Павел Сапега — 120, троцкі ваявода Стэфан Збаражскі — 173.

У попісе прыгадваюцца таксама маёнткі, якія на той момант ужо выйшлі з рук князёў Друцкіх. Так, князёўна Аляксандра Фёдараўна Горская, жонка Льва Роскага, выстаўляла са сваіх мацярынскіх маёнткаў Обаля, Мошкава і Сяльца (спадчыны князёў Прыхабскіх) 3 коннікі, а саўладальнік гэтай спадчыны Станіслаў Гамшэй спаслаўся на тое, што яго маёнтак Прыхабы быў спустошаны. Муж князёўны Багданы Канаплі пан Іван Сапега з яе вотчын у Саколіне і са Стараселля выстаўляў 8 коннікаў. Саўладальнік спадчыны Васіля Талачынскага Астафій Гарнастай ставіў з таго ж Стараселля 8 коннікаў, а яго брат Гаўрыла — 2 коннікі з Талачына і 1 — з Басеі. На жаль, попіс не прыводзіць дакладных лічбаў па асобных маёнтках іншых паноў, якія валодалі часткамі друцкай спадчыны — Анікея Гарнастая, Марціна Курча (тагачаснага трымальніка былых уладанняў князёў Відзініцкага і Сенскага ў Худаве), жонкі Міхаіла Осціка князёўны Ганны Любецкай і некаторых іншых. Затое згадваецца памер «друцкіх маёнткаў» удавы князя Андрэя Адзінцэвіча (Рэпухава, Багрынава і Сяльца) — 14 коннікаў. Удава Івана Багрынаўскага (Адзінцэвіча) з маёнтка Любанічы (побач з Варанцэвічамі) ставіла 1 конніка. Грыгорый Падбярэзскі выстаўляў з Падбярэззя і Зарэмцаў 8 коннікаў.

У далейшым некаторыя часткі Друцкага княства працягвалі драбіцца, але адбываліся і супрацьлеглыя працэсы. Паводле другога Статута ВКЛ, прынятага ў 1566 г., уласнікі набылі поўнае права прадаваць і завяшчаць свае вотчыны, каму пажадаюць. Гэта паскорыла стварэнне вялікіх маёмасных комплексаў — латыфундый — шляхам скупкі змізарнелых маёнткаў. Асабліва значная латыфундыя на землях, што прылягалі да Друцка, утварылася на пачатку XVII стагоддзя дзякуючы

дзейнасці славутага канцлера ВКЛ і віленскага ваяводы Льва Іванавіча Сапегі. Ён быў сынам Івана Сапегі і Багданы Канстанцінаўны Друцкай-Каноплі, з'яўляючыся, такім чынам, нашчадкам князёў Друцкіх па жаночай лініі. Менавіта таму і ў яго гербе (змешчаным, дарэчы, на тытульным аркушы Статута 1588 г., які рэдагаваў Леў Сапега) прысутнічае герб яго маці — старажытны герб «Друцк».

Маці Льва Сапегі была не толькі адзінай спадчынніцай згаслай галіны Друцкіх-Канопляў, але адначасова і пляменніцай Васіля Талачынскага. Дзякуючы гэтаму да Сапегаў урэшце рэшт перайшлі і вотчыны апошняга, якімі пэўны час валодалі Гарнастаі. Рознымі шляхамі бацька Льва Сапегі і ён сам набылі таксама шэраг іншых навакольных маёнткаў[87]. Усяго ў былым Друцкім княстве Леў Сапега валодаў большасцю Худаўскай воласці (яна была прылучана да яго маёнтка Чарэя ў сучасным Чашніцкім раёне), Талачыном з мястэчкамі Славені, Ябланка, Трастынка і Будаўка, Канапельчыцамі, Крывой, Стараселлем, Коханавам, Круглым, значнай часткай мястэчка Друцк, а ў задняпроўскіх валасцях — Гарамі, Горкамі, Шышавам, Юркавам і часткай воласці Басея з Сяльцом і Якаўлевічамі[88]. Да таго ж яму належалі прылеглыя да Друцкага княства з поўдня Цяцерын і Бялынічы, а на ўмовах закладу — Любашанская воласць і (часова) Копысь з Баранню. Сын Льва Сапегі Ян Станіслаў праз шлюб з Ганнай Хадкевіч набыў маёнтак Стары Быхаў, які некалі меў дачыненне да Друцкага княства.

У сярэдзіне XVII стагоддзя латыфундыя Льва Сапегі раздрабнілася паміж яго нашчадкамі, але на яе месцы паўсталі іншыя. У XVIII стагоддзі шмат зямель у ваколіцах Друцка апынуліся прылучанымі да латыфундыі князёў Сангушкаў, якім яшчэ з сярэдзіны XVI стагоддзя належалі прылеглыя з поўначы маёнткі Абольцы і Смаляны. У розныя часы Сангушкі набылі колішнія вотчыны князёў Адзінцэвічаў: Грушку з Крупкамі і Шыйкай, Рэпухаў, Гальцова, Багрынава, а таксама Азерцы, Прыхабы, Талачын з Канапельчыцамі. Другая латыфундыя, якая належала князям Агінскім, у XVIII стагоддзі ўключала ў сябе Стараселле з Коханавам і Лагоўчынам, Бобр, Круглае, а таксама суседнія Цяцерын і Бялынічы. Да Чарэйскага графства Сапегаў па-ранейшаму належала былая Худаўская воласць на поўначы Крупскага раёна. Гэтыя латыфундыі праіснавалі да часу падзелаў Рэчы Паспалітай у 1772 і 1793 гг., калі землі колішняга Друцкага княства адышлі да Расійскай імперыі.

## Найбольш значныя прадстаўнікі роду Друцкіх

З пачатку XV па канец XVIII стагоддзя ў гістарычных крыніцах упамінаюцца каля 150 мужчынскіх прадстаўнікоў роду князёў Друцкіх, якія дзейнічалі на тэрыторыі ВКЛ, і амаль 100 — на тэрыторыі Расіі (калі залічваць да іх і Пуцяціных, паходжанне якіх спрэчнае). Зразумела, далёка не ўсе яны былі прыкметнымі асобамі. Але некаторыя пакінулі яркі след у гістарычных падзеях свайго часу[89].

Падчас панавання вялікага князя Казіміра (1440—1492) род Друцкіх прыкметна страціў тыя пазіцыі, якія меў пры Вітаўце і Свідрыгайле. Часткова гэта было выклікана збегам чыста дэмаграфічных акалічнасцей: прадаўжальнікі роду ў гэтым калене былі пераважна познімі дзецьмі сваіх бацькоў і пасля смерці апошніх заставаліся зусім маладымі, што не вельмі спрыяла іх кар'еры. Так, на момант ранняй смерці Канстанціна Бабіча (у 1440-х гг.) яго сын Андрэй Прыхабскі быў, верагодна, зусім маленькім, бо пачынае прыгадвацца толькі праз некалькі дзесяцігоддзяў. Ён жыў яшчэ ў 1505 г., калі дасягнуў вяршыні сваёй кар'еры — пасады ашмянскага намесніка.

Фёдар Бабіч памёр прыкладна ў 1450-я гг., не займаючы дзяржаўных пасад. На той момант ніхто з яго чатырох сыноў (імі былі Сямён Сакалінскі, Фёдар Канопля,

[87] Інвентары большасці з гэтых маёнткаў Льва Сапегі за 1624 г. захаваліся ў Аддзеле рукапісаў Бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта (Рукап. А-1795, А-1806).

[88] Далейшыя звесткі па тэрыторыі ВКЛ прыводзяцца паводле працы Ю. Вольфа.

[89] Петров П.Н. История родов русского дворянства. С. 45—50; Русский биографический словарь. Т. 2. СПб., 1900. С. 384.

Васіль Шчарбаты і Іван Азярэцкі) не дасягнуў, здаецца, паўналецця. У далейшым яны таксама не вызначыліся на дзяржаўнай службе. Праўда, Сямён Сакалінскі (нарадзіўся прыкладна ў 1430-я гг.) быў даволі значным землеўладальнікам. Яму належаў шэраг маёнткаў у Полацкай зямлі: Бабча, Камень, Несіна (у сучасным Лепельскім раёне), Бешанковічы, Крывіна, Мілкавічы (у Бешанковіцкім), якія ў далешым падзяліліся паміж рознымі адгалінаваннямі яго нашчадкаў — князёў Друцкіх-Сакалінскіх. Не выключана, што частка гэтых маёнткаў уваходзіла ў лік тых неназваных уладанняў, што былі нададзены яго бацьку Фёдару пасля Міхаіла Ямантавіча. Прынамсі, родавы маёнтак Ямантавічаў — Бачэйкава — знаходзіўся якраз паміж Несінам і Бешанковічамі. Сямён Сакалінскі жыў даволі доўга. Падчас вайны 1512—1514 гг. ён трапіў у маскоўскі палон, дзе, напэўна, і памёр.

Сыны Івана Пуцяты пачынаюць згадвацца гадоў праз 10—15 пасля смерці бацькі, што ўскосна сведчыць пра іх юны ўзрост на той момант. Пра дзяржаўныя пасады Міхаіла і Васіля Пуцяцічаў, а таксама іх дзяцей (Юрыя Міхайлавіча Шышаўскага, Дзмітрыя, Івана, Міхаіла і Алелькі Васілевічаў Горскіх) нічога невядома. Унук Пуцяты Юрый Васілевіч, як ужо згадвалася, у 1500 г. трапіў у маскоўскі палон, адкуль не вярнуўся. А вось Дзмітрый Іванавіч Пуцяціч зрабіў адметную кар'еру — бадай што самую паспяховую ў гэтым пакаленні роду Друцкіх. Упершыню згаданы ў 1467 г. (калі яму было, напэўна, каля 30 гадоў), у 1486 г. ён быў намеснікам Мцэнскага павета на ўсходніх ускрайках ВКЛ, у 1487—1488 гг. прыгадваецца як бранскі намеснік, а ў 1492 г. стаў кіеўскім ваяводам, якім і заставаўся да сваёй смерці ў 1505 г. Апрача родавых вотчын (Стараселля, Радчы, Зарэмцаў і інш.), у 1499 г. ён атрымаў ад вялікага князя маёнтак Крошын у Навагародскім павеце і Палажаны ў Любашанскай воласці. Чацвёрты з братоў Пуцяцічаў, Іван, жыў і дзейнічаў у Луцкім павеце, на Валыні (тэрыторыя сённяшняй Украіны). У 1487—1489 гг. ён прыгадваецца на пасадзе луцкага гараднічага, у 1496 г. — луцкага ключніка, у 1497 г. — луцкага падстаросты. У 1506—1507 гг. ён займаў пасаду намесніка Перамільскага павета там жа, на Валыні.

Адзіны сын Грыгорыя Сямёнавіча — Васіль (нарадзіўся прыкладна ў 1420-я гг.) — таксама быў звязаны пераважна з украінскімі землямі, дзякуючы свайму шлюбу з дачкой вельмі ўплывовага валынскага баярына Юршы. Звестак пра яго дзяржаўную службу няма. Апошні раз ён прыгадваецца ў 1466 г. У 1488 г. яго сыны Багдан і Васіль, народжаныя недзе ў 1450-я гг., атрымалі ў спадчыну ад сваёй цёткі (другой дачкі пана Юршы) маёнтак Любчу на Валыні, ад якога пачалі тытулавацца князямі Любецкімі. На дзяржаўнай службе яны таксама не вызначыліся.

Сын Васіля Краснага Іван, напэўна, нарадзіўся ў 1440-я гг., незадоўга да смерці бацькі. Жыў ён доўга, бо ў апошні раз прыгадваецца ў 1516 г., калі склаў сваё завяшчанне. У 1488 г. ён даслужыўся да пасады менскага намесніка (старосты), на якой заставаўся да канца жыцця.

На пачатку XVI стагоддзя пачалася дзейнасць самага прыкметнага з унукаў Васіля Пуцяціча — Уладзіміра Іванавіча Горскага. Ён нарадзіўся каля 1490 г. і быў жанаты са сваёй аддаленай радніёй — князёўнай Данмітрай, адной з дачок Андрэя Прыхабскага. Праз гэты шлюб ён набыў частку вотчын згаслай галіны князёў Прыхабскіх. У 1515 г. Уладзімір атрымаў тую ж пасаду, якую раней займаў яго цесць — намесніка ашмянскага. На ёй ён прыгадваецца таксама ў 1520 г. Памёр ён у 1545 г.

У той жа час жыў адзіны ўнук Міхаіла Пуцяціча — Васіль Юр'евіч Талачынскі (нарадзіўся каля 1480 г.), які вышэй ужо неаднаразова прыгадваўся ў сувязі са сваімі шматлікімі вотчынамі. Да яго, нагадаем, перайшла значная частка спадчыны Дзмітрыя Пуцяціча і Івана Васілевіча Краснага. У 1536 г. князь Талачынскі стаў намеснікам Гомельскага замка, толькі што адваяванага ў Маскоўскай дзяржавы. У 1538 г. ён заняў пасаду аршанскага намесніка і заставаўся на ёй да сваёй смерці ў 1546 г.

З нашчадкаў Фёдара Бабіча адзін яго сын, Іван (нарадзіўся ў 1450-я гг.), як адзначалася вышэй, у 1508 г. прыгадваецца ў летапісах сярод прыхільнікаў Глінскага, якія з'ехалі ў Расію. Сыны Івана — Андрэй і Сямён Азярэцкія, — аднак, засталіся ў ВКЛ і захавалі свае вотчыны. Сямён нічым асаблівым не вызначыўся, а Андрэй Іванавіч

Азярэцкі (нарадзіўся каля 1480 г.) ужо ў даволі сталым узросце заняў у 1547 г. пасаду аршанскага намесніка, вакантную пасля смерці Васіля Талачынскага. У 1551 г. ён атрымаў ад вялікага князя маёнтак Дусяты ў Браслаўскім павеце. Памёр князь Андрэй у 1558 г. у вельмі сталым узросце.

Сярод іншых прадстаўнікоў роду ў гэты час на дзяржаўнай пасадзе вядомы толькі адзін з чатырох сыноў Сямёна Сакалінскага — Васіль, які нарадзіўся таксама каля 1480 г. і ў 1510-я гг. быў намеснікам воласці Абольцы (сумежнай з друцкімі землямі на поўначы Талачынскага раёна). Неўзабаве вялікі князь Жыгімонт падараваў гэтую воласць сваёй жонцы Боне. Пра далейшую службу Васіля Сакалінскага, які жыў да пачатку 1530-х гг., звестак няма.

Сярод нашчадкаў Івана Бабы, якія засталіся ў Расіі, у канцы XV стагоддзя дзейнічаў яго ўнук Юрый Васілевіч, які ў 1496 г. быў намеснікам у Пскове, а ў 1499 г. — у Івангарадку. Яго пляменнік Васіль Сямёнавіч Бабічаў быў у 1485 г. намеснікам у Вялікім Ноўгарадзе. Ад яго пайшла наўгародская галіна роду, якая прыкметнай ролі ў далейшым не адыгрывала. Пры Іване Грозным дзейнічалі Андрэй і Фёдар Сямёнавічы. У 1555 г. першы з іх кіраваў камісіяй, якая апісвала Звенігародскі павет, а ў 1566 г. быў ваяводам у Полацку, часова захопленым рускімі падчас Інфлянцкай вайны. Фёдар Сямёнавіч Друцкі ўдзельнічаў у паходзе на Калывань у 1577 г., у 1581 г. быў асадным ваяводам у Белай на Смаленшчыне, на працягу 1582—1592 гг. паслядоўна быў ваяводам у Мцэнску, Серпухаве, Арле, Туле, Крапіўне, а ў 1602—1604 гг. — у Почапе[90].

У Інфлянцкай вайне царскімі ваяводамі былі некалькі князёў Пуцяціных: Грыгорый Васілевіч — у Порхаве, Арле і Арэшкаве ў 1560-я гг.; Грыгорый Давыдавіч — у Нарве ў 1566 г., у Ругадзеве ў 1571 г., у Арэшкаве ў 1574 г.; Міхаіл Міхайлавіч па мянушцы Бык — у Пандзе ў 1579 г., у Пернаве ў 1582 г.; Андрэй Мацвеевіч — у паходзе на Калывань у 1577 г. Але, як ужо адзначалася, іх прыналежнасць да роду Друцкіх праблематычная.

Тым часам у ВКЛ Статут, прыняты ў 1566 г., замацоўваў новую сістэму кіравання, утвораную паводле польскага ўзору. Уводзілася іерархія службовых пасад («урадаў») на дзяржаўным і мясцовым узроўні. Найбольш важнымі былі пасады ваявод і кашталянаў (па адной на кожнае ваяводства), якія давалі права на месца ў Сенаце. У паветах уводзіліся пасады маршалка, падкаморага, харунжага, суддзі земскага з падсудкам і пісарам, суддзі гродскага з пісарам і інш., якія займаліся найбольш аўтарытэтнымі прадстаўнікамі мясцовай шляхты.

Паводле новага адміністрацыйнага падзелу ўсе абшары колішняга Друцкага княства ўвайшлі ў Аршанскі павет Віцебскага ваяводства. Апрача таго, князям Друцкім-Сакалінскім належалі маёнткі ў Полацкім ваяводстве, князям Азярэцкім — Дусяты ў Браслаўскім павеце Віленскага ваяводства, а сынам Грыгорыя Фёдаравіча Друцкага-Горскага (Бурнеўскага), жанатага з князёўнай Тамілай Заслаўскай, ад маці перайшлі маёнткі Лошыца, Прылукі і Снаксарава ў Менскім павеце. Частка маёнткаў князёў Друцкіх-Любецкіх знаходзілася ў Валынскім і Кіеўскім ваяводствах, якія з 1569 г. больш не належалі ВКЛ, а ўваходзілі непасрэдна ў склад Польскага каралеўства («Кароны»). Праз шлюб Багдана Раманавіча Любецкага з літоўскай паненкай Соф'яй Давойнай да яго нашчадкаў перайшоў у 1530-я гг. таксама маёнтак Лунін у Пінскім павеце (сучасны Лунінецкі раён).

Першым з князёў Друцкіх даслужыўся да адной з новаўведзеных пасад Павел Юр'евіч Сакалінскі, які нарадзіўся каля 1500 г. Ён вызначыўся падчас Інфлянцкай вайны з Расіяй, калі быў ротмістрам войска ВКЛ. За ваенныя заслугі ён у 1565 г. атрымаў у якасці лена (гэта значыць — з наследаваннем толькі па мужчынскай лініі, без права продажу) дзяржаўныя маёнткі Лугінавічы і Рубеж у Полацкім ваяводстве. У 1569 г. Павел Сакалінскі заняў вышэйшую з павятовых пасад Аршанскага павета — аршанскага маршалка. Пасля яго смерці каля 1575 г. гэтая пасада перайшла да яго брата Цімафея, які памёр у 1585 г.

[90] Polski słownik biograficzny. T. XVII/4. Zeszyt 75. Wrocław etc., 1972; Русский биографический словарь. Т. 6. СПб., 1905. С. 695—707.

Тым часам адзіны сын Паўла, князь Юрый Сакалінскі (нарадзіўся недзе ў 1530-я гг.), таксама быў адметнай асобай. У 1577 г. ён за ваенныя заслугі атрымаў у кіраванне Азярышчанскае і Усвяцкае староствы на поўначы Віцебскага павета, толькі што вызваленыя ад маскоўскіх войскаў. Неўзабаве ён стаў падкаморым Віцебскага павета. У 1597 г. з дазволу караля ён перадаў Азярышчанскае староства родзічу Міхаілу Міхайлавічу Друцкаму-Сакалінскаму, а Усвяцкае — свайму малодшаму сыну Яраславу. Аднак у 1601 г. Яраслаў памёр, пасля чаго Усвяцкае староства вярнулася да Юрыя, які кіраваў ім да сваёй смерці ў 1606 г.

Міхаіл Міхайлавіч Сакалінскі, да якога ў 1597 г. перайшло Азярышчанскае староства, быў унукам таго Васіля Сямёнавіча Сакалінскага, што на пачатку стагоддзя валодаў Аболецкай воласцю. Ён нарадзіўся каля 1550 г., служыў ротмістрам у войску ВКЛ і ў 1591 г. заняў пасаду аршанскага маршалка. Міхаіл быў у ліку тых нямногіх прадстаўнікоў усходнебеларускай шляхты, якія падтрымалі заключаную ў 1596 г. Берасцейскую царкоўную унію. Сам ён перайшоў у пратэстанцкую веру кальвініцкага кірунку, а ў канцы жыцця стаў каталікам. Першым з князёў Друцкіх ён даслужыўся да сенатарскіх пасад Рэчы Паспалітай, стаўшы ў 1605 г. віцебскім кашталянам, а ў 1613 г. — полацкім ваяводам. Перад самай смерцю ў 1621 г. ён атрымаў прызначэнне на больш высокую ў дзяржаўнай іерархіі пасаду ваяводы смаленскага.

Родзічам Юрыя і Міхаіла Сакалінскіх у трэцім калене былі Януш Багданавіч і Ян Андрэевіч (унукі малодшага з чатырох сыноў родапачынальніка Сямёна Сакалінскага — Андрэя). Першы з іх нарадзіўся прыкладна ў 1560-я гг., займаў пасады павятовага ўзроўню: у 1597 г. стаў войскім віцебскім, а ў 1606 г. — падсудкам і падкаморым Полацкага ваяводства, дзе валодаў маёнткам Камень-Астроўна. Памёр ён хутка пасля таго. Стрыечны брат Януша, Ян Андрэевіч, народжаны каля 1560 г. ці крыху пазней, вызначыўся на службе пры двары вялікага князя і ў дзяржаўнай канцылярыі. Змоладу ён быў дваранінам і сакратаром вялікага князя, у 1608 г. заняў пасаду аднаго з пісараў ВКЛ. Аднак меліся за ім і ваенныя заслугі падчас інтэрвенцыі ў Расію ў смутныя 1611—1613 гг. За іх ён атрымаў Даўгоўскае і Пералайскае староствы ў Літве, а пазней выслужыў Мсціслаўскае, Радамскае і Старадубскае староствы. Незадоўга да смерці ў 1630 г. Ян Сакалінскі быў прызначаны рэфендарам ВКЛ (гэтая даволі значная пасада ў дзяржаўным апараце, аднак, не давала права на месца ў Сенаце).

Іншыя галіны роду Друцкіх у другой палове XVI ст. не мелі такіх значных дасягненняў. Род Азярэцкіх быў прадстаўлены ў той час сваімі апошнімі прадстаўнікамі — Багданам Андрэевічам (каля 1530—1601) і яго пляменнікам Васілём Васілевічам (каля 1540—1607), якія нічым асаблівым не вызначыліся. Прадстаўнікі Друцкіх-Любецкіх у гэты час паміралі маладымі, і іх галіна зусім не была прадстаўлена на дзяржаўнай службе.

Галіну Друцкіх-Горскіх прадстаўлялі сыны Грыгорыя Фёдаравіча Бурнеўскага — Пётр (таксама нічым не прыкметны, памёр каля 1580), Фёдар і Ян. З іх Фёдар, які нарадзіўся ў 1550-я гг., быў удзельнікам Інфлянцкай вайны, а ў 1589 г. атрымаў на ленным праве невялікае Цэльскае староства са складу колішняй Свіслацкай воласці. Памёр ён у 1615 г. Ян нарадзіўся ў 1566 г. Адзіны з братоў ён займаў даволі значную пасаду — з 1605 г. да сваёй смерці ў 1619 г. быў аршанскім маршалкам. І Фёдар, і Ян былі ўжо каталікамі.

Бліжэй да сярэдзіны XVII ст. наступнае пакаленне Горскіх дасягнула пэўных вышынь. Сынам Фёдара быў Грыгорый Юрый (Грэгар Ежы), які нарадзіўся каля 1585 г. і атрымаў пасля бацькі леннае Цэльскае староства. У 1635 г. ён быў прызначаны аршанскім старостам, а ў 1650 г. дасягнуў сенатарскай пасады — стаў ваяводам мсціслаўскім. Аршанскае староства ён са згоды караля саступіў старэйшаму сыну Міхалу, які праз год памёр. Сам Грэгар Ежы памёр у 1659 г., падчас вялікай вайны з Расіяй, калі ўсе яго маёнткі былі заняты рускімі. Яго стрыечны брат Юрый (Ежы), старэйшы сын Яна, народжаны каля 1600 г., у 1639 г. быў прызначаны харунжым Аршанскага павета, а праз год атрымаў таксама Упіцкае староства ў Літве. Заўчасная смерць у 1643 г. паклала канец яго кар’еры.

Князі Любецкія ў гэты перыяд былі прадстаўлены дзвюма лініямі. Адну з іх утвараў Іван Паўлавіч (унук Януша, праўнук Багдана Раманавіча), які ў 1625—1634 гг. прыгадваецца на нязначнай пасадзе аршанскага падстаросты. Унук Івана Раманавіча Павел Грыгор'евіч тады ж быў суддзёй земскім Луцкага павета на Валыні.

Галіна Друцкіх-Сакалінскіх па-ранейшаму была самай шматлікай і ўплывовай. Сын полацкага і смаленскага ваяводы Міхала, Крыштаф Міхал Сакалінскі (каля 1580—1639) з 1607 г. быў велікакняжацкім сакратаром. Пасля смерці бацькі ў 1621 г. да яго перайшло Азярышчанскае староства. Неўзабаве ён дасягнуў сенатарскіх пасад, стаўшы ў 1623 г. кашталянам мсціслаўскім, а ў 1625 — кашталянам полацкім. Праўда, ваяводскай пасады ён, у адрозненне ад бацькі, так і не дасягнуў. З яго трох сыноў і пяці братоў ніхто больш так высока не ўзняўся. Толькі пазней, ужо падчас вайны з Расіяй, пляменнік Ян Антоні (сын Філона) заняў у 1655 г. пасаду мсціслаўскага кашталяна, якая была ў той час намінальнай, бо ўсё Мсціслаўскае ваяводства было ўжо занята рускімі. Памёр ён на гэтай жа пасадзе ў 1662 г., маючы каля 45—50 гадоў.

З сыноў Януша Багданавіча Сакалінскага старэйшы, Стэфан Караль, у 1630—1638 гг. займаў тую ж пасаду, што раней яго бацька — полацкага падкаморыя. Малодшы сын, Самуэль Станіслаў, народжаны ў 1570-я гг., валодаў шэрагам маёнткаў у далучаным да ВКЛ у 1612 г. Смаленскім ваяводстве. У 1634 г. ён быў смаленскім падваяводам, з 1637 г. — смаленскім падкаморым. Калі ў 1654 г. рускае войска зноў заняло Смаленшчыну, сам Стэфан Караль і яго малодшы сын Вінцэнт з'ехалі на захад, а старэйшы сын, Казімір Самуэль, прыняў расійскае падданства і ахрысціўся ў праваслаўе пад імем Пятра Самойлавіча. Яго нашчадкі ў далейшым утварылі яшчэ адну рускую галіну роду Друцкіх-Сакалінскіх. Самуэль Станіслаў памёр каля 1660 г.

Дзве старэйшыя лініі князёў Сакалінскіх у гэты перыяд не ўзнімаліся вышэй павятовага ўзроўню. Лінію ленных уладальнікаў Лугінавіч, распачатую ў часы Інфлянцкай вайны Паўлам Юр'евічам, працягваў яго ўнук Ян Юр'евіч (каля 1570—1649), які з 1622 г. быў аршанскім маршалкам. У 1646 г. ён прадаў родавы маёнтак Саколіна князю Галоўчынскаму. Яшчэ пры яго жыцці, у тым жа 1646 г., яго старэйшы сын Еранім Альбрэхт, стаў аршанскім земскім пісарам, але вышэй гэтай другараднай пасады так і не ўзняўся да сваёй смерці ў 1658 г. Другі сын, Юрый (Ежы), з 1635 г. займаў таксама не вельмі значную пасаду аршанскага падчашага. Памёр ён, здаецца, яшчэ пры жыцці бацькі.

У лініі нашчадкаў Цімафея Юр'евіча Сакалінскага яго ўнук Яраслаў Яраславіч (каля 1570 — пасля 1621) займаў у 1610-я гг. сціплую пасаду полацкага падваяводы. З чатырох яго сыноў адзін стаў прыкметным дзеячам каталіцкай царквы, а другі — уніяцкай. Старэйшы сын Ян Казімір, народжаны каля 1600 г., быў каталікам і займаў духоўныя пасады спярша смаленскага, а потым віленскага каноніка. Брат апошняга Мікалай Мітрафан, народжаны ў 1610-я ці 1620-я гг., быў архімандрытам базыльянскага манастыра ў Браславе, а з 1671 г. — смаленскім уніяцкім архіепіскапам. Памёр ён у 1690 г. Два іх пляменнікі, Якуб і Дзмітрый (сыны памерлага ў 1650 г. брата Юрыя), падчас вайны ў 1654 г. прынялі расійскае падданства.

Вайна прынесла жудаснае разбурэнне і выклікала глыбокі заняпад Рэчы Паспалітай. Яе палітычны лад у наступныя дзесяцігоддзі вызначаўся шляхецкай анархіяй і барацьбой за ўладу магутных магнацкіх груповак. Князі Друцкія другой паловы XVII — пачатку XVIII ст. былі даволі тыповымі прадстаўнікамі тагачаснай беларускай шляхты — спаланізаванымі, не вельмі адукаванымі і не вельмі заможнымі. Варта адзначыць двух апошніх прадстаўнікоў лугінаўскай лініі Друцкіх-Сакалінскіх, якімі былі сын Ераніма Альбрэхта Міхал Леан (каля 1630—1690), чашнік аршанскі з 1654 г. і маршалак аршанскі з 1665 г., пазней пісар ВКЛ, і сын апошняга Караль Міхал (каля 1660—1713), які быў даволі значным землеўладальнікам. Апрача леннага Лугінавіцкага маёнтка, праз шлюб з Евай Шверынавай ён набыў Даўгінава ў Ашмянскім павеце, а ў 1692 г. купіў у пана Сапегі суседні з Даўгінавам маёнтак Ілле. Пасля бацькі да яго на ленным праве перайшло атрыманае апошнім у 1685 г. Вяляціцкае староства каля Барысава. У 1703 г. Караль Міхал Сакалінскі стаў кашта-

лянам смаленскім (гэтая пасада была намінальнай, бо Смаленшчына была ў складзе Расіі, але давала права на месца ў Сенаце). Караль Міхал перажыў адзінага сына, і з яго смерцю гэтая лінія спынілася.

У іншай лініі (камена-астроўненскай) прыкметнай асобай быў Леан Лаўрэнці Друцкі-Сакалінскі (каля 1680—1726), сын Фларыяна і праўнук Крыштафа, кашталяна мсціслаўскага. Ён быў духоўнай асобай, дзеячам уніяцкай царквы: з 1713 г. — архімандрытам Гродзенскага базыльянскага манастыра, а з 1718 г. — смаленскім архіепіскапам. Ён, а таксама трое яго нічым не прыкметных братоў (Казімір, Юзаф і Кіпрыян) былі апошнімі прадстаўнікамі гэтай лініі.

Галіна князёў Друцкіх-Горскіх таксама скончылася на пачатку XVIII стагоддзя. Яе апошнімі прадстаўнікамі былі ўнукі мсціслаўскага ваяводы Грэгара Ежы — Казімір і Міхал Антоні, народжаныя прыкладна ў 1650—1660-я гг. З іх Міхал Антоні займаў пасаду падкаморыя ў Менскім павеце і памёр пасля 1721 г.

З гэтага часу адзінай галіной, якая працягвала існаваць у ВКЛ, была галіна князёў Любецкіх. Яе прадстаўнік Мікалай (каля 1630 — да 1678) валодаў Лунінам і Пагостам у Пінскім павеце, а таксама праз шлюб з Крысцінай Сцяцкевіч-Заверскай набыў вялікі маёнтак Любавічы ў Аршанскім павеце, на мяжы з Расіяй. Яго сын Шыман, народжаны ў 1660-я гг., у 1697 г. быў паслом ад Аршанскага павета на вальным сойме Рэчы Паспалітай, потым займаў пасаду стольніка оўруцкага (у Кіеўскім ваяводстве). Перад самай смерцю ў 1710 г. ён атрымаў прызначэнне на пасаду менскага кашталяна, але заняць яе не паспеў. Яго брат Багдан Казімір і сын апошняга Юзаф (стольнік аршанскі ў 1728 г.) прыкметнай ролі не адыгрывалі.

Апошні ўсплёск князёў Любецкіх прыйшоўся на апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай, калі дзейнічаў сын Юзафа Францішак (каля 1735—1806). У 1764 г. ён быў паслом ад Пінскага павета на вальны сойм, у 1765 г. стаў суддзёй земскім, у 1773 г. — харунжым, а ў 1782 г. — маршалкам Пінскага павета. У 1792 г. стаў кавалерам ордэна Белага Арла. Быў удзельнікам прарасійскай Таргавіцкай канфедэрацыі. Ужо ў час, калі ў працэсе другога падзелу Рэчы Паспалітай Пінскі павет быў заняты рускімі войскамі, Францішак Друцкі-Любецкі атрымаў у 1793 г. пасаду пінскага кашталяна, створаную рашэннем азначанай канфедэрацыі. У 1794 г. пабудаваў у сваім маёнткуЛунін мураваны касцёл. Неўзабаве ў 1795 г. Рэч Паспалітая спыніла сваё існаванне. Францішак перайшоў у расійскае падданства, захаваў свае маёнткі і ў 1799 г. нават купіў у Сапегаў маёнтак Чарлёну ў Гродзенскім павеце. У той час імператар Павел узнавіў дзеянне на тэрыторыі Беларусі Статута 1588 г. Была адноўлена і пасада павятовага маршалка (адпавядала прадвадзіцелю дваранства ў расійскіх губернях). Яе ў 1799 г. заняў старэйшы сын Францішка Ануфрый, а пасля яго ранняй смерці ў 1802 г. — другі сын Караль. Аднак і ён памёр заўчасна, у 1811 г., ва ўзросце каля 35 гадоў.

Трэці сын Францішка, Францішак Ксаверы Друцкі-Любецкі (1778—1846), быў адметным дзеячам у часы Расійскай імперыі. Ён вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім кадэцкім корпусе, удзельнічаў у 1799 г. у паходзе А.В. Суворава ў Італію і Швейцарыю. Пасля кантузіі выйшаў у адстаўку. З 1812 г. па чарзе пасля братоў заняў пасаду пінскага маршалка. Падчас вайны 1812 г. выступаў на баку Расіі. У 1816 г. часова быў прызначаны цывільным гродзенскім губернатарам, а ў 1826 г. стаў міністрам скарбу (фінансаў) у створаным пад эгідай Расіі Царстве Польскім.

*Друкуецца паводле:*
Друцк старажытны: Да 1000-годдзя ўзнікнення горада. Мінск, 2000. С. 49—76.

# Лукомль і Лукомская воласць

Паселішча на месцы сучаснай вёскі Лукомль у Чашніцкім раёне мае багатую гісторыю. Яно існавала практычна без перапынкаў з першых стагоддзяў нашай эры, а ў час утварэння Полацкага княства гэта быў ужо буйны цэнтр. Археалагічныя доследы ў Лукомлі і яго наваколлі ў 1883 г. праводзіў Е.Р. Раманаў [1, с. 146—150], затым гэтыя мясціны абследаваў А.З. Каваленя [2, с. 187—197]. У 1966—1974 гг. стацыянарныя раскопкі праводзіў Г.В. Штыхаў [3, с. 316—351; 4; 5, с. 21, 41—53].

Г.В. Штыхаў ускрыў 704 кв. м на гарадзішчы (замчышчы), вызначыў агульныя контуры пасада на абодвух берагах р. Лукомкі. На правым беразе ў двух месцах ён ускрыў 612 кв. м пасада, на левым — 224 кв. м. Гэтыя раскопкі дазволілі яму прыйсці да высновы, што ў VI—VIII стст., у час існавання банцараўскай археалагічнай культуры, было трывала заселена будучае гарадзішча (на той момант, магчыма, яшчэ неўмацаванае) і ўчастак на поўнач ад яго, на правым беразе Лукомкі. З'яўленне драўляна-земляных умацаванняў даследчык звязвае з IX ст., калі Лукомль стаў адным з крывіцкіх цэнтраў. Умацаванні ахоплівалі не менш 0,25 га. Неўмацаваны пасад, на думку Г.В. Штыхава, знаходзіўся на правым беразе Лукомкі, на плошчы прыблізна ў 3 га.

**Рыс. 1. Археалагічны комплекс у вёсцы Лукомль**




У X ст. умацаванні былі знішчаны пажарам, але пазней, напэўна, былі адноўлены. Лукомль упершыню згадваецца ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха ў сувязі з падзеямі 1078 г., пасля чаго надоўга знікае з пісьмовых крыніц. Між тым, паводле археалагічных даных, ён дасягае росквіту ў XI—XIII стст., калі паселішча ахоплівала абодва берагі Лукомкі на плошчы каля 13 га.

У 1989 г. намі было праведзена новае археалагічнае абследаванне ў форме суцэльнага збору пад'ёмнага матэрыялу на агародах вёскі Лукомль. Гэты матэрыял дазволіў дапоўніць і ўдакладніць звесткі аб гістарычнай тапаграфіі Лукомля. Так, апрача вызначаных Г.В. Штыхавым селішчаў-пасадаў (рыс. 1, А, В), намі выяўлены яшчэ два ўчасткі з матэрыяламі XI—XIII стст. (рыс. 1, Б, Г), што дазваляе ацаніць агульную плошчу тагачаснага паселішча прыкладна ў 15—16 га.

Яшчэ больш цікава, што на левабярэжным пасадзе (рыс. 1, В), дзе пры раскопках Г.В. Штыхавым была знойдзена толькі ганчарная кераміка, намі знойдзена 10 фрагментаў ляпнога посуду, з іх 6 венчыкаў і 3 кавалкі днішчаў. Адзін венчык (рыс. 2, А) аздоблены па краі зашчыпамі, іншыя (рыс. 2, Б—Г) проста адагнуты ў вон-

**Рыс. 2. Венчыкі ляпнога посуду з левабярэжнага паселішча ў Лукомлі (А—Г) і ганчарны венчык, які знойдзены ў вёсцы Высокі Гарадзец (Д)**




кавы бок. Такая кераміка можа быць прадатавана IX ст., гэта значыць — часам, калі ўзнікла першапачатковае крывіцкае ўмацаванне. Прытым знойдзеныя ляпныя фрагменты даволі раўнамерна размяркоўваюцца на адрэзку ў 800—900 м уздоўж левага берага Лукомкі, што сведчыць аб заселенасці ў IX ст. практычна ўсяго левабярэжнага селішча.

Гэтыя знаходкі дазваляюць сцвярджаць, што ў IX ст. Лукомль быў больш значным паселішчам, чым уяўлялася раней. Ён складаўся з умацаванага дзядзінца плошчай каля 0,25 га і двух пасадаў на абодвух берагах Лукомкі агульнай плошчай каля 10—13 га. На той час гэта было адно з буйнейшых паселішчаў на тэрыторыі Беларусі. Нават тагачасны Полацк, на думку С.В. Тарасава, меў дзядзінец да 0,85 га і пасад каля 5—6 га [6, с. 6—17]. Іншае буйное паселішча, на р. Менцы, дасягнула плошчы ў 30 га толькі ў X—XI стст. [5, с. 66]. У IX ст. яно наўрад ці перасягала Лукомль.

Не выключана, што ў той час Лукомль быў цэнтрам аднаго з племянных княстваў крывічоў, уладары якіх былі звязаны з гандлёвымі аперацыямі русаў. Значэнне Лукомля ў такім выпадку павінна было абумоўлівацца кантролем над адным з волакаў, што звязвалі вадазборы Дзвіны і Дняпра. Такі волак мог існаваць у раёне вёскі Валосава, дзе амаль сыходзяцца вытокі Усвейкі і Бабра і дзе быў знойдзены арабскі дырхем, які цяпер захоўваецца ў музеі Валосаўскай сярэдняй школы Талачынскага раёна (паведамленне дырэктара школы Рамановіча). Парэчча Усвейкі, як будзе паказана ніжэй, здаўна і трывала знаходзілася ў сферы прыцягнення Лукомля.

Магчыма, разбурэнне лукомскіх умацаванняў у X ст. адлюстроўвае канчатковы вынік барацьбы за гегемонію ў Падзвінні паміж Лукомлем і Полацкам, якая скончылася на карысць апошняга. Лукомль быў уключаны ў Полацкую зямлю, у складзе якой яго і ўпамінае Уладзімір Манамах. Гэта амаль спыніла яго тэрытарыяльны рост, але не прывяло да заняпаду. Знойдзеныя Г.В. Штыхавым багатыя рэчы XI—XIII стст., у тым ліку залатая пацерка, а таксама два скарбы ювелірных нарыхтовак з вёскі Стражэвічы і характэрны для дружынных пахаванняў інвентар курганоў ва ўрочышчы Праклятае Поле на ўскрайку Лукомля, раскапаных Е.Р. Раманавым і Г.В. Штыхавым [7, с. 76], — усё гэта сведчыць, што ў той час горад заставаўся цэнтрам адміністрацыйнага кіравання для пэўнай акругі.

У свой час Л.В. Аляксееў выказаў думку, што Лукомль мог быць цэнтрам удзельнага княства, якім валодаў адзін са шматлікіх праўнукаў Усяслава Полацкага [8, с. 223]. Гэта нельга выключыць, але такое княства ў крыніцах не згадваецца. Да таго ж трэба ўлічваць, што археалагічныя звесткі (перш за ўсё колькасць характэрных тыпаў масавага матэрыялу) дазваляюць адносіць пік росквіту Лукомля не да канца XII — пачатку XIII ст., калі дзейнічалі праўнукі Усяслава, а да XI — першай паловы XII ст., часу яго сыноў і ўнукаў. Сярод вядомых з крыніц прадстаўнікоў гэтых двух пакаленняў няма верагодных кандыдатаў на ўладанне Лукомскім удзелам.

У сувязі з гэтым мы мяркуем, што ў Лукомлі трэба бачыць не ўдзельны цэнтр, а цэнтр гістарычнай валасці, якая склалася, напэўна, яшчэ ў IX ст. і затым была ўключана ў Полацкае княства як асобная адміністрацыйная і падатковая адзінка. Кіравалася гэтая валасць, хутчэй за ўсё, намеснікамі з ліку баяр полацкага князя.

У складзе Полацкага княства Лукомль недзе ў другой палове XIII — пачатку XIV ст. увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Невядома, ці з’яўляліся ў ім час ад часу мясцовыя князі, ці ён трывала заставаўся ў падпарадкаванні Полацка.

Пэўнае ўзрастанне ролі Лукомля фіксуецца з канца XIV ст., калі ён зноў пачынае трапляць на старонкі дакументаў. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх», складзеным прыкладна ў 1390-я гады, ён упамінаецца ў ліку літоўскіх гарадоў [9, с. 224]. У хроніцы Яна Длугаша Лукомль («замак Лукомка») згадваецца ў сувязі з падзеямі 1386 г., падчас канфлікту паміж Ягайлам і Андрэем Альгердавічамі. Андрэй, аднаўляючы з дапамогай Тэўтонскага ордэна кантроль над Полацкім княствам, захапіў Лукомль, які затым на працягу двух сутак вытрымліваў аблогу войска, пасланага Ягайлам [10, с. 435—436]. Гэтая звестка была затым паўторана М. Стрыйкоўскім, які ў 1573 г. асабіста наведаў месца падзей і апісаў рэшткі зніклага на той час замка [11, с. 75].

Царкоўны твор, які захаваўся ў рукапісе XVI ст., распавядае пра цуды св. Мікалая Жыдычынскага, яўленыя ў Лукомлі ў 1392 г. «при князе Витовте Кестутьевичи», у выніку чаго там быў заснаваны праваслаўны манастыр, куды перабраліся манахі з Валыні [12, с. 191—192].

Затым Лукомль адыгрываў даволі прыкметную ролю ў ходзе барацьбы паміж Свідрыгайлам Альгердавічам і Жыгімонтам Кейстуцьевічам у 1430-я гады. Ён быў апорным пунктам Свідрыгайлы, які менавіта ў Лукомлі распускаў (напэўна, папярэдне і збіраў) сваё войска [13, с. 34, 57—58, 77 і інш.].

Усё гэта сведчыць пра тое, што недзе ў канцы XIV ст. Лукомль, дзе меўся моцны замак, стаў, відаць, значным адміністрацыйным цэнтрам. Напэўна, якраз тады ён стаў рэзідэнцыяй князя — родапачынальніка князёў Лукомскіх, якія пачынаюць упамінацца з другой паловы XV ст. Праўда, Хроніка Быхаўца згадвае нейкага князя Андрэя Лукомскага і Старадубскага, дачка якога была адной з трох жонак Вітаўта [14, с. 150]. Гэтая звестка ўскосна пацвярджаецца крыжацкай хронікай Ліндэнблата, паводле якой першай жонкай Вітаўта была руская князёўна, бацьку якой ён забіў [15, с. 376—377]. Аднак для ўпэўненага сцвярджэння аб тым, што гэты загадкавы князь валодаў менавіта Лукомлем, позняй і адзінкавай звесткі Хронікі Быхаўца яўна недастаткова.

Дакладнае паходжанне князёў Лукомскіх было забыта ўжо ў XVII ст. Аўтары тагачасных гербоўнікаў трактавалі яго па-рознаму. С. Акольскі лічыў, што Лукомскія маюць агульнае з князямі Палубінскімі паходжанне ад Андрэя Альгердавіча, у сувязі з чым прыпісваў ім герб «Ястрабец» [16, с. 206]. В. Каяловіч больш слушна адзначаў, што Лукомскія карысталіся гербам «Рох», у якім сярэдні пялёстак лілеі быў заменены на крыж. Іх паходжанне ён таксама звязваў з Альгердавічамі, але па жаночай лініі. Заснавальнік роду быццам быў сынам сястры Ягайлы, на падставе чаго Лукомскія часам карысталіся і гербам «Пагоня» [17, с. 14, 263]. Вядомы даследчык генеалогіі беларуска-літоўскіх князёў Ю. Вольф схіляўся да думкі, выказанай яшчэ Карамзіным, што род Лукомскіх пайшоў ад кагосьці з мясцовых нашчадкаў полацкіх Усяславічаў [18, с. 213].

Стан крыніц не дазваляе выключыць ніводную з гэтых версій. Вядома, напрыклад, што ў Андрэя Альгердавіча застаўся сын Іван, які ў 1397—1399 гг. быў служылым князем у Пскове, а затым з'ехаў у Літву. Праз некалькі дзесяцігоддзяў, у 1437—1439 гг. ён зноў знаходзіўся ў Пскове [19, с. 25, 26, 44]. Беларуска-літоўскія крыніцы гэтага князя ўвогуле ні разу не згадваюць на працягу яго доўгага жыцця, таму адкрытым застаецца пытанне аб яго ўладаннях у Вялікім Княстве Літоўскім, як і аб яго магчымых нашчадках. Улічваючы, што яго бацька доўгі час валодаў Полацкам, вылучэнне яму ў якасці ўдзелу Лукомскай воласці не здаецца неверагодным.

Вядома таксама, што зяцямі Альгерда былі некаторыя рускія князі — у прыватнасці, Святаслаў Карачаўскі і Іван Навасільскі. Пазней Ягайла аддаў сваю сястру за князя Мітка Давыдавіча, уладальніка Гарадца (Давыд-Гарадка). Таму не здаецца немагчымым і шлюб адной са шматлікіх дачок Альгерда з якімсьці прадстаўніком мясцовых Усяславічаў, генеалогія якіх на працягу XIII—XIV стст. практычна не прасочваецца з-за недахопу звестак.

Ва ўсякім выпадку, у першай трэці XV ст. павінны былі існаваць некалькі (не менш двух) уладальнікаў Лукомля. Удавой аднаго з іх, напэўна, была княгіня Ма-

рына, якая памерла каля 1440 г. без нашчадкаў, бо яе пажыццёвыя ўладанні адышлі да вялікага князя Казіміра. Аб гэтым сведчыць рэестр падараванняў, зробленых на пачатку панавання Казіміра. Ад імя апошняга віленскі ваявода Даўгірд, які памёр у 1443 г., перадаў «в Лукомле Станьку Саковичу село Болино, данники Свядо по княгини Марине животе до воли» [20, с. 13].

Разам з тым павінен быў існаваць нейкі іншы князь, нашчадкамі якога былі пазнейшыя князі Лукомскія. З іх раней за ўсё ўпамінаецца Васіль Лукомскі, які ў Берасці быў сведкам па справе князёў Астрожскіх [21, с. 44]. Як паказаў Ю. Вольф, гэтая звестка датуецца 1463 г. [18, с. 213]. Вядома таксама, што нейкія неназваныя князі Лукомскія раней 1475 г. падаравалі заснаванаму ў 1450—1460-я гады Чарэйскаму манастыру «село в Кореевичах» (напэўна, сучасныя Каровічы ў Чашніцкім раёне, на р. Усвейцы) і возера Залоціна непадалёку ад іх [22, с. 233]. Вядома таксама пра Івана Лукомскага, які ў 1473 г. з'ехаў у Маскву, дзе пазней быў пакараны смерцю [18, с. 213].

З вышэйзгаданага рэестра падараванняў Казіміра вынікае, што даволі значныя ўладанні «в Лукомле» (гэта значыць — у Лукомскай валасці) у той жа час знаходзіліся ў распараджэнні велікакняжацкай адміністрацыі і былі раздадзены розным асобам. Магчыма, папярэдне яны ўтваралі вотчыну аднаго з Лукомскіх, канфіскаваную ў яго як у прыхільніка Свідрыгайлы пасля перамогі Жыгімонта. За подпісам ваяводы Петраша Мантыгірдавіча (не пазней 1453 г.) са складу Лукомскай валасці нейкаму Дашку была падаравана «Константинова жена в Черсех» [20, с. 13]. Тут, напэўна, у скажонай форме зафіксавана назва сяла Чарэя ў сучасным Чашніцкім раёне. У той жа час маршалак Войтка атрымаў тры сялянскія сям'і ў Астапкавічах, а дзве — у «Зареи», пад якой трэба разумець тую ж Чарэю [20, с. 32]. Вышэйзгаданы Станька Саковіч у 1443 альбо 1458 г. (запіс датаваны 6 індыктам) атрымаў пяць чалавек у Таранцэвічах, двух — у Грагаровічах і аднаго — у Пахомавічах, побач з атрыманым раней Болінам. У 1465 г. (13 індыкт, канцлерства Міхаіла Кезгайлы), ужо пасля смерці Станькі, «у Лукомли Олехну Саковичу и его братьи дал король Болино, как брат их Станко держал, жене пане Станковое дал король Улу, что был Жигимонт Станку дал» [20, с. 13, 32].

Апошні запіс паказвае, што маёнтак Ула быў падараваны Станьку яшчэ Жыгімонтам Кейстуцьевічам, забітым у 1440 г. Гэта пацвярджае думку, што апошні канфіскаваў частку Лукомскай валасці пасля перамогі над Свідрыгайлам у 1435 г. ці крыху пазней. Тады ж, магчыма, некаторыя сёлы дасталіся князю Федку Даўгоўдавічу, пасля смерці якога ў 1451 г. былі перададзены канцлеру Міхаілу Кезгайлу. Пры гэтым упамінаецца 12 чалавек у Лукомлі, 10 даннікаў і 11 цяглых сялян у сёлах Хлопавічы, Астапкавічы і Літовічы [23, с. 71, 134]. У 1476 г. пляменнік канцлера Мікалай Янавіч Кезгайла атрымліваў з даннікаў у Лукомлі 40 пудоў мядовай даніны, палову якой ён запісаў на карысць новазаснаванай капліцы ў Віленскім касцёле св. Станіслава [24, с. 350—352]. Тады ж касцёл у Дзявілтове атрымаў ад яго даніну з сяла Латыголічы «на Русі» [24, с. 352—356]. Хаця сувязь гэтага сяла з Лукомскай валасцю непасрэдна не фіксуецца, яна ўяўляецца вельмі верагоднай.

Такім чынам, першыя звесткі аб тэрыторыі Лукомскай валасці тычацца часу яе распаду, калі значная яе частка адышла да вялікага князя і была затым перададзена ў іншыя рукі. Усе гэтыя паселішчы ў далейшым ператварыліся ў асобныя шляхецкія маёнткі і князям Лукомскім больш ніколі не належалі (за выключэннем Боліна, якое вярнулася да іх праз шлюб). Тым большую каштоўнасць маюць прыведзеныя звесткі, бо ў сукупнасці з данымі аб землеўладанні князёў Лукомскіх яны дазваляюць акрэсліць межы валасці на пачатку XV ст., калі яна яшчэ захоўвала адзінства. Пры гэтым не выключана, што рэканструяваная такім чынам тэрыторыя валасці ўзыходзіць да яшчэ больш ранніх часоў, калі яна кіравалася полацкімі намеснікамі.

Як паказана вышэй, у XV ст. ад Лукомскай валасці адпалі два значныя абшары, адзін з якіх трапіў у рукі паноў Саковічаў, а другі — спярша князя Даўгоўдавіча, а затым паноў Кезгайлаў. Апрача таго, у якасці самастойнага маёнтка згадваецца Чарэя. Крыніцы дазваляюць вызначыць даволі дакладна як гэтыя абшары, так і той, што застаўся ў руках Лукомскіх.

Паселішчы Боліна і Свяда, што перайшлі да Саковічаў пасля смерці княгіні Марыны, існавалі яшчэ на пачатку XX ст., што дазваляе лакалізаваць іх па карце Еўрапейскай Расіі выдання 1915 г. [25]. Боліна знаходзілася на мяжы сучасных Чашніцкага і Лепельскага раёнаў, паміж вёскамі Кастрыца і Дзераўня, Свяда — на рэчцы Свядзіцы, ля вёскі Слабада Лепельскага раёна. Іх межы ўпамінаюцца пры апісанні Полацкага павета маскоўскімі пісцамі ў 1563 г. Тэрыторыя Болінскага маёнтка тады цягнулася на поўнач да р. Улы і ўключала сяло Межыцу [26, с. 423]. Там жа ўпамінаецца мяжа сяла Свяда, што ішла ад возера Берашча па аднайменнай рэчцы да р. Эсы. Натуральнай мяжой гэтага сяла на захадзе было вялізнае балота ў водападзеле Эсы і Сергуча (прытока Бярэзіны). Далей ляжалі землі сяла Домжарыцы, якое вылучылася з іншай воласці — Харэцкай, што ахоплівала вярхоўі Бярэзіны. Домжарыцы ўпамінаюцца з 1407 г., калі яны былі замацаваны за Войцехам Манівідам [27, с. 70]. У 1558 г. домжарацкі ўраднік незаконна ўехаў у сумежную Свядскую пушчу і пабіў там звяроў, за што тагачасныя ўласнікі Свяда Станіслаў Петкавіч і княгіня Лукомская-Шчыдуцкая судзіліся з яго панам Васілём Тышкевічам [28, арк. 863 адв. — 864].

На поўначы Боліна і Свяда межавалі з Полацкім паветам, у складзе якога маскоўскія пісцы ў 1563 г. вызначалі воласць Лепель («Лепль») вакол аднайменнага возера, з царкоўнымі і шляхецкімі сёламі Белае, Ляднае, Жэжліна і Завідзічы [26, с. 438—439]. Мяжу яны праводзілі па р. Эсе і Уле, але памыляліся, бо да Лепельскай воласці адносіўся значны абшар на поўдзень ад Улы. Сяло Белае, якое знаходзілася на месцы сучаснага райцэнтра Лепеля, у першай палове XV ст. належала ўнуку Альгерда, князю Андрэю Уладзіміравічу [18, с. 337—338], пасля смерці якога ў 1457 г. адышло да родзічаў яго жонкі — паноў Чарэйскіх, а затым Сапегаў. Першапачатковы Лепель (сучасны Стары Лепель) у 1439 г. належаў сыну вялікага князя Жыгімонта Міхаілу, які падараваў яго Віцебскаму касцёлу [29]. Яшчэ ў 1503 г. гэтаму касцёлу належалі Лепель і Бораўна (апошняе — на правабярэжжы Улы недалёка ад Белай), якія пазней перайшлі да Віленскага біскупства [30, с. 132—135].

Тое, што Лепельская воласць заходзіла на правабярэжжа Эсы і Улы, наводзіць на думку, ці не вылучылася яна раней з Лукомскай воласці, натуральна звязанай з вадазборам гэтых рэк? Сапраўды, Лепель мог быць таксама канфіскаваны Жыгімонтам у кагосьці з Лукомскіх і перададзены часткова ўласнаму сыну, часткова — Андрэю Уладзіміравічу. Але супраць такой думкі сведчыць лёс сяла Жэжліна, якое быццам бы было велікакняжацкай уласнасцю яшчэ пры Вітаўце. Позняя традыцыя сведчыць, што менавіта Вітаўт падараваў Жэжліна пачынальніку шляхецкага роду Місунаў, ад якіх яно пазней трапіла да Астравухаў [31, с. 790], у пісцовай кнізе 1563 г. памылкова названых Амструхамі. Праўда, арыгінал прывілея Вітаўта невядомы, як і іншыя бясспрэчныя ўпамінанні Жэжліна ў XV ст., таму не выключана, што гэта толькі паданне. Такім чынам, пытанне аб магчымым вылучэнні Лепельскай воласці са складу Лукомскай застаецца адкрытым.

Што датычыць Улы, падараванай Станьку Саковічу Жыгімонтам, то няма падстаў звязваць яе з аднайменным паселішчам ля ўпадзення аднайменнай ракі ў Дзвіну. У пісцовай кнізе 1563 г. упамінаецца іншая Ула, якая знаходзілася ў 7 вярстах ад Чашнікаў і ў 25 вярстах ад Полацка. Яна названа цэнтрам асобнай воласці, «а в той волости села и деревни панские и монастырские многие» [26, с. 437]. Пад манастырскімі сёламі, напэўна, трэба разумець уладанні манастыра Іаана Прадцечы, якому, паводле рэвізіі Полацкага замка ў 1552 г., належалі «люди коптевские, демидовские и пристойские» на р. Уле [32].

Уласна маёнтак Ула ўпамінаецца ў 1546 г., калі ён належаў князю Янушу Юр'евічу Гальшанскаму і калі адбывалася яго размежаванне з сялом Караевічы князя Андрэя Лукомскага на левабярэжжы р. Улы [33, арк. 198 адв. — 199]. У 1551 г. маёнтак Ула належаў ужо троцкаму ваяводзе Мікалаю Юр'евічу Радзівілу і знаходзіўся ў закладзе ў Васіля Тышкевіча, прычым да маёнтка адносілася частка сяла Жэрына, іншая частка якога належала князю Лукомскаму [34, арк. 200 адв. — 201 адв.].

Ля гэтай жа Улы 11 лютага 1564 г. адбылася вядомая бітва Лівонскай вайны. Гетман Мікалай Радзівіл даносіў з месца сваёй перамогі, што яна адбылася ля Улы, «мястэчка пані ваяводзінай віцебскай» [35, с. 123—126]. Пры гэтым ён яўна атаясамлівае Улу з Чашнікамі, якія сапраўды былі мястэчкам і належалі ўдаве віцебскага ваяводы Станіслава Кішкі, Ганне Радзівілаўне.

М. Стрыйкоўскі, які ў 1573 г. наведаў месца бітвы і назіраў там шматлікія косці маскоўскіх ратнікаў, вызначаў гэтае месца ў адным выпадку «на палях Чашніцкіх», у другім — «на палях Іванскіх» [11, с. 189—190]. Верагодна, уласна Ула знаходзілася недзе на поўнач ад Чашнікаў, непадалёку ад Іванска, Дзямідавічаў і Копцавічаў. Пры гэтым яе маёнткавы абшар дасягаў возера Жэрына і аднайменнага сяла. Усё гэта сведчыць аб цеснай сувязі Улы і Чашнікаў, якія, напэўна, папярэдне ўтваралі адзіны маёнткавы абшар. Абодва яны названы сярод уладанняў Ганны Радзівілаўны ў перапісе войска 1567 г. [36, с. 449]. У XVI ст. гэтыя маёнткі адносіліся ўжо да Полацкага павета, але вельмі верагодна, што якраз тут знаходзілася тая Ула, якую ў свой час атрымаў пан Саковіч.

Аб папярэдняй прыналежнасці гэтага абшару да Лукомскай валасці сведчыць і тое, што непасрэдна да Чашнікаў адносілася ізаляваная ад іх тэрытарыяльна мясцовасць паміж Болінам і Свядам. У 1574 г., пры падзеле маёнткаў Ганны Радзівілаўны Кішчынай паміж яе дзецьмі, згадваюцца «замак і маёнтак Чашнікі і валасць, што ляжыць у Аршанскім павеце» [37, арк. 156 адв.]. У інвентары Чашніцкай валасці за 1633 г. гэтая тэрыторыя акрэслена больш выразна: там знаходзіліся сяло, мястэчка і слабада з аднолькавай назвай Валосавічы, засценак у Краснай Луке (пазнейшая Красналучка), слабада Забаенне [38, с. 256—281]. Сёння Старыя і Новыя Валосавічы знаходзяцца ў Лепельскім раёне, у непасрэднай блізасці ад паселішчаў, упамянутых у падараванні Станьку Саковічу: Таранкевічаў (Вялікіх і Малых) і Грыгаровічаў. У тым жа падараванні (глядзі вышэй) упамянуты падданы Андрэйка Сядневіч, прозвішча якога пераклікаецца з назвай вёскі Слядневічы.

Вышэйзгаданы інвентар 1633 г. дазваляе акрэсліць і тую тэрыторыю, што прылягала да Чашнікаў. На ёй знаходзіліся вёскі Баркі, Смалянцы, Рагановічы, Вішкавічы, Ведрыня, Харакова, Тарантова, Асташаў і Сялец. Усе яны, напэўна, узніклі на тэрыторыі старажытнай Лукомскай валасці, да якой трэба далучыць і сёлы Ульскай валасці, названыя ў полацкай рэвізіі 1552 г. (Дзямідавічы, Копцавічы і Прыстоі), а таксама змешчанае паміж імі сяло Іванск, на палях якога адбывалася бітва 1564 г.

Такія высновы прымушаюць звязваць з Лукомлем і абшар маёнтка Цяпіна, які знаходзіўся паміж Чашнікамі і Болінам, хаця ён непасрэдна ў час распаду Лукомскай валасці не згадваецца. З пазнейшых звестак вынікае, што ў другой палове XV ст. Цяпіна дасталася нейкаму баярыну Амяльяну, а затым — яго сынам Івану і Грыгорыю Служцы. Ад першага з іх пайшоў род Амельяновічаў-Цяпінскіх, ад другога — род Служкаў, прычым абодва гэтыя роды ў XVI ст. выступаюць як саўладальнікі Цяпіна. Сыны Івана, Мацей і Мікалай Цяпінскія, упамінаюцца ў рэвізіі 1552 г. [32, с. 149], а сынам Мікалая быў вядомы беларускі асветнік Васіль Цяпінскі. Адначасова правы на Цяпіна захоўваў і Іван Грыгор’евіч Служка. У 1591 г. сярод маёнткаў яго ўнукаў Мікалая і Крыштафа Мікалаевічаў упамінаецца маёнтак Цяпіна з суседнімі сёламі Мокавічы і Прыстоі (частка апошняга з іх, нагадаем, выступае сярод манастырскіх уладанняў у складзе Ульскай валасці) [39, с. 411—413].

Да ўладанняў Служкаў папярэдне належала і сяло Караевічы на левым беразе Улы, насупраць Межыцы, якое затым трапіла да князя Багдана Андрэевіча Лукомскага. У дакуменце 1579 г. гаворыцца, што некалі Караевічы былі ўласнасцю продкаў жонкі Багдана, Зофеі Іванаўны Служчанкі. Ад Служкаў яны перайшлі нейкім чынам да бацькі Багдана, князя Андрэя Іванавіча Лукомскага [33, арк. 194—200]. Там жа згадваецца, што ў 1562 г. полацкі ваявода Станіслаў Давойна спрабаваў уключыць Караевічы ў лік дзяржаўных сёлаў Полацкага ваяводства, але Лукомскі здолеў даказаць свае правы на яго. Такая спроба можа тлумачыцца тым, што названае сяло знаходзілася на самай перыферыі былой Лукомскай валасці, побач з уладаннямі, якія здаўна цягнулі да Полацка.

Вышэй згадвалася, што ў 1546 г. адбывалася размежаванне Караевічаў з маёнткам Ула. Да апошняга, напэўна, папярэдне адносілася суседняе сяло Павулле. Вядома, што яно ў 1550 г. было набыта Якубам П'яноўскім у Мікалая Юр'евіча Радзівіла, які годам пазней выступае як уласнік Улы [40, с. 898].

Такім чынам, даволі выразна акрэсліваецца доўгі пас у паўночнай частцы Лукомскай воласці, які адпаў ад яе ў XV ст. Іншы такі ж абшар ахопліваў верхнюю частку вадазбору р. Эсы, на поўдзень ад Свяда, Боліна і Валосавічаў. У другой палове XV ст. амаль увесь ён, напэўна, належаў панам Кезгайлам.

На жаль, не вельмі дакладна прасочваецца лёс сяла Латыголічы, заходняя мяжа якога была адначасова і вонкавай мяжой былой Лукомскай воласці. У 1541 г. Латыголічы належалі князю Юрыю Сямёнавічу Слуцкаму, падданыя якога пашкодзілі мяжу суседняга маёнтка Нежыцы — уласнасці жамойцкага старосты Яна Мікалаевіча Радзівіла [41, арк. 107 адв. — 109 адв.]. Апошні быў бацькам Ганны Радзівілаўны, якая, напэўна, якраз ад яго атрымала ў спадчыну Чашнікі. Ён жа, здаецца, набыў пазней і Латыголічы, якія ў далейшым разам з Нежыцамі часова перайшлі да Лаўрына Канстанцінавіча Ратомскага. «Сёлы забярэзінскія Латыголічы і Нежылічы» згадваюцца ў яго завяшчанні ў 1594 г. [42, с. 473]. У 1633 г. і пазней Латыголічы разам з сялом Жортай і мястэчкам Нача (пазнейшай Кішчынай Слабадой недалёка ад Нежыцаў, у сучасным Барысаўскім раёне) адносіліся да маёнтка Чашнікі, а сумежнае сяло Жортайка да XVIII ст. заставалася ва ўласнасці Ратомскіх.

Недзе паміж Латыголічамі і Нежыцамі, у вярхоўях р. Жортайкі, трэба праводзіць першапачатковую вонкавую мяжу Лукомскай воласці. Нежыцы, напэўна, здаўна ўтваралі адзіны маёнткавы комплекс з Зембінам і Мсціжам на супрацьлеглым беразе Бярэзіны, якія трапілі да Радзівілаў у ліку іншай манівідаўскай спадчыны ў былой Харэцкай воласці.

На ўсход ад Латыголічаў, у вярхоўях Эсы, знаходзіўся вялікі абшар «Лукомскіх даннікаў», які заставаўся ў руках Кезгайлаў да згасання іх роду ў 1554 г. Затым іх спадчына была падзелена паміж родзічамі па жаночай лініі — панамі Шэметамі і Завішамі [23, с. 93—96]. На працягу 1573—1593 гг. сярод уладанняў гэтых двух родаў неаднаразова ўпамінаюцца сёлы Астапкавічы, Хацюхова, Галькі, Заессе і Халопенічы [43, т. 1, с. 37, 43, 76, 99; т. 4, с. 33; 44, с. 248]. Пазней яны належалі сумесна панам Валадковічу, Нонгарту і Нароўніку, а пасля 1620 г. былі скуплены аршанскім харужым Міхаілам Млечкам і ўтварылі адзіны буйны маёнтак з цэнтрам у Халопенічах [45, арк. 41 адв. — 45 і інш.].

Пры лакалізацыі гэтых паселішчаў складанасці ўзнікаюць толькі з Астапкавічамі, назва якіх пазней знікла. Але ў інвентары Халопеніцкага маёнтка ў 1777 г. упамінаецца «вёска Астапкаўшчына, альбо Дабрамысль» [46, л. 20]. Гэта дазваляе лакалізаваць вядомыя з XV ст. Астапкавічы на месцы ці паблізу з Дабрамыслем у Чашніцкім раёне ля мяжы Лепельскага.

Да Халопеніцкага маёнтка з поўдня прымыкалі землі Барысаўскай дзяржаўнай воласці (староства). Цікава, што мяжа паміж імі перасякала водападзел Эсы і прытокаў Бярэзіны, уключаючы вярхоўі Начы ў склад Халопеніцкага маёнтка. Магчыма, гэтая мяжа складвалася стыхійна ў ходзе асваення лясных масіваў, у якім кезгайлаўскія падданыя праяўлялі большую актыўнасць, чым жыхары Барысаўскай воласці. Захаваліся звесткі аб шэрагу размежаванняў у вярхоўях Начы і Схі паміж Барысавам і Халопенічамі, якія адбываліся на працягу 1552—1641 гг. [47, арк. 141—156]. На барысаўскім баку пры гэтым згадваюцца сёлы Заберычы (сучасныя Вялікія Жаберычы), Клён, Ратуцічы, Пупелічы (зараз не існуе), Ігрышча, Крацэвічы і мястэчка Барань, заснаванае на крацэвіцкіх землях. З імі межавалі землі халопеніцкіх сёлаў Хацюхова, Грыцкавічы, Пагарэлае, Максімаўскае, Траянава і Хралоўка.

Паміж землямі маёнткаў Халопенічы і Латыголічы на левабярэжжы Эсы знаходзіліся маёнтак Багданава і сяло Маісееўшчына. Апошняе ў XVI ст. неаднаразова ўпамінаецца як дробнашляхецкая ўласнасць, перад 1558 г. набытая Кліментам Дрожчай у Юрыя і Станіслава Буськавічаў [48, арк. 919—920 адв.]. У вышэйзгада-

ным размежаванні Барысаўскай і Халопеніцкай валасцей прыгадваецца, што яшчэ ў 1524 г. барысаўскі ўраднік Каспар Кунцэвіч набыў у нейкага Станіслава Яцкавіча, уладальніка маёнтка Багданава, зямлю сяла Маісееўшчыны ў вярхоўях р. Жортайкі, якую прылучыў да Барысаўскай воласці [47, арк. 144 адв.]. Магчыма, тут у скажоным выглядзе названа імя Станіслава Янавіча Кезгайлы, якому ў той час належалі землі ў вярхоўях Эсы. Прынамсі, у XVII ст. Багданава разам з Халопенічамі належала Міхаілу Млечку, і ў далейшым яны ўтваралі адзіны маёнткавы абшар. Усё гэта дазваляе адносіць Багданава і Маісееўшчыну да маёнткаў, вылучаных з колішняй Лукомскай воласці, хаця факт такога вылучэння непасрэдна не зафіксаваны.

На ўсходзе ад вярхоўяў Эсы старажытная Лукомская воласць межавала з Друцкім княствам. Спроба рэканструяваць першапачатковую тэрыторыю апошняга ўжо прадпрымалася намі [49, с. 80—81, 91—95]. Адносна мяжы паміж Друцкам і Лукомлем гэтая спроба патрабуе ўдакладненняў. Так, да Друцкага княства трэба безагаворачна аднесці землі воласці Худава, мядовая даніна з якой яшчэ ў XIV ст. ішла друцкаму князю Васілю Міхайлавічу, які ахвяраваў гэтую даніну царкве ў Друцку [12, с. 9]. Гэтак жа да Друцка спярша належала і сяло Кіявец у вярхоўях р. Бобр. Упершыню яно ўпамінаецца ў 1562 г. у сувязі з маёнткамі Загароддзе і Коханава (сучасны Талачынскі раён), якія пасля князя Васіля Юр'евіча Друцкага-Талачынскага перайшлі да паноў Гарнастаяў, але адначасова ўяўлялі сабой «блізкасць» нашчадкаў Януша Друцкага-Любецкага [50, арк. 280—282].

Звесткі пра тэрыторыю Худаўскага маёнтка адносяцца да 1562 г., калі гэты маёнтак ужо перайшоў ад князёў Друцкіх-Любецкіх спярша да князёў Сенскіх, а затым да іх родзічаў па жаночай лініі. Да Худава тады адносілася між іншым сяло Калодніца на супрацьлеглым, усходнім беразе возера Сялява [51, с. 431—433]. Такім чынам, крайнімі пунктамі колішняга Друцкага княства былі Кіявец, Калодніца, Худава, а далей на паўднёвы захад, напэўна, сяло Шчаўры (зараз Старыя Шчаўры недалёка ад Хацюхова, на ўсход ад р. Начы), якое ўпамінаецца сярод паселішчаў Худаўскай воласці каля 1624 г., ужо ў складзе Чарэйскага маёнтка Льва Сапегі [52].

З Лукомскай воласці, як ужо адзначалася, вылучылася першапачатковая тэрыторыя маёнтка Чарэя. У далейшым, пры Сапегах, гэты маёнтак быў значна пашыраны і ператварыўся ў вялізную латыфундыю, але спярша ён не меў значных памераў. У сярэдзіне XV ст. Чарэя належала пяці братам — сынам баярына Івана Чарэйскага. Адзін з іх, Місаіл, стаў праваслаўным смаленскім епіскапам і заснаваў у сваёй частцы маёнтка, на возеры Галаўлі, манастыр у гонар Св. Троіцы, на карысць якога яго брат Міхаіл Пструг ахвяраваў землі ля азёр Галаўля і Чарэя ў 1454 г. [53, с. 1]. Іх пляменнікі, сыны трэцяга брата Дашкі, каля 1475 г. гэтак жа падаравалі манастыру ўрочышча Клубінічы (цяпер — вёска на поўначы Крупскага раёна) [54, с. 233].

Адна з пяці частак Чарэйскага маёнтка праз шлюб дачкі іншага брата, Сенькі, дасталася Багдану Сапегу, які ў 1499 г. судзіўся за гэтую частку з яшчэ жывым у той час Міхаілам Пстругам. Пры гэтым згадваюцца падданыя «балючане» — жыхары сяла Балюта паблізу Чарэі [18, с. 669]. Гэты ж Багдан Сапега атрымаў паводле завяшчання Місаіла права апекі над Чарэйскім манастыром, што прывяло да фактычнага захопу яго нашчадкамі манастырскіх зямель. У 1591 г. праўнук Багдана, славуты Леў Сапега, пры падзеле маёнткаў свайго бацькі Івана Іванавіча атрымаў маёнтак Чарэя «з наданьем и подаваньем монастыра Светое Тройцы», у тым ліку сёлы Балюта, Горкі (Горы), Канстанцінава, Махава, Забор'е, Стражэвічы, Вайдзілава, Плескачы, Клубінічы і Манастыр, а таксама іншыя паселішчы, прыкупленыя пазней да гэтага першапачатковага ядра [55, с. 291—292]. У прыватнасці, Леў Сапега ў 1590 г. купіў у Ераніма Гарнастая суседні Кіявец [55, с. 289], на землях якога пазней узнікла мястэчка Красны Стаў (сучасная Абчуга).

Мужчынскія нашчадкі Івана Чарэйскага захавалі невялікую частку яго спадчыны, і то часова. Адным з сыноў Дашкі Іванавіча быў, напэўна, Сенька Дашкавіч, сын якога Васька Сенькавіч раней 1524 г. падараваў зямлю ва ўрочышчы Асечня (цяпер — вёска на поўначы Крупшчыны) князю Багдану Адзінцэвічу [18, с. 282]. Пяты з братоў,

Мікіта Іванавіч, пакінуў сына Ждана і ўнука Льва Жданавіча. У 1602 г. упамінаецца, што Леў Сапега прыкупіў да Чарэі ўладанні «Левона Здановича» і іншых асоб, у тым ліку і розныя часткі суседняй Худаўскай воласці [56, с. 25—27]. У выніку сапежынскія ўладанні раскінуліся па абодва бакі ад старажытнай мяжы Лукомскай воласці. Гэта, аднак, не перашкаджае прыкладна рэканструяваць яе паміж Калодніцай і Кіяўцом з аднаго боку, Балютай, Асечняй і Клубінічамі — з другога.

Значная частка ўладанняў князёў Лукомскіх XV ст. захавалася ў руках іх прамых нашчадкаў. У свой час шматлікія звесткі аб іх землеўладанні былі сістэматызаваны Ю. Вольфам [18, с. 212—224, 411—412]. Ён паказаў, што спадчыну Васіля Лукомскага ў першай палове XVI ст. падзялялі 4 яго дачкі, з якіх адна была жонкай князя Івана Вяземскага, другая, Федзя Ротніцкая (ад маёнтка Ротніца, сучасная Рудніца каля Лукомля), — жонкай нейкага князя Міхаіла, трэцяя, Багдана, выйшла за Яна Мікалаевіча Радзівіла, а чацвёртая — за князя Фёдара Фёдаравіча Друцкага-Сакалінскага (Канаплю). Ва ўладанні іх нашчадкаў пазней неаднаразова згадваецца частка мястэчка Лукомль з маёнткам Пірошыцы. У другой палове XVI ст. найбольш значнымі іх уласнікамі былі князі Баратынскія (нашчадкі па жаночай лініі князя Вяземскага) і паны Уладыкі (такія ж нашчадкі князя Сакалінскага).

Маёнтак Пірошыцы пазней падзяліўся на Вялікія (Пірошыцы-Забор’е) і Малыя Пірошыцы, якія існавалі да савецкага часу. Яны былі лакалізаваны намі на мясцовасці праз апытанне жыхароў вёскі Забор’е Новазаранскага сельсавета Чашніцкага раёна. Вялікія Пірошыцы знаходзіліся на паўночным ускрайку гэтай вёскі, Малыя — прыкладна за 1,5 км на паўночны захад. Не ўлічаны Ю. Вольфам дакумент 1591 г. сведчыць, што адной з князёвен Баратынскіх у той час належаў маёнтак з цэнтрам у Ляхавічах і падданымі ў сёлах Пірошычы, Лутчына, Псковічы (цяпер не існуе), а таксама ў Касянічах (паўночна-ўсходні кут Крупскага раёна) і Рудным (на левым беразе Эсы побач з Латыголічамі). У тых жа сёлах жылі падданыя іншых уласнікаў, у тым ліку князя Багдана Лукомскага [57, арк. 180—184]. Частка Касінічаў належала і саўладальніку Пірошыц Фёдару Уладыку, аб чым сведчаць звесткі 1554—1561 гг. [51, с. 91], а іншая частка ўпамінаецца пры вышэйзгаданым падзеле маёнткаў паміж Сапегамі ў 1591 г.

Апрача нашчадкаў па жаночай лініі, у XVI ст. існавалі тры асноўныя галіны князёў Лукомскіх. Ю. Вольф высветліў, што адна з іх паходзіла ад князя Івана Іванавіча, які ўпамінаецца з 1488 г., і яго сына Андрэя. Галоўнымі маёнткамі гэтай галіны былі Гарадзец і Шчыдуты. Першы з іх знаходзіўся ў сучаснай вёсцы Высокі Гарадзец (паўночны захад Талачынскага раёна) і здаўна меў умацаванні. Аб тамашнім замку князёў Лукомскіх пісаў краязнаўца К. Анікіевіч [58, с. 64]. Замчышча знаходзілася на левым беразе р. Усвейкі і было знішчана кар’ерам у 1960-я гг. На яго рэштках пазней былі сабраны асобныя рэчы, якія цяпер захоўваюцца ў школьным краязнаўчым музеі Валосаўскай СШ Талачынскага раёна. Сярод іх — кафля і кераміка XVI ст., а таксама двухбаковы касцяны грэбень, які нагадвае па форме характэрныя самшытавыя грэбені старажытнарускага часу. Магчыма, паселішча ў Высокім Гарадцы ўзнікла яшчэ ў XI ст., аб чым сведчыць ганчарны венчык з «бародкай», які быў знойдзены намі ў 1989 г. у двары мясцовай васьмігадовай школы, на клумбе (за 300 м на ўсход ад знішчанага замчышча, за дарогай Валосава—Нізкі Гарадзец).

Характэрна, што прыкладна за 500 м на паўднёвы ўсход ад замчышча знаходзіўся «Барысаў камень» [59, с. 64—72], узарваны ў 1936 г. Магчыма, ён быў пастаўлены ў XI ст. для вызначэння мяжы паміж Лукомскай і Друцкай валасцямі. Прынамсі, у XVI ст. маёнтак Гарадзец межаваў з сялом Рыдамль, у 1466 г. падараваным князямі Друцкімі-Бабічамі вышэйзгаданаму Чарэйскаму манастыру [53, с. 230—232]. Гэтая мяжа была прадметам спрэчкі паміж Лукомскімі і Сапегамі ў 1558 г. [18, с. 214] і затым неаднаразова.

Маёнтак Шчыдуты быў лакалізаваны намі падчас абследавання ў 1990 г. Аднайменны фальварак існаваў да рэвалюцыі на месцы сучаснай жывёлагадоўчай фермы на заходнім ускрайку вёскі Кушняроўка Чашніцкага раёна, за 600 м на паўночны

ўсход ад воз. Сарочынскага. Там намі быў закладзены шурф на схіле, звернутым да ручая, што выцякае з возера, за 50 м ад воданапорнай вежы. Шурф памерамі 2 × 1 м прыйшоўся на гаспадарчую яму XVI ст. Сярод знаходак — тыповая тагачасная кераміка, у тым ліку фрагменты макотры (рыс. 3, Г) і донцы дзвюх керамічных патэльняў на ножках (так званых рынак).

З іншых паселішчаў, што належалі шчыдуцка-гарадзецкай галіне Лукомскіх, у выяўленых Ю. Вольфам дакументах упамінаюцца Тоўпіна на р. Усвейцы (пазней прададзенае Сапегам), а таксама Боліна і Слядневічы, якія вярнуліся да Лукомскіх праз шлюб Андрэя Іванавіча Шчыдуцкага з Ганнай Іванаўнай Скіндзер. Іх сын Балтазар праз шлюб з Зоф'яй Фёдараўнай Уладыкай вярнуў роду частку Пірошыцкага маёнтка, а яго брат Багдан за заслугі ў Лівонскай вайне атрымаў у лен дзяржаўныя на той час сёлы Івань (Іванск) і Копцавічы, якія некалі належалі да Ульскай воласці. Вышэй адзначалася, што Андрэю Іванавічу належала і сяло Караевічы на р. Уле.

**Рыс. 3. Знаходкі на тэрыторыі былога маёнтка Шчыдуты**




Гэтай жа галіне належаў невялікі абшар на левабярэжжы верхняй Эсы, аточаны з усіх бакоў землямі маёнткаў Латыголічы, Багданава і Халопенічы. Там знаходзіліся сёлы Руднае, Лужкі, Грыцкавічы і Калечая Слабада (сучасная Калечанка), завешчаныя ў 1621 г. Раманам Балтазаравічам Лукомскім на карысць заснаванай ім каталіцкай капліцы ў Рудным Сяле [60, арк. 5 адв. — 6] і перададзеныя ёй у наступным годзе [61]. Як ужо згадвалася, частка падданых з Руднага належала да Пірошыцкага маёнтка, а Грыцкавічы ўпамінаюцца як сяло маёнтка Халопенічы пры размежаванні з Барысаўскай воласцю. Гэта паказвае, што ў многіх выпадках падзел Лукомскай воласці паміж саўладальнікамі адбываўся не на ўзроўні асобных паселішчаў, а на ўзроўні сялянскіх двароў унутры паселішча.

Другая галіна роду паходзіла ад Андрэя Іванавіча Лукомскага, які ўпамінаецца з 1499 г. і, верагодна, быў братам вышэйзгаданага заснавальніка шчыдуцкай галіны. Яго сын Андрэй Андрэевіч валодаў сумежным з Улой Жэрынам (гл. вышэй), а таксама часткай мястэчка Лукомль, сёламі Абузер'е, Абельмакавічы (Бельмакі, сучасныя Бельнякі), Халаневічы (напэўна, Вялікія Хальневічы на паўночным беразе воз. Сялява). Цэнтрам гэтых уладанняў быў замак на месцы сучаснай вёскі Замачак на беразе Усвейкі, які ў дакументах XVI—XVII стст. называецца Гарадок Бельмакі ці Белгарадок Меляшкоўскі. Непасрэдна да яго адносіліся суседнія сёлы Меляшковічы, Камянец, Сабалевічы, пазней прададзеныя разам з замкам Льву Сапегу і далучаныя да Чарэйскага маёнтка [62, с. 340—341]. Замчышча ў вёсцы Замачак апісваў А.З. Каваленя, пазначаючы, што ўжо тады яно было амаль цалкам змыта рэчышчам Усвейкі [2, с. 190].

Якраз гэтыя ўладанні вызначалі ўсходнюю мяжу Лукомскай воласці, апісаную ў пісцовай кнізе Полацкай зямлі ў 1563 г. Па адзін бок мяжы названы лукомскія сёлы Вячора (Вяцора), Хотыня на аднайменным возеры і Жэрына, па другі — маёнткі Беліца з Ульянавічамі, Азярэцк (сучасны Малы Азярэцк) і Вятцо (Вядзец, цяпер не існуе), якія адносіліся да Віцебскага (у тэксце кнігі памылкова — «Віленскага») павета [26, с. 424].

У XIV—XV стст. тут пачыналася Аболецкая воласць, якая была асабістай уласнасцю Ягайлы, напэўна, яшчэ ў якасці спадчыны яго бацькі Альгерда (які ў свой час быў удзельным віцебскім князем). У Абольцах як сваім даменіяльным сяле ці мястэчку Ягайла ў 1387 г. заснаваў адзін з першых на Беларусі касцёлаў і падараваў яму возера Свеча і дзесяціну з Аболецкай воласці [24, с. 17—19]. Пазней на землях уздоўж р. Свечы (Свечанкі) узнік маёнтак Вядзец, вядомы ў XVI—XVII стст. як уласнасць плябаніі Аболецкага касцёла [63, с. 61—102]. Яго тэрыторыя цягнулася да возера Сцержань. Далей на поўнач ляжалі сёлы Застарынне і Езяніца, якія ў 1563 г. належалі Пятру Свяцкаму і ў пісцовай кнізе аднесены да Полацкага павета. Цэнтрам жа маёнтка Вядзец быў аднайменны двор, які, паводле інвентару 1790 г., знаходзіўся за чвэрці мілі (каля 2 км) ад вёсак Новае Сяло і Маліна ўшчына, за паўмілю ад Рыжэўшчыны і Рыбакоўшчыны на захадзе сучаснага Сенненскага раёна [63, с. 315—343].

У XV ст. Аболецкая воласць адносілася да Аршанскага намесніцтва, аб чым сведчыць двайная форма прыналежнасці сяла Сянно «на Рши у Обольцех» пры падараванні яго ў 1440-я гады пану Мілашу Войшвілавічу [20, с. 10]. У тыя ж гады пан Судзімонт Доргевіч атрымаў шэраг сялянскіх службаў са складу Аболецкай воласці. Паселішчы, у якіх жылі гэтыя сяляне, не названы, але вельмі верагодна, што яны знаходзіліся на тэрыторыі пазнейшага маёнтка Беліца, які належаў зяцю Алехны Судзімонтавіча Станіславу Барташавічу Монтаўту, праз шлюб дачкі апошняга Ганны перайшоў да Яна Юр'евіча Глябовіча, а праз шлюб Зоф'і Янаўны Глябовіч — да Юрыя Зяноўевіча, які выступае ўласнікам Беліцы ў пісцовай кнізе 1563 года. Беліца з належачымі да яе Ульянавічамі межавала не толькі з Вячорай князёў Лукомскіх-Меляшкоўскіх, але і з Тоўпінам і Гарадцом — маёнткамі Лукомскіх-Шчыдуцкіх. Такім чынам, усходні адрэзак мяжы Лукомскай воласці захаваўся да другой паловы XVI ст. у першапачатковым, вельмі архаічным выглядзе.

Адсутнічаюць раннія звесткі толькі пра невялікі кавалак мяжы ад Халопенічаў да Хальневічаў. Паселішчы, якія межавалі тут з Худавам, у крыніцах XV—XVI стст. чамусьці не згадваюцца. Толькі больш позняя звестка ўпамінае, што ўнук Андрэя Андрэевіча Лукомскага Іван Барысавіч у 1604 г. прадаў Льву Сапегу разам з Хальневічамі і Тоўпінам таксама сяло Камянец [64, арк. 14—18 адв.]. Гэты пункт, верагодна, трэба звязваць не з Камянцом на р. Усвейцы, які ніколі не выступае асобна ад Меляшковіцкага маёнтка, а з сучаснай вёскай Вялікая Каменка ў Крупскім раёне, недалёка ад Худава, бо яна ўпамінаецца ў азначаным дакуменце ў кантэксце размежавання сапегаўскіх зямель з Лісічынам, Дударамі, Барсукамі і Пасёмкавічамі. Усе гэтыя паселішчы на момант складання дакумента (1678 г.) належалі трэцяй галіне князёў Лукомскіх, і вельмі верагодна, што з даўніх часоў.

Гэтая трэцяя галіна паходзіла ад князя Рамана Лукомскага, упамянутага ў 1500 г. Адзін з яго сыноў, Пётр, памёр у 1547 г., пакінуўшы сына Аляксандра і ўдаву Багдану Канстанцінаўну (дачку аднаго з князёў Друцкіх-Сакалінскіх), якая паўторна выйшла за Івана Іванавіча Сапегу. Пасля смерці Аляксандра ў 1563 г. да яго айчыма адышлі не толькі ўсе маёнткі, атрыманыя некалі Пятром Раманавічам пры падзеле з братамі, але і частка маёнткаў бяздзетнага Сямёна Раманавіча, у 1561 г. падзеленая паміж пляменнікамі. У 1563 г. дзеці двух іншых братоў, Богуша і Міхаіла Раманавічаў, спрабавалі адсудзіць у Сапегі хаця б маёнткі Сямёна, з якіх на тэрыторыі Лукомскай воласці лакалізуюцца Пачаевічы, Карэйвічы (сучасныя Каровічы на р. Усвейцы), і 24 мяшчанскія двары ў Лукомлі [65, арк. 482 адв. — 483].

У 1591 г., калі сыны Івана Сапегі дзялілі бацькаўскія маёнткі, у долю Андрэя Іванавіча адышлі «двор Пачаевічы і частка ў замку і месце Лукомскім» з сёламі Неўгадава, Навасёлкі, Шостаўшчына, Слідца, Дубраўкі, Стайкі, Руднае, Абузер'е і Ротніца [55, с. 291—292]. Відавочна, што яны ўтваралі частку былых уладанняў сыноў Рамана Лукомскага. Адзначым, што і ў гэты маёнткавы комплекс уваходзілі не толькі паселішчы ў наваколлі Лукомля, але і частка Грыцкавічаў і Руднага на Эсе. У той жа час Льву Сапегу дасталіся Дварэц і сяло Карэвічы, сяло Касінічы (дакладней, часткі гэтых паселішчаў). Крыху пазней, у 1599 г., ён жа купіў двары і пусташы ў сёлах

**Рыс. 4. Рэканструкцыя тэрыторыі Лукомскай воласці на пачатак XV ст.**
Чорнымі пунсонамі паказаны паселішчы, якія ўпамінаюцца ў XV ст.




Карэвічы, Тоўціна і Стражовічы, якія папярэдне належалі сыну Міхаіла Раманавіча, Канстанціну Лукомскаму [39, с. 641—642].

Трэцяй галіне Лукомскіх здаўна належала права апекі над царкоўным сялом Дабрыгоршчына (Дабрыгошы, у пісцовай кнізе 1563 г. — Добры Гарадзішча, сучасныя Дабрыгоры ў Бешанковіцкім раёне). У сваім завяшчанні ў 1561 г. Канстанцін Міхайлавіч Лукомскі адзначыў, што гэтае сяло ён меў «подле обычаю продков наших князей Лукомских в держаньи и доживотью» [66, арк. 83 адв. — 84]. Аднак цяжка сказаць, уваходзіла яно ў першапачатковую Лукомскую воласць ці было набыта крыху пазней. Іншыя маёнткі на тэрыторыі Бешанковіцкага раёна, на поўнач і паўночны ўсход ад Ульскай воласці, ужо ў XV ст. не мелі сувязі з Лукомлем, і нішто не дазваляе меркаваць пра такую сувязь у папярэдні час. Праўда, той жа К.М. Лукомскі за геройства ў Лівонскай вайне атрымаў у лен дзяржаўны замак Улу ля вусця аднайменнай ракі, але гэтая падзея ніяк не звязана з колішнім лёсам Лукомскай воласці. Таму мы схіляемся да таго, каб звязаць яе старажытную мяжу з паўночнай мяжой маёнтка Чашнікі, дакладна вядомай паводле позніх інвентароў. Аднак факт даўняй прыналежнасці князям Лукомскім сяла Дабрыгоршчына прымушае пакідаць гэтае пытанне адкрытым.

Такім чынам, у выніку праведзенай рэканструкцыі большасць межаў Лукомскай воласці на пачатак XV ст. акрэсліваецца даволі выразна (рыс. 4). Асабліва гэта тычыцца мяжы на захадзе (з Харэцкай воласцю), на поўдні (з Барысаўскай воласцю і

Друцкім княствам) і на ўсходзе (з Аболецкай воласцю). Пытанні застаюцца толькі адносна сувязі з Лукомлем колішняй Лепельскай воласці і абшараў на поўнач ад Чашнікаў — Улы. Гэта не павінна здзіўляць, бо з поўначы да Лукомскай воласці прымыкала Полацкая зямля, у складзе якой доўгі час была і сама гэтая воласць. Мяжа паміж імі ўзнікла толькі ў момант падаравання Лукомля, а ўжо з адпадзеннем Боліна і Улы ў 1430—1440-я гады страціла сваё значэнне. Не выпадкова нават новая афіцыйная мяжа Полацкага ваяводства з Аршанскім паветам Віцебскага, устаноўленая ў 1565 г., прайшла не па гэтай старажытнай мяжы, а крыху на поўдзень ад яе. Пры гэтым Чашнікі, Цяпіна і Боліна апынуліся ў Полацкім ваяводстве, а Жэрына, Пачаевічы, Шчыдуты, Пірошыцы з Ляхавічамі, нават чашніцкія Валосавічы і болінскае Свяда — у Аршанскім павеце. У такім выглядзе мяжа засталася і пазней, нават да 1916 г. яна служыла граніцай Віцебскай губерні з Магілёўскай і Мінскай.

1. Романов Е.Р. Раскопки в Могилевской губернии в 1888 году // Древности: Труды Императорского Московского археологического общества. М., 1889. Т. 13. Вып. 1.

2. Каваленя А.З. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932. Т. 3.

3. Штыхов Г.В. Раскопки в Лукомле в 1966—1966 годах // Древности Белоруссии. Мн., 1969.

4. Штыхов Г.В. Отчеты о полевых исследованиях в 1969 и 1970 годах // Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Спр. 350, 368.

5. Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли. Мн., 1978.

6. Тарасаў С.В. Новае ў археалогіі Полацка // Полацкі летапісец. 1992. № 1.

7. Штыхаў Г.В. Крывічы. Мн., 1992.

8. Алексеев Л.В. Полоцкая земля // Древнерусские княжества X—XIII вв. М., 1975.

9. Тихомиров Н.М. Список русских городов дальних и ближних // Исторические записки. М., 1952. Вып. 40.

10. Długosz J. Roczniki czyli kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Warszawa, 1981. Kn. 10.

11. Stryjkowski M. Kronika polska, żmudzka i wszyskiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 2.

12. Тихомиров Н.М. Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968.

13. ПСРЛ. Т. 35. М., 1980.

14. ПСРЛ. Т. 32. М., 1975.

15. Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 3. Leipzig, 1873.

16. Okolski S. Orbis Polonus. T. 2. Cracoviae, 1643.

17. Kojałowicz W. Herbarz rycerstwa Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kraków, 1897.

18. Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895.

19. Псковские летописи. Вып. 1. М.; Л., 1941.

20. Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897.

21. Archiwum książąt Sanguszków w Sławucie. T. 1. Lwów, 1887.

22. Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 3. СПб., 1848.

23. Pietkiewicz K. Kieżgajłowie i ich latyfundium do połowy XVI wieku. Poznań, 1982.

24. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. Kraków, 1948.

25. Специальная карта Европейской России. Масштаб 1:420 000. Пг., 1915.

26. Писцовые книги, издаваемые Императорским Российским географическим обществом. Ч. 1. Отд. 2. СПб., 1877.

27. Witoldiana: Codex privilegiorum Vitoldi magni ducis Lithuaniae 1386—1430 / Wyd. J. Ochmański. Warszawa; Poznań, 1986.

28. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр. 247.

29. Довгялло Д.М. Лепель, уездный город Витебской губернии. Витебск, 1905.

30. Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 1. Мн., 1959.

31. Slownik geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow Slowianskich. T. 14.

32. Полоцкая ревизия 1552 года // Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете. 1905. Кн. 2 (213).

33. НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр. 63.

34. Там жа. Спр. 244.

35. Сапунов А. Витебская старина. Т. 4: Документы. Витебск, 1885.

36. Русская историческая библиотека. Т. 33. СПб., 1914.

37. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. ДА. Спр. 163.

38. Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов (АВК). Т. 33. Вильна, 1908.

39. АВК. Т. 14. Вильна, 1887.
40. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 7. Warszawa, 1886.
41. НГАБ. Ф. КМФ-5. Воп. 1. Спр. 231.
42. АВК. Т. 8. Вильна, 1874.
43. Опись документов Виленского Центрального Архива древних актовых книг. Вильна. Вып. 1—10. 1901—1912.
44. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 1. СПб., 1861.
45. Аддзел рукапісаў ЦНБ НАН Украіны. Ф. 1. Спр. 5962.
46. НГАБ. Ф. 1928. Воп. 1. Спр. 281.
47. НГАБ. Ф. 2117. Воп. 1. Спр. 12.
48. НГАБ. Ф. КМФ-5. Воп. 1. Спр. 247.
49. Насевіч В.Л. Род князёў Друцкіх у гісторыі Вялікага княства Літоўскага (XIV—XVI стст.) // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992.
50. НГАБ. Ф. КМФ-5. Воп. 1. Спр. 249.
51. Sapiehowie, materyały historyczno-genealogiczne i majątkowe. T. 1. Petersburg, 1890.
52. Аддзел рукапісаў Вільнюскага ўніверсітэта. Спр. А-1806.
53. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 2. Вильна, 1867.
54. АЗР. Т. 3. СПб., 1848.
55. Pergamentų katalogas. Vilnius, 1980.
56. Довгялло Д.М. Черейский монастырь // Могилевская старина. 1901. Вып. 2.
57. НГАБ. Ф. КМФ-5. Воп. 1. Спр. 282.
58. Аникиевич К.Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Могилев, 1907.
59. Романов Е.Р. Борисов камень в с. Высоком-Городце Сенненского уезда Мог. г. // Записки Северо-Западного отдела Императорского Русского Географического Общества. Вильна, 1912. Кн. 3.
60. НГАБ. Ф. 937. Воп. 3. Спр. 3.
61. Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы. Ф. 273. Спр. 3673.
62. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 6. Warszawa, 1885.
63. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. Т. 20. Витебск, 1890.
64. НГАБ. Ф. 2117. Воп. 1. Спр. 5.
65. НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр. 255.
66. Там жа. Спр. 68.

*Друкуецца паводле:*
Гістарычна-археалагічны зборнік. № 4. Мінск, 1994. С. 161—186.

# Спадчына ВКЛ у гістарычнай памяці сучасных беларусаў

Здравствуй, племя
Младое, незнакомое!
*А.С. Пушкин*

У асяродку прафесійных гісторыкаў пра значэнне Вялікага Княства Літоўскага сказана і напісана вельмі шмат. Цяпер мне хацелася б засяродзіцца на іншым аспекце: як адбіваецца ўся гэтая гістарыяграфія ў масавай свядомасці сучасных грамадзян Рэспублікі Беларусь. Канечне, казаць пра масавую свядомасць як пра адно цэлае альбо аднароднае неправамерна. Уяўленні кожнага чалавека ў чымсьці ўнікальныя. Але можна адзначыць некалькі ўяўленняў, якія падзяляюцца даволі шырокімі групамі, і паспрабаваць акрэсліць прыблізныя рысы такіх груп.

Існуюць тры ўзроставыя групы, светагляд якіх сфармаваўся ў істотна адрозных умовах. У старэйшай групе (да 1960-х гг. нараджэння ўключна) да сённяшняга часу дамінуюць уяўленні, сфармаваныя ў школьныя гады падручнікамі савецкага часу. Больш маладую частку дарослага насельніцтва, народжаную ў 1970-я і пачатку 80-х гадоў, умоўна можна назваць «дзецьмі перабудовы». Яны яшчэ заспелі часы савецкай ідэалогіі і ў школе навучаліся па старых падручніках, але погляды іх фармаваліся ва ўмовах сутыкнення розных думак, якія ўзаемна абвяргаюць адна адну. Малодшую ўзроставую групу складаюць людзі, чый светагляд сфармаваўся ўжо ва ўмовах незалежнай Беларусі, прыблізна з 1983 года нараджэння — дзеці гэтага ўзросту вывучалі гісторыю ўжо па новых падручніках, выдадзеных у 1993 г.

Прыблізны колькасны склад гэтых груп у Рэспубліцы Беларусь, разлічаны аўтарам гэтых радкоў на аснове звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу ўзроставай структуры на моманты перапісаў 1989 і 1999 г. і наступныя гады[1], пададзены ў табліцы 1.

**Табліца 1. Дынаміка суадносінаў трох узроставых груп у насельніцтве Беларусі**

| | Колькасць на 1996 г. (тыс.) | % ад дарослага насельніцтва | Колькасць на 2004 г. (тыс.) | % ад дарослага насельніцтва | Колькасць на 2008 г. (тыс.) | % ад дарослага насельніцтва |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Усё насельніцтва | 10177,3 | | 9849,1 | | 9660,4 | |
| У тым ліку дарослыя (18 гадоў і болей) | 7631,5 | 100 | 7925,7 | 100 | 8013,8 | 100 |
| Да 1970 г. нарадж. | 6328,4 | 82,9 | 5380,8 | 67,9 | 4869,3 | 60,8 |
| 1970—1982 гг. нарадж. | 2116,5 | | | | | |
| У тым ліку дарослыя | 1303,1 | 11,1 | 1870 | 23,6 | 1843,4 | 23,0 |
| 1983—1990 гг. нарадж. | 1321,1 | | 1294,8 | | | |
| У тым ліку дарослыя | 0 | 0 | 674,9 | 8,5 | 1301,1 | 16,2 |

У табліцы падаецца колькасць кожнай групы на трох храналагічных зрэзах, выбар якіх невыпадковы. Менавіта ў гэтыя гады Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) праводзіліся сацыялагічныя апытанні, у якіх задавалася істотнае для нашай тэмы пытанне: «Хто з ніжэйпералічаных палітычных дзеячаў у найбольшай ступені Вам сімпатычны, адпа-

[1] Население Республики Беларусь: Статистический сборник. Минск, 2007.

вядае Вашаму ідэалу палітыка?». У прапанаваным пераліку кожны раз прысутнічала адна з ключавых фігур палітычнай гісторыі ВКЛ — князь Вітаўт. У двух апошніх апытаннях дадалі таксама канцлера Льва Сапегу. Відавочна, што абраць кагосьці з іх альбо абодвух (пры адказе можна было выбраць любую колькасць імёнаў) у якасці свайго ідэалу палітыка мог толькі той, для каго гісторыя ВКЛ, як мінімум, цікавая.

У табліцы 2 падаюцца вынікі ўсіх трох апытанняў адносна найбольш папулярных палітыкаў мінуўшыны (звесткі па сучасных палітыках прапушчаныя).

**Табліца 2. Змяненне рэйтынга некаторых палітыкаў паводле трох сацыялагічных апытанняў[2]**

| Варыянт адказу | 1996 | 2004 | 2008 |
|---|---|---|---|
| Пётр Машэраў | 45,2 | 32,7 | 23,5 |
| Пётр I | 34,2 | 30,9 | 18,5 |
| Кастусь Каліноўскі | 4,2 | 11,0 | 13,6 |
| Кацярына II | — | 15,4 | 12,5 |
| Князь Вітаўт | 2,2 | 6,6 | 8,8 |
| Уладзімір Ленін | 18,7 | 8,6 | 8,2 |
| Іосіф Сталін | 10,8 | 9,0 | 6,3 |
| Леў Сапега | — | 6,5 | 4,9 |

Дынаміку адказаў на гэтае пытанне мы будзем разглядаць як зыходную кропку для далейшых разваг, бо іншыя тэмы, датычныя перыяду ВКЛ, у сацыялагічных апытаннях на тэрыторыі Беларусі не фігуравалі.

Як відаць з супастаўлення табліц 1 і 2, апытанне 1996 г. адлюстроўвае ўяўленні найперш старэйшай узроставай групы. З таго часу яны не надта змяніліся. Зніжэнне рэйтынга тых палітыкаў, пра якіх шмат казалася і пісалася ў савецкі час, у цэлым адпавядае натуральнаму працэсу скарачэння колькаснага складу гэтай групы. І наадварот, рэйтынг Вітаўта прыкметна павялічыўся ў тыя гады, калі на сцэну пачало выходзіць малодшае пакаленне. Гэтае супадзенне наўрад ці выпадковае.

Уяўленні пра мінуўшчыну, сфармаваныя ў савецкі час школьнай праграмай, даволі добра вядомыя. Гісторыя Беларусі выкладалася з пазіцый рускай гісторыі і рускіх нацыянальных інтарэсаў. «Сваімі», знакавымі фігурамі пры гэтым станавіліся Дзмітрый Данскі, Пётр I, фельдмаршал Сувораў і г.д. Школьны курс быў пабудаваны такім чынам, што юным беларусам, нават захопленым гісторыяй, было практычна немагчыма ўсвядоміць: іх уласныя продкі не толькі не мелі адносінаў да перамог гэтых палкаводцаў, але і нярэдка былі іх сапернікамі. Пасля такога навучання заставалася трывалае ўяўленне: ВКЛ было нязначнай гістарычнай з’явай, памяць пра яго зусім неактуальная ў сучаснай рэчаіснасці.

У якасці доказаў таго, што гэтыя ўяўленні паспяхова ўспрыняліся і захаваліся ў практычна нязменным выглядзе, спашлёмся на выказванні палітыка, галоўнай сілай якога агульнапрызнана з’яўляецца ўменне адчуць і выказаць надзеі менавіта старэйшай узроставай групы — прэзідэнта А. Лукашэнкі. Вельмі паказальная ягоная рэпліка падчас выступу перад студэнтамі БДУ 14 сакавіка 2003 г. з лекцыяй «Гістарычны выбар Рэспублікі Беларусь»: «Меня глубоко возмущает и как историка, и как Главу государства, когда Беларусь отождествляют то с Великим княжеством Литовским, то с Польшей, то с Россией. Мы должны гордиться тем, что создал и чем прославился наш белорусский народ, а не его исторические соседи»[3]. Цалкам відавочна, што ВКЛ у ягоных вачах належыць гісторыі не беларусаў, а іх «гістарычных суседзяў» — трэба меркаваць, літоўцаў.

У лекцыі гучыць яшчэ адна танальнасць, знаёмая з савецкіх часоў: «Включение восточнославянских земель в состав Российской империи тогда имело для белорусского

[2] http://www.iiseps.org/6-08-04.html.

[3] http://www.president.gov.by/press14059.html#doc.

этноса спасительный характер. Прогрессивное значение заключалось в том, что была ликвидирована шляхетская анархия, кровавые разборки между шляхтой, от которых страдал в первую очередь простой народ». Тут, апроч звыклай рускацэнтрычнасці, важным з'яўляецца супрацьпастаўленне народа і эліты, пры якім сучасны чалавек уяўляецца пераемнікам першага, але не другой. Такое ўяўленне для старэйшай узроставай групы вельмі характэрнае і шмат у чым вызначае яе стаўленне да перыяду ВКЛ як эпосе, калі «мы» (альбо «нашы продкі») пакутавалі ад усемагчымых формаў гвалту.

Прэзідэнт Лукашэнка яшчэ раз агучыў гэтае ўяўленне падчас рабочай паездкі па Магілёўскай вобласці ў лістападзе 2005 г. Паводле афіцыйнага прэс-рэліза, «он также добавил, что поклонники старины на полном серьезе говорят о Великом княжестве Литовском, умалчивая об угнетенном, зависимом положении белорусов в том государстве»[4]. Пытання пра тое, ці былі прыгнятальнікі (ці хаця б іх частка) беларусамі, таксама не ўзнікае.

Але, нягледзячы на магутнасць савецкай ідэалагічнай машыны, ёй было не пад сілу насадзіць татальную аднастайнасць. Частка беларускай інтэлігенцыі яшчэ ў тыя гады здолела пазіцыянаваць сябе ў якасці інтэлігенцыі нацыянальнай (з афіцыйнага пункту гледжання — нацыяналістычнай). Колькасны яе склад ацаніць вельмі складана. Можна толькі сцвярджаць, што ён быў невялікі і нашмат саступаў іншым саюзным рэспублікам, уключаючы Украіну і Літву. Тым не менш, менавіта ў гэтым асяродку на працягу 1970-х — пачатку 1980-х гг. культывавалася і развівалася гістарычная канцэпцыя, тэзава акрэсленая ў 1920—1930-я гг. беларускімі нацыяналістамі[5]. Заслуга канчатковага яе афармлення належыць Міколу Ермаловічу (1921—2000), быламу школьнаму настаўніку і супрацоўніку Маладзечанскага настаўніцкага інстытута (у 1957 г. ён з прычыны страты зроку датэрмінова выйшаў на пенсію). Першая версія ягонай кнігі «Па слядах аднаго міфа», у якой гэтая канцэпцыя ўпершыню была разгорнутая, з'явілася ў 1968 г. і да 1989 г. існавала ў выглядзе рукапісу, даступнага вузкаму колу сяброў і аднадумцаў. Пра тое, якое ўражанне рабіла ў тыя гады канцэпцыя Ермаловіча, прыгадваў адзін з ягоных сяброў:

«Тады і далейшая гісторыя Беларусі станавілася зразумелай. І чаму ў Літоўскім княстве дзяржаўная мова — старабеларуская, і чаму наша культура ў той дзяржаве дамінавала, і чаму ў краіне з чужой, здаецца, назвай усё жыццё праходзіла ў беларускіх нацыянальных формах. І чаму нашы продкі перажывалі Залаты Век, і чаму ў нас была эпоха Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, С. Буднага, эпоха Літоўскага Статута. Такім чынам, дзякуючы сваёй канцэпцыі Ермаловіч абгрунтавана абверг тэзісы аб літоўскім заваяванні беларускіх зямель, панаванні літоўскіх феадалаў над Беларуссю, вызначыў Навагародак як цэнтр беларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага. Адным словам, кніга тая ставіла ўсё на свае месцы»[6].

Адсюль становіцца зразумелым і актыўнае непрыняцце больш узважаных гістарычных канцэпцый. Яны ацэньваюцца не з пункту погляду логікі, а чыста эмацыйна: «І таму цяпер вельмі дзіўна выглядае тое, што знаходзяцца гісторыкі, асабліва з маладзейшых, якія адмаўляюць Ермаловічу ў яго канцэпцыі, у яго рацыі. Імкнучыся стварыць нейкую сваю эклектычную гісторыю Беларусі, пры гэтым беручы сабе ў памочнікі літоўскіх і польскіх гісторыкаў, спасылаючыся на іх працы, шырока цытуючы ў сваіх кнігах. І гэта на тых, хто адводзіў нам месца ля хлявоў і стайняў, хто ўсімі сродкамі імкнуўся сфальсіфікаваць нашу гісторыю, надаць ёй неўласцівыя адмоўныя рысы,ператварыць у другарадны інструмент для сваіх шавіністычных канцэпцый.

---

[4] http://www.president.gov.by/press11914.html#doc.

[5] Лёсік Я. Літва-Беларусь: (Гістарычныя выведы) // Беларуская думка XX ст.: Гісторыя, рэлігія, культура: Анталогія. Варшава, 1998; Шкялёнак М. Да метадалогіі гісторыі Беларусі: Падзел гісторыі Беларусі на пэрыёды // Запісы Беларускага Навуковага Таварыства. Вільня, 1938.

[6] Казлоўскі М. Летапісец нашай славы // Яго чакала Беларусь чатыры стагоддзі: Зборнік дакументаў і матэрыялаў да 85-годдзя з дня нараджэння Міколы Ермаловіча. Мінск, 2007. С. 86—95. Цыт. паводле электроннай версіі: http://www.spadchyna.org/books/book2.html.

І гэтыя гісторыкі, тым самым, адмаўляюць нам у праве мець сваю сапраўдную, непаўторную, нацыянальную гісторыю. Ну што ж, хай гэта будзе на іх сумленні»[7].

Стаўленне да Ермаловіча ў асяродку аднадумцаў характарызуюць вытрымкі з анатацыі на кнігу ўспамінаў пра яго, надрукаванай у інтэрнэце пасля выхаду гэтай кнігі ў 2007 г.: «Трудно переоценить значение этой личности для белорусской культуры. Даже на уровне внешнего, «персонажного» восприятия: полуслепой историк, не признанный официальной наукой, открывающий для зрячих, но не обладающих духовным зрением земляков целую неизведанную страну — Беларусь, какой она была в прежних эпохах. Какой ее не хотели видеть официальные историки. С золотым веком, со своей государственностью, своими политиками, стратегами, философами... Это было самое настоящее диссидентство, инакомыслие, самый настоящий патриотизм»[8].

Гэтыя цытаты дазваляюць зразумець, што магло стаяць за рашэннем часткі рэспандэнтаў указаць Вітаўта і Сапегу ў якасці сваіх ідэалаў палітыка. Але ў гады савецкай улады колькасць такіх людзей была вельмі нязначнай, і наўрад ці хто з іх трапіў бы ў сацыялагічную выбарку, калі б такое апытанне праводзілася да 1989 г.

Публікацыя кнігі Ермаловіча ў разгар гарбачоўскай «перабудовы» стымулявала ўсплёск цікавасці да гісторыі ВКЛ сярод пэўнай часткі старэйшага пакалення. Тая невялічкая частка яе, якая ўспрыняла погляды Ермаловіча на ВКЛ як беларускую дзяржаву, адрознівалася ў тыя гады найбольшай актыўнасцю. Яны горача ўзяліся на канструяванне, як самі ж прызнаваліся, «нацыянальнага міфа», ключавое месца ў якім адводзілася перыяду ВКЛ як аднаму з найбольш важных этапаў беларускай дзяржаўнасці. Іх прапаганда ў сродках масавай інфармацыі рабіла феномен ВКЛ калі не блізкім, то хаця б знаёмым для астатняй часткі насельніцтва, у тым ліку і для пакалення «дзяцей перабудовы».

Пісьменніца Вольга Іпатава ў 1991 г. суб'ектыўна ўспрымала канцэпцыю Ермаловіча як безумоўна перамагаючую: «Што такое Беларусь у дачыненні да Вялікага Княства Літоўскага? Якое значэнне для гісторыі маюць Мендоўг, Войшалк, якія дасюль прызнаваліся належнымі толькі да аднаго народа? Беларуская моладзь — асабліва моладзь — чакала адказу на гэтыя пытанні, але атрымала іх не ад афіцыйнай навукі, пошукі якой ішлі ў іншым, не нацыянальным кірунку. І менавіта таму яна аказалася такой удзячнай [канцэпцыі Ермаловіча. — *В.Н.*]»[9].

Але ступень гэтай цікавасці не варта пераацэньваць. Першае выданні кнігі «Па слядах аднаго міфа» накладам у 6 тысяч асобнікаў (1989) было раскупленае вельмі хутка. Але другое выданне, надрукаванае ў 1991 г. накладам у 11 тыс. асобнікаў, разыходзілася ўжо не так імкліва, яго можна было знайсці на паліцах кнігарняў і праз два-тры гады. Улічваючы сапраўды культавы характар гэтай кнігі сярод прыхільнікаў Ермаловіча, пры невялікім яе памеры і адноснай таннасці, цяжка ўявіць сабе, што хтосьці з іх не скарыстаўся з магчымасці набыць яе. Значыць, сумарны наклад двух выданняў акрэслівае верхнюю мяжу колькасці гэтых прыхільнікаў у гады, што папярэднічалі з'яўленню незалежнай Рэспублікі Беларусь. Рэальная колькасць іх была, хутчэй за ўсё, яшчэ меншай, бо кнігу набывалі і нязгодныя з яе зместам.

Які след пакінула гэтая кампанія? Паказальнае апытанне некалькіх значных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі на тэму «З чаго, на Вашую думку, пачалася (пачынаецца) нацыянальная гісторыя Беларусі?», надрукаванае часопісам «Arche» ў лютаўскім нумары за 2003 г.[10]. Адказы на гэтае пытанне былі вельмі рознымі нават сярод тых, хто асабіста ўдзельнічаў у фармаванні «нацыянальнага міфа». У прыватнасці, былы спікер парламента Станіслаў Шушкевіч у сваім адказе падкрэсліў, што нацыянальная гісторыя пачынаецца з нацыянальнай дзяржавы, але ВКЛ у гэтай сувязі не згадаў, хаця ў публічных выступах выказваўся больш канкрэтна[11]. Адказ

[7] Тамсама.

[8] Рублевская Л. Прагматичный век под вуалью. Книжный навигатор // http://sb.by/post/59047.

[9] Іпатава В. Падзвіжнікі не перавяліся… // Полацак. 1991. № 4. С. 27.

[10] http://arche.bymedia.net/2003-2/apyt203.html.

[11] Напрыклад, у Парыжы на канферэнцыі «Украіна і Беларусь — што за суседзі для Эўразвязу?»

журналіста Юрыя Дракахруста сведчыць пра глыбокае расчараванне ў эфектыўнасці нацыяналістычнай рыторыкі: «Выбары 1994 года і ўвесь час кіравання Лукашэнкі адкрылі беларускай інтэлігенцыі такую праўду пра беларускую нацыю, якую, можа, не варта было і ведаць. Высветлілася, што нацыя і інтэлігенцыя — гэта істоты рознай пароды і прыроды. Хацелі нацыю — атрымалі ва ўсёй прыгажосці і жудасці (не хацелі — таксама атрымалі)». Найбольш блізкім да канцэпцыі «нацыянальнага міфа» аказаўся, нечакана для аўтара гэтых радкоў, адказ Аляксандра Фядуты, які заўсёды дыстанцыяваўся ад радыкальна-нацыяналістычнага крыла беларускай апазіцыі (у свой час ён нават уваходзіў у перадвыбарчы штаб А. Лукашэнкі): «Гісторыя Беларусі пачалася ў той момант, калі Вітаўт усвядоміў, што інтарэсы Вялікага Княства Літоўскага адрозніваюцца ад інтарэсаў каронная Польшчы, на чале якой стаяў Ягайла». Гэты адказ сведчыць, што для ягонай ідэнтычнасці перыяд ВКЛ набыў ключавое значэнне. Без сумневаў, А. Фядута мог бы апынуцца ў шэрагах тых нешматлікіх прадстаўнікоў старэйшай узроставай групы, хто пазначыў Вітаўта як ідэальнага палітыка.

Не будзем забываць, што ў дыскусіях першых гадоў незалежнасці былі прадстаўленыя і больш памяркоўныя канцэпцыі, разлічаныя на людзей з крытычным, пазітывісцкім складам мыслення. У прыватнасці, аўтар гэтых радкоў у 1993 г. сфармуляваў сваё стаўленне да спадчыны ВКЛ наступным чынам: яго нельга лічыць ні літоўскім, ні беларускім, ні ўкраінскім, але без гэтай дзяржавы немагчымым было б з'яўленне кожнага з гэтых народаў у іх цяперашнім выглядзе. Усе яны маюць свае правы на гістарычную спадчыну ВКЛ, як кожны з дзяцей мае права на спадчыну сваіх бацькоў[12]. Пазней іншы беларускі гісторык Генадзь Сагановіч у пасляслоўі да выдадзенага ў 2001 г. нарыса гісторыі Беларусі яшчэ раз падкрэсліў, што спадчына ВКЛ «належыць тым сучасным народам, продкі якіх стваралі і абаранялі агульную дзяржаву». Праўда, ён тут жа вымушаны адзначыць, што «самай незапатрабаванай яна застаецца ў Беларусі, дзе ўкаранелыя з савецкіх часоў трактоўкі і вобразы даўняга мінулага ўсё яшчэ чакаюць перагляду і пераацэнкі»[13].

Сумарны вынік трансфармацыі свядомасці старэйшай і сярэдняй узроставых груп адлюстроўваецца першым з трох вышэйзгаданых сацыялагічных апытанняў. Колькасць людзей, якія выказаліся на карысць Вітаўта ў 1996 г., была ўжо дастаткова адчувальнай, хаця і не перавысіла ўзровень статыстычнай хібнасці. Верхнюю мяжу колькасці беларусаў, якія пераадолелі негатыўнае стаўленне да перыяду ВКЛ, можна вельмі груба ацаніць лічбай блізу 100—200 тысяч. Цяжка сказаць, які ўнёсак у гэтую лічбу маюць прадстаўнікі старэйшай узроставай групы, а які — «дзеці перабудовы». Але нават калі на апошніх і прыпадае асноўная частка, то яна не такая ўжо і вялікая ў параўнанні з агульнай іх колькасцю. Доля тых, хто ўспрыняў нацыянальна-рамантычную канцэпцыю, аказалася значна ніжэйшай, чым разлічвалі яе стваральнікі, і гэтым цалкам тлумачыцца песімізм Ю. Дракахруста.

Нізкую ўспрымальнасць «дзяцей перабудовы» да «нацыянальнага міфа» тлумачаць, магчыма, дзве асаблівасці савецкай школьнай праграмы. З аднаго боку, яна навязвала пэўныя стэрэатыпы, якія абцяжарвалі ўспрыняцце нязвыклых ідэй. З іншага боку, гэтая праграма паслядоўна выхоўвала мысленне ў духу крытычнага рацыяналізму, забараняючы слепа прымаць на веру недаказаныя сцвярджэнні. Крытыка савецкіх ідэалагічных штампаў, што гучала навокал, толькі павялічвала гэтую насцярожанасць. Таму многія нацыянальна-рамантычныя пабудовы выклікалі

С. Шушкевіч заявіў: «Эўрапейская беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае жыла паводле сваіх законаў. Гэтыя пісаныя законы рашуча адрозніваліся ад законаў Расеі. Вялікае Княства Літоўскае, падкрэсліваю яшчэ раз, было беларускай дзяржавай, бо ягоны асноўны закон дастаткова доўгі час быў беларускім і ніколі не быў літоўскім». Гл.: http://www.experts.in.ua/baza/analitic/index.php?ELEMENT_ID=24197.

[12] Насевіч В.Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мінск, 1993.

[13] Сагановіч Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мінск, 2001. С. 347.

адкрыты скептыцызм. Магу спаслацца на прыклад уласнага сына, народжанага ў 1980 г. Ва ўзросце 11 альбо 12 гадоў ён намаляваў на кавалку паперы пародыю на першую банкноту незалежнай Беларусі (нагадаю, што з-за выявы адпаведнага звярыка нават дарослыя адразу ж назвалі яе «зайчыкам»). Сярод іншага ён намаляваў і герб «Пагоня», на якім вершнік валіўся з сядла са стралой у грудзях.

Далейшы рост рэйтынга Вітаўта варта, відаць, звязваць з пакаленнем, якое навучалася ўжо па новым падручніку гісторыі для 5—6 класаў. У адрозненне ад папулярных кніг і артыкулаў на гістарычную тэматыку, яго трэба было абавязкова вывучаць, таму ягоную ролю цяжка пераацаніць. Чаму ж вучыў гэты падручнік? Параграф «Утварэнне беларуска-літоўскай дзяржавы — асновы Вялікага княства Літоўскага», напісаны Г.В. Штыхавым, з’яўляўся больш мяккай версіяй канцэпцыі Ермаловіча. Адзначалася, што думкі даследнікаў аб лакалізацыі Літвы XI—XII стст. разыходзяцца, але паводле адной з версій яна магла знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Гіпотэза аб Навагрудку як першай сталіцы ВКЛ падавалася без усялякіх агаворак: «Міндоўг стаў вялікім князем дзяржавы, якая пачалася з Наваградскай зямлі. Першай яе сталіцай быў Наваградак з усходнеславянскім насельніцтвам і культурай. Паколькі горад знаходзіўся на сумежжы з літоўскімі землямі, за новай, па сутнасці беларуска-літоўскай дзяржавай, замацавалася назва Літва»[14].

Далейшая гісторыя ВКЛ выкладалася даволі ўзважана, без рамантычнай рыторыкі і відавочных міфаў. Важным было ўжо тое, што асноўныя факты гэтай гісторыі проста выкладаліся, таму што ў савецкіх падручніках не было нават гэтага. У тэксце неаднойчы адзначаўся двухэтнічны характар дзяржавы: «Гедымін пачаў называць сябе «каралём Літвы і Русі», «каралём літоўцаў і многіх рускіх». Назва «рускія» тут распаўсюджана на беларусаў. … Прыблізна тры чвэрці насельніцтва краіны [пры Гедыміне. — *В.Н.*] складалі беларусы». Яшчэ важней тое, што прызнавалася прысутнасць беларусаў і сярод кіруючага класа. Сама фармулёўка «літоўскія і беларускія феадалы» пры вонкавай пераемнасці з традыцыйным класавым падыходам была зусім немагчымай у савецкі час. У параграфе «Фарміраванне беларускай народнасці (народа)», напісаным У.К. Пляшэвічам, канчатковае фармаванне трох усходнеславянскіх народнасцей, уключаючы і беларускую, адназначна звязвалася з перыядам ВКЛ, тады як «стварэнне новай дзяржавы адбывалася пры самым актыўным удзеле беларусаў і літоўцаў»[15]. Нягледзячы на ўнутраную супярэчлівасць гэтай канцэпцыі (беларусы ўдзельнічалі ў стварэнні дзяржавы, якая стварыла іх саміх), яна непазбежна прыводзіла да ўсведамлення выключнай важнасці перыяду ВКЛ.

Існуе думка, што змена акцэнтаў у выкладанні гісторыі ВКЛ, здзейсненая ў першыя гады незалежнай Беларусі, не дала чаканага эфекту. Так сцвярджаў, у прыватнасці, выкладчык Гарадзенскага ўніверсітэта С.М. Салей у даследніцкай працы, выкананай у рамках HESP Regional Seminar for Excellence in Teaching. На ягоную думку, «в первой половине 1990-х гг. учителя школ не были готовы к преподаванию периода ВКЛ в рамках курса истории Беларуси, так как просто не были компетентны в содержании. А школьные учебники не справились с возложенной на них задачей, так как их авторы, историки из академической среды, не смогли просто и доступно изложить материал»[16]. Магчыма, гэтая ацэнка справядлівая з пункту гледзішча падрыхтоўкі будучых гісторыкаў. Але для фармавання агульнай светагляднай установкі «сярэдняга» грамадзяніна Беларусі звесткі, атрыманыя са школьнага курса, мелі вырашальнае значэнне ўжо таму, што дазвалялі адчуць ВКЛ з’явай сваёй гісторыі.

Да гэтага трэба дадаць, што свядомасць новага пакалення была свабоднай ад штампаў савецкага часу і магла без перадузятасці ўспрымаць інфармацыю пра

[14] Штыхаў Г.В., Пляшэвіч У.К. Гісторыя Беларусі: Старажытныя часы і сярэднявечча: Вучэбны дапаможнік для вучняў 5—6 класаў. Мінск, 1993. С. 172—173.

[15] Тамсама. С. 233.

[16] Салей С.М. Великое княжество Литовское в исторической памяти современных белорусов // http://old.eu.spb.ru/reset.

ВКЛ з кніг, артыкулаў і непасрэдна гістарычных крыніц. Не апошнюю ролю адыграў доступ да інтэрнэту, які стаў па-сапраўднаму масавым менавіта ў час сталення гэтага пакалення. Паводле сацыялагічных апытанняў НІСЭПД, колькасць карыстальнікаў інтэрнэту ў Рэспубліцы Беларусь з 2001 да 2008 г. павялічылася з 9,7 да 35,9 %. Але сярод рэспандэнтаў, маладзейшых за 30 гадоў (што азначае ўсю малодшую і прыблізна палову сярэдняй узроставай групы), гэтая лічба да чэрвеня 2008 г. дасягнула 81 %[17]. Сярод самых малодшых узростаў гэтая лічба, пэўна, яшчэ большая. Для гэтай узроставай групы даступныя не толькі тэксты кніг Ермаловіча, ягоных прыхільнікаў і апанентаў, але і электронныя версіі летапісаў і хронік, выстаўленыя на розных сайтах. Пры жаданні школьнік альбо студэнт сёння можа за некалькі гадзін атрымаць доступ да ўсіх асноўных фактаў гісторыі ВКЛ, а таксама да разнастайных іх інтэрпрэтацый. Для яго не існуе такіх перашкод, як адсутнасць патрэбнай кнігі ў асабістай бібліятэцы і адсутнасць часу на наведванне бібліятэкі грамадскай — фактараў, якія яшчэ гадоў 10—15 таму адчувальна ўплывалі на працу нават прафесійных гісторыкаў.

Паўстае пытанне: у якой ступені маладое пакаленне падзяляе нацыянальна-рамантычныя погляды, а ў якой — больш памяркоўныя. Для адказу на яго разгледзім спектр думак, што выказваюцца на розных інтэрнэт-форумах — улічваючы, што менавіта прадстаўнікі малодшай узроставай групы складаюць асноўную частку іх наведвальнікаў. Пануючыя на гэтых форумах погляды з'яўляюцца вынікам калектыўнага асэнсавання і трансфармацыі раней выказаных канцэпцый, прычым канечны вынік істотна адрозніваецца ад іх. Праўда, непадрыхтаванаму погляду гэтую розніцу заўважыць цяжка, бо стыль і тэрміналогія шмат у чым запазычаныя з нацыянальна-рамантычнай канцэпцыі. Паколькі многія ўдзельнікі падкрэсліваюць сваю пераемнасць з гістарычнымі ліцвінамі часу ВКЛ, гэтую стыхійна ўзніклую канцэпцыю можна называць сучасным «ліцвінізмам» — з той агаворкай, што яна далёка не ва ўсім супадае з канцэпцыяй, актыўна крытыкуемай літоўскім гісторыкам Томасам Баранаўскасам на створаным ім «Форуме гісторыі Літвы»[18]. Многія з цяперашніх «ліцвінаў» не настойваюць на заваяванні тэрыторыі Літвы «беларускімі дружынамі» альбо на адпачатна славянскім яе характары (хаця багата і тых, хто працягвае ў гэта верыць). Акцэнт ссунуўся на тое, што кіруючая эліта ВКЛ, незалежна ад свайго паходжання, роўна супрацьстаяла як этнічна літоўскаму (аўкштайцкаму і жэмайційскаму), так і «рускому» непрывілеяванаму класу (продкам беларусаў-праваслаўных). Пераемнасць менавіта з гэтай элітай выходзіць на першы план. Пры гэтым прыхільнікі новай канцэпцыі ахвотна паўтараюць ацэнкі, упершыню сфармуляваныя яе крытыкамі, — ствараецца нават уражанне, што гэтая крытыка дапамагае ім выразней усвядоміць уласную пазіцыю.

Адзін з першых крытыкаў, які выступіў у 2000 г. на старонках часопіса «Arche» пад імем Антоні Запалота, пісаў: «Ліцвінізм» ёсць, канечне, цалкам лагічным працягам «беларускага адраджэння» 1980—90-х — натуральнай рамантычнай рэакцыяй на пэўныя паразы «беларускай ідэі»… «Ліцвінізм» у ідэале мае прышчапіць пашпартным «беларусам» іншую культурную традыцыю, носьбітам якой у нядаўняй гісторыі была адукаваная (збольшага польскамоўная) эліта краіны. Калі нашчадкі «тутэйшага», «простага люду» акцэптавалі б, у тым ліку, і «панскую» традыцыю, як быццам сваю, то з тым набылі б і пэўную гістарычную годнасць, рацыю гістарычнага існавання і права ва ўласных вачох…»[19]. Самі ўдзельнікі гэтага руху цалкам згодныя з такой ацэнкай: «Трэба адзначыць пэўную вычарпанасць «беларускай тэматыкі»... На гэтым фоне зварот да літвінскай тэмы ці тэмы прысутнасці ВКЛ у сённяшняй беларускай свядомасці з'яўляецца свайго роду выхадам з тупіка… Для нас літвінства — гэта адчуванне і ўсведамленне пераемнасці ад палітычных колаў ВКЛ (шляхты, духа-

[17] http://www.iiseps.org/6-08-04.html.
[18] http://www.istorija.net.
[19] Antoni Zapałota. «Litvanija» ci Eūropa? // Arche. 2000. № 8 // **http://arche.bymedia.net/8-2000/zapal800.html**.

венства, мяшчанаў) у сённяшнім часе... Прыняць усю нашу эліту, з яе каталіцкасцю, лацінскасцю, культурнай польскасцю»[20].

Эмацыйную глебу для «ліцвінства» складае тое ж пачуццё, што натхняла і прыхільнікаў Ермаловіча — неабходнасць у гісторыі, якой можна было б ганарыцца. Бурны ўсплёск эмоцый выклікала публікацыя ў 2003 г. на сайце, аўтар якога выступіў пад псеўданімам «Игорь Литвин», кнігі «Затерянный мир, или Малоизвестные страницы белорусской истории». Пра пафас гэтай кнігі сведчаць хаця б такія кавалкі: «Где же были белорусы во времена средневековья? Современные литовцы необоснованно приписывают себе историю Великого Княжества Литовского. При этом ставится знак равенства между современными литовцами и жителями ВКЛ — литвинами… Следует пояснить, что Литовская республика имеет такое же отношение к Великому Княжеству Литовскому, как и современная Македония к империи Александра Македонского, т.е. составляет мизерную часть площади когда-то огромного государства… Предки современных литовцев — жамойты, были одним из многих народов, проживавших на территории Великого Княжества Литовского. Нет никаких оснований считать их титульной нацией ВКЛ… Белая Русь — центральная, главная часть Великого Княжества Литовского, Русского и Жамойтского. Беларусь является правопреемницей исторического наследия ВКЛ»[21].

Абмяркоўваючы гэтую кнігу на спецыяльна дзеля гэтага створаным форуме, многія падкрэслівалі, што цяперашні стан гістарычнай памяці беларусаў іх катэгарычна не задавальняе. Вось як ацэньвае сітуацыю адзін з удзельнікаў (стыль аўтараў ва ўсіх цытатах захаваны, выпраўленыя толькі відавочныя абдрукоўкі): «Попробуйте задайте поиск *History of Belarus* в западном серч-энджин, он вам и выдаст: пришли летувисы, стали править, пришли поляки, стали ополячивать, пришли московиты, стали русифицировать, прям и не люди мы вовсе были, а пингвины в Антарктиде».

Другі ўдзельнік з задзірлівым псеўданімам «Злодей» асабліва шкадуе пра страту пераемнасці з элітай ВКЛ і марыць пра новую культурную эліту: «Мне кажется, белорусский случай почти безнадежный. 99 % населения напоминает мне фантастический рассказ об одичавших пассажирах космического корабля, перебивших капитана, да и самих опустившихся на животный уровень за годы полета. Так и здесь — магнатерию — Сапег—Радзивилов—Острожских—Вишневецких истребили. Потом — шляхту под ноль свели… Я, родившийся в Минске, отучившись в школе с институтом, знаю только одного человека, у которого его родители родились в Минске. Остальные — из деревни. Что не так уж и плохо… но НИГДЕ И НИКОГДА [вылучана аўтарам. — *В.Н.*] крестьяне не создавали наций. Крестьяне — глина, их дети, выросшие в городе — уже что-то. Сами же они променяли белорусский язык на смывные туалеты. А культура, ВКЛ, Сапега со Скориной — не ихнее. Чужое это все для них, панское. Одна надежда — на городское поколение. Новая европейская беларусская культура возможна только на основе города, а не на основе лаптей и дожинок».

Некаторыя ўдзельнікі форумаў настроеныя памяркоўна. Іх цалкам задаволіла б роўнае з літоўцамі права на спадчыну ВКЛ, не згодныя яны толькі з другаснай роляй сваіх продкаў. На «Форуме гісторыі Літвы» неаднойчы з'яўляліся прымірэнчыя выказванні беларускіх удзельнікаў: «Літва ў сэнсе «Гістарычная Літва», «Літва Міндоўга», «Літва ў вузкім сэнсе» разам з землямі Полацкага, Турава-Пінскага... княстваў склала тэрыторыю беларускай нацыі. Літоўская нацыя склалася на тэрыторыі, у якую Віленшчына не ўваходзіла. Так, беларусы даўным-даўно звыкліся лічыць ВКЛ СВАЁЙ [вылучана аўтарам. — *В.Н.*] дзяржавай — цалкам справядліва. Але заўважце — у літоўцаў мы нічога не адбіраем. Мы лічым гэтую дзяржаву АГУЛЬНАЙ. Дадаць трэба толькі, што ні я, ні «беларуская грамадзкасць» не будуем будучыню сваёй нацыі на падмурку гістарычных міфаў. Нам усяго толькі патрэбная ІСЦІННАЯ ГІСТОРЫЯ — НАШАЯ гісторыя. Як патрэбная любому чалавеку ягоная асабістая

[20] Стральцоў-Карвацкі А.Я. За Літву! // Litwa. 2008. № 24 // http://www.manarchija.org/litwa24-3.

[21] http://litvin.org. На момант напісання гэтых радкоў сайт быў недасяжны, але кніга прадубляваная на цэлым шэрагу іншых сайтаў. Гл., напрыклад: http://asveta.belinter.net/histlitvin.html.

біяграфія». Удзельнік, які падпісаўся як «Ibicvus — маскавіт па ладзе мыслення», напісаў: «Больш таго, скажу (баюся, што пасля гэтай фразы мяне тут калясуюць, абальюць дзярмом і напалмам), але ні сучасная літоўская нацыя, ні беларуская не маюць аніякіх адносінаў да палітычнай нацыі ВКЛ. Аднак нацыя не можа жыць без міфаў, гэта адзін з асноватворных фактараў кансалідацыі».

На папулярным беларускім форуме «Стары гетман»[22], задуманым у супрацьвагу «Форуму гісторыі Літвы», удзельнік пад псеўданімам Henek у лютым 2004 г. спрабаваў астудзіць гарачыя галовы рацыянальнымі аргументамі: «Тэма самой спрэчкі ад пачатку мёртванароджаная. Нельга казаць ні пра які нацыянальны складнік сярэднявечнай дзяржавы з той простай прычыны, што нацыі — больш позняя ўтварэнні... Таму заклікаю ўсіх, асабліва беларусаў, не займацца лухтой. Ніякі Томас Баранаўскас не зможа адабраць у нас права на спадчыну ВКЛ, гэта ўсё адно, што спрабаваць адабраць, напрыклад, у дзяржаў СНД правы на спадчыну СССР і спрабаваць пераканаць нас, што, напрыклад, літоўцы не з'яўляліся адным з народаў СССР, не былі інкарпараваныя ў грамадзянскія, палітычныя, культурныя і гаспадарчыя працэсы ў СССР».

Пра тое, што для многіх прыхільнікаў ліцвінізму рацыянальныя аргументы вельмі важныя, сведчыць абмен рэплікамі з нагоды энцыклапедычнага артыкула «Ліцвіны», напісанага аўтарам гэтых радкоў, які адбыўся на тым самым форуме ў 2006 г. Адзін з удзельнікаў, пад нікам Maxim_Litvin, адгукнуўся пра яго так: «Лепш, чым пісалі раней, але можна і яшчэ лепш». Тут жа прагучала з'едлівая рэпліка: «А яшчэ лепш — гэта як? Ліцвіны — гэта беларусы, а літоўцы — гэта жмуды!». Адказ вельмі паказальны: «Ну так было б яшчэ лепш лепшага, але толькі калі б гэта было праўдай»[23].

Разам з тым захоўваюцца і погляды, уласцівыя радыкальнаму варыянту нацыянальна-рамантычнай канцэпцыі. Іх актыўным прапаведнікам выступае ўдзельнік некалькіх гістарычных форумаў, які ў піку Томасу Баранаўскасу падпісваецца «Том Бараноўскі». Часам ён парадзіруе пазіцыю, што адстойваецца самім Баранаўскасам, часам гаворыць ад сваёй асобы, у адказ вышэйзгаданаму Henek'у заяўляючы на форуме «Стары гетман»: «Перастаць беларусам успрымаць ВКЛ дзяржавай з адназначна пераважаючай беларускай дамінантай (лічы — выводзіць гісторыю ад 1918 года, ад бээсэсэры) — падысці да рысы нацыянальнага забыцця, чаго з такой настойлівасцю дамагаецца цяперашняя ўлада, ды апынуцца перад дзвярыма інкарпарацыі ў імперыю (дакладней, у тое, што ад яе засталося)». Гэтую думку падзяляе і адзін з удзельнікаў «Форуму гісторыі Літвы»: «А што да «прыналежнасці» гісторыі ВКЛ, то беларуская нацыя і ВКЛ непадзельныя **ў прынцыпе** [вылучана аўтарам. — *В.Н.*]. Няма беларускай нацыі без ВКЛ. Проста не існуе. І няма ў нас іншай гісторыі».

Рэпліка аднаго з удзельнікаў беларускага праекта «Вікіпедыі», з характэрным нікам «Ліцвін», лішні раз сведчыць пра папулярнасць такіх поглядаў: «Літва — ВКЛ, груба кажучы, сучасная Беларусь, ну што ты зробіш, так гісторыя склалася. А лічыць Літвой — Аўкштайцію і Жамойць — ну аніяк не атрымліваецца! **Гэта кожны ведае, школьны курс агульнаадукацыйнай школы** [вылучана мной. — *В.Н.*]»[24].

На форуме І. Ліцвіна адзін з удзельнікаў у 2005 г. выставіў невялікі трактат «Гісторыя Беларусі за 5 хвілін»[25], у якім паспрабаваў сістэматызаваць прымальныя для сябе ўяўленні аб гісторыі Беларусі. Тэкст пачынаецца з канстатацыі: «Перыядычна сутыкаюся з цалкам супярэчлівымі поглядамі на беларускую дзяржаўнасць. Пачынаючы ад думкі «беларусаў і не было ніколі як нацыі, і краіны такой — Беларусь — да нядаўняга часу не было» і заканчваючы намаганнямі асобных актывістаў ператварыць Беларусь у найстаражытнейшую «радзіму сланоў». Па сутнасці, тут на дзіва дакладна, хаця і ў прымітыўным выглядзе, схопленыя два найбольш распаўсюджаныя падыходы да тлумачэння феномена нацыі. Першы адпавядае постмадэрнісцкаму погляду на

[22] http://probelarus.crearshost.ru/forum.
[23] http://probelarus.crearshost.ru/forum/viewtopic.php?t=501.
[24] http://be-x-old.wikipedia.org/wiki. (Гл. абмеркаванне праектаў артыкулаў «Аўкштота» і «Жамойць».)
[25] http://litvin.org/forum/index.php?method=showhtmllist&list=message&rollid=9%2C45&clearoff=1&.

сучасныя нацыі як «уяўныя супольнасці» (паводле вызначэння Б. Андэрсана), штучна сканструяваныя культурнымі і палітычнымі элітамі ў апошнія два-тры стагоддзі, другі — прымардыялісцкай трактоўцы, калі пад словам «нацыі» разумеюцца толькі новыя імёны для старажытных і амаль нязменных у часе супольнасцей, злучаных адзінствам паходжання. Абедзве гэтыя трактоўкі не задавальняюць аўтара, і ён прапануе нейкі прамежкавы варыянт. У дачыненні да перыяду ВКЛ ён аказваецца амаль ідэнтычным канцэпцыі Ермаловіча: «сучасная Літва не з'яўляецца працягам старажытнай Літвы», продкі сучасных літоўцаў «пакінулі свой след у гісторыі пад імем жмудзінаў альбо жамойтаў. І радзіма іх называлася Жмудзь».

Утварэнне ВКЛ пачалося «на тэрыторыях Заходняй Беларусі, вядомай у той час як Літва». Але ўносіцца новы прынцыповы момант: «Вельмі не правы тыя, хто спрабуе паказаць, што Белая Русь і старажытная Літва, маўляў, адно і тое ж… Унутры дзяржавы існавала дакладнае адрозненне — усходнія землі — гэта Русь, прычым Русь Белая, а заходнія — Літва».

Пры такой пазіцыі ў сучасных беларусаў аказваюцца два розныя продкі, ліцвіны і русіны, што дазваляе прыняць гістарычныя факты аб супрацьборстве паміж імі ў якасці «ўнутраных разборак» і асвоіць дзеянні тых і другіх у якасці сваёй законнай спадчыны. Канструктыўны зарад такога падыходу вельмі вялікі, і калі перад намі сапраўды прадукт стыхійнай «творчасці мас» (на карысць чаго гаворыць крыху хаатычны падбор фактаў), то гэта сведчыць пра аграмадны патэнцыял гэтых самых «мас». Палітыкам і ідэолагам, заклапочаным неабходнасцю кансалідацыі нацыі, тут ёсць чаму павучыцца.

Ідэі ліцвінізму аказалі ўздзеянне і на супрацьлеглы ідэалагічны лагер, які развівае ў сучасных умовах пастулаты «заходнерусізму». Паказальная ў гэтым плане кніга дактароў філасофскіх навук С. Лебедзева і Р. Стэльмашука «Белорусский феномен», выстаўленая на пачатку 2007 г. на сайце руху «Лукашэнка 2008» (мэтай якога, калі меркаваць па заявах стваральнікаў сайта, з'яўляецца палітычнае аб'яднанне Беларусі і Расіі на чале з прэзідэнтам Лукашэнкам). Найперш кніга адрасаваная рускай аўдыторыі, і тым больш дзіўна сустрэць у ёй амаль даслоўныя супадзенні з некаторымі палажэннямі кнігі І. Ліцвіна «Затерянный мир»: «Литовцы, страдающие всеми комплексами маленьких наций, вдохновляют себя воспоминаниями о своем великом прошлом, скромно умалчивая о том, что к Великому княжеству Литовскому их предки имеют такое же отношение, как корсиканцы к наполеоновской Франции». Зрэшты, пазіцыя Лебедзева і Стэльмашука адносна эліты ВКЛ цалкам традыцыйная для старэйшага пакалення: «Итак, Литовская Белая Русь, которая не была завоевана ни татарами, ни поляками, из-за национальной измены своей правящей элиты, усвоившей западные ценности в виде католицизма, польского языка и шляхетской вольности, превратилась в нищую закабаленную польскую провинцию»[26].

Вышэйзгаданы Антоні Запалота ставіўся да перспектыў ліцвінізму скептычна: «Ліцвінізм» заняў пазіцыю выразна на маргінэсе ў беларускім нацыянальным руху, а таму не павінен прэтэндаваць на штосьці, апроч ролі рамантычнае плыні маладых беларускіх адраджэнцаў»[27]. З ім згодны гісторык Ігар Марзалюк, які адмаўляе ідэю двух продкаў беларускага этнасу: «Рэальны кантынуітэт існуе акурат паміж рускай супольнасцю беларускіх зямель ВКЛ і намі, сучаснымі беларусамі. Пошукі беларусаў-ліцвінаў — марная справа»[28]. Але ў масавай свядомасці маладога пакалення, калі меркаваць па дыскусіях у інтэрнэце, гэтая канцэпцыя замацавалася так трывала, што можна казаць не пра «маргінэс», а хутчэй «мэйнстрым».

Паказальны абмен думкамі адбыўся ў ліпені 2007 г. на апазіцыйным сайце «Хартыя-97»[29]. Нагодай для яго стала інфармацыйнае паведамленне пра тое, што

[26] Лебедев С.В., Стельмашук Г.В. Белорусский феномен // http://www.lukashenko2008.ru/articles/biblioteka/78.

[27] Antoni Zapałota. «Litvanija» ci Eūropa?

[28] Марзалюк І. Сімптомы «пажаданай гісторыі» // Arche. 2008. № 3 // http://arche.bymedia.net/2008-03/marzaliuk803.htm.

[29] http://www.charter97.org/ru/news/2008/7/6/7950/comments.

Літва ў чарговы раз адсвяткавала Дзень дзяржавы, прымеркаваны да гадавіны каранацыі Міндоўга. Адзін з наведвальнікаў сайта, які падпісаўся як «Беларус», пакінуў паблажлівы каментар: «Відаць літоўцы кепска сваю гісторыю ведаюць. Міндоўг сапраўды быў першым каралём Літвы, але.... Літвы летапіснай, той, што была размешчаная паміж Менскам, Пінскам і Навагрудкам. А гэта цэнтральная частка Беларусі! І жылі там балты (наагул, гэта да сёння спрэчнае пытанне), але — іншыя! І тыя балты — нашыя з вамі продкі. А вось да літоўцаў сучасных яны не маюць АНІЯКІХ [вылучана аўтарам. — *В.Н.*] адносінаў. Так што Міндоўг, Гедымін, Альгерд і іншыя — гэта нашыя з вамі беларускія князі».

Другі ўдзельнік, які падпісаўся як «Таксама беларус», адрэагаваў на гэтую рэпліку «дзіцячым» пытаннем: «А чаму ж нашыя вялікія продкі Міндоўг, Гедымін, Альгерд празвалі сваю дзяржаву менавіта літоўскай. Мова была беларускай, зямля беларуская, а княства літоўскае — нелагічна. Пытанне без падвоху. Проста цікава». Гэтае пытанне выклікала цэлую плойму тлумачэнняў, сутнасць якіх аднадушна зводзілася да таго, што ў часы ВКЛ тэрмін «ліцвіны» фактычна адыгрываў ролю этноніма беларусаў: «Да сярэдзіны 18 стагоддзя тэрыторыя сучаснай Беларусі называлася «Літва», а беларусы называліся «ліцвіны». Продкаў жа сучасных літоўцаў называлі «жмудзь». «Назвалі нас беларусамі значна пазней, чым узнікла Вялікае Княства, але гэта не значыць, што яго (ВКЛ) не будавалі нашыя кроўныя продкі», і т.п.

Гэткая актыўнасць удзельнікаў форуму стала нечаканасцю для іх саміх. Нехта «Влодэк» з задавальненнем канстатаваў: «А колькі каментароў! Файна! Прачынаецца годнасць ліцвіна, прачынаецца прага ўласнай гісторыі. Уявіць такое 30 гадоў таму проста немагчыма. 20 гадоў таму — усведамленне сябе народам Незалежнай Беларусі, сёння ўжо гэтага недастаткова: людзі жадаюць ведаюць: «чаму мы беларусы, а спадчына наша літоўская?». Надыдзе час — вернем сабе нашую старажытную спрадвечную назву — Літва і нашую сталіцу Вільню. Кола гісторыі грукоча». Канцоўка каментара гучыць па-экстрэмісцку, і ў гэтым аўтар каментара не самотны. Вельмі паказальны нават адказ самога «Беларуса», які ініцыяваў гэтую дыскусію: «Мы не літоўцы і **не беларусы** [вылучана мной. — *В.Н.*], мы — ліцвіны». Як бачым, для некаторых прыхільнікаў ідэі ліцвінізму яна стала альтэрнатывай беларускай ідэнтычнасці. З пункту гледжання нацыянальнай кансалідацыі гэта гучыць неспакойна, тым больш што яшчэ адзін удзельнік — «Бульбашъ» — развіў гэтае супрацьпастаўленне: «Цяперашнія беларусы нічога агульнага не маюць з ВКЛ, апроч тэрыторыі... Беларусы выразна прагаласавалі ў 1995 супраць Пагоні, то бок сваёй прыналежнасці ВКЛ».

У гэтай сувязі захоўваюць актуальнасць асцярогі, выказаныя ў 2000 г. А. Запалотам, які адзначаў, што ліцвінізм здольны адрадзіць канфрантацыю паміж каталіцкай і праваслаўнай канфесіямі сярод беларусаў: «Ці на карысць цяпер было б адкопваць тыя гістарычныя карані, пад якімі пахаваная іржавая зброя братабойчых звадаў?». Пэўныя падставы для непакою ёсць. Адзін з гарачых прыхільнікаў ліцвінізму, гісторык Аляксандр Белы, паводле ягонага ўласнага прызнання, пачынаў са свядомай правакацыі, выступаючы на форумах пад псеўданімам Mann Kurt. На старонках газеты «Літва» ў 2003 г. ён заяўляў: «Хіба Афанасій Філіповіч і Андрэй Баболя — пакутнікі адной нацыі? Такое ўяўленне можа існаваць толькі ў постмадэрнісцкай галаве, прамытай крэтынісцкімі СМІ… Немагчыма прымусіць нас жыць разам. Гэта гвалт супраць абодвух»[30].

Гарачыя заявы, якія выказваюцца на форумах, здзіўляльна кантрастуюць з той роляй, якую адводзілі ВКЛ распрацоўшчыкі новай афіцыйнай ідэалогіі беларускай дзяржавы. Выступаючы ў сакавіку 2003 г. на семінары па пытаннях дасканалення ідэалагічнай працы, прэзідэнт А. Лукашэнка ў сваім дакладзе адзначыў: «Беларусы не ўнаследавалі ад продкаў цэласнай ідэалогіі незалежнай дзяржаўнасці. Мы па праве ганарымся тым, што наша беларуская мова ў Вялікім Княстве Літоўскім пэўны час была афіцыйнай мовай. Але нікому, нават самаму зацятаму нацыяналісту, не прыйдзе

[30] Літва. 2003. № 22. Цыт. паводле: Бацюкоў А. Найноўшае ліцвінства як праект карэкцыі сучаснасці // Arche. 2007. № 12 // http://arche.bymedia.net/2007-12/baciukou712.htm.

да галавы сцвярджаць, што Вялікае Княства Літоўскае было самастойнай беларускай дзяржавай са сваёй беларускай дзяржаўнай ідэалогіяй»[31].

Цяжка паверыць, што людзі, якія рыхтавалі для прэзідэнта гэты даклад, не ведалі, што «зацятыя нацыяналісты» сцвярджалі і працягваюць сцвярджаць менавіта гэта. Дастаткова прыгадаць, што іх прызнаны лідар Зянон Пазняк у кастрычніку 2005 г. прапанаваў перайменаваць Рэспубліку Беларусь у Вялікае Княства Літоўскае Беларусь (скарочана — Беларусь), што, на ягоную думку, дапаможа замацаваць канцэпт нацыянальнай дзяржавы, што вядзе свае вытокі ад ВКЛ, у масавай свядомасці беларусаў: «Задача беларускай інтэлігенцыі, адукацыі, асветы і нацыянальнай літаратуры — вярнуць гістарычную свядомасць народа ў родную хату — у Вялікае Княства Літоўскае. Наступны абавязковы этап — палітычны: вярнуць афіцыйную назву дзяржавы. Калі гэтага не зрабіць — значыць будаваць незалежнасць на пяску, запраграмаваць непаўнацэннае, надтрэснутае грамадства з кволай самаідэнтыфікацыяй, поўнае супярэчнасцяў на роўным месцы і абсурдных спрэчак па недыскусійных пытаннях»[32].

Тое, што пытанне аб спадчыне ВКЛ мае палітычную афарбоўку і выкарыстоўваецца ў барацьбе за электарат, не выклікае сумневаў. Пададзены вышэй аналіз колькаснага складу груп, здольных прыняць кожны з альтэрнатыўных пунктаў гледжання, паказвае, што прэзідэнт знаходзіцца ў відавочна спрыяльнай пазіцыі. Больш за тое, менавіта гэтым сацыяльна-дэмаграфічным раскладам шмат у чым тлумачацца вынікі палітычнай барацьбы з моманту ўтварэння незалежнай Беларусі. Таму для А. Лукашэнкі і ягоных прыхільнікаў перавод пытання пра ВКЛ у палітычную плоскасць быў адназначна выйгрышным ходам, чаго нельга сказаць пра ягоных сапернікаў. Бо давер да палітыка складаецца з даверу да ягоных выказванняў, і калі хаця б адно з іх выклікае ў аўдыторыі відавочны пратэст альбо здзіўленне, гэта адбіваецца на ягоным цэльным вобразе.

Але, як ужо адзначалася, «кола гісторыі грукоча». Старэйшае пакаленне паціху сыходзіць са сцэны, а новае, горача зацікаўленае ў гістарычным абгрунтаванні сваёй ідэнтычнасці, на гэтую сцэну выходзіць. Для ўлады было б вялікай памылкай ігнараваць катэгарычную нязгоду значнай часткі ягоных прадстаўнікоў весці адлік «ад бээсэсэры», якая для іх, у адрозненне ад старэйшага пакалення, не напоўненая жывымі ўспамінамі. Спроба «пераламаць» іх з дапамогай татальнай ідэалагічнай апрацоўкі ў духу УЛКСМ наўрад ці будзе мець поспех у нашым сучасным свеце, пранізаным некантралюемымі плынямі інфармацыі. Альтэрнатыўныя меркаванні ўвесь час будуць грукацца ў свядомасць, а іх высокая канкурэнтаздольнасць менавіта для гэтага пакалення не выклікае сумневаў.

Таму варта чакаць, што вастрыня палітычнага супрацьстаяння вакол ВКЛ у Рэспубліцы Беларусь хутка зменіцца спробай улад «перанесці гульню на палову саперніка», прызнаўшы значэнне гэтай дзяржавы і яе спадчыны. Што тычыцца гістарычнай памяці беларусаў, то ёй гэта пойдзе толькі на карысць.

*Перакладзена з рускай мовы паводле:*
Lietuvos Didžiosios Kunigaikštijos tradicija ir tautiniai naratyvai / Leidinį sudarė: A. Bumblauskas, G. Potašenko. Vilnius: Vilniaus universiteto leidykla, 2009. С. 301—320.

---

[31] Лукашенко А.Г. Сильная и процветающая Беларусь должна иметь прочный идеологический фундамент: Доклад Президента А.Г. Лукашенко на постоянно действующем семинаре руководящих работников республиканских и местных государственных органов по вопросам совершенствования идеологической работы // Советская Белоруссия. 2003. 28 марта.

[32] Пазняк З. ВКЛ (урывак з артыкула «Прамаскоўскі рэжым») // http://www.pazniak.org/mdl.php?mdl=art&cat=9&art=60.

# Дэмаграфія, заселенасць

Утварэнне ВКЛ у XIII—XIV стст. адбывалася на фоне серыі глыбокіх дэмаграфічных крызісаў, якія закранулі ўсю Усходнюю Еўропу. Татарскае нашэсце ў 1239—1242 гг. і наступныя карныя паходы (на Беларусі і Літве асабліва паход Бурундая 1258 г.) не толькі прывялі да фізічнага вынішчэння мноства людзей, але прынеслі з Цэнтральнай Азіі новыя эпідэмічныя захворванні. Іх вынікам было таксама разбурэнне палітычнай і гандлёвай сістэмы Кіеўскай Русі, што адкрыла шлях да росту лакальных канфліктаў, абмежавала магчымасці падвозу харчавання ў выпадку неўраджаяў і ўскладніла процідзеянне рабаўнічым набегам літоўцаў. Шчыльнасць насельніцтва мусіла істотна паменшыцца ў параўнанні з пачаткам XIII ст., калі яе вельмі прыблізна можна ацаніць у 4—6 чал./км². Тэрыторыі, непасрэдна сумежныя з Залатой Ардой, абязлюдзелі практычна цалкам. Стварэнне новай устойлівай сістэмы ў межах ВКЛ расцягнулася да сярэдзіны XIV ст. і супала са з'яўленнем новай інфекцыі — лёгачнай чумы, якая таксама трапіла ў Еўропу з Азіі праз тэр. Арды. У Заходняй Еўропе чума скараціла насельніцтва прыблізна напалову. Падставы для колькасных ацэнак ва Усходняй Еўропе адсутнічаюць, але якасную ацэнку дае Ніканаўскі летапіс пад 1364 г.: «И бысть скорбь великая по всей земле, и опусте вся земля и порасте лесом, и бысть пустыни всюду непроходимые». У наступныя дзесяцігоддзі ўспышкі эпідэміі неаднаразова паўтараліся. Праявы дэмаграфічнага крызісу адчуваліся на працягу ўсяго XV ст., аб чым сведчаць пісьмовыя і археалагічныя звесткі (слабая выражанасць культурнага слоя амаль ва ўсіх гарадах, малыя колькасць і памеры сельскіх паселішчаў). На тэрыторыі Беларусі і Літвы шчыльнасць насельніцтва ў канцы XIV ст. можна ацаніць каля 2 чал./км², ва ўкраінскіх уладаннях ВКЛ яна была ніжэй за 1 чал./км² і зыходзіла амаль да нуля ў стэпах паўночнага Прычарнамор'я, якія атрымалі назву Дзікае поле. Агульную колькасць насельніцтва ВКЛ у межах 1385 г. можна вызначыць меней за 1 млн. чал., з іх на тэрыторыі Беларусі жылі каля 400 тыс., на тэрыторыі Літвы — ад 100 да 200 тыс. чал. Да пачатку XVI ст. насельніцтва Беларусі, магчыма, дасягнула 700—800 тыс. чал.

На працягу XVI — першай паловы XVII ст. у цэлым адбываўся ўстойлівы рост насельніцтва, які запавольваўся ў час войнаў. Для гэтага перыяду ёсць шэраг крыніц, якія прама ці ўскосна дазваляюць вызначыць колькасць двароў (дымоў) на пэўных тэрыторыях: пісцовыя кнігі Полацкай зямлі (1552), Клецкага княства (1552—1555), Пінскага староства (1552—1555 і 1561—1566), інвентары Мазырскай (1552), Гомельскай, Свіслацкай і часткі Магілёўскай (1560) валасцей, Берасцейскай эканоміі (1566) і шэрага іншых буйных маёнткаў, а таксама пописы войска ВКЛ 1528 і 1567 гг., у якіх ускосна адлюстравана колькасць службаў у шляхецкіх маёнтках на большасці тэрыторыі ВКЛ. Пераход гэтых лічбаў у непасрэдную колькасць насельніцтва патрабуе шэрага дапушчэнняў, таму ўсе разлікі на іх падставе застаюцца гіпатэтычнымі. Адна з праблем — сярэдняя населенасць двара. Паводле выбаркі інвентароў другой паловы XVI — першай паловы XVII ст., прааналізаванай З. і Б. Капыскімі, у 5663 сялянскіх дварах налічвалася 6969 малых сем'яў, што дае 1,2 шлюбнай пары на двор і блізка адпавядае адначасовым звесткам пісцовых кніг Вялікага Ноўгарада (1,3 шлюбнай пары). Пры такой структуры ў адным двары мусіла быць 5,5—6 чал. Паводле рэестра сярэбшчыны за 1553 г., шэраг уладанняў Віленскага біскупства ў Менскім павеце, плошчай па 50—100 км² кожнае, мела прыблізна па столькі ж двароў, што азначае шчыльнасць да 6 чал./км². У палітычным цэнтры дзяржавы (Віленскі, Ашмянскі і прылеглыя да іх часткі сумежных паветаў) шчыльнасць насельніцтва мусіла быць вышэйшай — да 10 чал./км². Бліжэй да перыферыі яна паніжалася. Сельскае насельніцтва Полацкай зямлі (22 тыс. км²) у 1552 г. налічвала больш за 7,6 тыс. двароў, гарадское — больш за 1,7 тыс. двароў, што дае разам 52—56 тыс. чал.,

або каля 2,5 чал./км². Пры гэтым большасць жыхароў канцэнтравалася ў паўднёвай частцы зямлі, на левабярэжжы Дзвіны, шчыльнасць там была каля 5 чал./км², а ў Задзвінні — каля 1 чал./км². У Мазырскай воласці (3,5 тыс. км²) у 1552 г. было каля 800 двароў, у горадзе — 267, што дае 6—6,4 тыс. чал. (1,7—1,8 чал./км²). Яшчэ радзей была заселена ўскраінная Гомельская воласць, у 1537 г. адваяваная ў Маскоўскай дзяржавы. У 1560 г. там на плошчы 4,5 тыс. км² налічвалася 202 двары і крыху больш за 1 тыс. чал., што дае шчыльнасць менш за 1 чал. на 3 км². Ацэнкі на падставе попісаў 1528 і 1567 гг. грунтуюцца на шэрагу гіпатэтычных параметраў: дакладнасці, з якой пэўная колькасць коннікаў адпавядала колькасці службаў падданых (у 1528 г. яна мусіла адпавядаць 8 службам, у 1567 г. — 10, але невядома, як было на самой справе); суадносінах паміж службамі і дварамі (ацэнкі вагаюцца ад 2 да 3 двароў на 1 службу); уліку колькасці двароў у гарадах, а таксама ў дзяржаўных і царкоўных маёнтках, з якіх коннікі ў войска не выстаўляліся (у 1567 г. на тэрыторыі Беларусі такія маёнткі займалі каля 1/3 агульнай плошчы, але больш было на ўскраінах дзяржавы, таму доля іх насельніцтва магла быць меншай); нарэшце, у кожным попісе адсутнічаюць звесткі па некаторых паветах (у 1528 г. — па Аршанскім, Кіеўскім, Мазырскім, Рэчыцкім і Падоллі, у 1567 г. — па большасці Аршанскага і Рэчыцкага, цалкам па Віцебскім, Кіеўскім, Полацкім паветах, Падоллі). Можна прыняць, што ў 1528 г. насельніцтва ВКЛ складала крыху больш за 2 млн. чал., з іх на тэрыторыі Беларусі каля 1 млн. чал. (пры сярэдняй шчыльнасці 4,3 чал./км²), Літвы 550 тыс. чал. (9,4 чал./км²), на Падляшшы 160 тыс. чал. (14,1 чал./км²), на Украіне 220 тыс. чал. (1,6 чал./км²). Пры гэтым колькасць шляхты (разам з сем'ямі) складала прыблізна 50 тыс. чал., гарадскога насельніцтва — 200—250 тыс. чал. Да 1567 г. насельніцтва ВКЛ вырасла прыкладна да 3 млн. чал., пры гэтым на Беларусі, асабліва на ўскраінах, прырост мог быць больш інтэнсіўны, чым у Літве. На тэрыторыі, што засталася ў складзе ВКЛ пасля Люблінскай уніі, колькасць насельніцтва на 1569 г. можна ацаніць у 2,6 млн. чал., з іх каля 1,8 млн. чал. на Беларусі і 0,8 млн. чал. у Літве.

Перыяд дэмаграфічнага росту працягваўся да сярэдзіны XVII ст., але больш нізкімі тэмпамі, бо шчыльнасць насельніцтва ў Літве і паўночна-заходняй Беларусі наблізілася да максімуму, які забяспечваўся тагачасным узроўнем гаспадаркі — 16—20 чал./км². Дэмаграфічныя разлікі на 1650 г. прапанаваў польскі даследчык Ю. Можы, абапіраючыся на зводную статыстыку тарыфаў падымнага падатку. Пры гэтым ён завысіў населенасць 1 дыма, прымаючы яе роўнай 8 чал. Масавы аналіз інвентароў сведчыць, што ў другой палове XVII—XVIII ст. на двор прыпадала ў сярэднім 1,5 шлюбнай пары, або 6,5—7 чал. Такая папраўка да разлікаў Можы дае лічбу насельніцтва ВКЛ на 1650 г. (без Інфлянтаў, Смаленскага і Старадубскага пав.) каля 3,1 млн. чал., з іх у Літве — каля 920—950 тыс. чал., у пераважна беларускіх паветах — 2,1 млн. чал. (плошча гэтых паветаў складала 245 тыс. км², апрача Беларусі яны ахоплівалі 4,7 тыс. км² тэрыторыі сучаснай Літвы і 33 тыс. км² Расіі, Украіны і Польшчы). Шчыльнасць насельніцтва ў Літве была каля 16 чал./км², у сярэднім па Беларусі — больш як 8,5 чал./км², пры гэтым яна змянялася ад 17 чал./ км² у Берасцейскім і Ваўкавыскім пав. да 2,8 чал./км² у Мазырскім і 1 чал./км² — у Рэчыцкім (гэтыя паветы пацярпелі ў час казацкіх нападаў у 1648—1649 гг.). Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг. выклікала сапраўдную дэмаграфічную катастрофу. Трывалае насельніцтва ВКЛ скарацілася ў 1667 г. да 1,7 млн. чал., у некаторых паветах — у 2—3 разы. У пераважна беларускіх паветах засталося крыху больш за 1,1 млн. чал. Праўда, не ўлічанымі застаюцца бадзягі і жабракі, колькасць якіх у пасляваенныя гады, магчыма, дасягала дзясяткаў і нават сотняў тысяч. Наступнае паўстагоддзе было часам, калі колькасць насельніцтва моцна вагалася. Яна павольна аднаўлялася да ўзроўню 2,5 млн. чал. (на Беларусі — 1,9 млн. чал.) у 1690 г., а да канца XVII ст. — прыблізна да 2,8 млн. чал., але ў час Паўночнай вайны 1700—1721 гг. была зноў адкінута да ўзроўню 1660-х гг. — 2 млн. чал., з іх на Беларусі — 1,5 млн. чал.

Новы перыяд трывалага дэмаграфічнага ўздыму пачаўся ў 1730-я гг. і працягваўся да канца існавання ВКЛ. Дэмаграфічныя параметры другой паловы XVIII ст.

можна высветліць з дапамогай метрычных кніг і тарыфаў падымнага падатку. Нараджальнасць у гэты час вагалася на ўзроўні 55—60 праміле, смяротнасць — ад 45 да 50 праміле, што забяспечвала штогадовы прырост ад 1 да 1,5 %. Колькасць насельніцтва дасягнула ўзроўню сярэдзіны XVII ст. у канцы 1760-х гг., але на гэты раз у Літве было каля 740 тыс. чал., у пераважна беларускіх паветах — каля 2,4 млн. чал. У 1772 г. да Расіі адышла тэрыторыя плошчай каля 73 тыс. км$^2$ з насельніцтвам 1,1 млн. чал. (без уліку Інфлянтаў). Плошча ВКЛ скарацілася да 229 тыс. км$^2$, з іх у пераважна бел. паветах — 171 тыс. км$^2$. Яго насельніцтва складала ў 1772 г. каля 2,1 млн. чал., у беларускай частцы — 1,4 млн. чал. Напярэдадні другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1792 г. у ВКЛ налічвалася 3,3 млн. чал., у т.л. у пераважна беларускіх паветах — 2,35 млн. чал. Гарадское насельніцтва складала 275 тыс. чал., альбо 11,7 % жыхароў беларускіх паветаў. Шчыльнасць насельніцтва найбольшай была ў застаўшайся частцы Полацкага пав., у Берасцейскім, Ваўкавыскім, Гарадзенскім і Лідскім паветах — на ўзроўні 19—20 чал./км$^2$. У Ашмянскім пав. яна дасягала 17, у Браслаўскім, Навагародскім, Слонімскім і застаўшайся частцы Аршанскага пав. — 13—14, у Менскім, Пінскім і застаўшайся частцы Рэчыцкага пав. — 9—11, у Мазырскім пав. — менш як 5, у Літве — каля 16 чал./км$^2$. На тэрыторыі, што належала Расіі, было ў той час 1,37 млн. чал., у т.л. у гарадах 130 тыс. чал., ці 9,5 %. Сярэдняя шчыльнасць насельніцтва там была каля 19 чал./км$^2$, а па ўсёй Беларусі — 15,3 чал./км$^2$.

Літ.: Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w 2 połowie XVII wieku. Poznań, 1965; Ochmański J. Zaludnienie Litwy w roku 1790 // Zeszyty naukowe Uniwersytetu im. Adama Mickiewicza. Historia. 1967. Z. 7; Карпачев А.М., Козловский П.Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII—XVIII вв. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1968 г. Л., 1972; Jasas R., Truska L. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gyventojų surašymas 1790 m. Vilnius, 1972; Капыскі З., Капыскі Б. Беларуская вёска і яе насельніцтва ў канцы XVI — першай палове XVII стст.: Вопыт дэмаграфічнай характарыстыкі // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 2; Łowmiański H. Zaludnienie państwa litewskiego w wieku XVI. Zaludnienie w roku 1528. Poznań, 1998.

*Друкуецца паводле:*
Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 1. Мінск, 2005. С. 55—57.

# Мікрагісторыя: мінулае ў чалавечым вымярэнні

**Артыкул падрыхтаваны ў рамках даследавання, падтрыманага грантам Research Support Scheme 1003/1997.**

З вышыні сённяшняга дня відавочна, што для народаў былога Савецкага Саюза ўвогуле і для беларусаў у прыватнасці гады савецкай улады былі не толькі часам дасягнення ўсеагульнай адукаванасці і засваення набыткаў тэхнічнай цывілізацыі, але таксама і часам разрыву гістарычнай памяці, духоўнай сувязі з мінулымі пакаленнямі. Адна з прычын — выразная «дэперсанізацыя» гісторыі, якую інтэрпрэтавалі як сферу дзейнасці безасабовых «народных мас», класаў і сацыяльных груп. Стан масавай свядомасці ў значнай ступені вызначаўся ідэалагічным клішэ — *сапраўдная гісторыя пачалася ў 1917 г.* Дзвюма найбольш яркімі падзеямі, што трывала перакрывалі ўсе ніжэйшыя пласты, былі часткова грамадзянская вайна 1918—1920 гг. і асабліва вайна 1941—1945 гг.

Пасля знікнення савецкага рэжыму пачаўся працэс аднаўлення страчанай «повязі часоў». Ён адбываўся на фоне знікнення «жалезнай заслоны», якая адносна надзейна адгароджвала свядомасць савецкага чалавека ад «шкодных уплываў Захаду», і пасля дзесяцігоддзяў ізаляцыі жыхары постсавецкай прасторы сутыкнуліся з атмасферай напружаных дыскусій, што панавалі ў замежнай гістарычнай навуцы. Тады высветлілася, што не зусім зразумела нават, што гэта значыць увогуле — *ведаць сваё мінулае*?

Для прадстаўніка першабытнага грамадства адказ на гэтае пытанне зводзіўся да ведання генеалогіі свайго роду, комплексу родавых паданняў, што насілі пераважна міфічны характар, а таксама рытуалаў і правілаў этыкету, асвячоных аўтарытэтам продкаў. У еўрапейскай цывілізацыі доўгі час дамінаваў «падзейны» погляд на гісторыю, які склаўся яшчэ ў часы сярэдневяковых храністаў. Гістарычны працэс уяўляўся як серыя «гістарычных падзей» агульнаграмадскай значнасці, якія разрывалі ціну штодзённасці. Сама па сабе гэтая штодзённасць ніякай цікавасці не ўяўляла, памятаць пра яе — значыла абцяжарваць памяць непатрэбным баластам, які імкнуліся адсеяць ужо стваральнікі летапісаў і хронік. «Веданне гісторыі» ў такой атмасферы зводзілася да пераліку кіраўнікоў, іх дзеянняў, войнаў і бунтаў, адным словам — таго, што сёння вызначаецца тэрмінам «палітычная гісторыя». Характэрна, што нават спіс панаванняў быў заведама няпоўным — цікавасць уяўлялі толькі «адметныя» дзеячы. Функцыя адбору ад храністаў перайшла да гісторыкаў, якія вырашалі, што сярод даволі аднастайных у масе сваёй панаванняў і войнаў вартае ўвагі, а што павінна адысці ў забыццё.

Усялякі адбор непазбежна суб’ектыўны. Усведамляючы гэта, частка гісторыкаў ужо ў XIX стагоддзі спрабавала адмовіцца ад яго, фіксуючы ўсю інфармацыю, захаваную крыніцамі. Дзеля гэтага яе, натуральна, давялося групаваць па кірунках. На гэтым прынцыпе, які непрыкметна зліўся з адвечнай чалавечай прагай да збірання калекцый, сфарміраваліся «дапаможныя» гістарычныя дысцыпліны — у прыватнасці, генеалогія. Вартым увагі абвяшчаўся кожны ўладар і ўвогуле гістарычны персанаж, які прыгадваецца ў хроніках ці дакументах. Радаводныя дрэвы панавальных дынастый абрасталі ўсё больш дэталёвай інфармацыяй: улічваліся заблытаныя шлюбныя сувязі, тытулы, фіксаваліся нават дзеці, што памерлі немаўлятамі. Ад генеалогіі каралёў і князёў даследчыкі паступова пераходзілі да рыцарства, купецтва, непрывілеяваных станаў. З захапленнем аддаючыся гэтаму занятку, генеалогі даволі няўтульна адчувалі сябе, сутыкаючыся з каверзным пытаннем: а каму і навошта патрэбна настолькі дэталёвая інфармацыя? Да таго ж веданне імёнаў, дат нараджэння і смерці гістарычных персанажаў само па сабе мала што давала для разумення іх жыцця.

Спроба ўлічыць усе факты мінулага, што захаваліся, непазбежна прыводзіла да звужэння поля зроку даследчыка да маленечкай галіны вузкаспецыяльных ведаў. На гэтай глебе нарадзіўся сумны жарт наконт таго, што ідэальны спецыяліст — гэта той, хто ведае ўсё пра нішто. Імкненне назапашваць веды «на ўсялякі выпадак» не сустракала разумення нават у многіх гісторыкаў, не кажучы ўжо пра шырокую публіку, якая чакала ад іх своеасаблівага «экстракту» найбольш значных звестак. Але хутка высветлілася, што ў самім грамадстве ўяўленне пра тое, якая інфармацыя неабходная, а якая залішняя, зусім не заставалася нязменным.

Вельмі радыкальны погляд на каштоўнасць гістарычнай інфармацыі прапанавалі, напрыклад, марксісты. Яны трактавалі палітычную гісторыю з усімі яе зменамі дынастый, войнамі, ростам і падзеннем імперый як своеасаблівую «рабізну на вадзе», якая толькі перашкаджала бачыць сапраўдны, глыбінны сэнс гістарычных працэсаў. Сэнс гэты зводзіўся, паводле марксісцкай канцэпцыі, да непарыўнага развіцця спосабаў і сродкаў здабывання з навакольнага асяроддзя неабходных людзям рэсурсаў (вытворчых сіл грамадства) і спосабаў размеркавання гэтых рэсурсаў паміж імі (сацыяльных адносін). Адпаведна, гістарычную каштоўнасць уяўляюць толькі тыя факты, якія дазваляюць вызначыць або тое, як у пэўным грамадстве ствараліся спажывецкія даброты (эканамічная гісторыя), або тое, як яны размяркоўваліся (сацыяльная гісторыя ў вузкім сэнсе). Што тычыцца палітычнай гісторыі, то для яе цікавасць павінны ўяўляць толькі праявы барацьбы розных грамадскіх груп (класаў) за пераразмеркаванне грамадскіх даброт. Усе іншыя, нават самыя вонкава яскравыя падзеі, з'яўляюцца неістотнымі.

У найбольш поўным выглядзе такі падыход быў рэалізаваны менавіта ў савецкай гістарычнай навуцы, дзе ён непадзельна панаваў прыкладна палову стагоддзя (з канца 1920-х гг. да гарбачоўскай *перабудовы*). Далёка не выпадкова, што «асабова арыентаваныя» кірункі — генеалогія, стварэнне гістарычных біяграфій, нават краязнаўства — прыйшлі на тэрыторыі СССР у глыбокі заняпад. Асоба выклікала інтарэс толькі сваёй прыналежнасцю да пэўнага класа, не больш. Пра наступствы такой «дэперсанізацыі» гісторыі сказана ўжо шмат. Склалася парадаксальная сітуацыя: гісторыя як навука, з аднаго боку, павінна была зберагаць і вывучаць звесткі пра мінулае, якія цудам дайшлі да нас праз стагоддзі. З другога боку, яна ўзяла на сябе ролю фільтра, які засцерагаў грамадскую свядомасць ад «залішняй» інфармацыі пра гэтае ж мінулае — фільтра настолькі жорсткага, што часам ён нагадваў непранікальны экран.

У гады, калі сацыяльна-эканамічная праблематыка станавілася панавальнай тэмай у савецкай (а шмат у чым — і ў заходняй) гістарыяграфіі, у Францыі славутая школа «Аналаў» кінула выклік ідэі «фільтра» як такой. Падобна марксізму (да якога былі ідэйна блізкімі некаторыя заснавальнікі гэтай школы, у прыватнасці — М. Блок), яна таксама трактавала палітычныя падзеі як «рабізну на вадзе». Але сэнсам дзейнасці гісторыка абвяшчалася не вычляненне галоўных рухальных фактараў, а рэканструкцыя менавіта той штодзённасці, якую ігнараваў «падзейны» погляд. Размова ішла пра стварэнне *татальнай гісторыі*, якая б ахоплівала ўсе аспекты дзейнасці мінулых пакаленняў і ўсе матывы, якія стаялі за іх учынкамі[1]. Адзін з галоўных ідэолагаў гэтай школы Фернан Брадэль настойліва абвяшчаў мэтай рэканструкцыю мінулага менавіта ў яго штодзённым, руцінным увасабленні. Асабліва яго цікавіла, у якой ступені дзейнасць чалавека вызначалася жорстка зададзенымі «правіламі гульні» (*структурамі* ў яго тэрміналогіі) — кліматычнымі ўмовамі, дэмаграфічнымі фактарамі, інфраструктурай і тэхнічным узроўнем працы, калектыўнымі ўяўленнямі і маральнымі нормамі. Паказальная праграмная назва яго кнігі — «Структуры штодзённасці: магчымае і немагчымае»[2], выдадзенай у Савецкім Саюзе толькі з пачаткам перабудовы.

Пры такім падыходзе каштоўнасць набывалі тыя з'явы, якія здаваліся хроністам або залішнімі, або настолькі відавочнымі, што яны калі і прыгадвалі іх, то між іншым.

---

[1] Burke P. The French Historical Revolution: The «Annales» School, 1929—1989. Cambridge, 1990; Гуревич А.Я. Исторический синтез и Школа «Анналов». Москва, 1993.

[2] Бродель Ф. Структуры повседневности: возможное и невозможное. Москва, 1986.

«Татальную» карціну штодзённасці даводзілася аднаўляць літаральна па драбках. Пры гэтым на макраўзроўні яна ўсё роўна атрымлівалася эскізнай, фрагментарнай. Здзейснены школай «Аналаў» пераварот у ацэнках парадзіў неабходнасць дэталёвай прапрацоўкі асобных тэм і сюжэтаў, што выклікала сярод гісторыкаў паўторную хвалю вузкай спецыялізацыі і з'яўленне цэлага шэрага новых «дапаможных» дысцыплін, або «вузкіх гісторый»: гісторыі харчавання, гісторыі дзяцінства, гісторыі злачыннасці і г.д., аж да гісторыі псіхічных расстройстваў і сексуальных ненармальнасцей. Усе яны сёння разглядаюцца, як правіла, у рамках адзінага кірунку — сацыяльнай гісторыі ў шырокім сэнсе[3].

Найбольшы рэзананс сярод гэтых кірункаў выклікалі так званыя гендарныя даследаванні (*gender studies*), або гісторыя полаў, шчыльна звязаная з феміністцкім рухам. З уласцівым апошняму радыкалізмам была сфармуляваная выснова пра тое, што ўся напісаная папярэднімі пакаленнямі гісторыя ўяўляе сабой, па сутнасці, толькі *his-story*[4] — гісторыю мужчын, напісаную самімі мужчынамі з пазіцый «мужчынскага шавінізму». З гэтага вынікала неабходнасць «перапісаць гісторыю нанова», а ў больш памяркоўным варыянце — дапоўніць яе праблемамі, якіх не хапае, адлюстраваць рэальныя ўзаемаадносіны полаў, іх ролю ў вытворчай, культурнай і іншай дзейнасці. Нягледзячы на экстрэмісцкія выдаткі, такі падыход стаўся вельмі прадукцыйным, дазволіўшы па-новаму зірнуць на многія звыклыя стэрэатыпы.

Яшчэ адной характэрнай прыкметай пераходу гісторыі ў «чалавечае вымярэнне» стаў новы наплыў цікавасці да генеалогіі. З предмета даследаванняў вузкай групы прафесіяналаў яна ператварылася ў поле дзейнасці сапраўднай арміі аматараў, якія з захапленнем аднаўлялі ўласныя радаводы на падставе архіўных матэрыялаў. У многіх краінах генеалагічныя таварыствы, што аб'ядноўваюць такіх генеалогаў-аматараў, налічаюць тысячы актыўных сяброў. Веданне кожным прадстаўніком грамадства свайго паходжання на глыбіню, прынамсі, некалькіх пакаленняў паступова становіцца неад'емнай часткай еўра-амерыканскага ўяўлення пра тое, што значыць «ведаць гісторыю».

Прынцыповая адмова ад падзелу гістарычных з'яў на значныя і нязначныя наблізіла гісторыю да маштабу чалавечай асобы, але адначасова абвастрыла праблему апрацоўкі вялізных масіваў інфармацыі. Распад плыні гістарычных даследаванняў на мноства асобных струменьчыкаў не мог, зразумела, задаволіць ні грамадства, ні саміх гісторыкаў. Пачала адчувацца неабходнасць новага сінтэзу, стварэння цэласнай карціны, але на новым узроўні, які б уключаў усю суму дасягненняў «вузкіх гісторый». Гэты сінтэз яшчэ далёка не завершаны. Хутчэй, ідзе толькі пошук шляхоў, здольных прывесці да яго.

На ролю аднаго з такіх шляхоў прэтэндуе *мікрагісторыя* — кірунак, які аформіўся першапачаткова ў Італіі ў 1970-я гг. Неўзабаве ён заваяваў трывалыя пазіцыі таксама ў Германіі, ЗША, Францыі. Мікрагісторыя ставіць сваёй мэтай аднаўленне суцэльнай карціны хоць бы ў маштабах аднаго паселішча або групы паселішчаў (мікрарэгіёна), вузкай сацыяльнай групы, а часам нават у маштабе адной сям'і або індывідуальнай біяграфіі[5]. Зразумела, пры гэтым узрастае рызыка «за дрэвамі не ўбачыць лесу». Як

---

[3] Репина Л.П. Смена познавательных ориентаций и метаморфозы социальной истории // Социальная история. Ежегодник, 1997. Москва, 1998. С. 11—52. У іншых артыкулах гэтага зборніка можна знайсці прыклады выкарыстання расійскімі гісторыкамі метадаў гендарнай, этнасацыяльнай гісторыі і іншых новых кірункаў.

[4] Гульня слоў, заснаваная на сугучнасці англійскага слова *history* «гісторыя» і словазлучэння *his story* «яго аповед».

[5] Grendi E. Micro-analisi e storia sociale // Quaderni Storici. 1977. V. 35. P. 506—520; Schulze W. Mikrohistorie versus Makrohistorie? Anmerkungen zu einem aktuellen Thema. In: Meier C. und Rusen J. (Hg.). Historische Methode. (Theorie der Geschichte. Beitrage zur Historik 5). München, 1988. S. 319—341; Levi G. On Microhistory. In: Burke P. (Ed.). New Perspectives on Historical Writing. Oxford, 1991. P. 93—113; Medick H. (Hg.). Mikro-Historie. Neue Pfade in die Sozialgeschichte. Frankfurt a.M., 1994; Медик Х. Микроистория // THESIS. 1994. Т. 2. Вып. 4. С. 193— 202.

палемічна заўважыў беларускі гісторык А. Бухавец, «з такіх індывідуальных гісторый, нават калі б яны былі напісаны па ўсіх паселішчах — усё роўна *прынцыпова немагчыма* (курсіў аўтара. — *В.Н.*) скласці цалкам «калектыўную» гісторыю»[6]. Размова, аднак, ідзе не пра механічнае складанне адной вялікай гісторыі з мноства дробных, як мазаікі, а хутчэй пра спробы стварыць люстэрка, з дапамогай якога можна пад новым ракурсам зірнуць на вялікі свет. Ідэя гэтага падыходу грунтуецца на вядомым філасофскім прынцыпе, паводле якога вялікае адбіваецца ў малым, як Сусвет адлюстроўваецца ў кроплі расы.

Хацелася б падкрэсліць розніцу паміж мікрагісторыяй і краязнаўствам. Апошняе азначае драбленне аб'екта даследаванняў па тэрытарыяльным прынцыпе, калі з мноства падзей вылучаюцца тыя, што маюць дачыненне да дадзенай мясцовасці. З краязнаўчых нарысаў «па ўсіх паселішчах» сапраўды немагчыма механічна скласці поўную гісторыю краіны або рэгіёна, хоць такія нарысы можна разглядаць як адзін з відаў неабходнага «будаўнічага матэрыялу» для яе. Ідэя мікрагісторыі хутчэй нагадвае даследаванне асобнай клеткі пад мікраскопам з мэтай лепш зразумець функцыянаванне шматклетачнага арганізма. Клетка ў такім выпадку разглядаецца не як самастойная існасць, а як частка больш шырокай сістэмы, і цікавасць у першую чаргу ўяўляюць тыя яе характарыстыкі, што маюць агульнасістэмнае значэнне. У гэтым сэнсе англамоўнае паняцце *local history* («лакальная гісторыя») крыху заблытвае сітуацыю, бо ўжываецца ў дачыненні як да чыста краязнаўчых, так і да мікрагістарычных даследаванняў. Менавіта таму А. Макфарлейнам у 1977 г. было прапанавана вызначэнне «мікрасацыяльная гісторыя»[7]. Праўда, адзін з лідараў гэтага кірунку ў брытанскай гістарычнай навуцы Ч. Фіцьян-Адамс працягвае ўжываць тэрмін «лакальная гісторыя»[8].

У пэўным сэнсе мікрагісторыю можна трактаваць як сродак выяўлення *дакладна тыповага*. Савецкую гістарычную навуку многа і слушна папракалі ў адвольнай ілюстрацыйнасці, калі асобныя «тыповыя» факты, адвольна вырваныя з кантэксту, выкарыстоўваліся для падмацоўкі агульных разважанняў. Альтэрнатывай павінна было б стаць вывучэнне *ўсяго комплексу фактаў*, якія тычацца тэмы даследавання, і пабудовы высноў толькі на падставе іх аналізу. Але фактаў, якія тычацца нават параўнальна вузкіх праблем, бывае вельмі шмат. Поўны іх улік магчымы толькі праз статыстычную апрацоўку, якая непазбежна нараджае абагульненыя лічбы. Яны, на жаль, даюць слабае ўяўленне пра тыя індывідуальныя адхіленні, з якіх, уласна кажучы, і складаецца рэальнае жыццё. Узнікае дылема: ілюстрацыі на ўзроўні адзінкавых фактаў наглядныя і зразумелыя, але іх «тыповасць» недаказальная. З другога боку, статыстычны аналіз дазваляе строга абгрунтаваць высновы і падмацаваць іх разлікамі, але ён пазбаўлены нагляднасці і «чалавечага вымярэння».

Думаецца, што менавіта мікрагістарычны падыход у стане хоць бы часткова зняць гэтую дылему. Ён дае шырокі набор адзінкавых фактаў (на ўзроўні асобных чалавечых лёсаў), прычым параўнальна невялікі аб'ём аб'екта даследавання дазваляе *статыстычна дакладна* вызначыць месца кожнага такога факта ў маштабах вывучанай выбаркі (мікрарэгіёна). Наколькі гэтыя факты прыдатныя для ілюстрацыі агульнагістарычных высноў — залежыць ад тыповасці з'яў, што назіраюцца ў мікрарэгіёне, для грамадства ў цэлым. Тым самым праблема зводзіцца да ацэнкі рэпрэзентатыўнасці выбаркі ў тым ці іншым аспекце — задачы, вырашальнай не толькі для гісторыка, але і для чытача. Пры гэтым захоўваецца ўся моц і нагляднасць «жывых прыкладаў», уласцівая ілюстрацыйна-апісальнаму метаду.

Зразумела, для выканання такой ролі мікрагістарычнае даследаванне павінна адпавядаць пэўным крытэрыям. У маштабе выбаркі павінны быць сабраныя і ўлічаныя

[6] Буховец О.Г. Социальные конфликты и крестьянская ментальность в Российской империи начала XX века: новые материалы, методы, результаты. Москва, 1996. С. 48.

[7] Macfarlane A. History, Anthropology and the Study of Communities // Social History. 1977. № 5. P. 631—652.

[8] Phythian-Adams C. Re-thinking English Local History. Leichester, 1987.

па магчымасці сапраўды *ўсе факты*, якія захаваліся ў наяўных крыніцах. У ідэале гэтая інфармацыя павінна ўключаць даныя пра структуру насельніцтва і асаблівасці яго дэмаграфічнага ўзнаўлення, пра спосабы здабывання сродкаў да існавання і іх размеркавання, узаемадзеянне з прыродным асяроддзем і агульнадзяржаўнымі палітычнымі структурамі, калектыўныя ўяўленні пра сябе і навакольны свет, норавы, звычаі і многія іншыя аспекты, якія ў суме складаюць карціну штодзённасці (у савецкай гістарыяграфіі большасць з гэтых тэм традыцыйна лічылася прэрагатывай не гісторыкаў, а этнографаў).

Апрача таго, суцэльная карціна азначае і ўлік доўгатэрміновых працэсаў, якія суб'ектыўна не ўсведамляліся іх удзельнікамі — напрыклад, эпахальных змен балансу нараджальнасці—смяротнасці або навакольнага асяроддзя. Нарэшце, побач з дэталёвым паглыбленнем у тэму неабходна паказаць, як адбіваліся на лёсах вывучальнай групы войны, рэвалюцыі і іншыя падзеі ў сферы эканомікі і палітыкі, якія добра прасочваюцца на макраўзроўні. Вельмі пажадана, каб атрыманыя такім чынам вынікі адпавядалі ўніфікаванай методыцы і іх можна было б параўнаць з аналагічнымі даследаваннямі, якія ўжо праведзены або будуць праведзены ў іншых рэгіёнах.

У ідэале вынікам даследавання павінна стаць комплексная *мадэль*, якая б адлюстроўвала сістэму нашых ведаў пра аб'ект. Такая мадэль павінна адлюстраваць не толькі агульныя статыстычныя заканамернаці працэсаў, якія вывучаюцца, але і дыяпазон іх варыяцый. Відавочна, для гэтага найлепшым чынам падыходзіць *стахастычная* мадэль, якая б паказвала імавернасць кожнага з магчымых вынікаў. Мадэль павінна ўключаць у сябе, як мінімум, дэмаграфічную і эканамічную падсістэмы, г. зн. адлюстроўваць у лічбах працэсы жыццёвага цыкла сям'і і яе гаспадарчай дзейнасці. Іншыя аспекты жыцця індывіда ў грамадстве — сацыяльныя сувязі, сістэма светапогляду і да т.п. — па сваёй прыродзе значна горш паддаюцца лічбаваму выяўленню. Таму мадэль непазбежна будзе ўключаць і некаторыя апісальныя элементы. Важна, каб пры гэтым ставілася мэта адлюстраваць менавіта сістэму сувязяў і ўяўленняў, а не асобныя, найбольш выразныя ці экзатычныя рысы.

На жаль, методыку даследаванняў для беларускіх матэрыялаў давядзецца ствараць практычна з нуля — да сёння адзінай працай у айчыннай гістарыяграфіі, якая мае хоць нейкае дачыненне да такога падыходу, застаецца нарыс М. Улашчыка пра вёску Віцкаўшчына, размешчаную прыкладна за 20 км на паўднёвы захад ад Мінска. Паказальна, што гэтая кніга была рэкамендаваная да друку ў канцы 1978 г., але неўзабаве выключана з выдавецкага плана і пры жыцці аўтара так і не ўбачыла свету. Не дапамаглі нават такія адчайныя крокі М. Улашчыка, як лісты ў рэдакцыю газеты «Правда» ў красавіку 1985 г. і на адрас XXVII з'езда КПСС у лютым 1986 г.[9]. Апублікавана праца была толькі пасмяротна[10]. У гэтым нарысе М. Улашчык па ўспамінах, аповедах родзічаў, землякоў і з абмежаваным выкарастаннем архіўных матэрыялаў рэканструяваў карціну штодзённасці сваёй роднай вёскі. Работа каштоўная перш за ўсё вялікай колькасцю жывых падрабязнасцей, сабраных аўтарам паводле методыкі, як бы сёння сказалі, «вуснай гісторыі» ў другой палове 1920-х гг. Яна ахоплівае сціслую перадгісторыю вёскі (заснаванай у 1883 г. на памешчыцкіх землях, купленых сялянамі ў складчыну) і характарыстыку сялянскага побыту да 1917 г. Статыстычныя метады ў нарысе практычна не выкарыстоўваліся, што дазваляе разглядаць яго звесткі як яскравую ілюстрацыю, але не як матэматычна абгрунтаваную выбарку.

У цэлым савецкімі гісторыкамі назапашаны даволі вялікі масіў звестак, якія тычацца сацыяльна-эканамічных працэсаў у беларускай вёсцы[11]. Аднак усе яны з'яўляюцца

[9] Другі з гэтых лістоў надрукаваны у зборніку: Русь—Литва—Беларусь. Проблемы национального самосознания в историографии и культурологии. Москва, 1997. С. 201—203.

[10] Улашчык М. Была такая вёска: Гісторыка-этнаграфічны нарыс. Мінск, 1989.

[11] Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Улащик Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. Москва, 1965; Чепко В.В. Сельское

сумарнымі сярэднестатыстычнымі данымі (напрыклад, адносна велічыні сялянскага надзелу, памеру дваровай гаспадаркі або аб'ёму павіннасцей) на макраўзроўні — па рэгіёнах, губернях і паветах, у лепшым выпадку — табліцамі зводных лічбаў па асобных маёнтках. Як правіла, падчас паказу сярэдніх значэнняў гісторыкі нават не спрабавалі ахарактарызаваць дыяпазон іх роскіду з дапамогай такіх стандартных статыстычных працэдур, як вызначэнне сярэдняга квадратычнага адхілення або каэфіцыента варыяцыі. Для рэканструкцыі карціны на мікраўзроўні гэтыя даныя выкарыстаць нельга, яны прыдатныя толькі пры параўнанні канкрэтнай выбаркі з агульнай сукупнасцю.

Шмат каштоўных звестак пра матэрыяльную культуру беларускай вёскі назапашана этнографамі. У іх даследаваннях апісаныя і класіфікаваныя пабудовы, прылады працы, іншыя рэчы, якія атачалі чалавека ў яго штодзённым жыцці[12]. Што тычыцца «духоўнай каардынаты» традыцыйнага беларускага грамадства, то тут асноўны багаж ведаў быў назапашаны даследчыкамі XIX — пачатку XX ст.[13]. Пры гэтым асаблівая ўвага аддавалася такім экзатычным з'явам, як перажыткі першабытнай магіі, забабоны і да т.п. Пытанне пра апісанне традыцыйнага светаўспрымання як цэласнай сістэмы на той час яшчэ не ставілася. Не было яно пастаўлена і этнографамі савецкага перыяду, хоць тады на Захадзе ўжо актыўна абмяркоўваліся метады структурнай антрапалогіі К. Леві-Строса, ідэі школы «Аналаў», да т.п. Беларускія этнографы пры вывучэнні духоўнай культуры засяроджваліся галоўным чынам на зборы, публікацыі і павярхоўнай характарыстыцы фальклору, перш за ўсё — народных песень. Даволі дэталёва была даследавана таксама вясельная абрадавасць, а ў апошні час — сімволіка народнага арнаменту[14].

Нягледзячы на тое, што класікі марксізму разглядалі людзей (*працоўныя рэсурсы*) як адзін з кампанентаў вытворчых сіл, вельмі сціплымі аказаліся поспехі савецкіх даследчыкаў у вывучэнні дэмаграфічных працэсаў. Паводле ацэнкі амерыканскага гісторыка Стывена Хока, «цэлы шэраг гісторыкаў савецкага перыяду займаўся «палітычнай арыфметыкай», імкнучыся вызначыць розныя катэгорыі насельніцтва паводле іх прыналежнасці да геаграфічнага рэгіёна, навыкаў і вытворчай дзейнасці, афіцыйнага і этнічнага статусу. Часта гэтыя даследаванні не

---

хозяйство Белоруссии в первой половине XIX в. Минск, 1966; Козловский П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII вв. (по материалам магнатских вотчин). Минск, 1969; Липинский Л.П. Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии. Минск, 1971; Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII вв.). Минск, 1975; Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII вв. Минск, 1982; Козловский П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX вв. Минск, 1982; Панютич В.П. Социально-экономическое развитие белорусской деревни в 1861—1900 гг. Минск, 1990; Лойка П.А. Прыватна-ўласніцкія сяляне Беларусі. Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мінск, 1991; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI—XVIII стст. Мінск, 1992; Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Минск, 1993; Панютич В.П. Наемный труд в сельском хозяйстве Беларуси 1861—1914 гг. Минск, 1996.

[12] Никифоровский Н.Я. Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности. Витебск, 1895; Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края / Собр. П.В. Шейном. Т. 3. С.-Петербург, 1902; Лебедева Н.И. Жилище и хозяйственные постройки Белорусской ССР. Москва, 1929; Молчанова Л.А. Материальная культура белорусов. Минск, 1968; Гринблат М.Я. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Минск, 1968; Беларускае народнае жыллё. Мінск, 1973; Беларускае народнае адзенне. Мінск, 1975; Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў. Мінск, 1975; Трацевский В.В. Народное зодчество Белоруссии. Минск, 1976; Молчанова Л.А. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XX вв. Минск, 1981; Титов В.С. Историко-этнографическое районирование материальной культуры белорусов XIX — начала XX в. Минск, 1983; Локотко А.И. Белорусское народное зодчество. Середина XIX—XX в. Минск, 1991; Цітоў В.С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мінск, 1994.

[13] Никифоровский Н.Я. Указ. соч.; Богданович А.Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Этнографический очерк. Гродно, 1895; Довнар-Запольский М.В. Исследования и статьи. Т. 1. Киев, 1909.

[14] Никольский Н.М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. Минск, 1956; Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць. Мінск, 1967; Кацар М.С. Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка. Мінск, 1996.

выходзілі за рамкі передрукоўкі афіцыйных даных статыстыкі насельніцтва царскага часу (з невялікімі папраўкамі) і абмеркавання дынамікі змен»[15]. Сапраўды, даволі хутка вызначыўшы дынаміку базавых дэмаграфічных паказальнікаў — колькасці і шчыльнасці насельніцтва, нараджальнасці, смяротнасці — на макраўзроўні[16], савецкія даследчыкі на сталі паглыбляцца ў больш вытанчаны аналіз нюансаў узнаўлення насельніцтва. На тэрыторыі СССР практычна не праводзіліся гістарычна-дэмаграфічныя даследаванні на мікраўзроўні (у дачыненні да лакальных папуляцый або вузкіх сацыяльных груп).

На пачатку 1920-х гг. аформіўся вельмі перспектыўны кірунак, які разгортвала школа расійскага эканаміста А. Чаянава. Ён прапанаваў методыку аналізу сялянскай сямейнай гаспадаркі праз дынаміку вытворчасці і спажывання. Увагу даследчыкаў прыцягнулі штогадовыя змены прапорцыі едакоў і працаўнікоў, выкліканыя дэмаграфічнымі фактарамі. Як было паказана на матэрыяле выбарачных абследаванняў расійскіх гаспадарак, гэтая прапорцыя вызначала не толькі колькасць зямлі, занятай пад гаспадарку, але і інтэнсіўнасць працы (*меру самаэксплуатацыі*) і размеркаванне бюджэту працоўнага часу[17]. Была сфармулявана *тэорыя праца-спажывецкага балансу* сямейнай гаспадаркі, якая ўключала не толькі аб'ектыўныя эканамічныя паказчыкі (працазатраты, цэны, даходнасць гаспадаркі), але і такія суб'ектыўныя параметры, як ацэнка сялянамі нуднасці ўласнай працы і адноснай карыснасці кожнай адзінкі выробленай прадукцыі. Ужываліся мадэлі гадавога гаспадарчага цыкла (якія мелі, праўда, усярэднена-тыповы характар). На жаль, у канцы 1920-х гг. гэтая школа падверглася разгрому, а яе дасягненні на доўгія дзесяцігоддзі былі забытыя. Па гэтай самай прычыне так і не дайшла справа да прымянення ідэй Чаянава да беларускіх матэрыялаў. Не знайшлі працягу і першыя спробы апісаць мадэль тыповага гаспадарчага цыкла беларускага селяніна, якія мелі месца на пачатку XX ст. у краязнаўчай працы К. Анікіевіча[18].

У далейшым найбольш цікавыя даследаванні праводзіліся ў рамках замежнай гістарычнай дэмаграфіі і сацыяльнай гісторыі. Аб'ектамі вывучэння сталі першасныя дэмаграфічныя даныя — напрыклад, метрычныя кнігі царкоўных прыходаў, для аналізу якіх прымяняўся метад аднаўлення гісторыі сямей (*family reconstitution*). На падставе запісаў пра хрышчэнні, шлюбы і пахаванні для кожнай сям'і паасобку вызначаліся працягласць шлюбу, узрост маці пры нараджэнні дзяцей, агульная колькасць народжаных дзяцей і тых, што выжылі, размеркаванне смерцяў паводле ўзросту і іншыя дэмаграфічныя характарыстыкі, на падставе якіх вызначаліся даныя для папуляцыі ў цэлым — як правіла, больш дэталёвыя і надзейныя, чым агрэгаваныя даныя афіцыйнай статыстыкі XVIII—XIX стст. Гэты метад, упершыню ўжыты французскім даследчыкам Л. Анры ў 1950-я гг., быў падхоплены гісторыкамі іншых краін[19]. На тэрыторыі СССР адзіным месцам, дзе ён знайшоў прымяненне, была Эстонія, там яго выкарыстоўвала група пад кіраўніцтвам Х. Палі[20].

---

[15] Хок С.Л. От редактора // Анри Л., Блюм А. Методика анализа в исторической демографии. Москва, 1997. С. 7—8.

[16] Рашин А.Г. Население России за 100 лет (1811—1913 гг.). Статистические очерки. Москва, 1956; Кобузан В.М. Народонаселение России в XVIII — первой половине XIX в. Москва, 1963; Вишневский А.Г. Брачность, рождаемость, смертность в России и СССР. Москва, 1977.

[17] Чаянов А.В. Крестьянское хозяйство. Избранные труды. Москва, 1989. С. 218—241 і інш.

[18] Аникиевич К.Т. Сенненский уезд Могилевской губернии. Могилев, 1907.

[19] Henry L. Manuel de démographie historique. Paris, 1967; Drake M. Historical Demography: Problems and Projects. London, 1974; Fleury M., Henry L. Nouveau manuel de dépouilement et d'exploitation de l'état civil ancien. 2 éd. Paris, 1976; Willigan D.J., Lynch K. Sources and Methods of Historical Demography. New York, 1982; Drake M. Population Studies from Parish Registers. London, 1982.

[20] Палли Х. К методике обработки демографических материалов Эстонии XIII—XVIII вв. (до ревизии душ 1781—1782 гг.) // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. 1966 год. Таллин, 1971. С. 147—161; Палли Х. Методика использования метрик в историко-демографических исследованиях // История СССР. 1982. № 1.

У Вялікабрытаніі таксама былі дасягнуты ўражальныя поспехі ў вывучэнні метрычных кніг. Кембрыджская група па гісторыі народанасельніцтва і сацыяльнай структуры рэалізавала маштабны праект па выяўленні і апрацоўцы штогадовай статыстыкі нараджэнняў, шлюбаў і смерцяў у кожным англійскім прыходзе за перыяд з сярэдзіны XVI ст. да 1871 г. Усяго ў праекце было ўлічана каля 3,7 млн. лічбавых значэнняў з прыкладна 10 тыс. прыходаў, якія дазволілі прасачыць дэмаграфічныя зрухі ў малыя адрэзкі часу і па малых рэгіёнах, а таксама рэканструяваць параўнальна дакладныя характарыстыкі англійскай папуляцыі ў цэлым на працягу трох стагоддзяў, адштурхоўваючыся ад даных перапісу 1871 г. і рухаючыся ў мінулае ў тэхніцы *адваротнай праекцыі*[21].

Другім кірункам, які актыўна разгортвае Кембрыджская група, стала вывучэнне структуры двораспадаркі — базавай ячэйкі даіндустрыяльнага грамадства. Кіраўніком групы П. Леслетам была распрацаваная сістэма класіфікацыі гаспадарак паводле сямейнага складу, на падставе якой па адзінай методыцы праводзіцца збор і аналіз даных пра сельскія і гарадскія двораспадаркі з інвентароў, падатковых рэестраў, падворных перапісаў і іншых масавых крыніц розных краін[22]. Падчас гэтых даследаванняў было прадэманстравана, што для розных рэгіёнаў характэрныя спецыфічныя нюансы ў сярэдніх памерах і спосабах арганізацыі сямейнай гаспадаркі, якія вызначаюцца як эканамічнымі і прыроднымі фактарамі, так і культурнымі традыцыямі.

Каштоўным дасягненнем брытанскай дэмаграфічнай школы стала высвятленне дзвюх устойлівых мадэляў арганізацыі сямейнай гаспадаркі — традыцыйнай (уласцівай большасці рэгіёнаў свету) і заходнееўрапейскай. Першая з іх характарызуецца параўнальна раннім узростам уступлення ў першы шлюб для абодвух полаў і вельмі нізкім працэнтам асоб, якія ніколі не ўступалі ў шлюб. Заходнееўрапейская мадэль грунтуецца на больш познім узросце шлюбу (асабліва ў мужчын) і высокім працэнце адзінокіх. Ужо першы параўнальны аналіз макрадэмаграфічных паказальнікаў, праведзены на пачатку 1960-х гг. Дж. Хайналам, дазволіў гаварыць пра дастаткова выразную лінію ад Пецярбурга да Трыеста, якая ў XIX ст. падзяляла Еўропу на зоны пераважання гэтых двух тыпаў дэмаграфічных паводзін[23]. Кідаецца ў вочы розніца па абодва бакі *лініі Хайнала* многіх культурных, эканамічных і нават палітычных характарыстык грамадства. Гэта паслужыла тэмай канферэнцыі «Дзе канчаецца Еўропа», арганізаванай па ініцыятыве члена Кембрыджскай групы К. Шурэра ў 1993 г. у Будапешце. Аналіз пытання паказаў, што заходнееўрапейскі тып сямейнай гаспадаркі шчыльна звязаны з прынцыпам маярату, які ўсталяваўся ў канцы Сярэднявечча на тэрыторыі колішняй імперыі Каралінгаў і распаўсюджваўся ў працэсе нямецкай каланізацыі. Старэйшы сын атрымліваў увесь бацькоўскі надзел і, як правіла, толькі пасля гэтага заводзіў уласную сям'ю. Малодшыя сыны вымушаны былі ўладкоўвацца

[21] Wrigley E.A., Schofield R.S. The Population History of England, 1571—1871. Cambridge, 1981.

[22] Laselett P. and Wall R. (eds.). Household and Family in Past Time: Comparative Studies in the Size and Structure of the Domestic Group over the Last Three Centuries in England, France, Serbia, Japan, and Colonial North America, with Further Materials from Western Europe. Cambridge, 1972; Flandrin J.-L. Families in Former Times. Cambridge, 1976. P. 66—92; Wall R. (ed.), in collaboration with Robin J. and Laselett P. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983; Todorova M. Balkan Family Structure and the European Pattern: Demographic Developments in Ottoman Bulgaria. Washington, 1993. P. 115—158; Janssens A. Family and Social Change: The Household as a Process in an Industrializing Community. Cambridge, 1993; Wall R. Historical Development of the Household in Europe. In.: Imhoff E. van, Kuijsten A., Hooimeijer P. and Weissen L. van (eds.). Household Demography and Household Modelling. New York and London, 1995. P. 19—52. На рускай мове пераклад адной з прац П. Леслета гл.: Ласлетт П. Семья и домохозяйство: исторический подход // Брачность, рождаемость, семья за три века. Москва, 1979.

[23] Hajnal J. European Marriage Patterns in Perspective. У: Glass D.V. and Everslay D.E.C. (eds). Population in History. Chicago, 1965. P. 101—143. На рускай мове гэты артыкул (са скажэннем прозвішча аўтара) гл.: Хаджнал Дж. Европейский тип брачности в перспективе // Брачность, рождаемость, семья за три века. Москва, 1979.

ў жыцці ўласнымі сіламі, што спрыяла з'яўленню вялікай колькасці асоб вольных прафесій, прафесійных жаўнераў, наёмных рабочых і да т.п., сярод якіх быў высокі працэнт адзінокіх. Гэта спрыяла фарміраванню такіх рыс заходнееўрапейскай культуры, як прадпрымальніцтва, індывідуалізм і звычка разлічваць на ўласныя сілы. Пры традыцыйным тыпе надзел падзяляўся паміж братамі (звычайна ўжо жанатымі), што прыводзіла да фарміравання крыху іншага культурнага стэрэатыпа: калектывізму і разліку на своеасаблівы гарантаваны мінімум, які належыць кожнаму ўжо паводле права нараджэння.

Дэмаграфічныя метады даследавання знайшлі новае пераламленне ў сацыяльнай гісторыі. Аб'ектам вывучэння стала кола сацыяльных сувязяў індывіда, г. зн. кола асоб (родных, сваякоў, хросных і кумоў), на эмацыйную, а часам і матэрыяльную падтрымку якіх ён мог разлічваць у розных жыццёвых сітуацыях[24]. У прыватнасці, колькасць блізкіх кроўных родзічаў звязана з дэмаграфічнымі параметрамі папуляцыі, таму для яе вызначэння выкарыстоўваліся метады, уласцівыя «чыстай» дэмаграфіі, уключна з камп'ютарным мадэляваннем працэсу ўзнаўлення насельніцтва[25].

З улікам таго, што пералічаныя метады выкарыстоўваліся ў дачыненні да відаў крыніц, якія шырока прадстаўлены і ў архівах Усходняй Еўропы (метрычныя кнігі, інвентары маёнткаў, падворныя перапісы), прымяненне іх да беларускіх матэрыялаў уяўляецца вельмі перспектыўным, прычым менавіта на мікраўзроўні. Комплекс такіх крыніц па гісторыі Беларусі дастаткова багаты, каб дазволіць рэканструкцыю больш-менш суцэльнай гісторыі пэўнага мікрарэгіёна на працягу прыкладна двух — двух з паловай стагоддзяў, ад XVIII ст. і да сучаснасці. Гэта адпавядае храналагічнаму ахопу даследаванняў, якія праводзіліся на Захадзе — у Германіі[26], Італіі[27], Вялікабрытаніі[28]. Адно даследаванне такога кшталту (акцэнтаванае ў асноўным на дэмаграфічных пытаннях) было праведзена на расійскіх матэрыялах[29].

Гэтыя мікрагістарычныя экскурсы, зразумела, вельмі адрозніваюцца паміж сабой па выкарыстаных падыходах, і не ўсе яны адпавядаюць сфармуляваным вышэй

[24] Plekans A. Kinship in the Past: An Anthropology of European Family Life, 1500—1900. Oxford, 1984; Smith R.M. (ed.). Land, Kinship and Life-cycle. Cambridge, 1984; Boulton J. Neighbourhood and Society in the Seventeenth Century. Cambridge, 1987; Wellman B. and Berkowitz S.D. (eds.). Social Structures: A Network Approach. New York, 1988; Wetherell C., Plakans A. and Wellman B. Social Networks, Kinship, and Community in Eastern Europe // Journal of Interdisciplinary History. Vol. XXIV:4 (Spring 1994). P. 639—663.

[25] Smith J.E. The Computer Simulation of Kin Sets and Kin Counts. In: Boungaars J., Burch T.K. and Wacher K.W. (eds.). Family Demography: Methods and their Applications. Oxford, 1987. P. 249—266; Smith J.E. and Oeppen J. Estimating Numbers of Kin in Historical England Using Demographic Microsimulation. In: Reher D.S. and Schofield R. (eds.). Old and New Methods in Historical Demography. Oxford, 1993. P. 280—317; Post W., Poppel F. van., Imnoff E. van. and Kruse E. Reconstructing the Extended Kin-network in the Netherlands with Genealogical Data: Methods, Problems, and Results // Population Studies. Vol. 51. 1997. P. 263—278.

[26] Levi G. Das immaterielle Erbe. Eine baeuerlische Welt an der Schwelle zur Zmoderne. Berlin, 1968; Ginzburg C. Die Käse und die Würmer. Die Welt eines Müllers um 1600. Frankfurt a.M., 1979 (2 Aufl. Berlin, 1990); Knodel J.E. Demographic Behavior in the Past. A Study of Fourteen German Village Populations in the Eighteenth and Nineteenth Centuries. Cambridge, 1988; Medick H. Leben und Überleben in Laichingen vom 17. bis 19. Jahrhundert. Untersuchungen zur Social-, Kultur- und Wirtschaftsgeschichte in den Oerspektiven einer lokalen Gesellschaft Altwürtemberg. Göttingen, 1994.

[27] Cerutti S. La ville et ses métiers. Naissance d'un langage corporatif (Turin 17-e et 18-e siécles). Paris, 1990.

[28] Phythian-Adams C. Desolation of a City: Coventry and the Urban Crisis of the Late Middle Ages. Cambridge, 1979; Sabean D. Property, Production and Family in Neckarhausen 1700 to 1870. Cambridge, 1990; Reay B. Microhistories: Demogaphy, Society and Culture in Rural England, 1800—1930. Cambridge, 1996.

[29] Czap P. The Perennial Multiple Family Household, Mishino, Russia 1782—1858 // Journal of Family History. 1982. 7: 5—26.

ідэальным крытэрыям. Магчыма, таму многія гісторыкі ставяцца да гэтага кірунку крыху насцярожана, а то і проста скептычна. Думаецца, тэарэтычныя спрэчкі на гэты конт будуць бясплоднымі. Людзі, перакананыя ў перспектыўнасці новага метаду і яго здольнасці дапамагчы гісторыі дасягнуць доўгачаканага сінтэзу, павінны даказваць сваю правату не словамі, а справай.

*Друкуецца паводле:*
Беларускі гістарычны агляд. 1999. Т. 6. Сш. 1—2 (10—11). С. 133—151.

# Карэньшчына: тры стагоддзі з жыцця аднаго маёнтка

**Артыкул падрыхтаваны ў рамках даследавання, падтрыманага грантам Research Support Scheme 1003/1997.**

Даследчыкі гісторыі Беларусі неаднаразова аналізавалі звесткі пра сялянскае землекарыстанне і эвалюцыю феадальнай рэнты на Беларусі. Агульны характар працэсаў на макраўзроўні вызначаны больш-менш акрэслена. Але ні разу не рабіліся спробы прасачыць дынаміку гэтых паказчыкаў у той самай мясцовасці, у дачыненні да таго самага насельніцтва. Між тым такі падыход дазваляе зірнуць на гістарычны працэс так, як ён успрымаўся самімі ўдзельнікамі. Зразумела, што сяляне не мелі магчымасці аперыраваць вынікамі статыстычных падлікаў ці абагульніць лічбы па ўсёй краіне. Для іх было толькі два пункты адліку — параўнанне з бліжэйшымі суседзямі і ўспаміны пра ўласнае мінулае. На падставе гэтых параўнанняў фарміравалася агульнае ўяўленне пра сваё жыццё — цяжкае яно ці лёгкае, пагаршаецца ці паляпшаецца. Таму даследаванне на мікраўзроўні здольнае ўнесці нешта істотна новае ў нашыя ўяўленні пра мінулае.

Мы паспрабуем прадэманстраваць гэта на адным канкрэтным прыкладзе. Увазе чытача прапануюцца вынікі, атрыманыя пры комплексным даследаванні мікрарэгіёна ў цэнтральнай Беларусі (прыкладна за 50 км на поўнач ад Мінска), на тэрыторыі сучаснага Лагойскага раёна. Гэты абшар мае плошчу амаль дакладна ў 100 кв. км. З моманту першага ўпамінання ў крыніцах Вялікага Княства Літоўскага ў 1395 г.[1] ён уяўляў сабой адзін уласніцкі комплекс — маёнтак Корань, пажалаваны Вітаўтам заснаванаму незадоўга да таго капітулу віленскага кафедральнага касцёла св. Станіслава.

Першыя звесткі пра памеры маёнтка змяшчае рэестр раскладкі пазачарговага падатку (*серабшчызны*) з духоўных уладанняў Віленскага біскупства за 1553 г.[2]. Тады маёнтак Корань уяўляў сабой два *престимония каноничьих*, з якіх адным карыстаўся канонік Хоцька, другім — жамойцкі біскуп, што таксама ўваходзіў у склад віленскага капітула. У першай з гэтых частак значылася 58 сох і 2 *агароды*, у другой — 50,5 *сох*, 3 *зямлі* і 2 *агароды*. На жаль, у якасці адзінак абкладання ў гэтым дакуменце выступаюць не традыцыйныя для XVI ст. *дымы* або *службы*, а параўнальна рэдкія ў іншых крыніцах *сохі*, што ўскладняе інтэрпрэтацыю і супастаўленне з іншымі данымі. Верагодна, *саха* адпавядала тыповаму зямельнаму надзелу, які апрацоўваўся адной запрэжкай валоў. Дробная колькасць *сох* у рэестры сведчыць, што такі надзел маглі сумесна выкарыстоўваць некалькі гаспадарак. У цэлым на тэрыторыі маёнтка было не менш за 112 сялянскіх гаспадарак.

З кастрычніка 1572 г. капітулам было прынята рашэнне правесці ў маёнтку Корань валочную памеру[3]. Размерылі яго землі на валокі не пазней за канец 1575 г. канонікі Лаўрын Вольскі і Томаш Макавецкі. Яны прадставілі капітулу праект *валочнай уставы*, які і быў ухвалены 13 лютага 1576 г. Копія ліста, накіраванага з гэтай нагоды *цівунам* і *людзям маёнтка Кораньскага*, захавалася ў актавай кнізе капітула. У ім жыхарам маёнтка паведамляецца, што капітул разгледзеў прапанаваныя нормы павіннасцей, каб матэрыяльнае становішча падданых у выніку рэформы не пагоршылася (*jakoby wam za takową ustawą wielka obciążliwość nie była*). Праект быў прызнаны

---

[1] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. 1. Kraków, 1932—1948. № 25. S. 40—42; Vitoldiana: Codex privilegiorum Vitoldi magni ducis Lithuaniae 1386—1430 / Zebrał i wydał J. Ochmański. Warszawa; Poznań, 1986. № 13. S. 18—19.

[2] Аддзел рукапісаў бібліятэкі АН Літвы (Далей — АРБАНЛ). Ф. 43. Адз. зах. 435.

[3] Там жа. Адз. зах. 213. Арк. 77 адв. — 79; Ochmański J. Dawna Litwa: Studia historyczne. Olsztyn, 1986. S. 190—191.

дастаткова справядлівым і зацверджаны капітулам. Польская копія з яго лацінскага арыгінала была ўпісана ў актавую кнігу непасрэдна пасля ліста капітула[4].

Адпаведна *ўставе* скасоўваліся ранейшыя павіннасці — натуральная мядовая даніна і грашовае *налуконне*, якія збіраліся з кожнага двара. Узамен уводзіліся дзве катэгорыі валок — *цяглыя* і *асадныя*. З цяглай валокі добрага грунту падданыя абавязаны былі плаціць чынш у памеры 35 грошаў[5] і пастаўляць натуральную павіннасць (*дзякло*) — 1 бочку[6] азімага жыта і 2 бочкі аўса. З такой самай валокі сярэдняга грунту належала 30 грошаў, па 1 бочцы жыта і аўса. Адпрацовачная павіннасць (*паншчына*) незалежна ад якасці зямлі складала па 2 дні з валокі ў тыдзень, плюс 6 дзён *талакі на сваім хлебе* ў год, абавязак адвозіць у Вільню падводы з дзяклом і іншыя грузы пры неабходнасці, касіць *дворскія* сенажаці, вартаваць у гаспадскім двары, а калі прыедуць уладальнікі маёнтка — пастаўляць ім на мяса цялушку (*ялавіцу*). Апрача таго карыстальнікі валокі мусілі даваць штогод 2 курыцы і 10 яек. З *асаднай* валокі адпрацовачных павіннасцей не было. На добрым грунце карыстальнікі такой валокі плацілі чынш у суме 70 грошаў, па 1 бочцы жыта і аўса. Пры сярэдняй якасці зямлі памер чыншу памяншаўся да 60 грошаў (пры тым самым памеры дзякла), а з *подлага* грунту ішоў толькі чынш у 60 грошаў, без дзякла.

Е. Ахманьскі, аналізуючы гэтыя звесткі, перавёў натуральныя павіннасці ў грашовы эквівалент (з разліку 10 грошаў за бочку жыта, 5 грошаў за бочку аўса плюс 5 грошаў за адвоз) і параўнаў іх з аналагічнымі данымі пра дзяржаўныя маёнткі адпаведна *ўставе на валокі* 1557 г. Ён прыйшоў да высновы, што сума павіннасцей з асаднай валокі добрага грунту складала ў капітульных уладаннях 90 грошаў, а ў дзяржаўных — 106 грошаў, з сярэдняга грунту — адпаведна 80 і 97, з подлага — 60 і 83. Памер паншчыны быў аднолькавы, за тым выключэннем, што ў дзяржаўных маёнтках 2 тыдні былі вольныя ад працы. Талокі складалі ў капітульных уладаннях 6 дзён, 4 — у дзяржаўных.

У цэлым з гэтымі разлікамі можна пагадзіцца, але даныя 1550-х гг. пра кошт прадуктаў патрабуюць карэкціроўкі, бо да 1576 г. змяніліся і цэны, і сярэбранае напаўненне гроша. Згодна з Статутам ВКЛ 1566 г., капа азімага жыта (60 снапоў) каштавала 12 грошаў. Намалот з такой капы складаў, мяркуючы па даных больш позняга Статута 1588 г., каля 0,83 бочкі, г. зн. цана бочкі павінна была складаць 14 грошаў і 4 пенязі. Капа аўса каштавала 6 грошаў, пры сярэднім намалоце 0,5 бочкі з капы, характэрным для ўсіх яравых культур. Бочка аўса мусіла каштаваць у такім выпадку 12 грошаў. Курыца ў Статуце 1566 г. ацэньвалася ў 1,5 гроша. Кошт яек у гэты час невядомы, але ў больш познія гады цана за дзясятак адпавядала, як правіла, 0,5—0,75 цаны курыцы. Такім чынам, яе можна ацаніць у межах ад 8 пенязяў да 1 гроша. З такімі папраўкамі выплаты падданых капітула з асаднай валокі добрага грунту павінны былі складаць у сярэдзіне 1570-х гг. больш за 100 грошаў, з сярэдняга — звыш 90, а з цяглай валокі — каля 80 і 60 грошаў адпаведна, плюс паншчына.

Агаворваліся ва *ўставе* таксама павіннасці на карысць новага касцёла ў Корані. Яго святар (*каплан*) павінен быў штогод на Каляды аб'язджаць воласць — калядаваць. Пры гэтым з кожнай валокі яму належала па 1 грошы і па 1 *кракаўскім карцы* жыта, што складала каля 102 літраў, ці 4 пудоў (65,6 кг). Гэтыя павіннасці былі пацверджаны 21 кастрычніка 1582 г. у якасці дзесяціны з даходаў маёнтка. Дадаткова агаворваўся абавязак сялян вазіць з лесу бярвенне на рамонт касцёла і яго званіцы[7].

Час паказаў неэфектыўнасць захадаў па забеспячэнні прыходскага святара. 10 кастрычніка 1591 г. тры канонікі віленскага капітула — Марцэл Сухадольскі,

---

[4] АРБАНЛ. Ф. 43. Адз. зах. 213. Арк. 202 адв. — 204. Гл. таксама: Ochmański J. Dawna Litwa. S. 191, 195—196.

[5] У 1560—1570-я гг. лігатурная маса гроша складала 0,868 г серабра. 1 грош раўняўся 10 пенязям.

[6] Відавочна, мелася на ўвазе вялікая, так званая віленская бочка, роўная 4 малым бочкам — карцам. Адпаведна артыкулу 30 раздзела 3 Статута ВКЛ 1566 г. умяшчальнасць бочкі складала «4 корцы без верху и тресенья, але под стрых». Яе аб'ём раўняўся каля 407 л, ці каля 16 пудоў (262 кг) збожжа.

[7] АРБАНЛ. Ф. 43. Адз. зах. 214. Арк. 244.

Мікалай Карызна і Барталамей Нядзвецкі (у сумесным распараджэнні якіх знаходзіўся маёнтак Корань) — прынялі адмысловую *ўставу* наконт Кораньскага прыхода. У гэтым дакуменце адзначаецца, што першапачатковая датацыя была недастатковай для дзейнасці каплана, таму ён кінуў прыход, а сяляне, якія раней перайшлі з праваслаўя ў каталіцтва, вярталіся ў праваслаўныя цэрквы і там выконвалі абрады (*poddani tez, ktory incz byli nico od Rusi do Kosciola Catolickiego przystali, zasie nazad sie wracaią y dzieci chrzcza hodzać do Ruskich Cerkiew*). У сувязі з гэтым на забеспячэнне касцёла прызначаўся дадатковы даход з арэнды карчмы ў сяле Корань. Апрача таго ад кожнай сялянскай валокі каплану надавалася штогод па возу дроў. На гэты раз была вызначана і новая працэдура збору падаткаў — іх павінны былі збіраць ураднікі або старцы і звозіць у той з двароў (*прэстымоніяў*) маёнтка, пры якім будзе знаходзіцца каплан. Калі ж святар вырашыць сам ці праз свайго даручэнца ажыццяўляць ранейшае калядаванне, то сяляне могуць даваць яму што-небудзь па сваёй добрай волі[8].

Павелічэнне датацыі не дасягнула мэты, і ўжо 1 кастрычніка 1596 г. капітул прыняў рашэнне з прычыны *недахопу капланаў і малой правізіі* ліквідаваць самастойны Кораньскі прыход, а яго касцёл лічыць філіяй суседняга Гайненскага[9].

Паўторнае рашэнне пра ўтварэнне Кораньскага прыхода было прынята 11 лютага 1605 г., і ў больш позніх дакументах ажно да XX ст. менавіта гэты год фігуруе як афіцыйная дата заснавання касцёла. На гэты раз, улічыўшы ранейшы вопыт, капітул вызначыў святару (плябану) нерухомую маёмасць — засценак Нарбутава з зямельным надзелам у памеры 1 валокі і 22,5 моргаў (каля 36 га). На ім уладальнікі кожнай з 4 частак, на якія падзяляўся ў той час маёнтак, мусілі асадзіць па 1 сялянскай сям'і. Апрача таго, касцёлу па-ранейшаму належала доля з даходаў маёнтка — грашовая павіннасць, названая *пагарцоўшчына*, і натуральныя выплаты ў памеры 5 *коп* (верагодна, 300 снапоў) жыта, 5 коп ячменю, па 1 бочцы ячменю і 0,5 бочкі гароху з кожнага з прэстымоніяў. Памер *палуконня* з кожнага сялянскага надзелу быў павялічаны з 18 пенязяў (1,8 гроша) да 2 грошаў. У распараджэнні плябана застаўся даход з арэнды карчмы. Пры гэтым агаворвалася, што сяляне могуць з яго дазволу варыць піва на вяселле сына ці дачкі[10].

Агульны кошт павіннасцей на карысць касцёла можна ацаніць паводле расцэнак, вызначаных Статутам 1588 г., улічыўшы, што лігатурная маса гроша ў перыяд 1580—1607 гг. не мянялася і складала 0,67 г серабра. Капа азімага жыта ацэньвалася ў Статуце ў 20 грошаў, яравога — у 12 грошаў, бочка жыта — у 24 грошы. Капа ячменю каштавала ў сярэднім 10 грошаў, бочка — 20 грошаў, а бочка гароху, аўса і шэрагу іншых культур — 16 грошаў. У такім выпадку пагарцоўшчына з трох прэстымоніяў павінна была раўняцца 534 грошы. Неўзабаве на пачатку XVII ст. адбыўся рэзкі рост цэн. Калі ён быў адпаведны зніжэнню сярэбранага напаўнення гроша (у перыяд з 1607 да 1623 г. яно зменшылася да 0,56 г), то мусіў скласці каля 16 %, і ў 1610—1620-я гг. кошт пагарцоўшчыны адпавядаў прыблізна 620 грошам.

Выпіска з *тарыфу падымнага* з біскупскіх уладанняў за 1653 г.[11] дазваляе вызначыць памеры і населенасць маёнтка Корань у сярэдзіне XVII ст. — напярэдадні спусташальнай вайны з Расіяй. Прэстымоній каноніка Паца налічваў тады 40 дымоў, прэстымоній каноніка Копця — 48, уладанні кораньскага плябана — 10, а асобны прэстымоній Прудкі — 35 дымоў. Такім чынам, усяго ў маёнтку налічвалася 133 сялянскія гаспадаркі.

На жаль, наступны па часе тарыф падымнага Менскага павета, складзены адразу пасля вайны з Расіяй у 1667 г.[12], не змяшчае звестак пра маёнтак Корань, за выключэннем уладанняў плябана. У іх, адпаведна тарыфу, з 10 ранейшых дымоў пасля

---

[8] Там жа. Адз. зах. 215. Арк. 168 адв. — 171 адв.

[9] Там жа. Арк. 279.

[10] Там жа. Адз. зах. 216. Арк. 58—59 адв. Гл. таксама копію: НГАБ. Ф. 1769. Воп. 1. Адз. зах. 22. Арк. 433—434.

[11] АРБАНЛ. Ф. 43. Адз. зах. 609.

[12] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГАЛ). Ф. СА (Старажытныя акты). Адз. зах. 3721. Арк. 28.

вайны застаўся толькі 1. Напэўна, уладанні капітула таксама былі моцна спустошаны, пра што ўскосна сведчаць даныя па суседнім маёнтку Ганявічы, які таксама належаў капітулу. У ім тарыф 1653 г. фіксуе два прэстымоніі, што мелі адпаведна 48 і 38 дымоў, а тарыф 1667 г. прыгадвае толькі 11 дымоў[13]. Гэта пацвярджае агульную выснову пра катастрафічнае (прыкладна ўдвая) скарачэнне насельніцтва Беларусі ў выніку вайны 1654—1660 гг., зробленую ў свой час польскім даследчыкам Ю. Можы[14].

У архіве капітула захаваліся два блізкія па часе інвентары прэстымоніі Малыя Ганявічы. Адзін з іх датаваны 1678 г. і прыгадвае трох падданых, з якіх Каптур карыстаўся адной валокай, а другая значылася ў *пусташах*[15]. Другі інвентар не мае даты, але ў ім прыгаданы тыя самыя падданыя, прычым за Каптуром запісаны абедзве валокі. Відавочна, гэты дакумент быў складзены або крыху пазней, калі прыгаданы Каптур узяў валоку, якая раней пуставала, або крыху раней — калі меркаваць, што ён пакінуў адну з дзвюх валок, якія яму належалі. Для нас інвентар каштоўны тым, што на адвароце яго знаходзіцца першы з тых, што дайшоў да нас (на жаль, таксама недатаваны), інвентар прэстымонія Вялікі Корань[16]. Улічыўшы магчымае датаванне інвентару Малых Ганявіч, час яго стварэння можна ўмоўна вызначыць каля 1680 г.

Адзначаны інвентар змяшчае першыя ўпамінанні імёнаў жыхароў Карэньшчыны — сялян вёсак Міхалкавічы і Чэрнева. Усяго названа 6 імёнаў: Мацей Калуш, Мікалай Калуш, Раман, Гаўрылка (з пазнакай *«новік, што аддзяліўся»*), Янук Жаўняровіч і Яска Жаўняровіч. Мяркуючы па ўсім, гэтыя 6 чалавек і іх сем'і ўтваралі ўсё насельніцтва прэстымонія на той момант. Апісанне панскага двара фіксуе карціну поўнага запусцення і заняпаду: апалыя вароты, жылыя і гаспадарчыя пабудовы ахарактарызаваны як *надгнілыя*, з разбуранымі печамі і падпёртымі дахамі. Ад засеянага ў той год жыта, па вызначэнні складальніка інвентару, «ніякай карысці не чакаецца» (*korzysci niespodziewac zadnej*).

У 1690 г. быў складзены яшчэ адзін тарыф падымнага Менскага павета. У ім, аднак, паняцце «дым» страціла свой першапачатковы сэнс. Цяпер яно азначала не рэальны сялянскі двор, а нейкую ўмоўную адзінку абкладання, што ахоплівала некалькі двароў. Пра гэта сведчыць той факт, што ў тарыфе рэгулярна сустракаюцца велічыні ½ і нават ¼ дыма. Тым не менш гэтая крыніца можа даць уяўленне хоць бы пра адносную колькасць падданых. У Вялікім і Малым Корані разам было 9 дымоў, у Прудках — 2, у плябаніі Кораньскага касцёла — 1. Для параўнання, у Вялікіх і Малых Ганявічах разам значылася 5 дымоў[17]. З улікам даных згаданых інвентароў можна меркаваць, што «дым» гэтага тарыфу адпавядае прыкладна 4 дварам (гэтым можна растлумачыць і велічыні ¼ ці ¾ дыма, што сустракаюцца ў тарыфе). У такім выпадку агульную колькасць падданых маёнтка Корань на 1690 г. можна ацаніць прыкладна ў 48 двароў.

Наступны тарыф падымнага за 1722 г. фіксуе не рост, а яшчэ большае скарачэнне насельніцтва. На гэты раз у абодвух Коранях і Прудках разам значыцца 9 дымоў, яшчэ 1 — у плябаніі Кораньскага касцёла[18]. Усяго, такім чынам, у маёнтку было 10 дымоў, ці прыблізна 40 двароў.

Адзін з дакументаў, упісаны ў актавую кнігу віленскага капітула 13 мая 1737 г.[19], прыгадвае, што *паводле даўніх тарыфаў і звычаяў* грашовыя выплаты з Вялікага, Малога Кораня і Прудкоў ажыццяўляюцца з разліку 10 дымоў, пры гэтым прэстымоній Вялікі Корань прыроўніваецца да 4 дымоў, Малы Корань і Прудкі — да 3 дымоў кожны. Гэта сведчыць пра далейшую трансфармацыю паняцця «дым» — яно ператварылася ў гістарычную адзінку абкладання, канчаткова страціўшы сувязь з рэальнай колькасцю сялянскіх двароў.

---

[13] Там жа. Арк. 36.
[14] Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w 2 połowie XVII wieku. Poznań, 1965.
[15] АРБАНЛ. Ф. 43. Адз. зах. 8584.
[16] Там жа. Адз. зах. 10750.
[17] НГАБ. Ф. 1769. Воп. 1. Адз. зах. 144. Арк. 38.
[18] Там жа. Арк. 53.
[19] Там жа. Арк. 352—354.

Уяўленне пра населенасць маёнтка і характар павіннасцей у больш познія часы дае серыя інвентароў XVIII ст. Пачынае яе інвентарнае апісанне Кораньскага касцёла, датаванае чэрвенем 1740 г.[20]. У ім упершыню пайменна пералічана ўсё мужчынскае насельніцтва 8 паселішчаў, што існавалі на той момант на тэрыторыі Карэньшчыны — сяла Корань (13 двароў), вёсак Міхалкавічы (17), Жырблевічы (6), Лішчыцы (3), Прудкі (21), Церахі (10), Чэрнева (5) і Грамніца (8) — усяго 83 двары. У большасці гаспадарак (за выключэннем сяла Корань) пералічаны, хоць і без імёнаў, таксама жонкі і дочкі. Агульнае насельніцтва маёнтка можна вызначыць прыблізна ў 520 чалавек. Для непасрэдных падданых плябаніі, што жылі ў сяле Корань, пазначаны павіннасці: з кожнай гаспадаркі па 2 дні паншчыны ў тыдзень узімку (ад дня св. Юрыя восеньскага да св. Юрыя веснавога) і па 3 дні — улетку. Грашовыя плацяжы не прыгадваюцца.

Наступны па часе інвентар Кораньскага касцёла быў складзены ў маі—чэрвені 1742 г.[21]. Дакумент у цэлым аналагічны папярэдняму, за тым выключэннем, што не змяшчае пераліку парафіян з капітульных прэстымоніяў. Пералічаны толькі падданыя плябаніі, прычым за 2 гады іх колькасць істотна скарацілася. Увогуле ў інвентары пералічаны 10 гаспадарак, але пра жыхароў адной з іх сказана, што ўсе яны памерлі, а ў іншым двары дзеці памерлі, а гаспадар уцёк, засталася толькі яго жонка. Такім чынам, з ранейшых 13 засталіся 8 паўнацэнных гаспадарак (у іх 13 мужчын, разам з сынамі). З іх 4 сям'і жылі непасрэдна ў Коранi, 3 — у неназваным засценку (з больш позніх крыніц відавочна, што гутарка ідзе пра Нарбутава), а 1 сям'я — у вёсцы Грамніца.

Гэты інвентар змяшчае першыя звесткі пра забяспечанасць жыхароў Карэньшчыны свойскай жывёлай. У адной гаспадарцы яе не было ўвогуле, а ў кожнай з 7 астатніх — па запрэжцы (сасе) з пары валоў, па 1—2 кані і па 1—2 карове. Паказана таксама месцазнаходжанне чатырох зямельных участкаў, якія належалі плябаніі. Адзін з іх знаходзіўся паміж землямі вёскі Міхалкавічы, другі — ля вёскі Чэрнева, трэці — паміж надзеламі вёскі Грамніца, а чацвёрты — паміж надзеламі вёскі Жырблевічы. Памер кожнага ўчастка пазначаны ў 3 чвэрці. Пры гэтым незразумела, меліся на ўвазе чвэрці валокі (што адпавядае памеру ўчастка прыкладна ў 5,3 га) ці плошча, на якой высяваліся 3 чвэрці (каля 12 пудоў, ці 1,97 ц) зерня, што прыблізна адпавядае 1,52 га.

Блізкі па часе стварэння недатаваны інвентар прэстымонія Прудкі[22]. Мяркуючы па складзе прыгаданых домаўладальнікаў, ён адносіцца прыкладна да 1744 г. У ім пералічаны 19 гаспадарак у вёсцы Прудкі і 4 — у Лішчыцах. Усяго на 23 гаспадаркі прэстымонія прыпадала 56 прадстаўнікоў мужчынскага полу. Усе гаспадаркі валодалі аднолькавымі надзеламі па 0,5 валокі (каля 10,7 га), з якіх адна чвэрць валокі лічылася *аседлым* надзелам, а другая — *прыёмным*. За аседлую чвэрць належала плаціць чынш у памеры 5 тынфаў (г.зн. 190 грошаў), а за прыёмную — 2 тынфы (76 грошаў). У 12 гаспадарак не было іншых зямель, апрача гэтых дзвюх чвэрцяў валокі. Астатнія карысталіся дадаткова *пустоўскай* зямлёй, за якую плацілі па 1 тынфе за чвэрць валокі. 4 двары мелі па 0,25 валокі такой зямлі, 4 — па 0,5 валокі, а адзін гаспадар (Юрка Ліс з Лішчыц) меў 1,5 валокі. Апрача таго з кожнага надзелу належала па 2 тынфы *дзякла* і паўгроша *мядовага*, а таксама 6 дзён адпрацовачнай і 1 дзень падводнай павіннасці ў год.

26 мая 1747 г. быў складзены інвентар прэстымонія Вялікі Корань[23], які ахопліваў 19 гаспадарак у вёсцы Міхалкавічы і 6 — у Чэрневе. Колькасць сыноў і жывёлы ў ім не пазначана, маюцца толькі даныя пра зямельныя надзелы і плату за іх. У гэтым прэстымоніі не было прыёмных валок. 18 гаспадарак мелі па 0,5 аседлай валокі, 5 — па $^{2}/_{3}$ валокі, а двое (войт Сымон Калоша і Францішак Калоша з Міхалкавіч) — па цэлай

[20] ДГАЛ. Ф. 694. Воп. 1. Адз. зах. 4481.
[21] НГАБ. Ф. 147. Воп. 2. Адз. зах. 121. Арк. 82, 89—90.
[22] АРБАНЛ. Ф. 43. Воп. 1. Адз. зах. 10771.
[23] Там жа. Адз. зах. 10758.

валоцы. Апрача таго, адной валокай карыстаўся яўрэй — арандатар карчмы. У Чэрневе тры гаспадары мелі адпаведна ½, ¾ і 1 валоку пустоўскай зямлі, у Міхалкавічах яе не было зусім. Плата за тыповы надзел у 0,5 валокі складалася з 9 злотых чыншу, 2 злотых і 16 грошаў *ладройшчыны*, 15 грошаў *мядоўшчыны*, 2 злотых і 16 грошаў *дзякла* і такой самай сумы *работніны*. У суме гэта давала 23 злотыя і 3 грошы.

Параўнанне з папярэднім інвентаром паказвае, што сума чыншу ў абодвух прэстымоніях была прыкладна аднолькавай (тыповая гаспадарка, якая валодала паўвалокай аседлай і прыёмнай зямлі, у Прудках плаціла ў пераліку 8 злотых і 26 грошаў, г. зн. крыху меней за 9 злотых). Сума мядовага ў першым выпадку складала паўгроша, у другім — палову злотага. Гэта азначае розніцу ў 30 разоў, але, хутчэй, у інвентары Прудкоў ёсць памылка, а гутарка павінна ісці таксама пра палову злотага. Роўнай была і сума дзякла (2 злотыя 16 грошаў дакладна адпавядаюць 2 тынфам). У Прудках не было работніны, затое ўжываліся адпрацовачныя павіннасці (верагодна, у Вялікім Корані іх замяняў грашовы эквівалент). Не было там таксама і ладройшчыны (калі яна проста не прапушчана ў інвентары). З улікам папраўкі на кошт мядовага грашовыя павіннасці тыповага надзелу ў Прудках (без пустоўскай зямлі) складалі, такім чынам, 357 грошаў, а ў Вялікім Корані — 513 (у тым ліку па 76 грошаў работніны і ладройшчыны, без якіх застаецца 361 грош).

Гэтыя лічбы можна супаставіць з данымі *валочнай уставы* 1576 г., але з улікам абясцэньвання гроша і змянення структуры цэн. Ацаніць ступень інфляцыі дапамагае супастаўленне з курсам талера — манеты, колькасць срэбра ў якой на працягу другой паловы XVI — XVIII ст. заставалася амаль пастаяннай (у межах 20—25 г). У 1570-я гг. талер прыраўноўваўся да 30 літоўскіх грошаў[24], у якіх вызначаны расцэнкі *валочнай уставы*. Нагадаем, што ў той час з паўвалочнага надзелу добрай ці сярэдняй зямлі, які складаўся з чвэрці цяглай і чвэрці асаднай валокі, належаў чынш у суме адпаведна 26,25 або 22,5 грошаў (г. зн. 0,875—0,75 талера), дзякло ў 0,5 бочкі жыта (у тагачасных цэнах — 7,2 гроша, ці 0,24 талера) і 0,5—0,75 бочкі аўса (6—9 грошаў, ці 0,2—0,3 талера), 2 курыцы і 10 яек (каля 4 грошаў, ці 0,13 талера), паншчына ў памеры 1 дня ў тыдзень, а таксама 6 дзён талакі ў год, падводная і некаторыя іншыя павіннасці. Без адпрацовачных павіннасцей сума выплат з такога надзелу складала каля 1,3—1,5 талера.

З 1717 г. курс талера быў прыраўнаваны да 8 злотых (240 польскіх грошаў меднай манетай)[25]. Такім чынам, 9 злотых чыншу і 0,5 злотых мядовага адпавядаюць амаль 1,19 талера, што сведчыць пра павелічэнне грашовых выплат у рэальным вылічэнні прыкладна на 40—60 %. Затое дзякло цяпер бралася не натурай, а таксама грашыма, прычым у вельмі выгадных для сялян суадносінах. Яго кошт можна супаставіць з цаной прадуктаў харчавання ў сярэдзіне — другой палове XVIII ст., якая неаднаразова пазначаецца ў інвентарах розных маёнткаў. Цэны на збожжа ваганіся ў розныя гады і на розных тэрыторыях, але ў асноўным віленская бочка жыта каштавала ад 16 да 25,5 злотых, бочка аўса — ад 6 да 20 злотых, курыца — ад 6 да 12 грошаў, дзясятак яек — ад 3 да 10 грошаў[26]. Калі прыняць сярэднюю цану жыта за 20 злотых, а аўса — за 13 злотых, то дзякло ў памеры 2 злотыя і 16 грошаў адпавядала кошту менш чым 0,1 бочкі гэтых культур. Нават калі дапусціць, што ва ўставе 1576 г. размова ішла не пра віленскія бочкі, а пра бочкі-салянкі (яны складалі ¼ аб'ёму віленскай бочкі), рэальны кошт дзякла за гэты час вельмі панізіўся.

Паншчына ў сярэдзіне XVIII ст. ужывалася толькі ва ўладаннях плябаніі, прычым яна павялічылася з 1 да 2,5 дня на кожную гаспадарку. У іншых інвентарах паншчына не прыгадваецца зусім, а 6 дзён талакі і падводная павіннасць засталіся толькі ў

---

[24] Gumowski M. Mennica wileńska w XVI i XVII wieku. Warszawa, 1921. S. 61.

[25] Рябцевич В.Н. О чем рассказывают монеты. 2-е изд. Мн., 1977. С. 157.

[26] Указанні на цэны прадуктаў змяшчаюцца ў інвентарах, апублікаваных Віленскай археаграфічнай камісіяй: АВК. Т. 35. Вильно, 1910. С. 67, 73, 108, 110, 119, 192, 198, 233, 242, 305, 320, 325; Т. 38. Вильно, 1914. С. 76—77, 202. Даныя з інвентару 1734 г. маёнтка Бачэйкава маюцца таксама ў публікацыі: Цехановецкий В.П. Хроника одного поместья: Бочейково. Витебск, 1905. С. 18.

Прудках, прычым налічваліся таксама не з валокі, а з гаспадаркі (фактычна гэта азначае двухразовае павелічэнне, бо звычайна валоку трымалі дзве гаспадаркі). У Вялікім Корані замест прыгоннай працы браліся ладройшчына і работніна агульным коштам у 5 злотых і 2 грошы (0,63 талера). Верагодна, гэтая сума прыкладна адпавядае кошту прыбытку, які прыносілі б маёнтку паншчына і талака. У суме павіннасці з паўвалочнага надзелу адпавядалі цяпер 2,3—2,5 талера, а без ладройшчыны і работніны — 1,7—1,9 талера. Такім чынам, можна казаць пра пэўнае (але ніяк не драматычнае) павелічэнне эксплуатацыі параўнальна з XVI ст.

Для параўнання можна прывесці даныя з інвентару суседняга маёнтка Айнаравічы, які непасрэдна межаваў з Коранем з паўднёвага захаду. Можна не сумнявацца, што становішча ў ім было добра вядомае жыхарам Карэньшчыны. Падчас продажу часткі гэтага маёнтка ад Тамаша Цадроўскага Міхалу і Зофіі Свідам у кастрычніку 1752 г.[27] павіннасці падданых складалі: паншчына ў 2 мужчынскія і 2 жаночыя дні з кожнай хаты, 5 *гвалтаў* падчас летняга жніва і яшчэ 2 — падчас ворыва, выпрадзенне 3 *талек* з уласнага лёну, дзякло ў памеры 2 чвэртак менскай меры (трэба меркаваць — палову бочкі) жыта, 2 чвэртак аўса, 1 воза сена, 2 курыц, 2 дзясяткаў яек і яшчэ 1 злоты грашыма.

Самы ранні інвентар прэстымонія Малы Корань датуецца 9 сакавіка 1761 г.[28]. У ім пазначаны 13 двароў у вёсцы Грамніца, 8 — у Жырблевічах і 13 — у Церахах. Амаль усе гаспадаркі мелі па чвэрці валокі аседлай і па чвэрці прыёмнай зямлі (толькі ў дзвюх было ўсяго па чвэрці аседлай валокі), пры гэтым 12 гаспадарак у Грамніцы, 7 у Церахах і 2 у Жырблевічах мелі дадатковую пустоўскую зямлю: 12 двароў — па ¼ валокі, 5 — па ½, 3 — па ¾, адна — цэлую валоку. Стаўка грашовай павіннасці *подле даўных застаў* была такой самай, як у папярэдніх інвентарах: 5 тынфаў з аседлай чвэрці, 2 — з прыёмнай і 1 — з пустоўскай, плюс з кожнага двара па 2 тынфы дзякла, 2 тынфы *за 6 дзён рабошчызны*, 2 тынфы *за ладроўшчызну* і 15 грошаў мядовага. Але за кошт таго, што тыповы надзел ахопліваў тут не палову, а тры чвэрці валокі (усіх трох разрадаў), сума плацяжоў з яго была на 1 тынф большай, чым у Вялікім Корані — 547 грошаў, ці 18 злотых і 7 грошаў (2,28 талера).

Далей па часе ідзе серыя з трох інвентароў прэстымонія Прудкі, датаваных 1774, 1775 і 1778 г.[29]. Колькасць двароў у Прудках дасягнула 22, у Лішчыцах — 13. Апрача таго з'явіліся засценкі Гарадзец і Млын, якія мелі па 1 двары. Размеркаванне зямлі за тры дзесяцігоддзі з часу папярэдняга інвентару істотна змянілася: цяпер 22 з 36 гаспадароў значыліся карыстальнікамі надзелаў у 0,5 аседлай валокі, яшчэ 5 мелі ў дадатак прыёмную (ад ¼ да ½ валокі), а 7 — пустоўскую зямлю (усе па ¼ валокі). На агульным фоне вылучаюцца, з аднаго боку, жыхары Лішчыц Саўка Шэйпа і Мацей Жукоўскі, якія валодалі адпаведна 1 і 1,5 валокі аседлай зямлі, а з другога боку — Грышка Грэцкі і Адам Жукоўскі з той самай вёскі, у якіх было толькі па пустоўскім надзеле (½ і ¼ валокі адпаведна).

Забяспечанасць сялян рабочай скацінай была даволі аднастайнай. На 36 гаспадарак у 1774 г. прыпадала 56 коней і 71 вол, у тым ліку 20 гаспадарак мелі па 2 кані і 2 валы, 6 — па 1 кані і 2 валы. Толькі 2 гаспадаркі ў Прудках і 2 у Лішчыцах мелі па 4 валы і 2 кані (у 1778 г. у двух гаспадароў было ўжо па 4 валы і 3 кані, а ў трох — па 4 і 2). З другога боку, у адным двары былі толькі 1 вол і 1 конь, у другім — толькі конь, а 4 гаспадары не мелі цяглавай жывёлы (двума з іх былі вышэйзгаданыя Грышка Грэцкі і Адам Жукоўскі).

Плата за тыповы надзел у 0,5 аседлай валокі складала, паводле інвентару 1774 г., 18,5 злотых (2,31 талера). Пры гэтым ніякіх адпрацовачных павіннасцей сяляне не выконвалі, бо ў маёнтку не было панскага ворыва. У 1775 г. павіннасці рэзка ўзраслі: з той самай паўвалокі належала 10 тынфаў (паводле тагачаснага курса гэта складала 32 злотыя, ці 4 талеры) чыншу і 6 тынфаў за мёд і воск, да таго ж сяляне мусілі адпрацоўваць яшчэ па 2 дні паншчыны ў год (магчыма, на самай справе — у

[27] ДГАЛ. Ф. СА. Адз. зах. 116. Арк. 13—16 адв.
[28] АРБАНЛ. Ф. 43. Воп. 1. Адз. зах. 10760.
[29] Там жа. Адз. зах. 10761, 10762.

тыдзень) на карысць кораньскага плябана, які ў гэты час арандаваў прэстымоній. Трэба меркаваць, што менавіта з арэндай і звязана рэзкае павелічэнне павіннасцей. У 1778 г. чынш зноў панізіўся да 20 злотых (2,5 талера) з паўвалокі.

Для параўнання ёсць амаль аднвчасовы інвентар часткі сумежнага маёнтка Айнаравічы, набытага ў сакавіку 1779 г. Стэфанам і Зофіяй Свідамі ад Зофіі Цадроўскай і яе мужа Зыгмунта Шыцкага[30]. Цяпер паншчына ў гэтым маёнтку складала ўжо 2 мужчынскія і 3 жаночыя дні з гаспадаркі (на 1 больш параўнальна з 1752 г.), плюс 2 мужчынскія гвалты на ворыве і 3 жаночыя — на жніве. Затое дзякло не прыгадваецца — магчыма, за кошт яго скасавання і была павялічана паншчына. Іншыя павіннасці з паўвалочнага надзелу складаліся з 2 злотых падымнага, 3 курыц, 20 яек, 3 талек прадзіва. Апрача таго штоноч належала выходзіць па чарзе на варту ў панскі двор, а *для засыпання грэбляў, ежлі б таго патрэба была, з сваіх дзён ехаць павінны*. За паўвалокі прыёмнай зямлі належала плата ў 10 злотых.

Група блізкіх па часе інвентароў належыць да прэстымонія Вялікі Корань. Адзін з іх датаваны 1 кастрычніка 1781 г.[31], а другі, што захаваўся ў трох розных спісах, — 1 кастрычніка 1786 г.[32]. Гэтыя інвентары найбольш падрабязныя. Інвентар 1781 г. фіксуе 17 двароў у Чэрневе (у іх 52 асобы мужчынскага полу і не менш за 32 — жаночага[33]), 21 двор (адпаведна 57 і 51) у Міхалкавічах і яшчэ 7 (20 і 17) — у Загор'і, якое было выселкам той самай вёскі і пазней злілося з ёй. Апрача таго ў складзе прэстымонія з'явілася яшчэ адно новае паселішча — Юршы — з 4 дварамі (12 і 9). Усяго, такім чынам, у наяўнасці было 49 двароў з прыкладна 250—260 жыхарамі. На іх прыпадала 75 коней (1,5 на двор), 84 валы (1,7), 100 кароў (2), 202 авечкі (4,1), 70 коз (1,4), 125 свіней (2,5) і 4 вуллі пчол. Звесткі пра памеры надзелаў страчаны для 5 двароў Чэрнева з прычыны пашкоджання адпаведнага аркуша інвентару. З астатніх 44 гаспадарак 28 мелі надзелы па ½ валокі, 2 — па ⅜ валокі, 7 — па ¾ валокі, 2 — па ⅝ валокі. У 3 гаспадароў было толькі па ¼ валокі, а ў 2 — увогуле не было (адзін з іх запісаны як *парабок*, другі — як *млынар-агароднік*). З тыповага надзелу ў 0,5 валокі належалі павіннасці ў памеры 20 злотых чыншу, плюс 4 злотыя і 20 грошаў *падымнага*.

Інвентар 1786 г. змяшчае істотныя адрозненні, асабліва ў дачыненні да свойскай жывёлы. Колькасць двароў у Чэрневе павялічылася да 20 (апрача іх пазначана 1 сям'я *кутнікаў*, якая не мела ўласнай хаты). У Міхалкавічах стала 23 двары (і яшчэ 5 сем'яў кутнікаў), у Загор'і — 9 двароў і ў Юршах — па-ранейшаму 4. Колькасць жыхароў абодвух полаў (без кутнікаў) склала 339 чалавек на 56 двароў (6 чал. на двор). Рэзка павялічылася параўнальна з папярэднім інвентаром колькасць скаціны: на гэты раз згадваюцца 191 конь (3,4 на гаспадарку), 233 валы (4,2), 347 кароў (6,2), 443 авечкі (7,9), 148 коз (2,6), 617 свіней (8,3) і 79 вулляў. Лічбы па асобных дварах уражваюць: напрыклад, у гаспадарцы Лявона Саўрыцкага з Чэрнева значацца 4 кані, 8 валоў, 12 кароў, 14 авечак, 7 коз і 13 свіней, тады як у інвентары 1781 г. у яго пазначаны толькі 1 конь, 2 валы, 2 каровы, 5 авечак, 2 казы і 1 свіння. Такая вялікая розніца за 5 гадоў наўрад ці можа быць растлумачана натуральным прыростам. Магчыма, у першым выпадку быў моцны недаўлік, або падлічвалася толькі дарослая жывёла, а ў пазнейшым інвентары — таксама і маладняк.

Велічыня надзелаў крыху скарацілася: з 56 гаспадарак 39 мелі па ½ валокі, 3 — па ¾ , 5 — па ⅜ і 8 — па ¼. Беззямельных гаспадарак на гэты раз няма. Усе валокі належалі да аднаго разраду — аседлых (*сядзібных*). Толькі адна гаспадарка — ляснічага Станіслава Фалькоўскага — мела апрача ¾ валокі асноўнага надзелу яшчэ ½ вольнай валокі. У Міхалкавічах амаль усе двары мелі таксама па 2 моргі (каля 1,4 га) сенажацяў. У іншых паселішчах іх не было амаль ні ў кога, толькі ў Чэрневе 3 двары мелі да сваіх паўвалочных надзелаў па 5 дадатковых моргаў — ворыўных і сенакосных.

---

[30] НГАБ. Ф. 1769. Воп. 1. Адз. зах. 6. Арк. 278—283 адв.

[31] ДГАЛ. Ф. 694. Воп. 1. Адз. зах. 3397. Арк. 50—53.

[32] Там жа. Арк. 55—56 адв.; АРБАНЛ. Ф. 43. Воп. 1. Адз. зах. 10763, 10764.

[33] Канцы радкоў, прысвечаных жыхарам Чэрнева, у гэтым інвентары пашкоджаны, таму страчаны імёны некалькіх дачок (прынамсі — у трох дварах).

Спіс павіннасцей у гэтым інвентары даволі складаны. Грашовыя павіннасці збіраліся перад днём св. Міхаіла. Са стандартнай паўвалокі належала 24 злотыя чыншу, а апрача таго — 2 злотыя мядовага і 1 злоты 10 грошаў падымнага з кожнага двара. За дадатковыя моргі была адмысловая плата — па 1 злотым і 15 грошаў з ворыўнага і па 24 грошы — з сенакоснага морга. На кожны злоты налічваўся яшчэ і дадатак у памеры 1 гроша — *грашовая* подаць. Усяго з двара прыходзілася, у залежнасці ад памераў надзелу, розных плацяжоў на суму ад 18 да 55 злотых, часцей за ўсё — каля 35—37 злотых у год. Кутнікі плацілі 6 злотых 20 грошаў падымнага.

Можна канстатаваць павелічэнне чыншу параўнальна з 1747 г. у 2,7 раза, мядовага ў 4 разы і з'яўленне новых грашовых выплат — падымнага і грашовага. Дзякло зноў выступала ў выглядзе натуральнай павіннасці — па паўбочкі жыта і аўса, па 4 курыцы і 30 яек, па 2 капы грыбоў з кожнай паўвалокі. Замест зніклых ладройшчыны і работніны зноў з'явіліся адпрацовачныя павіннасці: паншчына ў памеры 3 мужчынскіх і 2 жаночых дзён у тыдзень з валокі (г.зн. 2,5 дня з паўвалочнага надзелу), плюс адна паездка ў год на сваёй падводзе ці транспартаванне па вадзе 1 плыта да Вільні (на адлегласць каля 210 км). Апрача таго належала выходзіць на рамонт мастоў, гацяў і карчмы, а ў выпадку заснавання ў вёсцы новага двара кожная гаспадарка абавязана была вывезці з лесу па 10 бярвенняў.

Інвентарнае апісанне Кораньскага прыхода ад 31 студзеня 1783 г.[34] змяшчае вопіс маёмасці плябаніі, яе зямельных угоддзяў, а таксама спіс падданых, што жылі ва ўладаннях касцёла — Кораньскай *юрысдыцы*. Землі плябаніі знаходзіліся ў самім сяле Корань (каля 8 валок) і цераспалосна з уладаннямі капітула — у засценку Нарбутава (1 валока 22 моргі), у Капцах (1 валока), сярод зямель вёскі Прудкі ва ўрочышчы Дворышча (1 валока), а таксама па 1,5 валокі ў Міхалкавічах, Жырблевічах, Церахах і Грамніцы. Усяго на гэтыя землі прыходзілася каля 10 валок ворыва, каля 7 валок лесу, каля 2,5 валок сенакосаў. Прыкладна 6 валок выкарыстоўваліся на патрэбы плябаніі, а 5 былі выдзелены пад надзелы сялян. Плябаніі належалі таксама два *ставы* — у Капцах і Бачылаўцы (з іх другі — напалам з маёнткам Укропавічы). Спіс падданых уключаў 9 двароў і 3 сям'і кутнікаў у Коpані, 4 двары ў Нарбутаве, а таксама па 1 двары ў Грамніцы, Церахах і Жырблевічах і сям'ю каваля Томаша Шчарбовіча, што жыла ў Чэрневе (відавочна, без уласнага двара і зямельнага надзелу). Усяго ў 16 дварах пералічаны 111 чалавек (57 асоб мужчынскага полу і 54 — жаночага), з іх 13 кутнікаў. У іх карыстанні знаходзіліся 21 рабочы конь і 4 жарабяты, 31 рабочы вол і 6 маладых, 27 кароў і 6 цялушак, 70 авечак, 18 коз і 48 свіней. Непасрэдна ў плябанскай гаспадарцы было 6 дойных кароў, 1 племянны бык (*бугай*), 10 авечак, 10 свіней, 7 гусей, 6 качак, 10 курэй. Апрача таго, за асабістыя грошы плябана былі куплены 7 кароў, 2 валы, 1 бугай, 19 авечак, 1 каза, 1 казёл, 7 свіней, 9 індыкоў і 4 гусі.

Павіннасці кожнай гаспадаркі зводзіліся да паншчыны ў колькасці 3 дзён на тыдзень (усяго 156 дзён на год) і выплаце падымнага — 3 злотыя 10 грошаў. Памеры надзелаў не пазначаны, але, калі верыць звесткам пра тое, што ў суме яны складалі каля 5 валок, то на кожны двор прыходзілася ў сярэднім меней за $^1/_3$ валокі (7 га). На гэтых надзелах высявалася 10 бочак жыта (азімага), каля 2 бочак ячменю, 8 бочак аўса, 4 бочкі *яркі* (яравога жыта), па 2 бочкі пшаніцы і гароху, па чвэрці лёну і канаплі. Норма высеву зерневых, мяркуючы па гэтых лічбах, складала каля 1 чвэрці (100 л, ці 0,8 ц) на гектар. Ураджайнасць жыта прыкладна ў пяць разоў перавышала пасеў (г. зн. была каля 4 ц/га), ячменю — вагалася ад сам-1 да сам-10, аўса — каля сам-3, прычым у інвентары адзначаецца, што ў даўнія гады ўраджай аўса нават не вяртаў насення.

Да гэтага інвентару дадаецца запіс пра змяненне зямельных уладанняў касцёла, здзейсненых капітулам 24 кастрычніка 1787 г.[35]. Плошча іх склала з таго часу 17 валок 22 моргі, з якіх 6 валок належалі непасрэдна плябаніі, а 10 валок 22 моргі прызначаліся пад надзелы яе прыгонных.

[34] НГАБ. Ф. 1781. Воп. 27. Адз. зах. 219. Арк. 125—168.

[35] Там жа. Ф. 1769. Воп. 1. Адз. зах. 22. Арк. 431—432. Гл. таксама: Ф. 147. Воп. 2. Адз. зах. 121. Арк. 94 адв.

Завяршаюць спіс інвентароў XVIII ст. два інвентары прэстымонія Прудкі, датаваныя 29 верасня 1787 і 1789 г.[36]. Колькасць двароў у Прудках склала ў 1787 г. 22, а праз два гады — 23. У Лішчыцах іх было адпаведна 13 і 14. У 1787 г. 1 двор пазначаны таксама ў засценку Капцы, а 2 — у засценку Гарадзец. У 1789 г. іх насельнікі дапісаны пасля спіса гаспадарак вёскі Лішчыцы, без пазначэння месца жыхарства. Памеры надзелаў пазначаны толькі ў інвентары 1787 г., прычым не ў валоках, а ў моргах ($^1/_{30}$ валокі). Самыя маленькія надзелы — па 10 *сядзібных* моргаў, ці $^1/_3$ валокі, — былі ў 3 сялян, якія плацілі за іх чынш па 13 злотых 10 грошаў. Самым буйным быў надзел у 2 валокі (Мацея Жукоўскага з Лішчыц). За яго належаў чынш у 80 злотых. Яшчэ 3 чалавекі мелі надзелы больш за 1 валоку сядзібнай зямлі, а ў 7 спалучэнне сядзібных і прыёмных моргаў у суме давала валоку і болей, што азначала плату ад 40 да 63,5 злотых. Палова ўсіх надзелаў (20) укладвалася ў памеры ад 20 да 27 моргаў (14—19 га) сядзібнай зямлі, яшчэ ў 5 сялян такія самыя лічбы давала спалучэнне сядзібных і прыёмных моргаў. Чынш з такіх надзелаў налічаўся ў межах ад 26 злотых 20 грошаў да 36 злотых. На 0,5 валокі сума чыншу складала 20 злотых, г. зн. яна не змянілася параўнальна з 1778 г. Верагодна, былі і іншыя павіннасці, аналагічныя павіннасцям сялян з іншых вёсак (падымнае, мядовае), але ў інвентары яны не згадваюцца.

Сярэдні памер гаспадаркі быў даволі стабільны. Паводле даных інвентару 1740 г. ён складаў каля 6,3 чал. (дыяпазон ваганняў — ад 2 да 18). Серыя інвентароў 1783—1789 гг. змяшчае даныя пра гаспадаркі па 7 з 12 паселішчаў. Іх сярэдні памер складаў 6,1 чал., а з улікам кутнікаў — да 6,3 (пры размаху ваганняў ад 1 да 14). Забяспечанасць зямлёй моцна мянялася па розных прэстымоніях, і нават па адным паселішчы з цягам часу, што бачна з табліцы 1. Верагодна, значнае павелічэнне ворыўнай зямлі ў прэстымоніях Вялікі Корань і Прудкі звязана з расчысткай новых зямель з-пад лесу.

**Табліца 1. Колькасць насельніцтва і зямлі ў гаспадарках паводле даных інвентароў XVIII ст.**

| Даты | Паселішчы | Гаспадаркі | Душы | Усяго зямлі | На 1 двор | | На 1 душу (га) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | муж. | усяго | валок | га | валок | га | |
| 1742 | Корань, Нарбутава (а) | 9 | 13 | - | - | - | - | - | - |
| 1744? | Прудкі, Лішчыцы | 23 | 56 | - | 16 | 341 | 0,69 | 14,8 | - |
| 1747 | Міхалкавічы, Чэрнева | 25 | - | - | 15,6 | 332 | 0,62 | 13,3 | - |
| 1761 | Грамніца, Жырблевічы, Церахі | 34 | 131 | - | 24,25 | 516,5 | 0,71 | 16,2 | - |
| 1774/5 | Прудкі, Лішчыцы, Гарадзец, Млын | 36 | 96 | - | 20,3 | 433 | 0,55 | 11,7 | - |
| 1781 | Міхалкавічы, Чэрнева, Юршы | 49 | 141 | 255? | 22(б) | 469(б) | 0,5 | 10,6 | - |
| 1783 | Корань, Нарбутава (в) | 16 | 49 (г) | 100 (г) | 5? | 105? | 0,31 | 6,6 | 1,05 |
| 1786 | Міхалкавічы, Чэрнева, Юршы | 56 | 175 (г) | 339 (г) | 25,6 | 546 | 0,46 | 9,8 | 1,61 |
| 1787 | Корань, Нарбутава | 16? | 49? | 100? | 10,7 | 228 | 0,67 | 14,2 | 2,28 |
| 1787/9 | Прудкі, Лішчыцы, Гарадзец, Капцы | 40 | 127 | 236 | 34,6 | 737 | 0,86 | 18,4 | 3,12 |

(а) З улікам 1 двара ў Грамніцы.

(б) Падлікі толькі ў дачыненні да 44 гаспадарак.

(в) З улікам па 1 двары ў Грамніцы, Жырблевічах, Церахах і Чэрневе.

(г) Без уліку кутнікаў.

[36] АРБАНЛ. Ф. 43. Воп. 1. Адз. зах. 10765, 10766.

Забяспечанасць большасці гаспадарак свойскай жывёлай была здавальняльнай. Тыповая гаспадарка мела, як правіла, 1—2 коні, пару валоў, не менш за 2 каровы, 2—3 свіней.

**Табліца 2. Наяўнасць свойскай жывёлы ў гаспадарках паводле даных інвентароў XVIII ст.**

| Даты | Паселішчы | Гаспадаркі | Коні | Валы | Каровы | Авечкі | Козы | Свінні | Вуллі пчол |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1742 | Корань, Нарбутава (а) | 9 | 9 | 14 | 9 | - | - | - | - |
| 1744? | Прудкі, Лішчыцы | 23 | 43 | 68 | - | - | - | - | - |
| 1761 | Грамніца, Жырблевічы, Церахі | 34 | 59 | 73 | - | - | - | - | - |
| 1774/5 | Прудкі, Лішчыцы, Гарадзец, Млын | 36 | 56 | 71 | - | - | - | - | - |
| 1781 | Міхалкавічы, Чэрнева, Юршы | 49 | 75 | 84 | 100 | 202 | 70 | 125 | 4 |
| 1783 | Корань, Нарбутава (б) | 16 | 25 (в) | 37 (в) | 33 (в) | 70 | 18 | 48 | - |
| 1786 | Міхалкавічы, Чэрнева, Юршы | 56 | 191 | 233 | 347 | 443 | 148 | 617 | 79 |

(а) З улікам 1 двара ў Грамніцы.

(б) З улікам па 1 двары ў Грамніцы, Жырблевічах, Церахах і Чэрневе.

(в) З улікам маладняку.

У XVIII ст. у маёнтках капітула пераважала грашовая рэнта — чынш. Самая высокая норма паншчыны фіксуецца ў інвентарах Кораньскай плябаніі (2,5—3 дні з гаспадаркі) і прэстымонія Вялікі Корань за 1786 г. (3 мужчынскія і 2 жаночыя дні з валокі, ці прыкладна 2,5 з гаспадаркі). Паколькі сярэдні памер гаспадаркі быў блізкі да 6 чал., з іх прыкладна палова працаздольных, то на кожнага работніка прыходзілася менш за 1 чалавека-дзень на тыдзень. Гэтая норма была намнога ніжэйшая за сярэднюю па Беларусі. Нагадаем, што ў суседнім маёнтку Айнаравічы паншчына складала 4—5 дзён з гаспадаркі, ці 8—10 з валокі. Такое становішча было куды больш тыповым для шляхецкіх маёнткаў. Паводле падлікаў П. Лойкі, у 29 прыватнаўласніцкіх маёнтках захаду і цэнтра Беларусі ў другой палове XVIII ст. паншчына складала ў сярэднім 9,8 чалавека-дзён на тыдзень з валокі[37]. Характэрна, што і сярэдні памер гаспадаркі па Беларусі ў цэлым быў прыкметна вышэйшы. Ю. Можы паводле даных 15 інвентароў за перыяд з 1725 да 1808 г. налічыў у 4370 дварах 34 950 душ, г. зн. каля 8 чалавек на двор.

У сакавіку 1793 г. у працэсе другога падзелу Рэчы Паспалітай тэрыторыя цэнтральнай Беларусі адышла да Расіі. Для ўладанняў каталіцкай царквы гэта мела вельмі істотныя наступствы: усе маёнткі біскупа і капітула ў 1794 г. былі канфіскаваныя. У актавай кнізе капітула за 1797 г. падаецца пералік страчаных уладанняў, сярод якіх фігуруюць прэстымоній каноніка Ігнацыя Кліманьскага Вялікі Корань, прэстымоній Мікадыма Пузыны Корань, або Красны Бор, прэстымоній Якуба Дадэркі Прудкі[38]. 18 жніўня 1795 г. маніфестам імператрыцы Кацярыны II гэтыя і шэраг іншых канфіскаваных маёнткаў (у тым ліку і суседнія Айнаравічы, або Мураваны Двор) былі пажалаваны ва ўласнасць генерал-маёру Івану Мікалаевічу Няплюеву[39]. Пры гэтым тры былыя капітульныя прэстымоніі былі аб'яднаныя ў адзін маёнтак, які атрымаў назву Красны Бор.

[37] Лойка П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991. С. 100.

[38] АРБАНЛ. Ф. 43. Воп. 1. Адз. зах. 244. Арк. 336.

[39] НГАБ. Ф. 147. Воп. 2. Адз. зах. 121. Арк. 126.

Пераход у склад Расійскай імперыі азначаў для жыхароў Карэньшчыны не толькі змену ўладальніка, але і шэраг іншых, часам вельмі балючых нававядзенняў. Адным з іх была рэкруцкая павіннасць, якой не ведала Рэч Паспалітая. Цяпер усё мужчынскае насельніцтва ва ўзросце ад 19 да 35 гадоў трапляла ў разрад ваеннаабавязаных, і пры абвяшчэнні чарговага набору (ён праводзіўся ў сярэднім 1 раз на год) кожны з іх рызыкаваў трапіць на 25-гадовую вайсковую службу. Адчувальна павялічыўся і ўзровень эксплуатацыі сялян. Хоць непасрэдных звестак на гэты конт няма, можна меркаваць, што ў маёнтку Красны Бор ужо ў гэты час замест чыншу ўсталёўвалася такая ж паншчына, як і ў суседніх Айнаравічах, чаму спрыяла часовае аб'яднанне абодвух уладанняў у адзін маёмасны комплекс генерала Няплюева. Пасля яго смерці абодва маёнткі дасталіся ў спадчыну яго дачцэ Марыі, па мужу Енгальчавай, якая 21 чэрвеня 1826 г. прадала Красны Бор гвардыі палкоўніку Казіміру Іванавічу Чудоўскаму[40].

Што тычыцца ўладанняў Кораньскага касцёла, то яны былі пакінуты ў руках плябана Рафала Гзоўскага. Згодна з інвентарным апісаннем ад 8 снежня 1796 г.[41], землі гэтага маёнтка пасля паўторнай фундацыі капітула ад 1787 г. вымяраліся 17 валокамі 22 моргамі, з якіх 6 валок выкарыстоўваліся плябанскім дваром, а 10 валок 22 моргі складалі надзелы прыгонных сялян плябаніі (іх спіса ў гэтым інвентары няма).

Наступнае апісанне Кораньскага касцёла датуецца 18 жніўня 1804 г.[42]. На той час у Корані было 4 двары, у Нарбутаве — 3. Яшчэ 7 чалавек пазначаны ў спісе *чэлядзі плябанскай* і 1 — у якасці кутніка. Колькасць душ абодвух полаў складала 59 чалавек. Усе сялянскія надзелы былі аднолькавыя — па 3 моргі (крыху больш за 2 га) *сядзібнай* зямлі і па 3 моргі сенакосаў. Апрача таго сяляне мелі яшчэ палявыя надзелы, падзеленыя на 3 змены па 4 моргі ў кожным участку. Адна гаспадарка (Мацея Гусакоўскага) мела дадаткова ўчастак *пусташы* ў 6 моргаў сядзібнай і сенакоснай зямлі. У сярэднім на двор прыпадала па 12 моргаў ворыва, па 3 моргі сядзібнай і 3 — сенакоснай зямлі, г. зн. па 18 моргаў (крыху менш за 13 га) на двор. За сядзібныя надзелы належала па 2 мужчынскія і 2 жаночыя дні паншчыны і па 2 *талакі* ў год (на вываз гною і на жніво). Такім чынам, і ў царкоўных уладаннях норма паншчыны наблізілася да лічбы, характэрнай для шляхецкіх маёнткаў. Зямельныя ўладанні плябаніі ў суме складалі 18 валок (каля 385 га), з іх 9,5 валокі і 2,5 морга прыходзілася на *дворную* зямлю, 5 валок — на сялянскія надзелы, 3 валокі і 12,5 морга — на баравы лес. 4 пусташы (іх памер не пазначаны) знаходзіліся ў арэндзе ў яўрэя-карчмара і трох дробных шляхціцаў — Міхала Главацкага, Антонія Гашынскага і Станіслава Добжынскага. На 7 сялянскіх двароў прыпадала 8 коней, 3 клячы (кабылы), 3 жарабяты, 17 валоў, 1 бык, 8 кароў, 1 цялушка, 12 коз, 35 авечак, 16 свіней, 41 курыца. Аднаму з сялян — Вінцэнту Шчарбовічу — як *навіку нядаўна аседламу* была дадзена льгота на 2 гады, пасля заканчэння якой ён мусіў выконваць павіннасці ў агульным парадку.

Інвентар ад 3 чэрвеня 1807 г.[43] быў складзены з нагоды перадачы плябаніі пасля смерці Рафала Гзоўскага новаму ксяндзу — Юзафу Валіцкаму. З чатырох арандатараў пусташаў засталіся двое — яўрэй Гірш і шляхціц Добжынскі. Колькасць двароў у Нарбутаве засталася нязменнай, у Корані — павялічылася з 4 да 6, а колькасць падданых у абодвух паселішчах склала 69 (без чэлядзі, спіса якой няма). На 9 двароў прыпадала 7 коней, 11 кляч, 3 жарабяты, 18 валоў, 6 бычкоў, 4 цялушкі, 16 кароў, 2 *перадойкі*, 8 коз, 48 авечак, 21 свіння, 59 курэй. У гаспадарцы Мацея Гусакоўскага было 6 вулляў пчол, яшчэ 1 вулей — у Міхала Гусакоўскага.

Наступнае інвентарнае апісанне Кораньскага касцёла, датаванае 5 лютага 1822 г.[44], прыгадвае 4 сялянскія двары ў Корані і 4 у Нарбутаве — усяго 63 чалавекі абодвух полаў. Яшчэ 2 чалавекі служылі пры плябаніі. На ўсе 8 двароў прыпадала 10 коней, 17 валоў, 9 кароў, 33 авечкі, 21 свіння, 53 курыцы, 1 вулей пчол.

---

[40] Там жа.
[41] Там жа. Арк. 91—94 адв.
[42] Там жа. Ф. 1781. Воп. 27. Адз. зах. 276. Арк. 25—34 адв.
[43] Там жа. Адз. зах. 309. Арк. 33—43.
[44] Там жа. Адз. зах. 377. Арк. 28—41.

Багатую інфармацыю змяшчае інвентар маёнтка Красны Бор, які захаваўся ў фондзе Мінскага губернскага інвентарнага камітэта[45]. Дата яго складання не пазначана, але ў загалоўку ўладальнік маёнтка Казімір Чудоўскі названы нябожчыкам (ён памёр 12 ліпеня 1846 г.[46], а 21 жніўня таго самага года ў валоданне маёнткам быў уведзены яго брат Аляксей[47]). Фармальна інвентар трэба датаваць чэрвенем—жніўнем 1846 г., аднак супастаўленне пазначанага ў ім узросту сялян з данымі метрычных кніг і *рэвізскіх сказак* паказвае, што пры яго стварэнні былі механічна выкарыстаны звесткі з нейкага гаспадарчага інвентару таго самага маёнтка за 1841 г.

У інвентары як самастойныя гаспадары выступаюць не толькі трымальнікі ворыўных (*грунтовых*) надзелаў і *агароднікі*, што карысталіся толькі сядзібнай зямлёй з агародам, але таксама *халупшчыкі*, якія ўвогуле зямлі не мелі. Асобна пазначаны кутнікі. Усяго ў маёнтку значылася 142 гаспадаркі на поўных надзелах, 3 агароднікі, 6 халупшчыкаў і 13 кутнікаў. Памеры надзелаў для ўсіх грунтовых двароў былі аднолькавыя — па 15 дзесяцін[48] палявой і 5 дзесяцін сенакоснай зямлі. Гэта, аднак, супярэчыць змешчанай у пачатку інвентару агульнай характарыстыцы маёнтка, якая належыць да 1846 г. У ёй пазначана, што на двор прыпадае па 1 дзесяціне сядзібнай зямлі, 10 дзесяцін ворыўнай і 3,3 — сенакоснай. Відавочна, паміж 1841 і 1846 гг. памеры надзелаў былі скарочаны.

**Табліца 3. Маёнтак Красны Бор па даных інвентару 1841 г.**

| Паселішчы | | Колькасць двароў | Колькасць душ | | | Свойская жывёла | | | | | | | | | пчолы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | муж. | жан. | усяго | коні | валы | жараб. | бычкі | каровы | цялушкі | авечкі | козы | свінні | |
| **пры маёнтку** | | 1 | 2 | 4 | 6 | 0 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 | 2 | 0 | 3 | 0 |
| 1 | Грамніца | 17 | 61 | 74 | 135 | 24 | 33 | 0 | 15 | 23 | 16 | 87 | 20 | 61 | 12 |
| 2 | Града | 1 | 7 | 4 | 11 | 4 | 3 | 2 | 3 | 5 | 2 | 9 | 0 | 5 | 6 |
| 3 | Жырблевічы | 12 | 58 | 56 | 114 | 17 | 35 | 5 | 17 | 23 | 16 | 77 | 14 | 56 | 24 |
| 4 | Казыры | 13 | 58 | 70 | 128 | 30 | 34 | 5 | 17 | 28 | 21 | 87 | 11 | 71 | 54 |
| 5 | Лішчыцы | 13 | 50 | 49 | 99 | 18 | 25 | 2 | 11 | 18 | 10 | 66 | 20 | 43 | 8 |
| 6 | Міхалкавічы | 31 | 135 | 140 | 275 | 45 | 71 | 10 | 22 | 40 | 38 | 154 | 64 | 111 | 10 |
| 7 | Востраў | 1 | 7 | 7 | 14 | 4 | 4 | 1 | 2 | 4 | 3 | 8 | 0 | 4 | 0 |
| 8 | Прудкі | 25 | 97 | 124 | 221 | 28 | 52 | 5 | 17 | 32 | 27 | 121 | 56 | 60 | 6 |
| 9 | Церахі | 24 | 90 | 111 | 201 | 28 | 58 | 10 | 31 | 40 | 30 | 107 | 38 | 86 | 37 |
| 10 | Чэрнева | 13 | 63 | 59 | 122 | 26 | 35 | 13 | 13 | 26 | 22 | 71 | 19 | 41 | 4 |
| **Усяго** | | **151** | **628** | **698** | **1326** | **224** | **350** | **53** | **148** | **239** | **186** | **791** | **242** | **541** | **161** |

Параўнальна з перыядам ВКЛ рэзка ўзрасла сярэдняя населенасць двара — цяпер яна складала 8,8 чалавек. Верагодна, гэта было рэакцыяй сялян на рост адпрацовачных павіннасцей: для гаспадаркі, якая мела больш рабочых рук, цяжар на кожнага быў не такі вялікі. Таму запозненае адшчапленне новых гаспадарак, як і больш раннія шлюбы (што прыводзіла ў сям'ю новую работніцу) сталі выгаднымі для сялян.

У сваю чаргу памешчык адрэагаваў тым, што ўжыў новую сістэму раскладкі павіннасцей — ужо не ў разліку на двор ці валоку, а ў залежнасці ад колькасці работнікаў у гаспадарцы. На кожнага працаздольнага (такімі лічыліся мужчыны і

[45] Там жа. Ф. 142. Воп. 1 Адз. зах. 305.

[46] Там жа. Ф. 146. Воп. 2. Адз. зах. 1778. Арк. 6 адв.

[47] Там жа. Адз. зах. 1004.

[48] Дзесяціна была роўная 1,09 га.

жанчыны ад 15 да 50—55 гадоў) прыходзілася ў сярэднім па 1 дні прыгону на тыдзень. У цэлым на 142 цяглыя гаспадаркі гэта давала 286 мужчынскіх дзён (з іх 275 дзён конных і 11 — пешых) і 288 жаночых, г. зн. прыкладна па 4 дні паншчыны на гаспадарку. Апрача таго незалежна ад колькасці працаздольных кожная гаспадарка абавязана была адпрацаваць 1 дзень у якасці *шарварка*, што давала яшчэ 100 конных і 42 пешыя дні, а сярэдняя колькасць адпрацовачных чалавека-дзён з цяглай гаспадаркі дасягала 5. У дадатак, з кожнай працаздольнай душы (з улікам агароднікаў і нават кутнікаў) належала ў год па 6 дзён *летняй дапамогі*, або *талакі*. Гэтая павіннасць прыйшла яшчэ з XVI ст., але замест валокі ці двара таксама вылічалася цяпер з кожнай душы. 138 найбольш моцных гаспадарак выконвалі яшчэ ў год па 1 *падводзе* (паездцы са сваім гужавым транспартам на адлегласць каля 1 мілі, або 7,4 км). Тыя, хто трымаў пчол, уносілі натуральную павіннасць мёдам: звычайна па 12 *кварт*[49] з двара, хоць некаторыя ўладальнікі пасек уносілі па 48 і нават 60 кварт.

Падсумоўваючы, можна канстатаваць, што прыналежнасць маёнтка Корань віленскаму капітулу была фактарам вельмі спрыяльным для сялян. Узровень іх эксплуатацыі ў найбольш жорсткай форме — адпрацоўка прыгону — на той час быў істотна ніжэйшы за сярэдні па Беларусі. З пераходам маёнтка ў прыватныя рукі гэтая перавага знікла, і ў цэлым становішча былых капітульных падданых істотна пагоршылася. Гэта пацвярджаецца ўспамінамі, зафіксаванымі на пачатку XX ст. нараджэнцам вёскі Міхалкавічы — беларускім культурным дзеячам і этнографам-аматарам А. Варлыгам. Ён адзначаў, што ў свядомасці сялян расійскае панаванне было часам пагаршэння іх становішча, і таму падчас вайны 1812 г. іх сімпатыі адназначна былі на баку французаў[50].

*Друкуецца паводле:*
Беларускі гістарычны агляд. 2000. Т. 7. Сш. 1 (12). С. 3—28.

[49] Кварта была роўная 0,705 л.

[50] Варлыга А. Карэншчына: Успамін-нарыс з канца XIX — пачатку XX ст. // Літаратура і мастацтва. № 14. 8 красавіка 1994.

# Структуры сям'і і дворагаспадаркі ў гісторыі Еўропы

У сярэдзіне 1960-х гг. брытанскі даследчык Джон Хайнал (John Hajnal) прадэманстраваў перспектыўнасць параўнальнага вывучэння структуры сям'і ў розных рэгіёнах свету. На фоне спрэчак пра тое, якія фактары забяспечылі канкурэнтаздольнасць Захаду ў параўнанні з іншымі, значна больш старажытнымі цывілізацыямі, яму ўдалося вызначыць фактар, які паддаваўся колькаснаму вымярэнню: спецыфічны спосаб шлюбных паводзінаў, за якім, як высветлілася, стаяла больш глыбокая розніца ў культурных і паводзінных стэрэатыпах.

Параўнаўшы дэмаграфічную статыстыку розных еўрапейскіх краін за перыяд з другой паловы XVIII да пачатку XX ст., Дж. Хайнал паказаў[1], што гэтыя краіны распадаюцца на дзве вялікія групы, лінію падзелу паміж якімі ён правёў у кірунку ад Санкт-Пецярбурга да Трыеста. На ўсход ад гэтай лініі панавала арыентацыя на **раннюю і ўніверсальную шлюбнасць**. Ужо ва ўзросце 25 гадоў ад 85 да 95 % жанчын і каля 70—80 % мужчын былі ў шлюбе. На працягу жыцця па-за шлюбам заставаліся ў асноўным толькі тыя, хто меў для гэтага нейкія біялагічныя перашкоды (ад аднаго да некалькіх працэнтаў). У заходняй частцы Еўропы ўзрост першага шлюбу быў значна вышэйшы: да 25 гадоў каля паловы мужчын і каля 30—40 % жанчын яшчэ не бралі шлюб. Не было там і ўстаноўкі на суцэльную шлюбнасць: да канца рэпрадукцыйнага перыяду заставаліся адзінокімі ад 10 да 20 % мужчын і жанчын. Некалькімі прыкладамі Дж. Хайнал прадэманстраваў, што ўсходнееўрапейская мадэль была ўласцівая таксама і іншым рэгіёнам свету. У той жа час заходняя мадэль была ўнікальнай з'явай, і за межамі Еўропы яна назіралася толькі ў тых краінах, што былі населены выхадцамі адтуль і ўваходзілі ў склад заходняй цывілізацыі: ЗША, Канадзе, Аўстраліі. Такім чынам, шлюбныя паводзіны заходнееўрапейцаў («еўрапейская шлюбная мадэль», як прапанаваў называць яе сам Дж. Хайнал) адрознівалі іх ад усяго астатняга свету.

Гэтая праца была ў 1979 г. апублікавана на расійскай мове (пры гэтым прозвішча аўтара прыводзілася ў недакладнай транслітарацыі — «Хаджнал»)[2], але на тэрыторыі СССР яна не выклікала вялікага водгуку. Затое на Захадзе цікавасць да параўнальнага вывучэння шлюбных паводзінаў і сямейнай структуры няўхільна нарастала. Лідарам гэтага кірунку стала ў 1970-я гг. кембрыджская група па гісторыі народанасельніцтва і сацыяльнай структуры (Cambridge Group for the History of Population and Social Structure), узначаленая Пітэрам Леслетам (Peter Laselett). Падыход гэтай групы, як і самога Дж. Хайнала, можна ўмоўна вызначыць як «метад дыягнастычных параметраў» — выяўленне значымых статыстычных адрозненняў, спалучэнне якіх гаворыць часам больш, чым шматслоўныя апісанні. Пры гэтым асаблівую ролю набывае аднолькавасць методык падліку.

Вялізнае значэнне ў станаўленні гэтага падыходу мела канферэнцыя «Дворагаспадарка і сям'я ў мінулым», праведзеная ў Кембрыджы ў 1969 г. (яе матэрыялы былі апублікаваныя ў 1972 г. асобнай кнігай)[3]. На гэтай канферэнцыі П. Леслет

[1] Hajnal J. European Marriage Patterns in Perspective. In: D.V. Glass and D.E.C. Everslay (eds). Population in History. Chicago, 1965. P. 101—143.

[2] Хаджнал Дж. Европейский тип брачности в перспективе // Брачность, рождаемость, семья за три века. Сб. статей / Под ред. А.Г. Вишневского и И.С. Кона. Москва, 1979. С. 14—70.

[3] P. Laselett and R. Wall (eds.). Household and Family in Past Time: Comparative Studies in the Size and Structure of the Domestic Group over the Last Three Centuries in England, France, Serbia, Japan, and Colonial North America, with Further Materials from Western Europe. Cambridge, 1972.

прапанаваў сістэму класіфікацыі сямейных формаў[4], неўзабаве дапрацаваную ім сумесна з антраполагам Юджынам Хэмелам (Eugene Hammel)[5]. У ёй вызначаліся пяць асноўных тыпаў дворагаспадаркі ў залежнасці ад роднасных сувязяў паміж яе членамі. **Першы тып** утварала гаспадарка адзінокага чалавека (*single*). **Другі тып** — гаспадарка, члены якой маглі быць родзічамі, але не ўтваралі шлюбных пар (*no family*). **Трэці тып** — гаспадарка на падставе адной шлюбнай пары з дзецьмі (*simple family*). **Чацвёрты тып** — пашыраная (*extended*) гаспадарка, у складзе якой апрача шлюбнай пары былі і іншыя родзічы (халастыя або ўдовыя). **Пяты тып** — шматсямейная (*multiple family*) гаспадарка, у якой было некалькі шлюбных пар. У сваю чаргу гэты тып падзяляўся на некалькі падтыпаў. Такая гаспадарка магла ўключаць сем'і бацькоў і аднаго з дзяцей (*stem family — каранёвая сям'я*), сем'і двух і больш жанатых братоў (гэты падтып традыцыйна вызначаецца французскім тэрмінам (*frérèche — братчына*) або ўяўляць сабой вялікую патрыярхальную сям'ю — бацькоў і некалькіх жанатых сыноў (*joint family — сумесная сям'я*).

Методыка апісання дворагаспадарак П. Леслета была апублікавана на расійскай мове адначасова з артыкулам Дж. Хайнала[6], але ў той час не знайшла паслядоўнікаў на тэрыторыі СССР. Між тым заходнія даследчыкі шырока выкарыстоўвалі яе для параўнальнага аналізу структуры дворагаспадарак у розных рэгіёнах. Першыя вынікі такога вывучэння былі паказаны ў калектыўнай працы «Сямейныя формы ў гістарычнай Еўропе», выдадзенай у 1983 г.[7]. У ёй Дж. Хайнал паказаў[8], што з выяўленым ім тыпам шлюбнасці быў шчыльна спалучаны (і фактычна вызначаў яго) **спецыфічны для Захаду спосаб арганізацыі дворагаспадаркі**, якая базавалася на простай (нуклеарнай) сям'і, што складалася з бацькоў і дзяцей. Састарэўшы, галава такой сям'і перадаваў гаспадарку аднаму з сыноў (той толькі пасля гэтага заводзіў уласную сям'ю). Іншыя сыны (нават у заможных сем'ях) звычайна не атрымлівалі долі нерухомай маёмасці, а пэўны час працавалі па найме. Зробленыя такім чынам сродкі дазвалялі ім уладкоўвацца ў жыцці самастойна — вучыцца нейкай прафесіі або засноўваць уласную гаспадарку. І ў першым, і ў другім выпадку жаніцьба адбывалася параўнальна позна. На ўсходзе Еўропы і ў іншых рэгіёнах свету значна часцей сустракаліся гаспадаркі, заснаваныя на сумеснай працы некалькіх шлюбных пар (бацькоў і жанатых сыноў або некалькіх жанатых братоў). У такой шматсямейнай гаспадарцы не было перашкод для ранніх шлюбаў, а новыя гаспадаркі звычайна ўтвараліся шляхам падзелу, пры жыцці бацькі ці пасля яго смерці. У некаторых рэгіёнах меў месца падзел у трэцім пакаленні (паміж дзецьмі братоў, што вялі сумесную гаспадарку) ці нават яшчэ пазней, што прыводзіла да высокай прапорцыі вельмі буйных па заходніх мерках гаспадарак, якія складаліся з дзясяткаў членаў.

У тым жа выданні П. Леслет акрэсліў у межах Еўропы чатыры асноўныя зоны, у якіх спосабы фарміравання дворагаспадаркі істотна адрозніваліся: захад і паўночны захад Еўропы (арэал панавання выяўленай Дж. Хайналам «еўрапейскай шлюбнай мадэлі»), цэнтр Еўропы, Міжземнамор'е і, нарэшце, Усходняя Еўропа, уключаючы Балканы і еўрапейскую частку былой Расійскай імперыі[9]. У кантэксце супастаўлення

[4] Laselett P. Introduction: The History of the Family. In:. P. Laselett and R. Wall (eds.). Household and Family in Past Time... Cambridge, 1972. P. 1—89.

[5] Hammel E.A. and Laselett P. Comparing Household Structures over Time and between Cultures. In: Comparative Studies in Society and History. 16 (1974). P. 73—109.

[6] Ласлетт П. Семья и домохозяйство: исторический подход // Брачность, рождаемость, семья за три века. Москва, 1979. С. 132—157. Пераклад зроблены з французскамоўнай публікацыі: Laselett P. La famille et le ménage: approches historiques. Annales: Économies. Sociétes. Civilisations. No. 4—5 (July—October 1972).

[7] R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983.

[8] Hajnal J. Two Kinds of Pre-industrial Household Formation Systems. In: R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983 P. 65—104.

[9] Laselett P. Family and Household as Work Group and Kin Group: Areas of Traditional Europe Compared. In: R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983. P. 513—563. Асабліва гл. табл. 17.5 на с. 526—527.

«еўрапейскай» і «ўсходняй» мадэляў асаблівую цікавасць уяўляюць у зводцы П. Леслета тыя параметры, паводле якіх найбольш яскрава адрозніваюцца паміж сабой першая і чацвёртая з гэтых зон. На ўсходзе Еўропы назіраліся, на яго думку, **больш высокая прапорцыя родзічаў, якія жылі сумесна, адсутнасць адзіночак, нізкая прапорцыя простых і пашыраных сем'яў, вельмі высокая прапорцыя шматпакаленных** (тры і больш пакаленні) і **шматсямейных гаспадарак** (усіх падтыпаў, за выключэннем stem family), **паўсюднае выкарыстанне родзічаў у якасці працаўнікоў, рэдкае выкарыстанне наёмных работнікаў** і інш. (усяго П. Леслет прапанаваў 22 дыягнастычныя параметры, мы ніжэй будзем выкарыстоўваць для параўнання ў асноўным прапорцыю двароў трэцяга і пятага тыпаў, г. зн. — з адной і некалькімі шлюбнымі парамі).

Самі брытанскія даследчыкі не імкнуліся рабіць са сваіх вынікаў вельмі далёкія высновы. Яны толькі паказвалі наяўнасць аб'ектыўных адрозненняў у спосабах арганізацыі сям'і і дворагаспадаркі. Тым не менш дастаткова відавочныя псіхалагічныя адрозненні, што вынікаюць з гэтых мадэляў. На Захадзе сыны, пазбаўленыя нерухомай маёмасці, вымушаны былі больш разлічваць на свае сілы, што садзейнічала развіццю індывідуалізму і прадпрымальнасці. На Усходзе патрабаваліся іншыя псіхалагічныя рысы — здольнасць жыць у згодзе са шматлікімі родзічамі і падпарадкоўвацца аўтарытэту старэйшага, а потым уменне навязваць сваю волю малодшым дзеля падтрымання парадку ў сям'і і гаспадарцы. З гэтым жа была звязана і звычка разлічваць на своеасаблівы гарантаваны мінімум, які належыць кожнаму ўжо паводле права нараджэння.

У асноўным дзякуючы гэтаму сацыяльна-культуралагічнаму падтэксту працы Дж. Хайнала і П. Леслета выклікалі вялікі грамадскі рэзананс і шырокае абмеркаванне на Захадзе. Варта адзначыць, што абодва яны фармулявалі свае высновы ва ўмовах, калі структуры сям'і і дворагаспадаркі на ўсходзе Еўропы заставаліся амаль нявывучанымі. У распараджэнні даследчыкаў былі толькі агрэгаваныя даныя на ўзроўні вялікіх рэгіёнаў. Адзінае даследаванне на мікраўзроўні было выканана Пітэрам Запам (Peter Czap), які паводле матэрыялаў інвентароў і *рэвізскіх сказак*, што захаваліся ў фондзе князёў Гагарыных, даследаваў іх маёнтак Мішына Разанскай губерні[10], вызначыў асноўныя параметры сямейнай структуры ў перыяд 1782—1858 гг., у тым ліку вельмі высокі па заходніх мерках працэнт шматсямейных гаспадарак (ад 75 да 82 % у розныя гады) і нізкі працэнт простых сем'яў (ад 6,7 да 12,2 %). Ён таксама прывёў даныя *рэвізскіх сказак* 1816—1858 гг. па маёнтку Сухаварава Цвярской губерні, дзе доля шматсямейных двароў складала ад 66 да 79,8 %, а доля простых сем'яў — ад 7,1 да 13,7 %[11]. Для параўнання, пры чыста «заходняй» мадэлі паводзінаў прыкладна 70—85 % дворагаспадарак складаліся з простых сем'яў, а шматсямейныя двары сустракаліся ў 0—5 % выпадкаў (звычайна гэта была *караневая сям'я*, у якой сям'я бацькоў, якія адышлі ад актыўнай працы, жыла пад адным дахам з сям'ёй сына-пераемніка)[12].

---

[10] Czap P. The Perennial Multiple Family Household, Mishino, Russia, 1782—1858. In: Journal of Family History. 7 (1982). P. 5—26; Czap P. «A Large Family: the Peasants' Greatest Wealth»: Serf Households in Mishino, Russia, 1815—1858. In: R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983. P. 105—151.

[11] Czap P. «A Large Family: the Peasants' Greatest Wealth»: Serf Households in Mishino, Russia, 1815—1858. In: R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983. P. 128— 129, 147.

[12] Зводкі даных пра структуру двара ў розных выбарках па Заходняй Еўропе гл., напр.: Laselett P. Introduction: The History of the Family. In: P. Laselett and R. Wall (eds.). Household and Family in Past Time... Cambridge, 1972. P. 85; Blayo Y. Size and Structure of Households in a Northern French Village between 1836 and 1861. Ibid. P. 258; Flandrin J.-L. Families in Former Times. Cambridge, 1976. P. 68, 71, 90; Wall R. Real Property, Marriage and Children: the Evidence from Pre-industrial Communities. In: R.M. Smith (ed.). Land, Kinship and Life-cycle. Cambridge, 1984. P. 460; Reay B. Microhistories: Demography, Society and Culture in Rural England, 1800—1930. Cambridge, 1996. P. 159; Wall R. Zum

Адзначым, што тады ж Родні Богач (Rodney Bohac) абараніў дысертацыю ва ўніверсітэце штата Мічыган па матэрыялах мікрадаследавання маёнтка Мануілаўскае Цвярской губерні (належала тым самым Гагарыным), але яе вынікі засталіся неапублікаванымі і практычна не ўвайшлі ў навуковы ўжытак[13]. Затое два артыкулы, у якіх П. Зап апублікаваў свае вынікі, на працягу 1980-х — пачатку 1990-х гг. нязменна прыгадваліся ва ўсіх працах, прысвечаных гістарычнай дэмаграфіі Усходняй Еўропы, і нярэдка служылі адзінай падставай для высноў, якія пашыраліся на ўвесь рэгіён.

Крыху іншы падыход да супастаўлення сямейнай структуры на захадзе і ўсходзе Еўропы паслядоўна разгортвала аўстрыйская школа гістарычнай дэмаграфіі, у якой адну з вядучых пазіцый займае Міхаэль Мітэраўер (Michael Mitterauer). У адрозненне ад падыходу кембрыджскай групы, прадстаўнікоў гэтай школы заўсёды хвалявала пытанне не толькі пра тое, **што** і **як** адбывалася з сямейнай структурай у розных рэгіёнах, але і **чаму** гэта адбывалася. Таму яны імкнуліся разглядаць структуру двара ў дынаміцы: як кароткачасовай (паслядоўнасць стадый жыццёвага цыкла адной сям'і на працягу некалькіх пакаленняў), так і доўгачасовай (дынаміка формаў сямейнай структуры на працягу стагоддзяў, са спробай прасачыць гістарычныя карані таго ці іншага варыянта).

Зрабіць параўнальны аналіз структуры сям'і ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе паспрабаваў М. Мітэраўер сумесна з расійскім даследчыкам Аляксандрам Каганам у 1982 г.[14], адначасова з першай публікацыяй П. Запа. На матэрыялах Яраслаўскай губерні было прадэманстравана, што нават сем'і заводскіх сялян, фактычна занятых у прамысловасці, шмат у чым паўтаралі традыцыйную структуру шматсямейнай ці пашыранай дворагаспадаркі. Тым не менш даследчыкі асцярожна адзначылі, што «расійская тэрыторыя не можа разглядацца як аднародная, а хутчэй як вельмі дыферэнцаваная»[15]. На наступны год у вышэйзгаданым зборніку «Сямейныя формы ў гістарычнай Еўропе» быў надрукаваны артыкул Р. Зідэра і М. Мітэраўера, прысвечаны рэканструкцыі жыццёвага цыкла сям'і як дынамічнага працэсу, у якім адзначаныя П. Леслетам формы могуць паслядоўна змяняць адна адну[16]. Зрэшты, у той працы разглядаліся толькі аўстрыйскія матэрыялы, супастаўленняў з усходам Еўропы аўтары на гэты раз не праводзілі. Для такога супастаўлення на ўзроўні рэканструяваных жыццёвых цыклаў сем'яў пакуль не было фактычнага матэрыялу.

Адзначым, што ва ўводзінах да кнігі «Сямейныя формы ў гістарычнай Еўропе» адзін з прадстаўнікоў кембрыджскай групы Рычард Уол (Richard Wall) усё ж закрануў пытанне аб прычынах фарміравання дзвюх розных мадэляў[17]. Гэтыя прычыны ён схільны быў шукаць у сацыяльна-эканамічных умовах. У адрозненне ад Захаду, пры прыгонным праве расійскі памешчык мог эфектыўна ўплываць на паводзіны сялян. Але Р. Уол адзначыў, што роля гэтага фактару невідавочная: складаная дворагаспадарчая структура магла быць як вынікам прымусу з боку памешчыка, так і рэакцыяй сялян на яго ўмяшанне, альбо яно адпавядала «старому звычаю сумеснага пражывання» і жаданням абодвух бакоў[18]. Ён таксама падкрэсліў, што на Захадзе

---

Wandel der Familienstrukturen im Europe der Neuzeit. In: Historische Familienforschhung. Ergebnisse und Kontroversen. Michael Mitterauer zum 60. Geburtstag. Heransgegen von J. Ehmer, T.K. Hareven und R. Wall. Frankfurt / New York, 1997. P. 276—277, 280.

[13] Bohac R.D. Family, Property, and Socioeconomic Mobility: Russian Peasants on Manuilovskoe Estate, 1810—1861 (Ph.D. diss., University of Michigan, 1982).

[14] Mitterauer M. and Kagan A. Russian and Central European Family Structures: a Comparative View. In: Journal of Family History. 7 (1982). P. 103—131.

[15] Ibid. P. 103.

[16] Sieder R. and Mitterauer M. The Reconstruction of the Family Life Course: Theoretical Problems and Empirical Results. In: R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983. P. 309—345.

[17] Wall R. Introduction. In: R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983. P. 1—63.

[18] Ibid. P. 2.

нанова створаная сям'я была значна больш арыентавана на эканамічную незалежнасць, а на Усходзе разлічвала на дапамогу бацькоў і іншых родзічаў. Тое самае назіралася і ў канцы жыццёвага цыкла. Састарэлыя бацькі на Захадзе перадавалі гаспадарку сыну, а сабе пакідалі невялікі зямельны ўчастак (умовы такога «адыходу ад працы» былі, як правіла, падрабязна рэгламентаваныя), у той час як на Усходзе бацька заставаўся на чале гаспадаркі, пакуль дазвалялі сілы, а нямоглы станавіўся ўтрыманцам сваіх дзяцей.

Пэўную ўвагу пытанням структуры сялянской сям'і і двара Усходняй Еўропы прысвяціў таксама амерыканскі даследчык Стывен Хок (Steven Hoch). Ён прааналізаваў матэрыялы з фонду князёў Гагарыных, якія тычыліся сяла Пятроўскае Тамбоўскай губерні. Хоць асноўнай тэмай даследавання С. Хока быў сацыяльны кантроль з боку памешчыка ва ўмовах прыгоннага права, адзін з пяці раздзелаў сваёй кнігі ён прысвяціў дэмаграфічным аспектам жыцця сяла, у тым ліку прывёў звесткі пра сярэдні ўзрост першага шлюбу і пра структуру сялянскага двара ў перыяд з 1813 да 1856 г.[19]. Атрыманыя вынікі былі дастаткова блізкія да вынікаў П. Запа па маёнтку Гагарыных у суседняй Разанскай губерні (доля шматсямейных гаспадарак за час назіранняў змянялася ад 78 да 45 %, доля простых сем'яў — ад 8 да 20 %).

Яшчэ адзін амерыканскі гісторык, Дэніел Кайзер (Daniel Kaiser), прааналізаваў структуру гарадской сям'і Расіі і некаторыя аспекты шлюбных паводзін па матэрыялах перапісаў дзесяці гарадоў (Бароўска, Бялёва, Вяткі, Зарайска, Малаяраслаўца, Разані, Тарапца, Тулы, Угліча, Усцюжнага) за перыяд з 1710 да 1720 г.[20]. Гэтыя даныя ў цэлым адпавядалі агульным высновам Дж. Хайнала і П. Леслета, хоць выявілі і некаторыя адрозненні. У прыватнасці, Д. Кайзер адзначыў у гарадах даволі высокую прапорцыю аднасямейных двароў (гл. ніжэй).

Варта прыгадаць таксама манаграфію амерыканскай даследчыцы Крысціны Варабек (Christine Worobec) «Сялянская Расія. Сям'я і абшчына ў паслярэформавы перыяд», у якой пытанні сямейнай структуры расійскага сялянства аналізуюцца поруч з шырокім колам іншых сацыяльна-гістарычных праблем, у тым ліку разгледжаны правілы пераемнасці надзелу і статус членаў сям'і ў залежнасці ад полу і ўзросту[21]. Пры гэтым даследчыца карысталася ў асноўным якаснымі, а не колькаснымі характарыстыкамі.

Нягледзячы на згаданыя даследаванні, на пачатку 1990-х гг. у спецыялістаў не было выразнага ўяўлення пра размяшчэнне, амплітуду і дынаміку тых лакальных асаблівасцей на тэрыторыі Усходняй Еўропы, наяўнасць якіх М. Мітэраўер і А. Каган адзначалі ўжо ў 1982 г. Уклад усходнееўрапейскіх гісторыкаў заставаўся сціплым. Урыўкавыя звесткі пра структуру дворагаспадаркі ў розныя часы і па розных рэгіёнах Расіі публікаваліся неаднаразова, але большасць з іх была падлічана і згрупавана такім чынам, што не дазваляла правесці суцэльнае супастаўленне ні з данымі заходнееўрапейскіх даследчыкаў, ні паміж сабой[22]. Для гэтага дастасоўваліся

[19] Hoch S. Serfdom and Social Control in Russia: Petrovskoe, a Village in Tambov. Chicago, 1986. Расійскі пераклад: Хок С.Л. Крепостное право и социальный контроль в России: Петровское, село Тамбовской губернии. Москва, 1993.

[20] Kaiser D.H. Urban Household Composition in Early Modern Russia. In: Journal of Interdisciplinary History. 23 (1992). P. 39—71; Kaiser D.H. The Seasonality of Family Life in Early Modern Russia. In: Forschungen zur osteuropäischen Geschicte. 46 (1992). P. 21—50; Кайзер Д.Н. Возраст при браке и разница в возрасте супругов в городах России в начале XVIII в. // Сословия и государственная власть в России. XV — середина XIX вв. В 2-х ч. Ч. 2. Москва, 1994. С. 225—237.

[21] Worobec C.D. Peasant Russia: Family and Community in the Post-Emansipation Period. Princeton, 1991.

[22] Гл., напр.: Бакланова Е.Н. Крестьянский двор и община на русском Севере: конец XVII — начало XVIII в. Москва, 1976; Горская Н.А. Монастырские крестьяне Центральной России в XVII в. Москва, 1977. С. 226—228; Биленко М.В. О мордовской семье XVII века // Советская этнография. 1979. № 1. С. 92—104; Миненко Н.А. Русская крестьянская семья в Западной Сибири (XVIII — первая половина XIX в.). Новосибирск, 1979; Власова И.В. Структура и численность семей русских крестьян Сибири в XVII — первой половине XIX в. // Советская этнография. 1980. № 3. С. 37—50; Швейковская Е.Н.

хіба што асобныя лічбы. Непараўнальная з методыкай кембрыджскай групы была і сістэма класіфікацыі сямейных формаў, прапанаваная В. Аляксандравым[23]. Шэраг публікацый тычыўся сямейнай структуры на тэрыторыі Латвіі[24] і Эстоніі[25], прычым эстонскія даследчыкі прытрымліваліся схемы П. Леслета. Аднак іх матэрыялы вызначаліся своеасаблівасцю параўнальна з Еўрапейскай Расіяй (доля простых сем'яў была вышэй за 50 %, а доля шматсямейных двароў складала каля 33 %), таму яны тычыліся хутчэй не «ўсходняй» мадэлі, а прамежкавай зоны ля самай «лініі Хайнала».

У 1993 г. была апублікавана практычна адзіная зводка даных пра структуру сялянскага двара на тэрыторыі Беларусі. У ёй улічваліся звесткі шматлікіх інвентароў канца XVI — першай паловы XVII ст., якія ахаплівалі 5663 двары ў 267 населеных пунктах. На жаль, і ў гэтым выпадку методыка падліку моцна адрознівалася ад агульнапрынятай у заходняй гістарыяграфіі. Адзіныя лічбы, прыдатныя для непасрэднага супастаўлення, тычацца долі гаспадарак, якія складаліся з адной, дзвюх, трох і больш сем'яў[26], прычым доля шматсямейных двароў атрымалася вельмі нізкай нават параўнальна з Эстоніяй (гл. ніжэй). Так ці інакш, гэтыя даныя засталіся практычна незаўважанымі навуковай супольнасцю.

Значна больш паспяхова прасоўвалася вывучэнне структуры сям'і і дворагаспадаркі ў іншым еўрапейскім рэгіёне, на ўсход ад «лініі Хайнала» — на Балканах. Балгарская даследчыца Марыя Тодарава (цяпер яна працуе ва ўніверсітэце штата Фларыда, ЗША) абагульніла сабраны багаты матэрыял у манаграфіі «Балканская сямейная структура і еўрапейская мадэль»[27]. Яна прадэманстравала шырокі размах варыяцый унутры балканскага рэгіёна — паміж гарадскімі і сельскімі жыхарамі, а таксама паміж прадстаўнікамі розных канфесій. Часам размах гэтых ваганняў быў такі шырокі,

---

Крестьянская семья и община как категории социальной структуры феодальной России (конец XV—XVII вв.) // Социально-демографические процессы в российской деревне (XVI — начало XX в). Материалы XX сессии Всесоюзного симпозиума по изучению проблем аграрной истории. Вып. 1. Таллин, 1986. С. 5—14; Гришкина М.В. Типология удмуртской крестьянской семьи конца XVII — первой половины XIX в. // Тамсама. С. 146—153; Кох О.В. Крестьянская семья // Аграрная история Северо-Запада России XVII века (население, землевладение, землепользование) / Под. ред. А.Л. Шапиро. Ленинград, 1989. С. 56—58; Дашкевич Л.А. Семья государственных крестьян на Урале (по материалам подворных описей Поташинской волости 1805 г.) // Государственные крестьяне Урала в эпоху феодализма. Екатеринбург, 1992. С. 109—121; Голикова С.В., Нечаева М.Ю. Домохозяйства населения Златоустовского округа на рубеже XVII—XIX вв. (по материалам подворных описей) // Металлургические заводы и крестьянство: проблемы социальной организации промышленности России и Швеции в раннеиндустриальный период. Екатеринбург, 1992. С. 150—156.

[23] Александров В.А. Типология русской крестьянской семьи в эпоху феодализма // История СССР. 1981. № 3. С. 78—96; Александров В.А. Обычное право крепостной деревни России. XVIII — начало XIX в. Москва, 1984. С. 58—61.

[24] Ефремова Л.С. Латышская крестьянская семья в Латгале, 1860—1939. Рига, 1982; Стродс Х. Социальная структура латышского крестьянства в Курляндии (1734—1813 гг.) // История СССР. 1984. №. 2. С. 142—150.

[25] Кахк Ю., Уйбу Х. О социальной структуре и мобильности эстонского крестьянства в первой половине XIX века. Таллин, 1980 (асабліва гл.: С. 50—55); Палли Х.Э. Естественное движение сельского населения Эстонии (1650—1799). В 3-х ч. Таллин, 1980 (асабліва гл.: Ч. 1. С. 114); Palli H. Estonian Households in the Seventeenth and Eighteenth Centuries. In: R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983. P. 213—215; Палли Х. Население крестьянского домохозяйства (дворохозяйства) в Эстонии в XVII—XVIII веках // Социально-демографические процессы в российской деревне (XVI — начало XX в). Материалы XX сессии Всесоюзного симпозиума по изучению проблем аграрной истории. Вып. 1. Таллин, 1986. С. 48—56.

[26] Капыскі З., Капыскі Б. Беларуская вёска і яе насельніцтва ў канцы XVI — першай палове XVII ст. Вопыт дэмаграфічнай характарыстыкі // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 2. С. 42—45. Пазней гэтыя даныя былі прыведзены зноў, прычым ужо з выкарыстаннем тэрміналогіі П. Леслета, у выданні: Гісторыя сялянства Беларусі са старажытных часоў да 1996 г.: У 3-х т. Т. 1. Мінск, 1997. С. 103.

[27] Todorova M. Balkan Family Structure and the European Pattern: Demographic Developments in Ottoman Bulgaria. Washington, 1993.

што не дазваляў аднaзначна аднесці той ці іншы тып сям'і да «ўсходняй» ці «заходняй» мадэлі. М. Тодарава таксама падкрэсліла, што характэрная для некаторых мясцовасцей вельмі шматлюдная і, як правіла, шматпакаленная патрыярхальная дворагаспадарка (так званая *задруга,* што ўключала да 5—6 і больш сямейных пар) звязана з пэўным гаспадарча-культурным тыпам — качавой жывёлагадоўляй на горных пашах. На яе думку, гэты тып сямейнай арганізацыі — не рэлікт агульнаславянскай культурнай традыцыі, як лічылі яе папярэднікі[28], а параўнальна новае ўтварэнне, якое ўзнікла не раней за XVII ст. у працэсе адаптацыі да спецыфічнага спалучэння экалагічных і эканамічных умоў.

Аначасова з М. Тодаравой гісторыю сямейнай структуры на Балканах вывучаў аўстрыйскі даследчык Карл Казер (Karl Kaser)[29], які прывёў шэраг дадатковых аргументаў на карысць старажытнасці патрыярхальнай *задругі* і яе абумоўленасці культурнымі традыцыямі; хоць дворагаспадарка перыядычна разрасталася і зноў драбнілася на малыя сем'і, менавіта шматсямейная гаспадарка ўспрымалася як ідэальная. Крыху канкрэтызавалі гэтую выснову вынікі харвацкай даследчыцы Ясны Чапа (Jasna Čapo), якая на матэрыялах аднаго маёнтка ў паўночнай Харватыі прадэманстравала суіснаванне дзвюх формаў дворагаспадаркі (арыентаваных у ідэале на шматсямейнасць і нуклеарную сям'ю) адпаведна сярод сялян і мяшчан гэтага маёнтка. Падобная ж двaістасць была адзначана ёю пры параўнанні двароў мацерыковай і прыбярэжнай (больш моцна ўцягнутай у рынкавыя адносіны) частак Харватыі[30]. Наяўнасць супярэчных меркаванняў у дачыненні да добра вывучанай *задругі* паказала, што значна горш даследаваная еўрапейская частка Расійскай імперыі можа хаваць яшчэ больш складаныя праблемы.

Сведчаннем трывалай цікавасці да структуры сям'і на захадзе і ўсходзе Еўропы стала правядзенне ў красавіку 1994 г. у Будапешце канферэнцыі пад назвай «Дзе канчаецца Еўропа?» («Where does the Europe end?»). Ініцыятарам выступіў член кембрыджскай групы Кевін Шурэр (Kevin Schürer). Ён пастараўся сабраць разам даследчыкаў, якія займаюцца гістарычнай дэмаграфіяй на ўсходзе ад «лініі Хайнала»: прадстаўнікоў Венгрыі, Славеніі, Харватыі, Балгарыі, Эстоніі, Расіі, Беларусі і Азербайджана. Апрача іх і самога К. Шурэра, удзельнікамі канферэнцыі былі Пітэр Леслет (ён выконваў хутчэй ролю ганаровага госця) і тры прадстаўнікі аўстрыйскай школы: Міхаэль Мітэраўер, Карл Казер і Маркус Чэрман (Markus Cerman), якія спецыялізуецца на вывучэнні сацыяльных структур XVI—XVIII стст. на тэрыторыі Чэхіі. Канферэнцыя яшчэ раз прадэманстравала адставанне Усходняй Еўропы ў вывучэнні сямейнай структуры: прадстаўнікі гэтага рэгіёна, у адрозненне ад венгерскіх і балканскіх калег, практычна не мелі ў сваім распараджэнні вынікаў мікрадаследаванняў, апрацаваных паводле методыкі, супастаўляльнай з заходнееўрапейскімі стандартамі. У такой сітуацыі пытанне, вынесенае ў назву канферэнцыі, засталося без адказу. Удзельнікі пагадзіліся з там, што азначаныя Дж. Хайналам адрозненні паміж «заходняй» і «ўсходняй» мадэлямі мелі месца, але не былі гатовыя акрэсліць больш дакладную мяжу паміж імі ці пераходную зону. Засталіся нерастлумачанымі і механізмы падтрымання і наступнай трансфармацыі гэтых адрозненняў.

[28] Гл., напр.: Hammel E.A. The 'Balkan' Peasant: a View from Serbia. In: Ph. K. Bock (ed.). Peasants in the Modern World. New Mexico, 1969. P. 81—82; Hammel E.A. The Zadruga as Process. In: P. Laselett and R. Wall (eds.). Household and Family in Past Time... Cambridge, 1972. P. 335—373; Hammel E.A. Some Medieval Evidences on the Serbian Zadruga: a Preliminary Analysis of the Chrysobulls of Deèani. In: R. F. Byrnes (ed.). Communal Families in the Balkans: the Zadruga. Essays by Philip E. Mosely and Essays in His Honor. South Bend and London, 1976; Hammel E.A. Household Structure in 14th century Macedonia. In: Journal of Family History. 5 (1980). P. 242—273.

[29] Kaser K. The Origins of Balkan Patriarchy. In: Modern Greek Studies Yearbook. 8 (1992). P. 1—39; Kaser K. The Balkan Joint Family Household: Seeking Its Origins. In: Continuity and Change. 9 (1994). P. 45—68.

[30] Čapo Žmegač J. New Evidence and Old Theories: Multiple Family Households in Northern Croatia. In: Continuity and Change. 11 (1996). P. 375—398.

У гэтым плане найбольшы інтарэс уяўляў даклад Міхаэля Мітэраўера «Сярэднявечныя карані развіцця еўрапейскай сям'і», пазней апублікаваны асобным артыкулам[31]. У ім ён паспрабаваў прасачыць гісторыю зараджэння «еўрапейскай шлюбнай мадэлі» прыкладна ў міжрэччы Луары і Рэйна і яе наступнага пашырэння на працягу позняга Сярэднявечча і Новага часу. На яго думку, гэты працэс быў шчыльна звязаны з германскай каланізацыяй, і такім чынам «еўрапейская мадэль» набывала не толькі культурны, але і этнічны кантэкст. Адзначыў ён і той факт, што і каланізацыя, і еўрапейскі тып шлюбнасці не перасеклі мяжу паміж сферамі ўплыву каталіцкай і праваслаўнай царквы. М. Мітэраўер паказаў таксама на шчыльную сувязь «еўрапейскай мадэлі» з базавым для імперыі Каралінгаў і яе гістарычных пераемнікаў тыпам землекарыстання — сістэмай непадзельных надзелаў (познелацінскія *mansus* ці *laneus*, у германамоўных краінах — *Hufe*), кожны з якіх, як правіла, знаходзіўся ў трыманні простай сям'і і перадаваўся цалкам аднаму з сыноў. Важным спадарожным фактарам стала з'яўленне значнай праслойкі насельніцтва, якая праводзіла частку жыцця ў якасці наёмных работнікаў (*life-cycle servants*). Як раней адзначаў Дж. Хайнал, менавіта пазбаўленыя надзелу сыны станавіліся наёмнымі работнікамі ў гаспадарках трымальнікаў *гуфаў*, папаўняючы такім чынам недахоп працоўнай сілы ў іх.

Канферэнцыя ў Будапешце, несумненна, спрыяла актывізацыі гістарычна-дэмаграфічных даследаванняў на тэрыторыі былога СССР. Яшчэ большую ролю адыграла тое, што з сярэдзіны 1990-х гг. заходнееўрапейскія даследчыкі сталі прыцягваць сваіх расійскіх калег да сумесных праектаў па вывучэнні гістарычнай дэмаграфіі. Адзін такі праект быў рэалізаваны даследчыкамі з Нідэрландаў і Тамбоўскага ўніверсітэта ў Расіі[32]. У яго рамках супастаўляліся дэмаграфічныя выбаркі на мікраўзроўні (галоўным чынам на падставе звестак прыходскіх метрычных кніг). Кароткія вынікі праекта былі апублікаваныя ў Гронінгене ў 1998 г. у зборніку «Калі гэтыя двое сыходзяцца» («Where the twain meet»)[33].

Адначасова падобны праект быў ініцыяваны Стывенам Хокам (універсітэт штата Аёва, ЗША) сумесна з Тамбоўскім і Санкт-Пецярбургскім універсітэтамі[34]. У рамках гэтага праекта было праведзена вывучэнне дынамікі нараджальнасці, шлюбнасці і смяротнасці праз аналіз метрычных кніг некалькіх прыходаў Тамбоўскай губерні. Паралельна даследчыкі Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта праводзілі аналіз метрычных кніг Аланецкай губерні. Пытанні структуры сям'і і дворагаспадаркі ў гэтых даследаваннях не закраналіся. Вынікі праекта знайшлі адлюстраванне ў асобных публікацыях яго ўдзельнікаў. С. Хок апублікаваў аналіз метрычных кніг прыхода Баршчоўка Тамбоўскай губерні за 1830—1912 гг.[35], а супрацоўнікі Тамбоўскага ўніверсітэта —

---

[31] Mitterauer M. Medieval Roots of European Family Development. In: J. Michálek (ed.). Stredoeurópske kontexty ĺudovej kultúry na Slovensku. Bratislava, 1995. P. 92—105. Ідэі гэтага даклада былі таксама адлюстраваны ў публікацыі: Mitterauer M. Family Context: The Balkans in European Comparison. In: Journal of Family History. 21 (1996). P. 387—406.

[32] Kanishchev V., Protasov S. A Project of Integral History on Local Level. Preliminary Results of Data Collection and Computer Analysis. In: Data Modelling, Modelling History. Abstracts of XI International Conference of the Association for History and Computing. Moskow, 1996. P. 91—92.

[33] Kooij P. (ed.). Where the Twain Meet. Dutch and Russian Regional Development in a Comparative Perspective. 1800—1917. Groningen, 1998. Назва з'яўляецца парафразам знакамітага верша Рэд'ярда Кіплінга «Oh, East is East, and West is West, and never the twain shall meet», у даслоўным перакладзе: «О, Усход ёсць Усход, а Захад ёсць Захад, і гэтыя двое ніколі не сыдуцца» (Kipling R. The Ballad of East and West).

[34] Hoch S.L., Kashchenko S., Mizis Yu. Project in Russian Population History, 1700—1917: Preliminery Results. In: Data Modelling, Modelling History. Abstracts of XI International Conference of the Association for History and Computing. Moskow, 1996. P. 89—91. Гл. таксама вельмі кароткую інфармацыю пра праект у прадмове С. Хока да выдання: Анри Л., Блюм А. Методика анализа в исторической демографии. Москва, 1997. С. 8—9.

[35] Hock S.L. Famine, Disease, and Mortality Patterns in the Parish of Borshevka, Russia, 1830—1912. In: Population Studies. 52 (1998). P. 357—368. Расійскі варыянт гэтага ж артыкула: Хок С.Л. Голод, болезни и структуры смертности в приходе Борщевка, Россия, 1830—1912 // Социально-демографическая история России XIX—XX вв. Современные методы исследования. Материалы научной конференции

прыхода Малыя Пупкі той самай губерні за 1811—1916 гг.[36]. Пецярбургскія даследчыкі надрукавалі вельмі сціслыя вынікі сваіх прац, звязаных з дынамікай нараджальнасці і смяротнасці[37]. Апрача таго, В. Дзячкоў апублікаваў вынікі аналізу справаздач Тамбоўскай губернскай земскай бальніцы за 1895—1916 гг.[38].

Трэці сумесны праект арганізавалі супрацоўнік Нацыянальнага інстытута дэмаграфічных даследаванняў (Institut national d'études démografic) у Парыжы Ален Блюм (Alain Blum) і супрацоўнікі эканамічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксандр Аўдзееў і Ірына Троіцкая. У гэтым выпадку здзейснена комплекснае мікрадаследаванне маёнтка Выхіна ў Маскоўскай губерні, які належаў графам Шарамецевым, шляхам супастаўлення даных *рэвізскіх сказак* за 1811—1858 гг. і метрычных кніг за 1815—1861 гг.[39]. Атрыманы даныя пра шлюбныя паводзіны, а таксама пра склад дворагаспадаркі, прычым яны паказаны ў традыцыйнай для заходніх даследаванняў форме і цалкам параўнальныя з вынікамі П. Запа, Д. Кайзера і С. Хока. У прыватнасці, доля шматсямейных гаспадарак складала ў розныя гады ад 64,5 да 86,5 %, доля простых сем'яў — ад 7 да 20,3 %.

Гэтае французска-расійскае даследаванне па задумцы і выкананні вельмі блізкае да даследавання, якое ажыццяўляе аўтар гэтых радкоў па матэрыялах маёнтка Корань (Красны Бор) Мінскай губерні, што ў XVIII ст. належаў каталіцкай царкве, а ў XIX ст. — розным прыватным уласнікам. Намі супастаўлены даныя інвентароў за 1740—1841 гг., *рэвізскіх сказак* за 1795—1858 гг. і метрычных кніг за 1762—1850 гг., а таксама розныя іншыя дакументы, што тычацца гісторыі маёнтка[40]. Першая публікацыя вынікаў даследавання змяшчае толькі агульныя дэмаграфічныя характарыстыкі папуляцыі (даныя пра баланс нараджальнасці і

(апрель 1998 г.). Тамбов, 1999. С. 3—29. Гл. таксама палеміку С. Кашчанкі з некаторымі высновамі гэтага артыкула: Кащенко С.Г. К вопросу о смертности в Тамбовской губернии в XIX — начале XX в. (Некоторые соображения по поводу доклада профессора Стивена Л. Хока) // Тамсама. С. 30—40.

[36] Канищев В.В., Кончаков Р.Б., Мизис Ю.А. Соотношение когортного и сплошного анализа демографического поведения российского крестьянства XIX — начала XX в. (по материалам прихода с. Малые Пупки Тамбовской губернии) // Социально-демографическая история России XIX—XX вв. Современные методы исследования. Материалы научной конференции (апрель 1998 г.). Тамбов, 1999. С. 60—71.

[37] Кащенко С.Г. Некоторые новые тенденции в исследованиях по исторической демографии России // Новые информационные ресурсы и технологии в исторических исследованиях и образовании. Сб. тезисов докладов и сообщений Всероссийской конференции. Москва, 2000. С. 153—154; Менухова П.А. Опыт применения когортного анализа при изучении демографических процессов в Олонецкой губернии (1810—1918 г.) // Тамсама. С. 162—163; Смирнова С.С. К вопросу о влиянии эпидемий на смертность в карельской деревне во второй половине XIX в. // Тамсама. С. 169—170; Маркова М.А. Некоторые наблюдения за полнотой фиксации младенческой смертности в метрических книгах Олонецкой губернии // Компьютер и историческая демография. Сб. научн. трудов. Барнаул, 2000. С. 165—172.

[38] Дьячков В.Л. Труд, хлеб, любовь и космос, или о факторах формирования крестьянской семьи во второй половине XIX — начале XX в. // Социально-демографическая история России XIX—XX в. Современные методы исследования. Материалы научной конференции (апрель 1998 г.). Тамбов, 1999. С. 72—82.

[39] Avdeev A., Blum A, Troitskaya I. La nuptialite en Russie avant le reforme de 1861 (une etude sur 3 villages de la region de Moscou). The paper presented for the European Population Conference. The Hague, 30 August — 3 September 1999; Blum A., Troitskaya I., and Avdeev A. Family, Marriage and Social Control in Russia — Three Villages in Moscow Region. In: M. Neven and C. Carpon (eds.). Family Structures, Demography and Population. A Comparison of Societies in Asia and Europe. Liege, 2000. P. 88—92.

[40] Вельмі кароткае англамоўнае рэзюмэ работы апублікавана: Nosevich V. A Belarasian rural micropopulation: Demographic and Social Processes. In: Research Support Scheme Network Chronikle. 8 (2000). P. 19—20.

смяротнасці)[41]. Звесткі пра структуру сям'і і дворагаспадаркі пакуль застаюцца неапублікаванымі, а часткова і неапрацаванымі.

Адначасова з азначанымі даследаваннямі працягваўся аналіз агрэгаваных даных на макраўзроўні. У 1999 г. расійскі гісторык Барыс Міронаў апублікаваў двухтомавую манаграфію, у якой прывёў сумарныя лічбы пра структуру сям'і ў сярэдзіне XIX ст. у чатырох губернях (Яраслаўскай, Ніжагародскай, Пермскай і Кіеўскай), а таксама даныя перапісу насельніцтва 1897 г., якія можна было часткова параўнаць з гэтымі лічбамі[42].

На Захадзе Карл Казер у дзвюх кнігах на нямецкай мове даследаваў шырокую панараму сацыяльна-дэмаграфічных мадэляў у маштабах Еўропы[43]. У адрозненне ад П. Леслета, ён засяродзіўся на двух крытэрах: структуры сям'і і праве пераемнасці нерухомай маёмасці. На гэтай падставе ён вызначыў тры асноўныя рэгіёны: Міжземнамор'е, дзе пераважала арыентацыя на нуклеарную сям'ю, але з роўным правам спадчыны для ўсіх сыноў і дачок (гэтая рыса запазычана з рымскага права); Заходнюю Еўропу, дзе тая ж арыентацыя на нуклеарную сям'ю спалучалася з адзінаспадчыннасцю (непадзельнасцю надзелу); Усходнюю Еўропу, дзе базавая патрыярхальная мадэль спалучала шматсямейнасць і роўную спадчыну па мужчынскай лініі. З улікам спецыфікі Міжземнамор'я такі падзел у цэлым адпавядае першапачатковым высновам Дж. Хайнала.

Варта прыгадаць, што ў той жа час амерыканскія даследчыкі Андрэйс Плаканс (Andrejs Plakans) і Чарльз Ветэрэл (Charles Wetherell) плённа вывучалі параметры сялянскай сям'і Балтыі ў кантэксце сацыяльных і роднасных сувязяў, у тым ліку з выкарыстаннем даных на ўзроўні асобных маёнткаў і прыходаў[44]. Праўда, пытанні структуры дворагаспадаркі заставаліся на перыферыі іх увагі.

Адной з нямногіх прац, выкананых выключна на мікраўзроўні, стала магістарская дысертацыя, абароненая ў 1995 г. Хердзіс Коле (Herdis Kolle) у Бергенскім універсітэце (Нарвегія). Яна змяшчае вынікі аналізу дэмаграфічных параметраў, сямейнай структуры і сацыяльна-эканамічных умоў у дзвюх вёсках Маскоўскай губерні (Дракіна і Спас-Каркодзіна) у паслярэформавы перыяд[45]. Матэрыялам для даследавання сталі падворныя спісы 1869/71 і 1886 гг. — крыніца, якая раней не выкарыстоўвалася ні заходнімі, ні расійскімі гісторыкамі. У працы зафіксавана значная розніца ў прапорцыі шматсямейных гаспадарак: у былых дзяржаўных сялян з Дракіна іх доля трывала складала каля 42 %, у той час як у былых памешчыцкіх сялян са Спас-Каркодзіна змянялася ад 53,2 % у 1869 г. да 62,5 % у 1886 г. Доля простых сем'яў у Дракіне змянялася ад 32,5 да 29,9 %, у Спас-Каркодзіне — ад 35,1 да 15,6 %.

[41] Носевич В.Л. Демографические показатели белорусского крестьянства во второй половине XVIII — первой половине XIX в. // Компьютер и историческая демография. Сб. научн. трудов. Барнаул, 2000. С. 173—198. Гл. таксама: Носевич В.Л. Белорусская микропопуляция в XVIII—XIX в. // Новые информационные ресурсы и технологии в исторических исследованиях и образовании. Сб. тезисов докладов и сообщений Всероссийской конференции. Москва, 2000. С. 155—156.

[42] Миронов Б.Н. Социальная история России периода империи (XVIII — начало XX в.): Генезис личности, демократической семьи и правового государства. В 2-х т. С.-Петербург, 1999 (асабліва гл.: Т. 1. С. 225, 226). Англамоўны варыянт гэтай кнігі выдадзены ў ЗША: Mironov B. with Eklof B. The Social History of Imperial Russia, 1700—1917. In 2 vol. Boulder, 2000.

[43] Kaser K. Familie und Verwandtschaft auf dem Balkan. Vienna, 1995; Kaser K. Macht und Erbe. Männerherrschaft, Besitz und Familie im östlichen Europa (1500—1900). Wien; Köln; Weimar, 2000.

[44] Plakans A. Interaction between the Household and the Kin Group in the Eastern European Past: Posing the Problem. In: Journal of Family History. 12 (1987). P. 163—175; Wetherell C., Plakans A. and Wellman B. Social Networks, Kinship, and Community in Eastern Europe. In: Journal of Interdisciplinary History. 24 (1994). P. 639—63; Wetherell C. and Plakans A. Borders, Ethnicity, and Demographic Patterns in the Russian Baltic Provinces in the Late Nineteenth Century. In: Continuity and Change. 14 (1999). P. 33—56.

[45] Kolle H. The Russian Post-Emancipation Household. Two Villages in the Moscow Area. Master thesis in history, University of Bergen. Bergen, 1995. Дысертацыя даступная на сайце Бергенскага ўніверсітэта: www.uib.no/hi/herdis/.

У апошнія гады асноўны акцэнт у міжнародных гісторыка-дэмаграфічных даследаваннях некалькі змяшчаецца з дыхатаміі паміж усходам і захадам Еўропы, адзначанай Дж. Хайналам, на глабальную дыхатамію паміж Усходам і Захадам. Адметны ў гэтым сэнсе маштабны праект «Еўразія» (The Eurasia Project on Population and Family History, EAP), у рамках якога больш за дваццаць спецыялістаў з розных краін з 1994 г. вывучаюць матэрыялы перапісаў насельніцтва ў пяці выбарках, з якіх тры знаходзяцца ў розных рэгіёнах Заходняй Еўропы (паўднёвая Швецыя, Бельгія і цэнтральная Італія), а дзве — ва Усходняй Азіі (Кітай і Японія). У суме гэтыя выбаркі ахопліваюць каля 300 тысяч двароў і 1,5 мільёна індывідаў за перыяд з канца XVIII да пачатку XX ст.[46]. Папярэднія вынікі праекта былі паказаны трыма яго ўдзельнікамі (Джэймсам Лі і Ванг Фенгам з Каліфорніі, Эміка Ачыаі з Японіі) на міжнароднай канферэнцыі «Дворагаспадарка і сям'я ў мінулым» («Household and Family in Past Time»), якая адбылася ў Пальма-дэ-Маёрка (Балеарскія астравы, Іспанія) у верасні 1999 г., праз трыццаць гадоў пасля канферэнцыі ў Кембрыджы з амаль такой самай назвай. У дакладзе Дж. Лі і яго суаўтараў[47] змяшчаецца супастаўленне структуры сям'і і дворагаспадаркі ў кожнай з вывучаных выбарак паводле дыягнастычных параметраў, прапанаваных П. Леслетам у 1983 г.

Сёння ўніверсітэт штата Мінесота ажыццяўляе яшчэ больш маштабны праект — стварэнне базы даных па 100 перапісах насельніцтва ў 20 краінах свету. Хоць гэты праект не мае прамога дачынення да параўнання структуры сем'яў, усё ж варта заўважыць, што тэрыторыі Усходняй Еўропы ў спісе няма[48]. Не менш паказальна, што ў канферэнцыі ў Пальме (адным з яе арганізатараў выступіў той самы Кевін Шурэр, які ў 1994 г. арганізаваў сустрэчу ў Будапешце) удзельнічалі спецыялісты з краін Заходняй Еўропы, ЗША, Кітая і Японіі, але прадстаўнікоў Усходняй Еўропы не было.

Тым не менш два даклады былі прысвечаны супастаўленню структуры сям'і на захадзе і ўсходзе Еўропы, прычым з прыкметным змяшчэннем акцэнтаў ад дэмаграфіі ў бок сацыяльнай гісторыі. Даклад Кірсі Сірэн (Kirsi Sirén) «Канцэпцыя ўсходняй сям'і»[49] прадстаўляў у сціслым выглядзе высновы, раней выкладзеныя ў манаграфіі на фінскай мове[50]. Аналіз праводзіцца на макраўзроўні і грунтуецца на матэрыялах усходняй Фінляндыі, дзе таксама дамінаваў шматсямейны тып гаспадаркі. Прычыны яго трывалага існавання аўтар бачыць як у матэрыяльнай, так і ў духоўнай сферы. Асаблівую ролю адыгрываў комплекс патрыярхальных каштоўнасцей, у тым ліку падпарадкаванае становішча жанчыны і імкненне забяспечыць непарыўнасць пераемнасці па мужчынскай лініі. Гэтыя высновы дастаткова блізкія да высноў К. Казера наконт балканскай сям'і.

Міхаэль Мітэраўер застаецца верны сабе ў настойлівых пошуках фактараў, якія прывялі да фарміравання дзвюх розных дэмаграфічных мадэляў. Назва і змест яго даклада ў Пальме шчыльна перагукаюцца з яго дакладам у Будапешце:

[46] Апісанні праекта «Еўразія» можна знайсці ў інтэрнэце на сайтах яго ўдзельнікаў: eap.nichibun.ac.jp/index.html, www.indiana.edu/-pirt/eap_index.html, www.ec.lu.se/-ethbe/eapp/, www.sscnet.ucla.edu/soc/faculty/campbell/.

[47] Lee J., Wang Feng and Ochiai E. Domestic Group Organization and Demographic Behavior in Eurasia, 1750—1900: A Reassessment of Metageography. Гэты даклад размешчаны ў інтэрнэце на сайце, прысвечаным матэрыялам канферэнцыі: www.essex.ac.uk/history/palma/Papers/Paper-Lee.doc.

[48] Гэты праект носіць назву «Інтэграваная серыя мікраданых для грамадскага выкарыстання» («Integrated Public Use Microdata Series», IPUMS). Інфармацыя пра яго размешчана на сайце www.ipums.umn.edu. Апрача ўжо ўведзеных 13 перапісаў ЗША за перыяд з 1850 да 1990 г., у базу даных на першай фазе праекта ўводзяцца выбаркі (не менш 100 тыс. выпадкаў у кожнай) з перапісаў Аўстраліі, Бразіліі, Вялікабрытаніі, Італіі, Кітая, Мексікі, Нарвегіі, Філіпін, Францыі. На другой стадыі мяркуецца ўвесці даныя па Венгрыі, Гане, Інданезіі, Чылі, на трэцяй — па Аргенціне, Егіпце, Замбіі, Зімбабве, Індыі, Іспаніі, Кеніі, Коста-Рыка, ПАР, Турцыі, Эквадоры (гэты спіс пакуль не канчатковы).

[49] Sirén K. The Consept of the Eastern Family. Тэкст даклада даступны ў інтэрнэце: www.essex.ac.uk/history/palma/Papers/Paper-Siren.doc.

[50] Sirén K. Suuresta suvusta pieneen. Itäsuomalainen perhe 1700-luvulla. Helsinki, 1999.

«Еўрапейскія сістэмы роднасці і структуры дворагаспадаркі — сярэднявечныя карані»[51]. Абапіраючыся на даныя па тэрміналогіі роднасці і на высновы К. Казера пра спосабы перадачы ў спадчыну нерухомасці, ён трактуе заходнееўрапейскую мадэль як вынік пераадолення патрыярхальных і патрылінейных традыцый, якія засталіся амаль некранутымі на Балканах і ў Еўрапейскай Расіі да сярэдзіны XIX ст. На Захадзе іх страта пачалася ўжо ў Сярэднявеччы — пад уздзеяннем рымскага права, феадальнага прынцыпу спадчыннасці непадзельнага надзелу (ням. *Hufenverfassung*), а таксама ўласцівай хрысціянству (асабліва яго заходняй галіне) перавагі духоўных сувязяў перад сувязямі роднасці і крыві. У выніку сфарміравалася значна больш гнуткая сістэма, якая давала індывіду свабоду выбару: браць шлюб ці не; жыць у сям'і бацькоў шлюбнага партнёра, у сям'і ўласных бацькоў ці засноўваць новую гаспадарку; ці аднаўляць шлюб у выпадку аўдавення; ці адаптаваць зяця ў выпадку адсутнасці сыноў або дазволіць лініі пераемнасці абарвацца; заставацца на чале гаспадаркі да старасці ці не. Асаблівае значэнне мела магчымасць выбару ў спосабах арганізацыі працы: падзяляць ролі па полавай прыкмеце, працаваць разам, абапірацца на працу родзічаў або нанятых работнікаў і г.д. На думку аўтара, менавіта такая гнуткасць «стала вызначальнай для асаблівага развіцця еўрапейскіх грамадстваў». Гэтыя высновы М. Мітэраўера ў цэлым выглядаюць даволі пераканаўча. Тым не менш яны ігнаруюць азначаную раней ім самім неаднароднасць вялізнага ўсходнееўрапейскага рэгіёна, а таксама недаказанасць спрадвечнай старажытнасці «ўсходняй мадэлі». Падобна высновам наконт *задругі*, гэтая старажытнасць можа быць калі не абвергнута, то, прынамсі, пастаўлена пад сумненне. Больш раннія матэрыялы, нягледзячы на адзначаную іх урыўкавасць, фіксуюць карціну, куды бліжэйшую да «заходняй» мадэлі, чым мікраданыя XIX ст. па маёнтках Гагарыных і Шарамецевых. У выбарцы Д. Кайзера ў цэлым па дзесяці гарадах Расіі за 1710—1720 гг. доля простых сем'яў складала 54 %, а доля шматсямейных двароў — 32 %[52]. У манастырскіх сялян Валагодскай губерні ў 1678 г. долі простых і шматсямейных двароў складалі адпаведна 58,5 і 33,9%, але да 1717 г. змяніліся на амаль супрацьлеглыя — 39,3 і 53,7 %[53]. На паўночным захадзе Расіі ў 1620-я гг. гэтая прапорцыя складала адпаведна 59,6 і 38,7 %, у 1646 г. — 69 і 22,5 %, а ў 1678 г. — 49,4 і 43 %[54]. У беларускіх інвентарах канца XVI — XVII ст. працэнт шматсямейных гаспадарак яшчэ больш нізкі — толькі 14,4 %[55]. Гэтыя лічбы адлюстроўваюць мадэль паводзінаў, прамежкавую паміж Заходняй Еўропай і расійскімі маёнткамі XIX ст., даследаванымі на мікраўзроўні. Часам яны змыкаюцца з лічбамі не толькі па Эстоніі, але і па некаторых выбарках на захад ад «лініі Хайнала», у прыватнасці — у Тырольскіх Альпах[56], на поўдні Францыі[57], у многіх правінцыях Іспаніі[58].

---

[51] Mitterauer M. European Kinship Systems and Household Structures — Medieval Roots. Тэкст даклада даступны ў інтэрнэце: www.essex.ac.uk/history/palma/ Papers/Paper-Mitterauer.doc.

[52] Kaiser D.H. Urban Household Composition in Early Modern Russia. In: Journal of Interdisciplinary History. 23 (1992). P. 65.

[53] Бакланова Е.Н. Крестьянский двор и община на русском Севере: конец XVII — начало XVIII в. Москва, 1976. С. 37—38. Даныя ахопліваюць 1000 двароў у 1678 г. і 428 двароў — у 1717 г.

[54] Кох О.В. Крестьянская семья // Аграрная история Северо-Запада России XVII века (население, землевладение, землепользование) / Под ред. А.Л. Шапиро. Ленинград, 1989. С. 56—58. Даныя ахопліваюць 4242 двары ў 1620-я г., 7401 двор у 1646 г. і 10436 двароў у 1678 г.

[55] Капыскі З., Капыскі Б. Беларуская вёска і яе насельніцтва ў канцы XVI — першай палове XVII ст. Вопыт дэмаграфічнай характарыстыкі // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 2. С. 43.

[56] У выбарцы за 1781 г. з 522 двароў шматсямейныя складалі 17,8 %. Гл.: Schmidtbauer P. The Changing Household: Austrian Household Structure from the Seventeenth to the Early Twentieth Century. In: R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983. P. 364.

[57] У выбарках на поўдні Францыі з 1644 да 1793 г. доля простых сем'яў вагалася ад 47,4 да 56 %, доля шматсямейных двароў — ад 9,4 да 22,5 %. На востраве Корсіка ў 1769—1771 гг. доля простых сем'яў складала ад 67,4 да 74,7 %, доля шматсямейных двароў — ад 13,5 да 18,5 %. Гл.: Flandrin J.-L. Families in Former Times. Cambridge, 1976. P. 72—73.

[58] У Навары ў 1786 г. суадносіны простых і шматсямейных двароў складалі 62,9 і 22,1 %, у выбарцы 1765 г. з Краіны Баскаў — 63,4 і 27,7 %, а ў іншай выбарцы за 1857 г. — нават 54,5 і 32,6 %, у

Такім чынам, наяўныя звесткі па Усходняй Еўропе фіксуюць на працягу XVII — першай паловы XIX ст. **узрастанне** працэнта шматсямейных двароў, а не яго памяншэнне, як можна было б чакаць у святле гіпотэзы пра паступовае згасанне патрыярхальных традыцый. Гэтая тэндэнцыя пацвярджаецца вынікамі, якія атрымаў аўтар гэтых радкоў: у вывучанай намі беларускай мікрапапуляцыі ў 1740 г. долі простых і шматсямейных двароў складалі адпаведна 56,5 і 34,8 %[59], а ў 1841 г. — 21,3 і 51,7 %[60].

У гэтым сэнсе цікавасць уяўляюць агрэгаваныя даныя Б. Міронава, паводле якіх у сярэдзіне XIX ст. доля шматсямейных двароў у асобных губернях Еўрапейскай Расіі складала ад 43,4 да 47,9 %, доля простых сем'яў — ад 19,2 да 21,4 %. Матэрыялы перапісу насельніцтва 1897 г. не дазваляюць аддзяліць адзіночак ад малых сем'яў, а пашыраныя двары — ад шматсямейных. Тым не менш можна сцвярджаць, што ў гэты час агульная доля пашыраных і шматсямейных двароў па тых самых губернях знізілася прыблізна да 39,8—31,6 %, доля адзіночак і малых сем'яў — узрасла да 54,5—60,3 %[61]. Відавочна, гэтыя лічбы адлюстроўваюць не столькі дэградацыю «ўсходняй» мадэлі ў паслярэформавых умовах (як сам Б. Міронаў схільны іх інтэрпрэтаваць), колькі зварот да структур, уласцівых папярэднім стагоддзям.

Здаецца, для тлумачэння дынамікі «ўсходняй» мадэлі неабходна значна шырэй прыцягваць іншыя магчымыя фактары, у тым ліку ролю прыгоннага права, на якую звяртаў увагу Р. Уол у 1983 г. Наўрад ці выпадкова, што доля шматсямейных двароў у Расіі і Беларусі рэзка ўзрастае па меры паглыблення крызісу прыгоннага права і зноў паніжаецца пасля яго скасавання. Але «базавы ўзровень», характэрны для XVII, XVIII і канца XIX ст., усё ж істотна адрозніваецца ад класічнай «заходняй мадэлі». Да таго ж па іншых параметрах (узрост першага шлюбу і да т.п.) адрозненні яшчэ больш значныя і трывалыя. Таму ў пошуках тлумачэння нельга выключаць ролю паводзінных стэрэатыпаў, якія толькі па-рознаму выяўляліся ў розных сітуацыях, але пры вонкавай пластычнасці былі вельмі ўстойлівыя і жорсткія ў сваёй аснове.

Відавочна, сам М. Мітэраўер адчуваў недастатковасць сваёй аргументацыі. Менавіта таму ён ініцыяваў правядзенне ў Вене ў лістападзе 2000 г. міжнароднага семінара па праблемах сямейнай структуры, з удзелам асноўных спецыялістаў, якія працуюць па абодва бакі ад «лініі Хайнала». Непасрэдным арганізатарам гэтага семінара выступіў Інстытут усходнееўрапейскай гісторыі Венскага ўніверсітэта (Institut für Osteuropäishe Geschichte der Univerität Wien), на чале з прафесарам Андрэасам Капелерам (Andreas Kappeler). Да ўдзелу былі запрошаны, апрача М. Мітэраўера і яго калег з Венскага ўніверсітэта, амаль ўсе вядучыя даследчыкі структуры ўсходнееўрапейскай сям'і: Карл Казер з універсітэта Граца (Аўстрыя), Стывен Хок і Андрэйс Плаканс з універсітэта штата Аёва (ЗША), Дэніел Кайзер з Грынел коледжа ў штаце Аёва, Крысціна Варабек з універсітэта штата Ілінойс (нядаўна яна таксама стала супрацоўніцай універсітэта Аёвы), вядомы нямецкі даследчык Ральф Мелвіл (Ralph Melville, Інстытут еўрапейскай гісторыі ў Майнцы), ЭлінаВарыс (Elina Waris) з універсітэта Хельсінкі (Фінляндыя), Нада Башкоўска (Nada Boškovska) з Цюрыха (Швейцарыя). Усход прадстаўлялі Барыс Міронаў з Інстытута расійскай гісторыі РАН (Санкт-Пецярбург), Ірына Троіцкая з МДУ, Юрый Мізіс з Тамбоўскага ўніверсітэта і аўтар гэтых радкоў. Апрача таго, Юзеф Эмер (Josef Ehmer) з універсітэта Зальцбурга (Германія) і ўкраінскі даследчык Мікола Крыкун прадставілі свае матэрыялы, але непасрэдна ў семінары не ўдзельнічалі.

---

выбарках з Каталоніі з 1720 па 1857 г. прапорцыя простых двароў вагалася ад 43,1 да 58,7 %, шматсямейных — ад 13,3 да 24,1 %. Гл.: Reher D.S. Perspectives on the Family in Spain Past and Present. Oxford, 1997. P. 25, 26.

[59] Падлічана для 69 двароў па даных інвентару Кораньскага прыхода за 1740 г., які захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы: Ф. 694. Воп. 1. Адз. зах. 4481.

[60] Падлічана для 167 сялянскіх двароў і 7 сем'яў дваровых людзей па даных *рэвізскіх сказак* маёнткаў Корань і Красны Бор за 1834 г.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 544. Арк. 782—832. Адз. зах. 1163. Арк. 272—277.

[61] Миронов Б.Н. Социальная история России периода империи (XVIII — начало XX в.)... Т. 1. С. 225, 226.

Гэтым разам арганізатары вырашылі цалкам выключыць з поля зроку балканскую сям'ю, засяродзіўшыся на супастаўленні Захаду і тэрыторыі Еўрапейскай Расіі. Афіцыйна семінар называўся «Сямейныя формы ў расійскай і ўкраінскай гісторыі ў параўнальнай перспектыве» («Family Forms in Russian and Ukrainian History in Comparative Perspective»). Заўважым, што з назвы выпала Беларусь. Гэта тлумачыцца не толькі параўнальна познім прыцягненнем да ўдзелу беларускага прадстаўніка (як ветліва патлумачылі арганізатары), але, на жаль, і не вельмі прыкметным пакуль укладам беларускіх даследчыкаў у гістарыяграфію пытання. З гэтай прычыны тэрыторыя Беларусі застаецца ўсё яшчэ «белай плямай» для нашых заходніх калег. Фактычна, аднак, семінар быў прысвечаны сямейным формам у расійскай і беларускай гісторыі, бо заяўлены прадстаўнік Украіны на ім адсутнічаў, а прадстаўнік Беларусі пастараўся быць максімальна актыўным.

Трэба адзначыць, што падрыхтаваны Міколам Крыкуном матэрыял аказаўся вельмі цікавым. Даследчык апрацаваў малавядомую крыніцу — перапіс насельніцтва ў 28 уніяцкіх прыходах Жытомірскага павета Кіеўскага ваяводства за 1791 г.[62]. Матэрыялы перапісу ахопліваюць 2903 двары ў 6 мястэчках і 72 сельскіх паселішчах павета. Дэталёва прааналізаваўшы іх сямейную структуру па методыцы, адпаведнай методыцы кембрыджскай групы, М. Крыкун паказаў, у прыватнасці, што 55,5 % з іх складаліся з простай сям'і, а 35,3 % былі шматсямейнымі. Гэтыя лічбы сведчаць, што і на Украіне ў XVIII ст. доля шматсямейных гаспадарак была ніжэйшай, чым у расійскіх маёнтках XIX ст.

Ю. Мізіс таксама ўпершыню прадставіў некаторыя вынікі мікрадаследавання чатырох сёл Тамбоўскай губерні за перыяд з 1816 да 1858 г., з далучэннем на гэты раз даных не толькі метрычных кніг, але і *рэвізскіх сказак*. Доля шматсямейных двароў складала ад 53,3 да 73,6 %, доля простых сем'яў — ад 28,8 да 13,2 %, г. зн. у гэтым выпадку структура сям'і адпавядала класічнай «усходняй» мадэлі, раней акрэсленай у публікацыях П. Запа і С. Хока.

У матэрыяле, падрыхтаваным Крысцінай Варабек, асаблівую цікавасць выклікала адзначаная ёю розніца ў сістэмах спадчыннасці паміж Расіяй і Украінай у пасляпэформавы перыяд. Расійскія сяляне пераважна дзялілі гаспадарку пасля смерці бацькі (post-mortem fission), а ўкраінскія — пры яго жыцці (pre-mortem fission), прычым адзін сын (звычайна малодшы) атрымліваў большы ўчастак і павінен быў утрымліваць бацьку на старасці. Паводле нашых несістэматызаваных назіранняў, беларуская мадэль паводзінаў у гэтым сэнсе адпавядала ўкраінскай.

Важным вынікам семінара стала практычна аднадушная згода яго ўдзельнікаў у тым, што пры супастаўленні еўрапейскіх дэмаграфічных мадэляў трэба казаць не пра вузкую дэмаркацыйную лінію, а пра дастаткова шырокую пераходную зону, якая ахоплівала, як мінімум, Фінляндыю, Балтыю, Беларусь і правабярэжную Украіну. Думаецца, толькі адсутнасць на семінары польскіх, славацкіх і румынскіх спецыялістаў не дазволіла ўключыць і гэтыя краіны ў пераходную зону. Здаецца, такая ж пераходная зона апяразвала Заходнюю Еўропу і з поўдня, у Міжземнамор'і. Больш дэталёвая картаграфія дэмаграфічных варыяцый у іх гістарычнай дынаміцы патрабуе, зразумела, далейшых даследаванняў паводле параўнальных методык.

Асноўную ўвагу ўдзельнікі семінара аддалі абмеркаванню ідэй, выказаных М. Мітэраўерам наконт фактараў фарміравання дзвюх розных дэмаграфічных мадэляў. У матэрыялах, папярэдне разасланых удзельнікам па электроннай пошце, ён паўтарыў і крыху пашырыў кола ключавых фактараў, акрэсленае ім на канферэнцыі ў Пальме. Як адну з магчымых ён гатовы разглядаць гіпотэзу, што абедзве мадэлі ў мінулым мелі агульны базіс, а потым разышліся ў розныя бакі пад уздзеяннем эканамічных і, магчыма, іншых фактараў. Але яго па-ранейшаму значна больш прыцягвае ідэя паэтапнага зжывання старажытнай патрыярхальнай традыцыі, у якім Захад на некалькі стагоддзяў апярэджваў Усход. У якасці аргументаў ён прыводзіць розніцу ў тэрміналогіі роднасці (на ўсходзе значна пазней захоўваецца адрозненне

[62] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Кіеве. Ф. 8. Воп. 1. Адз. зах. 15. Арк. 147—904 адв.

сваякоў у залежнасці ад полу суб'екта: *цесць — свёкар*, *шурын — дзевер*, *нявестка — залоўка* і да т.п.), у сістэмах спадчыны на нерухомасць (тут ён трымаецца схемы К. Казера), а таксама ў розных формах арганізацыі сумеснай працы. У гэтым аспекце ён дапускае вызначальную ролю гаспадарча-эканамічных фактараў: падсечнае земляробства патрабуе сумеснай працы некалькіх мужчын і, адпаведна, вялікай непадзеленай сям'і, у той час як трохпольнае земляробства з выкарыстаннем колавага плуга (звычайнага на Захадзе ўжо з позняга Сярэднявечча) можа грунтавацца на сумеснай працы мужа і жонкі, г. зн. — на нуклеарнай сям'і.

У працэсе абмеркавання «патрыярхальнай» гіпотэзы высветлілася дастаткова стрыманае стаўленне да яе ўдзельнікаў семінара. Ніхто не абвяргаў наяўнасць такога фактару, але не ў якасці вырашальнага. Многімі адзначалася роля эканамічных умоў. Аўтар гэтых радкоў звярнуў увагу на ідэю расійскага эканаміста Аляксандра Чаянава, які ў 1920-я гг. разглядаў прапорцыю едакоў і работнікаў у сям'і як адзін з найважнейшых фактараў яе эканамічнага стану. Гэтая прапорцыя змяняецца ў ходзе жыццёвага цыкла сям'і, па меры нараджэння дзяцей і дасягнення імі працаздольнага ўзросту[63]. На прыкладзе рэканструяваных жыццёвых цыклаў канкрэтных дворагаспадарак аўтар гэтых радкоў пераканаўся, што нуклеарная сям'я непазбежна праходзіць перыяд, калі суадносіны едакоў і работнікаў асабліва неспрыяльныя. Наяўнасць у складзе гаспадаркі некалькіх рознаўзроставых шлюбных пар дазваляе згладжваць гэтую сітуацыю, і такім чынам шматсямейны двор аказваецца эканамічна мэтазгодным.

Карыстаючыся прынцыпам, які ўжыў К. Казер у дачыненні да *задругі*, можна сказаць, што і «заходняя», і «ўсходняя» мадэлі паводзін арыентаваліся на нуклеарную сям'ю як на ідэальны стан рэчаў, але на ўсходзе ў жыццёвым цыкле канкрэтнай сям'і дасягненне гэтага ідэалу звычайна адкладвалася па эканамічных меркаваннях. У залежнасці ад сітуацыі працягласць гэтай адтэрміноўкі магла моцна вагацца. Напэўна, гэтым тлумачацца вялікія варыяцыі ў прапорцыі аднасямейных і шматсямейных двароў, а таксама сярэдняга памеру дворагаспадарак (mean household size). Калі ў Англіі, напрыклад, гэты паказчык з канца XVI да пачатку XX ст. вагаўся ў вузкіх межах (ад 4 да 6 чалавек на двор, у сярэднім — 4,75[64]), то ў Расіі і Беларусі размах ваганняў быў вялізны. У маёнтку Выхіна Маскоўскай губерні сярэдні памер дворагаспадаркі мяняўся з 9 чал. у 1816 г. да 12 у 1834 г. і да 7 у 1850 г.[65], у маёнтках Корань і Красны Бор Мінскай губерні ён складаў 6,3 чал. у 1740 г., 6,9 — у 1795 г., 7,4 — у 1834 г., 8,8 — у 1841 г., 7,4 — у 1897 г. (у тым ліку ў старых вёсках на надзельных землях — 6,4 чал., а ў хутарах на купчых землях — амаль 13), у 1917 г. — 6,2 на надзельных землях і 7,3 — на купчых[66].

Ужываючы псіхалагічны крытэрый, можна сказаць, што на Захадзе дыяпазон прымальнасці для сумеснага пражывання некалькіх шлюбных пар быў значна

[63] Чаянов А.В. Бюджет крестьянского хозяйства // Очерки по экономике трудового сельского хозяйства. Москва, 1924. С. 76—93. Нядаўняе перавыданне гэтай працы гл.: Чаянов А.В. Крестьянское хозяйство. Избранные труды. Москва, 1989. С. 90—109.

[64] Laselett P. Mean Household Size in England since the Sixteen Century. In: P. Laselett and R. Wall (eds.). Household and Family in Past Time... Cambridge, 1972. P. 91—102.

[65] Blum A., Troitskaya I., and Avdeev A. Family, Marriage and Social Control in Russia — Three Villages in Moscow Region. In: M. Neven and C. Carpon (eds.). Family Structures, Demography and Population. A Comparison of Societies in Asia and Europe. Liége, 2000. P. 88—92.

[66] Падлічана аўтарам па даных інвентару Кораньскага прыхода за 1740 г. (Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 694. Воп. 1. Адз. зах. 4481, у выбарцы 69 двароў); сумарных вынікаў *рэвізскіх сказак* маёнткаў Корань і Красны Бор за 1795 г. (Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 1350. Воп. 312. Адз. зах. 89. Арк. 582—582 адв., у выбарцы 146 двароў); аўтарскіх падлікаў паводле *рэвізскіх сказак* за 1834 г. (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 544. Арк. 782—832; Адз. зах. 1163. Арк. 272—277, у выбарцы 152 двары); інвентару маёнтка Красны Бор за 1841 г. (Тамсама. Ф. 142. Воп. 1. Адз. зах. 305, у выбарцы 151 двор); сумарных вынікаў перапісу насельніцтва 1897 г. па паселішчах (Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 1290. Воп. 11. Адз. зах. 1299. Арк. 605—635, 761, 762, у выбарцы 395 двароў) і сельскагаспадарчага перапісу 1917 г. (Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 325. Воп. 2. Адз. зах. 604. Арк. 3—5, 8, 11, 23, 25, 30, 31, 35, 40, 80—83, 92, 95, 98, 99, 101, 102, у выбарцы 512 двароў).

вузейшы, а ўстаноўка на эканамічную самастойнасць шлюбной пары — куды мацнейшая. Пры гэтым жыццяздольнасць маласямейнай дворагаспадаркі дасягалася за кошт альтэрнатыўнага рашэння: прыцягнення наёмных работнікаў. Адпаведна, адной з ключавых умоў захавання «ўсходняй мадэлі» трэба прызнаць **адсутнасць рынку найманай працоўнай сілы**. Цалкам верагодна, што нежаданне расійскіх сялян аддаваць падрослых дзяцей у батракі таксама ў значнай ступені вызначалася культурнымі і паводзіннымі стэрэатыпамі, але ці варта адносіць іх за кошт патрыярхальнай традыцыі? Гэтае пытанне патрабуе далейшага вывучэння. Магчыма, вырашальны ўклад здольны зрабіць псіхагістарычны падыход да праблемы[67], але гэта — тэма асобнай размовы.

Такім чынам, шматгадовыя параўнальныя даследаванні сямейнай структуры выходзяць на праблему суадносінаў эканамічных і культурных фактараў, што вызначаюць эфектыўнасць грамадскага ладу. Урэшце ўсё зводзіцца да пытання: што дазволіла Заходняй Еўропе дасягнуць такога высокага ўзроўню жыцця і што перашкодзіла (а часам перашкаджае і сёння) Усходняй Еўропе браць з яе прыклад? Ёсць адчуванне, што гістарычная дэмаграфія здольная ўнесці істотны ўклад у высвятленне гэтага пытання.

*Друкуецца паводле:*
Беларускі гістарычны агляд. 2000. Т. 7. Сш. 2 (13). С. 448—475.

[67] У якасці перспектыўных прымяненняў такога падыходу можна прыгадаць некаторыя работы Лойда дэ Моза: DeMause L. Foundations of Psychohistory. New York, 1982. P. 1—83, 117—123 et al.; DeMause L. The Gentle Revolution: Childhood Origins of Soviet and East Democratic Movements. In: Journal of Psycohistory. 17 (1990). На расійскай мове гл.: Демоз Л. Психоистория. Ростов-на-Дону, 2000. С. 14—110, 153—163, 437—449 і інш.

# Шматсямейная сялянская дворагаспадарка: рэлікт патрыярхальнага мінулага альбо феномен Новага часу?

Сям'я і дворагаспадарка як мінімальныя структураўтваральныя элементы чалавечага грамадства ўвесь час знаходзяцца ў фокусе ўвагі даследнікаў. У літаратуры пашырана думка пра тое, што цягам чалавечай гісторыі адбывалася паслядоўнае памяншэнне памераў гэтай мінімальнай ячэйкі: ад грамады паляўнічых і збіральнікаў праз патрыярхальную грамаду земляробаў і жывёлаводаў да сучаснай нуклеарнай сям'і. У той жа час існуюць і іншыя пункты погляду. Антраполаг Адам Купер падае шматлікія сведчанні таго, што базавай формай сям'і ў сучасных «малых народаў», ад бушменаў Паўднёвай Афрыкі і абарыгенаў Аўстраліі да індзейцаў басейна Амазонкі, з'яўляецца менавіта нуклеарная сям'я. Вялікія разгорнутыя сямейныя структуры ўзніклі на пэўнай стадыі развіцця земляроба-жывёлагадоўчага грамадства і былі, такім чынам, толькі эпізодам у гісторыі чалавецтва[1].

Пытанне пра час і абставіны адваротнага пераходу ад вялікасямейнай грамады да малой сям'і таксама застаецца дыскусійным[2]. На думку Міхаіла Мітэраўера, адрозненне гістарычных лёсаў Заходняй і Усходняй Еўропы шмат у чым звязанае з тым, што першая з іх зазнала гэты пераход яшчэ ў Сярэднявеччы[3]. З гэтага пункту гледжання вялікасямейная дворагаспадарка, якая дамінавала ў сялян на ўсходзе Еўропы да сярэдзіны XIX ст., уяўляецца рэліктам глыбокай старызны, што дазваляе ранжаваць еўрапейскія соцыумы па ступені іх «прасунутасці» ад патрыярхальнасці да мадэрну.

У гэтым артыкуле ўвазе чытача прапануюцца некаторыя факты і меркаванні на карысць таго, што дынаміка сямейнай структуры была больш складанай. Дзеля гэтай мэты мэтазгодна размежаваць паняткі *«сям'я»* і *«дворагаспадарка»*, хаця яны не размяжоўваліся самімі сялянамі, ва ўяўленні якіх усе члены агульнай гаспадаркі былі адной сям'ёй. Але калі даследнікі ідуць за гэтай практыкай, узнікае неабходнасць увесь час адрозніваць малыя і вялікія сем'і, уводзіць такія паняткі, як *«гаспадарка-сям'я»* і *«складовая сям'я»* (паводле тэрміналогіі Б.М. Міронава[4]), *«дамавая грамада»* (паводле Ю.Л. Бяссмертнага[5]) і т.п. На нашу думку, прасцей пад сям'ёй разумець менавіта нуклеарную сям'ю, а любую групу асоб, якая вядзе сумесную гаспадарку і, як правіла, адлюстроўваецца ва ўлікова-фіскальных дакументах пад адным нумарам, называць *домагаспадаркай*, што з'яўляецца дакладным эквівалентам англамоўнага панятка *«household»*, альбо, больш дакладна,

---

[1] Kuper A. The Chosen Primate: Human Nature and Cultural Diversity. Cambridge, 1993. P. 170, 174.

[2] Носевич В.Л. Еще раз о Востоке и Западе: Структуры семьи и домохозяйства в истории Европы // Круг идей: Историческая информатика в информационном обществе: Труды VII конференции Ассоциации «История и компьютер». М., 2001. С. 15—38. Интернет-версия: http://vn.belinter.net/model/10.html.

[3] Mitterauer M. Medieval Roots of European Family Development // J. Michálek (ed.). Stredoeurópske kontexty l'udovej kultúry na Slovensku. Bratislava, 1995. P. 92—105.

[4] Миронов Б.Н. Социальная история России периода империи (XVIII — начало XX в.): Генезис личности, демократической семьи и правового государства. 2-е изд., испр. СПб., 2000. Т. 1. С. 220—221 и др.

[5] Бессмертный Ю.Л. Структура крестьянской семьи во франкской деревне IX в.: данные антропонимического анализа // Средние века. 1980. Вып. 43. М., 1980; История крестьянства в Европе: В 3 т. Т. 1. Эпоха феодализма. М., 1985. С. 236.

*дворагаспадаркай* (у якасці скарочаных формаў мажлівыя варыянты *«двор»* і *«гаспадарка»*). Пры такім падыходзе гаспадарка можа не ўключаць аніводнай сям'і (дворагаспадарка, якая складаецца з *адзінцоў*), уключаць адну сям'ю (у гэтым выпадку можна казаць пра *аднасямейную* дворагаспадарку) альбо сям'ю ў спалучэнні з адзінцамі (*пашыраная* дворагаспадарка). Ва ўсіх выпадках, калі сумесна жывуць і гаспадараць больш за адну сямейныя пары, варта весці размову пра *шматсямейную* дворагаспадарку.

Прыблізна такі падыход выкарыстоўваецца ў класіфікацыйнай схеме П. Леслета, што мае сусветную папулярнасць[6]. Але яна ствараласся найперш для адлюстравання заходнееўрапейскіх рэалій, у якіх вялікае значэнне мае размежаванне розных відаў *поўнай*, *няпоўнай* і *рэдуцыраванай* сям'і, якія складаюць там абсалютную большасць, але адсутнічаюць шмат у якіх усходнееўрапейскіх выбарках. Для выяўлення агульнай карціны ў маштабах усёй Еўропы дастаткова супастаўлення трох абагуленых катэгорый: першая з іх аб'ядноўвае поўныя, няпоўныя (рэдуцыраваныя) сем'і і адзінцоў, другую ўтвараюць пашыраныя гаспадаркі, трэцюю — усе віды шматсямейных. Перавага такога групавання нам бачыцца ў тым, што падлік колькасці гаспадарак першай катэгорыі магчымы (з мінімальнымі хібамі) пры наяўнасці крыніц, дзе пазначаныя толькі асобы мужчынскага полу, што не дазваляе правесці дэталёвай класіфікацыі паводле схемы П. Леслета. Пры гэтым звесткі аказваюцца супастаўляльнымі, паколькі поўная схема Леслета амаль адназначна пераўтвараецца ў абагуленую.

У любым выпадку магчымасці такой класіфікацыі абмяжоўваюцца наяўнасцю пісьмовых крыніц. У больш ранні час меркаваць пра структуру сям'і і дворагаспадаркі можна толькі ўскосна, на падставе археалагічных матэрыялаў. Так, характэрны для Скандынавіі VI—X стст. дом слупавой канструкцыі, даўжынёй каля 10—30 м пры шырыні 4,5—7 м[7], відавочна быў разлічаны на сумеснае пражыванне грамады, якая ўключала некалькі шлюбных пар (двух-трох пакаленняў блізкіх сваякоў). Прынята лічыць, што акрамя іх у гаспадарцы паўнавартаснага бонду было і два-тры хатнія рабы. Сапраўды, указанні на сумеснае вядзенне гаспадаркі членамі вялікай сям'і сустракаюцца ў запісах звычаёвага права Нарвегіі і Швецыі яшчэ ў XIII—XIV стст.[8].

Ва ўсходніх славян у VI—VIII стст. пануе іншы стыль жытла — квадратная паўзямлянка з памерам бакоў ад 3 да 4 метраў, разлічаная на невялікую колькасць жыхароў. Але такія паўзямлянкі групуюцца на паселішчы ў гнёзды ад 5—6 да 10—15 з агульнымі для іх ямамі-склепамі і наземнымі гаспадарчымі пабудовамі, а таксама пляцоўкай калектыўнага двара. Гэты тып інтэрпрэтуецца як вялікасямейная грамада, што ўтваралася некалькімі нуклеарнымі сем'ямі. Хаця кожная з іх спала ў асобным жытле, гавяда і харчовыя прыпасы былі агульнымі і, відаць, былі аб'ектамі сумеснай працы. Мяркуецца, што гэта абумоўлівалася падсечнай формай земляробства[9].

У наступныя стагоддзі па меры пашырэння пастаянных ворных надзелаў адбыўся пераход да сядзібнай забудовы, пры якой жылыя і гаспадарчыя будынкі ўтвараюць адзіны комплекс. Памер зрубнай хаты быў невялікі: аднакамерная, з даўжынёй бакоў чатыры-пяць метраў. Тыпы жытла, арыентаваныя на сумеснае пражыванне некалькіх сужэнскіх пар, адсутнічалі[10]. У прынцыпе гэта не выключае магчымасці таго, што ў адным доме жылі хай не пяць-шэсць, але хаця б дзве сям'і. Аднак урыўкавыя звесткі пісьмовых крыніц сведчаць, што ў Кіеўскай Русі асноўнай

---

[6] Hammel E.A. and Laselett P. Comparing Household Structures over Time and between Cultures // Comparative Studies in Society and History. 16 (1974). P. 73—109; Леслетт П. Семья и домохозяйство: исторический подход // Брачность, рождаемость, семья за три века: Сб. статей / Под ред. А.Г. Вишневского и И.С. Кона. М., 1979. С. 132—157.

[7] Хлевов А. А. Предвестники викингов: Северная Европа в I—VIII вв. СПб., 2002. С. 86—96.

[8] История крестьянства в Европе. Т. 1. С. 304.

[9] Тимощук Б.А. Восточнославянская община VI—X вв. н. э. М., 1990. С. 16—29.

[10] Древняя Русь: Город, замок, село. М., 1985. С. 102—103, 136—143.

формай сялянскай гаспадаркі была сям'я, што складалася з адной сужэнскай пары. Менавіта такая сям'я мелася на ўвазе ў прамове Уладзіміра Манамаха, занесенай у летапіс пад 1103 г.: *«оже то начнеть орати смерд, и приехав половчин ударить и стрелою, а лошадь его поиметь, а в село его ехав иметь жену его и дети его, и все его именье»*[11]. Такім чынам, пераход да малой сям'і на тэрыторыі Русі, магчыма, адбыўся раней, чым у Скандынавіі, і прыблізна ў адзін час з Германіяй.

Як жа ў такім разе патлумачыць бясспрэчную перавагу шматсямейных двара-гаспадарак ва ўсходніх і паўднёвых славян у больш познія часы? Што тычыцца балканскай *задругі*, то М. Тодарава мяркуе, што яна з'яўляецца другаснай з'явай, якая ўзнікла не раней за XVII ст. у працэсе адаптацыі да спецыфічнага спалучэння экалагічных і эканамічных умоў[12]. На нашую думку, існуе дастаткова падстаў для такога ж сцвярджэння і ў дачыненні да ўсходнеславянскай вёскі. Матэрыялы, якія мы маем, адносяцца ў першую чаргу да тэрыторыі сучаснай Беларусі, але з шырокім прыцягненнем супастаўляльных даных па іншых рэгіёнах.

Для перыяду XIV—XV стст. не захавалася дакументаў, якія непасрэдна апісвалі б памеры і склад сялянскай сям'і на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Ёсць шэраг ускосных звестак пра памеры податнай адзінкі, з якой налічвалася мядовая даніна — асноўны від павіннасці на карысць дзяржавы альбо феадала. Звычайна плацельшчык такой даніны выступае проста як *чалавек*, але з некаторых дакументаў вынікае, што ён мог быць главой даволі буйной гаспадарчай адзінкі, якая ў пазнейшых дакументах называецца *службай*. Так, літоўскі баярын Войцех Манівід, адзін з набліжаных вялікага князя Вітаўта, у 1422 г. падараваў Віленскаму біскупству два сваяцкія кланы на рацэ Бярэзіне, якія складалі калісьці, хутчэй за ўсё, адну такую адзінку, пазней падзеленую на дзве — у дакуменце яны названыя Львовічамі і Небутовічамі з іх братамі і сваякамі (*Lwowicze et Nebutowicze fratres et consangwinei*). Пры гэтым адзначалася, што яны ўяўляюць з сябе шэсць самастойных сем'яў (менавіта такі славянскіх тэрмін выкарыстаны ў лацінамоўным дакуменце: *«sex familiae vulgariter siemie»*)[13].

Тая ж сістэма збірання старажытнай даніны фіксуецца амаль стагоддзем пазней у сяле Ганявічы, выдзеленым з Лагожскага княства. Згадка адносіцца да 1516 г., але адлюстроўвае ранейшую сітуацыю: апытаныя падчас судовага разбіральніцтва сведкі паказалі, што *«з села Ганевицкого на костел Святого Станислава здавна дани давали 8 ушатков и 4 пуда меду, а 2 человека Овдеевичи и Охромеевичи к Логожску 2 ушатка и 2 пуда давали»*[14].

Мяркуючы па тым, што службы называліся па імёнах (дакладней, імёнах па бацьку) іх трымальнікаў, кожная з іх была ў валоданні аднаго сялянскага роду. На момант усталявання службы яе трымальнікам была, хутчэй за ўсё, нуклеарная сям'я. Але ва ўмовах фіксавання павіннасці з невыразна акрэсленай адзінкі абкладання сяляне былі зацікаўленыя ў тым, каб пры разрастанні сям'і дарослыя сыны заставаліся трымальнікамі агульнай службы — пры гэтым падатковы цяжар на кожную гаспадарку скарачаўся. Таму павіннасць выконвалася сваяцкімі кланамі, якія называлі па імені па бацьку першага трымальніка. Верагодна, памер іх залежаў ад таго, як доўга служба знаходзілася ў распараджэнні адной сям'і. За два-тры пакаленні бесперарыўнага трымання такая сям'я магла разрасціся да пяці-шасці і болей дарослых мужчын.

Да маёнтка Астрожчыцы (у тым жа рэгіёне цэнтральнай Беларусі) пры пажалаванні яго ў 1440-я гг. велікакняскаму маршалку пану Войтку былі залічаныя

---

[11] Повесть временных лет / Под ред. В.П. Адриановой-Перетц. Ч. 1. М.; Л., 1950. С. 183.

[12] Todorova M. Balkan Family Structure and the European Pattern: Demographic Developments in Ottoman Bulgaria. Washington, 1993. P. 133—158.

[13] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. 1. Kraków, 1932—1948. № 86. S. 745.

[14] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 1. СПб., 1846. С. 59—60.

*«4 чоловеки Гоголичан Менских, а два чоловеки Корговци Логожан»*[15]. У інвентары 1557 г. у складзе маёнтка фігуруюць абодва гэтыя паселішчы: Гагаліца і Коргава[16]. Жыхары Коргава па-ранейшаму падзяляліся на дзве службы, але цяпер адна складалася з чатырох *дымоў*, другая — з трох. У Гагаліцы налічвалася 10 дымоў, якія не падзяляліся на службы — належачы кожнаму ўчастак вызначаўся ў інвентары як *земля зупольная*. Гэта адбівае пачатак працэсу падзелу службаў на індывідуальныя надзелы — дымы, якія належаць у ідэале нуклеарным сем'ям.

У інвентары маёнтка Радашковічы за 1549 г.[17] браты, а таксама бацькі і іх дарослыя сыны вельмі часта фігуруюць як галовы асобных дымоў: *«Тумаш а Шымко Горачъчычы, дымы 2, пол-службы; Есип Пашкович, а сына его — Ходор, Олексей, Семен, Сидор, Овхим, дымов 6, третина службы»* і т.п. У прыпісанай да гэтага ж маёнтка Рэваніцкай воласці, дзе асноўнай павіннасцю была даніна мядовая, у некаторых выпадках дворагаспадарамі былі родныя браты: *«Мойсей Малашкович, дым… Конаш Малашкович, дым… Под тыми обема Мойсеем а Конашом земля брата Артима Малашковича»*. Са згаданых побач Карпа Камяжыча і Яўхіма Карпавіча першы відавочна быў бацькам другога, то бок сын выдзеліўся ў самастойную гаспадарку пры жыцці бацькі. Наколькі ўніверсальнай была гэтая практыка, інвентар меркаваць не дазваляе, бо ў ім пазначаныя толькі галовы гаспадарак. Але зрабіць гэта можна, выкарыстоўваючы іншыя крыніцы.

У інвентары маёнтка Мядзел за 1545 г.[18] фігуруюць 97 дымоў з пазначэннем усіх асоб мужчынскага полу (іх было 268, альбо ў сярэднім 2,76 на дым). Нават калі інтэрпрэтаваць як няпоўныя альбо пашыраныя сем'і ўсе выпадкі, калі ў гаспадарцы згадваюцца 2—3 бяздзетныя браты, можна сцвярджаць пра існаванне не больш чым 126 сем'яў. Абсалютна пераважалі дымы, што складаліся з адной сям'і, — прыблізна 68 (70,1 %). У 25 выпадках у складзе дыма было па дзве такія сям'і (у асноўным гэта сем'і жанатых братоў), у чатырох выпадках — па тры сям'і. На адзін дым прыпадала ў сярэднім па 2,76 мужчыны і 1,3 сям'і, на адну сям'ю — па 2,1 асобы мужчынскага полу. Калі дапусціць, што колькасць жанчын у цэлым адпавядала колькасці мужчын, то сярэдні памер сям'і ненашмат перавышаў 4 чал., а сярэдні памер дворагаспадаркі быў блізкі да 5,5 чал.

Усе асобы мужчынскага полу згадваюцца таксама ў датаваным 1569 г. інвентары маёнтка Ганута[19]. Абсалютная большасць дымоў (58 з 65, альбо 89 %) складалася з гаспадара з сынамі альбо без іх, то бок уяўляла сабой хутчэй малыя сем'і. Астатнія сем двароў былі шматсямейнымі (бацька, сын і ўнук; жанатыя браты з дзецьмі і т.п.), прычым на кожны двор прыпадала па дзве сям'і. Такім чынам, разам у маёнтку было 74 сям'і (1,2 на дым), у іх 186 асоб мужчынскага полу (2,5 на сям'ю, альбо 2,86 на дым). У гэтым выпадку памер поўнай малой сям'і варта ацэньваць прыблізна ў 5 чал., а памер двара — у 5,7 чал. Гэтыя лічбы, як мы бачым, не моцна адрозніваюцца ад лічбаў па маёнтку Мядзел.

Бліжэй да канца XVI ст. і ў першай палове XVII ст. колькасць інвентароў узрастае. За гэты перыяд Зіновій і Барыс Капыскія апрацавалі звесткі па 217 паселішчах і 35 службах, для якіх крыніцы дазваляюць устанавіць сваяцкія адносіны паміж асобамі мужчынскага полу, і налічылі ў іх 5663 дымы і 6969 малых сем'яў. Такім чынам, у сярэднім на адзін дым прыпадала 1,2 сям'і. Пры гэтым 4741 дым, альбо 85,6 % ад іх агульнай колькасці, быў прадстаўлены адной сям'ёй (відаць, уключаючы і пашыра-

---

[15] Lietuvos Metrika. Kn. 3 (1440—1498). Vilnius, 1998. P. 44.

[16] Інвентар маёнтка Астрожчыцы быў выяўлены ў Галоўным архіве стражытных актаў (AGAD) у Варшаве В.Ф. Голубевым (фонд Патоцкіх з Радыня, № 390). Ён ласкава дазволіў мне скарыстацца яго асабістымі выпіскамі з гэтага інвентару.

[17] Документы Московского архива Министерства юстиции. Т. 1. М., 1897. С. 116—119.

[18] Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов в трех томах. Т. 1. Мн., 1959. С. 199—208.

[19] Istorijos archivas. T. 1. XVI amžiaus Lietuvos inventoriai. Kaunas, 1934. № 20.

ныя гаспадаркі), а астатнія 14,4 % гаспадарак былі шматсямейнымі. З іх 745 дымоў (10,6 %) складаліся з дзвюх малых сем'яў, а 266 (3,8 %) — з трох і больш[20].

У іншай публікацыі З. Капыскі падаў крыху іншыя, але ў цэлым аналагічныя лічбы[21]. У 96 маёнтках ён налічыў 8624 гаспадаркі, з якіх 7282 (84,4 %) прадстаўленыя простымі (малымі) сем'ямі. Насельніцтва 842 двароў (9,8 %) ён вызначае як «каранёвыя сем'і», уключаючы ў гэтую катэгорыю гаспадаркі, у якіх сумесна жылі бацькі і жанатыя сыны, замужнія дочкі, а таксама сёстры і браты галавы гаспадаркі. Гэта адпавядае шматсямейным і пашыраным гаспадаркам разам. Яшчэ 500 гаспадарак (5,8 %) З. Капыскі вызначае як «мяшаныя» сем'і, у якіх пад адным дахам жылі людзі, не звязаныя прамым сваяцтвам. Верагодна, гэта больш-менш адпавядае тыпу 6 класіфікацыі П. Леслета, і ў большасці выпадкаў такія гаспадаркі былі шматсямейнымі.

Намі здзейснена спроба рэканструяваць структуру дворагаспадарак у адным з такіх інвентароў больш дэталёва, абапіраючыся на абагуленую класіфікацыю паводле схемы П. Леслета. Быў узяты інвентар маёнтка Сялец (у цэнтральнай Беларусі) за 1596 г.[22]. Вынікі рэканструкцыі пададзеныя ў табліцы 1.

**Табліца 1. Склад гаспадарак у маёнтку Сялец, 1596 г.**

| Склад членаў мужчынскага полу | Верагодная форма гаспадаркі | Кольkасць двароў | % | Колькасць мужчын | % | Колькасць мужчын на 1 двор |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Удава з сынамі | Няпоўная сям'я | 2 | 1,1 | 6 | 1,1 | 3,0 |
| Галава з братамі | | 14 | 7,9 | 41 | 7,7 | 2,9 |
| | | | | | | |
| Галава без іншых мужчын | Поўная альбо няпоўная сям'я | 20 | 11,3 | 20 | 3,8 | 1,0 |
| Галава з сынамі альбо пасынкамі | | 121 | 68,4 | 388 | 72,8 | 3,2 |
| **Разам аднасямейных** | | **157** | **88,7** | **455** | **85,4** | **2,9** |
| | | | | | | |
| Галава з сынамі і братамі | Пашыраная гаспадарка | 8 | 4,5 | 30 | 5,6 | 3,8 |
| **Разам пашыраных** | | **8** | **4,5** | **30** | **5,6** | **3,8** |
| | | | | | | |
| Галава з адным альбо болей сынамі і ўнукамі | Шматсямейная гаспадарка | 3 | 1,7 | 13 | 0,6 | 4,3 |
| Галава з двума сынамі, якія маюць сыноў | | 1 | 0,6 | 10 | 1,9 | 10,0 |
| Галава з братам, які мае сына | | 1 | 0,6 | 4 | 0,8 | 4,0 |
| Галава з унукам і праўнукамі | | 1 | 0,6 | 4 | 0,8 | 4,0 |
| Галава з зяцем, шваграм альбо дольнікам | | 6 | 3,4 | 17 | 3,2 | 2,8 |
| **Разам сямейных** | | **12** | **6,8** | **48** | **9,0** | **4,0** |
| | | | | | | |
| **Разам** | | **177** | **100** | **533** | **100** | **3,0** |

Пры такім групаванні атрымліваецца 201 сям'я, альбо ў сярэднім 1,14 сям'і на двор. Але ў 22 выпадках разам з галавой гаспадаркі згадваюцца бяздзетныя браты, з

[20] Капыскі З., Капыскі Б. Беларуская вёска і яе насельніцтва ў канцы XVI — першай палове XVII ст.: Вопыт дэмаграфічнай характарыстыкі // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 2. С. 42—45.

[21] Гісторыя сялянства Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён: У 3 т. Т. 1. Мн., 1997. С. 103.

[22] Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией. Т. 14. Вильна, 1887. № 77. С. 543 и далее.

якіх частка ўжо маглі быць жанатымі, хаця і не мецъ сыноў. Таму пазначаная колькасць малых сем'яў, верагодна, заніжаная, насамрэч іх магло быць блізу 210—220, альбо 1,19—1,24 на двор. У інвентары фігуруюць 533 прадстаўнікі мужчынскага полу, на адну гаспадарку прыпадала ў сярэднім 3 мужчыны, а на сям'ю — ад 2,4 да 2,65. Пры падваенні колькасці мужчын сярэдні памер дворагаспадаркі аказваецца роўным 6, што няблага суадносіцца са звесткамі іншых інвентароў. Такім чынам, у Сяльцы таксама пераважалі розныя варыянты малых сем'яў, якія складалі сама менеей 88,7 % усіх двароў. У іх жыло каля 87 % жыхароў маёнтка. Нягледзячы на розніцу ў тэрміналогіі і не зусім аднолькавыя крытэрыі групавання гаспадарак, агульныя лічбы, як бачым, даволі блізкія да даных З. Капыскага. Гэта дазваляе ацаніць структуру домагаспадаркі ў маёнтку Сялец як тыповую для Беларусі таго часу.

Для шырокага супастаўлення гэтых звестак існуе не надта шмат сінхронных матэрыялаў. Некаторае ўяўленне пра велічыню сялянскай гаспадаркі на паўночным захадзе Расіі можна атрымаць з наўгародскіх пісцовых кніг XV ст. Праўда, яны не ўказваюць не толькі поўны склад сям'і, але нават дзяцей мужчынскага полу. У лік «людзей», якія фігуруюць у гэтых крыніцах, уключаліся толькі жанатыя мужчыны. Затое колькасць такіх «людзей», відаць, блізкая да агульнай колькасці малых сем'яў. У сярэднім на двор у Наўгародскай зямлі прыпадала 1,3 жанатага мужчыны, хаця ў шэрагу раёнаў гэтая лічба даходзіла да 1,6[23]. Даследнікі адзначаюць наяўнасць тых жа катэгорый пашыраных і шматсямейных домагаспадарак, якія сустракаюцца ў беларускіх інвентарах: двары ў сумесным валоданні жанатых братоў, з прысутнасцю стрыяў (*братанов*), унукаў і пляменнікаў, а таксама зяцёў[24]. Нават калі колькасць шматсямейных гаспадарак і была вышэйшай, чым у Беларусі, то ненашмат.

У Заходняй Еўропе сітуацыя крыху адрознівалася, бо там формы шматсямейных гаспадарак, якія аб'ядноўвалі жанатых братоў, практычна выключаліся агульнапрынятым прынцыпам адзінаспадчыннасці. У падобных умовах у сярэднеанглійскіх графствах у XIII—XV стст. пераважала аднасямейная дворгаспадарка. Яе памер даследнікі ацэньваюць у 4—4,85 чал. І ў далейшым, з канца XVI да пачатку XX ст., у Англіі гэтая лічба вагалася ў вузкіх межах — ад 4 да 6 чал. на двор, у сярэднім — 4,75[25]. Тым не менш не выключаецца існаванне невялікай колькасці пашыраных сем'яў, а таксама «каранёвай» сям'і, у якой жанаты бацька жыў сумесна з жанатым сынам, звычайна старэйшым (права на спадчыну згодна з прынцыпам *маярату*).

На поўначы Францыі ў XIV—XV стст. адзначалася перавага малых сем'яў у незаможных сялянскіх гаспадарках, тады як больш заможныя гаспадаркі, шырока арандаваўшыя зямлю ў дадатак да свайго надзелу, маглі ўключаць жанатых дзяцей і бакавых сваякоў, а таксама наймітаў[26]. У сярэдзіне XVI ст. тыповая вёска ў Іль-дэ-Франс пад Парыжам налічвала каля сотні домагаспадарак. Яе насельніцтва складала блізу 400—500 жыхароў, то бок сярэдні памер домагаспадаркі быў у межах 4—5 чал., што блізка да англійскай[27]. Нават сяляне, якія страцілі надзелы, жылі ва ўласных дамах, хаця асноўныя сродкі да існавання атрымлівалі за кошт работы па найме ў гаспадарках суседзяў.

У Даніі для XIV—XVI стст. таксама характэрна існаванне масавай праслойкі беззямельных сялян, якія працавалі па найме, — халупнікаў (*husmaen*) і батракоў (*leghodraendar*). Першыя з іх здымалі дом у чужым двары, але без зямельнага на-

---

[23] История крестьянства в Европе: Эпоха феодализма. Т. 2. М., 1986. С. 274.

[24] История крестьянства СССР с древнейших времен до Великой Октябрьской социалистической революции. Т. 2. М., 1990. С. 143.

[25] Laselett P. Mean Household Size in England since the Sixteen Century // Laselett P. and Wall R. (eds.). Household and Family in Past Time. Cambridge, 1972. P. 91—102.

[26] История крестьянства в Европе: Эпоха феодализма. Т. 2. С. 317.

[27] Jacquart J. La crise rurale en Ile-de-France, 1550—1670. Paris, 1974. P. 137—138; История крестьянства в Европе: Эпоха феодализма. Т. 3. М., 1986. С. 78.

дзелу, другія жылі ў доме гаспадара, на якога працавалі. Гэтыя катэгорыі сялян паходзілі як з трымальнікаў надзелаў, якія дайшлі да галечы, так і з сыноў, якія не атрымалі спадчыны[28].

Мноства пазбаўленых надзелаў сялян адзначаецца на паўночным захадзе Германіі, дзе таксама панаваў прынцып атрымання ў спадчыну недзялімага надзелу (ням. *Hufenverfassung*). Да другой паловы XVI ст. у вывучаных Г. Хейцам 80 саксонскіх вёсках амаль дзве траціны сялян (65,2 %) уваходзілі ў катэгорыю беззямельных. З іх 36 % лічыліся ў якасці хатняй прыслугі ў гаспадарках іншых сялян, 39 % — малодшымі партнёрамі заможных сялян (*Hausgenossen*, эквівалент славянскіх тэрмінаў *«сябры»*, *«кутнікі»* альбо *«падсуседкі»*), а 25 % — беззямельнымі сваякамі-захрыбетнікамі ў пашыраных сем'ях[29]. З гэтай прычыны ў некаторых частках Саксоніі пераважалі шматсямейныя альбо пашыраныя гаспадаркі, але яны будаваліся на зусім іншых прынцыпах, чым у Беларусі альбо Расіі, — паўнавартаснымі трымальнікамі надзелу была толькі частка жыхароў адпаведнага двара. Зрэшты, маштаб гэтай з'явы не варта пераацэньваць. У цэлым па Саксоніі, паводле Р. Гроса, каля 1550 г. поўнанадзельныя сяляне складалі 73,7 % ад усяго насельніцтва, агароднікі і іншыя малазямельныя — 6,8 %, бабылі-захрыбетнікі — 18,7 %[30].

Прыведзеныя звесткі не дазваляюць казаць аб прынцыповай розніцы ў структуры двораґаспадаркі на захадзе і ўсходзе Еўропы. Гэтая розніца ўзнікла пазней. На тэрыторыі Беларусі працэс павелічэння памераў гаспадаркі фіксуецца ў межах XVIII — пачатку XIX ст., прычым ішоў ён вельмі неаднародна. Так, у 1770—1780-я гг. у адным з *ключоў* маёнтка Цімкавічы (цэнтр Беларусі) на двор прыпадала ў сярэднім 4,4—4,5 чал., у адным з ключоў Берасцейскай эканоміі (паўднёвы захад) — 4,9, у маёнтку Смядынь на Палессі — 6,3, у маёнтку Дуброўна на самым усходзе — 7,1. Але ў падняпроўскім Быхаўскім графстве ў 1796 г. на двор прыпадала ўжо 8,1 чал., а ў маёнтку Друя на паўночным захадзе ў 1793 г. — 8,5 чал.[31]. Моцна разыходзяцца і агрэгаваныя даныя розных даследнікаў. Паводле З.Ю. Капыскага, у 1238 гаспадарках 70 населеных пунктаў налічвалася 7608 душ, альбо 6,2 на двор[32]. А.М. Карпачоў і П.Р. Казлоўскі па 58 інвентарах другой паловы XVII — XVIII ст. налічылі ў 766 населеных пунктах 10235 двароў і 68370 жыхароў, што дае 6,7 чал. на двор[33]. Але Ю. Можы па 15 інвентарах Беларусі і Літвы 1725—1808 гг. налічыў у 414 паселішчах 4370 дымоў і 34950 чал., то бок 8 душ на двор[34].

Каб больш дэталёва прасачыць механізм пераходу, намі быў здзейснены аналіз серыі паслядоўных даных па адной мікрапапуляцыі ў цэнтральнай Беларусі[35], у XVIII ст. падлеглай маёнтку Корань — валоданню капітула (духоўнай рады) Віленскага каталіцкага біскупства, а часткова — плябаніі мясцовага касцёла. Па далучэнні да Расійскай імперыі ў 1793 г. маёнтак быў канфіскаваны і ў далейшым належаў прыватным уласнікам. Згодна з дадзенай выбаркай (далей называецца «Карэньшчына») захаваліся поўны інвентар за 1740 г.[36], серыя інвентароў асобных

[28] История крестьянства в Европе: Эпоха феодализма. Т. 2. С. 411; Тамсама. Т. 3. С. 294.
[29] Heitz G. Die Entwicklung der ländlichen Leinenproduktion Sachsens. Berlin, 1958. S. 24; История крестьянства в Европе: Эпоха феодализма. Т. 2. С. 369; Тамсама. Т. 3. С. 140.
[30] Gross R. Die bürgerliche Agrarreform in Sachen in der ersten Hälfte des 19. Jahrhunderts. Weimar, 1968. S. 31; История крестьянства в Европе: Эпоха феодализма. Т. 3. С. 144.
[31] Гісторыя сялянства Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён. Т. 1. С. 235.
[32] Гісторыя сялянства Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён. Т. 1. С. 185.
[33] Карпачев А.М., Козловский П.Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1968 год. Л., 1972.
[34] Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w 2 połowie XVII wieku. Poznań, 1965. S. 132, tabl. 13.
[35] Больш поўна вынік гэтага даследавання выкладзены ў манаграфіі: Носевич В.Л. Традиционная белорусская деревня в европейской перспективе. Минск, 2004.
[36] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГАЛ). Ф. 694. Воп. 1. Адз. зах. 4481.

частак маёнтка (*прэстымоній*) за перыяд з 1744 па 1789 г.[37], рэвізскія сказкі за 1811, 1816, 1834, 1850 і 1858 г.[38], інвентар за 1841 г.[39]. У сукупнасці гэтыя і шэраг іншых крыніц (метрычныя кнігі Кораньскага касцёла і інш.) дазваляюць рэканструяваць поўны склад папуляцыі і яе размеркаванне па дворагаспадарках з 1740-х па 1850-я гг., то бок больш чым за 100 гадоў.

Самы ранні інвентар за 1740 г. часткова няпоўны (па адным паселішчы пазначаныя толькі асобы мужчынскага полу). Усё-ткі ён дазваляе ацаніць колькасць насельніцтва прыблізна ў 555 чал., сярэдні памер гаспадаркі — 6,8 чал. Для 69 гаспадарак, у якіх пазначаныя жонкі і дзеці, можна правесці і больш дэталёвую класіфікацыю паводле схемы П. Леслета. Яе вынікі адлюстраваныя ў табліцы 2.

**Табліца 2. Структура дворагаспадарак Карэньшчыны ў 1740 г.**

| Склад | Форма дворагаспадаркі (тып паводле класіфікацыі П. Леслета) | Колькасць гаспадарак | % | Колькасць мужчын | Колькасць асоб абодвух полаў | Мужчын на гаспадарку | Чалавек на гаспадарку |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Нежанатыя браты без бацькоў | Рэдукаваная нуклеарная сям'я (2a) | 1 | 1,4 | 2 | 4 | 2,0 | 4,0 |
| Шлюбная пара з дзецьмі | Нуклеарная сям'я (3b) | 38 | 55,0 | 112 | 215 | 2,9 | 5,7 |
| **Разам аднасямейных** | | **39** | **56,4** | **114** | **219** | **2,9** | **5,6** |
| Шлюбная пара з адным з бацькоў | Пашыраная па вертыкалі (уверх) сям'я (4a) | 1 | 1,4 | 1 | 4 | 1 | 4,0 |
| Жанаты галава з нежанатымі братамі | Пашыраная па гарызанталі сям'я (4c) | 4 | 5,8 | 9 | 15 | 2,3 | 3,8 |
| **Разам пашыраных** | | **5** | **7,3** | **10** | **19** | **2,0** | **3,8** |
| Жанаты галава з адным жанатым сынам (зяцем) і нежанатымі дзецьмі | Шматсямейная гаспадарка з вертыкальнай сувяззю (5b) | 11 | 15,9 | 46 | 82 | 4,2 | 7,5 |
| Шлюбная пара з адным з бацькоў і братамі (сёстрамі) | | 1 | 1,4 | 5 | 8 | 5,0 | 8,0 |
| Жанаты галава з жанатым братам і адным з бацькоў | Шматсямейная гаспадарка з гарызантальнай сувяззю (5c) | 1 | 1,4 | 6 | 10 | 6,0 | 10,0 |
| Жанатыя браты альбо швагры без бацькоў | Братчына (5d) | 4 | 5,8 | 27 | 49 | 6,8 | 12,3 |
| Жанаты галава з некалькімі жанатымі нашчадкамі альбо пляменнікамі | Шматсямейная патрыярхальная гаспадарка (5e) | 7 | 10,1 | 34 | 64 | 4,9 | 9,1 |
| Дзве несваяцкія шлюбныя пары (сябры, патужнікі) | Гаспадарка на аснове несваяцкіх сувязяў (6) | 1 | 1,4 | 3 | 5 | 3,0 | 5,0 |
| **Разам шматсямейных** | | **25** | **42,1** | **123** | **226** | **4,9** | **9,0** |
| **Разам** | | **69** | **100** | **242** | **453** | **3,5** | **6,6** |

Інвентар за 1761 г. указвае ў 34 дварах 131 асобу мужчынскага полу, у сярэднім 3,9 на двор. У другой частцы маёнтка ў 1774 г. на 36 двароў прыпадала 96 мужчын, альбо 2,7 на двор. Колькасць двароў у кожнай з гэтых выбарак невялікая, а раскід значэнняў вельмі вялікі. Пры адсутнасці звестак пра поўны склад двароў далёка-

[37] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы. Ф. 43. Адз. зах. 10758, 10760—10766, 10771; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 1781. Воп. 27. Адз. зах. 219; ДГАЛ. Ф. 694. Воп. 1. Адз. зах. 3397.
[38] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 87, 204, 408, 419, 544, 1090, 1096.
[39] НГАБ. Ф. 142. Воп. 1. Адз. зах. 305.

сяжныя высновы рабіць рызыкоўна. Магчыма, структура дворагаспадаркі ў двух прэстымоніях сапраўды істотна адрознівалася, але маглі быць і выпадковыя ваганні колькасці альбо прапорцыі полаў.

У трэцяй частцы маёнтка ў 1781 г. на двор прыпадала ў сярэднім 5,1 чал. (2,9 мужчыны), 1,1 поўнай сям'і і 0,2 адзінца. Не выключана, што інвентар мае пропускі ў жаночым насельніцтве. Праз 5 гадоў у тым самым прэстымоніі было роўна 6 чал. на двор (у тым ліку 3,1 мужчыны), 1,2 поўнай і 0,1 няпоўнай сям'і, 0,5 адзінца. З улікам *кутнікаў* на двор прыпадала 6,2 чал. Доля аднасямейных гаспадарак за гэты час паменшылася з 80 да 44 %, пашыраных — павялічылася з 10 да 27 %, шматсямейных — з 10 да 29 %. Зрэшты, такія хістанні спараджаюцца найперш малым аб'ёмам выбаркі.

У валоданнях Кораньскага касцёла ў 1783 г. на двор прыпадала 6,5 чал. (3,1 мужчыны). Сямейная структура можа быць вызначана толькі прыблізна, бо жанчыны не пазначаныя пайменна (падаецца толькі агульная іх колькасць у кожным двары). Верагодна, яе складалі каля 1,2 поўнай сям'і, 0,5 няпоўнай і 0,1 адзінца, але колькасць няпоўных сем'яў можа быць завышанай, а колькасць адзінцоў — заніжанай. Калі ўлічыць неаседлыя сем'і, то сярэдні памер гаспадаркі складзе 7,3 чал. (3,7 мужчыны). Прапорцыя аднасямейных, пашыраных і шматсямейных гаспадарак была роўнай.

У яшчэ адным інвентары ў 1787 г. на двор без уліку кутнікаў прыпадала ў сярэднім 5,9 чал. (3,05 мужчыны). Калі ўлічыць неаседлыя сем'і, то памер гаспадаркі роўны 6,4 чал. (3,2 мужчыны).

Такім чынам, у 1770—1780-я гг. у сярэднім на двор прыпадала каля 6 чалавек асноўнага насельніцтва і ад 0,2 да 0,5 кутніка. Мужчынскае насельніцтва, відаць, крыху пераважала над жаночым (прыблізна ў прапорцыі 52 : 48), таму ў сярэдняй гаспадарцы было 3,1 мужчыны і 2,9 жанчыны. Агульная колькасць поўных і няпоўных сем'яў на гаспадарку складала ад 1,3 да 1,7, а доля шматсямейных гаспадарак вагалася ад 10 да 50 %. Сярод павіннасцей, пазначаных у гэтых інвентарах, дамінуе грашовы чынш, што было ў цэлым неўласцівым для беларускіх маёнткаў. З улічаных В.Ф. Голубевым 23,5 тыс. двароў чыста чыншавых было 6451 (27,4 %), з іх асноўная маса — на ўсходзе Беларусі, дзе іх доля складала 55,8 %. На захадзе і ў цэнтры такія двары складалі 7,2 %[40].

На момант канфіскацыі рускімі ўладамі ў 1793 г. у папуляцыі налічвалася 1125 чал. (600 мужчын і 525 жанчын)[41]. З іх 35 душ адносіліся да катэгорыі неаседлых (кутнікаў). Астатнія 1090 чалавек размяркоўваліся паміж 156 дворагаспадаркамі, якія выступалі як самастойныя адзінкі ўліку ў інвентарах і рэвізскіх сказках. Сярэдні памер гаспадаркі без уліку кутнікаў складаў каля 7 чал., а разам з кутнікамі — крыху больш за 7,2 чал. (3,85 душы мужчынскага полу, альбо 53,6 %). На дворагаспадарку прыпадала 1,74 нуклеарнай сям'і (1,52 поўнай і 0,22 няпоўнай), каля 0,5 адзінца. У класіфікацыі П. Леслета на тыпы 1, 2 і 3 (адзінцы, рэдукаваныя і нуклеарныя сем'і) прыпадае 30,1 % гаспадарак, на падтыпы 4а—4с (пашыраныя сем'і) — 11,5, на ўсе віды шматсямейных гаспадарак — 58,3 %.

Далейшая эвалюцыя адбывалася ва ўмовах паншчыны, на якую былі пераведзеныя ўсе жыхары Карэньшчыны. Рэканструкцыя падворнага складу папуляцыі на аснове метрычных кніг і рэвізскіх сказак фіксуе выразную тэндэнцыю да павелічэння сярэдняга памеру дворагаспадаркі: ад 6—7 душ у XVIII ст. да 7,9 у 1811 г., да сярэдзіны XIX ст. гэты паказнік, магчыма, дасягае 8,2 (статыстыка на даты рэвізій пададзеная ніжэй у табліцы 5). Паралельна расце і агульная колькасць сем'яў на гаспадарку: ад 1,4 да 1,7—1,8. Доля шматсямейных гаспадарак узрастае з адной да дзвюх трацін (дакладней — з 36 да 68 %), а доля аднасямейных і рэдукаваных памяншаецца з 57 да 17 %.

---

[40] Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI—XVIII стст. Мінск, 1992. С. 153, 156, 160.

[41] Гэтыя лічбы з'яўляюцца вынікам рэканструкцыі падворнага складу папуляцыі на аснове звестак метрычных кніг і сумарных даных рэвізіі 1795 г. на ўзроўні вёсак (першасныя матэрыялы гэтай рэвізіі не захаваліся).

Для больш дэталёвага аналізу механізмаў, што спараджаюць такую статыстыку, былі пабудаваныя мадэлі-рэканструкцыі жыццёвага цыкла, дзе адбіваецца поўны набор штогадовых статыстычных параметраў па 50 з прыблізна 450 дворагаспадарак, што існавалі на тэрыторыі Карэньшчыны з 1762 па 1858 г. (перыяд, за які захаваліся метрычныя кнігі). Крытэрам адбору з'явілася ўстойлівае захаванне гаспадарак цягам усяго альбо практычна ўсяго 97-гадовага перыяду назіранняў. Усе яны ў той ці іншай ступені адлюстроўваюць «ідэальны вобраз» традыцыйнай сялянскай гаспадаркі, што захоўваецца з пакалення ў пакаленне.

Мадэль-рэканструкцыя ўлічвала штогадовыя змены такіх параметраў, як колькасць мужчын, жанчын, поўных і няпоўных сем'яў, адзінцоў, а таксама індэксаў едака (*е*) і работніка (*р*). Гэтыя два паняткі былі ўведзеныя ў 1920-я гг. А. Чаянавым[42]. Ён прапанаваў просты спосаб колькаснага выражэння іх узаемасувязі — *суадносіны едакоў/работнікаў у гаспадарцы*. Абодва індэксы ўмоўныя, у дарослага мужчыны яны лічацца пастаяннымі і роўныя 1, у жанчыны — 0,8. У дзяцей абодва індэксы змяняюцца ў залежнасці ад узросту. У сваіх працах А. Чаянаў выкарыстаў усярэдненую мадэль, у якой дзеці нараджаюцца з рэгулярным інтэрвалам у тры гады і пачынаюць працаваць з 13 гадоў, прычым да 20 гадоў лічацца паўработнікамі (індэкс *р* для іх прымаецца роўным 0,7). Усярэднены жыццёвы цыкл сялянскай гаспадаркі, заснаванай на працы адной малой сям'і, пададзены ў табліцы 4. Гэтая мадэль добра дэманструе цыклічны характар прапорцыі едакоў/работнікаў, якая ўзрастае па меры нараджэння дзяцей у сям'і і дасягае максімуму на 12—13-м гадах пасля шлюбу. У гэты момант сужэнцам даводзіцца працаваць асабліва напружана. Затым па меры ўступлення дзяцей у працаздольны ўзрост сітуацыя паступова паляпшаецца.

**Табліца 3. Суадносіны індэксаў едака (*е*) і работніка (*р*) у мадэлі А. Чаянава**

| Год назірання | Муж | | Жана | | 1-е дзіця | | 2-е дзіця | | 3-е дзіця | | 4-е дзіця | | 5-е дзіця | | Уся гаспадарка | | Суадносіны *е*/*р* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | *е* | *р* | *е* | *р* | *е* | *р* | *е* | *р* | *е* | *р* | *е* | *р* | *е* | *р* | *е* | *р* | |
| 1 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | | | | | | | | | | | 1,8 | 1,8 | 1 |
| 2 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,1 | 0 | | | | | | | | | 1,9 | 1,8 | 1,06 |
| 3 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,3 | 0 | | | | | | | | | 2,1 | 1,8 | 1,17 |
| 4 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,3 | 0 | | | | | | | | | 2,1 | 1,8 | 1,17 |
| 5 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,3 | 0 | 0,1 | 0 | | | | | | | 2,2 | 1,8 | 1,22 |
| 6 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,3 | 0 | 0,3 | 0 | | | | | | | 2,4 | 1,8 | 1,33 |
| 7 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,3 | 0 | 0,3 | 0 | | | | | | | 2,4 | 1,8 | 1,33 |
| 8 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 0,1 | 0 | | | | | 2,7 | 1,8 | 1,50 |
| 9 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 0,3 | 0 | | | | | 2,9 | 1,8 | 1,61 |
| 10 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 0,3 | 0 | | | | | 2,9 | 1,8 | 1,61 |
| 11 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 0,1 | 0 | | | 3,2 | 1,8 | 1,78 |
| 12 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 0,3 | 0 | | | 3,4 | 1,8 | 1,89 |
| 13 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 0,3 | 0 | | | 3,4 | 1,8 | 1,89 |
| 14 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,7 | 0,7 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 0,1 | 0 | 3,9 | 2,5 | 1,56 |
| 15 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,7 | 0,7 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 0,3 | 0 | 4,1 | 2,5 | 1,64 |
| 16 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,7 | 0,7 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 0,3 | 0 | 4,1 | 2,5 | 1,64 |
| 17 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,7 | 0,7 | 0,7 | 0,7 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 4,5 | 3,2 | 1,41 |
| 18 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,7 | 0,7 | 0,7 | 0,7 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 4,5 | 3,2 | 1,41 |
| 19 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,9 | 0,9 | 0,7 | 0,7 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 0,3 | 0 | 4,7 | 3,4 | 1,38 |
| 20 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 0,9 | 0,9 | 0,7 | 0,7 | 0,7 | 0,7 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 5,1 | 4,1 | 1,24 |
| 21 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 1 | 1 | 0,7 | 0,7 | 0,7 | 0,7 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 5,2 | 4,2 | 1,24 |
| 22 | 1 | 1 | 0,8 | 0,8 | 1 | 1 | 0,9 | 0,9 | 0,7 | 0,7 | 0,5 | 0 | 0,5 | 0 | 5,4 | 4,4 | 1,23 |

Пры пабудове мадэлі аўтар крыху мадыфікаваў методыку А. Чаянава, каб зрабіць дынаміку індэксаў *е* і *р* па меры росту дзяцей больш плаўнай, а таксама адлюстраваць

[42] Чаянов А.В. Бюджет крестьянского хозяйства // Очерки по экономике трудового сельского хозяйства. М., 1924. С. 76—93. Нядаўняе перавыданне гэтай працы гл.: Чаянов А.В. Крестьянское хозяйство: Избр. труды. М., 1989. С. 90—109.

зніжэнне працаздольнасці і спажывання ў людзей сталага веку. Замест умоўных дзетанараджэнняў раз у тры гады, прынятых А. Чаянавым, падстаўляліся рэальныя дэмаграфічныя падзеі ў адабраных сем'ях. Сумарная статыстыка па ўсіх 50 гаспадарках падаецца ў табліцы 4. Яна разбітая на тры прыблізна роўныя адцінкі, з якіх першы адпавядае перыяду ВКЛ, а два другія прыпадаюць на час расійскага кіравання. Пазначаныя таксама сярэдняе квадратычнае адхіленне, якое характарызуе ступень раскіду вынікаў, і даверчы інтэрвал, у які з верагоднасцю 95 % укладваецца хібнасць, непазбежная пры малых выбарках.

**Табліца 4. Вынікі рэканструкцыі жыццёвага цыкла 50 выбраных гаспадарак**

| Параметры | Колькасць | | | Суадносіны *e/p* | Сем'яў на гаспадарку | | | Сярэдні памер сям'і | Адзінцоў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | мужчын | жанчын | разам | | поўных | няпоўных | разам | | |
| 1-ы перыяд: 1762—1793 гг. (улічаных гаспарадка-гадоў — 1234) | | | | | | | | | |
| Сярэдняе па ўсіх гаспадарках | 4 | 3,04 | 7,04 | 1,38 | 1,51 | 0,12 | 1,64 | 4,10 | 0,45 |
| Стандартнае адхіленне | 1,22 | 1,23 | 1,94 | 0,12 | 0,51 | 0,19 | 0,55 | 0,60 | 0,51 |
| Даверчы інтэрвал (0,95) | 0,34 | 0,34 | 0,54 | 0,03 | 0,14 | 0,05 | 0,15 | 0,16 | 0,14 |
| Ніжняя мяжа інтэрвалу (-) | 3,66 | 2,7 | 6,51 | 1,35 | 1,37 | 0,07 | 1,49 | 3,93 | 0,31 |
| Верхняя мяжа (+) | 4,34 | 3,38 | 7,58 | 1,42 | 1,66 | 0,18 | 1,79 | 4,26 | 0,59 |
| 2-і перыяд: 1794—1825 гг. (улічаных гаспадарка-гадоў — 1513) | | | | | | | | | |
| Сярэдняе па ўсіх гаспадарках | 4,01 | 3,66 | 7,67 | 1,36 | 1,65 | 0,22 | 1,87 | 3,88 | 0,45 |
| Стандартнае адхіленне | 1,02 | 1,23 | 1,95 | 0,09 | 0,45 | 0,25 | 0,49 | 0,70 | 0,48 |
| Даверчы інтэрвал (0,95) | 0,28 | 0,34 | 0,54 | 0,03 | 0,12 | 0,07 | 0,14 | 0,19 | 0,13 |
| Ніжняя мяжа інтэрвалу (-) | 3,73 | 3,32 | 7,13 | 1,33 | 1,53 | 0,15 | 1,74 | 3,68 | 0,32 |
| Верхняя мяжа (+) | 4,29 | 4,01 | 8,21 | 1,38 | 1,78 | 0,29 | 2,01 | 4,07 | 0,59 |
| 3-і перыяд: 1826—1858 гг. (улічаных гаспадарка-гадоў — 1567) | | | | | | | | | |
| Сярэдняе па ўсіх гаспадарках | 3,91 | 4,18 | 8,08 | 1,32 | 1,58 | 0,35 | 1,93 | 3,87 | 0,69 |
| Стандартнае адхіленне | 1,03 | 1,41 | 2,03 | 0,09 | 0,47 | 0,27 | 0,48 | 1,01 | 0,4 |
| Даверчы інтэрвал (0,95) | 0,28 | 0,39 | 0,56 | 0,02 | 0,13 | 0,07 | 0,13 | 0,28 | 0,11 |
| Ніжняя мяжа інтэрвалу (-) | 3,62 | 3,79 | 7,52 | 1,29 | 1,45 | 0,27 | 1,79 | 3,59 | 0,58 |
| Верхняя мяжа (+) | 4,19 | 4,57 | 8,65 | 1,34 | 1,71 | 0,42 | 2,06 | 4,16 | 0,8 |
| 2-і і 3-і перыяды: 1794—1858 гг. (улічаных гаспадарка-гадоў — 3080) | | | | | | | | | |
| Сярэдняе па ўсіх гаспадарках | 3,96 | 3,93 | 7,88 | 1,34 | 1,61 | 0,29 | 1,9 | 3,88 | 0,57 |
| Стандартнае адхіленне | 0,77 | 1,21 | 1,71 | 0,06 | 0,37 | 0,2 | 0,4 | 0,62 | 0,34 |
| Даверчы інтэрвал (0,95) | 0,21 | 0,33 | 0,47 | 0,02 | 0,1 | 0,06 | 0,11 | 0,17 | 0,1 |
| Ніжняя мяжа інтэрвалу (-) | 3,74 | 3,59 | 7,41 | 1,32 | 1,51 | 0,23 | 1,79 | 3,71 | 0,48 |
| Верхняя мяжа (+) | 4,17 | 4,26 | 8,35 | 1,35 | 1,72 | | | | |

Мадэль-рэканструкцыя прадэманстравала неблагую адпаведнасць з вынікамі, атрыманымі на сінхронных храналагічных зрэзах па прамых выніках рэвізій. Мадэль фіксуе суіснаванне ў адной гаспадарцы ў сярэднім дзвюх шлюбных пар. Як правіла, гэта сем'і бацькі і старэйшага сына альбо сем'і двух і болей жанатых братоў, але дэмаграфічныя сітуацыі былі самымі рознымі. Калі ў гаспадарцы быў толькі адзін дарослы мужчына і не было падрастаючых сыноў, ён мог чакаць паўналецця старэйшай дачкі і прымаў у сваю гаспадарку зяця, які і станавіўся ягоным спадкаемцам. У іншых выпадках кампаньёнам мог стаць муж сястры, які пераходзіў у ягоны дом — альбо адразу па шлюбе, альбо праз некалькі гадоў, калі сітуацыя ў доме

станавілася неспрыяльнай. Здаралася, што гаспадарку працягвалі весці сумесна мужы дзвюх сясцёр. Аб'яднанне пад адным дахам сямей больш аддаленых сваякоў альбо ўвогуле пабочных людзей назіралася адносна рэдка і, відаць, тлумачылася нейкімі спецыфічнымі фактарамі, якія не знайшлі адлюстравання ў крыніцах.

Большасць гаспадарак на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў паслядоўна праходзіла праз розныя формы сямейнай структуры. У нейкі адрэзак часу гаспадарка магла быць аднасямейнай альбо, пры існаванні ўдовага бацькі альбо нежанатага брата, пашыранай. Але галоўнай асаблівасцю з'яўляецца тое, што шлюб ніколі не прыводзіў да імгненнага ўтварэння новай самастойнай гаспадаркі. Гэты момант адкладаўся да наступлення пэўных умоў.

Прычына палягае ў тым, што гаспадарка, дзе толькі адна шлюбная пара, па меры нараджэння дзяцей непазбежна праходзіла праз неспрыяльны перыяд (добра бачны нават у спрошчанай мадэлі А. Чаянава ў табліцы 3). Калі ў сям'і ўжо было трое-чацвёра дзяцей, старэйшы з якіх толькі набліжаўся да працаздольнага ўзросту (звычайна праз 10—15 гадоў па заключэнні шлюбу), прапорцыя *е/р* дасягала значэнняў блізу 1,8 і нават 2. Улічваючы неабходнасць адпрацоўкі паншчыны, нагрузка на дарослых чальцоў сям'і ў такія моманты станавілася гранічнай. Пэўнае зніжэнне адзначалася толькі пасля таго, як старэйшае дзіця дасягала ўзросту прыблізна 15 гадоў, але ў выпадку смерці першынцаў неспрыяльны перыяд мог зацягнуцца надоўга.

Калі ў гаспадарцы адначасова былі дзве шлюбныя пары, розніца ва ўзросце паміж імі складала зазвычай 5—10 гадоў. У выніку першая сям'я праходзіла праз пік неспрыяльных суадносінаў *е/р* тады, калі ў другой дзетанараджэнне яшчэ толькі пачыналася. І наадварот, другая сям'я дасягала піка ў той момант, калі першая паспявала яго пераадолець. Абодва пікі ўзаемна згладжваліся. Падзел гаспадарак станавіўся эканамічна апраўданым пасля пераадолення піка абедзвюма сем'ямі, і ён звычайна наступаў адразу ж (а часам і крыху раней). Зазвычай гэтая падзея адбывалася ў той момант, калі галава сям'і, што адасаблялася, дасягаў прыблізна 40-гадовага ўзросту, а ягоны старэйшы сын у сваю чаргу меў 13—15 гадоў, то бок знаходзіўся на пачатку працаздольнага ўзросту.

Але калі штосьці парушала натуральны ход дэмаграфічнага цыкла і падзел мог рэзка павысіць прапорцыю *е/р* у адной альбо абедзвюх гаспадарках, ён адкладаўся на няпэўны час. Калі адзін з братоў не меў сыноў альбо яны рана паміралі, абедзве сям'і маглі заставацца пад адным дахам да канца свайго жыццёвага цыкла.

Патлумачым гэта на прыкладзе. У адной з прааналізаваных гаспадарак[43] сярэдняя прапорцыя *е/р* на працягу чатырох пакаленняў склала 1,46. У першыя 32 гады гаспадарка была ў асноўным аднасямейнай. Дакладней, на працягу 7 гадоў у ёй жылі дзве сям'і, 10 гадоў — адна, 12 гадоў гаспадарка была пашыранай (адна сям'я і адзінцы) і 4 гады складалася толькі з адзінцоў. У сярэднім за перыяд колькасць сем'яў склала 1,13, а прапорцыя *е/р* за гэты час была вельмі высокай — 1,61. Затое ў астатнія 65 гадоў гаспадарка амаль непарыўна заставалася шматсямейнай: 6 гадоў яна складалася з 3 сем'яў, 46 — з 2 поўных, 8 гадоў — з адной поўнай і адной няпоўнай і толькі 5 гадоў — з адной сям'і. У сярэднім гэта дае 2,03 сям'і, што практычна супадае з сярэднім узроўнем для ўсіх 50 адабраных гаспадарак. Прапорцыя *е/р* склала 1,37. За ўсе гады яна ні разу не перавысіла ўзровень у 1,6, хаця ў кожнай сям'і асобна ён перавышаўся неаднакроць. Гэты прыклад добра дэманструе, чаму сялянам ва ўмовах паншчыны было выгадна займацца сумеснай гаспадаркай.

Оптымум прапорцыі *е/р* знаходзіўся ў вельмі вузкім дыяпазоне ад 1,32 да 1,36. Пры характэрнай для гэтага перыяду полаўзроставай структуры гэта адпавядала прыблізна 1,9 шлюбнай пары на двор. Але пры нармальнай хадзе падзей такая гаспадарка ўрэшце распадалася, ад яе паслядоўна адгаліноўваліся сем'і старэйшых па ўзросце (што першыя пераадолелі крызісную кропку). Звычайна бацькоўскую хату

---

[43] Табліцы, якія адносяцца да гэтага перыяду, гл. у інтэрнэт-публікацыі: Носевич В.Л. Модель жизненного цикла крестьянского дворохозяйства // http://vn.belinter.net/model/11.html.

атрымліваў у спадчыну малодшы ў сям'і. Да ягонага 40-годдзя гаспадарка амаль заўсёды зноў рабілася аднасямейнай альбо пашыранай, пасля чаго ўступала ў новы цыкл. Сумарная прапорцыя *e/p* для такой гаспадаркі амаль ніколі не перавышала 1,6, што, відаць, было рэальнай мерай прымальнасці.

Можна сцвярджаць, што рэканструкцыя ў цэлым адлюстроўвае адзіную мадэль паводзінаў. Але пры супастаўленні мадэлі з магчымымі характарыстыкамі ўсёй даследуемай мікрапапуляцыі ўзнікае адна супярэчнасць: 7 інвентароў, датаваныя раней за 1793 г., фіксуюць у сярэднім крыху больш чым 3,1 мужчыны на гаспадарку, тады як рэканструкцыя дае для гэтага ж перыяду сярэднюю лічбу ў 4 мужчыны на гаспадарку. Аўтар схільны трактаваць гэты факт у тым сэнсе, што атрыманыя пры рэканструкцыі параметры былі ўласцівыя ў 1760—1780-я гг. не для ўсёй папуляцыі, а толькі найбольш устойлівым дворагаспадаркам (менавіта паводле гэтага крытэру яны і адбіраліся для мадэлявання).

Паказальна, што для другога і трэцяга перыядаў тыя ж 50 даўгавечных гаспадарак аказваюцца цалкам рэпрэзентатыўнымі: вынікі рэканструкцыі вельмі няблага суадносяцца са звесткамі рэвізій, што праводзіліся ў гэты час. Чым можна патлумачыць той факт, што адзін і той самы крытэр адбору (не выпадковы, як таго вымагаюць каноны матэматычнай статыстыкі, а адвольны) у адным выпадку не адбіўся на канцавым выніку, а ў другім істотна паўплываў на яго? Справа, відаць, у характары той сукупнасці, з якой рабілася выбарка. Відавочна, у ёй у перыяд Расійскай імперыі адбыліся істотныя змены ў параўнанні з перыядам ВКЛ.

Зразумець сутнасць гэтых змен дазваляе больш шырокае супастаўленне з іншымі папуляцыямі паводле вынікаў калектыўнага даследніцкага праекта «Параўнаўчы аналіз структуры дворагаспадаркі на тэрыторыі Расійскай імперыі (другая палова XVIII — першая палова XIX ст.)», які праводзіўся з 2001 па 2003 г.[44].

У рамках праекта прааналізаваныя чатыры выбаркі ў цэнтральнай частцы Менскай губерні, якія знаходзіліся ў аднолькавых прыродных умовах, але належалі да розных канфесій (праваслаўныя і каталікі) і розных сацыяльных слаёў (панскія, дзяржаўныя сяляне, дробная шляхта). Першай з гэтых выбарак паслужыла Карэньшчына. Другую выбарку склала частка суседняга маёнтка Зембін, што належала да прыхода Зембінскай царквы. Уладальнік маёнтка да 1811 г., граф Іахім Храбтовіч, прытрымліваўся прагрэсіўных поглядаў, імкнуўся ўкараняць эфектыўныя формы гаспадарання. У ягоных галоўных маёнтках (Шчорсах і Вішневе) сяляне з 1770-х гг. былі пераведзеныя на чынш, які больш нагадваў арэнду. Праўда, адносна Зембіна прамых звестак пра такую рэформу няма, але можна не сумнявацца, што і ў ім узровень паншчыны не мог быць высокім. Потым маёнтак неаднакроць пераходзіў з рук у рукі і раздрабніўся паміж шараговымі сугаспадарамі-панамі.

У трэцюю выбарку ўключаная частка буйной латыфундыі Барысаўшчыны (да 1794 г. — Барысаўскае староства), якая ўваходзіла ў Бытчанскі ўніяцкі, затым праваслаўны прыход. У XVIII ст. яе насельніцтва адносілася да дзяржаўных сялян, у першай палове XIX ст. належала буйным латыфундыстам.

Чацвёртую выбарку склалі сем'і дробнай шляхты ўніяцкага і каталіцкага веравызнання, якія жылі на тэрыторыі прыходаў Уздзенскага касцёла і Слабода-Пырашаўскай царквы. Нягледзячы на свой адносна прывілеяваны сацыяльны статус, многія прадстаўнікі гэтай выбаркі не мелі ўласнай зямлі, а арандавалі яе ў паноў.

Для ўсіх выбарак прааналізаваная дворагаспадарчая і сямейная структура на некалькіх храналагічных зрэзах: паводле матэрыялаў рэвізій 1795—1797, 1811, 1834 гг., а для Зембіна і Бытчы — таксама паводле рэвізіі 1850 г. Паколькі ў Зембінскім і Бытчанскім прыходах адзначаўся высокі адсотак неаседлых, сярэдні памер гаспадаркі падлічваўся двойчы: без іх уліку і з імі (па Карэньшчыне ўсе лічбы даюцца з улікам неаседлых і работнікаў, колькасць якіх вагалася ад 0,1 да 0,3 на

[44] Даследаванне ажыццяўлялася пры фінансавай падтрымцы Беларускага рэспубліканскага фонду фундаментальных даследаванняў, дамова № Г00Р-005.

двор). Па шляхце асобна падлічаныя звесткі па арандатарах і па гаспадарах зямельных надзелаў (апошнія падзяляліся яшчэ на шляхту на ўласнай зямлі і чыншавую шляхту, але гэтая розніца пры падліку не ўлічвалася). На зрэзах 1834 і 1850 гг. па Зембіну ўлічвалася толькі частка маёнтка. Вынікі пададзеныя ў зводнай табліцы 5.

**Табліца 5. Структура дворагаспадарак па чатырох выбарках**

| Выбарка (прыход) і даты храналагічных зрэзаў | | Колькасць двароў у выбарцы | Сярэдні памер гаспадаркі | Колькасць сем'яў на гаспадарку | Колькасць адзінцоў | Сярэдні памер сям'і | % аднасямейных гаспадарак | % пашыраных гаспадарак | % шматсямейных гаспадарак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Кораньскі каталіцкі: | | | | | | | | | |
| 1740 | | 69 | 7 | 1,4 | 0,2 | 4,9 | 56,5 | 7,3 | 36,2 |
| 1793 | | 156 | 7,2 | 1,7 | 0,5 | 3,9 | 30,1 | 11,5 | 58,3 |
| 1811 | усё насельніцтва | 177 | 7,9 | 1,8 | 0,5 | 4,1 | 29,4 | 10,7 | 59,9 |
| 1834 | | 171 | 7,9 | 1,7 | 0,8 | 4,2 | 23,4 | 17 | 59,6 |
| 1850 | | 171 | 8,2 | 1,8 | 0,9 | 4,1 | 17,1 | 15,3 | 67,6 |
| 2. Зембінскі ўніяцкі: | | | | | | | | | |
| 1795 | без неаседлых | 79 | 5,8 | 1,6 | 0,4 | 3,3 | 46 | 14 | 39 |
| | усё насельніцтва | | 6,7 | 1,7 | 1 | 3,4 | | | |
| 1811 | без неаседлых | 72 | 8,7 | 1,9 | 0,5 | 4,3 | 32 | 8 | 60 |
| | усё насельніцтва | | 9,2 | 2,1 | 0,6 | 4,1 | | | |
| 1834 | усё насельніцтва | 59 | 7,9 | 1,6 | 0,6 | 4,6 | 30,5 | 20,3 | 49,2 |
| 1850 | усё насельніцтва | 48 | 9,5 | 1,9 | 1 | 4,5 | 22,9 | 12,5 | 64,6 |
| 3. Бытчанскі ўніяцкі: | | | | | | | | | |
| 1795 | без неаседлых | 110 | 8,1 | 1,7 | 0,5 | 4,4 | 38 | 12 | 50 |
| | усё насельніцтва | | 8,9 | 2 | 1,2 | 3,9 | | | |
| 1811 | без неаседлых | 116 | 8,6 | 1,8 | 0,4 | 4,5 | 23 | 17 | 60 |
| | усё насельніцтва | | 9,3 | 1,8 | 0,9 | 4,7 | | | |
| 1834 | без неаседлых | 109 | 7,7 | 1,7 | 0,5 | 4,2 | 30,5 | 13,7 | 56,3 |
| | усё насельніцтва | | 8,2 | 1,8 | 0,5 | 4,3 | | | |
| 1850 | без неаседлых | 189 | 8,2 | 1,85 | 0,6 | 4,1 | 20,1 | 16,9 | 63 |
| | усё насельніцтва | | 9,1 | 2 | 0,8 | 4,2 | | | |
| 4. Слабода-пырашаўская шляхта: | | | | | | | | | |
| 1795 | усё насельніцтва | 110 | 4,3 | 1,3 | 0,3 | 3,1 | 85,5 | 3,5 | 11 |
| | арандатары | 62 | 3,2 | 1 | 0,2 | 3,0 | 97 | 0 | 3 |
| | гаспадары і чыншавікі | 48 | 5,9 | 1,4 | 0,3 | 4,0 | 71 | 8 | 21 |
| 1811 | усё насельніцтва | 116 | 6,2 | 1,4 | 0,4 | 4,1 | 71 | 8 | 21 |
| | арандатары | 74 | 5,5 | 1,1 | 0,4 | 4,6 | 81 | 11 | 8 |
| | гаспадары і чыншавікі | 42 | 7,5 | 1,6 | 0,4 | 4,4 | 55 | 2 | 43 |
| 1834 | усё насельніцтва | 109 | 6,5 | 1,4 | 0,5 | 4,3 | 50,5 | 14,7 | 34,9 |
| | арандатары | 69 | 6,7 | 1,4 | 0,55 | 4,4 | 49,3 | 14,5 | 36,2 |
| | гаспадары і чыншавікі | 40 | 6,1 | 1,5 | 0,5 | 3,7 | 50,5 | 14,7 | 34,9 |

Сярод першых трох выбарак, што адлюстроўваюць сялянскае насельніцтва, вылучаюцца параметры Карэньшчыны за 1740 і 1793 гг. і маёнтка Зембін за 1795 г. Яны знаходзяць адпаведнасць у параметрах дробнай шляхты, асабліва за 1834 г. І сярэдні памер гаспадаркі, і доля шматсямейных гаспадарак у іх значна ніжэйшая, чым

у даных па ўсіх трох сялянскіх выбарках за XIX ст., а па Бытчанскім прыходзе — і за 1795 г. Напрошваецца выснова, што тут выявіліся розныя мадэлі паводзінаў. Адна з іх лучыла чыншавых падданых Віленскага капітула з чыншавай і ўласніцкай шляхтай і з падданымі маёнтка Зембін у той час, калі гэты маёнтак належаў Іахіму Храбтовічу. Вышэй ужо адзначалася, што ён, магчыма, таксама перавёў зембінскіх падданых на чынш альбо, у скрайнім разе, не надта абцяжарваў іх паншчынай. Да таго ж гэтая выбарка не была чыста сялянскай — больш за траціну яе першапачатковага складу прыпадала на мястэчка Зембін, жыхары якога займаліся не толькі земляробствам, але і гандлёва-рамесніцкай дзейнасцю. Гэта таксама магло паўплываць на дэмаграфічныя параметры.

Унутры чацвёртай выбаркі можна вылучыць і больш радыкальны стыль паводзінаў. Беззямельная шляхта, якая арандавала зямлю ў паноў, пры фармаванні сваёй дворагаспадарчай структуры прытрымлівалася мадэлі, цалкам нетыповай для Усходняй Еўропы таго часу. Карыстальнікамі арандуемых участкаў станавіліся амаль выключна нуклеарныя сем'і (каля 80—90 % усіх гаспадарак), а доля шматсямейных гаспадарак не перавышала некалькіх адсоткаў. Невялікі сярэдні памер сем'яў (3 чал.), што вынікае з рэканструяваных даных рэвізіі 1795 г., таксама нетыповы для сялян. У 1811 г. памер гаспадаркі арандатараў складаў каля 5 чал., пры гэтым яна па-ранейшаму ўключала ў сярэднім крыху больш за адну нуклеарную сям'ю.

У шляхты, якая валодала ўласнай зямлёй альбо трымала надзелы на ўмовах чыншу, памер гаспадаркі быў большы (за выключэннем флуктуацыі 1834 г., магчыма, выкліканай невялікім аб'ёмам выбаркі) і набліжаўся да значэнняў, характэрных для сялян маёнтка Корань у 1740 г. і падданых маёнтка Зембін у 1795 г. Ва ўсіх гэтых выпадках на гаспадарку прыпадала 1,4—1,6 нуклеарнай сям'і. Да 1830-х гг. статыстычныя параметры арандатараў набываюць тыя ж рысы.

Можна казаць пра існаванне трох спецыфічных мадэляў паводзінаў. Першую з іх, арыентаваную на аднасямейную гаспадарку, мы прапануем называць ***маласямейнай***. На гаспадарку пры ёй прыпадала адна шлюбная пара альбо крыху болей (каля 1,1), а сярэдні памер вызначаўся ў асноўным колькасцю дзяцей у сям'і, на якую ўплывалі як біялагічныя (хістанні працягласці жыцця і балансу нараджальнасці-смяротнасці), так і сацыяльныя фактары. Звычайна сярэдні памер малой сям'і крыху перавышаў 4 чалавекі, а сярэдні памер гаспадаркі пры чыстай маласямейнай мадэлі набліжаўся да 4,5. Гэтая мадэль цалкам супастаўляльная з заходнееўрапейскай: паводле зводкі Р. Уола, у Англіі выбарка з 1916 гаспадарак на працягу 1750—1821 гг. размяркоўваецца на 8,4 % адзінцоў, 3 % рэдукаваных, 74,2 % аднасямейных, 10,9 % пашыраных і 3,4 % шматсямейных гаспадарак. Выбарка з 2568 гаспадарак за 1851 г. размяркоўваецца аналагічна: 7,2 % адзінцоў, 2,6 % рэдукаваных, 72,8 % аднасямейных, 14 % пашыраных і 3,3 % шматсямейных[45].

Другая мадэль характэрная для большасці сялянскіх гаспадарак канца XVIII — першай паловы XIX ст.: блізкі да 8 чал. памер дворагаспадаркі (з даволі шырокім размахам ваганняў паміж гаспадаркамі, пра што сведчыць высокае значэнне стандартнага адхілення) і колькасць сем'яў на гаспадарку, што набліжаецца да 2. Паколькі для дадзенай мадэлі характэрна сумеснае пражыванне дзвюх і болей шлюбных пар, яе можна ўмоўна назваць ***агульнажыхарскай***. Табліца 2 дэманструе менавіта такую мадэль, якой усвядомлена альбо неўсвядомлена кіравалася кожная з 50 найбольш стабільных сялянскіх гаспадарак Карэньшчыны. У табліцы 5 гэтая агульная мадэль прасочваецца ў розныя гады ва ўсіх сялянскіх выбарках. На фоне яе назіраюцца хранічныя ваганні, але і яны цалкам кладуцца ў агульнае рэчышча.

У XIX ст. агульнажыхарская мадэль была ўласцівая для вялізных рэгіёнаў Расійскай імперыі. У маёнтку Мішына Разанскай губерні ў перыяд 1782—1858 гг. шматсямейныя гаспадаркі складалі ад 75 да 82 %, аднасямейныя — ад 6,7 да 12,2 %,

[45] Wall R. Zum Wandel der Familienstrukturen im Europa der Neuzeit // Historische Familienforschng. Ergebnisse und Kontroversen. Michael Mitterauer zum 60. Geburtstag / Herausgeben von Josef Ehmer, Tamara K. Hareven und Richard Wall. Frankfurt; N.Y., 1997. P. 280.

сярэдні памер дворагаспадаркі ў 1814—1858 гг. налічваў ад 8 да 9,7 душы[46]. У маёнтку Сухаварава Цвярской губерні ў 1816—1858 гг. на долю шматсямейных двароў прыпадала ад 66 да 79,8 %, аднасямейных — ад 7,1 да 13,7 %, сярэдні памер гаспадаркі вагаўся ад 8,2 да 9,1 чал.[47]. Звесткі пра структуру сялянскага двара ў сяле Пятроўскае Тамбоўскай губерні, прыведзеныя Стывенам Хокам, сведчаць пра тое ж самае: у перыяд з 1813 па 1856 г. доля шматсямейных гаспадарак змянялася ад 78 да 45 %, аднасямейных — ад 8 да 20 %, сярэдні памер гаспадаркі — ад 7,7 да 9 чал.[48]. Паводле агрэгіраваных звестак Б.М. Міронава, у цэлым па Еўрапейскай Расіі люднасць сялянскага двара складала 8,4 чал.[49].

Пры трэцяй мадэлі паводзінаў памер гаспадаркі заставаўся ў межах 6—7 чал., а доля шматсямейных двароў не перавышала 40 %. Яна была характэрнай для земляробчага насельніцтва, якое карысталася адноснай свабодай альбо спалучала працу на зямлі з іншымі крыніцамі прыбытку. Такая сітуацыя, відаць, назіралася ў падданых маёнтка Корань у 1740 г., у сялян і месцічаў маёнтка Зембін у 1795 г., а таксама ва ўласніцкай і чыншавай шляхты на землях маёнтка Пырашаўская Слабада ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. Для гэтай мадэлі ўласцівыя наяўнасць у адной гаспадарцы 1,4—1,6 нуклеарнай сям'і і яе сярэдні памер блізу 6—7 душ, а доля аднасямейных двароў вышэйшая за 50 %. Мы прапануем называць яе ***збалансаванай*** (сэнс такой назвы будзе патлумачаны ніжэй).

Ёсць звесткі пра даволі шырокі распаўсюд і ўстойлівае бытаванне трэцяй мадэлі паводзінаў у некаторых рэгіёнах Усходняй Еўропы. Вельмі цікавыя звесткі ўкраінскага даследніка Міколы Крыкуна, прадстаўленыя ім для міжнароднага семінара па праблемах сямейнай структуры (Вена, лістапад 2000 г.). Ён правёў статыстычную апрацоўку перапісу насельніцтва ў 28 уніяцкіх прыходах Жытомірскага павета Кіеўскага ваяводства за 1791 г.[50]. Матэрыялы гэтага перапісу ахопліваюць 2903 двары ў 6 мястэчках і 72 сельскіх пасяленнях павета. Дэталёва прааналізаваўшы іх сямейную структуру, М. Крыкун паказаў, у прыватнасці, што 56,5 % з іх складаліся з простай сям'і альбо адзінцоў, 8,1 % з'яўляліся пашыранай гаспадаркай і 35,3 % — шматсямейнай. Сярэдні памер дворагаспадаркі склаў 6,6 чал., на гэтую колькасць прыпадала 0,17 *суседа* і *каморніка*, 0,32 найміта, без іх уліку памер гаспадаркі роўны 6,1 чал. Пры сярэднім памеры сям'і ў 4,2 чал. на двор прыпадала 1,55 сям'і. Гэтыя лічбы вельмі блізкія да лічбаў у інвентары маёнтка Корань за 1740 г. (гл. табліцу 2).

У надрукаванай на фінскай мове працы Маці Поолаа «Інстытут сям'і Усходняй Карэліі 1600—1900 гг.»[51] адзначаецца, што ў гэтым рэгіёне ў 1760—1910-х гг. доля шматсямейных дворагаспадарак складала ад 39 да 57 %, а іх сярэдні памер вагаўся ад 6 да 9 чал. Для класічнай агульнажыхарскай мадэлі гэта занадта мала і хутчэй адпавядае збалансаванай (дакладней, сведчыць пра іхняе чаргаванне).

У Эстоніі ў другой палове XVIII ст. таксама шырока існавала прапорцыя гаспадарак, характэрная для збалансаванай мадэлі. У прыходзе Отэпя на поўдні Эстоніі ў 1765 г. на сялянскі двор прыпадала 6,8 чал. Гаспадаркі ў складзе адзінцоў, рэдукаваных і

---

[46] Czap P. The Perennial Multiple Family Household, Mishino, Russia, 1782—1858 // Journal of Family History. 7 (1982). P. 5—26; Czap P. «A Large Family: the Peasants' Greatest Wealth»: Serf Households in Mishino, Russia, 1815—1858 // R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983. P. 105—151.

[47] Czap P. «A Large Family: the Peasants' Greatest Wealth»: Serf Households in Mishino, Russia, 1815—1858 // R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. Cambridge, 1983. P. 128—129, 147.

[48] Хок С.Л. Крепостное право и социальный контроль в России: Петровское, село Тамбовской губернии. М., 1993.

[49] Миронов Б.Н. Социальная история России периода империи (XVIII — начало XX в.): Генезис личности, демократической семьи и правового государства. Т. 1. С. 225.

[50] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Кіеве. Ф. 8. Воп. 1. Адз. зах. 15. Арк. 147—904 адв.

[51] Pöllä M. Vienankarjalainen perhelaitos 1600—1900. Helsinki, 2001.

нуклеарных сем'яў складалі 59,3 %, пашыраныя — 6,2 %, шматсямейныя — 33,5 %. На поўначы Эстоніі, у прыходзе Карузэ, у 1782 г. налічвалася 54 % аднасямейных (з адзінцамі) двароў, 14 % пашыраных і 32 % шматсямейных[52]. Абедзве прапорцыі зноўтакі вельмі блізкія да даных кораньскага інвентару 1740 г. У яшчэ адной эстонскай мікрапапуляцыі, маёнтку Пінкенхоф, тая ж прапорцыя ў 1816 г. складала адпаведна 58 : 18,5 : 23,3, у 1850 г. — 49,9 : 23,3 : 26,6 (у абодвух выпадках улічаныя 124 двары)[53]. Паводле апублікаванай Р. Уолам зводкі, у трох эстонскіх выбарках 1850 г. (451, 388 і 165 двароў) прапорцыя складала адпаведна 52 : 17 : 31, 44 : 23 : 33 і 34 : 19 : 47. У выбарцы па маёнтку Ліндэн на тэрыторыі Курляндыі (сучасная Латвія, 92 двары) у 1858 г. зафіксаваная прапорцыя 52 : 24 : 24[54].

У эстонскіх матэрыялах ёсць дадатковая інфармацыя, якая пралівае святло на механізм фармавання гэтай мадэлі паводзінаў. Крыніцы дазваляюць адрозніваць дзве катэгорыі надзелаў: аднаўласніцкія і саўласніцкія. Першы від надзелу, што панаваў на поўначы і выспах, знаходзіўся ў поўным распараджэнні адной дворагаспадаркі і апрацоўваўся ейнымі чальцамі з дапамогай батракоў. Прадстаўнікі гаспадарак, якія эканамічна дэградавалі, — бабылі-*ластрэйбэры* — з'яўляліся сацыяльным аналагам беларускіх кутнікаў альбо неаседлых. Некаторыя з іх жылі асобна на ўскраінах вёскі і адпавядалі ў дадзеным выпадку хутчэй не кутнікам, а халупнікам і агароднікам беларускіх інвентароў. На характэрным для большай часткі матарыковай Эстоніі саўласніцкім надзеле разам жылі чальцы дзвюх-трох асноўных дворагаспадарак і прыблізна пяць сем'яў ластрэйбэраў.

Структура асноўнай дворагаспадаркі на двух тыпах надзелаў у прыходзе Отэпя прыкметна адрознівалася: аднаўласніцкія мелі ў сярэднім 26,7 % аднасямейных двароў і 67,2 % шматсямейных (што цалкам адпавядае агульнажыхарскай мадэлі), саўласніцкія — адпаведна 42 і 48,5 %. Агульная нізкая доля шматсямейных гаспадарак у гэтым выпадку дасягалася за кошт ластрэйбэраў, якія мелі зусім іншую сямейную структуру: 16,4 % адзінцоў, 3,4 % рэдукаваных сем'яў, 73,3 % аднасямейных, 14,9 % пашыраных і толькі 2,9 % шматсямейных двароў. Відавочна, што эстонскія бабылі, як і беларуская беззямельная шляхта, нягледзячы на розніцу ў іх сацыяльным статусе, аднолькава прытрымліваліся маласямейнай мадэлі.

Суіснаванне трох розных мадэляў паводзінаў было характэрна для часткі Аўстрыі — раёна Тырольскіх Альпаў, дзе пераважалі жывёлагадоўчыя гаспадаркі. У горцаў, якія насялялі акругу Вілгратэн, у 1781 г. вельмі добра прасочваецца карэляцыя паміж дворагаспадарчай мадэллю і колькасцю гавяды. Калі ў сярэднім па выбарцы з 522 гападарак прапорцыя трох тыпаў складала 60,6 : 21,6 : 17,8, то ў тых 103 гаспадарках, якія мелі менш за пяць галоў гавяды, — 83,5 : 14,6 : 1,9 (класічная маласямейная мадэль); у 116 гаспадарак, якія мелі ад сямі да дзевяці галоў, — 60,6 : 21,6 : 17,8 (збалансаваная мадэль); у 40 гаспадарак, якія мелі 15 і болей галоў гавяды, — 24,6 : 27,9 : 47,5 (тая ж агульнажыхарская мадэль, што ў рускіх сялян)[55].

У якасці эксперымента аўтар пералічыў вынікі рэвізіі 1850 г. па Бытчанскім прыходзе, у якіх доля неаседлых асабліва вялікая, такім чынам, што кожная сям'я неаседлых прымалася за асобную дворагаспадарку. Хаця такі падыход і не з'яўляецца метадалагічна карэктным, ён дазваляе ўявіць, як выглядала б сямейная структура,

---

[52] Палли Х. Население крестьянского домохозяйства (дворохозяйства) в Эстонии в XVII—XVIII веках // Социально-демографические процессы в российской деревне (XVI — начало XX в.): Материалы XX сессии Всесоюз. симпозиума по изучению проблем аграрной истории. Вып. 1. Таллин, 1986. С. 48—56.

[53] Wetherel C. and Plakans A. Borders, Ethnicity, and Demographic Patterns in the Russian Baltic Provinces in the Late Nineteenth Century // Continuity and Change. 14 (1999). P. 33—56.

[54] Wall R. Zum Wandel der Familienstrukturen im Europa der Neuzeit // Historische Familienforschng. Ergebnisse und Kontroversen. Michael Mitterauer zum 60. Geburtstag. P. 276—277.

[55] Schmidtbauer P. The Changing Household: Austrian Household Structure from the Seventeenth to the Early Twentieth Century // R. Wall (ed.), in collaboration with J. Robin and P. Laselett. Family Forms in Historic Europe. P. 364.

калі б гэтая катэгорыя насельніцтва працягвала займацца паўнавартаснай гаспадаркай альбо ўлічвацца нароўне з іншымі (падобна таму, як улічваліся эстонскія ластрэйбэры). Вынікі заслугоўваюць таго, каб падаць іх асобнай табліцай. Гаспадарчая структура з улікам неаседлых не падаецца, бо крыніцы не дазваляюць прасачыць, у якіх канкрэтна дварах яны кватаравалі (табліца 6).

**Табліца 6. Сямейная структура ў Бытчанскім прыходзе 1850 г. пры розных спосабах падліку**

| Спосаб падліку | Сярэдні памер гаспадаркі | Колькасць сем'яў на гаспадарку | Колькасць адзінцоў | Сярэдні памер сям'і | % аднасямейных гаспадарак | % пашыраных гаспадарак | % шматсямейных гаспадарак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пры ігнараванні неаседлых | 8,2 | 1,85 | 0,6 | 4,1 | 20,1 | 16,9 | 63 |
| Пры ўліку неаседлых як сужыхароў у чужых дварах | 9,1 | 2 | 0,8 | 4,2 | | | |
| Пры ўліку неаседлых як самастойных дворагаспадароў | 6,7 | 1,6 | 0,6 | 3,8 | 35,7 | 14,3 | 50 |

З табліцы 6 можна ўбачыць, як пры змене крытэраў падліку папуляцыя, якая дэманстравала класічныя параметры агульнажыхарскай мадэлі, заўважна ссоўваецца ў бок збалансаванай. Гэты прыклад, на нашую думку, выразна дэманструе механізм утварэння статыстыкі, характэрнай для збалансаванай мадэлі, і дазваляе зрабіць выснову пра тое, што агульнажыхарская мадэль паводзінаў з'яўляецца вынікам механічнага змяшання ў папуляцыі гаспадарак, арыентаваных на індывідуалізм і эканамічную эфектыўнасць.

Светаўспрыняцце ў гэтых двух слаях істотна рознілася. Чальцы паспяховых гаспадарак бачылі выразную перспектыву і імкнуліся прыняць усе меры дзеля таго, каб забяспечыць стабільнасць падрастаючым спадчыннікам. Ва ўмовах паншчыны і пры адсутнасці рынку наёмнай працоўнай сілы такую стабільнасць забяспечвала толькі агульнажыхарская мадэль у яе класічнай форме, якая дазваляла падтрымліваць аптымальны баланс едакоў і работнікаў. Пры гэтым эканамічны выйгрыш дасягаўся за кошт псіхалагічнага дыскамфорту, непазбежнага пры жыцці дзвюх і болей сем'яў пад адным дахам.

Калі ж сялянская гаспадарка апускалася ў ніжэйшы эканамічны слой, яе падтрыманне любым коштам страчвала сваю прывабнасць, а псіхалагічны выйгрыш ад падзелу мог стаць адзіным, хаця і невялікім суцяшэннем. Менавіта такія гаспадаркі часта фіксуюцца інвентарамі як гаспадаркі, што складаюцца з адзінцоў альбо рэдукаваных сем'яў. На апошняй стадыі гаспадарчага заняпаду чальцы здэградаванай гаспадаркі пераходзілі ў разрад кутнікаў (неаседлых).

Відаць, у XVI ст. маласямейная мадэль пераважала на ўсёй тэрыторыі ВКЛ і Еўрапейскай Расіі. Звесткі пра структуру дворагаспадаркі па Беларусі і Наўгародскай зямлі, пададзеныя вышэй, сведчаць пра пачатак фармавання збалансаванай мадэлі. Яе станаўленне і далейшая эвалюцыя ў бок агульнажыхарскай мадэлі прасочваюцца пазней па ўрыўкавых звестках. Падлікі па наўгародскіх і пскоўскіх пісцовых кнігах 1580—1640-х гг. даюць сярэдні памер гаспадаркі прыблізна ў 6,4 чал. (даныя ахопліваюць 4242 двары ў 1620-я гг. і 7401 двор у 1646 г.). Аднасямейныя і шматсямейныя двары складалі ў 1620-я гг. адпаведна 59,6 і 38,7 %, у 1646 г. — 69 і 22,5 %. Гэтыя лічбы сведчаць на карысць перавагі збалансаванай мадэлі. Да 1678 г. доля аднасямейных гаспадарак змяншаецца да 49,4 %, а доля шматсямейных узрастае да 43 % (інфармацыя па 10436 дварах)[56]. У манастырскіх сялян Валагодскай губерні ў

[56] Александров В.А. Типология русской крестьянской семьи в эпоху феодализма // История СССР. 1981. № 3. С. 83; Кох О.В. Крестьянская семья // Аграрная история Северо-Запада России XVII века: (население, землевладение, землепользование). Л., 1989. С. 56—58.

1678 г. простых і шматсямейных двароў налічвалася 58,5 і 33,9 %, але да 1717 г. лічбы змяніліся на амаль адваротныя — 39,3 і 53,7 % (звесткі ахопліваюць 1000 двароў у 1678 г. і 428 двароў — у 1717 г.)[57]. Такім чынам, у рускіх сялян у канцы XVII — пачатку XVIII ст., якраз у час фармавання жорсткай прыгоннай сістэмы, назіраецца пераход на агульнажыхарскую мадэль, што наўрад ці з'яўляецца простым супадзеннем.

Заканчэнне гэтага працэсу ў першай палове XIX ст. фіксуюць матэрыялы па Тамбоўскай губерні, апрацаваныя паводле схемы П. Леслета[58]. У дзяржаўным сяле Малыя Пупкі на момант рэвізіі 1816 г. шматсямейныя гаспадаркі (тып 5 паводле Леслета) складалі 54 %, да 1834 г. іх доля ўзрасла да 67,5 %, да 1858 г. — да 74 %. Даследнікі тлумачаць гэты рост уздзеяннем рэформы П.Д. Кісялёва ў дзяржаўных маёнтках. У панскіх сялян сяла Байлоўка (без уліку дваровых людзей) гэтыя ж лічбы складалі адпаведна 67, 74 і 64 %, то бок максімум быў дасягнуты пакаленнем раней. Затое ў майстравых сялян сяла Расказава, толькі часткова звязаных з земляробствам, у 1816 г. шматсямейныя гаспадаркі складалі толькі 34 %, да 1858 г. гэтая лічба ўзрасла да 47 %. Сярэдні памер гаспадаркі за перыяд у цэлым у іх склаў 5,6 чал., што характэрна для збалансаванай мадэлі.

Яшчэ больш уражальныя звесткі па маёнтку Вашчажнікава ў Яраслаўскай губерні, выяўленыя не так даўно Т. Дэнісан[59]. У гэтым маёнтку Шарамецевых усе сяляне былі на аброку, паншчына адсутнічала. Грошы для выплаты аброку многія сяляне атрымлівалі не столькі праз рэалізацыю прадуктаў сваёй гаспадаркі, колькі з дапамогай гандлю, адыходніцтва ў суседнія прамысловыя цэнтры і т.п. У плане гаспадарчай актыўнасці яны былі блізкія да майстравых тамбоўскага сяла Расказава. Падобнымі аказаліся і статыстычныя параметры.

Сярэдні памер дворагаспадаркі ў Вашчажнікаве ў 1816 г. быў вельмі нізкі: 4,57 чал. на двор (у выбарцы 227 двароў). На першы погляд гэта ўказвае на поўнае дамінаванне маласямейнай мадэлі. Але нізкая лічба атрымліваецца часткова з-за даволі вялікай (11 %) колькасці рэдукаваных сем'яў і адзінцоў (як правіла, удоў з дзецьмі і без іх), а таксама дэфармаванай прапорцыі полаў (у сярэднім 2,1 мужчыны і 2,5 жанчыны на гаспадарку), што, відаць, тлумачыцца рэкруцкімі наборамі, высокай мужчынскай смяротнасцю ў маладых узростах і асаблівасцямі шлюбнай палітыкі гаспадара (ён абмяжоўваў выдачу «лішніх» нявест у іншыя маёнткі). Суадносіны аднасямейных (з адзінцамі), пашыраных і шматсямейных гаспадарак складалі на той момант 58, 19 і 23 %. Высокі паводле заходнееўрапейскіх мерак адсотак шматсямейных двароў указвае хутчэй на збалансаваную мадэль, ускладненую неспрыяльнымі дэмаграфічнымі фактарамі.

У 1850-я гг. сярэдні памер гаспадаркі ў Вашчажнікаве складаў блізу 5,2—5,3 чал., пры той жа прапорцыі полаў (2,3 мужчыны і 2,9—3 жанчыны на двор) на фоне памяншэння агульнай колькасці папуляцыі (на 20 % да 1858 г.). Агульная доля адзінцоў, няпоўных і нуклеарных сем'яў скарацілася да 42—48 %, а доля шматсямейных павялічылася да 29—30 %. Гэтыя лічбы ў цэлым тыповыя для збалансаванай мадэлі, якая, такім чынам, захоўвалася сям-там у прамысловым цэнтры Расіі аж да адмены прыгоннага права.

Эвалюцыя дворагаспадарчай структуры ў Еўрапейскай Расіі пасля рэформы 1861 г. паказальная: як толькі жорсткі сацыяльны кантроль здымаецца, агрэгаваныя статыстыкі паўсюль набываюць значэнні, уласцівыя збалансаванай мадэлі. Да пачатку XX ст. сярэдні памер сялянскай гаспадаркі па ўсіх губернях толькі злёгку

[57] Бакланова Е.Н. Крестьянский двор и община на русском Севере: конец XVII — начало XVIII в. М., 1976. С. 37—38.

[58] Канищев В.В., Кончаков Р.Б., Мизис Ю.А., Морозова Э.А. Структура крестьянской семьи: Тамбовская губерния, XIX — начало XX в. // Социальная история российской провинции в контексте модернизации аграрного общества в XVIII—XX вв. Тамбов, 2002. С. 83—101.

[59] Dennison T. Serfdom and Household Structure in Central Russia: Voshchazhnikovo, 1816—1858 // Continuity and Change. 18(3). 2003. P. 395—429.

перавышаў 6 чал.[60]. Пры гэтым існаванне розных мадэляў паводзінаў у розных сацыяльных групах часам выразна фіксуецца. На тэрыторыі Карэньшчыны па звестках перапісу насельніцтва 1897 г. сярэдні памер дворагаспадаркі скараціўся да 7,4 чал. Пры гэтым у старых вёсках на надзельных землях ён склаў 6,4 чал., а ў арандуемых фальварках і новых хутарах на купчых землях — амаль 13[61]. Не выклікае сумневаў, што землі набываліся толькі найбольш заможнымі сялянамі, а таксама нашчадкамі дробнай шляхты. Вялізны памер дворагаспадаркі ў іх тлумачыцца, відаць, выбарам агульнажыхарскай мадэлі, якая за кошт накладання спецыфічнай фазы жыццёвага цыкла ў нядаўна заснаваных гаспадарках магла набыць гіпертрафаваныя рысы. Паводле звестак перапісу 1917 г., ва ўмовах ваеннага часу, сярэдні памер гаспадаркі склаў 6,3 чал., пры гэтым на надзельных землях — 6,2, а на купчых — 7,3 чал.[62].

Такім чынам, маласямейная мадэль у чыстым выглядзе існавала там, дзе земляробы былі вольныя ад адпрацовачных павіннасцей і маглі выкарыстоўваць наёмную працоўную сілу альбо самі актыўна працавалі па найме. Пры ўзмацненні феадальнай эксплуатацыі і неабходнасці разлічваць выключна на працу чальцоў сям'і ўзнікалі перадумовы для пераходу на агульнажыхарскую мадэль. Сем'і, арыентаваныя на адзін з гэтых скрайніх стыляў паводзінаў, існавалі адначасова, але іх суадносіны не былі адвольнымі. Даволі хутка яны дасягалі балансу, пры якім агрэгаваныя статыстыкі спараджалі характэрныя асаблівасці збалансаванай мадэлі. Калі ж умовы мяняліся такім чынам, што арыентаваная на аднасямейнасць частка сялянства знікала альбо пераставала ўлічвацца ў якасці дворагаспадароў, характарыстыкі астатняй часткі станавіліся агульнымі, а папуляцыя ў цэлым набывала рысы агульнажыхарскай мадэлі. Менавіта так здарылася на большай частцы Еўрапейскай Расіі да сярэдзіны XIX ст. Пасля адмены прыгоннага права збалансаваная мадэль самааднаўляецца і да канца XIX ст. зноў становіцца пераважаючай.

*Перакладзена з рускай мовы паводле:*
Экономическая история:
Ежегодник, 2006. Москва: РОССПЭН, 2006. С. 503—538.

---

60 Миронов Б.Н. Социальная история России периода империи (XVIII — начало XX в.). Т. 1. С. 225, 226.

61 Падлічана паводле звестак пасяленных вынікаў перапісу насельніцтва 1897 г.: Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 1290. Воп. 11. Адз. зах. 1299. Арк. 605—635, 761, 762.

62 НГАБ. Ф. 325. Воп. 2. Адз. зах. 604.

# Дэмаграфічныя паказнікі беларускага сялянства ў другой палове XVIII — першай палове XIX ст.

Як вядома, рэгулярная дэмаграфічная статыстыка на тэрыторыі Расійскай імперыі з'явілася толькі ў сярэдзіне XIX ст. Пры гэтым яе дакладнасць на працягу яшчэ некалькіх дзесяцігоддзяў пакідала жадаць лепшага. Пра дынаміку дэмаграфічных працэсаў у ранейшы час наагул цяжка казаць штосьці пэўнае, паколькі агрэгаваныя звесткі па вялікіх тэрыторыях практычна адсутнічаюць. У той жа час па асобных рэгіёнах ёсць даволі багатыя крыніцы, якія дазваляюць рэканструяваць гэтую дынаміку на *мікраўзроўні* — у маштабах асобных паселішчаў і царкоўных прыходаў. Звесткі, атрыманыя з дапамогай перакрыжаванага аналізу такіх крыніц, значна больш пэўныя за лічбы афіцыйнай статыстыкі на этапе яе станаўлення. Гаворка можа ісці толькі пра ступень іх рэпрэзентатыўнасці — наколькі параметры лакальнай мікрапапуляцыі адлюстроўваюць карціну, уласцівую для папуляцыі наагул.

Ніжэй прапануюцца вынікі аналізу комплексу крыніц, якія адносяцца да гісторыі мікрарэгіёна ў цэнтральнай Беларусі (прыблізна ў 50 км на поўнач ад Мінска), населенага практычна цалкам сялянамі-каталікамі. Плошча даследуемай тэрыторыі амаль роўная 100 кв. км. Цягам XVIII—XX стст. на ёй адначасова існавалі ад 8 да 26 паселішчаў розных памераў, з якіх 8 вёсак устойліва захоўваліся на працягу ўсяго пазначанага перыяду.

Пачынаючы з першай згадкі ў крыніцах Вялікага Княства Літоўскага ў 1395 г.[1], гэтая тэрыторыя ўяўляла з сябе адзін уладальніцкі комплекс — маёнтак Корань, пажалаваны вялікім князем Вітаўтам заснаванаму незадоўга да гэтага капітулу Віленскага кафедральнага касцёла св. Станіслава. У апошняй чвэрці XVI ст. у Коране быў заснаваны каталіцкі касцёл, чый прыход ахопліваў увесь маёнтак і шэраг сумежных тэрыторый. Частка маёнтка з засценкам Нарбутава ў 1605 г. была выдзеленая на ўтрыманне настаяцеля (*плябана*) Кораньскага касцёла. У XVII ст. у складзе маёнтка згадваюцца тры асобныя часткі (*прэстымоніі*), размеркаваныя сярод канонікаў Віленскага капітула: Вялікі Корань, Малы Корань і Прудкі. Крыніцы XVIII ст. асвятляюць поўны склад маёнтка, у якім, апроч сяла Корань, былі тры адносна буйныя паселішчы — Міхалкавічы, Прудкі і Чарахі, а таксама чатыры больш дробныя — Грамніца, Жырблевічы, Лішчыцы і Чэрнева. Акрамя таго, перыядычна ўзнікалі і зноў знікалі дробныя паселішчы — *засценкі*, што мелі ў сваім складзе ад аднаго да трох двароў. З іх засценкі Нарбутава і Казыры ў XIX ст. ператварыліся ў сталыя вёскі.

Пасля далучэння да Расійскай імперыі ў 1793 г. тэрыторыя Карэньшчыны ўвайшла ў Докшыцкі, а з 1796 г. — Барысаўскі павет Мінскай губерні. Сяло Корань і засценак Нарбутава былі пакінутыя ў валоданні плябаніі Кораньскага касцёла (у 1843 г. яны былі секулярызаваныя і далучаныя да дзяржаўнага маёнтка Гайна). Астатнюю частку маёнтка, канфіскаваную ў Віленскага капітула, імператрыца Кацярына II 18 жніўня 1795 г. пажалавала ва ўласнасць генерал-маёру Івану Няплюеву. Пры гэтым тры былыя капітульныя прэстымоніі былі аб'яднаныя ў маёнтак, які атрымаў назву Красны Бор. У 1826 г. дачка Няплюева прадала яго гвардыі палкоўніку Казіміру Чудоўскаму. У 1846 г. ён быў атрыманы ў спадчыну ягоным братам Аляксеем, ва ўласнасці якога і заставаўся да адмены прыгоннага права.

---

[1] Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. T. 1. Kraków, 1932—1948. № 25. S. 40—42; Vitoldiana: Codex privilegiorum Vitoldi magni ducis Lithuaniae 1386—1430 / Zebrał i wydał J. Ochmański. Warszawa; Poznań, 1986. № 13. S. 18—19.

Такім чынам, на працягу доўгага перыяду вывучаемы мікрарэгіён уяўляў з сябе адзін, а з канца XVIII ст. — два сумежныя маёнткі. Да таго ж ён месціўся ў межах адной царкоўнай парафіі — Кораньскага рымска-каталіцкага прыхода, складаючы крыху больш за траціну ягонай тэрыторыі і каля 40—45 % насельніцтва. Шмат у чым гістарычная супольнасць захоўвалася і ў больш познія перыяды. Гэта не толькі істотна палягчае даследаванні на аснове крыніц адзінага паходжання (метрычных кніг аднаго прыхода, інвентароў аднаго маёнтка), але і дазваляе казаць пра тэрыторыю даследавання як пра ўстойлівае гістарычнае адзінства. Межы маёнтка і прыхода на працягу многіх пакаленняў сфармавалі адносна замкнутую папуляцыю, унутры якой замыкалася значная частка ўнутраных міграцый і шлюбных сувязяў. На насельніцтва ўздзейнічалі практычна ідэнтычныя прыродныя, рэлігійныя і сацыяльна-эканамічныя фактары.

Дынаміка колькасці і дэмаграфічныя паказнікі папуляцыі ў XVIII — першай палове XIX ст. прасочваюцца па цэлым шэрагу масавых крыніц, якія можна ўмоўна падзяліць на тры класы — інвентары, метрычныя кнігі і рэвізія сказкі, — і на два асноўныя перыяды — Вялікага Княства Літоўскага (ад першых згадак да 1793 г.) і Расійскай імперыі (з 1793 г. да аграрнай рэформы пачатку 1860-х гг.).

**Інвентары XVI—XVIII стст.** Першыя звесткі пра насельніцтва Карэньшчыны мае рэестр раскладкі пазачарговага падатку (*серабшчызны*) з духоўных маёнткаў Віленскага біскупства, складзены ў 1553 г. на *рускай* (старабеларускай паводле сучаснай тэрміналогіі) мове[2]. Маёнтак Корань на той момант уяўляў з сябе два прэстымоніі, якія належалі розным сябрам капітула. У першай з гэтых частак значылася 58 *сох* і 2 *агароды*, у другой — 50,5 *сох*, 3 *зямлі* і 2 *агароды*. Верагодна, *саха* адпавядала тыповаму зямельнаму надзелу, што апрацоўваўся з дапамогай адной валовай запрэжкі. Дробная колькасць *сох* у рэестры сведчыць пра тое, што такі надзел маглі сумесна выкарыстоўваць некалькі гаспадарак. Пад *агародам*, відавочна, разумеўся невялікі надзел, уласнік якога не меў рабочай жывёлы. Што тычыцца *зямлі*, то яна магла пазначаць альбо пустуючы надзел, што часова выкарыстоўваўся кімсьці з сялян на нейкіх умовах, альбо ўчастак, прамежкавы па памеры паміж *сахой* і *агародам*. У цэлым на тэрыторыі маёнтка было не менш за 112 сялянскіх гаспадарак.

Наступная крыніца — выпіска з тарыфу *падымнага* за 1653 г. Гэты падатак збіраўся з уласнікаў маёнткаў на аснове прысягі, якую яны давалі аб колькасці сялянскіх двароў (*дымоў*) у сваіх валоданнях. Згаданая выпіска (на польскай мове, як і ўсе наступныя інвентары XVII—XVIII стст.) мае звесткі пра дымы ў валоданнях Віленскага біскупства[3]. У маёнтку Корань адзін прэстымоній налічваў 40 дымоў, другі — 48, валоданні кораньскага плябана — 10, а прэстымонія Прудкі — 35 дымоў. Такім чынам, разам у маёнтку было на той момант 133 гаспадаркі.

На жаль, наступны па часе тарыф падымнага Мінскага павета, складзены адразу па сканчэнні вайны з Расіяй у 1667 г., не мае звестак пра маёнтак Корань, за выключэннем валоданняў плябана Кораньскага касцёла. У іх, згодна з тарыфам, з 10 ранейшых дымоў пасля вайны застаўся толькі адзін[4]. Блізкі па часе першы з тых, што дайшоў да нас (недатаваны), інвентар прэстымонія Вялікі Корань[5]. Па шэрагу прыкмет час ягонага стварэння вызначаецца каля 1680 г. Гэты інвентар мае першыя згадкі імёнаў і прозвішчаў жыхароў Карэньшчыны — сялян вёсак Міхалкавічы і Чэрнева. Агулам названа шэсць імёнаў. Мяркуючы па ўсім, гэтыя 6 чал. і іх сем'і складалі ўсё насельніцтва прэстымонія на той момант. Апісанне гаспадаркі таксама адлюстроўвае карціну глыбокага заняпаду і запусцення, аналагічную звесткам блізкіх па часе інвентароў іншых капітульных маёнткаў. Гэта пацвярджае агульную выснову пра катастрафічнае (прыблізна ўдвая) скара-

[2] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы (АРБАНЛ). Ф. 43. Адз. зах. 435.

[3] АРБАНЛ. Арк. Ф. 43. Адз. зах. 609.

[4] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (ДГАЛ). Ф. ДА. Адз. зах. 3721. Арк. 28.

[5] АРБАНЛ. Арк. Ф. 43. Адз. зах. 10750.

чэнне насельніцтва Беларусі ў выніку вайны 1654—1667 гг., зробленую ў свой час польскім даследнікам Ю. Можы[6].

У 1690 г. быў складзены новы тарыф падымнага Мінскага павета[7]. У ім, аднак, панятак «дым» страціў свой першапачатковы сэнс. Цяпер ён азначаў не рэальны сялянскі двор, а нейкую ўмоўную адзінку абкладання, што ўключала ў сябе некалькі двароў. Пра гэта сведчыць той факт, што ў тарыфе рэгулярна сустракаюцца дробныя велічыні — ½ і нават ¼ дыма. Тым не менш пазначаная крыніца дае некаторае ўяўленне хаця б пра адносныя памеры маёнткаў. Паводле яе, у Вялікім і Малым Коранях агулам было дзевяць дымоў, у Прудках — два, у плябаніі Кораньскага касцёла — адзін. Можна меркаваць, што «дым» гэтага тарыфу прыблізна адпавядае чатыром дварам. У такім разе агульную колькасць падданых вёсак маёнтка Корань на 1690 г. можна ацаніць прыблізна ў 48 двароў. Наступны тарыф падымнага за 1722 г. фіксуе яшчэ большае скарачэнне насельніцтва. На гэты раз у абодвух Коранях і Прудках разам налічваецца дзевяць дымоў, яшчэ адзін — у плябаніі Кораньскага касцёла[8]. Такім чынам, агулам у маёнтку было 10 дымоў, альбо каля 40 двароў. Відавочна, на колькасці насельніцтва адбіліся наступствы Паўночнай вайны, падчас якой тэрыторыя цэнтральнай Беларусі неаднойчы ператваралася ў арэну ваенных дзеянняў.

У 1740 г. было складзенае інвентарнае апісанне касцёла ў Корані[9]. У ім пералічваецца (з пазнакай імёнаў і прозвішчаў) усё насельніцтва сямі вёсак, якія складалі валоданні капітула (70 двароў, 240 чал. мужчынскага полу і 204 жаночага), а таксама падлеглага касцёла сяла Корань (13 гаспадарак, 48 прадстаўнікоў мужчынскага полу). У адрозненне ад іншых паселішчаў, для Кораня інвентар не згадвае дачок, што не дае магчымасці вызначыць поўную колькасць жыхароў сяла. Калі экстрапаляваць на яго агульную прапорцыю мужчын і жанчын, характэрную для капітульных валоданняў (прыблізна 12 да 10), то насельніцтва сяла можна ацаніць у 88 чал., а мікрарэгіёна наагул — прыблізна ў 536 чал.

Наступны па часе інвентар Кораньскага касцёла быў складзены ў 1742 г.[10]. Дакумент, у адрозненне ад папярэдняга, не мае пераліку прыхаджан з капітульных прэстымоніяў. Пералічаныя толькі падданыя плябаніі, прычым за два гады іх колькасць прыкметна скарацілася. З ранейшых 13 засталіся 8 паўнавартасных гаспадарак (у іх 13 мужчын, улічваючы сыноў). Блізкі па часе інвентар прэстымонія Прудкі без даты, але па шэрагу прыкмет датуемы прыблізна 1744 г.[11]. У ім пералічваюцца 23 уласнікі гаспадарак у вёсках Прудкі і Лішчыцы і пазначаная колькасць іх сыноў (разам 56 прадстаўнікоў мужчынскага полу). У 1747 г. быў складзены інвентар прэстымонія Вялікі Корань[12], які ўключаў 25 гаспадарак у вёсках Міхалкавічы і Чэрнева. Колькасць сыноў у ім не пазначаная. Адзіны інвентар прэстымонія Малы Корань датуецца 1761 г.[13]. У ім фігуруюць 34 двары (131 чал. мужчынскага полу разам з сынамі) у вёсках Грамніца, Жырблевічы і Чарахі.

1770-я гг. прадстаўленыя серыяй з трох інвентароў прэстымонія Прудкі, датаваных 1774, 1775 і 1778 гг.[14]. Яны маюць толькі пералік двароў-гаспадарак, чыя колькасць у Прудках дасягнула 22, у Лішчыцах — 13. Акрамя таго, з'явіліся засценкі Гарадзец і Млын, што мелі па адным двары.

Інвентарнае апісанне падданых Кораньскай плябаніі за 1783 г.[15] згадвае 9 двароў і 3 сям'і *кутнікаў* у Корані, 4 двары ў Нарбутаве, а таксама па 1 двары ў Грамніцы,

---

[6] Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965.
[7] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 1769. Воп. 1. Адз. зах. 144. Арк. 38.
[8] Тамсама. Арк. 53.
[9] ДГАЛ. Арк. Ф. 694. Воп. 1. Адз. зах. 4481.
[10] НГАБ. Ф. 147. Воп. 2. Адз. зах. 121. Арх. 82, 89—90.
[11] АРБАНЛ. Арк. Ф. 43. Адз. зах. 10771.
[12] Тамсама. Адз. зах. 10758.
[13] Тамсама. Адз. зах. 10760.
[14] Тамсама. Адз. зах. 10761, 10762.
[15] НГАБ. Ф. 1781. Воп. 27. Адз. зах. 219. Арк. 125—168.

Чарахах і Жырблевічах і сям'ю каваля, які жыў у Чэрневе (відавочна, без уласнага двара і зямельнага надзелу). Агулам у 16 дварах пералічаныя 111 асоб мужчынскага і жаночага полу, з іх 13 кутнікаў, якія не мелі ўласнага дома і прытуліліся ў суседзяў. Два блізкія па часе інвентары адносяцца да прэстымонія Вялікі Корань. Адзін з іх датуецца 1781 г.[16], другі — 1786 г.[17]. У іх пералічаныя ўсе жыхары мужчынскага і жаночага полу з пазнакай узросту дзяцей. Інвентар 1781 г. фіксуе насельніцтва старых вёсак Міхалкавічы і Чэрнева, а таксама зноў узніклых — вёскі Загор'е (пазней злілася з Міхалкавічамі) і засценка Юршы. У іх пазначаныя 49 двароў, якія насялялі 141 прадстаўнік мужчынскага полу і не менш чым 109 — жаночага[18]. Інвентар 1786 г. мае значна большыя лічбы, якія можна толькі часткова патлумачыць ростам насельніцтва. Колькасць двароў павялічылася да 56 (акрамя таго, пазначаны 6 сем'яў *кутнікаў*). Колькасць насельніцтва абодвух полаў склала 339 чал., без уліку кутнікаў, для якіх склад сем'яў не пазначаны.

Завяршаюць спіс інвентароў XVIII ст. два інвентары прэстымонія Прудкі, датаваныя 1787 і 1789 гг.[19]. У іх пайменна пералічаныя толькі галовы гаспадарак, але ў інвентары 1789 г. пазначаная таксама колькасць чальцоў сям'і з разбіўкай па ўзростах. Колькасць двароў у гэтым прэстымоніі складала ў 1787 г. 39, а праз два гады — 40, прычым у іх налічвалася 236 чал. абодвух полаў.

**Метрычныя кнігі.** Рэгістрацыя нараджэнняў, шлюбаў і смерцяў у каталіцкіх касцёлах Вялікага Княства Літоўскага пачалася ў другой палове XVII ст. У прыватнасці, самая ранняя з тых, што дайшлі да нашых дзён, метрычных кніг суседняга з Коранем Гайненскага касцёла была пачатая ў 1684 г. У Корані вядзенне метрычных кніг пачалося, верагодна, крыху пазней. У апісанні касцёла за 1783 г. згадваюцца кнігі за 1710 г. Гэтыя звесткі пацвярджаюцца больш познімі апісаннямі, складзенымі ў сярэдзіне і канцы XIX ст. Так, апісанне ад 4 жніўня 1844 г.[20] адзначае наяўнасць у касцёле метрычных кніг пра шлюбы і смерці з 1743 г., а пра нараджэнні — з 1810 г. Відавочна, у апошняй даце памылка, і гаворка павінна ісці пра 1710 г. Прынамсі, апісанне за 1899 г.[21] згадвае метрычныя кнігі пра нараджэнні і смерці за 1710—1737 і 1736—1762 гг., пра шлюбы за 1710—1730 гг., пра шлюбы і смерці за 1729—1773 гг., а таксама кнігі за больш позні перыяд.

На жаль, найбольш раннія кнігі да нас не дайшлі. Арыгіналы іх, што захоўваліся ў касцёле, загінулі альбо пасля ягонага закрыцця ў 1920-я гг., альбо пры пажары, што знішчыў будынак касцёла падчас Другой сусветнай вайны. Самай ранняй з тых, што захаваліся, з'яўляецца копія трох метрычных кніг Кораньскага касцёла — пра нараджэнні і смерці за 1762—1797 гг. і пра шлюбы за 1773—1797 гг. Усе тры пазначаныя кнігі былі перапісаныя ў 1798 г. у адну агульную кнігу, што трапіла ў фонд створанага ў тым жа годзе Мінскага каталіцкага біскупства[22]. Тэксты ўсіх кніг на лаціне. Ва ўсіх трох арыгінальных кнігах былі страчаныя некаторыя аркушы, што відаць паводле ўзнаўляемай у копіі нумарацыі старонак арыгінала. У кнізе аб нараджэннях ёсць адна невялікая лакуна — адсутнічаюць запісы за люты—травень 1791 г. У кнізе аб шлюбах цалкам адсутнічаюць запісы за 1787 г., а таксама за жнівень—снежань 1796 г. Кніга пра смерці хаця і пачынаецца з 1762 г., але да 1766 г. у ёй маюцца толькі адзінкавыя запісы, і толькі з 1767 г. яны становяцца рэгулярнымі (без лакун).

Захавалася таксама копія метрычных кніг Барысаўскага дэканата за 1798—1799 гг., якая ўключае і запісы пра нараджэнні, шлюбы і смерці Кораньскага касцё-

---

[16] ДГАЛ. Арк. Ф. 694. Воп. 1. Адз. зах. 3397. Арк. 50—53.

[17] Тамсама. Арк. 55—56 адв.; АРБАНЛ. Арк. Ф. 43. Адз. зах. 10763, 10764.

[18] Канцы радкоў, прысвечаных жыхарам Чэрнева, у гэтым інвентары пашкоджаныя, таму страчаныя імёны некалькіх дачок (прынамсі ў трох дварах), якія заўсёды пісаліся пасля імёнаў сыноў — у канцы радка.

[19] АРБАНЛ. Арк. Ф. 43. Адз. зах. 10765, 10766.

[20] НГАБ. Ф. 131. Воп. 2. Адз. зах. 1. Арк. 71—78.

[21] Тамсама. Ф. 1781. Воп. 26. Адз. зах. 1481. Арк. 23—26.

[22] Тамсама. Ф. 937. Воп. 4. Адз. зах. 42.

ла[23]. Характар гэтых запісаў аналагічны папярэднім — яны вяліся на лаціне, з пазнакай тых жа звестак. Пазней такія зводныя копіі па дэканаце складаліся, відаць, штогод, але да нашых дзён яны не захаваліся. Затое захаваліся копіі метрычных кніг Кораньскага касцёла за 1800—1826 гг. у выглядзе трох асобных кніг — аб нараджэннях[24], шлюбах[25] і смярцях[26]. Усе яны таксама напісаныя на лаціне. Кніга запісаў аб нараджэннях мае лакуну з траўня па снежань 1801 г. уключна. Кніга запісаў аб шлюбах таксама перарываецца ў 1801 г. (няма запісаў з сакавіка па снежань). Кніга рэгістрацыі смерцяў відавочных пропускаў не мае. Наступная па часе метрычная кніга Кораньскага прыхода аб'ядноўвае запісы пра нараджэнні, шлюбы і смерці за 1827—1848 гг. Яна напісана на польскай мове. У запісах пра смерці цалкам адсутнічаюць звесткі за 1838 г.

Пасля 1848 г. большасць метрычных запісаў Кораньскага касцёла страчаная. Ацалелі толькі некаторыя з іх. Так, у фондзе Магілёўскага архібіскупства захаваліся копіі метрык па Барысаўскім дэканаце (уключаючы і Кораньскі прыход) пра нараджэнні[27], шлюбы[28] і смерці за 1850 г.[29], а ў фондзе самога Барысаўскага дэканата — пра шлюбы за 1851 г.[30], нараджэнні за 1858 г.[31] і смерці за 1861 г.[32]. Гэтыя кнігі складзеныя ўжо па-руску.

**Рэвізскія сказкі і інвентары перыяду Расійскай імперыі.** Як вядома, правядзенне падушных перапісаў (*рэвізій*) ажыццяўлялася ў Расіі з 1718 г. Перапіс 1795 г. быў ужо пятым па ліку ў Расійскай імперыі і першым, які ахапіў усю тэрыторыю далучанай Беларусі. Матэрыялы перапісу захаваліся някепска, але сярод нешматлікіх страчаных кніг была менавіта тая, у якой меліся звесткі пра памешчыцкія маёнткі Докшыцкага павета, уключна з Красным Борам. Захаваліся толькі матэрыялы перапісу іншых маёнткаў генерала Няплюева — Ганявічаў, што ўвайшлі ў 1795 г. у склад Барысаўскага павета[33], і Лоўцавічаў, уключаных у склад Вілейскага павета[34]. Яны дазваляюць прасачыць перасоўванне падданых паміж маёнткамі, здзейсненае новым гаспадаром: сярод жыхароў вёскі Лоўцавічы фігуруюць 8 сем'яў (43 чал.), якія фіксаваліся раней у інвентарах капітульных прэстымоній і метрычных кнігах Кораньскага касцёла[35]. Верагодна, гэтыя сем'і былі пераведзеныя Няплюевым з Краснага Бора ў Лоўцавічы адразу па набыцці гэтых маёнткаў.

Агульныя вынікі рэвізіі 1795 г. былі адлюстраваныя ў *Экономических примечаниях к Генеральному межеванию Минской губернии*, складзеных у 1798—1800 гг. У іх пералічваюцца ўсе маёнткі і населеныя пункты Мінскай губерні, з пазнакай колькасці двароў і душ мужчынскага і жаночага полаў у кожным паселішчы згодна з нядаўняй рэвізіяй[36]. У валоданнях Няплюева і плябаніі Кораньскага касцёла пазначаныя 136 сялянскіх двароў, у іх — 1089 чал. (559 мужчынскага і 534 жаночага полаў). Страчаныя першасныя матэрыялы рэвізіі 1795 г. можна ў значнай ступені рэканструяваць, бо наступныя па часе рэвізскія сказкі маёнтка Красны Бор[37] і Ко-

[23] Тамсама. Ф. 1781. Воп. 27. Адз. зах. 199. Арк. 191—223.
[24] Тамсама. Ф. 937. Воп. 4. Адз. зах. 43.
[25] Тамсама. Адз. зах. 44.
[26] Тамсама. Адз. зах. 45.
[27] Тамсама. Ф. 1781. Воп. 30. Адз. зах. 52. Арк. 68—81.
[28] Тамсама. Адз. зах. 53. Арк. 38—42.
[29] Тамсама. Адз. зах. 54. Арк. 33—35.
[30] Тамсама. Ф. 131. Воп. 2. Адз. зах. 2. Арк. 28—31.
[31] Тамсама. Воп. 3. Адз. зах. 2. Арк. 64—76 адв.
[32] Тамсама. Адз. зах. 1. Арк. 27—32 адв.
[33] Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 27. Арк. 1039—1098.
[34] ДГАЛ. Арк. Ф. 515. Воп. 15. Адз. зах. 131. Арк. 386—440.
[35] Тамсама. Арк. 434 адв. — 440.
[36] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (РДГА). Ф. 1350. Воп. 312. Адз. зах. 89. Арк. 582—582 адв.
[37] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 204. Арк. 563—591.

раньскай плябаніі[38] за 1811 г. маюць імёны ўсіх асоб мужчынскага полу, што жылі там у 1795 г., з пазнакамі аб тым, хто з іх памёр, быў аддадзены ў рэкруты, пераведзены ў іншую вёску і г.д. У прыватнасці, гэтыя звесткі дазваляюць дазнацца, што ў вёску Капцы, заснаваную І. Няплюевым побач з сядзібай Красны Бор, былі пераселеныя 44 мужчыны і каля 30 жанчын з суседніх вёсак гэтага ж маёнтка, а таксама 35 мужчын і каля 50 жанчын (калі меркаваць па колькасці жыхароў гэтай вёскі ў *Экономических примечаниях*) — з іншых маёнткаў.

Паміж рэвізіямі 1795 і 1811 гг. былі складзеныя два інвентарныя апісанні Кораньскага касцёла і яго плябаніі (абодва па-польску), датаваныя адпаведна 1804[39] і 1807 гг.[40]. Як і больш раннія інвентары, абодва гэтыя дакументы маюць пайменныя спісы падданых плябаніі, якія жывуць у сяле Корань і засценку Нарбутава. У 1804 г. у абодвух паселішчах было сем сялянскіх двароў. Яшчэ 7 чал. пазначаныя ў спісе *чэлядзі плябанскай* і адзін — як кутнік. Колькасць душ абодвух полаў складала 59 чал., альбо на 26 менш, чым у рэвізскай сказцы дзевяцігадовай даўніны. Інвентар 1807 г. сведчыць, што колькасць двароў павялічылася да дзевяці, а колькасць падданых у абодвух паселішчах склала 69 (без чэлядзі, спіс якой гэтым разам адсутнічае).

Рэвізія 1811 г. фіксавала толькі асоб мужчынскага полу. У валоданнях Кораньскай плябаніі такіх было 39 у 10 дварах, у маёнтку Красны Бор — 607 у 177 дварах. З моманту папярэдняй рэвізіі з'явіліся 4 новыя дробныя паселішчы (Гані, Града, Казыры і Селішча), затое зніклі вёска Капцы і засценак Юршы. Пры наступнай рэвізіі ў 1816 г. улічвалася насельніцтва як мужчынскага, так і жаночага полаў. Згодна з рэвізскай сказкай маёнтка Красны Бор[41] колькасць паселішчаў у ім не змянілася, але колькасць жыхароў была значна ніжэйшай у параўнанні з 1811 г.: 159 двароў, 1041 чал. (513 мужчынскага і 528 жаночага полаў). Рэвізская сказка Кораньскай плябаніі[42] фіксуе ў 9 дварах 66 чал. (34 мужчынскага і 32 жаночага полаў). Разам, такім чынам, насельніцтва Карэньшчыны паводле гэтай рэвізіі складала 1107 чал.

Чарговае інвентарнае апісанне Кораньскага касцёла было складзенае ў 1822 г.[43]. Яно зафіксавала 8 сялянскіх двароў у Корані і ў Нарбутаве — толькі 63 чал. абодвух полаў. Яшчэ 2 чал. служылі пры плябаніі. Акрамя гэтага, дакумент мае апісанне Кораньскай парафіі, уключна са спісам усіх населеных пунктаў і пазнакамі колькасці двароў і прыхаджан. Насельніцтва Карэньшчыны паводле гэтага апісання склала 1121 чал. у 155 дварах, альбо 45 % ад агульнай колькасці прыхаджан у парафіі (2469 чал.). Адзначым, што ў пераліку адсутнічае засценак Града, які быў у той час заселены, то бок агульная лічба крыху заніжаная. Верагодна, заніжаныя звесткі і адносна іншых паселішчаў.

Паводле рэвізскай сказкі маёнтка Красны Бор за 1834 г.[44], у складзе маёнтка налічваўся 141 двор і 1188 чал. абодвух полаў, прычым 22 з іх былі *дваровымі людзьмі* ў панскім двары, а 17 былі на службе ў суседніх альбо аддаленых маёнтках. Яшчэ 19 чал. былі ва ўцёках. У рэвізскай сказцы Кораньскай плябаніі[45] пазначана 11 двароў і 89 падданых, яшчэ 2 уцяклі. Такім чынам, насельніцтва Карэньшчыны склала 1277 чал.

Захаваўся таксама інвентар маёнтка Красны Бор, складзены губернскім інвентарным камітэтам[46]. Дата яго не пазначаная, але ў назве гаспадар маёнтка Казімір Чудоўскі названы памерлым (ён памёр 12 чэрвеня 1846 г.[47], а 21 жніўня

---

[38] Тамсама. Арк. 758—760.
[39] Тамсама. Ф. 1781. Воп. 27. Адз. зах. 276. Арк. 25—34 адв.
[40] Тамсама. Адз. зах. 309. Арк. 33—43.
[41] Тамсама. Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 87. Арк. 543—637.
[42] Тамсама. Арк. 1460—1465.
[43] Тамсама. Ф. 1781. Воп. 27. Адз. зах. 377. Арк. 28—41.
[44] Тамсама. Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 544. Арк. 782—832.
[45] Тамсама. Адз. зах. 1163. Арк. 272—277.
[46] Тамсама. Ф. 142. Воп. 1. Адз. зах. 305.
[47] Тамсама. Ф. 146. Воп. 2. Адз. зах. 1778. Арк. 6 адв.

гэтага ж года ў валоданне маёнткам быў уведзены ягоны брат Аляксей[48]). Фармальна інвентар варта датаваць чэрвенем—жніўнем 1846 г., аднак супастаўленне пазначанага ў ім узросту сялян з данымі метрычных кніг і рэвізскіх сказак указвае на тое, што пры ягоным складанні былі механічна выкарыстаныя звесткі з нейкага гаспадарчага інвентару за 1841 г., захаваныя ў архіве маёнтка. Агулам у маёнтку значыліся 142 гаспадаркі з поўным надзелам, 3 сям'і агароднікаў, 6 сем'яў халупшчыкаў і 13 кутнікаў. Колькасць насельніцтва складала 628 душ мужчынскага полу і 698 жаночага, то бок разам 1326 чал. З улікам валоданняў плябаніі агульная колькасць насельніцтва Карэньшчыны на той момант, відаць, крыху перавышала 1400 чал.

Падчас люстрацыі дзяржаўных маёнткаў улетку 1850 г. быў складзены пасямейны спіс сялян маёнтка Гайна, уключаючы 12 двароў у Корані і Нарбутаве[49]. У іх жылі 86 чал. (48 мужчын і 38 жанчын). Яшчэ 4 чал. значыліся як бабылі. Разам, такім чынам, было 90 чал. Гэты пасямейны спіс амаль супадае па часе з матэрыяламі чарговай рэвізіі, якая праводзілася ў маёнтку Гайна 15 верасня гэтага ж года[50]. Тым не менш паміж імі ёсць некаторая розніца. Колькасць двароў паводле рэвізіі склала 15 за кошт таго, што асобнымі дворагаспадарамі выступаюць двое сялян, у пасямейным спісе пазначаныя як бабылі. У Нарбутаве з'явіўся новы двор, жыхар якога быў прылічаны паводле прадпісання Мінскага акруговага ўпраўлення дзяржаўных маёмасцей ад 13 ліпеня 1849 г. (як вынікае з іншых крыніц, раней ён жыў у Корані на арандаванай зямлі і належаў да саслоўя вольных земляробаў). Агульная колькасць насельніцтва ў Корані і Нарбутаве паводле звестак рэвізіі склала 98 чал. (з іх 50 мужчынскага і 48 жаночага полаў). Рэвізская сказка маёнтка Красны Бор датаваная 10 жніўня 1850 г.[51]. У ёй значыцца 51 душа дваровых людзей (набраных часткова з падданых маёнтка Красны Бор, часткова з іншых маёнткаў А. Чудоўскага), а таксама 159 сялянскіх двароў у 9 населеных пунктах Карэньшчыны (з часу папярэдняй рэвізіі знік засценак Селішча). У іх жылі 1209 сялян (603 мужчынскага і 657 жаночага полаў). Яшчэ 11 чал. былі пазначаныя ва ўцёках. Разам з дваровымі людзьмі, жыхарамі Кораня і Нарбутава насельніцтва Карэньшчыны складала, паводле звестак рэвізіі 1850 г., 1378 чал.

Заканчваюць серыю падворных спісаў, складзеных да аграрнай рэформы 1861 г., матэрыялы апошняй (дзясятай агульнарасійскай) рэвізіі, праведзенай напярэдадні рэформы. Рэвізская сказка маёнтка Красны Бор датуецца 15 снежня 1857 г.[52], аднак яе супастаўленне з метрычнай кнігай нараджэнняў за 1858 г. паказвае, што ў сказку былі ўключаныя дзеці, народжаныя ў студзені—лютым гэтага года, то бок яна адлюстроўвае колькасць насельніцтва прыблізна ў пачатку сакавіка 1858 г. У ёй пералічваюцца 17 душ дваровых людзей і сяляне 8 вёсак (засценак Града на той момант ужо не існаваў). Разам у іх было 153 двары, у якіх меліся ў наяўнасці 1203 душы (557 мужчынскага і 646 жаночага полаў). Яшчэ 18 чал. былі ва ўцёках. Рэвізская сказка казённага маёнтка Гайна складалася ў студзені 1858 г.[53]. У вёсках Корань і Нарбутава было 15 двароў, у іх 105 душ (53 мужчынскага і 52 жаночага полаў). Агульная колькасць насельніцтва паводле гэтай рэвізіі склала 1405 чал.

**Дынаміка колькасці: спроба рэканструкцыі.** Супастаўленне вышэйпададзеных лічбаў са звесткамі метрычных кніг паказвае, што і тыя, і іншыя не зусім дакладныя і вымагаюць узаемнай карэкцыі. У прыватнасці, метрычныя кнігі сярэдзіны 1790-х гг. згадваюць каля 30 прадстаўнікоў мужчынскага полу, якія павінны былі быць жывымі на момант рэвізіі 1795 г., але адсутнічаюць у спасылках на яе, што

48 Тамсама. Адз. зах. 1004.

49 Тамсама. Ф. 27. Воп. 1. Адз. зах. 68. Арк. 52 адв. — 53 адв.

50 Тамсама. Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 408. Арк. 687—695, 698 адв. Другі асобнік: Тамсама. Адз. зах. 395. Арк. 218—27, 253.

51 Тамсама. Адз. зах. 419. Арк. 295—459.

52 Тамсама. Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 1096. Арк. 931—1057.

53 Тамсама. Адз. зах. 1090. Арк. 831 адв. — 838.

ёсць у рэвізскай сказцы 1811 г. Колькасць прапушчаных жанчын была прыблізна такой самай. У цэлым рэканструкцыя складу мікрапапуляцыі на 1795 г. з улікам даных метрычных кніг дае лічбу каля 1165 чал. (да 600 мужчын і каля 565 жанчын), альбо на 5,4 % больш, чым значылася ў рэвізскай сказцы.

Падобным жа чынам можна ацаніць склад насельніцтва Карэньшчыны ранейшага часу. Колькасць двароў у 1770—1780-я гг., верагодна, была каля 130—140, альбо ў 2,7—3,5 разы большая, чым на рубяжы XVII—XVIII стст. Адзначым, што, паводле П.Р. Казлоўскага, агульная колькасць насельніцтва Беларусі з 1717 па 1790 г. павялічылася прыблізна ў 2,4 разы — з 1,5 да 3,6 млн. чал.[54]. На 1785 г. рэканструкцыя папуляцыі Карэньшчыны дае лічбу каля 1100 чал. (з іх прыблізна 595 асоб мужчынскага і каля 500 жаночага полаў), на 1775 г. — каля 935 (535 і 400 адпаведна), на 1765 г. — каля 800 (450 і 350). Пры вызначэнні колькасці жанчын пагрэшнасць вышэйшая, чым для мужчын, бо ў большасці інвентароў звесткі пра дачок не падаюцца. Да таго ж пры выкарыстанні метаду аднаўлення сем’яў цяжка вызначыць колькасць выжыўшых дачок з прычыны змены прозвішча пасля шлюбу, што не заўсёды прасочваецца ў шлюбных запісах.

Для пабудовы цэласнай мадэлі неабходна супаставіць даныя пра колькасць насельніцтва з балансам нараджальнасці—смяротнасці і міграцый. У метрычных запісах за 1765—1794 гг. зафіксавана нараджэнне на тэрыторыі Карэньшчыны прыблізна 1475 дзяцей (месцы нараджэння і імёны бацькоў не заўсёды паддаюцца атаясамленню). За той жа час зарэгістравана каля 940 смерцяў. Такім чынам, натуральны прырост павінен быў бы скласці 535 чал. За перыяд 1761—1793 гг. звонку з’явілася не менш за 75 прадстаўнікоў мужчынскага полу, сышло каля 35. Напярэдадні рэвізіі 1795 г., як ужо згадвалася, прыблізна 25 мужчын і жанчын былі пераведзеныя ў іншыя маёнткі, але адначасова ў панскую сядзібу прыбылі не менш за 35 мужчын і нейкая колькасць жанчын з іншых валоданняў Няплюева. Такім чынам, сальда міграцый было станоўчым і дало прырост блізу 50 душ мужчынскага полу. Відаць, для жаночага полу лік прыбылых таксама перавышаў лік тых, хто сышоў, хаця і не ў такой ступені, як для мужчын. Такім чынам, з 1765 па 1795 г. колькасць насельніцтва павінна была б павялічыцца прыблізна на 600 чал. У рэальнасці ж яна вырасла прыблізна на 365 чал. Гэта ўказвае на недакладнасць метрычных запісаў.

Сапраўды, больш дэталёвы аналіз з дапамогай аднаўлення гісторыі сем’яў паказвае, што колькасць смерцяў значна недаўлічвалася. Паколькі жыццёвы шлях жанчын, як ужо адзначалася, прасачыць значна цяжэй, для аналізу былі выкарыстаныя толькі звесткі пра прадстаўнікоў мужчынскага полу. Пры гэтым не былі знойдзены запісы пра смерць 48 дарослых і прыблізна 186 хлопчыкаў, пра якіх існуюць запісы пра нараджэнне альбо згадкі ў інвентарах, але няма падстаў думаць пра міграцыю па-за межы мікрарэгіёна. У той жа час неатаясамленымі з прычыны скажэння імёнаў, прозвішча, узросту і г.д. засталіся запісы пра 120 смерцяў прадстаўнікоў мужчынскага полу. Верагодна, яны пакрываюць частку вышэйзгаданых выпадкаў. Тым не менш каля 115 мужчынскіх смерцяў не знайшлі адлюстравання ў метрычных запісах. Для жанчын недаўлік смерцяў быў аніяк не меншым (хутчэй, большым), таму агульную колькасць недаўлічаных смерцяў за 30-гадовы перыяд можна ацаніць прыблізна ў 230—250, альбо каля 8 смерцяў у сярэднім за год. Іншымі словамі, няўлічанай заставалася прыблізна кожная пятая смерць.

Улік нараджэнняў быў значна больш поўным. Колькасць выпадкаў, калі для несумненна існаваўшых прадстаўнікоў мужчынскага полу не было выяўлена запісаў аб нараджэнні (113), амаль ураўнаважваецца колькасцю неатаясамленых нараджэнняў (102). Значыць, выяўленая асіметрыя ў паўнаце ўліку нараджэнняў і смерцяў прыводзіць да скажэння лічбаў натуральнага прыросту, прычым менавіта

[54] Козловский П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в.: (по материалам магнатских вотчин). Минск, 1969. С. 24—25.

на велічыню разбежкі, якая выяўляецца пры супастаўленні з данымі інвентароў і рэвізіі 1795 г. Улік гэтага фактару дазваляе аднавіць даволі імаверную мадэль руху насельніцтва мікрарэгіёна ў 1765—1794 гг.

**Табліца 1. Дынаміка папуляцыі Карэньшчыны ў 1765—1794 гг. (рэканструкцыя)**

| Год | Колькасць нараджэнняў* | Колькасць смерцяў* | Колькасць смерцяў** | Натуральны прырост | Сальда міграцый *** | Колькасць на пачатак года | Каэфіцыент нараджальнасці | Каэфіцыент смяротнасці | Каэфіцыент натуральнага прыросту |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1765 | 38 | 1 | 26 | 12 | 1 | 800 | 47,50 | 32,50 | 15,00 |
| 1766 | 39 | 7 | 26 | 13 | 1 | 813 | 47,97 | 31,98 | 15,99 |
| 1767 | 35 | 25 | 32 | 3 | 4 | 827 | 42,32 | 38,69 | 3,63 |
| 1768 | 42 | 41 | 48 | -6 | 3 | 834 | 50,36 | 57,55 | -7,19 |
| 1769 | 57 | 30 | 37 | 20 | 4 | 831 | 68,59 | 44,52 | 24,07 |
| 1770 | 48 | 13 | 20 | 28 | 3 | 855 | 56,14 | 23,39 | 32,75 |
| 1771 | 45 | 21 | 28 | 17 | 4 | 886 | 50,79 | 31,60 | 19,19 |
| 1772 | 37 | 29 | 36 | 1 | 3 | 907 | 40,79 | 39,69 | 1,10 |
| 1773 | 50 | 29 | 36 | 14 | 4 | 911 | 54,88 | 39,52 | 15,37 |
| 1774 | 47 | 30 | 37 | 10 | 3 | 929 | 50,59 | 39,83 | 10,76 |
| 1775 | 41 | 36 | 43 | -2 | 4 | 942 | 43,52 | 45,65 | -2,12 |
| 1776 | 47 | 14 | 21 | 26 | 1 | 944 | 49,79 | 22,25 | 27,54 |
| 1777 | 54 | 30 | 37 | 17 | 0 | 971 | 55,61 | 38,11 | 17,51 |
| 1778 | 44 | 23 | 30 | 14 | 0 | 988 | 44,53 | 30,36 | 14,17 |
| 1779 | 71 | 22 | 29 | 42 | 0 | 1002 | 70,86 | 28,94 | 41,92 |
| 1780 | 51 | 43 | 50 | 1 | 0 | 1044 | 48,85 | 47,89 | 0,96 |
| 1781 | 43 | 17 | 24 | 19 | 0 | 1045 | 41,15 | 22,97 | 18,18 |
| 1782 | 49 | 34 | 41 | 8 | 0 | 1064 | 46,05 | 38,53 | 7,52 |
| 1783 | 55 | 59 | 66 | -11 | 0 | 1072 | 51,31 | 61,57 | -10,26 |
| 1784 | 54 | 72 | 79 | -25 | 0 | 1061 | 50,90 | 74,46 | -23,56 |
| 1785 | 48 | 33 | 40 | 8 | 0 | 1036 | 46,33 | 38,61 | 7,72 |
| 1786 | 70 | 13 | 20 | 50 | 0 | 1044 | 67,05 | 19,16 | 47,89 |
| 1787 | 40 | 30 | 37 | 3 | 0 | 1094 | 36,56 | 33,82 | 2,74 |
| 1788 | 61 | 40 | 47 | 14 | 0 | 1097 | 55,61 | 42,84 | 12,76 |
| 1789 | 65 | 20 | 27 | 38 | 0 | 1111 | 58,51 | 24,30 | 34,20 |
| 1790 | 42 | 40 | 47 | -5 | 0 | 1149 | 36,55 | 40,91 | -4,35 |
| 1791 | 52 | 62 | 69 | -17 | 0 | 1144 | 45,45 | 60,31 | -14,86 |
| 1792 | 60 | 25 | 32 | 28 | 0 | 1127 | 53,24 | 28,39 | 24,84 |
| 1793 | 50 | 36 | 43 | 7 | 0 | 1155 | 43,29 | 37,23 | 6,06 |
| 1794 | 49 | 65 | 72 | -23 | 15 | 1162 | 42,17 | 61,96 | -19,79 |
| **За 30 гадоў** | 1484 | 940 | 1180 | 304 | 50 | | **49,72** | **39,54** | **10,19** |

* Паводле звестак метрычных кніг.
** Карэктаваныя даныя.
*** Умоўныя пазнакі.

Для больш ранняга перыяду падстаў для надзейнай рэканструкцыі няма, паколькі адсутнічаюць метрычныя кнігі. Сальда міграцый можна вельмі груба ацаніць, зыходзячы з таго факта, што з асоб, якія згадваюцца ў царкоўных запісах 1760-х гг., прыблізна 26 сем'яў былі прышлымі (*захожымі*) пасля 1740 г. У той жа

час адсутнічаюць згадкі нашчадкаў прыблізна 10 гаспадарак, якія згадваюцца ў інвентары 1740 г. Цяжка сказаць, якая частка з іх проста сышла, а якая вымерла. Так альбо іначай, прыток насельніцтва ў гэты перыяд відавочна перавышаў адток (прыблізна ўтрая), а сумарнае станоўчае сальда склала не менш за некалькі дзясяткаў індывідаў. Тым не менш асноўны ўнёсак у павелічэнне папуляцыі з лічбы блізу 550 чал. (з улікам магчымай непаўнаты інвентару 1740 г.) да 800 у сярэдзіне 1760-х гг. варта адносіць за кошт натуральнага прыросту (з сярэднегадавым тэмпам у межах 6—8 чал.). Верагодней за ўсё, параметры дэмаграфічных працэсаў у той час не надта адрозніваліся ад параметраў, адлюстраваных у табліцы 1.

Дынаміка колькасці ў перыяд Расійскай імперыі больш пэўная, бо дакладнасць метрычных запісаў павышаецца, а рэвізскія сказкі адлюстроўваюць усе міграцыі асоб мужчынскага полу. У гэты час сальда міграцый было ўстойліва адмоўным. Галоўную ролю адыгрывалі рэкруцкія наборы, раней невядомыя насельніцтву Вялікага Княства Літоўскага. Паміж рэвізіямі 1795 і 1811 гг. у рэкруты быў здадзены 41 жыхар Карэньшчыны, у 1811—1816 гг. — 33 (з іх 24 — у 1813 г.), у 1816—1834 гг. — 34, у 1834—1850 гг. — 32 і ў 1851—1857 гг. — 19. Агулам за гэтыя гады на вайсковую службу ўбылі 159 чал., альбо кожны шосты з прыблізна 1000 мужчын адпаведных узроставых кагортаў, якія дажылі да прызыўнога ўзросту. Назад вярнуліся толькі некалькі чалавек, якія згадваюцца ў інвентары 1841 г. і метрычных кнігах 1840-х гг. Пра іх дакладную колькасць казаць цяжка, бо рэвізскія сказкі адстаўных жаўнераў за 1850 і 1858 г. не выяўленыя.

Другім фактарам міграцый былі ўцёкі, хаця і не вельмі частыя. Да 1816 г. уцяклі ўсяго 3 мужчыны, паміж 1816 і 1834 гг. — 6, паміж 1834 і 1850 гг. — 4 і пасля 1850 г. — 7. Колькасць жанчын-уцяканак была прыблізна такой самай. Акрамя таго, за 62 гады ў іншыя маёнткі было пераведзена каля 50 асоб мужчынскага полу, а каля 30 прыбылі звонку, прычым у многіх выпадках гэта былі тыя ж самыя сяляне, якія вярталіся назад. Можна выказаць меркаванне, што гэтыя перасоўванні і ўцёкі павялічылі адмоўнае сальда міграцый прыблізна на 1 чал. у год.

У метрычных запісах за перыяд з 1795 па 1815 г. зарэгістравана 823 смерці, тады як для 133 асоб мужчынскага полу, якія памерлі да рэвізіі 1816 г., запісы аб смерці адсутнічаюць. Каля 50 з іх пакрываюцца неатаясамленымі запісамі, а сумарны недаўлік за 21 год варта ацэньваць у 80—85 мужчынскіх смерцяў, альбо прыблізна 160—170 смерцяў асоб абодвух полаў. Частка з іх прыпадае на лакуну ў 1801 г. і на 1796 г., калі недаўлік быў, відавочна, вельмі высокім. У астатнія гады недаўлічанымі заставаліся, верагодна, прыблізна 6 смерцяў за год.

Нараджэнняў зафіксавана 1031, у тым ліку 68 неатаясамленых. У той жа час не знойдзеныя запісы аб нараджэнні 170 чал., якія прыпадалі на гэты перыяд. Каля 100 з іх варта было б аднесці на недаўлік, прычым лакуна ў запісах за 1801 г. пакрывае толькі частку гэтай лічбы. На астатнія гады павінна прыпадаць прыблізна па 2—3 недаўлічаныя нараджэнні. Але, верагодна, гэтая лічба завышаная, бо выцякаючы з яе прырост насельніцтва павінен быў бы да 1816 г. прывесці да колькасці каля 1200 чал. Між тым рэвізія (з улікам прапушчаных) дазваляе казаць пра лічбу не большую за 1150—1170 чал. Розніцу ў некалькі дзясяткаў чалавек мы схільныя тлумачыць «эфектам падваення нараджэнняў», што ўзнікае з-за недакладна пазначанага імя ў запісе пра нараджэнне. З гэтай прычыны наступныя згадкі гэтай жа асобы, але пад іншым імем, штурхаюць да высновы пра яшчэ адно, няўлічанае нараджэнне. Часам такія выпадкі відавочныя (калі інтэрвал паміж нараджэннямі ў сям'і складае менш за два гады і на «лішняе» нараджэнне проста не застаецца месца), але пры большых інтэрвалах выявіць іх праблематычна. Верагодна, насамрэч недаўлік нараджэнняў адбываўся не 2—3, а не часцей за 1 раз у год.

| Гады | Колькасць на пачатак года | Колькасць народжаных за год | Колькасць памерлых за год | Каэфіцыент нараджальнасці | Каэфіцыент смяротнасці |
|---|---|---|---|---|---|
| б. Па Барысаўскім павеце | | | | | |
| 1858 | 23535 | 850 | 505 | 36,12 | 21,46 |
| 1859 | 22105 | 878 | 390 | 39,72 | 17,64 |
| 1860 | 23434 | 896 | 351 | 38,24 | 14,98 |
| 1861 | 23527 | 880 | 313 | 37,40 | 13,30 |
| 1862 | 23429 | 914 | 465 | 39,01 | 19,85 |
| 1863 | 24721 | 1021 | 505 | 41,30 | 20,43 |
| 1865 | 24269 | 955 | 444 | 39,35 | 18,29 |
| ***Разам за 7 гадоў*** | ***165020*** | ***6394*** | ***2973*** | ***38,75*** | ***18,02*** |

Цікава, што натуральны прырост у каталікоў і праваслаўных быў прыблізна аднолькавым, але за кошт больш нізкіх значэнняў нараджальнасці і смяротнасці ў каталікоў. Такім чынам, адзін і той самы ўзровень натуральнага прыросту ў дзвюх канфесіях адпавядаў **розным дэмаграфічным мадэлям**.

Як вынікае з афіцыйнай статыстыкі, заўважныя адрозненні назіраліся ва ўзросце шлюбу. У праваслаўных вялікая колькасць дзяўчын выходзіла замуж да 20 гадоў, што істотна ўплывала на даўжыню рэпрадуктыўнага перыяду і, адпаведна, на нараджальнасць. Для мужчын розніца яшчэ больш заўважная: сярод каталікоў колькасць жаніхоў, маладзейшых за 20 гадоў была адносна невялікай, тады як сярод праваслаўных так рана бралі шлюб многія.

**Табліца 5. Размеркаванне шлюбаў па ўзростах сярод каталікоў Мінскай губерні**

| | да 20 гадоў | 21—25 гадоў | 26—30 гадоў | 31—35 гадоў | 36—40 гадоў | 41—45 гадоў | 46—50 гадоў | больш за 50 гадоў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Год | % | % | % | % | % | % | % | % |
| а. Мужчыны | | | | | | | | |
| 1867 | 8,74 | 33,61 | 25,59 | 11,93 | 9,11 | 4,83 | 3,82 | 2,37 |
| 1868 | 6,81 | 33,21 | 24,22 | 12,20 | 10,59 | 5,77 | 4,07 | 3,12 |
| 1869 | 6,72 | 32,45 | 25,54 | 13,24 | 8,99 | 5,96 | 3,31 | 3,78 |
| 1870 | 7,53 | 32,79 | 21,70 | 14,41 | 10,93 | 5,67 | 3,97 | 2,99 |
| 1871 | 10,80 | 33,08 | 21,89 | 13,10 | 9,56 | 5,26 | 3,54 | 2,77 |
| 1872 | 11,84 | 33,00 | 22,87 | 12,84 | 9,31 | 5,06 | 3,16 | 1,90 |
| 1873 | 5,38 | 30,60 | 29,91 | 12,14 | 8,29 | 6,07 | 4,70 | 2,90 |
| 1874 | 5,76 | 27,09 | 32,20 | 15,73 | 8,35 | 4,70 | 2,92 | 3,24 |
| ***за 8 гадоў*** | ***7,89*** | ***31,89*** | ***25,59*** | ***13,25*** | ***9,39*** | ***5,41*** | ***3,69*** | ***2,89*** |
| б. Жанчыны | | | | | | | | |
| 1867 | 47,18 | 33,88 | 10,47 | 3,82 | 2,00 | 1,55 | 1,00 | 0,09 |
| 1868 | 31,88 | 40,02 | 13,53 | 6,24 | 3,88 | 3,21 | 1,13 | 0,09 |
| 1869 | 41,15 | 35,00 | 11,54 | 4,92 | 4,16 | 1,80 | 1,04 | 0,38 |
| 1870 | 29,07 | 43,64 | 10,93 | 6,07 | 4,29 | 1,29 | 1,05 | 0,40 |
| 1871 | 39,29 | 38,34 | 11,18 | 5,16 | 3,44 | 1,81 | 0,76 | 0,00 |
| 1872 | 45,03 | 32,10 | 13,20 | 4,07 | 2,80 | 1,72 | 0,72 | 0,36 |
| 1873 | 35,47 | 39,06 | 12,82 | 4,87 | 4,10 | 2,31 | 1,20 | 0,17 |
| 1874 | 39,17 | 41,04 | 11,60 | 3,49 | 2,51 | 1,22 | 0,81 | 0,16 |
| ***за 8 гадоў*** | ***38,39*** | ***38,02*** | ***11,90*** | ***4,82*** | ***3,40*** | ***1,84*** | ***0,97*** | ***0,09*** |

**Табліца 6. Размеркаванне шлюбаў па ўзростах сярод праваслаўных Мінскай губерні**

| Год | да 20 гадоў | 21—25 гадоў | 26—30 гадоў | 31—35 гадоў | 36—40 гадоў | 41—45 гадоў | 46—50 гадоў | больш за 50 гадоў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | % | % | % | % | % | % | % | % |
| а. Мужчыны | | | | | | | | |
| 1867 | 31,07 | 36,50 | 11,91 | 5,92 | 5,76 | 4,12 | 2,84 | 1,88 |
| 1868 | 28,57 | 34,27 | 13,98 | 7,20 | 7,12 | 4,40 | 2,62 | 1,85 |
| 1869 | 32,31 | 34,03 | 11,14 | 7,28 | 6,35 | 4,31 | 2,92 | 1,66 |
| 1870 | 28,01 | 35,87 | 10,76 | 7,66 | 7,72 | 4,86 | 3,09 | 2,05 |
| 1871 | 28,62 | 36,27 | 11,16 | 6,69 | 6,57 | 4,86 | 3,27 | 2,56 |
| 1872 | 27,13 | 37,49 | 12,89 | 7,34 | 6,00 | 4,18 | 2,89 | 2,08 |
| 1873 | 25,27 | 35,64 | 13,97 | 7,99 | 6,34 | 4,72 | 3,40 | 2,68 |
| 1874 | 25,30 | 33,54 | 15,34 | 8,57 | 6,09 | 4,45 | 3,81 | 2,91 |
| ***за 8 гадоў*** | ***28,22*** | ***35,47*** | ***12,61*** | ***7,36*** | ***6,51*** | ***4,50*** | ***3,12*** | ***2,22*** |
| б. Жанчыны | | | | | | | | |
| 1867 | 49,20 | 31,92 | 8,34 | 4,40 | 3,13 | 1,76 | 1,05 | 0,20 |
| 1868 | 46,80 | 32,29 | 8,73 | 4,73 | 3,79 | 1,90 | 1,10 | 0,66 |
| 1869 | 47,91 | 32,70 | 8,39 | 4,53 | 3,34 | 2,00 | 0,81 | 0,32 |
| 1870 | 43,59 | 34,89 | 8,91 | 5,03 | 4,00 | 2,07 | 1,19 | 0,32 |
| 1871 | 45,49 | 33,05 | 8,43 | 4,85 | 3,55 | 2,70 | 1,43 | 0,51 |
| 1872 | 46,93 | 33,26 | 8,14 | 4,72 | 3,15 | 2,25 | 1,10 | 0,47 |
| 1873 | 41,38 | 34,60 | 10,53 | 4,97 | 4,38 | 2,44 | 1,15 | 0,54 |
| 1874 | 44,02 | 34,39 | 8,55 | 4,95 | 3,50 | 2,51 | 1,50 | 0,57 |
| ***за 8 гадоў*** | ***45,55*** | ***33,45*** | ***8,77*** | ***4,78*** | ***3,62*** | ***2,21*** | ***1,17*** | ***0,45*** |

Што тычыцца розніцы ва ўзроўні смяротнасці, то яна можа быць часткова патлумачаная тым, што сярод каталікоў быў больш высокі адсотак прывілеяваных саслоўяў. Сяляне сярод іх складалі ў 1860-я гг. толькі 58 %, тады як сярод праваслаўных — амаль 87 %[15]. Але сярод сялян-каталікоў узровень смяротнасці таксама быў ніжэйшы за сярэднегубернскі ўзровень, хаця і ў не такой ступені[16]. Медычнымі фактарамі патлумачыць гэта цяжка. Відаць, адказ варта шукаць у галіне культуры (адрозненні ў практыцы догляду за дзецьмі, выкананні розных пастоў, ужыванні алкаголю і г.д.).

Матэрыялы афіцыйнай статыстыкі ў перыяд пасля перапісу 1897 г. становяцца даволі шматлікімі, падрабязнымі і дакладнымі. Часткова яны надрукаваныя ў штогадовых «Памятных книжках Минской губернии», часткова — у штогадовым выданні Цэнтральнага статыстычнага камітэта «Статистика Российской империи». Апроч гэтага, ёсць архіўныя матэрыялы з статыстычнымі звесткамі пра праваслаўных і каталікоў Мінскай губерні[17].

Супастаўленне гэтых даных дазваляе сцвярджаць, што працэс зніжэння нараджальнасці і смяротнасці на пачатку XX ст. сапраўды існаваў, але ў асноўным толькі ў праваслаўных, тады як у каталікоў нараджальнасць і смяротнасць балансавалі вакол дасягнутых раней значэнняў. Цікава, што ў праваслаўных абодва паказнікі зніжаліся адначасова і прыблізна ў роўнай прапорцыі, захоўваючы каэфіцыент натуральнага прыросту блізу 2 % у год. У такіх умовах дэмаграфічны прырост устойліва захоўваўся. Агульны лік насельніцтва з моманту перапісу 1897 г. да пачатку 1914 г. павялічыўся на 38,5 %, дасягнуўшы 2992 тыс. чал.[18]. У параўнанні з сярэдзінай XIX ст. насельніцтва павялічылася амаль утрая.

---

[15] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Минская губерния. Ч. 1 / Сост. И. Зеленский. СПб., 1864. С. 415.

[16] Гэта нам ужо даводзілася канстатаваць. Гл. табліцы 3 і 7 у публікацыі: Носевич В.Л. Демографические показатели белорусского крестьянства.

[17] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў. Ф. 1290. Воп. 4. Адз. зах. 625; НГАБ. Ф. 21. Воп. 1. Адз. зах. 105, 106, 113, 115, 117. Частка матэрыялаў выкарыстана паводле выпісак Я. Насыткі.

[18] Памятная книжка Минской губернии на 1915 г. Минск, 1914. С. 3.

**Табліца 7. Нараджальнасць і смяротнасць у Мінскай губерні ў 1901—1910 гг.**

| Гады | Усе канфесіі | | | | | Каталікі | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | Нарадзілася | Памерла | Каэфіцыент нараджальнасці | Каэфіцыент смяротнасці | Колькасць | Нарадзілася | Памерла | Каэфіцыент нараджальнасці | Каэфіцыент смяротнасці |
| 1901 | 2340691 | 105310 | 59713 | 44,99 | 25,51 | *238000** | 7724 | 3361 | 32,45 | 14,12 |
| 1902 | 2380649 | 111193 | 58217 | 46,71 | 24,45 | 241397 | 8194 | 3463 | 33,94 | 14,35 |
| 1903 | 2433625 | 107570 | 60565 | 44,20 | 24,89 | 246882 | 8026 | 4449 | 32,51 | 18,02 |
| 1904 | 2480324 | 107119 | 60622 | 43,19 | 24,44 | 249073 | 8595 | 4128 | 34,51 | 16,57 |
| 1905 | 2526821 | 103321 | 60893 | 40,89 | 24,10 | 253412 | 9415 | 4647 | 37,15 | 18,34 |
| 1906 | 2569249 | 104241 | 54943 | 40,57 | 21,38 | 258103 | 9962 | 4362 | 38,60 | 16,90 |
| 1907 | 2621294 | 110620 | 54884 | 42,20 | 20,94 | 264001 | 10709 | 4046 | 40,56 | 15,33 |
| 1908 | 2666312 | 105927 | 54488 | 39,73 | 20,44 | 274562 | 10571 | 4682 | 38,50 | 17,05 |
| 1909 | 2717761 | 108119 | 53288 | 39,78 | 19,61 | 280449 | 10311 | 4618 | 36,77 | 16,47 |
| 1910 | 2772589 | 108352 | 58445 | 39,08 | 21,08 | 286140 | 10134 | 4776 | 35,42 | 16,69 |
| **1901—1910** | | | | **42,01** | **22,58** | | | | **36,13** | **16,41** |

* Звесткі пра колькасць каталікоў за гэты год адсутнічаюць, у табліцы яны атрыманыя з дапамогай экстрапаляцыі.

Ужо да пачатку 1880-х гг. рост насельніцтва стаў адчувальным для сучаснікаў. Паказальныя ў гэтых адносінах звесткі пра падзелы сялянскіх гаспадарак, сабраныя Мінскай губернскай установай па сялянскіх справах у 1882 г.[19]. У пададзеных Барысаўскай павятовай установай звестках пра колькасць падзелаў адзначаецца, што па стане на 19 лютага 1861 г. у павеце налічвалася 9814 дворагаспадарак, а паводле імянных спісаў выкупных актаў 1864—1865 гг. — 11 383. Хаця з таго часу павятовая ўстанова афіцыйна не зацвердзіла аніводнага дакумента аб падзеле надзельных участкаў, гэтыя падзелы адбываліся явачным чынам, у выніку чаго колькасць гаспадарак на 1 ліпеня 1882 г. дасягнула 15 854. Такім чынам, 4471 з іх з’явілася ўжо пасля складання выкупных актаў — у выніку падзелаў, што адбыліся больш чым у 39 % першапачатковых гаспадарак.

Прычынай падзелаў павятовая ўстанова называе *спрэчкі і нязгоды ў сем’ях*, завадатарамі якіх у большасці выпадкаў выступаюць жанчыны і жаўнеры, што вярнуліся з вайсковай службы. Спрэчкі звычайна прыводзяць да разгляду справы валасным судом, які ўстанаўлівае раздзельнае карыстанне гаспадаркай, хаця і захоўвае, як правіла, збор павіннасцей з цэлага ўчастка. Установа канстатавала, што драбленне надзелаў не толькі шкодна адбіваецца на сплаце падаткаў, але і *ўплывае на эканамічны побыт і мараль сялян, якія бачаць беспакаранасць спрэчак і не падначальваюцца старэйшаму ў сям’і, а потым і старэйшым аднавяскоўцам і, нарэшце, валасным старшынам*. Улічваючы гэта, павятовая ўстанова прапанавала тым не менш зацвердзіць падзелы, якая ўжо адбыліся, а ў далейшым забараніць іх у выпадках, калі на адну з частак прыпадае менш за 10 дзесяцін.

Для прадухілення падзелаў прапаноўваліся меры кансерватыўна-патрыярхальнага характару. Прапаноўвалася надаць бацьку права распараджацца ўсёй рухомай і нерухомай маёмасцю, уключаючы і права вырашаць, хто з сыноў застанецца на хатніх працах, а хто сыходзіць на заробкі. Гэта, а таксама права бацькі аддаваць у спадчыну ўчастак па сваёй волі, павінна было прымусіць малодшых членаў сям’і да паслушэнства. У выпадку адсутнасці тастамента лёс надзелу павінны былі б вырашаць

[19] НГАБ. Ф. 242. Воп. 1. Адз. зах. 2158.

старэйшыя аднавяскоўцы. Ім жа варта было б вызначаць суму, якую спадчыннікі выплачваюць члену сям'і, які пакідае гаспадарку.

Рапарты іншых павятовых устаноў па сялянскіх справах Мінскай губерні адлюстроўваюць у цэлым аналагічную карціну і прапаноўваюць падобныя меры па прадухіленні падзелаў. У прыватнасці, Рэчыцкая ўстанова называе галоўнай прычынай *адсутнасць братэрскай сваяцкай любові і непавагу да старэйшых*. Выхад членам гэтай установы бачыўся ў *павышэнні маральнасці*. Слуцкая ўстанова адзначае, што ў 90 выпадках з 100 віноўнікамі падзелаў з'яўляюцца маладыя сяляне, якія вярнуліся з вайсковай службы і не жадаюць падпарадкавацца старэйшаму ў сям'і. У якасці прэвентыўнай меры яна прапаноўвае арыгінальны на агульным фоне сродак — увядзенне маяратаў, то бок наследаванне ўчастка старэйшым сынам. Цікава, што чыноўнікі павятовых устаноў зусім ігнаравалі дэмаграфічныя фактары падзелаў, хаця яны не маглі не ведаць, што колькасць насельніцтва Мінскай губерні з 1863 па 1881 г. павялічылася прыблізна ў 1,5 разы, паводле звестак афіцыйнай статыстыкі — з 1 млн.[20] да 1 млн. 544 тыс. чал.[21], а з улікам карэкцыі — з 1,2 да 1,6 млн. чал. Натуральна, вырасла колькасць і дарослых мужчын, якія прэтэндавалі на права быць главамі ўласных гаспадарак, нават цаной парцэляцыі надзелу.

**Табліца 8. Змены ў забяспечанасці надзельных гаспадарак зямлёй з 1860-х па 1917 г.**

| Вёскі: | На момант рэформы | | | | | На момант перапісу 1917 г. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць двароў | Колькасць душ* | Апрацоўваемай зямлі (дзес.) разам | на 1 двор | на 1 душу | Колькасць двароў | Колькасць душ | Апрацоўваемай зямлі (дзес.) разам | на 1 двор | на 1 душу |
| Казыры | 15 | 113 | 382,1 | 25,47 | 3,38 | 28 | 199 | 537,4 | 17,91 | 2,70 |
| Корань | 11 | 79 | 212,8 | 19,35 | 2,69 | 40 | 274 | 233,4 | 4,02 | 0,85 |
| Лішчыцы | 17 | 111 | 285,8 | 16,81 | 2,57 | 30 | 199 | 316,2 | 10,20 | 1,59 |
| Міхалкавічы | 30 | 222 | 411,8 | 13,73 | 1,86 | 77 | 423 | 474,5 | 5,86 | 1,12 |
| Нарбутава | 4 | 26 | 73,1 | 18,28 | 2,81 | 7 | 51 | 62,5 | 7,81 | 1,23 |
| Прудкі | 22 | 191 | 473,2 | 21,51 | 2,48 | 57 | 313 | 451,1 | 7,91 | 1,44 |
| Церахі | 24 | 215 | 449,4 | 18,72 | 2,09 | 65 | 412 | 530,0 | 7,79 | 1,29 |
| Чэрнева | 13 | 98 | 185,1 | 14,24 | 1,89 | 33 | 190 | 231,1 | 6,80 | 1,22 |
| **Разам** | **172** | **1308** | **3273,8** | **19,03** | **2,50** | **419** | **2602** | **3662,1** | **8,12** | **1,41** |

* Паводле рэвізіі 1858 г.

Вынікі парцэляцыі добра бачныя ў матэрыялах Усерасійскага аграрнага перапісу, які праводзіўся ў два этапы — летам 1916 і 1917 гг. Паколькі сумарныя макраданыя гэтага перапісу адсутнічаюць, намі выкарыстоўваюцца звесткі на мікраўзроўні, якія ахопліваюць тую ж выбарку, што і ў вышэйпададзеных звестках пра смяротнасць — 10 вёсак у Гайна-Слабодскай воласці Барысаўскага павета, што раней уваходзілі ў склад маёнтка Корань (Красны Бор)[22]. Супастаўленне даных перапісу 1917 г. з больш ранейшымі звесткамі (рэвізская сказка маёнтка Красны Бор за 1858 г.[23], выкупны акт па гэтым жа маёнтку ад 8 снежня 1865 г.[24] і *данная* на зямлю сялянам ад 8 лістапада 1868 г.[25]) пацвярджае, што натуральны прырост у парэформавы час нашмат перавышаў магчымасці сялян набываць дадатковыя зямельныя надзелы.

[20] Памятная книжка Минской губернии на 1865 г. С. 3.
[21] Памятная книжка Минской губернии на 1883 г. С. 243.
[22] НГАБ. Ф. 325. Воп. 2. Адз. зах. 604. Арк. 3—5, 8, 11, 23, 25, 30, 31, 35, 40, 80—83, 92, 95, 98, 99, 101, 102.
[23] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Адз. зах. 1096. Арк. 931—1057.
[24] НГАБ. Ф. 242. Воп. 2. Адз. зах. 392. Арк. 32.
[25] НГАБ. Ф. 242. Воп. 3. Адз. зах. 404.

Колькасць надзельных двароў у даследаванай выбарцы ўзрасла ў 2,4 разы. Пры гэтым сярэдняя населенасць двара панізілася з 8,5 да 6,2 чал., але гэта не магло кампенсаваць драбленне надзелаў і толькі скарачала колькасць рабочых рук у гаспадарцы.

Колькасць зямлі на двор і душу значна зменшылася, і першаснай прычынай быў менавіта дэмаграфічны рост. Дэмаграфічнае напружанне перарасло ў сацыяльнае, і гэта шмат у чым прадвызначыла крах Расійскай імперыі. Падобнае неаднойчы здаралася і з больш старажытнымі імперыямі[26], але не варта забываць, што многія дзяржавы паспяхова пераадолелі дэмаграфічны пераход, нават з вялікай выгодай для сябе, калі здолелі выкарыстаць лішак насельніцтва ў прамысловасці, унутранай і вонкавай каланізацыі і іншых сферах дзейнасці. На жаль, рускае грамадства не здолела своечасова знайсці вырашэнне гэтай праблемы. За гэта яму давялося заплаціць мільёнамі жыццяў, страчаных у канфліктах і сацыяльных эксперыментах першай паловы XX ст.

*Перакладзена з рускай мовы паводле:*
Социальная история российской провинции в контексте модернизации аграрного общества в XVIII—XX вв.: Материалы междунар. конф. (май 2002 г.). Тамбов, 2002. С. 31—43.

[26] Роля дэмаграфічных цыклаў у гісторыі нядаўна ў чарговы раз разгледжана ў дысертацыі С.А. Нефедава: Нефедов С.А. Метод демографических циклов в изучении социально-экономической истории допромышленного общества: Автореф. дис. … канд. ист. наук. Екатеринбург, 1999. Электронныя версіі цыкла ягоных неапублікаваных прац на гэтую тэму выстаўленыя на сайце: http://hist1.narod.ru/index.html.

# Іменны паказальнік

# Геаграфічны паказальнік*



* У паказальнік не ўвайшлі населеныя пункты, пазначаныя ў асобным паказальніку да артыкула “Русь” ускладзе Вялікага Княства Літоўскага” на сс. 119-122

Навуковае выданне

**Вячаслаў Леанідавіч Насевіч**

# БЕЛАРУСЫ: СТАНАЎЛЕННЕ ЭТНАСУ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

Рэдактар: *Валерый Пазднякоў*
Карэктар: *Соф'я Багам'я*
Дызайн вокладкі: *Заміра Болцікава*
Адказны за выпуск: *Аляксандр Пашкевіч*

Падпісана ў друк: 01.09.2015. Фармат 60х90 1/16
Друк лічбавы. Гарнітура Школьная. Умоўн.-друк. арк. 42,40
Наклад 300 асобнікаў. Замова

Выдавец:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Інбелкульт»
АДРН 1136733002120
пас. Малкамбіната, д. 21, 216790
г. Рудня Смаленскай вобласці, Расійская Федэрацыя

Паліграфічнае выкананне:
Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Палікрафт»
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 02330/466 ад 21.04.2014 г.
вул. Кнорына, д. 50, 220103, Мінск.